Дэпартамент па архівах і справаводству
Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

**Дзмітрый Матвейчык**

# УДЗЕЛЬНІКІ ПАЎСТАННЯ 1863–1864 ГАДОЎ

## біяграфічны слоўнік

(ПАВОДЛЕ МАТЭРЫЯЛАЎ
НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІСТАРЫЧНАГА АРХІВА БЕЛАРУСІ)

Мінск
«Беларусь»
2016

УДК 94(476)“1863/1864”(092)(035)
ББК 63.3(4Беи)51я2
М33

Рэкамендавана да друку Вучоным саветам
Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі

Рэцэнзенты:
доктар габілітаваны, прафесар *Аляксандр Смалянчук*
доктар гістарычных навук, прафесар *Вячаслаў Швед*

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

**Матвейчык, Д. Ч.**
М33 Удзельнікі паўстання 1863–1864 гадоў : біяграфічны слоўнік : (паводле матэрыялаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі) / Д. Ч. Матвейчык. — Мінск : Беларусь, 2016. — 735 с.
ISBN 978-985-01-1159-3.

Кніга з’яўляецца першай у Беларусі спробай стварэння аб’ёмнага біяграфічнага слоўніка ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 гг. і асоб, што трапілі пад рэпрэсіі, праведзеныя падчас і пасля яго. Яна напісана на падставе 762 спраў з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі і змяшчае 7053 біяграмы, напоўненыя фактычным гістарычным матэрыялам.

Прызначаецца для самага шырокага кола чытачоў — прафесійных даследчыкаў, краязнаўцаў, навучэнцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі XIX ст.

**УДК 94(476)“1863/1864”(092)(035)**
**ББК 63.3(4Беи)51я2**

**ISBN 978-985-01-1159-3**

## ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

Паўстанне 1863–1864 гг. (студзеньскае) з'явілася найбольш гучнай і найбольш яскравай падзеяй у развіцці грамадска-палітычнага руху на тэрыторыі падзеленай Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на землях сённяшняй Беларусі, у другой трэці XIX ст. Яно стала апошнім у шэрагу буйных узброеных выступленняў (папярэднія паўстанні 1794 і 1830–1831 гг.), галоўнай мэтай якіх было аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Адначасова яно не толькі з'явілася праявай жывучасці гэтай ідэі, але і спыніла на доўгі час падобныя памкненні. Пасля паражэння спроба аднаўлення незалежнай Польскай дзяржавы адбудзецца толькі праз паўстагоддзе — падчас падзей Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў.

Пярэдадзень і перыяд паўстання з'явіліся пачаткам развіцця беларускага нацыянальнага (у сённяшнім разуменні гэтых тэрмінаў) руху, які таксама праз паўстагоддзе прывёў да ўтварэння беларускай дзяржаўнасці (БНР, ССРБ, БССР). Аднак ацэнка паспяховасці намаганняў ананімных аўтараў («Гутарка старога дзеда», «Песні набожныя» і інш.), Канстанціна Каліноўскага і яго паплечнікаў («Мужыцкая праўда» і інш.) у стварэнні беларускамоўных твораў, вызначэнне матывацыі іх дзеянняў і іншыя падобныя аспекты да гэтага часу застаюцца для беларускіх даследчыкаў адной з найбольш дыскусійных тэм. Не менш спрэчак выклікаюць не вырашаныя да цяперашняга часу пытанні ўдзелу ў паўстанні розных сацыяльных слаёў (асабліва сялянства), адносінаў да яго прадстаўнікоў розных канфесій, колькасць удзельнікаў паўстання і інш.

Паўстанне ахапіла шырокія колы насельніцтва Беларусі, і ў сувязі з гэтым у гістарыяграфіі з'яўляецца праблема яго персаніфікацыі. У навуковай літаратуры вядомы пераважна імёны найбольш актыўных удзельнікаў — кіраўнікоў, камандзіраў паўстанцкіх атрадаў і да т. п. (Канстанцін Каліноўскі, Валеры Урублеўскі, Зыгмунт Серакоўскі, Якуб Гейштар, Людвік Звяждоўскі, Людвік Нарбут, Генрык Дмахоўскі і інш.). Імёны ж асноўнай колькасці шараговых барацьбітоў дагэтуль застаюцца невядомымі. І хоць у айчыннай навуковай і навукова-папулярнай літаратуры апошніх гадоў з'яўляюцца матэрыялы, прысвечаныя некаторым удзельнікам паўстання альбо асобным эпізодам, звязаным з тымі ці іншымі асобамі[1], і апублікаваны некаторыя спісы паўстанцаў ці сасланых

---

[1] Гл.: *Антановіч З. В.* У барацьбе за веру: Паўстанне 1863–1864 гг. у лёсе ксяндза Антонія Пшыялгоўскага // ARCHE. — 2010. — № 12. — С. 95–98; [*Асіноўскі С. М.*] Секреты старого архивариуса: Инсургенты // Архівы і справаводства: навукова-практычны ілюстраваны часопіс. — 2013. — № 3. — С. 146–156; *Аўчыннікава Р.* Карнель Герард Пелікша // Запісы Таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Вып. 3. 1863 год: Шляхецкае паўстанне ці народная рэвалюцыя? / уклад. і рэд. А. Я. Тарас. — Рыга: Выданне ІБГіК, 2014. — С. 104–124; *Бачышча Ю.* Постаць Кастуся Каліноўскага ў друкаванай спадчыне беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў // Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі: матэрыялы навук.-практ. канф. (Менск, 23 сакавіка 2013 г.) / [пад рэд. А. Я. Тараса]. — Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2013. — С. 162–179; *Вашкевич А. Ф.* За что боролся Калиновский? // Деды: дайджест публикаций о белорусской истории. — Вып. 6. — 2011. — С. 299–304; *Горбачева О. В.* Ссыльные 1863–1864 гг. // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. — Вып. 5. — Мінск: НГАБ, 2007. — С. 85–114; *Голубеў В. Ф.* «Столік аднаногі з круглаю шашачнаю дошкаю…» (лёс рэчаў К. Каліноўскага, канфіскаваных падчас яго арышту) // Беларускі гістарычны часопіс. — 2013. — № 12. — С. 16–24; *Граноўская С.* Раскіданае гняздо Дмахоўскіх: [пра бел. скульптара і грамад. дзеяча Г. Дмахоўскага; в. Забалацце, Міёр. р-н] // Раніца. — 1999. — 28 кастр. (№ 42). — С. 3; *Ермалёнак В.* Паўстанец і скульптар з Забалацця: [пра беларускага рэвалюцыянера і палітычнага дзеяча XIX ст. Генрыка Міхайлавіча Дмахоўскага] // Краязнаўчая газета. — 2008. — Верас. (№ 33); верас. (№ 34); *Ермаловіч В.* Генры Сандэрс, ён жа Генрык Дмахоўскі: [пра ўдзельніка нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі XIX ст.] // Рэспубліка. — 2010. — 2 кастр. — С. 8; *Запрудскі І.* Беларускі сіндром і асоба Кастуся Каліноўскага // Полымя. — 2008. — № 2. — С. 129–135; *Яго ж.* Сшальмаваны Кастусь Каліноўскі: тэхналогіі астракізму // …Пачуць, як лёсу валяцца муры: Памяці Генадзя Кісялёва. — Мінск: Лімарыус, 2009. — С. 338–355 (тое ж у: Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі: матэрыялы навук.-практ. канф. (Менск, 23 сакавіка 2013 г.) / [пад рэд. А. Я. Тараса]. — Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2013. — С. 203–214); *Игнатович Ф. И.* Аптека провизора Игната Адамовича и восстание 1863 г. // Горад Святога Губерта: Альманах лакальнай гісторыі. — Вып. VII / рэдкал.: А. Смалянчук [і інш.]. — Гродна: б.в., 2013. — С. 124–132; *Его же.* Врач Ц. М. Цехановский: повстанческий начальник Гродно и общественно-политический деятель Сибири // Горад Святога Губерта: Альманах лакальнай гісторыі. — Вып. VIII / рэдкал.: А. Смалянчук [і інш.]. — Гродна, 2014. — С. 106–115; *Его же.* Гродненский врач Б. К. Заблоцкий — участник восстания 1863–1864 года // Междунар. науч.-практ. конф. «Медицина на рубеже веков: к 100-летию Первой мировой войны». Сборник материалов. — Гродно: ГрГМУ, 2014. — С. 171–175; *Его же.* Провизор И. О. Адамович, его профессиональная и благотворительная деятельность в Гродно // Журнал Гродненского государственного медицинского университета. — 2010. — № 1. — С. 108–110; *Ильин А.* Сподвижники Р. Траугута с Кобринщины // Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі:

асоб[2], аднак у цэлым праблема не вырашана. І нават гэтым «Слоўнікам...», куды ўнесены біяграмы 7053 асоб, яна вырашаецца толькі часткова.

---

матэрыялы навук.-практ. канф. (Менск, 23 сакавіка 2013 г.) / [пад рэд. А. Я. Тараса]. — Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2013. — С. 92–99; *Яго ж.* Ян Позняк — первый исследователь участия православного духовенства в восстании 1863–1864 гг. // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы VII Міжнар. навук. канф. Беларускага Гістарычнага Таварыства, Менск, 25 верасня 2009 г. / [навуковы рэд. А. Смалянчук]. — Менск: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2011. — С. 200–204; *Ильин А., Игнатюк Е.* Повстанцы Гажичи // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы VII Міжнар. навук. канф. Беларускага Гістарычнага Таварыства, Менск, 25 верасня 2009 г. / [навуковы рэд. А. Смалянчук]. — Менск: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2011. — С. 65–70; *Кухарева Е.* Почетный гражданин Греции Зигмунт Минейко // Гісторыя: праблемы выкладання. — 2010. — № 11. — С. 59–62; Людвік Нарбут: 180 гадоў з дня нараджэння / артыкул, скампанаваны паводле матэрыялаў Паўла Камароўскага, Аляксандра Колышкі, Часлава Мілеўскага // Лідскі летапісец. — 2012. — № 3. — С. 47–60; *Мальдзіс А.* Зыгмунт Мінейка // Славутыя імёны Бацькаўшчыны: зборнік. — Вып. 1. — Мінск, 2000. — С. 300–306; *Михаевич И. И.* Мятежный генерал. — Минск: Конфидо, 2007; *Петровская Т.* Славный земляк — Зыгмунт Минейко // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына: матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф., Гальшаны – Навагрудак, 8–10 верасня 2006 г. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — С. 368–376; *Матвейчик Дз. Ч.* Восстание 1863–1864 гг. в судьбе Ваньковичей // Ваньковичи / сост.: Н. А. Голубева [и др.]; редкол.: Т. В. Белова [и др.]. — Минск: БелЭН, 2012. — С. 58–83; *Яго ж.* Уладзіслаў Машэўскі і спроба ўзброенага выступлення ў Слуцкім павеце ў 1863 г. // Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне: гісторыя і памяць: зб. навук. арт. / уклад.: В. В. Яноўская, А. У. Унучак, А. Э. Фірыновіч; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск: Беларус. навука, 2014. — С. 79–92; *Яго ж.* Успаміны Вандаліна Чэрніка як крыніца па гісторыі паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі: спроба крытычнага аналізу // Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі гістарычны зборнік. — № 42. — Białystok, 2014. — S. 59–79; *Яго ж.* Успаміны Яўгена Плятэра пра паўстанне 1863–1864 гадоў у Дынабургскім павеце // Асоба і час: беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 48–67; *Радзюк А.* «Мары» Ігната Арамовіча // ARCHE. — 2010. — № 12. — С. 15–17; *Поджарова Н., Герасимчик В.* О личности Калиновского. Свидетельства современников и анализ почерка // Запісы Таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Вып. 3. 1863 год: Шляхецкае паўстанне ці народная рэвалюцыя? / уклад. і рэд. А. Я. Тарас. — Рыга: Выданне ІБГіК, 2014. — С. 44–51; *Прачакова Н. А.* Паўстанне 1863 года на Магілёўшчыне ў лёсах // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць: зборнік навуковых прац удзельнікаў VIII Міжнар. навук.-практ. канф., Магілёў, 26–27 чэрвеня 2013 г. / уклад. А. М. Бацюкоў, І. А. Пушкін. — Магілёў: УА «МДУХ», 2013. — С. 296–301; *Радюк А. Р.* Наполеон Орда под следствием // Powstanie styczniowe. 1863–1864. Walka i uczestnicy. Represje i wygnanie. Historiografia i tradycja / pod red. W. Cabana i W. Śliwowskiej. — Kielce: Wydawnictwo Akademii Świętokrzyskiej, 2005. — S. 243–248; *Яго ж.* Царызм супраць Напалеона Орды // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 5. — Мінск: Лімарыус, 2013. — С. 27–36; *Сильванович С. А.* Действия Л. Звеждовского на Могилевщине в 1863 г. // Проблемы и перспективы становления гражданского общества: материалы Междунар. науч.-практ. конф., 20–21 мая 2010 г., Могилев: в 2 ч. — Могилев: УО «МГУП», 2010. — С. 83–87; Следчасудовая справа Кастуся Каліноўскага / уклад. З. Кузменка. — Мінск: Галіяфы, 2014; *Смалянчук А.* Асоба Каліноўскага як даследчая праблема // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы VII Міжнар. навук. канф. Беларускага Гістарычнага Таварыства, Менск, 25 верасня 2009 г. / [навуковы рэдактар А. Смалянчук]. — Менск: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2011. — С. 9–25; *Яго ж.* Кастусь Каліноўскі ў лістах Казіміры Багушэвіч і Марыі Плаўскай (1905) // ...Пачуць, як лёсу валяцца муры: Памяці Генадзя Кісялёва. — Мінск, Лімарыус, 2009. — С. 328–337; *Яго ж.* Кастусь Каліноўскі ў польскай гістарычнай традыцыі // Спадчына. — 1998. — № 2. — С. 84–105; *Трофимычев Д.* 100 дорог ошмянского Одиссея: К 170-летию со дня рождения государственного деятеля, этнографа и журналиста Зигмунда Минейки // Белорусская нива. — 2010. — 18 ноября. — С. 15; *Трынкоўскі Я.* Антоні Санкевіч — паўстанец 1863 года // ARCHE. — 2010. — № 12. — С. 86–94; *Усціновіч В.* Рута-мята ды памята: [пра жыццё і палітычную дзейнасць Уладзіслава Барзабагатага] // Маладосць. — 2011. — № 4. — С. 110–121; *Хмяльніцкі М. М.* Gloria victis. Паўстанне 1863–1864 гг. у жыцці і творчасці Элізы Ажэшкі // Роднае слова. — 2010. — № 5. — С. 27–30; *Чаропка В.* Адысея Зыгмунта Мінейкі // Беларускі гістарычны часопіс. — 2010. — № 11. — С. 27–44; *Яго ж.* Апошні дыктатар паўстання Рамуальд Траўгут // Беларускі гістарычны часопіс. — 2005. — № 8. — С. 26–41; *Яго ж.* Выкананы абавязак Антона Трусава // Беларусі гістарычны часопіс. — 2013. — № 3. — С. 19–28; *Яго ж.* Міхал Андрыёлі: беларускі мастак з Вільні. — Мінск: Харвест, 2012; *Яго ж.* Шлях да бессмяротнасці. Зыгмунт Серакоўскі // Беларускі гістарычны часопіс. — 2011. — № 8. — С. 22–30; № 9. — С. 29–36; № 10. — С. 36–45; *Яго ж.* Юзаф Каліноўскі: Шлях да святасці // Беларускі гістарычны часопіс. — 2013. — № 5. — С. 32–41; № 6. — С. 28–38; *Яго ж.* Dulce est pro patria mori. Людвік Нарбут // Беларускі гістарычны часопіс. — 2003. — № 7. — С. 30–39; Швед В. В. Чыноўнікі-сябры Гарадзенскай ваяводскай арганізацыі 1861–1864 гг. // Гарадзенскі соцыум 2013. Гісторыя і памяць. XV–XX стст. / пад рэд. А. Ф. Краўцэвіча і А. Ф. Смаленчука. — Гародня: б.в., 2014. — С. 140–152; *Янушкевіч К., Янушкевіч Я.* Партрэты Паўстання. Фотаальбом. — Ракаў, 2014; *Янушкевіч Я.* Метрыкі хросту Вінцэся-Кастуся Каліноўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі Гістарычны Зборнік. — № 40. — Беласток, 2013. — С. 244–248; *Яго ж.* Прашыты шасцю кулямі...: да 200-годдзя з дня нараджэння паўстанца-скульптара Генрыка Дмахоўскага // Роднае слова. — 2010. — № 11. — С. 99–100; Słynni polacy Polesia: Romuald Traugutt (1826–1864). Konstanty Kalinowski (1838–1864): Materiały międzynar. konf. popul.-nauk. poświęconej słynnym polakom wywodzącym się z Polesia, Brześć, 23–25 maja 2003 r. / [Red.]: Halina Bursztyńska. — Brześć, 2004; і інш.

[2] *Карпович О. В.* Восстание 1863 года в Игуменском и Слуцком уездах Минской губернии // Запісы Таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Вып. 3. 1863 год: Шляхецкае паўстанне ці народная рэвалюцыя? /

Сама ідэя стварэння біяграфічнага слоўніка ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 гг. не новая. Храналагічна першы з вядомых біяграфічных слоўнікаў удзельнікаў паўстання з Беларусі быў створаны ў міжваенны перыяд гродзенскім гісторыкам і музейшчыкам Юзафам Ядкоўскім. Ён пачаў публікавацца ў 1921 г. у газеце «Echo Grodzieńskie» («Гродзенскае рэха») у выглядзе часткі яго артыкула «1863 год у Гродзенскім павеце». З № 160 ад 21 ліпеня 1921 г. газета пачала друкаваць невялікі біяграфічны слоўнік асоб (сам Ядкоўскі называў яго *«спіс паўстанцаў»*) з Гродзенскай губерні, пераважна з Гродзенскага павета, што ўдзельнічалі ў паўстанні ці мелі да яго дачыненне. Усяго Ядкоўскім апублікавана 280 біяграм. Як правіла, яны маюць невялікі аб'ём — ад 2 да 8 радкоў на кожную асобу, і толькі некаторыя выбіваюцца з гэтага шэрагу і маюць каля 20 радкоў. Відавочна, што звесткі ў іх фрагментарныя і з'явіліся ў публікацыі таму, што менавіта столькі іх і мелася ў аўтара на момант друку. Напрыклад, біяграма Канстанціна Каліноўскага (№ 167 ад 29 ліпеня) уключае толькі наступную інфармацыю: *«дэлегат Нацыянальнага Урада на Гродзенскае ваяводства, пазней — дыктатар Літвы, пакараны смерцю ў Вільні»*. Аднак і ў гэтых біяграмах магчыма заўважыць пэўную непаслядоўнасць: напрыклад, уключаныя непасрэдна ў артыкул біяграфічныя даведкі пра некаторых асоб змяшчаюць больш звестак, чым іх маецца ў слоўніку[3]. Крыніцамі для гэтага слоўніка з'яўляліся, як заяўляў крыху пазней яго аўтар, *«тагачасныя афіцыйныя паперы і ўспаміны нешматлікіх сёння відавочцаў-сведкаў паўстання»*[4].

На працягу далейшых гадоў Ядкоўскі працягваў займацца зборам матэрыялаў пра паўстанне ў Гродзенскім павеце. Гэта вылілася яшчэ ў дзве яго публікацыі, якія дапоўнілі папярэднія артыкулы. Першая з іх з'явілася ў № 8 ад 24 студзеня 1926 г. у гродзенскай газеце «Nowe Życie» («Новае жыццё») пад назвай «Сілуэты 1863 года»[5]. Артыкул пашырае біяграфічны слоўнік і змяшчае біяграмы 37 асоб. Некаторыя ўжо згадваліся ў папярэдніх публікацыях Ядкоўскага (напрыклад, Севярын Ромэр ці Станіслаў Сільвястровіч), аднак тут падаваліся раней невядомыя біяграфічныя звесткі пра іх. Задачу артыкула Ядкоўскі для сябе ставіць наступным чынам: *«Да доўгага спісу асоб, што бралі ўдзел у нацыянальным руху ў перыяд студзеньскага паўстання, мы дакідаем цяпер жменьку звестак, дапаўняючы імі цыкл артыкулаў, змешчаных у свой час на старонках тутэйшых выданняў»*.

Невялікі біяграфічны слоўнік татараў, што ўдзельнічалі ў паўстанні, апублікаваў у 1930-х гг. Леан Крычынскі, аднак яго звесткі дастаткова ўрыўкавыя і няпоўныя з прычыны слабога выкарыстання архіўных крыніц[6]. Імянны («алфавітны») пералік асоб, што бралі ўдзел у паўстанні ў Свянцянскім

---

уклад. і рэд. А. Я. Тарас. — Рыга: Выданне ІБГіК, 2014. — С. 149–161; *Его же.* Восстание 1863 года в Кобринском уезде // Запісы Таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Вып. 3. 1863 год: Шляхецкае паўстанне ці народная рэвалюцыя? / уклад. і рэд. А. Я. Тарас. — Рыга: Выданне ІБГіК, 2014. — С. 139–148; *Его же.* Репрессии в отношении участников восстания 1863–1864 гг.: правда и вымыслы // Вестник Брестского государственного технического университета: научно-теоретический журнал. — 2011. — № 6. — С. 33–35; *Матвейчык Дз. Ч.* Уладзіслаў Машэўскі… — С. 88–90; *Радзюк А.* Знішчэнне шляхецкіх ваколіцаў на Гродзеншчыне ў 1863–1864 // ARCHE. — 2010. — № 10. — С. 151–173; *Смалянчук А.* Гарадзенскія «мяцежнікі» // ARCHE. — 2010. — № 12. — С. 174–185; *Токць С., Семянчук А., Трацяк Я.* Высылка з Беларусі шляхціцаў-паўстанцаў 1863–1864 гг. // Герольд Litherland. — № 17. — Гародня, 2006. — С. 110–126; *Іх жа.* Паўстанцы 1863 г. сялянскага стану з Ваўкавыскага павета // Ваўкавышчына: краязнаўчы часопіс. — 2008. — № 3. — С. 3–9; *Хурсік В. У.* Трагедыя белай гвардыі: Бел. дваране ў паўстанні 1863–1864 гг.: гістарычны нарыс і спісы. — Мінск: Пейто, 2001; і інш.

[3] *Jodkowski J.* Rok 1863 w powiecie grodzieńskim // Echo Grodzieńskie. — R. 4: 1921. — № 18. — 23.01.1921. — S. 1–2; № 28. — 05.02.1921. — S. 3; № 31. — 09.02.1921. — S. 3; № 32. — 10.02.1921. — S. 3; № 33. — 11.02.1921. — S. 3; № 34. — 12.02.1921. — S. 3; № 36. — 15.02.1921. — S. 3; № 160. — 21.07.1921. — S. 3; № 162. — 23.07.1921. — S. 2; № 166. — 28.07.1921. — S. 2; № 167. — 29.07.1921. — S. 2–3; № 168. — 30.07.1921. — S. 2; № 169. — 31.07.1921. — S. 2; № 171. — S. 3; № 172. — S. 2–3; № 173. — S. 2; № 174. — S. 4; № 175. — S. 2; № 176. — S. 2; № 177. — S. 2; № 179. — S. 2.

[4] *Jodkowski J.* Rok 1863 w powiecie Grodzieńskim (Notatki i uzupełnienia) // Echo Grodzieńskie. — № 17. — 23.01.1923. — S. 2–3.

[5] *Jodkowski J.* Sylwety z roku 1863 // Nowe Życie. — № 8. — 24.01.1926. — S. 2–3.

[6] *Kryczyński L.* (Leon Najman Mirza Krzyczyński). Materiały do historii udziału tatarów litewskich w powstaniach narodowych // Rocznik tatarski. — 1935. — T. 2. — S. 451–453; *Jego ż.* Przyczynek w sprawie stosunku tatarów litewskich do powstania 1863 r. // Rocznik tatarski. — 1932. — T. 1. — S. 262–276.

павеце, змясціла ў сваёй працы ў 1934 г. Яніна Якубянец-Чаркоўска[7]. У 1935 г. у якасці дадатку да свайго нарыса пра Людвіка Нарбута Уладзіслаў Карбоўскі апублікаваў «імянны пералік» («wykaz imienny») удзельнікаў паўстання ў Лідскім павеце, складзены *«на падставе друкаў і недрукаваных матэрыялаў»*. Ён уключае каля 200 асоб з кароткімі звесткамі пра кожную: саслоўе, узрост, заняткі да паўстання, удзел у паўстанні і лёс пасля яго і інш.[8]. Тут жа неабходна згадаць пра працу Генрыка Цэдэрбаўма, выдадзеную ў 1917 г.[9]. Яна хаця ўяўляе сабой пераказ 489 спраў і не з'яўляецца біяграфічным слоўнікам, але дэ-факта выконвае падобную ролю, будучы забяспечанай шматлікімі біяграфічнымі даведкамі і асабовым паказальнікам.

У Расіі некаторыя спісы паўстанцаў пачалі складацца ў пасляваенны перыяд. Напрыклад, у 1947 г. быў складзены спіс з некаторымі біяграфічнымі звесткамі ссыльных у Вяцкай губерні, у тым ліку высланых у выніку паўстання 1863–1864 гг., які, аднак, застаўся нявыдадзеным[10]. У 1960 г. Юрыем Багданавым і Уладзімірам Дзьякавым быў апублікаваны алфавітны спіс афіцэраў, якія мелі дачыненне да рэвалюцыйнага руху ў расійскай арміі ў 1861–1863 гг. Некаторыя з іх бралі ўдзел у паўстанні ў Беларусі: напрыклад, Баляслаў Кульчыцкі, Адам Вішнеўскі і інш. Наяўнасць падрабязнай біяграмы кожнай згаданай у спісе асобы робіць публікацыю біяграфічным слоўнікам[11]. У 1967 г. у Маскве ўжо асобна У. Дзьякавым апублікаваны біяграфічны слоўнік удзельнікаў антыцарысцкіх рухаў, што служылі ў расійскай арміі, у якім маецца некалькі дзясяткаў біяграм ураджэнцаў Беларусі[12]. На пачатку XXI ст. у Расіі абаронены шэраг дысертацый, прысвечаных ссылцы пасля паўстання ў той ці іншы рэгіён Расійскай імперыі. Шмат да якіх у якасці дадатку пададзены біяграфічныя і біябібліяграфічныя слоўнікі сасланых — напрыклад, у працах Людмілы Конанавай[13] і Вячаслава Паўлава[14]. Найбольшы з іх па колькасці ўнесеных асоб складзены Святланай Мулінай да дысертацыі «Удзельнікі польскага паўстання 1863 года ў заходнесібірскай ссылцы»[15]. На падставе дакументаў з Дзяржаўнага архіва Омскай вобласці ў ім пададзены звесткі больш чым пра 4 тысячы сасланых. Характэрнае для такіх слоўнікаў іх напісанне на аснове матэрыялаў аднаго архіўнага сховішча. Некаторыя слоўнікі створаны ў якасці частак манаграфічных

---

[7] *Jakubianiec-Czarkowska J.* Powstanie 1863 r. w powiecie święciańskim. — Święciany: Święciański Oddział Polskiego Towarzystwa Krajoznawczego, 1934. — S. 110–119; у перакладзе гл.: *Якубянец-Чаркоўска Я.* Паўстанне 1863 года ў Свянцянскім павеце / пераклад М. Гіля. — Паставы: Сумежжа, 2013. — С. 73–79.

[8] *Karbowski W.* Ludwik Narbutt: życiorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. — Grodno: Wydawnictwo 76 Lidzkiego P. P. im. Ludwika Narbutta, 1935. — S. 162–174.

[9] *Cederbaum H.* Powstanie styczniowe: wyroki audytoryatu polowego z lat 1863, 1864, 1865 i 1866 . — Warszawa [etc.]: Gebethner i Wolff, 1917. — VIII.

[10] *Луппов П. Н.* Политические ссыльные в Вятской губернии в 1825–1905 гг.: Всего 1382 лица, в том числе 111 женщин. — Киров, 1947 (машынапіс; у 2002 г. захоўваўся ў аддзеле краязнаўчай літаратуры Абласной бібліятэкі імя А. Герцэна, шыфр Д 669 — П2).

[11] *Богданов Г. В., Дзьяков В. А.* Алфавитный список участников революционного движения в русской армии за 1861–1863 гг. // Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х гг.: сб. ст. и материалов; под ред. В. Д. Королюка. — М.: АН СССР, 1960. — С. 489–638.

[12] *Дьяков В. А.* Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856–1865 годов (биографический словарь). — М.: Наука, 1967. Варта таксама згадаць, што за 5 гадоў да гэтага У. Дзьякаў апублікаваў каштоўную крыніцу да біяграфій камандзіраў паўстанцкіх атрадаў на тэрыторыі Каралеўства Польскага, у тым ліку і тых, што адступілі туды з тэрыторыі Заходняй Беларусі (гл.: *Дьяков В. А.* Список руководящих деятелей восстания 1863–1864 гг., составленный В. В. фон Валем // Русско-польские революционные связи 60-х годов и восстание 1863 года: [Сб.]. — Москва: Изд-во АН СССР, 1962. — С. 506–564).

[13] *Кононова Л. П.* Ссылка участников польского восстания 1863–1864 годов (по материалам Архангельской губернии): дис. на соиск. учен. степ. канд. ист. наук: 07.00.02. — Архангельск, 2004.

[14] *Павлов В. А.* Польская политическая ссылка в Казанской губернии во второй половине XIX века: дис. на соиск. учен. степ. канд. ист. наук: 07.00.02. — Чебоксары, 2004. У скарочаным выглядзе слоўнік гл.: *Паўлаў В.* Паўстанцы з тэрыторыі Беларусі на пасяленьні ў Казанскай губэрні // ARCHE. — 2010. — № 10. — С. 237–257.

[15] *Мулина С. А.* Участники польского восстания 1863 года в западносибирской ссылке: дис. на соиск. учен. степ. канд. ист. наук: 07.00.02. — Омск, 2005. — 498 с. Некаторыя спісы апублікаваны — гл.: *Муліна С.* Удзельнікі паўстаньня 1863 году з Заходняга краю ў заходнесібірскай ссылцы // ARCHE. — 2010. — № 10. — С. 258–268.

прац[16]. Апрача таго, ставілася пытанне пра ўвядзенне ў навуковы ўжытак яшчэ нявыкарыстаных матэрыялаў. Так, у 2005 г. даследчыкі Марына Навасёлава і Баляслаў Шастаковіч адзначалі неабходнасць стварэння на падставе матэрыялаў Дзяржаўнага архіва Іркуцкай вобласці біяграфічнага слоўніка ссыльных удзельнікаў паўстання, які *«надзейна ўвекавечыць памяць паўстанцаў, чые магілы сцерты з зямлі»*[17]. Характэрным для прац расійскіх гісторыкаў з'яўляецца абагульненне ўсіх сасланых удзельнікаў паўстання пад тэрмінамі «палякі», «польскія» і да т. п. Спроб вылучыць пэўную групу паводле тэрыторыі паходжання ў іх не робіцца.

Не варта таксама забывацца, што асобныя артыкулы, прысвечаныя ўдзельнікам паўстання 1863–1864 гг., у тым ліку з Беларусі, ёсць ва ўсемагчымых агульных слоўніках і энцыклапедыях, напрыклад у «Польскім біяграфічным слоўніку» ці «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Шматлікія спісы і біяграфічныя слоўнікі ўдзельнікаў паўстання, сасланых, амнісціраваных і г. д. знаходзяцца ў вольным доступе ў інтэрнэце.

Беларускімі даследчыкамі ў апошнія гады зроблена некалькі спроб скласці невялікія біяграфічныя слоўнікі ўдзельнікаў паўстання, аб'яднаных паходжаннем з пэўнага рэгіёна. Так, Алена Серак у якасці дадатку да свайго артыкула пра дзейнасць Ашмянскай следчай камісіі апублікавала 7 біяграм сасланых актыўных удзельнікаў паўстання ў Ашмянскім павеце[18], Вячаслаў Швед — 60 біяграм 52 шляхціцаў (8 асоб паўтараюцца), якія належалі да гродзенскай паўстанцкай арганізацыі і каманднага складу паўстанцкіх атрадаў на Гродзеншчыне[19], Вольга Гарбачова – біябібліяграфічныя артыкулы пра больш за трыццаць паўстанцаў, пераважна з Мінскай губерні, фотаздымкі якіх захаваліся да нашага часу[20]. Часлаў Малеўскі склаў спіс з амаль трохсот асоб, што паходзілі з Лідскага павета і пацярпелі ў выніку паўстання[21].

Апрача гэтага, доўгі час функцыі біяграфічных слоўнікаў і спісаў выконвалі (і выконваюць цяпер) усемагчымыя картатэкі і паказальнікі імёнаў да разнастайных кніжных выданняў. У міжваеннай Польшчы ў Варшаве вядомы гісторык і бібліёграф Эдвард Малішэўскі (1875–1928) стварыў картатэку ўдзельнікаў паўстання, якая, на жаль, не перажыла Другую сусветную вайну. У 1930-я гг. у Дзяржаўным архіве ў г. Львове падобная картатэка складалася пад кіраўніцтвам яго шматгадовага дырэктара — вядомага гісторыка і крыніцазнаўцы Яўгеніюша Барвінскага (налічвала больш за 20 тыс. картак)[22].

У 1960-я гг. для патрэб выдання серыі «Паўстанне 1863–1864 гг.: матэрыялы і дакументы» ў Маскве пад кіраўніцтвам аднаго з яе рэдактараў Іллі Мілера таксама стваралася адпаведная картатэка, якая

---

[16] *Никулина И. Н.* Религия и политические ссыльные Западной Сибири в XIX в. (20-е — первая половина 70-х гг.). — Барнаул: Алтайский государственный технический университет, 2004; изд. 2, доп. — Иркутск: Оттиск, 2011; Ссыльные поляки в Якутии: итоги, задачи, исследование пребывания / под ред. П. Л. Казаряна. — Якутск: Изд-во ин-та гуманит. исслед. АН Респ. Саха, 1999; і інш.

[17] *Новоселова М., Шостакович Б.* Материалы к биографии повстанцев 1863 г. в Государственном архиве Иркутской области // Powstanie styczniowe… — S. 331–334.

[18] *Серак Е. В.* Репрессивная деятельность Ошмянской следственной комиссии в 1863–1864 гг. // Беларусь праз прызму рэгіянальнай гісторыі: Ашмяны і Ашмянскі рэгіён: зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі; уклад.: А. А. Скеп'ян, А. Б. Доўнар; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]. — Мінск: Беларус. навука, 2015. — С. 141–143.

[19] *Швед В.* Шляхта Гродзенскай губерні ў цывільным і вайсковым кіраўніцтве напярэдадні і падчас Студзеньскага паўстання (1861–1864 гг.) // Беларускі гістарычны зборнік — Białoruskie Zeszyty Historyczne. — № 41. — Беласток, 2014. — С. 211–238.

[20] *Гарбачова В. В.* Беларускі падарунак Уладзіславу Міцкевічу // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 2. — Мінск: Лімарыус, 2010. — С. 358–380; *Яе ж.* Паўстанцы 1863 году на фотаздымках // ARCHE. — 2010. — № 12. — С. 99–132.

[21] *Malewski C.* Wykaz osób więzionych, prześladowanych i zesłanych z powiatu lidzkiego // Ziemia lidzka. — 2003. — № 3(55); у перакладзе на беларускую мову: *Малеўскі Ч.* Лідская шляхта ў паўстанні 1863 года // Лідскі летапісец. — 2003. — № 3–4 (23–24). — С. 20–28.

[22] Гл.: *Barwiński E.* Kartoteka powstańców 1863 r. opracowana na podstawie akt Archiwum Państwowego we Lwowie // Przegląd Historyczny. — T. 14. — 1937/1938. — S. 376–378; *Śliwowska W.* Kartoteka uczestników powstania styczniowego w Instytucie Historii PAN // Powstanie styczniowe. 1863–1864. Walka i uczestnicy. Represje i wygnanie. Historiografia i tradycja / pod red. W. Cabana i W. Śliwowskiej. — Kielce: Wydawnictwo Akademii Świętokrzyskiej, 2005. — S. 11–20.

выкарыстоўвалася для складання паказальнікаў імёнаў для тамоў гэтай серыі. Напачатку XXI ст. яна была перададзена ў якасці падарунка на 50-годдзе Польскай акадэміі навук, дзе і працягвае захоўвацца[23].

У Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук (г. Варшава) група навукоўцаў пад кіраўніцтвам Вікторыі Сліվоўскай стварыла картатэку (і ў адпаведнасці з ёй электронную базу дадзеных), куды ўключаны звесткі пра ўдзельнікаў паўстання, узятыя з самых розных крыніц — архіваў як Польшчы, так і Беларусі, Літвы, Украіны і Расіі. У 2005 г. у картатэцы меліся звесткі прыкладна пра 40 тыс. сасланых і звыш 50 тыс. пацярпелых ад больш лёгкіх відаў пакаранняў, і працэс яе папаўнення працягваецца[24].

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ) таксама створаны асобны раздзел агульнага імяннога каталога, які мае назву «Паўстанне 1863 г.». У яго ўнесены больш за 8,5 тыс. картак, якія з улікам паўтораў шматлікіх асоб у розных крыніцах падаюць звесткі пра прыкладна 2,5 тыс. чалавек. Гэты раздзел уваходзіць у склад агульнага архіўнага электроннага імяннога паказальніка[25]. У НГАБ у г. Гродна таксама створана асобная частка імяннога рабочага каталога, прысвечаная ўдзельнікам паўстання (захоўваецца ў некалькіх скрынях). Звесткі з яе часткова ўключаны ў агульны імянны каталог архіва.

Аднак падобныя картатэкі, створаныя супрацоўнікамі архіва, выразна недастатковыя для патрэб даследчыкаў. Па-першае, яны даступныя толькі непасрэдна ў архівах, а па-другое, з'яўляючыся ўсяго толькі паказальнікамі да дакументаў таго ці іншага архіва, змяшчаюць мінімальна неабходныя звесткі — пра прозвішча, імя, імя па бацьку асобы, дату і назву дакумента, яго архіўныя каардынаты, значна радзей — пра прафесію і/ці сацыяльны стан. Апрача таго, у іх, як, напрыклад, у НГАБ, шырока выкарыстоўваецца запазычаная з дакументаў тэрміналогія — часта недакладная і некарэктная[26]. У параўнанні з картатэкамі форма біяграфічнага слоўніка, дзе падаюцца больш поўныя звесткі пра тую ці іншую асобу і пра значна большую колькасць асоб у цэлым, з'яўляецца больш зручнай, больш даступнай і таму больш прывабнай для карыстальнікаў.

Да гэтага часу невядома спроба стварэння і выдання аб'ёмнага біяграфічнага слоўніка на падставе матэрыялаў беларускіх архіваў.

* * *

Прадметнае поле для гэтага «Слоўніка...» абрана шырокае, што звязана як з тэрміналагічнымі асаблівасцямі, так і з асаблівасцямі крыніц.

У сувязі са спецыфічным падыходам расійскіх улад з'яўляецца праблема вызначэння дэфініцыі «ўдзельнік паўстання 1863–1864 гадоў». Як сведчыць крыніцавая база, расійскія дзяржаўныя рэпрэсіўныя органы ўдзельнікамі паўстання часта лічылі не толькі асоб, што змагаліся з расійскімі войскамі зброяй, але і прадстаўнікоў значна больш шырокай групы, якія дапамагалі паўстанцам самым розным чынам: пастаўлялі харчаванне, адзенне, разведвальныя звесткі, аказвалі медыцынскую дапамогу, збіралі для іх грошы і інш. Паводле слоў загада Міхаіла Мураўёва ад 31 траўня 1863 г., *«усялякае спачуванне да цяперашніх мяцежніцкіх дзеянняў праследуецца законам нароўні з самімі дзеяннямі»*[27]. Такая пазіцыя адкрывала расійскім уладам шырокія магчымасці для прыцягнення да адказнасці і пакарання шматлікіх асоб, так ці інакш звязаных з паўстанцамі. Пад рэпрэсіі часта траплялі сваякі ўдзельнікаў паўстання (бацькі, жонкі, браты і сёстры і інш.), іх сябры, калегі і г. д. Нашэнне жалобнага адзення ці нават чорных рэчаў без асаблівых падстаў (смерці каго-небудзь з блізкіх сваякоў) разглядалася

---

[23] Гл.: *Śliwowska W.* Kartoteka uczestników...

[24] Ibid.

[25] Больш падрабязна пра раздзел каталога НГАБ, прысвечаны ўдзельнікам паўстання 1863–1864 гг., гл.: *Матвейчык Дз. Ч.* Прадстаўленасць дакументаў па гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі канца XVIII — 60-х гг. XIX ст. у каталогу НГАБ // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. — Вып. 6. — Мінск: НГАБ, 2008. — С. 271–277.

[26] Пра некаторыя хібы тэрміналогіі дакументаў гл. ніжэй.

[27] НГАБ. — Ф. 1430. — Воп. 1. — Спр. 52185. — Арк. 3–4 адв.; апублікавана ў: Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях: Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі / уклад. Дз. Ч. Матвейчык; рэдкал.: У. І. Адамушка [і інш.]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — С. 69.

таксама як паўстанцкая агітацыя і спачуванне паўстанню. Таму пад рэпрэсіі трапіла вялікая колькасць асоб, у значнай ступені жанчын[28], якія такім чынам дэманстравалі свае палітычныя схільнасці альбо выпадкова аказаліся адпаведна апранутымі. Гэта ж тычыцца асоб, якія насілі *«польскі патрыятычны касцюм»* (чамаркі, канфедэраткі, высокія боты і да т. п.) і тым больш выявы гербаў Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага («Белага Арла» і «Пагоні») і іншыя *«асаблівыя рэвалюцыйныя знакі»*.

Асобна варта спыніцца на катэгорыі «палітычна нядобранадзейных» (альбо «нядобранадзейных у палітычных адносінах»). Да яе расійскія ўлады адносілі асоб, якія, як правіла, не ўдзельнічалі ў паўстанні непасрэдна, але трапілі ў поле дзейнасці расійскіх следчых і ваенна-судовых камісій і не даказалі сваю лаяльнасць да існуючага палітычнага ладу; якія заслужылі сабе негатыўную рэпутацыю ў вачах каго-небудзь з «добранадзейных»; якіх падазравалі ва ўдзеле ў паўстанні, аднак для адпаведнага прысуду не хапала доказаў і да т. п. Такіх асоб часцей за ўсё адпраўлялі ў ссылку *«адміністрацыйным парадкам»* — часам нават без абвінаваўчага судовага прысуду, а паводле распараджэння «Галоўнага Начальніка краю» (віленскіх генерал-губернатараў М. М. Мураўёва, К. П. фон Каўфмана, Э. Т. Баранава), каго-небудзь з намеснікаў М. М. Мураўёва (М. А. Крыжаноўскага, А. Л. Патапава) альбо грамадзянскага ці ваеннага губернатара. Як паказваюць архіўныя крыніцы, вызначэнне, фактычна ярлык «палітычна нядобранадзейны» выкарыстоўвалася ў асобных выпадках расійскімі цывільнымі і ваеннымі чыноўнікамі для звядзення ўласных рахункаў з асабіста непрыемнымі ім людзьмі.

Пад рэпрэсіі траплялі таксама пэўныя асобы, якія ніякім чынам не былі звязаны з паўстаннем, аднак інтарэсы якіх з прычыны збегу розных абставінаў альбо спецыфікі заканадаўчых актаў падчас паўстання ўступалі ў канфлікт з інтарэсамі расійскіх улад. Напрыклад, сяляне былі абавязаны даваць падводы для расійскіх войскаў, забяспечваць іх харчаваннем і ўсялякім чынам дапамагаць ім пры перамяшчэнні; адмова ад гэтага расцэньвалася як спагада паўстанню і супраціўленне ўладам. Гэткім жа чынам магла быць расцэнена і немагчымасць выканання адпаведных патрабаванняў. Тое самае тычыцца ўсеагульнай здачы агняпальнай і халоднай зброі, друкаваных і рукапісных твораў «падбухторвальнага» («возмутительного») альбо «заганнага» («предосудительного») (пры гэтым дакладнага вызначэння і першага, і другога тэрмінаў не было) зместу, забароны пакідаць месца жыхарства і да т. п.

Іншымі словамі, пад рэпрэсіі трапіла, як паказвае «Слоўнік…», значна больш шырокае кола асоб, чым складалі непасрэдна ўдзельнікі паўстання *«са зброяй у руках»*.

Аднак і гэты крытэрый у «Слоўніку…» не абсалютызуецца. Справа ў тым, што паводле ўсталяванай М. М. Мураўёвым сістэмы на асоб каталіцкага веравызнання былі накладзены шматлікія кантрыбуцыйныя зборы. Напрыклад, аднапрацэнтны збор на ўсіх домаўладальнікаў-каталікоў у гарадах, пяці-, дзесяці-, дваццаці- альбо трыццаціпрацэнтныя зборы[29] з маёнткаў памешчыкаў-каталікоў і да т. п. Апрача таго, былі ўведзены далейшыя абмежаванні на каталікоў пры паступленні на дзяржаўную і грамадскую службу, у вышэйшыя навучальныя ўстановы і г. д. У выніку пад рэпрэсіі трапіла вялікая колькасць каталікоў (дваранаў, аднадворцаў, ксяндзоў), што жылі ў так званым Паўночна-Заходнім краі, тэрыторыя якога цяпер уваходзіць у склад некалькіх дзяржаў — Беларусі, Літвы, Польшчы, Латвіі, Расіі і Украіны. Таму ў «Слоўніку…» змешчаны звесткі толькі пра асоб, якія пацярпелі тым ці іншым чынам асобна ад «усеагульных» грашовых рэпрэсій — былі арыштаваны і зняволены на пэўны тэрмін у турмах ці знаходзіліся пад «*хатнім арыштам*», трапілі пад следства ці суд, аштрафаваны, звольнены са службы, аддадзены пад негалосны ці галосны нагляд паліцыі, высланы з радзімы (на катаргу, пасяленне, жыхарства, у шэрагі расійскіх войскаў і інш.), пазбаўлены правоў стану ці пакараны смерцю.

---

[28] Пра ўдзел жанчын Беларусі ў паўстанні больш падрабязна гл.: *Фірыновіч А. Э.* «Жаночы фактар» у паўстанні 1863–1864 гг.: інфармацыйны патэнцыял беларускіх архівасховішчаў // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. — 2011. — № 2. — С. 59–65; *Чарняўская В. А.* «Жаночы след» у «Тыдні хваляванняў у Магілёўскай губерні» // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць: зборнік навуковых прац удзельнікаў VIII Міжнар. навук.-практ. канф., Магілёў, 26–27 чэрвеня 2013 г. / уклад. А. М. Бацюкоў, І. А. Пушкін. — Магілёў: УА «МДУХ», 2013. — С. 395–398.

[29] Працэнты вылічваліся ад сярэдняга гадавога прыбытку за апошнія 10 гадоў.

Міхаіл Мікалаевіч Мураўёў з'яўляўся віленскім генерал-губернатарам з 1 траўня 1863 г. да 17 красавіка 1865 г. Менавіта паводле яго ініцыятывы і была ўведзена ў Беларусі і Літве магутная рэпрэсіўная машына. Аднак, гаворачы пра задушэнне паўстання і пра рэпрэсіі супраць яго ўдзельнікаў, неабходна ўлічваць, што паўстанне пачалося і адпаведна пачало падаўляцца яшчэ да ўступлення Мураўёва на пасаду, калі віленскім генерал-губернатарам служыў Уладзімір Іванавіч Назімаў (генерал-губернатар з 10 снежня 1855 г. да 1 траўня 1863 г.). Адпаведна і першыя арышты праводзіліся менавіта пры ім. Уціск працягваўся і пасля адстаўкі Мураўёва пры яго паслядоўніках — Канстанціне Пятровічы фон Каўфмане (генерал-губернатар з 17 красавіка 1865 г. да 9 кастрычніка 1866 г.) і Эдуардзе Трафімавічы Баранаве (з 9 кастрычніка 1866 г. да 2 сакавіка 1868 г.), якія таксама выдавалі пастановы аб ссылцы некаторых асоб, следчыя і судовыя справы якіх вяліся ў 1865–1867 гг. Аднак пры іншых генерал-губернатарах і колькасць вынесеных прысудаў, і адпаведна ступень жорсткасці ўсёй рэпрэсіўнай палітыкі былі непараўнальна меншыя. Ужо нават у канфірмацыях намесніка Мураўёва Андрэя Львовіча Патапава, які выносіў іх з другой паловы 1864 г. да 17 красавіка 1865 г., адчуваецца меншая лютасць у адносінах да пакараных і павялічваецца колькасць апраўдальных пастаноў.

* * *

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі — найбольш багатае ў краіне сховішча рукапісных матэрыялаў за перыяд да пачатку XX ст. уключна. Сярод іх некалькі тысяч спраў, якія тычацца паўстання 1863–1864 гг. Гэтыя матэрыялы маюць сваю спецыфіку. За вельмі рэдкім выключэннем яны створаны расійскімі ўладнымі і карнымі органамі, таму ў іх адлюстраваны не так ход паўстання і дзейнасць паўстанцкіх атрадаў, як палітыка расійскіх улад, накіраваная на задушэнне выступлення, правядзенне рэпрэсій у адносінах да яго ўдзельнікаў і змяненне сацыяльна-канфесійнага становішча на ахопленых паўстаннем землях. Сярод органаў рэалізацыі гэтай палітыкі варта вылучыць камісіі, якія займаліся правядзеннем следства па справах асобных паўстанцаў і іх груп. У НГАБ захоўваюцца асобныя фонды дзвюх следчых камісій Мінскай губ. — у гарадах Мінску (ф. 1418) і Слуцку (ф. 1524), адной — Віцебскай губ. — у Віцебску (ф. 3046) і чатырох Магілёўскай губ. — у Магілёве (ф. 3257), Оршы (ф. 3255), Чэрыкаве (ф. 3366) і Горках (ф. 3286). Гэтыя фонды змяшчаюць невялікую колькасць спраў, іх матэрыялы захаваліся да нашага часу фрагментарна. Найбольш цікавай групай матэрыялаў у гэтых фондах з'яўляюцца спісы паўстанцаў і асоб, якія абвінавачваліся ва ўдзеле ў паўстанні. У спісах пазначаліся, як правіла, імя і прозвішча асобы, яе сацыяльнае паходжанне, веравызнанне, месца жыхарства, сутнасць абвінавачання, пастанова камісіі паводле яе справы, адсылка прысуду на канфірмацыю альбо перавод асобы ў іншае месца зняволення.

Наступную групу фондаў, дзе захоўваюцца матэрыялы па паўстанні 1863–1864 гг., складаюць фонды ваенных начальнікаў — часовых ваенных губернатараў Мінскай (ф. 296) і Магілёўскай (ф. 3256) губерняў, павятовых начальнікаў Пінскага (ф. 1521), Слуцкага (ф. 1525), Дрысенскага (ф. 2601), Веліжскага і Суражскага (ф. 2569) паветаў, ваенных начальнікаў другога (ф. 1528) і трэцяга (ф. 1527) станаў Мінскага павета. Як правіла, яны таксама невялікія: у іх колькасць спраў па паўстанні не перавышае дваццаці. Выключэнне складаюць толькі фонды часовых ваенных губернатараў Мінскай (204 справы) і Магілёўскай (69 спраў) губерняў.

Найбольшая колькасць спраў па паўстанні 1863–1864 гг. захоўваецца у, так бы мовіць, «вялікіх» фондах — губернскіх праўленняў (Мінскае — ф. 295, Віцебскае — ф. 1416, Магілёўскае — ф. 2003), упраўленняў дзяржаўных маёмасцяў (гл. ніжэй) і канцылярый губернатараў (мінскага — ф. 295, віцебскага — ф. 1430, магілёўскага — ф. 2001). Напрыклад, другі вопіс фонду канцылярыі магілёўскага грамадзянскага губернатара (каля 200 спраў) прысвечаны выключна паўстанню 1863–1864 гг., пераважна — канфіскацыі маёмасці яго ўдзельнікаў.

Абавязковым пры прапрацоўцы «вялікіх» фондаў з'яўляецца зварот увагі не толькі на матэрыялы за 1863–1866 гг., калі адбываліся актыўныя рэпрэсіі супраць удзельнікаў паўстання і тых, хто ім спачуваў і дапамагаў, але і на справы за канец 60-х — 80-я гг. XIX ст., калі ў выніку некалькіх амністый шмат якія катэгорыі сасланых атрымалі магчымасць вярнуцца на радзіму, перасяліцца ў Каралеўства Польскае, вызваліцца ад паліцэйскага нагляду, паступіць на дзяржаўную ці грамадзянскую службу

ці розныя іншыя палёгкі пакарання. Падобныя справы, напрыклад, захоўваюцца ў масавым парадку ў фондах мінскага і віцебскага губернатараў.

Самую значную групу спраў у «вялікіх» фондах складаюць дакументы аб маёмасці ўдзельнікаў паўстання і асоб, якія абвінавачваліся ў прыналежнасці да яго, — накладанне секвестру і забароны, правядзенне канфіскацый, продаж канфіскаваных маёнткаў, спагнанне грашовых штрафаў і да т. п. Гэта — натуральны вынік таго факта, што канфіскацыі і рознага кшталту грашовыя спагнанні былі адным з галоўных сродкаў рэпрэсій супраць удзельнікаў паўстання і тых, хто падтрымліваў іх ці спачуваў ім.

Справы пра секвестр і канфіскацыю маёнткаў захоўваюцца ў фондах Мінскага (ф. 27) і Віцебскага (ф. 2514) упраўленняў дзяржаўных маёмасцяў. У фондзе ж Магілёўскага ўпраўлення (ф. 2189) не выяўлена падобных матэрыялаў, і ўвогуле за 1860-я гг. у ім захоўваецца ўсяго некалькі спраў, што гаворыць пра фрагментарную захаванасць дакументаў упраўлення.

Матэрыялы пра лёс некаторых прадстаўнікоў каталіцкага духавенства падчас і пасля паўстання адлюстраваны ў фондзе Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі (ф. 1781). У прыватнасці, тут захоўваюцца дакументы пра правядзенне рэпрэсіўных мерапрыемстваў супраць ксяндзоў, якія ўдзельнічалі ў паўстанні, спачувалі яму альбо трапілі пад суд па падазронасці ў гэтым. Сярод іншага, тут прадстаўлены разнастайныя асабовыя і фармулярныя спісы ксяндзоў, рапарты каталіцкіх іерархаў і г. д.

Вышэй згаданымі не абмяжоўваецца пералік фондаў, у якіх захоўваюцца матэрыялы па гісторыі паўстання 1863–1864 гг. Адзінкавыя справы, якія не складаюць суцэльнага комплексу, трапляюцца ў некалькіх дзясятках фондаў[30].

Большая частка спраў з НГАБ, што тычыцца паўстання 1863–1864 гг., да цяперашняга часу не выкарыстоўвалася даследчыкамі. Увогуле, праблема ўвядзення ў навуковы ўжытак матэрыялаў з НГАБ вырашаецца на сённяшні дзень некалькімі шляхамі. Па-першае, гэта публікацыя дакументаў. Вядома некалькі акцый па мэтанакіраваным выяўленні і публікацыі дакументаў з НГАБ па гісторыі паўстання. Першая з іх была здзейснена ў канцы 1950-х — пачатку 1960-х гг. для выдання серыі «Паўстанне 1863 года: Дакументы і матэрыялы». У двух тамах гэтай серыі, прысвечаных падзеям 1861–1864 гг. у Беларусі і Літве[31], апублікаваны некалькі дзясяткаў дакументаў, якія цяпер захоўваюцца ў НГАБ (на час выяўлення яны захоўваліся ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР у г. Магілёве і Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці ў г. Мінску). Яшчэ некалькі дзясяткаў былі выкарыстаны пры складанні каментарыяў без іх публікацыі. Другі зборнік дакументаў, ужо непасрэдна з фондаў НГАБ, быў выдадзены ў 2014 г. — праз 50 гадоў пасля першага[32]. У яго ўключаны 223 дакументы і яшчэ некалькі соцень выкарыстаны пры складанні каментарыяў. Тут жа варта згадаць пра выданне Віктарам Хурсікам некалькіх спісаў паўстанцаў з фондаў НГАБ у 2001 г.[33], аднак гэтая публікацыя пазбаўлена неабходных археаграфічных падыходаў і навукова-даведачнага апарату і мае хутчэй папулярызатарскі характар. Некаторыя дакументы публікуюцца ў якасці дадаткаў да навуковых артыкулаў, іх копіі размяшчаюцца на

---

[30] Больш падрабязна пра матэрыялы з НГАБ, што тычацца гісторыі паўстання 1863–1864 гг., гл.: *Матвейчык Дз. Ч.* Дакументы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі аб паўстанні 1863–1864 гг. (агульны агляд) // Польшча–Беларусь — агульная гістарычная спадчына: студзеньскае паўстанне ў традыцыі і палітычнай думцы Польшчы і Беларусі: зб. навуковых прац / пад рэд. Евы Расоўскай і Аляксандра Вабішчэвіча. — Варшава: Аб'яднанне польскіх архівістаў, 2014. — С. 185–196; *Яго ж.* Паўстанне 1863–1864 гг.: крыніцы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (агульны агляд) // Архівы і справаводства. — 2013. — № 1. — С. 66–77; *Яго ж.* Матэрыялы фонду «Упраўленне дзяржаўных маёмасцяў Віцебскай губерні» як крыніца па гісторыі паўстання 1863–1864 гг. // Дакументальная спадчына Беларусі XIV–XX стагоддзяў: Матэрыялы навук.-практ. канф., прысвечанай 75-годдзю Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (Мінск, 26 чэрвеня 2013 г.). — Мінск: Выдавец А. М. Вараксін, 2014. — С. 98–105; *Фірыновіч А. Э.* Паўстанне 1863–1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў. — Мінск: Беларус. навука, 2013.

[31] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: сб. документов / [АН СССР, Ин-т славяноведения и др.] — М.; Вроцлав: Наука, 1965; Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: документы и материалы. — М.: Наука, 1964.

[32] Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях : Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі / уклад. Дз. Ч. Матвейчык; рэдкал.: У. І. Адамушка [і інш.]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014.

[33] *Хурсік В. У.* Трагедыя белай гвардыі: Бел. дваране ў паўстанні 1863–1864 гг.: Гіст. нарыс і спісы. — Мінск: Пейто, 2001; выд. 2. — Мінск: Пейто, 2002.

віртуальных і фізічных выставах і да т. п. Тым не менш і гэтага выразна недастаткова, улічваючы той факт, што колькасць выяўленых спраў складае некалькі тысяч[34].

Па-другое, гэта напісанне на падставе архіўных матэрыялаў навуковых прац, прысвечаных разнастайным бакам падзей паўстання. Найбольш частай формай публікацыі вынікаў даследаванняў з'яўляюцца артыкулы. Аднак іх істотным недахопам з'яўляецца, як правіла, невялікая колькасць ужытых архіўных крыніц. Толькі ў пераважнай меншасці артыкулаў выкарыстоўваецца больш за 20–25 спраў. Звычайна ж аўтары абмяжоўваюцца ўсяго некалькімі. Падобная сітуацыя вызначана двума фактарамі — нешырокім праблемным полем таго ці іншага артыкула альбо недастатковай прапрацоўкай аўтарамі матэрыялаў фондаў НГАБ. У любым выпадку кола выкарыстаных архіўных крыніц застаецца нешырокім. Выключэнне з гэтага шэрагу складае манаграфія Алены Фірыновіч, дзе ў якасці дадатку змешчаны пералікі (у тэрміналогіі кнігі — калекцыі) выяўленых у айчынных сховішчах рукапісных матэрыялаў па гісторыі паўстання. У прыватнасці, у іх уключаны 469 спраў з НГАБ і 166 — з НГАБ у Гродна[35]. Іншых аб'ёмных манаграфій, прысвечаных гісторыі паўстання альбо адпаведным крыніцам, да цяперашняга часу не выдадзена. Улічваючы актыўнасць айчынных даследчыкаў па распрацоўцы розных звязаных з паўстаннем пытанняў, што назіраецца на працягу некалькіх апошніх гадоў і што было стымулявана святкаваннем яго 150-гадовага юбілею, наспела праблема менавіта масавага ўвядзення ва ўжытак крыніц з НГАБ. Часткова гэтая праблема вырашаецца «Слоўнікам...», які падрыхтаваны на падставе 762 спраў.

Спецыфіка фондаў НГАБ, дзе ў адносінах да XIX ст. захоўваюцца ў асноўным матэрыялы Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў[36], моцна ўплывае на насычанасць «Слоўніка...». У ім у пераважнай большасці пададзены звесткі пра прадстаўнікоў менавіта трох згаданых губерняў. Аднак наяўнасць у НГАБ шматлікіх спісаў, паведамленняў, рапартаў і іншых матэрыялаў пра асоб, што паходзілі з іншых тэрыторый (часам з зямель, якія не ўваходзілі ў склад Віленскага генерал-губернатарства, — Польшчы, Украіны і інш.), дазволіла ўключыць у «Слоўнік...» і інфармацыю з такіх крыніц, хоць яны моцна саступаюць паводле напаўняльнасці. Гэтыя асобы, як правіла, бралі ўдзел ці мелі дачыненне да паўстання і адпаведна траплялі пад суд на тэрыторыі Віленскага генерал-губернатарства.

Варта ўлічваць і той факт, што шмат якія звесткі з крыніц фрагментарныя і няпоўныя, а часам недакладныя альбо неканкрэтныя. Пра некаторых асоб вядома толькі па адной згадцы ў крыніцах. Падобная фрагментарнасць з'яўляецца прычынай таго, што ў «Слоўнік...» маглі закрасціся некаторыя паўторы, калі адна і тая асоба можа сустракацца больш за адзін раз (рознае напісанне аднаго і таго прозвішча ў розных крыніцах). Тэрміналогія ў дакументах часта некарэктная. Напрыклад, шмат у якіх «удзельнікамі паўстання» называюцца асобы, якія толькі падазраваліся ва ўдзеле і значная колькасць якіх пазней была вызвалена ад адказнасці праз адсутнасць доказаў для абвінавачвання ці якія мелі толькі пэўнае дачыненне да следчых і судовых спраў паўстанцаў і да т. п. Датаванне, змешчанае ў крыніцах, часам памылковае. Напрыклад, сасланая ў красавіку асоба магла фігураваць у спісах сасланых за травень. Даты шмат якіх падзей не вядомы дакладна, часта на пэўны момант падзея апісваецца як ужо здзейсненая.

З мэтай вырашэння праблемы персаніфікацыі паўстання найбольшая ўвага пры стварэнні «Слоўніка...» скіроўвалася на прапрацоўку рознага кшталту спісаў — палонных і забітых у сутычках, сасланых з пазбаўленнем правоў ці *«адміністрацыйным парадкам»*, канфіскаваных і секвестраваных маёнткаў і да т. п. У такіх спісах падаюцца дастаткова сціслыя дадзеныя, аднак фігуруе вялікая колькасць асоб. Апрача таго, у іх часта змяшчаюцца таксама і імёны выхадцаў з іншых губерняў, у першую чаргу з Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай, як, напрыклад, у «Алфавітным спісе палітычных злачын-

---

[34] Больш падрабязна пра публікацыю дакументальных матэрыялаў па гісторыі паўстання гл.: Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях... — С. 29–33; *Фірыновіч А. Э.* Паўстанне 1863–1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы... — С. 20–21.

[35] *Фірыновіч А. Э.* Паўстанне 1863–1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы...

[36] Матэрыялы Гродзенскай губерні захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна, Віленскай — у Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве (ЛДГА) у Вільні, Ковенскай — у ЛДГА і ў Каўнаскім акруговым архіве; матэрыялы па ўсіх губернях, што ўваходзілі ў склад Віленскага генерал-губернатарства, захоўваюцца ў ЛДГА.

цаў, пазбаўленых па судзе правоў стану, маёмасці якіх падлягаюць канфіскацыі ў казну, да 1-га кастрычніка 1864»[37], дзе маецца інфармацыя пра 2048 асоб.

* * *

Прынцып напісання біяграм наступны. Кожная складаецца з трох частак. У першай падаюцца звесткі пра прозвішча і імя асобы ў беларускамоўным варыянце і паводле рускамоўных крыніц. Невядомае імя пазначаецца літарай N. Калі імя ў рукапісных матэрыялах не пазначана, аднак яно ўзноўлена паводле іншых крыніц (напрыклад, іншых зборнікаў дакументаў), то яно змешчана ў квадратных дужках (напрыклад, **Рагінскі [Раман]**). У тым выпадку, калі ў крыніцах сустракаюцца некалькі варыянтаў прозвішча ці імя, у дужках падаюцца ўсе варыянты, адрозныя ад найбольш часта ўжыванага. Такія варыянты змяшчаюцца таксама ў агульным алфавітным парадку «Слоўніка...» з адсылкай на асноўны (напрыклад, **Антаневіч Вінцэнт** — гл. **Антановіч Вінцэнт**). Тое самае тычыцца падвойных прозвішчаў. Затым падаюцца звесткі пра імёны і імёны па бацьку бацькоў (у тым ліку і дзявочае прозвішча маці) і іншых сваякоў (дзядзькаў і цётак, братоў і сясцёр, стрыечных братоў і сясцёр і г. д.), імёны і даты нараджэння жонак і дзяцей (таксама і дзявочыя прозвішчы жонак), саслоўнае паходжанне (дваранін, селянін, аднадворац і г. д.), геаграфічнае паходжанне (воласць, павет, губерня), веравызнанне (каталік, праваслаўны, лютэранін і інш.)[38].

Другая частка біяграмы напісана паводле храналагічнага прынцыпу, наколькі гэта дазваляюць крыніцы (часам пэўныя працэсы адбываліся паралельна). У ёй падаюцца дата і месца нараджэння (у некаторых выпадках — хрышчэння) асобы, яе біяграфічныя звесткі за перыяд да паўстання (даты і месцы вучобы, месца пражывання да паўстання, месца грамадзянскай ці ваеннай службы з пасадай і чынам, валоданне маёнткам ці іншай маёмасцю і інш.), потым — пра ўдзел у паўстанні (назва паўстанцкага атрада[39], даты і месцы сутычак з расійскімі войскамі) ці форму дачынення да яго (пастаўка харчавання, служба праваднікам, дапамога параненым і інш.), дату паланення ці арышту і месцы зняволенняў, абставіны знаходжання пад следствам і судом (назвы следчых і судовых камісій, змест паказанняў, даты пастаноў і іх сутнасць і г. д.), канчатковы прысуд (канфірмацыя) ці прызначэнне з вызначэннем ступені пакарання (пазбаўленне правоў стану, канфіскацыя ці секвестр маёмасці, месца і тэрмін ссылкі, памер штрафу, аддача на парукі, паліцэйскі нагляд і інш.), біяграфічныя звесткі за перыяд пасля прысуду (месца жыцця ў ссылцы, даты і сутнасць атрыманых палёгкаў пакарання, перамяшчэнні і перасяленні і інш.), дату і месца смерці. У некаторых біяграмах сустракаюцца імёны іншых асоб, якія таксама змешчаны ў «Слоўніку...»; у такім выпадку яны вылучаюцца курсівам (напрыклад, «далучыўся да паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта*»). Калі гэтая ж асоба трапляецца ў біяграме другі раз, падаюцца толькі ініцыялы. Пры супадзенні прозвішчаў асоб (як правіла, гэта сваякі) пазначаецца толькі імя (таксама курсівам). Вылучэнне курсівам прозвішча ў пастаронкавых спасылках таксама азначае наяўнасць адпаведнай біяграмы ў «Слоўніку...».

У тэксце біяграм пакінуты некаторыя тэрміны і цытаты, узятыя непасрэдна з крыніц, пераказ якіх уяўляецца немэтазгодным. Усе падобныя словазлучэнні і сказы-цытаты ў тэксце падаюцца ў двукоссі: напрыклад, «адміністрацыйнае спагнанне», «адміністрацыйным парадкам», «палітычная нядобранадзейнасць», «прамаўленне дзёрзкіх выразаў», «менш аддаленыя месцы Сібіры», «ва ўнутраныя губерні» і да т. п. З улікам таго, што пэўныя дзяржаўныя органы і пасады шматразова паўтараюцца, у «Слоўніку...» ўведзены іх абрэвіятуры: напрыклад, МГГ, МагГП, ССК і інш. (гл. спіс скарачэнняў, абрэвіятур і ўмоўных пазнак).

Асобна варта спыніцца на датаванні падзей. Даты падаюцца менавіта ў такім выглядзе, як яны фігуруюць у крыніцах. Улічваючы тое, што крыніцы па гісторыі паўстання 1863–1864 гг. з НГАБ створаны расійскімі дзяржаўнымі органамі, якія карысталіся юліянскім календаром, то і ў «Слоўнік...»

---

[37] НГАБ. — Ф. 319. — Воп. 1. — Спр. 479.

[38] Веравызнанне не падаецца ў прадстаўнікоў яўрэйскай нацыянальнасці, бо вызначэнне «яўрэй» мае на ўвазе іудзейскае веравызнанне.

[39] У «Слоўніку...» паўстанцкія атрады называюцца паводле імёнаў іх камандзіраў альбо паводле месца іх фарміравання ці дзеянняў.

даты перанесены менавіта так. Апрача таго, як гэта ўжо адзначалася вышэй, часта крыніцы змяшчаюць інфармацыю пра падзеі як пра ўжо здзейснены факт: напрыклад, спісы сасланых за пэўны перыяд ці да пэўнага часу. Такія даты пазначаны ў дужках, як правіла, пасля дзеяслова; напрыклад, «ваенным судом прысуджаны (да 29.12.1863)» альбо «прызначаны (каля 07.1864)».

Звесткі, якія пакідаюць магчымасць сумненняў у сваёй сапраўднасці альбо пацверджаны крыніцамі недастаткова, пазначаны ў тэксце біяграм знакам пытальніка ў дужках (?). Магчыма, пры наступных выданнях «Слоўніка…» яны будуць удакладнены.

Лакалізацыя паветаў, што ўваходзілі ў склад шасці губерняў «Паўночна-Заходняга краю», падначаленых М. Мураўёву (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Ковенская, Магілёўская і Мінская), у «Слоўніку…» не ўказваецца з прычыны іх добрай вядомасці.

Апошнюю частку біяграмы складаюць вылучаныя курсівам спасылкі на крыніцы з НГАБ, адкуль узята інфармацыя. Яны змяшчаюць звесткі пра нумары адпаведных фондаў, вопісаў, спраў і аркушаў. Паміж кожным з падобных нумароў пастаўлены вялікі працяжнік. Паміж нумарамі аркушаў можа быць пастаўлены малы працяжнік альбо коска. Напрыклад, абрэвіятуру *320—1—398—326-327адв., 337* трэба чытаць: фонд 320, вопіс 1, справа 398, аркушы 326–327 адварот, 337. Розныя крыніцы раздзяляюцца паміж сабой знакам кропкі з коскай (;).

Аб'ём біяграмы вызначаецца колькасцю ўключаных у яе звестак, што, у сваю чаргу, залежыць ад таго, наколькі часта тая ці іншая асоба згадвалася ў крыніцах. У адпаведнасці з гэтым біяграмы моцна адрозніваюцца паводле аб'ёму — ад некалькіх да некалькіх дзясяткаў радкоў. Менавіта таму біяграма Канстанціна Каліноўскага прадстаўлена толькі некалькімі радкамі, у якіх змешчана невялікая колькасць урыўкавых дадзеных; тое ж тычыцца біяграм Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Зыгмунта Мінейкі і іншых вядомых у гістарыяграфіі асоб[40]. З гэтай жа прычыны ў «Слоўніку…» не змешчаны партрэтныя выявы ўдзельнікаў паўстання — у выкарыстаных пры яго падрыхтоўцы справах іх не выяўлена[41].

Пры складанні біяграм вялікая ўвага звярталася на разнастайныя пастановы, распараджэнні, прысуды і да т. п., іх даты і сутнасць, імёны асоб, што канфірмоўвалі прысуды палявых ваенных судоў ці выдавалі тыя ці іншыя загады, месцы зняволенняў і даты пераводаў з адной турмы ў другую, даты і месцы пададзеных прашэнняў і падобныя акалічнасці. Усе такія «дробязі» могуць паслужыць у далейшым добрым адпраўным пунктам для правядзення больш падрабязных і грунтоўных даследаванняў біяграфій тых ці іншых асоб.

Напісанне і выданне «Слоўніка…» стала магчымым дзякуючы дапамозе пэўных людзей, за што хацелася б ім шчыра падзякаваць: дацэнту кафедры крыніцазнаўства гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Зінаідзе Васільеўне Антановіч за дапамогу ў зборы матэрыялаў з фонда Магілёўскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі (ф. 1781) пра некаторых ксяндзоў, што мелі дачыненне да паўстання ці ўдзельнічалі ў ім, дырэктару НГАБ Дзмітрыю Уладзіміравічу Яцэвічу і намесніку дырэктара НГАБ Дзянісу Васільевічу Лісейчыкаву за арганізацыйную дапамогу пры складанні і выданні, супрацоўнікам НГАБ Юрыю Снапкоўскаму, Яўгену Глінскаму і Аляксандру Грывянёву за дапамогу ў пошуку звестак пра некаторых паўстанцаў, а таксама ўсім, хто хоць нейкім чынам садзейнічаў выхаду гэтай працы.

Напрыканцы варта сказаць, што праца над папаўненнем «Слоўніка…» працягваецца. Плануюцца яго чарговыя выданні, дзе будзе павялічана колькасць унесеных персаналій і пашыраны звесткі ва ўжо існуючых біяграмах. Падставай для гэтага стане далейшая прапрацоўка крыніц з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

---

[40] У якасці прыкладу прыцягнення іншых крыніц (іншых архіўных сховішчаў, друкаваных выданняў і інш.), у тым ліку і выяўленчых, для напісання біяграм удзельнікаў паўстання гл.: *Гарбачова В. В.* Беларускі падарунак… (напрыклад, біяграма Канстанціна Кашыца).

[41] Некаторыя фотаздымкі ў фондах НГАБ выяўлены Аленай Фірыновіч і апублікаваны ў яе манаграфіі [гл.: *Фірыновіч А. Э.* Паўстанне 1863–1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў. — Мінск: Беларус. навука, 2013.]. Партрэтныя выявы паўстанцаў, што паходзілі з беларуска-літоўскіх зямель, гл. таксама: *Гарбачова В. В.* Паўстанцы 1863 году на фотаздымках…; *Янушкевіч К., Янушкевіч Я.* Партрэты Паўстання. Фотаальбом. — Ракаў: б/в, 2014; *Gieysztor J.* Pamiętniki z lat 1857–1865. — T. 1–2. — Wilno, 1913; Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy: katalog fotografii ze zbiorów Muzeum Historycznego m. st. Warszawy. Część II / oprac. E. Kamińska. — Warszawa: Muzeum Historyczne m. st. Warszawy, 2005; і інш.

# СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ СКАРАЧЭННЯЎ, АБРЭВІЯТУР І ЎМОЎНЫХ ПАЗНАК

АСК — Аршанская следчая камісія
ВалГП — Валынскае губернскае праўленне
ВілГП — Віленскае губернскае праўленне
ВілСК — Віленская следчая камісія
в. — вёска
вак. — ваколіца
ВГП — Віцебскае губернскае праўленне
вобл. — вобласць
вол. — воласць
ВСК — Віцебская следчая камісія
г. — 1) горад; 2) год
гг. — гады
ГГП — Гродзенскае губернскае праўленне
ГорСК — Горацкая следчая камісія
губ. — губерня
ДДС — дваранскі дэпутацкі сход
дзес. — дзесяціна
ДСК — Дынабургская следчая камісія
жан. — жаночы
засц. — засценак
ІСК — Ігуменская следчая камісія
КГП — Ковенскае губернскае праўленне
кн. — князь
КСК — Ковенская следчая камісія
м. — мястэчка
МагВГ — магілёўскі ваенны губернатар
МагВСК — Магілёўская ваенна-судовая камісія
МагГП — Магілёўскае губернскае праўленне
МагСК — Магілёўская следчая камісія
МГГ — мінскі грамадзянскі губернатар
МГП — Мінскае губернскае праўленне
МСК — Мінская следчая камісія
муж. — мужчынскі
МУС — Міністэрства ўнутраных спраў
нар. — нарадзіў(ла)ся
пав. — павет
пач. — пачатак
ПВА — Палявы ваенны аўдытарыят
ПВС — палявы ваенны суд (ваенна-палявы суд)
ПВСЗБА — палявы ваенны суд, заснаваны пры Бабруйскім ардананс-гаўзе
ПДМ — палата дзяржаўных маёмасцей
рас. — расійскі
с. — сяло
саж. — сажань
СенСК — Сенненская следчая камісія
СмВСК — Смаленская ваенна-судовая камісія
СмСК — Смаленская следчая камісія
СПб — Санкт-Пецярбург, г.
ср. — срэбрам
ССК — Слуцкая следчая камісія
ст. — 1) стагоддзе; 2) ступень
уроч. — урочышча
фальв. — фальварак
ЧВГМГ — часовы ваенны губернатар Мінскай губерні
ЧПА — Часовы палявы аўдытарыят
ЧСК — Чэрыкаўская следчая камісія
N. — невядомае імя
v. (voto) — тут: у шлюбе

# БІЯГРАМЫ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПАЎСТАННЯ 1863–1864 ГАДОЎ

## А

1. **Абадовіч Людвік** (Ододович Людвиг), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—116—166адв.)*.

2. **Абакановіч Аляксандр** (Абаканович Александр), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. Коўне, служыў у канцылярыі Ковенскага павятовага суда. Удзельнічаў у паўстанні, пры паланенні ў яго была забрана піка. Падазраваўся рас. уладамі ў нападзе на Рукойненскую пошту. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1——479—3; 320—1—398—132адв.; 1416—6—274; 1430—1—52163—599адв.)*.

3. **Абакановіч Баляслаў** (Абаканович Болеслав), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—3; 1430—1—52163—530адв.)*.

4. **Абакановіч Рамуальд** (Абаканович Ромуальд). Да паўстання служыў сакратаром Ковенскага павятовага суда. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—11, 15адв.)*.

5. **Абакевіч Сымон** (Обакевич Семен), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

6. **Абламовіч Міхал** (Абламович Михаил), сын Уладзіслава Міхалавіча, дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і аддадзены пад ПВС у г. Мінску. На маёнтак яго бацькі Малыя Жухавічы Навагрудскага пав. накладзена забарона. Ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. У далейшым вярнуўся на радзіму, прыпісаны да 3 стана Навагрудскага пав. 12.1876 знаходзіўся на прыватнай службе ў г. Нясвіжы *(295—1—1643—1адв.; 295—1—3026—34; 299—1—577—518-543адв.; 320—2—99—49; 1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—14)*.

7. **Абламовіч Станіслаў** (Абламович Станислав), памешчык Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да высылкі з радзімы без канфіскацыі маёмасці. Сасланы ў Арэнбургскую губ. У 1865 г. яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—679; 2532—1—15—14)*.

8. **Абрамовіч Адам** (Абрамович Адам), сын Юзафа, брат Іаахіма і Паўла, дваранін Мінскай губ. Нар. каля 1815 г. Да паўстання жыў у с. Сенітошчы Валынскай губ. Канфірмацыяй М. Анненкава прысуджаны (да 15.05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. Сасланы ў Енісейскую губ., адкуль у 1872 г. пераведзены ў г. Галіч Кастрамской губ. У 1874 г. атрымаў дазвол на пражыванне ва ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду. 04.1874 падаў прашэнне аб дазволе на прыбыццё на сталае жыхарства ў Мазырскі пав., дзе ў вак. Кустаўніца жылі яго браты. 17.10.1874 атрымаў гэты дазвол, але, не дачакаўшыся адказу, 09.1874 выехаў з Галіча ў г. Варшаву, дзе да яго дайшлі звесткі пра дазвол на вяртанне. 12.01.1875 выехаў з Варшавы ў Мінскую губ., у 1877 г. жыў у Мазырскім пав. *(162—1—116—108; 295—1—2537; 320—1—398—437; 320—2—98—30)*.

9. **Абрамовіч Антоні** (Абрамович Антон), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і спачуванне ім, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі з радзімы. Яго справа 17.04.1864 пададзена ЧВГМГ. Аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—1адв.; 1418—3—1—3адв.-4)*.

10. **Абрамовіч Ігнат** (Абрамович Игнатий), пляменнік *Шпакоўскага Тамаша*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з дзядзькам высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму; 12.1876 жыў у вак. Суцін, дзе з'яўляўся найманым работнікам *(295—1—2420—7адв.; 295—1—3026—31адв.)*.

11. **Абрамовіч Казімір** (Абрамович Казимир), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў аканомам фальв. Гарбаткі Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам, знаходзіўся пад следствам у ЧСК. 30.06.1863 яго справа перададзена магілёўскаму губернатару, 20.09.1863 — М. Мураўёву. Высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2514—1—2198—66адв.; 3366—1—5—1)*.

12. **Абрамовіч Казімір** (Абрамович Казимир), сын Апалінарыя, памешчык. Нар. каля 1843 г. Да паўстання валодаў маёнткам Немярынец Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Разам з *Адравальскім Юльюшам*, *Чаконскім Леанам*, *Шарамовічам Аляксандрам* уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Кіеўскай губ., пасля яго разбіцця (да 13.07.1863) ля м. Пагрэбіцы (Пагрэбішча) Бярдычаўскага пав. схаваўся ад рас. уладаў *(1527—1—4—16-17)*.

13. **Абрамовіч Мацей** (Абрамович Матвей), дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у м. Малін Радамысльскага пав. Кіеўскай губ. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй генерал-губернатара кіеўскага, падольскага і валынскага прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—138)*.

14. **Абрамовіч Міхал** (Абрамович Михаил), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні ў Ігуменскім пав., арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—85; 320—1—398—375; 1418—3—1—1адв.-2)*.

15. **Абрамовіч Юльян** (Абрамович Юлий), дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання арандаваў фальв. Чарніца і Шляхотчына Дзісенскага пав. графа Плятэра. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—3адв.; 319—1—479—3; 320—1—398—130; 1430—1—52163—399а, 605)*.

16. **Абрамовіч Ян** (Абрамович Иван), каталік. Паходзіў з Ігуменскага пав. Служыў шарагоўцам у войску, выйшаў у адстаўку. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, адкуль з'явіўся да рас. уладаў. Паводле рашэння ІСК вернуты на ранейшае месца жыхарства *(1418—3—1—2адв.-3)*.

17. **Абрамовіч N.** (Абрамович N.), аднадворац. Абвінавачаны ў захоўванні паўстанцаў, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. *(295—1—1643—4)*.

18. **Абрамоўскі Ежы** (Абрамовский Юрий), дваранін Дзісенскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў паўстанцкі атрад, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

19. **Абрамоўскі Юльюш** (Абрамовский Юлиус), сын Мікалая, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

20. **Абрампальскі (Аўранпальскі) Караль-Пётр** (Обрампальский (Овронпальский) Карл-Петр), сын маршалка Дзісенскага пав. Антонія, дваранін. Нар. каля 1832 г. Служыў у рас. войску, падпаручнік. Да паўстання яго бацькі і сваякі валодалі маёнткамі Рудня, Раманка, Зосіна, Бардзіловічы і Астроўшчына Лепельскага і Полацкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, чына, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніку на 12 гадоў. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. На маёнткі сваякоў накладзена забарона. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 319—1—479—23; 320—1—398—37-53адв., 63, 135, 527; 320—2—98—42адв.; 1416—3—21048—38, 38адв.; 1430—1—52163—408, 596а; 2616—1—40—13)*.

21. **Абрампальскі Міхал** (Обрампальский Михаил), сын Аўгустына, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Сворачына (Сваранщчына, Сварадшчына, Нача-Сварадшчына) Лепельскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 24.07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(296—1—25—102; 319—1—479—22адв.; 231; 1416—3—21048—38адв.; 1416—4—11416—326; 1430—1—52163—451адв., 569адв.; 3046—2—5—38)*.

22. **Абрампальскі Фелікс** (Обромпальский Феликс), сын Пятра, брат Антонія, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Бяздзедавічы Лепельскага пав., разам з братам маёнткамі Ражаншчына і Астроўшчына Лепельскага пав. і часткай маёнтка Рудня Полацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 09.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму гу-

бернатару. Потым «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. На падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 07.07.1864 і ўказа ВГП ад 11.07.1864 на яго частку Рудні 02.09.1864, Бяздзедавічаў і Ражаншчыны 10.1864 накладзены секвестр. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 маёнткі падлягалі вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага 30-працэнтнага збору *(1416—3—21048—38адв.; 1416—4—11416—84адв., 285-286, 289адв.-291адв.; 1430—1—31600—76; 1430—1—52163—414адв., 430адв., 445, 447, 449, 540адв., 821, 822; 3046—2—3—60адв.-61; 3046—2—5—38).*

23. **Абрампальскі Францішак** (Обрампальский Франциск), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам у Дзісенскім пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Ваенным судом прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—9адв.; 2532—1—15—12).*

24. **Абрыцкі Базыль (Войцех)** (Обрицкий Василий (Альберт)). Служыў у рас. войску, удзельнічаў у Крымскай вайне (1853–1856), узнагароджаны бронзавым медалём у памяць аб ёй. Да паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Канфірмацыяй А. Патапава ад 02.03.1865 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў Сібір на 10 гадоў *(160—2—682—104; 162—1—122—23; 295—1—1643—167; 534—1—14—37).*

25. **Абуховіч Напалеон** (Обухович Наполеон), сын Яна Рафалавіча, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. 14.01.1840. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, валодаў маёнткамі Круговічы і Навадворкі Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*. 20.04.1863 паранены ў левае плячо ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав., узяты ў палон са зброяй у руках. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 ссылка заменена на 4 гады катаргі на заводах. Сасланы. Да 1875 г. атрымаў частковую амністыю і прыбыў на часовае знаходжанне на радзіму. У 1875 г. падаваў прашэнне аб дазволе застацца на сталае жыхарства ў Мінскай губ., якое было задаволена. 12.1876–03.1880 жыў у Круговічах, дзе займаўся гаспадаркай. *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—2728; 295—1—3026—15адв.-16; 295—1—3492—7, 88адв.; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—518-543адв.; 319—1—479—23; 320—1—398—326-327адв., 340; 320—2—98—42адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—10адв.; 1525—1—2—4адв.-5).*

26. **Абуховіч Оттан** (Обухович Оттон), сын Пятра, дваранін Гродзенскага пав., каталік. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у маёнтку Жабіхава Ігуменскага (?) пав. графа Патоцкага. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 12 гадоў. Канфірмацыяй катарга заменена на ссылку на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—103; 319—1—479—23; 320—1—398—326-327адв.; 320—2—98—42адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—10адв.; 1525—1—2—5адв.-6).*

27. **Абуховіч Фелікс** (Обухович Феликс), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Заблудава Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

28. **Абухоўскі Леан** (Обуховский Лев). Да паўстання служыў у канцылярыі Ваўкавыскага павятовага паліцэйскага ўпраўлення. Падчас паўстання ўзяў білет на паездку ў Лідскім пав. Пасля заканчэння тэрміну не з'явіўся на месца службы. Звольнены і ваўкавыскім ваенным начальнікам прызнаны ўдзельнікам паўстання. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе рапарта згаданага ўпраўлення ад 10.08.1863 і пастановы ГГП ад 27.08.1864 *(1416—6—226).*

29. **Абядзінскі Антоні** (Обедзинский Антон), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

30. **Авяр'янаў Васіль** (Аверьянов Василий), сын Мікалая. Да паўстання служыў прыставам 3 стана Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам, арыштаваны і зняволены ў фартэцыі г. Дынабурга. Аддадзены пад ПВС, па справе праходзіў разам з *Чаховічам Аўгустам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.11.1866 прызнаны вінаватым у «адсутнасці належнага нагляду

за асобамі, што пражывалі ў Жаўноўскай і Нацкай валасцях» і прысуджаны да звальнення са службы і арышту на 1 тыдзень. Пакаранне адбыў у Дынабургу *(1416—4—11782)*.

31. **Агінская Марыя** (Огинская Мария), пруская падданая. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» за межы Рас. імперыі *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

**Аградніцкі-Есіповіч Калікст** — гл. **Есіповіч-Аградніцкі Калікст**

32. **Агрызка Андрэй** (Огризко Андрей), сваяк *Феліцыяна* (?), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у м. Красналучка Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—106; 295—1—1643—157)*.

33. **Агрызка Феліцыян** (Огризко Фелициан), сваяк *Андрэя* (?), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у м. Красналучка Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—106; 295—1—1643—157)*.

34. **Агрызка Язафат** (Огрызко Иосафат), дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у г. СПб, служыў віцэ-дырэктарам Дэпартамента неакладных збораў Міністэрства фінансаў, калежскі радца. Арыштаваны за прыналежнасць да патаемнай арганізацыі ў СПб, якая ставіла мэтай узняцце паўстання ў СПб з мэтай падтрымкі яго на землях былой Рэчы Паспалітай. Прысудам ПВА ў г. Вільні ад 26.12.1865, канфірмаваным К. фон Каўфманам, прысуджаны да пазбаўлення ўзнагарод, чыноў, правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 20 гадоў *(160—2—683—5; 320—1—398—758-760; 2003—1—474—4-5, 8 і інш.)*.

35. **Агуркевіч Аляксандр** (Огуркевич Александр), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—22адв.)*.

36. **Адаменка Даніэль** (Адаменко Данила), брат *Пятра*, каталік. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў турме ў г. Мінску. Дзеля вызвалення падаваў прашэнне аб прыняцці праваслаўя, але гэта не дапамагло. У 1863 г. сасланы ў Яраслаўскую арыштанцкую роту *(295—1—1643—3; 296—1—75—25-25адв.)*.

37. **Адаменка Пётр** (Адаменко Петр), брат *Даніэля*, каталік. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў турме ў г. Мінску. Дзеля вызвалення падаваў прашэнне аб прыняцці праваслаўя, але гэта не дапамагло. У 1863 г. сасланы ў Разанскую арыштанцкую роту *(296—1—75—25-25адв.)*.

38. **Адамковіч Цэзар** (Адамкович Кесарь), сын Казіміра, памешчык. Да паўстання арандаваў маёнтак Мацкішкі Лідскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі і забеспячэнні іх адзеннем, прыпасамі і інш. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

39. **Адамовіч Антоні** (Адамович Антон), сын Фларыяна, дваранін Віленскага пав., каталік. Нар. каля 1830 г. Служыў у Новаархангельскім пяхотным палку рас. войска, размешчаным у г. Сувалках Каралеўства Польскага, у чыне падпаручніка. 08.1862 атрымаў загад прыбыць у Жытомірскі пяхотны полк, размешчаны ў г. Балта Камянец-Падольскай губ. Аднак замест гэтага прыбыў да сваёй сястры, якая служыла гувернанткай у маёнтку Вусвіца Полацкага пав. *Сасноўскага Маўрыцыя*. Адсюль 11.1862 падаў прашэнне аб адстаўцы ў сувязі з «хатнімі абставінамі». Падчас паўстання западозраны ў намеры далучыцца да бешанковіцкага атрада *Дыкі Уладзіслава* і 26.04.1863 арыштаваны сялянамі ў маёнтку Саннікі Лепельскага пав. разам з *Прасецкімі Каралем* і *Рудольфам* і *Спасоўскім Дамінікам*. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 17.01.1864 выдала пастанову аб зняволенні яго ў турэмным замку і секвестры яго маёмасці. На следстве і судзе доказаў для абвінавачання не хапала, аднак пастановай ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 24(?).04.1865 А. Патапавым, пакінуты ў «моцным падазрэнні» і як «цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прызначаны да ссылкі на сталае жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Томскую губ. без пазбаўлення правоў *(1416—4—11416—242-255; 1430—1—31602—48-51; 3046—2—3—2адв.-3; 3046—2—5—1)*.

40. **Адамовіч Віктар** (Адамович Виктор), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—224адв.)*.

41. **Адамовіч Ігнат** (Адамович Игнатий), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маё-

масці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска *(319—1—479—3; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

42. **Адамовіч Марыяна** (Адамович Марьянна), маці Міхала і *Яна*, жонка Францішка, дваранка Ігуменскага пав. Западозрана ў сувязях з паўстанцамі і «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах», арыштавана. У 1864 г. аддадзена пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 14.07.1864 прызначана да ссылкі на сталае жыхарства ў Казанскую губ. з сынам пад нагляд паліцыі; на яе маёмасць накладаўся секвестр. У 1869 г. жыла з *Янам* пад наглядам паліцыі ў г. Цывінску Казанскай губ., дзе атрымала частковую амністыю з правам перасяліцца ў «Прывісленскі край». 06.03.1869 атрымала пасведчанне для пераезду ў г. Варшаву *(162—1—116—126, 157, 166; 295—1—1643—5адв.; 295—1—1997; 320—1—398—523; 1416—4—11416—83адв.; 1430—1—52163—552адв.).*

43. **Адамовіч Эдвард** (Адамович Эдуард), памешчык. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Разаліна Себежскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Потым «адміністрацыйным парадкам» без пазбаўлення правоў стану высланы на жыхарства ў Архангельскую губ. На маёнтак маці накладзены секвестр паводле распараджэння Э. Длатоўскага ад 19.07.1863; пазнеў паводле распараджэння М. Мураўёва ад 15.11.1863 секвестр зняты са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору. У 1871 г. атрымаў дазвол на прыбыццё ў Віцебскую губ. на 3 месяцы *(1416—3—21048—1; 1430—1—35146—128; 1430—1—52163—51, 568адв.; 1430—1—52285—5, 35адв.-37, 42адв.; 3046—2—5—1).*

44. **Адамовіч Юзаф** (Адамович Осип), сын Юзафа і Альжбеты Ігнатаўны (2 v. Глінкі), дваранін. Да паўстанні жыў з маці ў маёнтку айчыма інжынер-падпалкоўніка ў в. Сілічы Чэрыкаўскага пав., маці валодала маёнткам Броды Невельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны (паміж 20.06.1863 і 16.08.1863). Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 25.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Арцімовіча Максімільяна.* На яго маёмасць накладаўся секвестр, які зняты толькі ў 1865 г., а на маёнтак маці Броды накладзена забарона *(1416—3—21048—1; 1430—1—52163—422адв.; 2003—1—223; 3366—1—5—1адв.).*

45. **Адамовіч Ян** (Адамович Иван), памешчык. Да паўстання разам з братамі і сястрой валодаў на правах суспадчынніка маёнткам Грабянец Ігуменскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, таму Грабянец секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 29.07.1864 *(296—1—89—9адв., 71).*

46. **Адамовіч Ян** (Адамович Иван), сын Рамана, мешчанін г. Мінска, каталік. Нар. каля 1832 г. Да паўстання служыў падмайстрам у слесара Русецкага. 19.04.1863, «па намаўленні шаўца Вярбіцкага», пакінуў з іншымі асобамі г. Мінск і далучыўся да паўстанцкага атрада *Трусава Антонія* ў Ігуменскім пав. У атрадзе атрымаў шаблю і пісталет і прабыў у яго складзе каля 2 тыдняў. Пасля рассеяння атрада рас. войскамі ўцёк і прыбыў у дом сваёй маці, якая жыла ў в. Каменка Ігуменскага пав., дзе пражыў да канца чэрвеня. 30.06.1863 ва Уздзенскім валасным праўленні атрымаў пасведчанне на вольнае вяртанне ў г. Мінск. 04.07.1863 прыбыў да мінскага паліцмайстра, якому сцвярджаў, што прабыў у атрадзе толькі 2 дні, пасля чаго захварэў і пакінуў яго. 05.04.1863 перададзены ў МСК, якая высвятліла падрабязнасці яго ўдзелу ў паўстанні. Арыштаваны, зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загаду ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 31.10.1863. Яго справа 26.10.1863 пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Смаленскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1643—2адв.; 295—1—1566; 296—1—90—9адв.-10; 299—1—579—298-307; 319—1—479—3; 1416—4—11416—83адв.; 1430—1—52163—206).*

47. **Адамовіч Ян** (Адамович Иван), сын Францішка і *Марыяны*, брат Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Рашэннем ІСК «пакінуты ў падазрэнні». У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 14.07.1864 прызначаны да ссылкі на сталае жыхарства ў Казанскую губ. разам з маці; на яго маёмасць накладаўся секвестр, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлегла абавязковаму продажу. У 1869 г. жыў з маці пад наглядам паліцыі ў г. Цывінску Казанскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з правам перасяліцца ў «Прывісленскі край»; 06.03.1869 атрымаў пасведчанне для пераезду ў г. Варшаву *(162—1—116—126, 157, 166; 295—1—1643—5адв.; 295—1—1997; 320—1—398—523; 1418—3—1—2адв.-3; 1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—13).*

48. **Адамоўскі Ксаверы** (Адамовский Ксаверий), шляхціц Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—3адв.; 1430—1—52163—530адв.).*

49. **Адамчэўскі Андрэй** (Адамчевский Андрей), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Кнышын Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

50. **Адравальскі Юльюш** (Одржевальский Юлиуш), сын Вінцэнта, дваранін Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1844 г. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Блажэеўка Бярдычаўскага пав. Разам з *Абрамовічам Казімірам*, *Чаконскім Леанам*, *Шарамовічам Аляксандрам* уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Кіеўскай губ., пасля яго разбіцця (да 13.07.1863) ля м. Пагрэбіцы (Пагрэбішча) Бярдычаўскага пав. схаваўся ад рас. уладаў *(1527—1—4—16-17).*

51. **Адравольскі Зыгмунт** (Одржевольский Сигизмунд), аўстрыйскі падданы. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада кіеўскага генерал-губернатара ад 11.11.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 14.11.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

52. **Адуцкевіч Канстанцін** (Адуцкевич Константин), сын Якуба, дваранін. Нар. каля 1821 г. Да паўстання служыў мінскім акруговым наглядчыкам па піцейным зборы. 08.08.1863 западозраны ў развозе паўстанцкіх пракламацый і пораху. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая не знайшла доказаў віны і 01.04.1864 падала сваё заключэнне магілёўскаму губернатару. Падчас следства заставаўся на волі на паруках *(3257—1—14—1).*

53. **Адынец Антоні** (Одынец Антон), сын Яна, дваранін. Нар. у Вілейскім пав. Да паўстання служыў засядальнікам Барысаўскага павятовага суда, калежскі асэсар ці тытулярны радца. За спачуванне «палітычнаму руху» і ўдзел у «сходах асоб нядобранамерных» загадам У. Назімава ад 05.04.1863 прызначаны да звальнення са службы. Загадам М. Мураўёва і на падставе яго распараджэннем ЧВГМГ ад 30.09.1863 за «шкодны ўплыў на грамадства» прызначаны да ссылкі пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр. 10.10.1863 адпраўлены праз г. Вільню (11.10.1863) на месца ссылкі *(162—1—116—166; 295—1—1610—1-5, 8-9адв., 22-37).*

54. **Адынец Браніслаў** (Одынец Бронислав), дваранін. Да паўстання служыў пісьмаводам у Вілейскай дваранскай апецы. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 26.06.1863 і пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—210).*

55. **Адынец Зыгмунт** (Одынец Сигизмунд), сын Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў «дальнія губерні». 15.02.1864 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—54адв.-55).*

56. **Адынец Лаўра** (Одынец Лаура), жонка *Уладзіслава*, дваранка Віленскай губ. Да паўстання жыла ў г. Вільні, разам з мужам валодала маёнткам Гінэйцішкі Троцкага пав. Западозрана рас. уладамі ў дастаўцы харчавання ў паўстанцкі атрад. Яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджана (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—23; 1416—6—274; 1430—1—52163—204адв.).*

57. **Адынец Леан** (Одынец Леон), памешчык. Да паўстання яго жонка валодала маёнткамі Бенева і Вязавец Вілейскага пав. (1109 дзес. зямлі). За ўступленне сына ў паўстанцкі атрад яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

58. **Адынец Міхал** (Одынец Михаил), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання яго маці арандавала маёнтак Гяйстуны Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

59. **Адынец Напалеон** (Одынец Наполеон), сын Антонія, свёкр *Праневіча Людвіка*, памешчык. Да паўстання жыў у сваім маёнтку Цярэхаў (Церасава) Барысаўскага пав. За прыём у сваім доме зяця, які меў дачыненне да паўстання, на яго маёмасць у 1863 г. накладзена забарона *(295—1—1527—76; 296—1—25—61-62, 66).*

60. **Адынец Рыгор** (Одынец Григорий), селянін. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыкаў Лапаў. Абвінавачаны ў антыўрадавай агітацыі, у 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—157).*

61. **Адынец Севярын** (Одынец Северин), дваранін, сын аканома маёнтка Вішнева Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам»

высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

62. **Адынец Уладзіслаў** (Одынец Владислав), муж *Лаўры*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гінэйцішкі Троцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дастаўцы харчавання ў паўстанцкі атрад. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

63. **Адынец Уладзіслаў** (Одынец Владислав), незацверджаны дваранін. Да паўстання служыў лакеем у памешчыка Чарноцкага ў г. Коўне. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131; 1430—1—52163—598).*

**Адынец Уладзіслаў** — гл. **Ардынец Уладзіслаў**

64. **Адынец Ян** (Одынец Ян). Да паўстання служыў канцылярыстам Барысаўскага павятовага суда. 19.04.1863 выехаў з г. Барысава і прыбыў з *Чыжыкам Мельхіёрам* у маёнтак Смаляры Барысаўскага пав. *Бачызмальскага Леанарда*, 20.04.1863 вярнуўся адзін у Барысаў, арыштаваны. Паводле пастановы следчай камісіі высланы з радзімы[42] *(295—1—1527—79, 81адв.-82; 295—1—1547—1-1адв.; 295—1—1643—159, 163; 1430—1—52285—31).*

65. **Ажамецкі Адам** (Ожемецкий Адам). Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

66. **Ажароўскі Казімір** (Ожаровский Казимир), граф. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Потым служыў міравым пасярэднікам у Кобрынскім пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. с жонкай і трыма дзецьмі. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25; 2532—1—15—8).*

67. **Ажэшка Люцыян** (Оржешко Люциан), сын Леапольда, дваранін Себежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. У 1863 г. «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Пермскую губ. На яго маёмасць 05.10.1863 на падставе распараджэння ваеннага начальніка Віцебскай губ. ад 23.09.1863 накладзены секвестр. У 1874 г. атрымаў дазвол і вярнуўся на радзіму. У 1878 г. жыў у Себежскім пав., атрымаў дазвол на выезд у г. СПб «па справе спадчыны яго жонкі» *(1416—3—21048—38; 1430—1—31307—116адв.; 1430—1—36211—7-12; 1430—1—36386—16-20; 1430—1—52163—416адв.; 3046—2—5—38).*

68. **Ажэшка Пётр** (Оржешко Петр), памешчык Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8).*

69. **Ажэшка Станіслаў** (Оржешко Станислав), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніkі на 15 гадоў *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—221адв.).*

70. **Азямблоўскі Адам** (Оземблoвский Адам). Да паўстання служыў сакратаром Мінскай гарадской думы, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

71. **Азямблоўскі Віктар** (Оземблoвский Виктор), сын *Станіслава*, дваранін Мінскага ці Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у Ігуменскім пав. У паўстанні знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі маёнтка Вяляцічы Барысаўскага пав. і перададзены рас. уладам. 13.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 31.07.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(162—1—122—10; 295—1—1527—101адв.; 295—1—1643—158, 160адв.; 319—1—479—23; 320—1—398—124, 244, 423; 320—2—98—42адв.; 1416—6—233; 1430—1—52163—596б; 2514—1—2198—69).*

72. **Азямблоўскі Зыгмунт** (Оземблoвский Сигизмунд), дваранін Віленскага пав. Вучыўся ў будаўнічым вучылішчы. Яго бацькі валодалі 2 дамамі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—128адв.; 1416—3—21048—38адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

[42] Магчыма, некаторыя звесткі з гэтай біяграмы тычацца *Адынца Антонія.*

73. **Азямбоўскі Ігнат** (Озембловский Игнатий), дваранін. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні і ў 1864 г. арыштаваны *(295—1—1643—162)*.

74. **Азямблоўскі (Азямблоцкі) Станіслаў** (Озембловский (Оземблоцкий) Станислав), сын Ануфрыя, брат Ігната, бацька *Віктара*, памешчык. Да паўстання валодаў разам з братам 500 дзес. зямлі ў вак. Арэшкавічы Ігуменскага пав. Западозраны ў захоўванні свайго сына-паўстанца і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 30.01.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. Прызначаны да ссылкі ў Сібір, яго зямля 11.1864 секвестравана паводле распараджэння МГГ ад 05.05.1864 і аддадзена ў карыстанне брата з абавязкам яго частку даходу ўносіць у казну. Высланы ў Казанскую ці Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, а ў 1867 г. з яе зняты секвестр *(27—1—800; 27—1—802—1; 162—1—116—103, 166; 295—1—1643—166адв.; 296—1—89—9адв., 37адв.-38, 71адв.; 1418—3—1—55адв.-56; 2532—1—15—13)*.

**Азямблоцкі Станіслаў** — гл. **Азямблоўскі Станіслаў**

75. **Акаловіч Ігнат** (Околович Игнатий), сын Яна, дваранін. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму. 12.1876 з жонкай Францішкай, братам Казімірам, сынам Адольфам жыў ва ўроч. Дражня Ігуменскага пав., дзе служыў на чыгунцы *(295—1—3026—32адв.)*.

76. **Акаловіч Францішак** (Околович Франц), сын Яна, дваранін Мінскага пав. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166)*.

**Акец-Акрэйц Уладзіслаў** — гл. **Якец-Акрэйц Уладзіслаў**

77. **Акімаў**[43] **Філіп** (Акимов Филип), селянін. За зачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—1адв.)*.

78. **Акінчыц Вітальд** (Окинчиц Витольд), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540)*.

79. **Акінчыц Людвік** (Окинчич Людвиг), дваранін. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у Ваўкавыскім пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

80. **Акінчыц N. (Окинчиц N.)**, ксёндз. За ўдзел у паўстанні канфіскаваны і прададзены яго адзенне, бялізна і хатні рыштунак паводле ўказа ПДМ ад 06.04.1864 *(296—1—89—24)*.

81. **Акко Напалеон** (Акко Наполеон), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Чычын Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863. Затым сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—207; 2532—1—15—2)*.

82. **Акко Ян** (Акко Иван), сын Станіслава, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Уйжусолі Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—3; 1416—6—281)*.

83. **Акмянскі Уладзіслаў** (Окмянский Владислав), незацверджаны дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—23; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598)*.

84. **Аколава Амелія** (Околова Амелия), дачка Эдварда, сястра *Казіміра*, дваранка. У 1862 г. жыла ў м. Друскенікі Гродзенскага пав. Да паўстання не была замужам. За ўтрыманне альбома за партрэтамі «нядобранадзейных асоб» арыштавана і зняволена (да 09.07.1864) у г. Мінску. Знаходзілася пад следствам у ССК, потым у МСК. У 1864 г. аддадзена пад ПВС і прызначана да высылкі з радзімы *(295—1—1643—158адв., 162адв.; 295—1—1646—4-7; 1524—1—1—10адв.)*.

85. **Аколава** (народжаная **Галяеўская) Вінцэнта (ці Вікторыя)** (Околова (урожденная Голеевская) Викентия (ці Виктория)), дачка Тамаша, жонка Яна Антоніевіча ці Францішка Янавіча, дваранка Ігуменскага пав. Да паўстання стала ўдавой, жыла ў вак. Суцін Ігуменскага пав. У 1864 г. разам з сынамі Францішкам, Ігнатам і Казімірам і дачкой Ружай выслана ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельныя ўладанні ў 240 дзес. канфіскаваны *(295—1—2420—4адв.; 320—2—98—8, 16 і інш.)*.

[43] Верагодна, гэта імя па бацьку.

86. **Аколаў Аляксандр** (Околов Александр), сын Тэадора Бенядыктавіча, дзядзька *Паўла* і *Юзафа*, брат *Кацярыны*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 07.10.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Разам з пляменнікамі «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Да 1870 г. выехаў у Каралеўства Польскае, потым атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму; 12.1876–06.1882 жыў у вак. Валадута *(295—1—2420—15; 295—1—3026—33; 295—1—3492—69, 88; 320—2—98—54-58; 1418—3—1—54адв.-55).*

87. **Аколаў Казімір** (Околов Казимир), сын Эдварда, брат *Амеліі*, дваранін Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў вярбоўцы маладых людзей для паўстанцкіх атрадаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—162адв.; 1524—1—1—10адв.).*

88. **Аколаў Павел** (Околов Павел), сын Роберта, пляменнік *Аляксандра*, стрыечны брат *Юзафа*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з дзядзькам, сёстрамі Вікторыяй і Паўлінай, стрыечным братам (з сям'ёй) «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля атрымання амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Валадута *(295—1—2420—15адв.; 295—1—3026—33адв.; 295—1—3492—69адв., 88).*

89. **Аколаў Францішак** (Около Франц), сын Яна, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—11).*

90. **Аколаў Францішак** (Около Франц), шляхціц Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання ў 1865 г. аддадзены пад ПВС. Сасланы ў Табольскую губ. Яго зямельная маёмасць, якой ён валодаў на правах суспадчынніка (240 саж.) канфіскавана *(295—1—1643—167; 295—1—2830—8; 2532—1—15—13адв.).*

91. **Аколаў Юзаф** (Околов Иосиф), сын Францішка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 07.10.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы «адміністрацыйным парадкам» у Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Валадута *(295—1—1643—165адв.; 295—1—3026—33; 295—1—3492—69адв., 88; 1418—3—1—54адв.-55).*

92. **Аколаў Юзаф** (Околов Иосиф), сын Яна, пляменнік *Аляксандра*, стрыечны брат *Паўла*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з дзядзькам, сёстрамі Антанінай і Анеляй, стрыечным братам (з сям'ёй) высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—15адв.).*

93. **Акрэйц Ян** (Акрейц Иван), дваранін Ковенскай (?) губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573).*

**Акрэйц-Якец Уладзіслаў** — гл. **Якец-Акрэйц Уладзіслаў**

94. **Аксамітоўскі Юльян** (Аксамитовский Юлиан), дваранін Варшаўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—66адв.).*

95. **Аксяновіч Юзаф** (Аксенович Иосиф), сын Міхала, селянін Слуцкага пав., каталік. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—1).*

96. **Акулаў**[44] **Астап** (Акулов Остап), сваяк *Юзафа*, селянін. Да паўстання прыпісаны да в. Саснягі Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*, пасля чаго добраахвотна з'явіўся (да 01.05.1863) да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 15.10.1864 яшчэ не скончыла яго. Сцвярджаў, што забраны ў атрад гвалтоўна. Падчас следства знаходзіўся на волі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвалення ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасялення на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560; 3046—2—3—3адв.-4).*

97. **Акулаў**[45] **Юзаф** (Акулов Иосиф), сваяк *Астапа*, селянін Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*, добраахвотна з'явіўся (да 01.05.1863) да рас. уладаў.

---

[44] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[45] Тое ж.

Знаходзіўся пад следствам у ВСК (?), на якім сцвярджаў, што забраны ў атрад гвалтоўна. Падчас следства знаходзіўся на волі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвалення ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасяленні на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560)*.

98. **Акуліч Адам** (Окулич Адам), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12)*.

99. **Акуліч Баляслаў-Юзаф** (Окулич Болеслав-Иосиф), сын Бенядыкта Казіміравіча і Караліны, брат *Казіміра-Юстына* і *Мечыслава-Эдварда*, памешчык Ігуменскага пав. Хр. 01.10.1833. У 1861 г. служыў у Мінскім губернскім праўленні, чыноўнік XIV класа. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Ганута Ігуменскага пав. (525 дзес. зямлі) і 60 дзес. зямлі ў Вілейскім пав. 20.04.1863 адправіўся ў вак. Суцін Ігуменскага пав., дзе ўвайшоў у склад атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*. Вёў дзённік паходаў у атрадзе. Разам з іншымі ўдзельнічаў у нарадзе, якая прыняла рашэнне аб павешанні 23(24?).05.1863 у с. Багушэвічы Ігуменскага пав. святара Д. Канапасевіча. Удзельнічаў таксама ў сутычках з рас. войскамі 29.04.1863 ля м. Ляды Ігуменскага пав., 09.05.1863 паміж вёскамі Юрэвічы і Мікулічы Ігуменскага пав. і 09.06.1863. Пасля апошняй адбіўся ад атрада, некалькі дзён прабіраўся ў фальварак сваёй маці, але 12.06.1863 схоплены казакамі ў фальв. Малая Ганута Ігуменскага пав. Зняволены ў г. Ігумене. 15.06.1863 без вытворчасці следства адасланы ў г. Мінск, дзе знаходзіўся пад следствам у МСК. Яго частка маёнтка Малая Ганута Ігуменскага пав., якім валодала яго сям'я, секвестравана паводле распараджэння МГП ад 30.07.1863. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 26.10.1863 аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку, які 02.11.1863 скончыў справу. Канфірмацыяй В. Забалоцкага ад 13.11.1863 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і расстрэлу. 16.11.1863 расстраляны ў с. Багушэвічы. *(162—1—116—10; 295—1—1643—157адв., 161адв.; 296—1—56; 296—1—89—35адв.-36; 299—1—577—550-554; 319—2—2309—664, 674, 720, 768-770 і інш.; 320—1—398—114-116а; 320—2—98—42адв.; 1416—6—203; 1418—3—1—54адв.-55)*.

100. **Акуліч Казімір-Юстын** (Окулич Казимир-Устин), сын Бенядыкта Казіміравіча і Караліны, брат *Баляслава-Юзафа* і *Мечыслава-Эдварда*, памешчык Ігуменскага пав., каталік. Хр. 06.06.1843. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Малая Ганута Ігуменскага пав. (525 дзес. зямлі) і 60 дзес. зямлі ў Вілейскім пав. У паўстанні 19.04.1864 уступіў у атрад *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*, дзе быў на працягу 2 месяцаў. Пасля адной з сутычак адбіўся ад атрада, пасля чаго добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў і зняволены ў г. Ігумене. 15.06.1863 без вытворчасці следства адасланы ў г. Мінск. 27.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Мінскім батальёне ўнутранай варты (яго пастановы ад 14.09.1863 і 01.11.1863). 25.11.1863, знаходзячыся ў мінскім шпіталі, падаў на імя ЧВГМГ В. Забалоцкага прашэнне, у якім сцвярджаў, што далучыўся да паўстання выключна пад пагрозамі («я нявольна прыняў удзел у мяцяжы, не ведаючы нават мэты яго») і сам добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Яго частка маёнтка Малая Ганута секвестравана паводле распараджэння МГП ад 30.07.1863. Нягледзячы на спробу апраўдацца, на судзе яго сцвярджэнне аб гвалтоўным прыцягненні ў атрад не было ўлічана («не заслугоўвае верагоднасці») і прызнана спосабам пазбегнуць пакарання («выказаная нераскаянасць пры допытах выкрутлівымі тлумачэннямі»). Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў дваранства, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаржныя працы на заводах на 4 гады. У 1865 г. яму вернуты правы дваранства. *(162—1—116—85; 295—1—1643—157адв., 166адв.; 296—1—31; 296—1—56—1адв., 15адв.; 296—1—89—35адв.-36; 319—2—2309—664, 674, 720 і інш.; 320—1—398—375-376; 320—2—98—42адв.; 1418—3—1—54адв.-55; 1430—1—52163—167)*.

101. **Акуліч Канстанцін** (Окулич Константин), сын Юзафа Данілавіча, дваранін Мінскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1840 г. У 1862 г. закончыў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт са ступенню доктара. Да паўстання выконваў абавязкі барысаўскага павятовага доктара. 19.04.1863 выехаў з г. Барысава ў м. Халопенічы Барысаўскага пав., пасля чаго далучыўся да паўстанцаў. Потым добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў мясцовай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». У 1864 г. сасланы. Пасля амністыі 1871 г. атрымаў вяртанне правоў дваранства і дазвол на пераезд у Пермскую губ. У 1872 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з дазволам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц,

сталічных і «заходніх» губ. У 1874 г. паступіў на службу земскім доктарам Пермскага пав. 07.06.1877 пераведзены на пасаду ўчастковага доктара Уральскай горназаводскай чыгункі. Указам Сената ад 28.03.1880 узнагароджаны чынам тытулярнага радцы. У 1881 г. жыў у г. Вярэцье Салікамскага пав. Пермскай губ. Жанаты з Надзеяй Міхайлаўнай Крутоўскай, з якой меў дзяцей Юзафа (нар. 13.11.1871), Марыю (нар. 08.01.1874), Алену (нар. 30.04.1877) *(295—1—1527—79, 82, 102адв.; 295—1—1588; 295—1—1643—158, 161адв.; 319—2—2309—248, 1295—1296, 1300—1305; 1416—1—247).*

102. **Акуліч Мечыслаў-Эдвард** (Окулич Мечислав-Эдуард), сын Бенядыкта Казіміравіча і Караліны, брат *Баляслава-Юзафа* і *Казіміра-Юстына*, памешчык Ігуменскага пав. Хр. 08.07.1836. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Малая Ганута Ігуменскага пав. (525 дзес. зямлі) і 60 дзес. зямлі ў Вілейскім пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Яго частка маёнтка Малая Ганута, якім валодала яго сям'я, секвестравана паводле распараджэння МГП ад 30.07.1863. Рашэннем ІСК прысуджаны да вызвалення. 03.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(296—1—56—26адв.; 296—1—89—35адв.-36; 319—2—2309—664, 674, 720 і інш.; 1418—3—1—54адв.-55).*

103. **Акуліч Міхал** (Окулич Михайло). Да паўстання служыў пісарам Хізаўскага валаснога праўлення Рагачоўскага пав. Схоплены падчас разбіцця паўстанцкага атрада ля в. Тошчыца Рагачоўскага пав. 29.07.1863 яго адзенне на суму 1,5 руб. ср. апісана і секвестравана *(2003—2—46).*

104. **Акуліч Пётр-Міхал** (Окулич Петр-Михайло), сын Міхала, дваранін Магілёўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—222адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—25).*

105. **Акуліч Уладзіслаў** (Окулич Владислав), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні ў Ігуменскім пав., арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 16.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—85; 320—1—398—375; 320—2—98—42адв.; 1418—3—1—54адв.-55).*

106. **Акуліч Юзаф** (Окулич Осип), сын Даніэля Янавіча, брат Базыля, муж Ганны, бацька Канстанціна, Ігната Мікалая і Даніэля (хр. 05.08.1858), дваранін Мінскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864. Пазней атрымаў дазвол вярнуцца, з яго маёмасці зняты секвестр *(162—1—116—124; 295—1—1643—163адв., 167; 299—1—579—165-177; 319—2—2309—720, 755; 320—1—398—462адв., 528; 2616—1—40—58адв.).*

107. **Акуліч Ян** (Акулич Иван), сын Антонія, дваранін Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вярнулі ў яго валоданне *(2514—1—2198—66).*

108. **Акуліч-Казарын Людвік-Пётр** (Окулич-Казарин Людвиг-Петр), сын Антонія, каталік. Да паўстання служыў у канцылярыі Магілёўскай палаты грамадзянскага суда. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны (да 14.06.1863) і зняволены ў магілёўскіх казармах. Яго рухомая маёмасць у г. Магілёве (куфар і ложак) на суму ў 1,4 руб. 06.1863 апісана і секвестравана. У 1863 г. звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Астанькові Ян* і *Жыжэмскі Людвік*. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—23адв.; 1416—3—21048—38; 1430—1—52163—395; 2003—1—388; 2003—2—96—25; 3257—2—2—13, 17).*

109. **Акульскі Францішак** (Окульский Франц), дваранін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—23).*

110. **Акушка Антоні** (Окушко Антон), сын Міхала і Караліны Казіміраўны (пам. 06.11.1864), стрыечны брат Монікі Юзафаўны Прабароўскай, дваранін Лепельскага пав. У 1862 г. шмат ездзіў па «заходніх губернях», распаўсюджваў агітацыйную літаратуру, у тым ліку беларускамоўны верш «Pieśni Nabożnyja». Таму 02.07.1862 віцебскім губернатарам выдадзены загад аб яго арышце, пасля чаго за ім заснаваны паліцэйскі нагляд. Падчас паўстання западозраны ў дапамозе паўстанцам і, паводле загада віцебскага губернатара ад 27.05.1863 арыштаваны 01.06.1863 лепельскім павятовым спраўнікам і зняволены ў турме г. Лепеля. Пры вобшуку ў яго знойдзены порах, парахаўніца і пістоны. 17.06.1863 адпраўлены ў г. Дынабург у распараджэнне ДСК.

Паводле яе пастановы «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 14.08.1863) на жыхарства пад паліцэйскі нагляд у Пермскую губ. і паселены там у г. Чардын. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. Яго маці, якая валодала маёнткам Зазерыца Лепельскага пав., 22.01.1864 згадзілася высылаць яму сродкі на ўтрыманне. Пасля смерці маці маёнтак Зазерыца 01.1865 секвестраваны, потым падлег абавязковаму продажу і прададзены ў 1866 г. курляндскаму грамадзяніну Каралю Экману. Стрыечная сястра 07.07.1865 падала прашэнне аб вяртанні яго на месца жыхарства, якое было адхілена *(1416—3—21048—38; 1430—1—31237; 1430—1—31355—68-79а; 1430—1—31602—188-189а; 1430—1—52163—410адв., 822адв.; 1430—1—52285—5, 43; 2003—2—81; 2514—1—2198—69).*

111. **Акушка Валяр'ян** (Окушко Валериан), сын *Яна*. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі і пастаўках харчавання ў лес. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

112. **Акушка Вінцэнт** (Окушко Викентий). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

113. **Акушка Казімір** (Окушко Казимир), дваранін. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Акушкі Вілейскага пав. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі сялянаў удзельнічаць у паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

114. **Акушка Фульгент** (Окушко Фульгентий). Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

115. **Акушка Ян** (Окушко Иван), бацька *Валяр'яна*. Да паўстання служыў пяцісоцкім Варнянскай акругі Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі і пастаўках ім харчавання ў лес. Яго маёмасць, на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

116. **Акшэўскі Адам** (Акшевский Адам), сын Эдварда, дваранін, каталік. Да паўстання жыў у г. Магілёве, служыў канцылярыстам Магілёўскай крымінальнай палаты. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. 30.04.1863 звольнены са службы за няяўку з адпачынку. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—23адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2003—2—96—7; 3257—2—2—26адв.; 3366—1—5—13адв.).*

117. **Алейпікаў**[46] **Філіп** (Алейпиков Филипп), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—1).*

**Александрацісс N.** — гл. **Грос N.**

118. **Александровіч Адам** (Александрович Адам), муж (?) Зоф'і (сястры *Солтана Аляксандра*), бацька Вітальда, памешчык Рэчыцкага пав. Западозраны ў спачуванні паўстанцам і падрыхтоўцы для іх зброі, 05.03.1863 арыштаваны. У яго фальв. Зацішша Рэчыцкага пав. праведзены вобшук. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1547; 295—1—1643—4адв.; 295—1—1759—22, 25, 36-38адв. і інш.).*

119. **Александровіч Алаізія** (Александрович Алоизия), сваячка (?) *Альфонса*, шляхцянка. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнка Заходняга краю» жыла ў 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

120. **Александровіч Альфонс** (Александрович Альфонс), сваяк (?) *Алаізіі*, шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

121. **Александровіч Вінцэнт** (Александрович Викентий), сын Аляксандра, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—2; 295—1—1699; 320—1—398—3).*

[46] Верагодна, гэта імя па бацьку.

122. **Александровіч Канстанцін** (Александрович Константин), сын Рамуальда, муж Караліны Юзафаўны, памешчык, каталік. Нар. каля 1826 г. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Жахтовічы Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у ахвяраванні грошай на карысць паўстання, разам з жонкай арыштаваны (да 29.05.1863) і перавезены ў г. Віцебск. На яго маёмасць 31.08.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1864 і ўказа ВГП ад 02.07.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле распараджэння ваеннага губернатара г. Віцебска ад 05.09.1863 атрымаў дазвол вярнуцца з жонкай у свой маёнтак пад паліцэйскі нагляд. 09.1864 жыў у Жахтовічах. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—1; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 265-268, 403адв., 430адв., 443адв., 446, 570адв., 625-631; 3046—2—3—1адв.; 3046—2—5—1)*.

123. **Александровіч Ксаверы** (Александрович Ксаверий), памешчык Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—3)*.

124. **Александровіч Міхал** (Александрович Михаил), дваранін Себежскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска. Пасля атрымання частковай амністыі перасяліўся ў Пскоўскую губ., дзе ў 1880 г. атрымаў дазвол на вяртанне ў маёнтак Зазер'е Себежскага пав. яго бацькоў *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—1; 1430—1—36707—24-26; 1430—1—52163—418адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.)*.

125. **Александровіч Міхал** (Александрович Михаил), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Арэнбургскую губ. без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр; на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлегла абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—149адв.; 2532—1—15—3адв.)*.

126. **Александровіч Павел** (Александрович Павел), сын Леана, памешчык Аршанскага пав., каталік. У 1854 г. спрабаваў уцячы за мяжу, за што арыштаваны і зняволены на працягу 1 года. Жыў у маёнтку бацькоў Качанова Аршанскага пав., а перад паўстаннем прыехаў да свайго далёкага сваяка *Міткевіча Здзіслава*. За некалькі дзён да пачатку паўстання ў Магілёўскай губ. ездзіў у СПб і Маскву. Западозраны, што пры гэтым закупляў зброю і агітаваў студэнтаў далучыцца да паўстання. Пасля вяртання 27.04.1863 схоплены сялянамі. Зняволены ў г. Смаленску. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. На следстве і судзе даказана, што ведаў пра намеры сваяка далучыцца да паўстання. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, секвестру маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць з 1867 г. падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15-22адв.; 2001—2—14—13адв.; 2514—1—2198—66адв.)*.

127. **Александровіч Станіслаў** (Александрович Станислав), шляхціц Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў руднікі на 20 гадоў *(319—1—479—3; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

128. **Александровіч Уладзіслаў** (Александрович Владислав), дваранін Валынскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106)*.

129. **Александровіч Юльян** (Александрович Ульян), сын Яна, брат Казіміры (v. Беразінскай), селянін Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1825 г. Да паўстання жанаты, меў 3 дзяцей, служыў вазніцам у *Дыбоўскага Уладзіслава* ці Дыбоўскага Яна ў маёнтку Тонава Мінскага пав. Адвёз у паўстанцкі атрад *Матусевіча Станіслава*. 27.08.1865 знаходзіўся пад следствам у МСК, утрымліваўся ў будынку былога бернардзінскага кляштара ў г. Мінску. 07.09.1865 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. 04.10.1865 вызвалены з-пад арышту на парукі. Пастановай ПВС пры Упраўленні мінскага губернскага ваеннага начальніка ад 29.09.1865 «пакінуты ў падазрэнні». Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 22.06.1866 прызначаны да вызвалення без усялякай адказнасці *(295—1—1776; 299—2—6399—29адв.-30адв.; 299—2—6400—15адв.-17адв.)*.

130. **Александровіч N.** (Александрович N.). Пасля паўстання западозраны ў «прыналежнасці да рэвалюцыйнай арганізацыі». Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.03.1865 як «пакінуты ў моцным падазрэнні» і «нядобранадзейны ў палітычных ад-

носінах» прызначаны да высялення на сталае жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Томскую губ. Яго маёмасць, якая знаходзілася ў г. Дынабургу, падлягала секвестру *(1416—4—11416—233-235; 1430—1—52163—754).*

131. **Алендская Юзэфа** (Олендская Жозефина), дачка Леапольда, памешчыца Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання на яе маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 накладаўся секвестр. Ваенным судом прызначана (да 01.10.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Пермскую губ. *(1416—3—21048—38; 1430—1—52163—411; 1430—1—52285—6, 42).*

132. **Алендскі Антоні** (Олендзкий Антоний) (ён жа **Іваноўскі Пётр** (Ивановский Петр)), сын Барталамея. Нар. каля 1844 г. у Люблінскай губ. Да паўстання знаходзіўся ў Санкт-Пецярбургскай артылерыйскай акадэміі ў чыне падпаручніка. Яго бацька жыў у в. Тучына Бяльскага пав. Люблінскай губ. Падчас паўстання з'яўляўся намеснікам ваеннага начальніка Сенненскага пав. *Жаброўскага Канстанціна*, камандаваў часткай паўстанцкага атрада. Пасля яго разбіцця схоплены. 13.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863, потым пераведзены ў г. Мінск. Зняволены ў мінскай турме паводле загаду ЧВГМГ ад 16.12.1863. Рашэннем ЧПА, канфірмаваным М. Мураўёвым 22.03.1864, прысуджаны да расстрэлу 30.03.1864 у г. Мінску. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—85; 295—1—1527—101адв.; 295—1—1643—82адв.; 296—1—90—9адв.-10; 319—1—479—22адв.; 320—1—398—375; 320—2—98—42адв.; 1430—1—52163—168; 1781—32—141—4-6).*

133. **Алендскі Ксаверы** (Олендзкий Ксаверий), бацька *Леана Юльяна*, *Рыгора Юзафа* і *Юзафа Караля*, памешчык. Паводле «абвінавачання ў палітычных адносінах» (верагодна, за дачыненне яго сына *Юзафа Караля* да паўстання) высланы з радзімы. Яго маёнтак Пашкавічы Мінскага пав. (770 дзес. 1436 саж., ацэнены ў 9280 руб.) секвестраваны ў 1864 г. паводле распараджэння МГП і потым канфіскаваны *(296—1—89—27адв.; 320—2—98—8, 9).*

134. **Алендскі Крыштаф-Станіслаў-Феліцыян** (Олендзский Христофор-Станислав-Фелициян), сын Станіслава Янушавіча, памешчык Навагрудскага пав. Служыў у рас. войску, даслужыўся да чыну падпалкоўніка Генеральнага штаба. Да паўстання знаходзіўся ў адстаўцы. Падчас паўстання належаў да патаемнай арганізацыі ў Навагрудскім пав. Арыштаваны, канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 15 гадоў на катаргу ў рудніках. Маёнткі Вялікія і Малыя Косічы і Альпы Навагрудскага пав., якія перайшлі яму па спадчыне, канфіскаваны *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 299—2—8307—6-6адв.; 320—1—398—676, 679, 683-684; 534—1—14—17).*

135. **Алендскі Леан-Юльян** (Олендский Леон-Юлий), сын *Ксаверыя*, брат *Рыгора Юзафа* і *Юзафа, Караля*, памешчык Мінскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(320—2—98—8).*

136. **Алендскі Рыгор-Юзаф** (Олендский Григорий-Иосиф), сын *Ксаверыя*, брат *Леана Юльяна* і *Юзафа Караля*, памешчык Мінскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(320—2—98—8).*

137. **Алендскі Севярын** (Олендзский Северин), памешчык Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540адв.).*

138. **Алендскі Юзаф-Караль** (Олендский Иосиф-Карл), сын *Ксаверыя*, брат *Рыгора Юзафа* і *Юльяна Леана*, памешчык. Абвінавачаны ў агітацыі на карысць паўстанцаў, арыштаваны. Зняволены ў турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 18.10.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Высланы ў Ніжагарожскую губ. пад строгі нагляд паліцыі, а яго «маёнтак-лес» Пашкавічы Мінскага пав. прызначаны да секвестру. Пазней яго маёмасць, на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(295—1—1643—157адв., 161, 165; 296—1—90—7адв.-8; 320—2—98—8; 2532—1—15—13).*

139. **Алендскі Юльян** (Олендзский Юлиан), памешчык Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

140. **Аленскі Андрэй** (Аленский Андрей), дваранін. Разам з *Дышлеўскай Алімпіяй* абвінавачаны рас. уладамі ў «заганных учынках у палітычных адносінах». У 1864 г. знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—4адв.-5; 3257—2—8—11).*

141. **Аленскі Эдвард** (Оленский Эдуард), сын Людвіка, дваранін Сенненскага пав. Да паўстання знаходзіўся на выхаванні ў *Валадковіча Юза-*

*фа*, 2 гады прыслужваў пры Чашніцкім касцёле. 04(ці 05).1863 пакінуў м. Чашнікі і далучыўся да паўстанцаў. На яго маёмасць 17.08.1863 на падставе распараджэння МагГП ад 12.07.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. Сасланы ў «аддаленыя месцы Сібіры», у 1872 г. паводле хадайніцтва маці пераведзены ў Вяцкую губ. пад нагляд паліцыі. 20.05.1874 вызвалены ад нагляду з правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ. і «Заходняга краю». У 1876 г. падаў прашэнне аб дазволе на свабоднае жыхарства ў Мінскай губ. *(295—1—3022—77; 296—1—25—105адв.; 319—1—479—23адв.; 1416—3—21048—38; 1430—1—31520—22, 63-65; 1430—1—52163—409; 3257—2—2—26).*

142. **Алецкі Зянон** (Олецкий Зенон), дваранін. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(1416—3—21048—38; 1430—1—52163—399а).*

143. **Алецкі Юзаф** (Олецкий Иосиф), дваранін Віцебскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні на Украіне. Прысуджаны да пакарання ў Кіеўскай губ. *(534—1—14—64).*

144. **Алтарэўскі Канстанцін** (Олтаржевский Константин), бацька *Уладзіслава*, памешчык Віленскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую ці Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, затым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—237; 2532—1—15—11).*

145. **Алтарэўскі Уладзіслаў** (Олтаржевский Владислав), сын *Канстанціна*, памешчык Віленскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую ці Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—237; 2532—1—15—11; 2616—1—40—58).*

146. **Альдэнбург Адольф** (Ольденбург Адольф), яўрэй. Да паўстання быў «вучнем». За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166адв.).*

**Альхоўскі Уладзіслаў** — гл. **Аляхоўскі Уладзіслаў**

147. **Альчукевічы NN.** (Ольчукевичи N N.). За дачыненне да паўстання іх частка двух дамоў у г. Барысаве канфіскавана *(295—1—1900—9адв.-10).*

148. **Альчыкевіч Себасцьян** (Ольчикевич Севастиан), дваранін Віцебскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Канфірмацыяй М. Мураўва ад 02.09.1863 прысуджаны да ўключэння шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр. МГП 24.09.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—161адв.; 1416—3—21048—38; 1430—1—52163—152; 2601—1—29; 3046—2—5—38).*

149. **Альшанскі Ігнат** (Ольшанский Игнатий), дваранін Лідскага пав. Да паўстання жыў у м. Эйшышкі Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

150. **Альшэўская Ізабэла** (Ольшевская Изабелла), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначана ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237).*

151. **Альшэўскі Аляксандр** (Ольшевский Александр), сын Рыгора, сваяк *Вінцэнта*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Арэхава Себежскага пав. (63 дзес. зямлі, 42 руб. гадавога прыбытку). Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., пасля рассеяння атрада хаваўся ў лесе свайго сваяка *Лакіса Антонія*. Арыштаваны (да 24.05.1863). На Арэхава 28.06.1863 накладзены секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Указ аб канфіскацыі Арэхава выдадзены 04.12.1863. За сувязі з ім асуджаны *Варатынскі Ян (320—1—398—134; 1416—4—11382—2адв.; 1430—1—52163—19, 214адв.-215, 230, 417адв., 568адв., 596, 825; 1416—3—21048—38; 2616—1—40—10адв., 12; 3046—2—3—12адв.-13).*

152. **Альшэўскі Андрэй** (Ольшевский Андрей), дваранін Ваўкавыскага пав. Да паўстання служыў у Новааляксандраўскай аптэцы. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Ельскага Яна* ў якасці медыка. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(295—1—1643—162; 319—1—479—23; 1416—3—21048—38адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—399адв., 602).*

153. **Альшэўскі Вінцэнт** (Ольшевский Викентий), сваяк *Аляксандра*, памешчык Себежскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго рассеяння разам з *Аляксандрам* хававаўся ў лесе свайго сваяка *Лакіса Антонія*. За сувязі з ім асуджаны *Варатынскі Ян (1416—4—11382—2адв.; 3046—2—3—12адв.-13)*.

154. **Альшэўскі Вінцэнт** (Ольшевский Викентий), селянін. Нар. каля 1843 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка памешчыка Алендскага ў Слонімскім пав., але жыў у м. Халопенічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у м. Лепеле. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў гарадской турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Прысуджаны сярод іншага да канфіскацыі маёмасці. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1527—103; 295—1—1588; 295—1—1643—158)*.

155. **Альшэўскі Генрык** (Ольшевский Андрей), дваранін Ваўкавыскага пав. Да паўстання служыў у Новааляксандраўскай аптэцы. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—126)*.

156. **Альшэўскі Генрык** (Ольшевский Генрих), сын Юзафа, дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—281; 1430—1—52285—11)*.

157. **Альшэўскі Станіслаў** (Ольшевский Станислав), мешчанін г. Мінска. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Ляскоўскага Станіслава*, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(296—1—77—18)*.

158. **Альшэўскі Францішак** (Ольшевский Франц), дваранін Ковенскай (?) губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.)*.

159. **Альшэўскі Юзаф** (Ольшевский Иосиф), сын Пятра, дваранін, каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам у Магілёўскім ДДС, калежскі рэгістратар. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. 23.05.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—23адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2003—2—96—20адв.; 3257—2—2—26адв.; 3366—1—5—13адв.)*.

160. **Альшэўскі Юзаф** (Ольшевский Иосиф), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Янава Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—23; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

161. **Альшэўскі Яўстах** (Ольшевский Еустахий (Ефстафий)), мешчанін г. Мінска. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго з'явіўся да рас. уладаў. 12.1863 вернуты на месца жыхарства на парукі мяшчанаў Міхала і Вінцэнта Драздоўскіх і Яна Рутовіча *(24—1—1586—13-14, 17-18)*.

162. **Алявінскі Іпаліт** (Олевинский Ипполит), дваранін Мінскай губ. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 *(162—1—116—124; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.)*.

163. **Алякевіч Ануфры** (Олекевич Онуфрий), сын Вінцэнта, аднадворац Яркаўскай грамады Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1820 г. Да паўстання жыў у фальв. Ліпскі Ігуменскага пав., служыў лесніком у *Янішэўскага Людвіка*. 05.1863 абвінавачаны ў агітацыі сялянаў далучыцца да паўстання і прамаўленні «абразлівых слоў» у адрас Аляксандра II, затрыманы сялянамі і дастаўлены ў Цытвянскае валаснае праўленне Ігуменскага пав. Старшыня, не ведаючы нічога пра прычыну яго затрымання, адаслаў яго да *Я. Л.*, якім вызвалены. Затрыманы ізноў і ізноў вызвалены *Я. Л.* Канчаткова арыштаваны паводле распараджэння ЧВГМГ ад 25.05.1863, 01.06.1863 адпраўлены з г. Ігумена ў г. Мінск, дзе быў зняволены ў гарадской турме. Распараджэннем ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 04.09.1863 аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку. У турме 26.09.1863 дзеля вызвалення падаваў прашэнне аб прыняцці праваслаўя. 09.10.1863 прыведзены ў Мінскі кафедральны сабор для правядзення абраду перахрышчання, але адмовіўся прымаць праваслаўе да вызвалення з-пад арышту; вернуты ў турму. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 19.03.1864 прызнаны

вінаватым і прызначаны да ссылкі з сям'ёй у Валагодскую губ. на пасяленне на казённых землях. 04.04.1864 адпраўлены з Мінска на месца ссылкі *(295—1—1633; 295—1—1643—160; 296—1—75—25-25адв.; 296—1—90—4адв.-5).*

164. **Алякевіч Павел** (Олекевич Павел), сын Юзафа, дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да ссылкі на жыхарства «ў аддаленыя губерні» з канфіскацыяй маёмасці. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 25.12.1863 прысуд зменены на турэмнае зняволенне ў 1 месяц са шрафам з яго сваякоў у 200 руб. (?). Магчыма, ідэнтычны з *Аляшкевічам Паўлам (162—1—116—63, 166; 295—1—1643—166; 320—1—398—278; 1430—1—52285—30).*

165. **Аляхновіч Міхал** (Олехнович Михаил), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Сар'я Дрысенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе паўстанцам у м. Асвея Дрысенскага пав. 07.11.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Дынабургу. Пад следствам знаходзіўся разам з *Анкудовічам Баляславам, Аўсяным Юзафам, Барташам Пятром, Гараднікам Ігнатам, Гільфантам Залманам, Гласкам Ксаверыем, Дзінэрам Лазарам, Куракам Ігнатам, Лапацінскім Ігнатам, Сварацкім Леанардам, Слежаноўскім Паўлам, Фалевічам Каралем, Цялевічам Альфонсам, Шчытам Уладзіславам* і інш. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 пастанову пра ступень яго вінаватасці павінна была вынесці ваенна-судовая камісія *(1416—2—12677—32-33адв.; 2601—1—2—375-383).*

166. **Аляхновіч Станіслаў** (Олехнович Станислав), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—23; 1430—1—52163—204адв.).*

167. **Аляхновіч Цэзар** (Олехнович Цезарий), памешчык. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, таму яго частка зямлі ў вак. Казімірава Ігуменскага пав. секвестравана паводле распараджэння МГП ад 30.07.1863. У 1863 г. (альбо 03.1864) прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(295—1—1643—160; 296—1—89—34адв.-35; 319—1—479—21адв.; 1430—1—52163—167).*

168. **Аляхновіч Юзаф** (Олехнович Иосиф), сын Яна, дваранін. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Навасёлкі Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, потым разам з *Цеханавецкім Вінцэнтам* пад судом у МагВСК. Яго зямля секвестравана (да 09.11.1864) і канфіскавана ў 1866 г. (?) *(2003—1—445—5адв., 15; 2003—2—90; 3257—2—2—1, 26адв.; 3366—1—5—8адв.).*

169. **Аляхоўскі Канстанцін** (Олеховский Константин), сваяк *Уладзіслава*, сын Валента (ці Вінцэнта), памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнткаў Малая Арава з в. Рымкі і Грыбіна з в. Лыскоўшчына і в. Бярозаўка Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць секвестравана (да 30.07.1863). Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. У 1866 г. маёмасць канфіскавана *(319—1—479—23адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—445—14адв.; 2003—2—19—9адв.-10адв.; 3257—2—2—26адв.).*

170. **Аляхоўскі (Альхоўскі) Уладзіслаў** (Олеховский (Ольховский) Владислав), сваяк *Канстанціна*, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнткаў Малая Арава з в. Рымкі і Грыбіна з в. Лыскоўшчына і в. Бярозаўка Магілёўскага пав. (706 дзес. зямлі, 2 дамы, гаспадарчыя пабудовы, карчма, млын, 2 фруктовыя сады і інш., 271,37 руб. гадавога прыбытку). За дачыненне да паўстання яго маёмасць секвестравана (да 30.07.1863). Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—194адв.; 2003—2—19—9адв.-10адв.; 2532—1—15—9; 3257—2—2—26адв.).*

171. **Аляшкевіч Людвік** (Олешкевич Людвиг), сын Францішка, дваранін Рэжыцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—23; 1416—3—21048—38адв.; 1430—1—52163—206адв., 422адв.).*

172. **Аляшкевіч Павел** (Олешкевич Павел), дваранін Ігуменскага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. 06.07.1863 без следства адасланы ў г. Мінск. Магчыма, ідэнтычны з *Алякевічам Паўлам (1418—3—1—54адв.-55).*

173. **Аляшкевіч Юзаф** (Олешкевич Иосиф), сын Дамініка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў захоўванні паўстанцаў і незатрыманні «мяцежніка Антона Бакуна», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў «дальнія губерні». 12.07.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—162, 165адв.; 1418—3—1—54адв.-55).*

174. **Аляшкевіч Юзаф** (Олешкевич Иосиф), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—221адв.).*

175. **Аляшкоўскі Ян** (Алешковский Иван), дваранін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—1).*

176. **Амбражэвіч Язафат** (Амброжевич Иосафат), дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніку на 20 гадоў *(319—1—479—3; 1430—1—52163—205).*

177. **Амбразюк Дзмітрый** (Амбразюк Дмитрий), сын Антонія, селянін. Да паўстання жыў у в. Мшаны Бяльскага пав. Люблінскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

178. **Амбрашкевіч (Амбрушкевіч) Фелікс** (Амброшкевич (Амбрушкевич) Феликс), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і дастаўцы ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой меркавалася выслаць яго ў дальнія губерні Расіі. Потым пераведзены ў г. Мінск, утрымліваўся ў мінскай гарадской турме *(296—1—90—12адв.-13; 1418—3—1—3адв.-4).*

**Анапольскі Антоні** — гл. **Апольскі Антоні**

179. **Андраеўскі Банавентура** (Андржеевский Бонавентура). Да паўстання жыў у м. Вікілі Шавельскага пав., дзе з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—3; 320—1—398—224).*

180. **Андраеўскі Станіслаў** (Андржиевский Станислав), селянін. За «палітычныя злачынствы» сасланы. У 1880 г. жыў у Казанскай губ., 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—24-25).*

181. **Андрайковіч Рышард** (Андржейкович Ришард), памешчык Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—3; 320—1—398—224адв.).*

182. **Андрайковіч Тамаш** (Андржейкович Фома), дваранін Гродзенскай губ. Служыў у Гродзенскім прыказе грамадскай апекі. За «доўгае знаходжанне ў шайцы мяцежнікаў і ўдзел у дзеяннях супраць войскаў» пастановай ваеннага суда ў г. Вільні, канфірмаванай 03.11.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(295—1—1994—6; 319—1—479—3адв.; 320—1—398—224адв.).*

183. **Андрайковіч Яраслаў** (Андржейкович Ярослав), сын Міхала, муж Алены, бацька Маргарыты, Марыі-Магдалены, Марыі-Саламеі і Фелікса, памешчык Кобрынскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёнтак Мохры Пінскага пав. секвестраваны паводле распараджэння ваеннага начальніка Пінскага пав. ад 30.03.1864. 18.05.1864 МГП выдала пастанову аб секвестры яго зямлі, лесу, карчмы, в. Мохры і в. Волька, якія адносіліся да маёнтка Баландзічы Кобрынскага пав. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Пензенскую губ. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Рыгу, дзе ў 1875 г. атрымаў дазвол на пражыванне ў сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(296—1—89—17адв.; 299—1—579—110-111адв., 744-745адв.; 319—1—479—3адв.; 320—1—398—224адв.; 320—2—99—41адв.-42; 1430—1—35810—42; 1430—1—35834—120).*

184. **Андраноўскі Іпаліт** (Андроновский Ипполит), дваранін Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—3адв.; 1416—4—11416—115адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

185. **Андрушкевіч Андрэй** (Андрушкевич Андрей). Да паўстання з'яўляўся фельчарам у Віленскім пав. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі і пастаўках ім харчавання ў лес. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

186. **Андрушкевіч Леанард** (Андрушкевич Леонард), сын Юстына, дваранін. Да паўстання працаваў прыватным землямерам, жыў у г. Мінску. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці». Рашэннем ЧПА, канфірмаваным А. Патапавым 08.12.1864, прызначаны да ссылкі «адміністра-

цыйным парадкам» у Табольскую губ. У 1865 г. сасланы. Атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму; 04.1880–03.1882 жыў у г. Мінску *(160—2—682—28, 108; 162—1—122—7, 21; 295—1—1643—1; 295—1—3492—18, 54адв.-55, 74; 534—1—14—15; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796)*.

187. **Андрушкевіч Уладзіслаў** (Андрушкевич Владислав), дваранін Віленскага пав. Нар. каля 1840 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля разбіцця яго схоплены. 09.05.1863 зняволены ў барысаўскай бальніцы, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Потым пераведзены ў г. Мінск і зняволены ў турме, дзе знаходзіўся ў верасні 1864 г. Аддадзены пад ПВС у Мінску *(295—1—1527—107; 295—1—1643—1адв.; 1781—32—141—10)*.

188. **Андрэеў Бенядыкт** (ён жа **Мажанскі Міхал**) (Андреев Венедикт (Можанский Михайло)), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 23.05.1863 ці 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск *(1418—3—1—1адв.-2, 45адв.-46)*.

189. **Андрэеў**[47] **Павел** (Андреев Павел), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 23.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—1; 3366—1—5—1адв.)*.

190. **Анікевіч Клімент** (Оникевич Клементий), сын Аляксандра, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1809 г. Служыў аканомам, пасля лоўчым у маёнтку Ануфрыя Лісоўскага ў Лепельскім пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў агітацыі сялянаў фермы Слабада і фальв. Кавальшчына Лепельскага пав. наняцца на дапамогу паўстанцам. Падчас вобшуку ў яго знойдзены 3 двухствольныя пісталеты, порах, патроны і іншыя прылады зброі. Арыштаваны. На яго маёмасць 08.11.1863 на падставе патрабавання ВСК ад 18.10.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 22.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 27.04.1864 прызнаны вінаватым у захоўванні зброі, агітацыі на карысць паўстання, ганьбаванні праваслаўя і зневажанні «Свяшчэннай Асобы Гасудара Імператара» і прызначаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 04.05.1864 ссылка заменена на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 21.05.1864 высланы з г. Віцебска на месца ссылкі *(1416—3—21048—38; 1416—4—11383; 1430—1—52163—206адв., 410; 3046—2—3—60адв.-61; 3046—2—5—38)*.

191. **Анісевіч Ян** (Анисевич Иван), сын Тадэвуша, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, якая не знайшла доказаў яго дачынення да паўстання. Вернуты на ранейшае месца жыхарства *(1418—3—1—2адв.-3)*.

192. **Аніхімоўскі Адольф** (Онихимовский Адольф), сын Рафала, брат *Зыгмунта*, дваранін Аршанскага пав. Западозраны рас. уладамі ў прыналежнасці да паўстанцкага атрада ў Магілёўскай губ., таму трапіў пад следства ў АСК, якая 17.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару, і пад суд у МагВСК. Да яго справы меў дачыненне *Боландзь Баляслаў*. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 ці 6 гадоў *(319—1—479—23адв.; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.; 2003—2—83—5-6; 3255—1—12—2; 3255—1—14—4; 3257—2—2—26адв.; 3257—2—8—11)*.

193. **Аніхімоўскі Зыгмунт** (Онихимовский Сигизмунд), сын Рафала, брат *Адольфа*, дваранін Аршанскага пав., каталік. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 29.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—23адв.; 2003—2—83; 2003—2—96—25адв.; 3257—2—2—26)*.

194. **Аніхімоўскі Міхал-Зыгмунт** (Онихимовский Михаил-Сигизмунд), сын Дамініка, бацька Юліі і Станіслава, дваранін Лепельскага пав. У 1853 г. атрымаў у якасці падарунку ад Манкевіча фальв. Грышэніна Невельскага пав. (каля 60 дзес. зямлі). За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў г. Оршы. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. 02.1864 з яго фальварка спагнана кантрыбуцыя, а 13.10.1864 на яго накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Пазней рас. улады пераблыталі яго з *Аніхімоўскім Зыгмунтам* і канфіскавалі фальв. Грышэніна. Дачка падала прашэнне аб вяртанні маёнтка як несправядліва канфіскаванага *(1430—1—52163—434адв., 826адв.; 2003—2—83; 3255—1—14—4; 3257—2—8—11)*.

195. **Аніхімоўскі Рафал** (Онихимовский Рафаил). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да

---

[47] Верагодна, гэта імя па бацьку.

паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 17.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—4)*.

196. **Аніхімоўскі Эдмунд** (Онихимовский Эдмунд), муж Канстанцыі (сваячкі *Рубаша Віктара*), памешчык. Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў маёнткамі Заазер'е Кобрынскага пав. і Агова Пінскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда, канфірмаванай М. Крыжаноўскім 26.04.1864, прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. На яго маёмасць накладзены секвестр, які зняты паводле распараджэння М. Мураўёва ад 18.10.1864. Пазней на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлегла абавязковаму продажу *(295—1—1720; 1430—1—52163—194адв.; 2532—1—15—8, 13адв.)*.

197. **Анкудовіч Баляслаў** (Анкудович Болеслав), сын Ігната, дваранін, каталік. Нар. каля 1837 г. Атрымаў хатнюю адукацыю, 12.01.1852 паступіў на службу пісарам у Себежскі земскі суд, 19.03.1855 атрымаў чын калежскага рэгістратара. Звольніўся з грамадзянскай службы і 26.02.1856 паступіў на службу прапаршчыкам сапёрнай дружыны рухомага апалчэння Віцебскай губ. 12.09.1856 звольнены з апалчэння, 09.11.1856 паступіў на службу станавым прыставам у Полацкім пав. 17.11.1858 пераведзены на пасаду прыстава 2 стана Дрысенскага пав., 18.10.1860 — прыстава 3 стана таго ж пав. 16.08.1860 за выслугу атрымаў чын губернскага сакратара, 27.10.1861 — калежскага сакратара. 21.10.1861 вернуты на пасаду прыстава 2 стана Дрысенскага пав. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 14.06.1863 пераведзены на службу ў ВГП. Западозраны ў веданні пра падрыхтоўку паўстання і далучэнне некаторых асоб да яго і невыкананні належным чынам службовых абавязкаў у адносінах да спынення паўстання ў м. Асвея Дрысенскага пав. Арыштаваны (каля 07.1863). Пачаткова ўтрымліваўся ў турэмным замку г. Дрысы, 09.1863 пераведзены ў фартэцыю г. Дынабурга. Разам з *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гараднíком Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і іншымі знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле канфірмацыі А. Патапава ад 08.08.1864 у якасці пакарання яму залічана знаходжанне пад арыштам, пасля чаго вызвалены. 10.1864 жыў у г. Себежы, падаў прашэнне аб прызначэнне на грамадзянскую службу ў Аланецкай губ. 02.1865 жыў у г. СПб. Рашэннем Віцебскай палаты крымінальнага і грамадзянскага суда ад 23.05.1869 за «бяздзейнасць улады пры самаўпраўстве яўрэя Дзінэра» яму вынесена заўвага з занясеннем у фармулярны спіс *(1416—2—12677; 2601—1—2—98; 2601—1—5—7адв.; 3046—2—5—1)*.

198. **Аношка Феліцыян** (Оношко Фелициан), сын Ігната Рыгоравіча ці Ануфрыя, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Нар. у 1822 г. Да паўстання служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Знаходзіўся ў складзе заскаркаўскага атрада. 25.04.1863 увечары схоплены разам з *Цяпінскім Мечыславам* сялянамі в. Будзілава Лепельскага пав. Апрача таго, абгавораны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе *Другавінам Янам*. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 02.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб выдачы грошай жонцы, якое было адхілена. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 18.12.1864 канфіскацыя заменена на секвестр, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яго маёмасць падлягала абавязковаму продажу *(320—1—398—740-750; 1416—3—21048—38; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31604—35, 38адв.; 1430—1—52163—46, 201, 391адв.; 2532—1—15—12; 3046—2—3—59адв.-60; 3046—2—5—38)*.

**Антаневіч Вінцэнт** — гл. **Антановіч Вінцэнт**

199. **Антаневіч Канстанцін** (Антоневич Константин), дваранін. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым лекарам Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—3; 3046—2—5—1)*.

200. **Антановіч Браніслаў** (Антонович Бронислав), дваранін Магілёўскай ці Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2616—1—40—14; 3257—2—2—1)*.

201. **Антановіч (Антаневіч) Вінцэнт** (Антонович (Антоневич) Викентий), сын Юзафа Францішкавіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1802 г. За ўдзел «у палітычных непарадках» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК.

15.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Яго дзве валокі зямлі з гаспадарчымі пабудовымі і рухомай маёмасцю на 32,25 руб. у вак. Рачыборак Ігуменскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 30.06.1864 і ўказа МГП ад 06.07.1864. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, пастановай якога прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. пад нагляд паліцыі. Аднак потым высланы ў Арэнбургскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(162—1—116—166; 295—1—1643—4адв.; 296—1—89—9адв., 33адв.-34, 70адв.; 299—1—579—341-345; 320—2—98—2, 9, 70; 1418—3—1—3адв.-4; 1430—1—52163—201адв.; 2532—1—15—13).*

202. **Антановіч Фёдар** (Антонович Федор), сын Яна, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1818 г. Да паўстання служыў старшынёй Галынкаўскай вол. Слуцкага пав. Пасля паўстання разам з *Копцем Фларыянам* прыпісаў да Галынкаўскай вол. *Матусевіча Станіслава.* Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 22.06.1866 прысуджаны да звальнення з месца службы з аддачай на парукі сваёй сельскай грамады і забаронай паступаць на службу ў далейшым *(295—1—1776).*

203. **Антановіч Юзаф** (Антонович Осип), дваранін. Нар. у гміне Раманаў Радзінскага пав. Люблінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Краснаўфімск Пермскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(295—1—1643—5адв.; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.; 2514—1—2198—66адв.).*

204. **Антановіч Юзаф-Ежы-Браніслаў** (Антанович Осип (Иосиф)-Георгий (Юрий)-Бронислав), сын былога завілейскага гродскага суддзі Юзафа-Цыпрыяна і Стэфаніі Шышкі, брат Вацлава-Казіміра, Гугі-Венцаслава-Матэвуша-Юзафа і Клаўдыя-Матэвуша-Цітуса, каталік. Нар. 23.04.1843 у двары Свіраны Свянцянскага пав., хр. 16.05.1843 у Кабыльніцкім касцёле. У 1851–1861 гг. вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні, потым — у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка (3257—1—53—2; 3286—2—1—5, 60-63).*

205. **Анташэўскі N.** (Антошевский N.), сын памешчыка. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Анташэва Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

206. **Антонаў**[48] **Мікалай** (Антонов Николай), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—1адв.).*

**Антонаў Міхайла** — гл. **Прыалкоўскі Антоні**

207. **Антушэвіч Аляксандр** (Антушевич Александр), дваранін Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні 04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—3; 1430—1—52163—181адв.).*

208. **Антушэўскі Антоні** (Антушевский Антон). Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

209. **Анцыпа Ільдэфонс** (Анцыпа Ильдефонс), дваранін Гродзенскай губ. Вярнуўся з эміграцыі ў Быхаўскі пав. Удзельнічаў у паўстанні ў якасці камандзіра быхаўскага (задруцкага) атрада, узяты ў палон. Пры ім знойдзена 224,25 руб. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Банькоўскі Антоні* і *Манкевіч Аўгуст.* Прысуджаны да смяротнага пакарання. 06.06.1863 а 10 гадзіне раніцы расстраляны ў г. Магілёве разам з *Корсакам Уладзімірам*, *Манцэвічамі Міхалам* і *Янам* пры «вялізным зборы народу». Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—3адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.; 1781—2—5602—42; 2001—2—14—12адв.; 2001—2—172—3-3адв.; 3257—1—4—20; 3257—2—2—1, 22).*

210. **Анцыпа Язафат** (Анцыпо Иосафат), муж Антаніны (1 v. Швед), памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Вялікія Бялевічы і Александрына (Аляксандрава) Быхаўскага пав., да паўстання жыў у апошнім. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. Яго маёмасць канфіскавана. Да яго маёнткаў пададзена прыватных позваў

[48] Верагодна, гэта імя па бацьку.

на 18050,34 руб. 10.08.1864 у МагГП прызначаны таргі на яго маёнткі, аднак жадаючых не з'явілася. Частку маёнтка (уроч. Бічоўка) 18.08.1864 набыў за 1500 руб. надворны радца Гайдукоў, астатняя частка падзелена на 4 асобныя фальваркі і прызначана да продажу паасобку *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—3адв.; 1416—4—11416—130; 2001—2—123—6адв.; 2003—1—445—3адв., 15; 2003—1—475; 3257—2—2—1).*

211. **Апольскі (Анапольскі) Антоні** (Опольский (Онопольский) Антон), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Пашуланы Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда (каля 06.1864) прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—23; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242; 2818—1—9—10).*

212. **Апоцкі Віталь** (Опоцкий Виталис), сын Лямберта. Да паўстання жыў у г. СПб, служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. У паўстанні належаў да складу падпольнай арганізацыі ў СПб, схаваўся ад рас. уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, узнагарод, канфіскацыі маёмасці і расстрэлу *(320—1—398—780; 2003—1—474—1-3 і інш.).*

213. **Арамовіч Ігнат** (Арамович Игнатий), сын Урбана, памешчык. Да паўстання разам з братам, які служыў на Каўказе, валодаў маёнткамі Ражыслаў (Разіслоў) і Мошкі (Мосікі) Ашмянскага пав., яго лакеем служыў *Станкевіч Стэфан.* Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі, «адміністрацыйным парадкам» сасланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—12).*

214. **Арамовіч Конрад** (Арамович Конрад), сын Паўла, дваранін Віленскага пав., «рэфарматарскага» веравызнання. Западозраны ў жаданні далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 г. за «нядобранадзейнасць» аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—2; 1524—1—1—1).*

215. **Аранскі Антоні** (Оранский Антон), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12адв.).*

216. **Аранскі Канстанцін** (Оранский Константин), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—22адв.).*

217. **Арахоўскі Адольф** (Оржеховский Адольф), дваранін. Да паўстання служыў аканомам у памешчыка Шаткевіча[49] ў Троцкім пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

218. **Арахоўскі Тадэвуш** (Оржеховский Фадей). Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, у 1857 г. выключаны са складу студэнтаў за няўплату. 04.03.1863 разам са *Шпігановічам Антоніем* прыбыў з с. Тульгавічы Рэчыцкага пав. у м. Юравічы Рэчыцкага пав., дзе западозраны сялянамі ў намерах далучыцца да паўстанцаў і затрыманы. Пры затрыманні ў яго знойдзены патранташ з патронамі, 2 лісты да памешчыка Оттана Навакоўскага, генеральная мапа і інш. Памешчык *Солтан Аляксандр* спрабаваў вызваліць яго, але няўдала. 05.03.1863 пераведзены ў г. Мазыр, 10.05.1863 зняволены ў турме ў г. Мазыры. Паводле загада М. Мураўёва ад 28.03.1863 высланы ў Бабруйскую фартэцыю і аддадзены пад ПВС *(295—1—1574; 295—1—1643—158, 159адв.).*

219. **Арашкевіч Вінцэнт** (Оржешкевич Викентий), сын Захарыя, бацька *Зянона Эразма* і *Оттана,* памешчык. Абвінавачаны рас. уладамі ў захоўванні кніг «падбухторнага зместу». З 15.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая да 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства знаходзіўся на волі ў Рагачоўскім пав. *(3257—1—17—9адв.-10; 3257—2—8—11).*

220. **Арашкевіч (Арашкоўскі) Зянон-Эразм** (Оржешкевич (Оржешковский) Зенон-Эразм), сын *Вінцэнта,* брат *Оттана,* дваранін Рагачоўскага пав. Хр. 20.11.1847. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—23адв.; 320—1—398—445-446; 320—2—98—42адв.; 3257—2—2—26).*

221. **Арашкевіч (Арашкоўскі) Оттан** (Оржешкевич (Оржешковский) Оттон), сын *Вінцэнта,*

[49] Магчыма, маецца на ўвазе *Цяткевіч Казімір.*

брат *Зянона-Эразма*, дваранін Рагачоўскага пав. Хр. 05.01.1843. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—222адв., 445-446; 320—2—98—42адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—26).*

**Арашкоўскі Зянон** — гл. **Арашкевіч Зянон**
**Арашкоўскі Оттан** — гл. **Арашкевіч Оттан**

222. **Арашкоўскі Якуб** (Оржешковский Якуб), сын Адама, памешчык Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання разам з *Руткоўскімі Міхалам* і *Сымонам* западозраны ў нападзе на мешчаніна Сінякова «з палітычных прычын», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. 17.12.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Пастановай М. Мураўёва ад 31.12.1863 вызваляўся з-пад арышту і вяртаўся на месца з аддачай на парукі *(1430—1—52163—635; 3046—2—5—38).*

223. **Арвасевіч Тэлясфор** (Арвасевич Телесфор), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. У 1871 г. жыў у Арэнбургскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(319—1—479—3; 320—1—398—131; 1430—1—35146—61; 1430—1—52163—598).*

224. **Аргельбрандт N.** (Оргельбрандт N.). Да паўстання з'яўлялася жонкай віленскага прадаўца кніг. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—8, 19).*

225. **Ардынец Уладзіслаў** (Ордынец (Одынец) Владислав), сын Ксаверыя, дваранін Панявежскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткамі Клаверыя, Ігнатовічы, Ардынцін і мызамі Карсакішкі, Коўна (Коўні) і Ксавераў Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—23; 320—1—398—131; 1416—6—281; 1430—1—52163—598).*

226. **Арліцкі Войцех** (Орлицкий Альберт), дваранін. Служыў канцылярыстам у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—26адв.).*

227. **Арліцкі Тамаш-Людвік** (Орлицкий Фома-Людвиг), сын падпаручніка Войцеха Андрэевіча, дваранін Магілёўскай губ. ці Барысаўскага пав., каталік. Да паўстання жыў з бацькам у г. Магілёве, служыў перакладчыкам у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда; бацька валодаў 855 дзес. зямлі ў Клімавіцкім пав. За дачыненне да паўстання паводле ўказа МагГГ ад 23.05.1863 яго маёмасць падлягала секвестру, аднак яе не было знойдзена. У 1863 г. звольнены са службы. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 29.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 22.08.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 20.06.1863 накладзена забарона *(162—1—116—128адв., 156; 319—1—479—23; 320—1—398—533адв., 644; 1416—4—11416—125; 1430—1—52163—526; 2003—1—211—51; 2003—2—20—9, 12, 20-21; 2003—2—96—25адв.).*

228. **Арліцкі Уладзіслаў** (Орлицкий Владислав), дваранін. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» у 1863 г. высланы з радзімы *(295—1—1643—162адв.).*

229. **Арлоўскі Адольф** (Орловский Адольф), сын Мацея, памешчык Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў дапамозе *Вольскім Антонію, Ільдэфонсу* і *Каралю*, трапіў пад следства. 14.10.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў *(1430—1—52163—635).*

230. **Арлоўскі Аляксандр** (Орловский Александр), дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне капітана. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—38).*

231. **Арлоўскі Антоні** (Орловский Антон), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540).*

232. **Арлоўскі Антоні** (Орловский Антон). Да паўстання служыў у г. Оршы павятовым доктарам; калежскі радца. У 1863 г. за «падазрэнне ў палітычнай нядобранадзейнасці» звольнены са

службы. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 26.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Паводле рашэння суда аддадзены пад паліцэйскі нагляд. У 1866 г. жыў з сям'ёй ва ўласным фальварку ў Аршанскім пав. *(2003—2—96—38адв., 54адв.; 3255—1—14—1адв.)*.

233. **Арлоўскі Марцін** (Орловский Мартин), мешчанін Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1777 г. Падчас паўстання захоўваў у сваім доме двухствольную стрэльбу, пісталет, бутэльку пораху і 70 поўных патронаў, за што арыштаваны (каля 22.04.1863). Адпраўлены ў г. Мінск, дзе зняволены ў турэмным замку. Знаходзіўся пад следствам у МСК «па падазрэнні ў нядобранадзейных задумах». Распараджэннем М. Мураўёва ад 07.06.1863 прысуджаны да штрафу ў 100 руб. ср. і вяртання на ранейшае месца жыхарства на парукі 3 асоб. У выпадку немагчымасці выплаты штрафу, належала апісаць і прадаць яго маёмасць *(295—1—1579; 295—1—1643—159адв.)*.

234. **Аруркевіч Аляксандр** (Оруркевич Александр), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102)*.

235. **Арцімовіч Аляксандр** (Арцимович Александр), сын Вінцэнта, грамадзянін Ігуменскага пав. ці г. Барысава, каталік. Падчас паўстання западозраны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках» і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, якая 05.03.1863 падала яго справу ЧВГМГ. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1643—1; 319—1—479—3адв.; 320—1—398—223; 1416—1—247; 1418—3—1—1адв.-2)*.

236. **Арцімовіч Анзэльм** (Арцимович Анзельм), дваранін. Падчас паўстання арыштаваны як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах». У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—4)*.

237. **Арцімовіч Гіляры** (Арцимович Гилярий), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, якой прызнаны вінаватым. Яго справа 19.06.1863 пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй А. Патапава ад 22.04.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ.; на яго маёмасць накладаўся секвестр *(295—1—1643—2адв.; 320—1—398—673, 720, 725а-726, 781-782; 534—1—14—53; 1418—3—1—3адв.-4)*.

238. **Арцімовіч Казімір** (Арцимович Казимир), дваранін Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні разам з *Вярбіцкім N.*, *Жаброўскім Канстанцінам*, *Цілем Эдвардам*, 17.04.1863 выехаў з імі з маёнтка Рыкава Себежскага пав. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—1; 1430—1—31535—2; 1430—1—52163—418адв., 596; 2616—1—40—12)*.

239. **Арцімовіч Леан** (Арцимович Леон), сын Вінцэнта, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 23.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у Мінску *(295—1—1643—3адв.; 1418—3—1—3адв.-4)*.

240. **Арцімовіч Максімільян** (Арцимович Максимилиан), памешчык. Падчас паўстання 23.04.1863 у м. Крычаве Чэрыкаўскага пав. далучыўся да атрада *Арцімовіча Міхала*, з якім прыбыў у м. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. Асцерагаючыся паланення сялянамі, разам з рэшткамі атрада паспеў пакінуць Гарбатку і 24.04.1863 злучыўся з атрадам *Жукоўскага Яна-Алаізія*, з якім увайшоў у склад атрада *Звяждоўскага Людвіка*. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 25.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК; да яго справы меў дачыненне *Адамовіч Юзаф*. Высланы ў Табольскую губ. Яго частка маёнтка Фастава Мсціслаўскага пав. секвестравана, пасля падлягала канфіскацыі ў казну ці на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу, а ў 1867 г. вяртанню ў яго валоданне (?) *(2003—1—445—15; 2003—2—90; 2514—1—2198—66адв.; 2532—1—15—10; 3256—2—14—21адв.-22; 3257—2—2—1; 3366—1—5—1адв.)*.

241. **Арцімовіч (Арцымовіч) Міхал** (Арцимович (Арцымович) Михаил), сын Міхала Янавіча, памешчык, каталік. Нар. каля 1841 г. Да паўстання валодаў маёнткам Ярошаўка і фальв. Буда Клімавіцкага пав. (2406 дзес. зямлі, 2 дамы, кузня, млын, стайня, гаспадарчыя пабудовы і інш., 51554 руб. доўгу). 22.04.1863 сфарміраваў у Ярошаўцы невялікі атрад, куды ўвайшлі *Арцішэвіч Дамінік*, *Вайцяхоўскі Ігнат*, *Хадаровіч Леанард*, *Шаўлоўскі Людвік*, *Шчубінскі Францішак*. 23.04.1863 накіраваўся ў маёнтак Гарбатка Чэрыкаўскага пав. для злучэння з іншым атрадам, па дарозе да атрада далучыліся *Бараноўскі Андрэй* і *Булгарын Юзаф*, а ў м. Крычаве Чэрыкаўскага пав. — *Арцімовіч Максімільян*,

аднак адлучыліся *А. Д.*, *В. І.*, *Ш. Л.* і *Ш. Ф.* Асцерагаючыся паланення сялянамі, разам з *Б. А.* і *Б. Ю.* паспеў пакінуць Гарбатку і 24.04.1863 злучыўся з атрадам *Жукоўскага Яна-Алаізія*. Пасля ўвайшоў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, 30.05.1863 здаўся разам з усім атрадам у Кульчыцкіх лясах. Зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.06.1863 перадала яго справу ў МагСК. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 01.03.1863 падала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На следстве і судзе не выказаў раскаяння. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. Яго маёмасць канфіскавана *(319—1—479—3адв.; 1430—1—52163—206адв.; 2001—2—123—10адв.-11; 2001—2—171—30адв.-32, 39адв.; 3256—2—14; 3257—2—2—1адв.; 3366—1—5—1адв., 13)*.

242. **Арцішэвіч Дамінік** (Арцишевич Доминик), сын Яна, дваранін г. Варшавы, каталік. Нар. каля 1836 г. 22.04.1863 пакінуў месца жыхарства і ўзброены стрэльбай прыбыў у маёнтак Ярошаўка Клімавіцкага пав., дзе ўвайшоў у склад невялікага атрада, які фарміраваў *Арцімовіч Міхал*. 23.04.1863 разам з атрадам з Ярошаўкі накіраваўся ў м. Гарбатка Чэрыкаўскага пав., аднак па дарозе разам з *Вайцяхоўскім Ігнатам* пакінуў атрад і вярнуўся на месца жыхарства. 02.05.1863 арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая 01.03.1864, скончыўшы яго справу, падала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—207; 2514—1—2198—66адв.; 3256—2—14; 3257—2—2—1; 3366—1—5—1адв.)*.

243. **Арцішэўскі Адам** (Арцишевский Адам). Служыў лепельскім спраўнікам, да паўстання выйшаў у адстаўку; тытулярны радца. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 накладаўся секвестр, які 20.04.1865 быў яшчэ не зняты. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 01.10.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. *(1416—3—21048—1; 1430—1—52163—411адв., 822адв.; 1430—1—52285—5, 42адв.)*.

244. **Арцішэўскі Вінцэнт** (Артишевский Викентий), дваранін Сенненскага пав. Нар. каля 1844 г. Да паўстання жыў у маёнтку Раганавічы Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(295—1—1527—99адв.; 295—1—1643—3адв.; 1430—1—52163—152)*.

245. **Арцішэўскі Вінцэнт** (Арцишевский (Артишевский) Викентий), дваранін, каталік. Служыў павытчыкам Віцебскага павятовага суда, пасля віцебскім павятовым спраўнікам. Каля 1848 г. атрымаў спадчыну (каля 10 тыс. руб.) пасля свайго брата — віцебскага дэкана і пробашча Віцебскага касцёла Св. Барбары. Да паўстання служыў лепельскім (ці полацкім) земскім спраўнікам, тытулярны радца. Падчас паўстання арыштаваны «па падазрэнні ў пакрыцці рэвалюцыйных задумаў». Зняволены ў г. Віцебску, знаходзіўся пад следствам у ВСК. Сасланы (да 08.1863) на жыхарства ў Вяцкую губ., а яго рухомая маёмасць прададзена. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі; яго 175 руб. ср., якія знаходзіліся на захаванні ў бешанковіцкага аканома Юзафа Петражыцкага, адасланы яму 03.03.1864. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 грошы за прададзеную рухомасць падлягалі вызваленню ад секвестру *(1416—3—21048—1адв.; 1416—4—11416—285-286; 1430—1—31355—29-52; 3046—2—3—2адв.-3; 3046—2—5—1)*.

246. **Арцішэўскі Мікалай** (Арцишевский (Арцышевский) Николай), сын Сымона, дваранін Сенненскага пав., каталік. Абвінавачаны рас. уладамі ў знаходжанні ў заскаркаўскім паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 24.10.1863 высланы ў г. Дынабург, 10.10.1863 у ДСК перададзена яго справа. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—3—21048—1адв.; 2601—1—2—342-343; 2626—1—305—52; 3046—2—3—2адв.-3; 3046—2—5—1)*.

247. **Арцішэўскі Ян** (Артишевский Иван), сын Яна, муж Францішкі, зяць *Камінскага Вінцэнта*, дваранін, каталік. Паходзіў з Магілёўскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання жыў у маёнтку Строганы Суражскага пав., якім кіраваў свёкар. За дачыненне да справы свёкра арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 12.10.1863) да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць на-

кладаўся секвестр, з 1867 г. яна падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—1; 1430—1—52163—152; 2514—1—2198—66адв.; 2586—1—52; 2626—1—305—1)*.

**Арцымовіч Міхал** — гл. **Арцімовіч Міхал**

248. **Арэльд Аляксандр** (Арельд Александр), сын Аўгустына, аднадворац Рэчыцкага пав., каталік. Нар. каля 1830 г. Да паўстання служыў пісарам у Дзярновіцкай вол. Рэчыцкага пав. За «непаслушэнства» ваеннаму станавому начальніку, «саманадзейнасць на польскага караля» і «дрэнныя паводзіны» арыштаваны. Падчас следства склаў фальшывы данос аб паруках за яго сельскай грамады. Загадам П. Шалгунова ад 09.10.1864 аддадзены пад ПВС пры Бабруйскім ардананс-гаўзе. 21.10.1864 адпраўлены з г. Мазыра ў г. Бабруйск. 11.12.1864 яго справа скончана і з прапановай прысуду (вытрымаць 4 месяцы ў казематах) перададзена П. Шалгунову, якім у сваю чаргу адпраўлена ў ЧПА з прапановай «выслаць яго з тутэйшага краю». Пастановай ЧПА ад 25.04.1865, канфірмаванай 26.04.1865 А.Л. Патапавым, прызнаны «шкодным для далейшага знаходжання ў тутэйшым краі» і прысуджаны да ссылкі на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. Яго маёмасць падлягала продажу з публічнага аўкцыёну, у выніку чаго было прададзена рухомасці на 3,12 руб. Высланы (да 09.1865) па этапе на месца ссылкі разам з сям'ёй. У 1875–1876 гг. жыў у с. Сямёнаўскае Марыінскай акругі Томскай губ. У 1876 г. атрымаў амністыю з правам вярнуцца ў Мінскую губ. *(295—1—1643—2; 295—1—3056; 296—1—96)*.

249. **Арэльскі Уладзіслаў** (Оржельский Владислав), дваранін. За «палітычнае злачынства» высланы з радзімы. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. — вяртанню ў яго валоданне. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—52; 2514—1—2198—69)*.

250. **Арэндт Міхаліна** (Арендт Михалина), дачка Міхала, дваранка Мінскай губ. Да паўстання жыла ў г. Мінску. За дачыненне да паўстання арыштавана і аддадзена пад ПВС у Мінску. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 яе дом у Мінску секвестраваны. Ваенным судом прызначана (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Варонежскую губ. Яе маёмасць заставалася пад секвестрам *(162—1—116—57, 124; 295—1—1643—5адв.; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.; 2616—1—40—58адв.)*.

251. **Арэнсан Янкель** (Аренсон Янкель), сын Шлёмы, мешчанін Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

252. **Асавецкая Антаніна** (Осовецкая Антонина), жонка *Антонія*, шляхцянка Мінскага пав. Пасля арышту мужа спрабавала выкупіць яго ў сялянаў, у сувязі з чым трапіла пад следства. Канфірмацыяй А. Патапава ад 10.08.1863 як «нядобранадзейная для знаходжання ў тутэйшым краі» прызначана да ссылкі з мужам на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. Яе маёмасць падлягала продажу з аўкцыёну для пакрыцця выдаткаў на яе перасылку *(295—1—1585—5-6)*.

253. **Асавецкі Антоні** (Осовецкий Антоний), муж *Антаніны*, шляхціц Мінскага пав. 09.12.1863 піў гарэлку ў карчме Славесці каля г. Мінска разам з *Захаравым Паўлам*, удзельнічаў у размове пра паўстанне. Арыштаваны і дастаўлены ў Мінск. Канфірмацыяй А. Патапава ад 10.08.1863 як «нядобранадзейны для знаходжання ў тутэйшым краі» прысуджаны да ссылкі з жонкай на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. Яго маёмасць падлягала продажу з аўкцыёну для пакрыцця выдаткаў на яго перасылку *(295—1—1585—5-6)*.

254. **Асіеўскі (Асяеўскі) Казімір** (Осиевский (Осеевский) Казимир). Паходзіў з Мінскай (?) губ. У паўстанні ўваходзіў у склад атрада *Машэўскага Уладзіслава*. 20.04.1863 цяжка паранены падчас бою з рас. войскамі ля в. Азярцы Ігуменскага пав., ад чаго памёр (да 25.04.1863) *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв.)*.

255. **Асіповіч Казімір** (Осипович Казимир), сын Антонія Геранімавіча, бацька *Юзафа*, дваранін Слуцкага ці Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1818 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 паранены ў левае плячо ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав., узяты ў палон. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 27.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго рухомая маёмасць, ацэненая ў 189,76 руб., секвестравана *(162—1—116—123, 156; 295—1—1537—7-12адв.; 295—1—1643—157; 299—1—577—518-543адв.; 319—1—479—23; 320—1—398—552, 644; 320—2—98—43; 1430—1—52163—530адв.; 1524—1—1—10; 1525—1—2—4адв.-5)*.

256. **Асіповіч Канстанцін** (Осипович Константин), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой

«пакінуты ў падазрэнні». 25.06.1864 яго справа パ дадзена ЧВГМГ *(1418—3—1—54адв.-55)*.

257. **Асіповіч Францішак** (Осипович Франц), сын Тадэвуша, дваранін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны (да 15.11.1863) *(296—1—77)*.

258. **Асіповіч Юзаф** (Осипович Иосиф), сын *Казіміра*, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. 05.11.1847. Да паўстання вучыўся ў гімназіі. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. 11.12.1863 ПВСЗБА прызначаны да ссылкі шарагоўцам у Сібірскі корпус. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—23; 320—1—398—326-327адв., 331; 320—2—98—42адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—10адв.; 1525—1—2—7адв.-8)*.

259. **Аскерка Аляксандр** (Оскерко Александр), дваранін. Да паўстання валодаў фальв. Раеўшчына Вілейскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—22адв.)*.

260. **Аскерка Баляслаў** (Оскерко Болеслав), сын Паўла, муж Марыі Станіславаўны, бацька Анелі, Вацлава і Пауліны, памешчык. Хр. 12.05.1821. У паўстанні належаў да «Мінскай рэвалюцыйнай арганізіцыі», арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 12 гадоў у рудніках. Сасланы ў Сібір. Яго маёнтак Ячонка Мінскага пав. (ацэнены ў 70 тыс. руб.) з рухомай маёмасцю на 1307 руб. секвестраваны і потым канфіскаваны *(162—1—116—57; 295—1—1643—165, 166адв.; 296—1—89—29; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—23; 320—1—398—462, 467; 320—2—98—43; 320—2—99—31в адв.-31г; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375; 1527—1—4—100, 117)*.

261. **Аскерка Войцех** (Оскерко Альберт), сын Казіміра, памешчык Барысаўскага пав. Арыштаваны, утрымліваўся пры Дынабургскім арданансгаўзе. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.12.1864 прысуджны да грашовага штрафу і 10-працэнтнага збору з яго маёнтка *(160—2—682—62; 162—1—122—10; 534—1—14—20)*.

262. **Аскерка Ваўрынец** (Оскерко Лаврентий), сын Казіміра Сымонавіча, дваранін Капыскага пав. Хр. 24.02.1818. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ПВА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 19.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—153-155, 223; 320—2—98—42адв.; 3257—2—2—26)*.

263. **Аскерка Вітальд** (Оскерко Витольд), сын *Эміля*, брат *Фелікса*, памешчык Рэчыцкага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства 01.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Волагду ці Вяцкую губ., а на яго маёмасць накладаўся секвестр. У 1865 г. на ўласную просьбу пераведзены ў г. Інсар Пензенскай губ. У 1867 г. атрымаў дазвол на пераезд у Каралеўства Польскае, пераехаў у г. Варшаву. 04.1874 вярнуўся на радзіму і пасяліўся ў маёнтку Вадовічы Рэчыцкага пав., дзе жыў яшчэ 12.1876. У 1878 г. перасяліўся ў маёнтак Лучыцы Мазырскага пав., дзе жыў яшчэ 05.1882 *(162—1—116—166; 295—1—1643—159; 295—1—3026—25адв.-26; 295—1—3492—13, 63, 87; 299—1—577—550-554; 320—2—99—15-22; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21)*.

264. **Аскерка Генрык** (Оскерко Генрих), памешчык. Абвінавачаны ў «садзейнічанні мяцяжу і складанні злачыннага адраса і іншых злачынствах» і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—158адв., 167)*.

265. **Аскерка Міхал** (Оскерко Михаил), сын Андрэя, дваранін Мінскай губ., каталік. Нар. каля 1837 г. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, які скончыў са званнем лекара. У 1860 г. накіраваны на службу ў бальніцу пры «богаўгодных установах» г. Магілёва. У 1862 г. праз «хатнія абставіны» выйшаў у адстаўку. Да паўстання працаваў вольнапрактыкуючым доктарам. На пач. 1863 г. каля 1 месяца жыў у г. Вільні. Актыўна дзейнічаў у складзе падпольнай паўстанцкай арганізацыі ў г. Мінску, быў сувязным паміж Мінскам і Вільняй, потым займаў пасаду галоўнага камісара Мінскага ваяв. 06.1863 выязджаў у Пінскі і Мазырскі пав., сустракаўся з *Магільніцкім Ежым*, у м. Лахва Мазырскага пав. са *Свідам Баляславам*. Пасля выезду 09.1863 *Пялікшы Карнелія* за мяжу пераняў кіраўнічыя функцыі і намагаўся аднавіць арганізацыю. Выязджаў некалькі разоў у Магілёўскую і Віцебскую губ., у Вільню для зносінаў з Цэнтральным Літоўскім Камітэтам. Прызначаў на пасады ў арганізацыі *Баравіка Баляслава*, *Лапіцкага Гектара*, *Тарчынскага Артура*, *Яманта Юзафа* і інш. З 05.1863 яго шукалі рас. улады, 28.10.1863 арыштаваны ў г. Востраў Пскоўскай губ. разам са *Свентарэцкай Алімпіяй*.

Супраць яго выкарыстоўваліся сярод іншага паказанні *Каліноўскага Канстанціна* і *Параф'яновіча Вітальда*. На следстве і судзе не прызнаваўся ва ўдзеле ў паўстанні і не выкрываў іншых асоб. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 12.04.1864 прысуджаны да смяротнага пакарання праз расстрэл, што мусіла адбыцца ў Магілёве, і канфіскацыі маёмасці. 22.04.1864 адпраўлены з Вільні, 24.04.1864 прыбыў у Магілёў. 28.04.1864 а 9-й гадзіне раніцы расстраляны ў Магілёве за турэмным замкам на вучэбнай плошчы *(162—1—122—101адв.; 299—1—579—298-307; 319—1—479—23; 1430—1—52163—206; 3256—2—29).*

266. **Аскерка Фелікс** (Оскерко Феликс), сын *Эміля*, брат *Вітальда*, памешчык Рэчыцкага пав. Служыў міравым пасярэднікам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў матэрыяльнай дапамозе паўстанцам, за што ў 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Пазней атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму; у 1880 г. жыў у Рэчыцкім пав. 11.1881 валодаў маёнткам Маканавічы Рэчыцкага пав. *(295—1—1643—162; 295—1—3492—13, 31адв.-32, 87адв.; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

267. **Аскерка Эміль** (Оскерко Эмилий), сын Паўла, муж Мальвіны Феліксаўны Яленскай (сястры *Яленскага Напалеона*), бацька *Вітальда* і *Фелікса*, памешчык Рэчыцкага пав. За ўдзел у «непарадках, якія адбываліся падчас дваранскіх выбараў, якія праводзіліся ў 1862 г.», яго маёнтак Вадовічы з фальв. Вялікія і Малыя Вадовічы і Маканавічы Рэчыцкага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 16.10.1863. Жонка 02.01.1864 падала прашэнне аб зняцці секвестру *(162—1—116—166; 295—1—1643—167; 296—1—25—85; 296—1—89—10адв., 72, 75адв.; 299—1—577—550-554; 320—2—99—15-25, 35адв.-36).*

268. **Аскерка Ян** (Оскерко Иван), памешчык. Да паўстання з'яўляўся рагачоўскім павятовым маршалкам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. без суда і следства высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля пераведзены ў г. Рыгу, дзе ў 1869 г. атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». У 1873 г. атрымаў дазвол на пражыванне «па ўсіх месцах» *(295—1—1989—33-34; 1430—1—35458—36-37; 1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2532—1—15—10адв.).*

269. **Аскерка Ян** (Оскерко Иван). Да паўстання служыў пісарам у маёнтку Ячонка Мінскага (?) пав. Падчас паўстання ўваходзіў у склад атрада *Дыбоўскага Паўла*. Арыштаваны і асуджаны рас. уладамі *(295—1—1776—34).*

270. **Асінскі Дыянізі** (Осинский Дионисий). Нар. у Кіеўскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы ў Архангельскую губ., дзе ў 1871 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—69).*

271. **Асмалоўскі Базыль** (Осмоловский Василий), сын *Сымона*, дваранін Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 23.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—23адв.; 3257—2—2—26; 3366—1—5—8адв.).*

**Асмалоўскі-Бонч Даніэль** — гл. **Бонч-Асмалоўскі Даніэль**

272. **Асмалоўскі Сымон** (Осмоловский Семен), бацька *Базыля*, дваранін. Да паўстання валодаў домам і 6 дзес. зямлі (з 62 руб. доўгу) у вак. Разанцы Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам і ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 23.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Хоць яго маёмасць падлягала канфіскацыі, але была перададзеная жонцы і дзецям паводле распараджэння М. Мураўёва *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—23адв.; 2001—2—123—9адв.-10; 2001—2—171—25адв.-26, 39адв.; 3257—2—2—26).*

273. **Асмольскі Ізыдар** (Осмольский Исидор), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

274. **Асмольскі Ян** (Осмольский Иван), дваранін Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні на Украіне. Прысуджаны да пакарання ў Кіеўскай губ. *(534—1—14—59).*

275. **Асмольскі Ян** (Осмольский Иван), дваранін Віленскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны

(каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199)*.

**Асока Данат** — гл. **Асоска Данат**

276. **Асончык Сяргей** (Асончик Сергей), селянін. Падчас паўстання арыштаваны за несвоечасовае данясенне ўладам пра з'яўленне паўстанцаў і аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны да месячнага арышту *(295—1—1643—1адв.)*.

277. **Асоска (Асока) Данат** (Оссоско (Оссоко) Донат), памешчык Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—22адв.)*.

278. **Асоска Ільдэфонс** (Оссоско Ильдефонс), дваранін Панявежскага пав. Нар. каля 1835 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця 16.05.1863 схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, пастановай якога прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(295—1—1527—94адв., 101адв.; 295—1—1643—158; 319—1—479—23; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

279. **Асоска Тэкля** (Ососко Текля), дваранка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзілася пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яе справу *(3046—2—5—38)*.

280. **Асоўскі Антоні (Антоні-Адам-Юзаф-Пётр)** (Оссовский Антон (Антон-Адам-Иосиф-Петр)), сын Уладзіслава, муж N. Вінцэнтаўны Булгак (шлюб каля 1860 г.), памешчык Ігуменскага пав. Падчас паўстання прыняў ад *Крупскага Баніфацыя* паперы «з рэвалюцыйнымі распараджэннямі». 22.04.1863 затрыманы казакамі ля в. Наваселле Ігуменскага пав., пры вобшуку ў яго пад падэшвай і ў кішэнях знойдзены гэтыя паперы. Дастаўлены ў г. Мінск, 21.06.1863 утрымліваўся ў мінскім астрогу. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. Аддадзены пад ПВС пры Велікалуцкім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.09.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. Яго маёнтак Блонь Ігуменскага пав. з фальв. Блонь, Спакойнасць і Зосіна 01.08.1863 секвестраваны і потым канфіскаваны. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву і запісаўся ў склад сталых яе жыхароў. У 1875 г. падаў прашэнне аб прыбыцці ў Мінскую губ. на 6 месяцаў з прычыны смерці цесця, 10.1875 атрымаў дазвол і 15.11.1875 прыбыў у Ігуменскі пав. 05.1876 атрымаў дазвол на сталае жыхарства на радзіме, 31.10.1876 ад варшаўскага обер-паліцмайстра атрымаў пасведчанне на праезд у Мінскую губ., 11.1876 прыбыў у Ігуменскі пав. 06.1882 жыў у маёнтку Вязынь Ігуменскага пав. *(162—1—116—12; 295—1—1550; 295—1—1643—157адв., 159адв.; 295—1—2760; 295—1—3058; 295—1—3492—68, 87адв.; 296—1—89—36адв.-37; 319—1—479—23; 320—1—398—81, 124, 234; 320—2—98—42адв.; 1416—1—247; 1430—1—52163—596б)*.

281. **Асоўскі Віктар** (Осовский Виктор), сын Францішка. Да паўстання служыў пісарам Мінскай губернскай будаўнічай і чарцёжнай камісіі. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, падлягаў арышту. 18.12.1863 месца яго знаходжання не было вядомае рас. уладам *(1527—1—4—132-133)*.

282. **Асоўскі Казімір** (Оссовский Казимир), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Людвінова Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

283. **Асоўскі Казімір** (Оссовский Казимир), сын Яна. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка ці паручніка. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам Кобрынскага земскага суда. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

284. **Астаневіч Антоні** (Останевич Антон), сын Яна, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1817 г. Да паўстання знаходзіўся на службе ў *Бразоўскага Францішка*. 22.04.1863 затрыманы сялянамі, пры гэтым у яго павозцы знойдзены 6 стрэльбаў, шпага, кінжал і агняпальны рыштунак. Разам з ім арыштаваны *Барнусовіч Фядот*, *Бельскі Каятан*, *Вішнеўскі Адам*, *Дзямідаў Сцяпан*. Зняволены ў г. Смаленску. На яго маёмасць паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 07.07.1863, накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. На следстве і судзе сцвярджаў, што перавозіў зброю з аднаго маёнтка ў другі паводле загаду *Б. Ф.* Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 «пакінуты ў падазрэнні» і прызначаны да вяртання

на месца жыхарства на парукі і з паліцэйскім наглядам. З яго маёмасці належала спагнаць 10-працэнтны збор *(1416—3—21048—38; 1430—1—31588—15-22адв.; 1430—1—52163—396адв.).*

285. **Астаневіч Валяр'ян** (Останевич Валериан), дваранін Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—23).*

**Астанкевіч Ян** — гл. **Астаньковіч Ян**

286. **Астановіч Рыгор** (Астанович Григорий), шляхціц Бельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—3адв.).*

287. **Астаноўка Адам** (Остановка Адам), сын Тамаша, дваранін Дынабургскага ці Дзісенскага пав. Падчас паўстання служыў пісарам у м. Дагда Дынабургскага пав. Западозраны ў супрацоўніцтве з *Васілеўскім Вінцэнтам*, арыштаваны. Разам з *В. В.*, *Вернэсам Балтазарам*, *Грамадзінскім Андрэасам*, *Закрэўскім Даніэлем*, *Мархелем Данатам*, *Мікшэвічам Вінцэнтам*, *Пяткевічам Уладзіславам*, *Свідэрскім N.*, *Тэйвалем Юзафам*, *Шумовіч Ганнай* зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 прызначаны да аддачы пад ПВС пры Дынабургскім ардананс-гаўзе *(2601—1—29).*

288. **Астаньковіч Антоні** (Останькович Антон), дваранін Віцебскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. — вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69).*

289. **Астаньковіч (Астанкевіч) Ян** (Останькович (Останкевич) Иван), сын тытулярнага радцы Леана Антоніевіча, дваранін Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 31.05.1863) і зняволены ў г. Магілёве. Паводле распараджэння Чавускага павятовага паліцэйскага ўпраўлення ад 31.05.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Паводле пастановы МагГП ад 26.06.1863 маёнтак яго бацькі Чыжы Чавускага пав. падлягаў паліцэйскаму нагляду да вырашэння пытання аб накладанні забароны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, дзе меў дачыненне да справы *Акуліча-Казарына Людвіка (2003—1—222; 2003—1—245—5; 3257—2—2—26, 27).*

290. **Асташка Леанард** (Осташко Леонард), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201адв.).*

291. **Асташкевіч Тамаш** (Осташкевич Фома), дваранін Мінскай губ. ці Аршанскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 17.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. 09.1864 прысуджаны да секвестру маёмасці і ссылкі «адміністрацыйным шляхам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—104; 3255—1—14—4; 3257—2—2—27).*

292. **Асташэўскі Францішак** (Осташевский Францишек), сын Тадэвуша, дваранін Кобрынскага пав. альбо вольны хлебароб (ці селянін) Пружанскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання жыў у маёнтку Стрыганец Кобрынскага пав. 13.05.1863 далучыўся да паўстання, знаходзіся ў 2 атрадах, у т.л. *Траўгута Рамуальда*, удзельнічаў у баях з рас. войскамі. 10.1863 пасля разбіцця атрада захоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 30.08.1863 і ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у Пінскай і Мінскай следчых камісіях. 15.11.1863 ЧВГМГ В. Забалоцкім аддадзены пад ПВС пры Шуйскім пяхотным палку ў г. Пінску, рашэннем якога ад 21.12.1863 прызначаны да ссылкі ў арыштанскія роты. Яго справа вернута ЧВГМГ, якім 24.12.1863 накіравана М. Мураўёву. Рашэннем ЧПА, канфірмаваным 13.02.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі, з прычыны «хваравітага яго стану», не ў арыштанскія роты, а на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. 26.12.1864 адпраўлены з Пінска на месца ссылкі. *(295—1—1643—157адв.; 296—1—45; 320—1—398—2; 1525—2—2—44-45адв.).*

293. **Астраменцкі Віталь** (Остроменцкий Виталий), дваранін Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—23; 1430—1—52163—181адв.).*

294. **Астраменцкі Леан** (Остроменцкий Леон), сын Канстанціна, памешчык Сакольскага і Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. Атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму; у 1880 г. жыў у Мінскай

губ., 03.1882 — у маёнтку Сухарэбшчына Навагрудскага пав. *(162—1—122—20адв.; 295—1—3492—10, 40; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—7, 14).*

295. **Астраменцкі Уладзіслаў** (Остроменцкий Владислав), дваранін Віцебскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». Яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 секвестравана *(296—1—25—110; 1416—3—21048—38адв.; 1430—1—52163—399а адв., 617).*

296. **Астрамецкі (Астраменцкі) Францішак** (Остромецкий (Остроменцкий) Франц), брат Людвікі, дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання жыў у г. Пінску, дзе служыў настаўнікам матэматыкі ў гімназіі. Далучыўся да атрада *Рагінскага Рамана*, які дзейнічаў у Пінскім пав. Пасля разбіцця атрада 02.1863 схоплены рас. войскамі, адпраўлены ў фартэцыю ў г. Брэст. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ці на пасяленне. У 1869 г. яго сястра падала прашэнне аб яго «памілаванні ці палягчэнні лёсу» *(295—1—1999; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601; 1527—1—4—132-133).*

297. **Астрамецкі Ян** (Остромецкий Иван), сын Юльяна. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў памочнікам бухгалтара Кобрынскага павятовага казначэйства. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвеструу *(1416—6—232).*

298. **Астроўкін Мендэль** (Островкин Мендель), сын Мойшы, яўрэй Гарадоцкага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў продажы пораху ў Гарадоцкім пав. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—60адв.-61; 3046—2—5—38).*

299. **Астроўскі Антоні** (Островский Антон), дваранін Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—23; 1430—1—52163—166адв.).*

300. **Астроўскі Антоні** (Островский Антон), мешчанін м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—23; 1430—1—52163—167).*

301. **Астроўскі Густаў** (Островский Густав), дваранін Кіеўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 06.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106; 3257—2—2—26; 3366—1—5—8адв.).*

302. **Астроўскі Казімір** (Островский Казимир), мешчанін Лідскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Хільчыцы Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

303. **Астроўскі Міхал** (Островский Михаил), сын Лукаша. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам гарадавога магістрата. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

304. **Астроўскі Станіслаў** (Островский Станислав), дваранін Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

305. **Астроўскі Юзаф** (Островский Осип), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання служыў валасным пісарам. Западозраны разам з *Люкевічам Марцінам* і *Ражноўскім Гальяшам* у падрыхтоўцы на пачатку 1863 г. паўстання ў Дзісенскім пав., трапіў пад следства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.12.1864 прызначаны да звальнення са службы і аддачы на парукі. ВГП 31.12.1865 выдала адпаведны ўказ *(1416—4—11416—294-296, 336).*

306. **Астрэйка Павел** (Острейко Павел), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да ссылкі ў «дальнія губерні». 03.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—159; 1418—3—1—55адв.-56).*

307. **Асухоўскі Мікалай** (Осуховский Николай), дваранін Пружанскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Шчытна Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—23; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

**Асяеўскі Казімір** — гл. **Асіеўскі Казімір**

308. **Асяндоўскі Баляслаў** (Осендовский Болеслав), сын Аляксандра, памешчык Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў дапамозе *Вольскім Антонію*, *Ільдэфонсу* і *Каралю*, трапіў пад следства. 14.10.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў *(1430—1—52163—635)*.

309. **Асяцімская Ганна** (Осецимская Анна), жонка *Рудольфа*, памешчыца Мінскай губ. За ўдзел яе сыноў у паўстанні маёнтак Задоры Барысаўскага пав., якім яна валодала разам з мужам, секвестраваны, а потым канфіскаваны. За ёй застаўся маёнтак Бяляны Дзісенскага пав. *(296—1—25—82; 320—2—99—29)*.

310. **Асяцімскі Альфонс** (Осецимский Альфонс), памешчык Чэрыкаўскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК, разам з жонкай меў дачыненне да справы *Валіцкага Адольфа* і *Крукоўскага Мікалая*. Пасля высланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—9адв.; 3257—2—2—26)*.

311. **Асяцімскі Генрык** (Осецимский Генрих), сын Банавентуры, брат *Рудольфа*, муж Камілы, бацька Генрыка і Марыі, памешчык Барысаўскага пав. Падчас паўстання быў звязаны з паўстанцамі і пастаўляў ім харчаванне, за што арыштаваны. Зняволены 09.1863 у турме г. Мінска. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да ссылкі ў Сібір і канфіскацыі маёмасці. Сасланы ў Арэнбургскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу. Маёнтак Завішына Барысаўскага пав. (719 дзес. зямлі, 1500 руб. гадавога прыбытку, ацэнены ў 25 тыс. руб.), які належаў яго бацькам, секвестраваны паводле распаражэння МГГ ад 13.07.1863; у 1864 г. на яго накладзена забарона *(162—1—116—103; 295—1—1533—4-7; 295—1—1643—157, 160; 296—1—19—61; 296—1—89—8адв., 46адв.; 296—1—90—4адв.-5; 299—1—577—508-510; 320—2—99—29; 2532—1—15—13адв.)*.

312. **Асяцімскі Рудольф** (Осецимский Рудольф), сын Банавентуры, брат *Генрыка*, муж *Ганны*, бацька Іпаліта, Люцыяна і Юстына, памешчык Мінскага і Барысаўскага пав. 19.04.1863 падаў рапарт барысаўскаму павятоваму ўрадніку аб нападзе паўстанцаў на яго маёнтак і забранне сыноў, землямераў і харчавання. Нягледзячы на гэта, за спачуванне паўстанцам і пастаўку ім харчавання 09.1863 арыштаваны і зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, прысуджаны да ссылкі ў Сібір і канфіскацыі маёмасці. Яго маёнткі Бараўляны Мінскага пав. (распараджэнне МГГ ад 04.07.1863), Задоры і Нястанавічы Барысаўскага пав. (распараджэнне МГГ ад 13.08.1863) (агулам — 4636 дзес. зямлі, 5000 губ. гадавога прыбытку, ацэненыя ў 250 тыс. руб.) секвестраваны і перададзены ў распараджэнне ПДМ. Высланы ў Казанскую губ.; яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(162—1—116—103; 295—1—1527—61, 62; 295—1—1643—157, 160, 165; 296—1—19—61; 296—1—25—82; 296—1—89—7, 8адв., 27, 45адв., 67, 69; 296—1—90—4адв.-5; 320—2—99—29; 1416—1—247; 2532—1—15—13, 13адв.)*.

313. **Асяцімскі Станіслаў** (Осецимский Станислав). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1885 г. жыў у эміграцыі, 15.03.1885 пазбаўлены рас. грамадзянства з забаронай знаходзіцца на тэрыторыі імперыі *(295—1—4063; 1430—1—52758—32)*.

314. **Атрашкевіч Караль** (Отрашкевич Карл), сын Адама, дваранін Сенненскага пав. Да паўстання служыў пісарам у МагГП. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены (да 07.05.1863) сялянамі с. Бель Чэрыкаўскага пав. Быў пад следствам у ЧСК. Потым высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2001—2—126—8; 2514—1—2198—69; 3366—1—5—8адв.)*.

315. **Аўгас Каятан** (Аугас Каэтан). Да паўстання служыў стралком сталай лясной варты Паняжэжскага лясніцтва ў чыне шарагоўца. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(319—1—479—3; 534—1—14—4адв.)*.

316. **Аўгун Міхал** (Авгун Михаил), сялянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73)*.

317. **Аўдзевіч Апалонія** (Аудзевич Аполония), дваранка. Да паўстання — удава, жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(319—1—479—3; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

318. **Аўзбіковіч Юзаф** (Аузбикович Иосиф), дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання служыў чыноўнікам. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў г. Дынабургу. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.02.1864 скончыла яго справу.

Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—3; 1430—1—52163—521; 3046—2—5—1адв.).*

**Аўранпальскі Караль Пётр** — гл. **Абрампальскі Караль Пётр**

319. **Аўсянка Стэфан** (Овсянка Стефан), сын Іаахіма, мешчанін г. Віцебска. Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад паўстанцкага атрада ў Магілёўскай губ. 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Трапіў пад следства ў АСК, якая 28.01.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Потым яго маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—38адв.; 1430—1—52163—394; 2514—1—2198—69; 3255—1—12—2; 3255—1—14—4).*

320. **Аўсяны Пётр** (Овсяный Петр), сын Францішка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 19.06.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—54адв.-55).*

321. **Аўсяны Юзаф** (Овсяный Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Асвея Дрысенскага пав., з'яўляўся полацкім дэканам. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання і пастаўцы паўстанцам рэчаў і харчавання. Арыштаваны, зняволены (да 25.01.1864) у Дынабургскай фартэцыі. Быў пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Пад следствам знаходзіўся разам з *Анкудовічам Баляславам, Аляхновічам Міхалам, Барташам Пятром, Гараднікам Ігнатам, Гільфантам Залманам, Гласкам Ксаверыем, Дзінэрам Лазарам, Куракам Ігнатам, Лапацінскім Ігнатам, Сварацкім Леанардам, Слежаноўскім Паўлам, Фалевічам Каралем, Цялевічам Альфонсам, Шчытам Уладзіславам* і інш. Паводле канфірмацыі А. Патапава ад 08.08.1864 аддадзены пад ПВС *(1416—2—12677—32-33адв.; 2601—1—5—7адв.; 3046—2—5—38; 3432—1—13—6, 8 і інш.).*

322. **Аўтухаў[50] Ян** (Автухов Иван), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—1адв.).*

323. **Афанасовіч Каятан** (Афанасович Каетан), дваранін Магілёўскай губ. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—3адв.; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—1адв.; 3366—1—5—13).*

324. **Ахатніцкі Францішак** (Охотницкий Франц), сын Сымона ці Антона, селянін. Нар. каля 1829 г. Да паўстання жыў у в. Сялец Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.05.1864 прысуджаны да ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 2 гады і канфіскацыі маёмасці. Сасланы *(162—1—116—112адв.-113; 295—1—2725—10; 320—1—398—452адв.).*

325. **Ахрамовіч Адольф** (Ахремович Адольф), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск *(1418—3—1—1адв.-2).*

326. **Ахрамовіч Казімір** (Ахремович Казимир), сын Фларыяна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў. Паводле рашэння ІСК вызваляўся ад пакарання *(1418—3—1—2адв.-3).*

327. **Ахрамовіч Станіслаў** (Ахремович Станислав), сын Вінцэнта Якубавіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1835 г. Быў гвалтоўна забраны ў паўстанцкі атрад, пасля нядоўгага знаходжання ў ім з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, быў пад следствам у ІСК, 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 за тое, што «даказаў сваю нядобранадзейнасць у палітычных адносінах для далейшага знаходжання ў тутэйшым краі», прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Самарскую губ. пад нагляд паліцыі. Высланы, паселены на казённых землях Новавузенскага пав. Самарскай губ., запісаны ў склад дзяржаўных сялянаў. У 1870 г. пераведзены ў Пермскую губ., дзе хадайнічаў аб выдачы грашовай дапамогі *(162—1—116—50; 295—1—1643—161адв.; 295—1—2208; 320—1—398—215; 320—2—98—89-91; 1418—3—1—2адв.-3; 1430—1—52285—30).*

328. **Ахрамовіч Феліцыян** (Ахремович Фелициан), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск *(1418—3—1—2адв.-3).*

329. **Ачапоўскі Станіслаў** (Очаповский Станислав), сын Антонія, дваранін Слуцкага пав. Да паўстання жыў у Седлецкім пав. Люблінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 02.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў.

[50] Верагодна, гэта імя па бацьку.

08.1865 спынены пошукі яго маёмасці ў Мінскай губ. у сувязі з заканчэннем гадавога тэрміну пасля канфірмацыі *(162—1—116—108адв.; 299—1—579—298-307, 750; 319—1—479—23; 320—1—398—437адв., 440; 320—2—98—42адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

330. **Ашамбэрг Антоні** (Ашемберг Антон), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—3; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

331. **Ашмянец Іпаліт** (Ошмянец Ипполит), дваранін Гродзенскай губ. Нар. каля 1841 г., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, паранены, арыштаваны 01.–02.1863. Рашэннем ПВС пры фартэцыі ў г. Брэсце, канфірмаваным 03.11.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1643—162; 319—1—479—23; 320—1—398—96, 224адв.; 320—2—98—42адв.).*

## Б

332. **Бабах Валяр'ян** (Бабах Валериан), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 17.12.1863 падала яго справу смаленскаму губернатару. Яго маёмасць падлягала секвестру, з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.; 3255—1—14—1).*

333. **Бабашынская Марыя** (Бабашинская Мария), дачка Клімента, сястра *Эміліі*, дваранка. Нар. каля 1841 г. Западозрана рас. уладамі ў намове іншых да паўстання. З 06.06.1863 знаходзілася пад следствам у АСК і МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ яго не скончыла. Падчас следства быў на волі *(3255—1—14—1; 3257—1—14—7адв.-8).*

334. **Бабашынская Эмілія** (Бабашинская Эмилия), дачка Клімента, сястра *Марыі*, дваранка. Нар. каля 1846 г. Западозрана рас. уладамі ў намаўленні іншых да паўстання. З 06.06.1863 знаходзілася пад следствам у АСК і МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ яго не скончыла. Падчас следства была на волі *(3255—1—14—1; 3257—1—14—7адв.-8).*

335. **Бабашынскі Аляксандр** (Бабашинский Александр), сын Юзафа, дваранін Віцебскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Будзіловіча Ігната*, узяты ў палон. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. На яго маёмасць 10.07.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 28.04.1864 накладаўся секвестр *(319—1—479—5адв.; 1416—3—21048—8; 1430—1—52163—182, 425адв., 723; 2514—1—2198—66адв.).*

336. **Бабашынскі Ігнат** (Бобашинский Игнатий), дваранін Аршанскага пав. Да паўстання жыў у засц. Цыкуны Аршанскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 15.12.1863 падала яго справу смаленскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—6; 1430—1—52163—182адв.; 3255—1—14—1).*

337. **Бабашынскі Цыпрыян** (Бобошинский Киприян), дваранін Віцебскага пав. Нар. каля 1838 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання жыў у г. Лепелі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 10.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. *(295—1—1527—101; 295—1—1643—7адв., 12адв.).*

338. **Бабашынскі Ян** (Бобашинский Иван), сын Яна, дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Яго бацька валодаў маёнткам Пагошчына Віцебскага пав. Да паўстання вучыўся ў Медыка-хірургічнай акадэміі ці ў землямерска-таксатарскіх класах пры гімназіі г. Віцебска. Западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК. Хоць і не прызнаў абвінавачанняў, прызнаны ВСК вінаватым у тым, што «сапраўды» пакінуў г. Віцебск з намерам уступіць у атрад. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. На Пагошчыну 25.11.1864 накладзены секвестр, а потым забарона. 06.1865 яна знаходзілася пад секвестрам у кіраванні Аляксея Бабашынскага, з яе 2,13 руб. штогод уносілася ў казну. У 1878 г. атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі *(319—1—479—5адв.; 1416—3—21048—8адв.; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—36211—5-6; 1430—1—52163—425, 429, 535, 571, 678, 722адв., 827; 3046—2—3—5адв.-6; 3046—2—5—4).*

339. **Бабіноўскі Сільвестр** (Бабиновский Сильвестр), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам дамініканскага кляштара ў в. Папорці Троцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

**Бабіноўскі Францішак** — гл. **Бакіноўскі Францішак**

340. **Бабіноўскі Ян** (Бабиновский Иван), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201адв.).*

341. **Бабінскі Ігнат** (Бабинский Игнатий), сын Міхала, мешчанін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—6адв.-7; 3046—2—5—4адв.).*

342. **Бабіцкі Габрыэль** (Бабицкий Гавриил), дваранін Мінскай губ. Падчас паўстання арыштаваны за захоўванне 25 куль і агітацыю сялянаў маліцца за польскага караля. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, паводле рашэння якога, канфірмаванага 20.06.1864 М. Мураўёвым, сасланы з сям'ёй на пасяленне ў Томскую губ. На падставе ўказа ад 17.05.1867 атрымаў частковую амністыю і перасяліўся ў Каралеўства Польскае. Спачатку жыў у г. Варшаве, потым у Калішскім пав. 17.11.1871 вызвалены з-пад нагляду паліцыі. У 1871 г. падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму ў Барысаўскі пав., сваякі згадзіліся прыняць яго за свой кошт, але мінскі губернатар адхіліў прашэнне *(295—1—2225; 295—1—1643—8адв.).*

343. **Бабіцкі Міхал** (Бабицкий Михаил), дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горацкім павятовым вучылішчы. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—66адв.; 3257—1—53—2).*

344. **Бабіцкі Ян (**Бабицкий Иван), сын Францішка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1 8адв.-9).*

345. **Бабровіч Міхал** (Бобрович Михаил), дваранін Магілёўскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—4).*

346. **Баброўскі Адам** (Бобровский Адам), сын Леана. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам у Новааляксандраўскім пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

347. **Баброўскі Базыль** (Бобровский Базыль), сын Пятра, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак.Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Марцэляй, сынамі Станіславам, Адамам і Пятром высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму; 12.1876 жыў у вак. Валадута *(295—1—2420—15адв.; 295—1—3026—33адв.).*

348. **Баброўскі Тамаш** (Бобровский Томаш), сын Пятра, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Тэдорай, сынамі Антоніем, Вінцэнтам, Людвікам, Міхалам, *Феліцыянам* (з сям'ёй) і Францішкам, дочкамі Альжбетай і Каралінай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі разам з сынамі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Валадута. Сын Вінцэнт 12.1876 служыў ляснічым у в. Міжрэчча Ігуменскага пав. *(295—1—2420—14; 295—1—3026—32, 33; 295—1—3492—69, 74адв.).*

349. **Баброўскі Феліцыян** (Бобровский Фелициан), сын *Тамаша* і Тэдоры, брат Антонія, Вінцэнта, Людвіка, Міхала і Францішка, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з бацькам, маці, братамі, сёстрамі, жонкай Каралінай і сынам Юзафам «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Валадута *(295—1—2420—14; 295—1—3026—33; 295—1—3492—69, 74адв.).*

350. **Баброўскі Сымон** (Бобровский Семен), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 15.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—8адв.-9).*

351. **Баброўскі Ээзхель** (Бобровский Езекия), калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда

і следства 15.02.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Архангельск *(1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—59)*.

352. **Бабянская Аляксандра** (Бобянская Александра), памешчыца Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання выслана ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яе зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2адв.)*.

353. **Бабянскі Аляксандр** (Бабянский Александр). Да паўстання служыў засядальнікам Расіенскага павятовага суда, тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

354. **Бавар (Бавор) N.** (Бавар (Бавор) N.), жонка Міхала, памешчыца. Да паўстання яе муж валодаў маёнткам Новы Двор Суражскага пав. На пачатку 1864 г. займалася даглядам арыштаваных паўстанцаў у г. Віцебску, дастаўляла ім цукар і гарбату. У сувязі з гэтым прызнана рас. уладамі «недабрадумнай у палітычных адносінах» і 03.1864 выслана з Віцебска ў Новы Двор пад паліцэйскі нагляд *(2586—1—22—6)*.

355. **Багамолец Ігнат** (Богомолец Игнатий), дваранін Сенненскага пав. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—6; 3257—2—2—2адв.)*.

356. **Багамолец Яўгенія** (Богомолец Евгения), дачка Станіслава, дваранка Віцебскага пав., каталічка. Падчас паўстання вяла перапіску з ксяндзом *Сяйпульнікам Андрэем*, якая прыцягнула падазрэнне рас. уладаў ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле ўказа ВГП ад 15.03.1865 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 02.03.1865 яе маёмасць вызвалялася ад секвестру *(1416—4—11416—160—163; 3046—2—3—9адв.-10)*.

357. **Багатка Францішак** (Богатко Франц). Выконваў абавязкі неад'емнага сябра Гродзенскага прыказу грамадскай апекі; калежскі радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Тамбоў *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

358. **Багдановіч Адам** (Богданович Адам), сваяк *Барбары*, *Бенядыкта*, *Казіміра* і *Яна*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2адв.)*.

359. **Багдановіч Адольф** (Богданович Адольф), памешчык Свянцянскага пав. Да паўстання служыў прыставам 4 стана Свянцянскага пав., тытулярны радца. У яго пісьмаводам служыў *Букоўскі Казімір*. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць (у тым ліку рухомасць у м. Свір Свянцянскага пав.) на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1430—1—52163—194; 2532—1—15—11адв.)*.

360. **Багдановіч Барбара** (Богданович Варвара), сваячка *Адама*, *Бенядыкта*, *Казіміра* і *Яна*, памешчыца Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання выслана ў Томскую губ. Яе зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2адв.)*.

361. **Багдановіч Бенядыкт** (Богданович Венедикт), сваяк *Адама*, *Барбары*, *Казіміра* і *Яна*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2адв.)*.

362. **Багдановіч Ванда** (Богданович Ванда), дваранка. Западозрана рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі. З 30.09.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ не скончыла яе справу. Падчас следства была на волі *(3257—1—14—8адв.-9)*.

363. **Багдановіч Вінцэнт** (Богданович Викентий), сваяк *Юзафа*, дваранін. Падчас паўстання арыштаваны за сувязі з паўстанцамі і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—9адв.)*.

364. **Багдановіч Габрыэль** (Богданович Гавриил), сын *Міхала*, дваранін. Нар. 24.08.1837 у г. Парыжы. Прыбыў у Рас. імперыю разам з бацькам у канцы 1850-х гг. Не прымаў рас. падданства. Да паўстання жыў у Навагрудскім пав. За «доўгае знаходжанне ў шайцы мяцежнікаў і ўдзел у дзеяннях супраць войскаў» пастановай ваеннага суда ў г. Вільні, канфірмаванай 03.11.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпа-

сцях на 8 гадоў. Пасля частковай амністыі пераведзены на пасяленне ў Іркуцкую губ., дзе ў 1869 г. хадайнічаў аб дазволе выехаць у Францыю як яе грамадзянін *(295—1—1994; 319—1—479—5; 320—1—398—224адв.).*

365. **Багдановіч Генрык** (Богданович Генрих), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Лоўцавічы Вілейскага пав. Прыняў паўстанцаў у сваім доме і даў ім харчаванне, за што яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

366. **Багдановіч Ігнат** (Боданович Игнатий), сын Яна, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 11.05.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—2).*

367. **Багдановіч Іпаліт** (Богданович Ипполит), сын Юзафа, дваранін Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—6; 3255—1—14—1; 3257—2—2—2адв.).*

368. **Багдановіч Каятан** (Боданович Каэтан), сын Яна, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 11.05.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—2).*

369. **Багдановіч Казімір** (Богданович Казимир), сваяк *Адама*, *Барбары*, *Бенядыкта* і *Яна*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2адв.).*

370. **Багдановіч Караль** (Богданович Карл), сын Яна, брат *Пятра*, памешчык. Нар. каля 1834 г. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны (да 22.05.1863). Яго зямля ва ўроч. Казлоўка Сенненскага пав. (30 дзес. без пабудоў, 10 руб. ср. гадавога прыбытку) 15.07.1863 апісана і секвестравана. Зняволены ў турме г. Сянно, дзе ўтрымліваўся 03.–08.1864. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе на разгляд. Пасля быў пад судом у МагВСК. Высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—259; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9адв.; 3257—1—14—1, 10адв.-11; 3257—1—17—1адв.-1а; 3257—2—2—4; 3257—2—8—2адв.).*

371. **Багдановіч Клара** (Богданович Кляра), дачка Тадэвуша, дваранка Лепельскага ці Полацкага пав., каталічка. Западозрана ў зборы грошай на карысць паўстанцаў. На яе маёмасць 07.07.1864 на падставе патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладаўся секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—9адв.; 1430—1—52163—414, 473адв.; 3046—2—3—8адв.-9).*

372. **Багдановіч Ксаверы** (Богданович Ксаверий), дваранін Невельскага пав. Западозраны разам са стрыечным братам *Янам* у дачыненні да паўстання ў Себежскім пав., арыштаваны і зняволены ў турэмным замку. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Падазрэнне не пацвердзілася, у сувязі з чым вызвалены, 14.02.1864 прыбыў з Пскоўскай губ. у г. Невель. За ім заснаваны строгі сакрэтны паліцэйскі нагляд *(1430—1—31602—111-112, 180-181; 162—1—116—166адв.).*

373. **Багдановіч Людвік** (Богданович Людвиг), сын Вінцэнта, ксёндз. Нар. каля 1797 г. Западозраны рас. уладамі ў «блаславенні шляхты да ўступлення ў мяцеж». Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 26.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. З 02.05.1864 — пад следствам у МагСК, якая магілёўскаму губернатару падала яго справу 23.09.1864. Падчас следства быў на волі *(3255—1—14—1; 3257—1—17—5адв.-6; 3257—2—8—2адв.).*

374. **Багдановіч Мікалай** (Богданович Николай), ксёндз. Служыў пробашчам касцёла ў м. Замошша Дрысенскага пав. Без дазволу рас. уладаў пакінуў межы сваёй парафіі і выехаў у м. Росіца Дрысенскага пав. За гэта прысуджаны (да 19.01.1866) да грашовага штрафу ў 50 руб. Штраф заплаціў *(2601—1—28—78адв.-79).*

375. **Багдановіч Мікалай** (Богданович Николай), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5).*

376. **Багдановіч Міхал** (Богданович Михаил), сын Габрыэля, бацька *Габрыэля*, дваранін Навагрудскага пав. Удзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гг., пасля жыў у эміграцыі ў Францыі і ў канцы 1850-х гг. вярнуўся на радзіму. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. высланы ў Томскую губ. Памёр у 1864 г. у Калвёнскай вол. Томскай губ. *(295—1—1994).*

377. **Багдановіч Норберт** (Богданович Норберт), сын Ксаверыя, дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання служыў пісарам у канцылярыі Віцебскай ПДМ, калежскі рэгістра-

тар. 22.04.1863 пакінуў г. Віцебск. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. 08.05.1863 звольнены са службы. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК. Хоць і не прызнаў абвінавачанняў, прызнаны ВСК вінаватым у тым, што «сапраўды» пакінуў Віцебск з намерам уступіць у атрад. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—5адв.; 1416—3—21048—8; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—31259—9, 39адв.; 1430—1—52163—423, 535; 3046—2—3—5адв.-6; 3046—2—5—4)*.

378. **Багдановіч Оттан** (Богданович Оттон), памешчык. Служыў міравым пасярэднікам. Да паўстання валодаў маёнткам Абадоўцы Вілейскага пав. Паўстанцкі атрад *Казелы Вінцэнта* начаваў у яго мызе, пра што не данёс рас. уладам. За гэта яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

379. **Багдановіч Паўлін** (Богданович Паулин), памешчык Шавельскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне юнкера. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—224)*.

380. **Багдановіч Пётр** (Богданович Петр), сын Яна, брат *Караля* і інш., дваранін. Нар. каля 1841 г. Да паўстання жыў у фальв. Казлоўка Сенненскага пав. (без сялянаў), якім валодаў сумесна з братамі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. З 17.02.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ не скончыла яго справу; падчас следства 03.–08.1864 утрымліваўся ў турме г. Сянно. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. У 1868 г. перaселены з Табольскай у Кастрамскую губ. ці з Томскай у Вяцкую губ. *(295—1—1527—100адв.; 295—1—1643—13адв.; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2003—1—372—5, 186-187; 2616—1—40—14; 3257—1—14—10адв.-11; 3257—1—17—1адв.-1а; 3257—2—8—2)*.

381. **Багдановіч Пётр** (Богданович Петр), селянін. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—8)*.

382. **Багдановіч Станіслаў** (Богданович Станислав), сын *Тарэзы*, памешчык. Служыў у рас. войску, меў чын афіцэра. Да паўстання разам з маці валодаў часткай маёнтка Рыдамля Сенненскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, за што яго маёмасць секвестравана. Пасля паўстання быў у «невядомай адлучцы». З 22.06.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.08.1864 скончыла справу і падала яе магілёўскаму губернатару *(2003—1—445—15; 3257—1—14—1; 3257—1—17—1а адв.-2; 3257—2—8—2адв.)*.

383. **Багдановіч Сяргей** (Богданович Сергей), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Шантараўшчына Вілейскага пав. (1021 дзес. зямлі). Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 26.07.1863 і 08.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—210; 1416—6—280)*.

384. **Багдановіч Тарэза** (Богданович Тереза), дачка Юзафа, маці *Станіслава*, памешчыца. Нар. каля 1790 г. Да паўстання разам з сынам валодала часткай маёнтка Рыдамля Сенненскага пав. Западозрана рас. уладамі ў «падазроных размовах з сялянамі палітычнага зместу», за што яе маёмасць секвестравана. З 22.06.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 13.08.1864 скончыла яе справу і падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства была на волі пад наглядам паліцыі *(2003—1—445—15; 3257—1—14—1а адв.-2; 3257—1—17—1а адв.-2; 3257—2—8—2адв.)*.

385. **Багдановіч Фелікс** (Богданович Феликс), сын Юзафа, дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1834 г. Да паўстання жыў у в. Бераснёўка Барысаўскага пав. памешчыка Булгака. Каля 20.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены рас. войскамі 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры Мінскім батальёне ўнутранай варты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Пакаранне заменена на ссылку ў арыштанцкія роты (?). Маёмасць павінна была пастуніць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1527—55; 295—1—1643—6, 12; 299—1—577—511-513; 319—1—479—4; 320—1—398—12а, 20-24, 129, 191; 320—2—98—30адв.; 1430—1—52163—604)*.

386. **Багдановіч Эвеліна** (Богданович Эвелина), дваранка Гродзенскай губ. За дачыненне

да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.)*.

387. **Багдановіч Юзаф** (Богданович Иосиф), сваяк *Вінцэнта*, дваранін. Служыў у рас. войску, паручнік. Падчас паўстання арыштаваны за сувязі з паўстанцамі, у 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—9адв.)*.

388. **Багдановіч [Юзаф]** (Богданович [Иосиф]). Да паўстання служыў пісьмаводам барысаўскага маршалка. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, паводле рашэння якога звольнены са службы *(295—1—1643—13адв.)*.

389. **Багдановіч Ян** (Богданович Иван), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.)*.

390. **Багдановіч Ян** (Богданович Иван), мешчанін ці дваранін. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Яго драўляны дом у Навагрудку секвестраваны 31.12.1864 паводле распараджэння МГГ *(295—1—1562—16; 295—1—1643—9адв.; 296—1—29б—3-3адв.; 296—1—89—74адв.)*.

391. **Багдановіч Ян** (Богданович Иван), сваяк *Адама*, *Барбары*, *Бенядыкта* і *Казіміра*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2адв.)*.

392. **Багдановіч Ян** (Богданович Иван), сын Казіміра, дваранін Магілёўскай (?) губ. Нар. каля 1848 г. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. З 17.02.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 14.08.1864 (ці 11.05.1864), скончыўшы справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—1а адв.-2; 3257—2—8—2)*.

393. **Багдановіч Ян** (Богданович Иван), сын Ксаверыя, стрыечны брат *Ксаверыя*, дваранін Невельскага пав. Служыў у канцылярыі Невельскага земскага суда. 02.02.1863 звольнены на 20 дзён, але пасля на службу не з'явіўся. Западозраны разам са стрыечным братам у дачыненні да паўстання ў Себежскім пав., 12.05.1863 арыштаваны Апочкаўскім павятовым паліцэйскім упраўленнем Пскоўскай губ. Зняволены ў турэмных замках спачатку г. Апочкі, потым г. Вострава Пскоўскай губ. Падазрэнне не пацвердзілася, у сувязі з чым, паводле паведамлення ДСК ад 31.12.1863, 10.02.1864 вызвалены і 14.02.1864 прыбыў з Пскоўскай губ. у Невельскі пав. За ім усталяваны строгі сакрэтны паліцэйскі нагляд. 05.1864 прыбыў у г. Востраў. *(1416—3—21048—8адв.; 1430—1—31259—20-21, 41; 1430—1—31602—111-112, 180-181)*.

394. **Багдановіч Ян** (Богданович Иван), сын Пятра, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 11.05.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—2)*.

395. **Багданоўскі Андрэй** (Богдановский Андрей), аднадворац Віцебскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

396. **Багдашэўскі Стэфан** (Богдашевский Степан), сын Ігната, дваранін Мінскага пав. У паўстанні 20.04.1863 апынуўся ў складзе паўстанцкага атрада *Дыбоўскага Паўла*, які праходзіў праз маёнтак яго бацькі Вязынь Мінскага пав. Затым пакінуў атрад і добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(295—1—1643—11адв., 16; 296—1—19—40-42; 296—1—50—19)*.

397. **Багдзевіч Станіслаў** (Богдзевич Станислав). Да паўстання служыў журналістам канцылярыі віленскага ваеннага губернатара, калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101; 319—1—479—4; 1430—1—52163—154)*.

398. **Багдушэвіч Антоні** (Богдушевич Антоний), сын Станіслава, памешчык. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Куцішкі і фальв. Палессе Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

399. **Багенскі (Багінскі) Юзаф** (Богенский (Богинский) Иосиф), сын Антонія, муж Ганны Тэадораўны Набель (немкі), дваранін, каталік. Вучыўся ў Віленскім універсітэце. 22.02.1840 паступіў на дзяржаўную службу. Да паўстання служыў гарадавым доктарам г. Рэжыцы Віцебскай губ. з чынам калежскага асэсара, валодаў драўляным 1-павяр-

ховым домам з флігелем, гаспадарчымі пабудовамі і фруктовым садам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і 07.09.1863 звольнены са службы, а потым без суда і следства паводле распараджэння М. Мураўёва сасланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Ноўгарад. На яго маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 06.02.1864 накладаўся секвестр. Жонка з 09.1864 да 22.02.1865 падала некалькі прашэнняў аб зняцці секвестру з маёмасці. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 07.03.1865 секвестр здымаўся *(1416—3—21048—8адв.; 1430—1—31259—88, 106, 138, 140; 1430—1—31355—92-93, 100-101; 1430—1—52163—422адв., 441, 455адв., 488, 608, 734-747, 756-758; 1430—1—52285—44)*.

400. **Багінскі Антоні** (Богинский Антон), дваранін Ковенскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11)*.

401. **Багінскі Юзаф** (Богинский Иосиф). Служыў бельскім павятовым наглядчыкам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Яраслаўскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

**Багінскі Юзаф** — гл. **Багенскі Юзаф**

402. **Багрынцэвіч (Багрыцэвіч) Павел** (Багринцевич (Багрицевич) Павел), мешчанін г. Мінска. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 2 гады. МГП 27.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—12адв.; 319—1—479—5; 320—1—398—222)*.

403. **Багурская Марыя** (Богурская Мария), дваранка Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.)*.

404. **Багурскі Антоні** (Богурский Антон), сын Аляксандра, дваранін Кобрынскага пав., каталік. Нар. каля 1839 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. На судзе не адмовіўся ад сваіх перакананняў. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 ссылка зменена на 10 гадоў у крэпасцях *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—103; 319—1—479—5; 320—1—398—326-327адв.; 320—2—98—30адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—1адв.; 1525—1—2—6адв.-7)*.

405. **Багуцкі Цітус** (Богуцкий Тит), памешчык Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр. Сасланы ў Пермскую губ., а яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—149; 2532—1—15—12)*.

406. **Багушэвіч Андрэй** (Богушевич Андрей), сын Андрэя, дваранін Слонімскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1840 г. Служыў юнкерам аблегчанай № 6 батарэі 3 палявой артылерыйскай брыгады. Да паўстання жыў у г. Слоніме. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Міладоўскага Вітальда*. Удзельнічаў у баі ля в. Мілавіды Слонімскага пав., затым захоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 23.03.1864 аддадзены пад ПВС пры 120 Серпухаўскім пяхотным палку ў г. Навагрудку. 28.03.1864 судовая справа скончана і перададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 02.04.1864 адпраўлена М. Мураўёву. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 18.05.1864 М. Крыжаноўскім, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. 03.06.1864 высланы з Навагрудка на месца ссылкі. *(295—1—1643—8адв.; 296—1—91; 320—1—398—3; 1430—1—52163—207)*.

407. **Багушэвіч Іаахім** (Богушевич Ефим). Да паўстання служыў аб'ездчыкам варты корчмаў Сакольскага пав., губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». У 1871 г. жыў ва Уфімскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—17; 1430—1—52285—12адв.)*.

408. **Багушэвіч Павел** (Богушевич Павел). Служыў пісарам Сіназерскай вол. Себежскага пав. У 1864 г. не рэгістраваў афіцыйна скаргі, якія падаваліся сялянамі на *Гедройця Казіміра*, паводле слоў самых сялян, «з прычыны нядбання і п'янства».

Пастановай ЧПА ад 24.01.1864, канфірмаванай 25.01.1864 А. Патапавым, прысуджаны да звальнення са службы з забаронай вяртацца на яе і турэмнага зняволення на 2 месяцы *(1416—4—11553)*.

409. **Багушэвіч Сымон** (Богушевич Семен), сын Вінцэнта. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.)*.

410. **Багушэвіч Тадэвуш** (Богушевич Фаддей), сын Дзяменція, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Вацлавова Лепельскага пав. і млыном у г. Лепеле, з'яўляўся лепельскім павятовым маршалкам, калежскі сакратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Яго справа разглядалася ў ДСК, якая не знайшла доказаў віны. У выніку вызвалены, аднак на наступны дзень пасля вяртання дадому зноў арыштаваны. Паводле пастановы ДСК «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў г. Уфу Арэнбургскай губ.; на яго маёмасць (нерухомасць і грашовыя капіталы) 11.04.1864 на падставе ўказа ВГП ад 19.03.1864 накладаўся секвестр. 23.04.1864 падаваў прашэнне з Уфы аб вызваленні маёмасці ад секвестру. Частка быдла з маёнтка Вацлавова прададзена падчас секвестру. Паводле загада А. Патапава ад 10.10.1864 секвестр здымаўся са спагнаннем падвойнага 10-працэнтнага збору. Пазней атрымаў частковую амністыю і перасяліўся ў г. Пскоў, дзе ў 1869 г. атрымаў чарговае палягчэнне пакарання — вызваленне з-пад нагляду паліцыі і права пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». У 1871 г. атрымаў дазвол на 2-месячнае знаходжанне ў Віцебскай губ., а таксама на пражыванне ў сталіцах і сталічных губ. У 1878 г. жыў у г. СПб *(295—1—1989—47-49; 1416—3—21048—8адв.; 1430—1—35146—100; 1430—1—36211—3-4; 1430—1—52163—175-177, 431адв., 450, 489-491, 519-520, 569адв.; 1430—1—52285—5, 35адв., 43)*.

411. **Багушэвіч Тэадор** (Богушевич Федор), сын Андрэя, дваранін Ігуменскага ці Віленскага пав., каталік. Абвінавачаны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.07.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—5; 320—1—398—222, 389, 401; 320—2—98—30адв.; 1418—3—1—7адв.-8)*.

412. **Багушэвіч Ян** (Богушевич Иван), ксёндз. Служыў у касцёле ў м. Антушы Рагачоўскага пав. Западозраны ў «палітычнай ннядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Арол *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23)*.

413. **Багушэвіч N.** (Богушевич N.). Да паўстання служыў памочнікам акцызнага наглядчыка па Сакольскім пав., калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.)*.

414. **Багушэўскі Юльян** (Богушевский Юлиан), сын Уладзіслава і Тэклі Міхалаўны, брат Аляксандры, Вікторыі, Міхаліны (v. Чарнецкай) і Юзафа, памешчык. Да паўстання на правах суспадчынніка валодаў маёнткам Вялікая Арава Магілёўскага пав. з в. Малыя Каськевічы і Скураты (1164 дзес. зямлі, дом, млын, фруктовы сад, бровар, пасека, гаспадарчыя пабудовы і інш., 323,75 руб. гадавога прыбытку, 400 руб. доўгу). За дачыненне да паўстання яго маёмасць секвестравана (да 30.07.1863). Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. Маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—152; 2003—1—445—14адв.; 2003—2—19—11-12; 2532—1—15—9; 3257—2—2—2)*.

415. **Багушэўскі Ян** (Богушевский Иван), дваранін Бельскага пав. Служыў фельчарам у г. Бранску. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74; 1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

416. **Базарскі Валент** (Базарский Валентий), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.)*.

417. **Баемскі Юзаф** (Баемский (Боемский) Осип), дваранін. За «палітычныя злачынствы» сасланы. У 1880 г. жыў у Табольскай губ., 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з пазбаўленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай пасту-

паць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—16-17; 1430—1—52758—4)*.

418. **Базанаў Дзмітрый** (Базанов Дмитрий), дваранін Падольскай губ. Да паўстання служыў у Папорцкім валасным праўленні Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

419. **Байкевіч Габрыэль** (Бойкевич Гавриил), сын Юзафа, селянін Пружанскага пав. ці вольны хлебароб Слонімскага пав. Да паўстання жыў у в. Сухічы Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1643—7; 319—1—479—5; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

420. **Байкоўскі Віктар** (Байковский Виктор), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Сялец Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21адв.; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.)*.

421. **Байкоўскі Уладзіслаў** (Байковский Владислав), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле г. Ваўкавыска. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Енісейскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.)*.

422. **Байневіч Антоні** (Бойневич Антон), дваранін Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—5)*.

423. **Бака Мацей** (Бако Матвей), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў пісарам ВілГП. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—4; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

424. **Бакіноўскі (Баканоўскі, Бабіноўскі) Францішак** (Бакиновский (Бакановский, Бабиновский) Франц), сын Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 15.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэнем якога прысуджаны да ссылкі і «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) пад нагляд паліцыі ў Томскую губ.; яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(295—1—1643—17адв.; 299—1—579—341-345; 1418—3—1—9адв.-10; 1430—1—52163—201адв.; 2532—1—15—13адв.)*.

425. **Бакшанін Емяльян** (Бокшанин Емельян), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у вак. Ідалакні Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—4)*.

426. **Бакшанскі Юльян** (Бокшанский Юлиан), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Васілеўшчына і паезуіцкім Тупальшчына Свянцянскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру, а потым канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—3адв.; 320—1—398—197; 1416—6—274; 1430—1—52163—125)*.

427. **Бакшчанін Алаізі** (Бокщанин Алоизий). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону пастулаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

428. **Бакшчанін Валяр'ян** (Бокщанин Валериан). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

429. **Балаба N.** (Балаба N.), селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Веркі Віленскага пав. кн. Леана Вітгенштэйна. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі сялянаў удзельнічаць у паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

430. **Балабонін (Балабанін) Кронід** (Балабонин (Балабанин) Кронид), дваранін ці мешчанін Яраслаўскай губ., праваслаўны. Вучыўся ў Горацкім павятовым вучылішчы, да паўстання звольнены з яго. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. — вяртанню ў яго валоданне. У 1870 г. у Ка-

занскай губ. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—5-6; 1430—1—52163—196; 2514—1—2198—66адв.; 3257—1—53—1).*

431. **Балбашэўскі Генрык** (Балбашевский Генрих), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання выкладаў у гімназіі ў г. Беластоку. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. *(1416—4—11416—84адв.; 1430—1—52163—546адв.).*

432. **Балбашэўскі Рамуальд** (Балбашевский Ромуальд), дваранін Падольскай губ. Да паўстання служыў гувернёрам у маёнтку Вышова Мсціслаўскага пав. *Цеханавецкага Ігната*. 04.1863 удзельнічаў у фарміраванні невялікага атрада паўстанцаў у Вышова, з якім потым накіраваўся да м. Крычаў Чэрыкаўскага пав. Пасля ўвайшоў у склад паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у МагСК. На следстве апраўдваў *Цеханавецкага Ігната* і *Празаровіча Францішка*. 10.1864 яшчэ знаходзіўся ў турэмным замку ў г. Магілёве, падаваў прашэнне аб пераводзе ў богаўгодныя ўстановы з прычыны хваробы (хранічнай астмы). 20.10.1864 пераведзены ў бальніцу турэмнага замка. Канфірмацыяй «Галоўнага Начальніка краю» К. фон Каўфмана ад 26.07.1865 за тое, што «не выявіў раскаяння ў сваім злачынстве і адмовіўся адкрыць суўдзельнікаў у мяцяжы», прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(2001—1—900—27-29адв.; 2514—1—2198—66адв.; 3256—2—52—15-33; 3257—2—2—3; 3257—2—8—2адв.; 3366—1—5—13адв.).*

**Балгарын Юзаф** — гл. **Булгарын Юзаф**

433. **Балеста Антоні** (Болеста Антон), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8адв.).*

**Балеўскі Казімір** — гл. **Булеўскі Казімір**

434. **Бальмін Антоні** (Бальмин Антон). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562).*

435. **Бальсевіч Мацей** (Больсевич Матвей), мешчанін г. Цельшаў Ковенскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—5).*

436. **Бальцэвіч (Бальневіч) Уладзімір** (Больцевич (Больневич) Владимир), дваранін. Да паўстання жыў у в. Гражаны Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

437. **Бальцэвіч Ян** (Бальцевич Ян), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Краслаўка Дынабургскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, зняволены ў г. Дынабургу. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Прызначаны ваенным судом (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 16.06.1864 накладаўся секвестр. Высланы пад строгі нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—3—21048—9адв.; 1430—1—31355—19-21; 1430—1—52163—150адв., 390адв.; 3046—2—5—4адв.).*

438. **Балюкевіч Фелікс** (Балюкевич Феликс (Фольтюн)), сын Аляксандра, дваранін Віцебскай губ. Да паўстання валодаў зямлёй у в. Іструбніца (Іструбішча) Аршанскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. *(2514—1—2198—66адв.; 3255—1—14—1).*

**Бандзінская Эмілія** — гл. **Бандзынская Эмілія**

439. **Бандзкевіч Аляксандр** (Бондзкевич Александр), сын Казіміра, дваранін Мазырскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны, аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(162—1—122—101; 295—1—1643—7; 319—1—479—5адв.; 1430—1—52163—182).*

440. **Бандзынская (Бандзінская) Эмілія** (Бондзынская (Бондзинская) Эмилия), маці *Альфонса*, памешчыца. Да паўстання валодала маёнткамі Шыласады (Шаласяды), Няпракшты, засц. Паднац і в. Петрашышкі Троцкага пав. Падчас паўстання пастаўляла харчаванне паўстанцкаму атраду, куды ўваходзіў яе сын. Яе маёмасць на падставе распа-

раджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда, прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Пермскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—3—21048—9; 1416—6—274; 1430—1—52285—9; 2532—1—15—12адв.)*.

441. **Бандзынскі Альфонс (Адольф)** (Бондзынский (Бондзынский) Альфонс (Адольф)), сын *Эмiлii*, дваранін Троцкага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткамі ў Троцкім пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, пасля яго разбіцця пэўны час хаваўся ў свайго дзядзькі *Васілеўскага Паўла* і ў г. Вільні, аднак схоплены. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 ці на 6 гадоў *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—574адв.; 1416—6—274; 1430—1—52163—241)*.

442. **Баневіч Бенядыкт** (Баневич Бенедикт), дваранін Падольскай губ. Да паўстання вучыўся ў Віленскім дваранскім інстытуце. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

443. **Баневіч Людвік** (Баневич Людвик), муж *Юзэфы*. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар ці калежскі рэгістратар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з жонкай высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. У 1870 г. жыў ва Уфімскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—35-36; 1430—1—52163—552)*.

444. **Баневіч Юзэфа** (Баневич Юзефа), жонка *Людвіка*. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з мужам выслана на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552)*.

445. **Баневіч Ян** (Баневич Иван), дваранін Віленскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 07.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546)*.

446. **Банецкі Ксаверы** (Бонецкий Ксаверий). Нар. каля 1840 г. у г. Варшаве. Падчас паўстання жыў у г. Вільні пад імем Юзафа Наражымскага. Удзельнічаў у паўстанні, пасля чаго, пафарбаваўшы валасы, пакінуў Вільню і схаваўся ад рас. уладаў. Пастановай ваеннага суда (завочна?) прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223; 1527—1—4—91)*.

447. **Банкевіч Валяр'ян** (Бонкевич Валерыян), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—5; 1430—1—52163—530)*.

448. **Бантле Адольф** (Бантле Адольф), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і пастаўках ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прысуджаны да высялення ў аддаленыя губерні Расіі. 03.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прызначаны да грашовага штрафу *(295—1—1643—18адв.; 1418—3—1—10адв.-11)*.

449. **Банькоўскі Антоні** (Баньковский Антон), сын Антонія, дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра. За дачыненне да справы *Анцыпы Ільдэфонса* аддадзены пад суд. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 30.11.1863 часова накладзена забарона. Пазней паводле канфірмацыі М. Мураўёва вызвалены *(2003—1—211—56-57; 3257—2—2—2, 3)*.

450. **Банькоўскі Валяр'ян** (Баньковский Валериан), дваранін Троцкага пав. Да паўстання валодаў надзелам зямлі ў вак. Сейбуты Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—4)*.

451. **Банькоўскі Караль** (Баньковский Карл), дваранін. Да паўстання служыў у кампаніі Санкт-Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—535)*.

452. **Банькоўскі Пётр** (Баньковский Петр), сын Пятра, дваранін Віцебскай губ. Да паўстання жыў у г. Рызе, яго бацькі — у г. Дынабургу. За ўдзел у паўстанні прысуджаны пазбаўлення (да 01.10.1864) правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—105; 319—1—479—5адв.; 1416—3—21048—8адв.; 1430—1—52163—399а адв.)*.

453. **Банькоўскі Пётр** (Баньковский Петр), шляхціц Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—4адв.).*

454. **Банькоўскі Уладзіслаў** (Баньковский Владислав), шляхціц Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—4адв.; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

455. **Банькоўскі Францішак** (Баньковский Франц), дваранін Ковенскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238).*

456. **Банькоўскі N.** (Баньковский N.). Да паўстання служыў столаначальнікам Новааляксандраўскага павятовага суда. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

457. **Баравік Баляслаў** (Боровик Болеслав). 09.1863 прызначаны *Аскеркам Міхалам* начальнікам паліцыі г. Мінска. Займаўся сярод іншага нарыхтоўкай адзення і абутку для ссыланых паўстанцаў, захаваннем паўстанцкіх дакументаў і інш. Арыштаваны, даваў паказанні пра *А. М.*, *Ямантa Юзафа* *(162—1—116—84; 3256—2—29—28-29).*

458. **Баравік Вінцэнт** (Боровик Викентий), сын Міхала, дваранін. Падчас паўстання абвінавачаны ў захоўванні зброі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Потым пераведзены ў г. Мінск, утрымліваўся ў мінскай гарадской турме *(296—1—90—15адв.-16; 1418—3—1—9адв.-10).*

459. **Баравік N.** (Боровик N.), мешчанін г. Мінска. Да паўстання працаваў шаўцом. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы ў г. Бабруйск у арыштанцкія роты на 3 гады *(1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

**Барановіч Алена** — гл. **Бараноўская Алена**

**Барановіч Альжбета** — гл. **Бараноўская Альжбета**

**Барановіч Сільвестр** — гл. **Бараноўскі Сільвестр**

460. **Барановіч Юзаф** (Баранович Иосиф), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102; 319—1—479—4).*

461. **Барановіч Ян** (Баранович Иван), дваранін Віленскага (ці Вілейскага) пав. Да паўстання яго бацькі валодалі фальв. Уша Віленскага (ці Вілейскага) пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (паміж 15.03.1864 і 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—4адв.; 1430—1—52163—166).*

462. **Бараноўская (Барановіч) Алена** (Барановская (Баранович) Елена), сваячка *Альжбеты*, *Вінцэнта*, *Генрыка* і *Сільвестра*, памешчыца Ашмянскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199; 2532—1—15—11адв.).*

463. **Бараноўская (Барановіч) Альжбета** (Барановская (Баранович) Елизавета), сваячка *Алены*, *Вінцэнта*, *Генрыка* і *Сільвестра*, памешчыца Ашмянскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199; 2532—1—15—11адв.).*

464. **Бараноўская Ганна** (Барановская Анна), дваранка. Западозрана ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад судом у МагВСК *(3257—2—2—3адв.).*

465. **Бараноўская Марыя** (Барановская Мария), дачка Казіміра, дваранка Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яе маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—66адв.).*

466. **Бараноўская Юлія** (Барановская Юлия), жонка Яна, маці *Андрэя*, памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Бялынкавічы Клімавіцкага пав. Падчас паўстання западозрана разам з дзвюма дочкамі ў нарыхтоўцы прыпасаў для паўстанцаў. За гэта, а таксама за ўдзел сына ў паўстанні на Бялынкавічы на падставе ўказа МагГП ад 08.07.1863 накладзены секвестр. Абвінавачанні не пацвердзіліся, таму маёнтак вызвалены ад секвестру, аднак з накладаннем забароны за віну сына. Мела намер прадаць маёнтак Бялынкавічы, у сувязі з чым 26.01.1866 звярталася да ўладаў з прашэннем аб вызваленні ад забароны, якое было задаволена пастановамі МагГП ад 03.02.1866 і ЧПА ў г. Вільні ад 27.07.1863 *(2003—1—211).*

467. **Бараноўскі Аляксандр** (Бороновский Александр), сын *Леанарда*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада свайго бацькі, захоплены рас. войскамі са зброяй у руках ля фальв. Падблонныя. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, прызнаны вінаватым у асабістым удзеле ў паўстанні. 22.11.1863 яго справа адаслана ў МСК. Пра яго даваў паказанні *Бараноўскі Леанард Янавіч*. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—19—249; 299—1—579—298-307; 319—1—479—5адв.; 1418—3—1—8адв.-9; 1430—1—52163—206)*.

468. **Бараноўскі Андрэй** (Барановский Андрей), сын Яна і *Юліі*, дваранін, каталік. Нар. каля 1841 г. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Яго маці валодала маёнткам Бялынкавічы Клімавіцкага пав. 22.04.1863 пакінуў месца жыхарства ў в. Касцюковічы Клімавіцкага пав. і прыбыў у маёнтак Ярошаўка Клімавіцкага пав., дзе ўвайшоў у склад невялікага атрада, які фарміраваў *Арцімовіч Міхал*. 23.04.1863 накіраваўся з атрадам у в. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. 24.04.1863 злучыўся з атрадам *Жукоўскага Яна-Алаізія*, з якім пасля далучыўся да атрада *Звяждоўскага Людвіка* і разам з ім 30.04.1863 здаўся рас. уладам у Кульчыцкіх лясах. Зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.07.1863 перадала яго справу ў МагСК. Быў пад судом у МагВСК, дзе выказаў раскаянне. Пачатковым прысудам прызначаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. Пасля абвяшчэння гэтага прысуду падаў прашэнне аб «міласэрнасці і гатоўнасці ўзнавіць прысягу». Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання». 29.05.1864 прыведзены да прысягі, пасля чаго высланы ў Пермскую губ. У 1864 г. жыў пад наглядам паліцыі ў г. Шадрынску Пермскай губ., звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы грашовай дапамогі. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—4—11416—21; 1430—1—52163—200; 2514—1—2198—66адв.; 3256—2—14; 3257—2—2—3; 3366—1—5—2адв., 13адв.)*.

469. **Бараноўскі Вінцэнт** (Барановский Викентий), сваяк *Алены*, *Альжбеты*, *Генрыка* і *Сільвестра*, памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.)*.

470. **Бараноўскі Генрык** (Барановский Генрих), сваяк *Алены*, *Альжбеты*, *Вінцэнта* і *Сільвестра*, памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.)*.

471. **Бараноўскі Казімір** (Барановский Казимир), сын Яна, дваранін. Нар. каля 1799 г. У 1840 г. ажаніўся з Марыяй Казіміраўнай Скудвілай, з якой меў сына Парфірыя (нар. каля 1845), дачок Ганну (нар. каля 1846), Юлію (нар. каля 1850), Антаніну (нар. каля 1853) і Казіміру (нар. каля 1855). На атрыманыя ў пасаг грошы набыў у памешчыка Кляпацкага 3 дзес. зямлі без сялянаў у в. Старое Палессе Магілёўскага пав. (гл. *Вайніловіч Лукаш*). Да паўстання служыў на грамадзянскай службе, чыноўнік 14 класа. Абвінавачаны ў агітацыі на карысць паўстання, схоплены сялянамі і адпраўлены ў г. Магілёў. Яго маёмасць (3 валокі зямлі, хата, гаспадарчыя пабудовы, рухомасць, 24 руб. гадавога прыбытку, 20,11 руб. доўгу) 18.06.1863 апісана і секвестравана. Паводле прашэння жонкі ад 01.08.1863 і распараджэння М. Мураўёва ад 07.12.1863 сям'і выдаваўся цалкам даход ад секвестраванай маёмасці. 17.06.1864 яшчэ ўтрымліваўся пад арыштам *(2003—2—1; 2003—2—19—17адв.-18)*.

472. **Бараноўскі Караль** (Барановский Карл), сын *Тадэвуша*, брат *Мацея* і *Пятра*, дваранін Лепельскага ці Віцебскага пав., каталік. Западозраны разам з братамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі, дзе ўтрымліваўся 05.03.1864. Быў пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 28.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—168; 3046—2—3—8адв.-9)*.

473. **Бараноўскі Леанард** (Барановский Леонард), сын Яна, муж Крысціны, дваранін Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1828 г. Да паўстання жыў у в. Янушкі Мінскага пав. на ўласнай 1 валоцы зямлі. 20.04.1863 паступіў у паўстанцкі атрад, 21.04.1863 уцёк з яго і 23.04.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у в. Засулле Мінскага пав. Пасля вярнуўся на месца жыхарства. 01.07.1863 арыштаваны, у ваенна-паліцэйскім упраўленні 3 стана Мінскага пав. катаваны бізуном, потым зняволены ў г. Мінску. Пра яго даваў паказанні *Шпілеўскі Адам*. Знаходзіўся пад следствам у МСК, даваў паказанні сярод іншага пра *Бараноўскага Аляксандра*, *Дыбоўскіх Тадэвуша* і *Эміля*, *Янушкевіча Міхала*. Даказаў, што прыцягнуты ў атрад гвалоўна ротмістрам *Бараноўскім Леанардам*, таму паводле загада ЧВГМГ ад 19.09.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны нагляд паліцыі. Заслужыў негатыўную рэпутацыю сярод вакольных памешчыкаў, дзякуючы намаганням якіх у 1864 г. арыштаваны прыста-

вам Камароўскім, аднак паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 14.04.1864 падлягаў вызваленню. 08.1864 падаў прашэнне на імя МГГ аб залічэнні на дзяржаўную службу, якое было задаволена. 18.09.1864 прыбыў у Мінск, каб прыступіць да выканання абавязкаў. Рас. улады часта блыталі яго з ротмістрам *Бараноўскім Леанардам* і на яго фальварак нават быў накладзены секвестр, які потым зняты паводле распараджэння К. фон Каўфмана ад 28.10.1865 *(295—1—1589; 296—1—19—192-193, 244-265адв., 279адв.)*.

474. **Бараноўскі Леанард** (Барановский Леонард), бацька *Аляксандра*, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра. Да паўстання жыў у маёнтку Новікі Мінскага пав. памешчыцы Палонскай, які хацеў узяць у арэнду. У паўстанні ўзначаліў атрад у Мінскім пав., куды ўваходзілі яго сын, *Дыбоўскія Эміль* і *Тадэвуш*, *Янушкевіч Міхал*. Прыцягнуў у яго таксама сярод іншых *Бараноўскага Леанарда Янавіча*, *Шпілеўскага Адама* і інш. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(295—1—1589—15; 296—1—19—244-250; 320—1—398—2, 197адв., 326-327адв., 333-334; 1430—1—52163—125адв.)*.

475. **Бараноўскі Леанід (Леапольд)** (Барановский Леонид (Леонильд, Леопольд)), сын Антонія, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1835 г. Да паўстання жыў у маёнтку Гаўдовічы Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, памёр ад ран падчас следства. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру, а потым канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 295—1—1537—7-12адв.; 295—1—1643—13; 296—1—25—71адв., 87адв., 104адв.; 320—2—98—30адв.; 1524—1—1—1адв.; 1525—1—2—6адв.-7)*.

476. **Бараноўскі Мацей** (Барановский Матвей), сын *Тадэвуша*, брат *Караля* і *Пятра*, дваранін Лепельскага ці Віцебскага пав., каталік. Западозраны разам з братамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі, дзе ўтрымліваўся 05.03.1864. Быў пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 28.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—168; 3046—2—3—8адв.-9)*.

477. **Бараноўскі Парфіры** (Барановский Порфирий), сын Казіміра, дваранін Аршанскага пав. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—4—11416—21; 1430—1—35146—73; 1430—1—52163—200; 2514—1—2198—66адв.; 3257—2—2—3; 3366—1—5—13адв.)*.

478. **Бараноўскі Пётр** (Барановский Петр), сын *Тадэвуша*, брат *Караля* і *Мацея*, дваранін Лепельскага ці Віцебскага пав., каталік. Западозраны разам з братамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі, дзе ўтрымліваўся 05.03.1864. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 28.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—168; 3046—2—3—8адв.-9)*.

479. **Бараноўскі Сільвестр** (Барановский Сильвестр), сваяк *Алены*, *Альжбеты*, *Вінцэнта* і *Генрыка*, памешчык Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—102; 319—1—479—4; 2532—1—15—11адв.)*.

480. **Бараноўскі Тадэвуш** (Барановский Фаддей), сын Марціна, бацька *Караля*, *Мацея* і *Пятра*, дваранін Віцебскага ці Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 28.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—8адв.-9)*.

481. **Бараноўскі Уладзіслаў** (Барановский Владислав), дваранін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска *(319—1—479—4; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

482. **Бараноўскі Фердынанд** (Барановский Фердинанд), грамадзянін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—4; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

483. **Бараноўскі Юзаф** (Барановский Иосиф), дваранін Валынскай губ. Нар. каля 1815 г. Удзельні-

чаў у паўстанні, пасля эміграваў за мяжу. У 1872 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі завочна асуджаны на вечнае выгнанне, пазбаўленне правоў стану і канфіскацыю маёмасці, а ў выпадку з'яўлення ў межах Рас. імперыі — на ссылку ў Сібір на пасяленне *(1430—1—35260)*.

484. **Бараноўскі Ян** (Барановский Иван), сын Мікалая, дваранін Мінскай губ. Да паўстання вучыўся ва ўніверсітэце. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы, на яго маёмасць накладаўся секвестр. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай жыць у губернях «Заходняга краю» *(162—1—116—166; 1430—1—52758—4)*.

485. **Баранцэвіч Аляксандр** (Баранцевич Александр), сын Антонія, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку, дзе вучыўся ў гімназіі. За ўдзел у паўстанні арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1643—9адв.; 320—1—398—3)*.

486. **Баранцэвіч Базыль** (Боранцевич Василий), сын Антонія, брат *Ксаверыя*, дваранін Слуцкага пав., каталік. Увосень 1863 г. абвінавачаны разам з братам у ССК *Пятніцкім Мікалаем* у агітацыі на карысць паўстання. Арыштаваны паводле загада ваеннага начальніка Слуцкага пав. ад 12.09.1863. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У ходзе следства высветлілася, што «нявінна абгавораны» з прычыны асабістай непрыязні *П. М.* да брата *Ксаверыя*. Пастановай ССК ад 31.12.1863, зацверджанай В. Забалоцкім 02.1864, прызначаны да вызвалення і пазбаўлення ўсялякай адказнасці *(295—1—1593; 1524—1—1—2)*.

487. **Баранцэвіч Канстанцін** (Боранцевич Константин), сын Якуба Міхалавіча, брат *Стэфана*, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1843 г. Пад уплывам брата ўступіў у паўстанцкі атрад *Машэўскага Уладзіслава*. 20.04.1863 паранены ў галаву і ўзяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—1643—6; 296—1—25—104адв.; 299—2—6904; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—326-327адв., 335; 320—2—98—30адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—1адв.; 1525—1—2—4адв.-5)*.

488. **Баранцэвіч Ксаверы** (Боранцевич Ксаверий), сын Антонія, брат *Базыля*, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1827 г. Да паўстання жыў у вак. Баркі Слуцкага пав. Увосень 1863 г. абвінавачаны разам з братам у ССК *Пятніцкім Мікалаем* у агітацыі на карысць паўстання. Арыштаваны паводле загада ваеннага начальніка Слуцкага пав. ад 12.09.1863. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У ходзе следства высветлілася, што «нявінна абгавораны» з прычыны асабістай непрыязні *П. М.* Пастановай ССК ад 31.12.1863, зацверджанай В. Забалоцкім 02.1864, прызначаны да вызвалення і пазбаўлення ўсялякай адказнасці *(295—1—1593; 295—1—1643—9адв.; 1524—1—1—2)*.

489. **Баранцэвіч Ксаверы** (Баранцевич Ксаверий), сын Міхала Сымонавіча, дваранін Навагрудскага пав. Хр. 16.01.1837. Да паўстання жыў у маёнтку Ліпы Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. 07.04.1863 захоплены ў палон у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1562—16; 296—1—296—3; 320—1—398—2адв., 313-315)*.

490. **Баранцэвіч Стэфан** (Боранцевич Стефан), сын Якуба Міхалавіча, брат *Канстанціна*, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. 05.11.1833. Служыў у Лібаўскім Прынца Карла Пруская палка, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання жыў у Слуцкім пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*. 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав., утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. На судзе прасіў літасці. Прысудам ПВСЗБА асуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 15 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга зменена на 12-гадовую. Не меў нерухомай маёмасці *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—326-327адв., 335, 348; 320—2—98—30адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—1адв.; 1525—1—2—5адв.-6)*.

491. **Баранцэвіч Ян** (Баранцевич Иван), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання жыў у землямера Івана Шостава ў Свянцянскім пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—4; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

492. **Баранцэвіч N.** (Баранцевич N.). Удзельнічаў у паўстанні ў Бельскім пав., пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162)*.

493. **Баратынскі Аляксандр** (Боротынский Александр), сын Стэфана Юзафавіча, дваранін Лепельскага пав. Нар. 07.07.1841. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21, 23адв.)*.

494. **Баратынскі Уладзіслаў** (Боратынский (Баратинский) Владислав), сын Людвіка, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Яго бацькі валодалі маёнткам на 600 (ці60?) дзес. зямлі ў Лепельскім пав. Вучыўся ў г. СПб на званне памочніка аптэкара. Да паўстання вярнуўся ў г. Слуцк, дзе працягваў вучобу ў аптэкара. 19.04.1863 у складзе невялікай групы на чале з *Дамброўскім Леанам* пакінуў г. Слуцк і далучыўся ля вак. Суцін Ігуменскага пав. да атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава.* «Узяў удзел у мяцяжы ў надзеі, што пры дапамозе замежных дзяржаў Літва далучыцца да Польшчы, а з гэтым разам вернуцца тыя правы, якімі карысталіся продкі». Удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі 09.06.1863, пасля якой адбіўся ад атрада і схоплены сялянамі ў в. Задабрычча Ігуменскага пав. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.07.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 26.10.1863 аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку. Западозраны ва ўдзеле ў павешанні 23(24?).05.1863 у с. Багушэвічы Ігуменскага пав. святара Д. Канапасевіча, але на судзе даказаў, што падчас павешання браў у Багушэвічах лекі. Рашэннем ПВС ад 02.11.1863 і канфірмацыяй В. Забалоцкага ад 09.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 20[51] гадоў. Рашэннем ЧПА пры Яраслаўскім пяхотным палку ад 08.02.1864 і канфірмацыяй М. Мураўёва ад 10.02.1864 прысуд пакінуты з указаннем, што ссылку павінен адбываць у рудніках. На маёмасць бацькоў накладаўся секвестр. 25.02.1864 адпраўлены на месца ссылкі. *(162—1—116—64; 295—1—1643—7, 14адв.; 296—1—25—105адв.; 296—1—56; 296—1—90—16адв.-17; 299—1—577—164-175; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—282; 320—2—98—30адв.; 1416—3—21048—9адв.; 1418—3—1—7адв.-8; 1430—1—52163—412адв.; 2626—1—305—50)*.

495. **Барбэрыуш Леан** (Барбериуш (Берберіуш) Леон), сын Юзафа, дваранін Расіенскага пав. Нар. каля 1845 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены ў час бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны без пазбаўлення правоў. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 320—1—398—37-53адв.; 320—2—98—30адв.; 1416—3—21048—9; 1430—1—52163—150)*.

496. **Бардзілоўскі Вінцэнт** (Бордзиловский Викентий), дваранін Рэчыцкага пав. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 *(162—1—116—124; 295—1—1643—22; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.)*.

497. **Бардзілоўскі Ежы** (Бордзиловский Юрий), памешчык Чавускага пав. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—196; 2003—1—489—38; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9)*.

498. **Бардушка Францішак** (Бордушка Франц), сын Паўла, селянін. Нар. каля 1846 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Весялова Барысаўскага пав. памешчыка Леана Равы. Каля 20.04.1863 далучыўся да паўстанцаў, знаходзіўся ў атрадзе *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля яго разбіцця добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў мясцовай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1527—55, 103; 295—1—1588)*.

499. **Барзабагаты Антоні** (Борзобогатый Антоний). Да паўстання практыкаваў лекарам у Навагрудскім пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да ссылкі «адміністрацыйным парадкам» на сталае жыхарства ў Томскую губ. пад нагляд паліцыі; яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—57, 108; 162—1—122—11, 21; 295—*

[51] У некаторых дакументах фігуруе памылковая лічба ў 12 гадоў.

*1—1643—17; 320—1—398—679; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796).*

500. **Барзабагаты Уладзіслаў** (Борзобагатый Владислав), сын Канстанціна, муж Францішкі, дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у г. Навагрудку, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Падчас паўстання прызначаны грамадзянскім начальнікам Навагрудскага пав. З-за пагрозы арышту 05.1863 ці 06.07.1863 уцёк з г. Гродна і эміграваў за мяжу. Яго фотаздымак рассылаўся павятовым спраўнікам для арышту. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 яго маёмасць прызначана да канфіскацыі. У 1875 г. вярнуўся ў Рас. імперыю, аддадзены пад Віленскі ваенна-акруговы суд, рашэннем якога прысуджаўся да высылкі назаўжды ў Табольскую губ. пад нагляд паліцыі без пазбаўлення правоў стану. Паводле канфірмацыі імператара ад 15.05.1875 атрымаў дараванне з накіраваннем на жыхарства пад нагдяд паліцыі ў Кастрамскую губ. У 1878 г. вызвалены ад нагляду з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю». Яго жонка, вызваленная 27.08.1869 з-пад рас. падданства, у 1875 г. падала прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму з дзецьмі Уладзіславам і Веранікай і прыняць ізноў рас. падданства для сумеснага жыцця з мужам, 30.01.1876 атрымала дазвол *(160—2—682—57; 162—1—116—166; 162—1—122—11; 295—1—1617; 295—1—2747; 320—1—398—679; 1430—1—52758—4; 2586—1—22—13-14).*

501. **Барзабагаты Юзаф** (Борзобогатый Иосиф), дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да ссылкі «адміністрацыйным парадкам» на сталае жыхарства ў Томскую губ. пад нагляд паліцыі; яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—57, 108; 162—1—122—11, 21; 320—1—398—679; 1430—1—52163—796).*

502. **Баркоўская Пелагея** (Борковская Пелагея). Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у АСК, якая 06.03.1864 падала яе справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—1).*

503. **Баркоўскі Адольф** (Борковский Адольф). Да паўстання служыў наглядчыкам бальніцы ў г. Троках, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7).*

504. **Баркоўскі Антоні** (Борковский Антоний), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—5).*

505. **Баркоўскі Іпаліт** (Борковский Ипполит), сын Якуба, брат *Станіслава*, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання жыў з братам у г. Магілёве, служыў канцылярыстам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Тамбоў. Яго маёмасць падлягала секвестру, аднак яе знойдзена не было *(1430—1—52163—609; 2003—2—20—10-11, 20-21; 1430—1—52285—23).*

506. **Баркоўскі Леан** (Барковский Леон), дваранін Магілёўскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Да паўстання з'яўлялся пісарам у праўленні Доўгаўскай вол. Ігуменскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—6; 1416—4—11416—130; 3257—2—2—2адв.).*

507. **Баркоўскі Мікалай** (Борковский Николай), сын Францішка, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Сваятычы Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Высланы з радзімы *(295—1—2725—31адв.; 295—1—1643—7адв.; 320—1—398—3).*

508. **Баркоўскі Станіслаў** (Барковский Станислав), сын Якуба, брат *Іпаліта*, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання жыў з братам у г. Магілёве, служыў канцылярыстам Магілёўскага ДДС. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», 25.05.1863 звольнены са службы і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Тамбоў. Яго маёмасць падлягала секвестру, аднак яе знойдзена не было *(1430—1—52163—609; 2003—2—20—10-11, 20-21; 1430—1—52285—23; 2003—2—96—20адв.).*

509. **Барнусовіч Фядот** (Борнусович Федот), муж Ганны, мешчанін г. Бабінавічы Аршанскага пав. Нар. каля 1837 г. Да паўстання служыў кавалём у *Брастоўскага Міхала*. 22.04.1863 затрыманы разам з *Астаневічам Антоніем*, які вёз зброю, таму западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. У далейшым падазрэнне не пацвердзілася, таму выпушчаны на парукі. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. Яе пастановай ад 10.12.1864 і канфірма-

цыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

510. **Баровіч Баляслаў** (Борович Болеслав), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—4адв.; 534—1—14—4; 1416—4—11416—116; 1430—1—52163—374)*.

**Бародзін Геранім** — гл. **Бародзіч Геранім**

511. **Бародзіч Аляксандр** (Бородзич Александр), сын Антонія і *Альжбеты Антоніеўны*, дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання на маёнтак Лебяжаны ці Цеплівода, якім ён валодаў на правах суспадчынніка, накладалася забарона *(162—1—116—166адв.; 320—2—99—49)*.

512. **Бародзіч Альжбета** (Бородзич Елизавета), дачка Антонія, жонка Антонія, маці *Аляксандра*, памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Цеплівода Навагрудскага пав. У паўстанні сустракалася са сваім сынам падчас яго знаходжання ў атрадзе. Арыштавана за няданясенне ўладам пра паўстанцаў, у 1864 г. аддадзена пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—10; 320—2—99—49)*.

513. **Бародзіч Вітальд** (Бородзич Витольд). Да паўстання служыў у г. Мазыры настаўнікам гімназіі[52]. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» у г. Омск шарагоўцам у Сібірскія батальёны рас. войска *(295—1—1643—14; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21)*.

514. **Бародзіч (Бародзін) Геранім** (Бородзич (Бородзин) Героним). Да паўстання служыў гарадскім доктарам у г. Слуцку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства сасланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. *(1430—1—52163—608; 1430—1—52285—21адв.)*.

515. **Бародзіч Дамінік** (Бородзич Доминик). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у Мінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, у 1882 г. жыў у Навагрудскім пав. *(295—1—3492—41адв., 74; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

516. **Бародзіч Юзаф** (Бородич Осип), сын Антонія Тэадоравіча, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. 25.12.1838. Да паўстання жыў у в. Завоссе Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*. 20.04.1863 паранены ў горла і плячо ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. і ўзяты ў палон са зброяй у руках. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 ссылка заменена на 10 гадоў катаргі ў крэпасцях. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай жыць у губернях «Заходняга краю» *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—326-327адв., 329; 320—2—98—30адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—1адв.; 1430—1—52758—4; 1525—1—2—4адв.-5)*.

517. **Бароўская Марыя** (Боровская Марья), маці *N.*, памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Батурына з в. Лукавец, дзе служыў аканомам *Ліхадзіеўскі Фелікс,* і в. Юнцэвічы Вілейскага пав. (агулам 5408 дзес. зямлі). За ўступленне сына ў паўстанцкі атрад яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

518. **Бароўскі Беньямін** (Боровский Вениамин), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам», на яго маёмасць накладаўся секвестр *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379адв.)*.

519. **Бароўскі Ігнат** (Боровский Игнатий), сын Феліцыяна, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў «аддаленыя губерні» Расіі. 03.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—9адв.-10)*.

520. **Бароўскі Мікалай** (Боровский Николай), шляхціц Троцкага пав. Да паўстання служыў пісарам у маёнтку Чырвоны Двор Троцкага пав. *Тышкевіча Бенядыкта*. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

521. **Бароўскі Міхал** (Боровский Михаил), сын Феліцыяна Стэфанавіча, дваранін Ігуменскага пав.,

---

[52] У алфавіце спраў мінскага губернатара пазначана, што быў яе вучнем.

каталік. Да паўстання вучыўся ў Мінскай гімназіі. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 15.05.1863 адпраўлены ў г. Мінск, дзе аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—130, 156; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—514-515, 644; 320—2—98—31; 1418—3—1—6адв.-7; 1430—1—52163—522).*

522. **Бароўскі Міхал** (Боровский Михаил), купец г. Рагачова. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1553—23-24; 295—1—1643—9, 19; 319—1—479—6; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.).*

523. **Бароўскі Станіслаў** (Боровский Станислав), незацверджаны дваранін Беластоцкага ці Бельскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—5; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—601адв.).*

524. **Бароўскі Эдмунд** (Боровский Эдмунд), дваранін г. Коўна. Да паўстання яго бацькі валодалі домам у Коўна. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—5; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

525. **Бароўскі Юзаф** (Боровский Иосиф), дваранін Віленскага пав. Да паўстання жыў у с. Слабодка. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—4; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

526. **Бароўскі Юзаф-Ігнат** (Боровский Иосиф-Игнатий), сын Станіслава. Да паўстання працаваў па-за штатам пісьмаводам станавога пристава *Гералтоўскага Дамініка*, губернскі сакратар. Пасля паўстання канфірмацыяй прысуджаны (канец 1865 — пачатак 1866 г.) да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—10).*

527. **Бароўскі Ян** (Боровский Иван), сын Дамініка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў аддаленыя губерні Расіі. 17.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—10адв.-11).*

528. **Бароўскі Ян** (Боровский Иван), сын Ігната, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. З 09.10.1863 быў пад следствам у МагСК, паводле распараджэння якой зняволены ў «богаўгоднай установе» ў г. Магілёве. МагСК, скончыўшы яго справу, 30.03.1864 падала яе магілёўскаму губернатару. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—66адв.; 3257—1—14—1а адв.-2; 3257—2—8—2).*

529. **Бароўскі N.** (Боровский N.), сын *Марыі*, дваранін Вілейскага пав. Уступіў у паўстанцкі атрад, забіты ў баі з рас. войскамі *(1416—6—280).*

530. **Барсук Ежы** (Борсук Юрий), памешчык Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11).*

531. **Барсук Ян** (Борсук Иван), дваранін. Нар. каля 1847 г. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры Мінскім батальёне ўнутранай варты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на ваенную службу ў Сібірскія батальёны без пазбаўлення правоў «з увагі да яго маладых гадоў». Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—6, 12; 299—1—577—511-513; 320—1—398—20, 191; 320—2—98—31).*

532. **Барташ (Бырташ) Пётр** (Барташ (Byrтош) Петр), часоваабавязаны селянін Дзісенскага (?) пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў веданні пра падрыхтоўку да паўстання і далучэнне да яго некаторых асоб з м. Асвея Дрысенскага пав. Арыштаваны і зняволены (да 25.01.1864) у фартэцыі ў г. Дынабургу. Пад следствам знаходзіўся разам з *Анкудовічам Баляславам*, *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Гарадніком Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і інш., арыштаваны. Паводле распара-

джэння А. Патапава ад 08.08.1864 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства *(1416—2—12677—32-33адв.; 2601—1—5—7адв.).*

533. **Барташэвіч Аляксандр-Ян** (Бартошевич Александр Иван), ксёндз. За прамаўленне 01.01.1864 казання ў касцёле г. Слуцка «супрацьурадавага зместу», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—2).*

534. **Барташэвіч Андрэй** (Бартошевич Андрей), сын Яна Мацеевіча, брат Казіміра, дваранін Мазырскага ці Рэчыцкага пав., ксёндз. Нар. каля 1836 г. Жыў з бацькам у г. Мазыры, затым паступіў у семінарыю. Да і падчас паўстання служыў вікарыем у касцёле г. Слуцка. 01.01.1864 перарваў прарасійскую прамову ксяндза *Забароўскага Ігната*, «што мела мэтай растлумачыць хлуслівае і шкоднае захапленне рэвалюцыянераў», чым «яўна выразіў садзейнічанне сваё мяцяжу». Арыштаваны. 21.01.1864 у яго доме праведзены вобыск, падчас якога знойдзены адозва Нацыянальнага ўрада да каталіцкага святарства ў Літве, адзін нумар газеты «Рух», брашура «Песні набожныя» і іншыя антырасійскія творы. Знаходзіўся пад следствам у ССК разам з *Ліневічам Пляцыдам.* За «хаванне падбухторваючых папер і перашкоду ўладам» загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.04.1864 аддадзены пад ПВС пры Бабруйскім арданас-гаўзе. 08.05.1864 судовая справа скончана і перададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 19.05.1864 адпраўлена М. Мураўёву. Пастановай ЧПА ад 03.06.1864, канфірмаванай М. Мураўёвым 22.06.1864, прысуджаны да пазбаўлення сану і правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 6 гадоў. 31.07.1864 адпраўлены з г. Бабруйска на месца ссылкі. У 1885 г. жыў у Пензенскай губ. пад наглядам паліцыі. 04.1885 яго брат, які жыў у г. Рэчыцы, падаў прашэнне аб дазволе яму на вяртанне на радзіму, якое было адхілена. Памер 25.08.1885 *(162—1—116—137; 295—1—1643—6, 21; 295—1—4074; 296—1—93; 299—2—579—746-749; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—573, 575, 577-578, 588-589, 599; 320—2—98—31; 1430—1—52163—242).*

535. **Барташэвіч Антоні** (Бартошевич Антон). Паходзіў з Мінскай губ. Да паўстання служыў ў Мінскай палаце грамадзянскага суда. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 *(162—1—116—124; 295—1—1643—16адв.; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.).*

536. **Барташэвіч Базыль** (Борташевич Василий), ксёндз. Да паўстання служыў духоўнікам марыявіцкага кляштара ў г. Віцебску. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на яго падтрымку. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 23.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—7адв.—8; 3046—2—5—4адв.).*

537. **Барташэвіч Канстанцін** (Бартошевич Константин), сын Габрыэля, дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Свіла Дзісенскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

538. **Барташэвіч Станіслаў** (Бартошевич Станислав), сын Ануфрыя, грамадзянін г. Мінска. Да паўстання жыў у в. Глыбічы Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, схіліў 2 жыхароў Мінска да ўступлення ў паўстанцкі атрад. Пасля задушэння паўстання больш за 2 гады хаваўся ў доме сваіх бацькоў, арыштаваны, зняволены ў Мінску. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 07.01.1866 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(160—2—683—7; 295—1—1643—16адв.; 299—2—6399—37адв.-38).*

539. **Барташэвіч Тэадор** (Бартошевич Теодор), сын Юзафа, дваранін Валынскай губ. Да паўстання служыў столаначальнікам у МагГП, здымаў кватэру ў г. Магілёве ў доме купца Нахіма Лур'е. За ўдзел у паўстанні арыштаваны (да 31.05.1863). Яго рухомая маёмасць на суму ў 113,6 руб. ср. 14.06.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. Секвестраваная маёмасць канфіскавана *(320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.; 2003—1—214; 3257—2—2—3).*

540. **Барташэвіч Юзаф** (Бартошевич Иосиф), дваранін. Да паўстання служыў у канцылярыі Мінскай палаты грамадзянскага суда. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны да ссылкі ў рас. войска шарагоўцам. Высланы (да 01.06.1864) у г. Омск у сібірскія батальёны. Яго маёмасць падлягала секвестру *(295—1—1643—10адв.; 1430—1—52163—562, 610; 1430—1—52285—21).*

541. **Барткевіч Адольф** (Боткевич Адольф), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы «адміністра-

цыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21адв.; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.)*.

542. **Барткевіч Ануфры** (Борткевич Онуфрий), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Пензенскую губ. *(319—1—479—5; 320—1—398—222адв.)*.

543. **Барткевіч Мікалай** (Борткевич Николай), сын Яна, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навасёлкаўскай сельскай грамады Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага пав. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.11.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(160—2—682—29; 162—1—122—6; 295—1—2725—17; 320—1—398—666; 534—1—14—16)*.

544. **Барткевіч Эдвард** (Борткевич Эдуард), памешчык. Да паўстання жыў у засц. Гасперышкі Свянцянскага пав., дзе валодаў зямлёй. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—128; 1416—6—274; 1430—1—52163—603)*.

545. **Барткевіч Юльян** (Борткевич Юлиан), дваранін Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—4адв.)*.

546. **Барткевіч Юстын** (Борткевич Устин), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

547. **Бартноўскі Фелікс** (Борновский Феликс), сын Юзафа. Да паўстання служыў пісьмаводам страпчага Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

548. **Бартноўскі Францішак** (Бартновский Франц). Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562)*.

549. **Бартноўскі Цітус** (Бортновский Тит). Служыў журналістам Пружанскай дваранскай апекі, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Яраслаўскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

550. **Бартовіч Тэадор** (Бортович Федор), сын Стэфана, дваранін Рагачоўскага пав., каталік. Западозраны ў жаданні далучыцца да паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—1адв.)*.

551. **Баршчэвіч (Баршчэўскі) Вернер** (Барщевич (Барщевский) Вернер), дваранін. Да паўстання жыў у м. Корва Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

552. **Баршчэўскі Аўгустын** (Борщевский Августин), сын Вінцэнта, памешчык Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Падчас паўстання даставіў ксяндзу *Храноўскаму N.*, які накіроўваўся ў ссылку, чамадан са «святарскімі рэчамі». Апрача таго, абгавораны *Другавінам Янам* у «прыняцці прысягі на адданасць Рэвалюцыйнаму Камітэту», арыштаваны (да 29.05.1863). 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 75 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру. За нявыплату штрафа 29.01.1865 працягваў утрымлівацца ў турэмным замку г. Віцебска *(1416—3—21048—8; 1416—4—11416—185-212; 1416—4—11552; 1430—1—52163—15адв., 393, 403; 3046—2—3—4адв.-5; 3046—2—5—4)*.

553. **Барысевіч (Барысовіч) Тэадор** (Борисевич (Борисович) Федор). Паходзіў з Мінскай губ. Вучыўся ва ўніверсітэце. Да паўстання жыў у маёнтку Зубкі (Зубкова) Слуцкага пав. Абвінавачаны ў жаданні далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. У канфірмацыі М. Мураўёва ад 28.06.1864 прызнана, што доказаў для абвінавачання не хапае,

але «пакінуты ў падазрэнні», за што прызначаны да ссылкі на сталае жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ.; яго маёмасць падлягала секвестру. На маёнтак бацькі накладалася забарона паводле ўказа МГП ад 17.08.1864 *(162—1—116—124; 320—1—398—520; 1430—1—52163—237адв.)*.

554. **Барысоўскі Адам** (Борисовский Адам), памешчык Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—7адв.)*.

555. **Барычэўскі Барталамей** (Боричевский Варфоломей), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.)*.

556. **Барычэўскі Зыгмунт** (Борический Сигизмунд), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Рымкаўшчына Троцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі, намаўленні Юзафа Кучынскага ўдзельнічаць у паўстанні і адпраўленні з мызы *Муйжаля Густава* ў паўстанцкі атрад чамадана з патронамі. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВілСК *(1416—6—274)*.

557. **Барычэўскі Казімір** (Боричевский Казимир), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12адв.)*.

558. **Барычэўскі Фердынанд** (Борычевский Фердинанд), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

559. **Барцікоўскі Іаахім** (Борциковский Ефим), сын Тэафіла, дваранін Віцебскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны рас. уладамі ў распаўсюджванні звестак пра паўстанне ў Віцебскай і Магілёўскай губ. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—9адв.-10)*.

560. **Барэйка** (народжаная **Канстанціновіч**) **Антаніна** (Борейкова (урожденная Константинович) Антонина), дачка Габрыэля Леанавіча, дваранка Ігуменскага пав. Выйшла замуж за Ігната Янавіча Барэйку. Да паўстання стала ўдавой, жыла ў вак. Валадута Ігуменскага пав., не мела зямельнай маёмасці. За «спачуванне мяцяжу» ў 1864 г. разам з сынамі *Скуратовічамі Віктарам* і *Фларыянам* «адміністрацыйным парадкам» выслана ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнулася на радзіму. 12.1876 жыла ў вак. Валадута, 06.1882 — у маёнтку Драхча Ігуменскага пав. *(295—1—2420—13адв.; 295—1—3026—33; 295—1—3492—68адв., 74; 320—2—98—72-77)*.

561. **Барэйка Ежы** (Борейко Юрий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—5)*.

562. **Барэйка Канстанцін** (Борейко Константин). Служыў канцылярыстам, да паўстання выйшаў у адстаўку. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога прызначаны да ссылкі ў Табольскую губ. *(295—1—1643—9; 3366—1—5—2)*.

563. **Барэйка Станіслаў** (Борейко Станислав), сын Тамаша, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і «падгаворы» далучыцца да паўстання дваранаў Ярмашкевічаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Яго справа 15.02.1864 пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—127, 156адв.; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—547, 644адв.; 320—2—98—31; 1418—3—1—7адв.-8; 1430—1—52163—526)*.

564. **Барэйка Ян** (Борейко Иван), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—5)*.

565. **Барэйтшнэйдэр Ян (Іяган)** (Борейтшнейдер Иоанн (Иоганн)), сын Генрыка, прускі падданы. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. На следстве доўга хаваў сваё паходжанне. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 11.12.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(160—2—683—6)*.

566. **Барэйша Браніслаў** (Борейша Бронислав). Да паўстання разам з *Вiткоўскім Алаізіем* вучыўся ў Мінскай гімназіі. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—7адв.; 296—1—19—19)*.

567. **Барэйша Міхал** (Борейша Михаил), сын Паўла, брат (?) *Паўліны*, памешчык Кобрынскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яго маёмасць, паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864, падлягала секвестру. *(1416—4—11416—129, 174-175адв.).*

568. **Барэйша Паўліна** (Борейша Паулина), дачка Паўла, сястра (?) *Міхала*, памешчыца Кобрынскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яе маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174-175адв.).*

569. **Барэйша N.** (Борейша N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Кена Віленскага пав. У яго маёнтку паўстанцы атрымоўвалі харчаванне, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

570. **Басяцкі Вандалам** (Босяцкий Вандолам), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—5; 320—1—398—224адв.).*

571. **Басяцкі Себасцьян** (Босяцкий Севастьян), дваранін Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—5; 1416—4—11416—87адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

572. **Басяцкі Юзаф** (Босяцкий Иосиф), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Мізгіры Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3).*

573. **Батаневіч Фальзіён** (Батоневич Фользион). За дачыненне да паўстання 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 *(1430—1—52163—394).*

574. **Батвіннік Невах-Шмуйла** (Ботвинник Невах-Шмуйло), яўрэй. Да паўстання служыў цырульнікам ва ўладальніка маёнтка Вязынь Мінскага пав. Ігната Багдашэўскага. Падчас паўстання пасланы І. Багдашэўскім разам з *Шабуневічам Янам* на пошукі яго сына *Багдашэўскага Стэфана.* 05.05.1863 арыштаваны ля в. Аляксандрава Мінскага пав. Пры вобшуку ў яго знойдзены перавязачныя матэрыялы, таму западозраны ў жаданні дапамагаць паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая заключыла, што «не можа быць абвінавачаны і прыцягнуты да следства за выкананне даручэння, ускладзенага дваранінам Ігнатам Багдашэўскім». Паводле загада ЧВГМГ ад 13.07.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1584; 296—1—19—39-43).*

575. **Баўкалоўскі (Баўканоўскі) Ігнат** (Баукаловский (Боукановский) Игнатий), сын Паўла, мешчанін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1865 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога прысуджаны да ссылкі з сям'ёй у Томскую губ. для пасялення на казённых землях. Паселены ў Ішымскай вол. Томскай акругі, у 1876 г. атрымаў амністыю і дазвол вярнуцца за свой кошт з сям'ёй у в. Бурдзевічы Навагрудскага пав. *(295—1—3064; 295—1—1643—23).*

576. **Баўр (Баўраў) Ян** (Баур (Бауров) Иван), муж Агнешкі, селянін. Да паўстання жыў у м. Краслаўка Дынабургскага пав. Як «палітычны злачынца» сасланы ў Смаленскія арыштанскія роты, пасля вызвалення з якіх падлягаў пасяленню на казённых землях у Сібіры. На яго маёмасць паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 04.12.1863 накладаўся секвестр. У 1866 г. жонка падала прашэнне аб вяртанні яго пасля арыштанцкіх рот на радзіму, якое 15.04.1866 было адхілена *(1416—3—21048—9; 1430—1—31604—613-615; 1430—1—52163—397).*

577. **Баўсуноўскі Ян** (Болсуновский Иван), дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы ў Валагодскую губ., у 1876 г. атрымаў частковую амністыю з правам вярнуцца на радзіму ў Кіеўскую губ., але з забаронай пражываць у іншых губ. «Заходняга краю», сталіцах, сталічных губ. і Таўрычаскай губ. *(1430—1—35930).*

578. **Бахаловіч Станіслаў** (Бахалович Станислав), сын Ізыдара, брат Гертруды і Тэафілы, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Дзмітрава Полацкага пав. На пачатку 1863 г. прыняў прысягу на адданасць рэвалюцыйнаму камітэту і прыбыў у г. Полацк, дзе меў намер разам з *Другавінам Янам* узняць на паўстанне кадэтаў Полацкага кадэцкага корпуса. Пасля няўдачы пакінуў Полацкі пав. і ўдзельнічаў у паўстанні ў складзе себежскага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Кульчыцкага Баляслава*, пасля рассеяння якога 24.04.1863 ўзяты ў палон у Дрысенскім пав. Утрымліваўся ў г. Віцебску. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 25.09.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 02.1864 атрымаў дазвол на спатканне са сваякамі. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 24.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення

правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. На яго частку Дзмітрава 10.07.1863 на падставе ўказа ВГП 07.06.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. 19.03.1864 адпраўлены з Віцебска праз г. Вострaў Пскоўскай губ. на месца ссылкі *(296—1—25—105; 319—1—479—5адв.; 1416—3—21048—8; 1416—4—11367; 1416—4—11416—285, 289адв.-291адв.; 1430—1—31602—174; 1430—1—31604—38; 1430—1—52163—15адв., 20, 405, 406, 430адв., 445, 446адв., 570, 821адв.; 3046—2—3—4адв.-5; 3046—2—5—4)*.

579. **Бацарскі (Бацярскі) Дамінік** (Боцарский (Боцярский) Доминик), сын Яна. Да паўстання служыў выкладчыкам Варнянскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863, падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Омск ці ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—4адв.)*.

580. **Бацэвіч Людвік** (Боцэвич Людвиг), дваранін. Да паўстання валодаў домам у г. Вільні на Лукішках. Удзельнічаў у паўстанні, пры паланенні ў яго забраны кулі і пісталет. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

581. **Бацэвіч Фелікс** (Бацевич Феликс), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

**Бацярскі Дамінік** — гл. **Бацарскі Дамінік**

582. **Бачанскі Дыянізі** (Бочанский Дионисий). Паходзіў з Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

583. **Бачанскі Францішак** (Бачанский Франц), дваранін Ковенскай губ. Служыў на рас. дзяржаўнай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573, 613; 1430—1—52285—16)*.

584. **Бачкоўскі Уладзіслаў** (Бочковский Владислав), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—4адв.;320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

585. **Бачызмальская Цаліна** (Бачизмальская Целина), дачка Адама, жонка *Леанарда-Ігната*, маці Каятана і Ядвігі, памешчыца Барысаўскага пав. Да паўстання жыла ў маёнтку Смаляры Барысаўскага пав., якім валодаў яе муж. Падчас паўстання дастаўляла мужу харчаванне падчас яго хавання ад рас. уладаў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 11.11.1863 прысуджана да 100 руб. штрафу на карысць пацярпелых ад паўстання. Пасля канфіскацыі маёмасці мужа некалькі разоў звярталася да ўладаў з прашэннямі аб матэрыяльнай дапамозе для ўтрымання дзяцей, аднак безвынікова *(295—1—1547)*.

586. **Бачызмальская N.** (Бачизмальская N.), памешчыца, жонка палкоўніка. Да паўстання валодала маёнткам Навастрэбы Ковенскага пав. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, яе маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

587. **Бачызмальскі (Бачыжмальскі) Леанард-Ігнат** (Бачизмальский (Бачижмальский) Леонард-Игнатий), сын Каятана Ігнатавіча, брат Браніслава і Цэзара, муж *Цаліны*, бацька Каятана і Ядвігі, памешчык, каталік. Нар. каля 1830 г. Да паўстання жыў у маёнтку Смаляры Барысаўскага пав., якім валодаў разам з братамі, сёстрамі, маці і цёткай; у яго служыў леснікам *Ліпінскі Аляксандр*. 19.04.1863 прыняў у Смалярах *Адынца Яна*, *Чыжыка Мельхіёра*, *Тышкевіча Генрыка* і інш., выправіўся з імі ў фальв. Дамашкавічы Барысаўскага пав., пасля чаго далучыўся да паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта*. Выконваў у ім функцыі казначэя. Пасля рассеяння атрада хаваўся ў лясах. Каля 03.06.1863 перабраўся ў фальв. Кайтанава Барысаўскага пав., дзе 08.06.1863 арыштаваны рас. войскамі разам з *Гатоўкам Емяльянам*, *Кашэўскімі Габрыэлем* і *Францішкам* па даносе на яўрэйскай мове. Пастановай ваеннага суда пры Мінскім батальёне ўнутранай варты, канфірмаванай 11.11.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў. Маёнтак Смаляры (1944 дзес. зямлі, 800 руб. гадавога прыбытку, ацэ-

нены ў 12 тыс. руб.) секвестраваны паводле распараджэння мінскага губернатара і ўказа МГП ад 13.06.1863, потым частка гэтага маёнтка канфіскавана. 03.02.1864 высланы па этапе на месца ссылкі. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 жыў у свайго брата ў Смалярах, дапамагаў яму па гаспадарцы. «З маёнтка не выязжае з-за хваробы» *(162—1—116—51, 108; 295—1—1527—79; 295—1—1547; 295—1—1643—11адв.; 295—1—3026—37адв.-38; 296—1—89—45; 299—1—577—550-554; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—220, 223, 411, 437; 320—2—99—29; 1416—1—247)*.

588. **Бачынскі Тэадор** (Бачинский Федор), сын Тэадора. Да паўстання служыў у *Венцлавовіча Ануфрыя* ў Магілёўскім пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, аддадзены пад суд у МагВСК *(3257—2—2—2адв.)*.

589. **Бачэўская Барбара** (Бачевская Барбара), дваранка. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.)*.

**Башынскі Ігнат** — гл. **Бушынскі Ігнат**

590. **Баяроўскі Юльян** (Бояровский Юлиан). Да паўстання служыў у Гродзенскай грамадзянскай палаце. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

591. **Баярчык Барбара** (Боярчикова Варвара), сялянка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзілася пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яе справу *(3046—2—5—5)*.

592. **Безгальт Юзаф** (Безгольт Иосиф), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.)*.

593. **Безус N.** (Безус N.). Да паўстання служыў прыставам 3 стана Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прызначаны да звальнення са службы *(295—1—1643—13адв., 18адв.)*.

594. **Бейзым Ян** (Бейзым Иван), памешчык Валынскай губ. Нар. каля 1811 г. Удзельнічаў у паўстанні, у тым ліку ў сутычках з рас. войскамі, у адбіцці фуража для рас. войскаў у м. Палоннае Наваград-Валынскага пав., у адабранні ў арандатара вінакурні яўрэя Шпаня 900 руб. і інш. дзеяннях. Пасля паўстання эміграваў. У 1872 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі завочна асуджаны на вечнае выгнанне, пазбаўленне правоў стану і канфіскацыю маёмасці, а ў выпадку з'яўлення ў межах Рас. імперыі — на ссылку ў Сібір на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(1430—1—35260)*.

595. **Бейман Мендэль** (Бейман Мендель), яўрэй, мешчанін Расіенскага пав. У 1864 г. ездзіў за мяжу з мэтай, сярод іншага, перапраўкі туды двух «палітычных злачынцаў». Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 28.06.1864) да ссылкі без пазбаўлення правоў стану на пасяленне ў г. Мсціслаў пад нагляд паліцыі на 1 год. 10.08.1864 адпраўлены з г. Коўна ў Магілёўскую губ., 31.08.1864 з г. Магілёва ў Мсціслаў *(2001—1—898—66-72)*.

596. **Белазор Вінцэнт** (Бялозор Викентий), сын Казіміра, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Паазёры Панявежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, схоплены. Пры ім знойдзены 723 руб. крэдытнымі білетамі, 29 залатых паўімперыялаў і інш. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы КГП ад 12.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(319—1—479—5; 320—1—398—131адв.; 1416—6—251—12-15, 20; 1416—6—253; 1430—1—52163—598адв.)*.

597. **Белазор Марцін** (Бялозор Мартин), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Грынкішкі Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

598. **Белазор Элеанора** (Бялозорувна Елеонора), памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Высокі Двор Ковенскага пав. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яе маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

599. **Белазор Ян** (Бялозор Иван), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Васілішкі ці Белазорышкі Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

600. **Белакоз Адольф** (Белокоз Адольф). Да паўстання служыў настаўнікам музыкі ў гімназіі ў г. Беластоку, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейна-

сці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі Табольскую ці Пермскую губ. *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—614, 795адв.; 1430—1—52285—23).*

601. **Белакоз Міхал** (Белокоз Михаил). Паходзіў з Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

602. **Белакоз Фелікс** (Бялокоз Феликс), памешчык Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—7).*

603. **Белановіч Андрэй** (Белонович Андрей), аднадворац Троцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

604. **Белашэўскі Валяр'ян** (Белошевский Валериан), сын Ігната, аднадворац Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

605. **Белiковіч Антоні** (Беликович Антоний), сын Францішка Антоніевіча, брат *Францішка*, памешчык, каталік. Нар. каля 1824 г. Да паўстання валодаў маёнткам Якаўкі (з вінакурняй) Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* ва ўдзеле ў выбарах «польскіх дэлегатаў у Полацкім павеце», арыштаваны (да 29.05.1863). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая свае заключэнні 30.09.1863 і 13.12.1863 падавала віцебскаму губернатару. На маёнтак накладзены секвестр 11.09.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—8; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 51, 405; 3046—2—3—3адв.-4; 3046—2—5—4).*

606. **Белiковіч (Беліновіч, Білюковіч) Вінцэнт** (Беликович (Белинович, Билюкович) Викентий), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск, дзе зняволены ў гарадской турме паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 15.10.1863. Аддадзены пад ПВС. Яго маёнтак Біскупка Ігуменскага пав. секвестраваны і 15.09.1863 прыняты ў кіраванне ПДМ *(295—1—1643—7; 296—1—89—38адв.-39; 296—1—90—7адв.-8; 1418—3—1—6адв.-7).*

607. **Белiковіч Казімір** (Беликович Казимир), сын Людвіка, брат *Уладзіслава* і *Яна*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткамі Кякецы і Новы Дзял Свянцянскага пав. (агулам 578 дзес. зямлі). Паводле даносу *Жагялоўскага Уладзіслава* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

608. **Белiковіч Людвік** (Беликович Людвиг), сын Яна, памешчык. Нар. каля 1810 г. У 1857 г. валодаў маёнткам Экімань Полацкага пав. Да паўстання жыў у г. Віцебску. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. З 26.08.1863 знаходзіўся пад следствам. Паводле патрабавання АСК, 26.02.1864 у яго кватэры праведзены вобшук, падчас якога знойдзена «падазроная перапіска». 04.03.1864 пад вартай шарагоўца Емяльяна Ермалаева дастаўлены ў г. Оршу. Потым пераведзены ў г. Магілёў, апынуўся пад следствам у МагСК, якая 26.03.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. У далейшым прысуджаны да высылкі з радзімы, але пакінуты ў Віцебскай губ. з прычыны хваробы. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—31602—131-140; 2532—1—15—10; 3255—1—14—1; 3257—1—14—2адв.-3; 3257—2—2—3адв.; 3257—2—8—2; 3432—1—13—2а-4).*

609. **Белiковіч Уладзіслаў** (Беликович Владислав), сын Людвіка, брат *Казіміра* і *Яна*, дваранін. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Свянцянах, яго бацька валодаў маёнткамі Кякецы і Новы Дзял Свянцянскага пав. (агулам 578 дзес. зямлі). Паводле даносу *Жагялоўскага Уладзіслава* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1416—6—274; 1430—1—52163—616).*

610. **Белiковіч Францішак** (Беликович Франц), сын Францішка Антоніевіча і Тарэзы Ан-

тоніеўны Мігановіч, брат *Антонія*, памешчык, каталік. Нар. каля 1834 г. Да паўстання валодаў маёнткам Якаўкі Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што «быў абраны дэлегатам для пасылкі па атрыманне распараджэнняў Рэвалюцыйнага камітэта ў г. Вільні», арыштаваны (да 29.05.1863). На Якаўкі 22.07.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 22.06.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Памёр да 01.10.1864. Яго цела перавезена з г. Віцебска ў Полацкі пав. Маці 01.11.1864 падавала прашэнне аб выдзяленні ёй сёмай часткі маёнтка *(1416—3—21048—8; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31370—13, 33; 1430—1—52163—15адв.; 404, 429адв., 444адв., 446адв., 570, 655-660; 3046—2—3—3адв.-4; 3046—2—5—4).*

611. **Беліковіч Цыпрыян** (Беликович Киприан), ксёндз. Да паўстання жыў у м. Усялюб Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да ссылкі «адміністрацыйным парадкам» на сталае жыхарства ў Пермскую губ. пад нагляд паліцыі; яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—57, 108; 162—1—122—11, 21; 320—1—398—679; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796).*

612. **Беліковіч Ян** (Беликович Иван), сын Людвіка, брат *Казіміра* і *Уладзіслава*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткамі Кякецы і Новы Дзял Свянцянскага пав. (агулам 578 дзес. зямлі). Паводле даносу *Жагялоўскага Уладзіслава* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

**Беліновіч Вінцэнт** — гл. **Беліковіч Вінцэнт**

613. **Беліновіч (Бяліна-Беліновіч) Казімір** (Белинович (Белино-Белинович) Казимир), дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у г. Кіеве. За тое, што быў адвакатам па палітычных справах, канфірмацыяй А. Безака ад 10.03.1866 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(160—2—683—11).*

614. **Бельв Антоні** (Бельв Антон), незацверджаны дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Тобольскую губ. *(319—1—479—5; 320—1—398—224адв.).*

**Бельдзюкевіч Францішак** — гл. **Більдзюкевіч Францішак**

615. **Бельскі Аляксандр** (Бельский Александр), сын Мікалая, памешчык альбо дзяржаўны селянін Аршанскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 22.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—10; 3255—1—14—1).*

616. **Бельскі Каятан** (Бельский Каэтан), селянін. Нар. каля 1825 г. Да паўстання прыпісаны да с. Баяршчына Сенненскага (Аршанскага?) пав., разам з іншымі суспадчыннікамі 1 валокай у Баяршчыне і 20 дзес. зямлі ва ўроч. Кляпухі Сенненскага (Аршанскага?) пав. 22.04.1863 затрыманы разам з *Астаневічам Антоніем*, які вёз зброю, таму западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Пасля падазрэння не пацвердзілася, таму выпушчаны на парукі. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. Яе пастановай ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы. Яго зямля была секвестравана, з 1867 г. падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15-22адв.; 2514—1—2198—66).*

617. **Бельскі Серафім** (Бельский Серафим), аднадворац Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада кіеўскага генерал-губернатара ад 25.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 01.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

618. **Бендарэўскі Цэзар** (Бендаржевский Цезарий), сын Яна, дваранін Ліпавецкага пав. Кіеўскай губ. ці Валагодскай губ. Да паўстання служыў ляснічым Вяцкай губ., паручнік. Падчас паўстання належаў да складу падпольнай арганізацыі ў г. СПб, схаваўся ад рас. уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(320—1—398—783-785).*

619. **Беніслаўскі Браніслаў** (Бениславский Бронислав), дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, надворны радца. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—4адв.).*

620. **Беніслаўскі Зыгмунт** (Бениславский Сигизмунд), сын памешчыка, каталік. 14.04.1863 адправіў са свайго маёнтка ў паўстанцкі атрад *Куль-*

*чыцкага Баляслава* паходную кузню, 15.04.1863 — харчаванне. Падводы былі затрыманыя сялянамі, ён сам схоплены, але ўцёк і хаваўся ад уладаў больш за 4 месяцы. Потым арыштаваны. На маёнтак Стружа Люцынскага пав., які належаў яму ці яго бацьку, накладзены секвестр паводле ўказа ВГП ад 15.01.1864. Як «цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах» пастановай ЧПА ад 27.06.1864 прысуджаны да ссылкі ў Арэнбургскую губ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 07.08.1864 месца ссылкі заменена на Пермскую губ. *(1416—3—21048—8адв., 9; 1416—4—11416—85адв.; 1430—1—32928—6-14; 1430—1—52163—540адв., 568; 3046—2—5—5).*

621. **Беніслаўскі Людвік** (Бениславский Людвиг), сын Юзафа, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам у Рэжыцкім пав. Западозраны ў «нядобранадзейным намаўленні сялянаў», трапіў пад следства. ВГП выдала пастанову аб секвестры яго маёмасці. Яго справа 02.03.1864 пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Канфірмацыяй М. Мураўёва прызначаны (каля 24.06.1864) да часовай ссылкі ў Пермскую губ. Паводле пастановы ВГП ад 11.09.1864 секвестр з маёмасці здымаўся са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору *(1416—3—21048—9адв.; 1430—1—52163—260, 633).*

622. **Бенкляеўскі N.** (Бенклеевский N.). Да паўстання служыў перакладчыкам Мінскай грамадзянскай палаты, тытулярны радца. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195адв.).*

623. **Бенуа Эдуард** (Бенуа Эдуард), французскі падданы. У Рас. імперыі займаўся землямерствам. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Аддадзены пад суд у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(320—1—398—223адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—2).*

624. **Бенюшэвіч Антоні** (Бенюшевич Антон), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—5; 1416—4—11416—115; 1430—1—52163—205).*

625. **Беняш Юзаф** (Беняш Иосиф), сын Юзафа, селянін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12).*

626. **Беразінскі Мікалай** (Березинский Николай), сын бухгалтара Юрбургскай мытні губернскага сакратара Эдварда Казіміравіча (Яўграфа Платонавіча) і Ганны Багумілаўны, брат Алены, Аляксандра, Ганны, Канстанціна, Платона, Якава і Яўграфа, дваранін Ковенскай губ., праваслаўны. Нар. 09.05.1839, хр. 30.08.1839 у Юрбургскай царкве. Вучыўся ў гімназіі ў г. Коўна, якую скончыў у 1859 г. з правам на чын чыноўніка 14 класа. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Арыштаваны, аддадзены пад суд у МагВСК. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.; 3257—1—53—2; 3257—2—2—2; 3286—2—1—4адв., 25-28).*

**Беразневіч Адам** — гл. **Берасневіч Адам**

**Беразневіч Ян** — гл. **Берасневіч Ян**

627. **Беразоўскі Густаў** (Березовский Густав), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—15; 319—1—479—4; 320—1—398—221адв.).*

628. **Беразоўскі Матэвуш** (Березовский Матеуш), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у в. Кармелішкі Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101; 319—1—479—4; 1430—1—52163—154).*

629. **Берасневіч Агапіт** (Бересневич Агапит). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў у Цельшаўскім павятовым казначэйстве. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9).*

630. **Берасневіч (Беразневіч) Адам-Казімір** (Бересневич (Березневич) Адам-Казимир), сын Рыгора, дваранін Слуцкага пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Дзераўная Ашмянскага пав., які арандаваў *Дыбоўскі Уладзіслаў*. Падчас паўстання пастаўляў харчаванне паўстанцам, за што арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы

ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ПВА пры Віленскім ардананс-гаўзе, канфірмаванай 05.12.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. МГП 17.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33, 166; 295—1—1555; 295—1—1643—15адв.; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—146-152, 222; 320—2—98—30адв.; 1416—6—280).*

631. **Берасневіч (Беразневіч) Ян** (Бересневич (Березневич) Иван), мешчанін Ігуменскага пав. ці г. Мінска, каталік. Абвінавачаны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 21.07.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 06.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 2 гады ў Кастрамскую ці Калужскую арыштанцкую роту *(162—1—116—52, 166; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—229; 1418—3—1—8адв.-9).*

632. **Берасневіч Яўген** (Бересневич Евгений), сын Рафала ці Казіміра, брат Уладзіслава, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку, служыў пісарам у Навагрудскім павятовым казначэйстве. 06.02.1863 прадаў Вінцэнту Тараевічу фальв. Прылукі Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* 07.04.1863 у час бою захоплены ў палон ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. На маёнтак Берасневічы Навагрудскага пав., які належаў яго брату, 12.11.1863 накладзена забарона. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага прысуджаны (да 22.05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Секвестравана яго рухомасць на 3,03 руб. *(162—1—116—112адв.; 295—1—1562—16; 295—1—1643—20; 296—1—296—3-3адв.; 299—1—577—547-549; 299—1—579—298-307; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—2адв., 452адв.; 1430—1—52163—206).*

633. **Берастоўскі Ігнат** (Бержостовский Игнатий), памешчык Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Енісейскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—9адв.).*

634. **Бергель Войцех** (Бергель Войтех), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Пацкі Ваўкавыскага пав. Западозраны рас. уладамі ў тым, што пакінуў маёнтак і далучыўся да паўстанцкага атрада, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 07.09.1863 і пастановы ГГП ад 25.09.1863 падлягала секвестру *(1416—6—298).*

635. **Бердановіч Станіслаў** (Берданович Станислав). Нар. у Віцебскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. як «палітычны злачынца» знаходзіўся ў Томскай губ. *(1430—1—35834—101).*

636. **Беркман Міхал** (Беркман Михаил), муж *Юліі.* Служыў на грамадзянскай службе, надворны радца. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы разам з жонкай высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562).*

637. **Беркман Юзаф** (Беркман Иосиф), дваранін Ашмянскага пав. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—102; 319—1—479—4; 1527—1—4—12).*

638. **Беркман Юлія** (Беркман Юлия), жонка *Міхала.* За дачыненне да паўстання пасля разгляду яе следчай справы разам з мужам выслана (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562).*

639. **Бернатовіч Эдвард** (Бернатович Эдуард), памешчык Цельшаўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—5).*

640. **Бескінд Залман** (Бескинд Залман), яўрэй. Арыштаваны за садзейнічанне паўстанцам, у 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Рашэннем ЧПА, канфірмаваным А. Патапавым 30.11.1864, прызнаны вінаватым у агітацыі сялянаў далучыцца да паўстанцаў і прысуджаны да ссылкі на 3 гады ў Калужскую арыштанцкую роту *(160—2—682—25; 162—1—122—3; 295—1—1643—9; 534—1—14—9).*

641. **Бесякерскі Юзаф** (Бесекерский Иосиф), дваранін Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—4адв.).*

642. **Бет Міхал** (Бетт Михаил), сваяк *Тамаша.* Да паўстання служыў лесніком Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да

01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—5).*

643. **Бет Тамаш** (Бетт Фома), сваяк *Міхала.* Да паўстання служыў лесніком Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту *(296—1—25—103; 319—1—479—5).*

**Бёч Самуіл** — гл. **Бюч Самуіл**

**Білевіч Антоні** — гл. **Бялевіч Антоні**

**Білевіч Базыль** — гл. **Бялевіч Базыль**

644. **Білевіч Леанард** (Биллевич Леонард), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Рэмбна Ковенскага пав., які знаходзіўся ў арэндзе ў N. Пілсудскага. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598).*

645. **Білевіч Францішак** (Билевич Франц), дваранін. Да паўстання валодаў домам у г. Расіенах, служыў расіенскім павятовым суддзёй, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15).*

646. **Білунскі Эдвард** (Билунский Эдуард), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—5; 1430—1—52163—530адв.).*

**Білюковіч Вінцэнт** — **Беліковіч Вінцэнт**

647. **Більдзюкевіч (Бельдзюкевіч) Францішак** (Бильдзюкевич (Бельдзюкевич) Франц), сын Антонія Ваўрынцавіча, дваранін Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у АСК, якая 04.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ПВА, канфірмаванай 23.08.1864 А. Патапавым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 17.09.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 04.09.1864 *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—613-617; 320—2—98—31; 1416—3—21048—8; 1416—4—11416—71-73, 127; 1430—1—52163—314-315, 319-320, 409, 535; 3257—2—2—3адв.).*

**Біркле Юзаф** — гл. **Бэркле Юзаф**

648. **Біруль (Біруля) Антаніна** (Бирюль (Бируля) Антонина), жонка *Барталамея*, дваранка Мінскага пав. За дачыненне да паўстання арыштавана. У 1863 г. аддадзена пад ПВС. Прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі ў Аланецкую губ. пад нагляд паліцыі. На яе маёмасць накладаўся секвестр (указы МГП ад 15.07.1864 і 31.07.1864 на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 09.07.1864 і ўказ МГП ад 18.08.1864) *(162—1—116—124, 134, 166; 295—1—1643—13, 17; 299—1—579—1230-1231; 320—1—398—528; 1430—1—52163—238).*

649. **Біруль (Біруля) Барталамей** (Бирюль (Бируля) Варфоломей), сын Міхала, муж *Антаніны*, дваранін Мінскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі ў Аланецкую губ. пад нагляд паліцыі. На яго маёмасць накладаўся секвестр (указы МГП ад 15.07.1864 і 31.07.1864 на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 09.07.1864 і ўказ МГП ад 18.08.1864). Сасланы. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(162—1—116—124, 134, 166; 295—1—1643—13, 17; 299—1—579—1230-1231; 320—1—398—528; 1430—1—52163—238; 2532—1—15—13).*

650. **Біршарт Антоні** (Биршерт Антон), селянін Лепельскага пав. Падчас паўстання знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*, да 01.05.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. На следстве даказваў, што забраны ў атрад гвалтоўна. Падчас следства знаходзіўся на волі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвалення ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасяленні на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560).*

651. **Біршарт Пётр** (Биршерт Петр), сын Аляксандра, дваранін Горацкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Спачатку ўтрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 09.1863 пераведзены ў г. Дынабург, 13.09.1863 у ДСК перададзена яго следчая справа. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Магчыма, да паўстання валодаў зямлёй у в. Дарашы Аршанскага пав., якая пасля паўстання была канфіскаваная *(319—1—479—6; 1430—1—52163—168; 2001—3—23—3; 2601—1—2—238; 3046—2—3—6адв.-7; 3046—2—5—4, 4адв.).*

652. **Біспінг Аляксандр** (Биспинг Александр), памешчык Гродзенскага і Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12; 2532—1—15—7, 7адв.)*.

653. **Бітны-Шляхта Вільгельм** (Битный-Шляхто Вильгельм), дваранін Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—6; 1430—1—52163—526; 3255—1—14—1; 3257—2—2—40)*.

654. **Бітны-Шляхта Габрыэль** (Битный Шляхто Гавриил), сын Адама, дваранін Віцебскага пав., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам у Віцебскай казённай палаце, калежскі сакратар. Яго бацька валодаў фальв. Красыні Віцебскага пав. 23.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада *Будзіловіча Ігната*, які потым быў разбіты ля м. Пагосцішча Аршанскага пав. 29.04.1863 вярнуўся ў Віцебск і даслаў на месца службы ліст, у якім сцвярджаў, што хварэў. 12.05.1863 арыштаваны і зняволены ў віцебскім турэмным замку. 13.05.1863 звольнены са службы. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 і ўказа ВГП ад 23.08.1863 на яго маёмасць 31.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 21.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. На маёнтак бацькі 18.11.1863 накладзена забарона *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—575адв.; 1416—3—21048—8адв.; 1430—1—31259—6, 39; 1430—1—52163—242адв., 425, 722адв.; 2003—1—433—1; 2616—1—40—60; 3046—2—3—5адв.—6; 3046—2—5—4)*.

**Біуч Самуіл** — гл. **Бюч Самуіл**

655. **Бішаў (Бішаф, Бішарт, Бышаў) Карл** (Бишов (Бишев, Бишоф, Бишерт, Бышев) Карл), сын Эдварда, прускі падданы. Нар. каля 1842 г. Да паўстання жыў у г. Мінску. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля разбіцця якога схоплены альбо добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Знаходзіўся пад следствам у Барысаўскай следчай камісіі. Яго справа 10.11.1863 перададзена ваенным начальнікам Барысаўскага пав. ЧВГМГ В. Забалоцкаму, які 02.12.1863 адаслаў яе М. Мураўёву. Той 24.12.1863 выдаў распараджэнне аб высылцы яго віленскаму губернатару. 12.1863 пераведзены з г. Мінска ў г. Вільню, 05.01.1864 прыбыў у канцылярыю віленскага паліцмайстра. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. *(295—1—1527—101; 295—1—1622; 296—1—51; 2003—1—310; 2514—1—2198—66адв.)*.

656. **Бішэўскі Уладзіслаў** (Бишевский Владислав), сын Феліцыі, памешчык. За дачыненне да паўстання яго зямельная маёмасць у Чавускім пав. падлегла абавязковаму продажу *(2003—1—489—37адв.-38)*.

657. **Блавачынскі Людвік** (Блавочинский Людвиг), сын Войцеха, аднадворац Слуцкага пав., каталік. Да паўстання служыў валасным пісарам. Западозраны ў распаўсюджванні сярод сялянаў антыўрадавых настрояў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—8адв.; 1524—1—1—1адв.)*.

658. **Блавачынскі Міхал** (Блавочинский Михаил), сын Станіслава, дваранін Слуцкага пав. Нар. каля 1830 г. Да паўстання жыў у маёнтку Нача Слуцкага пав. Уваходзіў у склад атрада *Машэўскага Уладзіслава*, які дзейнічаў у Слуцкім пав. 20.04.1863 паранены ў паясніцу ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. і ўзяты ў палон са зброяй у руках. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. У хуткім часе памёр ад ран *(295—1—1537—7—12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—326—327адв.; 1525—1—2—4адв.—5)*.

659. **Блажаеўскі Аляксандр** (Блажеевский Александр). Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.)*.

660. **Блажаеўскі (Блажэўскі) Рышард** (Блажеевский (Блажевский) Ричард), дваранін Гродзенскай губ. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—5; 1430—1—52163—181адв.; 3257—2—2—3; 3366—1—5—13адв.)*.

661. **Блажыевіч Міхал** (Блажиевич Михаил), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду па-

ліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

662. **Блажыевіч Ян** (Блажиевич Иван), дваранін Ловіцкага пав. Варшаўскай губ., каталік. Нар. каля 1793 г. Каля 1823 г. перасяліўся ў Віцебскую губ. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Арловічы Себежскага пав., які належаў маці *Медунецкага Казіміра.* 16.04.1863 выконваў распараджэнні *М. К.*, у тым ліку пастаўляў харчаванне атраду, у якім той знаходзіўся. Не данёс пра гэта рас. уладам, таму западозраны ва ўдзеле ў паўстанні. Распараджэннем М. Мураўёва ад 27.06.1864 за «нядобранадзейнасць» прызначаны да высылкі на радзіму ў Каралеўства Польскае *(1430—1—31750).*

663. **Блажэвіч Караль** (Блажевич Кароль), шляхціц Ашмянскага пав. Да паўстання жыў у фальв. Гарленшчына (Харлаўшчына?) Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—4; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

664. **Блажэвіч Караль** (Блажевич Карл), муж *Мальвіны*, дваранін Мінскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Казанскую губ. Указам МГП ад 06.07.1864 на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166; 299—1—579—341-345; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.).*

665. **Блажэвіч Мальвіна** (Блажевич Мальвина), жонка *Караля*, дваранка Мінскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Казанскую губ. Указам МГП ад 06.07.1864 на яе маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166; 299—1—579—341-345; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.).*

666. **Блажэвіч Міхал** (Блажевич Михаил), сын Яна, бацька *Яна* (?), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Ганчароўка Суражскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 29.05.1863). Знаходзіўся пад следствам у ВСК. Яго справа 14.10.1863 перададзена М. Мураўёву. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў г. Пермь. На Ганчароўку 22.06.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 31.05.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 быў яшчэ не зняты. Прыбыў у Пермь каля 31.03.1864. Пасля атрымання частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву і запісаны ў склад сталых яе жыхароў. 24.08.1874 вызвалены ад нагляду паліцыі. У 1875 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(296—1—25—110; 1416—3—21048—8, 9адв.; 1430—1—31370—28-29, 81; 1430—1—31750—8; 1430—1—35810—20-24; 1430—1—35834—65; 1430—1—52163—15, 147, 426, 431, 439, 571адв., 617, 826).*

667. **Блажэвіч Ян** (Блажевич Иван), сын *Міхала* (?), дваранін Суражскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі мяшчанаў і сялянаў далучыцца да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны. 01.08.1863 яго справа перададзена віцебскаму губернатару *(3046—2—3—3адв.-4; 3046—2—5—4).*

668. **Блажэўскі Андрэй** (Блажевский Андрей), дваранін Гродзенскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.).*

**Блажэўскі Рышард** — гл. **Блажаеўскі Рышард**

669. **Блашкевіч Казімір** (Блашкевич Казимир), мешчанін. Да паўстання жыў у г. Кіеве. Пастановай ваеннага суда прызнаны вінаватым ва ўдзеле ў паўстанні *(320—1—398—353).*

**Блоцкі-Снежка Францішак** — гл. **Снежка-Блоцкі Францішак**

670. **Блудны Вільгельм** (Блудный Вильгельм), дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.).*

671. **Бобрык (Бобрын) Уладзімір (Уладзіслаў)** (Бобрик (Бобрин) Владимир (Владислав)), сваяк *Брастоўскіх Уладзіслава* і *Юзафа*, дваранін Аршанскага пав. Нар. каля 1842 г. Да паўстання жыў у Аршанскім пав. і займаўся сельскай гаспадаркай. 24.04.1863 арыштаваны разам з *Тарасевічам Юзафам* у доме памешчыка Аршанскага пав. Ежы Брастоўскага, у якога знаходзіўся ў гасцях, паводле абвінавачання ў тым, што займаўся стральбою з яго сынамі і пагражаў смерцю сялянам. Яго маёмасць падлягала секвестру. На следстве даказаў, што апынуўся на месцы арышту выпадкова. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы. Маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15—22адв.; 2514—1—2198—66адв.).*

672. **Богуш Аўгустын** (Богуш Августин), сын Тэадора, ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла м. Ахова Пінскага пав. Прысудам ЧВА, зацверджаным у 1865 г. намеснікам камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі, за супрацьдзе-

янне перахрышчанню сялянаў Пінскага пав. з каталіцтва ў праваслаўе і хрышчэнне немаўлятаў праваслаўных бацькоў паводле каталіцкага абраду, прызначаны да высылкі ў Табольскую губ. з адбываннем там 4-месячнага турэмнага зняволення і далейшым жыхарствам. Ахоўскі касцёл (філіяльны, прыпісны да Пінскага касцёла) 06.10.1864 зачынены *(295—1—1643—6адв.; 1781—27—481; 1781—32—144—27)*.

673. **Богуш Тамаш** (Богуш Фома), сын Яна, памешчык. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 16.03.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—2)*.

674. **Богуш Ян (**Богуш Иван), дваранін Ковенскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—5; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375)*.

675. **Богуш Ян (**Богуш Иван), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8адв.)*.

676. **Бойка Іаахім** (Бойко Иоаким). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ў службе ў паўстанцаў праваднікам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

677. **Боландзь Баляслаў** (Болондзь Болеслав), дваранін Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 17.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Меў дачыненне да справы *Аніхімоўскага Адольфа*. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102; 319—1—479—4адв.; 3255—1—14—1, 4)*.

678. **Бонч-Асмалоўскі Даніэль** (Бонч-Осмоловский Даниил), дваранін Магілёўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 26.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Гардзялкоўскага Рудольфа*. Прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—558; 2514—1—2198—69; 3257—2—2—26; 3366—1—5—8адв.)*.

679. **Борк (Борх) Аляксандр** (Борк (Борх) Александр), сын Ігната, брат Мікалая, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. Да паўстання разам з братам валодаў фальв. Рамшына з в. Забалацце Магілёўскага пав. (600 дзес. зямлі, дом, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 300 руб. гадавога прыбытку). За дачыненне да паўстання аддадзены пад суд у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 11.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці «вінаватага» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу, МагСК 23.05.1863 вярнула справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Яго маёмасць апісана і секвестравана (да 30.07.1863). Прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Высланы ў Арэнбургскую губ., а яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 потым падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—151; 2003—2—19—18адв.-19адв.; 2532—1—15—9; 3257—1—6—3; 3257—2—2—2)*.

680. **Боўтуць Алаізі** (Болтуць Алоизий), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102; 319—1—479—4)*.

681. **Боўфал Юльян** (Боуфал Юлиан), памешчык Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі К. фон Каўфмана ад 05.09.1866 высланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1812—6адв.; 1430—1—32897—37адв.—40; 2532—1—15—8)*.

682. **Бохвіц Люцыян** (Бохвиц Люциан), памешчык Навагрудскага пав. Падчас паўстання меў сувязі з паўстанцамі, за што арыштаваны. Памёр падчас следства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 яго маёмасць прысуджалася да канфіскацыі *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—679)*.

683. **Бохвіц Оттан** (Бохвиц Оттон), сын Фларыяна[53], брат *Рамана* і *Рамуальда*, памешчык Навагрудскага пав. Служыў у войску, да паўстання

---

[53] У некаторых дакументах імя яго бацькі памылкова падаецца як «Валяр'ян». Пра сваяцкія сувязі паміж братамі Бохвіцамі (Оттан, Раман, Рамуальд) і іх біяграфічныя звесткі гл.: Рыбчонак С. Бохвіцы герба «Радван» // Гербоўнік беларускай шляхты. — Т. 2 / С. Рыбчонак [і інш.]. — Мінск: НАРБ, 2007. — С. 324–326.

выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да «вытрымання ў крэпасцях і турмах» без канфіскацыі маёмасці. Яго маёнткі Вошкаўцы і Бельчыцы Навагрудскага пав., якімі ён валодаў на правах суспадчынніка з братамі, часова секвестраваны (восень 1863 — снежань 1864 г.) *(162—1—122—11; 296—1—89—14; 299—1—577—550-554; 320—1—398—679).*

684. **Бохвіц Раман** (Бохвиц Роман), сын Фларыяна, брат *Оттана* і *Рамуальда*, памешчык Навагрудскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Маёнткі Вошкаўцы (ацэнены ў 19980 руб. ср.) і Бельчыцы (каля 10000 руб. ср.) Навагрудскага пав., якімі ён валодаў на правах суспадчынніка з братамі, секвестраваны: першы — 17.09.1863, другі — 20.10.1863. Напрыканцы 1863 г. вызвалены са зняццем з маёмасці секвестру *(295—1—1643—10адв.; 296—1—25—113; 296—1—89—11адв.; 320—2—99—47адв.—48).*

685. **Бохвіц Рамуальд** (Бохвиц Ромуальд), сын Фларыяна, брат *Оттана* і *Рамана*, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні шляхам адсылкі ў паўстанцкі атрад Савіцкага N.[54], арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам ССК і ўтрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Напрыканцы 1863 г. вызвалены. Секвестр з яго маёмасці меркавалася зняць 09.1864 *(295—1—1643—17адв.; 296—1—25—132; 1524—1—1—2адв.).*

686. **Брадовіч Мікалай** (Бродович Николай), сын Мацільды Дыянізіеўны, брат *Платона*, дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у с. Агіеўка Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Паводле канфірмацыі генерал-губернатара кіеўскага, падольскага і валынскага (М. Анненкава ?), пазбаўлены правоў стану і сасланы на катаргу ў Сібір. Пасля частковай амністыі пераведзены на пасяленне. Яго маці ў 1871 г. падала прашэнне аб дазволе яму на пераезд у Еўрапейскую Расію, але яно не было задаволена *(162—1—116—177; 295—1—2213—36-39, 54).*

687. **Брадовіч Платон** (Бродович Платон), сын Мацільды Дыянізіеўны, брат *Мікалая*, дваранін Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да ссылкі на катаргу ў Сібір. Пасля частковай амністыі пераведзены на пасяленне. Яго маці ў 1871 г. падала прашэнне аб дазволе яму на пераезд у Еўрапейскую Расію, але яно не было задаволена *(295—1—2213—36-39, 54).*

688. **Брадоўскі Зыгмунт** (Бродовский Сигизмунд), дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй у в. Лушчэсінка Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў «прыняцці ў сваім доме начальніка крычаўскіх мяцежнікаў» (*Балбашэўскага Рамуальда* ці *Жукоўскага Яна-Алаізія* ?) і садзейнічанні збору крычаўскага паўстанцкага атрада, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 06.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць секвестравана і потым канфіскавана *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—6; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—3; 2003—1—445—3, 15; 2003—1—489—25; 3257—2—2—2адв.; 3366—1—5—2).*

689. **Брадоўскі Леан** (Бродовский Лев), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў намове сялянаў не затрымліваць паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 06.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—1адв.).*

690. **Брадоўскі Юзаф** (Бродовский Иосиф), дваранін Віленскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка.* Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—66адв.; 3257—1—53—2; 3286—2—1—5адв.).*

691. **Бразінскі Адам** (Бржезинский Адам), сын Фелікса, муж Ганны Дамінікаўны, бацька Ядвігі. Да паўстання служыў навагрудскім павятовым (ці гарадавым) доктарам, надворны радца. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС, паводле пастановы якога звольнены са службы і сасланы з сям'ёй у Пермскую губ. Пазней пераведзены ў Вяцкую губ. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму; 12.1876–03.1882 жыў у Навагрудскім пав., дзе меў сваю практыку *(295—1—1643—19адв.; 295—1—3022—185-186; 295—1—3026—18адв.—19; 295—1—3492—40, 74).*

692. **Бразінскі Адольф** (Бржезинский Адольф), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, быў пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—12).*

693. **Бразінскі Антоні** (Бржезинский Антон), мешчанін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, да

[54] Магчыма, маецца на ўвазе *Савіцкі Мірон.*

01.05.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў; арыштаваны. 07.1863 вызвалены *(296—1—19—280).*

694. **Бразінскі Антоні** (Бржезинский Антон), сын Маісея, ксёндз. Паходзіў з сялян Панявежскага пав. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Новая Мыш Навагрудскага пав. 24.04.1863 пакінуў Новую Мыш. «Пры самым пачатку мяцяжа, прыняўшы ў ім асабісты ўдзел, уступіў у шэрагі мяцежнікаў і, з упартасцю падтрымліваючы ўзброенае паўстанне, знаходзіўся ў шайках да канчатковага знішчэння іх войскамі». З ім таксама былі звязаны *Маеўскі Станіслаў* і *Тупальскі Аляксандр.* Праз Аўстрыйскую імперыю эміграваў у Швейцарыю, пасяліўся ў м. Паспел Граўбіндэнскага кантона, адкуль дасылаў лісты знаёмым ксяндзам на радзіме. Завочным рашэннем ЧПА, канфірмаваным К. фон Каўфманам 16.08.1865, прысуджаны да пазбаўлення сану і ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 12 гадоў на катаргу ў рудніκі *(160—2—682—219; 162—1—116—166; 295—1—1643—16адв.; 295—1—1771; 296—1—99—5адв.; 320—1—398—736-739; 534—1—14—8, 83; 1527—1—4—5).*

695. **Бразінскі Антоні** (Бржезинский Антон). Паходзіў з Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

696. **Бразінскі Ігнат** (Бржезинский Игнатий), дваранін Віленскага пав. Да паўстання жыў у в. Шанякі Віленскага пав., якая належала яму разам з маці. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—7адв., 14адв.; 319—1—479—4; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

697. **Бразінскі Мечыслаў-Юльян** (Бржезинский Мечислав-Юлиян), сын Цыпрыяна-Тамаша Юзафавіча і Марыі Кашчыц, брат Юзафа-Філіпа, Адольфа, Яна, Стэфан-Яна і Саламеі, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Нар. 11.04.1843 у м. Ціхінічы Рагачоўскага пав., хр. 18.04.1843 у Азяранскім касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Арыштаваны, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2616—1—40—14адв.; 3257—1—53—2; 3257—2—2—2; 3286—2—1—4адв., 64-72).*

698. **Бразінскі Францішак** (Бразинский Франц), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва «ўдзеле ў палітычных непарадках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.07.1863 адпраўлены ў г. Мінск *(1418—3—1—7адв.-8).*

699. **Бразіцкі Антоні** (Бржезицкий Антон). Да паўстання служыў чыноўнікам Мінскага камітэта па земскіх павіннасцях. За дачыненне да паўстання арыштаваны і прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго рухомая маёмасць у 13,72 руб. канфіскавана *(162—1—116—33; 162—1—122—37; 295—1—1643—16адв., 22адв.; 319—1—479—5адв.).*

700. **Бразіцкі Антоні** (Бржезицкий Антон), сын Цыпрыяна, дваранін Мінскага пав. Да паўстання працаваў кіраўніком спраў Камісіі народнага харчавання Мінскай губ. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(299—1—577—338-339адв.; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462, 488-490; 320—2—98—31; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375).*

701. **Бразоўскі Адольф** (Бржозовский Адольф), сын Афанасія, купец. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.06.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Праз г. Смаленск і г. Маскву 05.1864 высланы ў Казанскую губ., а сродкі на яго высылку, у тым ліку 27,87 руб. на перасылку з Масквы ў г. Казань, спагнаны з *Макавецкага Стэфана.* Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—429; 2514—1—2198—66адв.; 3257—2—2—3; 3366—1—5—13адв.).*

702. **Бразоўскі Ксаверы** (Бржозовский Ксаверий), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Астраполле Аршанскага пав. (757 дзес. зямлі, 65 рэвізскіх душ, дом на 11 пакояў, гаспадарчыя пабудовы, лазня, вятрак і інш., 8124 руб. доўгу). Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Будзіловіча Ігната*, узяты ў палон. Таксама падазраваўся рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся

пад следствам у АСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў. Яго маёмасць канфіскавана *(319—1—479—6; 1430—1—31353—14адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2001—2—171—22адв.—23адв., 39; 3255—1—12—1—1адв.)*.

703. **Бразоўскі Павел** (Бржезовский Павел), сын Фартуната, дваранін. Нар. каля 1820 г. За дачыненне да паўстання з 10.07.1863 знаходзіўся пад следствам у АСК, паводле распараджэння якой зняволены ў турме г. Оршы, і потым МагСК, якая 25.04.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—1; 3257—1—14—1а адв.-2; 3257—2—8—2)*.

704. **Бразоўскі Пётр** (Бржозовский Петр), аўстрыйскі падданы. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—116—166адв.)*.

705. **Бразоўскі Тамаш** (Бржозовский Фома), сын маёра (пам. да 1863), дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання жыў у графіні Лапацінскай; яго маці валодала маёнткам Васілішкі Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—128адв.; 1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—603адв.)*.

706. **Бразоўскі Фелікс** (Бржозовский Феликс), дваранін Падольскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—66адв.)*.

707. **Бразоўскі Францішак** (Бржозовский Франц), сын Ігната, муж Зоф'і Казіміраўны, бацька шасці дзяцей, памешчык. З'яўляўся кандыдатам міравога пасрэдніка, калежскі асэсар. Валодаў маёнткам Дубраўка Аршанскага пав., яго жонка — маёнткам Сухадорава (Сухадораўка) Аршанскага пав. Да паўстання ў яго знаходзіўся на службе *Астаневіч Антоні*. Западозраны ў дачыненні да паўстання, а таксама ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 11.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Пад судом знаходзіўся ў МагВСК. Прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і 10.1864 высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. У 1865 г. жыў у г. Чардын Пермскай губ. Жонка 08.07.1865 падала прашэнне аб зняцці секвестру з Дубраўкі, якое было адхілена. З 1867 г. маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(162—1—122—21; 1416—4—11416—314; 1430—1—31353—14адв.; 1430—1—31602—182-183а; 1430—1—31588—15-22адв.; 1430—1—52163—796; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—10; 3255—1—12—1-1адв.; 3255—1—14—1; 3257—2—2—3адв.)*.

708. **Бразоўскі Францішак** (Бржозовский Франц), сын Францішка, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

709. **Бразоўскі Юзаф** (Бржозовский Иосиф). Да паўстання служыў аршанскім павятовым суддзёй. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і прыналежнасці да патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Гжацк Смаленскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2514—1—2198—66адв.; 3255—1—12—1—1адв.)*.

710. **Бразоўскі N.** (Бржозовский N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гурнофель Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 15.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—256)*.

**Бракавіцкі Ян** — гл. **Бранавіцкі Ян**

711. **Бракусевіч Фядот** (Бракусевич Федот), мешчанін Аршанскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.)*.

712. **Брамірскі Герард** (Бромирский Герард), дваранін Валынскай губ. Нар. каля 1804 г. Удзельнічаў у паўстанні, пасля ўцёк за мяжу. У 1875 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі асуджаны завочна на пазбаўленне правоў стану і вечнае выгнанне, у выпадку самавольнага вяртання падлягаў ссылцы на пасяленне ў Сібір *(1430—1—35834—98)*.

713. **Бранавіцкі Юзаф** (Броновицкий Иосиф), сын Юрыя, селянін. Да паўстання прыпісаны да Драгабыльскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—31)*.

714. **Бранавіцкі (Бракавіцкі) Ян** (Браковицкий (Браковицкий) Иван), сын Якуба, аднадворац 2-й Гушчынскай сельскай грамады Ігуменскага пав. Да паўстання служыў пісарам у фальв. Высокае Магілёўскага пав. памешчыка Ануфрыя Венцлавовіча (гл. *Венцлавовіч Ануфры*, *Каспяровіч Станіслаў*). Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 31.05.1863); яго рухомая маёмасць (адзенне, побытавыя рэчы, жывёла і да т. п.) у фальв. Высокае на суму 30,97 руб. 19.06.1863 апісана і секвестравана. У 1867 г. яна падлегла вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—216; 2003—1—228; 2003—2—19—16-16адв.; 2514—1—2198—66адв.)*.

**Брандэс Вільгельм** — гл. **Вышынскі Казімір**

715. **Брандт Баляслаў** (Брандт Болеслав), сын Казіміра, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Адпраўлены ў г. Мінск і аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» (Томскую губ.?) *(162—1—116—130; 320—1—398—514; 320—2—98—31; 1418—3—1—6адв.-7, 10адв.-11; 1430—1—52163—526адв.)*.

716. **Брандт Станіслаў** (Брандт Станислав), дваранін Ваўкавыскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Зельзін Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—5; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

**Брант Вільгельм** — гл. **Вышынскі Казімір**

717. **Брастоўскі Вінцэнт** (Бржостовский Викентий), дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Камень Шляхецкі Кобрынскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—5; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601)*.

718. **Брастоўскі Ігнат** (Бржостовский Игнатий), сын Юзафа (ці Яна?), брат Валяр'яна (калежскага сакратара), памешчык. Нар. каля 1825 г. Разам з братам атрымаў у спадчыну маёнтак Міхалполле Сенненскага пав., сваю частку якога ў 1858 г. прадаў брату за 2000 руб. ср. Да паўстання служыў старшынёй Магілёўскай палаты крымінальнага суда; надворны радца. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад следствам у АСК і МагСК, якая 26.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Падчас следствам быў на волі на паруках. Потым прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Енісейскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. Міхалполле брата 03.07.1863 апісана прыставам 2 стана Сенненскага пав. *(1430—1—52163—237адв.; 2003—1—218; 3255—1—14—1; 3257—1—14—1а адв.-2; 3257—2—8—2)*.

719. **Брастоўскі Караль** (Бржостовский Карл), сын Юзафа, дваранін Каралеўства Польскага, каталік. Западозраны ў дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, паводле рашэння якога вызвалены з умовай аддачы яго на парукі *(295—1—1643—20; 1524—1—1—2адв.)*.

720. **Брастоўскі Уладзіслаў** (Бржостовский Владислав), сын памешчыка Аршанскага пав. Ежы, брат *Юзафа*. Нар. каля 1849 г. Напярэдадні паўстання займаўся стральбою з *Тарасевічам Юзафам*. Трапіў пад суд у СмВСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 прызнаны вінаватым у палоханні сялянаў, за што з прычыны непаўнагадовасці прызначаны да вызвалення ад адказнасці з аддачай на парукі; з маёнтка бацькі належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

721. **Брастоўскі Міхал** (Бржостовский Михаил), памешчык. Нар. каля 1829 г. Да паўстання валодаў фальв. Аляксандрава Аршанскага пав. Падчас паўстання абгавораны Ганнай Барнусовіч (гл. *Барнусовіч Фядот*) у намаўленні яе мужа 21.04.1863 «ісці на паляванне», у сувязі з чым западозраны ў сувязях з паўстанцамі і арыштаваны. Пасля абвінавачанні не пацвердзіліся, таму вызвалены з аддачай на парукі. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. Яе пастановай ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

722. **Брастоўскі Юзаф** (Бржостовский Иосиф), сын памешчыка Аршанскага пав. Ежы, брат *Уладзіслава*. Нар. каля 1849 г. Напярэдадні паўстання займаўся стральбою з *Тарасевічам Юзафам*. Трапіў пад суд у СмВСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 прызнаны вінаватым у палоханні сялян, за што з прычыны непаўнагадовасці прызначаны да вызвалення ад адказнасці з аддачай на парукі; з маёнтка бацькі належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

723. **Браткоўскі Францішак** (Братковский Франц), дваранін, прускі падданы. Нар. у Княстве

Пазнанскім. Да паўстання служыў лоўчым у фальв. Альбінава Дзісенскага пав. графіні Плятэр, у яго служыў *Дундэн Маўрыцы*. Падчас паўстання ўваходзіў у склад атрада *Ельскага Яна*, узяты ў палон у Новааляксандраўскім пав. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 18.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 19.09.1864 і 27.03.1865 ВГП выдала пастановы аб пошуку маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі *(295—1—1643—15адв.; 319—1—479—4; 320—1—398—130; 1416—3—21048—9; 1416—4—11416—220-225; 1416—6—281; 1430—1—52163—399а, 605).*

724. **Браўн Тэадор** (Браун Феодор). Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.; 3366—1—5—13адв.).*

725. **Браўн Францішак** (Браун Франц), сын Бярнарда, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, дастаўцы харчавання паўстанцам і неданясенні пра гэта ўладам, арыштаваны. Зняволены ў г. Ігумене, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Потым пераведзены ў г. Мінск, утрымліваўся ў мінскай гарадской турме. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у Мінску *(295—1—1643—6адв.; 296—1—90—10адв.-11; 1418—3—1—9адв.—10).*

726. **Брахоцкі Уладзіслаў** (Брохоцкий Владислав), сын Роха, памешчык Навагрудскага пав. Нар. каля 1816 г. Паходзіў з Віленскай губ. Да паўстання з'яўляўся навагрудскім павятовым маршалкам. За неданясенне ўладам пра паўстанцаў арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да высылкі з радзімы без канфіскацыі маёмасці. Сасланы ў Пермскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Потым пераведзены ў г. Адэсу, дзе атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 12.1876–03.1882 жыў у маёнтку Вераскава Навагрудскага пав., які належаў яго жонцы, і займаўся гаспадаркай *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 295—1—1643—12адв., 16, 19; 295—1—3492—10, 40адв., 74; 320—1—398—679; 2532—1—15—14).*

727. **Бродскі (Броцкі) Генрык** (Бродский (Бротский) Генрих), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска *(319—1—479—3; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

728. **Броніш Караль** (Брониш Карл), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.).*

729. **Бронская Яўгенія** (Бронская Евгения), памешчыца Слонімскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яе маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174—175адв.).*

**Броцкі Генрык** — гл. **Бродскі Генрык**

730. **Бруй Эдвард** (Бруй Эдуард), сын Францішка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго з'явіўся да рас. уладаў. Яго справа 07.12.1863 пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—6адв.—7).*

731. **Брыкнэр Юзаф** (Брикнер Иосиф), сын Яна, муж Антаніны, дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання служыў аканомам у фальв. Дзяніскавічы Рагачоўскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Яго рухомая маёмасць у Дзяніскавічах на суму ў 56 руб. 25.07.1863 секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—5; 320—1—398—224адв.; 1416—4—11416—124, 174—175адв.; 2003—2—65; 3257—2—2—2).*

732. **Брынк Антоні** (Бринк Антон), сын Юзафа, муж Вікторыі Адамаўны, бацька *Міхала*, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў маёнткам Манькава з в. Застружжа Аршанскага пав. (749 дзес. 1990 саж. зямлі, дом, млын, фруктовы сад, 2 карчмы, гаспадарчыя пабудовы і інш., 716 руб. гадавога прыбытку). За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 29.05.1863) і зняволены ў г. Оршы. Паводле ўказа МагГП ад 07.06.1863, Манькава 01.07.1863 апісана, секвестравана і 27.08.1863 перададзена ў кіраванне ПДМ. Гэта пазбавіла жонку сродкаў да жыцця і вымусіла яе падаць прашэнне аб выдачы ёй часткі дахода з маёнтка. Вызвалены з-пад арышту 30.09.1864 паводле распараджэння «памочніка Галоўнага Начальніка краю». Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 26.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. 02.10.1864 падаў прашэнне аб вызваленні маёмасці ад секвестру *(2003—1—361; 2003—2—41; 3255—1—14—1).*

733. **Брынк Ежы** (Бринк Егор), бацька Людвіка, дваранін Свянцянскага пав. У 1839 г. належаў да справы Шымана Канарскага, арыштаваны і сасланы на катаргу ў Сібір, адкуль вярнуўся ў 1858 г. і пасяліўся ў г. Вільні. Да паўстання напісаў ліст да ксяндза, «напоўнены злачынным выяўленнем супрацьупрадавых думак», за што ў 1863 г. арыштаваны. Паводле пастановы следчай камісіі як «прызнаны цалкам нядобранадзейным у палітычных адносінах» «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. У 1870 г. без дазволу выехаў са ссылкі і прыбыў у г. Варшаву, але з дазволу ўладаў пакінуты тут на жыхарства. 04.1874 атрымаў пашпарт на выезд за мяжу, але 11.1874 жыў у с. Крывошын Навагрудскага пав. графа Патоцкага, дзе яго сын служыў аканомам. 16.11.1874 выехаў у Варшаву. 01.05.1875 ізноў прыбыў да сына ў маёнтак графа Патоцкага Заполле Навагрудскага пав., 25.05.1875 выехаў у Вільню, але ўжо 31.05.1875 атрымаў дазвол на пражыванне адзін год у Гродзенскай, Мінскай, Падольскай і Валынскай губ. і 07.1875 вярнуўся ў Заполле *(295—1—2543; 1430—1—52285—7)*.

734. **Брынк Міхал** (Бринк Михаил), сын *Антонія* і Вікторыі Адамаўны, дваранін. Разам з бацькам западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 29.05.1863) і зняволены ў г. Оршы. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 26.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(2003—1—361—8адв.; 3255—1—14—1)*.

735. **Брычкоўскі Юзаф** (Бричковский Иосиф), мешчанін. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—17адв.)*.

736. **Брэскі Генрык** (Бржеский Генрих), сын Казіміра, муж Алены Юзафаўны, бацька Мечыслава (нар. каля 1847), Алены (нар. каля 1850), Эміліі (нар. каля 1854), Баляслава (нар. каля 1856), Зыгмунта (нар. каля 1858), Яна (нар. каля 1860) і Напалеона (нар. каля 1862), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў аканомам у фальв. Юравічы Ігуменскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і неданясенне рас. уладам пра іх знаходжанне ў Юравічах, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 17.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкаму. Загадам М. Мураўёва ад 18.06.1864 як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах і шкодны для знаходжання ў краі» прызначаны да ссылкі за ўласны кошт у Кастрамскую губ. пад нагляд паліцыі і секвестру маёмасці. МГП 09.07.1864 выдала ўказ аб секвестры яго маёмасці ў выпадку знаходжання. Не меў сродкаў на дарогу на месца ссылкі, з-за чаго 31.07.1864 адпраўлены па этапе за дзяржаўны кошт. Жонка з дзецьмі добраахвотна выправілася з ім *(295—1—1643—18, 22; 295—1—1714; 299—1—579—742—743адв.; 1418—3—1—9адв.—10)*.

737. **Брэскі Францішак** (Бржеский Франц), дваранін Мінскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Кастрамскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 18.08.1864 *(162—1—116—124; 320—1—398—528; 1430—1—52163—238; 2616—1—40—59)*.

738. **Брэтшнэйдэр Ёган** (Бретшнейдер Иоган), прускі падданы. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго хаваўся з фальшывым пашпартам. Арыштаваны, спачатку ўтойваў сваё імя і паходжанне. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 11.12.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 10 гадоў *(299—2—6399—37адв.—38)*.

739. **Бубкевіч Тэадор** (Бубкевич Федор). Паходзіў з Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

740. **Буген (Бугень) Бенядыкт** (Буген (Бугень) Венедикт), сын Яна, ксёндз. Паходзіў з дваранаў Ковенскай губ. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Чачэрск Рагачоўскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая 26.06.1863 выдала сваю пастанову. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства. 29.07.1863 яго рухомая маёмасць (121 рэч і паперы на польскай мове) апісана і канфіскавана *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.; 2003—1—304; 2003—1—313; 2003—1—314—1-2адв.; 3257—2—2—2)*.

741. **Будзіловіч Ігнат** (Будзилович Игнатий). Служыў у рас. войску, меў чын паручніка. Падчас паўстання камандаваў атрадам пад мянушкай Каткоў, у які ўваходзілі *Бабашынскі Аляксандр*, *Бітны-Шляхта Габрыэль*, *Бразоўскі Ксаверы*, *Малахоўскі Аляксандр*, *Пац-Памарнацкія Мікалай* і *Фелікс*, *Піюра Антоні* (?), *Піюра Марцін*, *Плавінскі Мікалай*, *Правальскі Дзяменці*, *Русецкі Юзаф*, *Шчодра Тамаш* і інш. Схоплены і прысуджаны да смяротнага пакарання *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 320—1—398—198; 1416—3—21048—9адв.; 1430—1—31602—108; 1430—1—52163—126)*.

**Будзіян Юзаф** — гл. **Гудзіян Юзаф**

**Будзько Адэль** — гл. **Медунецкая Адэль**

742. **Будкоўскі Ян** (Будковский Иван), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання служыў столаначальнікам Дынабургскага павятовага суда. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.)*.

743. **Будрыс Антоні** (Будрис Антон), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і смяротнага пакарання. Прысуд прыведзены ў выкананне *(296—1—25—104; 319—1—479—5)*.

744. **Будрэвіч Габрыэль** (Будревич Гавриил), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—4; 320—1—398—222адв.)*.

745. **Будрэвіч Казімір** (Будревич Казимир), дваранін Ковенскага ці Новааляксандраўскага пав. Да паўстання служыў работнікам у двараніна Бэйнара, які арандаваў мызу Адамава памешчыка Станкевіча. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—15адв.; 319—1—479—4адв.; 320—1—398—133; 1416—3—21048—9; 1416—6—281; 1430—1—52163—399а, 600)*.

746. **Будрэцкі Нікадым** (Будрецкий Никодим), сын Войцеха. Да паўстання служыў канцылярыстам Мінскай казённай палаты. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, падлягаў арышту. 18.12.1863 месца яго знаходжання не было вядомае рас. уладам *(1527—1—4—132-133)*.

747. **Будрэвіч Стэфан** (Будревич Степан), памешчык Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11)*.

748. **Будрэцкі Леанард** (Будрецкий Леонард), дваранін Ковенскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—546)*.

749. **Буевіч Ігнат** (Буевич Игнатий), сын Францішка, дваранін Віцебскага пав. Нар. каля 1835 г. 22.04.1863 арыштаваны сялянамі падчас праезду па Аршанскім пав. паводле падазрэння ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Звызволены ў г. Смаленску, знаходзіўся пад следствам у СмСК. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 16.06.1863 падлягаў вызваленню, аднак паводле яго ж распараджэння ад 07.07.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы. Маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—8; 1430—1—31588—15-22адв.; 1430—1—52163—396; 2001—2—14—83; 2514—1—2198—66адв.)*.

**Бужымскі Францішак** — гл. **Бурымскі Францішак**

**Бужымскі Ян** — гл. **Бурымскі Ян**

750. **Буйван Ева** (Буйван Евва), цешча *Савіцкага Вінцэнта*, дваранка Магілёўскага (?) пав. Западозрана ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у МагСК. На яе маёмасць накладаўся секвестр, які 12.1864 быў зняты *(2003—1—345—7; 3257—2—8—2)*.

751. **Буйвід Мікалай** (Буйвид Николай), дваранін. Да паўстання жыў у м. Буявелі Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства. Сасланы ў Томскую губ. *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599; 1521—1—1—337)*.

752. **Буйко Люцыян** (Буйко Люциан), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Паверніца (Паверынцы) Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і смяротнага пакарання. Прысуд прыведзены ў выкананне *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

753. **Буйко Пётр** (Буйко Петр), сын Ігната, памешчык. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам, валодаў маёнткам Паверніца (Паверынцы) Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

754. **Буйневіч Антоні** (Буйневич Антон), сын Ануфрыя, дваранін Слонімскага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам у Слонімскім земскім судзе. 26.04.1863 не з'явіўся на службу, таму пасля няўдалых пошукаў у г. Слоніме западозраны ў далучэнні да паўстання. Яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў

стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1416—4—11416—87адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—278; 1430—1—52163—521адв.).*

755. **Буйніцкая Ганна** (Буйницкая Анна), жонка адстаўнога капітана, маці Караля (нар. каля 1861), памешчыца Дынабургскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі і распараджэння М. Мураўёва (да 22.07.1863) «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую ці Табольскую губ. Сына аддала на ўтрыманне сваячцы — памешчыцы Дрысенскага пав. Корсак. На месцы ссылкі звярталася да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. У 1865 г. жыла пад наглядам паліцыі ў г. Харкаве *(1416—3—21048—8адв.; 1430—1—31355—22-28а; 1430—1—31583—132-133, 389адв.; 1430—1—52285—5, 42адв.).*

756. **Буйніцкі Антоні** (Буйницкий Антон), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—101; 319—1—479—4; 1430—1—52163—154).*

757. **Буйніцкі Аркадзь** (Буйницкий Аркадий), памешчык Барысаўскага пав. Арыштаваны, знаходзіўся пры Дынабургскім арданансгаўзе. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.12.1864 прысуджаны да грашовага штрафу і 10-працэнтнага збору з яго маёнтка *(160—2—682—62; 162—1—122—10; 534—1—14—20).*

758. **Буйніцкі Баляслаў** (Буйницкий Болеслав), сын *Казіміра*, брат *Зыгмунта*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам (фальв.) Скудранапаль Дынабургскага пав. і часткай маёнтка Лукна Рэжыцкага пав., служыў міравым пасярэднікам. За «палітычныя злачынствы» на 13.09.1863 Скудранапаль накладзены секвестр. Пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. На маёмасць яго бацькі накладзены секвестр, а потым забарона *(1416—3—21048—8адв.; 1430—1—31583—134-138; 1430—1—52163—54, 189, 194адв., 289-292, 389, 567, 567адв., 824).*

759. **Буйніцкі Зыгмунт** (Буйницкий Сигизмунд), сын *Казіміра*, брат *Баляслава*, дваранін. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Лукна Рэжыцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля ўцёк за мяжу. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі. На маёнтак бацькі накладзены секвестр, а потым забарона. Яго частка Лукны канфіскоўвалася *(1416—3—21048—8; 1430—1—52163—189-192, 261-264, 289-292, 389, 567адв.).*

760. **Буйніцкі Казімір** (Буйницкий Казимир), сын Андрэя, бацька *Баляслава* і *Зыгмунта*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дагда Дынабургскага пав. і часткай маёнтка Лукна Рэжыцкага пав. Абвінавачаны ў дачыненні да паўстання, 21.08.1863 ці 11.09.1863 Дагда секвестравана. Канфірмацыяй М. Мураўёва (да 12.07.1864) вызвалены ад пакарання як «не выкрыты ў палітычным злачынстве». Паводле пастановы ВГП ад 04.08.1864 Дагда вызвалена ад секвестру, аднак з накладаннем забароны. Частка Лукны, на падставе ўказу ВГП ад 26.10.1863, секвестроўвалася, потым канфіскоўвалася, аднак перадавалася ў яго кіраванне з абавязкам даход, які прыпадаў да долю сыноў, уносіць у казну *(1416—3—21048—8адв.; 1430—1—52163—54, 184, 189-192, 289-292, 389, 455, 567).*

761. **Буйніцкі Сільвіуш (Сільвестр)** (Буйницкий Сильвиуш (Сыльвестр)), сын Зігфрыда, дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1821 г. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Яго бацькі валодалі маёнткам у Дзісенскім пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. *(162—1—116—10; 319—1—479—4; 320—1—398—37-53, 56, 130; 320—2—98—30адв.; 1416—3—21048—9; 1430—1—52163—605).*

762. **Буйніцкі Юзаф-Ежы** (Буйницкий Иосиф-Георгий), сын Яна Антоніевіча-Андрэевіча, дваранін Віцебскай губ. Нар. у 1801 г. За дачыненне да паўстання 06.1864 знаходзіўся пад следствам у Шавельскай следчай камісіі *(2626—1—305—65).*

763. **Буйна Яўстах** (Буйно Евстафий), ксёндз. Да паўстання служыў у францішканцкім кляштары ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

764. **Букалоўскі Ігнат** (Букаловский Игнатий), сын Паўла, мешчанін г. Навагрудка, каталік. Нар. каля 1826 г. Не браў удзелу ў паўстанні. Пасля паўстання разам з *Рахлічам Гілярыем* належаў да арганізацыі пратэстаў супраць закрыцця касцёла ў м. Мір і збору грошай для яго аднаўлення. Арыштаваны. Паводле рашэння ЧПА, канфірмаванага З. Манюкіным 12.03.1866, таму як «дака-

заў свае шкодныя супрацьурадавыя памкненні і як цалкам нядобранадзейны і шкодны для знаходжання ў тутэйшым краі», прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Томскую губ. 04.05.1866 адпраўлены з сям'ёй на месца ссылкі *(295—1—3056—10)*.

765. **Букамовіч Антоні** (Букомович Антон). Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах», паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

766. **Букамовіч Ян** (Букомович Иван), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—5)*.

767. **Буката Лукаш** (Буката Лукаш), сын Андрэя, селянін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Падчас паўстання ўваходзіў (?) у склад атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Зняволены ў астрогу г. Слуцка. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прысуджаны да вяртання на месца жыхарства з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1537—7—12адв.; 295—1—1643—14адв.; 296—1—19—281адв.; 1524—1—1—2; 1525—1—2—8адв.—9)*.

768. **Букін Ян** (Букин Иван), дваранін Мінскай (?) губ. Вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску. Да паўстання жыў з маці ў г. Бабруйску. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222)*.

769. **Букініч Вінцэнт** (Букинич Викентий). Да паўстання служыў чыноўнікам КГП. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў «аддаленыя паветы» Казанскай губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

770. **Букоўскі Адам** (Буковский Адам), сын Адама, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Коўклі Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(319—1—479—5; 320—1—398—131адв.; 1416—6—281; 1430—1—35146—152; 1430—1—52163—598адв.)*.

771. **Букоўскі Аляксандр** (Буковский Александр), сын Ігната, брат *Станіслава*, дваранін Свянцянскага пав. Вучыўся ва ўніверсітэце. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Дзяўгуцішкі Свянцянскага пав. (262 дзес. зямлі). Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства, таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280)*.

772. **Букоўскі Казімір** (Буковский Казимир), дваранін. Да паўстання служыў пісьмаводам у прystава 4 стана Свянцянскага пав. *Багдановіча Адольфа*, яго бацька валодаў фальв. Багданішкі Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

773. **Букоўскі Станіслаў** (Буковский Станислав), сын Ігната, брат *Аляксандра*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Дзяўгуцішкі Свянцянскага пав. (262 дзес. зямлі). Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства і далучыўся да паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—574; 1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—241)*.

774. **Букрэеў Андрэй** (Букреев Андрей), сын Васіля, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Басіны Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку, потым у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір, з Мінска накіраваны ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—2420—11адв.; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.)*.

775. **Букрэй Міхал** (Букрей Михаил), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281)*.

776. **Булартоўскі Генрык** (Булартовский Генрих), сын Аўгуста, каталік. Паходзіў з Аршанскага пав. Да паўстання з'яўляўся аптэкарам у г. Полацку. Западозраны рас. уладамі ў тым, што «ў доме яго пастаянны быў сход палякаў». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, паводле заключэння якой «наводзіць на сябе больш альбо менш падазрэнне ў спачуванні мяцяжу». Гэтае заключэнне 13.12.1863 пададзена віцебскаму губернатару *(3046—2—3—7адв.-8)*.

777. **Булатовіч Віктар** (Булатович Виктор). Да паўстання служыў лесніком Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту *(296—1—25—103; 319—1—479—5)*.

778. **Булах Тадэвуш** (Булах Фадей), селянін. Нар. каля 1835 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав., жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. У паўстанні знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 17.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Пазней вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(295—1—1527—105; 296—1—19—281)*.

779. **Булгак Антаніна** (Булгакова Антося), маці *Рафала* і *Тадэвуша*, аднадворка Ігуменскага пав. Да паўстання жыла ў вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не мела зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з сынамі выслана ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—17)*.

780. **Булгак Настасся** (Булгак Анастасия), дачка Антонія, жонка *Рафала*, аднадворка Ігуменскага пав. Нар. каля 1844 г. Да паўстання жыла з мужам у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав. Пасля паўстання выправілася з сасланым мужам у Сібір. У 1875 г. жыла ў Табольскай губ., пасля смерці мужа падала прашэнне аб дазволе вярнуцца з дзецьмі (гл. *Булгак Рафал*) у Ігуменскі пав., атрымала яго, аднак з-за адсутнасці сродкаў на пераезд не змагла выехаць. 12.1876 падала прашэнне і 28.01.1877 была выслана на радзіму на казённы кошт «этапным парадкам». 29.05.1877 прыбыла ў турэмны замак у г. Мінску, 13.08.1877 адпраўлена ў Ігуменскі пав. *(295—1—2753)*.

781. **Булгак Рафал** (Булгак Рафаил), сын Яна і *Антаніны*, брат *Тадэвуша*, муж *Настассі*, аднадворац Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з маці і братам «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. У ссылцы нарадзіліся яго дзеці Казімір, Магдалена, Пелагея і Яўгенння. Памёр (да 01.08.1875) у ссылцы *(295—1—2420—17адв.; 295—1—2753)*.

782. **Булгак Тадэвуш** (Булгак Тадеуш), сын *Антаніны*, брат *Рафала*, аднадворац Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з маці і братам высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—17адв.)*.

783. **Булгак Тамаш-Мікалай** (Булгак Фома-Николай), сын Юзафа Станіслававіча, брат Яна, бацька Антонія і Уладзіслава, памешчык Слуцкага пав. Хр. 15.02.1801. Валодаў часткай маёнтка Альхоўка Слуцкага пав., якую 08.07.1833 перадаў брату Яну. Да паўстання жыў у доме Казлоўскага на Маставой вул. г. Вільні. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі», дзе займаў пасаду сябры камітэта па дапамозе параненым паўстанцам і сем'ям паўстанцаў, 09.1863 арыштаваны. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Пасля амністыі атрымаў дазвол на часовае прабыццё на радзіму, прыбыў у Слуцкі пав. і пасяліўся ў маёнтку Міцкевічы, арандаваным дачкой яго сястры Генрыетай Ляўковіч. 02.1876 падаў прашэнне аб дазволе на пастаяннае жыхарства на радзіме ў сувязі са сталым узростам і хворым станам, якое 08.05.1876 было задаволена. 12.1876 жыў у маёнтку Мацеевічы Слуцкага пав. у сястры, 03.1882 — у маёнтку Гаслаўшчына Навагрудскага пав. *(162—1—116—166; 295—1—3044; 295—1—3492—41адв., 74; 299—1—577—544-546; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—222, 398-399, 401адв., 511, 606-607, 709-711; 320—2—98—30адв.)*.

784. **Булгак Феліцыян** (Булгак Фелициан), сын Бенядыкта, брат *Фларыяна*, аднадворац Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам, жонкай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—17адв.)*.

785. **Булгак Фларыян** (Булгак Флориан), сын Бенядыкта, брат *Феліцыяна*, аднадворац Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам (з сям'ёй) высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—17адв.)*.

786. **Булгак Ян** (Булгак Иван), аднадворац Мінскага пав. Падчас паўстання разам са *Стрыжэўскім Каятанам* хаваў зброю, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 30.04.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Томскую губ. *(295—1—3056—13)*.

787. **Булгароўскі Станіслаў** (Булгаровский Станислав), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—4адв.; 1416—4—11416—87; 1430—1—52163—521)*.

788. **Булгарын Іаахім** (Булгарин Ефим), дваранін Ваўкавыскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага рэгістратара. За дачыненне да паўстання аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 08.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Секвестр з маёмасці здымаўся на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 17.08.1863 і пастановы ГГП ад 03.09.1863 *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—289; 1430—1—52163—150)*.

789. **Булгарын Юзаф** (Булгарин Иосиф), сын Юзафа, памешчык. Нар. каля 1845 г. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, яго бацька валодаў маёнткам Забялышын Клімавіцкага пав. 23.04.1863 далучыўся да атрада *Арцімовіча Міхала*, з якім прыбыў у в. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. 24.03.1863, пакінуўшы Гарбатку, злучыўся з атрадам *Жукоўскага Яна-Алаізія*, з якім потым увайшоў у склад атрада *Звяждоўскага Людвіка* і разам з ім 30.04.1863 здаўся ў палон у Кульчыцкіх лясах. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 12.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. 03.10.1863 яго справа перададзена ў МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 01.03.1863 накіравала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На судзе не выказаў раскаяння. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 20.06.1863 накладзена забарона *(319—1—479—6; 1430—1—52163—206адв.; 2003—1—211; 2003—1—445—15; 3256—2—14; 3257—2—2—2адв.)*.

790. **Булгарын (Балгарын) Юзаф** (Булгарин (Болгарин) Иосиф), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў «падбухторных размовах з сялянамі», арыштаваны. Зняволены ў турме ў г. Магілёве, дзе знаходзіўся 15.03.1863. Пасля высланы ў Кастрамскую губ. з абавязковым (на падставе ўказа ад 10.12.1865) продажам маёмасці *(2532—1—15—10; 3366—1—5—2адв.)*.

791. **Булеўскі (Балеўскі, Былеўскі) Казімір** (Булевский (Болевский, Былевский) Казимир), памешчык. 36 гадоў служыў у рас. войску, удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1828–1829 гг., зарушэнні паўстання 1830–1831 гг., узнагароджаны ордэнамі, звольнены з чынам палкоўніка і поўным пенсіёнам. Пасяліўся ў г. Мінску, набыў 20 дзес. зямлі і ўзяў у арэнду маёнтак Чырвонае Барысаўскага пав. 23.04.1863 выехаў у Барысаўскі пав. па маёмасных справах, 29.04.1863 вярнуўся ў Мінск. Западозраны, што падчас паездкі звязваўся з паўстанцамі. Падставай для падазрэння паслужылі сярод іншага паказанні *Ганчарэвіча Аляксандра*, *Кучынскага Антонія*, *Пятркоўскага Ігната*, *Савіцкага Фларыяна*. Яго справа перададзена ў МСК, на думку якой «36-гадовая бездакорная служба не можа ўжо служыць парукай у захаванні ім тых жа вернападданніцкіх пачуццяў». Падчас следства знаходзіўся на свабодзе. Доказаў віны знойдзена не было, у сувязі з чым паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 10.08.1863 вызвалены ад абвінавачанняў з аддачай пад строгі паліцэйскі нагляд па месцы жыхарства *(296—1—19—130-137)*.

792. **Булімскі Ігнат** (Булимский Игнатий), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5адв.)*.

793. **Булінскі Уладзіслаў** (Блинский Владислав), прускі падданы. Нар. каля 1842 г. Удзельнічаў у паўстанні ў Каралеўстве Польскім *(1430—1—35146—109)*.

794. **Булькоўскі Адам** (Бульковский Адам), сваяк *Клеменса* і *Леана*, памешчык. Служыў судовым следчым, валодаў маёнткам Пажварні Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

795. **Булькоўскі Клеменс** (Бульковский Клеменс), сваяк *Адама* і *Леана*, памешчык. Да паўстання сумесна са сваякамі валодаў маёнткам Пажварні Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

796. **Булькоўскі Леан** (Бульковский Леон), сваяк *Адама* і *Клеменса*, памешчык. Да паўстан-

ня сумесна са сваякамі валодаў маёнткам Пажварні Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

797. **Булынка Цэзар** (Булынко Цезарий), сын Севярына, мешчанін. Нар. каля 1846 г. Да паўстання працаваў сталяром. У паўстанні ўваходзіў у склад атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*. Удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, адбіцці арыштаваных паўстанцаў 29.04.1863 ля в. Ляды Ігуменскага пав., падчас чаго былі забіты 2 рас. жаўнеры, разам з *Падалецкім Аляксандрам*, *Саковічам Якубам* і *Тальшэўскім Альбінам* у павешанні 23(24?).05.1863 у с. Багушэвічы Ігуменскага пав. святара Д. Канапасевіча, і інш. Трапіў у палон і зняволены ў турме ў г. Мінску. Пастановай ЧПА пры Каломенскім пяхотным палку, канфірмаванай В. Забалоцкім 28.01.1864, прысуджаны да смяротнага пакарання праз павешанне і канфіскацыі маёмасці. Прысуд павінен быў выканацца 29.01.1864 *(295—1—1643—6адв., 20адв.; 296—1—56—1адв., 16; 320—1—398—210; 1781—32—141—1-2)*.

798. **Бура Антоні** (Буро Антон), дваранін. Да паўстання вучыўся ў Сакольскім егерскім вучылішчы. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

799. **Бурачэўскі Ігнат** (Бурачевский Игнатий), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у в. Моркус Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—5; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

800. **Бургельскі Ігнат** (Бургельский Игнатий), сын Ваўрынца, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 05.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—8адв.; 1418—3—1—10адв.—11)*.

**Бурдзілоўскі-Гарбуз N.** — гл. **Гарбуз-Бурдзілоўскі N.**

801. **Бурскі Альфонс (Адольф)** (Бурский Альфонс (Адольф)), памешчык. Да паўстання валодаў часткамі маёнткаў Даўжаніцы і Няронкі Аршанскага пав., вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні пастановай следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць секвестравана (да 09.06.1865), потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. Магчыма таксама, што маёмасць канфіскавана (?) *(1430—1—52163—196; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—2адв.; 2003—1—445—14адв.; 2514—1—2198—66, 66адв.; 2532—1—15—10)*.

802. **Бурскі Войцех** (Бурский Альберт), сын Юзафа, дваранін, каталік. Да паўстання служыў памочнікам столаначальніка Магілёўскай ПДМ; калежскі рэгістратар. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК. Звольнены са службы ў 1863 г. Быў пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы *(319—1—479—6; 1430—1—52163—182адв.; 2003—2—96—29; 3257—2—2—3; 3366—1—5—13адв.)*.

803. **Бурчак Антоні** (Бурчак Антон), сын Яна. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў рэгістратарам у Кобрынскім павятовым судзе. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

804. **Буры Леапольд** (Бурый Леопольд), сын Антонія. Да паўстання служыў у МагГП. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму на падставе ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго адзенне на суму ў 1,92 руб. ср. 13.06.1863 апісана і секвестравана *(2003—1—275)*.

805. **Бурымскі (Бужымскі) Францішак** (Буржымский (Бужимский) Франц), сын Міхала, брат *Яна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Быў непісьменным. За незатрыманне невядомага чалавека, які праходзіў паўз яго дом, схоплены сялянамі і адвезены ў г. Ігумен, дзе 05.05.1863 пасаджаны ў турэмны замак. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Потым пераведзены ў г. Мінск, дзе быў зняволены ў мінскім гарадскім замку. 09.1863 дзеля вызвалення падаваў прашэнне аб прыняцці праваслаўя. 09.10.1863 прыведзены ў Мінскі кафедральны сабор для перахрышчання, аднак адмовіўся прымаць праваслаўе да вызвалення з-пад арышту; вернуты ў замак. 05.03.1864 (?) яго справа з ІСК пададзена ЧВГМГ. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у Мінску, паводле рашэння якога вызвалены з усталяваннем нагляду паліцыі *(295—1—1643—13адв.; 296—1—75—8-9, 22-23; 1418—3—1—6адв.-7)*.

806. **Бурымскі (Бужымскі) Ян** (Бужимский Иван), брат *Францішка*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Быў непісьменным. Прымусова ўзяты паўстанцамі для пераводу праз раку. За гэта схоплены сялянамі і дастаўлены ў г. Ігумен, дзе пасаджаны ў турэмны замак. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.07.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскім турэмным замку, дзе дзеля вызвалення падаваў прашэнне аб прыняцці праваслаўя. 09.10.1863 прыведзены ў Мінскі кафедральны сабор для перахрышчання, аднак, адмовіўся прымаць праваслаўе да вызвалення з-пад арышту; вернуты ў замак *(296—1—75—11, 22-23; 1418—3—1—8адв.—9)*.

807. **Буслоўскі Аляксандр** (Бусловский Александр), сын Канстанціна, дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання служыў пісарам Адрыжынскага валаснога праўлення. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

808. **Бусхарэвіч Францішак** (Бусхаревич Франц). Да паўстання быў вучнем аптэкара ў г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—4)*.

809. **Бутаўт Канстанцін** (Бутовт Константин). Да паўстання служыў бухгалтарам Расіенскай гарадавой ратушы. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

810. **Буткевіч Антоні** (Буткевич Антоний), сын Юзафа, дваранін Віцебскага ці Дынабургскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў падрыхтоўцы да яго, арыштаваны. 14.10.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа перададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прызначаны (да 04.10.1864) да вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі і з аддачай на парукі. З яго маёмасці належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор, ад чаго вызвалены распараджэннем А. Патапава ад 13.02.1865 *(1430—1—52163—633адв., 762-780; 3046—2—5—5)*.

811. **Буткевіч Антоні** (Буткевіч Антон), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

812. **Буткевіч Вацлаў (Уладзіслаў)** (Буткевич Вацлав (Владислав)), сын Дыянізія, брат *Міхала*, памешчык. Да паўстання з'яўляўся суўладальнікам маёнтка Міркляны (Мірклі) Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы КГП ад 12.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—132; 1416—6—251—12-13, 20; 1416—6—253)*.

813. **Буткевіч Казімір** (Буткевич Казимир), сын Рафала, дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

814. **Буткевіч Мацей** (Буткевич Матвей), дваранін Полацкага пав. Падчас паўстання хаваў у лесе зброю, за што арыштаваны (да 17.02.1864) і аддадзены пад ПВС. Паводле пастановы ЧПА, канфірмаванай 10.02.1864 М. Мураўёвым, сасланы на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Казанскую губ. На яго грашовы капітал, забяспечаны на фальв. Юстыянпаль памешчыцы Юстыны Жылінскай, не накладаўся секвестр. У 1871 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—3—21048—9адв.; 1416—4—11416—321-323адв.; 1430—1—31602—89; 1430—1—35146—145)*.

815. **Буткевіч Міхал** (Буткевич Михаил), сын Дыянізія, брат *Вацлава*, памешчык. Да паўстання з'яўляўся суўладальнікам маёнтка Міркляны (Мірклі) Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы КГП ад 12.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—4адв.; 320—1—398—132; 1416—6—251—12-13, 20; 1416—6—253; 1430—1—52163—599)*.

**Буткевіч Уладзіслаў** — гл. **Буткевіч Вацлаў**

816. **Буткевіч Эдвард** (Буткевич Эдуард), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў у Кастрамской губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—26; 2532—1—15—5)*.

817. **Буткевіч Юзаф** (Буткевич Иосиф), сын Францішка, дваранін Віленскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Западозраны ў спачуванні паўстанцам і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, паводле рашэння якога вызвалены *(295—1—1643—18; 1524—1—1—2)*.

818. **Буткоўскі Ян** (Бутковский Иван), дваранін. Да паўстання служыў столаначальнікам Дынабургскага павятовага суда. За дачыненне да паўстання высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 накладзены секвестр *(1416—3—21048—9адв.; 1430—1—52163—390адв.)*.

819. **Бутлер Тадэвуш** (Бутлер Фаддей), памешчык Вількамірскага пав. Служыў у інжынернай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне інжынер-капітана. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Вількамірскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. знаходзіўся на прыватнай службе ва ўладкавальніка Варонежска-Растоўскай чыгункі, атрымаў права пражывання ў сталіцах і сталічных губ., але з забаронай прыбываць у «Заходні край» *(1430—1—35146—94; 1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

820. **Бутмін Леан** (Бутмин Леон), шляхціц Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—5)*.

821. **Бутовіч Юзаф-Маўрыцы** (Бутович Иосиф-Маврикий), сын дэпутата Віцебскага ДДС Францішка-Эразма-Даната Вінцэнтавіча і Калеты Пышніцкай, дваранін Віленскай ці Віцебскай губ., каталік. Нар. 22.09.1842 у фальв. Юдзіна Віцебскага пав., хр. 01.10.1842 у Віцебскім касцёле Св. Міхала. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Пастановай следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—8; 1416—4—11416—86; 1430—1—52163—195адв., 393адв.; 2514—1—2198—66адв.; 3257—1—53—2; 3286—2—1—5адв., 73-76)*.

822. **Бутовіч Юзаф** (Бутович Иосиф). Служыў на грамадзянскай службе; калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562)*.

823. **Бутрым Броніслаў** (Бутрим Бронислав). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562)*.

824. **Бутрым Юльян** (Бутрым Юлиан). Да паўстання служыў вольнапрактыкуючым доктарам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

825. **Бутрымовіч Міхал** (Бутримович Михаил), дваранін Віленскай губ. ці Лепельскага пав. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у г. Лепелі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Высланы ў Томскую губ. *(162—1—116—64; 295—1—1527—101; 295—1—1643—8; 296—1—25—101адв.; 299—1—577—164-175; 319—1—479—4; 320—1—398—282; 320—2—98—30адв.)*.

826. **Бутрымовіч Юзаф** (Бутримович Иосиф), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у м. Крошва Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

827. **Бутрын Юзаф** (Бутрин Иосиф), сын Рыгора, селянін. Да паўстання прыпісаны да Стрэлаўскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—11; 295—1—2725—32)*.

828. **Бухавецкі Адам** (Буховецкий Адам), сын Аляксандра, памешчык. Да паўстання жыў у маёнтку Пуцэвічы Навагрудскага пав. Па падазрэнні ў дачыненні да паўстання арыштаваны, але да 09.1864 вызвалены. Яго частка (1/12) маёнтка Гарадзішча Навагрудскага пав. (агульная ацэнка

маёнтка — 20 тыс. руб. ср.), якім ён валодаў на правах суспадчынніка, секвестравана паводле распараджэння МГГ 30.08.1863. МГП на падставе папярэдняга распараджэння выдала 09.09.1863 яшчэ раз указ аб секвестры. 06.04.1864 маёнтак перададзены ў кіраванне чыноўніка Мінскай ПДМ Уладзіміра Бардскага *(296—1—89—11, 14, 73; 320—1—398—3; 320—2—99—49адв.-50).*

829. **Бухавецкі Адольф** (Буховецкий Адольф), памешчык Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.).*

830. **Бухавецкі Аляксандр** (Буховецкий Александр), сын Казіміра. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам гарадавога магістрата. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

831. **Бухавецкі Міхал** (Бухавецкий Михаил), памешчык Гродзенскай (?) губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 15.07.1863 і пастановы ГГП ад 04.08.1863, а потым канфіскацыі на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 30.09.1863 і пастановы ГГП ад 22.12.1863 *(1416—6—212).*

832. **Бухавецкі Платон** (Буховецкий Платон), дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання служыў у Кобрынскім магістраце. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—5; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

833. **Буцвілоўскі Адам** (Бутвиловский Адам), сын Ягора, дваранін Себежскага пав., праваслаўны. Служыў чыноўнікам, да паўстання выйшаў у адстаўку. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў напісанні ліста яўрэю Мордуху Зіскінду «з непрыстойнымі выразамі пра асобу Гасудара Імператара». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—9адв.-10).*

834. **Буцвілоўскі Рамуальд** (Бутвиловский Ромуальд), сын Яна, памешчык Барысаўскага пав. Арыштаваны паводле загаду ЧВГМГ ад 31.01.1865 за «зносіны з паўстанцамі і за пагрозы жыхарам сяла Туміловічаў пажарам і святару Высоцкаму шыбеніцай». Аддадзены пад ПВС у г. Мінску, падчас якога знаходзіўся на паруках. Прысуд адбыўся 21.02.1866 і пададзены мінскаму губернатару *(295—1—1643—16адв.; 299—2—6399—44адв.-45; 299—2—6400—5адв.-6, 10адв. і інш.).*

835. **Буцкевіч Адам** (Буцкевич Адам), памешчык Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—29; 2532—1—15—7).*

836. **Буцэвіч Адольф** (Буцевич Адольф), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам у Хвейданскай парафіі Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—6).*

837. **Буцэвіч І.** (Буцевич И). Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1—1адв.).*

838. **Буцэвіч Палікарт** (Буцевич Поликарт), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73).*

839. **Буцэвіч Юзаф** (Буцевич Осип). Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.).*

840. **Бучынская Мацільда** (Бучинская Матильда), памешчыца Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання саслана ў Ніжагародскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.).*

841. **Бучынскі Станіслаў** (Бучинский Станислав), сын Тадэвуша, сваяк Гілярыя Антоніевіча, Канстанціна і Барбары Вінцэнтавічаў, памешчык. Да паўстання са сваякамі валодаў маёнткамі Лыкінка і Бяскоўка Чэрыкаўскага пав. (11 сялян муж.

полу, 100 дзес. зямлі, карчма (у сумесным валоданні з *Якутовічам Аляксандрам* і яго братам), гаспадарчыя пабудовы і інш., 54 руб. гадавога прыбытку). Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Маёнтак 31.07.1863 апісаны, секвестраваны і 11.09.1863 перададзены ў кіраванне ПДМ. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.06.1863 перадала яго справу ў МагСК. Быў пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—4—11416—21; 1430—1—35146—73; 1430—1—52163—200; 2003—1—355; 2003—1—445—15; 2003—1—489—62; 2532—1—15—9адв.; 3257—2—2—3; 3366—1—5—2адв., 13)*.

842. **Бучынскі Уладзіслаў** (Бучинский Владислав), дваранін Дзісенскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе заскаркаўскага атрада, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 24.10.1863 высланы ў г. Дынабург, 10.10.1863 у ДСК перададзена яго следчая справа. Пасля прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106; 2601—1—2—342-343; 3046—2—3—6адв.-7; 3046—2—5—4)*.

843. **Буш Ян** (Буш Иван), дваранін Віленскага пав. Да паўстання служыў у тэлеграфным упраўленні Таварыства Расійскай чыгункі. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у Віцебскай губ. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 ці на 8 гадоў *(295—1—1643—15; 319—1—479—4; 320—1—398—130; 1416—3—21048—9; 1430—1—52163—399адв., 605)*.

844. **Буш N.** (Буш N.). Да паўстання служыў чыноўнікам. За дачыненне да паўстання звольнены са службы *(295—1—1643—13адв.)*.

845. **Бушняк Сава** (Бушняк Савка), сын Ануфрыя, селянін. Да паўстання прыпісаны да Баярскай сельскай грамады Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прысуджаны да ссылкі ў Пскоўскую губ. Высланы з радзімы *(295—1—1643—20; 295—1—2725—17; 296—1—19—280адв.)*.

846. **Бушынскі Ігнат** (Бушинский Игнатий), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.; 1430—1—52163—195)*.

847. **Бушынскі N.** (Бушинский N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Камароўшчына Віленскага пав. (42 вярсты ад Вільні па Кальварыйскай шашы). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—210; 1416—6—274)*.

848. **Быдэльскі Баляслаў** (Быдельский Болеслав), сын Ігната Юзафавіча, дваранін Мінскага пав. Хр. 08.05.1841. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—12; 319—1—479—5адв.; 320—1—398—223, 401адв.; 320—2—98—30адв.)*.

849. **Быкоўскі Алаізі** (Быковский Алиоизий), дваранін. Да паўстання валодаў надзелам зямлі ў вак. Вялікія Даўгялы Лідскага пав. Данёс рас. уладам, што паўстанцы ўночы з 14 на 15 чэрвеня 1863 г. прыбылі ў Вялікія Даўгялы і абрабавалі жыхароў. Западозраны ў дапамозе паўстанцам. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

850. **Быкоўскі Антоні** (Быковский Антон), сын Вільгельма, брат Вінцэнта і Леакадыі, памешчык. Нар. каля 1836 г. Да паўстання разам з братам і сястрой валодаў маёнткам Аляксандраўка Рагачоўскага пав. Западозраны ў «зланамысных намерах супраць рускіх войскаў». Яго справа расследвалася МагСК, якая да 29.05.1864 скончыла яе і падала на разгляд магілёўскаму губернатару. Падчас следства знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе з г. Магілёва. Паводле ўказа МагГП ад 27.06.1864 яго маёмасць падлягала секвестру. Брат 02.09.1864 падаў прашэнне аб перадачы маёнтка ў яго кіраванне *(2003—1—420—5-9; 2003—1—437; 3257—1—14—9адв.-10; 3257—2—8—2)*.

**Былеўскі Казімір** — гл. **Булеўскі Казімір**

851. **Быліна Аўрэліян** (Былино Аврелиан), сын Міхала, каталік. Да паўстання служыў кан-

цылярыстам Магілёўскай казённай палаты. Падчас паўстання самавольна пакідаў г. Магілёў, пасля чаго вярнуўся ў горад. Западозраны МагСК у дачыненні да справы *Пячоры Францішка*, арыштаваны (да 14.06.1863) і зняволены ў магілёўскім турэмным замку. Яго рухомая маёмасць (адзенне, мэбля, прыналежнасці да стрэльбы і інш.) на суму ў 6,42 руб. ср. 06.1863 апісана і секвестравана, але пакінута на захаванне Альжбеце Быліне. 05.09.1863 звольнены са службы. З 1867 г. яго маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(2001—2—14—11; 2003—1—386; 2003—2—96—11; 2514—1—2198—66адв.; 3257—2—2—2адв.)*.

852. **Былінскі Баніфацы** (Былинский Бонифаций). Служыў сакратаром магістрата г. Пружанаў, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

853. **Былінскі Леан** (Былинский Лев), брат (?) *Рамуальда*, дваранін Троцкага пав. Да паўстання з'яўляўся манахам ордэна кармелітаў. Уваходзіў у склад атрада, які быў разбіты ля в. Буда і камандзірам варты ў якім быў *Кучэўскі N.* Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—4адв.; 534—1—14—4; 1416—4—11416—116; 1416—6—274; 1430—1—52163—374)*.

854. **Былінскі Рамуальд** (Былинский Ромуальд), брат (?) *Леана*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Няпракшты Троцкага пав. У паўстанні ўваходзіў у склад атрада, які быў разбіты ля в. Буда і камандзірам варты ў якім быў *Кучэўскі N.* Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 11.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—4адв.; 1416—6—274; 1430—1—52163—166)*.

855. **Былінскі Юзаф** (Былинский Иосиф). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

856. **Былінскі N.** (Былинский N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Лямошаўцы Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 15.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—256)*.

857. **Былінскі N.** (Былинский N.), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—271)*.

**Бырташ Пётр** — гл. **Барташ Пётр**

858. **Быстрам Уладзіслаў** (Быстрам Владислав), сын Караля, дваранін. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Быстрампаль Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

859. **Быхавец Адам** (Быховец Адам), памешчык Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—29; 2532—1—15—7адв.)*.

860. **Быцулевіч Гіляры** (Быцулевич Гилярий), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Нарэўка Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

**Бышаў Карл** — гл. **Бішаў Карл**

861. **Бышэўскі Уладзіслаў** (Бышевский Владислав), памешчык Чавускага пав. ці дваранін Чэрыкаўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Стайкі Чавускага пав., непаўнагадовы. За дачыненне да паўстання (да 31.05.1863) арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Потым высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—245—5; 2532—1—15—9; 3257—2—2—3адв.)*.

862. **Бышэўскі N.** (Бышевский N.), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем. 04.1864 лічыўся рас. уладамі «палітычным злачынцам», а яго фотаздымак рассылаўся павятовым спраўнікам Віцебскай губ. для арышту *(2586—1—22—11-12)*.

863. **Бэйда Дамінік** (Бейда Доминик), дваранін Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—*

*1—25—88адв.; 319—1—479—5; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.).*

864. **Бэйнар (Бэйнаровіч) Тадэвуш-Стэфан-Ян** (Бейнар (Бейнарович) Фаддей-Степан-Иван), сын Антонія, дваранін, каталік. Нар. каля 1841–1843 гг. Да паўстання служыў пісарам у Віленскай палаце крымінальнага суда. Падчас паўстання ўваходзіў у склад Віленскага паўстанцкага камітэта, з'яўляўся камандзірам так званых жандараў-вешальнікаў у г. Вільні. Пры спробе арышту схаваўся ад рас. уладаў (да 12.08.1863) *(1527—1—4—35-37, 90-91; 2601—1—2—154).*

865. **Бэйнар Яўстах** (Бейнар Евстафий), дваранін Віцебскага пав. Да паўстання вучыўся ў Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». На яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 накладаўся секвестр. У 1864 г. жыў у Арэнбургскай губ. *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—9адв.; 1430—1—31583—77-80; 1430—1—52163—401адв., 616адв.).*

866. **Бэйнаровіч Міхал** (Бейнарович Михаил), дваранін ці мешчанін Віцебскай губ. (Люцынскага пав.?). Меў дачыненне да паўстання, 05.1863 схоплены сялянамі ў Дрысенскім пав. і дастаўлены ў г. Дрысу да спраўніка *Гласкі Ксаверыя*. Потым пераведзены ў г. Дынабург, знаходзіўся пад следствам у ДСК. На яго маёмасць 31.01.1864 на падставе патрабавання ваеннага начальніка Віцебскай губ. ад 17.12.1863 накладаўся секвестр. Пазней прысуджаны да ўключэння ў лінейныя батальёны асобнага Сібірскага корпуса на агульных правах і канфіскацыі маёмасці. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—3—21048—8адв.; 1430—1—35146—87; 1430—1—52163—419адв.; 2601—1—29—21).*

**Бэйнаровіч Тадэвуш-Стэфан-Ян** — гл. **Бэйнар Тадэвуш-Стэфан-Ян**

867. **Бэк Юзаф** (Бек Иосиф), дваранін Чэрыкаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—3адв.).*

868. **Бэндзарор Анастасі** (Бендзорор Анастасей), іншаземец. Нар. каля 1833 г. Да паўстання з'яўляўся землямерам ў Бярдычаўскім пав. Кіеўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.).*

869. **Бэр Оттан** (Бер Оттон), дваранін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—5).*

870. **Бэркле (Біркле) Юзаф** (Беркле (Биркле) Иосиф), мешчанін г. Вільні. Нар. каля 1845 г., сын «гадзіннікавых спраў майстра». Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне на казённых землях у Валагодскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—4адв.; 1527—1—4—90-91).*

871. **Бюч (Біуц, Бёч, Біуч) Самуіл** (Биуч (Биуц, Биюч, Биоча) Самуил), сын Мацея, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1845 г. Да паўстання жыў у в. Лядкі Навагрудскага пав. памешчыка Брахоцкага. У паўстанні на пачатку красавіка 1863 г. далучыўся да атрада *Міладоўскага Вітальда*, быў сведкам павешання паўстанцамі селяніна. Пасля рассеяння атрада ў сутычцы ля в. Ігнатава Навагрудскага пав. з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны. На падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Паводле пастановы ПВА, канфірмаванай М. Мураўёвым 13.12.1863, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на рудніках на 12 гадоў. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1556; 295—1—1643—8; 320—1—398—3, 161, 174).*

872. **Бядрыцкі Антоні** (Бедржицкий Антон), сын Андрэя (пам. напрыканцы 1855) і Барбары Вінцэнтаўны, брат *Юзафа* і чатырох сясцёр, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў намаўленні іншых асоб далучацца да паўстання, трапіў пад следства. 31.03.1864 яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Доказаў віны знойдзена не было, аднак рашэннем А. Патапава ад 08.08.1864 прызначаны да аддачы на парукі з усталяваннем паліцэйскага нагляду. Маці 28.04.1866 падала прашэнне на імя ВГГ аб вызваленні ад паліцэйскага нагляду, якое 27.05.1866 было адхілена *(1430—1—31604—621-622; 1430—1—52163—309-310, 633).*

873. **Бядрыцкі Ігнат** (Бедржицкий Игнатий), сын Юзафа, брат *Леапольда*, дваранін Себежскага пав. З *Леапольдам* валодаў маёнткам Рысінкава (Расінкава) Себежскага пав. (577 дзес. зямлі, фруктовы сад, 735 руб. гадавога прыбытку). За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 04.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Пасля частковай ам-

ністыі прыбыў на часовае знаходжанне ў Себежскі пав., дзе ў 1877 г. атрымаў дазвол на сталае жыхарства на радзіме *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—134адв.; 1430—1—36031—3-4; 1430—1—52163—255, 417адв., 568адв., 596, 666адв., 825; 2616—1—40—10адв., 12адв.).*

874. **Бядрыцкі Леапольд** (Бедржицкий Леопольд), сын Юзафа, брат *Ігната*, памешчык. Да паўстання служыў звышштатным лекарам пры Невельскай акрузе дзяржаўных маёмасцяў. З *Ігнатам* валодаў маёнткам Рысінкава (Расінкава) Себежскага пав. (577 дзес. зямлі, фруктовы сад, 735 руб. гадавога прыбытку). Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 04.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на бестэрміновую катаргу ў рудніках *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—8, 9; 1430—1—52163—19, 214адв.-215, 255, 417адв., 437, 568адв., 596, 666, 825; 2616—1—40—10адв., 12).*

875. **Бядрыцкі Людвік** (Бедржицкий Людвиг), сын Траяна, брат Марыі, *Станіслава* і *Уладзіміра*, дваранін Себежскага пав. Яго маці валодала маёнткам Загады Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—8; 1430—1—52163—20, 417адв., 437, 596; 2616—1—40—12).*

876. **Бядрыцкі Станіслаў** (Бедржицкий Станислав), сын Траяна, брат Марыі, *Людвіка* і *Уладзіміра*, дваранін Себежскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Загады Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—8; 1430—1—52163—20, 417адв., 437, 596адв.; 2616—1—40—12адв.).*

877. **Бядрыцкі Уладзімір (Уладзіслаў)** (Бедржицкий Владимир (Владислав)), сын Траяна, брат Марыі, *Людвіка* і *Станіслава*, дваранін Себежскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Загады Себежскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на бестэрміновую катаргу ў рудніках *(319—1—479—5адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—8; 1430—1—52163—417адв., 596; 2616—1—40—12).*

878. **Бядрыцкі Юзаф** (Бедржицкий Иосиф), сын Андрэя (пам. напрыканцы 1855) і Барбары Вінцэнтаўны, брат *Антонія* і чатырох сясцёр, дваранін Рэжыцкага пав. Абвінавачаны ў намаўленні іншых асоб далучацца да паўстання, трапіў пад следства. 31.03.1864 яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Доказаў віны знойдзена не было, аднак рашэннем А. Патапава ад 08.08.1864 прызначаны да аддачы на парукі з усталяваннем паліцэйскага нагляду. Маці 28.04.1866 падала прашэнне на імя ВГГ аб вызваленні ад паліцэйскага нагляду і дазволе яму на выезд у Пскоўскую губ., «бо ён знайшоў сабе там месца», што 27.05.1866 было адхілена *(1430—1—31604—621-622; 1430—1—52163—309-310, 633).*

879. **Бядрыцкі N.** (Бедржицкий N.). Да паўстання служыў доктарам у г. Себежы. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Себежскім (?) пав. Сасланы (да 26.02.1864) на катаргу *(1430—1—31812).*

880. **Бялаблоцкі Леанард** (Бялоблоцкий Леонард). Да паўстання служыў столаначальнікам Сакольскага паліцэйскага ўпраўлення. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

881. **Бялабрэскі Ян** (Бялобржеский Иван), аўстрыйскі падданы. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—9; 319—1—479—4адв.; 534—1—14—4; 1416—4—11416—116; 1430—1—52163—374).*

882. **Бялевіч (Білевіч) Антоні** (Белевич (Биллевич) Антон), дваранін Дрысенскага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у дачыненні да паўстання, арыштаваны, зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». У 1864 г. прыбыў праз г. Ніжні Ноўгарад у ссылку ў Табольскую губ. Жонка выправілася з ім *(319—1—479—5адв.; 1416—4—11416—18, 19-20; 1430—1—31583—153-154; 1430—1—52163—225-226, 403, 526).*

883. **Бялевіч (Білевіч) Базыль** (Белевич (Билевич) Василий), сын Канстанціна і Марыі, брат Філарэта, селянін Кобрынскага пав., каталік. Нар. каля 1842 г. Да паўстання жыў у маёнтку Варацэвічы Кобрынскага пав., служыў лакеем у Напале-

она Орды. 30.04.1863 пакінуў Варацэвічы і з братам выправіўся шукаць іншую службу. Прабыў некалькі дзён у маці ў с. Гарбаха Кобрынскага пав., пасля чаго накіраваўся ў Пінскі пав. Па дарозе западозраны сялянамі ў жаданні далучыцца да паўстанцкага атрада і схоплены. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Рашэннем М. Мураўёва ад 14.03.1864 за тое, што не меў пры сабе пісьмовых дакументаў, і за тое, што ішоў лесам у накірунку, куды за суткі да гэтага прайшоў паўстанцкі атрад, як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да высылкі ў г. Маскву для далейшага размеркавання паводле распараджэння МУС *(295—1—1709; 320—1—398—2адв.)*.

**Бяліна-Беліновіч Казімір** — гл. **Беліновіч Казімір**

**Бяліна-Млахоўскі Апалон** — гл. **Млахоўскі Апалон**

884. **Бялінская Ядвіга** (Бялинская Ядвига), дваранка Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540)*.

885. **Бялінскі Антоні** (Белинский Антон). Служыў станавым прыставам Ашмянскага пав., да паўстання выйшаў у адстаўку. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

886. **Бялінскі Ігнат** (Белинский Игнатий), дваранін. Да паўстання жыў у Барысаўскім пав. у маёнтку N. Стратовіча. Падчас паўстання западозраны ў чытанні сялянам антыўрадавых твораў і арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. 31.06.1831 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1643—8; 296—1—19—7)*.

887. **Бялкоўскі Ігнат** (Бялковский Игнатий), сын Ежы, дваранін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 25.02.1864 ці 24.03.1864 скончыла яго справу і падала магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—1; 3257—2—8—2)*.

888. **Бялунскі N.** (Бялунский N.), мешчанін. Да паўстання валодаў драўляным домам у м. Бутрыманцы Троцкага пав. Паколькі яго сын западозраны ва ўдзеле ў паўстанні Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

889. **Бялыновіч Мікалай** (Бялынович Николай), сын Ігната, дваранін Віцебскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі сялянаў далучыцца да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—6адв.-7; 3046—2—5—4адв.)*.

890. **Бялькевіч Венцаслаў** (Белькевич Венцеслав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Цехановішкі Віленскага пав. Падчас паўстання ў яго доме знойдзена зброя і медыкаменты. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—3адв.; 320—1—398—128адв.; 1416—6—274; 1430—1—52163—603адв.)*.

891. **Бялькевіч Ян** (Белькевич Иван), сын Андрэя, дваранін Слуцкага пав., каталік. За «дзёрзкія выразы супраць Гасудара» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—2)*.

892. **Бяляўскі Браніслаў** (Белявский Бронислав), сын Францішка, дваранін. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам у Навамейскай парафіі Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

893. **Бяляцкі Габрыэль** (Беляцкий Гавриил), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу. Сасланы «адміністрацыйным парадкам» (да 01.04.1864) у Арэнбургскую губ. 29.08.1864 яго рухомая маёмасць у фальв. Дзяцель Горацкага пав. (адзенне і інш.) апісана і потым секвестравана, але з 1867 г. яна падлягала вяртанню ў яго валоданне *(2003—2—76; 2514—1—2198—66адв.; 3257—2—8—2адв.)*.

894. **Бянкевіч Вінцэнт** (Бенкевич Вицентий), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72)*.

895. **Бянковіч Аляксей** (Бенкович Алексей), сваяк *Базыля*, памешчык Мсціслаўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Архангельскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—9адв.)*.

896. **Бянковіч Базыль** (Бенкович Василий), сваяк *Аляксея*, памешчык Мсціслаўскага пав.

За дачыненне да паўстання высланы ў Архангельскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—9адв.)*.

897. **Бянкоўскі Антоні** (Бенковский Антон), сын Яна, дваранін Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1843 г. Разам з *Зяньковічам Базылём*, *Петражыцкім Паўлам*, *Сазановічам Гальяшам*, *Сямашкам Рыгорам* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Чэрыкава. З 10.08.1864 находзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару *(3257—1—17—9адв.-10; 3257—2—8—2адв.)*.

898. **Бярдоўскі Адольф** (Бердовский Адольф), дваранін Лідскага пав. Служыў у рас. войску ў чыне паручніка. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніку на 12 гадоў *(296—1—25—101; 319—1—479—4; 1416—6—280; 1430—1—52163—154)*.

899. **Бярнацкі Павел** (Бернацкий Павел), бацька *Юстына*, дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Станкілішкі Лідскага пав. Западозраны ў дапамозе паўстанцам з прычыны далучэння да паўстанцкага атрада сына. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

900. **Бярнацкі Юстын** (Бернацкий Юстин), сын *Паўла*, дваранін Лідскага пав. Пры праходзе паўстанцкага атрада праз вак. Станкілішкі Лідскага пав. далучыўся да яго (магчыма, гвалтоўна). Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

901. **Бярынскі Юзаф** (Бержинский Осип), аднадворац. Да паўстання жыў у Гертакольскай парафіі Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады *(319—1—479—5; 320—1—398—222адв.)*.

902. **Бяткоўскі Адам** (Бетковский Адам), селянін Гродзенскай губ. Нар. каля 1835 г., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны 24.01.1863 рас. жаўнерамі ў в. Рагачы. Паводле рашэння ПВС пры фартэцыі ў г. Брэсце, канфірмаванага М. Мураўёвым 03.11.1863, прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1643—15; 320—1—398—96)*.

# В

903. **Вага Казімір** (Вага Казимир), дваранін Ваўкавыскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Да паўстання арандаваў у памешчыцы N. Гіндзіус мызу Лубянка Ваўкавыскага пав. За ўдзел у паўстанні аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 08.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—7; 320—1—398—125; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—289; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—601)*.

904. **Вагер Вінцэнт** (Вагер Винцуг). Да паўстання жыў у маёнтку Казімірава Ашмянскага пав. У 1863 г. у следчай камісіі даваў паказанні па справе *Руткоўскага Казіміра*, *Сяліцкага Міхала* і *Чэўжыка Антонія*. Прызнаны вінаватым у «няясных і блытаных паказаннях па гэтай справе». Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

905. **Вагнэр Караль** (Вагнер Карл), сын Язафата, дваранін Слуцкага пав., евангелісцкага веравызнання. Западозраны ў спачуванні паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прызначаны да вызвалення *(295—1—1643—34адв.; 1524—1—1—2адв.)*.

906. **Важынская Ганна** (Важинская Анна), жонка *Яна*, маці *Апалона* і *Фларэнціны*, памешчыца. Разам з мужам абвінавачана рас. уладамі ў дапамозе паўстанцам. З 20.08.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, Падчас следства жыла ў Сенненскім пав. пад паглядам паліцыі. 05.09.1864 следства яшчэ не скончана *(3257—1—14—2адв.-3; 3257—1—17—2адв.-3)*.

907. **Важынская Фларэнціна** (Важинская Флорентина), дачка *Яна* і *Ганны*, сястра *Апалона*, дваранка Сенненскага пав. Да паўстання яе бацькі валодалі маёнткамі Янава і Лаўрэнавічы Сенненскага пав. Западозрана рас. уладамі ў распаўсюджванні паўстанцкіх праклямацый і «заганнай размове супраць Ураду». Трапіла разам з бацькамі пад следства ў МагСК, падчас якога знаходзілася ў Сенненскім пав. пад наглядам паліцыі. У 1864 г. пры-

суджана, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. На маёнткі яе бацькоў у 1864 г. накладзена забарона *(2003—1—372—357-361адв., 363; 2514—1—2198—67; 3257—1—14—2адв.-3).*

908. **Важынскі Аляксандр** (Важинский Александр), дваранін Магілёўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—8; 1430—1—52163—182адв.).*

909. **Важынскі Апалон** (Важинский Аппо-лон), сын *Яна* і *Ганны*, брат *Фларэнціны*, дваранін Сенненскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткамі Янава і Лаўрэнавічы Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». На маёнткі бацькоў у 1864 г. накладзена забарона *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—8; 2003—1—372—357-361адв., 363; 3257—2—2—5адв.).*

910. **Важынскі Мікалай** (Важинский Николай), сын Аляксандра, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—6).*

911. **Важынскі Ян** (Важинский Иван), муж *Ганны*, бацька *Апалона* і *Фларэнціны*, памешчык. Разам з жонкай абвінавачаны рас. уладамі ў дапамозе паўстанцам. З 20.08.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК, падчас чаго жыў у Сенненскім пав. пад паглядам паліцыі. 05.09.1864 следства яшчэ не скончана *(3257—1—14—2адв.-3; 3257—1—17—2адв.-3).*

912. **Ваінскі Юзаф** (Воинский Иосиф), шляхціц Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, паранены, 01.–02.1863 узяты ў палон у адной з сутычак. Паводле рашэння ПВС пры фартэцыі ў г. Брэсце, канфірмаванага М. Мураўёвым 03.11.1863, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1643—31адв.; 319—1—479—7; 320—1—398—96, 224адв.; 320—2—98—31адв.).*

913. **Вайдэцкі Казімір** (Войдецкий Казимир), аднадворац Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

914. **Вайніконіс Станіслаў** (Войниконис Станислав), дваранін Марыямпольскага пав. Аўгустоўскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да высылкі з радзімы без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—152).*

915. **Вайніловіч Адам** (Войнилович Адам), сын Андрэя, дваранін Слуцкага пав., каталік. За знаходжанне паўстанцкага атрада ў яго двары, забеспячэнне яго харчаваннем і коньмі арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прызначаны да вызвалення і зняцця секвестру з маёмасці *(295—1—1643—31адв., 34; 320—1—398—2; 1524—1—1—2адв.).*

916. **Вайніловіч Аляксей** (Войнилович Алексей), дваранін Магілёўскага пав. Яго бацька валодаў 3 валокамі зямлі ў Магілёўскім пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—8; 320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2616—1—40—14адв.; 3257—2—2—5).*

917. **Вайніловіч Канстанцін** (Войнилович Константин), дваранін. Падчас паўстання правёў атрад паўстанцаў, за што арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прысуджаны да штрафу ў 200 руб. *(295—1—1643—27).*

918. **Вайніловіч Лукаш** (Войнилович Лука), сын Францішка, муж Настассі, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў маёнткам Старое Палессе Магілёўскага пав. (59 дзес. 1200 саж. зямлі, хата з гаспадарчымі пабудовамі, 24 руб. гадавога прыбытку, 12 руб. доўгу). Западозраны ў дачыненні да паўстання арыштаваны. Старое Палессе 16.09.1863 секвестравана, але пакінута ў распараджэнні жонкі. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, меў дачыненне да справы *Макавецкага Міхала*. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 22.08.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. Старое Палессе канфіскавана і перададзена ў арэнду аднадворцу Драбышэўскаму. Жонка 30.01.1868 падала прашэнне пражыць у маёнтку да вясны 1868 г. *(319—1—479—8; 1416—4—11416—88адв., 125; 1430—1—52163—526адв.; 2001—2—171—20адв.-21; 2003—2—19—17-17адв.; 2003—2—45—10-13; 3257—2—2—5).*

919. **Вайніловіч Мечыслаў** (Войнилович Мечислав), сваяк *Фларыяна*, памешчык Навагрудскага пав. Да паўстання адстаўны штабс-ротмістр. Падчас

паўстання належаў да «таемнай рэвалюцыйнай арганізацыі па Навагрудскім павеце». За гэта, а таксама за забеспячэнне паўстанцаў коньмі і харчаваннем арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да «вытрымання ў крэпасцях і турмах» са спагненнем узмоцненага 10-працэнтнага збору з яго маёмасці (без яе канфіскацыі). У Навагрудскім пав. яго маёмасці знойдзена не было *(162—1—122—11; 295—1—1643—26адв.; 320—1—398—679; 1416—3—21057).*

920. **Вайніловіч Стэфанія** (Войнилович Стефания), дачка Ігната, памешчыца Навагрудскага пав., жонка адстаўнога штабс-ротмістра. Падчас паўстання арыштавана за хаванне ў сваім доме *Міладоўскага Вітальда* і *Кашыца Канстанціна.* У 1863 г. аддадзена пад ПВС, рашэннем якога прысуджана да 6-месячнага арышту ў фартэцыі ў г. Бабруйску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуд зменены на высылку з радзімы без канфіскацыі маёмасці. Саслана пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ., яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу. Пасля амністыі вярнулася на радзіму, 03.1882 жыла ва ўласным маёнтку Хрольчыцы Навагрудскага пав. *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 295—1—1643—27адв.; 295—1—3492—41; 320—1—398—679; 2532—1—15—14).*

921. **Вайніловіч Фларыян** (Войнилович Флориан), сын Юзафа, сваяк *Мечыслава*, памешчык. За забеспячэнне паўстанцаў коньмі і харчаваннем арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. На яго маёнткі Барышына (Барошын) і Касцюкі Навагрудскага пав. накладзена забарона *(295—1—1643—26адв.; 299—1—577—518-543).*

922. **Вайніловіч Юзаф** (Войнилович Иосиф), сын Ксаверыя, дваранін Слуцкага пав., каталік. Да паўстання жыў у маёнтку Макраны Слуцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да ссылкі ў Кастрамскую губ. пад нагляд паліцыі і канфіскацыі маёмасці. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(162—1—116—103, 166; 295—1—1643—32адв., 34, 38адв.; 320—1—398—2; 1430—1—35146—74адв.; 1524—1—1—2адв.; 1527—1—4—59).*

923. **Вайніловіч Ян** (Войнилович Иван), дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да «вытрымання ў крэпасцях і турмах» без канфіскацыі маёмасці *(162—1—122—11; 320—1—398—679).*

924. **Вайнэвуш Фелікс** (Войнеуш Феликс), ксёндз. Да паўстання служыў у Гродзенскім пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы вароннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

925. **Вайткевіч Ежы** (Войткевич Егор), сын Ігната, дваранін Ковенскай губ., каталік. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання служыў земскім спраўнікам у Рэжыцкім пав. Падчас паўстання абвінавачаны ў «праследаванні сялянаў за заснаванне імі сельскіх вартаў з мэтай садзейнічаць гэтым злачынным задумам мяцежнікаў» і «непрыманні па сваіх абавязках энергічных захадаў да спынення непарадкаў, што ўзніклі ў павеце». Звольнены са службы. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая не знайшла доказаў віны і 09.09.1863 (?) скончыла яго справу. Ваенным начальнікам яго справа Рэжыцкага пав. пададзена (да 01.08.1864) ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Рашэннем А. Патапава ад 08.08.1864 яму забаронена паступаць на дзяржаўную службу ў паліцыю і адміністрацыю *(1430—1—52163—309-310, 633адв.; 3046—2—5—7адв.).*

926. **Вайткевіч Каспер** (Войткевич Гаспар), ксёндз. Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Райполь Люцынскага пав. (гл. *Грыцэвіч Каспер*). За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.09.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 20 гадоў, нягледзячы на тое што сяляне Нерзенскай грамады падавалі паруку за яго. Сасланы ў Іркуцкую губ. Пасля частковай амністыі ў 1874 г. пераселены пад нагляд паліцыі ў Екацерынаслаўскую губ. Памёр 28.03.1876 *(319—1—479—7адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—15адв.; 1430—1—35976—30-32; 1430—1—52163—420, 596адв.; 2601—1—2—202-203; 2616—1—40—12адв.; 2514—1—2198—28).*

927. **Вайткевіч Людвік** (Войткевич Людовик), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 08.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 30.09.1863 яна пададзена М. Мураўёву *(3366—1—5—3).*

928. **Вайткевіч Фелікс** (Войткевич Феликс). Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. Удзел у паўстанні невядомы. У 1873 г. жыў у г. Ніжнім Ноўгарадзе, атрымаў права на

пражыванне ў сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(295—1—2411; 1430—1—35458—8-9)*.

929. **Вайткевіч Францішак** (Войткевич Франц). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Бутвілы Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

930. **Вайткевіч Юзаф** (Войткевич Иосиф), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

931. **Вайткевіч Юзаф** (Войткевич Иосиф), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(534—1—14—5; 1430—1—52163—375)*.

932. **Вайткевіч Юзаф** (Войткевич Иосиф), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

933. **Вайткевіч Юльян** (Войткевич Юлиан), селянін Ковенскай губ. За «намову ніжніх чыноў Лейб-гвардыі Паўлаўскага палка перадацца на бок мяцежнікаў» сасланы шарагоўцам у Арэнбургскі корпус рас. войска. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—124)*.

934. **Вайткевіч Юстын** (Войткевич Устин), сын Казіміра, дваранін Невельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі А. Патапава ад 19.04.1865 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання», яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—256)*.

935. **Вайткевіч Ян** (Войткевич Иван), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—7; 1430—1—52163—205)*.

936. **Вайткевіч Ян** (Войткевич Иван), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам у Корвенскім касцёле. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.)*.

937. **Вайткевіч Ян** (Войткевич Ян), сын Вінцэнта, дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1843 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Аддадзены пад ПВС у г. Мінску, прысуджаны (да 19.10.1863) да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў і канфіскацыі маёмасці. Увесну 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(162—1—116—103, 166; 295—1—1527—104адв.; 295—1—1643—25, 30; 295—1—3040—18-19; 1430—1—52163—150адв.)*.

**Вайцяховіч Ігнат** — гл. **Вайцяхоўскі Ігнат**

938. **Вайцяхоўская Багуміла** (Войцеховская Богумила), дачка Вінцэнта, сваячка *Пятра*, дваранка Аршанскага пав., каталічка. Падчас паўстання западозрана рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі. 30.06.1863 на яе маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Знаходзілася пад следствам у АСК, якая 18.09.1863 падала яе справу віцебскаму каменданту. Была пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. З 1867 г. яе маёмасць падлягала вяртанню ў яе валоданне *(1416—3—21048—15адв.; 1430—1—52163—394; 2514—1—2198—67; 3046—2—3—15адв.-16; 3255—1—14—1адв.)*.

939. **Вайцяхоўская Юстына** (Войцеховская Устинья), дваранка. За «палітычнае злачынства» яе маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—67)*.

940. **Вайцяхоўскі Адам** (Войцеховский Адам), сын Міхала Ежавіча, дваранін Мінскага ці Слуцкага пав. Хр. 30.04.1844. Да паўстання вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, жыў у г. Мінску. Уваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі». 29.12.1863 арыштаваны, а ў яго кватэры праведзены вобшук. 29.12.1863 адпраўлены з Мінска да віленскага каменданта пад вартай двух жандармаў, 31.12.1863 прыбыў у г. Вільню. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1570; 295—1—1643—39адв.; 299—1—579—165-177; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—462адв., 474адв., 493; 320—2—98—32; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.)*.

941. **Вайцяхоўскі Ануфры** (Войцеховский Онуфрий), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці

і ссылкі на катаргу *(319—1—479—6; 320—1—398—128; 1416—3—21048—16; 1430—1—52163—603).*

942. **Вайцяхоўскі Ігнат** (Войцеховский Игнатий). Паходзіў з Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

943. **Вайцяхоўскі (Вайцяховіч) Ігнат** (Войцеховский (Войцехович) Игнатий), сын Юзафа, аднадворац Клімавіцкага пав., каталік. Нар. каля 1808 г. 22.04.1863 пакінуў месца жыхарства і, узброены стрэльбай, прыбыў у маёнтак Ярошаўка Клімавіцкага пав. і ўвайшоў у склад невялікага атрада, які фарміраваў *Арцімовіч Міхал*. 23.04.1863 з Ярошаўкі разам з атрадам накіраваўся ў м. Гарбатка Чэрыкаўскага пав., аднак па дарозе разам з *Арцішэвічам Дамінікам* пакінуў атрад і вярнуўся на месца жыхарства. 02.05.1863 арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 01.03.1863 накіравала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1863 прысуджаны да ссылкі ў арыштанцкія роты. З прычыны старасці, як няздольнаму да прац, пакаранне заменена на ссылку на пасяленне ў Томскую губ. з сям'ёй. Яго маёмасць падлягала продажу, але ў Клімавіцкім і Чэрыкаўскім (в. Доўгі Лог) пав. яе знойдзена не было *(2003—1—426; 3256—2—14; 3257—2—2—5адв.; 3366—1—5—3адв.).*

944. **Вайцяхоўскі Каятан-Вінцэнт** (Войцеховский Каетан Викентий). Служыў суддзёй Мінскага павятовага суда, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. ці ў г. Уфу Арэнбургскай губ. *(295—1—1643—30адв.; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

945. **Вайцяхоўскі Людвік** (Войцеховский Людвиг), сын Міхала ці Ігната, дваранін. Да паўстання служыў канцылярыстам у Новааляксандраўскім павятовым казначэйстве, яго бацькі валодалі маёнткам Хайсціцына (Хаетшчына) Суражскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. На маёнтак бацькоў накладзены секвестр на падставе ўказа ВГП ад 12.06.1863, а потым забарона *(295—1—1643—32; 319—1—479—6адв.; 320—1—398—133; 1416—3—21048—15, 16; 1416—6—281; 1430—1—52163—34, 426, 439, 600).*

946. **Вайцяхоўскі Міхал** (Войцеховский Михаил), сын Францішка, дваранін Себежскага пав. За ўдзел у паўстанні на яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—7адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—15адв., 16адв.; 1430—1—52163—417, 596; 2616—1—40—12).*

947. **Вайцяхоўскі Пётр** (Войцеховский Петр), сын Вінцэнта, сваяк *Багумілы*, дваранін Аршанскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—17адв.-16).*

948. **Вайцяхоўскі Пётр** (Войцеховский Петр). Паходзіў з Троцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

949. **Вайцяхоўскі Францішак** (Войцеховский Франц), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у в. Кавелішкі (Карвелішкі) Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—6; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

950. **Вайцяхоўскі Францішак** (Войцеховский Францишек), сын Станіслава, селянін. Да паўстання жыў у в. Чыканава Седлецкага пав. Люблінскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

951. **Вайцяхоўскі Ян** (Войцеховский Иван), сын Вінцэнта, дваранін Віцебскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 18.09.1863 падала яго справу віцебскаму каменданту. 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. З 1867 г. яго маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—15адв.; 1430—1—52163—394; 2514—1—2198—67; 3255—1—14—1адв.).*

952. **Вайцяхоўскі N.** (Войцеховский N.), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да

пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—6; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

953. **Вайчуліс N.** (Войчулис N.). Да паўстання жыў у Цельшаўскім (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. На следстве даваў паказанні, што *Працішэўскі Станіслаў* хаваў яго ў сваім маёнтку, даў грошай і прапанаваў схавацца ў Прусіі ад рас. уладаў, аднак потым адмовіўся ад сваіх паказанняў *(1416—4—11416—281)*.

954. **Вайшвіла Зянон** (Войшвило Зенон), сын Юзафа. Да паўстання служыў кандыдатам міравога пасярэдніка 6 участка Цельшаўскага пав., валодаў маёнткам Гумань Цельшаўскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ. *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

955. **Вайшвіла Іпаліт** (Войшвилло Иполит), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пермскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2)*.

956. **Вайшвіла Напалеон** (Войшвилло Наполеон), сын Феліцыяна. Да паўстання служыў канцылярыстам КГП. Абвінавачаны ў сувязях з «Ковенскім рэвалюцыйным камітэтам», арыштаваны. Паводле канфірмацыі А. Патапава, 07.1865 вызвалены з-пад арышту, вернуты на месца жыхарства пад парукі з забаронай пастурапаць на дзяржаўную службу на радзіме *(160—2—682—144; 534—1—14—53)*.

957. **Вайшвіла Станіслаў** (Войшвилло Станислав), шляхціц Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 11.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(319—1—479—6адв.; 1430—1—52163—166; 1430—1—52758—6)*.

958. **Вайшвіла Фелікс** (Войшвилло Феликс), сын Караля, дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

959. **Вайшвіла Эдвард** (Войшвилло Эдвард), дваранін Троцкага пав. Да паўстання жыў у засц. Бенкарты Віленскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 13.06.1863). Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 19.06.1863 і 27.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 05.07.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВілСК. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. У 1871 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—6—262; 1416—6—274; 1430—1—35146—86; 1430—1—52163—150)*.

960. **Вайшвіла Ян** (Войшвилло Иван), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21адв.; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.)*.

961. **Вайшыцкі (Вайжыцкі) Вінцэнт** (Войшицкий (Войжицкий) Викентий), сын Валянціна, дваранін Валынскай губ. Падчас паўстання зрабіў спробу далучыцца да паўстанцкага атрада. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, дзе меў дачыненне да справы *Гедройця-Юрагі Цыпрыяна* і *Геніуша Баляслава*. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(320—1—398—223; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—5, 8)*.

962. **Вайшыцкі Ігнат** (Войшицкий Игнатий), дваранін Валынскай губ. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 08.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 15.09.1863 яна накіравана ў МагВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67; 3366—1—5—2)*.

963. **Ваксэр Шмуйла** (Ваксер Шмуйло), яўрэй, мешчанін Оўруцкага пав. За «захоўванне ў сябе дома папер рэвалюцыйнага зместу і ўпартасць у адкрыцці, дзе менавіта ўзяў і каму належаць», а таксама за падазрэнне ў дастаўцы паўстанцам харчавання і адзення і выраб для іх у в. Мядзведзіна патранташаў арыштаваны. Аддадзены пад ПВС пры Бабруйскім арданансгаўзе, падчас якога зняволены ў фартэцыі г. Бабруйска *(295—1—1643—27; 299—2—6399—19адв.-21; 299—2—6400—28адв.-29)*.

964. **Вакулевіч Леапольд** (Вакулевич Леопольд), сын Стэфана, дваранін. Да паўстання жыў у фальв. Бобр Сенненскага пав. Западозраны СенСК у дачыненні да паўстання. Яго рухомая маёмасць у фальв. Бобр (2 кані, мэбля, посуд і сані) на суму

ў 47,5 руб. ср. 31.08.1863 апісана, секвестравана і перададзена ў кіраванне ПДМ *(2003—1—394)*.

965. **Валадкевіч (Валадковіч) Калікст** (Володкевич (Володкович) Каликст), памешчык Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—8)*.

966. **Валадкевіч Міхал** (Володкевич Михаил). Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскага павятовага суда. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9)*.

967. **Валадкевіч Юзаф** (Володкевич Иосиф). Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскага павятовага суда. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9)*.

968. **Валадковіч Казімір** (Володкович Казимир), памешчык. Да паўстання яго бацька валодаў 1030 дзес. зямлі ў Вілейскім пав. Západoзраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

**Валадковіч Калікст** — гл. **Валадкевіч Калікст**

969. **Валадковіч Юзаф** (Володкович Иосиф), сын Вінцэнта, муж Зоф'і Міхалаўны, памешчык, каталік. Нар. каля 1803 г. Да паўстання валодаў маёнткам Смалянцы Лепельскага пав., у яго на выхаванні знаходзіўся *Аленскі Эдвард*. Западозраны ў пастаўцы харчавання паўстанцам у маёнтак Людчыцы Лепельскага пав. *Гарноўскага Каятана*, арыштаваны. Утрымліваўся ў г. Лепелі, дзе 04.02.1864 даваў паказанні. У хуткім часе пасля гэтага вызвалены на парукі *(1430—1—31520)*.

970. **Валасевіч Оттан** (Волосевич Оттон), дваранін Магілёўскай губ. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй кіеўскага, падольскага і валынскага генерал-губернатара прысуджаны (да 17.08.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры *(2003—1—434—2)*.

971. **Валатовіч (Валутас) Людвік** (Волотович (Волутас) Людвиг), сын жаўнера-селяніна. Нар. каля 1850 г. Да паўстання вучыўся ў Ковенскай гімназіі, знаходзіўся ў апецы сям'і былога (на момант паўстання ўжо памёр) станавога прыстава Біліны-Пастэрнака. 16.10.1863 выключаны з гімназіі за «дрэнныя паводзіны». 17.10.1863 уцёк з г. Коўны з трыма іншымі гімназістамі з намерам далучыцца да паўстанцкага атрада, але ў гэты ж дзень увечары вярнуўся ў горад. Сям'я Біліны-Пастэрнака адмовілася прымаць яго зноў пад сваю апеку, у сувязі з чым распараджэннем М. Мураўёва ад 02.11.1863 прызначаны да ссылкі ў Магілёўскую губ. для «навучання якому-небудзь майстэрству». 18.11.1863 высланы з Коўна, 22.01.1864 прыбыў у Магілёўскую губ. Паселены ў г. Клімавічы, дзе 23.03.1864 з шаўцом Янам Андрэевічам Кісялёвым заключана дамова на яго ўтрыманне і выхаванне на працягу 5 гадоў. Апякун аказаўся няпільным і кінуў яго на волю лёсу, выехаўшы ў г. Кіеў на заробкі, у сувязі з чым у 1865 г. перададзены пад апеку клімавіцкага шаўца Мікалая Андрэева *(2001—1—898—36-48, 86)*.

972. **Валевіч Аляксандр** (Волевич Александр), дваранін. Да паўстання быў аптэкарам у г. Слоніме. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

**Валейка Зыгмунт** — гл. **Вілейка Зыгмунт**

973. **Валейка Казімір** (Валейко Казимир), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.)*.

974. **Валентыновіч Адольф** (Валентынович Адольф). Да паўстання служыў чыноўнікам ВілГП. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

975. **Валентыновіч Антоні** (Валентинович Антон), аднадворац Віленскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—6адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

976. **Валентыновіч Мацей** (Валентинович Матвей), шляхціц Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—6адв.; 1430—1—52163—181)*.

977. **Валіцкая Людвіка** (Валицкая Людвика), пляменніца памешчыка Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

978. **Валіцкая Эмілія** (Валицкая Эмилия), жонка *Ігната*, маці *Ігната*, памешчыца Барысаўскага пав. За дачыненне да паўстання яе сына і мужа ў 1863 г. аддадзена пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі з мужам на жыхарства ў Пензенскую губ.; на яе маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166; 295—1—1643—29; 1430—1—52285—30)*.

979. **Валіцкі Адольф** (Валицкий Адольф), дваранін Мінскага (?) пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму звольнены з забаронай паступаць на службу на радзіме. На яго маёмасць накладаўся секвестр, які здымаўся ў 1867 г. *(162—1—122—41; 2514—1—2198—67)*.

980. **Валіцкі Адольф** (Валицкий Адольф), сын Бенядыкта Міхалавіча, дваранін Барысаўскага пав. Хр. 06.05.1832. Разам з *Крукоўскім Мікалаем* знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў дачыненне *Асяцімскі Альфонс*. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 22.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—85; 319—1—479—7; 320—1—398—321-323, 325, 375; 320—2—98—31адв.; 1430—1—52163—167; 2001—2—14—9; 3257—2—2—5)*.

981. **Валіцкі Аляксандр** (Валицкий Александр), сын Даніэля, брат Мацільды (гл. *Святляк Ксаверы*), памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання валодаў маёнткам Сукневічы Барысаўскага пав. (1001 дзес. зямлі з 69 муж. душамі, 2000 руб. гадавога прыбытку), ацэненым у 25 тыс. руб. Удзельнічаў у паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці распараджэннем М. Мураўёва ад 19.11.1863. МГП 10.12.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. Маёнтак Сукневічы канфіскаваны *(162—1—116—10; 295—1—1509—1адв.; 296—1—25—57-59; 299—1—577—550-554; 320—2—99—28; 1416—1—247)*.

982. **Валіцкі Аляксандр** (Валицкий Александр), дваранін. Да паўстання з'яўляўся прадаўцом кніг у Мінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», за што ў яго краме праведзены вобшук. Без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. *(295—1—1643—27адв., 35адв.; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21)*.

983. **Валіцкі Віктар** (Валицкий Виктор), сын Тадэвуша, дваранін Ігуменскага пав. Падчас паўстання арыштаваны за намер далучыцца да выступлення, аддадзены (да 19.10.1863) пад ПВС у г. Мінску, прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў; на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. Пасля амністыі пасяліўся ў Сувалкаўскай губ. 22.04.1876 атрымаў пашпарт на вяртанне ў Мінскую губ. *(162—1—116—103, 166; 295—1—1643—24адв., 28адв.; 295—1—3040—5-6, 8; 1430—1—52163—150)*.

984. **Валіцкі Густаў** (Валицкий Густав), сын Ігната, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1838 г. 04.1863 далучыўся да атрада паўстанцаў, праз некалькі дзён схоплены. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства. На маёнтак яго бацькі Заельнік Барысаўскага пав. накладаўся секвестр. Памёр 29.07.1863 у мінскім ваенным шпіталі, пахаваны на шпітальных могілках *(295—1—1509; 295—1—1643—25адв.; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—124адв., 234адв., 268, 423адв.; 320—2—98—31адв.; 1430—1—52163—596б адв.)*.

985. **Валіцкі Ігнат** (Валицкий Игнатий), бацька *Ігната*, памешчык. Абвінавачаны ў агітацыі сярод сялянаў на карысць паўстанцаў. За гэта, а таксама за далучэнне да паўстанцкага атрада яго сына *Ігната* зняволены 06.1863 у гарадской турме ў г. Мінску і аддадзены пад ПВС *(296—1—90—3адв.-4)*.

986. **Валіцкі Ігнат** (Валицкий Игнатий), сын *Ігната*, муж *Эміліі*, бацька Юзафа, Марыі, Адольфы і Стэфаніі, памешчык Барысаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы паўстання, 14.02.1863 арыштаваны ў маёнтку Заельнік Барысаўскага пав., якім ён валодаў на правах суспадчынніка, і 15.02.1863 дастаўлены ў г. Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у Мінску. Прысуджаны да ссылкі з жонкай на жыхарства ў Пензенскую губ. Заельнік (109 дзес. зямлі, 160 руб. гадавога прыбытку, ацэнены ў 2000 руб.) секвестраваны паводле ўказа МГП ад 29.06.1863, а потым палова яго канфіскавана *(295—1—1527—2адв.; 23адв.; 296—1—89—45; 320—2—99—29)*.

987. **Валіцкі Леапольд** (Валицкий Леопольд), памешчык Гродзенскай губ. Да паўстання з'яўляўся кандыдатам гродзенскага губернскага маршалка. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—30адв., 33адв.; 319—1—479—7; 320—1—398—224адв.).*

988. **Валіцкі Людвік** (Валицкий Людвиг). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам Мінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

989. **Валіцкі Цыпрыян** (Валицкий Киприян), аднадворац Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—6; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

990. **Валіцкі Юзаф** (Валицкий Иосиф), сын Альфонса Юзафавіча, памешчык. Нар. 19.12.1841, хр. у 1842 г. у Харкаўскім касцёле. Да паўстання валодаў маёнткам Гудзішкі Новааляксандраўскага пав., вучыўся ва ўніверсітэце. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Пастановай ваеннага суда, заснаванага пры Віленскім арданансгаўзе, у 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Потым у ссылцы пераведзены на пасяленне. У 1870 г. ажаніўся з Лізаветай Пятроўнай Кочкінай. У шлюбе нарадзіліся сыны: Міхал (нар. 23.05.1878), Мікалай (нар. 01.12.1880) і Вячаслаў (нар. 01.03.1884, 18.05.1907 у яго з жонкай Наталляй Мікалаеўнай Лялінай (шлюб 08.01.1906) нарадзіўся сын Мікалай). Пасля выдання маніфеста ад 15.05.1883 атрымаў ад Іркуцкага губернскага праўлення пасведчанне аб вернутых правах дваранства. У 1912 г. жыў у г. Іркуцку, служыў справаводам пазямельнаўладкавальнага атрада. 02.12.1912 падаў у Мінскі ДДС прашэнне аб далучэнні да роду сыноў і ўнука, якое 19.12.1912 было адхілена *(319—1—479—6адв.; 319—2—408—385-394; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.).*

991. **Валовіч Геранім** (Волович Иероним), сын Яна, памешчык. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. Да паўстання жыў у маёнтку Целяханы Пінскага пав. Западозраны ва ўдзеле ў павешанні ў Пінскім пав. дзячка Святавольскай царквы Фёдара Юзафовіча і арыштаваны. 24.01.1864 перавезены з Пінскага пав. у г. Навагрудак. Аддадзены пад ПВС пры Серпухаўскім пяхотным палку. Падазрэнне не пацвердзілася, аднак канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 07.05.1864 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання». 27.05.1864 адпраўлены з Навагрудка ў г. Мінск для далейшай перасылкі ў «аддалены павет» Ніжагародскай губ. на сталае жыхарства за яго кошт. Яго маёмасць на падставе ўказаў МГП ад 09.09.1863 і 06.07.1864 падлягала секвестру. Секвестравана яго рухомая маёмасць на 228,5 руб. *(299—1—579—341-345; 319—1—479—6; 320—1—398—2; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—125, 199адв.; 1521—1—9).*

992. **Валовіч Густаў** (Волович Густаф), памешчык Ашмянскага пав. Да паўстання вучыўся ва ўніверсітэце, валодаў маёнткам Гярманішкі Ашмянскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Гярманішкі падлягалі канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—6адв.; 320—1—398—197, 221адв.).*

993. **Валовіч Ян** (Воллович Ян), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—6адв.).*

994. **Валовіч N.** (Волович N.), ксёндз. Да паўстання служыў у м. Пляскі Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

995. **Валодзька Андрэй (Адрыян)** (Володзько Андрей (Адрыян)), сын Эдварда, дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе. 02.11.1863 добраахвотна з'явіўся да ваеннага начальніка Мінскага пав., арыштаваны. Зняволены ў пабернардынскім будынку *(295—1—1643—32адв.; 296—1—77).*

996. **Валодзька Баляслаў** (Володзько Болеслав), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў зямлёй у вак. Янкуны Расіенскага (?) пав., за якую судзіўся з Прыалгоўскім. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

997. **Валодзька Валяр'ян** (Володзько Валериан), сын Юльяна, брат *Уладзіслава*, сваяк *Эліядора*, памешчык Мінскага пав. Хр. 20.10.1832. Удзельнічаў у паўстанні, за што падлягаў арышту паводле распараджэння В. Забалоцкага ад 29.11.1863. Маёнтак Рубяжэвічы Мінскага пав., якім ён валодаў на правах суспадчынніка, секвестраваны паводле

патрабавання ваеннага начальніка Мінскага пав. ад 22.12.1863. Пасля паўстання знаходзіўся «ў невядомай адлучцы» *(295—1—1643—32адв., 37адв.; 296—1—89—7адв., 68, 85; 299—1—577—338-339адв.; 319—2—542; 320—1—398—157; 1527—1—4—110).*

998. **Валодзька Уладзіслаў** (Володзько Владислав), сын Юльяна, брат *Валяр'яна*, сваяк *Эліядора*, дваранін Мінскага пав. Хр. 14.04.1834. Служыў у артылерыі рас. войскаў, быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3-й ступені і бронзавым медалём на памяць пра вайну 1853–1856 гг., выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. У канцы сакавіка ці пачатку красавіка 1863 г. прыбыў у г. Мінск, дзе ад мінскага ваяводы атрымаў мандат на фарміраванне атрада ў Навагрудскім пав. Выехаў у Навагрудскі пав., дзе сфарміраваў атрад, якім камандаваў пад псеўданімам Янка Каваль. Потым перадаў камандаванне *Міладоўскаму Вітальду*. Пасля разбіцця атрада 27.05.1863 прыбыў у маёнтак Бабоўня Слуцкага пав. Пасля арыштаваны, зняволены ў мінскай турме, знаходзіўся пад следствам у МСК. На следстве сцвярджаў, што прыбыў у Бабоўню напрыканцы красавіка на службу аканомам, аднак хутка МСК даведалася пра яго дзейнасць. Канфірмацыяй А. Патапава ад 17.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўзнагарод, правоў стану і ссылкі ў Сібір на катаргу на 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. 09.01.1874 атрымаў амністыю і вярнуўся на радзіму. У 1877 г. дамогся вяртання правоў дваранства *(162—1—116—152, 166адв.; 295—1—1643—32адв., 36, 37адв.; 296—1—25—72адв.; 296—1—106; 319—1—479—7адв.; 319—2—542—326, 331-333, 351-353 і інш.; 320—1—398—157; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.).*

999. **Валодзька Эліядор** (Володзько Элиодор), сын Каятана і Зузаны Чапскай, сваяк *Валяр'яна* і *Уладзіслава*, дваранін Мінскай губ. Нар. 13.05.1832 у м. Колкі Луцкага пав., дзе працаваў яго бацька, хр. 15.06.1832 у Колкаўскім касцёле. Рана страціў бацьку, у 1843 г. знаходзіўся з братамі пад апекай роднага дзядзькі Каспера Якубавіча Жэльветра, у 1846 г. жыў у г. Роўна. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд, канфірмаваны Вількамірскім ваенна-павятовым начальнікам, прыведзены ў выкананне ў г. Вількаміры *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—2—542; 320—1—398—198, 199-203; 320—2—98—31адв.; 1430—1—52163—126).*

1000. **Валодзька Юльян** (Володзько Юльян), аднадворац. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго драўляны дом у г. Навагрудку 31.12.1864 секвестраваны. Пасля паўстання знаходзіўся «ў невядомай адлучцы» *(162—1—116—166адв.; 296—1—89—74, 85).* Магчыма, ідэнтычны з Ю. В., сынам Людвіка і Караліны Нацевіч, хр. у 1835 г. у касцёле м. Мір Навагрудскага пав., арыштаваным у 1895 г. у Арэнбургскай губ. за бадзяжніцтва, які называўся Дабравольскім, аднак у 1896 г. адкрыў сваё імя і паходжанне *(319—2—542—450-452).*

**Валутас Людвік** — гл. **Валатовіч Людвік**

1001. **дэ Вальдэн Віктар** (де Вальден Виктор), сын Ануфрыя, брат *Сільвестра*, сваяк *Эдварда*, муж Стэфаніі, памешчык, каталік. Да паўстання разам з братам і сваяком валодаў маёнткамі Бісмуйжа і Сарыеўшчына Люцынскага пав. 08.1862–10.1863 жыў у г. Віцебску. За дачыненне да паўстання брата арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. 24.01.1864 адпраўлены з Люцынскага пав. у г. Дынабург. Пастановай ЧПА ад 27.06.1864, канфірмаванай А. Патапавым 07.08.1864, як «цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да ссылкі на сталае жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. 22.08.1864 знаходзіўся ў зняволенні ў Дынабургскай фартэцыі, 09.1863 прыбыў на месца ссылкі. На яго маёмасць 07.03.1864 на падставе патрабавання ваеннага начальніка Віцебскай губ. накладзены секвестр. Паводле распараджэння Патапава ад 10.01.1865, распараджэння віцебскага губернатара ад 19.01.1865 і ўказа ВГП ад 18.02.1865 секвестр здымаўся са спагнаннем ўзмоцненага 20-працэнтнага і дадаткова 10-працэнтнага збораў. З Бісмуйжы належала выплаціць 20-працэнтны збор і яшчэ 43,18 руб. З Сарыеўшчыны 03.1865 спагнана 42,52 руб. У ссылцы падаваў прашэнне аб выдачы часткі даходаў з маёнткаў на ўтрыманне. 01–02.1865 атрымліваў па 0,15 руб. у суткі і 1,5 руб. на месяц на наём кватэры, якія потым былі спагнаны з яго маёмасці *(1416—3—21048—24адв.; 1416—4—11416—85адв.; 1430—1—31583—66-70, 128-130; 1430—1—31602—74; 1430—1—32928—6-14; 1430—1—52163—420, 431, 453адв., 540адв., 666адв., 741, 755, 809, 828-841; 3046—2—5—13).*

1002. **дэ Вальдэн Сільвестр** (де Вальден Сильвестр), сын Ануфрыя, брат *Віктара*, сваяк *Эдварда*, памешчык, каталік. Нар. каля 1798 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання разам з братам і сваяком валодаў маёнткамі Бісмуйжа і Сарыеўшчына Люцынскага пав. 04.1863 агітаваў сялянаў супраціўляцца рас. войскам. Паводле даносу гэтых жа сялянаў арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Пастановай ЧПА ад 27.06.1864, канфірмаванай А. Патапавым 07.08.1864, як «цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да ссылкі Арэнбург-

скую губ. На яго маёмасць 07.03.1864 на падставе патрабавання ваеннага начальніка Віцебскай губ. накладзены секвестр. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 19.01.1865 і ўказа ВГП ад 18.02.1865, секвестр здымаўся. З Бісмуйжы належала выплаціць 20-працэнтны збор і яшчэ 43,18 руб. З Сарыеўшчыны 03.1865 спагнана 42,52 руб. у якасці ўзмоцненага 10-працэнтнага збору *(1416—3—21048—24адв.; 1416—4—11416—85адв.; 1430—1—32928—6-14; 1430—1—52163—420, 431, 453адв., 540адв., 741, 755, 809, 829; 3046—2—5—7адв., 12адв.)*.

1003. **дэ Вальдэн Эдвард** (де Вальден (де-Вальден) Эдуард), сын Францішка, сваяк *Віктара* і *Сільвестра*, памешчык, каталік. Да паўстання разам са сваякамі валодаў маёнткам Бісмуйжа Люцынскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. 24.01.1864 адпраўлены з Люцынскага пав. у г. Дынабург. Аддадзены пад ПВС, а на яго маёмасць накладзены секвестр. Потым вызвалены (каля 11.08.1864) з вяртаннем на месца жыхарства на парукі. 10.10.1864 падаваў прашэнне аб вызваленні маёмасці ад секвестру. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 19.01.1865 і ўказа ВГП ад 18.02.1865 секвестр здымаўся. З Бісмуйжы належала выплаціць 20-працэнтны збор і яшчэ 43,18 руб. *(1416—3—21048—24адв.; 1430—1—31602—74; 1430—1—52163—453, 642-643, 741, 755; 3046—2—5—7адв., 13)*.

1004. **Валькоўскі Цыпрыян** (Вальковский Киприан), сын Агатона, дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1811 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання жыў у Лепельскім пав. Падчас паўстання ўзяў у *Пляханава Васіля* коней і далучыўся да паўстанцаў. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—37-53, 58, 135; 320—2—98—31адв.; 1416—3—21048—15адв., 16; 1430—1—31602—141-142; 1430—1—52163—399а адв., 596а; 2616—1—40—13)*.

1005. **Вальц Мікалай** (Вальц Николай), дваранін. Да паўстання служыў гувернёрам дзяцей памешчыка Ашмянскага пав. Ракінта. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

1006. **Валюжыніч (Касцюшка-Валюжыніч) Адольф** (Валюжинич (Костюшко-Валюжинич) Адольф), сын Адама і Люцыі Янаўны, каталік. Разам з іншымі сваякамі валодаў 440 дзес. зямлі ў Клімавіцкім пав. Да паўстання служыў у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», у 1863 г. звольнены са службы і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Керанск Пензенскай губ. На маёнтак маці на падставе ўказа МагГП ад 01.07.1863 накладзена забарона *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2003—2—96—25адв.)*.

1007. **Валюжыніч Канстанцін** (Валюжинич Константин). Да паўстання вучыўся ў губернскай гімназіі ў г. Магілёве. Самавольна адлучыўся з месца вучобы. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(2001—2—14—10адв.; 3257—2—2—6)*.

1008. **Валюжыніч Ян** (Валюжинич Иван), сын Аляксандра, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 16.03.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—3)*.

1009. **Валюк (Васюк) Пракоп** (Валюк (Васюк) Прокоп), сын Фларыяна ці Яфіма, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Драгабылле Навагрудскага пав. *Дабашынскага Дамініка*. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Потым зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1562—16адв.; 295—1—2420—11адв.; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—3)*.

1010. **Ванагас (Ванкс) Ігнат** (Ванагас (Ванкс) Игнатий), мешчанін г. Цельшаў. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(1416—4—11416—115; 1430—1—52163—205)*.

1011. **Вандалкоўскі Ян** (Вондолковский Иван), сын Якуба, дваранін Слонімскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

1012. **Вандалоўскі Людвік** (Вандаловский Людвиг), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пензенскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1)*.

1013. **Вандалоўскі Якуб** (Вандаловский Яков). Да паўстання служыў засядальнікам павятовага суда ў Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

**Ванковіч Фларыян** — гл. **Вансовіч Фларыян**

**Ванкс Ігнат** — гл. **Ванагас Ігнат**

1014. **Вансовіч Пётр** (Вонсович Петр). Да паўстання жыў у г. Бранск Бельскага пав.; губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

1015. **Вансовіч (Ванковіч) Фларыян** (Вонсович (Вансович, Ванкович) Флориан), дваранін Свянцянскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22(ці 23).06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—6адв.; 534—1—14—4; 1416—6—265; 1430—1—52163—374)*.

1016. **Ваньковіч Адам** (Ванькович Адам), сын Валенція Мельхіёравіча, брат *Казіміра* і Яна-Эдварда, стрыечны брат *Мельхіёра*, муж Амеліі Клячкоўскай, бацька Баляслава-Фелікса, Маўрыцыя-Дыянізія, Францішка-Салезія-Валенція, Караля-Эразма, Вацлава-Станіслава і Адама-Юзафа, памешчык Мінскага пав. Хр. 25.10.1827 у Пінскім касцёле. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, потым скончыў Галоўнае інжынернае вучылішча ў г. СПб, служыў у інжынернай службе рас. войска, 14.04.1854 выйшаў у адстаўку паручнікам. У 1854 г. ажаніўся. У 1859 г. стаў старшынёй Мінскага сумленнаснага суда. У 1860 г. паводле дамовы, заключанай паміж ім з аднаго боку і братамі *Казімірам* і Янам-Эдвардам і сястрой Аленай з другога, да яго перайшоў маёнтак Сляпянка і спадчынны хутар Дуды Мінскага пав. Да паўстання жыў у г. Мінску. За ўдзел у паўстанні ў складзе «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі» арыштаваны. На следстве, сярод іншага, адмаўляўся ад знаёмства з гродзенскай і навагрудскай паўстанцкім арганізацыямі. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. Маёнтак Сляпянка, ацэнены прыкладна ў 35 тыс. руб., з рухомай маёмасцю ў 83 руб. секвестраваны паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 і канфіскаваны. За жонкай засталося суўладанне маёнткам Ганаратава Ігуменскага пав. 23.03.1864 яго сястра Алена (v. Рагоўская) падала прэтэнзію да яго маёмасці на 6000 руб. ср. з працэнтамі за 1 год. Агулам да канфіскаваных Сляпянкі і Дудаў было пададзена прэтэнзій на 24 377 руб. ср., але ўсе яны, за выключэннем нявырашанай справы з Аленай Рагоўскай, былі адхіленыя. У 1867 г. жыў у Іркуцкай губ., дасылаў лісты жонцы ў яе маёнтак Мікелеўшчына Сакольскага пав. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». Вярнуўся з ссылкі, спачатку жыў у маёнтку Галынка Аўгустоўскай губ., з 1876 г. — у маёнтку Мікелеўшчына. У 1875 г. разам з братам *Казімірам* распачаў справу аб прызнанні яго суспадчыннікам маёнтка Цэзарава Ігуменскага пав., які, на яго думку, лічыўся ўласнасцю брата Яна-Эдварда, «які знік без звестак» (таксама ўдзельнічаў у паўстанні і эміграваў) *(147—2—2916; 147—3—6057, 6087; 162—1—116—57; 295—1—1643—35адв., 39адв.; 295—1—1814—4-4адв.; 296—1—89—28; 296—1—106—15; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—7адв.; 319—2—440; 320—1—398—462; 320—2—99—31г адв.-31д; 534—1—14—5; 1430—1—35146—75; 1430—1—52163—375)*.

1017. **Ваньковіч Казімір** (Ванькович Казимир), сын Валенція Мельхіёравіча, брат *Адама* і Яна-Эдварда, стрыечны брат *Мельхіёра*, дваранін Мінскага пав. Хр. 29.12.1831 у Мінскім кафедральным касцёле. Да паўстання жыў у г. Мінску. Належаў да «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі». Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме. 15.01.1864 пачаўся суд над ім, які скончыўся 18.02.1864, а прысуд пададзены на канфірмацыю ЧВГМГ В. Забалоцкаму. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. «Вызвалены з ссылкі на падставе асобага Высачайшага загаду» і вярнуўся на радзіму. Пачаткова жыў у г. Вільні, але потым пераехаў у г. Варшаву і ў 1876 г. залічаны ў склад сталых яе жыхароў. У 1875 г. разам з братам *Адамам* распачаў справу аб прызнанні яго суспадчыннікам маёнтка Цэзарава Ігуменскага пав., які, на яго думку, лічыўся ўласнасцю брата Яна-Эдварда, «які знік без звестак» (таксама ўдзельнічаў у паўстанні і эміграваў) *(296—1—90—12адв.-13; 299—1—579—298-307; 319—1—*

*479—7адв.; 319—2—440; 1418—3—1—13адв.-14; 1430—1—52163—206).*

1018. **Ванькові Канстанцін** (Ванькович Константин), памешчык. Абвінавачаны ў дапамозе паўстанцам, у 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—35адв.).*

1019. **Ваньковіч Іпаліт** (Ванькович Ипполит), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Альгіняны Віленскага пав. З прычыны далучэння яго сына да паўстанцаў і падазрэння ў веданні пра знаходжанне ў Альгінянскіх лясах паўстанцкага атрада яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

1020. **Ваньковіч Мельхіёр-Раман-Юльян** (Ванькович Мельхиор-Роман-Юльян), сын Караля Мельхіёравіча, стрыечны брат *Адама* і *Казіміра*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1842 г. Да паўстання жыў у маёнтку Калюжыца Ігуменскага пав., які належаў яго маці. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск. 26.06.1863 мінскі губернатар выдаў указ аб пошуку і секвестры яго маёмасці. Пастановай ваенна-судовай камісіі, канфірмаванай М. Мураўёвым 30.01.1864, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» ці на катаргу. Паводле палажэння Рады Міністраў, зацверджанай 17.05.1868, атрымаў «поўнае дараванне» і дазвол на жыццё на радзіме з забаронай жыць у сталічных губернях і займаць дзяржаўныя пасады. На гэтай падставе 18.10.1875 з маёнтка Калюжыцы, дзе жыў на той момант, падаў у Мінскі ДДС прашэнне аб уключэнні яго ў склад дваранаў Ігуменскага пав. і выдачы пасведчання аб вернутых правах дваранства, і 12.02.1880 сход задаволіў просьбу. Каля 1875 г. ажаніўся з Марыяй Швайніцкай, меў сыноў Часлава, Вітальда і Мельхіёра і дачку Рэгіну. У 1889 г. дамогся зацвярджэння Сенатам у дваранстве двух яго старэйшых сыноў. Пазней да яго перайшоў маёнтак Калюжыцы. Памёр у 1892 г. *(162—1—116—68; 295—1—1643—31адв.; 295—1—3026—33; 295—1—3492—68адв.; 296—1—25—104; 299—1—572—892, 903; 299—1—577—555-558адв.; 319—1—479—7адв.; 319—2—440; 320—1—398—304, 308-309; 320—2—98—31адв.; 1418—3—1—12адв.-13).*

1021. **Ваньковіч (Ваўковіч)**[55] **Міхал** (Ванькович (Волкович) Михаил), сын Марка, селянін, праваслаўны. Да паўстання служыў старшынёй Арэхаўскай сельскай грамады Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні выхаду ў паўстанцкі атрад сялян з маёнтка Арэхаўна Лепельскага пав. *Грабніцкага Антонія*. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 05.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго сядзібу Папоўшчына (Паноўшчына), якой валодаў разам з жонкай, на падставе ўказа ВГП ад 22.02.1864, 30.07.1864 накладзены секвестр, які 20.04.1865 быў яшчэ не зняты *(1416—3—21048—35адв.; 1430—1—52163—431, 450, 570, 822; 3046—2—3—56адв.-57; 3046—2—5—32).*

1022. **Ваньковіч Тэадор** (Ванькович Теодор), памешчык Мінскай губ. Нар. каля 1840 г. За ўдзел у паўстанні ў складзе «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі» канфірмацыяй М. Мураўёва (да 29.06.1864) завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. «Выехаў за мяжу, таму пазбег асабістай адказнасці» *(299—1—579—165-177; 320—1—398—462, 497-498, 500-501; 1416—4—11416—119адв.; 1430—1—52163—375адв.).*

1023. **Варажынскі Антоні** (Ворожинский Антон), муж Францішкі, бацька Яна, Ігната, Станіслава, Юзафа і Караліны, аднадворац. Нар. каля 1840 г. Да паўстання прыпісаны да Пухальскай грамады Дзісенскага пав., жыў у в. Лантухова Барысаўскага пав. на арандаванай зямлі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 07.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Сельская грамада адмовілася прымаць яго назад, з-за чаго паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 20.12.1863 падлягаў высылцы ў Пскоўскую губ. Сям'я не пажадала выправіцца з ім. 12.1863 адпраўлены з Барысава ў г. Мінск *(295—1—1527—106адв.; 295—1—1621).*

1024. **Варакса Віктар** (Веракса Виктор), сын *Яна*, дваранін Мінскага пав. Хр. 26.10.1843. «Па палітычных справах» разам з сынам сасланы (да 09.01.1865) у Табольскую губ. *(319—2—451—522-523).*

1025. **Варакса Гектар** (Веракса Гектор), сын Базыля Ігнатавіча і Багумілы, брат Аляксандра Мікалая і Яна-Мечыслава, дваранін Мінскай губ., каталік. Хр. 17.03.1847. У 1863 г. паступіў на службу канцылярыстам. Западозраны ў дачыненні да паўстання, у 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прысуджаны да высылкі з радзімы *(295—1—1643—37адв.; 319—2—451—439-447, 510 і інш.).*

1026. **Варакса Ян** (Веракса Иван), сын Францішка Станіслававіча, бацька *Віктара*, дваранін

[55] У пераважнай большасці дакументаў называецца як Маркаў Міхал — без пазначэння прозвішча.

Мінскага пав. Хр. 18.12.1818. «Па палітычных справах» разам з сынам сасланы (да 09.01.1865) у Табольскую губ. *(319—2—451—522-523).*

1027. **Варановіч Вінцэнт** (Воронович Викентий), народжаны па-за шлюбам. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—7).*

1028. **Варатніцкі Павел** (Воротницкий Павел), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 17.06.1865) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—166; 295—1—1643—29; 319—1—479—7; 320—1—398—673; 1418—3—1—13адв.-14; 1430—1—52163—167).*

1029. **Варатніцкі Францішак** (Воротницкий Франц), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй А. Патапава ад 22.04.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ.; на яго маёмасць накладаўся секвестр *(295—1—1643—27; 320—1—398—720, 725а-726, 781-782; 534—1—14—53).*

1030. **Варатынец Юзаф-Матэвуш** (Воротынец Иосиф-Матвей), сын Антонія, дваранін Навагрудскага пав. Нар. 25.02.1844 у фальв. Юзінбор Слонімскага пав., хр. 30.03.1844 у Дзятлаўскім касцёле. Да паўстання служыў канцылярыстам у Слонімскім земскім судзе. 26.04.1863 не з'явіўся на службу, таму пасля няўдалых пошукаў у г. Слоніме западозраны ў далучэнні да паўстання. Яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру. Арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 22.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны. У 1865 г. знаходзіўся на службе ў 4-м лінейным батальёне Заходняй Сібіры. МГП 11.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—31адв.; 319—1—479—7адв.; 319—2—590—139адв.; 320—1—398—65-73, 124; 320—2—98—31адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—278; 1430—1—52163—596б).*

1031. **Варатынскі Геранім** (Воротынский Героним), дваранін Дынабургскага пав. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў г. Дынабургу. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Рашэннем ваеннага суда, канфірмаваным М. Мураўёвым (да 13.08.1863), прысуджаны да адміністрацыйнага спагнання і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Сасланы пад строгі нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—3—21048—16адв.; 1430—1—31355—53-56; 1430—1—52163—150адв., 397адв.; 1527—1—4—12; 3046—2—5—7адв.).*

1032. **Варатынскі Юзаф** (Воротынский Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у архікафедральным касцёле г. Магілёва. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», 13.05.1863 арыштаваны, а яго рухомая маёмасць (адзенне, посуд, мэбля, кнігі і да т. п.) на 20,5 руб. 13.06.1863 апісана і секвестравана. Без суда і следства высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Вологду. Каля 12.06.1863 звяртаўся да ўладаў Валагодскай губ. з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. Паводле распараджэння МагГГ ад 15.08.1863 секвестр з маёмасці зняты *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 1781—2—5602—8; 2003—1—237).*

1033. **Варатынскі Ян** (Воротынский Иван), сын Караля. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў столаначальнікам Кобрынскага павятовага суда. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

1034. **Варатынскі Ян** (Воротынский Иван), сын Тамаша, селянін Полацкага пав., каталік. Да паўстання служыў пісарам Абітоцкай сельскай грамады Полацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з *Альшэўскімі Аляксандрам* і *Вінцэнтам*. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 13.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Сасланы (да 01.10.1864) на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. На яго маёмасць 24.07.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва накладзены секвестр *(1416—3—21048—16адв.; 1430—1—52163—407; 3046—2—3—12адв.-13; 3046—2—5—7).*

1035. **Вардоўскі Караль** (Вардовский Карл), дваранін. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—24).*

1036. **Варошнікаў Васіль** (Варошников Василий), селянін. Да паўстання жыў у фальв. Замочча Быхаўскага пав. Казіміра Банькоўскага. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі *(1416—4—11416—130)*.

1037. **Варпахоўскі Войцех** (Варпаховский Войцех), сын Казіміра, дваранін. Да паўстання жыў у в. Гарадняны Бельскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—7; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

1038. **Варпахоўскі Ігнат** (Варпаховский Игнатий), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166адв.)*.

1039. **Варпяхоўскі (Варцяхоўскі) Юльян** (Варпеховский (Вартеховский) Юлиан), сын Захея, дваранін Бельскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў Мінска-Магілёўскай рымска-каталіцкай семінарыі. 21.05.1863 падаў прашэнне аб «звальненні» з семінарыі нібыта для прыняцця манаскага сану, атрымаў яго і ў гэты ж дзень уцёк з г. Мінска разам з *Гарбатоўскім Юзафам* і *Кавецкім Канстанцінам*. У Ігуменскім пав. далучыўся да паўстанцкага атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*. Падчас разбіцця атрада арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.07.1863 адасланы ў Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 15.11.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(295—1—1643—16адв.; 295—1—1688—52-53; 296—1—90—10адв.-11; 319—1—479—7; 1418—3—1—13адв.-14; 1430—1—52163—205адв.)*.

1040. **Варпяхоўскі Ян** (Варпеховский Иван), дваранін Бельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103)*.

**Варцяхоўскі Юльян** — гл. **Варпяхоўскі Юльян**

1041. **Васілеўскі Аляксандр** (Василевский Александр), дваранін Віленскай губ. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—274; 1430—1—52285—7адв.)*.

1042. **Васілеўскі Аляксандр** (Василевский Александр), сын Адама[56], дваранін Віцебскага пав., каталік. Да паўстання жыў у г. Віцебску, служыў пісарам у ВГП, не меў чыну. 21.04.1863 не з'явіўся на службу. Удзельнічаў у паўстанні са зброяй у руках, арыштаваны і зняволены ў віцебскай турме. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. На яго маёмасць 04.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 17.07.1864 накладаўся секвестр *(319—1—479—8; 1416—3—21048—15; 1430—1—31259—14-15, 40; 1430—1—52163—182, 424адв., 427, 722адв.; 3046—2—3—11адв.-12; 3046—2—5—7)*.

1043. **Васілеўскі Аляксандр** (Василевский Александр), сын Вінцэнта, муж Канстанцыі Крыштафаўны (1 v. Маліноўскай), дваранін. Да паўстання яго жонка валодала маёнткам Гарбачэўская Слабада Рагачоўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 12.08.1864). На Гарбачэўскую Слабаду меркавалася накласці секвестр, але жонцы ўдалося даказаць, што яна валодае ёю адзінаасобна *(2003—1—435)*.

1044. **Васілеўскі Аляксандр** (Василевский Александр), сын Дамініка, муж Адэлі, памешчык, каталік. Нар. каля 1812 г. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Да паўстання валодаў маёнткам Літвінава Аршанскага пав. Уночы 22/23.04.1863 прыняў у сваім доме *Вярыгу Арцёма*, *Пётух-Кубліцкага Фердынанда* і інш. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, таму 12.06.1863 у яго доме праведзены вобшук, падчас якога знойдзена іржавая шабля. Арыштаваны. Утрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якой прызнаны вінаватым у захоўванні «падбухторных папер» і стрэльбы і «прыманні ў сваім доме невядомых узброеных асоб». ВСК 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Потым знаходзіўся пад судом у ВВСК, якой 17.01.1864 прызначаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір. 21.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб пераглядзе справы.

[56] У некаторых дакументах імя бацькі памылкова падаецца як Напалеон.

Ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) як «цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах» да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы пад строгі нагляд паліцыі на жыхарства ў Кастрамскую губ. без пазбаўлення правоў. Яго маёмасць секвестравана. Жонка 11.1864 падала прашэнне аб зняцці секвестру. Паводле пастановы МагГП ад 27.04.1865, секвестр зняты. Потым маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—3—21048—15; 1416—4—11416—54-61, 85адв., 126; 1430—1—31604—18-19а; 1430—1—52163—540адв., 681-684; 2003—1—445—14адв., 16, 20; 2532—1—15—10; 3046—2—3—10адв.-11; 3046—2—5—7)*.

1045. **Васілеўскі Антоні** (Василевский Антон), мешчанін г. Ліды. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (паміж 15.03.1864 і 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 8 гадоў *(319—1—479—6адв.; 1430—1—52163—166)*.

1046. **Васілеўскі Вінцэнт** (Василевский Викентий), сын Аляксандра (ці Андрэя), бацька *Юзафа*, дваранін Дрысенскага ці Дынабургскага пав. Пасля паўстання кіраваў секвестраваным маёнткам Пустынь Дрысенскага пав. *Плятэра Людвіка*. Западозраны ў тым, што падчас паўстання даў свайму сыну і іншым людзям коней для выезду ў атрад паўстанцаў, 12.1864 арыштаваны. Па справе праходзіў разам *Астаноўкам Адамам* і інш. Яго сям'я потым таксама выдалена з Пустыні. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 прызначаны да аддачы пад ПВС пры Дынабургскім ардананс-гаўзе. 06.07.1866 зняволены ў г. Дынабургу *(1430—1—52163—714-719; 2601—1—29)*.

1047. **Васілеўскі Генрык** (Василевский Генрих), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Юрэвічы Троцкага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

1048. **Васілеўскі Ігнат** (Василевский Игнатий), сын Яна, памешчык Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў спробе ўзняць сялянаў на паўстанне, у 1863 г. арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пададзена МагВГ. Таксама быў пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 накіравала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, меў дачыненне да справы *Цімлера Міхала*. Прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 — абавязковаму продажу *(295—1—1643—36; 1416—4—11416—21; 1430—1—52163—200; 2003—1—489—62; 2532—1—15—9адв.; 3255—1—14—1адв.; 3257—2—2—5адв.; 3366—1—5—2адв.)*.

1049. **Васілеўскі Клімент** (Василевский Климентий), памешчык Сенненскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму на яго маёмасць накладзены секвестр, які 12.1864 быў зняты *(2003—1—345—7)*.

1050. **Васілеўскі Людвік-Ян** (Василевский Людвиг-Иван), сын Віталіса Міхалавіча, брат Міхаліна (нар. каля 1817), Ганны (нар. каля 1819), Ізабэлы (нар. каля 1827), Мікалая (хр. 08.11.1828), муж Юзэфы Руфінаўны Копець, бацька Марыі-Ірыны (нар. 1859), Вінцэнта-Станіслава (нар. 1861) і Станіслава-Вінцэнта (нар. 1863, пам. да 1870), дваранін Вілейскага пав., каталік. Хр. 20.05.1833 у Альковіцкім касцёле. Да паўстання арандаваў маёнтак Жортай Барысаўскага пав. За агітацыю сялянаў далучыцца да паўстання і прамаўленне «пагрозаў супраць Свяшчэннай Асобы Гасудара Імператара» арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 10 гадоў у крэпасцях. МГП 21.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. Жонка ў 1871 г. жыла ў маёнтку Жортай і хадайнічала аб зацвярджэнні дзяцей у дваранстве *(162—1—116—33; 295—1—1643—24адв., 28адв.; 319—1—479—6; 319—2—434—136, 158-173, 243 і інш.; 320—1—398—164-165, 221; 320—2—98—31адв.; 1430—1—52163—128)*.

1051. **Васілеўскі Павел** (Василевский Павел), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Вялічкава Троцкага пав. Падчас паўстання хаваў у сябе пляменніка *Бандзынскага Адольфа* і адвёз яго ў г. Вільню. Пры вобшуку ў яго маёнтку знойдзены чамаркі, «паўстанцкі пояс», порах і кулі. На падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 30.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 11.07.1863 і 23.07.1863 яго маёмасць, а таксама яго сына і аканома падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—242; 1416—6—274; 1430—1—52285—9; 2532—1—15—12)*.

1052. **Васілеўскі Раймунд** (Василевский Реймунд), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 24.03.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—3)*.

1053. **Васілеўскі Тамаш** (Василевский Фома), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск *(1418—3—1—12адв.-13)*.

1054. **Васілеўскі Фелікс** (Василевский Феликс), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Новыя Дзявяткавічы Слонімскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ГГП ад 18.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—7; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—276; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—601адв.)*.

1055. **Васілеўскі Юзаф** (Василевский Иосиф), сын *Вінцэнта*, дваранін Дрысенскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. ВГП 16.04.1864 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 319—1—479—8; 320—1—398—197адв.; 1416—3—21048—16, 16адв.; 1416—4—11416—181-182; 1430—1—52163—126, 392; 2601—1—2—156; 2601—1—29—10адв.)*.

1056. **Васілеўскі Юзаф** (Василевский Иосиф), сын Вінцэнта Геранімавіча і Тэклі Дубоўскай, брат Яна (нар. 1837), Пятра (нар. 1840) і Аляксандра (нар. 1851), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. 15.02.1843 у засц. Вішанька Ігуменскага пав., хр. 20.02.1843 у Ігуменскім касцёле. Да паўстання жыў у фальв. Драхча Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў атрадзе паўстанцаў, пасля з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 18.02.1864 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага прысуджаны (да 22.05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 18.02.1865 жыў у Ялутараўскай акрузе Табольскай губ., падаваў звесткі пра сваё паходжанне. У 1875–1877 гг. жыў у Екацерынбургскай губ. У 1895 г. падаў прашэнне мінскаму губернатару аб аднаўленні ў правах дваранства і дазволе вярнуцца ў Мінскую губ. *(162—1—116—112адв.; 299—1—579—298-307; 319—1—479—7; 319—2—432—190-192, 263-270, 278 і інш.; 320—1—398—452адв.; 1418—3—1—13адв.-14; 1430—1—52163—206)*.

1057. **Васілеўскі Юзаф** (Василевский Иосиф), сын Ігната, незацверджаны дваранін Барысаўскага пав., каталік. Да паўстання служыў пры Мінскім бенедыкцінскім кляштары. Западозраны ва ўдзеле паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі з радзімы. 03.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—38адв.; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—222, 401адв.; 320—2—98—31адв.; 1418—3—1—12адв.-13)*.

1058. **Васілеўскі Ян** (Василевский Иван), сын Вінцэнта, мешчанін г. Пружанаў. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 29.08.1863 і пастановы ГГП ад 19.09.1863 *(1416—6—239)*.

1059. **Васількевіч Францішак** (Василькевич Франц), дваранін. Да паўстання жыў у м. Каварск Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

1060. **Васькоўскі Віктар** (Васьковский Виктор), сын Антонія. Паходзіў з Мінскай губ. Да паўстання вучыўся ў Мінскай гімназіі. За ўдзел у паўстанні аддадзены (да 19.10.1863) пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103; 295—1—1643—24адв.; 299—1—577—518-543адв.; 1430—1—52163—150адв.)*.

1061. **Васькоўскі Мікалай** (Васьковский Николай), сын Мікалая. Нар. у г. Кішынёве Бесарабскай вобл. Да паўстання жыў у г. СПб, служыў у 3-м сапёрным батальёне паручнікам. Падчас паўстання належаў да складу падпольнай арганізацыі ў СПб, схаваўся ад уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 4 гады *(320—1—398—783-785; 2003—1—474—4-5, 8 і інш.)*.

**Васюк Пракоп** — гл. **Валюк Пракоп**

1062. **Васюковіч (Васюкевіч) Васіль** (Васюкович (Васюкевич) Василий), «сельскі жыхар» (аднадворац?) ці дваранін Мінскага пав. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 03.11.1863 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1643—25адв., 29; 320—1—398—167)*.

1063. **Ваўкавіцкі (Ваўчавіцкі) Фелікс** (Волковицкий (Волчевицкий) Феликс), муж Альжбеты,

памешчык Чавускага і Быхаўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пасля высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, у сувязі з чым яго маёнтак Галавенчыцы Чавускага пав. у 1868 г. прададзены. Таксама секвестраваны яго фальв. Антонаўка Чавускага пав., які ў 1867 г. падлягаў вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—489—37адв.; 2003—2—53—8; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9адв., 10адв.; 3257—2—2—6адв.)*.

**Ваўковіч Міхал** — гл. **Ванькович Міхал**

1064. **Ваўністы Тамаш-Караль** (Волнистый Фома-Карл), сын Антонія Сымонавіча і Алаізы Мацкевіч, брат Яна-Алаізія і Юзафа, дваранін Вілейскага пав., ксёндз. Хр. 31.12.1831 у касцёле м. Будслаў Вілейскага пав. У 1853 г. вучыўся ў Віленскай рымска-каталіцкай семінарыі. Да паўстання служыў у касцёле м. Быстрыца Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(296—1—25—102; 319—1—479—6адв.; 319—2—572; 1416—6—274)*.

**Ваўчавіцкі Фелікс** — гл. **Ваўкавіцкі Фелікс**

1065. **Ваўчацкі Міхал** (Волчацкий Михаил), дваранін Віленскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199)*.

1066. **Вашбут (Вітаўт) Юзаф** (Вашбут (Витовт) Иосиф), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы ў г. Пскоў для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 2532—1—15—4адв.)*.

1067. **Вашкевіч Канстанцін** (Вашкевич Константин). За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да высылкі з радзімы без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—152)*.

1068. **Вашкевіч N.** (Вашкевич N.), ксёндз. Падчас паўстання арыштаваны. У 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—39)*.

1069. **Вашчаловіч Рыгор** (Вощеллович Григорий), дваранін Ваўкавыскага ці Бельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—7; 320—1—398—224адв.)*.

1070. **Ваяводскі Казімір** (Воеводский Казимир). Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.)*.

1071. **Ваяводскі Часлаў** (Воеводский Чеслав), сын Яна, дваранін Мінскага пав. Вучыўся ў Казанскім універсітэце, з якога адлічаны з прычыны хваробы. Да паўстання служыў канцылярыстам. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.07.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 21.09.1863. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—38адв.; 296—1—90—6адв.-7; 319—1—479—7; 1418—3—1—13адв.-14; 1430—1—52163—167адв.)*.

1072. **Ваякоўская Еўфрасіння** (Вояковская Ефросинья), дачка Леана, аднадворка Магілёўскай (?) губ. Нар. каля 1824 г. Абвінавачана рас. уладамі ў «распаўсюджванні заганных чутак супраць Ураду». З 06.1864 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 14.08.1864 скончыла справу і падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства была на волі *(3257—1—17—1а адв.-2; 3257—2—8—3)*.

1073. **Вейтка Канстанцін-Генрык** (Вейтко Константин-Генрих), сын Антонія, дваранін Лепельскага пав. Да паўстання служыў рэгістратарам у Віцебскім ДДС, яго бацькі валодалі маёнткамі Ірынполле Лепельскага пав. і Пагост Дрысенскага пав. 26.01.1863 адпраўлены ў адпачынак, пасля яго на службу не з'явіўся. 16.05.1863 звольнены. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, 06.1863 знаходзіўся пад следствам у СенСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр паводле ўказа ВГП ад 17.08.1863, на маёмасць бацькоў потым накладзена забарона *(296—1—25—105; 319—1—479—7адв.; 1416—3—21048—15; 1416—4—11416—326-327, 349; 1430—1—31259—26-27адв., 41; 1430—1—52163—391, 408адв., 460адв.; 2514—1—2198—67; 3257—2—2—5адв.)*.

1074. **Велічкевіч Клімент** (Величкевич Клементий), сын Філіпа, дваранін Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—194адв.; 2514—1—2198—66адв.; 3257—2—2—5адв.).*

1075. **Вельтчык Ян** (Вельтчик Иван), сын Міхала Янавіча, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні на бацькоўскі драўляны дом з прыбудовамі ў м. Тураў Мазырскага пав. накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 06.09.1863, а таксама накладзены секвестр на яго дом у г. Ігумене на падставе распараджэння МГП ад 09.09.1863, якім ён валодаў сумесна з братам і сястрой *(296—1—89—25; 320—1—398—2).*

1076. **Вельц N.** (Вельц N.), мешчанін г. Вільні. Да паўстання з'яўляўся краўцом. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

1077. **Велябіцкі Люцыян** (Велиобицкий Люциан), дваранін Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада кіеўскага генерал-губернатара ад 25.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 01.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

1078. **Велявейскі (Вяльвейскі) Адольф** (Велевейский (Вельвейский) Адольф), сын Фелікса, дваранін Брэсцкага пав. Да паўстання служыў прапаршчыкам корпуса ляснічых, яго бацька валодаў маёнткам Падбела Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і ўтрымліваўся ў г. Дынабургу. Яго і бацькоў маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 17.06.1863 і пастановы ГГП ад 26.06.1863 падлягала секвестру[57]. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—7; 320—1—398—125; 1416—3—21048—16; 1416—6—267; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—397, 601; 3046—2—5—7адв.).*

**Велягорскі Мечыслаў** — гл. **Вяльгорскі Мечыслаў**

**Велягорскі Міхал** — гл. **Вяльгорскі Міхал**

**Вендараў Браніслаў** — гл. **Вэндарф Браніслаў**

1079. **Венцаль Павел** (Венцель Павел), сын Міхала, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—31адв.).*

1080. **Венцаль Ян** (Венцель Иван), селянін. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, паводле рашэння якога прызначаны да ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—33адв.).*

1081. **Венцлавовіч Ануфры** (Венцлавович Онуфрий), сын Ануфрыя, памешчык. Да паўстання паводле даверанасці кіраваў маёнткамі бацькі, які жыў у Віленскай ці Ковенскай губ., Слабодка (681 дзес. зямлі, дом, гаспадарчыя пабудовы, 450 руб. ср. гадавога прыбытку, даўгі), Самсоны, Высокае, Выдвінкі і інш. Магілёўскага пав., дзе служылі *Бранавіцкі Ян*, *Бачынскі Тэадор* і *Каспяровіч Станіслаў*. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены (да 07.07.1863) у турэмным замку ў г. Магілёве. Маёнткі яго бацькі 12.07.1863 узяты пад паліцэйскі нагляд. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў дачыненне *Сафронаў Ян*. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. Пасля частковай амністыі, у 1875 г. жыў у г. Ніжнім Ноўгарадзе, там атрымаў дазвол на пражыванне ў сваіх сваякоў у Мінскай губ. 05.04.1875 атрымаў пашпарт на праезд з Ніжагародскай у Мінскую губ. *(295—1—2744; 319—1—479—8; 1430—1—52163—182адв.; 2001—2—14—14; 2003—1—216; 2003—1—405—2; 2003—2—19—6адв.-7, 21адв.-22адв.; 3257—2—2—5адв., 32адв.).*

1082. **Венцлавовіч Валяр'ян** (Венцлавович Валериан). Да паўстання служыў міравым пасрэднікам. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прысуджаны да звальнення са службы *(295—1—1643—29адв.).*

1083. **Венцлавовіч Францішак** (Венцлавович Франц), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Самарскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12).*

1084. **Верашчак Аляксандр** (Верещак Александр), дваранін Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны

---

[57] У копіі пастановы ГГП памылкова названы Антоніем.

(да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—7; 320—1—398—224адв.)*.

1085. **Верашчака Аляксандр** (Верещако Александр), селянін. Нар. каля 1834 г. Да паўстання жыў у маёнтку Сервеч Вілейскага пав. Падчас паўстання меў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, за што 29.04.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе знаходзіўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Праходзіў па справе разам з *Верашчакам Канстанцінам*, *Гедройцам Антоніем* і *Казелам Юзафам*. Паводле пастановы М. Мураўёва ад 23.08.1863 атрымаў дараванне і прызначаны да вяртання на месца ранейшага жыхарства *(295—1—1527—99; 295—1—1643—25; 299—2—6694—4)*.

1086. **Верашчака Канстанцін** (Верещако Константин), селянін. Нар. каля 1847 г. Да паўстання жыў у маёнтку Сервеч Вілейскага пав. Падчас паўстання меў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, за што 29.04.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе знаходзіўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Праходзіў па справе разам з *Верашчакам Аляксандрам*, *Гедройцам Антоніем* і *Казелам Юзафам*. Паводле рашэння М. Мураўёва ад 23.08.1863 атрымаў дараванне і прызначаны да вяртання на месца ранейшага жыхарства *(295—1—1527—99; 295—1—1643—25; 299—2—6694—4)*.

1087. **Вернікоўскі Антоні-Казімір-Матэвуш** (Верниковский Антон-Казимир-Матеуш), сын Міхала Ігнатавіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 21.02.1800 у Серафінскім касцёле. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з сынамі *Канстанцінам*, *Францішкам* (з сем'ямі), Вінцэнтам, Мацеем і Дамінікам высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (71 дзес. 1822 саж.) канфіскавана *(295—1—2420—6; 295—1—2830—8; 319—2—452; 320—2—98—4, 70адв., 88)*.

1088. **Вернікоўскі Апалінары** (Верниковский Аполинарий), сын Зыгмунта Якубавіча і Францішкі Скіндэр, брат Казіміра (нар. 1847) і Дыянізія (нар. 1851), Юзэфы і Антаніны, муж Настассі Шпілеўскай, бацька Міхаліны, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. 14.08.1841 у вак. Суцін Ігуменскага пав., хр. 17.08.1841 у Серафінскім касцёле. Да паўстання жыў у вак. Суцін, непісьменны. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. разам з маці, братамі, сёстрамі, жонкай і дачкой высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (34 дзес. 126 саж.) канфіскавана. У 1867–1873 гг. жыў у в. Кама Усць-Тартарскай вол. Каінскай акрузі Томскай губ., у 1877 г. — у г. Белябей Уфімскай губ., у 1880 г. — у в. Камінская Усць-Тартарскай вол. 09.07.1873 і 28.12.1875 разам з братамі і *Вінцэнтам* падаваў у Мінскі ДДС прашэнні аб судалучэнні да дваранскага роду. У ссылцы нарадзіліся шасцёра яго сыноў: Віктар-Цітус (нар. 1867), Адам (нар. 1868), Людвік (нар. 1870), Вінцэнт (нар. 1873), Зыгмунт (нар. 1877), Аляксандр (нар. 1880). 25.01.1913 працягваў у Мінскім ДДС справу аб зацвярджэнні ў дваранстве *(295—1—2420—5адв.; 295—1—2830—8; 319—2—452—352, 369-372, 381—382, 548-558 і інш.; 320—2—98—3, 9, 67-68, 70адв.)*.

1089. **Вернікоўскі Вінцэнт** (Верниковский Викентий), сын Фабіяна Себасцьяна Якубавіча і Марыяны Станіславаўны, брат Францішка (нар. 1840), муж Ізабэлы Ігнатаўны Захарэвіч, бацька Караля (нар. 1862), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. 04.01.1838 у вак. Суцін Ігуменскага пав., хр. 09.01.1838. Да паўстання жыў у Суціне, непісьменны. Пасля паўстання разам з маці, братам, жонкай і сынам «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. Іх зямельная маёмасць (33 дзес. 1942 саж.) канфіскавана. У ссылцы памерла яго жонка. У 1873–1874 гг. жыў у с. Мініна Усць-Тартарскай вол. Каінскай акругі Томскай губ., у 1878–1890 гг. — на хутары Аляксандраўка Белябееўскага пав. Уфімскай губ. 09.07.1873 і 28.12.1875 разам з *Апалінарыем* падаваў у Мінскі ДДС прашэнні аб судалучэнні да дваранскага роду. Ад другой жонкі Рэгіны Казіміраўны Юхневіч у ссылцы нарадзіліся чацвёра яго сыноў: Антоні (нар. 1874), Юльян (нар. 1878), Ян (нар. 1884), Юзаф (нар. 1890) *(295—1—2420—5адв.; 295—1—2830—8; 295—1—3492—67адв., 74адв.; 319—2—452—352, 368-372, 381-382 і інш.; 320—2—98—5)*.

1090. **Вернікоўскі Ігнат-Казімір** (Верниковский Игнатий), сын Казіміра Юзафавіча, муж Ізабэлы Секялеўскай, бацька Уладзіслава-Ігната (нар. 1854), Адольфа (нар. 1858) і Фларыяна (нар. 1860), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 07.09.1819. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Звязаны з *Журомскім N.*, утрымліваў яго ў сваім доме, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 28.02.1864 адасланы ў г. Мінск. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Высланы разам з малагадовымі сынамі, жыў у Марыінскай акрузе Томскай губ. На падставе амністыі 1871 г. яму вернуты правы дваранства, у 1873 г. атрымаў дазвол на свабоднае пражыванне на тэрыторыі Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга

краю». 09.03.1873 падаў у Мінскі ДДС прашэнне аб выдачы копіі ўказа аб зацвярджэнні ў дваранстве. У 1874 г. выехаў на радзіму. Па дарозе ў г. Сарапуль Вяцкай губ. моцна захварэў і 27.11.1874 памёр у Сарапульскай земскай бальніцы. Яго сыны вярнуліся ў 1875 г. у вак. Суцін, дзе хадайнічалі аб вяртанні канфіскаванай маёмасці, а ў 1880 г. — аб зацвярджэнні ў дваранстве. Жонка таксама вярнулася на радзіму, 06.1882 жыла ў вак. Суцін *(162—1—116—123, 156адв.; 295—1—1643—25адв.; 295—1—2657; 319—1—479—7адв.; 319—2—452—357 і інш.; 320—1—398—552, 644адв.; 320—2—98—32; 534—1—14—5; 1418—3—1—14адв.-15; 1430—1—52163—375, 526).*

1091. **Вернікоўскі Ігнат** (Верниковский Игнатий), сын *Леана*, муж Ружы Русецкай, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 08.09.1820. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання зняволены. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Разам з бацькам, жонкай, сынам Антоніем (нар. 1849), дочкамі Тэанілай, Стэфаніяй, Марыяй і Анеляй высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць у 42 дзес. 36 саж. канфіскавана *(295—1—1643—26; 295—1—2420—5; 319—1—479—7адв.; 319—2—452).*

1092. **Вернікоўскі Ігнат** (Верниковский Игнатий), сын Стэфана, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 05.05.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 27(ці 31).08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—146; 1418—3—1—14адв.-15).*

1093. **Вернікоўскі Канстанцін** (Верниковский Константин), сын *Антонія-Казіміра-Матэвуша*, муж Ізабэлы Умінскай, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 15.06.1834. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «далёкія» губерні. 26.05.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы разам з бацькам, братамі (гл. *Вернікоўскі Антоні*, *Вернікоўскі Францішак*), жонкай, сынамі Гектарам і Юзафам і дачкой Антанінай у Томскую губ. на пасяленне. У 1877–1886 гг. жыў у в. Іванаўка Белябееўскага пав. Уфімскай губ. У ссылцы нарадзіліся трое яго дзяцей: Антоні (нар. 1869), Апалінары і Канстанцыя (двайняты, нар. 1872) *(295—1—2420—6; 319—2—452; 1418—3—1—15адв.-16).*

1094. **Вернікоўскі Канстанцін** (Верниковский Константин), сын Міхала, «выключаны з духоўнага звання» Мінскай губ. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Зняволены ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 10.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Быў пад судом у МагВСК *(3257—1—17—8адв.-9; 3257—2—2—5адв., 6; 3257—2—8—3).*

1095. **Вернікоўскі Леан** (Верниковский Леон), сын Якуба Ігнатавіча, брат Зыгмунта (нар. 1806), Зоф'і (нар. 1806) і Фабіяна-Себасцьяна (нар. 1808), бацька *Ігната* і Пятра-Паўла, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 01.08.1800 у Серафінскім касцёле Ігуменскага пав. Да паўстання як удавец (жонка Агата пам. да паўстання) жыў на ўласнай зямлі ў вак. Суцін Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання разам з сынам высланы ў Томскую губ. Іх зямельная маёмасць (42 дзес. 36 саж.) канфіскавана *(295—1—2420—5; 319—2—452; 320—2—98—3, 9, 70, 88).*

1096. **Вернікоўскі Марцін** (Верниковский Мартин), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.06.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прызначаны да вызвалення з-пад арышту з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1643—35адв.; 1418—3—1—15адв.-16).*

1097. **Вернікоўскі Францішак** (Верниковский Франц), сын *Антонія*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з бацькам, братамі (гл. *Вернікоўскі Антоні*, *Вернікоўскі Канстанцін*), жонкай Міхалінай, дочкамі Марыяй, Міхалінай, Адэляй высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—6).*

1098. **Вернікоўскі N.** (Верниковский N.). Да паўстання служыў канцылярыстам у Барысаўскай дваранскай апецы. 11.1863 без дазволу пакінуў г. Барысаў. Западозраны ў дачыненні да паўстання і ў 1864 г. звольнены са службы *(295—1—1643—39; 1527—1—4—103).*

1099. **Вернэс Балтазар** (Вернес Балтазар), сын Станіслава, мешчанін г. Вільні. Жыў у маёнтку Пустынь Дрысенскага пав., дзе служыў калесніком. Пасля паўстання западозраны ў тым, што выязджаў з *Альчыкевічам Себасцьянам* і *Машарскім N.* з Пустыні з намерам далучыцца да атрада *Плятэра Леана*. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 прызначаны да аддачы пад ПВС пры Дынабургскім арданансгаўзе. 18.07.1866 зняволены ў г. Дынабургу *(2601—1—29; 3046—2—5—7адв.).*

1100. **Верпень Каятан** (Верпень Каэтан), сын Стэфана, ксёндз. Нар. каля 1820 г. Да паўстання служыў у касцёле м. Бобр Сенненскага пав. Абвінавачаны рас. уладамі ў «дапамозе паўстанцам і ў намове жыхароў Бабра не супрацьдзейнічаць паўстанню». З 09.05.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК і наглядам паліцыі ў Бабры. 03.04.1864 следства яшчэ не скончана *(3257—1—14—2адв.-3)*.

1101. **Вівульскі Эдвард** (Вивульский Эдуард). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Пасля разгляду яго следчай справы з Ковенскай (?) губ. «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546)*.

**Віжгаўт Іаахім** — гл. **Візгаўт Іаахім**

**Віжгаўт Марцін** — гл. **Візгаўт Марцін**

**Віжгаўт Уладзіслаў (Баляслаў, Станіслаў)** — гл. **Візгаўт Уладзіслаў (Баляслаў, Станіслаў)**

1102. **Візгаўт (Віжгаўт) Іаахім** (Визговт (Вижговт) Иоахим), дваранін Віленскага пав. Нар. каля 1840 г. Да паўстання жыў у м. Халопенічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены і дастаўлены ў г. Барысаў. 02.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1527—103адв.; 295—1—1643—39; 319—1—479—6адв.; 1430—1—52163—204)*.

1103. **Візгаўт (Віжгаўт) Марцін** (Вижговт (Визговт) Мартин), бацька *Уладзіслава (Баляслава)* (?), дваранін Віленскага пав. Нар. каля 1802 г. Да паўстання жыў у м. Красналукі Барысаўскага пав. У паўстанні 23.05.1863 схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам і ў гэты ж дзень зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1527—103адв., 109адв.; 295—1—1643—25адв.)*.

1104. **Візгаўт (Віжгаўт) Уладзіслаў (Баляслаў, Станіслаў)** (Визговт (Вижговт) Владислав (Болеслав, Станислав)), сын *Марціна* (?), дваранін Віленскага пав. Нар. каля 1849 г. Да паўстання жыў у м. Красналукі Барысаўскага пав. 23.05.1863 схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам і ў гэты ж дзень зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1527—103адв.; 295—1—1643—25адв.)*.

1105. **Вікенцьеў[58] Ян** (Викентьев Иван), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—3)*.

1106. **Вілейка Адам** (Вилейко Адам), муж *Караліны*, дваранін Віленскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» разам з жонкай высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

1107. **Вілейка (Валейка) Зыгмунт** (Вилейко (Волейко) Сигизмунд), дваранін. Да паўстання жыў у в. Пусты Булаўчын Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—6; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

1108. **Вілейка Караліна** (Вилейко Каролина), жонка *Адама*, дваранка Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» разам з мужам выслана (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

1109. **Вілейка Тамаш** (Вилейко Фома), дваранін Вілейскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241)*.

1110. **Вільбэк Стэфан** (Вильбек Стефан), памешчык. Да паўстання валодаў вак. Вільбекі Лідскага пав. з пабудовамі і зямлёй. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—6; 320—1—398—130; 1416—6—271; 1430—1—52163—605)*.

1111. **Вільбэк Ян** (Вильбек Иван), сын Рамуальда, дваранін Навагрудскага ці Слуцкага пав. Яго маці валодала маёнткам Астрэйкі Слуцкага пав. Падчас паўстання арыштаваны за валоданне зброяй. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(295—1—1643—25, 37адв.; 320—1—398—124, 234адв., 250, 423; 320—2—98—31адв.; 1430—1—52163—596б)*.

**Вільгорскі Адам** — гл. **Вяльгорскі Адам**

**Вількавойская Тэкля** — гл. **Вількавольская Тэкля**

[58] Верагодна, гэта імя па бацьку.

1112. **Вількавольская (Вількавойская) Тэкля** (Вильковольская (Вильковойская) Фекла), дваранка Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі выслана (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—573адв.).*

1113. **Вількавольскі N.** (Вильковольский N.). Удзельнічаў у паўстанні ў Бельскім пав., пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162).*

1114. **Вільканец Тэадор** (Вильканец Феодор), дваранін Віленскага і Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7; 2532—1—15—12адв.).*

1115. **Ількевіч Марцэлі** (Вилькевич Марцелий), дваранін Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—7; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

1116. **Ількевіч Станіслаў** (Вилькевич Станислав), народжаны па-за шлюбам. Да паўстання жыў у Ковенскім пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

1117. **Вільчынскі Альгерд** (Вильчинский Ольгерд), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—7; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242).*

1118. **Вільчынскі Францішак** (Вильчинский Франц), мешчанін Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 1 год *(319—1—479—7; 1430—1—52163—166адв.).*

1119. **Вільчынскі Ян** (Вильчинский Иван), сын Тадэвуша і Маргарыты, брат Вітальда і Канстанціна, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Да паўстання адзінаасобна валодаў фальв. Пустэльня Быхаўскага пав. (945 дзес. 2256 саж.), сумесна з братамі — маёнткам Тайманава (924 дзес. 2144 саж.) Быхаўскага пав. (усяго 51 селянін муж. полу, карчма, млын і інш.), адзінаасобна — маёнтам Барсукі Сенненскага пав. (640 дзес. зямлі, дом на каменным падмурку, стайня, лазня, гаспадарчыя пабудовы, карчма, млын, фруктовы сад і інш., 193 руб. гадавога прыбытку, 1285 руб. доўгу). Западозраны ў дачыненні да паўстання, з-за чаго апісана і секвестравана яго рухомая і нерухомая маёмасць: 1) паводле распараджэння быхаўскага павятовага спраўніка ад 16.07.1863 — у Пустэльні і Тайманаве 24.07.1863; 2) паводле распараджэння МагГП ад 12.08.1863 — у Барсуках 03.10.1863 *(2003—1—365).*

1120. **Вільчэўскі Аляксандр** (Вильчевский Александр), памешчык Брэсцкага пав. Да паўстання выконваў абавязкі брэсцкага маршалка. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25; 2532—1—15—7адв.).*

1121. **Вільчэўскі Валяр'ян** (Вильчевский Валериан). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым лекарам у г. Слоніме. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. Пасля частковай амністыі ў 1867 г. залічаны ў склад жыхароў г. Варшавы. У 1871 г. з'яўляўся лекарам у г. Блашкі Калішскай губ. *(162—1—122—20адв.; 319—1—497; 1430—1—52163—795адв.; 1430—1—52285—12).*

1122. **Вілямоўскі Зыгмунт** (Вилямовский Сигизмунд). Паходзіў з Беластоцкага пав., да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

1123. **Вілямоўскі Марцін** (Вилямовский Мартин), сын Антонія, ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Крычаў Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў «намаўленні да паўстання», за што паводле ўказа МагГП ад 03.10.1863 яго рухомая маёмасць (адзенне, абутак, посуд, мэбля, конь і інш.) на суму ў 43,13 руб. 22.10.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 07.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. У 1867 г. маёмасць падлягала вызваленню ад секвестру *(2003—1—380; 2514—1—2198—67; 3257—2—2—5адв.; 3366—1—5—3).*

**Вімбар Палікарп** — гл. **Вішбар Палікарп**
**Вімбар Ян** — гл. **Вішбар Ян**

1124. **Вінкевіч Уладзіслаў** (Винкевич Владислав), сын Вінцэнта, аднадворац Віленскай губ. ці дзяржаўны селянін[59] Гродзенскай губ., каталік. Прыпісаны да в. Падстароўка Багнаўскай сельскай грамады Гродзенскай губ. У 1858–1861 гг. вучыўся на Горацкай вучэбнай ферме, потым — у Горацкім павятовым вучылішчы. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і далучыўся да атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць падлягала продажу, 22.08.1864 ВГП выдала адпаведную пастанову *(1416—4—11416—125; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—6адв.; 3286—2—1—7адв., 187а).*

1125. **Вінцэвіч Юзаф** (Винцевич Иосиф), дваранін Ковенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—13—14).*

1126. **Вінч Клімент** (Винч Климентий), дваранін Віленскага пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Вярокі, які належаў жонцы *Нарбута Людвіка*. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101; 319—1—479—6; 1430—1—52163—154).*

1127. **Вінярскі Ануфры** (Винярский Онуфрий), сын Фларыяна, дваранін. Падчас паўстання арыштаваны за хаванне зброі і ўтойванне свайго паходжання. Знаходзіўся пад следствам у г. Слуцку, адпраўлены (да 16.05.1865) «па этапе» ў г. Мінск. У 1864 ці 1865 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. *(295—1—1643—39адв.; 296—1—161—3адв.).*

1128. **Вірбша Тадэвуш** (Вирбша Фадей), сын Філіпа, дваранін Слуцкага пав., каталік. «За палітычныя злачынствы» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—3).*

1129. **Віршыла Антоні** (Виршилло Антон), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле в. Юдайці Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10).*

1130. **Віскант Багуміла** (Висконт Богумила), жонка *Францішка*, дваранка Віцебскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда, зацверджанай М. Крыжаноўскім, прызначана разам з мужам (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Казанскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру, які накладзены 24.07.1864 *(1416—3—21048—16адв.; 1416—4—11416—20адв., 41-43; 1430—1—31370—131; 1430—1—52163—199адв., 407).*

1131. **Віскант Францішак** (Висконт Франц), муж *Багумілы*, дваранін Віцебскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда, зацверджанай М. Крыжаноўскім, разам з жонкай прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, які накладзены 24.07.1864 *(1416—3—21048—16адв.; 1416—4—11416—20адв., 41—43; 1430—1—31370—131; 1430—1—52163—199адв., 407).*

1132. **Віскоўская Адэль** (Висковская Аделия), дачка (?) *Яна*, памешчыца. Западозрана рас. уладамі ў перапісванні паўстанцкіх пракламацый. Знаходзілася пад следствам у ЧСК, потым у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яе справу *(3257—2—8—3; 3366—1—5—3).*

1133. **Віскоўскі Адольф** (Висковский Адольф), сын Яна Стэфанавіча (пам. да 1863 г.) і Дамінікі Янаўны, брат *Станіслава*, дваранін. Да паўстання яго маці валодала маёнткамі Варнавіна і Падэрні Мсціслаўскага пав. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Потым адпраўлены ў фартэцыю ў г. Бабруйску. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 21.06.1863 перадала яго справу ў МагСК. Быў пад судом у МагВСК. На маёнткі яго маці накладзены секвестр, які ў 1867 г. здымаўся *(2003—1—382; 2514—1—2198—67; 3257—2—2—6адв.; 3366—1—5—3адв., 13адв.).*

1134. **Віскоўскі Антоні** (Висковский Антон), памешчык. Да паўстання валодаў часткамі маёнткаў Прыдарожжа і Ляцягі Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пасля высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць секвестравана, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—445—15; 2003—1—489—62; 2532—1—15—9адв.; 3257—2—2—6адв.).*

1135. **Віскоўскі Вацлаў** (Висковский Вацлав), дваранін Гродзенскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—5).*

1136. **Віскоўскі Пётр** (Висковский Петр), сын Вінцэнта, дваранін Мсціслаўскага пав. Да паўстання яго маці валодала фальв. Лізарава Мсціслаўска-

[59] У некаторых дакументах памылкова называецца дваранінам.

га пав., дзе жыў *Скулдыцкі Антоні*. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў таксама дачыненне *Чакатоўскі Юзаф*. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Пазней яго частка маёнтка Лізарава канфіскавана *(319—1—479—8; 1430—1—52163—168; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—3адв.; 2003—1—445—3; 2003—2—17—4адв.; 2003—2—90—3-5, 33-38; 3257—2—2—5адв., 39)*.

1137. **Віскоўскі Станіслаў** (Висковский Станислав), сваяк *Францішка*, дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Скалін Чэрыкаўскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць падлегла канфіскацыі ў 1863 г. і канфіскавана ў 1866 г. *(2001—2—123—6; 2001—3—23—2; 2003—1—445—3, 5; 2003—2—90)*.

1138. **Віскоўскі Станіслаў** (Висковский Станислав), сын Яна Стэфанавіча (пам. да 1863 г.) і Дамінікі (Даміцэлі) Янаўны Воўк, брат *Адольфа* і Рудольфа, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Нар. 12.02.1839 у в. Варнавіна Мсціслаўскага пав., хр. 23.04.1843 у Горы-Горацкім касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце, яго маці валодала маёнткамі Варнавіна і Падэрні Мсціслаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Арыштаваны (да 14.06.1863) і адпраўлены ў фартэцыю ў г. Бабруйску. Маёнткі яго маці апісаны (да 22.10.1863) і секвестраваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Пасля смерці маці частка Варнавіна канфіскоўвалася *(319—1—479—8; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2003—1—211—70-71адв.; 2003—1—382; 2616—1—40—14; 3257—1—53—2; 3257—2—2—5; 3286—2—1—4, 9—11)*.

1139. **Віскоўскі Францішак** (Висковский Франц), сын Мікалая, сваяк *Станіслава*, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання служыў сакратаром у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Енісейскую губ. Яго частка зямлі ў маёнтку Скалін Чэрыкаўскага пав. канфіскавана *(319—1—479—8; 1430—1—52163—526; 2003—2—90; 2003—2—96—25; 3257—2—2—6адв.)*.

1140. **Віскоўскі Ян** (Висковский Иван), сын Казіміра, бацька (?) *Адэлі*, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Западозраны рас. уладамі ў пастаўцы паўстанцам пораху і свінцу. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, пад судом у МагВСК. На яго маёнтак Грыгор'еўская Слабада Чэрыкаўскага пав. накладзены секвестр, які зняты напрыканцы 1864 г. *(2003—1—418—15; 2003—1—445—5; 3257—2—2—6адв.; 3366—1—5—3)*.

1141. **Віславух Віктар** (Вислоух Виктор), памешчык Кобрынскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Валагодскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2532—1—15—8)*.

1142. **Віславух Міхал** (Вислоух Михаил), дваранін. Падчас паўстання арыштаваны за прамаўленне «непрыстойных слоў супраць асобы Яго Вялікасці». У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—26)*.

1143. **Віславух Фелікс** (Вислоух Феликс), дваранін Рэчыцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 320—1—398—197адв.; 320—2—98—31адв.; 1430—1—52163—126)*.

1144. **Віслоцкі Вацлаў-Маўрыцы** (Вислоцкий Вацлав-Маврикий), сын старшыні Брэсцкага межавага суда Люцыяна Кліментавіча і Паўліны Якубоўскай, дваранін Брэсцкага пав., каталік. Нар. 22.09.1839 у маёнтку Грынячы Брэсцкага пав., хр. 28.09.1839 у Воўчынскім касцёле. У 1853–1858 гг. вучыўся ў гімназіі ў г. Беластоку, потым — у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска *(319—1—479—7; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601; 3257—1—53—2; 3286—2—1—5адв., 77—80)*.

1145. **Вісніцкі (Вясніцкі) Аляксандр** (Висницкий (Весницкий) Александр), сын Пятра, аднадворац. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 01.10.1863 яна пададзена М. Мураўёву. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67; 3366—1—5—3)*.

1146. **Вітарт Ігнат** (Виторт Игнатий), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання

пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562).*

1147. **Вітбэрг N.** (Витберг N.). Да паўстання служыў у Каломенскім пяхотным палку рас. войска, паручнік. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. арыштаваны. Аддадзены пад ПВС у г. Мінску, рашэннем якога прысуджаны да ссылкі ў Енісейскую губ. са зняволеннем там у турме на працягу 2 гадоў *(295—1—1643—37).*

1148. **Віткевіч Барбара** (Виткевич Варвара), дачка *Ігната* і *Эльвіры*, сястра *Яна*, дваранка Шавельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначана ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі разам з бацькам. Калі б не пажадала выправіцца з ім, прызначалася да ссылкі ў Пермскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237; 2616—1—40—58).*

1149. **Віткевіч Ігнат** (Виткевич Игнатий), муж *Эльвіры*, бацька *Барбары* і *Яна*, памешчык. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам, валодаў маёнткам Патаўшы Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—7; 320—1—398—575; 1430—1—52163—237; 1430—1—52163—242).*

1150. **Віткевіч Эльвіра** (Виткевич Эльвира), жонка *Ігната*, маці *Барбары* і *Яна*, памешчыца Шавельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначана ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі разам з мужам. Калі б не пажадала выправіцца з мужам, прызначалася да ссылкі ў Пермскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237).*

1151. **Віткевіч Ян** (Виткевич Иван), сын *Ігната* і *Эльвіры*, брат *Барбары*, дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі разам з бацькам. Калі б не пажадаў выправіцца з ім, прызначаўся да ссылкі ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237; 2616—1—40—58).*

1152. **Віткоўская Іагана** (Витковская Иоганна), дваранка Барысаўскага пав. Да паўстання служыла аканомкай у *Свідаў Зоф'і* і *Паўла*. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у АСК, якая 15.07.1863 падала яе справу магілёўскаму губернатару. Паводле пастановы следчай камісіі выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яе маёмасць падлягала секвестру, ад якога вызвалялася ў 1867 г. *(1430—1—52285—32; 2514—1—2198—67; 3255—1—14—1адв.).*

1153. **Віткоўская** (народжаная **Равуская**) **Схаластыка** (Витковская (урожденная Ржеуская) Холястика), дачка Юзафа ці Тамаша, дваранка Ігуменскага пав. Выйшла замуж за Віткоўскага Вінцэнта Юзафавіча, да паўстання жыла ў вак. Валадута Ігуменскага пав., не мела зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братамі мужа *Міхалам* (з сям'ёй) і *Антоніем* (з сям'ёй), сынамі Адамам, Леанам, Казімірам, дочкамі Стэфаніяй і Паўлінай «адміністрацыйным парадкам» выслана ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнулася на радзіму, 12.1876–06.1882 жыла ў вак. Валадута *(295—1—2420—15; 295—1—3026—33адв.; 295—1—3492—69адв.; 319—2—513; 320—2—98—60—64).*

1154. **Віткоўская Юзэфа** (Витковская Юзефина), дваранка Мінскай губ. За дачыненне да паўстання выслана ў «вялікарасійскія губерні»; яе маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 28.08.1864 *(320—1—398—529).*

1155. **Віткоўскі Алаізі** (Витковский Алоизий), сын Мікалая, брат *Мікалая* і *Тамаша*, памешчык. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску разам з *Барэйшам Браніславам*, яго бацька валодаў маёнткам Збаравічы Мінскага пав. 29.04.1863 падчас вобыску ў доме, дзе жыў з братам *Мікалаем* у Мінску, знойдзена зброя (стрэльба, 3 пісталеты з 2 патранташамі) і патрыятычныя творы, у тым ліку «Кнігі польскага народа і польскіх пілігрымаў» А. Міцкевіча і «Гутарка старога дзеда». Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці». 04–09.1863 знаходзіўся ў Ашмянскім пав., затым вярнуўся ў г. Мінск і 10.1863 выехаў у г. Слуцк. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у МСК. На следстве прызнаў валоданне знойдзенымі рэчамі, але адмаўляў удзел у паўстанні. У 1864 г. аштрафаваны на 50 руб. 30.12.1864 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 27.09.1865 за «набыццё і захоўванне твораў рэвалюцыйнага зместу, зняцце з сябе партрэту ў забароненым касцюме і пражыванне ў Слуцкім павеце без пісьмовага дакумента» прысуджаны да турэмнага зняволення на паўгода і спагнання ўзмоцненага дваццаціпрацэнтнага збору з яго маёмасці *(295—1—1643—29адв., 36адв.; 296—1—19—18—19адв.; 296—1—108; 1416—3—13366).*

1156. **Віткоўскі Аляксандр** (Витковский Александр). Да паўстання служыў чыноўнікам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК і МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу *(3255—1—14—1адв.; 3257—2—8—3).*

1157. **Віткоўскі Андрэй** (Витковский Андрей), памешчык. Падчас паўстання арыштаваны за захоўванне і перапіску папер «рэвалюцыйнага зместу». У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—27)*.

1158. **Віткоўскі Антоні** (Витковский Антоний), сын Юзафа Феліцыянавіча, брат Вінцэнта, Яна, *Міхала* і *Нікадыма*, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 01.04.1823 у Бярэзінскім касцёле. У 1834 г. жыў у маёнтку Раванічы Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 07.07.1864 сасланы разам з братам *Міхалам* (з сям'ёй), жонкай брата *Схаластыкай* (з сям'ёй), жонкай Дамінікай, сынамі Людвікам, Отанам, Рыгорам, дачкой Марыяй у Томскую губ. на пасяленне без пазбаўлення правоў *(295—1—2212; 295—1—2420—15; 319—2—513)*.

1159. **Віткоўскі Антоні** (Витковский Антон), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. СПб, служыў на Варшаўскай чыгунцы. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—6адв.)*.

1160. **Віткоўскі Базыль** (Витковский Василий), сын Ежы-Рыгора Рафалавіча, брат *Нікадыма*, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 02.03.1819 у Бярэзінскім касцёле. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Францішкай Красоўскай, сынамі Людвікам (нар. 10.09.1849), Юльянам (нар. 12.01.1852), Міхалам (нар. 20.04.1854), Янам[60] (нар. 21.10.1856) і Феліксам (нар. 10.11.1860) «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму. У 1873 г. падаваў прашэнне ў Мінскі ДДС аб зацвярджэнні ў дваранстве сваіх сыноў. 12.1876 жыў у засц. Старына Ігуменскага пав., 06.1882 — у вак. Валадута *(295—1—2420—14—14адв.; 295—1 3026—33; 295—1—3492—69; 319—2—513—350-355, 359—366 і інш.)*.

1161. **Віткоўскі Ігнат** (Витковский Игнатий), сын Мікалая, брат *Эдварда*, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 23.06.1840 у Ігуменскім касцёле. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. У 1864 г. вызвалены з аддачай на парукі. У 1890–1899 гг. жыў у маёнтку Кухцічы Ігуменскага пав. Жанаты з Марыяй Бярнадскай, з якой меў сыноў Леанарда (нар. 14.10.1890) і Караля (нар. 09.01.1892) (абодва хр. у Ігуменскім касцёле) *(295—1—1643—38адв.; 319—2—513; 1418—3—1—14адв.-15)*.

1162. **Віткоўскі Мікалай** (Витковский Николай), сын Яна, дваранін Суражскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. На зямлю яго бацькі ў вак. Мокшына Суражскага пав. на падставе ўказа ВГП ад 29.06.1864 накладзены секвестр, які 01.10.1864 быў яшчэ не зняты *(319—1—479—8; 1416—3—21048—15; 1430—1—52163—206адв., 394адв., 440; 2514—1—2198—66адв.; 3257—2—2—5, 6адв.)*.

1163. **Віткоўскі Мікалай** (Витковский Николай), сын Мікалая, брат *Алаізія* і *Тамаша*, памешчык. Яго бацька валодаў маёнткам Збаравічы Мінскага пав. 29.04.1863 падчас вобыску ў доме, дзе жыў з братам *Алазіем* у г. Мінску, знойдзена зброя (стрэльба, 3 пісталеты з 2 патранташамі) і патрыятычныя творы, у тым ліку «Кнігі польскага народа і польскіх пілігрымаў» А. Міцкевіча і «Гутарка старога дзеда». Абвінавачаны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны. На следстве даказаў, што гэтыя рэчы належаць брату. Таму 06.1863 вызвалены з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд. У 1864 г. аштрафаваны на 50 руб., а яго справа перададзена ў МСК. Памер падчас далейшага следства. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 27.09.1865 маёмасць, якая засталася пасля яго, абкладзена ўзмоцненым дзесяціпрацэнтным зборам *(295—1—1643—29адв., 36адв.; 296—1—19—18-20адв.; 296—1—108—7адв.-8; 1416—3—13366)*.

1164. **Віткоўскі Мікалай** (Витковский Николай). Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

1165. **Віткоўскі Міхал** (Витковский Михаил), сын Юзафа Феліцыянавіча, брат Вінцэнта, Яна, *Антонія* і Нікадыма, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 29.09.1807 у Бярэзінскім касцёле. У 1834 г. жыў у маёнтку Раванічы Ігуменскага пав., у 1841–1864 гг. — у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам *Антоніем* (з сям'ёй), жонкай брата *Сха-*

[60] У некаторых дакументах памылкова фігуруе як Юзаф.

*ластыкай* (з сям'ёй), жонкай Апалоніяй Мураўскай, сынамі Каралем (нар. 15.06.1841) і Мацеем, дочкамі Паўлінай і Клемянцінай (з сынам Гвідонам) высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля вярнуўся на радзіму, у 1879 г. хадайнічаў у Мінскім ДДС аб зацвярджэнні ў дваранстве сына Караля *(295—1—2420—15; 319—2—513—434—439 і інш.)*.

1166. **Віткоўскі Нікадым** (Витковский Никодим), сын Ежы-Рыгора Рафалавіча, брат *Базыля*, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 04.09.1821 у Бярэзінскім касцёле. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Ганнай Марцінкевіч, сынамі Люцыянам, Баніфацыем Юзафам і Людвікам, дачкой Альмінай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. У 1864–1870 гг. жыў у г. Тара Табольскай губ. *(295—1—2420—14; 319—2—513—603—624 і інш.)*.

1167. **Віткоўскі Тамаш** (Витковский Фома), сын Мікалая, брат *Алаізія* і *Мікалая*, дваранін Мінскай губ. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам, яго бацька валодаў маёнткам Збаравічы Мінскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны. У 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» у г. Вятку. Тут служыў ардынатарам Вяцкай земскай больніцы. У 1867 г. запісаны ў склад сталых жыхароў г. Варшавы[61]. 06.07.1876 Медыцынскім дэпартаментам зацверджаны на пасадзе ардынатара Мінскага дабрачыннага таварыства і вярнуўся ў г. Мінск. Жыў тут яшчэ 03.1882 *(295—1—3492—52адв.—53, 79адв.; 319—2—513—287—288)*.

1168. **Віткоўскі Францішак** (Витковский Франц), сын Антонія, зяць *Крачкоўскага Францішка*, швагер *Крачкоўскага Эдварда*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам са свёкрам, шваграм, жонкай Маргарытай (1 v. Мураўскай) і яе дзецьмі ад першага шлюбу Юзафам, Вольгай і Уршуляй Мураўскімі высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—17)*.

1169. **Віткоўскі Эдвард** (Витковский Эдуард), сын Мікалая, брат *Ігната*, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 27.12.1838 у Ігуменскім касцёле. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. У 1864 г. вызвалены з аддачай на парукі *(295—1—1643—38адв.; 319—2—513; 1418—3—1—14адв.—15)*.

1170. **Віткоўскі Юзаф** (Витковский Иосиф), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 22.03.1864 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—14адв.—15)*.

1171. **Віткоўскі Юзаф** (Витковский Иосиф), дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у г. Оўруч Валынскай губ. Канфірмацыяй М. Анненкава (да 15.05.1864), сярод іншага, яго маёмасць прысуджалася да канфіскацыі *(162—1—116—108; 320—1—398—437)*.

1172. **Віткоўскі Юзаф** (Витковский Иосиф), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—8)*.

1173. **Віткоўскі Ян** (Витковский Иван), дваранін. Падчас паўстання арыштаваны за садзейнічанне паўстанцам. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—26адв.)*.

1174. **Віткоўскі Ян** (Витковский Иван), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Далубова Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам»; на яго маёмасць накладаўся секвестр *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379)*.

1175. **Віткоўскі Ян** (Витковский Иван), селянін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў альбо захоплены ў палон рас. войскамі. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да вызвалення ад пакарання. 16.11.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—12адв.-13)*.

1176. **Вітоўскі Юльян** (Витовский Юлиан), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—6адв.; 1430—1—52163—166адв.)*.

1177. **Вітунская Юлія** (Витунская Юлия), памешчыца Ашмянскага пав. Да паўстання як жонка адстаўнога штабс-капітана жыла ў г. Вільні. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Варонежскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру, а потым абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199; 2532—1—15—11адв.)*.

1178. **Віхроўскі Канстанцін** (Вихровский Константин), мешчанін м. Сямяцічы Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлен-

---

[61] Мінскі ДДС блытаў яго з іншым В. Т. — дваранінам Мінскай губ., які ў 1863–1866 гг. жыў у засц. Амялішча Барысаўскага пав.

ня правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—7; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

1179. **Вічульскі Баляслаў** (Вичульский Болеслав), сын Тамаша, дваранін Віцебскага пав., каталік. Да паўстання служыў у г. Віцебску памочнікам столаначальніка Віцебскай ПДМ, калежскі рэгістратар. 22.04.1863 пакінуў Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Удзельнічаў у паўстанні са зброяй у руках, арыштаваны. 08.05.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—8; 1416—3—21048—15; 1430—1—31259—9, 36; 1430—1—52163—182, 395; 3046—2—3—11адв.—12; 3046—2—5—7).*

1180. **Вішбар (Вімбар) Палікарп** (Вишбор (Вимбор) Поликарп), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам» у Пермскую губ., на яго маёмасць накладаўся секвестр. Пазней яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379адв.; 2532—1—15—1).*

1181. **Вішбар (Вімбар) Ян** (Вишбор (Вимбор) Иван), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—201; 2532—1—15—2адв.).*

1182. **Вішнеўская Ганна** (Вишневская Анна), дваранка. Да паўстання жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

1183. **Вішнеўская Казіміра** (Вишневская Казимира), дваранка. Да паўстання жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

1184. **Вішнеўскі Адам** (Вишневский Адам), вольны хлебароб. Нар. каля 1817 г. Да паўстання прыпісаны да с. Бель Аршанскага пав. Падчас паўстання 22.04.1863 затрыманы разам з *Астаневічам Антоніем*, які вёз зброю, таму западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Падазрэнні не пацвердзіліся, таму выпушчаны на парукі. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. Яе пастановай ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15—22адв.; 2514—1—2198—67).*

1185. **Вішнеўскі Антоні** (Вишневский Антон), мешчанін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

1186. **Вішнеўскі Вячаслаў (Венцаслаў)** (Вишневский Вячеслав (Венцеслав)), сын Вінцэнта, ксёндз. Паходзіў з Віленскага (?) пав. Да паўстання служыў у касцёле м. Лунін Пінскага пав., жыў у пінскага маршалка кн. Эдвіна Друцкага-Любецкага. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць заставалася пад секвестрам *(160—2—682—108; 162—1—122—21адв.; 295—1—1643—38; 320—1—398—2; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.; 1781—32—132—93).*

1187. **Вішнеўскі Зыгмунт** (Вишневский Сигизмунд), памешчык Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—6адв.).*

1188. **Вішнеўскі Тадэвуш** (Вишневский Фадей), сын Фелікса, брат *Яна*, памешчык. Служыў міравым пасярэднікам. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», у 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Краснауфімск Пермскай губ. Яго частка маёнтка Сіманічы з фальваркамі Сіманічы, Картынічы і Белыя Берагі Мазырскага пав. (ацэнены прыкладна ў 30 тыс. руб.) секвестравана паводле распараджэнняў МГП ад 05.02.1864 і М. Мураўёва ад 04.03.1864 *(162—1—116—57, 166; 1430—1—52163—610адв.; 296—1—89—23адв.; 299—1—577—621—626; 299—1—579—165—177; 320—2—98—32; 320—2—99—37; 1430—1—52285—21адв.).*

1189. **Вішнеўскі Францішак** (Вишневский Францишек), аднадворац Барысаўскага пав. Нар. каля 1848 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля рассеяння якога ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да ўладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў гарадской турме, утрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны «як малагадовы» да 25 удараў розгамі і вяртання да бацькоў на месца жыхарства *(162—1—116—12; 295—1—1527—103; 295—1—1588; 320—1—398—84)*.

1190. **Вішнеўскі Францішак** (Вишневский Франц), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70)*.

1191. **Вішнеўскі Эдвард** (Вишневский Эдуард), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

1192. **Вішнеўскі Ян** (Вишневский Иван), дваранін Марыямпольскага пав. Аўгустоўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 1430—1—52163—396адв.)*.

1193. **Вішнеўскі Ян** (Вишневский Иван), сын Фелікса, брат *Тадэвуша*, памешчык. Да паўстання быў жанаты, меў трох дзяцей, служыў міравым пасярэднікам. За ўдзел у «непарадках, якія адбываліся падчас дваранскіх выбараў, што праводзіліся ў 1862 г.», яго частка маёнтка Сіманічы з фальваркамі Сіманічы, Картынічы і Белыя Берагі Мазырскага пав. (ацэнены прыкладна ў 30 тыс. руб.) секвеставаны паводле распараджэння МГГ ад 16.10.1863. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую, Пермскую ці ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(162—1—116—166; 295—1—1643—27адв.; 296—1—89—10адв., 24адв.; 299—1—577—550—554; 320—1—398—197адв.; 320—2—99—37; 1430—1—52285—21; 2532—1—15—14)*.

1194. **Вішнеўскі Ян** (Вишневский Иван). Паходзіў з Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў пастаўцы харчавання паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1416—6—280; 1430—1—52163—149)*.

1195. **Войжбун (Война) Уладзіслаў-Ян-Альбрэхт** (Войжбун Владислав-Иван-Альбрехт), сын Адама, брат Дамініка і Аляксандры (v. Мацкевіч), пляменнік памешчыкаў Магілёўскага пав. Аляксандра і Станіслава, дваранін. Хр. 30.09.1834 у Карпілаўкаўскім касцёле. У 1857 г. падзяліў з братам і сястрой спадчынную маёмасць, паводле чаго атрымаў грашовыя сумы, у тым ліку палову ад 3957 руб., належных ад братоў бацькі (сястра — маёнтак Чарняўка Чавускага пав. і другую палову гэтай сумы, брат — маёнтак Ясін Бабруйскага пав.). Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны (да 31.05.1863). Быў пад следствам у ЧСК, якая 16.07.1863 перадала яго справу ў МагСК. Зняволены ў г. Магілёве. МагГП 31.05.1863 выдала ўказ аб секвестры яго маёмасці. У МагВСК меў дачыненне да справы *Цеханавецкага Оттана*. Да 25.01.1864 рас. уладам яшчэ не ўдалося знайсці яго грашовыя сумы, а з 1867 г. яго маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(319—2—518; 2003—1—234; 2003—1—245—5; 2514—1—2198—67; 3257—2—2—5адв.; 3366—1—5—3)*.

1196. **Война Аляксандр** (Войно Александр), сын Яна, дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў веданні пра выхад маладых людзей з г. Віцебска для далучэння да паўстанцкага атрада, а таксама ў зборы грошай на пакупку зброі для паўстанцаў. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Разам з *Косавым Аляксандрам* і *Ляўковічам Аляксандрам* западозраны рас. уладамі ў тым, што «знаходзіцца ў сяброўстве з палітычным злачынцам» *Корбутам Маўрыцыем*. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 23.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—12адв.-13; 3046—2—5—7)*.

**Война Вінцэнт** — гл. **Война-Сідаровіч Вінцэнт**

1197. **Война Ганна** (Войно Анна), дваранка Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання яе маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—67)*.

1198. **Война Генрык** (Война Генрих), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Самарскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1)*.

1199. **Война Ксаверы** (Война Ксаверий), дваранін Гродзенскай губ. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 8 гадоў *(319—1—479—7; 534—1—14—5; 1416—4—11416—118; 1430—1—52163—375; 1527—1—4—12адв.)*.

1200. **Война Марыяна** (Война Марьяна), дачка Феліцыяна, жонка *Пятра*, дваранка Гарадоцкага пав., каталічка. Падчас паўстання западозрана рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—13адв.-14; 3046—2—5—7адв.)*.

1201. **Война Пётр** (Война Петр), сын Леана, муж *Марыяны*, дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Да паўстання служыў судовым следчым у Гарадоцкім пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім (гл. *Розэн Тэадор*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 04.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. *(3046—2—3—13адв.—14; 3046—2—5—7адв.)*.

1202. **Война Ян** (Война Иван), дваранін Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Следства па яго справе вялося ў Віцебскай губ. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 319—1—479—6адв.; 320—1—398—197адв.; 1416—3—21048—15адв.; 1416—4—11416—118; 1430—1—52163—126, 396адв.)*.

1203. **Война Ян** (Война Иван), дваранін Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—7; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375)*.

1204. **Война-Сідаровіч Вінцэнт** (Война-Сидорович Викентий), сын Андрэя, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Пастаўляў харчаванне паўстанцам, за што арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Рашэннем ПВА пры Віленскім ардананс-гаўзе, канфірмаваным 05.12.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 17.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1555; 295—1—1643—32; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—146-152, 222; 320—2—98—31адв.; 1416—6—280;)*.

1205. **Войніч Адольф** (Войнич Адольф), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Габрыэлева Троцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

1206. **Войніч Казімір** (Войнич Казимир), сын Вінцэнта Сільвестравіча, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Марулін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.12.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. На фальварак яго бацькі Ліпнікі Навагрудскага пав. накладзена забарона *(160—2—682—59; 295—1—1643—26адв., 30адв.; 295—1—1699; 534—1—14—23; 320—1—398—3; 320—2—99—49)*.

1207. **Войніч Цыпрыян** (Войнич Киприян), сын Якуба Тамашавіча, памешчык. Нар. каля 1840 г. Да паўстання валодаў маёнткам Заполле Барысаўскага пав. 19–20.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада, але пазней схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 16.06.1863 вызвалены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 10.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. На яго маёнтак быў накладзены секвестр; яго маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказа МГП ад 22.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1527—73адв., 104адв.; 295—1—1643—24адв., 29; 296—1—89—46; 299—1—577—511—513; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—189, 222, 391, 401адв.; 320—2—98—31адв.)*.

1208. **Войніч Язафат** (Войнич Иосафат), сын Іаахіма, дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». У 1867 г. яго маёмасць падлягала вызваленню ад секвестру *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2514—1—2198—67)*.

1209. **Войніш Міхал** (Войниш Михаил), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 23.06.1863 і 04.07.1863 і пас-

таноў ВілГП ад 06.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—6; 320—1—398—128адв.; 1416—6—263; 1416—6—280; 1430—1—52163—603адв.).*

1210. **Войніш Юзаф** (Войниш Иосиф). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

1211. **Волейш Віктар** (Волейш Виктор), шляхціц Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

1212. **Вольбах (Вольбахава) Марыя** (Вольбахова Мария), дачка Войцеха, дваранка Слуцкага пав., каталічка. За знойдзеныя ў яе вершы «палітычнага зместу» арыштавана. Знаходзілася пад следствам у ССК *(1524—1—1—3).*

1213. **Вольбэк Антоні** (Вольбек Антон), сын Юзафа, дваранін. Да паўстання яго маці валодала маёнткамі Астроўна, Забелле, Урупіна і Глыбочыцы Себежскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, зняволены ў г. Дынабургу. На маёнткі маці 07—10.08.1863 накладзены секвестр, які 20.10.1864 яшчэ не зняты. Памёр (да 06.10.1864) у дзень падпісання канфірмацыі аб вызваленні на парукі і зняцці секвестру з маёмасці *(1416—3—21048—15; 1430—1—52163—432, 437, 509—510, 568адв., 666).*

1214. **Вольбэк Апалон** (Вольбек Апполон), сын Юзафа, дваранін Себежскага (?) пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, падлягаў (да 12.1863) арышту і адпраўленню ў г. Дынабург *(1430—1—31307—117).*

1215. **Вольбэк Францішак** (Вольбек Франц), сын Юзафа, памешчык. Служыў у рас. войску, ротмістр. Да паўстання валодаў маёнткам Азярніца Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, за што аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 22.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863 *(1416—6—218).*

1216. **Вольмар Элеанора** (Вольмар Леонора), памешчыца. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Варонежскую губ., калі не пажадае выправіцца разам з мужам у Томскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552).*

1217. **Вольмэр Станіслаў** (Вольмер Станислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Відуклі і фальв. Таўгуць Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ.[62] *(319—1—479—7; 1430—1—52163—521адв.).*

1218. **Вольскі Адольф** (Вольский Адольф), дваранін Слонімскага пав. Да паўстання яго бацька арандаваў казённую ферму Була Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3).*

1219. **Вольскі Антоні** (Вольский Антон), сын Яна, брат *Ільдэфонса* і *Караля*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Разам з братамі, *Арлоўскім Адольфам*, *Асяндоўскім Баляславам*, *Грахольскім Францішкам* і *Лукашэвічам Казімірам* западозраны ў падрыхтоўцы да паўстання, трапіў пад следства. 14.10.1863 яго справа пададзена ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Потым знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прызначаны (да 04.10.1864) да вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі і з аддачай на парукі. З яго маёмасці спаганяўся ўзмоцнены 10-працэнтны збор *(1430—1—52163—633адв., 762—780; 3046—2—5—7адв.).*

1220. **Вольскі Ільдэфонс** (Вольский Ильдефонс), сын Яна, брат *Антонія* і *Караля*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Разам з братамі, *Арлоўскім Адольфам*, *Асяндоўскім Баляславам*, *Грахольскім Францішкам* і *Лукашэвічам Казімірам* западозраны ў падрыхтоўцы да паўстання, трапіў пад следства. 14.10.1863 яго справа пададзена ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Потым знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прызначаны (да 04.10.1864) да вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі і з аддачай на парукі. З яго маёмасці спаганяўся ўзмоцнены 10-працэнтны збор *(1430—1—52163—633адв., 762-780; 3046—2—5—7адв.).*

1221. **Вольскі Казімір** (Вольский Казимир), памешчык Аўгустоўскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным

[62] Магчыма, звесткі часткова пераблытаны са звесткамі пра *Ваўка Каспера*.

парадкам» высланы (каля 05.1864) у Табольскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

1222. **Вольскі Караль** (Вольский Карл), сын Яна, брат *Антонія* і *Ільдэфонса*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Разам з братамі, *Арлоўскім Адольфам*, *Асяндоўскім Баляславам*, *Грахольскім Францішкам* і *Лукашэвічам Казімірам* западозраны ў падрыхтоўцы да паўстання, трапіў пад следства. 14.10.1863 яго справа пададзена ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Потым знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прызначаны (да 04.10.1864) да вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі і з аддачай на парукі. З яго маёмасці спаганяўся ўзмоцнены 10-працэнтны збор *(1430—1—52163—633адв., 762-780; 3046—2—5—8)*.

1223. **Вольскі Міхал** (Вольский Михаил), сын Ігната, купец 3-й гільдыі Барысаўскага пав. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыў у памешчыка Свіды, яго бацькі валодалі зямлёй і домам у Слуцкім пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1527—105адв.; 295—1—1643—36; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—222, 310, 401; 320—2—98—31адв.)*.

1224. **Вольскі Юзаф** (Вольский Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Лабанары Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў веданні і неданясенні пра фарміраванне паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1416—6—274; 1430—1—52163—616)*.

1225. **Вольф Ян** (Вольф Иван), сын Яна, дваранін Ігуменскага ці Навагрудскага пав., лютэранін. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 21.09.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—24, 38адв.; 296—1—90—5адв.—6; 1418—3—1—12адв.—13; 1430—1—52163—167адв.)*.

1226. **Восіпаў**[63] **Мікалай** (Осипов Николай), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—8адв.)*.

1227. **Восіпаў**[64] **Трафім** (Осипов Трофим), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—8адв.)*.

1228. **Воўк Антоні** (Волк Антон), мешчанін г. Дзісны. Падчас паўстання западозраны ў яго падтрымцы і 26.04.1863 арыштаваны ў Лепельскім пав. 23.05.1863 адпраўлены ў г. Дынабург *(1430—1—31238)*.

1229. **Воўк Каспер** (Волк Гаспар), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Відуклі і фальв. Таўгуць Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Тамбоўскую ці Табольскую губ.[65] *(319—1—479—7; 1430—1—52163—181адв.)*.

1230. **Воўк Марцін** (Волк Мартин), шляхціц Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224)*.

1231. **Воўк Фелікс** (Волк Феликс). Да паўстання служыў памочнікам сакратара Шавельскага павятовага суда. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

1232. **Воўк-Ланеўскі Вітальд** (Волк-Ланевский Витольд), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—153)*.

1233. **Воўк-Ланеўскі N.** (Волк Ланевский N.). Да паўстання служыў камісарам Дынабургскага

[63] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[64] Тое ж.

[65] Магчыма, звесткі часткова пераблытаны са звесткамі пра *Вольмэра Станіслава*.

ваеннага шпіталя. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. 04.04.1864 на яго маёмасць накладзены секвестр паводле распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 *(1416—3—21048—15адв.; 1430—1—52163—390; 1430—1—52285—5, 42адв.)*.

1234. **Выбраноўскі Цітус** (Выбрановский Тит), сын Яна. Да паўстання — інжынер, служыў выкладчыкам у Горы-Горацкім сельгасінстытуце, калежскі сакратар. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» знаходзіўся пад судом у МагВСК. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва 04.1864 высланы пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру. Пазней атрымаў дазвол і перасяліўся ў Смаленскую губ. У 1869 г. атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—1989—13—15; 1430—1—52163—194; 2514—1—2198—67; 3257—2—2—6)*.

1235. **Выганоўскі Стэфан** (Выгановский Стефан), сын Паула, дваранін Брэсцкага пав. Добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, узяты ў палон. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(162—1—116—69; 296—1—25—103; 319—1—479—7; 320—1—398—2адв., 353; 320—2—98—31адв.)*.

1236. **Выганоўскі Фердынанд** (Выгановский Фердинанд), сын Францішка, ксёндз. Да паўстання выкладаў закон Божы ў гімназіі ў г. Мазыры. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны і зняволены ў мазырскай турме. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі г. Тамбоў без пазбаўлення сану. Яго адзенне, бялізна і хатні рыштунак канфіскаваны і прададзены паводле ўказа МГП ад 02.07.1864 *(295—1—1643—31; 296—1—17—19адв.; 296—1—89—24; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21)*.

1237. **Выганоўскі Юльян** (Выгановский Юлиан), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Камянцы Брэсцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—7)*.

1238. **Выджга Людвік** (Выджга Людвиг), дваранін Седлецкага пав. Люблінскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

1239. **Выдровіч Бейнус** (Выдрович Бейнус), сын Ёселя, мешчанін, яўрэй. Да паўстання прыпісаны да м. Дабрамыслі Аршанскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго маёмасць (дом, мэбля, хатняе начынне і да т. п., быдла) на суму ў 78,63 руб. 27.06.1863 апісана і секвестравана. 17.12.1863 апраўданы, у 1864 г. секвестр з маёмасці зняты *(2003—1—320)*.

1240. **Вызга Юзаф** (Вызго Иосиф). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым лекарам у г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі і ваеннага суда прызначаны да ссылкі на жыхарства ў г. Салікаламск Пермскай губ. *(295—1—1643—30; 1430—1—52285—31)*.

1241. **Выкоўскі (Вылкоўскі) Юзаф** (Выковский (Вылковский) Иосиф), сын Саламеі, брат Уладзіслава, памешчык Рагачоўскага пав. За дачыненне да паўстання 09.1864 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. На яго маёнтак Расохі Рагачоўскага пав. накладаўся секвестр. 11.1864 яго маці падала прашэнне аб зняцці секвестру, якое, аднак, 04.1865 адхілена. Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379; 2001—2—142; 2532—1—15—10адв.)*.

1242. **Высакінскі Фелікс** (Высокинский Феликс), дваранін. Да паўстання арандаваў маёнтак Навасёлкі Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

1243. **Высоцкі Аляксандр** (Высоцкий Александр), дваранін. Да паўстання служыў акруговым наглядчыкам піцейнага збору ў г. Слоніме. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

1244. **Высоцкі Павел** (Высоцкий Павел). Служыў настаўнікам прагімназіі ў г. Свіслачы Ваўкавыскага пав.; калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

1245. **Высоцкі Эдвард** (Высоцкий Эдуард), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гвозніца

Брэсцкага пав., яго бацькі мелі дом у г. Пружанах. За ўдзел у паўстанні аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 21.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую ці Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—7; 1416—6—238; 1430—1—52163—205адв.).*

1246. **Высоцкі Юзаф** (Высоцкий Иосиф), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—6; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

1247. **Высоцкі Юзаф** (Висоцкий Осип), мешчанін Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—7).*

1248. **Высоцкі Ян** (Высоцкий Иван), аднадворац Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 1 год ці на 4 гады *(295—1—1643—24; 319—1—479—7; 1430—1—52163—205адв.).*

1249. **Вырукомскі Караль** (Вырукомский Карл), дваранін. Да паўстання служыў аканомам фермы Слонкі Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.).*

1250. **Вырыкоўскі Аляксандр** (Виржиковский Александр). Да паўстання служыў карчомным засядальнікам Троцкага земскага суда, тытулярны радца. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1873 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Цвярской губ., атрымаў амністыю і дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі, не выключаючы сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю», і права паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(1430—1—35458—1).*

1251. **Высаваты Юзаф** (Высоватый Иосиф), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

1252. **Вычалкоўскі (Вычалькоўскі) Мікалай** (Вычалковский (Вычальковский) Николай), аднадворац Віцебскай губ. Да паўстання жыў у с. Аляксандраўка Тарашчанскага пав. Кіеўскай губ. За ўдзел у паўстанні аддадзены (да 16.03.1865) пад ПВС у Кіеўскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, адпаведны ўказ выдадзены 22.04.1865 і 21.05.1865 ВГП на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 24.03.1865 і паведамлення кіеўскага генерал-губернатара ад 16.03.1865 *(1416—3—21048—16адв.; 1416—4—11416—166-168; 1430—1—52163—803-804).*

1253. **Вышамірская Стэфаніда** (Вышемирская Стефанида), дваранка Гарадоцкага пав., каталічка. Нар. каля 1830 г. Да паўстання была ўдавой штабс-капітана, жыла ў *Спасоўскай Марыі.* Западозрана разам з *С. М.* у намове паўстанцаў адбіць ля м. Бачэйкава Лепельскага пав. арыштаваных *Адамовіча Антонія*, *Прасецкіх Караля*, *Рудольфа* і *Цыпрыяна* і *Спасоўскага Дамініка.* Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая 17.01.1864 выдала пастанову аб усталяванні паліцэйскага нагляду і секвестры яе маёмасці і падала яе на разгляд віцебскаму губернатару. У сувязі з тым, што на следстве і судзе не прызнала абвінавачанняў і доказаў для іх не хапала, пастановай ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 23.04.1865 А. Патапавым, прызначана да вызвалення і вяртання на месца жыхарства *(1416—3—21048—16адв.; 1416—4—11416—242—255; 1430—1—31602—48—51; 3046—2—3—13адв.—14; 3046—2—5—7адв.).*

1254. **Вышамірскі Іпаліт** (Вышомирский Ипполит), дваранін Лепельскага (?) пав. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць 17.07.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 14.04.1864 накладаўся секвестр. Пазней аштрафаваны на 200 руб. *(1430—1—52163—415).*

1255. **Вышамірскі Ксаверы** (Вышемирский Ксаверий), сваяк (?) *Марцэлія*, шляхціц Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—6адв.).*

1256. **Вышамірскі Марцэлі** (Вышемирский Марцелий), сваяк (?) *Ксаверыя*, шляхціц Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—6адв.).*

1257. **Вышамірскі Міхал** (Вышомирский Михаил), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Іванск Лепельскага пав. 23.04.1863 разам з некалькімі людзьмі выехаў узброены з Іванска, далучыўся

да паўстанцаў (?). Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—7адв.; 1416—3—21048—16; 1430—1—31252—16—17адв.; 1430—1—52163—167адв., 414).*

1258. **Вышамірскі Юзаф** (Вышемирский Иосиф), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—222адв.).*

1259. **Вышамірскі N.** (Вышемирский N.), памешчык Мінскай губ. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166адв.).*

1260. **Вышамірскі N.**[66] (Вышемирский N.). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. За сувязі з паўстанцамі арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску *(295—1—1643—26адв.).*

1261. **Вышынскі Аляксандр** (Вышинский Александр). Да паўстання служыў у Ковенскім павятовым судзе, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—195, 613; 1430—1—52285—16).*

1262. **Вышынскі Казімір** (Вышинский Казимир), сын Сільвестра, дваранін Уманьскага пав. Кіеўскай губ. Падчас паўстання самавольна перайшоў за мяжу, пасля чаго вярнуўся, арыштаваны. Адпушчаны на парукі, схаваўся ад рас. уладаў, ізноў арыштаваны. Магчыма, на пэўны час карыстаўся прозвішчам Брандэс (Брант) Вільгельм (?). Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.07.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 06.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў *(295—1—1643—38; 296—1—25—106; 299—1—577—164-175; 320—1—398—2; 320—2—98—31адв.; 1418—3—1—7адв.-8, 13адв.-14).*

1263. **Вэбэр Адам** (Вебер Адам), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання служыў чаляднікам у цесляра Хадасевіча ў м. Шырвінцы Віленскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў ці з пазбаўленнем правоў стану і канфіскацыяй маёмасці. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—131; 1430—1—52163—150, 598).*

1264. **Вэйдэ (Вэйда) Аляксандр** (Вейде (Вейдо) Александр), дваранін Люцынскага пав. Служыў ключнікам у маёнтку Болаўск Люцынскага пав. памешчыка Гаранянскага, пасля чаго жыў у маёнтку Ліпна Люцынскага пав. памешчыка Ульяноўскага. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—110; 1416—3—21048—16адв.; 1430—1—31583—139-141; 1430—1—52163—400, 617).*

1265. **Вэйдэ Людвік** (Вейде Людвиг), дваранін Віцебскай (?) губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Ваенным судом прызначаны (паміж 02.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—110; 1416—3—21048—16адв.; 1430—1—52163—147, 617; 3046—2—5—8).*

1266. **Вэйдэ Міхал** (Вейде Михаил). Да паўстання з'яўляўся студэнтам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, паводле загада М. Мураўёва ад 01.05.1863 падлягаў арышту. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(1527—1—4—1; 3046—2—5—7адв.).*

1267. **Вэйсэнгоф Валерыя** (Вейсенгоф Валерия), дваранка Віленскай губ. Да паўстання жыла ў г. Вільні. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—8, 19).*

1268. **Вэйсэнгоф Уладзіслаў** (Вейсенгоф Владислав), сын Яна Савельевіча, муж Юзэфы Генрыкаўны Ратынскай, бацька Яна (нар. каля 1858) і Генрыка (нар. каля 1860), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання яго жонка валодала з 1854 г. маёнткам Вейна Сенненскага пав., а бацька маёнткамі з 300 сялянамі ў Новааляксандраўскім і Вількамірскім пав. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны і зняволены ў г. Сянно. На маёнтак яго бацькі Даўборышкі Вількамірскага пав. і на 1/6 частку маёнтка Пакрэўны Новааляксандраўскага пав. накладзены секвестр. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Высланы (да 01.05.1864) «адміністрацыйным парадкам» у г. Кунгур Пермскай губ., дзе жыў з дзецьмі пад наглядам паліцыі яшчэ 09.09.1866. У 1867 г. яго маёмасць падлягала вызва-

[66] Апошнія два запісы могуць тычыцца адной асобы.

ленню ад секвестру, калі той быў накладзены *(320—2—99—10; 2001—2—14—9, 11адв.; 2003—1—232; 2514—1—2198—67; 3257—2—2—5).*

1269. **Вэйштарт Анастасі** (Вейшторт (Вейшторд) Анастасий), сын Антонія. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—1адв.).*

1270. **Вэйштарт Аркадзь** (Вейшторт (Вейшторд) Аркадий), дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—7адв.; 1416—3—21048—16адв.; 1430—1—52163—167адв., 414).*

1271. **Вэйштарт Караль** (Вейштерт Карл), сын Юзафа, дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Сяльцо Буда Мсціслаўскага пав. Луізы (нар. Сваткоўскай) Галынскай. Разам з *Галынскім Адольфам* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Яго рухомая маёмасць у Сяльцы Будзе (посуд, конь і інш.) на суму ў 33,43 руб. 09.07.1863 апісана і секвестравана. Утрымліваўся ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 01.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 16.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. У 1867 г. яго маёмасць падлягала вызваленню ад секвестру *(2003—2—23; 2514—1—2198—67; 3257—1—17—8адв.-9; 3257—2—2—6).*

1272. **Вэндарф (Вендараў) Браніслаў (Браніслаў-Адам-Мікалай-Марак)** (Вендорф (Вендоров) Бронислав (Бронислав-Адам-Николай-Марк), сын *Уладзіслава*, муж Цэзарыі Альбінаўны Чачот, бацька 4 дзяцей, у тым ліку Стэфана (нар. 10.02.1862) і Уладзіслава-Матэвуша-Адама (нар. 24.02.1865), дваранін Слуцкага пав., каталік. Хр. 23.06.1832 у Клецкім касцёле. Да паўстання служыў міравым пасрэднікам Слуцкага пав., яго дваравымі людзьмі з'яўляліся *Магілянец Юзаф* і *Шастакоўскі Людвік*. 19.04.1863 уступіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, які праязджаў пра маёнтак Галынка Слуцкага пав. 21.04.1863 пакінуў яго, прыбыў у маёнтак Гаўрылаўка памешчыка Пуцяты, адкуль паслаў паведамленне да прыстава 1 стана Ігуменскага пав. *Шамяцілы Браніслава* і 26.04.1863 атрымаў білет на праезд у Слуцкі пав. 27.04.1863 прыбыў у г. Слуцк і з'явіўся да слуцкага павятовага начальніка. Арыштаваны, зняволены ў слуцкім астрогу. На яго маёмасць накладаўся секвестр. На следстве даказаў, што захоплены ў атрад гвалтоўна, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.07.1863, вызвалены з-пад арышту і вернуты на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(160—2—682—108; 296—1—19—29-38, 272-272адв.; 319—2—449; 320—2—99—38; 1524—1—1—2адв.; 1525—1—2—8адв.-9).*

1273. **Вэндарф Уладзіслаў (Адаляцэнт-Уладзіслаў-Эгіда-Адам-Матэвуш)** (Вендорф Владислав), сын Адама Станіслававіча (валодаў закладным маёнткам Чудзін Слуцкага пав.) і Карнэліі Якубаўны Жабовіч, муж Міхаліны Міхалаўны Вайніловіч (шлюб каля 1833 г.), бацька *Браніслава*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Галынка Слуцкага пав. Хр. 01.09.1807 у Клецкім касцёле. Служыў у Слуцкім павятовым судзе, губернскі сакратар. Падазраваўся рас. уладамі ў агітацыі на карысць паўстання, у прыватнасці ў агітацыі памешчыкаў не падпісваць «усепадданейшы адрас» Аляксандру II, таму арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. За тое, што яго «прысутнасць <...> у краі прызнаецца шкоднай для грамадскага спакою», паводле загада М. Мураўёва ад 13.12.1863 падлягаў ссылцы ў Пермскую губ. пад строгі нагляд паліцыі. Галынка, ацэненая прыкладна ў 50 тыс. руб., секвестравана паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 06.02.1864, але 12.1864 секвестр зняты. Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу. З прычыны шкоднасці клімату ў месцы ссылкі 02.05.1865 А. Патапавым яно заменена на Кастрамскую губ. 27.06.1865 адпраўлены з Мінска ў г. Вільню для далейшай перасылкі. Яго жонка выправілася з ім. У 1868 г. жыў у г. Варшаве *(162—1—122—21; 295—1—1619; 295—1—1643—26, 32; 296—1—25—89; 296—1—89—10, 23, 77адв.; 319—2—449; 320—2—99—38; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796; 2532—1—15—13адв.).*

1274. **Вяжынская Антаніна** (Вежинская Антонина), жонка *Міхала*. За дачыненне да паўстання прысуджана з мужам да турэмнага зняволення на 1 месяц *(295—1—1643—37).*

1275. **Вяжынская Людвіка** (Вежинская Людвига), жонка *Анастазія*. За дачыненне да паўстання прысуджана з мужам да турэмнага зняволення на 1 месяц *(295—1—1643—37).*

1276. **Вяжынскі Анастазі** (Вежинский Анастасий), муж *Людвікі*. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання прысуджаны з жонкай да турэмнага зняволення на 1 месяц *(295—1—1643—37).*

1277. **Вяжынскі Міхал** (Вежинский Михаил), муж *Антаніны*. За дачыненне да паўстання прысуджаны з жонкай да турэмнага зняволення на 1 месяц *(295—1—1643—37).*

1278. **Вялічка Баляслаў** (Величко Болеслав), сваяк *Ігната*, памешчык Вількамірскага

пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—194; 2532—1—15—3)*.

1279. **Вялічка Ігнат** (Величко Игнатий), сын Казіміра, сваяк *Баляслава*, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам 3 участка Вількамірскага пав., яго маці валодала маёнткам Падшады Вількамірскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Омскую ці ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—3)*.

1280. **Вялічка Эдвард** (Величко Эдуард), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.)*.

1281. **Вяльберт Логін** (Вяльберт Логин), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

**Вяльвейскі Адольф** — гл. **Велявейскі Адольф**

1282. **Вяльгорскі (Вільгорскі) Адам** (Виольгорский (Вильгорский) Адам), памешчык Мсціслаўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.)*.

1283. **Вяльгорскі (Велягорскі) Мечыслаў** (Виельгорский (Вельгорский, Велегорский) Мечислав), сын Густава, брат *Міхала*, граф, дваранін Себежскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткамі Дзедзіна (5907 дзес. зямлі, сад, 3 карчмы, 4736 руб. гадавога прыбытку), Альыня, Юстыянава (3926 дзес. зямлі, сад, карчма, 3452 руб. гадавога прыбытку) і Засіціна (3937 дзес. зямлі, фруктовы сад, карчма, 2423 руб. гадавога прыбытку) Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). На яго маёмасць 02.–09.07.1863 накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 24.07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніке на 6 гадоў. Маёнткі Дзедзіна, Юстыянава і Засіціна 20.04.1865 яшчэ знаходзіліся пад секвестрам *(319—1—479—7адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—15; 1430—1—52163—19адв., 214адв.-215, 230адв., 417адв., 437, 568адв., 596, 824адв.; 2616—1—40—10адв., 12)*.

1284. **Вяльгорскі (Велягорскі) Міхал** (Виельгорский (Вельгорский, Велегорский) Михаил), сын Густава, брат *Мечыслава*, граф, дваранін Себежскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткамі Дзедзіна (5907 дзес. зямлі, сад, 3 карчмы, 4736 руб. гадавога прыбытку), Альыня, Юстыянава (3926 дзес. зямлі, сад, карчма, 3452 руб. гадавога прыбытку) і Засіціна (3937 дзес. зямлі, фруктовы сад, карчма, 2423 руб. гадавога прыбытку) Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). На яго маёмасць 02–09.07.1863 накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на бестэрміновую катаргу ў рудніку. Маёнткі Дзедзіна, Юстыянава і Засіціна 20.10.1864 яшчэ знаходзіліся пад секвестрам *(319—1—479—7адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—15; 1430—1—52163—19адв., 230адв., 417адв., 437, 568адв., 596; 2616—1—40—10адв., 12)*.

**Вянслаўскі Антоні** — гл. **Вянцлаўскі Антоні**

1285. **Вянцкевіч Бенядыкт** (Венцкевич Венедикт), дваранін. Абвінавачаны ў дачыненні да паўстання, у 1864 г. арыштаваны. Прысуджаны да штрафу і вызвалення з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1643—36адв.)*.

1286. **Вянцкоўская Зоф'я** (Венцковская София), дачка Адама, жонка *Юльяна*, дваранка Лепельскага пав., каталічка. Падчас паўстання разам з мужам западозрана рас. уладамі ў нарыхтоўцы куль, пораху і патронаў для паўстанцаў. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 09.10.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—15адв.-16)*.

1287. **Вянцкоўскі Казімір** (Венцковский Казимир), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—6; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

1288. **Вянцкоўскі Францішак** (Венцковский Франц), сын Ануфрыя. Да паўстання служыў

настаўнікам у Горы-Горацкім сельгасінстытуце, калежскі радца. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Ніжагародскую губ. У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру *(1430—1—52163—194; 2514—1—2198—67; 3257—2—2—6)*.

1289. **Вянцкоўскі Юльян** (Венцковский Юлиан), сын Клеменса, муж *Зоф'і*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў нарыхтоўцы для паўстанцаў, куль, пораху і патронаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 09.10.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—14адв.—15)*.

1290. **Вянцлаўскі Аляксандр** (Венцлавский Александр), сын Міхала, дваранін Слуцкага ці Пінскага пав. Да паўстання жыў у м. Столін Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—38адв.; 319—1—479—7адв.; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—206)*.

1291. **Вянцлаўскі (Вянслаўскі) Антоні** (Венцславский (Венславский) Антон), памешчык Цельшаўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—5)*.

1292. **Вянцлаўскі Станіслаў** (Венцлавский Станислав), дваранін Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 04.07.1864), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(299—1—579—298-307)*.

**Вяракса Віктар** — гл. **Варакса Віктар**

**Вяракса Гектар** — гл. **Варакса Гектар**

**Вяракса Ян** — гл. **Варакса Ян**

1293. **Вярбіцкі Аляксандр** (Вержбицкий Александр), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—6адв.;)*.

1294. **Вярбіцкі Аўгуст** (Вержбицкий Август), сын Якуба, дваранін Рэжыцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—7адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—15адв.; 1430—1—52163—421адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.)*.

1295. **Вярбіцкі Баляслаў** (Вержбицкий Болеслав), дваранін. Да паўстання жыў у фальв. Лаварышкі Троцкага пав., які належаў яго жонцы. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—6адв.; 1430—1—52163—181)*.

1296. **Вярбіцкі Вінцэнт** (Вержбицкий Викентий), сын Тамаша, дваранін Мінскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе. Потым трапіў пад следства ў ВСК, якая не вынесла свайго рашэння з прычыны яго смерці (да 21.12.1863). Яго маёмасць падлягала (да 01.10.1864) секвестру, ад якога вызвалялася ў 1867 г. *(1416—3—21048—15адв.; 1430—1—52163—395адв.; 2001—2—14—11адв.; 2514—1—2198—67; 3255—1—14—1адв.; 3046—2—3—11адв.-12; 3046—2—5—7)*.

1297. **Вярбіцкі Кондрат** (Вержбицкий Кондрат), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101; 319—1—479—6; 1430—1—52163—154)*.

1298. **Вярбіцкі Матэвуш** (Вербицкий Матеуш), дваранін Навагрудскага (?) пав. Уваходзіў у склад атрада *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна* (?). Арыштаваны да 08.04.1863, дастаўлены ў г. Навагрудак *(295—1—1562—16)*.

1299. **Вярбіцкі Мечыслаў** (Вержбицкий Мечислав), дваранін Ковенскай губ. ці Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1416—6—280; 1430—1—52163—145, 573)*.

1300. **Вярбіцкі Пётр** (Вержбицкий Петр). Да паўстання служыў у Гродзенскай ПДМ; тытулярны радца. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237адв.)*.

1301. **Вярбіцкі Сымон** (Вержбицкий Семен). Да паўстання служыў старшынёй Нацкай вол. Ле-

пельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Аддадзены пад ПВС, па справе праходзіў разам з *Чаховічам Аўгустам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.11.1866 прызнаны вінаватым у «неналежным выкананні сваіх абавязкаў», з-за чаго ў абывацельскія кнігі не быў унесены фальв. Слаўны Кут, дзе жыў «палітычны злачынца» *Чэрняк Максімільян* і не запісана прыслуга памешчыка *Шастоўскага Юзафа*, і прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на службу на радзіме і штрафам у 50 руб. ср. Штраф заплаціць не змог, таму ў 1871 г. яго маёмасць апісана *(1416—4—11782).*

1302. **Вярбіцкі Юзаф** (Вербицкий Иосиф). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

1303. **Вярбіцкі Ян** (Вержбицкий Иван), мешчанін г. Новааляксандраўска. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—6адв.).*

1304. **Вярбіцкі N.** (Вержбицкий N.). Удзельнічаў у паўстанні разам з *Арцімовічам Казімірам, Жаброўскім Канстанцінам, Цілем Эдвардам,* 17.04.1863 выехаў з імі з маёнтка Рыкава Себежскага пав. *(1430—1—31535—2).*

1305. **Вярбоўскі Ян** (Вержбовский Иван), сын Цімафея, дваранін Рагачоўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 06.11.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 18.11.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(1416—4—11416—128; 3257—2—2—6).*

1306. **Вярбоўскі N.** (Вержбовский N.), памешчык Ашмянскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

1307. **Вярніцкі Аляксандр** (Верницкий Александр), дваранін Валынскай губ. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка,* арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Западозраны таксама ў нарыхтоўцы пораху і свінцу. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 16.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 10.10.1863 справа вернута ў ЧСК. Быў пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(1416—4—11416—119адв.; 1430—1—52163—375адв.; 3257—2—2—5адв.; 3366—1—5—11адв., 13адв.).*

1308. **Вярцінскі Леанард** (Верцинский Леонард), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання служыў пісарам Ваўкавыскага павятовага суда, калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 08.07.1863 і пастановы ГГП ад 16.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—7; 320—1—398—125; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—293; 1430—1—52163—601).*

1309. **Вярцінскі Уладзіслаў** (Верцинский Владислав), дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

1310. **Вярыга Алена** (Вериго Елена), дваранка. Да паўстання жыла ў маёнтку Антадур Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

1311. **Вярыга Аляксандр** (Верига Александр), дваранін. Да паўстання жыў у м. Налібокі Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» (у Арэнбургскую губ.?) *(295—1—1643—30адв.; 1430—1—52285—8).*

1312. **Вярыга Арцём** (Вериго Артемий), сын Ігната, памешчык, каталік. Нар. каля 1818 г. Служыў на грамадзянскай службе (губернскі сакратар), потым аканомам у некаторых памешчыкаў Віцебскай губ., займаўся рамонтам праваслаўных цэркваў. Да паўстання валодаў маёнткам Стайкі Віцебскага пав., у яго жыў *Пётух-Кубліцкі Фердынанд.* Разам з ім выехаў са Стаек, па дарозе ўночы 22/23.04.1863 спыніўся на начлег у *Васілеўскага Аляксандра.* Западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. У яго доме праведзены вобшук (06.–08.05.1863), падчас якога знойдзены паперы, якія дазволілі рас. уладам западозрыць яго ў дачыненні да дзейнасці паўстанцкага камітэта. Зняволены ў замку ў г. Віцебску. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся

секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Быў пад судом у ВВСК, якая 17.01.1864 прызначыла яго да бестэрміновай ссылкі на катаргу. 22.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб пераглядзе справы. Канчаткова прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. Стайкі 26.07.1864 на падставе патрабавання ВСК ад 18.07.1864 секвеставаны і потым канфіскаваны (02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі) *(319—1—479—8; 1416—3—21048—15; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—31275—84; 1430—1—31604—13-19а; 1430—1—52163—425адв., 429, 535, 571, 723, 827; 3046—2—3—10адв.-11; 3046—2—5—7).*

1313. **Вярыга Браніслаў** (Вериго Бронислав), сын Яна Ігнатавіча, брат Зыгмунта Іпаліта (нар. 1825), Тадэвуша (нар. 1828) і Ігната Антонія (нар. 1847), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. 08.05.1841 у вак. Французская Грэбля Ігуменскага пав., хр. 13.06.1841 у Блонскім касцёле. Уваходзіў у склад атрада *Свентарэцкага Баляслава*, пасля яго разбіцця 05.1863 у Ігуменскім пав. схоплены сялянамі. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым 05.01.1864, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Частка зямлі ў вак. Французская Грэбля, якая належала яму з братамі, сёстрамі і маці, секвестравана, а потым канфіскавана паводле ўказа МГП ад 11.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1597; 296—1—25—104; 296—1—89—36адв.-37; 299—1—577—511-513; 319—2—459—96-107 і інш.; 320—1—398—176; 320—2—98—31адв.; 1418—3—1—12адв.-13).*

1314. **Вярыга Валяр'ян** (Вериго Валериан), сын Яна, стрыечны (?) брат *Ігната*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання служыў канцылярыстам у Віцебскай ПДМ. 22.04.1863 пакінуў г. Віцебск. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. 08.05.1863 звольнены са службы. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—8; 1416—3—21048—15, 16; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—31259—9, 39адв.; 1430—1—52163—535; 3046—2—3—10адв.-11; 3046—2—5—7).*

1315. **Вярыга Валяр'ян** (Вериго Валериан), сын Ігната, дваранін Віцебскай губ. Да паўстання служыў канцылярыстам у Віцебскай палаце крымінальнага суда. З 22—30.04.1863 не з'яўляўся на службу. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада і 31.07.1863 арыштаваны. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. *(1430—1—31259—10-12, 39адв.; 1430—1—52163—194адв., 395).*

1316. **Вярыга Вінцэнт** (Вериго Викентий), сын Ігната ці Міхала, сваяк Гераніма, дваранін ці аднадворац Дрысенскага пав. Да паўстання яго маці валодала зямлёй у сядзібе Янава Дрысенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска. На зямлю 27.06.1863 накладаўся секвестр. 04.12.1863 выйшаў указ аб канфіскацыі яго маёмасці *(319—1—479—7адв.; 320—1—398—134адв.; 231; 1416—3—21048—15, 16; 1416—4—11416—285, 289; 1430—1—52163—392, 459, 568, 596, 678адв., 823адв.; 2616—1—40—10адв., 12адв.).*

1317. **Вярыга Ігнат** (Вериго Игнатий), сын Ігната, стрыечны (?) брат *Валяр'яна*, дваранін Суражскага пав., каталік. Да паўстання жыў у г. Віцебску, служыў памочнікам столаначальніка Віцебскай палаты крымінальнага суда. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў дапамозе *Валяр'яну* далучыцца да паўстанцаў і *Камінскаму Антонію* ў нарыхтоўцы куль і закупцы пораху. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 23.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—12адв.-13; 3046—2—5—7).*

1318. **Вярыга Эдмунд** (Вериго Эдмунд), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—6; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

1319. **Вярыга Юзаф** (Вериго Иосиф), сын Юстына, дваранін Дрысенскага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Падчас паўстання абгавораны *Другавінам Янам* у прынясенні прысягі на адданасць «Рэвалюцыйнаму Камітэту». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае на сябе моцнае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены

10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—4—11416—185-212; 3046—2—3—9адв.-10; 3046—2—5—7)*.

1320. **Вярыга-Дарэўскі Антоні** (Верига Даревский Антон), сын Мікалая, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў спачуванні паўстанню, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—3)*.

**Вясніцкі Аляксандр** — гл. **Вісніцкі Аляксандр**

1321. **Вячфінскі Іпаліт** (Вечфинский Ипполит). За «палітычныя» злачынствы сасланы. У 1870 г. жыў у Вяцкай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—33-34)*.

1322. **Вяшчыцкі Цэзар** (Вещицкий Цезарий), шляхціц Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—6адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

# Г

1323. **Габінскі Канстанцін** (Гобинский Константин), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

1324. **Габцэвіч Вінцэнт** (Гобцевич Викентий), дваранін. Да паўстання з'яўляўся клерыкам Мінскай рымска-каталіцкай кансісторыі. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—199адв.)*.

1325. **Габята Адольф** (Гобято Адольф). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Да паўстання жыў у Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

1326. **Гавароўскі (Гаворскі) Рыгор** (Говоровский (Говорский) Григорий), сын Васіля, вольны хлебароб Бабруйскага пав. Да паўстання жыў у в. Вальчыны Бабруйскага пав. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 04.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады *(162—1—116—112; 295—1—1643—41, 46; 299—1—579—298-307; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—452; 1430—1—52163—206)*.

1327. **Гаварушкоўскі Вінцэнт** (Говорюшковский Викентий), сын Міхала, селянін. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам фальв. Хмелянец Рагачоўскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67)*.

1328. **Гавяноўскі Марцін** (Говяновский Мартын), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—8адв.; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374)*.

1329. **Гадачэўскі Зыгмунт** (Годачевский Сигизмунд), сын Валерыяна Леанавіча і Барбары Тадэвушаўны Грынеўскай, брат Генрыка (нар. 1815), Камілы і Ізабэлы, муж Юліі Рамульт, бацька Генрыка-Міхала (нар. 1845) і Леана-Юльяна (нар. 1862), памешчык Лідскага пав., каталік. Хр. 16.05.1816 у Сваятыцкім касцёле. У 1836 г. паступіў на службу ў рас. войска, у 1845 г. быў паручнікам. Да паўстання выйшаў у адстаўку, арандаваў маёнтак Істакі (Стокі) Лідскага пав. кн. Л. Вітгенштэйна, з'яўляўся міравым пасярэднікам. За дачыненне да спраў па паўстанні яго маёмасць, на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 22.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 09.07.1863 і 26.07.1863, падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Казанскую губ. Маёмасць у далейшым, на падставе ўказа ад 10.12.1865, падлягала абавязковаму продажу. Пасля атрымання частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву і ў 1868 г. запісаны ў склад яе сталых жыхароў *(296—1—25—109; 319—2—775; 1416—6—265; 1416—6—280; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—12адв.)*.

1330. **Гадвойт Канстанцін** (Годвоит Константин), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9; 320—1—398—224)*.

1331. **Гадзельскі Марак** (Годзельский Марк), дваранін Сенненскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, у выніку чаго на яго маёмасць накладзены секвестр, які 12.1864 быў зняты *(2003—1—345—7)*.

1332. **Гадзіеўскі Аляксандр** (Годзиевский Александр), дваранін Мінскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны і высланы ў г. Омск шарагоўцам у сібірскія батальёны *(295—1—1643—43адв.; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

1333. **Гадзінскі Юзаф** (Годзинский Иосиф). Да паўстання служыў памочнікам бухгалтара Бельскага павятовага казначэйства. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.).*

1334. **Гадлеўскі Адам** (Годлевский Адам), дваранін. Да паўстання жыў разам з бацькам у засц. Дырванішкі Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—8адв.).*

1335. **Гадлеўскі Баляслаў** (Годлевский Болеслав), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання служыў у Ковенскай ПДМ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(319—1—479—9; 320—1—398—224).*

1336. **Гадлеўскі Тадэвуш** (Гадлевский Фаддей), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Сікалянка Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

1337. **Гадлеўскі N.** (Годлевский N.), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Бялынічы Магілёўскага пав., канонік магілёўскі. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, 27.05.1863 арыштаваны. Зняволены ў м. Бялынічы *(1781—2—5602—31).*

1338. **Гадовіч Тэлясфор** (Годович Телесфор). Удзел у паўстанні невядомы. У 1871 г. жыў як «палітычны ссыльны» ў Кастрамской губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—23).*

1339. **Гаеўская Анеля** (Гаевская Анеля). Да паўстання з'яўлялася манахіняй кляштара ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9).*

1340. **Гаеўскі Антоні** (Гаевский Антон), вольны хлебароб. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Сельская грамада адмовілася прымаць яго, з-за чаго паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 20.12.1863 падлягаў высылцы ў Пскоўскую губ. 12.1863 высланы з г. Барысава ў г. Мінск *(295—1—1621).*

1341. **Гаеўскі Вінцэнт** (Гаевский Викентий), аднадворац. Да паўстання служыў правіянтавым пісарам у маёнтку Ішчална Лідскага пав. Падчас паўстання зачытаў у Ішчалненскай карчме паўстанцкі маніфест і агітаваў сялянаў да паўстання. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

1342. **Гаеўскі Уладзімір** (Гаевский Владимир), дваранін Дынабургскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго 11.09.1863 маёмасць накладаўся секвестр. Сасланы (да 27.08.1863) на жыхарства ў Арэнбургскую губ. *(1416—3—21048—22адв.; 1430—1—31355—102-105; 1430—1—52163—150адв., 389адв.).*

1343. **Гажыч (Гажыц) Вітальд** (Гажич (Гажиц) Витольд), дваранін Брэсцкага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні ў Віленскай губ., таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 10.09.1863 і пастановы ГГП ад 03.10.1863 падлягала секвестру. Прызнаны вінаватым і прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 20 гадоў *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—9адв.; 1416—6—303).*

1344. **Гажыч Ежы** (Гажич Георгий), муж *Канстанцыі*, памешчык Брэсцкага пав. Служыў на грамадзянскай службе; выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» паводле канфірмацыі А. Патапава 08.1864 высланы разам з жонкай пад строгі нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру, а потым абавязковаму продажу. У 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—1989—18-19; 1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—7адв.).*

1345. **Гажыч Канстанцыя** (Гажич Констанция), жонка *Ежы*, памешчыца Брэсцкага пав. 08.1864 выслана разам з мужам пад строгі нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—552адв.).*

**Газдава-Цішынскі Аляксандр** — гл. **Цішынскі Аляксандр**

1346. **Газдзіцкі Норберт** (Гоздицкий (Гоздзицкий) Норберт), муж Валерыі, памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Карольпаль у с. Худаўцы Сенненскага пав. (дом, гаспадарчыя пабудовы, млын, фруктовы сад і інш., гадавы даход — каля 681 руб. ср.). Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што яго рухомая і нерухомая маёмасць 11.07.1863 апісана і секвестравана. 12.1864 выдадзена распараджэнне аб вызваленні маёнтка ад секвестру, аднак вернуты толькі 10.02.1865 *(2003—1—279—1—1адв.; 2003—1—345—7; 2003—2—35; 2189—1—476)*.

1347. **Гайдамовіч Антоні** (Гайдамович Антон), селянін Віленскага (?) пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго даваў паказанні (да 12.06.1863) у следчай камісіі. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

1348. **Гайдамовіч Эразм** (Гайдамович Эразм), сын Фелікса, дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў лекарам Уладзікаўказскага ваеннага шпіталя. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пададзена МагВГ. Быў пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(319—1—479—8адв.; 1430—1—52163—181; 2001—1—900—1адв.; 3257—2—2—9; 3366—1—5—4)*.

1349. **Гайдамовіч Юзаф** (Гайдамович Иосиф), незацверджаны дваранін. Да паўстання служыў журналістам у Панявежскім павятовым судзе. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Паводле рашэння А. Патапава прызначаны да звальнення з забаронай паступаць на службу ў «Паўночна-Заходнім краі» *(160—2—682—215)*.

1350. **Гайдамовіч Ян** (Гайдамович Иван), сын Фелікса, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Нар. каля 1833 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі ля в. Парэчча Барысаўскага пав., падчас якой паранены і захоплены ў палон. Утрымліваўся ў турэмным замку г. Лепеля, 23.08.1864 высланы ў г. Віцебск. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 22.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Аднак потым аддадзены пад суд у ВВСК, на якім сцвярджаў, што захоплены ў атрад гвалтоўна. Пастановай ЧПА ад 09.01.1865, канфірмаванай А. Патапавым 11.01.1865, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». ВГП 30.01.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(1416—3—21048—23адв.; 1416—4—11416—176-180; 1416—6—280; 1430—1—31597; 3046—2—3—18адв.-19; 3046—2—5—10адв.)*.

1351. **Гайжэўскі Рамуальд** (Гойжевский Ромуальд), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9; 320—1—398—224)*.

1352. **Гайжэўскі Юзаф** (Гойжевский Осип), дваранін. Да паўстання валодаў зямельным надзелам у вак. Ясянцы Лідскага пав. Данёс рас. уладам, што паўстанцы ўночы з 14 на 15 чэрвеня 1863 г. прыбылі ў Ясянцы і абрабавалі жыхароў. Западозраны ў дапамозе паўстанцам. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

1353. **Гайковіч Станіслаў** (Гайкович Станислав), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—8; 320—1—398—221адв.; 1416—6—280)*.

1354. **Гайковіч Станіслаў** (Гайкович Станислав), сын Антонія, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання служыў у г. Віцебску. 04.1863 самавольна выехаў з Віцебска, таму западозраны ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—22; 3046—2—3—23адв.-24)*.

1355. **Гайковіч Тамаш** (Гайкович Фома), дваранін Віленскай губ. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222адв.; 1416—6—280)*.

1356. **Гайкоўскі Ігнат** (Гайковский Игнатий), сын Алаізія, дваранін Лепельскага пав. За дачы-

ненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв.)*.

1357. **Гайлевіч Баляслаў** (Гойлевич Болеслав), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9; 1430—1—52163—181адв.)*.

1358. **Гайлевіч Іпаліт** (Гайлевич Ипполит), сваяк *Калікста*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

1359. **Гайлевіч Калікст** (Гайлевич Каликст), сваяк *Іпаліта*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

1360. **Гайлевіч Палікарп** (Гойлевич Поликарп), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9; 1430—1—52163—181адв.)*.

1361. **Галаўня (**нар. **Прыбора) Анеля** (Головня (ур. Пржиборова) Анеля), дачка Ігната, жонка Феліцыяна Ксаверыевіча, маці *Канстанціна-Конрада*, Мечыслава-Яўстаха (хр. 11.10.1837), Ксаверыя-Геранiма (хр. 22.10.1839) і *Ружы*, памешчыца, каталічка. Нар. каля 1805 г. Падчас паўстання з'яўлялася актыўнай агітаткай яго ў г. Мінску: насіла забароненае жалобнае адзенне, за што яе неаднаразова штрафавалі, спявала польскія гімны ў касцёлах, ладзіла сустрэчы паўстанцаў у сваім доме і г. д., за што арыштавана. Ваенным судом і загадам М. Мураўёва ад 14.06.1864 прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Пермскую ці Пензенскую губ. Яе каменны дом з садам у Мінску і маёнткі Канстанцінава, Лепянёва, Ратамка Мінскага пав. і 12 «пляцаў», якімі яна валодала разам з дзецьмі, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 08.02.1864. Потым яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу. На падставе ўказа ад 17.05.1867 атрымала частковую амністыю і ў 1869 г. перасялілася ў г. Варшаву, дзе жыла разам з сынам і 01/13.08.1869 запісана ў склад яе сталых жыхароў. У 1871 і 1873 гг. падавала прашэнні аб дазволе вярнуцца на радзіму і пасяліцца ў Мінску ў сваіх дзяцей, але яны былі адхілены з той прычыны, што лічылася рас. уладамі «галоўнай распараджальніцай рэвалюцыйнай арганізацыі» *(162—1—116—35, 124; 295—1—1643—50, 50адв., 51адв.; 295—1—2221; 296—1—89—7адв., 28адв., 67адв.; 299—1—577—338-339адв.; 299—1—579—165-177; 319—2—759—976-97в, 152-154 і інш.; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.; 1595—2—1695; 2532—1—15—13)*.

1362. **Галаўня Каятан** (Головня Каэтан), аднадворац Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—8; 1416—4—11416—87; 1430—1—52163—521)*.

1363. **Галаўня Канстанцін-Конрад** (Головня Константин-Конрад), сын Феліцыяна Ксаверыевіча і *Анелі*, брат Мечыслава Яўстаха (хр. 11.10.1837), Ксаверыя Геранiма (хр. 22.10.1839) і *Ружы*, памешчык Мінскага пав., каталік. Хр. 10.06.1834. З 1852 г. служыў у Гесэн-Касэльскім гусарскім палку рас. войска; выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка ці паручніка. Да паўстання жыў у г. Мінску. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую ці Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. Каменны дом з садам, маёнткі Канстанцінава, Лепянёва, Ратамка Мінскага пав. і 12 «пляцаў», якімі ён валодаў разам з маці, сястрой і братамі, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 08.02.1864 і ўказа МГП ад 19.08.1864. Потым яго маёмасць падлегла абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі ад 17.05.1867 вярнуўся са ссылкі і пасяліўся ў г. Варшаве. 01/13.04.1869 запісаны ў склад сталых яе жыхароў. У 1873 г. жыў тут з маці, служыў у краме дроваў Памарнацкага *(162—1—116—124; 295—1—2221—9адв.; 295—1—1643—51адв.; 296—1—89—7адв., 68; 299—1—579—165-177; 319—2—759—43адв., 51-62, 97з-97и, 149-151 і інш.; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.)*.

1364. **Галаўня Ружа** (Головня Анеля), дачка Феліцыяна Ксаверыевіча і *Анелі*, сястра *Канстанціна-Конрада*, Мечыслава-Яўстаха (хр. 11.10.1837) і Ксаверыя-Геранiма (хр. 22.10.1839), памешчыца Мінскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Пермскую ці Пензенскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру. Каменны дом з садам у г. Мінску і маёнткі Канстанцінава, Лепянёва, Ратамка Мінскага пав. і 12 «пляцаў», якімі яна валодала разам з маці і братамі, секвестраваны паводле распараджэння МГГ

ад 08.02.1864 і ўказа МГП ад 19.08.1864. Потым яе маёмасць падлегла абавязковаму продажу *(162—1—116—124; 296—1—89—7адв., 68; 299—1—579—165-177; 319—2—759; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.; 2532—1—15—13).*

1365. **Галаўня Эвеліна** (Головня Евелина), дваранка Мінскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 14.06.1864 прысуджана да адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ., яе маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 *(295—1—1643—51адв.; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.).*

1366. **Галееў Мулюк** (Галеев Мулюк), мешчанін Лепельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады. Указ аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 27.05.1864 *(296—1—25—105; 319—1—479—10; 1416—3—21048—23; 1430—1—52163—413адв.).*

1367. **фон Галер Міхал** (фон Галлер (фон-Галлер) Михаил), сын Тэадора, памешчык. Да паўстання разам з трыма братамі валодаў маёнткам Мараскова (Марское) Себежскага пав. (800 дзес. зямлі, сад, 315 руб. гадавога прыбытку). Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 24.07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(320—1—398—134адв.; 1430—1—52163—20, 214адв.-215, 230адв., 418, 437, 596адв., 666адв., 825; 2616—1—40—10адв., 12адв.).*

1368. **Галецкі Вацлаў** (Галецкий Вацлав). Да паўстання з'яўляўся вучнем аптэкара г. Кобрына. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

1369. **Галецкі Тадэвуш** (Галецкий Фадей), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281).*

1370. **Галіноўскі Аляксандр** (Галиновский Александр), сын Міхала, брат Яна, дваранін Рагачоўскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Да паўстання разам з братам жыў у г. Магілёве на здымнай кватэры ў Хаіма Леіна, служыў канцылярыстам у Магілёўскай казённай палаце, калежскі рэгістратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, 30.04.1863 звольнены са службы. Яго рухомая маёмасць (адзенне) на суму 2,18 руб. ср. 27.05.1863 апісана і секвестравана. Потым разам з *Касачэўскім Лукашам* і *Сапрыкам Казімірам* абвінавачаны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Арыштаваны, зняволены ў казармах батальёна ўнутранай варты Магілёва. З 19.07.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 31.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 31.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 13.11.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі *(1416—4—11416—132адв.; 2003—1—204; 2003—2—20—20; 2003—2—96—10адв.; 3257—1—17—6адв.-7; 3257—2—2—9адв.; 3257—2—8—4).*

1371. **Галіноўскі Юльян** (Галиновский Юлиан), сын Аўгустына (ці Юстына), муж Казіміры Андрэеўны, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання жыў у г. Магілёве, служыў сакратаром Магілёўскай крымінальнай палаты, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 14.06.1863). 27.05.1863 пастановай палаты звольнены са службы. Яго рухомая маёмасць 06.1863 апісана і секвестравана. Жонка 19.07.1863 падала прашэнне аб зняцці секвестру з часткі маёмасці, што належала ёй асабіста, якое было задаволена. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Енісейскую губ. Сасланы *(319—1—479—10; 1430—1—52163—526; 2003—2—28; 2003—2—45—2адв.-3; 2003—2—96—7; 3257—2—2—10).*

1372. **Галіоф Мікалай** (Галиоф Николай), сын Людвіка, брат Яна (падпалкоўніка), памешчык, каталік. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання валодаў разам з братам маёнткам Казяны Гарадоцкага пав. Падазраваўся рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Пасля паўстання знаходзіўся ў «невядомай адлучцы», таму на яго частку Казянаў 14.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 04.02.1864 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты *(1416—3—21048—23адв.; 1416—4—11416—21-23, 226; 1430—1—31602—173; 1430—1—52163—426адв., 435, 759, 826адв.; 3046—2—3—22адв.-23).*

1373. **Галіцкі Нікадым** (Галицкий Никодим), бацька *Станіслава*, дваранін. Да паўстання служыў землямерам. За «дачу прытулку сыну свайму, які яўна садзейнічаў на карысць рэвалюцыйнага руху»

арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 12.04.1865, зняволены ў мінскім турэмным замку і 27.04.1865 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуд адбыўся 11.05.1865 і пададзены мінскаму губернатару. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 19.01.1866 прысуджаны да грашовага штрафу ў 200 руб. і вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі з аддачай на парукі *(295—1—1643—51адв.; 299—2—6399—25-26; 299—2—6400—23адв.-24).*

1374. **Галіцкі Пётр** (Галицкий Петр), дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у м. Маладзечна Ігуменскага пав., яго бацькі валодалі фальв. Чартаселле Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 22.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—85; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—375; 320—2—98—32адв.; 1430—1—52163—167).*

1375. **Галіцкі Станіслаў** (Галицкий Станислав), сын *Нікадыма*, дваранін. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Мазыры. За «нашэнне рэвалюцыйных касцюмаў і жаданне стаць у шэрагі паўстанцаў» арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 12.04.1865, зняволены ў мінскім турэмным замку і 27.04.1865 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуд адбыўся 11.05.1865 і пададзены мінскаму губернатару. Прысуджаны да турэмнага зняволення. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 19.01.1866 прысуджаны да грашовага штрафу ў 200 руб. і вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі з аддачай на парукі *(295—1—1643—43адв., 51адв.; 299—2—6399—25-26).*

1376. **Галіцкі Юзаф** (Галицкий Осип), сын Паўла, мешчанін ці селянін. Да паўстання жыў у в. Біцічы Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. прысуджаны да высылкі ў адну з «вялікарасійскіх губ.» *(295—1—1643—50адв.; 320—1—398—3).*

1377. **Галкевіч Адам** (Голкевич Адам), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Сандынікі Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242).*

1378. **Галкоўскі Якуб** (Галковский Яков), шляхціц Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—8адв.; 1430—1—52163—204).*

1379. **Галубец (Галубцоў) Сымон** (Голубец (Голубцев) Семен), мешчанін г. Лепеля. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ВСК, якая 13.09.1863 перадала яго справу ў ДСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105; 1416—3—21048—22адв.; 1430—1—52163—412; 3046—2—3—18адв.-19; 3046—2—5—4адв., 10адв.).*

1380. **Гальчынскі Ян** (Гольчинский Иван), селянін Каралеўства Польскага. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—75).*

1381. **Галынец Аляксандр** (Голынец Александр), сын Рыгора. Да паўстання служыў пісьмаводам прыстава 2 стана Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

1382. **Галынец Пётр** (Голынец Петр), сын Рыгора, дваранін. Да паўстання служыў канцылярыстам у Пінскім земскім судзе. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць 24.08.1864 паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 04.05.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—23; 1430—1—52163—402адв.).*

1383. **Галынскі Адольф** (Голынский Адольф), сын Міхала і Луізы Сваткоўскай, брат Аляксандра і Леанціны, памешчык. Служыў у войску, паручнік. Да паўстання валодаў маёнткам Сяльцо Гогалеўка Мсціслаўскага пав. (в. Гогалеўка — 1762 дзес. 62 саж., 189 рэвізскіх душ) і фальв. Гарадок (138 дзес. 804 саж. зямлі без сялянаў). Разам з *Вэйштартам Каралем* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Маёнтак (зямля, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, рухомасць (у тым ліку бібліятэка з прыкладна 80 тамоў) і іншае з даходам 4550 руб. штогод) 07.07.1863 апісаны і секвестраваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 перадала яго справу ў МагСК. Утрымліваўся ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 01.08.1864 быў пад следствам у МагСК, якая 16.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Потым знаходзіўся пад судом у МагВСК *(2003—2—22; 3257—1—17—8адв.-9; 3257—2—2—9; 3257—2—8—4; 3366—1—5—3адв.).*

1384. **Галынскі Альброн (Альфонс)** (Голынский Альброн (Альфонс)), сын Алаізія, дваранін

Себежскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам (з вінакурняй) Дзмітрава Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. На маёмасць бацькі накладзены секвестр, а потым забарона. Пасля частковай амністыі прыбыў на радзіму на часовае знаходжанне, у 1876 г. атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў «Заходнім краі» *(319—1—479—9адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—22; 1430—1—35976—28-29; 1430—1—52163—19, 51, 416, 596; 2616—1—40—12).*

1385. **Галынскі Валяр'ян** (Голынский Валериан), сын Міхала (правадзейнага стацкага радцы) і Альжбеты, памешчык. Да паўстання валодаў в. Дубровіца, Мікулічы, Жаркоўка, Багданаўка, Серкаўка, Цішкаўка, Крымкі, Харонева, Будзішча, Паліцкае, Харатаўка, Борздзіна, Шумячы, Забелавуссе, Гарадзец, Футар, Трасцянка, Панятоўка, Пажог, Пяшчанка, Восава, Глушкова Клімавіцкага пав. (цяпер усе на тэрыторыі Расіі). Служыў на рас. грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Западозраны ў дачыненні да справы *Гаўрыловіча Ігната*, арыштаваны (да 12.10.1863) і зняволены ў г. Магілёве. Паводле ўказа МагГП ад 04.10.1863, яго маёмасць падлягала секвестру. На маёмасць яго маці паводле ўказаў МагГП ад 19.05.1863 і 18.10.1863 накладзена забарона. Дваранкі Еўфрасіння Юзафаўна Іліністіч і Антаніна Якубаўна Залеская 10.1863 падалі да МагГГ прашэнні аб вяртанні ім пазычаных Г. В. 875 і 3900 руб. адпаведна і атрымалі грошы. Паводле пастановы следчай камісіі, высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні», верагодна, у Тамбоўскую губ., секвестр з яго маёмасці і забарона з маёмасці маці здымаліся. 05.08.1865 у Тамбоўскай грамадзянскай палаце прадаў свае валоданні жонцы надворнага радцы Шарамецdevай *(1430—1—52285—32; 2003—1—375).*

**Галяеўская Вінцэнта (Вікторыя)** — гл. **Аколава Вінцэнта (Вікторыя)**

1386. **Гамалінскі Рудольф** (Гомолинский Рудольф), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у Тамбоўскай губ., 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—16-17; 1430—1—52758—8).*

1387. **Гамаліцкі Адам** (Гомолицкий Адам). Да паўстання жыў у вак. Мізгіры Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3).*

1388. **Гамбровіч Ануфры** (Гомбрович Онуфрий), сын Юзафа, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Менагіры Панявежскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—4).*

1389. **Гамулецкі Юзаф** (Гамулецкий Иосиф). Паходзіў з Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр. У 1870 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—35-36; 1430—1—52163—150).*

1390. **Ганіпроўская Кацярына** (Ганипровская Екатерина), памешчыца. За «палітычнае злачынства» яе маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—67).*

1391. **Ганіпроўскі Канстанцін** (Гонипровский Константин), сын *Пятра*, брат *Пятра*, памешчык Магілёўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 11.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару, потым у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу. Пасля трапіў пад суд у МагВСК *(3255—1—14—1адв.; 3257—2—2—9адв.; 3257—2—8—4).*

1392. **Ганіпроўскі Клімент** (Гонипровский Климентий (Клементий)), сын Юльяна (штабс-капітана), дваранін Быхаўскага пав. Да паўстання служыў беліцкім валасным пісарам у Чэрыкаўскім пав.; калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў магілёўскіх казармах. Яго маёмасць у м. Беліца секвестравана. 28.11.1863 бацька падаў прашэнне аб вяртанні сваёй памылкова секвестраванай шубы коштам 90 руб. ср., аднак наступствы гэтага невядомы. Знаходзіўся

пад следствам у ЧСК, якая 19.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах 6 гадоў. МагГП 10.04.1864 выдала адпаведны ўказ аб канфіскацыі *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—10; 2003—1—401; 3257—2—2—8адв.; 3366—1—5—3адв.)*.

1393. **Ганіпроўскі Леан** (Гонипровский Леон), сын Мікалая, брат Антаніны, Антонія, Барбары і Разаліі, пляменнік Адама, Антаніны (v. Несцяровіч), Юліі (v. Янавецкай) і Яна, дваранін Магілёўскага пав. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Разам з братам, сёстрамі, дзядзькамі і цёткамі валодаў маёнткам Таргоншчына Магілёўскага пав. (каля 850 дзес. зямлі, лясная дача Дзеўе ў Галоўчынскіх лясах (237 дзес.), дом на 4 пакоі, гаспадарчыя пабудовы, карчма, фруктовы сад). За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Таргоншчына, якую з 23.04.1860 да 23.04.1863 арандаваў *Залескі Юзаф*, 04.07.1863 апісана для накладання секвестру на яго частку. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Яго частка Таргоншчыны канфіскавана ў 1866 г. *(319—1—479—10; 320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2001—2—123—6; 2001—3—23—2; 2001—1—280; 2003—1—445—14адв.; 2003—2—19—14-14адв.; 2003—2—27; 2003—2—90—33-39; 2616—1—40—14адв.; 3257—2—2—8)*.

1394. **Ганіпроўскі Пётр** (Ганипровский Петр), сын *Пятра*, брат *Канстанціна*, дваранін Магілёўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 11.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару, потым у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3255—1—14—1адв.; 3257—2—8—4)*.

1395. **Ганіпроўскі Пётр** (Ганипровский Петр), сын Тадэвуша, бацька *Канстанціна* і *Пятра*, памешчык Магілёўскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—9адв.)*.

1396. **Гансеўскі Адам** (Гонсевский Адам), часоваабавязаны селянін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 16.06.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

1397. **Гансеўскі Рафал** (Гонсевский Рафаил), часоваабавязаны селянін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 16.06.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

1398. **Гансецкі Юльян** (Гансецкий Юлиан), сын Юльяна Сымонавіча, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання служыў аканомам у памешчыка Раўкевіча. Добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—69; 295—1—1643—45; 296—1—25—105; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—2, 353, 357-362; 320—2—98—32адв.)*.

1399. **Гансіцкі (Гянсінцкі) Фларыян** (Гансицкий (Генсинцкий) Флориан), дваранін Беластоцкага пав. Да паўстання жыў у в. Кухлічы Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 09.07.1873 і пастановы ГГП ад 07.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—9; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—287; 1430—1—52163—601адв.)*.

1400. **Ганснеўскі Баляслаў** (Гонсневский Болеслав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Пенянькі Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—9; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

1401. **Гансоўскі Віктар** (Гонсовский Виктор), памешчык Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Памёр 02.01.1867 *(2532—1—15—7)*.

1402. **Гансоўскі Зянон** (Гонсовский Зенон), дваранін Ашмянскага пав. Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102адв.; 3257—2—2—8адв.)*.

1403. **Ганцэвіч Юзаф** (Ганцевич Юзеф), аднадворац Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—8адв.; 1416—4—11416—114; 1430—1—52163—204)*.

1404. **Ганчарок Ян** (Гончарок Иван), селянін. Падчас паўстання хаваў зброю, арыштаваны. Прысуджаны да спагнання і высылкі ў г. Маскву *(295—1—1643—43)*.

1405. **Ганчарук Пётр** (Гончарук Петр), сын Юзафа, селянін. Да паўстання прыпісаны да Драгабыльскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—31)*.

1406. **Ганчарэвіч Аляксандр** (Гончаревич Александр). Да паўстання вучыўся ў 2 класе гімназіі ў г. Мінску. Уваходзіў у склад атрада *Трусава Антонія*, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(296—1—19—130-137)*.

1407. **Гарабурда Мікалай** (Гарабурда Николай), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1875 г. жыў у г. Апочка Пскоўскай губ., будучы вызваленым ад нагляду паліцыі, і атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(1430—1—35810—8; 1430—1—35834—50; 1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—67)*.

1408. **Гарадзенскі (Гарадзецкі) N.** (Городенский (Городецкий) N.), памешчык Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай «Кіргайла», забіты падчас бою з рас. войскамі. Маёмасць прызначана да канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—8адв.; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125)*.

1409. **Гарадзецкая Адэль** (Городецкая Аделя), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

1410. **Гарадзецкая Ідалія** (Городецкая Идалия), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

1411. **Гарадзецкі Казімір** (Городецкий Казимир), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 19.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67; 3255—1—14—1адв.)*.

**Гарадзецкі N.** — гл. **Гарадзенскі N.**

1412. **Гараднік Ігнат** (Городник Игнатий), селянін Дзісенскага (?) пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў веданні пра падрыхтоўку да паўстання і далучэнне да яго некаторых асоб з м. Асвея Дрысенскага пав. Пад следствам знаходзіўся разам з *Анкудовічам Баляславам*, *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і інш., арыштаваны. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства *(1416—2—12677—32-33адв.)*.

1413. **Гарайскі (Гаранскі) Ян** (Горайский (Горанский) Иван), сын Яна Себасцьянавіча, брат Канстанціна, Эміліі і Марыі, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання 2 гады вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Уваходзіў у склад (пачаргова) двух паўстанцкіх атрадаў, арыштаваны. Паводле пастановы ваеннага суда, канфірмаванай 15.08.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. МГП 20.02.1864 выдала пастанову аб канфіскацыі яго маёмасці. Яго частка аптэкі ў г. Навагрудку, якой ён валодаў на правах суспадчынніка з братам і сёстрамі, секвестравана 31.07.1863. 25.07.1872 Мінская аб'яднаная палата крымінальнага і грамадзянскага суда выдала пастанову аб канфіскацыі яго часткі аптэкі *(162—1—116—60; 295—1—1643—46; 295—1—2356; 319—1—479—9адв.; 299—1—577—511-513; 320—1—398—124адв., 181-183, 188, 287, 424; 320—2—98—32адв.; 320—2—99—49адв.-50; 1430—1—52163—596б адв.; 1527—1—4—12)*.

**Гаранскі Ян** — гл. **Гарайскі Ян**

**Гарасімовіч Тамаш** — гл. **Герасімовіч Тамаш**

1414. **Гарбатоўскі Уладзіслаў** (Горбатовский Владислав). Да паўстання вучыўся ў губернскай гімназіі ў г. Магілёве. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—9)*.

1415. **Гарбатоўскі Юзаф (Ян)** (Горбатовский Иосиф (Иван)), сын Вінцэнта, дваранін Мінскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў Мінска-Магілёўскай рымска-каталіцкай семінарыі. 21.05.1863 падаў прашэнне аб «звальненні» з семінарыі нібыта для прыняцця манаскага сану, атрымаў яго і ў гэты ж дзень уцёк з г. Мінска разам з *Варпяхоўскім Юльянам* і *Кавецкім Канстанцінам*. У Ігуменскім пав. далучыўся да паўстанцкага атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*. Падчас разбіцця атрада трапіў у палон, зняволены ў г. Ігумене. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 15.11.1863.

Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—41адв.; 295—1—1688—52-53; 296—1—90—10адв.-11; 299—1—579—298-307; 319—1—479—9адв.; 1418—3—1—17адв.-18; 1430—1—52163—206).*

1416. **Гарбатоўскі Юльян** (Горбатовский Юлиан), сын Яна. Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання калежскі сакратар. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах», падазрэнне ў дапамозе паўстанцам у вярбоўцы людзей у паўстанцкія атрады арыштаваны. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. Пасля атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, 04.1880 жыў у г. Мінску *(162—1—116—103, 166; 295—1—1643—42, 44; 295—1—3492—18; 1430—1—52163—150).*

**Гарбатоўскі Ян** — гл. **Гарбатоўскі Юзаф**

1417. **Гарбацкі Генрык** (Горбацкий Генрих), сын Тадэвуша, памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК *(3257—2—2—8адв.; 3366—1—5—4).*

1418. **Гарбацкі (Гарвацкі) Ігнат** (Горбацкий (Горвацкий) Игнатий), сын Антонія Фаўстынавіча і Юстыны Каралеўны, памешчык. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Абвінавачаны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Паводле пастановы следчай камісіі і распараджэння М. Мураўёва ад 11.04.1864 прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. На маёнтак бацькоў на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 накладзена забарона. У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру. Потым атрымаў дазвол і вярнуўся ў Мсціслаўскі пав., дзе валодаў маёнткам. У 1874 г. да яго па спадчыне перайшоў маёнтак Гарбацэвічы Бабруйскага пав., у 1875 г. «для ўладкавання яго» пераехаў у Бабруйскі пав. Жыў тут яшчэ 12.1876 *(295—1—3026—11; 1430—1—52163—195адв.; 2003—1—211—70-71адв., 85-93, 98-101; 2514—1—2198—67).*

1419. **Гарбацэвіч Даніэль** (Горбацевич Данил), сын Антонія, дваранін Навагрудскага пав. Быў ў паўстанцкім атрадзе ў Дзісенскім пав. Арыштаваны, знаходзіўся пры Дынабургскім арданансгаўзе. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.12.1864 прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. і секвестру маёмасці. З маёнтка яго бацькі спаганяўся 10-працэнтны збор *(160—2—682—62; 162—1—122—10; 295—1—1643—51адв.; 534—1—14—20).*

1420. **Гарбачэўскі Ігнат-Каміл** (Горбачевский Игнатий-Камилл), сын Антонія Францішкавіча, брат Караля-Людвіка (нар. 1810) і *Феліцыяна*, дваранін Пінскага пав., каталік. Хр. 30.07.1814. Да паўстання служыў пісьмаводам 2 стана Слуцкага пав. 14.02.1863 агітаваў аднадворцаў Клішаўскай грамады Слуцкага пав. Яна Радкевіча, Вінцэнта Ворта, Пятра Гудвіловіча, Юзафа Гаўсевіча і Францішка Цвірку далучыцца да паўстанцаў. Арыштаваны, 20.03.1863 зняволены ў астрогу г. Слуцка паводле загада МГГ. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле пастановы МГП ад 30.07.1863. Пастановай ПВА, канфірмаванай 31.10.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. На драўляны дом у г. Пінску, які належаў яго маці, накладзена забарона *(162—1—116—51; 295—1—1643—42адв.; 319—1—479—9адв.; 319—2—762—303-320, 355-377адв. і інш.; 320—1—398—90-95, 220, 222; 320—2—98—32адв.; 1416—6—206; 1524—1—1—3адв.; 1525—1—2—2адв.-3).*

1421. **Гарбачэўскі Феліцыян** (Горбачевский Фелициан), сын Антонія Францішкавіча, брат *Ігната-Каміла* і Караля-Людвіка (нар. 1810), дваранін Пінскага пав., ксёндз. Хр. 19.11.1818. За «супрацьзаконныя ўчынкі» ў г. Магілёве (?) у 1852 г. сасланы ў Вяцкую губ. У 1857 г. вярнуўся са ссылкі ў г. Мінск і знаходзіўся пад наглядам паліцыі пры парафіі Траецкага касцёла. 03.1863 прызначаны пробашчам касцёла г. Слуцка. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» арыштаваны, зняволены ў Мінску. Таму як яго «прысутнасць <...> у краі прызнаецца шкоднай для грамадскага спакою», паводле загада М. Мураўёва ад 13.12.1863 падлягаў ссылцы ў Арэнбургскую губ. пад строгі нагляд паліцыі. Пераведзены ў г. Вільню, адкуль 12.09.1864 высланы на месца ссылкі. 23.11.1864 прыбыў у Арэнбургскую губ., адпраўлены ў г. Бірск на сталае жыхарства *(295—1—1608; 295—1—1619; 295—1—1643—44; 319—2—762—303-320, 355-377адв. і інш.).*

1422. **Гарбачэўскі Юзаф** (Горбачевский Осип), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у касцёле ў м. Эйшышкі Лідскага пав. Падчас паўстання зачытаў у касцёле паўстанцкі маніфест, пасля чаго далучыўся да паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

1423. **Гарбачэўскі N.** (Горбачевский N.), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам ка-

сцёла ў м. Вішнева Ашмянскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—8адв.; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125)*.

1424. **Гарбоўскі Уладзіслаў** (Горбовский Владислав), дваранін Варшаўскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106)*.

1425. **Гарбуз-Бурдзілоўскі N.** (Гарбуз-Бурдзиловский N.), дваранін Рэчыцкага пав. Да паўстання служыў памочнікам столаначальніка МГП. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», звольнены са службы і высланы на радзіму ў Рэчыцкі пав. пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—45адв., 48адв.)*.

**Гарвацкі Ігнат** — гл. **Гарбацкі Ігнат**

1426. **Гаргас Антоні** (Гаргас Антон), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Варняны Цельшаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—9; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126)*.

1427. **Гардацкі (Гардоцкі) Войцех** (Гордацкий (Гордоцкий) Войтех), сваяк (?) *Уладзіслава*, дваранін Сакольскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74; 1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

1428. **Гардацкі Уладзіслаў** (Гордацкий Владислав), сваяк (?) *Войцеха*, дваранін Сакольскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад наглядам паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

1429. **Гардзялкоўскі Андрэй** (Гордзялковский Андрей), сын Габрыэля, брат *Людвіка* (?), памешчык Сенненскага пав. Служыў у рас. войску ў чыне падпаручніка, да паўстання выйшаў у адстаўку. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу. Быў пад судом у МагВСК. Прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру, а потым абавязковаму продажу *(162—1—122—21; 296—1—25—40; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796; 2532—1—15—9адв.; 3257—2—2—10; 3257—2—8—4)*.

1430. **Гардзялкоўскі Ігнат** (Гордзялковский Игнатий), сын Ксаверыя, брат *Рудольфа*. Да паўстання служыў неад'емным засядальнікам Магілёўскага земскага суда. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» звольнены са службы. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 26.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад судом у МагВСК па справе брата. У 1866 г. жыў ва ўласным маёнтку ў Магілёўскім пав. *(296—1—25—40; 2003—2—96—54адв.; 3257—2—2—8адв.; 3366—1—5—4)*.

1431. **Гардзялкоўскі Людвік** (Гордзялковский Людвиг), сын Габрыэля, брат *Андрэя* (?), дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне палкоўніка. Да паўстання жыў у Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр, які зняты напрыканцы 1864 г. *(296—1—25—40; 2003—1—418—15)*.

1432. **Гардзялкоўскі Рудольф** (Гордзялковский Рудольф), сын Ксаверыя, брат *Ігната*, дваранін Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, за што на яго маёмасць накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 26.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Бонч-Асмалоўскі Даніэль* і *Кашанскі Рыгор*. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—40; 319—1—479—9адв.; 1416—4—11416—88адв., 125; 1430—1—52163—526адв.; 3257—2—2—9; 3366—1—5—3адв.)*.

1433. **Гардзялоўскі Юзаф** (Гордзялковский Иосиф), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—67адв.)*.

**Гардоцкі Войцех** — гл. **Гардацкі Войцех**

1434. **Гаркавіч Аляксандр** (Горкович Александр). Да паўстання служыў станавым приста-

вам Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9адв.; 1430—1—52163—181адв.).*

1435. **Гарнічак Станіслаў** (Горничек Станислав), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем у сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—156).*

1436. **Гарноўскі Адам** (Гарновский Адам), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1842 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Аланецкую губ. *(295—1—1527—104; 295—1—1643—45).*

1437. **Гарноўскі Каятан** (Горновский Каетан), сын Ежы (Георгія, Юрыя), муж Феліцыі Стэфанаўны, памешчык, каталік. Нар. каля 1808 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання валодаў маёнткам Людчыцы Лепельскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння М. Мураўёва без суда 03.03.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Арэнбург. На яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 накладаўся секвестр. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 Людчыцы падлягалі вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага працэнтнага збору. Пасля частковай амністыі ў 1871 г. перасяліўся ў Смаленскую губ. У 1878 г. прыбыў на часовае знаходжанне ў г. Лепель, дзе ў 12.1878 атрымаў дазвол на сталае жыхарства *(296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—23; 1416—4—11416—285-286; 1430—1—31520; 1430—1—36211—13-17; 1430—1—52163—400, 450, 573адв., 608адв., 822; 1430—1—52285—59; 3046—2—3—18адв.-19; 3046—2—5—10).*

1438. **Гарноўскі Казімір** (Горновский Казимир), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—4адв.).*

1439. **Гарноўскі Людвік** (Горновский Людвик), памешчык Лепельскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 22.06.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Кастраму *(1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—58адв.).*

1440. **Гарноўскі Міхал** (Гарновский Михаил), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—10адв.).*

1441. **Гарноўскі Ян** (Гарновский Иван), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у маёнтку Старобіна Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 16.06.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 06.05.1864 накладаўся секвестр *(295—1—1527—100адв.; 295—1—1643—42адв., 46; 1416—3—21048—23; 1430—1—52163—152, 414).*

1442. **Гародка Францішак** (Городко Франц), сын Вінцэнта, дзяржаўны селянін, каталік. Нар. 01.05.1839 у в. Гарадкі Слонімскага пав., хр. 15.05.1839 у Скрундзеўскім касцёле. Прыпісаны да Пацавіцкай сельскай грамады Слонімскага пав. У 1859–1862 гг. вучыўся на Горы-Горацкай вучэбнай ферме, да паўстання — у Горкаўскім павятовым вучылішчы. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—7, 164-166).*

1443. **Гарох Базыль** (Горох Василий), сын Дзмітрыя, селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 27.09.1863 справа пададзена ў МагВСК *(3257—2—2—8адв.; 3366—1—5—4адв.).*

1444. **Гарт (Геут) Кірыл (Карніл)** (Гарт (Геут) Кирилл (Карнил)), сваяк (?) *Паўла* і *Фёдара*, селянін. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у в. Валосавічы Барысаўскага пав., прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў альбо схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. Арыштаваны. 02.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе

ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Вызвалены 09.1863 і вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі *(295—1—1527—103адв.; 296—1—19—280адв.).*

1445. **Гарт (Геут) Павел** (Гарт (Геут) Павел), сваяк (?) *Кірыла* і *Фёдара*, селянін. Нар. каля 1851 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав., жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў альбо схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам, арыштаваны. 19.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Вызвалены 09.1863 і вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі *(295—1—1527—105; 296—1—19—280адв.).*

1446. **Гарт (Геут) Фёдар** (Гарт (Геут) Федор), сваяк (?) *Кірыла* і *Паўла*, селянін. Нар. каля 1835 г. Да паўстання жыў у в. Валосавічы Барысаўскага пав., прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў альбо схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам, арыштаваны. 02.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Вызвалены 09.1863 і вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі *(295—1—1527—103адв.; 296—1—19—280адв.).*

1447. **Гарткевіч Станіслаў** (Горткевич Станислав), дваранін Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—9; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

1448. **Гартунг Януары** (Гартунг Январий). Паходзіў з Віленскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

1449. **Гарэла (Гарэлік) Рыгор** (Горело (Горелло, Горелик) Григорий), сын Паўла, муж Марыі Рыгораўны, бацька Яна (нар. каля 1862), Магдалены (нар. каля 1860) і Марыі (нар. каля 1864), селянін. Да паўстання жыў у в. Крывічы ці ў м. Усялюб Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку, потым у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 15.04.1864 высланы ў Сібір, з Мінска накіраваны ў г. Маскву для далейшай ссылкі. У 1864–1869 гг. жыў у с. Урэз Усць-Тартарскай вол. Томскай губ. 08.11.1868 падаў прашэнне аб высылцы да яго жонкі з дзецьмі, але яна адмовілася, спаслаўшыся на слабое здароўе (паводле медыцынскага заключэння, хварэла на хранічны катар лёгкіх) *(295—1—1562—16адв.; 295—1—2420—12; 295—1—2725—9; 296—1—296—3-3адв.; 299—2—7138; 320—1—398—2адв.).*

1450. **Гарэцкі Амброзі** (Горецкий Амвросий), сын Тамаша, брат *Антонія*, дваранін Полацкага пав., каталік. З 01.1863 жыў у маёнтку *Раманоўскага Уладзіслава* без пісьмовых дакументаў; непісьменны. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладзены секвестр. Утрымліваўся ў г. Віцебску. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 31.07.1864 вызвалены 23.09.1864 з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства ў Полацкі пав., аддачай на парукі і пад паліцэйскі нагляд. Рашэннем А. Патапава ад 24.10.1864 канчаткова прызнаны невінаватым у палітычных злачынствах. 17.06.1865 разам з братам жыў у маёнтку Экімань Полацкага пав. памешчыцы Мальчэўскай *(1416—3—21048—23; 1430—1—31568; 1430—1—52163—406адв.; 3046—2—3—21адв.-22).*

1451. **Гарэцкі Антоні** (Горецкий Антон), сын Тамаша, брат *Амброзія*, бацька *Юзафа* і *Яна*, дваранін Полацкага пав., каталік. Падчас паўстання з 12.1862 жыў у маёнтку *Раманоўскага Уладзіслава* без пісьмовых дакументаў; непісьменны. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Затым аддадзены пад суд. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладзены секвестр. Утрымліваўся ў г. Віцебску. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 31.07.1864, 23.09.1864 вызвалены з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства ў Полацкі пав., аддачай на парукі і пад паліцэйскі нагляд. Рашэннем А. Патапава ад 24.10.1864 канчаткова прызнаны невінаватым у палітычных злачынствах. 17.06.1865 разам з братам жыў у маёнтку Экімань Полацкага пав. памешчыцы Мальчэўскай *(1416—3—21048—23; 1430—1—31568; 1430—1—52163—406адв.; 3046—2—3—21адв.-22).*

1452. **Гарэцкі Францішак** (Горецкий Франц), сын Пятра, зяць *Нэйрэйтэра Караля Антонія*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання высланы

ў Томскую губ. разам з жонкай Німфай і сынам Вінцэнтам. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму; 12.1876 разам з жонкай і дзецьмі Дамінікам, Марыянай і Разаліяй жыў у вак. Суцін, дзе займаўся сельскай гаспадаркай *(295—1—2420—4; 295—1—3026—31адв.).*

1453. **Гарэцкі Юзаф** (Горецкий Иосиф), сын *Антонія*, брат *Яна*, дваранін Полацкага пав., каталік. Да паўстання не меў маёмасці і капіталаў. З 01.1863 жыў у маёнтку *Раманоўскага Уладзіслава* без пісьмовых дакументаў; непісьменны. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Потым аддадзены пад суд. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння У. Вяроўкіна ад 11.03.1864 накладзены секвестр. Утрымліваўся ў г. Віцебску. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 31.07.1864 вызвалены 23.09.1864 з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства ў Полацкі пав., аддачай на парукі і засnaваннем паліцэйскага нагляду. Рашэннем А. Патапава ад 24.10.1864 канчаткова прызнаны невінаватым у палітычных злачынствах *(1416—3—21048—23; 1430—1—31568; 1430—1—52163—406адв.; 3046—2—3—20адв.-21).*

1454. **Гарэцкі Ян** (Горецкий Иван), сын *Антонія*, брат *Юзафа*, дваранін Полацкага пав., каталік. Да паўстання аддаў *Раманоўскаму Уладзіславу* на захаванне 50 руб. Падчас паўстання з 01.1863 жыў у маёнтку *Р. У.* без пісьмовых дакументаў; непісьменны. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Потым аддадзены пад суд. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння У. Вяроўкіна ад 11.03.1864 накладзены секвестр. Утрымліваўся ў г. Віцебску. Паводле распараджэння Вяроўкіна ад 31.07.1864 вызвалены 23.09.1864 з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства ў Полацкі пав., аддачай на парукі і пад паліцэйскі нагляд. Рашэннем А. Патапава ад 24.10.1864 канчаткова прызнаны невінаватым у палітычных злачынствах *(1416—3—21048—23; 1430—1—31568; 1430—1—31602—54-56; 1430—1—52163—406адв.; 3046—2—3—20адв.-21).*

1455. **Гарэцкі Ян** (Горецкий Иван), сын Мацея, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 24.01.1832. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму. У 1872 г. звяртаўся ў Мінскі ДДС аб выдачы пасведчання аб дваранстве. 12.1876 разам з жонкай Юзэфай і дзецьмі Юзафам, Казімірам і Камілай жыў у вак. Суцін, дзе займаўся сельскай гаспадаркай *(295—1—3026—31адв.; 319—2—781—30-31 і інш.).*

**Гаслінскі Мацвей** — гл. **Міхярэвіч Мацвей**

1456. **Гаспадзёнак Мікіта** (Господенок Никита), сын Рыгора, брат Трафіма, селянін. Да паўстання служыў старшынёй Жаўноўскай вол. Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Аддадзены пад ПВС, па справе праходзіў разам з *Чаховічам Аўгустам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.11.1866 прызнаны вінаватым у «неналежным выкананні сваіх абавязкаў», з-за чаго «дапушчана было ў Жаўноўскай вол. <...> пражыванне палітычнага злачынцы Любецкага, які схаваўся за мяжу», і прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на службу на радзіме і штрафам у 50 руб. ср. Штраф заплаціць не змог, таму ў 1870 г. яго маёмасць падлягала апісанню *(1416—4—11782).*

1457. **Гасперская Адэль** (Гасперская Аделия), дачка Мікалая, дваранка. Да паўстання была не замужам. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 06.10.1864 скончыла яе справу *(3257—2—8—4).*

1458. **Гасперскі Ваўрынец** (Гасперский Лаврентий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 08.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—4).*

1459. **Гасціла Войцех** (Гостилло Войцех). Да паўстання служыў лесніком Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—9).*

1460. **Гатоўка Емяльян** (Готовко Емельян), селянін Барысаўскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у в. Харошая Барысаўскага пав., з'яўляўся лесніком памешчыка Валовіча. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Казелы Вінцэнта* ў Барысаўскім пав. Пасля рассеяння атрада хаваўся разам з *Бачызмальскім Леанардам* у лясах. Каля 03.06.1863 перабраўся ў фальв. Кайтанава Барысаўскага пав., дзе арыштаваны 08.06.1863. 08.1863 аддадзены пад ПВС пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 11.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады. Паводле ўказа МГП ад 15.06.1864, выдадзенага на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 13.05.1864, яго маёмасць канфіскоўвалася. 02.12.1863 адпраўлены «этапным

парадкам» на месца ссылкі *(162—1—116—108; 295—1—1547; 320—1—398—437).*

1461. **Гатоўская Эмілія** (Готовская Эмилия), дачка Яна, жонка *Станіслава*, дваранка Лепельскага пав., каталічка. Падчас паўстання арыштавана за тое, што праводзіла *Грудзінскага Паўла* пры яго выездзе ў паўстанцкі атрад. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 06.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—22адв.; 1430—1—52163—275, 326-328, 411; 3046—2—3—20адв.-21; 3046—2—5—11).*

1462. **Гатоўскі Вінцэнт** (Готтовский Викентий), памешчык Чавускага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—8).*

1463. **Гатоўскі Станіслаў** (Гатовский (Готовский) Станислав), сын Антонія, муж *Эміліі Янаўны*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі *Грудзінскага Паўла* (гл. таксама *Міхалоўская Юзэфа*, *Свідэрскі Канстанцін*) далучыцца да паўстання, арыштаваны разам з жонкай. На яго маёмасць накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 06.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Аддадзены пад суд у ВВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва прызначаны (да 15.09.1864) да вызвалення з аддачай на парукі і спагнаннем штрафу ў 200 руб. ср. 07.10.1864 падаў прашэнне аб вызваленні маёмасці ад секвестру *(1416—3—21048—22адв.; 1430—1—52163—275, 326-328, 411; 3046—2—3—19адв.-20; 3046—2—5—10адв.).*

1464. **Гаўрыленка Бенядыкт** (Гавриленко Венедикт), «сельскі жыхар». За ўдзел у паўстанні арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ваенны, прысуджаны да ссылкі ў арыштанцкія роты на 1 год *(295—1—1643—42, 44адв.).*

1465. **Гаўрылкевіч Казімір** (Гаурилькевич Казимир). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

1466. **Гаўрыловіч Ігнат** (Гаврилович Игнатий), сын Сымона, дваранін, каталік. Валодаў разам з братамі 20 дзес. зямлі ў вак. Юраўка Магілёўскай губ. Да паўстання служыў сакратаром Магілёўскага ДДС, тытулярны радца. Падчас паўстання меў дачыненне да справы *Венцлавовіча Ануфрыя* ў МагВСК. 25.09.1863 звольнены са службы. Да яго справы таксама мелі дачыненне *Галынскі Валяр'ян* і *Сафронаў Ян*. Прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць у Чавускім пав. падлегла секвестру, а потым абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў як «палітычны ссыльны» ў Пермскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—26; 1430—1—52163—558; 2003—1—489—38; 2003—2—96—21; 2514—1—2198—66; 3257—2—2—8, 8адв., 9, 32адв.).*

1467. **Гаўрыловіч Ян** (Гаврилович Иван), памешчык Мсціслаўскага і Чавускага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 падлягала забароне, а на падставе ўказа ад 10.12.1865 — абавязковаму продажу *(1430—1—52285—32; 2003—1—211—70-71адв.; 2003—1—489—49адв.; 2532—1—15—9, 9адв.).*

1468. **Гаўсман Міхал-Леапольд** (Гаусман Михаил-Леопольд), сын Антонія-Яна Юзафавіча і Марыяны Навіцкай, брат Людвіка-Караля (нар. 1816), Аўгуста-Дыянізія (нар. 1819) і Яна-Стэфана (нар. 1821), дваранін Мінскай губ. Нар. 15.11.1817, хр. 16.11.1817 у Сялецка-Брагінскай уніяцкай царкве. Жанаты на Юліі Мікалаеўне Туссэн, з якой меў дзяцей Міхала-Напалеона (нар. 1842), Міхаліну (нар. 1846), Эмерыка-Браніслава (нар. 1849), Оттана-Ігната-Оскара (нар. 1851), Марыяна-Артура (нар. 1852) і Цэзарыну (нар. 1855). Да паўстання жыў у гор. Мінску ва ўласным доме, служыў сакратаром Мінскага ДДС; калежскі сакратар. Абвінавачаны ў складанні адраса ад дваранства Мінскай губ. аб далучэнні гэтай губерні да Каралеўства Польскага і ва ўдзеле ў «рэвалюцыйнай арганізацыі». У 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў г. Волагду. У 1864 г. паводле распараджэння М. Мураўёва, выкліканы з Волагды ў г. Вільню, дзе вялося следства па яго справе. Апраўданы, пераведзены ў г. Мінск, дзе зняволены на працягу 1,5 года ў турэмным замку для следства па фактах фальсіфікацыі дакументаў. Яго адзін каменны і тры драўляныя дамы ў Мінску і фальв. Кальварышкі Мінскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 16.02.1864. Секвестр зняты паводле распараджэння М. Мураўёва ад 10.04.1865 з накладаннем забароны, потым маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1866 г. ізноў высланы ў г. Волагду, у 1867 г. атрымаў дазвол пераехаць у г. Варшаву, у 1868 г. запісаны ў склад яе сталых жыхароў. 12.1876 жыў ва ўласным доме на вул. Батальённай г. Мінска з пашпартам на 1 год. Пасля атрымаў дазвол на сталае жыхарства

ў Мінску, жыў тут яшчэ 03.1882 *(295—1—1643—45; 295—1—3026—8адв.-9; 295—1—3492—53адв.-54; 296—1—89—7, 67; 299—1—577—338-339адв.; 319—2—662; 320—1—398—192, 713; 534—1—14—43; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21; 2532—1—15—13)*.

1469. **Гаціскі (Гацiцкі, Гацінскі) Баляслаў-Адольф** (Гацискій (Гатицкий, Гацинский) Болеслав-Адольф), сын Вінцэнта Брунавіча і Ганны Стралкі, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. 03.1837 ва ўроч. Воўчае Балота Навагрудскага пав., хр. 03.1837 у Мірскім касцёле. У 1855–1859 гг. вучыўся ў губернскай гімназіі ў г. Гродне, якую закончыў без права на чын 14 класа. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падтрымаў захоп паўстанцамі г. Горкі 24.04.1863 і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Пастановай следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1876 г. у Самарскай губ. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(295—1—3040—20-21; 1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—67; 3257—1—53—2; 3286—2—1—4адв., 29-31)*.

1470. **Гаштаўт Аўгуст** (Гаштофт (Гоштофт) Август), дваранін г. Коўна. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

1471. **Гашынскі Канстанцін** (Гашинский Константин), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у Мінску, паводле рашэння якога сасланы ў Томскую губ. *(295—1—1643—42, 49; 1418—3—1—17адв.—18)*.

1472. **Гвалда Ян** (Гвалда Ян), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.)*.

1473. **Гедгаўт Антоні** (Гедговт Антон), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—9; 1430—1—52163—521адв.)*.

1474. **Гедгаўт Апалінары** (Гедговт Аполинарий), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—9)*.

1475. **Гедгаўт Тадэвуш** (Гедговд Фадей), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—9; 1430—1—52163—521адв.)*.

1476. **Гедгаўт Тэафіл** (Гедговд Феофил), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—9; 320—1—398—224; 3257—2—2—8адв.)*.

1477. **Гедгаўт Ян** (Гедговд Иван), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9; 320—1—398—224)*.

1478. **Гедрановіч Юзаф** (Гедронович (Гедринович) Иосиф), сын Францішка, дваранін Мінскага ці Слуцкага пав., каталік. Хр. 10.12.1835. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 06.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». У 1874 г. атрымаў амністыю з вяртаннем правоў дваранства. У 1874–1881 гг. жыў у г. Уфе. У ссылцы ажаніўся з Аленай Каспераўнай Траскоўскай, з якой меў дзяцей Ядвігу (нар. 28.10.1875), Казіміра (нар. 27.03.1878), Ванду (нар. 30.05.1880) і Зыгмунта-Часлава (нар. 26.06.1883). Памёр да 28.01.1893 *(162—1—116—64; 295—1—1643—51; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—164-175; 319—1—479—9адв.; 319—2—690—109-136, 322-327адв. і інш.; 320—1—398—282, 303; 320—2—98—32адв.; 1418—3—1—18адв.-19)*.

1479. **Гедройц Адам** (Гедройц Адам), сын Рамуальда, дваранін Слуцкага пав., каталік. «За нядобразычлівасць да ўрада» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—3адв.)*.

1480. **Гедройць Антоні** (Гедройць Антоний), сын Феліцыяна ці пазашлюбны, дваранін Вілейскага пав. Нар. каля 1842 г. Да паўстання жыў у маёнтку Холма Вілейскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім

атрадзе, пасля яго разбіцця арыштаваны. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе знаходзіўся яшчэ 10.07.1863. Праходзіў па справе разам з *Верашчакамі Аляксандрам* і *Канстанцінам* і *Казеллам Юзафам*. Рашэннем М. Мураўёва ад 23.08.1863 прысуджаны да ссылкі на службу ў Сібірскія лінейныя батальёны. У 1869 г. звольнены з вайсковай службы, падаў прашэнне аб вяртанні на радзіму. *(295—1—1527—99; 299—2—6694).*

1481. **Гедройць Антоні** (Гедройць Антоний), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Гядройці Віленскага пав. Падчас паўстання «куды адлучыўся невядома», таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

1482. **Гедройць Вінцэнт** (Гедройць Викентий), сын Казіміра, дваранін Мінскага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Рашэннем ЧПА, канфірмаваным А. Патапавым 08.12.1864, прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(160—2—682—28, 108; 162—1—122—7, 21; 295—1—1643—41адв.; 534—1—14—14; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796).*

1483. **Гедройць Вітальд** (Гедройц Витольд), князь, памешчык Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай военнага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 10 гадоў *(319—1—479—8; 320—1—398—221адв.).*

1484. **Гедройць Казімір** (Гедройць Казимир), сын Казіміра[67], дваранін, ксёндз. Да паўстання служыў адміністратарам у касцёле ў м. Слабадзінец Себежскага пав. Ксаверыя Верашчынскага. У 1864 г. абвінавачаны рас. уладамі ў тым, што не дапускаў вернікаў да споведзі, калі яны наведвалі праваслаўныя цэрквы, і «лаяў іх, выражаючыся пры гэтым у вышэйшай ступені абразліва аб праваслаўнай царкве», а таксама ў тым, што не чытаў малітву за здароўе імператара на імшы і не дапускаў праваслаўную жанчыну быць хроснай маці пры хрышчэнні немаўля (гл. *Багушэвіч Павел*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 22.08.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць (605,75 руб. і рэчы) пастановай ВГП ад 11.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 31.08.1864, накладаўся секвестр. Пастановай ЧПА ад 24.01.1865, канфірмаванай 25.01.1865 А. Патапавым, прысуджаны да пазбаўлення сану, правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 11.02.1865 адпраўлены на месца ссылкі *(1416—3—21048—23; 1416—4—11416—138-144; 1416—4—11553; 3046—2—3—24адв.-25).*

1485. **Гедройць Люцыян** (Гедройць Люциан), дваранін Вількамірскага пав. Да паўстання жыў у бацькоў у в. Свобішкі Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай военнага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598).*

1486. **Гедройць-Юрага Віктар** (Гедройць-Юраго Виктор), сын Ануфрыя і Ксаверыі Канстанцінаўны, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1826 г. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Токарава Полацкага пав. Абвінавачаны *Другавінам Янам* у ахвяраванні грошай на карысць паўстання, арыштаваны. Падчас вобшуку ў яго знойдзены кулі, порах і пістоны. На Токарава 10.09.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 10.08.1863 накладзены секвестр, а потым забарона. Трапіў (да 14.08.1863) пад следства ў ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—22; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—46, 403адв., 820адв.; 3046—2—3—16адв.-17; 3046—2—5—10).*

1487. **Гедройць-Юрага Цыпрыян** (Гедройц-Юраго Киприян), сын Віктара, дваранін Свянцянскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, у 1863 г. арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пададзена МагВГ. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Меў дачыненне да справы *Вайшыцкага Вінцэнта* і *Геніуша Баляслава.* Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» 28.09.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. *(319—1—479—8адв.; 1416—4—11416—127; 1430—1—52163—530; 2001—1—900—1адв.; 3257—2—2—8; 3366—1—5—11адв.).*

---

[67] У некаторых крыніцах імя яго бацькі памылкова фігуруе як Андрэй.

**Гедрыновіч Юзаф** — гл. **Гедрановіч Юзаф**

1488. **Гезгальт Юзаф** (Гезгольт Иосиф), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—8адв.)*.

1489. **Гейштар Браніслаў** (Гейштор Бронислав), сваяк *Стэфана*, *Эміля* і *Юзэфы*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

1490. **Гейштар Вітальд-Мацей** (Гейштор Витольд-Матей), сын Антонія-Яна, дваранін Слуцкага пав. Да паўстання служыў у канцылярыі мінскага губернскага пракурора. Падчас паўстання арыштаваны за захоўванне зброі і «іншыя злачынствы». У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. МГП 24.09.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—42, 44адв.; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—8, 10-12, 124; 320—2—98—32адв.; 1416—6—240; 1430—1—52163—596б)*.

1491. **Гейштар Стэфан** (Гейштор Степан), сваяк *Браніслава*, *Эміля* і *Юзэфы*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

1492. **Гейштар Эміль** (Гейштор Эмиль), сваяк *Браніслава*, *Стэфана* і *Юзэфы*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

1493. **Гейштар Эразм** (Гейштор Эразм), дваранін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля арыштаваны, не раскаяўся. У 1864 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога прысуджаны да ссылкі. Сасланы ў Енісейскую губ., дзе памёр у 1863 г. *(295—1—1643—43, 44)*.

1494. **Гейштар Юзэфа** (Гейштор Юзефа), сваячка *Браніслава*, *Стэфана*, *Эміля*, памешчыца Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання саслана ў Казанскую губ. Яе зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

1495. **Гейштар Якуб** (Гейштор Яков). Да паўстання служыў у Ковенскай губернскай па сялянскіх справах прысутнасці. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ., але потым вернуты ў г. Вільню *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

**Гелваноўскі Станіслаў** — гл. **Гельваноўскі Станіслаў**

1496. **Гельваноўскі (Гелваноўскі) Станіслаў** (Гельвановский (Гелвановский) Станислав), сын Канстанціна, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Да паўстання служыў пісарам у ВГП, не меў чыну. 21.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Арыштаваны, зняволены ў Віцебску. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 ці 6 гадоў. На дом маці ў г. Рэжыцы накладзены секвестр, а потым забарона *(319—1—479—10; 1416—3—21048—22; 1430—1—31259—14-15, 40; 1430—1—52163—182, 421; 3046—2—3—17адв.-18; 3046—2—5—10)*.

1497. **Гельфанд Залман** (Гельфонд Залман), яўрэй Віцебскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. жыў у Табольскай губ. як «палітычны пасяленец». У 1876 г. знаходзіўся часова ў Віцебскай губ., 03.1876 атрымаў права на сталае жыхарства на радзіме *(1430—1—35976—5-7)*.

1498. **Геляшэвіч (Гіляшэвіч) Ян** (Геляшевич (Гиляшэвич) Иван), дваранін Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Сасланы ў Табольскую губ., потым перасяліўся ў г. Вятку, адтуль — у Казанскую губ. У 1871 г. у Казанскай губ. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(319—1—479—10; 1430—1—35146—124; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—8адв.)*.

1499. **Геніуш Баляслаў** (Гениуш Болеслав), сын Ігната, дваранін Гродзенскай губ. Падчас паўстання зрабіў спробу далучыцца да паўстанцкага атрада. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 08.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Меў дачыненне да спраў *Вайшыцкага Ігната* і *Гедройця-Юрагі Цыпрыяна*. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб

канфіскацыі *(319—1—479—9адв.; 320—1—398—224адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—8; 3366—1—5—3адв.).*

1500. **Геніуш Юльян** (Гениуш Ульян), сын Юльяна, дваранін Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—132адв.; 1416—3—21048—22адв.; 1430—1—52163—422, 599адв.).*

1501. **Геніуш N.** (Гениуш N.), памешчык Пружанскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля чаго схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162).*

1502. **Генутовіч Францішак** (Генутович Франциск), ксёндз. Да паўстання служыў у Расіенскім пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

1503. **Геншаль Канстанцін** (Геншель Константин), сын памешчыка Лідскага пав. Паўстанцкім камітэтам у г. Вільні прызначаны «грамадзянскім начальнікам» у Віленскай губ. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—221адв.; 1527—1—4—63).*

1504. **Геншаль Людвік** (Геншель Людвиг), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Волдацішкі Лідскага пав. Паўстанцы атрымалі ў маёнтку харчаванне і фураж. Западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 2532—1—15—12адв.).*

1505. **Гералтоўскі Дамінік** (Гералтовский Дементий), сын Яна. Да паўстання служыў прыставам 2 стана Шавельскага пав., у яго служыў *Бароўскі Юзаф-Ігнат*. Пасля паўстання канфірмацыяй прысуджаны (канец 1865 — пачатак 1866 г.) да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—10).*

1506. **Герасімаў**[68] **Павел** (Герасимов Павел), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—11).*

1507. **Герасімовіч Генрык** (Герасимович Генрих), дваранін Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пажыццёвую працу ў рудніках *(319—1—479—9; 1430—1—52163—166).*

1508. **Герасімовіч (Гарасімовіч) Тамаш** (Герасимович (Горасимович) Томаш (Фома)), сын Яна, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навасёлкаўскай сельскай грамады Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. 19.07.1863 аддадзены на парукі і вернуты на месца жыхарства, аднак у 1863 г. арыштаваны зноў. У 1864 г. прысуджаны да высылкі ў Пскоўскую губ. *(295—1—1643—50; 295—1—2725—17; 296—1—19—280адв.).*

1509. **Герасімчук Юзаф** (Герасимчук Осип), сын Васіля, селянін. Да паўстання прыпісаны да мызы Паланечка Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 19.11.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—21; 162—1—116—175; 534—1—14—9).*

1510. **Герачынскі Андрэй** (Герочинский Андрей), сын Людвіка, дваранін, ксёндз. Нар. каля 1831 г. Скончыў 5-класнае вучылішча ў г. Драгічыне Бельскага пав., потым да 7 класа вучыўся ў гімназіі ў г. Беластоку. У 1850 г. паступіў у Мінска-Магілёўскую духоўную семінарыю, 08.05.1854 атрымаў сан святара і ў гэтым жа годзе прызначаны вікарыем у г. Віцебск. У 1855–1859 гг. выкладаў закон Божы ў Рагачоўскім павятовым дваранскім вучылішчы. У другой палове 1859 г. пераведзены ў Віцебскую губ. і прызначаны пробашчам касцёла ў м. Палюдавічы Лепельскага пав. 01.01.1863 прызначаны пробашчам касцёла ў м. Заскаркі Лепельскага пав. (гл. *Корсак Юстын*). Падчас паўстання блаславўляў паўстанцаў і іх зброю ў Заскарках і агітаваў жыхароў мястэчка далучыцца да іх. 25.04.1863 арыштаваны, 26.04.1863 прывезены ў г. Полацк, адкуль 27.04.1863 адпраўлены ў г. Дынабург. Потым, відавочна, пераведзены ў віцебскі турэмны замак, адкуль 24.10.1863 высланы зноў у Дынабург. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 10.10.1863 перадала яго справу ў ДСК. «У адміністрацыйным парадку» без судовай пастановы высланы ў г. Салікамск Пермскай губ. пад нагляд паліцыі. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 08.03.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі. У 1871 г. вызвалены з-пад нагляду паліцыі з правам займаць духоўныя пасады. У 1876 г. пераехаў у г. Курск. 23.05.1885 ат-

[68] Верагодна, гэта імя па бацьку.

рымаў дазвол ад Аляксандра III вярнуцца ў Мінскую губ., 21.11.1885 прызначаны адміністратам касцёла ў м. Капыль Слуцкага пав., атрымоўваў на сваё ўтрыманне 250 руб. ср. Памёр пасля 1898 г. *(1416—3—21048—23; 1430—1—52163—412адв.; 1781—2—5602—9-10; 1781—25—199—25-26, 36; 2601—1—2—342-343; 2626—1—305—5253; 3046—2—3—17адв.-18; 3046—2—5—10).*

1511. **Герлях Станіслаў** (Герлях Станислав), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—9; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

1512. **Герман Адам** (Герман Адам), сын Вінцэнта-Рафала, брат Антонія-Фелікса, дваранін Мінскай губ., каталік. Нар. 24.12.1839, хр. 06.01.1840 у Віцебскім касцёле Св. Антонія. Да паўстання жыў у г. СПб. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці выдадзены 19.02.1864. У ссылцы ажаніўся з Алімпіяй Янаўнай Івашкевіч (шлюб 23.12.1872 у Іркуцкім касцёле), з якой меў сыноў Уладзіслава-Адама (нар. 31.05.1876) і Юзафа-Уладзіміра (нар. 11.08.1880) і дочак Антаніну-Вінцэнту (нар. 20.07.1874), Элеанору-Германагільду (нар. 13.04.1879) і Кацярыну-Марыю (нар. 13.09.1881). 04.1883 з Алёкмінскай акругі Іркуцкай губ. падаў прашэнне аб аднаўленні ў правах дваранства. У 1886–1887 гг. жыў на Замкавай вул. г. Віцебска *(162—1—116—60; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—511-513; 319—1—479—9адв.; 319—2—686—272-319; 320—1—398—188; 320—2—98—32адв.).*

1513. **Герман Эдмунд** (Герман Эдмунд), сын Тэафіла Ежавіча і Тэафілы Аколавай, брат Францішка-Даніэля (хр. у 1837 г.), дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. 13.04.1832, хр. 17.04.1832 у Крывошынскім касцёле. У 1861 г. жыў у маёнт. Сваятычы Навагрудскага пав. Каля 04.04.1863 уступіў у паўстанцкі атрад, які фарміраваўся ў м. Каўпеніца Навагрудскага пав. і ў які ўваходзілі сярод іншых *Давідовічы Якуб* і *Ян*, *Клюкоўскія Ваўрынец* і *Канстанцін*, *Шалевіч Караль*. Разам з гэтым атрадам паспрабаваў злучыцца з атрадам *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*, аднак, не знайшоўшы яго, 06.04.1863 пакінуў атрад і добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. На драўляны дом яго бацькі ў м. Крывошын Навагрудскага пав. накладзена забарона. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.04.1864 за добраахвотную яўку і супрацоўніцтва з рас. уладамі пазбаўлены далейшага пакарання і прысуджаны да вяртання на месца жыхарства на парукі пасля аднаўлення прысягі на адданасць рас. імператару. Двойчы жанаты — з Мальвінай Браўн меў дочак Філамэну-Паўліну (нар. 1866) і Канраду (нар. 1871), са Стэфаніяй-Зузанай Ашэбэрг (Ашэнбэрг) — дачку Казіміру-Тэафілу (нар. 1880) і сына Віктара-Канстанціна (нар. 1884). У 1893 г. жыў на Завальнай вул. у г. Вільні *(295—1—1562—34-38; 295—1—1643—41адв., 49адв.; 319—2—674—47-50, 107-109, 116-127 і інш.; 320—2—99—49адв.).*

1514. **Германовіч Каміла** (Германович Камилия), дачка ўніяцкага святара Гродзенскай губ., сястра *Леакадзіі* і *Схаластыкі*. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

1515. **Германовіч Леакадзія** (Германович Леокадия), дачка ўніяцкага святара Гродзенскай губ., сястра *Камілы* і *Схаластыкі*. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

1516. **Германовіч Леан** (Германович Леон), мешчанін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—8адв.).*

1517. **Германовіч Схаластыка** (Германович Схолястика), дачка ўніяцкага святара Гродзенскай губ., сястра *Камілы* і *Леакадзіі*. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

1518. **Гетмановіч N.** (Гетманович N.). Паходзіў з Беластоцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162).*

**Геут Кірыл** — гл. **Гарт Кірыл**

**Геут Павел** — гл. **Гарт Павел**

**Геут Фёдар** — гл. **Гарт Фёдар**

1519. **Гецальд Аляксандр** (Гецольд Александр). За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166адв.).*

1520. **Гзоўскі Вінцэнт** (Гзовский Викентий), аднадворац Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.12.1863 прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы. МГП 31.01.1864

і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1600; 296—1—25—104; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—160; 320—2—98—32адв.)*.

1521. **Гібэрт Адольф** (Гиберт Адольф), каланіст. Да паўстання жыў у в. Моркус Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—9; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

1522. **Гіжыцкі Генрык** (Гижицкий Генрих), сын Фаўстына, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Дзербічы Рагачоўскага пав., вучыўся ў губернскай гімназіі ў г. Магілёве. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК, дзе да яго справы меў дачыненне *Сурын Феліцыян*. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 28.09.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. Яго зямля секвестравана і ў 1866 г. канфіскавана *(319—1—479—10; 1416—4—11416—127; 1430—1—52163—535адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—445—15; 2003—2—90—26-29; 3257—2—2—9адв., 33)*.

1523. **Гізбэрт Ігнат** (Гизберт Игнатий), памешчык Чавускага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52285—32; 2003—1—489—37адв.; 2532—1—15—9)*.

1524. **Гіленскі Базыль** (Гиленский Василий), сын Яна, дваранін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67)*.

1525. **Гільфант Залман** (Гильфонт Залман). Западозраны рас. уладамі ў зносінах з паўстанцамі, арыштаваны. Пад следствам знаходзіўся разам з *Анкудовічам Баляславам*, *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гараднікам Ігнатам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і некаторымі інш. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 аддадзены пад ПВС *(1416—2—12677—32-33адв.)*.

**Гіляшэвіч Ян** — гл. **Геляшэвіч Ян**

1526. **Гімбут Канстанцін** (Гимбут Константин), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—8адв.; 1430—1—52163—181)*.

1527. **Гінтаўт Казімір** (Гинтовт Казимир), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Падшаці Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

1528. **Гінтаўт Канстанцін** (Гинтовт Константин), сын Юзафа Якубавіча (нар. 1804) і Антаніны Бахматовіч (нар. каля 1806, пам. да 1850), брат Казіміра (нар. 1827), Юзафа (нар. 1850), Пятра-Паўла (нар. 1856) і Дыянізія (нар. 1860), дваранін Барысаўскага пав., каталік. Хр. 22.01.1833. Да паўстання жыў у фальв. Антосін Мінскага пав., дзе служыў аканомам у памешчыка Равы, ці ў м. Весялова Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 04.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 07.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». У 1889–1890 гг. жыў у маёнтку Новацарова Кашчакаўскай вол. Казанскага пав. Казанскай губ. 12.09.1909 перахрышчаны ў праваслаўе ў Мамонінскай царкве Казанскага пав. *(162—1—116—112; 295—1—1527—106адв.; 295—1—1643—41адв.; 299—1—579—298-307; 319—1—479—9адв.; 319—2—713—725-732, 756-756адв. і інш.; 320—1—398—452-459; 1430—1—52163—206)*.

1529. **Гінтаўт Тадэвуш** (Гинтовт Фадей), сваяк *Юліі*, памешчык Ковенскага пав. Пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую ці Арэнбургскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—546адв.; 2532—1—15—1)*.

1530. **Гінтаўт Эдвард** (Гинтовт Эдуард), дваранін Гродзенскай (?) губ. Да паўстання служыў аб'ездчыкам 2 Сакольскага лясніцтва Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224адв.)*.

1531. **Гінтаўт Юлія** (Гинтовт Юлия), сваячка *Тадэвуша*, памешчыца Ковенскага пав. Пасля разгляду яе следчай справы «адміністрацыйным парадкам» выслана (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую ці Арэнбургскую губ. Яе зямельная маёмасць

на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—546адв.; 2532—1—15—1)*.

1532. **фон Гінцэль Аляксандр** (фон Гинцель Александр), сын Аляксандра, брат Людмілы (v. Азарэвіч), бацька двух сыноў. Да паўстання служыў ад'юнктам-прафесарам Горы-Горацкага сельгасінстытута, калежскі радца. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Паводле распараджэння М. Мураўёва высланы ў г. Цывільск Казанскай губ. без пазбаўлення правоў, а на яго дом у г. Горках накладзены секвестр. 15.10.1863 сястра падала прашэнне аб зняцці секвестру з дома, але яно было адхілена *(1430—1—52163—194; 2003—1—441; 3257—2—2—9)*.

1533. **Гірдвойн (Гірдвойнь) Казімір** (Гирдвойн Казимир), дваранін. Да паўстання служыў кандуктарам Мікалаеўскага інжынернага вучылішча. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 19.06.1863 і пастановы ВілГП ад 05.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(1416—6—262; 3046—2—5—10адв.)*.

1534. **Гірдвойн Станіслаў** (Гирдвойн Станислав), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—9; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

1535. **Гіртовіч Мікалай** (Гиртович Николай), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Чачэрск Рагачоўскага пав., з'яўляўся гомельскім дэканам. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што на яго рухомую маёмасць (адзенне, пасцельныя прыналежнасці і інш.) на суму ў 18,25 руб. ср. і 24 кнігі накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. 09.1864 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам». У 1867 г. яго маёмасць вызвалена ад секвестру *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379адв.; 2003—1—428; 2514—1—2198—67адв.; 3046—2—5—11)*.

1536. **Гічэўскі Ян** (Гичевский Иван), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—8; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

1537. **Главіцкі Уладзіслаў** (Гловицкий Владислав), дваранін Слонімскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Мерачоўшчына Слонімскага пав. Вандаліна Пуслоўскага. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3)*.

1538. **Гладкі Вінцэнт** (Гладкий Викентий), сын Юзафа ці Яна, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гарадзішчанскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. На следстве даваў паказанні пра *Тупальскага Аляксандра*. Канфірмацыяй А. Патапава ад 08.12.1864 прысуджаны да ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(160—2—682—56; 162—1—122—14; 295—1—1643—43адв., 50адв.; 295—1—2420—10; 296—1—99—7адв.-8; 320—1—398—663; 534—1—14—19; 295—1—2725—30адв.)*.

1539. **Гладкі Юзаф** (Гладкий Иосиф), сын Юзафа, селянін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска пасланы ў г. Маскву *(295—1—2420—10)*.

1540. **Гладкоўскі Аляксандр** (Гладковский Александр), сын Іпаліта і Магдалены Галасевіч, аднадворац Гродзенскага пав., каталік. Нар. 15.02.1835 у в. Вялікая Воля Слонімскага пав., хр. 02.02.1837 у Скрундзеўскім касцёле. Прыпісаны да Ваўпянскай сельскай грамады Гродзенскага пав. У 1855–1859 гг. вучыўся на Горацкай вучэбнай ферме, да паўстання — у Горацкім павятовым вучылішчы. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—9; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—8; 3286—2—1—7адв., 181-183)*.

**Гламбіцкі Уладзіслаў** — гл. **Гланбоцкі Уладзіслаў**

1541. **Гламбоцкі Юзаф** (Глембоцкий Осип), сын Міхала. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Маёмасць падлягала канфіскацыі на падставе распараджэння валынскага губернатара ад 16.08.1863 і пастановы ВалГП ад 27.08.1863 *(1416—6—230)*.

1542. **Гланбоцкі (Гламбіцкі) Уладзіслаў** (Гленбоцкий (Глембицкий) Владислав), сын Аляксандра, дваранін Свянцянскага (?) пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

1543. **Гласка Алаізі** (Гласко Алоизий), сын Вінцэнта, муж Алены (?), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Жмакі Дрысенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні трапіў пад следства ў ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Казанскую губ. На яго маёмасць 03.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага ваеннага губернатара ад 17.12.1863 і ўказа ВГП ад 15.01.1864 накладзены секвестр. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 Жмакі падлягалі вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага 30-працэнтнага збору *(1416—3—21048—22адв.; 1416—4—11416—20, 285, 289; 1430—1—52163—199, 392адв., 431адв., 446адв., 568, 823адв.; 3046—2—5—11)*.

1544. **Гласка Антоні** (Гласко Антон), сын Аўгустына, брат Ігната (падпалкоўніка), муж Юліі Адамаўны, бацька 4 дзяцей, памешчык, каталік. Нар. каля 1820 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне інжынер-капітана. Валодаў разам з братам маёнткам (з вінакурняй) Чарэпіта Полацкага пав. 15.01.–15.02.1863 жыў у г. Полацку, з'яўляўся кандыдатам міравога пасярэдніка і ўдзельнічаў у рэкруцкім наборы. Абвінавачаны *Другавінам Янам* у сувязях з *Рэутам Эдвардам* і ўдзеле ў выбарах дэлегатаў, якія павінны былі распаўсюджваць распараджэнні «Цэнтральнага Рэвалюцыйнага Камітэта». 29.05.1863 знаходзіўся пад следствам у ВСК. 18.06.1863 прыбыў у г. Віцебск па патрабаванні ВСК. На маёнтак 10.09.1863 на падставе ўказа ВГП ад 12.07.1863 накладзены секвестр са спагнаннем кантрыбуцыі ў 452,50 руб. 06.09.1863 разам з *Гласкам Траянам* падаваў прашэнне аб дазволе пакінуць Віцебск і аб зняцці секвестру з маёнтка. ВСК з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё рашэнне віцебскаму губернатару. 25.09.1864 жонка падавала прашэнне аб дазволе жыць у частцы маёнтка Чарэпіта, якая належала брату мужа. Прашэнне задаволена з умовай, каб яна не ўмешвалася ў кіраванне маёнткам. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—22; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 51-53, 60—61, 88-92, 276-277, 288, 323-325, 404адв., 445адв., 570адв., 725-726, 814; 3046—2—3—16адв.-17; 3046—2—5—10)*.

1545. **Гласка Казімір** (Гласко Казимир), памешчык Полацкага пав. Падчас паўстання захоўваў у сваім доме зброю, за што арыштаваны і аддадзены (да 12.02.1864) пад ПВС. Зняволены ў фартэцыі ў г. Дынабургу, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.03.1864 *(1416—3—21048—23; 1430—1—31370—95; 1430—1—31602—88-96)*.

1546. **Гласка Ксаверы** (Гласко Ксаверий), дваранін, каталік. Да паўстання жыў у г. Дрысе ў доме Люцыі Пятроўны Жарноўскай (у якім таксама размяшчаўся Дрысенскі земскі суд), з пачатку 1861 г. служыў дрысенскім земскім спраўнікам, надворны радца. Западозраны ў веданні пра падрыхтоўку паўстання і далучэнне некаторых асоб да яго і невыкананні належным чынам службовых абавязкаў адносна спынення паўстання ў м. Асвея Дрысенскага пав. Арыштаваны (каля 07.1863). Спачатку ўтрымліваўся ў г. Дрысе, 09.1863 пераведзены ў фартэцыю ў г. Дынабург. Разам з *Анкудовічам Баляславам*, *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гараднікам Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і інш. знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. 26.09.1863 Л. Жарноўская падала да яго прэтэнзію на 200 руб. ср. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 падлягаў вызваленню і вяртанню на ранейшае месца жыхарства. Пазней паступіў на службу старэйшым дарадцам Яраслаўскага губернскага праўлення *(1416—2—12677—32-33адв., 80-82; 2601—1—2—98, 143-145, 230, 240, 279-281; 2601—1—5—7адв.; 3046—2—5—10адв.)*.

1547. **Гласка (Глыска) Траян** (Гласко (Глыско) Троян), сын Яна, памешчык, каталік. Нар. каля 1806 г. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра. Да паўстання валодаў маёнткам (з вінакурняй) Замшаны Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што быў абраны дэлегатам ад Полацкага пав. для «атрымання і распаўсюджвання распараджэнняў Рэвалюцыйных Камітэтаў», арыштаваны. 29.05.1863 знаходзіўся пад следствам у ВСК. 18.06.1863 прыбыў у г. Віцебск па патрабаванні ВСК, тройчы дапытваўся. На маёнтак 15.09.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 02.07.1864 накладзены секвестр. 06.09.1863 разам з *Гласкам Антоніем* падаваў прашэнне аб дазволе пакінуць Віцебск і аб зняцці секвестру з маёнтка (01.10.1864 секвестр яшчэ не зняты). ВСК з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Му-

раўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—22; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 51, 88-91, 404адв., 430, 444, 446адв., 571; 3046—2—3—16адв.-17; 3046—2—5—10).*

1548. **Глаўдзецкі Антоні** (Главдецкий Антон), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Ваўкалата Вілейскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, выконваў духоўныя абрады для паўстанцаў, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 21.09.1863. Суджаны пры Каломенскім пяхотным палку, рашэнне вынесена 13.11.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і духоўнага сану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на рудніках на 15 гадоў *(162—1—116—66адв.; 295—1—1643—46; 296—1—25—102; 296—1—90—6адв.-7; 319—1—479—8адв.; 320—1—398—291адв.).*

1549. **Глеб-Кашанскі Міхал** (Глеб-Кошанский Михаил), сын *Рыгора* і Маргарыты Тадэвушаўны, дваранін Чэрыкаўскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара ці калежскага рэгістратара. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 22.08.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—18; 1416—4—11416—88адв., 125; 1430—1—52163—526адв.; 2003—1—211—53-55; 3257—2—2—18).*

1550. **Глеб-Кашанскі Рыгор** ([Глеб-]Кошанский Григорий), сын Тамаша (ці Цімафея), муж Маргарыты (Марыі) Тадэвушаўны, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Баяры Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў «распаўсюджванні ілжывых чутак пра мяцежнікаў і водпуск у шайку свайго сына». У МагВСК меў дачыненне да справы *Гардзялкоўскага Рудольфа.* Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа МагГП ад 21.06.1865 забароне, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—211—53-55; 2514—1—2198—68; 3257—2—2—16адв.; 3366—1—5—12, 12адв.).*

1551. **Глеб-Кашанскі Юзаф** (Глеб-Кошанский Иосиф). Служыў у рас. войску, паручнік. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у Самарскай губ., 08.02.1880 атрымаў частковую амністыю з пазбаўленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—9-10; 1430—1—52758—8).*

1552. **Гліндзіч Пётр** (Глиндзич Петр), дваранін. Да паўстання арандаваў маёнтак Камёнка Гродзенскай (?) губ. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, за што аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 22.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863 *(1416—6—218).*

1553. **Гліндзіч N.** (Глиндзич N.), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 07.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—11адв.).*

1554. **Глінка Уладзіслаў** (Глинка Владислав), шляхціц Бельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9адв.; 1430—1—52163—530адв.).*

1555. **Глінка Фелікс** (Глинко Феликс), сын Юзафа, муж Паўліны, дваранін. Да паўстання не меў сваёй зямельнай маёмасці, яго жонка валодала маёнткам Падсолтава Мсціслаўскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, які зняты паводле ўказа МагГП ад 21.01.1864 *(1430—1—52285—32; 2003—1—423; 2514—1—2198—67).*

1556. **Глінскі Баляслаў** (Глинский Болеслав), сын Міхала (уладальніка дома на Стэфанскай вул. г. Вільні), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў Вільні. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—8; 320—1—398—128; 1416—6—280; 1430—1—52163—603).*

1557. **Глінскі Францішак** (Глинский Франц), мешчанін г. Шаўляў. За ўдзел у паўстанні, прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—9).*

1558. **Глінскі Юстын** (Глинский Устин), селянін. Нар. каля 1835 г. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта,* схоплены

16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—41, 45; 299—1—577—511-513; 320—1—398—20, 191)*.

1559. **Глухобскі Ян** (Глухобский Иван), дваранін Каралеўства Польскага. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195адв.)*.

1560. **Глыбоўскі Базыль** (Глыбовский Василий), сын Пятра, мешчанін Быхаўскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67)*.

**Глыско Траян** — гл. **Гласко Траян**

1561. **Глябовіч Адольф** (Глебович Адольф). Да паўстання служыў канцылярскім чыноўнікам у г. Пружанах. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Самульскага N.*, забіты. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(295—1—3688—23; 296—1—25—108)*.

1562. **Глябовіч Антоні** (Глебович Антон), аднадворац Гродзенскай (?) губ. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, за што аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 22.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863 *(1416—6—218)*.

1563. **Глябовіч Юзаф** (Глебович Иосиф), аднадворац Гродзенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—9адв.)*.

1564. **Глябовіч Юзаф** (Глебович Иосиф), сын Дамініка, дваранін Пінскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Калоднае Пінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—128, 156; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—2адв., 237, 533адв., 544-546, 644; 320—2—98—32адв.; 1430—1—52163—526)*.

1565. **Гнаінскі Аляксандр** (Гноинский Александр). Дачыненне да паўстання невядомае. Як «палітычны ссыльны» ў 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—8)*.

1566. **Гнаінскі**[69] **Пётр-Павел** (Гноинский Петр-Павел), сын Юзафа-Францішка, брат Ксаверыя і Канстанціна, муж Ганны Юрэвіч, бацька Ксаверыя-Францішка-Дамініка (хр. 10.12.1839), Пія-Уладзіслава-Эразма (хр. 21.05.1848) і Вінцэнта-Пятра-Якуба (хр. 01.08.1853, усе трое — у Навагрудскім касцёле), дваранін Навагрудскага пав. Хр. 07.05.1799 у Навагрудскім касцёле. У 1823 г. скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1832 г. меў у застаўным валоданні маёнтак Дабраполь Навагрудскага пав., у 1852 г. валодаў маёнткам Волца Навагрудскага пав. са 120 прыгоннымі. З 1832 г. служыў доктарам у Навагрудскім пав., надворны радца. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», у 1864 г. звольнены са службы *(295—1—1643—50; 319—2—727—14, 20-23, 48-59адв. і інш.)*.

1567. **Гнясевіч (Гнісевіч, Гнусевіч) Адам** (Гнесевич (Гнисевич, Гнусевич) Адам), сын Сымона, селянін, праваслаўны. Да паўстання жыў у маёнтку Сенна Навагрудскага пав. памешчыкаў Пуслоўскіх. Да паўстання з'яўляўся шаўцом, паводле загаду *Пуслоўскага Адама* вырабляў нагайкі для паўстанцаў. Арыштаваны пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. і дастаўлены ў г. Навагрудак *(295—1—1562—16адв.; 295—1—1585; 296—1—296—3-3адв.)*.

1568. **Гобіх Антоні** (Гобих Антон). Да паўстання служыў пісарам у маёнтку Шчорсы Навагрудскага пав. гр. Храптовіча. Удзельнічаў у паўстанні, забіты. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—73адв., 87адв.; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.)*.

**Гобят Севярын** — гл. **Говят Севярын**

1569. **Говят (Гобят) Севярын** (Говят (Гобят) Северин), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам у Хвейданскай парафіі Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру.

[69] У некаторых дакументах пачатку і сярэдзіны XIX ст. падаецца, што прадстаўнікі яго роду карысталіся прозвішчам з прыдомкам у форме Міткевіч-Гнаінскі, але гэта вынік жадання ўпрыгожыць уласную генеалогію для зацвярджэння ў правах расійскага дваранства.

Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—9; 534—1—14—4адв.; 1416—4—11416—116адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—374адв.)*.

1570. **Гольц-Мілер Ян** (Гольц Миллер Иван). Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За дачыненне да паўстання сасланы ў Сімбірскую губ., але потым вернуты адтуль *(295—1—1643—45адв.)*.

1571. **Гор Міхал** (Гор Михаил), селянін. Нар. каля 1842 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Нача Барысаўскага пав., жыў у г. Барысаве. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў барысаўскай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—99адв.)*.

1572. **Горда Ануфры** (Гордо Онуфрий), сын Яна, селянін. Да паўстання жыў у в. Дольная Рута Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—10)*.

1573. **Гордзін Андрэй** (Гордин Андрей), сын Яна, яўрэй. Да паўстання прыняў хрысціянства, служыў фельчарам Шчаўраўскай вол. Сенненскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(319—1—479—10; 1430—1—52163—535; 3257—2—2—9адв.)*.

1574. **Горніч Уладзіслаў** (Горнич Владислав), сын Аляксандра. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у г. Пінску. 30.04.1863 выехаў з Пінска з памешчыкам Генрыкам Скірмунтам, прыбыў у м. Янава Кобрынскага пав., дзе затрымаўся на 2 дні, пасля чаго выехаў у невядомым накірунку. 15.05.1863 затрыманы ў с. Боркі Ковельскага пав. без зброі. 05.1863 пераведзены ў Пінскі пав., спачатку адпушчаны пад падпіску. У 1863 г. аддадзены пад ПВС гродзенскім губернатарам. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—101-102; 295—1—1549; 295—1—1643—45адв.; 319—1—479—9адв.; 1430—1—52163—181адв.)*.

1575. **Горскі Антоні** (Горский Антон), сын Серафіма, дваранін Невельскага пав. Да паўстання жыў у Новааляксандраўскім пав. Уваходзіў у склад атрада *Ельскага Яна*, узяты ў палон у Новааляксандраўскім пав. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 18.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 4 гады. 19.09.1864 і 27.03.1865 ВГП выдала пастановы аб пошуку маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі *(319—1—479—9адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—22; 1416—4—11416—220-225; 1416—6—281; 1430—1—52163—399адв., 423, 596а; 2616—1—40—13)*.

1576. **Горскі Ежы** (Горский Юрий). Служыў карчмовым засядальнікам у Ковенскай губ., да паўстання выйшаў у адстаўку, тытулярны радца. Падчас паўстання západзораны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

1577. **Горскі Караль** (Горский Карл), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—540; 2532—1—15—8адв.)*.

1578. **Горскі Тэадор** (Горский Федор), сын Ігната, памешчык Лепельскага пав. У 1833 г. служыў у ВГП, у 1841–1847 гг. — у канцылярыі віцебскага грамадзянскага губернатара, 07.1847 звольнены з чынам калежскага сакратара. Падчас паўстання не здаў паліцыі нядзейную стрэльбу, за што 01.10.1863 арыштаваны. 10.02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК. Пазней канфірмацыяй М. Мураўёва, якая абвешчана 20.07.1864, прысуджаны да грашовага штрафу ў 300 руб. За нявыплату штрафу прызначаны да турэмнага зняволення ў 300 дзён. Утрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, 20.05.1865 падаў прашэнне аб вызваленні з прычыны заканчэння тэрміну зняволення *(1416—4—11552; 1430—1—31602—86)*.

1579. **Горскі Тэлясфор** (Горский Телесфор), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.)*.

1580. **Горскі Юзаф** (Горский Иосиф), дваранін Бельскага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 12.08.1863 і пастановы ГГП ад 27.08.1863. Прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(1416—6—228; 1430—1—52163—150)*.

1581. **Горчак Юзаф** (Горчак Иосиф), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

1582. **Гоўвальд Казімір** (Гоувальд Казимир), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—8; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

1583. **Гоўвальд Караліна** (Гоувальд Каролина), дваранка. Да паўстання жыла ў г. Вільні, была замужам за адстаўным чыноўнікам. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджана (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—8; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

1584. **Гоўвальд Люцыян** (Гоувальд Люциан), памешчык Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8)*.

1585. **Гоўвальд Тэкля** (Гоувальд Текля), сястра *Эміліі* і *Юліі*, дваранка. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

1586. **Гоўвальд Эмілія** (Гоувальд Эмилия), сястра *Тэклі* і *Юліі*, дваранка, жонка віленскага чыноўніка. Да паўстання жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

1587. **Гоўвальд Юлія** (Гоувальд Юлия), сястра *Тэклі* і *Эміліі*, дваранка. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

1588. **Гоўвальд N.** (Гоувальд N.). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Да паўстання арандаваў маёнтак Раклішкі Лідскага пав. графа Патоцкага. Паўстанцкі атрад забраў у яго маёнтку харчовыя прыпасы, адзенне, а таксама яго сына. Паведаміў пра гэта рас. уладамі, аднак западозраны ў дапамозе паўстанцам. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

1589. **Гоферт Канстанцін** (Гофферт Константин), купец г. Варшавы. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

1590. **Гофман Пётр** (Гофман Петр), сын Ануфрыя, дваранін Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

1591. **Грабніцкая Эмілія** (Гребницкая Эмилия), дачка Станіслава, сястра *Юзэфы*, сваячка *Шаўмана Аўгуста*, дваранка Лепельскага пав., каталічка. Пасля вяртання *Ш.А.* з паўстанцкага атрада не данесла пра гэта рас. уладам. Арыштавана паводле распараджэння ВСК ад 14.03.1864, зняволена ў турэмным замку ў г. Віцебску. На яе маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 24.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй прысуджана (да 04.08.1864) да штрафу ў 100 руб. і вызвалення на парукі з аддачай пад паліцэйскі нагляд *(1416—3—21048—23; 1430—1—52163—412; 1430—1—52321; 3046—2—3—22адв.-23)*.

**Грабніцкая Юзэфа** — гл. **Шаўман Юзэфа**

1592. **Грабніцкі Мікалай** (Гребницкий Николай), сын Дыянізія, бацька *Оттана*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання ў яго маёнтку Арэхаўна (Арэхава) Лепельскага пав. знойдзена зараджаная стрэльба. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 05.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—19адв.-20; 3046—2—5—10адв.)*.

1593. **Грабніцкі Оттан**[70] (Гребницкий Оттон), сын *Мікалая*, памешчык. Служыў у рас. войску, звольнены з чынам калежскага рэгістратара (?). Да паўстання яго бацька валодаў маёнткамі Арэхаўна (Арэхава), Павулле і Церасполле Лепельскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і зняволены ў г. Дынабургу. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да

[70] У адным з дакументаў памылкова названы Антонам.

пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. На маёнткі бацькі 13.06.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 04.06.1863 накладзены секвестр, а потым забарона *(296—1—25—105; 319—1—479—10; 1416—3—21048—22; 1430—1—52163—51, 408; 2626—1—305—46-47; 3046—2—5—10адв.).*

1594. **Грабніцкі Эдвард** (Гребницкий Эдуард), муж Юліі ці Эміліі, памешчык. Падчас паўстання меў дачыненне да справы *Макавецкага Міхала* ў МагВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.; 3257—2—2—8).*

1595. **Грабоўскі Адольф** (Грабовский Адольф), сын Вінцэнта і Марыі Міхалаўны, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. 10.02.1840 у засц. Востраў Барысаўскага пав., хр. 26.02.1840 у Бярэзінскім касцёле. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Арэхаўна Лепельскага пав. памешчыка Забелы. Падчас паўстання агітаваў сялянаў в. Арэхаўна далучыцца да паўстанцаў, за што арыштаваны на падставе іх даносу. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 13.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Аддадзены (да 09.12.1863) пад ПВС пры батальёне ўнутранай варты ў г. Віцебску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.03.1864 прызнаны вінаватым у «падбухторванні сялян да мяцяжа» і прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і права далей даказваць сваё дваранскае паходжанне, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «аддаленыя месцы Сібіры». 26.03.1864 адпраўлены на месца ссылкі. Жыў у Манзурскай вол. Верхаленскай акругі Іркуцкай губ. У 1883 г. атрымаў амністыю. У 1902 г. жыў у г. Іркуцку *(162—1—116—69; 295—1—1643—51; 296—1—25—105; 319—2—813—308 і інш.; 320—1—398—74-80, 353; 1416—3—21048—22; 1416—4—11370; 1430—1—52163—413; 2626—1—305—55-58адв.; 3046—2—3—18адв.-19; 3046—2—5—10).*

1596. **Грабоўскі Аляксандр** (Грабовский Александр), селянін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67).*

1597. **Грабоўскі Войцех** (Грабовский Альберт). Нар. каля 1838 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце ці Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Падчас паўстання з'яўляўся «Начальнікам інфляндскіх паветаў рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223адв.; 1527—1—4—12, 90-91; 2601—1—5—8).*

1598. **Грабоўскі Вільгельм** (Грабовский Вильгельм), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Сямякаўшчына Лідскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, у тым ліку міравым пасярэднікам, калежскі рэгістратар. Меў дачыненне да паўстання ў Гродзенскай губ. За гэта яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 22.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 09.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864 альбо паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Арэнбургскую губ. *(296—1—25—109; 1416—4—11416—20адв.; 1416—6—265; 1416—6—280; 1430—1—52163—199адв., 616).*

1599. **Грабоўскі Ян** (Грабовский Иван), сын Рыгора, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання západозраны ў сувязях з асобамі, «заўважанымі ў палітычнай нядобранадзейнасці». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 14.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—19адв.-20; 3046—2—5—10адв.).*

1600. **Грабчынскі Ігнат** (Грабчинский Игнатий), дваранін Рэжыцкага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Забегі Рэжыцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». На маёнтак бацькі накладзены секвестр, а потым забарона. У 1870 г. жыў у г. Ноўгарадзе, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—27-28; 296—1—25—105; 319—1—479—10; 1416—3—21048—22; 1430—1—52163—420адв.).*

**Грагаровіч Бярнард** — гл. **Грыгаровіч Бярнард**

**Грагаровіч Пётр** — гл. **Грыгаровіч Пётр**

1601. **Грагаровіч (Грыгаровіч) Уладзіслаў-Пётр** (Грегорович (Григорович) Владислав-Петр), сын Цыпрыяна Нікадымавіча, дваранін Дзісенскага пав. Хр. 06.07.1836. Да паўстання валодаў маёнткам Чаркасова Дзісенскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны

(да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 319—1—479—8; 319—2—790; 320—1—398—37-53, 55, 130; 320—2—98—32адв.; 1416—3—21048—22адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—605; 3046—2—5—10адв.).*

1602. **Грагароўскі (Грагарэўскі) Віктар** (Гржегоржевский Виктор), дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

1603. **Градніцкі Тэадор** (Гродницкий Федор), шляхціц. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—11).*

**Градзінская Ганна** — гл. **Крачкоўскі Антоні**
**Градзінскі Адам** — гл. **Крачкоўскі Антоні**

1604. **Гракові́ч Міхал** (Грекович Михаил), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Гайна Барысаўскага пав. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання, трапіў у поле ўвагі рас. уладаў. 14.02.1863 у яго праведзены першыя вобшукі, а пасля 20.02.1863 арыштаваны. Паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства ў Пермскую губ., на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166; 295—1—1527—2адв., 23адв.-24; 295—1—1572—8; 295—1—1603—3адв.; 295—1—1643—44адв.; 1430—1—52285—31).*

1605. **Грамадзінскі Андрэас** (Громадзинский Андреас), пруські падданы. Да і ў час паўстання служыў лакеем і жыў у маёнтку Пустынь Дрысенскага пав. (гл. *Плятэр Людвік*). Западозраны ў тым, што падчас паўстання садзейнічаў *Васілеўскаму Вінцэнту*. У 1865 г. трапіў пад следства. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. 22.08.1866 апісана і секвестравана яго рухомая маёмасць (двухствольная стрэльба, пісталет, рыштунак, 46 руб. ср. наяўнымі грашыма і інш.). Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 як «нявыкрыты па справе» прызначаны да вызвалення ад адказнасці. Аднак у сувязі з тым, што «ўзбудзіў сумнеў у сваёй палітычнай добранадзейнасці», прызначаны да высылкі з Рас. імперыі на радзіму з забаронай вяртання назаўжды *(2601—1—29).*

1606. **Грамакоўскі Максімільян** (Громаковский Максим), сын Казіміра, дваранін Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру, з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67).*

1607. **Грамакоўскі Марцін** (Громаковский Мартын), дваранін Чэрыкаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—10).*

1608. **Грамчэўскі Людвік** (Громчевский Людвик), сын Леана, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Крэншты Цельшаўскага ці Шавельскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—5).*

1609. **Гранівачэўскі Хрызастом** (Гронивачевский Хризостан), дваранін Ковенскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў «аддаленыя паветы» Казанскай губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16).*

1610. **Граніцкі Ігнат** (Границкий Игнатий), памешчык Віленскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—11).*

1611. **Гранкевіч Ян** (Гронкевич Иван), дваранін Магілёўскай ці Мінскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—10; 1430—1—52163—526адв.; 3257—2—2—10).*

1612. **Гратулевіч Апалінары** (Гретулевич Апполинарий), сын Дзмітрыя, памешчык Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1838 г. Абгавораны *Другавінам Янам* у ахвяраванні грошай на карысць паўстання, арыштаваны (да 29.05.1863). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд *(1416—3—21048—22; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв.; 3046—2—3—16адв.-17; 3046—2—5—10).*

1613. **Граўэрт Цітус** (Грауэрт Тит). Служыў настаўнікам гімназіі ў г. Беластоку; надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—615; 1430—1—52285—25адв.).*

1614. **Грахольскі Ігнат** (Грохольский Игнатий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—11).*

1615. **Грахольскі Леанард** (Грохольский Леонард), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—11).*

**Грахольскі-Шынкевіч Міхал-Юзаф** — гл. **Шынкевіч-Грахольскі Міхал-Юзаф**

1616. **Грахольскі Фелікс** (Грохольский Феликс), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле с. Радуга Гомельскага пав. За «палітычнае злачынства» паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2514—1—2198—67).*

1617. **Грахольскі Францішак** (Грохольский Франц), сын Яна, бацька Ігната і Леанарда, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання *Вольскімі Антоніем*, *Ільдэфонсам* і *Каралем* западозраны ў падрыхтоўцы да яго, трапіў пад следства. 14.10.1863 яго справа пададзена ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Потым знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прызначаны (да 04.10.1864) да вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі і з аддачай на парукі. З яго маёмасці спаганяўся ўзмоцнены 10-працэнтны збор *(1430—1—52163—633адв., 762-780; 3046—2—5—11).*

1618. **Грахоўскі Аляксандр** (Гроховский Александр), шляхціц ці аднадворац. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, потым у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—4).*

1619. **Грахоўскі Юльян** (Гроховский Юлиан), дваранін Аршанскага пав. Да паўстання жыў у в. Шчаўкунова (Шацкунова) Аршанскага пав., дзе яго бацька валодаў 40 дзес. зямлі. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 15.12.1863 падала яго справу смаленскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—10; 1430—1—52163—182адв.).*

1620. **Грачыха Сцяпан** (Гречиха Степан), сын Яна, селянін. Да паўстання жыў у в. Лапацічы Слуцкага пав. У 1863 ці 1864 г. высланы з радзімы *(295—1—2725—22адв.).*

1621. **Гродскі Антоні** (Гродкий Антон), дваранін Полацкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 8 гадоў *(296—1—25—105; 319—1—479—10; 1416—3—21048—22адв.; 1430—1—52163—407).*

1622. **Гродскі Юзаф** (Гродский Осип), дваранін. Да паўстання жыў у в. Белабрэя Астраленцкага пав. Плоцкай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

1623. **Грос N. (Александрайціс N.)** (Гросс N. (Александрайтис N.)). Да паўстання жыў у Цельшаўскім пав., служыў міравым пасярэднікам. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—9; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.).*

1624. **Грубэрт Баляслаў** (Груберт Болеслав), аўстрыйскі падданы. Да паўстання жыў у Ковенскім пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—9; 320—1—398—133адв.; 1430—1—52163—600).*

1625. **Грудзін (Грудзінін) Пётр** (Грудин (Грудинин) Петр), мешчанін м. Парэчча Аршанскага пав. Нар. каля 1840 г. Да паўстання займаўся шавецтвам. 22.04.1863 арыштаваны ў Аршанскім пав. сялянамі паводле падазрэння ў намеры далучыцца да паўстання. Яго маёмасць падлягала секвестру. На следстве сцвярджаў, што хадзіў па Аршанскім пав., шукаючы сабе працу. Падазрэнне не пацвердзілася, таму вызвалены з аддачай на парукі. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы, а маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15-22адв.; 2514—1—2198—67).*

1626. **Грудзіна Рудольф** (Грудзино Рудольф), сын Юзафа. Да паўстання служыў чыноўнікам асобых даручэнняў у Мінскай ПДМ. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, падлягаў арышту. 18.12.1863 месца яго знаходжання не было вядома рас. уладам *(1527—1—4—132-133).*

**Грудзінін Пётр** — гл. **Грудзін Пётр**

1627. **Грудзінскі Адам** (Грудзинский Адам). Да паўстання служыў павятовым доктарам у Дынабургскім пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці». Звольнены са службы і без суда і следства паводле распараджэння М. Мураўёва сасланы (да 07.09.1863) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў у г. Арэнбург *(1416—3—21048—22адв.; 1430—1—31259—105, 115, 140; 1430—1—31355—92-93, 97а-99; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44).*

1628. **Грудзінскі Аляксандр** (Грудзинский Александр), сын Яна, дваранін Слуцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля яго паражэння хаваўся, арыштаваны. Канфірмацыяй А. Патапава ад 27.08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібры» *(162—1—116—146, 156; 295—1—1643—43; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—644; 1430—1—52163—535).*

1629. **Грудзінскі Павел** (Грудзинский Павел), сын Юзафа, мешчанін г. Віцебска, каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання знаходзіўся на прыватнай службе ў маёнтку Стрыжава Лепельскага пав., разам з братамі валодаў домам у Віцебску. Падчас паўстання пакінуў месца службы і далучыўся да паўстанцкага атрада (гл. *Гатоўскія Станіслаў* і *Эмілія*, *Міхалоўская Юзэфа*, *Свідэрскі Канстанцін*), арыштаваны. На яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 06.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады. 07.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. З прычыны малагадовасці братоў дом перададзены ў кіраванне сіроцкага суда *(319—1—479—10; 534—1—14—5адв.; 1416—3—21048—22адв.; 1416—4—11416—74-77, 119адв.; 1430—1—52163—375адв., 427, 432адв., 667, 723адв., 827адв.; 3046—2—3—19адв.-20; 3046—2—5—10адв.).*

1630. **Гружэўскі Пётр** (Гружевский Петр). Да паўстання служыў чыноўнікам у Свянцянскім пав. у чыне губернскага сакратара. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». У 1871 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(296—1—25—109; 1430—1—35146—3а; 1430—1—52163—616).*

1631. **Гружэўскі Францішак** (Гружевский Франц), аднадворац Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту *(319—1—479—8; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

1632. **Гружэўскі Эдвард** (Гружевский Эдуард), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у м. Жыжмары Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—8адв.).*

1633. **Грузд Юзаф** (Грузд Иосиф), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562).*

1634. **Грушэцкі Валяр'ян** (Грушецкий Валериан), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання жыў у г. Магілёве. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—10; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—9адв.; 3366—1—5—13адв.).*

1635. **Грушэцкі Мікалай** (Грушецкий Николай), дваранін Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—10; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—9).*

1636. **Грушэцкі Ян** (Грушецкий Иван). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67).*

1637. **Грыб (Грыбоўскі) Ігнат** (Гриб (Гржибовский) Игнатий), селянін. Да паўстання прыпісаны да в. Сагіняны Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280).*

1638. **Грыбоўскі Міхал-Юзаф** (Гржибовский Михаил-Иосиф), сын Яна Юзафавіча, дваранін Наваградскага пав. Нар. 28.09.1839. Падчас паўстання

належаў да патаемнай арганізацыі ў Навагрудскім пав. Арыштаваны, канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—676адв., 679, 688; 1430—1—52758—8).*

1639. **Грыбоўскі Міхал** (Гржибовский Михаил), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—9; 1430—1—52163—204адв.).*

1640. **Грыбоўскі Фелікс** (Гржибовский Феликс), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—9; 1430—1—52163—204адв.).*

1641. **Грыгаровіч Баляслаў** (Григорович Балеслав), сын Ежы[71] Янавіча, брат Юльяна, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках падчас бою ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і аддачы ў шарагоўцы ў Сібірскі корпус. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 вайсковая служба заменена на ссылку на жыхарства ў Табольскую губ. У ссылцы служыў аканомам у розных асоб. Пасля частковай амністыі выехаў у Каралеўства Польскае, 14.06.1876 у г. Мінску падаў прашэнне аб дазволе на 6-месячнае знаходжанне пры бацьках у іх маёнтку Нача-Любічова Слуцкага пав., але атрымаў дазвол толькі на 5 дзён. 21.06.1876 выехаў са Слуцкага пав. Пасяліўся ў г. Варшаве, адкуль падаў прашэнне аб дазволе на сталае жыхарства на радзіме з прычыны дрэннага стану здароўя, падарванага ў Сібіры, і атрымаў яго *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—3053; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—326-327адв., 395; 320—2—98—32адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—3адв.; 1525—1—2—6адв.-7).*

1642. **Грыгаровіч (Грагаровіч) Бярнард (Бернат)** (Григорович (Грегорович) Бернард (Бернат)), сын Яна Язафатавіча і Юзэфы Хадасевіч, брат Людавікі, Ігната-Антонія, Міхала, Антонія, Пятра, Яна-Лукаша і Браніслава-Вінцэнта, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. 28.04.1836 у маёнт. Вардамічы Барысаўскага пав., хр. 26.04.1838 у Даўгінаўскім касцёле. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.07.1863 адасланы ў г. Мінск. На маёнтак яго бацькі Валасатка Барысаўскага пав. накладзены секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 03.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. 03.1864 на Валасатку накладзена забарона. У ссылцы знаходзіўся ў Праабражэнскай вол. Кірэнскай акругі Іркуцкай губ. У 1893 г. атрымаў паследчанне ад Іркуцкага губернскага праўлення аб вернутых правах дваранства (на падставе маніфеста ад 15.05.1883) з вызваленнем ад нагляду паліцыі і з правам на вольнае перамяшчэнне ў Рас. імперыі. Памёр 08.06.1896 ад анеўрызмы аорты ў бальніцы агульных спраў на Бадайбінскай рэзідэнцыі Іркуцкай губ. (запіс аб смерці зроблены ў кнігах Іркуцкага касцёла ў 1897 г.) *(295—1—1643—44адв.; 296—1—89—46адв.; 299—1—577—508-510, 518-543адв.; 319—1—479—9адв.; 319—2—790—10-10адв., 207-208; 319—2—805—22-23, 95-107, 114-115адв. і інш.; 320—1—398—167, 222, 395, 401адв.; 320—2—98—32адв.; 1418—3—1—17адв.-18).*

1643. **Грыгаровіч Люцыян** (Григорович Люциан). Да паўстання служыў лекарам у г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9).*

1644. **Грыгаровіч Пётр** (Григорович (Грегорович) Петр), сын Сцяпана ці Станіслава, селянін, праваслаўны. Да паўстання прыпісаны да м. Цімкавічы Слуцкага пав., служыў валасным пісарам Пагосцкай вол. Абвінавачаны ў падгаворы ўступіць у паўстанцкі атрад, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 ці 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да ссылкі ў Табольскую губ. Яго маёмасць канфіскавана і прададзена за 10,93 руб. *(295—1—1643—41, 51; 295—1—2725—22; 1524—1—1—3адв.).*

**Грыгаровіч Уладзіслаў** — гл. **Грагаровіч Уладзіслаў**

1645. **Грыгаровіч Юльян** (Григорович Ульян), сын Рыгора, дваранін Слуцкага пав., каталік. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, узяты ў палон у Слуцкім пав. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(295—1—1643—48; 1524—1—1—3адв.).*

---

[71] Імя бацькі часам памылкова падаецца як Юльян ці Юзаф.

1646. **Грыгаровіч Ян** (Григорович Иван), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242).*

1647. **Грыгаровіч N.** (Григорович N.), дваранін Панявежскага пав. Служыў у Крамянчугскім пяхотным палку рас. войска, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—9; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

**Грыгаровіч-Фляркоўскі Вітальд** — гл. **Фляркоўскі-Грыгаровіч Вітальд**

1648. **Грыгор'еў**[72] **Прохар** (Григорьев Прохор), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—4).*

1649. **Грыгор'еў**[73] **Фёдар** (Григорьев Федор), аднадворац. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 27.09.1863 яна перададзена ў МагВСК *(3366—1—5—4).*

1650. **Грызевіч Ігнат** (Гризевич Игнатий), дваранін Ковенскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Ракшаны Ковенскага пав. (гл. *Грынцэвічы Генрык* і *Палікарп*). За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.).*

1651. **Грыльскі Аўгуст** (Гржильский Август), дваранін Віцебскай (?) губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(1430—1—52163—397адв.).*

1652. **Грымайла Фелікс** (Гржимайло Феликс), памешчык Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—8адв.).*

1653. **Грынашкевіч Францішак** (Гринашкевич Франц). Да паўстання служыў канцылярыстам Віленскай крымінальнай палаты. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ў баі ля м. Мілавіды Слонімскага пав. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 24.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 09.07.1863 і ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 270, 275; 1416—6—277—3).*

1654. **Грынбэрг Даніэль** (Гринберг Даниил), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72).*

1655. **Грыневіч Вінцэнт** (Гриневич Викентий), дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1821 г. Западозраны разам з *Карчэўскім Тамашам* у тым, што паказаў дарогу асобам, якія дастаўлялі харчаванне паўстанцам, арыштаваны. 07.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 31.08.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1527—106адв.; 296—1—19—174, 277-277адв.).*

1656. **Грыневіч Станіслаў** (Гриневич Станислав), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201адв.).*

1657. **Грыневіч Тамаш** (Гриневич Фома), сын Міхала, муж Наталлі Міхалаўны Дабравольскай, памешчык. Хр. 24.02.1817. У 1840 г. служыў у войску рас., затым выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання валодаў маёнткам Верхняя Тошчыца Рагачоўскага пав. (1689 дзес. зямлі, 173 селяніна муж і жан. полу, млын, сукнавальня, карчма, бровар, дом на 6 пакояў, сад і інш., 1176 руб. гадавога прыбытку, 8252 ці 33738 руб. доўгу). Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай МагВСК ад 26.06.1863, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Смяротны прысуд выкананы (да 24.07.1863). Верхняя Тошчыца канфіскавана да 30.07.1863 і перададзена ў Магілёўскую ПДМ *(319—1—479—10; 319—2—816; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2001—2—123—7адв.-8; 2001—2—171—29адв.-30, 39адв.; 2003—1—304; 2003—1—313—1-2адв.; 2003—1—314; 2616—1—40—14; 3257—2—2—8).*

[72] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[73] Тое ж.

1658. **Грынеўскі Стэфан** (Гриневский Стэфан), сын Яўзебія, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Да паўстання вучыўся ў 4 класе гімназіі ў г. Віцебску. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—8адв.; 1416—3—21048—22; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—530; 3046—2—3—17адв.-18; 3046—2—5—10)*.

1659. **Грынжэўскі Стэфан** (Гринжевский Степан), дваранін Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве, канфірмаванай 29.01.1867 камандуючым войскамі Кіеўскай вайсковай акругі, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Вяцкую губ. са спагнаннем 15 руб., выдаткаваных на вядзенне яго справы *(1416—4—11416—348)*.

1660. **Грынкевіч N.** (Гринкевич N.). Да паўстання з'яўляўся доктарам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 11.05.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—4)*.

1661. **Грынцэвіч Антоні** (Гринцевич Антон), дваранін Ковенскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546)*.

1662. **Грынцэвіч Баляслаў** (Гринцевич Болеслав). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

1663. **Грынцэвіч Генрык** (Гринцевич Генрих), брат *Палікарпа*, памешчык. Да паўстання валодаў сумесна з маці, братам і сёстрамі маёнткамі Ракшаны (Рукшаны) Ковенскага пав. і Ілгова Марыямпольскага пав. Аўгустоўскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства. Пазней пакінуты на жыхарстве ў Каралеўстве Польскім *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—131адв.; 1416—6—207; 1430—1—52163—598адв.; 2532—1—15—3)*.

1664. **Грынцэвіч Леанард** (Гринцевич Леонард), аднадворац Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага, высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12адв.)*.

1665. **Грынцэвіч Наталля** (Гринцевич Наталья), дваранка Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў «Сібірскія губерні». Яе маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

1666. **Грынцэвіч Палікарп** (Гринцевич Поликарп), брат *Генрыка*, памешчык. Да паўстання валодаў сумесна з маці, братам і сёстрамі маёнткамі Ракшаны Ковенскага пав. і Ілгова Марыямпольскага пав. Аўгустоўскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

1667. **Грынцэвіч Станіслаў** (Гринцевич Станислав), дваранін Ковенскага пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Падгай Ковенскага пав. *Хлявінскага Яна*. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598)*.

1668. **Грынцэвіч Юзаф** (Гринцевич Иосиф). Да паўстання вучыўся ў губернскай гімназіі ў г. Магілёве. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—9)*.

1669. **Грынявецкі Аляксандр** (Гриневецкий Александр), сын Фларыяна Якубавіча, дваранін Пінскага пав. Да паўстання яго бацькі жылі ў г. Пінску. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9адв.; 320—1—398—222, 310, 388, 401; 320—2—98—32адв.)*.

**Грынявецкі Ян** — гл. **Грынявіцкі Ян**

1670. **Грынявіцкі Станіслаў** (Гриневицкий Станислав), дваранін Віленскай (?) губ. Да паўстання служыў у ВілГП. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці

і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—8; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

1671. **Грынявіцкі (Грынявецкі) Ян** (Гриневицкий (Гриневецкий) Иван), дваранін Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. У 1871 г. як «палітычны ссыльны» жыў у Астраханскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—9; 1430—1—35146—110).*

1672. **Грыцкевіч Каятан** (Грицкевич Каетан), сын Вінцэнта, селянін. Да паўстання жыў у м. Крошын Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку, потым у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска накіраваны ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—2420—11адв.; 296—1—296—3—3адв.; 320—1—398—3).*

1673. **Грыцэвіч Каспер** (Грицевич Каспер), ксёндз. Да паўстання служыў (прынамсі з пач. 1850-х гг.) пробашчам касцёла ў м. Райполь Люцынскага пав. (гл. *Вайткевіч Каспер*). За «палітычныя злачынствы» зняволены ў г. Дынабургу. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле распараджэння М. Мураўёва сасланы (каля 04.1864) на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ., паселены ў г. Краснаўфімску. На яго маёмасць 21.07.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 07.07.1864 накладаўся секвестр. Пасля высылкі Г. К. у касцёле былі знойдзеныя наяўныя грошы і даўгавыя распіскі на некалькі тысяч рублёў, якія падлеглі секвестру. 03.1866–08.1867 знаходзіўся ў г. Салікамску, падаваў прашэнне аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. 06.02.1867 яго грошы вызвалены ад секвестру. 26.04.1868 Віцебскае губернскае казначэйства выслала ў Салікамскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне 3040,89 руб. яго капіталу, якія 17.04.1864 дайшлі да Салікамска *(1416—3—21048—23адв.; 1430—1—31583—120-125; 1430—1—52163—194адв., 402; 3046—2—5—11; 2514—1—2198).*

1674. **Грыцэнка Каятан** (Гриценко Каэтан), селянін Мазырскага пав., каталік. Нар. каля 1812 г. Да паўстання служыў у памешчыка Стоцкага (пам. 25.07.1863) у в. Рамязы Мазырскага пав. Да і падчас паўстання хаваў зброю свайго памешчыка. 05.1863 арыштаваны сялянамі, зняволены ў турме ў г. Мазыры. У 1863 г. аддадзены пад ПВС пры Віцебскім пяхотным палку, пастановай якога, канфірмаванай 23.09.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да зняволення ў фартэцыі ў казематах на працягу 1 года і вяртання пасля гэтага на месца ранейшага жыхарства. 01.10.1863 адпраўлены ў г. Бабруйск для адбыцця пакарання *(295—1—1595; 295—1—1643—42адв., 45адв.).*

1675. **Грышкевіч Міхал** (Гришкевич Михаил), сын Лук'яна, «вольны чалавек» Слонімскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. 01.03.1864 прыведзены да прысягі на адданасць цару ў Пінскім францішканскім касцёле *(1521—1—10).*

1676. **Губарэвіч Дыянізі** (Губаревич Дионизий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—4).*

1677. **Губарэвіч Ігнат** (Губаревич Игнатий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—4).*

1678. **Губарэвіч Міхал** (Губаревич Михаил), сын Вінцэнта, каталік. Да паўстання знаходзіўся на грамадзянскай службе. За «палітычную нядобранадзейнасць» звольнены са службы. У 1866 г. жыў у г. Магілёве «на паруках», зарабляў сродкі на жыццё пісьмаводствам *(2003—2—96—47, 54).*

1679. **Губарэвіч Стэфан** (Губаревич Степан), сын Станіслава, дваранін. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Галовічна (Галаўнічы?) і фальв. Казляны Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

1680. **Губінская Брыгіда** (Губинская Бригида), дваранка Віленская губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» выслана (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201).*

1681. **Губінскі Станіслаў** (Губинский Станислав), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. «Уцёкамі з месца жыхарства пазбег пакуль асабістага пакарання» *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241; 2616—1—40—61).*

1682. **Губінскі Ян** (Губинский Иван), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237).*

**Гудар Юзаф** — гл. **Гудзіян Юзаф**

1683. **Гудачэўскі Казімір** (Гудачевский Казимир), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

1684. **Гудзіян (Будзіян, Гудар) Юзаф** (Гудзиан (Будиан, Гударь) Иосиф), сын Яна, мешчанін г. Навагрудка ці селянін Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1821 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Сваятычы Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 паранены ў галаву прыкладам і ўзяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на службу ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—2725—31адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—2, 326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—3адв.; 1525—1—2—4адв.-5).*

1685. **Гудовіч Вінцэнт** (Гудович Викентий). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, губернскі сакратар. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8).*

1686. **Гудовіч Францішак** (Гудович Франц), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—9; 320—1—398—224адв.).*

1687. **Гудоўскі Пётр** (Гудовский Петр), сын Бенядыкта, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Цмень Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

1688. **Гулецкі Антоні** (Гулецкий Антон), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1871 г. жыў у Наўгародскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(319—1—479—8; 1430—1—35146—64; 1430—1—52163—521).*

1689. **Гуліцкі Ануфры** (Гулицкий Онуфрий), сын Яна і Барбары, аднадворац. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне шарагоўца. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. На маёмасць маці на падставе ўказа МагГП ад 20.06.1863 накладзена забарона *(2003—1—211—51; 3257—2—2—8адв.; 3366—1—5—3адв.).*

1690. **Гульбін Эдвард** (Гульбин Эдуард), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573; 2532—1—15—2).*

1691. **Гульбін Ян** (Гульбин Иван), дваранін Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—9; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

1692. **Гумінскі Дзмітрый** (Гуминский Дмитрий), селянін Магілёўскай губ. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыка Прушаноўскага. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—8).*

1693. **Гумінскі Фелікс** (Гуминский Феликс), сын Антонія, муж Эміліі Міхалаўны, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Кароўчына Чавускага пав. *Любамірскага Стэфана.* Западозраны рас. уладамі ў захоўванні

паўстанцаў, арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Паводле ўказа МагГП ад 14.05.1863 яго рухомая маёмасць (3 кані, збруя, адзенне) 08.08.1864 апісана і секвестравана. Паводле пастановы ЧСК да 01.03.1864 «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2003—1—245—5; 2003—1—328; 2514—1—2198—67; 3366—1—5—3адв.).*

1694. **Гумоўскі Антоні** (Гумовский Антон), сын Мацея (Матэвуша), бацька *Мечыслава* і *Напалеона*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне тытулярнага радцы. Да паўстання арандаваў маёнтак Устронь Лепельскага пав. Арыштаваны (каля 04.1864) за неданясенне ўладам пра ўдзел у паўстанні сваіх сыноў, зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 07.07.1864 на падставе патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад судом у ВВСК. Пастановай ЧПА ад 26.11.1864, канфірмаванай А. Патапавым 03.12.1864, прысуджаны да штрафу ў 100 руб. 21.12.1864 вызвалены з турмы. Штраф заплаціў *(1416—3—21048—23; 1430—1—31596; 1430—1—52163—414адв.; 3046—2—3—21адв.-22).*

1695. **Гумоўскі Мечыслаў** (Гумовский Мечислав (Мечеслав)), сын *Антонія*, брат *Напалеона*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Удзельнічаў у паўстанні са зброяй у атрадзе *Дмахоўскага Генрыка*, пасля рассеяння якога хаваўся ад рас. уладаў. Арыштаваны (каля 04.1864) і зняволены ў турэмным замку ў г. Віцебску. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. На судзе не выказаў раскаяння. ВВСК 12.10.1864 падала яго справу віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 26.11.1864, канфірмаванай А. Патапавым 03.12.1864, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1416—3—21048—23; 1430—1—31596; 1430—1—52163—412; 3046—2—3—21адв.-22).*

1696. **Гумоўскі Напалеон** (Гумовский Наполеон), сын *Антонія*, брат *Мечыслава*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Удзельнічаў у паўстанні са зброяй у атрадзе *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго рассеяння хаваўся ад рас. уладаў. Арыштаваны (каля 04.1864) і зняволены ў турэмным замку ў г. Віцебску. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. На судзе не выказаў раскаяння. ВВСК 12.10.1864 падала яго справу віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 26.11.1864, канфірмаванай А. Патапавым 03.12.1864, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1416—3—21048—23; 1430—1—31596; 1430—1—52163—412; 3046—2—3—21адв.-22).*

1697. **Гундзіус Венцаслаў** (Гундиус Венцеслав), дваранін Гродзенскай губ., ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла Св. Яна ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—9адв.; 1430—1—52163—166адв.).*

1698. **Гуптар Стэфан** (Гуптар Степан), селянін. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у м. Халопенічы Барысаўскага пав. У паўстанні знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 07.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—104).*

1699. **Гупэ Уладзімір** (Гуппе Владимир), дваранін Плоцкага пав. Плоцкай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

1700. **Гурко Антоні** (Гурко Антон (Антоний)), сын Антонія ці Міхала, памешчык. Нар. каля 1842 г. Да паўстання валодаў маёнткам Добрына Аршанскага (?) пав. (2325 дзес. 2159 саж. зямлі, 35 рэвізскіх душ, дом на 8 пакояў, кузня, лазня і інш.). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. З 27.04.1863 быў пад следствам у АСК, потым у МагСК. Утрымліваўся ў турме г. Оршы (28.11.1863–03.04.1864), у казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва (06.1864). Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць канфіскавана *(1430—1—31353—3-4; 2001—2—171—23адв.-25; 3255—1—12—2; 3255—1—14—1адв.; 3256—2—24—13; 3257—1—14—3адв.-4; 3257—2—2—10).*

1701. **Гурко Зоф'я** (Гурко София), дваранка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у АСК, якая 24.03.1864 скончыла яе справу; мела дачыненне да спраў *Гуркоў Антонія* і *Юльяна (3255—1—14—1адв.; 3257—2—8—4).*

1702. **Гурко Юльян** (Гурко Юльян), сын Марціна, памешчык Аршанскага пав. Нар. каля 1824 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам, арыштаваны. Таксама падазраваўся рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*. Утрымліваўся ў турме г. Оршы, дзе быў яшчэ 03.04.1864. З 27.04.1863 знаходзіўся пад следствам у АСК, потым у МагСК, пад судом — у МагВСК *(3255—1—12—1-1адв.; 3255—1—14—1адв.; 3257—1—14—3адв.-4; 3257—2—2—10)*.

1703. **Гуровіч Айзік** (Гурович Айзик), сын Мойшы, купецкі сын, яўрэй Себежскага пав. Падчас паўстання захоўваў і прадаваў вайсковы рыштунак, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 22.09.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—24адв.-25)*.

1704. **Гурскі Дамінік** (Гурский Доменик), сын Станіслава, дваранін Віцебскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу. Быў пад судом у МагВСК *(3257—2—2—10; 3257—2—8—4)*.

1705. **Гурскі Стэфан** (Гурский Степан), сын Юзафа, дваранін Мінскага пав. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 31.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў *(320—1—398—296; 320—2—98—32адв.)*.

1706. **Гурскі Ян-Казімір-Палікарп** (Гурский Иван-Казимир-Поликарп), сын Станіслава Самуэлевіча (нар. 1788) і Цэцыліі Умінскай, дваранін Ігуменскага пав. Нар. у 1815 г., хр. 28.01.1815 у Серафінскім касцёле. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання ў 1864 г. разам з жонкай Тэрэзай і дачкой Ізабэлай «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. Іх зямельная маёмасць (32 дзес. 846 саж.) канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Суцін, дзе хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную зямлю *(295—1—2420—5адв.; 295—1—2830; 295—1—3026—31адв.; 295—1—3492—68, 81; 319—2—841; 320—2—98—7, 12, 71, 93)*.

1707. **Гурскі Ян** (Гурский Ян), сын Тамаша, шляхціц Бельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 09.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—287)*.

1708. **Гурыновіч Фелікс** (Гуринович Феликс). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72)*.

1709. **Гурыновіч Юзаф** (Гуринович Иосиф), памешчык. Да паўстання арандаваў маёнтак Лябёдка Лідскага пав. Паўстанцы забралі яго ўласныя сядло і брычку, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

1710. **Гурэцкі Антоні** (Гурецкий Антон), сын Тэадора, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, «адстаў» ад яго, узяты ў палон казакамі каля г. Ігумена. Зняволены спачатку ў Ігумене, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 13.01.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ, адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загаду ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 25.01.1864. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—137; 295—1—1643—51; 296—1—90—13адв.-14; 319—1—479—9адв.; 320—1—398—573, 575; 320—2—98—32адв.; 1418—3—1—18адв.-19; 1430—1—52163—242)*.

1711. **Гурэўскі Эдвард** (Гуржевский Эдуард), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—17адв.-18)*.

1712. **Гурэцкі Ян** (Гурецкий Иван), сын Мацея, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з Камілай і Вікторыяй высланы ў Томскую губ. *(295—1—2420—7-7адв.)*.

1713. **Гусева Лідзія** (Гусева Лидия), дваранка. Нар. у Цвярской губ. Абвінавачана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1864 г. выслана на радзіму *(295—1—1643—50)*.

1714. **Гутаровіч Стэфан** (Гуторович Степан), сын Яна, селянін. Належаў памешчыку Шаняўскаму, якім адпушчаны на волю. Да паўстання служыў лоўчым у памешчыка Стэфана Галынскага. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што яго рухомая маёмасць (куфар, адзенне, дробны посуд, некалькі кніг і інш. на суму ў 22,78½ руб. ср. і 10,8 руб. наяўнымі грашыма), якая знаходзілася ў станавай кватэры прыстава 2 стану Чэрыкаўскага пав., 13.10.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад

следствам у ЧСК, якая 23.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру *(2003—1—377; 2514—1—2198—67; 3366—1—5—4)*.

1715. **Гутаровіч Тэадор** (Гуторович Федор), селянін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—8адв.)*.

1716. **Гутаровіч Уладзімір-Эмерык** (Гуторович Владимир-Эмерик), сын Іаахіма, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1826 г. У 1847–1854 гг. вучыўся ў Харкаўскім універсітэце, які закончыў са ступенню лекара і званнем павятовага доктара. Удзельнічаў у Крымскай вайне ў 1854 г. у Малдове і Валахіі ў складзе Фінляндскага драгунскага палка, у 1855 г. у Крыме ў складзе 2 Драгунскай дывізіі. Звольніўся з войска ў 1856 г., у 1857 г. паступіў на службу малодшым лекарам Ілецкага салянога праўлення. З 01.07.1862 служыў акруговым наглядчыкам 6 акругі піцейна-акцызных збораў Віцебскай губ. у г. Лепелі, калежскі асэсар. Паводле загаду ўпраўлення піцейна-акцызных збораў ад 03.04.1863 пераведзены на такую ж пасаду ў г. Полацк. Падчас паўстання западозраны ў прыналежнасці да бешанковіцкага атрада (гл. *Дыка Уладзіслаў*), арыштаваны. 01.1864 знаходзіўся арыштаваным на кватэры з прычыны адсутнасці месца ў турэмным замку. Быў пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 14.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пасля высланы з радзімы, яго маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 22.02.1864 падлягала секвестру. У 1870 г. жыў у Ніжагародскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У 1880 г. служыў гарадавым доктарам г. Ніжняга Ноўгарада; калежскі радца. 12.09.1880 атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ. *(295—1—2149—31-32; 295—1—3372—22-23; 1416—3—21048—22адв.; 1430—1—31259—75, 130-133адв.; 1430—1—31602—27-29; 1430—1—52163—399а адв.; 1430—1—52758—8; 3046—2—3—20адв.-21)*.

1717. **Гутоўскі Аніцэт** (Гутовский Аникетий), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—9)*.

1718. **Гутоўскі Пётр** (Гутовский Петр), дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—9адв.; 1416—4—11416—87адв.; 1430—1—52163—521адв.)*.

1719. **Гутоўскі Станіслаў** (Гутовский Станислав), дваранін. Да паўстання жыў у в. Акулічы Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

1720. **Гутоўскі Сымон** (Гутовский Симон), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Лепясы Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Ніжагародскую губ., пры гэтым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу; альбо прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103, 109; 319—1—479—9; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—8)*.

1721. **Гутоўскі Уладзіслаў** (Гутовский Владислав), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

1722. **Гушча Дыянізі** (Гуща Дионизий), сын Вінцэнта Тэадоравіча і Юзэфы Ліпніцкай, брат Евы, Юзафа-Іаахіма, Андрэя-Мікалая, *Станіслава*, Антонія і Казіміра, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 13.10.1836. Абвінавачаны ў агітацыі шляхты далучыцца да паўстання і ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. З дзес. зямлі ў вак. Жабіхава Ігуменскага пав., якімі ён валодаў сумесна з братамі і сястрой, часова секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 20.07.1863. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў «далёкія губерні». Паводле рашэння М. Мураўёва ад 03.07.1864 прызнаны невінаватым і вызвалены *(295—1—1643—49; 296—1—89—9, 70; 319—2—852; 1418—3—1—17адв.-18)*.

1723. **Гушча Станіслаў** (Гуща Станислав), сын Вінцэнта Тэадоравіча і Юзэфы Ліпніцкай, брат Евы, Юзафа-Іаахіма, Андрэя-Мікалая, *Дыянізія*, Антонія і Казіміра, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 25.09.1838. Да паўстання служыў правіянцкім пісарам у м. Бачэйкава Лепельскага пав. У сувязі з тым што падчас паўстання выехаў з месца сталага жыхарства, западозраны ва ўдзеле ў паўстанні

і арыштаваны. Утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Лепелі, адкуль 02.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Потым аддадзены пад суд *(162—1—116—170; 319—2—852; 320—1—398—379-380; 1416—3—21048—23; 1430—1—31604—59; 1430—1—52163—412; 3046—2—3—22адв.-23)*.

1724. **Гушча Юзаф** (Гуща Иосиф), сын Бенядыкта Паўлавіча і Канстанцыі Магэр, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 20.01.1837. Уваходзіў у паўстанцкі атрад, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 18.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ, 27.04.1864 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—128, 156адв.; 295—1—1643—43; 319—1—479—9адв.; 319—2—852; 320—1—398—351-352, 533-534, 644адв.; 1418—3—1—18адв.-19; 1430—1—52163—526)*.

1725. **Гябовіч Мікалай** (Геббович Николай), памешчык Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве, канфірмаванай 29.01.1867 камандуючым войскамі Кіеўскай вайсковай акругі, прысуджаны да трохмесячнага арышту *(1416—4—11416—348)*.

1726. **Гядвіла Марціян** (Гедвилло Марциян), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—8адв.; 1430—1—52163—530адв.)*.

1727. **Гяйбовіч Станіслаў** (Гейбович Станислав), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—8; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

1728. **Гямбіцкі Люцыян** (Гембицкий Люциан). Да паўстання — іераманах кляштара трынітарыяў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9адв.)*.

1729. **Гямбіцкі Францішак** (Гембицкий Франц), дваранін Аўгустоўскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Казанскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

1730. **Гямбоцкі Уладзіслаў** (Гембоцкий Владислав), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—8адв.)*.

1731. **Гяндзвала (Гандзвіла, Гяндзевіл) Марцін** (Гендзвалло (Гондзвилло, Гендзевил) Мартын (Мартин)), дваранін Вілейскага пав. Да паўстання валодаў 30 галовамі быдла і 4 коньмі ў маёнтку Семцы Вілейскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда і канфірмацыі М. Мураўёва (альбо М. Анненкава ?) прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства. У 1871 г. жыў у Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(319—1—479—8; 320—1—398—129адв.; 1416—6—280; 1430—1—35146—127; 1430—1—52163—604адв.)*.

1732. **Гяндзвіла Ян** (Гендзвилло Иван), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—8адв.; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241; 2616—1—40—61)*.

**Гяндзевіл Марцін** — гл. **Гяндзвала Марцін**

1733. **Гяніска Эдвард** (Гениско Эдуард), дваранін Балцкага пав. Падольскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106)*.

**Гянсінцкі Фларыян** — гл. **Гансіцкі Фларыян**

1734. **Гянціла Мікалай** (Гентилло Николай), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—9)*.

1735. **Гярберскі Юльян** (Герберский Юльян). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

1736. **Гяроднік Ігнат** (Геродник Игнатий), мешчанін г. Рыгі. Да паўстання жыў у Дрысен-

скім (?) пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны, зняволены (да 25.01.1864) у фартэцыі ў г. Дынабургу *(2601—1—5—7адв.)*.

1737. **Гяцовіч Вульф** (Гецович Вульф), мешчанін-яўрэй. Да паўстання жыў у м. Араны Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту *(296—1—25—102; 319—1—479—8адв.)*.

1738. **Гяцэвіч Людамір (Людвік)-Браніслаў** (Гецевич Людомир (Людвиг)-Бронислав), сын Зыгмунта-Міхала Янавіча і Багумілы Марцінаўны Шпакоўскай, муж Ганны Цецыновіч, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. 22.08.1838 у фальв. Пераколь Бабруйскага пав., хр. 28.08.1838 у Свіслацкім касцёле. Да паўстання яго бацькі валодалі 20 дзес. зямлі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, быў пад следствам у ІСК. 28.01.1864 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загаду ЧВГМГ ад 26.02.1864. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На зямельную маёмасць бацькоў накладзена забарона. На радзіме і ў ссылцы нарадзіліся трое яго сыноў: Баляслаў (нар. 16.11.1863 у засц. Гіжгайлава Ігуменскага пав.), Тамаш (нар. 18.09.1868 у г. Вятцы) і Юзаф-Мікалай *(296—1—90—15адв.-16; 299—1—579—298-307; 319—1—479—9адв.; 319—2—685—1а-4адв. і інш.; 1418—3—1—17адв.-18; 1430—1—52163—206)*.

1739. **Гячэвіч Казімір-Ежы** (Гечевич Казимир-Юрий (Георгий)), сын Ігната-Гальяша Міхалавіча і Ганараты Шышкі, дваранін Мінскай губ., каталік. Хр. 10.07.1845 у Серафінскім касцёле. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 19.10.1863) да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у войска рас. без пазбаўлення правоў і без канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103; 319—2—668—114-119адв. і інш.; 1430—1—52163—150адв.)*.

# Д

1740. **Дабашынская Ганна** (Добошинская Анна), дачка *Дамініка*, сястра *Антонія*, *Канстанціна*, *Уладзіслава*, *Марыі*, *Зоф'і*, *Ядвігі*, дваранка Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні яе братоў *Антонія* і *Канстанціна* канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджана да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ., яе маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—231; 162—1—116—125; 320—1—398—530)*.

1741. **Дабашынская Зоф'я** (Добошинская Софья), дачка *Дамініка*, сястра *Антонія*, *Канстанціна*, *Уладзіслава*, *Ганны*, *Марыі*, *Ядвігі*, дваранка Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні яе братоў *Антонія* і *Канстанціна* канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджана да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ., яе маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—231; 162—1—116—125; 320—1—398—530)*.

1742. **Дабашынская Марыя** (Добошинская Мария), дачка Аляксандра, дваранка Навагрудскага пав. Да паўстання жыла ў маёнтку Драгабылле Навагрудскага пав. *Дабашынскага Дамініка*. Абвінавачана ў пастаўцы паўстанцам адзення і абутку і арыштавана. Яе маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзена пад ПВС *(295—1—1643—55; 320—1—398—3)*.

1743. **Дабашынская Марыя** (Добошинская Мария), дачка *Дамініка*, сястра *Антонія*, *Канстанціна*, *Уладзіслава, Ганны*, *Зоф'і*, *Ядвігі*, дваранка Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні яе братоў *Антонія* і *Канстанціна* канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджана да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ., яе маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—231; 162—1—116—125; 320—1—398—530)*.

1744. **Дабашынская Меланія** (Добошинская Меланья), дваранка Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштавана. У 1864 г. аддадзена пад ПВС, рашэннем якога прысуджана да высылкі ў Варонежскую губ. пад строгі нагляд паліцыі. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджана да ссылкі ў Ніжагародскую губ. з турэмным зняволеннем на 4 месяцы і канфіскацыяй маёмасці *(160—2—682—231; 162—1—116—64; 295—1—1643—62; 299—1—577—164-175; 320—1—398—282адв.)*.

1745. **Дабашынская (Смольская) Ядвіга** (Добошинская (Смольская) Ядвига), дачка *Дамініка*, сястра *Антонія*, *Канстанціна*, *Уладзіслава*, *Ганны*, *Зоф'і*, *Марыі*, дваранка Навагрудскага пав. Да паўстання выйшла замуж за N. Смольскага. За ўдзел у паўстанні яе братоў *Антонія* і *Канстанціна* канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджана да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ., яе маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—231; 162—1—116—125; 320—1—398—530)*.

1746. **Дабашынскі Антоні** (Добошинский Антон), сын *Дамініка*, брат *Канстанціна, Уладзіслава, Марыі, Ганны, Зоф'і, Ядвігі*, дваранін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджаны, сярод іншага, да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—231; 162—1—116—156, 166; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—530, 644; 534—1—14—854 1430—1—52163—530адв.)*.

1747. **Дабашынскі Дамінік** (Добошинский Доминик), бацька *Антонія*, *Канстанціна*, *Уладзіслава*, *Марыі*, *Ганны*, *Зоф'і*, *Ядвігі*, памешчык Навагрудскага пав. Падчас паўстання пастаўляў паўстанцам харчаванне і грошы. Пасля паўстання трапіў пад следства, але памёр падчас яго. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 13.12.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі. Яго маёнтак Драгабылле Навагрудскага пав. канфіскаваны ў казну *(160—2—682—57, 231; 162—1—122—11; 320—1—398—679; 534—1—14—85)*.

1748. **Дабашынскі Канстанцін** (Добошинский Константин), сын *Дамініка*, брат *Антонія*, *Уладзіслава*, *Марыі*, *Ганны*, *Зоф'і*, *Ядвігі*, дваранін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля паўстання рас. улады не ведалі пра яго лёс. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджаны, сярод іншага, да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—231; 162—1—116—125, 156, 166; 320—1—398—530, 644; 534—1—14—85; 1430—1—52163—530адв.)*.

1749. **Дабашынскі Рафал** (Добашинский Рафаил), дваранін, каталік. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, пра яго давала паказанні *Камёнка Ева*. ВСК не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—30адв.-29, 49адв.-50)*.

1750. **Дабашынскі (Давашынскі) Рыгор (Юры, Ежы)** (Добошинский (Давашинский) Григорий (Юрий, Георгий)), селянін, каталік. Да паўстання жыў у маёнтку Сенна Навагрудскага пав. памешчыкаў Пуслоўскіх (гл. *Пуслоўскі Адам*). 05.04.1863 увайшоў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Зняволены ў навагрудскім астрозе, дзе знаходзіўся яшчэ 07.09.1863. Потым утрымліваўся ў г. Мінску, знаходзіўся пад следствам у МСК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—1585; 295—1—2420—11; 296—1—296—3; 320—1—398—3)*.

1751. **Дабашынскі Уладзіслаў** (Добошинский Владислав), сын *Дамініка*, брат *Антонія*, *Канстанціна*, *Марыі*, *Ганны*, *Зоф'і*, *Ядвігі*, дваранін Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні яго братоў *Антонія* і *Канстанціна* канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ., яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—231; 162—1—116—125; 320—1—398—530)*.

1752. **Дабашынскі Ян** (Добошинский Иван). Да паўстання служыў радцам Ковенскай казённай палаты. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

1753. **Дабкевіч Адам** (Добкевич Адам), ксёндз. Да паўстання служыў у Ковенскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Казанскую губ. *(1430—1—52163—546)*.

1754. **Дабкевіч Канстанцін** (Добкевич Константин), вольны хлебароб Навагрудскага пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Крошын Навагрудскага пав., меў кватэру ў флігелі дома памешчыка Завадскага; знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Уночы з 2 на 3 сакавіка 1863 г. разам з *Ляскоўскім Пятром*, *Смысловым Уладзіславам* і *Канько Антонам* пакінуў Крошын і далучыўся да паўстанцаў. Потым арыштаваны. *С. У.* і *К. А.* у сваіх паказаннях сцвярджалі, што разам з *Л. П.* пагражаў ім смерцю для ўцягнення ў атрад. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Яго рухомая маёмасць, ацэненая ў 8 руб., канфіскавана. На драўляны дом яго бацькі ў г. Навагрудку накладзена забарона. Верагодна, пасля смерці бацькі гэты драўляны дом з флігелем, гумном, хлявом, сялянскай хатай і фруктовым садам (143 дрэвы) каля г. Навагрудка ацэнены ў 202 руб., канфіскаваны і з 23.04.1868 здаваўся ў арэнду за 26,5 руб. *(162—1—116—137; 295—1—1643—54адв., 63, 56; 295—1—1900—8адв.-9, 24адв.-25; 296—1—18; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—573, 575; 1416—1—247; 1430—1—52163—242)*.

1755. **Дабкевіч N.** (Добкевич N.), ксёндз. Служыў у касцёле м. Сар'я Дрысенскага пав. Ахрысціў немаўля праваслаўных бацькоў, за што прысуджаны (да 02.12.1866) да грашовага штрафу ў 100 руб. ср. З прычыны адсутнасці грошай штраф загадвалася спаганяць з яго ўтрымання *(2601—1—28—77адв.-78)*.

1756. **Дабравольскі Вільгельм** (Добровольский Вильгельм), сын Віктара, памешчык Лепельскага пав. Служыў у ВГП, потым у Віцебскім павятовым казначэйстве, Віцебскай грамадзянскай палаце, Віцебскім ДДС. У 1842 г. абраны дэпутатам

ад дваранства для вызначэння мясцовых коштаў на алкагольныя напоі; калежскі сакратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. 10.02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК, утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Віцебску. 24.02.1864 падаваў прашэнне на імя віцебскага губернскага маршалка *(2626—1—305—12-13, 35-36)*.

1757. **Дабравольскі Ігнат** (Добровольский Игнатий). Да паўстання служыў чыноўнікам канцылярыі МГГ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(534—1—14—5)*.

1758. **Дабравольскі Міхал** (Добровольский Михаил), сын Міхала Юзафа, дваранін Мінскага пав. Да паўстання служыў у канцылярыі мінскага губернатара, калежскі рэгістратар. Уваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. На маёнтак яго бацькі Чачкава Мінскага пав. накладзена забарона. У 1883 г. дамогся вяртання правоў дваранства *(295—1—1643—53, 61, 63адв.; 299—1—579—165-177; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—462-462адв., 475; 320—2—98—34; 1430—1—52163—375)*.

1759. **Дабравольскі Станіслаў** (Добровольский Станислав), сын Антонія (засядальніка Мсціслаўскага павятовага суда), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў г. Горках. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», 17.05.1863 арыштаваны паліцыяй у Горках. Паводле паказанняў бацькі, з 09.04.1863 да 08.05.1863 увогуле не знаходзіўся ў Горках і не меў дачынення да падзей паўстання. Нягледзячы на гэта, у хуткім часе пасля арышту высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Вятку. Маёнтак яго бацькі Канюхова Мсціслаўскага пав. узяты (да 22.07.1863) пад паліцэйскі нагляд, ад якога вызвалены паводле пастановы МагГП ад 05.08.1863 з накладаннем забароны *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 1781—2—5602—35; 2003—2—53)*.

1760. **Дабравольскі Юзаф** (Добровольский Иосиф), дваранін. Абвінавачаны ў «намове сялянаў да мяцяжу і распаўсюджванні сярод іх шкодных чутак», арыштаваны. У 1863 г. яго справа перададзена ў МСК. У 1864 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога прызначаны да вызвалення і аддачы пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—55адв., 57адв., 61)*.

1761. **Дабравольскі Юзаф** (Добровольский Иосиф), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Пскоў для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

1762. **Дабравольскі Юзаф** (Добровольский Иосиф), сын Яна, дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Да паўстання служыў чыноўнікам. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на карысць паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—27адв.-28; 3046—2—5—12)*.

**Дабравольскі N.** — гл. **Дабрасельскі N.**

1763. **Дабрагоўскі Андрэй** (Доброговский Андрей), аднадворац Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту *(319—1—479—11; 320—1—398—224адв.)*.

1764. **Дабранецкі Гальяш** (Добрженецкий Илья), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—5)*.

1765. **Дабрасельскі (Дабравольскі) N.** (Добросельский (Добровольский) N.), ксёндз. Служыў пробашчам касцёла г. Слуцка. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую губ. У 1871 г. жыў у г. Вятцы *(295—1—1643—56; 295—1—2213—8-10; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21)*.

1766. **Дабраўлянскі Дыянізі** (Добровлянский Дионизий), памешчык Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.)*.

1767. **Дабрыкевіч Міхал** (Добрикевич Михаил), сын Міхала, мешчанін г. Мінска. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 18.09.2863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 12.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады *(162—1—122—101; 319—1—479—11адв.; 1416—3—21048—24адв.; 1430—1—52163—181адв., 394; 2514—1—2198—67адв.; 3255—1—14—2)*.

1768. **Дабрынскі Фелікс** (Добржинский Феликс), сын Міхала Аляксандравіча, дваранін Навагрудскага пав. Хр. 25.08.1818. Меў дачыненне да паўстання, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Му-

раўёва ад 21.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Указ МГП аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 22.02.1864 *(295—1—1643—62; 296—1—25—104; 299—1—577—511-513; 319—1—479—11; 320—1—398—181-183, 194-195; 320—2—98—33адв.).*

1769. **Дабужынская Фяліцыя** (Добужинская Фелиция), памешчыца Віленскай губ. і Вількамірскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначана (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Варонежскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—3адв.).*

1770. **Дабулевіч N.** (Добулевич N.). Служыў станавым прыставам, выйшаў у адстаўку. Да паўстання жыў у г. Коўне. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

1771. **Дабышэўскі Вінцэнт** (Добышевский Винцентий), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—10адв.; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

**Давашынскі Рыгор** — гл. **Дабашынскі Рыгор**

1772. **Давейка Юзаф** (Довейко Иосиф). Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле распараджэння М. Мураўёва разам з *Заленскім Ануфрыем*, *Кучынскім Дамінікам*, *Лапіцкім Касперам* і *Яцкевічам Канстанцінам* 27.02.1864 адпраўлены з г. Полацка ў фартэцыю ў г. Дынабург «на бязвыхаднае жыхарства пад асаблівы нагляд» да далейшага распараджэння *(1430—1—31602—146).*

1773. **Давідовіч Даніэль** (Давидович Данило), селянін Ігуменскага пав., каталік. Быў у паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.07.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1864 г. сасланы ў Пскоўскую губ. *(295—1—1643—61адв.; 296—1—19—280адв.; 1418—3—1—21адв.-22).*

1774. **Давідовіч Якуб** (Давидович Яков), сын Іаахіма, пазбаўленага сану ўніяцкага святара, брат *Яна*. Да паўстання жыў у маёнтку Калдычэва Навагрудскага пав. 04.04.1863 разам з братам і *Шалевічам Каралем* уступіў у атрад, які фарміраваўся ў м. Каўпеніца Навагрудскага пав. і ў якім знаходзіліся *Герман Эдмунд*, *КлюкоўскіяВаўрынец* і *Канстанцін* і інш. Разам з гэтым атрадам паспрабаў злучыцца з атрадам *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*, аднак, не знайшоўшы яго, 06.04.1863 пакінуў атрад і вярнуўся на месца жыхарства. Пасля арыштаваны сялянамі і дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС пры 12-м Серпутоўскім пяхотным палку ў Навагрудку. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Яго рухомая маёмасць, ацэненая ў 2,2 руб., канфіскавана. У 1871 г. знаходзіўся ў Енісейскай губ. *(162—1—116—137; 295—1—1562—34-39; 295—1—1643—54адв.; 295—1—2213—55; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—2адв., 573, 575, 597-598; 320—2—98—34; 1430—1—52163—242).*

1775. **Давідовіч (Давыдовіч) Ян** (Давидович (Давыдович) Иван), сын Іаахіма, пазбаўленага сану ўніяцкага святара, брат *Якуба*, каталік. Нар. каля 1838 г. Да паўстання жыў у маёнтку Калдычэва Навагрудскага пав. 04.04.1863 разам з братам і *Шалевічам Каралем* уступіў у атрад, які фарміраваўся ў м. Каўпеніца Навагрудскага пав. і ў якім знаходзіліся *Герман Эдмунд*, *Клюкоўскія Ваўрынец* і *Канстанцін* і інш. Разам з гэтым атрадам паспрабаў злучыцца з атрадам *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*, аднак, не знайшоўшы яго, 06.04.1863 пакінуў атрад і вярнуўся на месца жыхарства. Пасля арыштаваны сялянамі і дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС пры 12-м Серпутоўскім пяхотным палку ў Навагрудку. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Яго рухомая маёмасць, ацэненая ў 2,3 руб., канфіскавана. 03.1865 прыбыў у Енісейскую акругу, паселены ў Казачынскай вол., потым пераведзены ў Шушанскую вол. Мінусінскай акругі Енісейскай губ. У 1875 г. падаў прашэнне ў Енісейскае губернскае праўленне аб выдачы пасведчання аб вяртанні правоў стану *(162—1—116—137; 295—1—1562—34-39; 295—1—1643—54адв.; 295—1—2720; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—2адв., 575, 597-598; 320—2—98—34; 1430—1—52163—242).*

1776. **Давідсон Юстын** (Давидсон Устин). За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да высылкі з радзімы без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—152).*

**Давыдовіч Ян** — гл. **Давідовіч Ян**

1777. **Дадэрка Сотэр** (Дедерко Сотер), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстан-

ня паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

1778. **Далабоўскі Люцыян** (Долобовский Люциян), дваранін Шавельскага пав. Да паўстання жыў у в. Янішкі Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—11; 1416—6—281; 1430—1—52163—521адв.)*.

1779. **Далабоўскі Уладзіслаў** (Долобовский Владислав), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» ці ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242)*.

1780. **Далабоўскі Францішак** (Долобовский Франц), дваранін Шавельскага ці Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў ці на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—10адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

**Далабоўскі Францішак** — гл. **Далубоўскі Францішак**

1781. **Далеўская Тэкля** (Далевская Текля), дваранка. Да паўстання жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

1782. **Далеўскі Францішак** (Далевский Франц), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(296—1—25—101; 319—1—479—10; 1430—1—52163—154)*.

1783. **Далеўскі Цітус** (Долевский Тит), дваранін Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—10адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.)*.

1784. **Далецкі Ян** (Далецкий Иван), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—4адв.)*.

1785. **Далінскі Войцех** (Долинский Войцех), дваранін Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—11)*.

1786. **Далубоўскі (Далабоўскі) Францішак** (Долубовский (Долобовский) Франц), дваранін г. Коўна. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—75; 1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16)*.

1787. **Далькевіч Юльян** (Далькевич Юльан), сын Яна, дваранін Оўруцкага пав. Валынскай губ., каталік. Нар. каля 1841 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 паранены ў руку і вуха ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. і ўзяты ў палон. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 ссылка заменена на 4 гады катаргі на заводах. У 1879 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—106; 320—1—398—326-327адв., 655; 320—2—98—33адв.; 1418—4—1; 1430—1—52758—10; 1524—1—1—4; 1525—1—2—3адв.-4)*.

1788. **Далянгоўскі Караль** (Даленговский Карл), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у Вільні, з'яўляўся акторам віленскай трупы. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—10; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

1789. **Даманоўскі Данат** (Домановский Донат), сын Юзафа, дваранін Панявежскага пав. Да паўстання жыў у в. Меднікі. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—10адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—205)*.

1790. **Даманоўскі Уладзіслаў** (Домановский Владислав), сын Антонія, дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Знаходзіўся ў адным з атрадаў у Кобрынскім пав., пасля чаго схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру, а потым прызначана да канфіскацыі *(162—1—116—166; 296—1—25—108адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

1791. **Даманскі Аляксандр** (Доманский Александр), памешчык Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8)*.

1792. **Даманскі Антоні** (Доманский Антон). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Дачыненне да паўстання невядомае. Знаходзіўся ў ссылцы, адкуль перасяліўся ў Каралеўства Польскае. У 1871 г. атрымаў частковую амністыю з правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—132)*.

1793. **Даманскі Леан** (Доманский Леон), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Кнышын Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—11; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

1794. **Даманскі Тамаш** (Доманский Фома), памешчык Навагрудскага пав. Да паўстання адстаўны штабс-капітан. Падчас паўстання належаў да «таемнай рэвалюцыйнай арганізацыі па Навагрудскім павеце». Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да высылкі з радзімы са спагненнем узмоцненага 10-працэнтнага збору з яго маёмасці (без яе канфіскацыі). У Навагрудскім пав. яго маёмасці знойдзена не было *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—679; 1416—3—21057)*.

1795. **Даманскі Фабіян** (Доманский Фабиан), сын Захара, незацверджаны дваранін Віцебскага ці Аршанскага пав. Да паўстання жыў у Аршанскім пав., дзе займаўся «прыватнымі пасадамі кіраваннем эканамічным». За «ўдзел у паўстанні» канфірмацыяй А. Патапава ад 18.01.1865 прысуджаны да зняволення пад арыштам на працягу 1 года ў фартэцыі ў г. Дынабургу і вяртання затым на радзіму на «добранадзейныя парукі» і пад паліцэйскі нагляд; маёмасць падлягала вызваленню ад секвестру. 17.02.1865 адпраўлены з г. Магілёва ў Дынабург. 22.01.1866 вызвалены і адпраўлены ў г. Віцебск. Тут падаў прашэнне аб дазволе на прыбыццё ў г. Оршу, дзе жыла яго сям'я і дзе жадаў запісацца ў мяшчанскае саслоўе. 04.1866 атрымаў білет на праезд з Віцебска да Оршы *(1430—1—32007)*.

1796. **Даманскі Ян** (Доманский Иван). Служыў пісарам у маёнтку Беражневічы. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, потым у «невядомай адлучцы». Канфірмацыяй А. Патапава прызнаны ўдзельнікам паўстання, яго маёмасць прызначалася да секвестру *(160—2—682—106; 162—1—122—22; 534—1—14—39)*.

1797. **Дамарадскі Уладзіслаў** (Доморадский Владислав), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Варонежскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—36-36)*.

1798. **Дамарацкая Клара** (Домарацкая Клара), дачка Мацея. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—2)*.

1799. **Дамарацкі Войцех (Войцех-Марыян-Эразм-Адам)** (Доморацкий Войтех (Войцех-Мариян-Эразм-Адам)), сын Юзафа (памешчыка Валынскай губ.) і Марыяны Гадомскай, дваранін Валынскай губ., каталік. Нар. 03.02.1840 у м. Палоннае Наваград-Валынскага пав., хр. 03.02.1840 у Палоннаўскім касцёле. Вучыўся ў павятовым вучылішчы ў г. Наваградзе-Валынскім Валынскай губ., у 1853–1858 гг. — у губернскай гімназіі ў г. Жытоміры, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Разам з *Цеханавецкай Ізабэлай* удзельнічаў у фарміраванні паўстанцкага атрада ў маёнтку Вышова Мсціслаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, забіты пры захопе г. Горкі 24.04.1863 *(2001—2—124—4; 2514—1—2198—67адв.; 3256—2—52—18адв.; 3257—1—53—2; 3286—2—1—4, 12-15)*.

1800. **Дамашэвіч Фелікс** (Домашевич Феликс). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) з Віленскай у Казанскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

1801. **Дамашэвіч Ян** (Домашевич Иван), дваранін Шавельскага пав. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—10адв.; 1430—1—52163—521адв.; 1527—1—4—12)*.

1802. **Дамбінскі Максімільян** (Дембинский Максимилиан), дваранін Варшаўскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

1803. **Дамбінскі Тадэвуш** (Дембинский Фаддей). Западозраны рас. уладамі ў прынадлежнасці да патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.)*.

1804. **Дамбінскі Юзаф** (Дембинский Иосиф). Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—11адв.)*.

1805. **Дамбоўскі Ян** (Дембовский Ян), мешчанін м. Шадава Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 1 год *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

**Дамброва Адам** — гл. **Данброва Адам**

1806. **Дамброва Баляслаў** (Дамброво Болеслав), сын Антонія, брат *Уладзіслава*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Хр. 12.04.1843. Да паўстання жыў у с. Свіды Барысаўскага пав., якое арандаваў яго бацька. 20.04.1863 далучыўся да паўстанцаў, уваходзіў у склад атрада *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля рассеяння якога ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў гарадской турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загаду ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў батальёны Амурскай вобл. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. У 1865 г. знаходзіўся на службе ў 4 лінейным батальёне Заходняй Сібіры. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У 1900 г. яму вернуты правы дваранства *(162—1—116—12; 295—1—1527—73, 102адв.; 295—1—1588; 319—1—479—11; 319—2—590—139адв.-143; 320—1—398—84-89а адв., 124адв.; 320—2—98—33адв.; 1430—1—35146—53; 1430—1—52163—596б адв.)*.

**Дамброва Ганна** — гл. **Данброва Ганна**

**Дамброва Міхал** — гл. **Данброва Міхал**

1807. **Дамброва Сільвестр** (Домброво Сильвестр), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1843 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Прысуджаны (да 19.10.1863) да ссылкі шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска, на яго маёмасць накладаўся секвестр *(295—1—1527—102адв.; 295—1—1643—54, 58; 1430—1—52163—150адв.)*.

1808. **Дамброва Уладзіслаў** (Дамброво Владислав), сын Антонія, брат *Баляслава*, дваранін Лепельскага ці Барысаўскага пав., каталік. Нар. 15.10.1840. Да паўстання жыў у с. Свіды Барысаўскага пав., якое арандаваў яго бацька. 20.04.1863 далучыўся да паўстанцаў, уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля яго рассеяння ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў гарадской турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў батальёнах Амурскай вобл. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. У 1879 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю». У 1900 г. яму вернуты правы дваранства *(162—1—116—12; 295—1—1527—73, 102; 295—1—1588; 319—1—479—11; 319—2—590—141адв.; 320—1—398—84-89а адв., 124; 320—2—98—33адв.; 1430—1—52163—596б; 1430—1—52758—10)*.

1809. **Дамброва N.** (Домброво N.), памешчык. Падчас паўстання аштрафаваны за нашэнне забароненага адзення на 75 руб. *(295—1—1643—59адв.)*.

1810. **Дамброўская Ганна** (Домбровская Анна), манахіня. Да паўстання служыла сястрой міласэрнасці ў гарадскім шпіталі ў г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджана (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101; 319—1—479—10; 1430—1—52163—154)*.

1811. **Дамброўскі Адам** (Домбровский Адам), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Ісаброды Новааляксандраўскага пав. графіні Моглевай. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598)*.

1812. **Дамброўскі Адольф** (Домбровский Адольф), сын Юзафа, дваранін. Да паўстання жыў у вак. Плаўскія Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго мае-

масць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3)*.

1813. **Дамброўскі Альфонс** (Домбровский Альфонс), сын Саламона, дваранін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.)*.

1814. **Дамброўскі Аляксандр** (Домбровский Александр), дваранін Магілёўскай ці Мінскай губ. Абвінавачаны ў «выражэнні намеру далучыцца да паўстанцаў і пагрозе спаліць сялянаў». Паводле пастановы следчай камісіі і распараджэння М. Мураўёва ад 10.12.1864 высланы на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, на падставе ўказа МагГП ад 31.08.1863 забароне, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2003—1—211—70-71адв., 85-93; 2514—1—2198—67адв.)*.

1815. **Дамброўскі Антоні** (Домбровский Антон), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—10адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

1816. **Дамброўскі Антоні** (Домбровский Антон), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—12адв.)*.

1817. **Дамброўскі Васіль** (Домбровский Василий). Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыка Пружанскага пав. Швяйкоўскага. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—11)*.

1818. **Дамброўскі Вінцэнт** (Домбровский Викентий), дваранін. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога прысуджаны да трохмесячнага зняволення ў фартэцыі ў г. Бабруйску *(295—1—1643—53адв., 57адв.)*.

1819. **Дамброўскі Геракліт** (Домбровский Гераклий). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра, потым служыў міравым пасярэднікам Кобрынскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—615; 1430—1—52285—25адв.)*.

1820. **Дамброўскі Казімір** (Домбровский Казимир), сын Адама, дваранін Панявежскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

1821. **Дамброўскі Леан** (Домбровский Лев), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання служыў настаўнікам у гімназіі ў г. Слуцку; губернскі сакратар. У паўстанні 19.04.1863 пакінуў г. Слуцк на чале невялікай групы, у якую ўваходзілі сярод іншых *Баратынскі Уладзіслаў* і *Тальшэўскі Альбін*, добраахвотна далучыўся ля вак. Суцін Ігуменскага пав. да паўстанцкага атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*. Удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, узяты ў палон. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаржныя працы ў крэпасцях на 8 гадоў *(162—1—116—69; 295—1—1643—54, 62адв.; 296—1—25—103адв.; 296—1—56—18адв.; 319—1—479—11; 320—1—398—2адв., 353; 320—2—98—33адв.)*.

1822. **Дамброўскі Маўрыцы** (Домбровский Маврикий), памешчык Ковенскага пав. Да паўстання служыў столаначальнікам Ковенскага павятовага суда, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—194; 2532—1—15—2)*.

1823. **Дамброўскі Міхал** (Домбровский Михаил), сын Базыля і Зоф'і, муж Алены Садлюцкай, дваранін. Нар. у 1839 г. у м. Чырвоны Стаў Люблінскай губ. Пэўны час жыў у г. Брэсце. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Харкаў Смаленскай губ. Падазраваўся ва ўдзеле ў паўстанні, уцёк за мяжу *(1430—1—35259)*.

1824. **Дамброўскі Рамуальд** (Домбровский Ромуальд), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—11; 1430—1—52163—530адв.)*.

1825. **Дамброўскі Саламон** (Домбровский Соломон). Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.)*.

1826. **Дамброўскі Станіслаў** (Домбровский Станислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Лябёдка Лідскага пав., дзе служыў ляснiком *Хмялеўскі Юзаф*. З прычыны далучэння лесніка да паўстанцаў і забрання імі 2 коней з маёнтка яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

1827. **Дамброўскі Францішак** (Домбровский Франц), сын Францішка, ксёндз. Да паўстання служыў у Слуцкім пав. «За падбухторнае казанне супраць ураду» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—4)*.

1828. **Дамброўскі Юзаф** (Домбровский Иосиф), бацька *Яна*, дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

1829. **Дамброўскі Юзаф** (Домбровский Иосиф). Да паўстання служыў судовым следчым Люцынскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле распараджэння М. Мураўёва 07.09.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Пензу *(1416—3—21048—24; 1430—1—31355—92-95; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44)*.

1830. **Дамброўскі Ян** (Домбровский Иван), сын *Юзафа*, дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». У 1871 г. жыў у Варонежскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—96; 1430—1—52285—7)*.

1831. **Дамброўскі Яраслаў** (Домбровский Ярослав). Да паўстання служыў у 19-й Артылерыйскай брыгадзе рас. войскаў, штабс-капітан. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй галоўнакамандуючага войскамі Варшаўскай ваеннай акругі Фёдара Бэрга прысуджаны (да 18.12.1864) да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на катаргу ў руднікі. Пры перасылцы ў Сібір 02.12.1864 уцёк з казармаў Калымажнага двара ў г. Маскве *(1430—1—31477)*.

1832. **Дамбрынскі Фелікс** (Домбржинский Феликс). За дачыненне да паўстання паводле ўказа МГП ад 22.02.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—60)*.

1833. **Дамейка Іпаліт** (Домейко Гиполит), сын *Казіміра*, брат *Леана*, дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, паводле пастановы якога прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з братам высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. На маёнтак Нядзведка Навагрудскага пав., які належаў яго бацьку, накладзена забарона. У 1870 г. атрымаў частковую амністыю і права пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. без паліцэйскага нагляду. У 1873 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму на парукі да свайго дзядзькі віленскага губернскага маршалка, але з абавязкам прадаць сваю зямельную маёмасць у Мінскай і Гродзенскай губ. *(295—1—2410; 295—1—1643—54; 299—1—577—518-543адв.; 320—2—99—49адв.; 1430—1—52163—552адв.)*.

1834. **Дамейка Казімір** (Домейко Казимир), сын Іпаліта, бацька *Іпаліта* і *Леана*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Нядзведка і Азярын Навагрудскага пав. (усяго 2842 дзес. зямлі). Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. За дачыненне сыноў да паўстання на Нядзведку накладзена забарона *(295—1—1643—54; 299—1—577—518-543адв.)*.

1835. **Дамейка Леан** (Домейко Леон), сын *Казіміра*, брат *Іпаліта*, дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ваенны суд, якім прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з братам высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. На маёнтак Нядзведка Навагрудскага пав., які належаў яго бацьку, накладзена забарона. У 1870 г. атрымаў частковую амністыю і права пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. без паліцэйскага нагляду. У 1873 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму на парукі да свайго дзядзькі віленскага губернскага маршалка, але з абавязкам прадаць сваю зямельную маёмасць у Мінскай і Гродзенскай губ. *(295—1—2410; 295—1—1643—54; 320—2—99—49адв.; 1430—1—52163—552адв.)*.

1836. **Дамейка N.** (Домейко N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гярвяты Віленскага пав. У Гярвятах паўстанцы забралі каня, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

**Дамінікоўскі Карнэль** — гл. **Рудзінскі Рыгор**

1837. **Дамінікоўскі Юзаф** (Доминиковский Иосиф), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў пісьмаводам прystава 3 стана Ігуменскага пав. у м. Бярэзіна. 19(20?).04.1863 апынуўся ў атрадзе *Снітко Алаізія*. Арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. *(162—1—116—85; 296—1—50—14-16адв.; 320—1—398—375; 320—2—98—33адв.; 1418—3—1—21адв.-22)*.

1838. **Дамянеўскі Клеменс** (Доменевский Клеменс), сын Сільвестра, незацверджаны дваранін. 24.04.1863 арыштаваны прыставам 2 стана Барысаўскага пав. за адсутнасць дакументаў. Пры вобшуку ў яго знойдзены патранташ з 10 патронамі, порах і кулі, а таксама 167 руб. ср. Западозраны ў «палітычных адносінах». 26.04.1863 адпраўлены ў г. Мінск. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая не знайшла доказаў сувязі з паўстанцамі. У сувязі з гэтым паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага і, адпаведна, распараджэння МГГ ад 08.06.1863 вярнуўся ў Барысаўскі пав. для разбіральніцтва ў паліцыі справы пра адсутнасць у яго дакументаў *(295—1—1580)*.

1839. **Данаровіч Ян** (Донарович Ян), мешчанін г. Панявежа. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—10адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

1840. **Данброва (Дамброва) Адам** (Донброво (Домброво) Адам), сын Міхала, дваранін. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Обаль Сенненскага пав. Нар. каля 1841 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў батальёны Амурскай вобл. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—37-53, 59, 127; 320—2—98—33адв.; 1416—3—21048—24адв.; 1430—1—52163—597; 2514—1—2198—67адв.; 2616—1—40—14)*.

1841. **Данброва (Дамброва) Ганна** (Донброво (Домброво) Анна), дачка Станіслава, жонка *Міхала*, памешчыца. Нар. каля 1831 г. Разам з мужам западозрана рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 21.08.1864, скончыўшы яе справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства была на волі *(3257—1—17—4адв.-5; 3257—2—8—5)*.

1842. **Данброва (Дамброва) Міхал** (Донброво (Домброво) Михаил), сын Міхала, муж *Ганны*, памешчык. Нар. каля 1814 г. Разам з жонкай западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 21.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—4адв.-5; 3257—2—8—5)*.

1843. **Данілевіч Аўгустын** (Данилевич Августин), мешчанін г. Панявежа. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—10адв.; 1430—1—52163—521адв.)*.

1844. **Данілевіч Ігнат** (Данилевич Игнатий), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598)*.

1845. **Данілевіч Казімір** (Данилевич Казимир), аднадворац. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 23.06.1863 і пастановы ВілГП ад 06.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—263)*.

1846. **Данілевіч Ян** (Данилевич Иван), дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Падчас паўстання ў яго хаваўся *Серакоўскі Вацлаў*, за што арыштаваны. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(162—1—116—112адв.; 295—1—1575—14; 299—1—579—298-307; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—452адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

1847. **Данілецкі Ян** (Данилецкий Иван), сын Станіслава, дваранін. Да паўстання жыў у м. Дзярэчын Слонімскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—11; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232, 275; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—601адв.)*.

1848. **Даніловіч Антоні** (Данилович Антон), вольнаадпушчаны селянін. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 10.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 10.10.1863 справа вернута назад для далейшай вытворчасці *(3366—1—5—4адв., 13адв.)*.

1849. **Даніловіч Валяр'ян** (Данилович Валериан), сын Клімента, вольнаадпушчаны селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе і спаленні моста на р. Ваўчаса. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК *(3257—2—2—11адв.; 3366—1—5—4адв.)*.

1850. **Даніловіч Міхал** (Данилович Михаил), аднадворац Барысаўскага пав. Нар. каля 1838 г. Зна-

ходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. МГП 16.10.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1527—100; 295—1—1643—53адв.)*.

1851. **Даніловіч Оскар** (Данилович Оскар), дваранін Цельшаўскага пав. Да паўстання служыў у КГП. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

1852. **Данількевіч Ян** (Данилькевич Иван), мешчанін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.)*.

1853. **Данісевіч Ян** (Данисевич Иван), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—21адв.-22)*.

1854. **Данкевіч (Даньковіч) Цярэнці** (Данкевич (Данькович) Терентий), селянін Мінскага ці Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.07.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1864 г. высланы ў Пскоўскую губ. *(295—1—1643—61адв.; 296—1—19—280адв.; 1418—3—1—21адв.-22)*.

1855. **Даноўскі Альбін** (Дановский Альбин), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да смяротнага пакарання і расстраляны *(319—1—479—11; 1430—1—52163—530адв.)*.

1856. **Даноўскі Бенядыкт** (Дановский Бенедикт), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падалягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.)*.

1857. **Даноўскі Вінцэнт** (Дановский Викентий), дваранін Мінскай губ. Западозраны ў «нядобранадзейнасці» і сувязях з *Качынскім N.* і *Баравіком N.*, таму прысуджаны М. Мураўёвым да ссылкі ў Арэнбургскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—84; 320—1—398—378)*.

**Даньковіч Цярэнці** — гл. **Данкевіч Цярэнці**

1858. **Данюсевіч Баляслаў** (Данюсевич Болеслав), дваранін (?) Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.)*.

1859. **Дарагастайскі Непамуцэн** (Дорогостайский Непомуцин), дваранін Падольскай губ. Да паўстання вучыўся ў Корпусе шляхоў зносінаў. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

1860. **Дарашкевіч Апалінары** (Дорошкевич Аполинарий), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага ці Бабруйскага пав., каталік. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся спачатку пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 15.10.1863. Аддадзены (да 01.04.1864) пад ПВС. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—53, 62; 296—1—90—7адв.-8; 319—1—479—11; 1418—3—1—21адв.-22; 1430—1—52163—167)*.

1861. **Дарашкевіч Ігнат** (Дорошкевич Игнатий), дваранін Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—11; 1430—1—52163—205адв.)*.

1862. **Дарашкевіч Леан** (Дарашкевич Леон), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

1863. **Дарашэвіч Антоні** (Дорошевич (Дорашевич) Антон), мешчанін г. Мінска. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. 12.1863 пераведзены ў распараджэнне мінскай гарадской думы. Не прыняты мінскай мяшчанскай хрысціянскай грамадой і аддадзены ў рэкруты *(24—1—1586—10-12, 15-16)*.

1864. **Дарманоўскі Вячаслаў (Мечыслаў)** (Дормановский Вячеслав (Вечеслав, Мечеслав), прускі падданы. Да паўстання жыў у г. Вільні ці ў г. Варшаве. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны (да 14.02.1864) да смяротнага пакарання. Прысуд прыведзены ў выкананне. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—10адв.; 320—1—398—198, 223адв.; 1430—1—52163—126адв.)*.

1865. **Дародны Феліцыян** (Дородный Фелициан), сын Пятра, дваранін Ігуменскага пав. аль-

бо Віленскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску. Удзельнічаў у паўстанні «са зброяй у руках», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.07.1863 адасланы ў Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—50; 295—1—1643—58; 296—1—25—102; 319—1—479—10; 320—1—398—215; 1418—3—1—21адв.-22).*

1866. **Дартузі Фларыян** (Дартузи Флориан), мешчанін г. Кіева. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106).*

1867. **Дарынскі Ян** (Доржинский Иоанн), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем м. Крэўна Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—10адв.; 3046—2—5—12адв.).*

1868. **Дасюкевіч Павел** (Дасюкевич Павел). Паходзіў з Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

1869. **Даўгяла Нарцыз** (Довгялло Нарцис), дваранін Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—10адв.; 3046—2—5—12адв.).*

1870. **Даўгяла Юзаф** (Довгяло Иосиф), сын Антонія, дваранін. Да паўстання служыў у Панявежскім павятовым судзе, яго бацькі валодалі зямлёй у в. Агінцы Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

1871. **Даўкша Адам** (Даукша Адам), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Рубна і Гяленава Віленскага пав. і каменным домам у г. Вільні. Паўстанцы ў яго маёнтках узялі харчовыя прыпасы і 2 вазы з канямі, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

1872. **Даўлюд Антоні** (Давлюд Антон), сын *Вінцэнта*, селянін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання разам з бацькамі высланы ў Сібір. Ссылку адбываў у Томскай губ., адкуль у 1875 г. падаў з бацькам прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму *(295—1—2723).*

1873. **Даўлюд Вінцэнт** (Давлюд Викентий), сын Казіміра, бацька *Антонія*, селянін Мінскай губ. ці Лідскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. У 1864 г. паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву, адкуль высланы ў Томскую губ. У 1875 г. разам з сынам падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму *(295—1—1643—62адв.; 295—1—2420—11; 295—1—2723).*

1874. **Даўнаровіч Баляслаў** (Довнарович Болеслав), памешчык. Да паўстання служыў кандуктарам Мікалаеўскага інжынернага вучылішча. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. На яго маёмасць у 1863 г. накладзена забарона *(295—1—1643—76; 3046—2—5—12адв.).*

1875. **Даўнаровіч Зыгмунт** (Довнарович Сигизмунд), памешчык Новааляксандраўскага ці Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі А. Патапава ад 19.04.1865 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—256; 2532—1—15—4адв.).*

1876. **Даўнаровіч Медард** (Довнарович Медард), дваранін Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—10адв.).*

1877. **Даўнаровіч Юзаф** (Довнарович Иосиф), шляхціц Вількамірскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—10адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.).*

**Даўнаровіч-Коўзан Людвік** — гл. **Коўзан-Даўнаровіч Людвік**

1878. **Даўнас Казімір** (Даунес Казимир), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—12адв.).*

1879. **Даўтовіч N.** (Давтович N.), дваранін. Да паўстання жыў у Шыдлаўскай парафіі Расіен-

скага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

1880. **Дачэўскі Баляслаў** (Дачевский Болеслав), дваранін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103; 319—1—479—11)*.

1881. **Дашкевіч Адам** (Дашкевич Адам), шляхціц. Да паўстання жыў у вак. Вялікія Ёдкавічы Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—11; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

1882. **Дашкевіч Адольф-Юстын** (Дашкевич Адольф-Юстин), сын Ігната Янавіча, дваранін Мінскага пав., каталік. Нар. 18.10.1837. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках падчас бою ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга зменена на 8 гадоў на заводах *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—326-327адв., 338; 320—2—98—33адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—4; 1525—1—2—5адв.-6)*.

1883. **Дашкевіч Гектар** (Дашкевич Гектор), сваяк *Цітуса*. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—54)*.

1884. **Дашкевіч Густаў** (Дашкевич Густав), сын Антонія, памешчык Кобрынскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яго маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174-175адв.)*.

1885. **Дашкевіч Рышард** (Дашкевич Ричард), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111адв., 573адв.)*.

1886. **Дашкевіч Цітус** (Дашкевич Тит), сваяк *Гектара*. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—54)*.

1887. **Дашкевіч Ян** (Дашкевич Иван), сын Леана. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(320—2—98—34)*.

1888. **Дашкевіч N.** (Дашкевич N.), памешчык Пружанскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108)*.

1889. **Дваpаноўскі (Дваракоўскі) Ян** (Двороновский (Дворяковский) Иван), сын Юстына, дваранін Мінскай губ. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні на маёнтак яго бацькоў Селішча Пінскага пав. накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 06.09.1863. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(296—1—89—18; 1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—67адв.)*.

1890. **Дварэцкі [Канстанцін]** (Дворжецкий [Константин]), каталік. Да паўстання служыў прыставам 3 стана Мсціслаўскага пав. У 1863 г. западозраны ў дачыненні да справы *Цеханавецкіх Ігната* і *Ізабэлы* і звольнены са службы «за палітычную нядобранадзейнасць». Канфірмацыяй «Галоўнага Начальніка краю» К. фон Каўфмана ад 26.07.1865 як «нявыяўлены ў супрацьзаконных учынках» вызвалены ад адказнасці, аднак з загадам «не дапускаць да службы ў тутэйшым краі». У 1866 г. набыў маёнтак у Смаленскай губ. і пасяліўся ў ім *(2003—2—96—36; 3256—2—52—33-33адв.)*.

1891. **Дварэцкі Эмануіл** (Дворжецкий Эммануил), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(296—1—25—102; 319—1—479—10адв.)*.

1892. **Дзерасідовіч Аляксандр** (Демидович Александр), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 26.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—21адв.-22)*.

1893. **Дземідовіч Канстанцін-Андрэй** (Демидович Константин-Андрей), сын Адама Міхалавіча (нар. каля 1795 г., падпаручніка артылерыі), брат *Мечыслава*, Міхала, Казіміра і Агатона, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 23.11.1843. Вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску. 19.04.1863 далучыўся ў ліку іншых гімназістаў да паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Свентарэцкага Баляслава*, потым *Ляскоўскага Станіслава*, знаходзіўся ў яго скла-

дзе да чэрвеня 1863 г., удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі ў лясах ля фальв. Юравічы Ігуменскага пав. Параненым узяты ў палон рас. войскамі ў баі ля в. Лочын Ігуменскага пав. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 12.10.1863 яго справа перададзена ў МСК. Пастановай ПВА ў Магілёўскай губ., канфірмаванай 05.10.1864 А. Патапавым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1875 г. жыў у г. Омску. Бацька, які жыў у маёнтку Лемна Ігуменскага пав., у 1875 г. падаў прашэнне аб дазволе яму вярнуцца на радзіму, у выніку чаго 10.1875 атрымаў дазвол на прыбыццё на 1 год. 08.07.1876 прыбыў у Ігуменскі пав. 08.1877 атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў «Заходнім краі». 12.1876–06.1882 жыў у Лемне *(162—1—116—165, 295—1—1643—55; 295—1—2749; 295—1—3026—32адв.; 295—1—3492—67, 81адв.; 320—1—398—645-646; 1418—3—1—22адв.-23).*

1894. **Дземідовіч Мечыслаў** (Демидович Мечислав), сын Адама Міхалавіча, брат *Канстанціна*, Міхала, Казіміра і Агатона, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС, паводле рашэння якога высланы ў Пскоўскую губ. для пасялення на казённых землях. У 1875–1877 гг. знаходзіўся ў г. Омску, служыў у Омскай кантрольнай палаце *(295—1—1643—55, 61адв.; 1418—3—1—22адв.-23).*

1895. **Дземянтовіч (Дземіновіч, Дземяновіч) Аляксандр** (Дзементович (Дземинович, Дземенович) Александр), сын Тадэвуша Рыгоравіча і Тэадоры Пальчэўскай, дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у г. Мінску. Удзельнічаў у паўстанні ў Ігуменскім пав. у складзе атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*, арыштаваны. 21.10.1863 знаходзіўся ў г. Ігумене У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Табольскую губ. Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці быў выдадзены 22.02.1864. 27.02.1865 жыў у Ялутараўскай акрузе Табольскай губ., падаваў звесткі пра сваё паходжанне *(162—1—116—60; 295—1—1643—53, 57, 62; 296—1—25—104адв.; 296—1—56—1адв.; 299—1—577—511-513; 319—1—479—11; 319—2—432—190, 193-194; 320—1—398—193; 320—2—98—33адв.).*

1896. **Дземяшкевіч Антоні** (Демешкевич Антон), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 26.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Потым быў пад судом у МагВСК *(3255—1—14—2; 3257—2—2—11адв.).*

1897. **Дзенгялеўскі Станіслаў** (Дзенгелевский Станислав), дваранін Троцкага пав. Да паўстання з'яўляўся юнкерам. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(319—1—479—10адв.; 1416—6—280; 1430—1—52163—530).*

1898. **Дзенісевіч Міхал** (Денисевич Михаил), мешчанін м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту *(319—1—479—11; 1430—1—52163—167).*

1899. **Дзенісевіч Міхал** (Денисевич Михаил), сын Ігната, дваранін Барысаўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні аддадзены пад суд у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 10.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці яго «паводле ступені вінаватасці» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу, МагСК 23.05.1863 вярнула справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Потым знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(162—1—116—166; 296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.; 2514—1—2198—67адв.; 3257—1—6; 3257—2—2—11).*

1900. **Дзенісевіч Ян** (Денисевич Иван). Да паўстання служыў у Гродзенскай ПДМ, калежскі рэгістратар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237адв.).*

1901. **Дзеражынскі Юзаф** (Дзерожинский Иосиф), сын Рыгора, дваранін Магілёўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 19.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару і 15.12.1863 у губернскую канцылярыю. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.).*

1902. **Дзерамэр Людамір** (Дерамер Людомир), сын памешчыка Сакольскага пав. адстаўнога штабс-

капітана, брат *Эдварда*. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

1903. **Дзерамэр Эдвард** (Дерамер Эдвард), сын памешчыка Сакольскага пав. адстаўнога штабс-капітана, брат *Людаміра*. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

1904. **Дзераноўскі Станіслаў** (Дзержановский Станислав), сын Юльяна, дваранін Плоцкага пав. Плоцкай губ. Да паўстання – падпаручнік служыў у 5 Артылерыйскай брыгадзе, знаходзіўся пры Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. На першых допытах называў сябе Ізыдарам Станіслававічам. Пастановай МагВСК ад 26.06.1863, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(2003—1—304; 2003—1—313—1-2адв.; 2003—1—314—1-2адв.; 2514—1—2198—67адв.)*.

1905. **Дзерашынскі Рафал** (Дзерошинский Рафаил), сын Ежы, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў нясвоечасовым данясенні рас. уладам пра асоб, якія дастаўлялі харчаванне паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 15.07.1864 адпраўлены да барысаўскага ваенна-павятовага начальніка *(1418—3—1—22адв.-23)*.

1906. **Дзердзяеўскі Казімір** (Дзердзеевский Казимир), памешчык. Падчас паўстання хаваў свае рэчы ў лесе, за што ў 1864 г. аштрафаваны на 50 руб. *(295—1—1643—60адв.)*.

1907. **Дзердзяеўскі Эдмунд** (Дзердзеевский Эдмунд), сын Марціна, дваранін Ковенскай губ., каталік. Нар. каля 1857 г. Вучыўся ў 1849–1859 гг. у губернскай гімназіі ў г. Коўне, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—133; 1430—1—52163—600; 3257—1—53—2; 3257—2—2—11; 3286—2—1—4, 16)*.

1908. **Дзінэр Лазар** (Динер Лазарь), яўрэй-земляроб. Падчас паўстання лічыўся «урадавым лазутчыкам» у м. Асвея Дрысенскага пав., перадаваў рас. уладам звесткі пра падрыхтоўку да паўстання каталікоў у Дрысенскім пав. Западозраны рас. уладамі ў ілжывых абвінавачаннях некаторых асоб ва ўдзеле ў паўстанні. Разам з *Анкудовічам Баляславам*, *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гараднiком Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і інш., знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 аддадзены пад ПВС пры Дынабургскім арданансгаўзе *(1416—2—12677—31адв.-33адв., 80-81адв.; 3046—2—5—12адв.)*.

1909. **Дзмітршчук Міхал** (Дмитрщук Михаил), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у Наўгародскай губ., 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з пазбаўленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—16-17; 1430—1—52758—10)*.

**Дзюларан Нестар** — гл. **Ларан Нестар дзю**

1910. **Дзягцяр Майсей** (Дегтярь Мойсей), сын Акіма, селянін. Да паўстання прыпісаны да Камаровіцкай сельскай грамады Мазырскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—37)*.

1911. **Дзядзіцкі Міхал** (Дзедзицкий Михаил). За дачыненне да паўстання высланы з радзімы. Пасля амністыі вярнуўся, 12.1876 жыў у маёнтку Навінкі ці Падгубенічы Барысаўскага пав., дзе займаўся сельскай гаспадаркай. «З маёнтка амаль не выязджае з прычыны старасці» *(295—1—3026—37адв.-38)*.

1912. **Дзядзюля Юльян-Казімір** (Дзедзюля Юлиан-Казимир), сын Францішка Вінцэнтавіча, дваранін Навагрудскага пав. Хр. 26.03.1833. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Аддадзены пад ПВС, паводле яго пастановы, канфірмаванай М. Мураўёвым (да 17.01.1864), прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці быў выдадзены 13.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1643—53адв., 57; 296—1—25—104; 299—1—577—511-513; 319—1—479—11; 320—1—398—3, 180-183, 185; 320—2—98—33адв.)*.

1913. **Дзяковіч Юзаф** (Диакович Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у касцёле

г. Ваўкавыска. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11; 1430—1—52163—530адв.).*

1914. **Дзяконскі Караль** (Дзеконский Карл), дваранін Брэсцкага пав., каталік. Вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце, да паўстання выключаны з яго. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(296—1—25—103; 319—1—479—11; 2514—1—2198—67адв.; 3257—1—53—1; 3257—2—2—1, 11).*

1915. **Дзяконскі Ян** (Деконский Иван), дваранін Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11; 320—1—398—224адв.).*

1916. **Дзямідаў**[74] **Сцяпан** (Демидов Степан), селянін. Нар. каля 1845 г. Да паўстання прыпісаны да в. Дубраўка Аршанскага пав. 22.04.1863 затрыманы разам з *Астаневічам Антоніем*, які вёз зброю, таму западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Пазней падазрэнне не пацвердзілася, таму выпушчаны на парукі. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. Яе пастановай ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1430—1—31588—15-22адв.).*

1917. **Дзянісаў**[75] **Якаў** (Денисов Яков), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, быў пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—4).*

1918. **Дзянісаў Ян** (Денисов Иван), сын Рамана. Да паўстання служыў пісарам Жаўноўскай вол. Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Аддадзены пад ПВС, па справе праходзіў разам з *Чаховічам Аўгустам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.11.1866 прызнаны вінаватым у «неналежным выкананні сваіх абавязкаў», з-за чаго «дапушчана было ў Жаўноўскай вол. <…> пражыванне палітычнага злачынцы Любецкага, які схаваўся за мяжу», і прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на службу на радзіме і штрафам у 50 руб. ср. Штраф заплаціць не змог *(1416—4—11782).*

**Дзярватаў Іпаліт** — гл. **Дрэваед Іпаліт**

1919. **Дзярынскі Геранім** (Держинский Героним), сын Ігната, дваранін Ба[illegible]ўскага пав. Да паўстання знаходзіўся на [illegible] службе ў с. Худаўцы Сенненскага пав. [illegible] паўстання пастановай ваеннага суда ў [illegible] суджаны да пазбаўлення правоў стану, [illegible] маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табол[illegible] *(160—2—682—105; 162—1—122—24; 295—1—1643—58; 319—1—479—11; 320—1—398—124, 240, 256-258, 423адв.; 320—2—98—33адв.; 534—1—14—38; 1430—1—52163—596б).*

1920. **Дзярынскі Эразм** (Дзержинский Эразм), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1840 г. Да паўстання жыў у маёнтку Худава Сенненскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1527—100; 295—1—1643—53адв.).*

1921. **Дзяўгун Павел** (Девгун Павел), мешчанін г. Вільні. Да паўстання жыў у м. Жыжмары Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—10).*

1922. **Дзячканец Валеры** (Дечканец Валерий), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(534—1—14—4; 1416—4—11416—116; 1430—1—52163—374).*

1923. **Длугаборскі Феліцыян** (Длугоборский Фелициан). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у г. Елісаветградзе Херсонскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—15-16).*

1924. **Длужнеўскі Людвік-Аўрэліян** (Длужневский Людвиг-Аврелиан). Служыў пісьмаводам беластоцкага павятовага маршалка, тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

1925. **Длужнеўскі Юзаф** (Длужневский Иосиф), сын Каятана, памешчык. Да паўстання ў яго

[74] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[75] Тое ж.

службу *Лісоўскі Людвік*. Удзельнічаў у паўстанні, забіты 07.05.1863 у баі ля в. Падбярэззе Барысаўскага пав. Яго маёнтак Рэўтполле Барысаўскага пав. (560 дзес. зямлі) секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 12.07.1863 і потым канфіскаваны *(296—1—89—8, 44, 69; 2514—1—2198—67адв.).*

1926. **Длужнеўскі Юзаф** (Длужневский Иосиф), сын памешчыка Дрысенскага пав. Тадэвуша, каталік. Нар. каля 1837 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне гвардыі-паручніка. Да паўстання жыў у Дрысенскім пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у «веданні пра схільнасць розумаў у Дрысенскім пав. да паўстання», арыштаваны і зняволены ў г. Віцебску. Падчас вобшуку ў яго знойдзены порах, кулі і пістоны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—23адв.; 1416—4—11416—185-212; 2601—1—5—7адв.; 3046—2—3—28адв.-27; 3046—2—5—12).*

**Длускі [Баляслаў-Раман]** — гл. **Ябланоўскі [Баляслаў-Раман]**

1927. **Дмахоўскі Войцех** (Дмоховский Войцех), сын Казіміра, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Спачатку ўтрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 09.1863 пераведзены ў г. Дынабург, а яго справа перададзена ў ДСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—10адв.; 2601—1—2—238; 3046—2—3—27адв.-28; 3046—2—5—12).*

1928. **Дмахоўскі (Дмухоўскі) Генрык** (Дмоховский (Дмуховский) Генрих), сын Міхала, дваранін Віленскай губ. Узначаліў паўстанцкі атрад, у які ўваходзілі *Абрампальскі Караль Пётр*, *Асоска Ільдэфонс*, *Барбэрыуш Леан*, *Буйніцкі Сільвіуш*, *Валькоўскі Цыпрыян*, *Гайдамовіч Ян*, *Грагаровіч Уладзіслаў*, *Гумоўскія Мечыслаў* і *Напалеон*, *Данброва Адам*, *Доўмант Генрык*, *Дышынскі Карп*, *Жаба Міхал*, *Завадскі Пётр Караль*, *Знарок Карп*, *Зялінскі Якуб*, *Касецкі Апалінары*, *Каткоўскі Уладзіслаў*, *Корсакі Актавіян* і *Браніслаў*, *Ляпкоўскі Аўгуст*, *Максімовіч Юзаф*, *Паўлоўскі Рышард*, *Пятроўскі Зянон*, *Рашкоўскі Юзаф*, *Рэут Алаізі Рышард*, *Скіндэр Міраслаў*, *Станкевіч Ян*, *Сямашка Вінцэнт*, *Тамковіч Станіслаў*, *Фалькоўскі Міхал*, *Франкоўскі Уладзіслаў*, *Шаўман Аўгуст*, *Шуневіч Фларантын*. 14.05.1863 атрад выправіўся з маёнтка Бераспонне Барысаўскага пав. да г. Лепеля, у гэты ж дзень быў дагнаны ротай рас. войскаў і разбіты ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Забіты ў гэтым баі. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 295—1—1527—94адв.; 296—1—25—88; 319—1—479—10; 320—1—398—37, 197адв.; 1416—3—21048—24; 1430—1—31597; 1430—1—52163—125адв.; 1430—1—52321).*

1929. **Дмахоўскі Ксаверы** (Дмоховский Ксаверий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў нарыхтоўцы для паўстанцаў пораху і свінцу. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая перадала яго справу клімавіцкаму ваенна-павятоваму начальніку для дапаўнення *(3366—1—5—4адв.).*

1930. **Дмахоўскі Мікалай** (Дмоховский Николай), сын Станіслава, дваранін Мінскай губ., прыпісаны да г. Пружанаў, каталік. Нар. каля 1839 г. Да паўстання служыў аканомам у памешчыка Каранеўскага ў маёнтку Дубава. Знаходзіўся ў атрадзе паўстанцаў, арыштаваны. Рашэннем ПВС пры фартэцыі ў г. Брэсце, канфірмаваным М. Мураўёвым 03.11.1863, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(162—1—116—12; 295—1—1643—59; 319—1—479—11; 320—1—398—96-98, 222; 320—2—98—33адв.; 1430—1—52758—10).*

1931. **Дмахоўскі Уладзіслаў** (Дмоховский Владислав). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка, пасля служыў засядальнікам Мінскай грамадзянскай палаты. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую губ., а на яго маёмасць накладаўся секвестр. Пазней атрымаў дазвол на пераезд у Каралеўства Польскае і выкарыстаў яго. У 1868 г. падаваў прашэнне аб дазволе на часовы прыезд у Мінскую губ. *(162—1—116, арк., 166; 295—1—1643—55адв.; 320—2—99—9, 11-12; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

1932. **Дмухоўскі Ксаверы** (Дмуховский Ксаверий), сын Антонія, памешчык. Да паўстання арандаваў фальв. Задобрасць Чэрыкаўскага пав. і дзяржаўную мызу Бабычаны Клімавіцкага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру на падставе ўказа МагГП ад 19.06.1863. Яго рухомая маёмасць у фальв. Задобрасць на 229,43 руб.

(коні, павозкі, адзенне і інш.) і 21 кніга секвестраваны 06.07.1863 і прыняты ў распараджэнне ПДМ. Памешчыца Вінцэнта Стрыжэўская 10.1863 падала прэтэнзію да яго секвестраванай маёмасці на суму ў 100 руб. ср. *(2003—1—248).*

1933. **Довят Ежы** (Довят Юрий), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

1934. **Довят Мікалай** (Довят Николай), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання яго бацька арандаваў маёнтак Падубіч Расіенскага пав. памешчыцы Янкевіч (гл. *Янкевіч Оттан*). За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224; 1416—6—281).*

1935. **Довят Нікадым** (Довят Никодим), дваранін Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—10адв.).*

1936. **Довят Станіслаў** (Довят Станислав), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—4—11416—116адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

1937. **Довят Уладзіслаў** (Довиат Владислав), дваранін Ковенскага пав. Да паўстання служыў гувернёрам у памешчыка Цілкевіча ў Ковенскім пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

1938. **Довят Фелікс** (Довят Феликс). Служыў у Сафійскім палку рас. войска, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—7адв., 16).*

1939. **Довят Станіслаў** (Довят Станислав), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

1940. **Довят Юзаф** (Довят Иосиф), сын Канстанціна, дваранін Паняважскага пав. Да паўстання валодаў домам у г. Панявежы. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—10адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—205).*

1941. **Донат Караль** (Донат Карл), дваранін. Да паўстання арандаваў фальв. Манюшыцы Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102; 319—1—479—10адв.).*

1942. **Доўбар Юзаф** (Довбор Иосиф). Да паўстання служыў чыноўнікам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—12адв.).*

1943. **Доўмант Генрык** (Довмонт Генрих), дваранін. Служыў у Дзісенскім павятовым судзе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Да паўстання жыў у г. Дзісне. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў бальніцы ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—94адв., 108).*

1944. **Доўмант Юзаф** (Довмонт Иосиф), сын Станіслава, дваранін Лепельскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Сасланы ў Арэнбургскую губ. На яго маёмасць 16.06.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 06.05.1864 накладаўся секвестр. У 1875 г. атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму. У 1876 г. вярнуўся ў Віцебскую губ., пасяліўся ў сваім маёнтку Шпакоўшчына Лепельскага пав. *(295—1—1643—62адв.; 1416—3—21048—24адв.; 1430—1—35810—38-40; 1430—1—35834—108; 1430—1—35976—49; 1430—1—52163—150адв., 414, 473адв.).*

1945. **Доўнар Адам** (Довнар Адам), бацька *Антонія*, дваранін Навагрудскага пав. За «недастатко-

ваеназіранне за сынам» канфірмацыяй А. Патапава ад 13.08.1864 прысуджаны да штрафу ў 100 руб. ср. на карысць пацярпелых ад паўстання *(162—1—116—139; 320—1—398—604).*

1946. **Доўнар Аніцэнт** (Довнар Анницентий (Аницентий)), памешчык Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—3—21048—24адв.; 1430—1—52163—194; 2532—1—15—12; 3046—2—5—12адв.).*

1947. **Доўнар Антоні** (Довнар Антон), сын *Адама*, муж Люцыі, дваранін Навагрудскага пав. Падчас паўстання знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, за што арыштаваны. Канфірмацыяй А. Патапава ад 13.08.1864 як «нядобранадзейны для знаходжання ў тутэйшым краі» прысуджаны да высылкі на сталае жыхарства ў Аланецкую губ. пад нагляд паліцыі, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Сасланы, жонка выправілася з ім. Паводле распараджэння міністра ўнутраных спраў 30.06.1865 пераведзены ў г. Арэнбург. Падаваў прашэнне аб пераводзе ў Белебяеўскі пав. Арэнбургскай губ., якое аргументаваў намерам узяць у арэнду на 12 гадоў хутар *(162—1—116—139, 166; 295—1—1718; 320—1—398—604; 1430—1—52163—540адв.).*

1948. **Доўнар Антоні** (Довнар Антон), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—55, 60; 1418—3—1—22адв.-23).*

1949. **Доўнар Геранім** (Довнар Героним), сын Антонія, дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 01.11.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—166адв., 172).*

1950. **Доўнар Уладзіслаў** (Довнар Владислав), сын Ігната, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Спачатку ўтрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 09.1863 пераведзены ў г. Дынабург, а яго справа 31.09.1863 адаслана ў ДСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1871 г. жыў у Наўгародскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—10адв.; 1430—1—35146—153; 2601—1—2—238; 3046—2—3—27адв.-28; 3046—2—5—12).*

1951. **Доўнар Францішак** (Довнар Франц), дваранін. Падчас паўстання захоўваў зброю, арыштаваны, у 1864 г. прысуджаны да штрафу ў 10 руб. *(295—1—1643—60адв.).*

1952. **Доўнар Ян** (Довнар Иван), сын Міхала, селянін ці дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў пагрозах сялянам і неданясенні рас. уладам пра паўстанцаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 05.03.1864 яго справа накіравана ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—55; 1418—3—1—22адв.-23).*

1953. **Доўнар-Запольскі Эразм (Эдмунд)** (Довнар-Запольский Эразм (Эдмунд)), сын Яна, дваранін Мінскай губ. У якасці эксперт-юнкера Грэнадзёрскага палка слухаў курс навук у Мікалаеўскім інжынерным вучылішчы. У 1863 г. па ўласнай просьбе звольнены з рас. войска без карыстання чынам. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 17.12.1863 прысуджаны, сярод іншага, да ссылкі і канфіскацыі маёмасці. У 1880 г. жыў у Іркуцкай губ., 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з пазбаўленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(160—2—682—60; 162—1—122—9; 295—1—3372—24-25; 296—1—25—90; 534—1—14—22; 1430—1—52758—16).*

1954. **Доўтарт Францішак** (Довторт Франц), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—201; 2532—1—15—2адв.).*

1955. **Драбышэўскі Апалінары** (Дробышевский Аполинарий), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў г. Барысаве. Падчас паўстання западозраны ў спачуванні «палітычнай справе» і «нядобранадзейнасці», у сувязі з чым 23.03.1863 выклікаwillны мінскім каталіцкім біскупам і 26.03.1863 прыбыў у г. Мінск для тлумачэнняў. 27.03.1863 біскуп падаў рапарт на імя МГГ, што не знайшоў доказаў яго віны. 03.1863 у яго канфіскаваны пляшка з порахам і двуствольная паляўнічая стрэльба, якой ён валодаў з дазволу МГГ ад 12.06.1862. Спачатку вернуты на месца службы ў Барысаў, але потым пераведзены (да 05.06.1863) у м. Сноў Навагрудскага пав. на пасаду пробашча мясцовага касцёла пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1602).*

1956. **Драбышэўскі Юзаф** (Дробышевский Осип). Служыў бельскім павятовым страпчым. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Самарскую губ. *(1430—1—52285—25адв.).*

1957. **Драбязгевіч Аляксандр** (Дробязгевич Александр), сын Вінцэнта, дваранін. Да паўстання жыў у в. Вяканцы Лідскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 — абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—6—280; 1430—1—35146—75; 2532—1—15—12адв.).*

**Дражаневіч Аляксандр-Людамір** — гл. **Дрыневіч Аляксандр-Людамір**

1958. **Драздовіч Нікадым** (Дроздович Никодим), шляхціц. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. аштрафаваны на 50 руб. *(295—1—1643—59).*

1959. **Драздовіч Юльян** (Дроздович Юлиан), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616).*

1960. **Драздовіч Юльян** (Дроздович Юльян), сын Яна, дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. — вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.).*

1961. **Драздоўскі Адам** (Дроздовский Адам), дваранін Дынабургскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. 19.03.1864 на яго маёмасць накладзены секвестр паводле распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 *(1416—3—21048—24; 1430—1—52163—390; 1430—1—52285—5, 43).*

1962. **Драздоўскі**[76] **Захар** (Дроздовский (Федоров, Никитин) Захар), сын Фёдара ці Мікіты (?), муж Макрэны Фёдараўны, селянін. Да паўстання з'яўляўся часоваабавязаным селянінам памешчыцы Макавецкай, прыпісаны да с. Чорнае Магілёўскага пав., служыў памочнікам старасты Чарнаруцкай сельскай грамады Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 27.05.1863). Зняволены ў казармах Магілёўскага батальёна ўнутранай варты. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 г. яго маёмасць (хата, свойскія жывёлы, прылады працы і інш.) на суму ў 213,2 руб. ср. 07.06.1863 апісана і секвестравана. 05.1864 высланы ў г. Маскву ў распараджэнне МУС для далейшай ссылкі на пасяленне ў «адной з вялікарасійскіх губерняў»; яго маёмасць вызвалялася ад секвестру *(2003—1—302—1-2, 5-6; 2003—1—303; 2003—2—89).*

1963. **Драздоўскі Караль** (Дроздовский Карл). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—12адв.).*

1964. **Драздоўскі Міхал** (Дроздовский Михаил), сын Яна, аднадворац. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. — вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.).*

1965. **Драздоўскі Станіслаў** (Дроздовский Станислав), сын Віктара, памешчык Віцебскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне капітана. Да паўстання выконваў абавязкі віцебскага губернскага маршалка, валодаў маёнткам Стасева Віцебскага пав. і 1 маёнткам у Аршанскім пав., старым драўляным 1-павярховым домам з пляцам у г. Віцебску (ацэнены ў 376 руб. ср.) на Замкавай вул., а таксама ўтрымліваў Унаўскую паштовую станцыю ў Магілёўскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле пастановы следчай камісіі сасланы 30.07.1863 «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Уфу ці іншую мясцовасць Арэнбургскай губ. На яго маёнткі 30.03.1864 накладаўся секвестр, які зняты паводле распараджэння А. Патапава ад 15.09.1864 *(1416—3—21048—24; 1430—1—52163—317а-318, 571адв., 608; 1430—1—52285—5, 35, 42адв., 58; 2003—1—418; 2514—1—2119).*

1966. **Драздоўскі Юзаф** (Дроздовский Иосиф), сын Юстына, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Юлішкі Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ВСК «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52285—11; 2532—1—15—3адв.).*

1967. **Драздоўскі Элергіуш** (Дроздовский Эллергиуш), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Арэнбургскую губ.

[76] У дакументах ён звычайна называецца Фёдаравым ці Мікіціным — паводле імя па бацьку.

Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

**Драневіч Аляксандр-Людамір** — гл. **Дрыневіч Аляксандр-Людамір**

1968. **Драніцкі Юзаф** (Дроницкий Иосиф), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—224)*.

1969. **Дратакоўскі Раман** (Дратоковский Роман), каталік. За дачыненне да паўстання зняволены ў турме ў г. Мінску. Дзеля вызвалення падаваў прашэнне аб прыняцці праваслаўя, але гэта не дапамагло. Сасланы ў Разанскія арыштанцкія роты *(296—1—75—25-25адв.)*.

1970. **Другавіна Бенядыкт** (Друговино Венедикт), сын Станіслава, брат (?) *Францішка* і *Яна*, памешчык, каталік. Нар. каля 1836 г. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Жахтовічы Полацкага пав. Абгавораны *Янам* ва ўдзеле ў выбарах дэлегатаў, якія павінны былі «атрымоўваць і распаўсюджваць усе распараджэнні Рэвалюцыйных Камітэтаў» і ў прынясенні прысягі на адданасць паўстанню, арыштаваны. 12.09.1863 на яго маёмасць паводле распараджэння М. Мураўва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 02.07.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—24; 1416—4—11416—185-212, 259-260; 1430—1—52163—405адв., 429адв., 444, 446, 571; 3046—2—3—26адв.-27; 3046—2—5—12)*.

1971. **Другавіна Францішак** (Друговино Франц), сын Станіслава, брат (?) *Бенядыкта* і *Яна*, памешчык, каталік. Нар. каля 1832 г. Да паўстання валодаў маёнткам Баяршчына Полацкага пав. Абгавораны *Янам* ва ўдзеле ў выбарах дэлегатаў, якія павінны былі «атрымоўваць і распаўсюджваць усе распараджэнні Рэвалюцыйных Камітэтаў», арыштаваны. 08.06.1863 на яго маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 22.07.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—24; 1430—1—52163—403, 430, 444, 446, 570; 3046—2—3—25адв.-26; 3046—2—5—12)*.

1972. **Другавіна Ян** (Друговино Иван), сын Станіслава, брат (?) *Бенядыкта* і *Францішка*, памешчык, каталік. Нар. каля 1835 г. Да паўстання валодаў маёнткам Станіслававова Полацкага пав. У яго служыў вазніцам *Мельнікаў Пётр*. На пачатку 1863 г. прыняў прысягу на адданасць паўстанцкім уладам. 16.02.1863 прыбыў у г. Полацк. Разам з *Бахаловічам Станіславам* меў намер узняць на паўстанне кадэтаў Полацкага кадэцкага корпуса. Хутка трапіў у поле дзейнасці рас. паліцыі і 03.1863 арыштаваны. Падчас вобшуку ў яго былі знойдзены агняпальная і халодная зброя і баявы рыштунак. Пераведзены ў г. Віцебск. На следстве прызнаўся, што прыняў прысягу на адданасць паўстанцкаму камітэту, распаўсюджваў паўстанцкія пракламацыі і маніфесты, агітаваў на карысць паўстанцаў, збіраў для іх грошы і ў іншых паўстанцкіх дзеяннях. Таксама абгаварыў шматлікіх памешчыкаў і дваранаў Полацкага і іншых паветаў у дачыненні да паўстання, у тым ліку братоў, *Александровіча Канстанціна*, *Аношку Феліцыяна*, *Баршчэўскага Аўгустына*, *Беліковічаў Антонія* і *Францішка*, *Вярыгу Юзафа*, *Гласкаў Антонія* і *Траяна*, *Гратулевіча Апалінарыя*, *Длужнеўскага Юзафа*, *Кляпацкіх Казіміра* і *Яўгена*, *Корсакаў Антонія*, *Рыгора* і *Фартуната*, *Кулеша Пятра*, *Медунецкую Адэль*, *Мельнікава Пятра*, *Моля Аляксандра*, *Пятроўскую Ізабэлу*, *Рашкоўскіх Артура*, *Юзафа* і *Яўгена*, *Рэута Эдварда*, *Сарасеку Канстанціна*, *Сівоху Леанарда*, *Улінскіх Станіслава* і *Уладзіслава*, *Цяпінскага Мечыслава*, *Чашніцкага Адама*, *Шантыраў Алену* і *Яна*, *Шульцаў Андрэя*, *Марыю* і *Юзафа*, *Якутовіча Караля*. На яго маёмасць 08.07.1863 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1864 і ўказа ВГП ад 12.07.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пазней адмовіўся ад сваіх паказанняў. Пасля правядзення медыцынскага абследавання прызнаны хворым на «нарвовае расстройства». Нягледзячы на гэта, пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». ВГП 26.01.1865 выдала ўказ аб пошуку

маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі. Маёнтак канфіскаваны (да 20.04.1865) *(1416—3—21048—24; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31370—15; 1430—1—52163—403, 430, 445адв., 446, 820адв.; 3046—2—3—24адв.-26; 3046—2—5—13).*

1973. **Друктэйн Марыяна** (Друктейн Марианна), дваранка Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў «сібірскія губерні». Яе маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

1974. **Друткоўскі Дамінік** (Друтковский Доминик), грамадзянін г. Вільні. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 14.06.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 18.06.1863 і 27.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 07.07.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—10; 320—1—398—129; 1416—6—268; 1416—6—274; 1430—1—52163—604).*

1975. **Друцкі-Любецкі N.** (Друцкий-Любецкий N.), князь, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Шчучын Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—271).*

1976. **Дрыневіч (Дражаневіч, Драневіч) Аляксандр-Людамір** (Држиневич (Драженевич, Држеневич) Александр-Людомир), сын Юльяна, дваранін Мінскага пав. Да паўстання служыў памочнікам столаначальніка Мінскай палаты грамадзянскага суда, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС за захоўванне зброі і іншыя «злачынствы». Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Секвестравана яго маёмасць на 16,8 руб. На маёнтак яго бацькі Строчыцы Мінскага пав. накладзена забарона *(162—1—116—10; 295—1—1643—53, 56адв., 118; 319—1—479—11; 320—1—398—8, 10-11, 124, 234адв.; 320—2—98—33адв.; 1416—6—240; 1430—1—52163—596б).*

1977. **Дрэваед Зыгмунт** (Деревоед Сигизмунд), сын Яна і Ганны, брат Гальяша і *Юзафа*, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Стараселле Барысаўскага пав., які належаў яго бацьку. Падчас паўстання разам з братам *Юзафам* далучыўся да атрада паўстанцаў. Далейшых звестак пра яго няма *(295—1—2745).*

1978. **Дрэваед (Дзярватаў) Іпаліт** (Деревоед (Дерватов) Иполит), сын Антонія, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 21.09.1863. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—63; 295—1—2213—27; 296—1—90—5адв.-6; 319—1—479—11; 1418—3—1—21адв.-22; 1430—1—52163—167адв.).*

1979. **Дрэваед Юзаф** (Деревоед Иосиф), сын Яна і Ганны, брат Гальяша і *Зыгмунта*, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Стараселле Барысаўскага пав., які належаў яго бацьку. Падчас паўстання разам з братам *Зыгмунтам* далучыўся да атрада паўстанцаў. Далейшыя звесткі пра яго невядомыя *(295—1—2745).*

1980. **Дрэваедаў Мацей** (Дервоедов (Дорвоедов) Матвей), сын Міхала. Нар. каля 1821 г. Да паўстання служыў памочнікам старшыні Круглянскай вол. Магілёўскага пав. За «прамаўленне розных недазвольных выразаў» разам з *Яцкоўскім Юзафам* з 22.02.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства быў на волі *(3257—1—14—9адв.-10; 3257—2—8—5).*

1981. **Дубіцкі Аўгуст** (Дубицкий Август), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 27.09.1863 справа накіравана ў МагВСК *(3366—1—5—4адв.).*

1982. **Дубіцкі Зыгмунт** (Дубицкий Сигизмунд), сын Яна Тамашавіча, брат *Міхала* (?) і *Уладзіслава*, дваранін Слуцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. З 27.09.1863 знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 09.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 4 гады *(162—1—116—88; 295—1—1643—62адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—11; 320—1—398—311-312, 317; 320—2—98—33адв.; 2003—1—230; 2514—1—2198—67адв.; 3257—2—2—11; 3366—1—5—4).*

1983. **Дубіцкі Міхал** (Дубицкий Михаил), сын Адама, селянін, каталік. Нар. каля 1820 г. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыка Караля Чарноцкага, служыў фельчарам у маёнтку

Малыя Савічы Слуцкага пав., дзе быў аканомам *Язвінскі Ізыдар*; жанаты, пісьменны. 11.04.1863 разам з *Жуком Каятанам* паехаў у маёнтак Ляцешын Слуцкага пав., каб той паступіў на службу аканомам, аднак хутка вярнуўся назад. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, 07.1863 арыштаваны. Зняволены ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму 09.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства *(296—1—19—223-241; 1524—1—1—4адв.; 2003—1—230)*.

1984. **Дубіцкі Уладзіслаў-Бенядыкт** (Дубицкий Владислав-Бенедикт), сын Яна Тамашавіча, брат *Зыгмунта* і (?) *Міхала*, дваранін Слуцкага пав. Нар. 11.10.1836. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 накіравала яго справу магілёўскаму губернатару, 27.09.1863 справа перададзена ў МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 09.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—88; 295—1—1643—62адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—11; 320—1—398—311-312, 317; 320—2—98—33адв.; 2003—1—230; 3257—2—2—11; 3366—1—5—4адв.)*.

1985. **Дубічынскі Мікалай** (Дубичинский Николай), сын Яна Максімавіча (палкоўніка рас. войскаў), памешчык Навагрудскага пав. Хр. 19.10.1830 у Райцаўскай уніяцкай царкве. Да паўстання — адстаўны губернскі сакратар. Падчас паўстання належаў да патаемнай арганізацыі ў Навагрудскім пав., арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 8 гадоў на катаргу ў крэпасцях *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—676, 679, 704-708)*.

1986. **Дубовік Баляслаў** (Дубовик Болеслав), сын Юзафа, дваранін Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Спачатку ўтрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 09.1863 пераведзены ў г. Дынабург, а яго следчая справа 31.09.1863 перасланa ў ДСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 01.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—69; 296—1—25—105; 319—1—479—11; 320—1—398—353; 1430—1—31597—6; 2601—1—2—238; 3046—2—3—27адв.-28; 3046—2—5—12)*.

1987. **Дубовік Ігнат-Ян** (Дубовик Игнатий-Иван), сын Гальяша-Яна, дваранін Барысаўскага пав. Нар. 17.07.1844. Да паўстання вучыўся ў гімназіі. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 11.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—11; 320—1—398—319-320; 320—2—98—33адв.; 1430—1—52163—181адв.; 3257—2—2—11адв.; 3366—1—5—13адв.)*.

1988. **Дубовік Магдалена** (Дубовик Магдалена), дачка Юзафа. За дачыненне да паўстання выслана з радзімы. Пасля амністыі вярнулася на радзіму, 12.1876 жыла ў вак. Валадута Ігуменскага пав. *(295—1—3026—33)*. Магчыма, тоесная *Стэфановіч Магдалене*.

1989. **Дубовік Фёдар** (Дубовик Федор), селянін. Падчас паўстання хаваў зброю, за што арыштаваны і ў 1864 г. прысуджаны да высылкі ў г. Маскву пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—54адв.)*.

1990. **Дубовік N.** (Дубовик N.), ксёндз. Абвінавачаны ў «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах» і ў 1863 г. высланы ў Пермскую губ. *(295—1—1643—56)*.

1991. **Дубойскі Максім** (Дубойский Максим), сын Аляксея, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Мутвіцы Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.)*.

1992. **Дубоўскі Барталамей** (Дубовский Варфоломей), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281)*.

1993. **Дубяга Стэфан** (Дубяго Степан), дваранін. Западозраны ў дачыненні да справы *Цеханавецкіх Ігната* і *Ізабэлы*, аднак канфірмацыяй «Галоўнага Начальніка краю» К. фон Кауфмана ад 26.07.1865 як «нявыяўлены ў супрацьзаконных учынках» вызвалены ад адказнасці, але з загадам аддаць на парукі па месцы жыхарства *(3256—2—52—33-33адв.)*.

1994. **Дудар (Дудараў) Міхал** (Дударь (Дударев) Михаил (Михайло)), сын Рамана, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1828 г. Да паўстання служыў старастам фальв. Зарубы Горацкага пав. князёў *Любамірскіх Стэфана* і *Уладзіслава*, прыпісаны да в. Барсукі Горацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцкаму атраду, які сабраўся 23.04.1863 у Зарубах і накіраваўся ў г. Горкі, і ў прамаўленні пагардлівых словаў у адрас імпера-

тара. 19.07.1863 арыштаваны прыставам 3 стана Горацкага пав. і адпраўлены ў Горкі. Знаходзіўся пад следствам у ГорСК. Потым утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Оршы. Рашэннем магілёўскага губернатара абвінавачанні не прызнаны «цалкам даказанымі», таму прызначаны да высылкі ў г. Маскву для далейшай ссылкі на пасяленне на казённых землях «у адной з вялікарасійскіх губерняў» паводле распараджэння МУС. 12.08.1864 адпраўлены з Оршы ў Маскву *(2001—2—127)*.

1995. **Дудзінскі Антоні** (Дудзинский Антон), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.)*.

1996. **Дудзіч Уладзіслаў** (Дудич Владислав), сын Базыля, дваранін Мазырскага ці Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Целібашава. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Канфіскаваны яго 8 руб. ср. *(162—1—122—101; 295—1—1643—53; 299—1—579—284-285адв.; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—2; 1430—1—52163—182)*.

1997. **Дукальскі Канстанцін** (Дукальский Константин), сын Юстына, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Нар. каля 1842 г. Да паўстання служыў фельчарам у м. Асвея Дрысенскага пав. 04.1863 разам з *Кандратовічам Вінцэнтам* і *Францэвічам Юзафам* пакінуў Асвею і далучыўся да паўстання, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 22.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войскі Амурскага краю. 27.12.1868 вызвалены ад вайсковай службы паводле ўказа Іркуцкага губернскага праўлення ад 08.10.1869, прыпісаны да Оскскай вол. Іркуцкай губ. Пасля 1871 г. яму вернуты правы дваранства. У 1877 г. знаходзіўся ў Іркуцкай губ., атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. Да 01.05.1879 пакінуты на жыхарстве ў г. Іркуцку для пошуку сродкаў на паездку на радзіму. 29.05.1879 выехаў з Іркуцка, каля 03.07.1879 прыбыў у г. Рэжыцу *(319—1—479—11адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—24; 1430—1—36031—5-6; 1430—1—36386—5-15; 1430—1—52163—421адв., 596; 2616—1—40—12адв.)*.

1998. **Дулевіч Адам** (Дуневич Казимир), сын Казіміра, бацька *Ігната*, *Казіміра, Юзафа* і *Яна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі і дастаўцы ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой пакінуты «ў моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва, выкладзенай у распараджэнні ЧВГМГ ад 30.04.1864, сасланы на жыхарства ў Томскую губ. разам з жонкай Каралінай, сынамі і дочкамі Юзэфай і Леанорай. Яго зямельны ўчастак канфіскаваны і прададзены ў ВілГП 30.06.1871 *(295—1—2420—9; 1418—3—1—22адв.-24)*.

1999. **Дулевіч Антоні** (Дулевич Антон), сын Яна і Кацярыны Янаўны, дваранін Мінскай губ. Нар. каля 1845 г. Вучыўся ў кадэцкім корпусе, адкуль накіраваны на службу юнкерам у Рэвельскі пяхотны полк. Падчас паўстання ўцёк са службы і скраў рэчы, арыштаваны. За названыя злачынствы і з прычыны падазрэння ў жаданні далучыцца да паўстанцаў, рашэннем ЧПА ад 07.06.1864 прысуджаны да ссылкі ў Валагодскую губ. без пазбаўлення правоў. У 1866 г. з прычыны «расстройства розуму» пераведзены з захаваннем паліцэйскага нагляду ў Цвярскую губ., дзе яго брат, калежскі асэсар, служыў акцызным наглядчыкам у г. Зубцове. У 1871 г. брат падаваў прашэнне аб пераводзе Д. А. у Ігуменскі пав. да іх маці, якое 11.1871 было задаволена з умовай захавання паліцэйскага нагляду. 20.12.1871 прыбыў у фальв. Дулева Ігуменскага пав. *(295—1—2218)*.

2000. **Дулевіч Ігнат** (Дулевич Игнатий), сын *Адама*, брат *Казіміра*, *Юзафа* і *Яна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Падчас паўстання арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва, выкладзенай у распараджэнні ЧВГМГ ад 30.04.1864, сасланы на жыхарства ў Томскую губ. разам з бацькамі, братамі і сёстрамі (гл. *Дулевіч Адам*). У 1874 г. вярнуўся ў Ігуменскі пав., 12.1876 жыў у вак. Рэпішча *(295—1—2420—9; 295—1—3026—32; 295—1—3492—44адв.; 1418—3—1—23адв.-24)*.

2001. **Дулевіч Казімір** (Дулевич Казимир), сын *Адама*, брат *Ігната*, *Юзафа* і *Яна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Падчас паўстання арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва, выкладзенай у распараджэнні ЧВГМГ ад 30.04.1864, сасланы на жыхарства ў Томскую губ. разам з бацькамі, брата-

мі і сёстрамі (гл. *Дулевіч Адам*) *(295—1—2420—9; 1418—3—1—23адв.-24)*.

2002. **Дулевіч Рагаберт (Роберт)** (Дулевич Рагоберт (Регоберт, Роберт)), сын Яна, дваранін Мінскай губ. Служыў у войску, падпаручнік. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы з Віленскай губ. на жыхарства ў Енісейскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—4—11416—85; 1430—1—52163—540; 2514—1—2198—67адв.; 3257—2—2—11адв.)*.

2003. **Дулевіч Юзаф** (Дулевич Иосиф), сын *Адама*, брат *Ігната*, *Казіміра* і *Яна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Падчас паўстання арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва, выкладзенай у распараджэнні ЧВГМГ ад 30.04.1864, сасланы на жыхарства ў Томскую губ. разам з бацькамі, братамі і сёстрамі (гл. *Дулевіч Адам*). У 1874 г. вярнуўся ў Ігуменскі пав., 12.1876 жыў у вак. Рэпішча *(295—1—2420—9; 295—1—3026—32; 295—1—3492—44адв.; 1418—3—1—23адв.-24)*.

2004. **Дулевіч Ян** (Дулевич Иван), сын *Адама*, брат *Ігната*, *Казіміра* і *Юзафа*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Падчас паўстання арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва, выкладзенай у распараджэнні ЧВГМГ ад 30.04.1864, сасланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. разам з бацькамі, братамі і сёстрамі (гл. *Дулевіч Адам*). У 1874 г. вярнуўся з сям'ёй у Ігуменскі пав., 12.1876–06.1882 жыў у засц. Рэпішча *(295—1—2420—9; 295—1—3026—32; 295—1—3492—44адв., 67, 82; 1418—3—1—23адв.-24)*.

2005. **Дулідовіч Генрык** (Дулидович Генрих). У паўстанні разам з *Клімовічам N.* і *Міркевічам N.* удзельнічаў у фарміраванні атрада *Ельскага Яна*; забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.)*.

2006. **Дунаеўскі Францішак** (Дунаевский Фрон), аднадворац. Западозраны ў пастаўцы ваеннага рыштунку паўстанцам і арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—54)*.

2007. **Дундэн Маўрыцы** (Дунден Мавриц), сын Якуба, дваранін Дынабургскага пав. Да паўстання служыў вазніцам у лоўчага *Браткоўскага Францішка* ў маёнтку Альбінова Дзісенскага пав. графіні Плятэр. Уваходзіў у склад атрада *Ельскага Яна*, узяты ў палон у Новааляксандраўскім пав. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 18.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у батальёны Амурскага краю рас. войска. 19.09.1864 і 27.03.1865 ВГП выдала пастановы аб пошуку маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі. На месца ссылкі прыбыў *(319—1—479—11адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—24, 24адв.; 1416—4—11416—220-225, 236-237; 1430—1—52163—390, 398, 596а; 2616—1—40—13)*.

2008. **Дунін Антоні** (Дунин Антон), сын Казіміра і Геранімы Фартунатаўны, дваранін Сенненскага пав. Да паўстання служыў у межавым корпусе ў чыне паручніка. Западозраны сялянамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Маці падала ў МагСК прашэнне аб яго вызваленні, якое 14.05.1863 пераслана магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 24.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—2; 3257—1—12)*.

2009. **Дунін Ежы (Рыгор)** (Дунин Георгий (Григорий)), сын Ігната, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання жыў у г. Магілёве на здымнай кватэры ў наглядчыка шляхетнага пансіёна Казакевіча, вучыўся ў гімназіі ў Магілёве. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 31.05.1863), яго рухомая маёмасць на суму 0,5 руб. ср. 12.06.1863 апісана і секвестравана. У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру *(2001—2—14—10адв.; 2003—1—210; 2514—1—2198—67адв.; 3257—2—2—11)*.

2010. **Дуніна-Сляпец Марыя** (Дунин-Слепец Мария). Да паўстання жонка калежскага асэсара, яе муж валодаў домам у г. Віцебску. На яе рухомую маёмасць 13.12.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва і потым віцебскага губернатара ад 05.11.1863 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—24; 1430—1—52163—96, 1430—1—52163—427, 723адв.)*.

2011. **Дусейка Уладзіслаў** (Дусейко Владислав), ксёндз. Да паўстання служыў у Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

2012. **Духінскі [Ануфры]** (Духинский [Онуфрий]). Нар. у Каралеўстве Польскім. Удзельнічаў у паўстанні 1831 г., эміграваў. Удзельнічаў у паўстанні 1863 г., пасля схаваўся. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162)*.

2013. **Духноўскі Антоні** (Духновский Антон), мешчанін г. Новааляксандраўска. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны да смяротнага пакарання *(162—1—*

*116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—10адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.).*

2014. **Духноўскі Уладзіслаў** (Духновский Владислав), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7).*

**Душэўская Юлія** — гл. **Стэфановіч Юлія**

2015. **Дыбоўскі Бенядыкт** (Дыбовский Венедикт), дваранін Мінскай губ. Да паўстання з'яўляўся прафесарам Варшаўскай галоўнай школы, доктар медыцыны і хірургіі. Падчас паўстання належаў да Нацыянальнага ўрада. Канфірмацыяй намесніка ў Каралеўстве Польскім Ф. Бэрга ад 18/30.07.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—125; 320—1—398—530).*

2016. **Дыбоўскі Павел** (Дыбовский Павел), сын Леапольда, брат Яна, Канстанціна, *Эміля* і Фабіяны, муж Ванды Эмілеўны, памешчык, каталік. Служыў у Мінгрэльскім егерскім палку рас. войска на Каўказе, у 1858 г. выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Пад мянушкай Зарэмба камандаваў атрадам, куды сярод іншых уваходзілі *Аскерка Ян*, *Матусевіч Станіслаў*, *Стацэвіч Віктар*, *Шпакоўскія Вінцэнт* і *Ян*, пастаўлялі атраду харчаванне *Ленскія Зянон* і *Канстанцін*, абвінавачаны ў дапамозе атраду *Равенскі Канстанцін*. Пасля паўстання ўцёк за мяжу. Завочна прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці 1/4 ці (ці 1/5) частка маёнтка Рудзіца Мінскага пав., якім ён валодаў на правах суспадчынніка, апісана і секвестравана, а 17.08.1863 канфіскавана ў казну. У 1868 г. паспрабаваў вярнуцца на радзіму з фальшывым пашпартам, арыштаваны. Зняволены ў г. Вільні, дзе вялося следства па яго справе. Канфірмацыяй камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі ад 08.02.1869 вызвалены ад пакарання за ўдзел у паўстанні, але, «як нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да ссылкі ў Архангельскую губ. пад нагляд паліцыі. Прыбыў туды 03.1869. Пасля амністыі 1874 г. вярнуўся ў Слуцкі пав. 12.1876 жыў у маёнтку Рудзіца, у 1878 г. прыбыў у маёнтак Камаровічы Мазырскага пав., якім кіраваў яшчэ 05.1882 *(162—1—116—38, 39адв., 147; 162—1—122—29; 295—1—1643—63адв.; 295—1—1910; 295—1—3026—28адв.; 295—1—3492—13адв., 63, 81адв.; 296—1—25—71адв., 87адв.; 296—1—89—29адв.; 319—1—479—11адв.; 320—1—398—196, 197адв., 722-723; 320—2—98—33адв.; 1430—1—52163—125адв.).*

2017. **Дыбоўскі Тадэвуш** (Дыбовский Фадей), памешчык. У паўстанні разам з *Дыбоўскім Эмілем* знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе ротмістра *Бараноўскага Леанарда* ў Мінскім пав. *(296—1—19—249).*

2018. **Дыбоўскі Уладзіслаў** (Дыбовский Владислав), дваранін Мінскай губ. Нар. каля 1793 г. Да паўстання арандаваў маёнтак Дзераўная Ашмянскага пав., у яго аканомам служыў *Берасневіч Адам*. За пастаўкі харчавання паўстанцам арыштаваны. Пастановай ПВА пры Віленскім арданансгаўзе, канфірмаванай 05.12.1863 М. Мураўёвым, за тое, што «даверыў <...> кіраванне арандаваным маёнткам двараніну Берасневічу і дапусціў праз гэта дастаўку ў шайку мяцежнікаў прыпасаў з маёнтка», прысуджаны да штрафу ў 300 руб. ср. на карысць «пацярпелых ад паўстання» і вызвалены з-пад арышту *(295—1—1555; 295—1—1643—63адв.; 299—2—6399—29адв.-30адв.; 299—2—6400—15адв.-17; 320—1—398—146).*

2019. **Дыбоўскі Уладзіслаў** (Дыбовский Владислав), сын Яна, брат Стэфана, дваранін Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1840 г. З маленства кульгавы. Вучыўся на факультэце натуральных навук Дэрпцкага ўніверсітэта. Закончыў навучанне са ступенню кандыдата і залатым медалём за дысертацыю. 30.05.1863 прыбыў з г. Дэрпта ў г. Мінск. Да паўстання ў яго бацькі служыў вазніцам *Александровіч Юльян*. Пасля паўстання ў яго хаваўся каля 2 гадоў *Матусевіч Станіслаў*, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у МСК, утрымліваўся ў мінскай турме. 07.09.1865 аддадзены пад ПВС у Мінску, крыху пазней адпушчаны на парукі да высясення прысуду. Пастановай ПВС пры Упраўленні мінскага губернскага ваеннага начальніка ад 29.09.1865 пакінуты без пакарання. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 22.06.1866 пакінуты ў падазрэнні і прысуджаны да вызвалення на парукі пад строгі нагляд паліцыі. У 1867 г. жыў у маёнтку Нянькава Навагрудскага пав., 19.05.1867 падаў прашэнне аб вызваленні з-пад паліцэйскага нагляду для заканчэння дактарызацыі *(295—1—1776).*

2020. **Дыбоўскі Эміль** (Дыбовский Эмилий), сын Леапольда, брат Яна, Канстанціна і *Паўла*, дваранін Слуцкага ці Мінскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Ціхінічы Рагачоўскага пав. Разам з *Дыбоўскім Тадэвушам* уваходзіў у склад атрада ротмістра *Бараноўскага Леанарда* ў Мінскім пав. Арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 02.05.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» з канфіскацыяй маёмасці. Частка маёнтка Рудзіца Мінскага пав. канфіскавана ў казну. У 1871 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ., з-за чаго пасяліўся ў Кялецкай губ. У 1875 г. атрымаў

права на сталае пражыванне ў губернях «Заходняга краю» *(162—1—122—29; 295—1—1643—55адв.; 295—1—3050; 296—1—19—249; 320—1—398—721-725; 534—1—14—53; 1430—1—35146—12; 1430—1—35810—4; 1430—1—35834—14).*

2021. **Дыдра Ян** (Дыдра Иван), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.).*

2022. **Дыка (Дык) Уладзіслаў** (Дыка (Дык) Владислав), дваранін Аршанскага пав., каталік. Да паўстання служыў памочнікам аканома Бешанковіцкай аканоміі. 23.04.1863 зрабіў спробу сфарміраваць у м. Бешанковічы Лепельскага пав. атрад, у які сярод іншых уваходзілі *Кавецкія Вінцэнт* і *Мацей*, *Карповіч Антоні*, *Кашэўскі Леан*, *Лапарэвіч Канстанцін*, *Міхневіч Станіслаў*, *Пятровічы Алімпій* і *Ігнат*, *Чаховіч Ігнат*, *Шчыт Юзаф*; у сувязях з імі падазраваліся *Адамовіч Антоні*, *Прасецкія Караль*, *Рудольф* і *Цыпрыян*, *Спасоўскі Дамінік*. Атрад рассеяны ў гэты ж дзень. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ДСК. Пастановай ваеннага суда пры Дынабургскім ардананс-гаўзе, канфірмаванай М. Мураўёвым 02.08.1863, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленую губерню» Сібіры. МагГП 02.09.1863 выдала ўказ аб канфіскацыі яго маёмасці. Канфіскавана і прададзена яго рухомая маёмасць на суму ў 78,98 руб. *(319—1—479—11адв.; 320—1—398—127; 1416—3—21048—24; 1416—4—11416—242-255; 1430—1—52163—99-100, 399, 597, 823; 2003—1—434; 2616—1—40—14).*

2023. **Дыка Ян** (Дыка Иван), мешчанін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—10адв.; 320—1—398—224).*

2024. **Дылевіч Леапольд** (Дылевич Леопольд), ксёндз. Да паўстання служыў у Вількамірскім пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 8 гадоў *(319—1—479—10адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

2025. **Дымашкевіч Антоні** (Дымашкевич Антон). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая перадала яго ў МагСК *(3255—1—14—2).*

2026. **Дымонскі Фабіян** (Дымонский Фабиан), сын Захара. Западозраны ў дачыненні да паўстання, 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(1416—3—21048—24адв.; 1430—1—52163—394адв.; 3255—1—14—2).*

2027. **Дымша Клеафас** (Дымша Клеофас), памешчык Цельшаўскага пав. Да паўстання служыў у Ковенскай губернскай па сялянскіх справах прысутнасці, тытулярны радца. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 21.12.1863 «адміністрацыйным парадкам» высланы з радзімы пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Потым пераведзены ў г. Мітаву, дзе ў 1869 г. атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем «Заходняга краю» *(295—1—1989—23-24; 1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.; 2532—1—15—5).*

2028. **Дырмант Баляслаў** (Дырмонт Болеслав). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Енісейскую губ. *(1430—1—52163—546).*

2029. **Дырмант (Дырманд) Канстанцін** (Дырмонт (Дырмонд) Константин), сын Казіміра, дваранін Навааляксандраўскага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Да паўстання вучыўся ў 3 класе гімназіі ў г. Віцебску. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстання, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—10адв.; 1416—3—21048—24; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—530адв.; 3046—2—3—26адв.-27; 3046—2—5—12).*

2030. **Дырмант Караль** (Дырмонт Карл). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Да паўстання яго жонка валодала домам у г. Панявежы. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

2031. **Дыша Францішак** (Дышо Франц), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле маёнтка Іванск Ле-

пельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11адв.; 1416—3—21048—24адв.; 1430—1—52163—167адв., 413адв.).*

2032. **Дышлеўская Алімпія** (Дышлевская Олимпиада), памешчыца. Разам з *Аленскім Андрэем* абвінавачана рас. уладамі ў «заганных учынках у палітычных адносінах». У 1864 г. знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яе справу альбо скончыла 11.05.1864. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—4адв.-5; 3257—2—8—5).*

2033. **Дышлеўскі Уладзіслаў** (Дышлевский Владислав), дваранін Суражскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105; 319—1—479—11адв.; 1416—3—21048—24адв.; 1430—1—52163—426).*

2034. **Дышлеўскі Юзаф** (Дышлевский Иосиф), сын памешчыка Аршанскага пав. Яўстаха. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску. 15.05.1863 пакінуў Мінск і далучыўся да паўстанцкага атрада *Свентарэцкага Баляслава*. Удзельнічаў у сутычках. Каля 25.10.1863 пакінуў атрад, выправіўся з Ігуменскага пав. дарогай на г. Барысаў, потым лясамі прабіраўся на м. Бобр Сенненскага пав. і м. Талачын Аршанскага пав., дзе 03.11.1863 здаўся станаваму прыставу. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая передала яго горацкаму ваенна-павятоваму начальніку *(2001—2—75—6-9; 3255—1—14—2).*

2035. **Дышынскі Карп** (Дышинский Карп), селянін. Нар. каля 1845 г. Да паўстання прыпісаны да Крэменьскай грамады Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—94адв., 102).*

2036. **Дышынскі Леан** (Дышинский Леон), селянін. Нар. каля 1841 г. Да паўстання прыпісаны да Каменскай грамады Лепельскага пав., жыў у м. Камень. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 07.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(295—1—1527—106адв.; 1416—3—21048—24адв.; 1430—1—52163—414).*

2037. **Дэмбскі Фелікс** (Дембский Феликс). Да паўстання жыў у г. Варшаве. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

2038. **Дэмбскі Юзаф** (Дембский Иосиф), дваранін Ашмянскага пав. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—10адв.; 1430—1—52163—181; 3366—1—5—13адв.).*

**Дэспат-Зяновіч Тэкля** — гл. **Зяновіч Тэкля**

# Е

2039. **Ельская (Эльская) Зоф'я** (Ельская (Эльская) Софья), памешчыца Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Ніжагародскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасялілася ў г. Рыгу, дзе ў 1871 г. вызвалена ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—78; 1430—1—52163—194адв.; 2532—1—15—7адв.; 2532—1—15—7адв.).*

2040. **Ельскі Аляксандр** (Ельский Александр). Да паўстання служыў заштатным чыноўнікам Віленскай казённай палаты, калежскі асэсар. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

2041. **Ельскі Антоні** (Ельский Антон), дваранін Свянцянскага ці Новааляксандраўскага пав. Да паўстання працаваў пісарам у Свянцянскім павятовым судзе. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(160—2—682—212; 162—1—122—31; 296—1—25—109; 534—1—14—79; 1430—1—52163—612адв., 616; 1430—1—52285—15адв.).*

2042. **Ельскі Уладзімір** (Ельский Владимир). Служыў міравым пасярэднікам Мінскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(295—1—1643—66адв.; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

2043. **Ельскі Уладзіслаў** (Ельский Владислав), памешчык. За дачыненне да паўстання ў 1864 г.

прысуджаны да ссылкі ў Пермскую губ. *(295—1—1643—68адв.)*.

2044. **Ельскі Юзаф** (Иельский Иосиф), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237)*.

2045. **Ельскі Ян** (Ельский Иван), памешчык Ваўкавыскага пав. Служыў у войску ў чыне ротмістра, выйшаў у адстаўку. У паўстанні з дапамогай *Дулідовіча Генрыка*, *Клімовіча N.* і *Міркевіча N.* сфарміраваў атрад, у склад якога сярод іншых уваходзілі *Альшэўскі Андрэй*, *Браткоўскі Францішак*, *Горскі Антоні*, *Дундэн Маўрыцы*, *Пянкевіч Клімент*. Застрэліўся. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88, 108; 319—1—479—12; 320—1—398—197адв.; 1416—3—21048—56; 1416—4—11416—220-225; 1430—1—52163—126, 162)*.

2046. **Ельц Ян** (Ельц Иван), дваранін Пружанскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—12; 534—1—14—5; 1416—4—11416—118; 1430—1—52163—375)*.

2047. **Елянтух Мойша** (Елентух Мойша (Мовша)), яўрэй. Нар. каля 1847 г. Да паўстання жыў у г. Барысаве, служыў фельчарам у барысаўскай гарадской бальніцы. 07.1863 разам з *Трускоўскім Аляксандрам* спрабаваў перадаць грошы (3,7 руб. ср.) арыштаванаму *Самковічу Юзафу*, за што арыштаваны. Барысаўскім ваенным начальнікам 16.08.1863 пададзены да звальнення. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 24.08.1863 звольнены са службы з забаронай практыкі і ўсталяваннем паліцэйскага нагляду *(296—1—19—158-165, 276)*.

2048. **Емашэвіч Марыя** (Емашевич Мария), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

2049. **Емяльянаў**[77] **Савелі** (Емельянов Савелий). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне шарагоўца. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—12)*.

2050. **Ендраеўскі Юльян** (Ендржеевский Юлиан). За дачыненне да паўстання ў 1864 г. сасланы ў Сібір *(295—1—1643—69адв.)*.

2051. **Енішэўскі Тамаш** (Енишевский Томаш), шляхціц. За садзейнічанне паўстанню арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—65)*.

2052. **Ерыноўскі Ян** (Ериновский Ян), дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання жыў у Новаляксандраўскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2053. **Ерыковіч Дамінік** (Ержикович Доминик), сын Ваўрынца, дваранін Слуцкага пав., каталік. За захоўванне «падбухторных папер», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—65; 1524—1—1—4адв.)*.

2054. **Есіповіч Антоні** (Есипович Антон), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 31.01.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—2)*.

2055. **Есіповіч Павел** (Есипович Павел), сын Юзафа, дваранін Полацкага пав. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр. Адасланы ў распараджэнне санкт-пецярбургскага обер-паліцмайстра, ад якога 16.08.1863 высланы ў г. Тамбоў пад нагляд паліцыі *(1416—3—21048—26; 1430—1—31355—81-84; 1430—1—52163—150адв., 405адв.)*.

2056. **Есіповіч-Аградніцкі Калікст** (Есипович-Огродницкий Каликст), дваранін Магілёўскага пав. Да паўстання служыў валасным пісарам, калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—12; 3257—2—2—12)*.

2057. **Есьман (Эсьман) Адам** (Есьман (Эсьман) Адам), сын Сымона, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 03.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—25адв.-26)*.

2058. **Есьман Вінцэнт** (Есьман Викентий), дваранін. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», у 1864 г. арыштаваны *(295—1—1643—67)*.

[77] Верагодна, гэта імя па бацьку.

2059. **Есьман (Эсьман) Генрык** (Есьман (Эсьман) Генрих), сын Вінцэнта Якубавіча, брат *Пятра-Эварыста*, *Людвіка-Сільвестра* і *Рудольфа*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Рашэннем ЧПА пры Яраслаўскім пяхотным палку ад 06.02.1864 ці канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. Яго частка маёнтка Вязаўка Бабруйскага пав. канфіскавана. Сасланы ў Іркуцкую губ. Пасля частковай амністыі атрымаў правы дваранства і перасяліўся ў Каралеўства Польскае, дзе ў 1875 г. запісаўся ў склад сталых жыхароў г. Варшавы. Жыў у доме № 1260 Навасвецкага ўчастка. У 1876 г. падаў прашэнне аб дазволе на часовы прыезд на 3 месяцы ў Бабруйскі пав. па «сямейных і маёмасных справах» і атрымаў яго. 14.06.1876 прыбыў у Бабруйскі пав., 15.09.1876 выехаў назад у Варшаву *(162—1—116—52; 295—1—1643—66; 295—1—1814—4; 295—1—3060; 296—1—25—104; 296—1—89—20адв.; 296—1—90—16адв.-17; 299—2—7479; 319—1—479—12; 320—2—398—401адв., 416; 320—2—98—34адв.; 1418—3—1—25адв.-26)*.

2060. **Есьман Людвік-Сільвестр** (Есьман Людвиг-Сильвестр), сын Вінцэнта Якубавіча і Апалінарыі Машынскай, брат *Генрыка*, *Пятра-Эварыста* і *Рудольфа*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1843 г., хр. 27.06.1843 у Свіслацкім касцёле Бабруйскага пав. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Яго справа 28.01.1864 перададзена ЧВГМГ. Пераведзены ў г. Мінск, дзе змешчаны ў гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 26.02.1864. Прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага ДДС ад 12.11.1871, зацверджанай указам Герольдыі Сената ад 10.01.1895. Меў сыноў Эдварда (нар. у 1877 г.) і Эдмунда (нар. 18.01.1881) *(296—1—90—15адв.-16; 319—2—1044; 320—1—398—229; 1418—3—1—25адв.-26)*.

2061. **Есьман (Эсьман) Пётр-Эварыст** (Есьман (Эсьман) Петр-Еварист), сын Вінцэнта Якубавіча, брат *Генрыка*, *Людвіка-Сільвестра* і *Рудольфа*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1835 г., хр. 26.10.1835. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Удзельнічаў у паўстанні, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Рашэннем ЧПА пры Яраслаўскім пяхотным палку ад 30.12.1863 (?), канфірмаваным 30.12.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках Сібіры на 12 гадоў. Яго частка маёнтка Вязаўка Бабруйскага пав. канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся з правам часовага знаходжання ў Ігуменскі пав., дзе напрыканцы 1875 г. ажаніўся з Зоф'яй. У 1876 г. перасяліўся ў спадчынны маёнтак жонкі ў Сенненскі пав., адкуль жонка падала прашэнне аб дазволе яму застацца ў ім на сталае жыхарства *(162—1—116—52; 295—1—1643—66; 295—1—3026—33адв.; 295—1—3055; 296—1—25—104; 296—1—89—20адв.; 296—1—90—16адв.-17; 319—1—479—12; 319—2—1044; 320—1—398—229, 401адв., 416; 320—2—98—34адв.; 1418—3—1—25адв.-26)*.

2062. **Есьман (Эсьман) Рудольф** (Есьман (Эсьман) Рудольф), сын Вінцэнта, брат *Генрыка*, *Людвіка-Сільвестра* і *Пятра*, *Эварыста*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск. На яго маёмасць накладзены секвестр. Напрыканцы 1863 г. вызвалены, секвестр з яго маёмасці зняты *(296—1—25—113; 319—2—1044; 1418—3—1—25адв.-26)*.

2063. **Есьман (Эсьман) Юльян** (Есьман (Эсьман) Юлиян), сын Ігната і Антаніны (пам. 15.10.1867), брат Венцаслава і Яраслава, памешчык, каталік. Нар. у 1825 г., хр. 10.05.1825 у Свіслацкім касцёле Бабруйскага пав. У 1846 г. пасля смерці бацькі з братамі і маці падзяліў спадчынную маёмасць, у выніку атрымаў у валоданне маёнтак Курганне Ігуменскага пав. (Яраслаў атрымаў маёнтак Лудчыцы (Лучыца) Быхаўскага пав., Венцаслаў — Кабылянка Бабруйскага пав.). Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 28.01.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ В. Забалоцкаму. Пераведзены ў г. Мінск і зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 26.02.1864. Яго маёнтак Курганне секвестраваны паводле распараджэння МГП ад 16.07.1864 і 10.09.1864 прыняты ў кіраванне ПДМ. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—89—32адв.-33; 296—1—90—15адв.-16; 299—1—579—298-307; 319—1—479—12; 319—2—1044; 1418—3—1—25адв.-26; 1430—1—52163—206; 2003—1—372—145-152)*.

2064. **Еўдакімава Ядвіга** (Евдокимова Ядвига), дачка *Івана* і Юзэфы Юр'еўны, дваранка Ігуменскага пав., каталічка. Нар. каля 1841 г. Да паўстання служыла гувернанткай у маёнтку Дварэц Ігуменскага Вінцэнта Кучынскага. Пры праходзе 6 паўстанцаў з групы *Трусава Антона* праз Дварэц аказала ім гасцінны прыём, за што арыштавана рас. уладамі. Знаходзілася пад следствам у ІСК, рашэннем

якой прызнана вінаватай у спачуванні паўстанцам. 03.04.1864 яе справа пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкаму, якім у сваю чаргу 08.05.1864 пададзена М. Мураўёву. Пад час следства знаходзілася пад наглядам паліцыі ў г. Ігумене. 01.07.1864 атрымала дазвол вярнуцца да бацькоў у в. Качына Мінскага пав. пад іх падпіску. Рашэннем М. Мураўёва ад 08.12.1864 прысуджана да 2-месячнага арышту і аддачы пад паліцэйскі нагляд пасля яго. Зняволенне адбыла ў г. Мінску, 22.03.1865 вызвалена і адпраўлена на месца жыхарства. *(295—1—1643—67; 296—1—109; 1418—3—1—26адв.-27).*

2065. **Еўдакімаў Іван** (Евдокимов Иван), муж Юзэфы Юр'еўны, бацька *Ядвігі*, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання валодаў фальв. Качына Мінскага пав. Падчас паўстання западозраны ў захоўванні стрэльбаў і пораху ў сваім доме. Паводле распараджэння мінскага губернатара ад 21.06.1863, 23.06.1863 у яго доме праведзены вобшук і знойдзена невялікая колькасць пораху ў паляўнічым ражку і паляўнічага дробу. У гэты час быў у ад'ездзе ў г. Навагрудку. 22.07.1864 выдаў прыставу 2 стана Мінскага пав. падпіску аб паруках за сваю дачку *(295—1—1557; 296—1-109—10).*

2066. **Еўдакімаў**[78] **Іосіф** (Евдокимов Иосиф), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—15).*

2067. **Еўхімовіч (Яфімовіч) Адольф** (Евхимович (Яфимович) Адольф), селянін Ігуменскага ці Барысаўскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Быў пад следствам у ІСК, 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. 09.1863 вызвалены і вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281; 1418—3—1—25адв.-26).*

2068. **Еўціхевіч Антоні** (Евцихевич Антон), сын Юзафа, дваранін Чэрыкаўскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Да паўстання жыў у доме бацькоў у Чэрыкаўскім пав. 26.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Звяждоўскага Людвіка*, 30.04.1863 здаўся ў палон у Кульчыцкім лесе. Зняволены ў турэмным замку ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 16.07.1863 передала яго справу ў МагСК. 17.01.1864 зрабіў спробу самавольнага выхаду з замка для сустрэчы з маці, пераапрануўшыся ў ваенную форму, што скончылася няўдала. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая 22.08.1864 падала прысуд на зацвярджэнне камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ., той 25.08.1864 перадаў справу ў ЧПА ў г. Вільні. Канфірмацыяй А. Патапава ад 10.09.1864 прысуджаны да ссылкі «адміністрацыйным шляхам» у Табольскую губ. без пазбаўлення правоў. 23.09.1864 прыведзены да прысягі на вернападданасць Расіі, 26.09.1863 адпраўлены на паштовых конях на месца ссылкі. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—379; 2514—1—2198—67адв.; 3256—2—50; 3257—2—2—12; 3366—1—5—5).*

2069. **Еўціхевіч Леанард** (Евцихевич Леонард), сын Вінцэнта і Юзэфы, памешчык. Да паўстання разам з маці валодаў фальв. Кроткі Чэрыкаўскага пав. (316 дзес. зямлі, 19 муж. полу рэвізскіх душ, 1 стары напаўразбураны дом і 1 новы няскончаны, млын, гаспадарчыя пабудовы і інш., 138 руб. гадавога прыбытку). Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. 20.09.1863 маёнтак апісаны і секвестраваны. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(2003—1—370; 3366—1—5—5).*

2070. **Еўціхевіч Юзаф** (Евцихевич Иосиф), сын Ігната, брат Антонія, дзед Ганны Судзілоўскай, памешчык. Да паўстання сумесна з малагадовай унучкай валодаў маёнткам Лыкінка з часткай в. Бяскоўка Чэрыкаўскага пав. (55 дзес. зямлі, дом на 3 пакоі, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 52 руб. гадавога прыбытку). Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам, за што маёнтак 31.07.1863 апісаны і секвестраваны і 10.09.1863 перададзены ў кіраванне ПДМ. Потым паводле ўказа МагГП ад 07.10.1863 перададзены 28.11.1863 у кіраванне Чэрыкаўскай дваранскай апекі. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Самеля Францішка*. Улетку 1864 г. секвестр зняты *(2003—1—356; 3257—2—2—12; 3366—1—5—5).*

2071. **Еч Багуслаў** (Иеч Богуслав), сын Юзафа, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—3).* Магчыма, ідэнтычны з *Ечам Багуславам*.

# Ё

2072. **Ёдка Антоні** (Иодко Антон). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці»,

[78] Магчыма, гэта імя па бацьку.

таму атрымаў забарону пастУпаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

2073. **Ёдка Людвік** (Иодко Людвиг), памешчык Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Памёр падчас следства *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—14; 1430—1—52163—154адв.)*.

2074. **Ёдка Рудольф** (Иодко Рудольф), сын Ізабэлы Ежаўны, памешчык. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Цна Мінскага пав., дзе служыў *Каранеўскі Антоні*. Падчас паўстання ў яго пэўны час жыў *Сяўрук Тамаш*, а таксама выязджаў да брата, сястры і іншых памешчыкаў Мінскага пав., у сувязі з чым западозраны ў сувязях з паўстанцамі. Арыштаваны (да 19.08.1863) і зняволены на галоўнай гаўптвахце г. Мінска. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая не знайшла доказаў яго дачынення да паўстання. Яго маці 26.11.1863 падала прашэнне аб вызваленні яго на яе парукі, у сувязі з чым паводле загада ЧВГМГ ад 28.11.1863 вызвалены 02.12.1863 з мінскага турэмнага замка з абавязкам не пакідаць Мінск да заканчэння справы пра *К. А.* і *Меляшкевіча Мікалая*. З Цны спагнаны 130,42 руб. у якасці 10-працэнтнага збору *(295—1—1553)*.

2075. **Ёдка Станіслаў** (Иодко Станислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Петрашунцы Лідскага пав. Конны паўстанцкі атрад жыў у маёнтку 2 дні і атрымоўваў харчаванне і фураж. Западозраны ў дапамозе ім, яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 15.06.1863 і 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 24.06.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—14; 320—1—398—221; 1416—6—256; 1416—6—274; 1430—1—52163—128)*.

2076. **Ёдка Ян** (Иодко Иван), брат Барталамея, дваранін. Да паўстання разам з братам валодаў фальв. Петрашунцы Лідскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

2077. **Ёдка-Наркевіч Аляксандр** (Иодко-Наркевич Александр), памешчык Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да «вытрымання ў крэпасцях і турмах» без канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—679)*.

2078. **Ёхер Ян** (Иохер Иван), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795)*.

2079. **Ёч Багуслаў** (Иоч Богуслав), дваранін. За дачыненне да паўстання арыштаваны. 06.03.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—83; 295—1—1699)*. Магчыма, ідэнтычны з *Ечам Багуславам*.

2080. **Ёч Генрык** (Иоч Генрих). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. Да паўстання жыў у маёнтку Сынковічы Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275)*.

2081. **Ёч Людвік** (Иоч Людвиг), сын Фрацішка, дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Бярдовічы Слонімскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, за што яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да смяротнага пакарання *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 320—1—398—198; 1416—6—232, 275; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—126)*.

# Ж

2082. **Жаба Ігнат** (Жабо Игнатий), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Гальшаны Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання, паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

2083. **Жаба Каспер** (Жабо Гаспер), сын Юзафа, брат *Міхала*, дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Сшо Дзісенскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

2084. **Жаба (Жабіна) Кацярына** (Жабо (Жабина) Екатерина), дачка Нарцыза, памешчыца. Да паўстання валодала часткай маёнтка Шышылава Невельскага пав. Пасля паўстання 01.10.1864 знаходзілася ў «невядомай адлучцы», за што на яе маёмасць 25.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 27.08.1864 і загада М. Мураўёва ад 21.08.1864 накладаўся секвестр *(1416—4—11416—21-23; 1430—1—52163—423адв., 434адв.)*.

2085. **Жаба Міхал** (Жабо Михаил), сын Юзафа, брат *Каспера*, дваранін Дзісенскага пав. Нар.

каля 1838 г. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам, яго бацькі валодалі маёнткам Сшо Дзісенскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 319—1—479—12; 320—1—398—37-54, 130; 320—2—98—35; 1416—3—21048—26; 1416—6—280; 1430—1—52163—605).*

2086. **Жабенка Фларыян** (Жебенко Флориан), сын Юрыя. Да паўстання з'яўляўся прафесарам ці інспектарам сельгасінстытута ў г. Горках, надворны радца. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Незадоўга да 28.01.1866 падаў прашэнне аб пераглядзе яго справы і выдачы грошай, атрыманых ад продажу яго маёмасці *(1430—1—52163—194; 2003—1—466; 2514—1—2198—67адв.; 3257—2—2—13).*

**Жабіна Кацярына** — гл. **Жаба Кацярына**

2087. **Жаброўскі Адам** (Жебровский Адам), грамадзянін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—12; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

2088. **Жаброўскі (Жыброўскі) Канстанцін** (Жебровский (Жибровский) Константин), сын Станіслава, пляменнік Гертруды-Канстанцыі, дваранін Аўгустоўскай губ. Да паўстання служыў паручнікам 6 Артылерыйскай брыгады, знаходзіўся на вучобе ў Артылерыйскай акадэміі. Яго бацька валодаў маёнткам Барсучына Гарадоцкага пав., набытым у 1852 г. Падчас паўстання ўцёк з месца вучобы, прабраўся ў маёнтак Рыкава Себежскага пав. і сфарміраваў паўстанцкі атрад, куды сярод іншых уваходзілі *Арцімовіч Казімір*, *Вярбіцкі N.*, *Ціль Эдвард*. Трапіў у палон, зняволены ў турме ў г. Дынабургу. Спачатку знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 30.04.1863 перадала яго справу ў МагСК. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да смяротнага пакарання. Расстраляны 24.06.1863 у г. Барысаве. Яго заалагічны і мінералагічны кабінеты (пудзелы жывёл, яйкі птушак, ракавіны, камяні, узоры парод, кнігі і інш.) прададзены з публічнага аўкцыёну, частка іх перайшла да гімназіі ў г. Віцебску. На маёнткі яго цёткі Рыкава і Чырвоная Вада Себежскага пав., якія пасля яе смерці павінны былі перайсці да яго, накладзена забарона паводле пастановы ВГП ад 13.08.1863, зацверджанай М. Мураўёвым 22.08.1863. Таксама накладзена забарона на маёнтак бацькі, які 10.1864 падаваў прашэнне аб зняцці яе з прычыны намераў прадаць маёнтак *(162—1—116—40; 295—1—1565—2; 295—1—1643—70адв., 72; 296—1—19—270; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—12адв.; 320—1—398—134, 198; 1416—3—21048—26; 1430—1—31535; 1430—1—52163—19адв., 126адв., 273, 416, 596, 827; 1430—1—54024; 2616—1—40—12; 3046—2—3—29адв.-30).*

2089. **Жаброўскі Мікалай** (Жебровский Николай), памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Тупальшчына Мінскага пав. 24.05.1863 выехаў з Тупальшчыны, накіраваўся ў маёнтак Душкава Мінскага пав. *Рэмпеля Станіслава* і далучыўся да паўстанцаў. Яго частка Тупальшчыны секвестравана паводле распараджэння МГГ ад 20.06.1863. Пасля паўстання знаходзіўся «ў невядомай адлучцы» *(295—1—1643—74; 296—1—19—11-13адв.; 296—1—89—7, 29, 67, 85).*

**Жагялоўскі Уладзіслаў** — гл. **Жалігоўскі Уладзіслаў**

2090. **Жадзейка Клеафас** (Жадейко Клеофас), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на бестэрміновую катаргу ў рудніках *(319—1—479—12адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

2091. **Жазнеўскі N.** (Жезневский N.). Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39; 296—1—25—88адв.; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125адв.).*

2092. **Жакевіч Геранім** (Жокевич Иероним), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую ці Томскую губ. *(319—1—479—12; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

2093. **Жакевіч Тэафіла** (Жакевич Теофила), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Аланецкую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—85; 1430—1—52163—540).*

2094. **Жаковіч Вінцэнт** (Жакович Викентий), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстан-

ня пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562)*.

2095. **Жаковіч Казімір** (Жакович Казимир), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Заложына Вілейскага пав. (255 дзес. зямлі). За ўступленне сына ў паўстанцкі атрад яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

2096. **Жаковіч Ян** (Жакович Иван), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

2097. **Жалігоўская Марыя** (Желиговская Мария), сваячка *Мікалая*, *Часлава* і *Юліі*, дваранка Навагрудскага ці Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацый М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджана да ссылкі ў Варонежскую губ. пад нагляд паліцыі і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—64, 166адв.; 295—1—1643—74адв.; 299—1—577—164-175; 320—1—398—282адв., 298)*.

2098. **Жалігоўская Юлія** (Желиговская Юлия), сваячка *Марыі*, *Мікалая* і *Часлава*, дваранка Навагрудскага ці Вілейскага пав. Да паўстання жыла ў г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджана да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—64, 166адв.; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 319—1—479—12адв.; 320—1—398—282адв., 298)*.

2099. **Жалігоўскі (Жалягоўскі) Антоні** (Желиговский (Желяговский) Антон), сын Мікалая, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.12.1864 прысуджаны да секвестру маёмасці і ссылкі. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(160—2—682—57; 295—1—1643—71; 295—1—1699; 1430—1—52758—14)*.

2100. **Жалігоўскі Гектар** (Желиговский Гектор), памешчык Віленскага ці Вілейскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19; 2532—1—15—11)*.

2101. **Жалігоўскі Мікалай** (Желиговский Николай), сын Юльяна Ануфрыевіча, бацька *Часлава Калікста*, дваранін Вілейскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. Нар. 08.07.1816. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—64, 166адв.; 295—1—1643—74адв.; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 319—1—479—12адв.; 320—1—398—280-283, 298, 305-307, 401; 320—2—98—35)*.

2102. **Жалігоўскі (Жагялоўскі) Уладзіслаў** (Желиговский (Жегеловский) Владислав). Паходзіў са Свянцянскага пав. Паводле рашэння суда пазбаўлены сану ксяндза. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. На следстве абвінаваціў таксама ва ўдзеле ў паўстанні *Прыемскага Фелікса*, *Мейлуса Юстына*, *Мантурэвіча Баляслава*, *Белікавічаў Казіміра*, *Уладзіслава* і *Яна*. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1416—6—274; 1430—1—52163—616)*.

2103. **Жалігоўскі Часлаў-Калікст** (Желиговский Чеслав-Каликст), сын *Мікалая*, дваранін Вілейскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—64, 166адв.; 295—1—1643—72адв.; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 319—1—479—12адв.; 320—1—398—280-283, 305-307, 401; 320—2—98—35)*.

2104. **Жаліхоўскі Марыян** (Желиховский Марьян), аднадворац Валынскай губ. Падчас паўстання перайшоў за мяжу, каб злучыцца з атрадамі, якія там фарміраваліся. На радзіму не вярнуўся. У 1875 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі асуджаны завочна на пазбаўленне правоў стану і вечнае выгнанне; у выпадку самавольнага вяртання прысуджаўся да ссылкі на пасяленне ў Сібір *(1430—1—35834—98)*.

2105. **Жалкоўскі Часлаў** (Жолковский Чеслав), дваранін. Вучыўся ў гімназіі ў г. Гродна, выключаны. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад

нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

2106. **Жалудка Антоні** (Жалудко Антон), мешчанін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—12адв.)*.

**Жалягоўскі Антоні** — гл. **Жалігоўскі Антоні**

2107. **Жалязоўскі Валяр'ян** (Желязовский Валериан). За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166адв.)*.

2108. **Жалязоўскі Ігнат** (Желязовский Игнатий), сын Юзафа, брат *Юльяна*, памешчык. За «ўдзел у палітычных непарадках» на маёнтак яго бацькі Маладзеева Барысаўскага пав. накладзены секвестр, а 03.1864 — забарона *(295—1—1543; 296—1—89—46)*.

2109. **Жалязоўскі Юльян** (Желязовский Юльян (Юлиуш)), сын Юзафа, брат *Ігната*, памешчык. Нар. каля 1843 г. Да паўстання служыў пісарам на станцыі Кушляны Ашмянскага пав. ці Крупелі Вілейскага пав., калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на ваенную службу шарагоўцам у Сібірскія батальёны. МГП 04.10.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. На маёнтак яго бацькі Маладзеева Барысаўскага пав. накладзены секвестр, а 03.1864 забарона. Пасля амністый атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У 1876 г. служыў пісарам у г. Барнауле, падаваў прашэнне аб дазволе вярнуцца ў Барысаўскі пав. на сталае жыхарства *(162—1—116—10, 60; 295—1—1543; 295—1—1643—70, 72; 295—1—3061; 296—1—89—46; 299—1—577—508-510, 511-513; 319—1—479—12; 320—1—398—12а, 20, 23-26, 129, 191; 320—2—98—35; 1430—1—52163—604)*.

2110. **Жалязоўскі Януары** (Желязовский Януарий), сын Ігната Станіслававіча, незацверджаны дваранін Барысаўскага пав. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1864 ці на пачатку 1865 г. аддадзены пад ПВС пры 199-м пяхотным Каломенскім палку. Сасланы ў Табольскую губ. У 1875 г. падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму *(295—1—2719)*.

2111. **Жамойталь Караль** (Жамойтель Кароль), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у м. Кучайчы Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска *(319—1—479—12; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

2112. **Жанашнік Стэфан** (Женашник Степан), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

2113. **Жангаловіч Данат** (Жонголович Донат), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі А. Патапава ад 19.04.1865 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання», яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—256)*.

2114. **Жанэта Рыгор** (Женето (Женета) Григорий (Георгий)), сын Ежы, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Меў іншаземнае паходжанне. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. Удзельнічаў у паўстанні, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 і рашэннем ЧПА пры Яраслаўскім пяхотным палку ад 06.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Табольскую губ. *(162—1—116—52; 295—1—1643—72адв.; 296—1—25—104; 296—1—90—16адв.-17; 319—1—479—12адв.; 320—1—398—229; 1418—3—1—28адв.-29)*.

2115. **Жараўскі Ігнат** (Жоравский Игнатий), сын Нарцыза, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Вентаўшчына Лідскага пав. Падчас паўстання ў маёнтку спыняліся і харчаваліся паўстанцы, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

2116. **Жарноўскі Павел** (Жарновский Павел), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Стырня з фальв. Будрышкі Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

2117. **Жарноўскі Ян** (Жарновский Иван), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—11адв.)*.

2118. **Жарноўскі Януш** (Жарновский Януш), дваранін г. Дрысы. За ўдзел у паўстанні арышта-

ваны і зняволены (да 25.01.1864) у фартэцыі ў г. Дынабургу. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105; 319—1—479—12адв.; 1416—3—21048—26; 1430—1—52163—392адв.; 2601—1—5—7адв.).*

2119. **Жаро Аляксандр** (Жеро Александр), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12; 2532—1—15—8адв.).*

2120. **Жаромская Зоф'я** (Жеромская София), дваранка. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. прысуджана да ссылкі ў Томскую губ. пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—72адв.).*

**Жаромскі Мечыслаў** — гл. **Журомскі Мечыслаў**

2121. **Жаромскі Станіслаў** (Жеромский Станислав), дваранін Ковенскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», за што пастановай следчай камісіі прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы (да 01.06.1864) на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195, 613; 1430—1—52285—16).*

2122. **Жарын Мікалай** (Жарин Николай), сын Андрэя, дваранін Быхаўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—12адв.; 1430—1—52163—535; 3257—2—2—13).*

2123. **Жасніцкі Антоні** (Жосницкий Антон), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

2124. **Жаўняровіч (Жаўнярковіч) Юзаф-Ізыдар** (Жолнерович (Жолнеркович) Иосиф-Изидор), сын Антонія-Людвіка Вінцэнтавіча, дваранін Барысаўскага ці Дзісенскага пав. Хр. 16.04.1839. Да паўстання жыў у г. СПб, вучыўся ў Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы, яго бацька жыў у в. Аздзяцічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(162—1—116—64, 147, 166адв.; 295—1—1527—105; 295—1—1643—70адв.; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 320—1—398—282, 300-302, 401; 320—2—98—35).*

2125. **Жаўняроўскі Рыгор** (Жолнеровский Григорий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—5а).*

2126. **Жаўткоўскі Густаў** (Жолтковский Густав), сын Яна, брат *Уладзіслава* і Цэзарыі, памешчык Пінскага пав. За «ўдзел у палітычных непарадках» яго маёнтак Бродча Пінскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 16.06.1863 *(296—1—89—10адв.; 299—1—577—518-543адв.).*

2127. **Жаўткоўскі (Жаўтоўскі) Уладзіслаў** (Жолтковский (Жолтовский) Владислав), сын Яна, брат *Густава* і Цэзарыі, памешчык. За «ўдзел у палітычных непарадках» арыштаваны, але потым вызвалены. Маёнтак Бродча Пінскага пав. (ацэнены ў 8 тыс. руб.), якім ён валодаў разам з братам і сястрой, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 16.06.1863; 19.09.1864 яшчэ знаходзіўся пад секвестрам. Вызвалены ад секвестру да канца 1863 г. *(295—1—1643—73; 296—1—89—10адв., 17адв., 72адв.; 299—1—577—518-543адв., 550-554адв.; 320—2—99—42адв.-43).*

2128. **Жвірздоўскі (Жвірдоўскі) Геранім** (Жвирздовский (Жвирдовский) Иероним), сын Ксаверыя, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у м. Любча Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. 07.04.1863 захоплены ў палон у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1562—16; 295—1—1643—71; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.).*

2129. **Ждановіч Адам** (Жданович Адам), дваранін. За дачыненне да паўстання арыштаваны, 27.03.1865 аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—74).*

2130. **Ждановіч Антоні** (Жданович Антон), сын Стэфана, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Западозраны ў «нядобранадзейных дзеяннях» і дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа перададзена ЧВГМГ. Высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Яго зямельная маёмасць у 73 дзес. 80 саж. канфіскавана. Пасля ам-

ністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 з жонкай Антанінай, дзецьмі Ігнатам, Янам і Юзэфай жыў у засц. Рэпішча *(295—1—2420—9; 295—1—3026—32; 295—1—3492—67, 82адв.; 1418—3—1—28адв.-29)*.

2131. **Ждановіч Міхал** (Жданович Михаил), сын Бутрыма ці Барталамея, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гарадзішчанскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—1643—73адв.; 295—1—2420—10адв. 295—1—2725—30адв.)*.

2132. **Ждановіч Рафал** (Жданович Рафаил), сын Багуслава, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Западозраны ў «нядобранадзейных дзеяннях» і дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Яго зямельная маёмасць у 44 дзес. 838 саж. канфіскавана *(295—1—2420—8адв.; 1418—3—1—28адв.-29)*.

2133. **Ждановіч Тамаш** (Жданович Фома), сын Францішка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Западозраны ў «нядобранадзейных дзеяннях» і дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Разам з сынамі Віктарам, Зыгмунтам, Казімірам і дочкамі Міхалінай і Багумілай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць у 41 дзес. 657 саж. канфіскавана *(295—1—2420—8адв.-9; 1418—3—1—28адв.-29)*.

2134. **Ждановіч Якуб** (Жданович Яков), дваранін. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—70адв.)*.

2135. **Жмайловіч Ян** (Жмайлович Иван), дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання жыў у г. Гродна. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601)*.

2136. **Жмачынскі (Змачынскі) Ян** (Жмачинский (Змачинский) Иван), дваранін. Служыў у лейб-драгунскім палку рас. войскаў шарагоўцам, да паўстання знаходзіўся ў адстаўцы. Удзельнічаў у паўстанні, трапіў у палон. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны 05.08.1863 у г. Мінску за Ігуменскай рагаткай *(162—1—116—10; 162—1—122—10; 295—1—1643—70, 71адв.; 320—1—398—8; 1416—6—240)*.

2137. **Жоўтак Анастас** (Жолток Анастасий). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.)*.

2138. **Жоўтак Апалінары** (Жолток Аполинарий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 28.05.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—71, 73; 1418—3—1—28адв.-29)*.

2139. **Жоўтак Дамінік** (Жолток Доминик), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—5а)*.

2140. **Жоўтак Ежы** (Жолтак Юрий), сын Юзафа (Язафата), дваранін Рагачоўскага ці Магілёўскага пав. Да паўстання служыў аканомам у фальв. Грабянёва Магілёўскага пав. Оттана Сянажэнцкага. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Яго рухомая маёмасць у Грабянёве на падставе пастановы МагГП ад 19.05.1863 апісана 16.06.1863 і секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» (Астраханскую губ.?). Яго маёмасць прададзена за 86,37 руб. У 1868 г. хадайнічаў аб вяртанні грошай за прададзеную маёмасць і 9,46 руб., адабраных пры арышце *(296—1—25—110; 1430—1—52163—147, 617; 2003—1—219; 2003—1—372—129-132, 179-180адв., 192, 201-202, 219-226; 3257—2—2—13)*.

2141. **Жоўтак Матэвуш** (Жолток Матеуш (Матвей)), сын Тамаша ці Цімафея, муж Антаніны Юзафаўны Сянажэнцкай (нар. каля 1834), бацька Мікалая (нар. каля 1850), Францішка (нар. каля 1856), Ганны (нар. каля 1853), Аляксандры (нар. каля 1853) і Дамінікі (нар. каля 1862), шляхціц. Нар. каля 1823 г. Да паўстання жыў у вак. Сенажаткі Рагачоўскага пав. За «палітычную нядобранадзейнасць» распараджэннем К. фон Каўфмана ад 12.04.1866 прызначаны да ссылкі «адміністрацыйным парадкам» з сям'ёй у Томскую губ. на пасяленне на казённых землях. Каля 12.06.1866 высланы ў г. Томск, 23.06.1866 знаходзіўся ў турэмным замку г. Магілёва. Маёмасць сям'і (хата, зямля, рухомасць, наяўныя грошы) на суму ў 135,31 руб. ср. 10.06.1866 апісана і секвестравана. 22.12.1866 яго маёмасць

(рухомасць і пабудовы) прададзена з аўкцыёну за 246,55 руб. ср., якія адасланы яму ў Сібір, а зямля перададзена ў Магілёўскае ўпраўленне дзяржаўных маёмасцяў і потым здадзена ў арэнду. 28.03.1867 прыбыў у Томск. Пазней пераведзены ў Астраханскую губ. (?) *(2003—1—372—133адв.; 2003—1—471).*

2142. **Жоўтак Міхал** (Жолток Михаил), сваяк *Сымона* і *Яна*, памешчык Рагачоўскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Самарскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—10адв.).*

2143. **Жоўтак Сымон** (Жолток Семен), сваяк *Міхала* і *Яна*, памешчык Рагачоўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу. Сасланы ў Астраханскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—10адв.; 3257—2—8—5а).*

2144. **Жоўтак Ян** (Жолток Иван), сваяк *Міхала* і *Сымона*, памешчык Рагачоўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу. Сасланы ў Астраханскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—10адв.; 3257—2—8—5а).*

2145. **Жоўтак N.** (Жолток, Желток N.). Удзельнічаў у паўстанні ў якасці камандзіра атрада ў Барысаўскім пав. разам з *Кучэўскім N.*, куды ўваходзілі *Альшэўскі Вінцэнт*, *Бардушка Францішак*, *Вішнеўскі Францішак*, *Дамбровы Баляслаў* і *Уладзіслаў*, *Кутырла Тамаш*, *Мароз Ежы*, *Мядзвецкі Антоні*, *Рагоўскі Канстанцін*, *Турскі Аляксандр* і інш. *(162—1—116—12; 295—1—1527—103; 295—1—1588; 320—1—398—84).*

2146. **Жудра Ануфры** (Жудро Онуфрий). Западозраны рас. уладамі ў прыналежнасці да патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.).*

2147. **Жудра Казімір** (Жудро Казимир), сын Віктара (ці Вінцэнта), памешчык, каталік. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання з’яўляўся гарадоцкім[79] павятовым маршалкам, валодаў маёнткам у Сенненскім і Віцебскім пав. Западозраны ў тым, што ў яго маёнтках збіраліся паўстанцы, арыштаваны. На яго маёмасць накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і ў 1863 г. падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Аднак паводле распараджэння М. Мураўёва (да 21.12.1863) «па сукупнасці гэтых абвінавачанняў прызнаецца нязручным далейшае пакіданне яго на ранейшым месцы жыхарства», у сувязі з чым прызначаны да высылкі ў Гомельскі пав. на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі. 12.01.1864 прыбыў у г. Гомель. 08.02.1864 атрымаў дазвол вярнуцца ў свой маёнтак каля г. Віцебска «з увагі да расстроенага здароўя». 05.09.1864 секвестр з маёмасці зняты *(1430—1—52163—247-248, 256-259; 1430—1—52285—32, 35адв.; 2001—1—898—59-65; 3046—2—3—29адв.-30; 3046—2—5—17).*

2148. **Жук Адам** (Жук Адам), сын Людвіга, дваранін Слуцкага пав., праваслаўны. Да паўстання служыў пісарам. За пашыў патронных сумак для паўстанцаў арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(295—1—1643—73; 1524—1—1—5).*

2149. **Жук Каятан** (Жук Коестан (Каетан)), сын Антонія, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Да паўстання халасты, пісьменны; жыў у фальв. Траслец (Трыледка) Слуцкага пав., дзе займаўся навучаннем дзяцей памешчыка Адама Тамашэўскага. Падчас паўстання разам з *Дубіцкім Міхалам* выехаў у маёнтак Лецяшын Слуцкага пав., каб паўступіць на службу акономам, аднак хутка вярнуўся назад. Западозраны ў жаданні паступіць у паўстанцкі атрад, арыштаваны. Зняволены ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму 09.1863 вернуты на месца жыхарства пад нагляд паліцыі *(296—1—19—223-241, 279; 1524—1—1—5).*

2150. **Жук Юзаф** (Жук Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў у кафедральным касцёле г. Магілёва ці пробашчам касцёла ў м. Вішнева Свянцянскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і трапіў пад следства ў ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. ці ў г. Арэнбург *(1416—6—274; 1430—1—52163—194, 609; 1430—1—52285—23; 3046—2—5—17).*

2151. **Жук Ян** (Жук Иван), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

[79] У адным з дакументаў ён пададзены як віцебскі павятовы маршалак, у другім — як віцебскі губернскі маршалак, але гэта памылкі.

2152. **Жук Ян** (Жук Иван), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую ці Разанскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—195; 2532—1—15—5адв.)*.

2153. **Жук (Жукоўскі) N.** (Жук (Жуковский) N.). Служыў у войску, меў афіцэрскі чын. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Выкладчык, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 320—1—398—197)*.

2154. **Жукатынскі Эміль** (Жукотынский Эмилий), памешчык Валынскай губ. Нар. каля 1825 г. Удзельнічаў у паўстанні, пасля эміграваў за мяжу. У 1872 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі завочна асуджаны на вечнае выгнанне, пазбаўленне правоў стану і канфіскацыю маёмасці, а ў выпадку з'яўлення ў межах Рас. імперыі — на ссылку ў Сібір на пасяленне *(1430—1—35260)*.

2155. **Жукоўская Клемянціна** (Жуковская Клементина), жонка магілёўскага павятовага маршалка, памешчыца. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці», знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 08.07.1864 скончыла яго справу. Выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Курск *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 3257—2—8—5а)*.

2156. **Жукоўскі Аляксандр** (Жуковский Александр), дваранін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—12адв.)*.

2157. **Жукоўскі Баляслаў** (Жуковский Болеслав), сын Яна, дваранін Лідскага і Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую ці Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—7адв.; 2514—1—2198—67адв.; 2532—1—15—7, 12адв.)*.

2158. **Жукоўскі (Прус-Жукоўскі) Баляслаў-Зыгмунт** (Жуковский (Прус-Жуковский) Болеслав-Зигмунт), сын Яна-Зянона Раманавіча і Клемянціны Сакульскай, брат Уладзіслава-Рамана-Іпаліта, Казіміра-Тэафіла, Браніслава-Стэфана-Нікадыма і Уладзіслава-Зіфірына, дваранін Варшаўскай ці Магілёўскай губ., каталік. Нар. 15.02.1846 у в. Раманова, хр. 15.03.1846 у Івандарскім касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—196; 3257—1—53—2; 3286—2—1—6, 115-118)*.

2159. **Жукоўскі Дамінік-Антоні** (Жуковский Доминик-Антоний), сын Леана, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання служыў у Мінскай палаце крымінальнага суда. Падчас паўстання захоўваў зброю. За гэта, а таксама за «іншыя злачынствы» арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. МГП 24.09.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—70, 71адв.; 319—1—479—12адв.; 320—1—398—8, 10-11адв.; 320—2—98—35; 1416—6—240; 1430—1—52163—596б)*.

2160. **Жукоўскі Ксаверы** (Жуковский Ксаверий), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70)*.

2161. **Жукоўскі Ігнат** (Жуковский Игнатий), памешчык Троцкага пав. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—8; 2532—1—15—12)*.

2162. **Жукоўскі Міхал** (Жуковский Михаил), памешчык Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8)*.

2163. **Жукоўскі Пётр** (Жуковский Петр). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў паўстанцкі атрад, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

2164. **Жукоўскі (Корцін-Жукоўскі) Рафал** (Жуковский (Корцин-Жуковский) Рафаил), сын Пятра і Апалоніі Францішкаўны, брат Феліцыяны (v. Гіро), Пелагеі, Анелі і Петранэлі, памешчык, каталік. Да паўстання служыў у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда, губернскі сакратар. Да паўстання разам з маці і сястрой валодаў зямлёй у в. Грыўкі Магілёўскага пав. (40 дзес., 24 руб. гадавога прыбытку). Западозраны МагСК у дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 14.06.1863), адпраўлены ў фартэцыю г. Бабруйска і звольнены са службы. Яго рухомая маёмасць у г. Магілёве (мэбля і пасцельныя прыналежнасці) на суму ў 5,15 руб. ср. 06.1863 апісана і секвестравана. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 зямля ў Грыўках 21.08.1863 апісана для накладання секвестру. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 19 дзес. 1460 саж., які прыпадалі на яго частку, канфіскаваны. Пасля 1867 г. маёнтак цалкам падлег продажу *(319—1—479—18; 1430—1—52163—526; 2003—1—343; 2003—1—372—86-88; 2003—1—388; 2003—1—445—2адв., 14адв.; 2003—2—96—25; 3257—2—2—13).*

2165. **Жукоўскі Сымон** (Жуковский Семен), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле с. Гегужын Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую ці Томскую губ. *(319—1—479—12; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

2166. **Жукоўскі Уладзіслаў** (Жуковский Владислав), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

2167. **Жукоўскі Францішак** (Жуковский Франц), (народжаны па-за шлюбам) селянін. Да паўстання знаходзіўся ў часоваабавязаных адносінах да памешчыка Ашмянскага пав. Швяйкоўскага, жыў на хутары памешчыка Міхала Чудоўскага Маразы Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Паводле ўказа МагГП ад 02.07.1863, яго рухомая маёмасць (карова і 3 вуллі) на суму ў 20 руб. ср. 08.08.1863 апісана і секвестравана. Быў пад следствам у ЧСК, якая 16.07.1863 перадала яго справу ў МагСК. Пад судом знаходзіўся ў МагВСК *(2003—1—324; 3257—2—2—13; 3366—1—5—5).*

2168. **Жукоўскі Юзаф** (Жуковский Иосиф), аднадворац Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 1 год *(319—1—479—9адв.; 1430—1—52163—181адв.).*

2169. **Жукоўскі Якуб** (Жуковский Яков), мешчанін г. Гродна. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

2170. **Жукоўскі Ян** (Жуковский Иван), дваранін. Да паўстання арандаваў мызу ў Лідскім пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне *(319—1—479—12; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

2171. **Жукоўскі (Прус-Жукоўскі) Ян** (Жуковский (Прус-Жуковский) Иван), памешчык Магілёўскай (?) губ. Западозраны рас. уладамі ў выпраўленні свайго сына ў паўстанцкі атрад. З 08.07.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая да 03.04.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства быў на волі *(3257—1—14—7адв.-8).*

2172. **Жукоўскі Ян-Алаізі** (Жуковский Ян-Алоизий), сын Юзафа, дваранін. Да паўстання служыў у 1 Зводнай рэзервовай артылерыйскай брыгадзе рас. войска ў чыне паручніка, знаходзіўся ў г. Смаленску. Падчас паўстання пакінуў месцазнаходжанне брыгады і дзейнічаў пад мянушкай Каса як камандзір паўстанцкага атрада ў Чэрыкаўскім пав., да якога 24.04.1863 далучыліся *Арцімовіч Міхал*, *Бараноўскі Андрэй* і *Булгарын Юзаф* і з якім потым увайшоў у склад атрада *Звяждоўскага Людвіка*. Рас. улады ў 1863–1864 гг. не ведалі пра месца яго знаходжання. Яго следчая справа вялася ў ЧСК, якая 13.10.1863 падала справу магілёўскаму губернатару *(1430—1—52163—535адв.; 2003—1—223; 2514—1—2198—67адв.; 3256—2—14—21адв.; 3366—1—5—5адв.).*

2173. **Журомскі (Жаромскі) Мечыслаў** (Журомский (Жеромский) Мечислав), сын Юзафа, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у в. Глінна Пінскага пав. Западозраны рас. уладамі ў намаўленні паўстанцаў да павешання дзячка Святавольскай царквы Ф. Юзафовіча і 08.02.1864 арыштаваны і зняволены ў г. Пінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Потым прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. *(295—1—1643—72; 320—1—398—2; 1521—1—9).*

2174. **Журомскі N.** (Журомский N.). Удзельнічаў у паўстанні, пасля хаваўся ў доме *Вернікоўскага Ігната (162—1—116—123).*

2175. **Жутовіч Міхал** (Жутович Михаил), дваранін (?) Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—12).*

2176. **Жутовіч Ян** (Жутович Иван), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Самарскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.).*

2177. **Жыброўскі Апалінары** (Жибровский Апполинарий), дваранін. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—70).*

**Жыброўскі Канстанцін** — гл. **Жаброўскі Канстанцін**

2178. **Жыбуртовіч N.** (Жибуртович N.), дваранін Слуцкага пав. Да паўстання служыў пісарам Грыцэвіцкага валаснога праўлення. Падчас паўстання «аказаўся вінаватым у нашэнні польскага касцюма, чамаркі і прамаўленні перад сялянамі бязглуздых словаў, пахваляючыся паступіць у шайку мяцежнікаў». Арыштаваны 04.1863, зняволены ў турэмным замку ў г. Слуцку. Паводле загада ЧВГМГ ад 03.09.1863 вызвалены са звальненнем са службы і вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1643—71адв.; 296—1—19—181-186адв.; 276адв.-277).*

2179. **Жывіцкі Аляксандр** (Живицкий Александр), сын Станіслава, дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Гумнішча Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3).*

2180. **Жывіцкі Станіслаў** (Жилинский Станислав), сын Феліцыяна, дваранін Мінскага пав. Да паўстання арандаваў казённую ферму ў Гродзенскай (?) губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 22.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863. Прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(160—2—682—108, 212; 162—1—122—21, 32; 534—1—14—79; 1416—4—11416—314; 1416—6—218; 1430—1—52163—796).*

2181. **Жыгала Сымон** (Жигалло Семен), сын Юрыя, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1839 г. Да паўстання прыпісаны да в. Заручэўе Нізгалаўскай вол. Лепельскага пав. Каля тыдня знаходзіўся ў атрадзе ў Лепельскім пав. Уцёк з яго і да восені 1863 г. займаўся падзённай працай у розных месцах. Увосень здабыў фальшывы пашпарт на імя Сільвестра Антонавіча Пракаповіча і працягваў займацца працай па найму ў розных мясцовасцях. Арыштаваны 03.1864 у маёнтку Межыца Лепельскага пав. і зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі. На следстве сцвярджаў, што забраны ў паўстанцкі атрад гвалтоўна. Ваенным начальнікам Лепельскага пав. яго справа 15.03.1864 пададзена віцебскаму грамадзянскаму губернатару, рашэннем якога ад 02.04.1864 прызнаны «нядобранадзейным у палітычных адносінах і шкодным для далейшага знаходжання ў тутэйшым краі» і прызначаны да высылкі ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. 09.04.1864 адпраўлены з Лепеля на месца ссылкі *(1430—1—31542).*

2182. **Жыдовіч Францішак** (Жидович Франц), сын Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання яго бацькі валодалі 30 дзес. зямлі ў вак. Французская Грэбля Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, быў пад следствам у ІСК. 14.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Пераведзены ў г. Мінск, дзе змешчаны ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 23.01.1864. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На зямлю яго бацькоў накладзена забарона *(295—1—1643—74адв.; 296—1—90—12адв.-13; 299—1—579—298-307; 319—1—479—12адв.; 1418—3—1—28адв.-29; 1430—1—52163—206).*

**Жыжнеўскі Юзаф** — гл. **Жызнеўскі Юзаф**

**Жыжнеўскі Ясон** — гл. **Жызнеўскі Ясон**

2183. **Жыжэмскі Людвік** (Жижемский Людвиг), сын Мацея, брат *Цітуса*, муж Тэклі, дваранін Магілёўскай (?) губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, (да 31.05.1863) арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. У МагВСК меў дачыненне да спраў *Акуліча-Казарына Людвіка* і разам з братам *Цеханавецкага Оттана*. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—245—5; 2514—1—2198—67адв.; 3257—2—2—13).*

2184. **Жыжэмскі Цітус** (Жижемский Тит), сын Мацея, брат *Людвіка*, дваранін Магілёўскай (?) губ. Падчас паўстання разам з братам меў дачыненне да справы *Цеханавецкага Оттана* ў МагВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.; 3257—2—2—13).*

2185. **Жызнеўская Брыгіда** (Жизневская Бригида). Паходзіла з Віцебскай губ. Дачыненне да

паўстання невядомае. У 1876 г. жыла як ссыльная ў Енісейскай губ., атрымала амністыю з правам вярнуцца на радзіму *(1430—1—35976—20-21)*.

2186. **Жызнеўскі Караль** (Жизневский Карл), сын Францішка, дваранін Аршанскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2616—1—40—14адв.; 3257—2—2—13)*.

2187. **Жызнеўскі (Жыжнеўскі) Юзаф** (Жизневский (Жижневский) Иосиф), селянін. Да паўстання прыпісаны да в. Перавоз Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280)*.

2188. **Жызнеўскі (Жыжнеўскі) Ясон** (Жизневский (Жижневский) Ясон (Янсон)), сын Міхала, дваранін Магілёўскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Казіміраўка Магілёўскага пав. малагадовых памешчыкаў Ракусаў. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 10.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці яго «паводле ступені вінаватасці» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу, МагСК 23.05.1863 вярнула справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Паводле ўказа МагГП ад 14.05.1863 яго рухомасць у фальв. Казіміраўка (кабыла, жарабя, збруя) на 40,9 руб. ср. 28.06.1863 апісана і секвестравана. Потым пастановай МагВСК ад 05.07.1863, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2003—1—233; 2003—1—434—2; 2616—1—40—14; 3257—1—6; 3257—2—2—13)*.

2189. **Жылевіч Эдвард** (Жилевич Эдуард), дваранін Гродзенскай ці Ковенскай губ. Служыў у Расіенскім павятовым казначэйстве, губернскі сакратар. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—12адв.; 534—1—14—5; 1416—6—281; 1430—1—52163—375)*.

2190. **Жылевіч Яраслаў** (Жилевич Ярослав), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Мiркляны (Міркліі) Расіенскага пав. *Буткевічаў Вацлава* і *Міхала*. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—222адв.; 1416—6—281)*.

2191. **Жылін Казімір** (Жилин Казимир), селянін Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Прысуджаны да ссылкі шарагоўцам у Сібірскія батальёны рас. войска. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—124)*.

2192. **Жылінскі Адам** (Жилинский Адам), памешчык Віленскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—271)*.

2193. **Жылінскі Аляксандр** (Жилинский Александр), сын Вінцэнта, старыечны брат *Браніслава*, дваранін Пінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, дзе пасля — невядома. Паводле канфірмацыі А. Патапава яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—106; 162—1—122—22; 534—1—14—39)*.

2194. **Жылінскі Браніслаў** (Жилинский Бронислав), сын Людвіка, старыечны брат *Аляксандра*, дваранін Пінскага пав. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 18.01.1865 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. Пасля паўстання знаходзіўся ў «невядомай адлучцы» *(160—2—682—82, 106; 162—1—122—17, 22; 320—1—398—675; 534—1—14—29)*.

2195. **Жылінскі Віктар** (Жилинский Виктор), дваранін Віленскай губ. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце, атрымаў ступень кандыдата. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—12; 320—1—398—221адв.)*.

2196. **Жылінскі Ігнат** (Жилинский Игнатий). Да паўстання служыў старэйшым настаўнікам гімназіі ў г. Свянцянах, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

2197. **Жылінскі Іпаліт** (Жилинский Ипполит), сын Людвіка, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дакурнішкі Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў пастаўцы харчавання паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

2198. **Жылінскі Канстанцін** (Жилинский Константин), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199; 2532—1—15—12)*.

2199. **Жылінскі Ян** (Жилинский Иван), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—12)*.

2200. **Жылінскі Ян** (Жилинский Иван), сын Юзафа Станіслававіча (нар. каля 1809) і Антаніны Паўлаўны (нар. каля 1814), брат Яўстаха (нар. каля 1832), незацверджаны дваранін ці шляхціц Лепельскага пав., каталік. З 1861 г. служыў аканомам у маёнтку Дзмітроўшчына Лепельскага пав. Міхала Тамашэвіча, з 1862 г. — у маёнтку Бабынічы Лепельскага пав. *Тамашэвіча Францішка*. 23.04.1863 пакінуў службу і вярнуўся да бацькоў у фальв. Юркава Лепельскага пав. Потым некалькі разоў пакідаў Юркава дзеля пошукаў месца службы, у тым ліку выбываў у г. Полацк. У сувязі з гэтым западозраны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе і ўлетку 1864 г. абгавораны бабыніцкімі мяшчанамі Абрамам Рыўлінам і Абрамам Шэрманам ва ўдзеле ў паўстанні, у тым ліку ў пастаўцы паўстанцам харчавання і сутычцы з рас. войскамі ля в. Чарніца Лепельскага пав. Арыштаваны, зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі. Знаходзіўся пад следствам у ДСК. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся таму, на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.09.1864 вызвалены 04.10.1864 і вернуты на месца жыхарства на парукі і пад нагляд паліцыі *(1430—1—31600; 3046—2—5—17)*.

2201. **Жылка Андрэй** (Жилко Роман), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281)*.

**Жылка Раман — Жынько Раман**

2202. **Жынько (Жынка, Жылка) Раман** (Жинько (Жинко, Жилко) Роман), сын Сымона, селянін. Да паўстання жыў у м. Уселюб Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку, потым у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір, з Мінска накіраваны ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—2420—12; 295—1—2725—9адв.; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.)*.

2203. **Жырко Юзаф** (Жирко Иосиф), селянін. За дачыненне да паўстання арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—70адв.)*.

2204. **Жыткевіч Сымон** (Житкевич Шимон), дваранін Расіенскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2205. **Жыцкі Тамаш** (Жицкий Томаш), памешчык Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

# З

2206. **Забароўскі Баляслаў** (Заборовский Болеслав), муж Ганны, аднадворац. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады. Жонка выправілася з ім *(295—1—1643—77; 1416—3—21048—28адв.; 1430—1—52163—398адв.)*.

2207. **Забароўскі Ігнат (Іпаліт)** (Заборовский Игнатий (Гипполит)), сын Ежага, ксёндз. Да паўстання з'яўляўся іераманахам дамініканскага кляштара ў г. Нясвіжы. 01.01.1864 у касцёле г. Слуцка прамаўляў казанне праўрадавага зместу, «накіраванае да тлумачэння хлуслівага і шкоднага захаплення», перарваны *Барташэвічам Андрэем*. Рас. улады, пачаткова не разабраўшыся ў сітуацыі, западозрылі яго ў прамаўленні казання «антыўрадавага зместу», таму арыштаваны больш чым на 2 месяцы. Знаходзіўся пад следствам у ССК разам з *Ліневічам Пляцыдам*. Рашэннем ЧВГМГ В. Забалоцкага ад

13.04.1864 прызнаны невінаватым і падлягаў вызваленню *(295—1—1643—80адв.; 296—1—93; 1524—1—1—5адв.)*.

2208. **Забароўскі (Збароўскі) Севярын** (Заборовский (Зборовский) Северин), аднадворац Новааляксандраўскага пав. Да паўстання жыў з бацькамі у г. Відзы. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у батальёны Амурскага краю рас. войска. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(295—1—1643—77адв.; 319—1—479—13; 320—1—398—133; 1416—3—21048—28адв.; 1430—1—35146—124; 1430—1—52163—398адв.)*.

2209. **Забароўскі Юзаф** (Заборовский Иосиф), аднадворац Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска пасланы ў г. Маскву *(295—1—2420—10)*.

2210. **Забела Міхал** (Забелло Михаил). Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—3—21048—28адв.; 1430—1—52163—489; 1430—1—52285—5, 43)*.

2211. **Забела Станіслаў** (Забелло Станислав), брат Генрыка, граф. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам. Да дачыненне да паўстання трапіў пад следства. Яго справа вялася ў ДСК. Высланы з радзімы, з яго маёмасці меркавалася спагнаць двайны 10-працэнтны збор. У 1873 г. жыў у г. Рызе, будучы вызваленым ад нагляду паліцыі, атрымаў дазвол на пражыванне ў Віцебскай губ. на паруках брата (адстаўнога паручніка рас. войскаў) *(1416—3—21048—28адв.; 1430—1—35458—2; 1430—1—52163—489-491)*.

2212. **Заблоцкі Ануфры** (Заблоцкий Онуфрий), сын Яна, дваранін Віленскай ці Віцебскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ва ўніверсітэце г. СПб, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падтрымаў захоп паўстанцамі г. Горкі 24.04.1863 і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. У 1870 г. жыў у Наўгародскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—21-22; 1430—1—52163—195адв.; 3257—1—53—2; 3286—2—1—4адв.)*.

2213. **Заблоцкі Баляслаў** (Заблоцкий Болеслав), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

2214. **Заблоцкі Іаахім** (Заблоцкий Иоаким), сын *Станіслава*, дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—13)*.

2215. **Заблоцкі Ізыдар** (Заблоцки[й] Иссидор). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рыма-каталіцкай кансісторыі, губернскі сакратар. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

2216. **Заблоцкі Станіслаў** (Заблоцкий Станислав), бацька *Іаахіма*, дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—13)*.

2217. **Заблоцкі Фелікс** (Заблоцкий Феликс), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—13; 1430—1—52163—521)*.

2218. **Заблоцкі Юзаф** (Заблоцкий Иосиф), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—13)*.

2219. **Заблоцкі Юзаф** (Заблоцкий Юзеф), селянін Віцебскай (?) губ. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 04.12.1863 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—29; 1430—1—52163—397)*.

2220. **Заборскі Казімір** (Заборский Казимир), дваранін (?) Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—13; 1430—1—52163—530адв.)*.

2221. **Забруцкі Адам** (Забруцкий Адам), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.).*

2222. **Завадская Аліна** (Завадская Алина), жонка *Антонія*, дваранка. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу. Потым «адміністрацыйным парадкам» выслана з мужам на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8; 3046—2—5—19адв.).*

2223. **Завадская Фаўстына** (Завадская Фаустина), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9).*

2224. **Завадская Францішка** (Завадская Франциска), памешчыца Віленскага пав. Да паўстання ў яе служыў аканомам *Касінскі Тадэвуш*. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

2225. **Завадская Ядвіга** (Завадская Ядвига), памешчыца Кобрынскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі выслана (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасялілася ў г. Варшаву, дзе ў 1873 г. атрымала дазвол вярнуцца ў «Паўночна-Заходні край» *(296—1—25—111адв.; 1430—1—35458—17-18; 1430—1—52163—573адв.; 2532—1—15—8).*

2226. **Завадскі Адольф** (Завадский Адольф), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—19адв.).*

2227. **Завадскі Альфрэд** (Завадский Альфред), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання жыў у г. Горкі Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2616—1—40—14; 3257—2—2—14).*

2228. **Завадскі Андрэй** (Завадский Андрей), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—13; 1416—4—11416—115; 1430—1—52163—205).*

2229. **Завадскі Антоні** (Завадский Антоний), муж *Аліны*, дваранін. Да паўстання жыў у Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы з жонкай на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

2230. **Завадскі Браніслаў** (Завадский Бронислав), сын Рэгіса, пляменнік *Караля*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні, яго бацька валодаў часткай маёнтка Чарняты Свянцянскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, пасля яго разбіцця схоплены сялянамі. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—221; 1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—128).*

2231. **Завадскі Бруна** (Завадский Бруно), сын Станіслава, дваранін Віленскага пав. У 1861 г. удзельнічаў у г. Вільні ў палітычных маніфестацыях. Служыў у кнігарні Аргельбранта ў Вільні, напярэдадні паўстання звольніўся. 19.02.1863 прыбыў з Вільні ў г. Навагрудак і як падазроная асоба арыштаваны і зняволены ў гарадскім астрогу. Пры вобшуку ў яго знойдзены карта Мінскай губ., спіс асуджаных паўстанцаў і 56,75 руб. Рашэннем М. Мураўёва ад 03.07.1863, як «цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах», прызначаны да ссылкі «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў аддаленыя паветы Пермскай губ. 12.07.1863 адпраўлены, 27.07.1863 прыбыў у Пермскую губ., паселены ў Салікамскім пав. Падаў прашэнне аб вяртанні адабраных у яго пры вобшуку ў Навагрудку грошай і 20.11.1863 атрымаў іх (?) *(295—1—1609; 295—1—1643—11; 1430—1—52285—7).*

2232. **Завадскі Генрык** (Завадский Генрих), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Разанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—11адв.).*

2233. **Завадскі Караль** (Завадский Кароль (Карл)), сын Людвіка, брат Рэгіса, дзядзька *Браніслава*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстан-

ня жыў у маёнтку Чарняты Свянцянскага пав., якім валодаў разам з братам. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863, 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863, 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—221адв.; 1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—274; 1416—6—280).*

2234. **Завадскі Клімент** (Завадский Климентий), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8адв.).*

2235. **Завадскі Міхал** (Завадский Михаил), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Цасількава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

2236. **Завадскі Пётр-Караль** (Завадский Петр-Карл), сын Вінцэнта, дваранін Барысаўскага пав. Хр. 18.11.1839. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. На маёнтак яго маці Шамаўка Барысаўскага пав. і на маёнтак бацькі Грэбень Барысаўскага пав. накладзены секвестр. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. 03.1864 на Шамаўку накладзена забарона *(162—1—116—10; 295—1—1643—76, 76 адв.; 296—1—89—46; 299—1—577—508-510; 319—1—479—13адв.; 320—1—398—37-53, 124адв., 234адв., 274, 424; 320—2—98—36; 1416—3—21048—28адв.; 1430—1—52163—596б адв.).*

2237. **Завадскі Рэгіс** (Завадский Регис), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы ВілГП ад 13.06.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—244; 1430—1—52285—9; 2532—1—15—11адв.).*

2238. **Завадскі Якуб** (Завадский Яков). Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

2239. **Завадскі Яўген** (Завадский (Завацкий) Евгений), сын Барталамея, дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1848 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску і землямерска-таксатарскіх класах. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую ці Табольскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(319—1—479—13адв.; 1416—3—21048—28; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—35146—145; 1430—1—52163—424адв., 535, 722адв.; 2626—1—305—75; 3046—2—3—29адв.-30; 3046—2—5—19).*

2240. **Завістоўскі (Заўлятоўскі[80]) Станіслаў** (Завлетовский Станислав), дваранін Ваўкавыскага пав. Служыў у Кубанскім егерскім палку рас. войска, штабс-капітан. Да паўстання выйшаў у адстаўку, жыў у м. Зэльва Ваўкавыскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—13; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

2241. **Завістоўскі Эдвард** (Завистовский Эдуард), дваранін. Да паўстання служыў аканомам у *Сарокі Міхала*. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. *(295—1—1643—80; 1416—6—280; 1430—1—52285—7адв.).*

---

[80] Менавіта ў такой памылковай форме змешчана яго прозвішча ў выяўленых дакументах НГАБ.

2242. **Завістоўскі Юзаф** (Завистовский Иосиф), дваранін Плоцкай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106)*.

2243. **Завістоўскі N.** (Завистовский N.), памешчык Слонімскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*. Магчыма, некаторыя звесткі могуць адносіцца да *Завістоўскага Станіслава*.

2244. **Завіша Ян** (Завиша Иван), дваранін Слонімскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

2245. **Завусцінскі Ігнат** (Заусцинский Игнатий). Да паўстання служыў землямерам; губернскі сакратар. За дачыненне да справы *Макавецкага Міхала* знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—194адв.)*.

**Загаранскі-Кісель Караль** — гл. **Кісель-Загаранскі Караль**

**Загаранскі-Кісель Станіслаў** — гл. **Кісель-Загаранскі Станіслаў**

**Загаранскі-Кісель Фердынанд** — гл. **Кісель-Загаранскі Фердынанд**

2246. **Загорскі Леанард** (Загорский Леонард). За дачыненне да паўстання пазбаўлены правоў стану і сасланы. У 1871 г. жыў у г. Вятцы, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, вяртаннем правоў стану і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—121)*.

2247. **Загорскі Мікалай** (Загорский Николай), дваранін Новааляксандраўскага ці Дзісенскага пав. Да паўстання жыў у засц. Мазураўшчына, які арандавала яго маці. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—77; 319—1—479—13; 320—1—398—133; 1416—3—21048—28адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—399а, 600)*.

2248. **Загорскі Напалеон** (Загорский Наполеон), дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання служыў у Панявежскім акруговым упраўленні, валодаў маёнткам Каралюнцы Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(295—1—1643—76адв.; 319—1—479—13; 320—1—398—133; 1416—3—21048—28; 1416—6—260; 1430—1—52163—399, 600)*.

2249. **Загорскі Уладзімір** (Загорский Владимир). Паходзіў з Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

2250. **Загорскі Францішак** (Загорский Франц), сын Міхала, памешчык Мінскага пав. Служыў у рас. войску, штабс-капітан. Да паўстання выйшаў у адстаўку, валодаў маёнткам у Лідскім пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны ў 1863 г. да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і бестэрміновай ссылкі на катаргу. Яго маці прадала ў 1863 г. маёнтак Шэпелі Мінскага пав. за даўгі Мінскаму прыказу грамадскай апекі *(295—1—1643—77; 299—1—577—518-543адв.; 319—1—479—13адв.; 320—1—398—124адв., 234адв., 260-262, 424; 320—2—98—36; 1416—3—21048—28; 1416—6—260; 1430—1—52163—399, 596б адв.)*.

2251. **Загорскі Юстын** (Загорский Устин). Паходзіў з Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

2252. **Задарноўскі Адам** (Задарновский Адам), дваранін Кобрынскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—13адв.)*.

2253. **Задзяркоўскі Адам** (Задерковский Адам), сын Яна, дваранін Брэсцкага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Шпіталі Брэсцкага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

2254. **Задзярэйка Вінцэнт** (Задерейко Викентий), мешчанін г. Ліды. За дачыненне да паўстання

прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—13; 1416—4—11416—87; 1430—1—52163—521)*.

2255. **Задзярэйка Ігнат** (Задерейко Игнатий), мешчанін г. Ліды. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—13; 1416—4—11416—87; 1430—1—52163—521)*.

2256. **Зайкоўскі Адам** (Зайковский Адам), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

2257. **Закрэўскі Густаў** (Закржевский Густав). Удзельнічаў у паўстанні, пасля эміграваў *(1430—1—52758—16адв.)*.

2258. **Закрэўскі Даніэль** (Закржевский Данила), сын Юзафа, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Пасля паўстання западозраны ў дапамозе паўстанцам, у 1865 г. трапіў пад следства. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 як «нявыкрыты па справе» прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі *(2601—1—29)*.

2259. **Закрэўскі Францішак** (Закржевский Франц). Служыў на грамадзянскай службе; тытулярны радца. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону пастулаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

2260. **Заленскі Аляксандр** (Заленский Александр), сын Юзафа, дваранін Полацкага пав., каталік. Да паўстання служыў неад'емным засядальнікам Полацкага земскага суда. Западозраны рас. уладамі ў тым, што 19.10.1861 спяваў «падбухторны гімн» у Полацкім дамініканскім касцёле, арыштаваны (да 29.05.1863). 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 13.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—28; 1430—1—52163—15адв., 393; 3046—2—3—31адв.-33; 3046—2—5—19)*.

2261. **Заленскі Ануфры** (Заленский Онуфрий). Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» і паводле распараджэння М. Мураўёва разам з *Давейкам Юзафам*, *Кучынскім Дамінікам*, *Лапіцкім Касперам* і *Яцкевічам Канстанцінам* 27.02.1864 адпраўлены з г. Полацка ў фартэцыю г. Дынабурга «на бязвыхаднае жыхарства пад асаблівы нагляд» да далейшага распараджэння *(1430—1—31370—82; 1430—1—31602—146)*.

2262. **Заленскі Апалінары** (Заленский Аполинарий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—30адв.-31)*.

2263. **Заленскі Раман** (Заленский Роман), сын Яна, дваранін. Нар. каля 1791 г. Абвінавачаны рас. уладамі ў «адхіленні старастаў в. Замошша ад заснавання сельскіх вартаў». Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 01.04.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару, потым у МагСК, якая 01.04.1864 скончыла яго справу і падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на волі *(3255—1—14—2адв.; 3257—1—14—4адв.-5)*.

2264. **Заленскі Фелікс** (Заленский Феликс), сын Ігната, ксёндз. Служыў у касцёле ў м. Антушы Рагачоўскага пав. Падчас паўстання арыштаваны Рагачоўскім павятовым паліцэйскім упраўленнем. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(1416—3—21048—28; 1430—1—52163—395; 1781—1—5602—61; 2514—1—2198—67адв.)*.

2265. **Залеская Анеля** (Залеская Анеля), дваранка. Да паўстання жыла ў *Лапацінскай Ганны*. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

2266. **Залеская Ганна** (Залесская Анна), памешчыца. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52163—194)*.

2267. **Залеская Ізабэла** (Залеская Изабелла), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9адв.)*.

2268. **Залескі Антоні** (Залеский Антон), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Касцюшышкі Троцкага пав. За «злачынныя намеры <...> ў цяперашнім польскім мяцяжы» сасланы (да 27.06.1863) у Вяцкую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. З яе трэба было спагнаць 362,35¾ руб., выдаткаваных на яго перасылку *(1416—6—274)*.

2269. **Залескі Ежы** (Залеский Георгий), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да

«адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

2270. **Залескі Ігнат** (Залеский Игнатий), памешчык Троцкага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—194; 2532—1—15—12)*.

2271. **Залескі Ігнат** (Залеский Игнатий), сын Францішка, брат *Юзафа*, дваранін Дынабургскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». На яго маёмасць 12.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.04.1864 накладаўся секвестр *(319—1—479—13адв.; 1416—3—21048—29; 1430—1—52163—182, 390адв., 1430—1—52163—419; 3257—2—2—14)*.

2272. **Залескі Фелікс** (Залесский Феликс), дваранін Вількамірскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ваеннага суда і канфірмацыяй Я. Майдэля прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства. Сасланы ў Аланецкую губ., адкуль пераселены ў в. Сарокі Кемскага пав. Архангельскай губ. У 1871 г. жыў у Архангельскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(319—1—479—13; 320—1—398—131адв.; 1416—4—11416—83; 1430—1—35146—125; 1430—1—52163—598адв.)*.

2273. **Залескі Фелікс** (Залесский Феликс). Да паўстання служыў малодшым лекарам 2 Сафійскага пяхотнага палка, калежскі асэсар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Енісейскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552; 2532—1—15—12)*.

2274. **Залескі Фларыян** (Залесский Флориан), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання арыштаваны, на яго маёмасць накладаўся секвестр, але ўжо ў 1863 г. вызвалены з-пад арышту і аддадзены на парукі *(162—1—116—166адв.; 295—1—1643—78)*.

2275. **Залескі Францішак** (Залесский Франц), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540)*.

2276. **Залескі Францішак** (Залеский Франц). Да паўстання служыў памочнікам наглядчыка па акцызных зборах Новааляксандраўскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16)*.

2277. **Залескі Юзаф** (Залеский Иосиф), сын Ігната, дваранін Магілёўскага пав. Да паўстання з 23.04.1860 арандаваў маёнтак Таргоншчына Магілёўскага пав. (гл. *Ганіпроўскі Леан*). Далучыўся да паўстанцкага атрада, за што яго рухомая маёмасць у Таргоншчыне (прадукты сельскай гаспадаркі, адзенне, посуд, хатнія жывёлы і інш.) на суму ў 273,63 руб. ср. 05.07.1863 апісана і секвестравана. 10.1864 знаходзіўся ў «невядомай адлучцы». Рухомасць канфіскавана і прададзена *(2001—1—280; 2001—2—124—14; 2003—2—19—19адв.)*.

2278. **Залескі Юзаф** (Залеский Иосиф), сын Францішка, брат *Ігната*, дваранін Дынабургскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». На яго маёмасць 12.09.1864 накладаўся секвестр *(319—1—479—13адв.; 1416—3—21048—28; 1430—1—52163—182, 390адв., 394адв.; 3257—2—2—14)*.

2279. **Залескі Ян** (Залеский Иван), ксёндз. Да паўстання служыў у Ашмянскім пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9)*.

2280. **Залескі Ян** (Залесский Иван), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—540; 2532—1—15—8)*.

2281. **Залеўскі Аляксандр** (Залевский Александр), шляхціц. Да паўстання жыў у Ляльскай парафіі Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці

і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—13; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

2282. **Залеўскі Уладзіслаў** (Залевский Владислав), сын Паўла, муж Адаліі, мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы з пазбаўленнем правоў стану. 19.09.1884 у г. Краснаярску атрымаў амністыю і дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі без паліцэйскага нагляду. 09.1885 выехаў з сям'ёй з Брэсцкага пав. у г. Мінск на сталае жыхарства. 10.1885 прыпісаўся да мяшчанаў Мінска *(295—1—4074)*.

2283. **Залеўскі Францішак** (Залевский Франц), мешчанін заштатнага г. Ганёндза Каралеўства Польскага. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—13адв.)*.

2284. **Залівака Тэафіл** (Заливако Теофил), сын Тадэвуша, дваранін Люцынскага пав. Жыў у маёнтку Лаборы Рэжыцкага пав. памешчыка Лотгафта. За дачыненне да падзей паўстання ў маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. памешчыцы *Ліпскай Аліны* 10.06.1864 арыштаваны і зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 14.06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і 06.1864 высланы на жыхарства ў Аланецкую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 накладаўся секвестр *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—28адв.; 1430—1—31583—149—152, 155-157; 1430—1—34981; 1430—1—52163—400, 617)*.

2285. **Залускі Генрык** (Залуский Генрих), граф, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Чаі Бельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?); яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 02.08.1863 і пастановы ГГП ад 22.08.1863 *(1416—6—222)*.

2286. **Замацкі Фелікс** (Замацкий Феликс), сын Вінцэнта, дваранін Слуцкага ці Барысаўскага пав., каталік. Западозраны ў агітацыі сялянаў уступіць у паўстанцкі атрад, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(162—1—116—166; 296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.; 1524—1—1—5)*.

2287. **Замбрыцкі Антоні** (Замбржицкий Антон), сын Габрыэля, муж Францішкі, дваранін Сенненскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні яго рухомая маёмасць (вопратка) на суму ў 33 руб. ср., якая знаходзілася ў фальв. Янава Магілёўскага пав., на падставе ўказа МагГП ад 31.05.1863 секвестравана 05.07.1863. Паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2003—2—19; 2514—1—2198—67адв.)*.

2288. **Замбрыцкі Ігнат** (Замбржицкий Игнатий), дваранін. Западозраны МагСК у дачыненні да паўстання, за што яго рухомая маёмасць у г. Магілёве (адзенне, мэбля і інш.) на суму ў 0,83 руб. ср. 06.1863 апісана і секвестравана. Паводле пастановы МагГГ ад 25.09.1863 секвестр здымаўся. МагГП 31.10.1863 выдала адпаведны ўказ *(2003—1—387)*.

2289. **Замбрыцкі Казімір** (Замбржицкий Казимир), сын Паўла, дваранін Слуцкага пав., каталік. Да паўстання жыў у маёнтку Старчыцы Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, схоплены жыхарамі м. Цімкавічы Слуцкага пав. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2; 1524—1—1—5)*.

2290. **Замбрыцкі Францішак** (Замбржицкий Франц), сын Вінцэнта, дваранін Мінскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.)*.

2291. **Занковіч Ваўрынец** (Занкович Лаврентий), сын Тамаша, дваранін, каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам у Віцебскім павятовым судзе, калежскі рэгістратар. 21.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Потым вярнуўся ў Віцебск, 04.05.1863 з'явіўся на службу, дзе знаходзіўся да канца ліпеня. 08.1863 арыштаваны. Паводле ўказа ВГП ад 23.08.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 21.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах 6 гадоў *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—575адв.; 1416—3—21048—28; 1430—1—31259—22, 34, 40адв.; 1430—1—52163—242адв., 395адв.; 2003—1—433—1; 2616—1—40—60; 3046—2—3—30адв.-31; 3046—2—5—19)*.

2292. **Занковіч Францішак** (Занкович Франц), дваранін Лепельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—13адв.; 1430—1—52163—182)*.

**Зантыр Юзаф** — гл. **Шантыр Юзаф**

2293. **Занямойскі Андрэй** (Занемойский Андрей), сын Станіслава, мешчанін Ковенскай губ. За-

падозраны ў дачыненні да паўстання ў Магілёўскай губ. і арыштаваны. Яго рухомая маёмасць (адзенне, пасцельная бялізна і інш.) на суму ў 14,62 руб. у Рагачоўскім (?) пав. 23.07.1863 апісана, секвестравана і да 21.12.1863 прададзена разам з маёмасцю *Савіцкага Аляксандра*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—13; 320—1—398—224, 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 2003—2—43; 3257—2—2—14).*

2294. **Запаснік Аляксандр** (Запасник Александр), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. *(1430—1—52163—201).*

2295. **Запаснік Аляксандр** (Запасник Аляксандр), дваранін Лідскага пав. Валодаў зямельнымі надзеламі ў ваколіцах Лідскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—13; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126).*

2296. **Запаснік Баніфацы** (Запасник Бонифаций), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. *(1430—1—52163—201).*

2297. **Запаснік Пётр** (Запасник Петр), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. *(1430—1—52163—201).*

2298. **Запольскі Людвік** (Запольский Людвиг), сын Фердынанда (калежскага асэсара) і Евы Юзафаўны, дваранін Ковенскай ці Віцебскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Яго бацька валодаў домам у г. Віцебску і маёнткам у Віцебскім пав. Падтрымаў захоп паўстанцамі 24.04.1863 г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Потым арыштаваны. Прызначаны (каля 04.1864) пастановай следчай камісіі да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. На маёмасць бацькі накладзена забарона. Маці 03.01.1866 падала віленскаму генерал-губернатару К. фон Каўфману прашэнне аб вяртанні яго на радзіму альбо дазволе паступіць на грамадзянскую ці ваенную службу на месцы ссылкі, якое было адхілена *(1416—3—21048—28; 1430—1—31604—610-612; 1430—1—52163—196, 427, 723адв.; 2514—1—2198—67адв.; 3257—1—53—2; 3286—2—1—4).*

2299. **Зараховіч Ігнат** (Зарахович Игнат), шляхціц Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—13адв.; 1416—4—11416—115адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

2300. **Зарніцкі Міхал** (Зарницкий Михаил), сын Юзафа, незацверджаны дваранін Мінскага пав. Прызнаны вінаватым у дачыненні да паўстання *(320—1—398—423).*

2301. **Зарэмба Аляксандр** (Заремба Александр), памешчык Люцынскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Потым з'яўлялся міравым пасярэднікам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 04.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Пензу *(1430—1—52163—316-317, 608адв.; 1430—1—52285—58адв.).*

2302. **Зарэмба-Уладычанскі Мікалай** (Зарембо-Владычанский Николай), сын Сымона, дваранін Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. 09.1869 пераведзены пад нагляд паліцыі з Цвярской у Архангельскую губ. *(2003—1—372—234, 237, 240-247, 255; 2514—1—2198—67).*

2303. **Зарэцкі Антоні** (Заржецкий Антон), сын Юзафа ці Леана, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гараўцы Полацкага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. На яго маёмасць 14.11.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 23.09.1863 і ўказа ВГП ад 05.10.1863 накладзены секвестр. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863, Гараўцы падлягалі вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага 20-працэнтнага збору *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—28адв., 29; 1416—4—11416—285, 289адв.; 1430—1—31583—56-57, 405адв., 430, 443адв., 447, 571; 1430—1—52163—616адв., 820; 3046—2—5—19адв.).*

2304. **Зарэцкі Міхал** (Заржецкий Михаил), сын Юзафа, незацверджаны дваранін Навагрудскага (?) пав. Да паўстання працаваў сталярам у г. Мінску, у яго служыў падмайстрам *Тамковіч Ян*. Агітаваў

некалькіх асоб у Мінску далучыцца да паўстання і намераваўся ўступіць у паўстанцкі атрад, за што 22.04.1863 арыштаваны. Зняволены пры паліцэйскім упраўленні. Загадам М. Мураўёва ад 22.05.1863 аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.06.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Секвестравана яго маёмасць на 10,6 руб. *(295—1—1576—1-6, 14-18; 295—1—1643—75, 75адв.; 320—1—398—124, 234адв.; 320—2—98—36; 1430—1—52163—596б).*

2305. **Зарэцкі Юзаф** (Заржецкий Иосиф), сын Мацея, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 04.09.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару, потым у МагСК, якая 13.08.1864 скончыла яе. Быў пад судом у МагВСК *(3257—2—2—14; 3257—2—8—6).*

2306. **Засімоўскі Караль** (Зосимовский Карл). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21адв.; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.).*

**Заўлятоўскі Станіслаў** — гл. **Завістоўскі Станіслаў**

2307. **Захараў Павел** (Захаров Павел), сын Фамы Аляксандравіча, дваранін Мінскай губ., праваслаўны. Да паўстання вучыўся ў 5 класе Мінскай гімназіі. 04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада каля г. Мінска пад камандаваннем *Трусава Антона*. Пасля рассеяння аатрада хаваўся ад рас. уладаў. 09.12.1863 піў гарэлку ў карчме Славесці каля Мінска з *Асавецкім Антоніем* і ў нецвярозым стане пачаў агітаваць сялянаў далучыцца да паўстання. Схоплены і дастаўлены ў Мінскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне, па дарозе ў Мінск некалькі разоў спрабаваў уцячы. Зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 25.01.1864. Канфірмацыяй А. Патапава ад 10.08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Томскую губ. *(162—1—116—140, 156, 166; 295—1—1585—5-6; 296—1—90—13адв.-14; 320—1—398—568, 644; 1430—1—52163—535).*

2308. **Захараў Раман** (Захаров Роман), сын Яна, селянін, праваслаўны. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам маёнтка Сенна Навагрудскага пав. памешчыкаў Пуслоўскіх (гл. *Пуслоўскі Адам*). 05.04.1863 увайшоў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку ў астрогу, дзе знаходзіўся яшчэ 07.09.1863. Потым утрымліваўся ў г. Мінску, знаходзіўся пад следствам у МСК. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір, з Мінска накіраваны ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—1585; 295—1—2420—11; 295—1—2725—10; 296—1—296—3).*

2309. **Захаркевіч Юзаф** (Захаркевич Иосиф), сын Юзафа, брат Вінцэнта, незацверджаны дваранін Дынабургскага пав., каталік. Нар. каля 1831 г. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Зняволены ў г. Дынабургу, знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Канфірмаванай пастановай ЧПА прызнаны вінаватым у «нядобранадзейных разважаннях з сялянамі пра польскае паўстанне і прамаўленні дзёрзкіх словаў пра Свяшчэнную Асобу Гасудара Імператара» і прысуджаны да ссылкі з сям'ёй на пасяленне на казённых землях у Томскую губ.; яго маёмасць падлягала продажу з публічнага аўкцыёну для пакрыцця выдаткаў казны на перасылку. 13.08.1864 перададзены ў распараджэнне начальніку Дынабургскай каманды ўнутранай варты для высылкі па прызначэнні. У 1875 г. атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц і сталічных губ., і права паступаць на дзяржаўную службу *(1416—3—21048—29; 1416—4—11416—34-37, 45; 1430—1—33661; 1430—1—35834—102; 1430—1—52163—507-508; 3046—2—5—19адв.).*

2310. **Захарэвіч Васіль** (Захаревич Василий). Да паўстання служыў пісарам у Нацкай вол. Лепельскага пав., губернскі сакратар. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Аддадзены пад ПВС, па справе праходзіў разам з *Чаховічам Аўгустам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.11.1866 прызнаны вінаватым у «неналежным выкананні сваіх абавязкаў», з-за чаго ў абывацельскія кнігі не быў унесены фальв. Слаўны Кут, дзе жыў «палітычны злачынца» *Чэрняк Максімільян*, і не ўнесена прыслуга памешчыка *Шастоўскага Юзафа*. Прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на службу на радзіме і штрафам у 50 руб. ср. *(1416—4—11782).*

2311. **Захарэвіч Ігнат** (Захаревич Игнатий), сын *Тадэвуша*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «дальнія губерні». 26.05.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы з радзімы «адміністра-

цыйным парадкам» у Томскую губ. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў з сям'ёй у вак. Суцін Ігуменскага пав. *(295—1—3026—31; 295—1—3492—67адв., 83; 1418—3—1—30адв.-31).*

2312. **Захарэвіч Казімір** (Захаревич Казимир), сын Феліцыяна, брат *Тадэвуша*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць у 40 дзес. зямлі, якімі ён валодаў на правах суспадчынніка, прададзена пры высылцы *(296—1—89—104-106).*

2313. **Захарэвіч Разалія** (Захаревич Розалия), дачка Вінцэнта, жонка *Тадэвуша*, дваранка Ігуменскага пав., каталічка. Да паўстання жыла ў вак. Суцін Ігуменскага пав. Абвінавачана ў «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах», арыштавана. Знаходзілася пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначана да высылкі ў «дальнія губерні». 26.05.1864 яе справа пададзена ЧВГМГ. Разам з мужам саслана. Пасля амністыі вярнулася на радзіму, 12.1876 жыла з мужам у вак. Суцін *(295—1—2420—8; 295—1—3026—31; 1418—3—1—30адв.-31).*

2314. **Захарэвіч Тадэвуш** (Захаревич Фадей), сын Феліцыяна, брат *Казіміра*, муж *Разаліі*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «дальнія губерні». 26.05.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Разам з жонкай, сынамі Вінцэнтам, *Ігнатам* і Казімірам і дочкамі Схаластыкай і Юзэфай у 1864 г. высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (31 дзес. 400 саж.) канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 жыў з жонкай у вак. Суцін, дзе з'яўляўся найманым работнікам *(295—1—2420—8; 295—1—3026—31; 320—2—98—3адв., 9адв., 70адв., 117-118; 1418—3—1—30адв.-31).*

2315. **Захарэвіч Філіп (Фелікс)** (Захаревич Филип (Феликс)), сын Іаахіма Паўлавіча, дваранін Лепельскага пав. Нар. 12.01.1823. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21, 23).*

2316. **Захарэўскі Напалеон** (Захаржевский Наполеон), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

2317. **Захватовіч Вінцэнт** (Захватович Викентий), сваяк *Уладзіміра*, памешчык Лідскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Варонежскую губ. пад нагляд паліцыі. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.; 2532—1—15—12адв.).*

2318. **Захватовіч Станіслаў** (Захватович Станислав), памешчык Лідскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» у Варонежскую губ. на жыхарства пад нагляд паліцыі *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

2319. **Захватовіч Уладзімір** (Захватович Владимир), сваяк *Вінцэнта*, памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12адв.).*

2320. **Захоўскі Ян** (Заховский Иван), шляхціц Астраленскага пав. Плоцкай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—183).*

2321. **Заштаўт Валяр'ян** (Заштовт Валериан). Да паўстання служыў станавым прыставам у Лідскім пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149).*

2322. **Заштаўт Зыгмунт** (Заштофт Сигизмунд). Да паўстання служыў радцам МГП; надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», звольнены (да 01.06.1864) са службы і высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Тамбоў *(295—1—1643—76; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

2323. **Заштаўт Напалеон** (Заштовт Наполеон), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—13).*

2324. **Заштаўт Фелікс** (Заштофт Феликс), дваранін Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

2325. **Заштаўт Францішак** (Заштовт Франц), дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання

жыў з бацькамі ў фальв. Волішкі. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у батальёны Амурскага краю рас. войска. На месца ссылкі прыбыў *(295—1—1643—77; 319—1—479—13; 320—1—398—133; 1416—3—21048—28адв.; 1416—4—11416—236-237; 1430—1—52163—398, 600).*

2326. **Заштаўт Юльян** (Заштовт Юлиан), дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Антонішкі Новааляксандраўскага пав. памешчыка Клёта. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(295—1—1643—77; 320—1—398—133; 1416—3—21048—28адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—399адв., 600).*

2327. **Заянчкоўскі Адам** (Заиончковский Адам), сын Казіміра, памешчык Кобрынскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яго маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174-175адв.).*

2328. **Заянчкоўскі Геранім** (Заиончковский Иероним), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у м. Леўкішкі Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—13).*

2329. **Заянчкоўскі Дыянізі** (Заиончковский Дионисий). Нар. каля 1832 г. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым землямерам. Падчас паўстання ўцёк за мяжу, каб злучыцца з атрадамі паўстанцаў, якія там фарміраваліся; не вярнуўся на радзіму. У 1875 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі асуджаны завочна на пазбаўленне правоў стану і вечнае выгнанне, у выпадку самавольнага вяртання — да ссылкі на пасяленне ў Сібір *(1430—1—35834—98).*

2330. **Заянчкоўскі Марцін** (Заиончковский Мартин), сын Міны, селянін Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 24.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады. Адпраўлены (да 31.07.1864) на месца ссылкі *(1416—3—21048—28адв., 35адв.; 2514—1—2198—67адв.; 2616—1—40—63; 3046—2—3—32адв.-33; 3046—2—5—19адв.).*

2331. **Заянчкоўскі Фабіян** (Заиончковский Фабиан), дваранін Сенненскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 25.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—32; 3255—1—14—2адв.).*

2332. **Заянчкоўскі Юзаф** (Заиончковский Иосиф), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195адв.).*

**Збагемскі N.** — гл. **Сбугемскі N.**

2333. **Збарашэўскі Юзаф** (Збарашевский Иосиф), сын Францішка, памешчык. За ўдзел у паўстанні на маёнтак Плотніца Пінскага пав., які належаў яго маці, паводле ўказа МГП ад 06.09.1863 накладзена забарона. У 1864 г. прысуджаны да 3-месячнага арышту *(295—1—1643—78адв.; 296—1—89—17адв.).*

**Збароўскі Севярын** — гл. **Забароўскі Севярын**

2334. **Звяждоўскі**[81] **Людвік** (Звеждовский Людвиг), дваранін. Служыў у рас. войску, меў чын капітана Генеральнага штаба. Валодаў домам у г. Вільні. Перад паўстаннем знаходзіўся пэўны час у *Міткевіча Здзіслава.* Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Тапор у якасці камандзіра атрада ў Горацкім і Чэрыкаўскім пав., куды ўваходзілі *Альшэўскі Юзаф, Акшэўскі Адам, Антановіч Юзаф, Арцімовіч Міхал, Афанасовіч Каятан, Балбашэўскі Рамуальд, Бараноўскія Андрэй* і *Парфіры, Беразінскі Мікалай, Блажаеўскі Рышард, Брадоўскі Юзаф, Бразінскі Мечыслаў, Бразоўскі Адольф, Браўн Тэадор, Булгарын Юзаф, Бурскі Войцех, Бучынскі Станіслаў, Вінкевіч Уладзіслаў, Віскоўскія Адольф* і *Станіслаў, Віслоцкі Вацлаў, Вярніцкі Аляксандр, Гародка Францішак, Гаціскі Баляслаў, Гладкоўскі Аляксандр, Грушэцкі Валяр'ян, Дамарацкі Войцех, Даніловіч Антоні, Дзердзяеўскі Эдмунд, Дзя-*

[81] У некаторых дакументах прозвішча памылкова падаецца як Жвіржкоўскі (Жвирждовский) і Жвыржкоўскі (Жвырждовский).

*конскі Караль*, *Дубовік Ігнат Ян*, *Дэмбскі Юзаф*, *Жукоўскія Баляслаў* і *Ян Алаізі*, *Заблоцкі Ануфры*, *Запольскі Людвік*, *Зелянеўскі Казімір*, *Казак Георг*, *Казела Павел*, *Казлоўскі Антоні*, *Канаплёў Ян*, *Кілдыш Данат*, *Козел Яўстах*, *Коўзан-Даўнаровіч Людвік*, *Крысталовіч Ян*, *Кудрэвіч Пётр*, *Лагонскі Юзаф*, *Ламановіч Юзаф*, *Лапа Юзаф*, *Лятасковічы Юзаф* і *Яўген*, *Маліноўскі Юзаф*, *Манюшка Юзаф*, *Маргульц Стэфан*, *Мацкевіч Рыгор*, *Мерла Ігнат*, *Нітаслаўскі Мікалай*, *Падмостка Станіслаў*, *Парфяновіч Францішак*, *Пячора Эдвард*, *Рабей Уладзімір*, *Рагінскі Эдвард*, *Раднеўскі Браніслаў*, *Развадоўскі Норберт*, *Рапацкі Канстанцін*, *Расткоўскі Эразм*, *Рутайціс Нікадым*, *Савіцкі Уладзіслаў*, *Стампкоўскі Казімір*, *Струміла Антоні*, *Суліма-Самуйла Баляслаў*, *Сурыны Пётр* і *Феліцыян*, *Схнэйдэр Ян*, *Сянажэнцкі Казімір*, *Тарасевіч Сільвестр Францішак*, *Таўрагінскі Уладзіслаў*, *Хадыка Тэадор*, *Хампкоўскі Юзаф*, *Хароўскі Адам*, *Хрусцевіч Францішак*, *Цытовіч Леанард*, *Чарвінскі Раймунд*, *Шульц Уладзіслаў*, *Шэмет Аляксандр*, *Янкоўскія Канстанцін* і *Міхал*, *Ястрэмбскія Адам* і *Ян* і інш. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 24.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 320—1—398—197; 1416—6—270; 1430—1—52163—125; 3256—2—48; 3366—1—5—13-14)*.

2335. **Звяровіч Адольф** (Зверович Адольф), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—13; 320—1—398—221адв.)*.

2336. **Звяровіч Аляксандр** (Зверович Александр), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дуцішкі Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дастаўцы праз *Пілецкага N.* паўстанцам у лес адзення і харчавання. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 08.08.1863. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—203; 1416—6—274; 1430—1—52285—8; 2532—1—15—12)*.

**Згаражэльскі Эдвард** — гл. **Згарэльскі Эдвард**

2337. **Згарэльскі (Згаражэльскі) Эдвард** (Згоржельский (Згорожельский) Эдуард), сын Віктара, дваранін Рэчыцкага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам Мінскага павятовага паліцэйскага упраўлення. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, у 1863 г. арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме г. Мінска паводле загаду ЧВГМГ ад 21.09.1863. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—78, 80адв.; 296—1—90—6адв.-7; 319—1—479—13адв.; 1430—1—52163—167адв.)*.

2338. **Здановіч Гіляры** (Зданович Гилярий), сын Ануфрыя, дваранін Магілёўскай губ. ці Барысаўскага пав. Нар. каля 1817 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Западозраны ў дапамозе паўстанцам і сувязях з імі, арыштаваны. 01.05.1863 зняволены на барысаўскай гаўптвахце, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў Смаленскую губ., адкуль 06.1881 прыбыў на радзіму ў м. Халопенічы Барысаўскага пав., дзе хадайнічаў аб дазволе на падаўжэнне тэрміну знаходжання ў сувязі з хваробай *(295—1—1527—108; 295—1—1643—76; 295—1—3492—35адв.-36; 319—1—479—13адв.; 320—1—398—223)*.

2339. **Здановіч Ігнат** (Зданович Игнатий), дваранін Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—13; 320—1—398—198, 221адв.; 1430—1—52163—126адв.)*.

2340. **Здановіч Рыгор** (Зданович Григорий), дваранін. Абвінавачаны ў перадачы паўстанцам звестак пра перасоўванне рас. войскаў, арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—75)*.

2341. **Зданоўскі Казімір** (Здановский Казимир), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—13; 1430—1—52163—521)*.

2342. **Зданоўскі Фердынанд** (Здановский Фердинанд), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў в. Разенталь Рэжыцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». Сасланы ў Пермскую губ. *(296—1—25—105, 109адв.; 1416—3—21048—29; 1430—1—31583—31-32, 54-55; 1430—1—52163—422адв., 616адв.)*.

2343. **Здзітавецкі Адам** (Здзитовецкий Адам). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) з Гродзенскай у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201адв.).*

2344. **Здор (Здора) Пётр** (Здор (Здора) Петр). Да паўстання служыў пісарам у маёнтку Альбрэхтава (Альбертава) Пінскага пав. памешчыка Скірмунта. Падчас паўстання западозраны ў хаванні зброі і разам з ключнікам *Міклашэўскім N.* і аканомам *Рудзіцкім N.* арыштаваны (да 07.06.1863). Утрымліваўся ў астрогу ў г. Пінску. Яго справа 24.06.1863 перададзена ў МСК, якая, у сваю чаргу, вынесла рашэнне і 16.07.1863 падала яе МГГ, а той 24.07.1863 — да ЧВГМГ *(295—1—1587).*

2345. **Здрадоўскі N.** (Здрадовский N.). Служыў на рас. грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

2346. **Здраеўскі Пётр** (Здроевский Петр), сын Клімента, дваранін. Нар. каля 1819 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. З 1861 г. кіраваў маёнткам Русінава Сенненскага пав. памешчыкаў Уладзіслава і Эміліі (нар. Ваўрэцкай) Мінейкаў. Западозраны ў агітацыі сялян удзельнічаць у паўстанні. Паводле пастановы СенСК ад 21.08.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр, аднак у Сенненскім пав. яе знойдзена не было. Разам з *Юльянам* з 30.06.1863 знаходзіўся пад следствам у АСК, потым у МагСК, якая 07.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства жыў пад наглядам паліцыі ў Сененнскім пав. *(2003—1—395; 3257—1—14—3адв.-4, 11адв.-12; 3257—1—17—3адв.-4).*

2347. **Здраеўскі Эмерык** (Здроевский Эмерик), дваранін Віленскага пав. Яго бацькі валодалі маёнткам у Дзісенскім пав. Да паўстання з'яўляўся слухачом Маскоўскага ўніверсітэта. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

2348. **Здраеўскі Юльян** (Здроевский Юлиан), сын Антонія, памешчык. Нар. каля 1809 г. Служыў на ваеннай службе, маёр. Да паўстання валодаў маёнткам Шуплоўшчына Лепельскага пав. і маёнткам Гілі Сенненскага пав. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі сялянаў удзельнічаць у паўстанні. На Шуплоўшчыну 01.04.1864 на падставе ўказа ВГП ад 18.12.1864 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. На Гілі секвестр накладзены 19.10.1863 і зняты ў 1865 г. Разам з *Пятром* з 30.06.1863 знаходзіўся пад следствам у АСК, потым у МагСК, якая 07.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства жыў пад наглядам паліцыі ў Сенненскім пав. *(1430—1—52163—431адв., 449адв., 822; 2189—1—470; 3257—1—14—3адв.-4, 11адв.-12; 3257—1—17—3адв.-4).*

2349. **Зельміц Уладзімір** (Зельмиц Владимир). Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Яго рухомая маёмасць у 50,2 руб. секвестравана *(162—1—116—38, 40; 296—1—25—88; 320—1—398—196адв., 198; 1430—1—52163—126).*

2350. **Зелянеўскі Казімір** (Зеленевский Казимир), сын Якуба і Разаліі Жыромскай, селянін Навагрудскага пав., каталік. Нар. 02.03.1843 у двары Трацавічы Навагрудскага пав., хр. 20.03.1843 у Паланечкаўскім касцёле. Запісаны ў склад дваравых людзей маёнтка Трацавічы. 25.02.1862 атрымаў ад уладальніка маёнтка Францішка Вінцэнтавіча Прыгодскага дазвол на паступленне ў горацкія навучальныя ўстановы. Да паўстання вучыўся ў павятовым вучылішчы ў г. Горках. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка.* Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—7, 167-169).*

2351. **Зелянеўскі Тадэвуш** (Зеленевский Фаддей), дваранін. Служыў у рас. войску, узнагароджаны медалём на памяць пра Крымскую вайну 1853–1856 гг., выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам ва Ушыцкім пав. Падольскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве, канфірмаванай 29.01.1867 А. Безакам, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, медаля, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Пермскую губ. са спагнаннем 84,33 руб., выдаткаваных на вядзенне яго справы *(1416—4—11416—348).*

2352. **Зелянеўскі Францішак** (Зеленевский Франц), аднадворац Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—13; 320—1—398—224).*

2353. **Зеляновіч Юстын** (Зеленович Устин), дваранін. Да паўстання служыў пісцом расіенскага павятовага страпчага. Падчас паўстання за-

падозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15).*

2354. **фон Зігерн-Корн Іпаліт** (фон Зигерн-Корн Ипполит), сын Ксаверыя, брат Міхала і *Яна*, памешчык. Да паўстання сумесна з братамі валодаў маёнткамі Замосце (544 дзес. зямлі, сад, 2 карчмы, 717 руб. гадавога прыбытку) і Пурвіны (1011 дзес. зямлі, сад, 2 карчмы, 2551 руб. гадавога прыбытку) Рэжыцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе патрабавання Віцебскай ПДМ ад 12.06.1863 і распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 (альбо 04.06.1863) накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(320—1—398—134; 1416—3—21048—48; 1430—1—52163—19, 215адв.-216, 422, 455, 567адв., 596, 666адв., 826; 2616—1—40—10адв., 12).*

2355. **фон Зігер-Корн Уладзіслаў** (фон Зигерн-Корн Владислав), сын Яна, дваранін. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Карапаль (Караполле) Рэжыцкага пав., а маці — маёнткам Цырма Люцынскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». На маёмасць бацькоў накладзены секвестр, а потым забарона *(320—1—398—134; 1416—3—21048—48; 1430—1—52163—20, 419адв., 421адв., 596, 666адв.; 2616—1—40—12).*

2356. **фон Зігерн-Корн Ян** (фон Зигерн-Корн Иван), сын Ксаверыя, брат *Іпаліта* і Міхала, памешчык. Да паўстання разам з братамі валодаў маёнткамі Замосце (544 дзес. зямлі, сад, 2 карчмы, 717 руб. гадавога прыбытку) і Пурвіны (1011 дзес. зямлі, сад, 2 карчмы, 2551 руб. гадавога прыбытку) Рэжыцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 альбо 04.06.1863 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—28адв., 48; 1430—1—52163—152, 214адв.-215, 230адв., 422, 567адв.).*

2357. **Зімаровіч Павел** (Зиморович Павел), селянін Суражскага пав. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у маёнтку Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—104адв.).*

**Зінкевіч Казімір** — гл. **Зянкевіч Казімір**

**Зінкевіч Юзаф** — гл. **Зянковіч Юзаф**

**Зінковіч Сільвестр** — гл. **Зяньковіч Сільвестр**

2358. **Змачынскі Сымон** (Змачинский Семен), «сельскі жыхар». За дачыненне да паўстання арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 08.01.1864) да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Кастрамскую ці Яраслаўскую арыштанцкую роту. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—75, 76; 320—1—398—161).*

**Змачынскі Ян** — гл. **Жмачынскі Ян**

2359. **Змечароўскі Ігнат** (Змечеровский Игнатий), каталік. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам у Магілёўскім пав. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» у 1863 г. звольнены са службы. У 1866 г. жыў ва ўласным маёнтку ў Магілёўскім пав. *(2003—2—96—45, 54).*

2360. **Змечароўскі Фелікс** (Змечеровский Феликс), сын Юзафа, памешчык Магілёўскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Потым утрымліваўся ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 01.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу, пасля — пад судом у МагВСК *(3257—1—17—8адв.-9; 3257—2—2—14; 3257—2—8—6; 3366—1—5—5адв.).*

2361. **Змечароўскі (Змічароўскі) Эдвард** (Змечеровский (Змичеровский) Эдуард), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у в. Арэшкавічы Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў атрадзе паўстанцаў, да 01.05.1863 вярнуўся на месца жыхарства. За тое, што не меў дакументаў пра з'яўленне да рас. уладаў, 03.1864 арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў «дальнія губерні». 17.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(295—1—1690; 1418—3—1—30адв.-31).*

2362. **Змітровіч Базыль** (Змитрович Василий), мешчанін. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. Высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС *(295—1—1643—78адв., 80).*

2363. **Змітровіч Казімір** (Змитрович Казимир), сын Калікста, мешчанін Ігуменскага пав., каталік.

Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 14.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—30адв.-31)*.

**Змічароўскі Эдвард** — гл. **Змечароўскі Эдвард**

2364. **Знамяроўскі Аўгустын** (Знамеровский Августин), сын Юзафа, дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Верхняя Вавёрка Лідскага пав. Паўстанцы забралі дзяцей Яна Гарасімовіча, якія знаходзіліся ў яго на навучанні, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

2365. **Знамяроўскі Леапольд** (Знамеровский Леопольд), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 25.08.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(319—1—479—13; 1416—4—11416—131, 174-175адв.; 1430—1—52163—521)*.

2366. **Знамяроўскі Фаўстын** (Знамеровский Фаустин). Да паўстання арандаваў зямлю ў Новааляксандраўскім (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2367. **Знамяроўскі Фелікс** (Знамеровский Феликс), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—19адв.)*.

2368. **Знарок Карп** (Знорок Карп), сын Фёдара, селянін. Нар. каля 1847 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Пышнагоры Лепельскага пав. *Камёнкаў Ігната* і *Францішка*, дзе жыў да паўстання. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—94адв., 102)*.

2369. **Зноска Ігнат** (Зноско Игнатий). Паходзіў з Віленскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

**Зубровіч Тэадор** — гл. **Зубрэвіч Тэадор**

2370. **Зуброўскі Вінцэнт** (Зубровский Викентий), шляхціц Лідскага пав. Да паўстання валодаў домам у вак. Асіпаўцы Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—13; 1430—1—52163—530)*.

2371. **Зуброўскі Іпаліт** (Зубровский Иполит), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання валодаў 2 драўлянымі дамамі ў г. Гродна і зямлёй у в. Кульбакі Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

2372. **Зубрэвіч Караль** (Зубревич Карл), сын Мацея, дваранін Лепельскага пав. Нар. 03.11.1815. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21, 23)*.

2373. **Зубрэвіч (Зубровіч) Тэадор** (Зубревич (Зубрович) Феодор (Федор)), сын Фларыяна, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання служыў аканомам фальв. Магілкі Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў распаўсюджванні сярод сялянаў «шкодных чутак» альбо ў «нанясенні пагроз сельскім вартам». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 08.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва «адміністрацыйным парадкам» 01.11.1863 высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Казань. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—3—21048—28адв.; 1430—1—35146—124, 145; 1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—5адв., 43адв.; 3046—2—3—30адв.-31; 3046—2—5—19)*.

**Зэге-Мантэйфэль Рышард** — гл. **Мантэйфэль-Зэге Рышард**

**Зэге-Мантэйфэль Ян** — гл. **Мантэйфэль-Зэге Ян**

2374. **Зябіцкі Генрык** (Зябицкий Генрих), сын Савелія, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны ў «нядобранадзейнай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 02.03.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў, пастановай якога пазбаўляўся пакарання з аддачай пад нагляд паліцыі на месцы жыхарства *(1430—1—52163—634)*.

2375. **Зябіцкі Юзаф** (Зябицкий Иосиф), сын Ксаверыя, дваранін Себежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—13адв.;*

*320—1—398—134; 1416—3—21048—28; 1430—1—52163—421адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.).*

2376. **Зяленка Рышард** (Зеленко Ричард), дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Вучыўся ў таксатарскіх класах пры гімназіі ў г. Віцебску. За захоўванне «рукапісных твораў падбухторнага зместу» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 19.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прызначаны да 4-месячнага зняволення ў Дынабургскай фартэцыі і вяртання потым на месца жыхарства на паруki. 02.03.1864 адпраўлены ў г. Дынабург *(1430—1—31602—145; 3046—2—3—31адв.-32; 3046—2—5—19адв.).*

**Зяленскі Антон** — гл. **Зялінскі Антон**

2377. **Зяленскі Марцін** (Зеленский Мартын). Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

2378. **Зяленскі Юзаф** (Зеленский Иосиф). Служыў засядальнікам Полацкага павятовага суда. Як «падазроны ў нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы А. Патапава ад 20.03.1865 звольнены з забаронай пастyпаць на дзяржаўную службу ў «Паўночна-Заходнім краі» *(160—2—680—55).*

2379. **Зялёнка Базыль** (Зелионко (Зеленко) Василий), сын Яна, праваслаўны. Да паўстання служыў у Лепельскім магістраце, губернскі сакратар. Западозраны рас. уладамі ў «зланамерных дзеяннях супраць урада», арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым у спачуванні паўстанню і 31.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 28.01.1864 высланы з Лепеля ў г. Віцебск. На яго маёмасць 31.03.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 18.01.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—28адв.; 1430—1—31602—18-24; 1430—1—52163—400адв.; 3046—2—3—30адв.-31; 3046—2—5—19).*

2380. **Зялінскі (Зяленскі) Антон** (Зелинский (Зеленский) Антон), сын Станіслава ці Сцяпана, брат *Лук'яна*, дзядзька *Пятра* і *Яна*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Багушэўскай сельскай грамады Навагрудскага пав. Рашэннем ЧПА, канфірмаваным А. Патапавым 03.11.1864, прызнаны вінаватым у прыняцці паўстанцаў у сваім доме і забеспячэнні іх харчаваннем і прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 3 гады ў Калужскую арыштанцкую роту. Высланы з радзімы разам з братам і пляменнікамі *(160—2—682—26; 162—1—122—4; 295—1—1643—75адв.; 295—1—2725—32; 534—1—14—14).*

2381. **Зялінскі Вінцэнт** (Зелинский Вицентий), мешчанін Астраленцкага пав. Плоцкай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—168).*

2382. **Зялінскі Лук'ян** (Зелинский Лукьян), сын Станіслава ці Сцяпана, брат *Антона*, бацька *Пятра* і *Яна*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Багушэўскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання разам з братам і сынамі высланы з радзімы *(295—1—2725—32).*

2383. **Зялінскі Пётр** (Зелинский Петр), сын *Лук'яна*, пляменнік *Антона*, брат *Яна*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Багушэўскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання разам з бацькам, дзядзькам і братам высланы з радзімы *(295—1—2725—32).*

2384. **Зялінскі Фабіян** (Зелинский Фабиан), селянін Ліцінскага пав. Падольскай губ. Нар. каля 1832 г. Добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, з якім пазней уцёк за мяжу. У 1875 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі асуджаны завочна на пазбаўленне правоў стану і вечнае выгнанне; у выпадку самавольнага вяртання прысуджаўся да ссылкі на пасяленне ў Сібір *(1430—1—35834—98-99).*

2385. **Зялінскі Якуб** (Зелинский Яков), сын Якуба, дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1844 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў батальёны Амурскай вобл. без пазбаўлення дваранства. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 319—1—479—12адв.; 320—1—398—37-53, 130; 320—2—98—36; 1416—3—21048—28адв.; 1430—1—52163—149адв., 605).*

2386. **Зялінскі Ян** (Зелинский Иван), сын *Лук'яна*, пляменнік *Антона*, брат *Пятра*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Багушэўскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання разам з бацькам, дзядзькам і братам высланы з радзімы *(295—1—2725—32).*

2387. **Зяльвовіч Уладзіслаў** (Зельвович Владислав), дваранін Мінскага пав. Нар. каля 1836 г.

Да паўстання жыў у маёнтку Бокава Барысаўскага пав. князіні Друцкай-Любецкай. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 23.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—64; 295—1—1527—106; 295—1—1643—75; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 319—1—479—13адв.; 320—1—398—282, 401; 320—2—98—36).*

2388. **Зямацкі Раймунд** (Земацкий Раймунд), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам у касцёле м. Вавёрка Лідскага пав. За «ўрачыстае прачытанне ў касцёле польскага падбухторнага маніфеста» яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвеструіі. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання. Расстраляны *(319—1—479—12адв.; 320—1—398—129; 1416—6—274; 1430—1—52163—604адв.).*

2389. **Зямбовіч Юзаф** (Зембович Юзеф), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Янава Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

2390. **Зяменцкі Браніслаў** (Зменцкий Бронислав), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—13; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

2391. **Зямлеўскі Адольф** (Землевский Адольф), шляхціц Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—13; 320—1—398—221адв.).*

2392. **Зяневіч Канстанцін** (Зеневич Константин), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

2393. **Зяневіч Станіслаў** (Зеневич Станислав), селянін. За дачыненне да паўстання прысуджаны да ссылкі. У 1864 г. адпраўлены ў г. Маскву, відавочна, для далейшай перасылкі *(295—1—1643—80адв.).*

2394. **Зяневіч Юзаф** (Зеневич Иосиф), сын Адольфа, брат Уладзіслава, Казіміра, Вінцэнта, Ганны (v. Бірбаш), Канстанцыі (v. Шкоды) і Эміліі. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. жыў у ссылцы як «палітычны злачынца» ў Табольскай губ., падаў прашэнне аб дазволе на 3-месячнае прыбыццё ў маёнтак Кусціна Навагрудскага пав. для «ўладкавання побыту малагадовых братоў і сясцёр, што засталіся пасля смерці яго маці». 10.1875 атрымаў дазвол *(295—1—2759).*

2395. **Зянкевіч Баляслаў** (Зенкевич Болеслав), дваранін Ковенскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку юнкерам. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—13; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

2396. **Зянкевіч (Зінкевіч) Казімір** (Зенкевич (Зинкевич) Казимир), сын Юзафа, муж Францішкі Антоніеўны, бацька Юзафа, Аляксандра і Марты, дваранін. Нар. каля 1829 г. Да паўстання служыў пастухом у *Шантыраў Алены* і *Яна*. Падчас паўстання выкапаў у лесе яму для паўстанцаў і купіў для іх гарэлкі. За гэта 15.08.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Полацку. 05.10.1863 на яго маёмасць накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Дзеля вызвалення перайшоў з каталіцтва ў праваслаўе. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 03.12.1864 А. Патапавым, прызнаны вінаватым у неданясенні ўладам пра паўстанцаў. У якасці пакарання яму залічана ўтрыманне падчас следства пад арыштам, пасля чаго вызвалены і пазбаўлены далейшай адказнасці *(1416—3—21048—28; 1430—1—31242; 1430—1—52163—391адв.; 3046—2—3—31адв.-32; 3046—2—5—19).*

2397. **Зянковіч Апалінары** (Зенкович Аполинарий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—30адв.-31).*

2398. **Зянковіч (Зяньковіч) Міхал** (Зенкович (Зенькович) Михаил), сын Стэфана Ігнатавіча і Марыі Антоніеўны, пляменнік Казіміра, Базыля і Рышарда, дваранін Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1841 г. Да паўстання служыў пісарам у МагГП, калежскі рэгістратар. Абвінавачаны рас. уладамі ў адлучцы без дазволу з г. Магілёва 22.04.1863 і ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. Сумесная маёмасць яго бацькі і дзядзькаў у вак.

Васількава Чэрыкаўскага пав. (30 дзес. зямлі, хата, гаспадарчыя пабудовы, 38 руб. гадавога прыбытку) 05.08.1863 апісана і 08.09.1863 перададзена ў кіраванне ПДМ. 12.1863 секвестр зняты. У 1863 г. знаходзіўся пад следствам у ЧСК. У 1864 г. утрымліваўся ў казармах магілёўскага батальёна ўнутранай варты. З 26.07.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўкаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Зяньковіч Базыль* і *Петражыцкі Павел*. Прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 31.08.1865 накладзена забарона *(2003—1—211—53-55; 2003—1—354; 3257—1—17—7адв.-8; 3257—2—2—14, 28адв.; 3257—2—8—6; 3366—1—5—5адв.)*.

2399. **Зянковіч Стэфан** (Зенкович Стефан (Степан)), сын Леана, брат *Якуба*, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Валодаў часткай вак. Антонаўка Чэрыкаўскага пав. Падчас паўстання абвінавачаны дваранінам Уладзіславам Нядзвецкім у намеры далучыцца да паўстанцаў і ў намаўленні да гэтага іншых. Паводле пастановы МагГП ад 28.06.1863 яго маёмасць секвестравана. Разам з братам падаў прашэнне аб вызваленні ад секвестру з прычыны ілжывых абвінавачанняў. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 15.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 18.09.1863 яго справа пададзена М. Мураўёву. З прычыны таго, што доказаў віны знойдзена не было, паводле пастановы МагГП ад 03.12.1863 секвестр з маёмасці зняты *(2003—1—325; 3366—1—5—5адв.)*.

2400. **Зянковіч Фелікс** (Зенкович Феликс), дваранін Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—224адв.)*.

**Зянковіч Францішак** — гл. **Зяньковіч Францішак**

2401. **Зянковіч (Зінкевіч) Юзаф** (Зенкович (Зинкевич) Иосиф), дваранін Свянцянскага (?) пав. Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства, таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280;)*.

2402. **Зянковіч Якуб** (Зенкович Яков), сын Леана, брат *Стэфана*, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Валодаў часткай вак. Антонаўка Чэрыкаўскага пав. Падчас паўстання абвінавачаны дваранінам Уладзіславам Нядзвецкім у намеры далучыцца да паўстанцкага атрада і ў намаўленні да гэтага іншых. Паводле пастановы МагГП ад 28.06.1863 яго маёмасць секвестравана. Разам з братам падаў прашэнне аб вызваленні ад секвестру з прычыны ілжывых абвінавачанняў. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 15.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 18.09.1863 яго справа пададзена М. Мураўёву. З прычыны таго, што доказаў віны знойдзена не было, паводле пастановы МагГП ад 03.12.1863 секвестр з маёмасці зняты *(2003—1—325; 3366—1—5—5адв.)*.

**Зянкоўскі Уладзіслаў-Ксаверы** — гл. **Зяньkoўскі Уладзіслаў-Ксаверы**

2403. **Зяновіч (Дэспат-Зяновіч) Тэкля** (Зенович (Деспот-Зенович) Тэкля), дачка Юзафа, дваранка Мінскай губ. Нар. каля 1825 г. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 09.03.1864 прысуджана да ссылкі ў Арэнбургскую губ. пад нагляд паліцыі, на яе маёмасць накладаўся секвестр. Пасля амністыі вярнулася на радзіму, пасялілася ў маёнтку Уцеха Барысаўскага пав. 28.06.1878 памерла, 30.06.1878 пахавана. Не выходзіла замуж *(162—1—116—84; 295—1—1643—80адв.; 295—1—3492—48адв.-49; 320—1—398—378)*.

2404. **Зяньковіч Базыль** (Зенькович Василий), сын Казіміра, дваранін Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1846 г. Разам з *Бянкоўскім Антоніем*, *Петражыцкім Паўлам*, *Сазановічам Гальяшам*, *Сямашкам Рыгорам* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Чэрыкава. З 10.08.1864 находзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Зянковіча Міхала (3257—1—17—9адв.-10; 3257—2—2—14)*.

**Зяньковіч Міхал** — гл. **Зянковіч Міхал**

2405. **Зяньковіч (Зінковіч) Сільвестр** (Зенькович (Зинкович) Сильвестр (Селивестр)), памешчык Дзісенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. у Пензенскай губ. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(296—1—25—109; 1430—1—35146—86; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—12)*.

**Зяньковіч Уладзіслаў** — гл. **Зяньkoўскі Уладзіслаў-Ксаверы**

2406. **Зяньковіч Уладзіслаў-Генрык** (Зенькович Владислав-Генрих), сын Юльяна Юр'евіча, два-

ранін Мінскага пав. Нар. 10.10.1827. За дачыненне да паўстання прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(320—1—398—291).*

2407. **Зянькові́ч (Зянковіч) Францішак** (Зенькович (Зенкович) Франц). Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што на яго маёмасць 10.06.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 28.04.1863 накладаўся секвестр. У 1867 г. яго маёмасць падлегла вызваленню ад секвестру *(1416—3—21048—28; 1430—1—52163—408; 2514—1—2198—67адв.).*

2408. **Зянькоўскі (Зянкоўскі, Зяньковіч) Уладзіслаў-Ксаверы** (Зеньковский (Зенковский, Зенькович) Владислав-Ксаверий), сын Стэфана Юрыевіча і Людвікі Юзафаўны, дваранін Навагрудскага ці Сенненскага пав., каталік. Нар. 16.01.1838. Быў у паўстанцкім атрадзе ля м. Бешанковічы Лепельскага пав., арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «пакінуты ў падазрэнні» 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле пастановы ЧПА (да 21.10.1865) прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. На маёнтак яго бацькі Далматаўшчына Навагрудскага пав. накладзена забарона. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(320—1—398—733-735; 320—2—99—49адв.; 1416—3—21048—28адв., 29; 2514—1—2198—67адв.; 3046—2—3—31адв.-32; 3046—2—5—19).*

# І

2409. **Ібянскі Тадэвуш** (Ибянский Фадей), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Пскоў для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2адв.).*

2410. **Ібянскі Цэзар** (Ибянский Цезарий). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у г. Расіенах. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15).*

2411. **Ібянскі Ян** (Ибянский Иван), сын Францішка, памешчык. Служыў у рас. войску, меў чын афіцэра корпуса горных інжынераў. Да паўстання валодаў маёнткам Ібяны Ковенскага пав. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Робак (Robak[82]), пасля хаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніке на 12 гадоў *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—14; 320—1—398—197; 1416—6—281; 1430—1—52163—125, 162).*

2412. **Іваноў[83] Аляксей** (Иванов Алексей), селянін, каталік. Нар. каля 1839 г. Да паўстання з'яўляўся часоваабавязаным памешчыкаў *Ласоўскіх Мікаля* і *Паўла*. Падчас паўстання 22.04.1863 затрыманы сялянамі пры праездзе ў Аршанскім пав., калі служыў вазніцам у сваіх гаспадароў. Зняволены ў г. Смаленску. Яго маёмасць секвестравана. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. На судзе і следстве падазрэнне ў дачыненні да паўстання не пацвердзілася. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 прызнаны невінаватым і прызначаны да вяртання на месца жыхарства на парукі сваёй грамадзе *(1430—1—31588—15-22адв.).*

**Іваноў Віктар** — гл. **Іваноўскі Віктар**

2413. **Іваноў Герасім** (Иванов Герасим). Да паўстання служыў шарагоўцам Мурамскага пяхотнага палка. Падчас паўстання ўцёк са службы і далучыўся да паўстанцаў. Арыштаваны, аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—82 адв.).*

2414. **Іваноў[84] Ігнат** (Иванов Игнатий), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—6).*

2415. **Іваноў[85] Пётр** (Иванов Петр), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—5адв.).*

2416. **Іваноў[86] Фядос** (Иванов Федос), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—5адв.).*

---

[82] Пол. — «чарвяк».

[83] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[84] Тое ж.

[85] Тое ж.

[86] Тое ж.

2417. **Іваноўскі Анастазі** (Ивановский Анастасий), сын купца Падольскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада кіеўскага генерал-губернатара ад 10.09.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 15.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

2418. **Іваноўскі Базыль**[87] (Ивановский Василий)), сын Тэадора, ксёндз. Нар. каля 1793 г. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Капыль Слуцкага пав. 20.04.1863 размаўляў з сялянамі на тэму паўстання. 21.04.1863 западозраны мясцовым станавым прыставам, што рэкамендаваў ім пры праходзе паўстанцаў праз Капыль сустракаць іх «хлебам-соллю». Арыштаваны і зняволены ў г. Слуцку. Знаходзіўся пад следствам у ССК і МСК. За тое, што «выразіў спачуванне сваё да мяцяжа», загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 15.10.1863 аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку ў г. Мінску, аднак 23.11.1863 судовая справа перанесена ў Бабруйскі арданано-гаўз. 28.11.1863 высланы са Слуцка ў г. Бабруйск. 16.12.1863 справа вырашана і вернута ЧВГМГ, 20.12.1863 адпраўлена ім М. Мураўёву. З прычыны адсутнасці доказаў віны пастановай ЧПА ад 02.02.1864 прызначаны да вызвалення і аддачы пад негалосны нагляд. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.03.1864 прысуджаны да пераводу ў іншую парафію, аддачы на парукі і пад строгі паліцэйскі нагляд і штрафу ў 200 руб. на карысць пацярпелых ад паўстання. З прычыны слабога здароўя пераведзены ў г. Нясвіж, паселены ў бенедыкцінскім кляштары, затым пераведзены (да 03.07.1864) у бернардзінскі. Штраф заплаціў *(295—1—1643—82, 84адв.; 296—1—46; 1524—1—1—5адв.)*.

2419. **Іваноўскі (Іваноў) Віктар** (Ивановский (Иванов) Виктор), памешчык. Падчас паўстання хаваў ад рас. войскаў гарэлку і зброю, за што арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—83, 85адв.)*.

2420. **Іваноўскі Міхал** (Ивановский Михаил), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—82, 83адв.; 319—1—479—14; 320—1—398—162, 222, 401адв., 413; 320—2—98—37)*.

2421. **Іваноўскі Пётр** (Ивановский Петр), дваранін. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—82адв., 83адв.)*.

2422. **Іваноўскі Рэмігіян-Ежы** (Ивановский Ремигиян-Егор), сын Дыянізія, дваранін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у ВВСК *(320—1—398—123; 1416—4—11369—6адв.)*.

2423. **Іваноўскі Тамаш** (Ивановский Фома), сын Яна, дваранін Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1824 г. Да паўстання жыў у фальв. Урублеўшчына Мінскага пав., які арандавала *Навіцкая Антаніна*, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. 04.1863 разам з *Пятровічам Паўлам* агітаваў сялян маёнтка Урублеўшчына далучыцца да паўстанцаў, за што 07.1863 арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 03.10.1863. Аддадзены пад ПВС, пастановай якога, канфірмаванай 23.03.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Сасланы. У 1868 г. пераведзены на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ., дзе звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(295—1—1548; 295—1—1643—82, 83адв., 84; 296—1—90—6адв.-7; 319—1—479—14; 1430—1—52163—167)*.

2424. **Іваноўскі Францішак** (Ивановский Франц), сын Яна, дваранін. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні і ў забойстве 19.09.1863 А. Ляцкага, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 01.02.1864 *(296—1—90—14адв.-15)*.

2425. **Іваноўскі Эдвард** (Ивановский Эдвард). Паходзіў з Віленскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

2426. **Іваноўскі Эдмунд** (Ивановский Эдмунд), сын Аляксандра, дваранін Мінскай губ. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага прысуджаны (да 22.05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіска-

---

[87] У адным з дакументаў імя памылкова пададзена як Валенты (рус. — Валентий).

цыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—112адв.; 295—1—1562—16; 295—1—1643—85адв.; 296—1—296—3-3адв.; 299—1—579—298-307; 319—1—479—14; 320—1—398—2адв., 452адв.; 1430—1—52163—206).*

2427. **Іваноўскі Юзаф** (Ивановский Иосиф), дваранін Віленскага пав. Да паўстання жыў у м. Маўчаны Віленскага пав., дзе яго бацькі валодалі домам. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—102; 319—1—479—14).*

2428. **Іваньскі Ігнат** (Иваньский Игнатий), сын Яна, дваранін Наваград-Валынскага пав. Валынскай губ. Нар. каля 1835 г. Як «палітычны злачынца» знаходзіўся на лячэнні ў гарадской бальніцы г. Радамысля. 23.06.1863 уцёк *(1527—1—4—19).*

2429. **Івашкевіч Антоні** (Ивашкевич Антон). Да паўстання з'яўляўся «кіраўніком» 2 стана Бельскага пав., тытулярны радца. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 04.02.1864) на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.).*

2430. **Івашкевіч Аляксандр** (Ивашкевич Александр), сын Алаізія, брат *Рафала*. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам Кобрынскага павятовага казначэйства. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

2431. **Івашкевіч Зеліслаў (Зеніслаў, Здзіслаў)-Аляксандр-Людвік** (Ивашкевич Зелислав (Зенислав, Здислав)-Александр-Людвиг), сын Антонія Феліцыянавіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у маёнтку Феліцыянава Ігуменскага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы. У 1-й палове 1870-х гг. атрымаў частковую амністыю з забаронай пражываць у сталічных губ. і «Заходнім краі». З-за гэтага пасяліўся ў г. Варшаве. У 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Мінскую губ. *(162—1—116—123, 156адв., 166; 295—1—1643—82адв., 84адв.; 295—1—3049; 319—1—479—14; 320—1—398—552, 563-564, 644адв.; 320—2—98—37; 1418—3—1—34адв.-35; 1430—1—52163—526).*

2432. **Івашкевіч Леан** (Ивашкевич Леон), селянін. Нар. каля 1793 г. Да паўстання жыў у в. Велеўшчына Барысаўскага пав., прыпісаны да Свядскай сельскай грамады. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.11.1863 прысуджаны да ссылкі з сям'ёй на пасяленне на казённых землях ў Астраханскую губ. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(295—1—1527—107; 295—1—1643—82, 85; 295—1—2725—20; 320—1—398—178; 1430—1—35146—70).*

2433. **Івашкевіч Рафал** (Ивашкевич Рафаил), сын Алаізія, брат *Аляксандра*. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам Кобрынскага павятовага казначэйства. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

2434. **Івашкевіч Стэфан** (Ивашкевич Степан), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—14; 320—1—398—224; 1416—6—280).*

2435. **Івашкевіч Стэфан** (Ивашкевич Степан), сын Яна, дваранін Магілёўскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Да паўстання служыў арганістам у касцёле ў м. Фашчаўка Магілёўскага пав. Падчас паўстання абвінавачаны ў веданні і неданясенні рас. уладам пра прыём *Крыжаноўскім Андрэем* у сябе паўстанцаў. У 1863 г. арыштаваны і зняволены ў турэмным замку г. Магілёва. 26.11.1863 яго справа накіравана МагВГ, якім 10.12.1863 аддадзены пад суд у МагВСК. Яго рухомая маёмасць (куфар з адзеннем і пасцельнай бялізнай) на суму ў 3,01 руб. ср. 23.12.1832 апісана і секвестравана. На следстве прызнаў абвінавачанні. МагВСК 11.04.1864 скончыла яго справу і падала камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 04.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 01.06.1864 адпраўлены на месца ссылкі *(319—1—479—14; 1430—1—52163—206адв.; 2001—1—901—1-4; 2003—1—409; 3256—2—22; 3257—2—2—15).*

2436. **Івашкевіч Сымон** (Ивашкевич Семен), сын Гектара, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(295—1—1643—85; 1524—1—1—5адв.).*

2437. **Івашкевіч N.** (Ивашкевич N.). Да паўстання служыў настаўнікам музыкі. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. аштрафаваны на 100 руб. *(295—1—1643—83).*

2438. **Івіцкі Ігнат** (Ивицкий Игнатий). Да паўстання служыў старэйшым настаўнікам гімназіі ў г. Свянцянах, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19).*

2439. **Ігнатовіч Мамерт** (Игнатович Мамерт). Служыў чыноўнікам 14 класа, выйшаў адстаўку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16).*

2440. **Ігнатовіч Пётр** (Игнатович Петр), сын Андрэя, дваранін Вілейскага пав. Да паўстання жыў у фальв. Вялы, што належаў да маёнтка Пяршаі Мінскага пав. графа Бенядыкта (?) Тышкевіча, служыў памочнікам лоўчага. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Секвестравана яго рухомасць на 3,27 руб., аднак яшчэ ў 1863 г. вызвалена ад секвестру *(295—1—1643—86; 320—1—398—2; 1416—6—241).*

2441. **Ігнатовіч Станіслаў** (Игнатович Станислав), сын Юзафа, брат Канстанціна і Ежы, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1833 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Міладоўскага Вітальда.* Удзельнічаў у баі ля в. Мілавіды Слонімскага пав., затым захоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 30.08.1863 і ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Фальваркі Мікулічы і Падліпна Навагрудскага пав. (ацэненыя ў 430 руб.), якімі ён валодаў на правах суспадчыннніка з братамі, секвестраваны 20.10.1863. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 23.03.1864 аддадзены пад ПВС пры 120 Серпухаўскім пяхотным палку ў г. Навагрудку. 28.03.1864 судовая справа скончана і перададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 02.04.1864 адпраўлена М. Мураўёву. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 18.05.1864 М. Крыжаноўскім, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—82адв.; 296—1—89—14адв.; 296—1—91; 299—1—579—298-307; 319—1—479—14320—1—398—3; 320—2—99—50адв.-51; 1430—1—52163—206).*

2442. **Ігнатовіч Юзаф** (Игнатович Иосиф), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання быў фатографам. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—14; 320—1—398—224адв.).*

2443. **Ігнатовіч Юльян** (Игнатович Юлиан), сын Яна, дваранін. Каля 10 гадоў служыў на грамадзянскай службе ў г. Рэжыцы, адтуль 07.05.1863 перавёўся на службу ў Невельскае павятовае казначэйства, звольнены 23.10.1863, тытулярны радца. 12.1863 прыбыў у Рэжыцу, адкуль меў намер пераехаць у г. Пскоў. Западозраны ў палітычнай нядобранадзейнасці і арганізацыі паўстання ў Рэжыцкім пав., арыштаваны, але затым выпушчаны на парукі. Паступіў на службу бухгалтарам у Пскоўскае павятовае казначэйства, аднак 08.1864 звольнены як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» і высланы ў г. Невель пад нагляд паліцыі, куды прыбыў 05.09.1864. Не маючы крыніц для заробку, апынуўся ў складаным матэрыяльным стане. У 1865 г. прыкладаў намаганні, каб пераехаць у Рэжыцу *(1430—1—31569).*

2444. **Ігнацьеў[88] Максім** (Игнатьев Максим), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 15.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—6).*

2445. **Ігнацьеў[89] Нікадым** (Игнатьев Никодим), сваяк *Рамана* (?), селянін. Да паўстання з'яўляўся старастам с. Чорнае Магілёўскага пав., знаходзіўся ў часоваабавязаных адносінах да памешчыцы Макавецкай. Западозраны ў дачыненні да паўстання і паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго рухомая маёмасць (свойскія жывёлы, прылады працы і інш.) на суму ў 53,6 руб. ср. 17.06.1863 апісана і секвестравана *(2003—1—302).*

2446. **Ігнацьеў[90] Раман** (Игнатьев Роман), сваяк *Нікадыма* (?), селянін. Да паўстання жыў

[88] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[89] Тое ж.

[90] Тое ж.

у с. Чорнае Магілёўскага пав., знаходзіўся ў часова-абавязаных адносінах да памешчыцы Макавецкай. Западозраны ў дачыненні да паўстання, і паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго маёмасць падлягала секвестру, аднак яе не было знойдзена *(2003—1—302—5 і інш.).*

2447. **Ігнацьеў**[91] **Рыгор** (Игнатьев Григорий), селянін. Да паўстання служыў вазніцам. 22(ці 24).04.1863 арыштаваны сялянамі разам са сваім гаспадаром пры праездзе па Аршанскім пав. па падазрэнні ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Доказаў для абвінавачання не было, таму вызвалены з аддачай на парукі. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1430—1—31588—15-22адв.).*

2448. **Ізбіцкі Валяр'ян** (Избицкий Валериан), сын Базыля, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні ў складзе атрада *Машэўскага Уладзіслава* ў Слуцкім пав., арыштаваны ў Слуцкім пав. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Яшчэ ў 1863 г. вызвалены з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1643—84адв.; 1524—1—1—5адв.; 1525—1—2—9адв.-10).*

2449. **Ізбіцкі Клімент** (Избицкий Клемент). Паходзіў з Мінскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд заменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці *(162—1—116—103, 166; 1430—1—52163—150адв.).*

2450. **Ізбіцкі Францішак** (Избицкий (Избидский) Франц), сын Яна, дваранін. Да паўстання жыў у г. Пружанах. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—14; 320—1—398—2адв.; 1416—4—11416—115адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

2451. **Ізбіцкі Юзаф** (Избицкий Осип). Служыў сакратаром Гродзенскай казённай палаты, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

2452. **Ізбіцкі Ян** (Избицкий Иван). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 15.12.1863 падала яго справу смаленскаму губернатару. Яго маёмасць (да 30.07.1863) падлягала секвестру, аднак яна не знойдзена, а з 1867 г. вярталася ў яго валоданне *(2003—1—320—1адв.; 2514—1—2198—68; 3255—1—14—2адв.).*

2453. **Іздэбскі Конрад** (Издебский Конрад), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада кіеўскага генерал-губернатара ад 24.10.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 28.10.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865), сярод іншага, да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

2454. **Іздэбскі Станіслаў** (Издебский Станислав). Паходзіў з Віцебскай (?) губ. Да паўстання з'яўляўся вольным слухачом Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—401, 616адв.; 3046—2—5—19адв.).*

2455. **Ізмайловіч Ігнат** (Измайлович Игнатий), сын Станіслава, дваранін Лепельскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Віцебска. Паводле загада віцебскага губернатара ад 22.05.1863 разам з *Клюкоўскім Тамашом* пераведзены ў г. Магілёў. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 22.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 18.10.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 18.11.1864 і 26.11.1864 ВГП выдала адпаведныя ўказы *(1416—4—11147; 1416—4—11416—99-102, 128; 1430—1—52163—496-497; 3255—1—14—2адв., 3; 3257—2—2—15).*

2456. **Іленда Андрэй** (Иленда Андрей). Да паўстання служыў памочнікам лесніка 1 Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—102адв.).*

2457. **Ілініч Антоні** (Илинич Антон), дваранін. Да паўстання служыў канцылярыстам Віленскага ДДС. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіска-

---

[91] Верагодна, гэта імя па бацьку.

цыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—14).*

2458. **Ількоўскі Антоні** (Ильковский Антон), дваранін Пружанскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, за што пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Павешаны *(296—1—25—88адв.; 319—1—479—14; 320—1—398—198; 224адв.; 1430—1—52163—126адв.).*

2459. **Ільцэвіч Фердынанд** (Ильцевич Фердинанд), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання служыў у Ковенскім павятовым казначэйстве; калежскі рэгістратар. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Аланецкую губ. *(1430—1—52163—201адв.).*

2460. **Імшэнік Рыгор** (Имшеник Григорий). Да паўстання служыў бухгалтарам Ковенскай ПДМ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

2461. **Інглік Ян** (Инглик Иван), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 12.05.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—34адв.-35).*

2462. **Інгялевіч Вінцэнт** (Ингелевич Викентий). Да паўстання служыў пісьмаводам вількамірскага павятовага маршалка, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

2463. **Ісаевіч Антоні** (Исаевич Антон). Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання арыштаваны і ў 1864 г. аштрафаваны на 100 руб. *(295—1—1643—83адв.).*

2464. **Іцкевіч Андрэй** (Ицкевич Андрей), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

2465. **Іцыковіч Пейсах** (Ицыкович Пейсах), яўрэй, мешчанін г. Шаўляў. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—14; 1430—1—52163—204адв.).*

2466. **Ішора Станіслаў** (Ишора Станислав), ксёндз. Нар. у г. Вільні. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Жалудок Лідскага пав. Падчас паўстання зачытаў у касцёле паўстанцкі маніфест. За гэта яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны *(319—1—479—14; 320—1—398—128; 1416—6—274; 1430—1—52163—603).*

# К

2467. **Кабак (Кабакоўскі, Кабін, Кабан) Фёдар (Тэадор)** (Кабак (Кабаковский, Кабин, Кабан) Фёдор (Теодор)), сын Сідара, селянін Кобрынскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1837 г. Да паўстання служыў у маёнтку Туча Слуцкага пав. памешчыка Яленскага. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Машэўскага Уладзіслава.* 20.04.1863 захоплены ў палон рас. войскамі ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав., утрымліваўся ў астрозе г. Слуцка. На судзе сцвярджаў, што далучыўся да паўстанцкага атрада супраць сваёй волі. ПВСЗБА прысуджаны да вяртання на ранейшае месца жыхарства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуд заменены на пазбаўленне правоў стану, канфіскацыю маёмасці і ссылку на службу ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 2 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—6; 1525—1—2—5адв.-6).*

2468. **Каберскі Базыль** (Коберский Василий), аднадворац Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

2469. **Кабіцкі Вінцэнт** (Кобицкий Викентий), сын Ігната, селянін ці мешчанін. Да паўстання прыпісаны да Новамышскай сельскай ці мяшчанскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы з радзімы *(295—1—1699; 295—1—2725—31адв.; 320—1—398—3).*

2470. **Кабіцкі Юльян** (Кобицкий Юлиян), сын Міхала, мешчанін. Нар. каля 1848 г. Да паўстання жыў у м. Новая Мыш Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы ў г. Маскву, адкуль далей сасланы на пасяленне ў Томскую губ. Жыў у Усць-Тартарскай вол. Каінскай акругі. У ссылцы ажаніўся. У 1875 г.

падаў прашэнне аб атрыманні амністыі і дазволе вярнуцца ў Навагрудскі пав., усе выдаткі на дарогу абавязваўся пакрыць самастойна. Пасля атрымання дазволу 15.02.1879 выехаў з Томскай губ., прыбыў у Навагрудскі пав. (да 10.1879) і прыпісаўся да Новамышскай сельскай грамады. 12.1879 добраахвотна вярнуўся на сталае жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—3039; 295—1—3492—10; 320—1—398—3).*

2471. **Каборда Францішак** (Коборда Франц), сын Юзафа, дваранін Мінскага пав. Да паўстання служыў леснікам у фальв. Пятровічы Чавускага пав. Аляксандра Сянажэнцкага. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 27.05.1863) і зняволены ў г. Магілёве. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго маёмасць падлягала секвестру *(2003—1—296).*

2472. **Кабылінскі Аляксандр** (Кобылинский Александр). Служыў чыноўнікам Беластоцкага павятовага суда. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

2473. **Кабылінскі Захар** (Кобылинский Захарий), сын Міхала, брат *Фердынанда*, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Плянта Пінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Траўгута Рамуальда*, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. прысуджаны да ссылкі ў Табольскую губ. пад строгі нагляд паліцыі *(295—1—1643—98, 100; 296—1—73—3, 5; 320—1—398—2адв.).*

2474. **Кабылінскі Казімір** (Кобылинский Казимир), памешчык. Да паўстання валодаў в. Зацішша і інш. Беластоцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 29.05.1863 і пастановы ГГП ад 13.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 248; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

2475. **Кабылінскі Канстанцін** (Кобылинский Константин), дваранін Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—16адв.; 1430—1—52163—530адв.).*

2476. **Кабылінскі Станіслаў** (Кобылинский Станислав), дваранін. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—88адв.).*

2477. **Кабылінскі Тамаш** (Кобылинский Фома), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гародня Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—16; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.).*

2478. **Кабылінскі Фердынанд** (Кобылинский Фердинанд), сын Міхала, брат *Захара*, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Плянта Пінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Траўгута Рамуальда*, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. прысуджаны да ссылкі ў Табольскую губ. пад строгі нагляд паліцыі *(295—1—1643—98, 100; 296—1—73—3, 5; 320—1—398—2адв.).*

2479. **Кабылінскі Францішак** (Кобылинский Франц), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—26адв.).*

2480. **Кабылінскі Юзаф** (Кобылинский Иосиф), незацверджаны дваранін Седлецкага пав. Люблінскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—207).*

2481. **Кабылінскі N.**[92] (Кобылинский N.). Удзельнічаў у паўстанні ў Бельскім пав., схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162).*

2482. **Каваленка Кандрат** (Коваленко Кондрат). Да паўстання служыў валасным пісарам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—26адв.).*

2483. **Кавалеўскі Антоні** (Ковалевский Антоний), аднадворац Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221адв.).*

2484. **Кавалеўскі Вінцэнт** (Ковалевский Викентий), ксёндз. Да паўстання служыў у бернардзінскім кляштары ў м. Датна Ковенскага пав. (гл. *Пракаповіч Фердынанд*). За дачыненне да паўстання прызначаны ваенным судом (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго

[92] Магчыма, ідэнтычна з адным з Кабылінскіх, што паходзілі з Беластоцкага пав.

маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795)*.

2485. **Кавалеўскі Дамінік** (Ковалевский Доминик), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1844 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. прысуджаны да ссылкі на службу шарагоўцам у батальёны Амурскай вобл. рас. войска. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(295—1—1527—100адв.; 295—1—1643—101; 1416—3—21048—30адв.; 1430—1—52163—409адв.; 2514—1—2198—68)*.

2486. **Кавалеўскі Зыгмунт** (Ковалевский Зигмунт), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—15; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241)*.

**Кавалеўскі Караль** — гл. **Раманоўскі Караль**

2487. **Кавалеўскі Юзаф** (Ковалевский Иосиф), дваранін Дрысенскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанню. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 27.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—49адв.-50)*.

2488. **Кавалеўскі Юзаф** (Ковалевский Осип), сын Казіміра Станіслававіча (нар. каля 1796 г.), дваранін Мсціслаўскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. у вак. Крупец Мсціслаўскага пав., дзе яго бацька валодаў некалькімі дзес. зямлі. 23.04.1863 выйшаў з Крупца і злучыўся з паўстанцкім атрадам, які фарміраваўся ў маёнтку Вышова Мсціслаўскага пав. (гл. *Цеханавецкі Ігнат*). На наступны дзень пакінуў атрад, кінуў у лесе зброю і паспрабаваў прабрацца на месца ранейшага жыхарства, аднак заблукаў. 25.04.1863 схоплены без зброі разам з *Празаровічам Францішкам* сялянамі ў м. Крычаў Чэрыкаўскага пав. і 27.04.1863 зняволены ў астрогу ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК. Спачатку захоўваў свой удзел у паўстанні, але 23.10.1863 даў шчырыя паказанні. 21.12.1863 пераведзены ў г. Магілёў, дзе ўтрымліваўся ў казармах батальёна ўнутранай варты. Быў пад следствам у МагСК, якая 11.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару з рэзалюцый «з прычыны поўнай прастаты, непісьменнасці і выяўленага ў прысутнасці камісіі шчырага раскаяння заслугоўвае памілавання». Рашэннем А. Беклямішава ад 08.07.1864 прызначаны да прывядзення да прысягі і ссылкі на пасяленне ў «адну з вялікарасійскіх губерняў». 11.07.1864 з Магілёва адпраўлены ў г. Маскву для далейшага пасялення на казённых землях паводле распараджэння МУС. Паселены ў Пермскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2001—2—126; 2514—1—2198—68; 3366—1—5—6)*.

2489. **Кавалеўскі Юзаф** (Ковалевский Иосиф). Паходзіў з Віленскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

2490. **Кавалеўскі Язафат** (Ковалевский Иосафат), селянін Брэсцкага пав. Да паўстання з'яўляўся кандыдатам Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—16адв.)*.

2491. **Кавалеўскі Ян** (Ковалевский Иван), дваранін Люцынскага пав. За дачыненне да паўстання Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 25.08.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(319—1—479—17адв.; 1416—4—11416—98-102, 131, 174-175адв.; 1430—1—52163—492-493, 535)*.

2492. **Кавалёў Канстанцін** (Ковалев Константин), сын Андрэя, селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—7)*.

2493. **Каваль Кірэй** (Коваль Кирей), дваравы чалавек. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—87адв.)*.

2494. **Кавальскі N.** (Ковальский N.), ксёндз. Нар. каля 1841 г. Да паўстання служыў вікарыем у м. Чарніхоў Ямпольскага пав. Падольскай губ. Западозраны рас. уладамі ў распаўсюджванні «заганных чутак» сярод сялянаў, трапіў пад следства. 31.07.1863 пакінуў месца жыхарства і схаваўся ад рас. уладаў, за што падлягаў арышту *(1527—1—4—108)*.

2495. **Каверскі Стэфан** (Каверский Степан), памешчык Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Архангельскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11)*.

2496. **Кавецкі Антоні** (Ковецкий Антон), сын Мацея, ксёндз. Нар. каля 1813 г. Да паўстання разам з *Лапам Аўгустынам* служыў у касцёле м. Гарбачэва Полацкага пав. У 1852 г. ахрысціў у касцёле

дзіця праваслаўнай маці, за што трапіў пад следства беларускага генерал-губернатара. Западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны (да 14.08.1863). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 13.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. Канфіскавана і прададзена яго рухомая маёмасць *(319—1—479—17адв.; 1416—2—11382; 1416—3—21048—31; 1430—1—52163—46, 206адв., 405, 821адв.; 2818—1—9—10; 3046—2—3—35адв.-36; 3046—2—5—24; 3432—1—13—73-74адв.)*[93].

2497. **Кавецкі Вінцэнт** (Кавецкий Викентий), сын Сымона, брат *Мацея*, селянін, каталік. Да паўстання прыпісаны да сельскай грамады у с. Вароні Ашмянскага пав. Уваходзіў у склад бешанковіцкага атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава*, разам з братам і *Карповічам Антоніем* добраахвотна 26.04.1863 з'явіўся ў с. Бешанковічы да прыстава 1-га стана Лепельскага пав. Даў пакаянні, пасля чаго паводле пастановы Лепельскага павятовага суда ад 30.04.1863 вызвалены з аддачай на парукі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—63-65; 3046—2—3—42адв.-43; 3046—2—5—26)*.

2498. **Кавецкі Канстанцін** (Кавецкий Константин), сын Яна, аднадворац ці дваранін Барысаўскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў Мінска-Магілёўскай рымска-каталіцкай семінарыі. 21.05.1863 падаў прашэнне аб «звальненні» нібыта для пераходу ў іншую семінарыю, атрымаў яго і ў гэты ж дзень уцёк з г. Мінска разам з *Варпяхоўскім Юльянам* і *Гарбатоўскім Юзафам*. У Ігуменскім пав. далучыўся да паўстанцкага атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*. Падчас разбіцця атрада арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў Мінск, дзе ўтрымліваўся ў гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 15.11.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—88; 295—1—1688—52-53; 296—1—90—10адв.-11; 299—1—579—298-307; 319—1—479—17; 1418—3—1—38адв.-39; 1430—1—52163—206)*.

2499. **Кавецкі Мацей** (Кавецкий Матвей), сын Сымона, брат *Вінцэнта*, селянін, каталік. Да паўстання прыпісаны да сельскай грамады у с. Вароні Ашмянскага пав. Уваходзіў у склад бешанковіцкага атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава*, разам з братам і *Карповічам Антоніем* добраахвотна 26.04.1863 з'явіўся ў с. Бешанковічы да прыстава 1-га стана Лепельскага пав. Даў пакаянні, пасля чаго паводле пастановы Лепельскага павятовага суда ад 30.04.1863 вызвалены з аддачай на парукі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—63-65; 3046—2—3—42адв.-43; 3046—2—5—25адв.)*.

2500. **Кавецкі Тамаш** (Кавецкий Томаш), сын Станіслава, аднадворац Клецкага ўчастка Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1837 г. Да паўстання жыў у мызе Курляндыя Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. На судзе сцвярджаў, што быў узяты ў паўстанцкі атрад супраць сваёй волі. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да вяртання на ранейшае месца жыхарства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуд заменены на пазбаўленне правоў стану, канфіскацыю маёмасці і ссылку на службу ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—17; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—6; 1525—1—2—7адв.-8)*.

2501. **Каганоўскі Фларыян** (Кагановский Флориан), дваранін Віленскай губ. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

2502. **Кагнавіцкая Каміла** (Когновицкая Калиния[94]), дваранка Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Аланецкую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540адв.)*.

2503. **Кагнавіцкі Баляслаў** (Когновицкий Болеслав), сын Антонія, брат *Францішка*, дваранін Шавельскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Панікельні. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад

---

[93] За дапамогу ў зборы звестак пра Кавецкага Антонія аўтар выказвае падзяку супрацоўніку аддзела інфармацыйна-пошукавых сістэм Аляксандру Грывянёву.

[94] Верагодна, памылкова напісана ў дакуменце; павінна быць: «Камилия».

24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—16; 1416—6—281; 1430—1—52163—530адв.).*

2504. **Кагнавіцкі (Кангавіцкі) Оттан** (Когновицкий (Конговицкий) Оттон), сын Антонія, дваранін. Да паўстання жыў у в. Ляды (Ляўды) Бейсагольскай парафіі Цельшаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—16; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.).*

2505. **Кагнавіцкі Францішак** (Когновицкий Франц), сын Антонія, брат *Баляслава*, дваранін Шавельскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Панікельні. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—16; 1416—6—281; 1430—1—52163—530адв.).*

2506. **Кадзельскі Аўгуст** (Кодельский Август), ксёндз. Да паўстання служыў у дамініканскім кляштары м. Папорці Троцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

2507. **Кадзігрод Пётр** (Кадигрод Петр), дваранін Таўрычаскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—196).*

2508. **Кажарскі Сымон** (Козарский Семен), вольны хлебароб Барысаўскага пав. Нар. каля 1818 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены. 21.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—105адв.).*

2509. **Кажухоўская Стэфанія** (Кожуховская Стефания), памешчыца Гродзенскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яе маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174-175адв.).*

2510. **Казак Георг-Вільгельм** (Казак Георг (Егор, Григорий)-Вильгельм), сын «шавецкіх спраў майстра» Георга і Даратэі-Амаліі Краўзэ, мешчанін, лютэранін. Нар. 02.01.1841 у Ліфляндскай губ., хр. 02.02.1841 у Рыжскай царкве. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка (3257—1—53—2; 3286—2—1—5адв., 81-85).*

2511. **Казакевіч Адам** (Козакевич Адам), шляхціц Вількамірскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, за што прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання. Павешаны *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—16; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.).*

2512. **Казакевіч Антоні** (Козакевич Антон), сын Даната, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання адлучаўся з месца жыхарства, таму западозраны ў дапамозе паўстанцам і 10.12.1863 трапіў пад следства. 20.12.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. У выніку пакінуты на месцы жыхарства пад паліцэйскім наглядам *(1430—1—52163—634).*

2513. **Казакевіч Вінцэнт** (Козакевич Викентий), дваранін. Да паўстання служыў тысяцкім. У паўстанні абгавораны ў непадначаленні ўладам і нанясенні абразаў «асобе Гасудара Імператара», арыштаваны. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 31.08.1863 вызвалены з-пад арышту *(296—1—19—176-177, 277адв.-278).*

2514. **Казакевіч Урбан** (Козакевич Урбан), сын Яна, дваранін Дынабургскага пав. Да паўстання з'яўляўся сельскім засядальнікам Люцынскага паятовага суда. Яго бацька валодаў маёнткам Новікі Люцынскага (?) пав. 15.04.1863 самавольна пакінуў пасаду. У сярэдзіне красавіка разам з *Канцэвічам Каранатам* западозраны сялянамі в. Краснаполле Люцынскага пав. у намеры далучыцца да паўстанцкага атрада і затрыманы. Спачатку зняволены ў г. Люцыне, 25.05.1863 адпраўлены ў г. Дынабург. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Сасланы (да 06.08.1863) на жыхарства ў Кастрамскую ці Вяцкую губ. На маёнтак бацькі накладзена забарона *(1416—3—21048—30адв., 31; 1430—1—31259—30-31, 40; 1430—1—52163—420; 3046—2—5—26).*

2515. **Казакевіч Юльян** (Козакевич Юлиан), мешчанін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, да 01.05.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 07.1863 вызвалены *(296—1—19—280)*.

2516. **Казакевіч Ян** (Козакевич Иван), сын Антонія, селянін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Целяханы Пінскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

2517. **Казакевіч Фелікс** (Козакевич Феликс), сын Юзафа, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1828 г. 04.1862 паступіў на службу леснікам у маёнтак Рыкава Себежскага пав. 21(ці 22).04.1863 пакінуў службу і вярнуўся ў маёнтак Падбярэззе Полацкага пав., дзе жыла яго маці. Пасля западозраны ў тым, што 17.04.1863 выехаў з Рыкава разам з *Арцімовічам Казімірам*, *Вярбіцкім N.*, *Жаброўскім Канстанцінам*, *Цілем Эдвардам* і далучыўся да паўстанцкага атрада, 01.1864 арыштаваны. 01.11.1864 знаходзіўся ў турэмным замку г. Полацка, 24.12.1864 адпраўлены па этапе і 30.12.1864 прыбыў у г. Віцебск. Знаходзіўся пад следствам у ВСК. Утрымліваўся ў турэмных замках: 28.05.1865 у г. Себежы, 05.08.1865 у Віцебску. Пастановай ЧПА ад 17.11.1865, канфірмаванай 3. Манюкіным 27.11.1865, прызнаны невінаватым і падлягаў вяртанню на месца жыхарства на парукі *(1416—4—11416—302-303; 1430—1—31535—2; 1430—1—31587)*.

2518. **Казакоў Давыд** (Козаков Давыд), сын Малаха (ці Міхала), селянін. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыкаў Тамковічаў. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што яго рухомая маёмасць (куфар і адзенне) у маёнтку Заазер'е Сенненскага пав. 04.07.1863 апісана і секвестравана, а потым прададзена. У 1864 г. рашэннем ПВС, канфірмаваным М. Мураўёвым, прызнаны невінаватым з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі сельскай грамадзе. У 1865 г. падаў прашэнне аб вяртанні адабраных пры арышце грошай і кампенсацыі за маёмасць *(2003—1—350)*.

2519. **Казакоўскі Станіслаў** (Козаковский Станислав), дваранін Вількамірскага пав. Да паўстання адстаўны падпаручнік; яго бацька валодаў маёнткам Кураны Вількамірскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, за што прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—15адв., 16; 320—1—398—131адв., 198; 1430—1—52163—126адв., 598адв.)*.

2520. **Казан Лазар** (Казан Лейзар), сын Іцкі, яўрэй, мешчанін Аршанскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68)*.

2521. **Казаноўскі Тэафіл** (Казановский Теофиль). Да паўстання служыў пісарам Бахматаўскай сельскай грамады Новааляксандраўскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2522. **Казапалянскі Базыль** (Козополянский Василий), сын Адама, дваранін Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, пад судом у МагВСК *(3257—2—2—17; 3366—1—5—6адв.)*.

2523. **Казарын Іпаліт**[95] (Козарин Ипполит), сын Ігната, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання разам з *Тарлоўскім Францішкам* служыў аканомам маёнтка Куравічы Лепельскага пав. памешчыцы Буйніцкай. Абвінавачаны рас. уладамі ў «злачынных дзеяннях супраць урада», арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі. Праз 10 дзён адпраўлены ў г. Дынабург, даў паказанні ў ДСК, пасля чаго вернуты ў Лепель. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 12.1863 прызнала яго вінаватым у падрыхтоўцы да паўстання і агітацыі сялянаў далучыцца да яго і 21.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння губернатара ад 18.01.1864 яго маёмасць падлягала секвестру. 28.01.1864 высланы з Лепеля ў г. Віцебск. Зняволены ў віцебскім турэмным замку. Знаходзіўся пад судом у ВВСК, пастановай якой ад 15.02.1864 прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на катаргу. 18.02.1864 і 28.02.1864 падаваў прашэнні на імя ВГГ аб пераглядзе справы і вызваленні як невінаватага. Канчаткова прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—31адв.; 1430—1—31602—18-24; 1430—1—31604—54-58; 1430—1—52163—206адв., 400адв.; 3046—2—3—40адв.-41; 3046—2—5—25)*.

**Казарын-Акуліч Людвік** — гл. **Акуліч-Казарын Людвік**

2524. **Казела Аляксандр** (Козелло Александр), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Маркаўшчына Троцкага пав. *Скарынскага Віталь-*

[95] У спісе падследных ВСК памылкова названы Апалонам.

*да*. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—265; 1430—1—52285—7адв.)*.

2525. **Казела Аўгуст** (Козелло Август), дваранін. Да паўстання жыў з маці ў маёнтку Баркоўшчына Вілейскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(295—1—1643—111адв.; 296—1—25—102адв.; 319—1—479—15)*.

2526. **Казела (Козел) [Вінцэнт]** (Козелло [Викентий]), сын Фелікса (?), сваяк *Юзафа* (?), дваранін Вілейскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Сервеч Вілейскага пав. (?). Удзельнічаў у паўстанні ў якасці камандзіра атрада ў Вілейскім і Барысаўскім пав. пад мянушкай Сервіч, у які ўваходзілі *Багдановіч Фелікс*, *Барсук Ян*, *Бачызмальскі Леанард*, *Глінскі Юстын*, *Жалязоўскі Юльян*, *Казімірскі Аляксандр*, *Канапацкі Баляслаў*, *Канткоўскі Вінцэнт*, *Кодзь Леанард*, N. Копець (гл. *Копець Лонгін*), *Матусевічы Бярнард* і *Віктар*, *Міхневіч Марцін*, *Савіцкі Станіслаў*, *Станкевіч Стэфан*, *Філон Клімент*, *Хруцкі Станіслаў*, *Якубоўскі Міхал*, *Ясевіч Антоні-Юзаф* і іншыя і які быў разбіты 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Забіты ў гэтым баі. За супрацоўніцтва з ім затрыманы *Багдановіч Оттан* і *Тукала Мечыслаў*. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—19—59-60; 296—1—25—72, 87адв.; 319—1—479—15адв.; 320—1—398—197; 1416—6—268)*.

2527. **Казела Іаахім-Тадэвуш** (Козело Ефим (Иоахим)-Фадей), сын Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1830 г. Да паўстання служыў у Лепельскім павятовым судзе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання пастановай ПВА і канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». ВГП 12.03.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(319—1—479—17; 320—1—398—698-700; 1416—3—21048—32адв., 33адв.; 1416—4—11416—170-173; 1430—1—52163—167, 412адв.; 2626—1—305—52-53)*.

**Казела Ігнат** — гл. **Козел Ігнат**

2528. **Казела Каятан** (Козелло Каетан (Каэтан)), дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ВСК. Потым пераведзены ў г. Дынабург, а яго следчая справа 13.09.1863 перададзена ў ДСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 01.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—69; 296—1—25—105; 319—1—479—17; 320—1—398—353; 1430—1—31597—6; 3046—2—3—40адв.-41; 3046—2—5—25)*.

2529. **Казела Клімент** (Козелло Климентий), бацька *Юльяна* і *Уладзіслава*, дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

**Казела Мікалай** — гл. **Козел Мікалай**

2530. **Казела Павел** (Козелло Павел), дваранін, каталік. Вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце, да паўстання звольнены з яго. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(1430—1—52163—526адв.; 3257—1—53—1)*.

2531. **Казела Уладзіслаў** (Козелло Владислав), сын *Клімента*, брат *Юльяна*, дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

2532. **Казела Эдвард** (Козелло Эдуард), дваранін Віленскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238)*.

2533. **Казела (Козел) Юзаф** (Козелла (Козел, Козелло) Осип (Иосиф)), сын Яна, дваранін Вілейскага пав. Нар. каля 1847 г. Да паўстання жыў у маёнтку Сервеч Вілейскага пав., якім валодаў яго бацька. Арыштаваны за намер далучыцца да паўстанцкага атрада, 22.04.1863 зняволены ў бальніцы г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 18.06.1863 і пастановы ВілГП ад 07.07.1863 падлягала секвестру. Праходзіў па справе разам з *Верашчакамі Аляксандрам* і *Канстанцінам* і *Гедройцем Антоніем*. Пастановай М. Мураўёва ад 23.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска. У 1865 г. знахо-

дзіўся на службе ў 4 лінейным батальёне Заходняй Сібіры *(295—1—1527—107адв.; 299—2—6694—4; 319—1—479—14адв.; 319—2—590—139адв.; 320—1—398—129адв.; 1416—6—268; 1430—1—52163—604адв.).*

2534. **Казела Юльян** (Козелло Юлиан), сын *Клімента*, брат *Уладзіслава*, дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

**Казела Яўстах** — гл. **Козел Яўстах**

2535. **Казёл Караль** (Козёл Карл), селянін. Да паўстання прыпісаны да Ястрамбінскай сельскай грамады Навагрудскага пав., жыў у г. Варшаве. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Прысуджаны да ссылкі на 3 гады ў арыштанцкія роты. Пасля адбыцця пакарання адпраўлены на пасяленне ва ўнутраныя губерні Рас. імперыі *(295—1—2725—30).*

2536. **Казёл (Козел) Тадэвуш** (Козёл (Козел) Фадей), аднадворац Мінскага пав., каталік. Да паўстання жыў ва ўроч. Курганы Мінскага пав., дзе валодаў 20 моргамі зямлі. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады. Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці выдадзены 22.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1643—98, 109адв.; 299—1—577—511-513; 320—1—398—193; 1418—3—1—38адв.-39).*

2537. **Казіградскі Цэзар** (Козиградский Цезарий), сын Ігната, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання служыў сакратарам слонімскага павятовага маршалка. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 16.11.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 12 лет *(160—2—682—21; 162—1—116—175; 295—1—1643—112; 534—1—14—9).*

2538. **Казімірскі Аляксандр** (Казимирский Александр), сын Мацея, аднадворац Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Казелы Вінцэнта* ў Барысаўскім і Вілейскім пав., да 01.05.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, 09.1863 утрымліваўся ў гарадской турме ў г. Мінску. Сярод іншага, даваў паказанні пра *Каца Янкеля.* У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1643—89, 96адв.; 296—1—90—4адв.-5; 319—1—479—17; 1430—1—52163—167адв.).*

2539. **Казімірскі Фелікс** (Казимирский Феликс). Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

2540. **Казіцкі Дамінік** (Казицкий Доминик), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Дусяты Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—15адв.; 1416—3—21048—33; 3046—2—5—26адв.).*

2541. **Казлавіцкі Мікалай** (Козловицкий Николай), дваранін Невельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да канфіскацыі маёмасці. Адпаведнае распараджэнне было выдадзена 27.08.1864 віцебскім губернатарам на падставе загада М. Мураўёва ад 21.08.1864 *(1416—4—11416—21-23; 1430—1—52163—423).*

2542. **Казлінскі Войцех** (Козлинский Альберт (Адальберт)), сын Яна Ігнатавіча, брат *Віктара* і Леаніды (v. Ножынай), памешчык. Да паўстання меў у суўладанні маёнтак Гіраўцы Чавускага пав. За дачыненне да паўстання (да 31.05.1863) арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Паводле пастановы следчай камісіі высланы (да 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць секвестравана і потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Прадаў сваю частку маёнтка сястры *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2003—1—245—5; 2003—1—372—310-314; 2003—1—445—5, 15; 2003—1—489—38; 2532—1—15—9).*

2543. **Казлінскі Віктар** (Козлинский Виктор), сын Яна Ігнатавіча, брат *Войцеха* і Леаніды (v. Ножынай), памешчык. Да паўстання меў у суўладанні маёнтак Гіраўцы Чавускага пав. Падчас паўстання западозраны ў сувязях з паўстанцамі. Пасля «адміністрацыйным парадкам» высланы з радзімы. Яго маёмасць у 1865 г. падлегла абавязковаму продажу, у сувязі з чым прадаў сваю частку маёнтка сястры *(2003—1—372—310-314; 2514—1—2198—68).*

2544. **Казлінскі Уладзіслаў** (Козлинский Владислав), сын Адама, памешчык. Абвінавачаны рас.

уладамі ў «супрацьзаконных выразах і дзеяннях у палітычных адносінах». Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—5адв.-6; 3257—2—8—7).*

2545. **Казлоўская Казіміра** (Козловская Казимира), жонка *Фелікса*, дваранка Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. У 1871 г. з мужам і сынам Станіславам жыла пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.; 1430—1—52163—201).*

2546. **Казлоўская Марыя** (Козловская Мария), дваранка. Да паўстання жыла ў м. Шчучын Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

2547. **Казлоўскі Адам** (Козловский Адам). Служыў у рас. войску; капітан. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў ва Уфімскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—27).*

2548. **Казлоўскі Аляксандр** (Козловский Александр). Да паўстання выкладаў у акадэміі ў г. Горкі Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2514—1—2198—68адв.).*

2549. **Казлоўскі Анастас** (Козловский Анастасий), сын Юзафа і Марыяны, брат Віктара, Станіслава і Юзафа, дваранін Аршанскага пав., каталік. Да паўстання служыў столаначальнікам Віцебскай палаты крымінальнага суда, губернскі сакратар. Валодаў у якасці суспадчынніка фальв. Пожанкі Аршанскага пав. (59 дзес. 600 саж.). 23.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Удзельнічаў у паўстанні разам з *Корбутамі Вільгельмам* і *Францішкам*, *Шкленікам Баляславам* і інш., арыштаваны. 07.05.1863 звольнены са службы. Быў пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пад судом знаходзіўся ў ВВСК, якой прызначаны (каля 02.01.1864) да бестэрміновай ссылкі на катаргу. Канчаткова прысуджаны (каля 17.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. 08.05.1864 МагГП выдала ўказ пра канфіскацыю. Яго частка даходу з фальв. Пожанкі за 1864–1865 гг. у 3 руб. ср. штогод уносілася ў казну *(319—1—479—18; 1416—3—21048—30адв.; 1430—1—31259—10-12, 39адв.; 1430—1—31604—5; 1430—1—52163—182адв.; 2001—3—23—3; 2003—2—78; 3046—2—3—37адв.-38; 3046—2—5—24адв.).*

2550. **Казлоўскі Андрэй** (Козловский Андрей). Да паўстання служыў лясным вартаўніком. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72).*

2551. **Казлоўскі Антоні-Адольф** (Козловский Антоний-Адольф), сын тытулярнага радцы доктара медыцыны Ігната Вінцэнтавіча (нар. каля 1811, пам. 20.07.1848) і Пелагеі Прыгодскай, брат Зоф'і (нар. каля 1839), Вітальда (нар. каля 1841) і Марыі (нар. каля 1846), дваранін Мінскай губ., каталік. Нар. 17.06.1844, хр. 09.07.1844 у Мінскім кафедральным касцёле. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах у г. Горкі. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі Горкаў і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка.* Паводле пастановы следчай камісіі, прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—68; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—8, 208-212).*

2552. **Казлоўскі Апалінары** (Козловский Апполинарий), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—14; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603).*

2553. **Казлоўскі Базыль** (Козловский Василий), сын Ануфрыя, селянін. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў дачыненне *Рагоўскі Мацей.* Яго рухомая маёмасць у маёнтку Гапонавічы Сенненскага пав. (3 свойскія жывёлы) 29.06.1863 апісана і секвестравана *(2003—1—279—1-2, 5; 2003—2—7; 3257—2—2—17, 30).*

2554. **Казлоўскі Вінцэнт** (Козловский Викентий), дваранін Вілейскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Сакаўшчына Вілейскага

пав. (190 валок зямлі). За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15; 1430—1—52163—181).*

2555. **Казлоўскі Густаў** (Козловский Густав), сын Францішка і Зоф'і, дваранін. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Гіпалітава Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

2556. **Казлоўскі Дамінік** (Козловский Доминик), мешчанін Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—16адв.).*

2557. **Казлоўскі Іаахім** (Козловский Иоаким), сын Яна, селянін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Рушча Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

2558. **Казлоўскі Казімір** (Козловский Казимир), сын Валенція (ці Вінцэнта), селянін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у маёнтку Багушэвічы Ігуменскага пав. памешчыка *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава.* Удзельнічаў у паўстанні, узяты ў палон каля в. Гайдукова Слабодка Ігуменскага пав. пасля рассеяння паўстанцкага атрада. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення з радзімы. 03.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага прысуджаны (да 22.05.1864) да ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 2 гады і канфіскацыі маёмасці. Сасланы *(162—1—116—112адв.; 295—1—2725—35адв.; 296—1—56—1адв., 15адв.; 320—1—398—452адв.; 1418—3—1—39адв.-40).*

2559. **Казлоўскі Кандрат** (Козловский Кондратий). Да паўстання служыў пінскім гарадскім галавой. Западозраны ў недастатковай палітычнай «добранадзейнасці» і звольнены са службы з прызначэннем на яго месца «больш добранадзейнай праваслаўнай асобы» *(295—1—1643—101, 103).*

2560. **Казлоўскі Міхал** (Козловский Михаил), сын Вінцэнта, брат *Яна.* Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Абвінавачаны ў прыналежнасці да «рэвалюцыйнай партыі» і арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загаду ЧВГМГ ад 24.10.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.06.1864 як апраўданы ад абвінавачванняў, але «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прызначаны да ссылкі на сталае жыхарства ў Аланецкую губ. пад нагляд паліцыі *(162—1—116—123адв.; 295—1—1643—87; 296—1—90—8адв.-10; 320—1—398—528, 552; 1430—1—52163—237адв.).*

2561. **Казлоўскі Павел** (Козловский Павел), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—14адв.).*

2562. **Казлоўскі Уладзіслаў** (Козловский Владислав). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1879 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—22).*

2563. **Казлоўскі Фелікс** (Козловский Феликс), муж *Казіміры*, дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. У 1871 г. з жонкай і сынам Станіславам жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.; 1430—1—52163—201).*

2564. **Казлоўскі Францішак** (Козловский Франц), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562).*

2565. **Казлоўскі Францішак** (Козловский Франц), ксёндз. Да паўстання служыў у Троцкім пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—15; 1430—1—52163—204).*

2566. **Казлоўскі Ян** (Козловский Ян), дваранін. Да паўстання жыў у в. Вількішкі Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—132адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—599адв.).*

2567. **Казлоўскі Ян** (Козловский Иван), сын Вінцэнта, брат *Міхала.* Да паўстання служыў па-

мочнікам столаначальніка Мінскай палаты грамадзянскага суда, калежскі рэгістратар. Абвінавачаны ў прыналежнасці да «рэвалюцыйнай партыі» і арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 24.10.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.06.1864 як апраўданы ад абвінавачванняў, але «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прызначаны да ссылкі на сталае жыхарства ў Пермскую губ. пад нагляд паліцыі. У 1871 г. жыў у Аланецкай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(162—1—116—123адв.; 295—1—1643—87; 296—1—90—8адв.-10; 320—1—398—528, 552; 1430—1—35146—91, 103; 1430—1—52163—237адв.).*

2568. **Казлоўскі Якуб** (Козловский Яков), селянін. За дачыненне да паўстання арыштаваны. На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты на 4 гады *(1430—1—52163—405адв.).*

2569. **Казлоўскі Яўстах** (Козловский Евстафий), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—9; 2532—1—15—11адв.).*

2570. **Казлоўскі N.** (Козловский N.), дваранін. Паходзіў з-пад м. Зэльвы Вількамірскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць прысуджана да канфіскацыі *(296—1—25—108адв.).*

2571. **Казлякоўскі Мікалай** (Козляковский Николай). Да паўстання служыў настаўнікам жан. гімназіі ў г. Мінску. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. прысуджаны да ссылкі пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(295—1—1643—95адв.).*

2572. **Казьмін**[96] **Ян** (Козьмин Иван), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—6).*

2573. **Казярадскі (Казяродскі) Уладзіслаў** (Козерадский (Козеродский) Владислав), сын Фелікса, памешчык. Служыў у рас. войску, паручнік. Да паўстання выйшаў у адстаўку, валодаў маёнткамі Каляды і Рудавец Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 21.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—16адв.; 320—1—398—126; 1416—6—237; 1430—1—52163—602).*

2574. **Казярадскі N.** (Козерадский N.). Служыў у рас. войску ў чыне паручніка. Да паўстання з'яўляўся наглядчыкам ваеннага шпіталя ў г. Дынабургу. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства высланы (да 15.01.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1416—3—21048—31адв.; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44).*

**Казяродскі Уладзіслаў** — гл. **Казярадскі Уладзіслаў**

2575. **Казяроўскі Браніслаў** (Козеровский Бронислав). Да паўстання служыў пісьмаводам гарадской ратушы у м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

2576. **Кайро Клімент** (Каиро Климентий), ксёндз. Да паўстання служыў настаўнікам закону Божага ў гімназіі ў г. Коўна. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

2577. **Кайровіч Казімір** (Кайрович Казимир), дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання служыў аканомам памешчыка Сулістроўскага. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15; 1416—4—11416—114; 1416—6—274; 1430—1—52163—204).*

2578. **Кайшэўскі Браніслаў** (Койшевский Бронислав), дваранін. Да паўстання жыў у г. Брэсце. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—16адв.).*

[96] Верагодна, гэта імя па бацьку.

2579. **Калавург Казімір** (Каллаург Казимир), дваранін. Падчас паўстання арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—92адв.)*.

2580. **Калакоўскі (Кулакоўскі) Ян** (Колаковский (Кулаковский) Иван), сын Юзафа, дваранін Рэжыцкага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Пярэмысль Рэжыцкага пав. (3203 дзес. зямлі, 2 сады, вятрак, 3700 руб. гадавога прыбытку). 20.04.1863 схоплены сялянамі разам з *Калкоўскім Аляксандрам* і іншымі ля карчмы Букмуйжа Рэжыцкага пав., дастаўлены ў г. Рэжыцу. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Тамбоўскую губ. На Пярэмысль 16.07.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Рыгу, дзе ў 1875 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—30; 1430—1—31355—113; 1430—1—35810—14-17; 1430—1—35834—58, 63; 1430—1—52163—215адв.-216, 231, 421, 567адв., 596адв., 666адв., 678адв., 826; 2616—1—40—10адв., 12адв.)*.

2581. **Калантай Віктар** (Коллонтай Виктор), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—7)*.

2582. **Калапкоўскі Юзаф** (Колапковский Осип), сын Ваўрынца, вольны хлебароб Магілёўскай (?) губ. Нар. каля 1824 г. Абвінавачаны рас. уладамі ў «прамаўленні супраць Ураду падбухторных выразаў». Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 12.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—5адв.-6)*.

2583. **Каласоўскі Нічыпар** (Колосовский Никифор), селянін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—17адв.)*.

2584. **Каласоўскі Пётр** (Колосовский Петр), аднадворац Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Сасланы шарагоўцам у Сібірскія батальёны рас. войска. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—124)*.

2585. **Каласоўскі Юзаф** (Колосовский Иосиф). Да паўстання з'яўляўся «дваравым чалавекам». Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.)*.

2586. **Калачынскі Леан** (Калачинский Лев), сын Якуба, аднадворац Лепельскага пав. Нар. каля 1789 г. Да паўстання служыў палясоўчыкам у маёнтку Сяргееўшчына Лепельскага пав. ці маёнтку Ірынполле Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 24.09.1863 прысуджаны да звальнення са службы і ссылкі на пасяленне ў Гомельскі пав. Яго маёмасць падлягала продажу, але яе не было знойдзена. 12.10.1863 адпраўлены з Барысава на месца ссылкі *(295—1—1527—100; 295—1—1643—101адв.; 2001—1—898—8-19)*.

2587. **Калачэўскі Ізыдар** (Колочевский Исидор), мешчанін г. Слоніма. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—16адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

2588. **Калейша Пётр** (Калейша Петр), вольны хлебароб. Падчас паўстання хаваў зброю, за што ў 1864 г. прысуджаны да штрафу ў 10 руб. *(295—1—1643—105адв.)*.

2589. **Календа Адам** (Коленда Адам), ксёндз. Да паўстання служыў у Віленскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546)*.

2590. **Календа Нікадым** (Коленда Никодим), сын Юзафа, муж Францішкі, бацька Ксаверыя, *Пятра*, Эдварда і чатырох дачок, аднадворац. Нар. каля 1801 г. Да паўстання жыў у вак. Дашкавічы Навагрудскага пав., прыпісаны да Макрэцкай сельскай грамады. За «палітычную нядобранадзейнасць» высланы ў 1864 г. у г. Маскву, адкуль адпраўлены на пасяленне ў Томскую губ. У 1875 г. жыў разам з сынам у в. Нова-Грабеншчыкавая Каінскай акругі Томскай губ., падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму, якое было адхілена *(295—1—2725—9адв.; 295—1—2765)*.

2591. **Календа Пётр** (Коленда Петр), сын *Нікадыма* і Францішкі, брат Ксаверыя, Эдварда і чатырох сясцёр, аднадворац. Нар. каля 1830 г. Да паўстання жыў у вак. Дашкавічы Навагрудскага пав., прыпісаны да Макрэцкай сельскай грамады. За «палітычную нядобранадзейнасць» арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. У 1864 г. высланы ў г. Маскву, адкуль адпраўлены на пасяленне ў Том-

скую губ. У 1875 г. разам з бацькам жыў у в. Нова-Грабеншчыкавая Каінскай акругі Томскай губ., падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму, якое было адхілена *(295—1—1643—103; 295—1—2725—9адв.; 295—1—2765)*.

2592. **Календа Уладзіслаў** (Колендо Владислав), сын Аляксандра, памешчык Ковенскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68)*.

2593. **Календа Уладзіслаў** (Колендо Владислав), сын Антонія, шляхціц Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1836 г. Да паўстання служыў аканомам памешчыка Чавускага пав. Сянажэнцкага. 27.04.1863 агітаваў сялянаў далучыцца да паўстання. 29.04.1863 арыштаваны сялянамі і перададзены ў Магілёўскае паліцэйскае ўпраўленне. Зняволены ў турэмным замку г. Магілёва. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, 21.10.1863 яго справа пададзена МагВГ. 14.12.1863 аддадзены пад суд у МагВСК, якая 14.04.1864 скончыла яго справу і падала камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На судзе і следстве не прызнаўся ў абвінавачаннях. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 18.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 22.06.1864 адпраўлены на месца ссылкі. Потым пераведзены ў Казанскую губ., дзе ў 1864 г. хадайнічаў аб выдачы грашовай дапамогі ад дзяржавы *(295—1—1643—111адв.; 299—1—579—298-307; 319—1—479—17; 320—1—398—447-448; 320—2—98—38; 1430—1—52163—206; 2001—1—901—5-8; 3256—2—24; 3257—2—2—18)*.

2594. **Калімбэрг Цыпрыян** (Калимберг Киприан), ксёндз. Да паўстання служыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

2595. **Каліноўская Тэафіла** (Калиновская Теофила), жонка *Ігната*, маці *Канстанціна*. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) з мужам і сынам «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.)*.

2596. **Каліноўскі Габрыэль** (Калиновский Гавриил), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—68)*.

2597. **Каліноўскі Ігнат** (Калиновский Игнатий), муж *Тэафілы*, бацька *Канстанціна*. Да паўстання служыў на рас. грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з жонкай і сынам «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.)*.

2598. **Каліноўскі Канстанцін** (Калиновский Константин), сын *Ігната* і *Тэафілы*. Да паўстання служыў у Лідскім павятовым казначэйстве. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з бацькамі «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.)*.

2599. **Каліноўскі Канстанцін-Вінцэнт** (Калиновский Константин-Викентий), дваранін Гродзенскай губ. Падчас паўстання з'яўляўся камісарам Гродзенскага[97] ваяв. Арыштаваны, даваў паказанні, сярод іншага, пра *Аскерку Міхала*, *Параф'яновіча Вітальда*. Пастановай ваеннага суда прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103; 320—1—398—224адв.; 3256—2—29—27адв.-28)*.

2600. **Каліноўскі Юзаф** (Калиновский Иосиф). Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне інжынера-капітана. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.)*.

2601. **Каліноўскі Юзаф-Люцыян** (Калиновский Иосиф-Луциан), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195)*.

2602. **Калісевіч Карп** (Калисевич Карп), мешчанін Бельскага пав. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—16; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601)*.

---

[97] У некаторых дакуменах памылкова падаецца, што быў камісарам Віленскага ваяв.

2603. **Калкоўскі Аляксандр** (Колковский Александр). Паходзіў са Слуцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці *(162—1—116—103, 166; 1430—1—52163—150)*.

2604. **Калкоўскі Аляксандр** (Колковский Александр). Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. 20.04.1863 схоплены сялянамі ля карчмы Букмуйжа Рэжыцкага пав. разам з *Калакоўскім Янам* і іншымі, дастаўлены ў г. Рэжыцу. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва, сасланы (да 12.10.1863) у Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. На месцы ссылкі звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—3—21048—30адв., 32адв.; 1430—1—31355—112-115; 1430—1—52163—397адв.)*.

2605. **Калкоўскі Іпаліт** (Колковский Ипполит), дваранін, каталік. Да паўстання служыў памочнікам столаначальніка ў МагГП. За «палітычную нядобранадзейнасць» звольнены са службы. У 1866 г. жыў у Сенненскім пав., займаўся прыватным пісьмаводствам *(2001—2—14—15адв.-16; 2003—2—96—44, 55)*.

2606. **Калпакоўскі Ігнат** (Колпаковский Игнатий). Да паўстання служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Яго сын знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе. Хадайнічаў аб выдачы сыну пасведчання аб недачыненні да паўстання. Западозраны ў агітацыі на карысць паўстанцаў і арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога пачаткова прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў «дальнія губерні Рас. імперыі». Паводле канфірмацыі А. Патапава ад 08.03.1865 звольнены са службы і прысуджаны да штрафа ў 50 руб. ср. *(160—2—682—117-118; 295—1—1643—87адв., 102адв.)*.

2607. **Калудскі Юзаф** (Калудзкий Иосиф). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—22)*.

2608. **Калупайла Уладзіслаў** (Колупайло Владислав), дваранін Ваўкавыскага пав. Да паўстання служыў пісарам Ваўкавыскага земскага суда. Падчас паўстання ўзяў часовы адпачынак і выехаў з г. Ваўкавыска на 7 дзён у г. Свіслач Ваўкавыскага пав. да хворай маці. Праз 7 дзён не вярнуўся на службу, таму «мясцовым ваенным начальствам» прызнаны ўдзельнікам паўстання. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ГГП ад 22.08.1863 *(1416—6—221)*.

2609. **Калупайла N.**[98] (Колупайло N.), памешчык Ваўкавыскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, загінуў (?). Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108)*.

2610. **Калусоўская Ганна** (Калусовская Анна), дваранка Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

2611. **Калусоўскі Геркулан** (Калусовский Геркулан), сын Юзафа, муж Марыі Юзафаўны Ласіцкай, каталік. Да паўстання служыў рэгістратарам Магілёўскай казённай палаты, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Пензу. Яго сумесныя з жонкай дом, зямля (175,5 кв. саж.) і рухомасць у г. Магілёве на суму 351,91 руб. ср. 10.06.1863 апісана, секвестравана і перададзена ў карыстанне жонкі *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2003—2—20—1-5, 13, 20-21; 2003—2—96—10)*.

2612. **Калусоўскі Цэзар** (Колусовский Цезарий), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

2613. **Калусоўскі Юзаф** (Колусовский Иосиф). Нар. каля 1835 г. у Ашмянскім (?) пав. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, потым перавёўся ў аналагічную Варшаўскую. Удзельнічаў у паўстанні, схаваўся ад рас. уладаў. Пастановай ваеннага суда (завочна?) прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223адв.; 1527—1—4—90-91)*.

2614. **Калусоўскі Юстын** (Калусовский Устин), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

2615. **Калынкоўскі Юзаф** (Колынковский Осип), сын Ваўрынца, селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 08.07.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—7)*.

---

[98] Магчыма, маецца на ўвазе адзін з камадзіраў слонімскага паўстанцкага атрада Ян Калупайла.

2616. **Калышка Баляслаў** (Колышко Болеслав), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

2617. **Калышка Міхал** (Колышко Михаил), дваранін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—15)*.

2618. **Калышка Юзаф** (Колышко Иосиф), памешчык Вількамірскага і Новааляксандраўскага пав. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Ніжагародскую ці Пермскую губ. На яго маёмасць 21.07.1864 паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 07.07.1864 накладаўся секвестр, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлягала абавязковаму продажу *(1416—3—21048—33; 1430—1—52163—194адв., 402; 2532—1—15—3, 4; 3046—2—5—27)*.

2619. **Кальнеціс Адам** (Кальнетис Адам), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—26адв.)*.

2620. **Калянкоўская N.** (Колянковская N.), жонка *Антонія*, дваранка Ашмянскага пав. Западозрана рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з мужам выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9)*.

2621. **Калянкоўскі Антоні** (Колянковский Антон), муж *Калянкоўскай N.*, дваранін Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў пастаўцы харчавання паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з жонкай высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9)*.

2622. **Калянкоўскі Аркадзь** (Колянковский Аркадий), памешчык. Служыў у коннай артылерыі войскаў рас., выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання меў у сумесным валоданні маёнтак Паташня Чавускага пав. і маёнтак Лапацічы Быхаўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Высланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць была секвестраваная і потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1867 г. прадаў Лапацічы генерал-маёру Ціту Калянкоўскаму *(2003—1—372—213-214; 2003—1—445—4адв.; 2003—1—489—37адв.-38; 2532—1—15—9, 10адв.; 3257—2—2—18адв.)*.

2623. **Каляновіч Тадэвуш** (Коленович Фаддей), дваранін. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што ў 1864 г. прысуджаны да штрафу ў 20 руб. *(295—1—1643—105адв.)*.

2624. **Калясінскі Адам** (Колесинский Адам), аднадворац. Да паўстання жыў у в. Нонішкі Лідскага пав., служыў арганістам у касцёле м. Жалудок. Падчас паўстання зачытаў у касцёле паўстанцкі маніфест. За гэта яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—129; 1416—6—274; 1430—1—52163—604)*.

2625. **Калясінскі Бальтазар** (Колесинский Бальтазар), памешчык Лідскага пав. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам. За дачыненне да спраў па паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—109; 1416—6—265; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—12адв.)*.

2626. **Калясінскі Ігнат** (Колесинский Игнатий), сын Тамаша, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 14.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—47адв.-48)*.

2627. **Камазгерскі Леан** (Камозгерский Леон), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 30.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—7)*.

2628. **Камароўскі Антоні** (Комаровский Антон), сын Фартуната, дваранін Сенненскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў тым, што ведаў

пра збор атрада ў с. Бешанковічы Лепельскага пав. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.04.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—32, 32адв.; 2514—1—2198—68адв.; 3046—2—3—41адв.-42; 3046—2—5—25адв.)*.

2629. **Камароўскі Рышард** (Комаровский Ричард), сын Мацея, брат Віктара, памешчык. Да паўстання сумесна з братамі валодаў маёнткам Труханавічы Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго маёмасць секвестравана і потым канфіскавана *(319—1—479—18; 320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.; 2001—3—23—3; 2003—1—445—4, 15; 2003—2—90—30; 3257—2—2—17адв.)*.

2630. **Каменскі Антоні** (Каменский Антон), сын Ануфрыя, брат Тэафіла (надворнага радцы), памешчык Чэрыкаўскага і Мсціслаўскага пав. Да паўстання служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана 8 Сапёрнага батальёна Шлісельбургскага палка. Западозраны ў дачыненні да спраў па паўстанні, у 1863 г. арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пададзена МагВГ. Зняволены ў г. Магілёве ў казармах батальёна ўнутранай варты. Быў пад судом у МагВСК, якая 30.04.1864 падала яго справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. з прызначэннем да пазбаўлення чыну і правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 04.06.1864 за «зносіны з падазронымі асобамі і як цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высылкі на жыхарства ў Арэнбургскую губ. 26.06.1864 адпраўлены з Магілёва ў г. Смаленск для далейшай ссылкі. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—237; 2001—1—900—1; 2532—1—15—9адв., 10; 3256—2—30; 3366—1—5—6адв.)*.

2631. **Каменскі (Камінскі) Міхал** (Каменский (Каминский) Михаил), сын Афанасія, памешчык Дзісенскага пав. ці дваранін Мінскага пав. Да паўстання служыў у Мінскай палаце грамадзянскага суда. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Пермскую губ. без пазбаўлення правоў, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. На драўляны дом у г. Мінску, які належаў яго бацькам, накладзена забарона. Сасланы ў Пермскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(162—1—116—103; 295—1—1643—90адв., 95адв., 96адв.; 295—1—3040—16-17, 26; 1430—1—52163—150адв.; 2532—1—15—12)*.

2632. **Каменскі N.** (Каменский N.). Служыў на вайсковай службе, падпаручнік. Падчас паўстання арыштаваны і ў 1863 г. звольнены са службы як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» *(295—1—1643—103)*.

2633. **Камёнка Адам** (Камионко Адам), сын Антонія, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—45адв.-46)*.

2634. **Камёнка Вільгельміна** (Каменкова Вильгельмина), дачка Ігната, дваранка Лепельскага пав., каталічка. Абвінавачана рас. уладамі ў «нашэнні польскіх нацыянальных касцюмаў». Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 28.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—47адв.-49)*.

2635. **Камёнка Ева** (Камионко Евва), дачка Антонія, дваранка Лепельскага пав., каталічка. Да паўстання не была замужам. Абвінавачана рас. уладамі ў «спачуванні польскаму паўстанню нашэннем патрыятычных польскіх касцюмаў». Арыштавана (да 24.02.1864), утрымлівалася ў г. Полацку. Знаходзілася пад следствам у ВСК. Давала паказанні, сярод іншага пра тое, што *Дабашынскі Рафал* вярнуўся з паўстанцкага атрада, хаваецца ў Дрысенскім пав. і ўвесну мае намер ізноў далучыцца да паўстанцаў. ВСК прызнала яе вінаватай і 31.05.1864 падала яе справу віцебскаму губернатару *(2601—1—5—11; 3046—2—3—49адв.-50)*.

2636. **Камёнка Ігнат** (Камионко Игнатий), сын Мікалая, брат *Францішка*, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў часткай фальв. Пышнагоры Лепельскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пачаткова ўтрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 09.1863 пераведзены ў г. Дынабург, а яго справа 13.09.1863 перададзена ў ДСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Пышнагоры канфіскаваны (да 24.07.1864) *(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—30; 1416—4—11416—285, 286адв., 326-327; 1430—1—52163—167адв., 230, 409, 449, 569, 823; 2601—1—2—238; 3046—2—3—40адв.-41; 3046—2—5—25, 26адв.)*.

2637. **Камёнка Петрунэля** (Каменко Петрунеля), дачка Якуба, дваранка Лепельскага пав., каталічка. Разам з *Радзевіч Элеанорай* западозрана рас. уладамі ў веданні пра тое, што *Багдановіч Клара* збірае грошы для паўстанцаў. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—45адв.-46)*.

2638. **Камёнка Францішак** (Камионко Франц), сын Мікалая, брат *Ігната*, памешчык. Нар. каля 1837 г. Да паўстання валодаў часткай фальв. Пышнагоры Лепельскага пав., служыў у Лепельскім павятовым судзе; калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання пастановай ПВА і канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Пышнагоры канфіскаваны (да 24.07.1864). Нягледзячы на гэта, ВГП 12.03.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі. У ссылцы знаходзіўся ў Іркуцкай губ., дзе ўтрымоўваўся на грашовай дапамозе ад казны. 09.1874 атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. 02.07.1876 адпраўлены «этапным парадкам» з г. Балаганска Іркуцкай губ. на радзіму *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—698-699, 1416—3—21048—33; 1416—4—11416—170-173, 286адв., 326-327; 1430—1—35976—2-4; 1430—1—52163—167адв., 409, 449, 823; 2626—1—305—52-53)*.

2639. **Камінскі Адам** (Каминский Адам), сын Станіслава, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—36адв.-37)*.

2640. **Камінскі Антоні** (Каминский Антон), сын Антонія, дваранін Віцебскага пав., каталік. Да паўстання служыў старшым памочнікам столаначальніка Віцебскай палаты крымінальнага суда. 22-30.04.1863 не з'яўляўся на службу. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада і 31.07.1863 арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. У 1870 г. у Казанскай губ. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—31-32; 1416—3—21048—31, 33; 1430—1—31259—10-12, 39адв.; 1430—1—52163—194адв., 402; 3046—2—3—43адв.-44)*.

2641. **Камінскі Антоні** (Каминский Антон), сын Ануфрыя і Кацярыны, брат Валяр'яна, Ганны, Тэафіла, Тэафілі і Юліі, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання разам з маці, братамі і сёстрамі валодаў маёнткам Галееўка Мсціслаўскага пав. (39 муж. душ, 450 дзес. зямлі, дом на 8 пакояў, стайня, фруктовы сад, пасека, гаспадарчыя пабудовы і інш., 380 руб. гадавога даходу, 1025 руб. ср. доўгу). За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 Галееўка 29.06.1863 апісана і секвестравана, але потым падлягала вяртанню ў яго валоданне[99] *(2003—1—257; 2003—1—445—4адв.; 2514—1—2198—68адв.; 3257—2—2—18)*.

2642. **Камінскі Антоні** (Каминский Антон), сын Яна, аднадворац Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 10.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады. МГП 21.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—101; 319—1—479—17; 320—1—398—145, 181-182, 222; 320—2—98—38)*.

2643. **Камінскі Баляслаў** (Каминский Болеслав). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. *(2514—1—2198—68)*.

2644. **Камінскі Вінцэнт** (Каминский Викентий), сын Аляксандра, муж Барбары Мацееўны, бацька Францішкі, цесць *Арцішэўскага Яна*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1805 г. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Строганы Суражскага пав.[100] (прыкладна з 1859 г.) памешчыцы Ганны Заблоцкай. Падчас паўстання арыштаваны за «распаўсюджванне хлуслівых чутак і аповедаў пра магутныя захады, што робяць мяцежнікі для вызвалення Польшчы, захоўванне ў сябе прыналежнасцяў да стрэльбаў, падбухторнага гімна і адозвы да польскага патрыятызму». На яго маёмасць 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебска-

[99] Адзін са згаданых Камінскіх Антоніеў, які быў высланы з радзімы, валодаў да паўстання часткамі маёнткаў Сапалава Чэрыкаўскага пав. і Халмы Клімавіцкага пав., якія ў 1865 г. знаходзіліся пад секвестрам [гл.: 2003—1—445—15; 2003—1—489—25, 62], аднак урыўкавасць звестак не дазваляе яго ідэнтыфікаваць з кім-небудзь канкрэтна.

[100] У некаторых дакументах памылкова падаюцца звесткі пра тое, што арандаваў Строганы.

га губернатара ад 03.08.1863 загадвалася накласці секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 07.08.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 12.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго рухомая маёмасць (адзенне, мэбля, кібітка) на 6,3 руб. на падставе ўказа ВГП ад 10.01.1864 апісана і секвестравана 14.01.1864 і прададзена 05.02.1864 з публічнага аўкцыёну за 11,95 руб. *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—31; 1430—1—52163—409адв., 426, 596адв., 826; 2586—1—22—4; 2586—1—52; 2616—1—40—12адв.; 2626—1—305—1-2; 3046—2—3—38адв.-39; 3046—2—5—24адв.).*

2645. **Камінскі Габрыэль** (Каминский Гавриил), шляхціц Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16; 1430—1—52163—205).*

2646. **Камінскі Даніэль** (Каминский Даниил). Да паўстання служыў наглядчыкам паштовай станцыі Смаргонь Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

2647. **Камінскі Леан** (Каминский Лев), сын Мацея, дваранін Віцебскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—222адв.; 1416—3—21048—31).*

**Камінскі Міхал** — гл. **Каменскі Міхал**

2648. **Камінскі Эдвард** (Каминский Эдуард), сын Юльяна (паўстанца 1831 г.), дваранін. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» Канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1864 прысуджаны да ссылкі «адміністрацыйным шляхам» у Пензенскую губ. пад нагляд паліцыі і секвестру маёмасці. Спачатку атрымоўваў у ссылцы матэрыяльную дапамогу ад дзяржавы, але потым яна была спыненая. Пасля амністый атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму; 04.1880 жыў у г. Мінску *(160—2—682—20, 101; 162—1—116—151; 295—1—1643—1010адв.; 295—1—3492—18; 1430—1—52163—379).*

2649. **Камінскі Юстын** (Каминский Устин), сын Норберта, дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 26.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На яго маёнтак Плешчаніцы Барысаўскага пав. накладзены секвестр. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 14.07.1864 сасланы на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. без пазбаўлення правоў стану *(295—1—1527—106; 295—1—1643—91адв.; 295—1—2212; 296—1—89—46).*

2650. **Камінскі Ян** (Каминский Иван). Служыў міравым пасярэднікам Гродзенскага пав., калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ., потым вернуты ў г. Гродна *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

2651. **Камоцкі Клімент** (Комоцкий Климентий), селянін Мінскай (?) губ. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. прысуджаны да ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 3 гады. *(295—1—1643—111адв.).*

2652. **Камоцкі Марцін** (Комоцкий Мартин), сын Яна, дваранін Мінскага пав. Да паўстання служыў у Мінскай казённай палаце, калежскі рэгістратар. Атрымаў разам з *Стампкоўскім Пятром* ліст у Мінскай паштовай канторы па фальшывай даверанасці на імя паўстанца *Станкевіча Караля*, арыштаваны. Канфірмацыяй А. Патапава ад 05.10.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Пасля частковай амністыі вярнуўся на часовае знаходжанне на радзіму, 07.03.1875 атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў Мінскай губ. У 1883 г. жыў ва ўласным доме на Шпітальнай вул. г. Мінска *(162—1—116—159; 295—1—2741; 320—1—398—635-636, 638).*

2653. **Кампаноўскі Ігнат** (Компановский Игнатий), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—85; 1430—1—52163—540).*

2654. **Камянецкі Адам** (Каменецкий Адам), дваранін Свянцянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15; 534—1—14—4; 1416—4—11416—116; 1430—1—52163—374).*

2655. **Камянецкі Уладзіслаў** (Каменецкий Владислав), сын Вінцэнта, ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Пяршаі Мінскага пав. За намаўленне сялянаў далучыцца да паўстанцаў арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысу-

джаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(162—1—116—166; 295—1—1643—91, 96адв.; 296—1—19—58; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—124, 263, 423адв.; 320—2—98—38; 1430—1—52163—596б).*

2656. **Канапацкі Антоні** (Конопацкий Антон), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў з бацькамі ў г. Вільні, вучыўся ў гімназіі. Удзельнічаў у паўстанні, паранены. Знаходзіўся разам з *Коркуцем Цыпрыянам* на лячэнні ў *Космана N.* Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—14; 320—1—398—128адв.; 1416—6—274; 1430—1—52163—603адв.).*

2657. **Канапацкі Базыль** (Конопацкий Василий), сын *Геранім*а, стрыечны брат *Баляслава*, дваранін Барысаўскага (?) пав. Да паўстання служыў пісарам у Мінскай грамадзянскай палаце. У паўстанні 04.1863 далучыўся да атрада *Свентарэцкага Баляслава* ці *Чыжыка Мельхіёра*, пасля чаго хаваўся разам з *Пстроцкім Юзафам* ад рас. уладаў. На яго маёмасць накладаўся секвестр. 18.12.1863 і 07.1865 месца яго знаходжання не было вядомае рас. уладам *(162—1—116—166, 166адв.; 296—1—19—144-148; 1527—1—4—132-133; 2001—2—130).*

2658. **Канапацкі Баляслаў** (Конопацкий Болеслав), пляменнік *Геранім*а, стрыечны брат *Базыля*, дваранін Барысаўскага (?) пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Мсціж Барысаўскага пав. Генрыка Валовіча. 04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Казелы Вінцэнта*, які дзейнічаў каля фальв. Гілеўшчына. Забіты *(296—1—19—144-148).*

2659. **Канапацкі Геранім** (Конопацкий Героним), сын Юзафа, бацька *Базыля*, дзядзька *Баляслава*, дваранін Барысаўскага (?) пав. Нар. каля 1799 г. Да паўстання служыў лесніком. Падчас паўстання абвінавачаны ў дастаўцы харчавання паўстанцам. 07.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 14.08.1863 вызвалены з-пад арышту і вернуты на месца жыхарства пад сакрэтны паліцэйскі нагляд *(296—1—19—144-148).*

2660. **Канапацкі Стэфан** (Конопацкий Стефан), сын Геранім, дваранін Лепельскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, за што на яго маёмасць паводле распараджэнне віцебскага губернатара ад 28.08.1864 і ўказа ВГП ад 25.09.1864 накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 04.11.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. ВГП выдала адпаведныя 30.11.1865 пастанову і 22.12.1865 указ *(1416—4—11416—296а-301).*

2661. **Канапацкі Ян** (Конопацкий Иван), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Сумарокаўшчына Лідскага пав. Паўстанцы ў маёнтку павесілі селяніна Шамулевіча і ўзялі каня з сядлом. Западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

2662. **Канаплёў Ян** (Коноплев Иван), сын Паўла, селянін. Нар. каля 1838 г. Падчас паўстання находзіўся ў атрадзе *Звяждоўскага Людвіка.* Знаходзіўся пад следствам у АСК, з 03.10.1863 — у МагСК «паводле даносу, што ў яго ёсць 16 соценных паперак, атрыманых за ўдзел у паўстанні». 03.04.1864 следства яшчэ не скончана *(3255—1—14—3; 3257—1—14—4адв.-5; 3286—1—1—4).*

2663. **Канаплянскі Францішак** (Коноплянский Франц), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў засядальнікам Віленскай грамадзянскай палаты. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» з канфіскацыяй маёмасці альбо прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221адв.; 1430—1—52285—8).*

2664. **Канарскі Пётр** (Канарский Петр), сын Ігната, дваранін Полацкага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Томскую губ. На яго маёмасць 31.08.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 28.07.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—33адв.; 1416—4—11416—38-40; 1430—1—52163—238, 407; 2616—1—40—57, 59).*

**Кангавіцкі Оттан** — гл. **Кагнавіцкі Оттан**

2665. **Кандратовіч Адам** (Кондратович Адам), дваранін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—15; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241).*

2666. **Кандратовіч Вінцэнт** (Кондратович Викентий), сын Ігната, дваранін Люцынскага пав. Да паўстання служыў фельчарам у м. Асвея Дрысенскага пав. 04.1863 разам з *Дукальскім Канстанцінам* і *Францэвічам Юзафам* пакінуў Асвею і далучыўся да паўстанцаў. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам. 04.12.1863 на яго маёмасць накладзены секвестр паводле распараджэн-

ня віцебскага губернатара ад 11.09.1863 *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—31; 1430—1—52163—391адв., 596адв.; 2601—1—2—157; 2616—1—40—12адв.)*.

2667. **Кандратовіч Паўліна** (Кондратович Паулина), дваранка г. Вільні. За дачыненне да паўстання да 01.10.1864 прысуджана да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—15)*.

2668. **Кандрацьеў**[101] **Андрэй** (Кондратьев Андрей), селянін. Да паўстання жыў у в. Уюнова Быхаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі *(1416—4—11416—130)*.

2669. **Канеўскі Уладзіслаў** (Каневский Владислав), дваранін Гродзенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—16адв.; 1430—1—52163—167)*.

2670. **Канецкі (Капецкі) Ігнат** (Канецкий (Капецкий) Игнатий), сын Базыля, селянін Гарадоцкага пав., каталік. Нар. каля 1838 г. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(1416—3—21048—30адв.; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—395; 3046—2—3—36адв.-37; 3046—2—5—24адв.)*.

2671. **Канопка Алаізі** (Конопко Алоизий), сын *Ігната*, дваранін. Западозраны ў падрыхтоўцы да паўстання. Паводле ўказа МагГП ад 16.07.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. 12.1864 секвестр зняты *(2003—1—345; 3366—1—5—7)*.

2672. **Канопка Ігнат** (Конопко Игнатий), сын Тэадора, бацька *Алаізія*, дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй ў вак. Пячкавічы Чэрыкаўскага пав. Западозраны ў падрыхтоўцы да паўстання. Паводле ўказа МагГП ад 16.07.1863 яго маёмасць (зямля, прылады працы, гаспадарчыя пабудовы, фруктовы сад і інш., 35,5 руб. гадавога прыбытку) 29.07.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. 12.1864 секвестр зняты *(2003—1—345; 3366—1—5—6адв.)*.

2673. **Канстанцінаў Міхал** (Константинов Михаил), дваранін Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Канстанціновіч Антаніна**— гл. **Барэйка Антаніна**

2674. **Канстанціновіч Пётр** (Константинович Петр), сын Габрыэля. Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Настассяй, сынам Гаўрылам, дочкамі Магдалінай і Альмінай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—16)*.

2675. **Канткоўскі Вінцэнт** (Контковский Викентий), сын Андрэя, дваранін Вілейскага пав. Нар. каля 1831 г. Да паўстання служыў аканомам у арандатара маёнтка Мануйлы N. Радзевіча. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры Мінскім батальёне ўнутранай варты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—97; 299—1—577—511-513; 319—1—479—14адв.; 320—1—398—12а, 20-24, 129, 191; 320—2—98—37адв; 1430—1—52163—604)*.

2676. **Канткоўскі (Кантоўскі) Тадэвуш** (Контковский (Контовский) Фаддей), сын Людвіка, памешчык. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Серачаны Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280)*.

**Кантоўскі Тадэвуш** — гл. **Канткоўскі Тадэвуш**

**Кантрамовіч Рафал** — гл. **Кантрымовіч Рафал**

2677. **Кантрымовіч (Кантрамовіч) Рафал** (Контримович (Контрамович) Рафаил), дваранін

[101] Верагодна, гэта імя па бацьку.

Віленскай губ. Да паўстання служыў ветэрынарным лекарам 2 лейб-гусарскага Паўлаградскага палка рас. войскаў. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 12 гадоў *(319—1—479—15; 1430—1—52163—530)*.

2678. **Канцэвіч Каранат** (Концевич Коронатий (Коронат)), сын Антонія, дваранін Люцынскага пав. Да паўстання служыў у канцылярыі люцынскага маршалка, калежскі рэгістратар. 09.04.1863 пакінуў г. Люцын. У сяр. красавіка разам з *Казакевічам Урбанам* западозраны сялянамі в. Краснаполле Люцынскага пав. у намеры далучыцца да паўстанцкага атрада і затрыманы. Спачатку зняволены ў г. Люцыне, 25.05.1863 адпраўлены ў г. Дынабург. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Высланы (да 06.08.1863) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Вяцкую губ. На яго маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 накладаўся секвестр. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—3—21048—30; 1430—1—31259—30-31; 1430—1—31259—30-31, 40; 1430—1—31355—10-11; 1430—1—52163—420; 1430—1—52285—5, 42адв.; 3046—2—5—26)*.

2679. **Каншэўскі Міхал** (Коншевский Михаил), дваранін Брэсцкага пав. Яго бацька валодаў маёнткам Арэхава Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—16адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

2680. **Канько Антон** (Канько Антон), сын Яна, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1838 г. Да паўстання служыў лакеем у маёнтку Крошын Навагрудскага пав., быў жанаты, меў адну дачку. Уночы з 2 на 3 сакавіка 1863 г. разам з *Дабкевічам Канстанцінам*, *Ляскоўскім Пятром* і *Смысловым Уладзіславам* пакінуў Крошын і далучыўся да паўстанцаў. Праз дзень пакінуў атрад і 04.03.1863 вярнуўся на месца жыхарства. Арыштаваны. У паказаннях сцвярджаў, што далучыўся разам са *С. У.* да паўстанцаў пад пагрозамі смерці ад *Д. К.* і *Л. П.* *(296—1—18)*.

2681. **Канюшэўскі Браніслаў** (Конюшевский Бронислав), дваранін. Да паўстання жыў у м. Панядзель Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

2682. **Канюшэўскі Бярнард** (Конюшевский Бернард), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у Наўгародскай губ., 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з пазбаўленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—16-17; 1430—1—52758—22)*.

2683. **Канюшэўскі Леан** (Конюшевский Леон), сын Антонія, дваранін Новааляксандраўскага ці Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16; 1416—6—281; 1430—1—52163—205)*.

2684. **Капашынскі (Капалінскі, Капылінскі, Капялінскі) Караль** (Капашинский (Капалинский, Копелинский, Копылинский) Карл), сын Рафала, муж Зоф'і, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1827 г. Да паўстання жыў у м. Старыя Ляхавічы Слуцкага пав., яго бацька валодаў невялікім маёнткам Воўма Мінскага пав. 19.04.1863 уступіў у атрад *Машэўскага Уладзіслава*, 21.04.1863 уцёк з яго, з'явіўся да рас. уладаў у в. Белалужжа Слуцкага пав., здаў зброю (1 стрэльбу і 2 пісталеты) і прасіў даравання. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ССК, утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. Даказаў на следстве, што прыцягнуты ў атрад гвалтоўна, таму паводле загаду ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 21.09.1863 вызвалены з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—19—205-223, 279; 320—1—398—2; 1524—1—1—6; 1525—1—2—5адв.-6)*.

**Капецкі Ігнат** — гл. **Канецкі Ігнат**

2685. **Каплеўскі Уладзіслаў** (Коплевский Владислав), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую ці Табольскую губ. *(319—1—479—15; 1430—1—52163—181)*.

2686. **Каплеўскі Юстын** (Коплевский Устин), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—15; 1430—1—52163—181)*.

2687. **Капляеўскі Ян** (Каплеевский Ян), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да

паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—27)*.

2688. **Каплінскі Эдмунд-Рыгор** (Каплинский Эдмунд-Григорий), сын Тэлясфора-Адама Рыгоравіча (калежскага асэсара) і Антаніны Базылеўны, дваранін Бабруйскага ці Барысаўскага пав. Нар. каля 1836 г. у м. Халопенічы Барысаўскага пав. Да паўстання жыў у г. Барысаве, служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. Знаходзіўся ў складзе паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта* ў Барысаўскім пав., арыштаваны. Быў пад следствам у г. Оршы, даваў паказанні, сярод іншага, пра *Свяжынскіх Зыгмунта* і *Оскара*. З 07.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу, і пад судом у МагВСК, да яго справы таксама была прыцягнута яго маці. Канфірмацыяй А. Патапава ад 24.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». На маёмасць яго маці (маёнтак Плітніца Барысаўскага пав. і 1 дом у Барысаве) у 1863 г. накладзены секвестр, які зняты паводле патрабавання МагГП ад 15.02.1865. Рухомая маёмасць у маёнтку Стаўбцы Сенненскага пав., якой валодала яго маці, секвестравана і прададзена. У 1868 г. жыў у г. Томску, падаваў скаргу на неправамоцную канфіскацыю маёмасці, якая знаходзілася ў сумесным валоданні са сваякамі. Пасля частковай амністыі ў 1871 г., пераехаў у г. Варшаву і ў 1873 г. запісаны ў склад яе сталых жыхароў. У 1879 г. атрымаў дазвол і перасяліўся ў Свянцянскі пав. У 1885 г. жыў на Серпухоўскай вул. г. Мінска, падаў прашэнне аб выдачы пасведчання аб вернутых правах дваранства, заслужаным чыне і дазволе паступаць на грамадскую і дзяржаўную службу. Прашэнне задаволена часткова — без вяртання чыну і правоў на маёмасць *(295—1—1572—22-22адв.; 295—1—1903; 295—1—4108; 296—1—89—46; 320—1—398—670-672; 1416—3—21048—30адв.; 1430—1—52163—408адв.; 2003—1—310; 2003—1—372—25, 50-52, 196-197адв., 206-208; 2514—1—2198—68; 3257—1—17—8адв.-9; 3257—2—2—16адв., 18адв.; 3257—2—8—7)*.

2689. **Капульцэвіч Канстанцін** (Капульцевич Константин), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12адв.)*.

2690. **Капуста Базыль** (Капуста Василий), селянін Себежскага пав. За «палітычную нядобранадзейнасць» паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 15.03.1864 у 1864 г. разам з сям'ёй сасланы на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. *(1430—1—32936)*.

**Капылінскі Караль** — гл. **Капашынскі Караль**

2691. **Капыцкі Аляксандр** (Копыцкий Александр), сын Мікалая, дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(320—2—98—38)*.

2692. **Капялёвіч Хаім** (Капелиович Хаим), яўрэй. Абвінавачаны ў спачуванні паўстанцам, арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—92)*.

**Капялеўскі Аўгуст** — гл. **Кушалеўскі Аўгуст**

**Капялінскі Караль** — гл. **Капашынскі Караль**

2693. **Карабановіч Адам** (Карабанович Адам), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў складзе паўстанцкага атрада, з'явіўся да рас. уладаў. Часова зняволены, знаходзіўся ў пад следствам у ІСК. 29.08.1863 вызвалены паводле распараджэння ваеннага начальніка, а яго справа 15.11.1863 адаслана ў МСК *(1418—3—1—38адв.-39)*.

2694. **Карабановіч Аляксандр** (Карабанович Александр), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—15; 320—1—398—128; 1416—6—280; 1430—1—52163—603)*.

2695. **Карабановіч Антоні** (Карабанович Антон), сын Юзафа Базылевіча, брат *Ігната*, дваранін Ігуменскага пав. Нар. 26.01.1832. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, забіты ў сутычцы з рас. войскамі. Паводле канфірмацыі М. Крыжаноўскага ад 26.04.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—108; 319—1—479—17; 320—1—398—437, 439; 320—2—98—38; 1430—1—52163—182)*.

2696. **Карабановіч Ігнат-Францішак** (Карабанович Игнатий-Франц), сын Юзафа Базылевіча, брат *Антонія*, дваранін Ігуменскага пав. Нар. 10.06.1836. Да паўстання жыў у фальв. Буды Ігуменскага пав.[102]. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Кан-

---

[102] У алфавіце спраў мінскага грамадзянскага губернатара за 1863–1865 гг. пазначана, што Карабановіч Ігнат з'яўляўся студэнтам Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, аднак ніякіх іншых пацверджанняў гэтых звестак не знойдзена.

фірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 26.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—108; 295—1—1643—88; 319—1—479—17; 320—1—398—437; 320—2—98—38; 1430—1—52163—182).*

2697. **Карабановіч Марцін** (Карабанович Мартин), дваранін Мінскай губ. Абвінавачаны ў наведванні паўстанцкага атрада і арыштаваны. Рашэннем суда «пакінуты ў падазрэнні». За нанясенне ўдару па твару вартаўніка канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 09.01.1866 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады *(299—2—6399—38адв.-39).*

2698. **Карабановіч Мацей** (Карабанович Матвей), сын Міхала, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1643—90; 319—1—479—17; 320—1—398—223; 1416—1—247; 1418—3—1—36адв.-37).*

2699. **Карабановіч Ян** (Карабанович Иван), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 28.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—37адв.-38).*

2700. **Каралькевіч Пётр** (Королькевич Петр), шляхціц Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

2701. **Каралькевіч Юзаф** (Королькевич Иосиф), шляхціц Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—14адв.).*

2702. **Каранеўскі Антоні** (Корженевский Антон), сын Дамініка Уладзіслававіча, дваранін Слуцкага пав. Хр. 11.08.1842. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Цна Мінскага пав. памешчыцы Ёдкі Ізабэлы (гл. *Ёдка Рудольф*). Увесну 1863 г. выехаў з Цны і ўступіў у паўстанцкі атрад, потым арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Аддадзены (да 28.11.1863) пад суд пры Мінскім батальёне ўнутранай варты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—108; 295—1—1553; 295—1—1643—89; 319—1—479—17; 320—1—398—437адв., 440, 443; 320—2—98—38; 1430—1—52163—182).*

2703. **Каранеўскі Ігнат** (Корженевский Игнатий), сын Станіслава і Казіміры Янаўны, дваранін, каталік. Нар. каля 1847 г. Скончыў павятовае вучылішча ў г. Віцебску, пасля вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах. Падчас паўстання западозраны ва ўдзеле ў ім, арыштаваны ў Аршанскім пав. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Сасланы ў Сібір на жыхарства. 07.1865 маці падала прашэнне аб вяртанні яго на месца жыхарства альбо пераводзе ў адзін з гарадоў Еўрапейскай Расіі *(1416—3—21048—30адв.; 1430—1—31602—185-188; 3046—2—3—35адв.-37; 3046—2—5—24адв.).*

2704. **Каранеўскі Мікалай** (Корженевский Николай), дваранін Віцебскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

2705. **Каранеўскі Станіслаў** (Корженевский Станислав), сын Ігната, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах пры гімназіі ў г. Віцебску. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—17адв.; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—535; 2626—1—305—75).*

2706. **Каранеўскі Якуб** (Корженевский Яков), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—26адв.).*

2707. **Каранеўскі (Карынеўскі) Ян** (Корженевский (Коржиневский) Иван), сын Юзафа, дваранін Слуцкага пав., каталік. Вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, потым добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК, затым у МСК. Рашэннем В. Забалоцкага ад 17.03.1864

прызначаўся да вяртання на месца жыхарства на парукі. 02.06.1864 вызвалены з астрога пасля падачы адной паручальнай падпіскі *(295—1—1643—106адв.; 296—1—132; 1524—1—1—6адв.)*.

2708. **Каранеўскі Ян** (Корженевский Иван), сын Станіслава, дваранін Лепельскага (?) пав. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Потым прысуджаны (да 01.10.1863), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—409адв.)*.

2709. **Караткевіч Віктар** (Короткевич Виктор), дваранін Канеўскага пав. Кіеўскай губ. Пастановай ваеннага суда прызнаны вінаватым ва ўдзеле ў паўстанні *(320—1—398—353)*.

2710. **Караткевіч Юзаф** (Короткевич Иосиф), сын Юзафа, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гартольскай сельскай грамады Пінскага пав., жыў у в. Паршавічы. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.02.1864 прысуджаны да ссылкі і сасланы ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 2 гады. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(162—1—116—66; 295—1—2725—27адв.; 320—1—398—2, 291; 1430—1—35146—74)*.

2711. **Каратышэўскі N.** (Каратышевский N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Тэафілін Слонімскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ў баі ля м. Мілавіды Слонімскага пав. Яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3)*.

2712. **Карась Уладзіслаў** (Карась Владислав), сын Дамініка, каталік. Да паўстання служыў памочнікам бухгалтара Клімавіцкага павятовага казначэйства. За дачыненне да паўстання (?) сасланы ў Вяцкую губ. 11.10.1863 звольнены са службы *(2003—2—96—15)*.

**Караффа-Корбут Вільгельм** — гл. **Корбут Вільгельм**

**Караффа-Корбут Маўрыцы** — гл. **Корбут Маўрыцы**

**Караффа-Корбут Уладзіслаў** — гл. **Корбут Уладзіслаў**

**Караффа-Корбут Францішак** — гл. **Корбут Францішак**

2713. **Карбоўскі Юзаф** (Карбовский Иосиф), дваранін Ковенскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—546)*.

2714. **Карвоўскі Антоні** (Карвовский Антон), дваранін. Да паўстання жыў у в. Пункішкі (Пунвішкі) Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

2715. **Карзюк Францішак** (Корзюк Франц), сын Антонія Янавіча, брат *Юзафа*, дваранін Ігуменскага пав. Нар. у 1839 г. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання ў 1864 г. разам з братам, сястрой Антанінай, жонкай Ганнай, дачкой Анеляй, сынамі Апалінарыем і Ігнатам высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (15 дзес. 980 саж.) канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся ў Суцін, дзе ў 1876 г. хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную зямлю *(295—1—2420—7; 295—1—2830—4; 320—2—98—7адв., 25-26, 28-29, 71адв.)*.

2716. **Карзюк Юзаф** (Корзюк Иосиф), сын Антонія Янавіча, брат *Францішка*, дваранін Ігуменскага пав. Нар. у 1842 г. За дачыненне да паўстання 20 дзес. зямлі ў вак. Суцін Ігуменскага пав., якімі ён валодаў на правах суспадчынніка, секвестраваны 08.1865. Сасланы ў Табольскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—91адв.; 296—1—89—104-106; 320—2—98—7адв., 29, 71адв.; 2532—1—15—13адв.)*.

2717. **Карказовіч (Карказевіч) Гектар (Віктар)** (Коркозович (Коркозович) Гектор (Виктор)), сын Міхала Валяр'янавіча, дваранін Ігуменскага пав. Служыў у рас. войску, да паўстання выйшаў у адстаўку з чынам штабс-ротмістра; яго жонка валодала маёнткам Логі Ігуменскага пав. З'яўляўся камандзірам трох атрадаў у Ігуменскім пав., неаднаразова ўдзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, у нападзе на паштовую станцыю. 13.06.1863 удзельнічаў у баі ля в. Лочын Ігуменскага пав., дзе трапіў у палон. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 26.02.1864. Спачатку прысуджаны да смяротнага пакарання праз расстрэл. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.02.1864 прысуд заменены на пазбаўленне ўсіх правоў стану, канфіскацыю маёмасці і ссылку на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(162—1—116—66; 295—1—1643—1010адв.; 296—1—25—104адв.; 296—1—56; 296—1—90—14адв.-15; 319—1—479—17; 320—1—*

*398—291, 294-295; 320—2—98—37адв.; 1418—3—1—38адв.-39; 3257—1—4—32адв.).*

2718. **Карказовіч (Карказевіч, Каркузевіч) Юстын** (Карказович (Коркозевич, Коркузевич) Юстин (Устин)). Да паўстання служыў засядальнікам Барысаўскага павятовага суда, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую ці Аланецкую губ. *(295—1—1643—93адв.; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

2719. **Карканіца Мікіта** (Карканица Никита), сын Севасцьяна, селянін Ігуменскага пав., праваслаўны. Абвінавачаны ў перавозе паўстанцаў праз р. Бярэзіну, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 30.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—39адв.-40).*

2720. **Карквіль (Карковіль, Каркувель) Караль** (Карквиль (Карковиль, Каркувель) Карл), сын Яна, прускі падданы, каталік. Нар. каля 1837 г. у Княстве Пазнанскім. Служыў аканомам у маёнтку Брынёва каля м. Мір Навагрудскага пав. Мікалая Мікульскага. У 1863 г. скончыў службу і па дарозе на новае месца 05.04.1863 уключаны ў склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., зняволены ў г. Навагрудку. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. На следстве даказаў, што забраны ў атрад гвалтоўна, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 09.08.1863 вызвалены і вернуты на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1562—16; 296—1—19—109-128; 274адв.; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.).*

2721. **Карлішэўскі Антоні** (Корлишевский Антон), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—39адв.-40).*

2722. **Карловіч Ксаверы** (Карлович Ксаверий). Служыў на рас. грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

2723. **Карман Францішак** (Карман Францышек), сын Францішка, іншаземец. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—6адв.).*

2724. **Карнаговіч N.** (Карнагович N.), ксёндз. За ўдзел у паўстанні канфіскаваны і прададзены яго адзенне, бялізна і хатні рыштунак паводле ўказа ПДМ ад 06.04.1864 *(296—1—89—24).*

2725. **Карнацэвіч Юзаф** (Карнацевич Иосиф), аднадворац Дзісенскага пав. Да паўстання служыў фельчарам у графа Вяльгорскага. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты на 4 гады *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—129; 1416—3—21048—32; 1430—1—52163—422, 604).*

2726. **Карніловіч Гектар** (Корнилович (Карнилович) Гектор), сын обер-афіцэра Барысаўскага пав. Андрэя, муж Еўфрасінні Емяльянавай, праваслаўны. Нар. каля 1827 г. У 1861 г. паступіў на службу пісарам Пухавіцкага валаснога праўлення Ігуменскага пав. 21.04.1863 негатыўна выказаўся наконт удзелу жыхароў м. Пухавічы ў дзейнасці супраць паўстанцаў у в. Навасёлкі (10 вёрст ад Пухавічаў) («таму як у выпадку нападу мяцежнікаў самі застанемся без абароны») і знішчэння парома на р. Свіслач («на выпадак праходу нашых войскаў»). Паводле даносу пухавіцкага святара Мацея Кіршэўскага з абвінавачаннем у дапамозе паўстанцам 22.04.1863 арыштаваны і адпраўлены ў г. Мінск. Знаходзіўся пад следствам у МСК, 28.04.1863 даў паказанні. Абвінавачанні не пацвердзіліся, таму вызвалены з-пад арышту з абавязкам да канца следства жыць у Мінску. 14.05.1863 падаў прашэнне МГГ аб дазволе вярнуцца ў Пухавічы да жонкі з малагадовым дзіцём і гаспадаркі. Жонка 18.05.1863 падала падобнае прашэнне, у якім прычынай даносу называла жаданне Кіршэўскага самому заняць пасаду пухавіцкага валаснога пісара. 06.06.1863 атрымаў ад МГГ дазвол вярнуцца на ранейшае месца жыхарства з захаваннем месца службы *(295—1—1577).*

2727. **Карніловіч Генрык** (Карнилович Генрих), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—16, 16адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242; 2616—1—40—62).*

2728. **Карніцкі Аляксандр** (Карницкий Александр), памешчык Віцебскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Валагодскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—85адв.; 1430—1—52163—540адв.; 3046—2—5—27).*

2729. **Карніцкі Антоні** (Карницкий Антон), памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Валодаў маёнткам Карташэвічы і Слёзкі Аршанскага пав. (1561 дзес. 1800 саж. зямлі, 121 рэвізская душа, дом на 9 пакояў, гаспадарчыя пабудовы, млын і інш., 8052 руб. доўгу). Да паўстання жыў у Карташэвічах, служыў кандыдатам міравога пасярэдніка. Падчас паўстання разам з *Клячкоўскім Янам*, *Лышчынскім Ежы*, *Рагозам Аляксандрам*, *Раўкоўскім Ежы*, *Рачыцкім Юзафам* і *Чыжэўскім Эдвардам* паспрабаваў далучыцца да паўстання, 22.04.1863 затрыманы сялянамі в. Мікуліна Аршанскага пав., аднак здолеў уцячы і схаваўся ў сваім маёнтку. 23.04.1863 усё ж схоплены сялянамі, пры вобшуку ў яго доме знойдзены шабля, 2 стрэльбы і 2 пісталеты. На следстве сцвярджаў, што ехаў у г. Оршу ў адпаведнасці са службовымі абавязкамі. Таксама падазраваўся рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК. Зняволены ў г. Смаленску. Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой пакінуты «ў наймацнейшым падазрэнні ў складанні змовы супраць Урада» і прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 16.11.1863 яго справа перададзена віцебскаму ваеннаму губернатару, рашэннем якога ад 18.01.1864 ссылка заменена на катаргу на 8 гадоў. Канчаткова прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 8 гадоў. Яго маёмасць канфіскавана *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—17адв.; 1430—1—31353; 2001—2—123—8адв.-10; 2001—2—171—21адв.-23, 39; 3255—1—12—1-1адв.)*.

2730. **Карніцкі Браніслаў** (Карницкий Бронислав), сын Францішка, брат (?) *Канстанціна*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах пры гімназіі ў г. Віцебску. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. Пасля пераведзены ў г. Яраслаўль, дзе ў 1870 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(295—1—2149—19-20; 319—1—479—17адв.; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—535; 3046—2—3—36адв.-37; 3046—2—5—24адв.)*.

2731. **Карніцкі Браніслаў** (Корницкий Бронислав), сын Фердынанда, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Франапаль Люцынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. На Франапаль 18.02.1864 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты *(1416—3—21048—30адв.; 1430—1—52163—431, 825адв.)*.

2732. **Карніцкі Іпаліт** (Карницкий Иполит), сын Андрэя, мешчанін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі і спачуванні ім, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў «дальнія губерні». 02.04.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ В. Забалоцкаму. Верагодна, следства працягвалася і далей, а да абвінавачання дадалося вызнаванне каталіцтва хаця яго бацькі былі праваслаўнымі. 24.04.1865 яго справа перададзена ваенным начальнікам Ігуменскага пав. П. Шалгунову, якім 04.05.1865 перададзена ў МСК. На той час арыштаваным ужо не быў *(295—1—1643—107; 296—1—178; 1418—3—1—41адв.-42)*.

2733. **Карніцкі Канстанцін** (Карницкий Константин), сын Францішка, брат (?) *Браніслава*, памешчык, каталік. Нар. каля 1847 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі г. Віцебска, валодаў часткай маёнтка Лазіцы Магілёўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 10 гадоў. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. Яго частка Лазіцаў падлегла канфіскацыі (да 15.06.1863) і канфіскавана ў 1866 г.[103]. *(1416—3—21048—30адв.; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—182адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—445—2, 14адв.; 2003—2—19—12-13адв.; 2003—2—90—33-38; 3046—2—5—24адв.; 3255—1—12—1-1адв.; 3257—2—2—17адв.)*.

[103] Магчыма, тут злучаны звесткі пра 2 асоб з імем *Карніцкі Канстанцін*.

2734. **Карніцкі Пётр** (Карницкий Петр), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74)*.

2735. **Карніцкі Станіслаў** (Корницкий (Карпицкий) Станислав), сын Станіслава, бацька Антонія і Яна, мешчанін г. Мінска. Да паўстання служыў леснікам у Налібоцкай пушчы Ашмянскага пав. кн. Л. Вітгенштэйна. У 1863 г. разам з *Манюкевічам Якубам* і *Тарналіцкім Каралем* за тое, што «ведалі пра знаходжанне ў даверaных ім лясных участках мяцежніцкіх шаек, але не данеслі пра гэта Начальству», рашэннем М. Мураўёва прызначаны (да 01.09.1863) да ссылкі з сям'ёй на жыхарства ў Вяцкую губ. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». У 1876 г. жыў на пасяленні пад наглядам паліцыі ў пачынку Явароўскі Кундашскай вол. Яранскага пав. Вяцкай губ. Атрымаў разам з сынамі дазвол вярнуцца на радзіму і вярнуўся. У 1878 г. жыў на хутары Гарадзішча Слабадской вол. Мінскага пав. *(295—1—1605; 295—1—3062; 1430—1—35146—73)*.

2736. **Карніцкі Францішак** (Карницкий Франц), сын Юзафа, брат Аляксандра, муж Анелі Корсак, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Франапаль Люцынскага пав. 04.1863 агітаваў сялянаў далучыцца да паўстання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» пастановай ЧПА ад 26.07.1864 прысуджаны да ссылкі пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 03.08.1864 месца ссылкі заменена на Кастрамскую губ. Сасланы. На маёнтак 18.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 17.12.1863 і ўказа ВГП ад 15.01.1864 накладзены секвестр. Потым пераведзены ў г. Яраслаўль, дзе ў 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—1989—27-28; 1416—3—21048—32; 1430—1—32928; 1430—1—52163—419, 453, 540адв., 815-816; 3046—2—5—26адв.)*.

2737. **Карноўскі Антоні** (Карновский Антон), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—6)*.

2738. **Карны Аляксандр** (Карный Александр). Служыў памочнікам столаначальніка ГГП. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21адв.; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.)*.

2739. **Каробіз (Каробіс) Казімір** (Коробиз (Коробис) Казимир), сын Крыштафа, селянін Ковенскай губ. За «палітычнае злачынства» знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68; 3257—2—2—16)*.

2740. **Кароблiс Юзаф** (Кароблич Иосиф), дваранін. Падчас паўстання абвінавачаны ў садзейнічанні паўстанцам, арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—92адв.)*.

2741. **Кароза Аляксей** (Короза Алексей), сын *Генрыка*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыў з бацькам у маёнтку Жыцін Бабруйскага пав. Западозраны ў спачуванні паўстанцам разам з бацькам, арыштаваны і дастаўлены ў г. Мінск (гл. *Кароза Генрык*). Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.07.1864 прысуджаны да ссылкі пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ. без пазбаўлення правоў стану. На яго маёмасць накладаўся секвестр. У 1880 г. атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму, вярнуўся і пасяліўся ў маёнтку Астравок Слуцкага пав. *(162—1—116—123, 157, 166; 295—1—1643—91адв., 112; 295—1—1712; 295—1—3492—12; 320—1—398—552; 1416—4—11416—83адв.; 1430—1—52163—552адв.)*.

2742. **Кароза Генрык** (Короза Генрих), сын Францішка, муж Юзэфы, бацька *Аляксея*, Марыі і Юліі, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1810 г. Да паўстання доктар медыцыны, арандаваў у кн. Л. Вітгенштэйна маёнтак Жыцін Бабруйскага пав. ці з'яўляўся ў ім аканомам. 13.01.1864 адным з працаўнікоў у яго маёнтку былі знойдзены «рэвалюцыйныя адозвы і газеты», з-за чаго 26.01.1864 у Жыціне праведзены вобшук, падчас якога знойдзены яшчэ «вершы і гімны падбухторнага зместу». Арыштаваны і дастаўлены ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.07.1864 як «яўна нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да ссылкі на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. без пазбаўлення правоў стану. На яго маёмасць накладаўся секвестр, рухомая маёмасць і быдла з маёнтка на 327,15 руб. прададзены з аўкцыёну ў 1865 г. 01.1865 жыў у г. Белябей Арэн-

бургскай губ. *(162—1—116—123, 157, 166; 295—1—1643—91адв., 112; 295—1—1712; 320—1—398—552; 1416—4—11416—83адв.; 1430—1—52163—552адв.).*

2743. **Кароль Рыгор** (Король Григорий), сын Васіля, селянін Пінскага пав. Да паўстання прыпісаны да Драгабыльскай сельскай грамады Навагрудскага пав., жыў у м. Целяханы Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Высланы з радзімы *(295—1—2725—31; 320—1—398—2).*

2744. **餐Каролька Аляксандр** (Королько Александр), сын Аляксандра, дваранін Навагрудскага пав. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Да паўстання жыў у маёнтку Арабаўшчына Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* Пасля разбіцця атрада 07.04.1863 у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав. добраахвотна (да 09.09.1863) з'явіўся да прыстава 3 стана Навагрудскага пав. Арыштаваны і дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Рашэннем МСК, пацверджаным 29.12.1863 В. Забалоцкім, прысуджаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства з заснаваннем негалоснага паліцэйскага нагляду *(295—1—1562—16; 295—1—1623; 295—1—1643—101; 296—1—296—3; 320—1—398—2адв.).*

2745. **Карпачэўскі Міхал** (Карпочевский Михал), сын Михала, дваранін Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

2746. **Карпік Казімір** (Карпик Казимир), сын Ігната, селянін. Да паўстання прыпісаны да Зарэцкай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12адв.; 295—1—2725—31адв.).*

2747. **Карпінскі Канстанцін** (Карпинский Константин), сын Францішка, дваранін Люцынскага ці Новааляксандраўскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў 4 класе гімназіі ў г. Віцебску. Западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—31адв.; 1430—1—52163—535; 3046—2—3—36адв.-37).*

**Карпіцкі Станіслаў** — гл. **Карніцкі Станіслаў**

2748. **Карпіч Марцін** (Карпич Мартин), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72).*

2749. **Карповіч Антоні** (Карпович Антон), сын Тамаша, дваранін Ашмянскага пав., каталік. Уваходзіў у склад бешанковіцкага атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава*, разам з *Кавецкімі Вінцэнтам* і *Мацеем* добраахвотна 26.04.1863 з'явіўся ў с. Бешанковічы да прыстава 1 стана Лепельскага пав. Даў паказанні, пасля чаго паводле пастановы Лепельскага павятовага суда ад 30.04.1863 вызвалены з аддачай на парукі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—63-65; 3046—2—3—41адв.-42; 3046—2—5—25адв.).*

2750. **Карповіч Антоні** (Карпович Антон), шляхціц. Арыштаваны за дачыненне да забойства 19.09.1863 А. Ляцкага. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—93, 100).*

2751. **Карповіч Марыя** (Карпович Мария), дваранка Люцынскага пав. Да паўстання разам з *Шаф Аленай* была служанкай у *Рыцк Марыі* і *Эміліі.* За дачыненне да фарміравання паўстанцкага атрада ў маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. *Ліпскай Аліны* арыштавана і зняволена з 21.08.1863 да 10.04.1864 у фартэцыі ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.02.1864 прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Кастрамскую губ. На яе маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 накладаўся секвестр. У 1864 г. жыла ў Варонежскай губ. пад наглядам паліцыі. У 1871 г. жыла ў г. Рызе, дзе атрымала права на прыезд у Віцебскую губ. на 1 месяц *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—32адв.; 1430—1—35146—107; 1430—1—52163—420адв., 616адв., 848-850).*

2752. **Карповіч Мікалай** (Карпович Николай), сын Андрэя, брат *Юзафа*, вольны хлебароб. Да паўстання жыў у вак. Буйвідаўшчына ці вак. Дубравіца Навагрудскага пав., быў прыпісаны да Усялюбскай сельскай грамады. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы з радзімы *(295—1—1699; 295—1—2725—9адв.; 320—1—398—3).*

2753. **Карповіч Юзаф** (Карпович Осип), сын Андрэя, брат *Мікалая*, вольны хлебароб. Да паўстання жыў у вак. Буйвідаўшчына ці фальв. Вераскоўшчына Навагрудскага пав., прыпісаны да Усялюбскай сельскай грамады. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Потым высланы з радзімы *(295—1—1562—1бадв.; 295—1—2725—9адв.; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.)*.

2754. **Карпоўскі Антоні** (Карповский Антон), сын Вінцэнта, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыў у м. Хоцімск Клімавіцкага пав. 23.04.1863 схоплены сялянамі в. Зуі і вак. Свіная Чэрыкаўскага пав. за тое, што вёз 7 стрэльбаў і шаблю. Разам з асобамі з атрада *Арцімовіча Міхала* знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 01.03.1863 падала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На судзе адмаўляўся ад удзелу ў паўстанні. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады *(3256—2—14; 3257—2—2—17адв.)*.

2755. **Карпячэнкаў N.** (Корпеченков N.), вольнаадпушчаны селянін. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—7)*.

2756. **Карчынскі Каятан** (Корчинский Каетан), дваранін. Да паўстання жыў у в. Ліпавіны Вадзянскай парафіі Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(320—1—398—133; 1416—3—21048—32; 1430—1—52163—600)*.

2757. **Карчынскі Канстанцін** (Корчинский Константин), дваранін Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2758. **Карчэўскі Адам** (Карчевский Адам). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестр. *(1416—6—280)*.

2759. **Карчэўскі Дамінік** (Карчевский Доминик), сын Атаназія, дваранін. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку памешчыка Калантая, валодаў 3 дзес. зямлі ў маёнтку Карчэўкі Чэрыкаўскага пав. Разам з *Марціноўскім Мікалаем* 22.04.1863 выехаў нібыта ў г. Чавусы па гаспадарчых патрэбах і далучыўся да крычаўскага паўстанцкага атрада. Пасля рассеяння атрада ў баі 26.04.1863 схоплены сялянамі. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. На следстве даў паказанні пра свой удзел у паўстанні і *М. М.* Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Яго зямельная маёмасць канфіскавана ў 1866 г. *(319—1—479—18; 1430—1—52163—167адв.; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—372—119-120; 2003—1—445—3; 2003—2—90; 3256—2—28—10адв.-11; 3257—2—2—17адв.; 3366—1—5—6)*.

2760. **Карчэўскі Ксаверы** (Карчевский Ксаверий), памешчык Брэсцкага пав. Служыў на рас. грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі К. фон Каўфмана ад 07.09.1866 высланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля амністыі перасяліўся ў Седлецкую губ. Каралеўства Польскага. 09.1873 атрымаў дазвол на пражыванне ў «Паўночна-Заходнім краі» *(295—1—1812—6адв.; 295—1—2418; 1430—1—32897—37адв.-40; 1430—1—35458—24-25; 2532—1—15—7адв.)*.

2761. **Карчэўскі Тамаш** (Карчевский Фома), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыў у маёнтку Печышча Барысаўскага пав. Западозраны разам з *Грыневічам Вінцэнтам* у тым, што паказаў дарогу асобам, якія дастаўлялі харчаванне паўстанцам, арыштаваны. 07.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 31.08.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1527—106адв.; 296—1—19—174, 277-277адв.)*.

2762. **Карчэўскі Францішак** (Карчевский Франц), памешчык. Нар. каля 1806 г. Да паўстання жыў у маёнтку Грабяні Барысаўскага пав., якім валодаў. Абгавораны сялянамі ў падрыхтоўцы харчавання для паўстанцаў, 13.06.1863 арыштаваны. 16.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава. Следства не даказала яго віны, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 29.08.1863 вызвалены з-пад арышту і вернуты на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1527—105адв.; 296—1—19—166-172, 276)*.

2763. **Карчэўскі Юзаф** (Карчевский Иосиф), сын Мацея, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Аб-

вінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 20.11.1863 яго справа накіравана ў МСК *(1418—3—1—39адв.-40)*.

2764. **Карызна Адольф** (Коризно Адольф), дваранін Шавельскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Агорышкі Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—16; 1430—1—52163—521адв.)*.

2765. **Карызна Эдвард** (Коризно Эдуард), дваранін Панявежскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) пасля разгляду пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Томскую губ. *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573, 613; 1430—1—52285—16)*.

**Карынеўскі Ян** — гл. **Каранеўскі Ян**

2766. **Карыцкі Рафал** (Корицкий Рафаил), дваранін Ловіцкага пав. Варшаўскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

2767. **Карыцкі Эдмунд** (Корицкий Эдмунд), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. з жонкай Рэгінай жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.)*.

2768. **Карэва Антоні** (Корево Антон), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—22)*.

2769. **Карэва Клёт** (Корево Клет), памешчык Троцкага пав. Таксама валодаў маёнткам Панявежын Ковенскай губ. Служыў у рас. войску, прапаршчык. Удзельнічаў у паўстанні, за што яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863. Прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны *(319—1—479—15адв.; 1416—6—207; 1430—1—52163—126адв.)*.

2770. **Карэва Юзаф** (Корево Иосиф), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5адв.)*.

2771. **Карэйва Ян** (Корейво Иван), памешчык Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(1416—6—281; 3046—2—5—26)*.

2772. **Карэнка Ігнат** (Коренко Игнатий), памешчык Новааляксандраўскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў захоўванні зброі, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

2773. **Касабудскі Эразм** (Коссабудский Эразм), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15; 1430—1—52163—204)*.

2774. **Касакоўскі Баляслаў** (Коссаковский Болеслав), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—68)*.

2775. **Касакоўскі Ян (Януш)** (Коссаковский Иван (Януш)), сын Фелікса, дваранін Вількамірскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 16.07.1863 перадала яго справу ў МагСК. Зняволены ў г. Магілёве, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй «памочніка Галоўнага Начальніка тутэйшага краю» 08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. 28.08.1864 адпраўлены па этапах на месца ссылкі *(319—1—479—16; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.; 3256—2—50—10-12адв., 15; 3257—2—2—19; 3366—1—5—6адв.)*.

2776. **Касакоўскі Яраслаў** (Коссаковский Ярослав), сын Людвіка, граф, памешчык. Да паўстання валодаў сумесна з братам маёнткам Марцінішкі Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—131адв.; 1416—6—207; 1430—1—52163—598адв.)*.

2777. **Касацкая Уладзіслава** (Коссацкая Владислава), памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Скілондзішкі (Шкілундзішкі) Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана (да 01.07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—15; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241)*.

2778. **Касачэўскі Лукаш** (Коссачевский Лука), сын Каспера (калежскага радцы) і Марыі, брат Андрэя, Уладзіслава, Эварыста і Яна (тытулярнага радцы), каталік. Нар. каля 1842 г. Да паўстання служыў памочнікам столаначальніка Магілёўскай казённай палаты, губернскі (ці калежскі) сакратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання і 30.04.1863 звольнены са службы. Яго агульная з братамі і маці маёмасць у с. Янава Магілёўскага пав. (38 дзес. 5094 саж. зямлі, дом, лазня, фруктовы сад і інш., 14 руб. гадавога прыбытку) 19.07.1863 апісана і секвестравана. Разам з *Галіноўскім Аляксандрам* і *Сапрыкам Казімірам* абвінавачаны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Арыштаваны, зняволены ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 19.07.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 31.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 31.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 13.11.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі. Да 18.04.1866 яго частка маёмасці канфіскавана *(1416—4—11416—132адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—276; 2003—2—19—13-13адв.; 2003—2—90; 2003—2—96—10адв.; 3257—1—17—6адв.-7; 3257—2—2—18; 3257—2—8—7)*.

2779. **Касецкі Апалінары** (Косецкий Аполинарий), дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1823 г. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку памешчыцы Корсак у Дзісенскім пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(295—1—1527—94адв., 102; 319—1—479—14адв.; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

2780. **Касілоўскі Ігнат** (Коссиловский Игнатий). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, тытулярны радца. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

2781. **Касінскі Тадэвуш** (Корсинский Фаддей), дваранін. Да паўстання служыў аканомам у *Завадскай Францішкі*. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 17.02.1864) на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

2782. **Касінскі Юзаф** (Косинский Осип). Служыў столаначальнікам Пружанскага павятовага суда, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Самарскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

2783. **Касінскі Ян** (Касинский (Косинский) Иван), сын Юзафа, дваранін Бельскага пав., каталік. Нар. каля 1832 г. Служыў канцылярыстам Кіеўскага губернскага праўлення, 04.1861 звольнены. Перасяліўся ў Лепельскі пав. 06.1863 затрыманы без пісьмовых дакументаў і перададзены ў Лепельскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне. Знаходзіўся пад наглядам у г. Лепелі. 10.07.1863 без дазволу пакінуў горад, аднак 19.08.1863 затрыманы сельскай вартай у в. Пясчанка Шчарбатаўскай вол. Віцебскага пав. з фальшывымі дакументамі. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, зняволены ў турэмным замку г. Віцебска. Падчас зняволення абразіў наглядчыка замка. Таксама выявіўся вінаватым у вырабе фальшывых дакументаў, таму 23.01.1864 аддадзены пад ПВС. (Рас. улады нейкі час падазравалі, што з'яўляецца *Чарвінскім Паўлам*.) Пастановай ЧПА ў г. Вільні ад 21.11.1864, канфірмаванай 26.11.1864 А. Патапавым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 24.12.1864 адпраўлены з Віцебска на месца ссылкі *(1416—4—11414; 1430—1—31602—75-77)*.

2784. **Касмоўскі Казімір** (Космовский Казимир), мешчанін г. Вільні. Нар. каля 1847 г. Улетку 1863 г. далучыўся да паўстанцкага атрада, але потым добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ВілСК. 04.11.1863 распараджэннем М. Мураўёва прысуджаны да ссылкі ў г. Мсціслаў пад нагляд паліцыі для «змяшчэння там <…> да якога-небудзь надзейнага майстра для навучання рамяству». Аднак 02.03.1865 яшчэ не прыбыў у Магілёўскую губ. *(2001—1—898—33-35)*.

2785. **Касоўскі Гальяш** (Коссовский Илья), сын Антонія, памешчык Горацкага пав. 04.1863 у

лясах свайго маёнтка хаваў паўстанцаў. За гэта сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу ў 2-гадавы тэрмін *(2001—2—14—12адв., 13; 2003—1—489—34, 54, 60; 2532—1—15—10адв.).*

2786. **Касоўскі Леапольд** (Коссовский Леопольд), дваранін Радамскай губ. Да паўстання жыў у г. Гродне. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.).*

2787. **Касоўскі Міхал** (Коссовский Михаил), сын Адама, дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. СПб, знаходзіўся на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Падчас паўстання належаў да складу падпольнай арганізацыі ў СПб, схаваўся ад рас. уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, узнагарод, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(320—1—398—783-785; 2003—1—474—4-5, 8 і інш.).*

2788. **Касоўскі Уладзіслаў** (Коссовский Владислав), сын Гедэона, дваранін Кіеўскай губ. Да паўстання жыў у г. СПб, служыў у Лейб-гвардыі коннай артылерыі, штабс-капітан. Падчас паўстання належаў да складу падпольнай арганізацыі ў СПб, схаваўся ад рас. уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, узнагарод, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—783-785; 2003—1—474—4-5, 8 і інш.).*

2789. **Касоўскі Фрамэнт** (Коссовский Фремент (Фремонт, Фрементий)), сын Калікста Міхалавіча і Тарэзы, муж Марыі Юзафаўны, бацька Тэрэзы, памешчык Навагрудскага пав. Нар. каля 1828 г. За ўдзел у «патаемнай мяцежніцкай арганізацыі» арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго частка маёнтка Стакрыль (Стакроць), якім ён валоў разам з маці, секвестравана паводле распараджэння МГП ад 29.09.1865. Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасяліўся спачатку ў г. Вятку з вяртаннем правоў дваранства. Праз 2 гады пераехаў у Алькушскі пав. Келецкай губ., адкуль 04.1875 падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму з прычыны слабога здароўя да сястры сваёй жонкі Руты (уладальніцы маёнтка Лінкоў Ковенскага пав.) у маёнтак яе мужа Мікалая Судзя Уцеха Навагрудскага пав. 08.1875 атрымаў дазвол на прыезд на 1 год. 11.03.1876 прыбыў у маёнтак Уцеха. У маёнтку Стакроць, дзе пасяліўся, меў невялікую спадчыну ад бацькоў і завёў гаспадарку, у сувязі з чым у 1877 г. яму дазволілі знаходзіцца на радзіме яшчэ на 1 год, 02.1878 — на 6 месяцаў, а 10.1878 — на 1 год. Памёр 11.06.1879 у маёнтку Уцеха ад сухотаў, пахаваны 13.06.1879 на могілках м. Мір *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 295—1—2748; 295—1—3026—19адв.-20; 296—1—89—132адв.-133; 320—1—398—676адв., 679, 682, 695-697; 2532—1—15—14).*

2790. **Касоўскі Ян** (Коссовский Иван), мешчанін г. Мінска. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 03.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1643—96; 319—1—479—17; 320—1—398—167, 222).*

2791. **Каспрыцкі N.** (Каспржицкий N.), дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, надворны радца. Да паўстання арандаваў дзяржаўную ферму Суміліўкі Троцкага пав. Падчас паўстання неаднаразова прымаў паўстанцаў на ферме. За гэта яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. На следстве сцвярджаў, што прымаў паўстанцаў пад іх пагрозамі *(1416—6—274).*

2792. **Каспяровіч Аляксандр** (Касперович Александр), сын Тамаша, брат *Антонія*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—39адв.-40).*

2793. **Каспяровіч Антоні** (Касперович Антон), сын Тамаша Міхалавіча, брат *Аляксандра*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 01.10.1836. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі і прамаўленні перад сялянамі «падбухторных выразаў», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 20.11.1863 яго справа накіравана ў МСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 28.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—155, 166; 320—1—398—623-624; 1418—3—1—39адв.-40).*

2794. **Каспяровіч Вінцэнт** (Касперович Викентий), сын Яна, мешчанін Ігуменскага пав., каталік. За знішчэнне пашпартоў, падрыхтаваных для паўстанцаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—41адв.-42).*

2795. **Каспяровіч Зыгмунт** (Касперович Зигмунд), шляхціц Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221адв.).*

2796. **Каспяровіч Мікалай** (Касперович Николай), ксёндз. Да паўстання служыў у Троцкім пав. ці ў Віленскай рымска-каталіцкай семінарыі. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і пастановай следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195, 611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

2797. **Каспяровіч Станіслаў** (Касперович Станислав), сын Іпаліта Базылевіча, муж Караліны Базылеўны, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 27.04.1825. Да паўстання служыў аканомам фальв. Высокае Магілёўскага пав.[104] памешчыка Ануфрыя Венцлавовіча (гл. *Венцлавовіч Ануфры*). За дачыненне да паўстання да 31.05.1863 арыштаваны, яго рухомая маёмасць у Высокім на 37,25 руб. 19.06.1863 апісана і секвестравана. Рашэннем МагВСК ад 05.07.1863, канфірмаваным М. Мураўёвым, прызнаны вінаватым у агітацыі сялянаў далучацца да паўстанцаў і супраціўляцца «законнай уладзе» і прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў руднікі на 12 гадоў *(319—1—479—16адв.; 320—1—398—1, 124адв., 384, 423адв.; 320—2—98—38; 1430—1—52163—596б адв.; 2003—1—216; 2003—2—2; 2003—2—19—16адв.; 3257—2—2—16).*

2798. **Каспяровіч Юзаф** (Касперович Осип), сын Юзафа, дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—104; 319—1—479—15адв.; 3257—2—2—17адв.).*

2799. **Касталецкі Тамаш** (Костеллецкий Фома). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

2800. **Кастаўчук (Каўстучэнка) Рыгор** (Костовчук (Ковстученко) Григорий), сын жаўнера Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада кіеўскага генерал-губернатара ад 29.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 03.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

2801. **Кастравіцкая Марыя** (Костровицкая Мария), памешчыца Віленскага пав. За дачыненне да паўстання саслана ў Варонежскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11).*

2802. **Кастравіцкі Адам** (Костровицкий Адам), сваяк *Юзафа*, памешчык Дзісенскага пав. Служыў наглядчыкам піцейна-акцызнага збору ў Свянцянскім пав., выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага сакратара. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую ці Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19; 2532—1—15—12).*

2803. **Кастравіцкі Караль** (Кастровицкий Карл), сын Самуэля Станіслававіча, муж Алены Тадэвушаўны, бацька Дароты, памешчык Мінскага пав. Хр. 07.05.1819. Уваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Прысуджаны (да 07.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы. Яго маёнтак Малыя Навасёлкі Мінскага пав., ацэнены ў 37 тыс. руб., з рухомай маёмасцю — у 575,5 руб., секвестраваны паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 і канфіскаваны *(162—1—116—57; 295—1—1643—108; 296—1—89—29; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—17; 320—1—398—462, 466; 320—2—98—38; 320—2—99—31а адв.-31б; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375).*

2804. **Кастравіцкі Люцыян** (Костровицкий Люциан), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Касцянева Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе паўстанцам. На следстве сцвярджаў, што паўстанцы трымалі яго гвалтоўна ў маёнтку і прымушалі выконваць іх патрабаванні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

2805. **Кастравіцкі Мечыслаў** (Костровицкий Мечеслав), памешчык Чэрыкаўскага пав. Запа-

---

[104] У некаторых дакументах памылкова падаецца назва месца службы як фальв. Вяркалы Ігуменскага пав.

дозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 перадала яго справу ў МагСК *(3257—2—2—19; 3366—1—5—6адв.)*.

2806. **Кастравіцкі Юзаф** (Костровицкий Иосиф), сваяк *Адама*, памешчык Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12)*.

2807. **Кастрыцкі Юзаф** (Костржицкий Иосиф), сын Сымона, аднадворац Мінскага пав. Далучыўся да атрада паўстанцаў, арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 16.11.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—21; 162—1—116—171; 295—1—1643—92адв., 104адв.; 534—1—14—9)*.

2808. **Касцецкі Юзаф** (Костецкий Иосиф), сын Канстанціна, дваранін Брэсцкага пав., каталік. Нар. каля 1840 г. Да паўстання жыў у маёнтку Дамачава Брэсцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, удзельнічаў са зброяй у сутычках з рас. войскамі, арыштаваны. На падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Паводле пастановы ПВС пры Шуйскім пяхотным палку, канфірмаванай 30.12.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Перададзены ў Пінскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне для высылкі. МГП 27.02.1864 выдала ўказ аб канфіскацыі яго маёмасці *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—2адв., 204-205; 320—2—98—37адв.)*.

**Касцюшка-Валюжыніч Адольф** — гл. **Валюжыніч Адольф**

2809. **Касцялецкі Вінцэнт** (Костелецкий Викентий), сваяк *Канстанціна*, памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.)*.

2810. **Касцялецкі Канстанцін** (Костелецкий Константин), сваяк *Вінцэнта*, дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—11адв.)*.

2811. **Касцялкевіч Казімір** (Косцялкевич Казимир), мешчанін. Да паўстання служыў бургамістрам магістрата г. Слоніма. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.)*.

2812. **Касцялкоўскі Ільдэфонс** (Костялковский Ильдефонс), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Сасланы ў Пермскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—149адв.; 2532—1—15—4)*.

2813. **Касцялкоўскі Юзаф** (Костялковский Осип), дваранін. Да паўстання жыў у м. Кейданы Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598)*.

2814. **Касцялкоўскі Януш** (Косцялковский Януш), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—26адв.)*.

2815. **Касьмінскі Ян** (Косьминский Иван), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у г. Іркуцку, атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—20-21; 1430—1—52758—22)*.

2816. **Каткоўскі Вінцэнт** (Котковский Викентий), дваранін. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску *(295—1—1643—87)*.

2817. **Каткоўскі Уладзіслаў** (Котковский Владислав), дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1839 г. Да паўстання служыў у Дзісенскім павятовым казначэйстве, калежскі рэгістратар. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану,

канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(295—1—1527—101адв.; 319—1—479—15адв.; 320—1—398—132; 1416—6—280; 1430—1—52163—599)*.

2818. **Каткоўскі Фларанцін** (Катковский Флорентин), сын Бенядыкта, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Да паўстання з'яўляўся чыноўнікам у Рэжыцкім (?) пав. Падчас паўстання абвінавачаны ў «нядобранадзейнай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 02.03.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа перададзена ў ДСК *(1430—1—52163—634адв.)*.

2819. **Катовіч Аляксандр** (Котович Александр), памешчык. Да паўстання сумесна з маці валодаў маёнткам у Шавельскім пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

2820. **Катовіч Базыль** (Котович Василий), сын Казіміра, дваранін Віцебскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 19.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У 1867 г. яго маёмасць вызвалена ад секвестру *(1416—3—21048—31адв.; 1430—1—52163—394; 2514—1—2198—68; 3255—1—14—3)*.

2821. **Катовіч Віктар** (Котович Виктор), памешчык. У 1864 г. абвінавачаны ў дастаўцы харчавання паўстанцам і арыштаваны *(295—1—1643—107адв.)*.

2822. **Катовіч Казімір** (Катович Казимир), сын Фелікса, дваранін, каталік. Падчас паўстання захоўваў у сваёй пуні паўпляшкі пораху, якая потым была знойдзеная рас. уладамі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 29.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—48адв.-49)*.

2823. **Катовіч Леан** (Котович Лев). Да паўстання служыў павытчыкам Ігуменскага павятовага суда, губернскі сакратар. Абвінавачаны ў падбухторванні да паўстання, на следстве апраўданы, але «пакінуты ў падазрэнні». Спачатку прысуджаны да ссылкі ў «дальнія губерні Рас. імперыі» з заснаваннем паліцэйскага нагляду. Аднак потым канфірмацыяй А. Патапава ад 08.03.1865 прысуджаны да звальнення са службы і аддачы пад нагляд паліцыі *(160—2—682—117-118; 295—1—1643—87адв., 102адв.)*.

2824. **Катовіч Тамаш** (Котович Фома), сын Ігната, дваранін Слонімскага пав. Да паўстання служыў пісьмаводам прыстава 4 стана Слонімскага пав. у м. Дзятлава Слонімскага пав. 20.06.1863 пакінуў Дзятлава і далучыўся да паўстанцкага атрада, які, перасьледаваны рас. войскамі, 23–25.06.1863 прайшоў праз 3 стан павета і перайшоў праз р. Шчару. Яго маёмасць на падставе пастаноў ГГП ад 17.07.1863 і 27.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3; 1416—6—295)*.

2825. **Катулевіч Вінцэнт** (Котулевич Викентий), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

2826. **Катырла Базыль** (Котырло Василий), сын Ігната, дваранін Віцебскай губ. Нар. каля 1839 г. Да паўстання з'яўляўся вольным слухачом Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Падчас паўстання распаўсюджваў у г. Оршы адозвы «Зямля і воля», у тым ліку сярод рас. жаўнераў-артылерыстаў, арыштаваны разам з *Савінічам Мечыславам*. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 08.11.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Пасля ўтрымліваўся ў г. Магілёве пры паліцэйскім упраўленні, затым пераведзены ў «богаўгодную ўстанову». Яго справа разглядалася ў МагВСК, пастановай якой ад 30.03.1864 прызначаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. Канфірмацыяй часовага камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі ад 12.11.1864 гэты прысуд зацверджаны. 21.12.1864 адпраўлены з Магілёва на месца ссылкі *(1416—3—21048—31адв.; 1416—4—11416—154-158; 1430—1—52163—393адв., 516-517; 3255—1—12—1, 3адв.-4; 3255—1—14—3; 3256—2—49; 3257—2—2—18адв.)*.

**Катырла Тамаш** — гл. **Кутырла Тамаш**

2827. **Каўлярскі Сымон** (Коулярский Семен), селянін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 09.1863 вызвалены і вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі (?) *(296—1—19—280адв.)*.

2828. **Каўрэцкі Вітальд** (Коврецкий Витольд), селянін. Да паўстання жыў у м. Аколава Барысаўскага пав., прыпісаны да Аколаўскай сельскай грамады. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 20.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—103)*.

**Каўстучэнка Рыгор** — гл. **Кастаўчук Рыгор**

2829. **Каўтуноўскі Ян** (Колтуновский Иван), дваранін. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1864 г. вызвалены з накладаннем штрафу ў 50 руб. і аддачай пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—106)*.

2830. **Каўшоў (Каўш) Пётр** (Каушов (Кауш) Петр), сын Юзафа, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Драгабылле Навагрудскага пав. *Дабашынскага Дамініка.* Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—10адв.; 320—1—398—3).*

2831. **Каўшоў (Каўш, Коўш) Францішак** (Каушов (Кауш) Франц), сын Мікалая, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Драгабылле Навагрудскага пав. *Дабашынскага Дамініка.* Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2725—31; 295—1—2420—10адв.; 320—1—398—3).*

2832. **Кахаnoўскі Тэафіл** (Кохановский Теофил), аднадворац Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і «з прычыны немагчымасці да прац у арыштанцкіх ротах» сасланы на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—15адв.; 3046—2—5—26адв.).*

2833. **Каханскі Аляксандр** (Коханский Александр), дваранін. Да паўстання служыў пісарам у Недзінгаўскім валасным праўленні Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 24.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(319—1—479—15; 534—1—14—4; 1416—6—270; 1430—1—52163—374).*

2834. **Каханскі Вінцэнт** (Коханский Викентий), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў Троцкім пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(319—1—479—15; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

2835. **Каханскі Міхал** (Коханский Михаил), шляхціц Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—15; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

2836. **Каханскі Юзаф** (Коханский Иосиф), шляхціц Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 ці 8 гадоў *(319—1—479—15; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

2837. **Кац Янкель** (Кац Янкель), муж Эстэр, яўрэй. Да паўстання з'яўляўся земляробам Нястанавіцкай грамады Барысаўскага пав., валодаў зямлёй у с. Тартак. На пачатку траўня 1863 г. прадаў паўстанцам харчаванне (2 цялятаў), за што 05.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Знаходзіўся пад следствам у МСК. На следстве сцвярджаў, што харчаванне было адабранае ў яго паўстанцамі гвалтоўна і грошай не атрымліваў. Пра яго даваў паказанні *Казімірскі Аляксандр.* Спачатку меркавалася выслаць яго ў «адміністрацыйным парадку на жыхарства ў дальнія губерні», аднак паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 17.07.1863 адпушчаны на парукі жонкі. У 1863 г. прысуджаны да штрафу ў 10 руб. *(295—1—1643—96адв.; 296—1—19—54-63).*

2838. **Кацела Андрэй** (Коцелло Андрей), дваранін Вілейскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—15; 1430—1—52163—204адв.).*

2839. **Катэрлі Баляслаў** (Катерли Болеслав), сын *Гераніма*, брат *Марціна*, дваранін Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

2840. **Катэрлі Геранім** (Катерли Героним), бацька *Баляслава* і *Марціна*, памешчык. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпалкоўніка. Да паўстання валодаў маёнткам Боршчына Шыдлаўскай парафіі Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. *(1416—6—281).*

2841. **Катэрлі Марцін** (Катерли Мартин), сын *Гераніма*, брат *Баляслава*, дваранін Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

**Кацірла Тамаш** — гл. **Кутырла Тамаш**

2842. **Качан Венцаслаў** (Кочен Венцеслав), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15адв.; 1430—1—52163—530).*

2843. **Качан Вінцэнт** (Качан Викентий), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

2844. **Качан Ян** (Качан Иван). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

2845. **Качаноўскі Антоні** (Качановский Антон), сын Станіслава, дваранін, каталік. Западозраны рас. уладамі ў захоўванні зброі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—47адв.-48)*.

2846. **Качаноўскі Фларыян** (Качановский Флориан), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

2847. **Качаноўскі Юзаф** (Качановский Иосиф), дваранін. Да паўстання служыў у Віленскім ДДС. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

2848. **Качкала (Качкела) Канстанцін** (Кочкалло (Кочкелло) Константин), сын Сымона, дваранін ці мешчанін Беластоцкага пав. Да паўстання жыў у г. Брэсце. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—89; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

2849. **Качынскі Ануфры** (Качинский Онуфрий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Без следства 13.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—39адв.-34)*.

2850. **Качынскі Валяр'ян** (Качинский Валериан), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

2851. **Качынскі Ігнат** (Кочинский Игнатий). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68)*.

2852. **Качынскі Міхал** (Качинский Михаил), сын Марціна, брат Юліі (v. Кабылінскай), дваранін Мінскага пав. Нар. каля 1813 г. У паўстанні прызначаны начальнікам паўстанцкага пашпартнага бюро г. Мінска, арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў руднікі на 12 гадоў. Пасля частковай амністыі вярнуўся ў Мінск да сястры на часовае пражыванне. 10.1875 атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў сястры *(162—1—116—84; 295—1—1643—112адв.; 295—1—2746; 299—1—579—165-177; 319—1—479—17; 320—1—398—462, 474адв.; 320—2—98—38; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375)*.

2853. **Качынскі Фаўстын** (Качинский Фаустин (Фавст)), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскім турэмным замку. 26.09.1863 дзеля вызвалення падаваў прашэнне аб прыняцці праваслаўя. Вызвалены, вернуты на ранейшае месца жыхарства да правядзення абраду перахрышчвання *(296—1—75—11, 22-23; 1418—3—1—38адв.-39)*.

2854. **Качынскі Ян** (Качинский Иван), дваранін Ігуменскага пав. Падчас паўстання арыштаваны за намер далучыцца да паўстанцаў. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, пастановай якога прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Наўгародскую губ. без пазбаўлення правоў; на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці *(162—1—116—103, 166; 295—1—1643—89адв.; 1430—1—52163—150)*.

**Кашанскі Міхал** — гл. **Глеб-Кашанскі Міхал**

**Кашанскі Рыгор** — гл. **Глеб-Кашанскі Рыгор**

**Кашанскі-Глеб Юзаф** — гл. **Глеб-Кашанскі Юзаф**

2855. **Кашуба Адольф** (Кашуба Адольф). Паходзіў з Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

2856. **Кашуба Юзаф** (Кашуба Иосиф), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

2857. **Кашчэеў Міхал** (Кащеев Александр), дваранін Лепельскага пав., праваслаўны. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла

доказаў віны і 21.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—45адв.-46)*.

2858. **Кашынскі Казімір** (Кашинский Казимир). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—27)*.

2859. **Кашыц Канстанцін** (Кашиц Константин), памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Да паўстання валодаў маёнткамі Вобрына Навагрудскага пав., Тарнова Лідскага пав., яго маці валодала маёнткам Ярэмічы Навагрудскага пав. Абвінавачаны ў дачыненні да паўстання і арыштаваны. На яго маёмасць накладаўся секвестр (указ МГП ад 02.09.1864 на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 19.08.1864). Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да высылкі з радзімы без канфіскацыі маёмасці, з якой здымаўся секвестр. Сасланы ў Ніжагародскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1869 г. жыў у г. Рызе, атрымаў амністыю і права на вольнае пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі без паліцэйскага нагляду. 06.04.1873 прыбыў у маёнтак Вобрына, якім ужо валодала яго маці. У 1880 г. жыў у Мінскай губ. *(160—2—682—57; 162—1—116—135, 166адв.; 162—1—122—11; 295—1—2407; 295—1—3026—19адв.-20; 295—1—3492—10; 320—1—398—566, 679; 2532—1—15—12адв., 14)*.

2860. **Кашэўскі Габрыэль** (Кашевский Гавриил), сын Рыгора, брат *Францішка*, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1797 г. Да паўстання жыў у маёнтку Кайтанава Барысаўскага пав., які арандаваў яго брат. Падчас паўстання не данёс рас. уладам пра хаванне ў фальв. Кайтанава яго ўладальніка *Бачызмальскага Леанарда* і *Гатоўкі Емяльяна*. Арыштаваны 08.06.1863 разам з імі і братам. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 08.1863 аддадзены пад ПВС пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску, пастановай якога, канфірмаванай 11.11.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да 100 руб. штрафу на карысць пацярпелых ад паўстання і ссылкі на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. 27.03.1864 (прынамсі да 29.05.1864) знаходзіўся ў шпіталі, з-за чаго не мог быць адпраўлены на месца ссылкі. Спагнаць з яго 100 руб. рас. уладам не ўдалося з прычыны адсутнасці ў яго такіх сродкаў *(295—1—1547; 320—1—398—2; 1430—1—52285—30)*.

2861. **Кашэўскі Леан** (Кашевский Лев), сын Уладзіслава, дваранін Віцебскага пав., каталік. Уваходзіў у склад атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава* ў м. Бешанковічы Лепельскага пав., пасля чаго разам з *Пятровічамі Алімпіем* і *Ігнатам* добраахвотна 26.04.1863 з'явіўся да памочніка сенненскага павятовага спраўніка. Даў падпіску пра тое, што не будзе ніколі належаць да паўстанцкіх атрадаў, пасля чаго быў вызвалены ў той жа дзень. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—63-65; 3046—2—3—43адв.-44; 3046—2—5—25адв.)*.

2862. **Кашэўскі Станіслаў** (Кашевский Станислав), дваранін Шавельскага пав. Да паўстання арандаваў зямлю. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11)*.

2863. **Кашэўскі Францішак** (Кашевский Франц), сын Рыгора, брат *Габрыэля*, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання арандаваў у *Бачызмальскага Леанарда* фальв. Кайтанава Барысаўскага пав. Падчас паўстання ў Кайтанаве хаваліся *Б. Л.* і *Гатоўка Емяльян*. Арыштаваны з братам і згаданымі асобамі 08.06.1863 падчас вобшуку рас. войскамі ў фальварку. На следстве выявіўся невінаватым, загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 27.08.1863 адпушчаны на волю *(295—1—1547)*.

2864. **Каяловіч Казімір** (Коялович Казимир), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

2865. **Каяловіч Ксаверы** (Коялович Ксаверий), сын Ігната, брат (?) *Фердынанда*, дваранін Магілёўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 1430—1—52758—22; 2514—1—2198—68; 3366—1—5—6адв.)*.

2866. **Каяловіч Фердынанд** (Коялович Фердинанд), сын Ігната, брат (?) *Ксаверыя*, дваранін Магілёўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на

жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2514—1—2198—68; 3366—1—5—6адв.)*.

2867. **Каяловіч Эдмунд** (Коялович Эдмунд), сын Ксаверыя, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку. Да паўстання яго маці валодала домам у г. Панявежы. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2868. **Квінта Астальф** (Квинто Астальф), дваранін Дынабургскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Коўне. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—222адв.; 1416—3—21048—31;)*.

2869. **Квінта Ігнат** (Квинто Игнатий), дваранін Віцебскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Архангельскую губ. На яго маёмасць 18.01.1864 накладзены секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 21.12.1863 *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—32адв.; 1430—1—31583—116-117; 1430—1—52163—389адв., 400, 617)*.

2870. **Квіцінскі (Квяцінскі) Юзаф** (Квицынский (Квецинский) Осип), памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Людвінова і в. Пральня Магілёўскага пав. (432 дзес. зямлі, хата, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудоы і інш., 466,62 руб. гадавога прыбытку, доўг дзяржаве). За дачыненне да паўстання яго маёмасць апісана і секвестравана (да 30.07.1863). Паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—32; 2003—2—19—20адв.-21адв.; 2532—1—15—9, 10адв.)*.

2871. **Квяткоўская Тэкля** (Квятковская Текля), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

2872. **Квяткоўскі Антоні** (Квятковский Антон), дваранін. У 1864 г. абвінавачаны ў «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах» *(295—1—1643—108)*.

2873. **Квяткоўскі Баляслаў** (Квятковский Болеслав), сын Яўстаха, чыноўніка ў Шавельскім пав., дваранін. Да паўстання жыў у м. Янішкі Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

2874. **Квяткоўскі Вінцэнт** (Квятковский Викентий), дваранін Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—222адв.; 3257—2—2—17)*.

2875. **Квяткоўскі Дамазі** (Квятковский Домазий). Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 прысуджаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання», ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя губерні» і секвестру маёмасці *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379)*.

2876. **Квяткоўскі Ігнат** (Квятковский Игнатий), сын Фелікса, дваранін Ашмянскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў веданні пра збор і выхад атрада з м. Бешанковічы Лепельскага пав. і неданясенні пра гэта. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—32; 3046—2—3—46адв.-45; 3046—2—5—26)*.

2877. **Квяткоўскі Мікалай** (Квятковский Николай), дваранін Валынскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у г. Іркуцку, атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ. *(295—1—3372—18-19; 1430—1—52758—22)*.

2878. **Квяткоўскі Павел** (Квятковский Павел), мешчанін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68)*.

2879. **Квяткоўскі Ян** (Квятковский Иван), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання служыў інспектарам прагімназіі ў г. Цельшах. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573, 612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

2880. **Квяткоўскі Яўстах** (Квятковский Евстафий). Да паўстання жыў у м. Янішкі Шавельскага пав., губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

**Квяцінскі Юзаф** — гл. **Квіцінскі Юзаф**

2881. **Кед (Кеду) Антон** (Кед (Кеду) Антон), селянін Ашмянскага пав. Нар. каля 1833 г. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280).*

2882. **Келпш Ільдэфонс** (Келпш Ильдефонс), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562; 2532—1—15—3).*

2883. **Келпш Тадэвуш** (Келпш Фаддей), сын Сільвестра, муж Марыі Раманаўны, бацька Аляксандра і Паўла, дваранін Полацкага пав., каталік. Да паўстання служыў столаначальнікам Полацкага павятовага паліцэйскага ўпраўлення, губернскі сакратар. Падчас паўстання перадаў *Янушкоўскаму Яну* 2 стрэльбы, за што арыштаваны. На яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 07.1864 сасланы на жыхарства ў Томскую губ. Жонка 15.07.1864 падала прашэнне на імя в. а. віцебскага губернскага маршалка Міхала Храпавіцкага прашэнне аб прызначэнні ёй з дзецьмі грашовага ўтрымання, якое 04.12.1864 было адхілена *(1416—3—21048—31адв.; 1430—1—52163—406; 2626—1—305—66-67, 74; 3046—2—3—42адв.-43; 3046—2—5—26).*

2884. **Келпш (Келпіс) Юзаф** (Келпш (Келпис) Иосиф), памешчык Себежскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 12.08.1863 высланы з жонкай «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Тамбоў *(1430—1—52163—608; 1430—1—52285—58адв.).*

2885. **Келпш (Колпіс) Ян** (Келпш (Колпис) Иван), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—5адв.).*

2886. **Кельвіч N.** (Кельвич N.), памешчык. Да паўстання валодаў мызай Ломлікі Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—210).*

2887. **Кемпскі Ізыдар** (Кемпский Изидор), сын Крысціна, дваранін Гродзенскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68).*

2888. **Кернажыцкі (Керпажыцкі) Канстанцін** (Керножицкий (Керпожицкий) Констанцин), сын Фёдара Гаўрылавіча, дваранін Слуцкага пав., праваслаўны. Нар. 12.09.1832. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым лекарам, жыў у с. Сіняўка Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе тлумачыў, што далучыўся да паўстанцкага атрада выключна «са спачування да пакутаў чалавецтва» і «як медык меў намер дапамагаць параненым бліжнім». 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 месца катаргі заменена на крэпасці *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв., 332; 320—2—98—38; 1418—4—1; 1524—1—1—6; 1525—1—2—6адв.-7).*

**Керпажыцкі Канстанцін** — гл. **Кернажыцкі Канстанцін**

2889. **Кеўліч Міхал** (Кевлич Михаил), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—15).*

2890. **Кеўліч Стэфан** (Кевлич Степан), дваранін Свянцянскага пав. Нар. каля 1830 г. Да паўстання жыў у в. Дзярмонтава Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 16.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—104адв.; 295—1—1643—104).*

2891. **Кібарт Браніслаў** (Киборт Бронислав), сын Юзафа, брат *Генрыка*, памешчык. Да паўстання валодаў часткамі маёнткаў Брадайжы Люцынскага пав., Старыя і Новыя Мыслі Рэжыцкага пав. і Казімірава Себежскага пав. За дачыненне да паўстання трапіў пад следства ў ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладзены секвестр, які здымаўся паводле распараджэння М. Мураўёва ад 02.09.1864 *(1416—3—21048—30; 1430—1—52163—152, 312-313, 453адв., 567адв., 568, 569; 2616—1—40—10адв.; 3046—2—5—26).*

2892. **Кібарт Вінцэнт** (Киборт Викентий), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—26).*

2893. **Кібарт Генрык** (Киборт Генрих), сын Юзафа, брат *Браніслава*, памешчык. Да паўстання валодаў часткамі маёнткаў Старыя і Новыя Мыслі Рэжыцкага пав., Казімірава Себежскага пав. і Брадайжы Люцынскага пав. (?). Западозраны ў «нядобранадзейнасці» і трапіў пад следства ў ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Паводле загада М. Мураўёва высланы (да 19.10.1863) «адміністрацыйным парадкам» пад строгі нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. без пазбаўлення правоў стану. На яго маёнткі накладзены секвестр паводле распараджэння Э. Длатоўскага ад 22.07.1863, потым паводле распараджэння М. Мураўёва ад 15.11.1863 секвестр зняты са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору. На месцы ссылкі звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву, дзе ў 1871 г. атрымаў дазвол прыбыць у Віцебскую губ. на 3 месяцы. У 1875 г. вярнуўся на радзіму на сталае жыхарства *(1416—3—21048—30; 1430—1—31355—19-21; 1430—1—35146—8а; 1430—1—35810—19; 1430—1—52163—115, 150адв., 567адв., 568, 569; 1430—1—52285—35адв.-37; 3046—2—5—26).*

2894. **Ківач (Ківас) Юзаф** (Кивач (Кивас) Иосиф (Юзеф)), сын Фёдара, селянін, праваслаўны. Да паўстання жыў у маёнтку Сенна Навагрудскага пав. памешчыкаў Пуслоўскіх. Падчас паўстання 05.04.1863 увайшоў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку ў астрогу, дзе знаходзіўся яшчэ 07.09.1863. Потым утрымліваўся ў г. Мінску, быў пад следствам у МСК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкі высланы ў Сібір. З Мінска накіраваны ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—1585; 295—1—2420—11адв.; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.).*

2895. **Ківельмахер (Кавельмахер, Кавальмахер) Вацлаў (Уладзіслаў)** (Кивельмахер (Ковельмахер, Кавальмахер) Вацлав (Вацеслав, Владислав)), сын Яна, мешчанін г. Мінска, пратэстант. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, жыў у маёнтку Бабірышы Слуцкага пав. Спачатку ўваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Рагінскага Рамана*, пасля яго разбіцця — атрада *Машэўскага Уладзіслава.* 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе сцвярджаў, што далучыўся да паўстання супраць сваёй волі і прасіў літасці. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга зменена на 10 гадоў у крэпасцях *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—17; 320—1—398—326-327адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—6; 1525—1—2—6адв.-7).*

2896. **Кіеня Рыгор** (Киеня Григорий), сын Андрэя, селянін Слуцкага пав., праваслаўны. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—7).*

2897. **Кілдыш (Кільдыш) Данат-Ежы** (Килдыш (Кильдыш) Донат-Юрий), сын Міхала і Элеаноры Кілдыш, дваранін Панявежскага пав., каталік. Нар. 02.01.1833 у фальв. Ужволька, хр. 02.04.1833 у Трускавоўскім касцёле. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах у г. Горкі. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе Горкаў 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—16адв.; 3286—2—1—8, 205-207).*

**Кільчэўскі Ян** — гл. **Кялчэўскі Ян**

2898. **Кільшэўская Леакадзія** (Кильшевская Леокадия), памешчыца Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7).*

2899. **Кільшэўскі (Кялчэўскі) Станіслаў** (Кильшевский (Келчевский) Станислав), памешчык. Да паўстання жыў ля в. Новая Весь Віленскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць

на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы ВілГП ад 13.06.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—244; 1430—1—52285—7).*

2900. **Кімбар Захар** (Кимбор Захар), дваранін Віленскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 04.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221адв.; 3255—1—14—3).*

**Кіневіч Канстанцін** — гл. **Кяневіч Канстанцін**

**Кіневіч Францішак** — гл. **Кяневіч Францішак**

2901. **Кірклеўскі Леапольд** (Кирклевский Леопольд), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Духдзішкі Троцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, потым вярнуўся на месца жыхарства, дзе арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні», на яго маёмасць накладаўся секвестр. Сасланы ў Пермскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1430—1—52163—149; 2532—1—15—12адв.).*

2902. **Кірклеўскі Міхал** (Кирклевский Михаил). Да паўстання служыў капітанам Магілёўскага батальёна ўнутранай варты. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—16).*

2903. **Кірклеўскі Павел** (Кирклевский Павел), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—14адв.).*

2904. **Кіркор Ксаверы** (Киркор Ксаверий), сын Тэадора, мешчанін. Да паўстання жыў у вак. Мількевічы Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* 07.04.1863 захоплены ў палон у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1562—16адв.; 295—1—1643—109; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.).*

**Кірштаф Каспер** — гл. **Крыштаф Каспер**

2905. **Кірыноўскі Ян** (Кириновский Иван), памешчык Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

2906. **Кірэвіч Эміль** (Киревич Эмилиан). Служыў чыноўнікам у Ковенскай (?) губ.; губернскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573).*

2907. **Кісель (Кісель-Загаранскі) Караль** (Кисель (Кисель-Загорянский) Карл), сын Яна, сваяк Адама, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Дзяніскавічы Рагачоўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. Яго маёмасць секвестравана і канфіскавана ў 1866 г. *(319—1—479—13адв.; 320—1—398—4, 222, 401адв., 409; 320—2—98—38; 1416—4—11416—174-175адв.; 2001—2—123—6; 2001—3—23—2; 2003—1—445—15, 21; 2003—2—90—26-29; 3257—2—2—14).*

2908. **Кісель-Загаранскі (Загаранскі-Кісель) Станіслаў** (Кисель-Загоранский (Загоранский-Кисель) Станислав), сын Януарыя (пам. да 1863) і Ізабэлы, брат Вітальда (нар. каля 1849), Марыі (нар. каля 1846), Тэклі (нар. каля 1856), *Фердынанда* і *Юзафа*, памешчык, каталік. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у г. Віцебску, дзе займаўся земляробствам, валодаў часткай маёнтка Добрына Віцебскага пав. (395 дзес. зямлі, сад, карчма, 467 руб. гадавога прыбытку). 22.04.1863 разам з *Фердынандам* выехаў з Добрына з мэтай злучыцца з паўстанцкім атрадам. Пайшоў у Віцебск, там арыштаваны паводле даносу сялян в. Добрына. Падчас вобшуку ў яго знойдзены 2 стрэльбы, 2 шаблі і вайсковы раштунак. На яго маёмасць 12.11.1863 на падставе распараджэння ВГП ад 03.08.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 11.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 26.03.1864 адпраўлены на месца ссылкі. На яго маёмасць 27.05.1864 паўторна накладаўся секвестр. 03.1865 Добрына заставалася пад

секвестрам у кіраванні апекуна малагадовых братоў і сясцёр Лашынскага, з яе 27,67½ руб. штогод уносілася ў казну. Пазней яго частка маёнтка канфіскавана. У 1875 г. жыў у Аланецкай губ., атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—13адв.; 1416—3—21048—28; 1416—4—11370; 1430—1—35810—25-28; 1430—1—35834—74, 83; 1430—1—52163—425адв., 571, 666, 678, 723, 827; 2500—1—179—12; 2626—1—305—54-58адв.; 3046—2—3—30адв.-31; 3046—2—5—19).*

2909. **Кісель-Загаранскі (Загаранскі-Кісель) Фердынанд** (Кисель-Загоранский (Загоранский-Кисель) Фердинанд), сын Януарыя (пам. да 1863) і Ізабэлы, брат Вітальда (нар. каля 1849), Марыі (нар. каля 1846), Тэклі (нар. каля 1856), *Станіслава* і *Юзафа*, памешчык, каталік. Нар. каля 1841 г. Служыў у рас. войску, 07.1861 выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. Валодаў часткай маёнтка Добрына Віцебскага пав. (395 дзес. зямлі, сад, карчма, 467 руб. гадавога прыбытку), дзе жыў разам з *Юзафам*. На пачатку 1863 г. перадаў маёнтак у арэнду *Яцэвічу Казіміру*. 22.04.1863 разам са *Станіславам* выехаў з Добрына з мэтай злучыцца з паўстанцкім атрадам. Пайшоў у г. Віцебск, там арыштаваны паводле даносу сялян в. Добрына. Падчас вобшуку ў яго знойдзены 2 стрэльбы, 2 шаблі і вайсковы раштунак. На яго маёмасць 12.11.1863 на падставе распараджэння ВГП ад 03.08.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. На яго маёмасць 27.05.1864 паўторна накладаўся секвестр, потым яго частка Добрына канфіскавана. 26.03.1864 адпраўлены на месца ссылкі. 03.1865 Добрына заставалася пад секвестрам у кіраванні апекуна малагадовых братоў і сясцёр Лашынскага, з яе 27,67½ руб. штогод уносілася ў казну. Пазней яго частка маёнтка канфіскавана. У 1875 г. жыў у Аланецкай губ., атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі *(296—1—25—105; 319—1—479—13адв.; 1416—3—21048—28; 1416—4—11370; 1430—1—35810—25-28; 1430—1—35834—74, 83; 1430—1—52163—215адв.-216, 230, 425адв., 571, 666, 678, 723, 827; 2500—1—179—12; 2626—1—305—54-58адв.; 3046—2—3—29адв.-30; 3046—2—5—19).*

2910. **Кісель-Загаранскі (Загаранскі-Кісель) Юзаф** (Кисель-Загоранский (Загоранский-Кисель) Иосиф), сын Януарыя (пам. да 1863) і Ізабэлы, брат Вітальда (нар. каля 1849), Марыі (нар. каля 1846), Тэклі (нар. каля 1856), *Станіслава* і *Фердынанда*, памешчык. Нар. каля 1847–1849 гг. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Добрына Віцебскага пав. (395 дзес. зямлі, сад, карчма, 467 руб. гадавога прыбытку), дзе жыў разам з *Фердынандам*. Падчас паўстання ведаў пра намер сваіх братоў далучыцца да паўстанцаў, але не данёс пра гэта рас. уладам. Арыштаваны ў карчме Баронікі за 4 вярсты ад р. Лучаса разам з *Яцэвічам Казімірам*. Яго маёмасць часова падлягала секвестру. Як няпоўнагадовы вызвалены ад пакарання і аддадзены пад нагляд і апеку маці «пад строгую адказнасць за яго паводзіны» *(1416—4—11370—2-6; 2500—1—179—12; 2626—1—305—54-58адв.).*

2911. **Кісель Ян** (Кисель Иван). Да паўстання вучыўся ў магілёўскага павятовага лекара. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—18; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—17адв.).*

2912. **Кістэр Міхал** (Кистер Михаил), сын Марціна Ферданантавіча (пам. каля 1858 г.) і Ізабэлы Пятроўны, брат Людвіка і Актавіяна, дваранін. За дачыненне да паўстання маёнтак яго маці Вялікія Пірошыцы Сенненскага пав. з в. Вялікія Пірошыцы, Забор'е, Сіманавічы і пусташамі ў в. Заполле і Пасынкі (агулам 927 дзес. зямлі, дом, фруктовы сад, млын, гаспадарчыя пабудовы і інш., 839 руб. штогод прыбытку, 3685 руб. ср. доўгу) 08.07.1863 апісаны і секвестраваны *(2003—2—24).*

2913. **Кісцень Казімір** (Кистень Казимир), селянін. За садзейнічанне паўстанню арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—93).*

2914. **Кісялеўскі Баляслаў*** (Киселевский Болеслав), дваранін г. Варшавы. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(1430—1—52163—207).*

2915. **Кісялеўскі Баляслаў**** (Киселевский Болеслав), сын Андрэя, дваранін Магілёўскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—18).*

2916. **Кісялеўскі Мацей** (Киселевский Матвей), сын Севярына, дваранін Мазырскага пав., каталік. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыў у м. Капаткевічы Мазырскага пав., з'яўляўся валасным фельчарам. Абвінавачаны ў спачуванні паўстанцам

* Магчыма, ідэнтычны з наступнай асобай.

** Магчыма, ідэнтычны з папярэдняй асобай.

і прамаўленні «абразлівых слоў супраць асобы Яго Вялікасці» і 06.1863 арыштаваны. Зняволены ў турме ў г. Мазыры, потым пераведзены ў г. Бабруйск. 09.03.1865 аддадзены пад ПВСЗБА, пастановай якога ад 19.09.1866 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. Канфірмацыяй Э. Баранава ад 10.04.1867 пакаранне заменена на ссылку ў Томскую губ. пад строгі нагляд паліцыі без пазбаўлення правоў стану. 15.05.1867 высланы з Бабруйска ў г. Мінск у распараджэнне МГП для далейшай адпраўкі ў Сібір *(295—1—1643—112адв.; 295—1—1769; 299—2—6399—20адв.-22; 299—2—6400—28адв.-30).*

2917. **Кіч Гедыён** (Кич Гедион), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Прыдруйск Дрысенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 27.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—46адв.-47).*

2918. **Кішка Тамаш** (Кишка Фома), сын Філіпа, селянін Ігуменскага пав., праваслаўны. Да паўстання быў Раваніцкім старшынёй Ігуменскага пав. ці жыў у Белічанскай вол. Ігуменскага пав. і прыпісаны да Градніцкай сельскай грамады. Абвінавачаны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе і неданясенні пра гэта ўладам альбо ў сувязях з паўстанцамі і дастаўленні ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 07.10.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Зняволены ў гарадской турме г. Мінска паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 16.11.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС і потым высланы з радзімы *(295—1—1643—88; 295—1—2725—35; 296—1—90—10адв.-11; 1418—3—1—40адв.-41).*

2919. **Кіюць Сымон** (Киюць Семен), сын Вінцэнта, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Талькунцы Лідскага пав. Паўстанцы атрымалі ў маёнтку сена і забралі батрака, пра што сам данёс рас. уладам. Западозраны ў дапамозе паўстанцам. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

2920. **Кіянскі Мітрафан** (Киянский Митрофан), дваранін Арлоўскай губ. Да паўстання служыў інжынерам у чыне падпаручніка. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106).*

2921. **Кладніцкі Апалон** (Клодницкий Апполон), сын Паўла, дваранін Віцебскага пав., праваслаўны. Служыў сакратаром Віцебскага гарадавога магістрата. Западозраны рас. уладамі ў размове ў 1864 г. пра тое, што «да лета гэтага года фарміруецца ў Віцебскай і Магілёўскай губернях шайка інсургентаў у колькасці 800 чалавек» (гл. *Лінскі Францішак*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—47адв.-48).*

2922. **Кладніцкі Міхал** (Клодницкий Михаил), сын Антонія, дваранін Полацкага пав. Да паўстання вучыўся на 2 курсе Санкт-Пецярбургскай медыкахірургічнай акадэміі. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». У 1871 г. пасля частковай амністыі перасяліўся ў Кастрамскую губ., дзе 21.06.1871–02.11.1871 знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Паводле пастановы МУС ад 31.10.1871 атрымаў дазвол на прыбыццё ў Віцебскую губ. на 6 месяцаў. У 1875 г. знаходзіўся на Білімбаеўскім заводзе ў Пермскай губ., атрымаў дазвол на прыбыццё ў Віцебскую губ. на 2 месяцы. 03.1876 жыў у Екацерынбургскім пав. Пермскай губ., атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму на сталае жыхарства. 04.10.1876 жыў з сынамі Антоніем і Геранімам у маёнтку Дварэц-Юравічы Полацкага пав. 11.11.1876 паступіў на службу пісарам у канцылярыю Полацкага пасярэдніцтва *(296—1—25—105; 319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—32адв.; 1430—1—35146—141; 1430—1—35834—43; 1430—1—35976—8-17; 1430—1—36031—1-2; 1430—1—36386—21-22; 1430—1—52163—407).*

2923. **Клапатоўскі Аляксандр** (Клопотовский Александр), дваранін Ковенскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—546).*

2924. **Клапатоўскі Ігнат** (Клопотовский Игнатий), дваранін Цельшаўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—16; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

2925. **Клапатоўскі Юзаф** (Клопатовский Иосиф), сын Казіміра, ксёндз. Паходзіў з Бельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў спачуванні паўстанню. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—45адв.-46).*

2926. **Класінскі Вінцэнт** (Клосинский Викентий), дваранін Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15; 1416—4—11416—114; 1430—1—52163—204).*

2927. **Класоўскі Стэфан** (Клоссовский Стефан). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Казанскай губ., часова прыбыў у г. Кіеў, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—33-34)*.

2928. **Клачко Феліцыян** (Клочко Фелициан), мешчанін. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. прысуджаны да ссылкі ў Самарскую губ. для пасялення на казённых землях *(295—1—1643—95адв.)*.

2929. **Клачкоўскі Артур** (Клочковский Артур), памешчык. Служыў у інжынернай службе рас. войска, выйшаў у адстаўку штабс-капітанам. Да паўстання жыў у Дынабургскім пав. Паводле распараджэння М. Мураўёва 07.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» пад строгі нагляд паліцыі ў Пермскую губ. як «палітычна нядобранадзейны». У 1869 г. жыў у г. Туле, атрымаў частковую амністыю з вызваленнм з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—6-8)*.

2930. **Клеер Юльян** (Клеер (Клейер) Юлиан), сын Вінцэнта, мешчанін г. Слуцка. Нар. каля 1843 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў слуцкім астрогу. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на службу ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—17; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—6; 1525—1—2—6адв.-7)*.

**Клёт Бенядыкт** — гл. **Клот Бенядыкт**

2931. **Кліковіч Казімір (ці Казіміра?)** (Кликович Казимир (ці Казимира?)), дваранін (дваранка?) Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны (а?) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы (а?) на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

2932. **Клімава Юзэфа** (Климова Юзефа), мяшчанка. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.)*.

2933. **Кліманскі Аляксандр** (Климанский Александр), сын Тадэвуша, дваранін. Да паўстання жыў у казённай в. Петкішкі Лідавянскай парафіі Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—224; 1416—6—281)*.

2934. **Кліманскі Антоні** (Климанский Антоний). Паходзіў з Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

2935. **Кліманскі Іпаліт** (Климанский Ипполит), памешчык Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2936. **Кліманскі Міхал** (Климанский Михаил), мешчанін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання зняволены, яго маёмасць падлягала канфіскацыі. Памёр да 01.06.1864 *(319—1—479—15; 1430—1—52163—204адв.)*.

2937. **Клімантовіч Аляксандр** (Климонтович Александр), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—112; 319—1—479—16; 1430—1—52163—205)*.

2938. **Клімантовіч Аляксандр** (Климонтович Александр), сын Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў дастаўцы харчавання паўстанцам і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, якая 02.12.1863 падала яго справу ЧВГМГ *(1418—3—1—40адв.-41)*.

2939. **Клімантовіч Антоні** (Климантович Антон), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў прапаршчыкам Лейб-драгунскага Пскоўскага палка. За ўдзел у паўстанні ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і бестэрміновай ссылкі на катаргу ў рудніках *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

2940. **Клімантовіч Баляслаў** (Климонтович Болеслав), памешчык Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—14адв.)*.

2941. **Клімантовіч Давід** (Климантович Давид). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. У 1864 г. абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні і арыштаваны *(295—1—1643—108)*.

2942. **Клімантовіч Ідалія** (Климонтович Идалия), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9адв.)*.

2943. **Клімантовіч Уладзіслаў** (Климонтович Владислав), дваранін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

2944. **Клімаў**[105] **Ян** (Климов Иван), селянін Ігуменскага пав., праваслаўны. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 02.11.1863 яго справа перададзена ў МСК *(1418—3—1—40адв.-41)*.

2945. **Клімашэўскі Мікалай** (Климашевский Николай), памешчык Ваўкавыскага пав. Да паўстання служыў засядальнікам Гродзенскай палаты грамадзянскага суда, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12адв.; 2532—1—15—7адв.)*.

2946. **Клімовіч Антаніна** (Климовичева Антонина), сялянка. Абвінавачана ў «спачуванні рэвалюцыйнаму руху» і арыштавана. У 1864 г. аддадзена пад ПВС *(295—1—1643—93)*.

2947. **Клімовіч Вінцэнт** (Климович Викентий), сын Юзафа, селянін Навагрудскага пав. Да паўстання служыў пісарам у маёнтку Паланечка Навагрудскага пав. Абвінавачаны ў дачыненні да паўстання ў якасці «агента рэвалюцыйнай партыі», арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 24.10.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.06.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы *(162—1—116—123; 295—1—1643—87; 295—1—2725—9адв.; 296—1—90—8адв.-9; 320—1—398—552адв.)*.

2948. **Клімовіч Казімір** (Климович Казимир), мешчанін м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту *(319—1—479—16адв.; 1430—1—52163—167)*.

2949. **Клімовіч Патап** (Климович Потап), сын Іосіфа, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Баландзічы Кобрынскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

2950. **Клімовіч Феліцыян** (Климович Фелициан), мешчанін Навагрудскага пав. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1871 г. з'яўляўся омскім гарадскім доктарам *(162—1—116—64; 295—1—1643—1010; 295—1—2213—60-64; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 319—1—479—17; 320—1—398—282адв.)*.

2951. **Клімовіч Ян** (Климович Иван), селянін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—36адв.-37)*.

2952. **Клімовіч N.** (Климович N.). Да паўстання служыў чыноўнікам Новааляксандраўскага акружнога праўлення. Разам з *Міркевічам N.* і *Дулідовічам Генрыкам* удзельнічаў у фарміраванні атрада *Ельскага Яна*, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39адв.; 319—1—479—12)*.

2953. **Клот Арнольд** (Клотт Арнольд), сын *Бенядыкта*, дваранін Дзісенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1416—6—280; 1430—1—52163—616)*.

2954. **Клот (Клёт) Бенядыкт** (Клот (Клотт, Клиот) Венедикт), сын Фелікса, бацька *Арнольда*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Укля і Навалака з фальв. Загор'е Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. На падставе ўказа ад 10.12.1865 яго маёмасць падлягала

[105] Магчыма, гэта імя па бацьку.

абавязковаму продажу *(296—1—25—109; 1416—6—280; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—12).*

**Клюковіч Тамаш** — гл. **Клюкоўскі Тамаш**

2955. **Клюкоўскі Алаізі** (Клюковский Алоизий), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Марцінкевічы Мінскага пав. 02.06.1863 арыштаваны сельскай вартай за валоданне зброяй (2-ствольнай паляўнічай стрэльбай з рыштункам) і па падазрэнні ў сувязях з паўстанцамі. На следстве падазрэнні не пацвердзіліся. Таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 28.06.1863 вызвалены з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(296—1—19—21-28).*

2956. **Клюкоўскі Валяр'ян** (Клюковский Валериан), сын Дамініка, дваранін. Да паўстання з'яўляўся доктарам, жыў у г. Смаргонь Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

2957. **Клюкоўскі Ваўрынец** (Клюковский Лаврентий), сын Фабіяна[106], брат *Канстанціна*, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Каля 04.04.1863 разам з братам уступіў у паўстанцкі атрад, які фарміраваўся ў м. Каўпеніца Навагрудскага пав., куды ўваходзілі сярод іншых *Герман Эдмунд*, *Давідовічы Якуб* і *Ян*, *Шалевіч Караль*. З гэтым атрадам паспрабаў злучыцца з атрадам *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*, аднак, не знайшоўшы яго, 06.04.1863 пакінуў атрад і выправіўся на месца жыхарства. 06.04.1863 затрыманы сялянамі ў м. Мір Навагрудскага пав., арыштаваны і дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—122—101адв.; 295—1—1562; 295—1—1643—88адв., 95; 295—1—1585—1адв.; 319—1—479—17; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—181адв.).*

2958. **Клюкоўскі Канстанцін** (Клюковский Константин), сын Фабіяна[107], брат *Ваўрынца*, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1839 г. Да паўстання жыў у маёнтку Шчэрбінава Навагрудскага пав. Каля 04.04.1863 разам з братам уступіў у паўстанцкі атрад, які фарміраваўся ў м. Каўпеніца Навагрудскага пав., куды ўваходзілі сярод іншых *Герман Эдмунд*, *Давідовічы Якуб* і *Ян*, *Шалевіч Караль*. З гэтым атрадам паспрабаў злучыцца з атрадам *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*, аднак, не знайшоўшы яго, 06.04.1863 пакінуў атрад і выправіўся на месца жыхарства. 06.04.1863 затрыманы сялянамі ў м. Мір Навагрудскага пав., арыштаваны і дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—122—101адв.; 295—1—1562; 295—1—1643—88адв., 95; 295—1—1585—1адв.; 319—1—479—17; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—181адв.).*

2959. **Клюкоўскі (Клюковіч) Тамаш** (Клюковский (Клюкович) Фома), сын Казіміра, памешчык Аршанскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Віцебска. Паводле загада віцебскага губернатара ад 22.05.1863 разам з *Ізмайловічам Ігнатам* пераведзены ў г. Магілёў. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 22.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 18.10.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 18.11.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(1416—4—11147; 1416—4—11416—128; 3255—1—14—2адв., 3; 3257—2—2—19).*

2960. **Клюкоўскі Фелікс** (Клюковский Феликс), сын Феліцыяна Людвікавіча, дваранін Навагрудскага пав. Нар. 25.05.1841. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. 21.03.1863 пакінуў месца жыхарства ў Навагрудскім пав. З'яўляўся ад'ютантам *Машэўскага Уладзіслава* ў сфарміраваным атрадзе ў Слуцкім пав. Удзельнічаў ва ўсіх яго дзеяннях, 20.04.1863 цяжка паранены падчас бою з рас. войскамі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Памёр паміж 21.04.1863 і 25.04.1863. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—1562; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—17; 320—1—398—326-327адв., 333; 320—2—98—38).*

2961. **Кляманскі Напалеон** (Клеманский Наполеон), дваранін Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

2962. **Клямята Эдвард** (Клемято Эдуард), «сельскі жыхар». За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога прысуджаны да ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту. Канфірмацыяй М. Мураўёва

---

[106] У некаторых дакументах памылкова называецца сынам Яна.

[107] Тое ж.

пакаранне зацверджана (да 08.01.1864) у выглядзе канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—95адв.; 320—1—398—161)*.

2963. **Кляпацкі Казімір** (Клепацкий Казимир), сын Станіслава, брат (?) *Яўгена*, памешчык, каталік. Нар. каля 1832 г. Да паўстання валодаў маёнткам Сняткава Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што слухаў паўстанцкія пракламацыі і абяцаў даслаць грошы на паўстанне, арыштаваны (да 29.05.1863). На яго маёмасць 11.09.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладаўся секвестр, які 01.10.1864 яшчэ не зняты. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—30; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 84-87, 405, 430, 443, 446адв., 570адв.; 3046—2—3—33адв.-34; 3046—2—5—24)*.

2964. **Кляпацкі Яўген** (Клепацкий Евгений), сын Станіслава, брат (?) *Казіміра*, памешчык, каталік. Нар. каля 1817 г. Да паўстання валодаў маёнткам Сястронкі Полацкага пав. Ахвяраваў грошы на карысць паўстання, а таксама слухаў *Другавіну Яна*, які чытаў паўстанцкія пракламацыі, за што арыштаваны (да 29.05.1863). На маёнтак 30.08.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 02.07.1863 накладзены секвестр, потым з яго спагнана 111,5 руб. у якасці ўзмоцненага 10-працэнтнага збору. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 14.07.1864 пакінуты «ў падазрэнні» і як «не надта добранадзейны ў палітычных адносінах» прызначаны да ссылкі ў Кастрамскую губ. і секвестру маёмасці альбо да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Высланы (каля 07.1864) пад строгі нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 Сястронкі падлягалі вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага 20-працэнтнага збору *(1416—3—21048—30; 1416—4—11416—26-31, 285, 289адв.; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 404адв., 430адв., 444, 446адв., 558, 570адв., 820; 3046—2—3—33адв.-34; 3046—2—5—25адв.)*.

2965. **Клячкоўскі Эдвард** (Клечковский Эдуард), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Троках. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101; 319—1—479—14адв.; 1430—1—52163—154)*.

2966. **Клячкоўскі Эразм** (Клечковский Эразм), памешчык. За дачыненне да паўстання сасланы ў Табольскую губ. *(295—1—1643—109)*.

2967. **Клячкоўскі Ян** (Клечковский Иван). Служыў у Віцебскай ПДМ, тытулярны радца ці калежскі сакратар. Да паўстання знаходзіўся ў маёнтку Чурылава Аршанскага пав. (гл. *Лышчынскі Ежы*). Разам з *Карніцкім Антоніем*, *Лышчынскім Ежы*, *Рагозам Аляксандрам*, *Раўкоўскім Ежы*, *Рачыцкім Юзафам* і *Чыжэўскім Эдвардам* паспрабаваў далучыцца да паўстання, 22.04.1863 затрыманы сялянамі в. Мікуліна Аршанскага пав. Утрымліваўся ў г. Смаленску. Яго рухомая маёмасць у Чурылаве (брычка, куфар, адзенне і інш.) на суму ў 109,17 руб. ср. 27.07.1863 апісана і секвестравана. На следстве сцвярджаў, што ехаў у г. Віцебск для пошукаў месца службы, а да *Лышчынскага Ежы* заехаў па дарозе для атрымання доўгу. Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой пакінуты «ў наймацнейшым падазрэнні ў складанні змовы супраць Урада», прызнаны вінаватым у намерах ўжыць зброю супраць сялян, якія яго затрымлівалі, і прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на катаргу ў Сібір на 8 гадоў. 16.11.1863 яго справа пададзена віцебскаму ваеннаму губернатару. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 4 гады *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—30; 1416—4—11416—18а; 1430—1—31353; 1430—1—31370—14; 2003—1—312)*.

2968. **Кміта Пётр** (Кмитто Петр). Да паўстання служыў чыноўнікам. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—5)*.

2969. **Кнобэльсдорфы NN.** (Кнобельсдорфы NN.), дваране. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» у 1864 г. прысуджаны да арышту на гаўптвахце *(295—1—1643—93адв.)*.

2970. **Кнот Фердынанд** (Кнотт Фердинанд), дваранін Валынскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне тытулярнага радцы. Яго маёмасць на падставе загаду М. Анненкава ад 18.07.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 21.07.1864 падлягала секвестру. За дачыненне да паўстання пастановай

ПВС у г. Кіеве прызначаны (да 18.02.1865) да ссылкі на жыхарства ў Пензенскую губ. без пазбаўлення правоў *(1416—4—11416—239)*.

**Кодзь Адам** — гл. **Коць Адам**

2971. **Кодзь Адам** (Кодзь Адам), сын Станіслава, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—85; 320—2—98—38; 1418—3—1—36адв.-37)*.

2972. **Кодзь Валяр'ян** (Кодзь Валериан), сын Саламона Феліцыянавіча, брат *Рамуальда*, памешчык. Нар. 28.07.1840. Да паўстання жыў у маёнтку Яцаўшчына Барысаўскага пав., які належаў яго бацьку. Падчас паўстання арыштаваны, 16.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 10.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. На яго маёнтак Заполле Барысаўскага пав., а таксама на Яцаўшчыну накладзены секвестр. Яго маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказа МГП ад 22.02.1864. 03.1864 на Яцаўшчыну накладзена забарона *(162—1—116—51, 60; 162—1—122—10; 295—1—1527—104адв.; 295—1—1643—90адв., 97; 296—1—89—46; 299—1—577—508-510, 511-513; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—189, 220, 222, 234адв., 397, 401адв.; 320—2—98—38)*.

2973. **Кодзь Леанард** (Кодзь Леонард), сын Зыгмунта Феліцыянавіча, дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1844 г. Служыў на грамадзянскай службе, да паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. 19—20.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. У 1863 г. аддадзены пад ПВС пры Мінскім батальёне ўнутранай варты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на ваенную службу ў батальёны Амурскай вобл. Маёнтак Заполле Барысаўскага пав. (102 дзес. зямлі, 100 руб. гадавога даходу, ацэнены ў 2000 руб.), якім валодала яго маці, секвестраваны, потым яго частка канфіскавана паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863 і 16.01.1864 *(162—1—116—10; 295—1—1527—73адв.; 295—1—1643—87, 96адв.; 296—1—89—46; 299—1—577—511-513; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—12а, 20, 23-26, 124адв., 191; 320—2—98—37адв.; 320—2—99—28адв.; 1430—1—52163—596б адв.)*.

2974. **Кодзь Рамуальд** (Кодзь Ромуальд), сын Саламона Феліцыянавіча, брат *Валяр'яна*, дваранін Мінскай губ., памешчык. Хр. 23.09.1845. Да паўстання жыў у маёнтку Яцаўшчына Барысаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На Яцаўшчыну накладзены секвестр. Памёр у 1869 г. у Табольскай губ. *(162—1—116—50; 295—1—1643—109адв.; 295—1—2213—3-7а адв.; 296—1—25—104; 296—1—89—46; 319—1—479—17; 320—1—398—190, 215-219)*.

**Козел Вінцэнт** — гл. **Казела Вінцэнт**

2975. **Козел (Казела, Казела-Паклеўскі) Ігнат** (Козел (Козелло, Козелло-Поклевский) Игнатий), сын Пятра, муж Антаніны Эйсмант, бацька Вінцэнта (хр. 17.04.1837), Адама (хр. 04.05.1839), Антонія (хр. 20.01.1846), Юзафа (хр. 15.05.1853) (усе нар. у вак. Рэпішча, хр. у Блонскім касцёле) і Яна, незацверджаны дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў «нядобранадзейных дзеяннях», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Разам з сям'ёй «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць у 15 дзес. канфіскавана і прададзена Віленскім губернскім праўленнем 27.01.1868. У 1873 г. жыў у Томскай губ. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Рэпішча *(295—1—2420—8адв.; 295—1—2433; 295—1—3026—32; 295—1—3492—67адв.; 1418—3—1—40адв.-41)*.

2976. **Козел (Казела, Казела-Паклеўскі) Мікалай** (Козел (Козелло, Козелло-Поклевский) Николай), сын Міхала, муж Багумілы, бацька Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой пакінуты ў «моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Разам з сям'ёй высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць у 20 дзес. канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся з сям'ёй на радзіму, 12.1876–06.1882 з сынам Юзафам жыў у вак. Рэпішча *(295—1—2420—9; 295—1—3026—32; 295—1—3492—67адв.; 1418—3—1—41адв.-42)*.

2977. **Козел Пётр** (Козелл Петр). Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—18адв.)*.

**Козел Тадэвуш** — гл. **Казёл Тадэвуш**

**Козел Юзаф** — гл. **Казела Юзаф**

2978. **Козел (Казела, Козел-Паклеўскі) Яўстах-Бенядыкт** (Козелл (Козелло, Козелл-Поклевский) Евстафий-Венедикт), сын суддзі Каятана Каласанцьевіча і Вікторыі Ліхадзяеўскай, брат Каятана-Яна-Непамуцэна, Генрыка-Людвіка і Людвіка-Антонія, дваранін Вілейскага пав., каталік. Нар. 20.09.1842 у двары Княгінін Вілейскага пав., хр. 27.09.1842 у Крывіцкім касцёле. У 1854–1859 гг. вучыўся ў губернскай гімназіі ў г. Мінску. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Яго бацькі валодалі зямлёй, на якой жылі 300 сялян. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Падчас перасылкі ўцёк (да 07.03.1864) у г. Маскве разам з *Маліцкім Каралем (319—1—479—14адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605; 2601—1—5—18-19, 24-25; 3257—1—53—2; 3257—2—2—16адв.; 3286—2—1—4адв., 32-35)*.

2979. **Козіч Ігнат** (Козич Игнатий), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221адв.)*.

**Колпіс Ян** — гл. **Келпш Ян**

**Кользан Караль** — гл. **Коўзан Караль**

2980. **Комар Рахіль (Рахель)** (Комар Рахиль (Рахель)), памешчыца Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» выслана (каля 05.1864) у Кастрамскую губ. У 1869 г. жыла ў Ліфляндскай губ., дзе атрымала частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—42-44; 1430—1—52163—201адв.)*.

2981. **Комар Уладзіслаў** (Комар Владислав), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(296—1—25—102; 319—1—479—14адв.)*.

2982. **Комар Ян** (Комар Иван), памешчык Ігуменскага пав., губернскі сакратар. За «неданясенне своечасова Начальству пра падбухторванне яго падсудным Катовічам да мяцяжа» канфірмацыяй А. Патапава ад 08.03.1865 прысуджаны да забароны паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—682—117-118)*.

2983. **Комар N.** (Комар N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Рагувок і інш.Ількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

2984. **Комбар Клімент** (Комбор Климентий), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—133; 1416—6—281; 1430—1—52163—600)*.

2985. **Кон Альбін** (Кон Альбин), прускі падданы. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223адв.)*.

2986. **Конан Андрэй** (Конон Андрей), сын Андрэя, селянін, праваслаўны. Да паўстання жыў у в. Крыпулі Параф'янаўскай вол. Вілейскага пав. Падчас паўстання «ў дзень Узнясення Гасподняга» захоплены паўстанцкім атрадам *Казелы Вінцэнта* ў дарозе на м. Даўгінава Вілейскага пав. Пасля бою з рас. войскамі уцёк з атрада і з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у МСК. 03.11.1863 сяляне Бярозаўскай сельскай грамады Параф'янаўскай вол. згадзіліся ўзяць яго на парукі. 22.12.1863 пасля аднаўлення прысягі вызвалены і 06.01.1864 вярнуўся на месца жыхарства *(295—1—1594)*.

2987. **Контаўт Юзаф** (Контовт Иосиф), сын Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*, добраахвотна да 01.05.1863 з'явіўся да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якое скончылася пасля 15.10.1864. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвалення ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасяленні на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560; 3046—2—3—48адв.-49)*.

2988. **Контрым Ігнат** (Контрым Игнатий), памешчык Расіенскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—238)*.

2989. **Контрым Фелікс** (Контрым (Контрем) Феликс), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад

02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Памёр паміж 01.04.1864 і 01.05.1864. «З прычыны смерці асабістага пакарання не панёс» *(319—1—479—16; 1416—6—281; 1430—1—52163—181адв.).*

2990. **Конча Адам** (Конча Адам), памешчык. Яго бацька з'яўляўся пэўны час маршалкам Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—281; 2532—1—15—3).*

2991. **Копець Адольф** (Копец Адольф), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—16; 1430—1—52163—166).*

2992. **Копець Лонгін** (Копец Лонгин), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Шыпкі Вілейскага пав. (1058 дзес. зямлі). Падчас паўстання блаславіў і адвёз у паўстанцкі атрад *Казелы Вінцэнта* свайго сына, які быў забіты 16.05.1863 у баі ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—8).*

2993. **Копець Уладзіслаў** (Копец Владислав), дваранін Вількамірскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—11, 16).*

2994. **Копець Фларыян** (Копец Флориан), сын Фамы, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1836 г. Да паўстання служыў пісарам у Галынскай вол. Слуцкага пав. Не меў дачынення да паўстання. Пасля паўстання разам з *Антановічам Фёдарам* прыпісаў да Галынкаўскай вол. *Матусевіча Станіслава.* Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 22.06.1866 прысуджаны да звальнення з месца службы з аддачай на парукі сваёй сельскай грамады і забаронай паступаць на службу ў далейшым *(295—1—1776).*

2995. **Копець Юзаф** (Копець Иосиф), дваранін Мінскай губ. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, закончыў яго са ступенню кандыдата. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ., яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—116—166; 295—1—1643—109адв.; 1430—1—52285—31).*

2996. **Корбут Андрэй** (Корбут Андрей), сын Якава, аднадворац Ігуменскага пав., праваслаўны. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—36адв.-37).*

2997. **Корбут Антоні** (Корбут Антон), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16, 16адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242).*

2998. **Корбут Антоні** (Корбут Антон), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 25.06.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС, паводле пастановы якога сасланы. Пазней атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 10.1881 жыў у Ігуменскім пав., падаваў прашэнне аб дазволе на пакупку надзелу зямлі *(295—1—1643—91адв.; 295—1—3492—28; 1418—3—1—40адв.-41).*

2999. **Корбут (Караффа-Корбут) Вільгельм** (Корбут (Карафа-Корбут) Вильгельм), сын *Маўрыцыя*, брат *Францішка*, дваранін Віцебскага[108] пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску. Удзельнічаў у паўстанні разам з братам, *Казлоўскім Анастасам*, *Шкленікам Баляславам* і інш., арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На яго маёмасць 04.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 17.07.1864 накладаўся секвестр *(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—31, 31адв.; 1430—1—31604—5—6; 1430—1—52163—182, 424адв., 722адв.; 3046—2—3—37адв.-38; 3046—2—5—24адв.).*

3000. **Корбут Вінцэнт** (Корбут Викентий), сын адстаўнога капітана, дваранін Віцебскай губ. (Невельскага пав.?). Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Дынабургу. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда, канфірмаванай М. Мураўёвым, прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Сасланы (да 30.08.1863) у Валагодскую губ. пад нагляд паліцыі. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—*

[108] У некаторых дакументах памылкова называецца дваранінам Лепельскага пав.

*3—21048—32; 1430—1—31355—85-86; 1430—1—52163—150адв., 397адв.).*

3001. **Корбут (Караффа-Корбут) Ганна (Антаніна)** (Корбут (Караффа-Корбут) Анна (Антонина), дачка Яна, жонка *Маўрыцыя*, дваранка Сенненскага пав., каталічка. За дачыненне да паўстання на яе маёмасць 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—30адв.; 1430—1—52163—424, 722адв.; 3046—2—3—35адв.-36; 3046—2—5—24).*

3002. **Корбут Дамінік** (Корбут Доминик), памешчык Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—14).*

3003. **Корбут Іардан** (Корбут Иордан), сын Габрыэля Мацеевіча (нар. каля 1788) і Марыяны (нар. каля 1804 г.), брат *Іосіфа*, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны ці каталік. Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. Да паўстання яго бацькі валодалі сядзібай і 28 дзес. зямлі ў Ігуменскім пав. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск, дзе ўтрымліваўся ў гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 21.09.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. Сасланы ў Іркуцкую губ. 28.08.1866 вызвалены ад катаржных прац і пераведзены на пасяленне ў Чарамхоўскую вол. Іркуцкага пав., 25.05.1868 залічаны ў разрад дзяржаўных пасялянаў. Паводле амністыі ад 13/17.05.1871 атрымаў вяртанне правоў дваранства і права пасяліцца ў Еўрапейскай Расіі, аднак застаўся ў Іркуцкай губ. 05.1875 яго бацькі падалі прашэнне аб дазволе яму вярнуцца на радзіму з прычыны іх старасці і дрэннага стану здароўя, якое 03.1876 было задаволена. 30.07.1880 атрымаў ад Іркуцкага губернскага праўлення пашпарт на пераезд у Мінскую губ., 20.08.1880 выехаў і 31.10.1880 прыбыў у г. Ігумен *(295—1—1643—111; 295—1—3035; 296—1—90—5адв.-6; 319—1—479—17; 1418—3—1—37адв.-38; 1430—1—52163—167).*

3004. **Корбут Іосіф** (Корбут Иосиф), сын Габрыэля Мацеевіча (нар. каля 1788), брат *Іардана*, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Да паўстання яго бацькі валодалі сядзібай і 28 дзес. зямлі ў Ігуменскім пав. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 21.09.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Табольскую губ. Паводле амністыі ад 13/17.05.1871 атрымаў вяртанне правоў дваранства і права пасяліцца ў Еўрапейскай Расіі, аднак застаўся ў Іркуцкай губ. 05.1875 яго бацькі падалі прашэнне аб дазволе яму вярнуцца на радзіму з прычыны іх старасці і дрэннага стану здароўя, якое 03.1876 было задаволена. 09.1882 вярнуўся на радзіму, пасяліўся ў Мінску (на Захар'еўскай вул. у доме Каптаровіча), дзе меў намер заняцца камерцыяй. У сувязі з гэтым 18.09.1882 падаў прашэнне аб вызваленні яго ад паліцэйскага нагляду, што было задаволена 03.1883, аднак засталася забарона жыць у сталіцах і сталічных губернях. Ажаніўся з Ганнай Нікіцінай. 09.12.1882 атрымаў пашпарт для праезду ў г. Вільню і г. Варшаву, 09.01.1883 прыбыў у Варшаву, 16.01.1883 выехаў назад у Мінскую губ. Да яго перайшоў маёнтак яго бацькоў Усохі Ігуменскага пав. *(295—1—1643—111; 295—1—3035; 295—1—3492—83; 296—1—90—5адв.-6; 319—1—479—17; 1418—3—1—37адв.-38; 1430—1—52163—167).*

3005. **Корбут (Караффа-Корбут) Маўрыцы** (Корбут (Караф (Караффа)-Корбут) Маврикий), сын Тамаша[109], муж *Ганны* (ці Антаніны) *Янаўны*, бацька *Вільгельма* і *Францішка*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1803 г. Да паўстання служыў перакладчыкам у Віцебскай палаце крымінальнага суда; тытулярны радца. 20.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада ля станцыі Дыманова Аршанскага пав.; арыштаваны. 25.04.1863 знаходзіўся ў віцебскай турме. Пасля быў вызвалены і вярнуўся на службу. 07.05.1863 падаў прашэнне і звольнены са службы. Потым ізноў арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. У сяброўстве з ім былі западозраны *Война Аляксандр*, *Косаў Аляксандр* і *Ляўковіч Аляксандр*. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. Жонка добраахвотна выправілася за ім. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі.

[109] У некаторых месцах імя бацькі памылкова падаецца як Фелікс.

*(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—30адв.; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—31259—10-12, 39адв.; 1430—1—31370—163; 1430—1—52163—424, 535, 722адв.; 2626—1—305—75; 3046—2—3—35адв.-36; 3046—2—5—24).*

3006. **Корбут Мечыслаў** (Корбут Мечислав), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 25.06.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—91адв.; 1418—3—1—40адв.-41).*

3007. **Корбут Мікалай** (Корбут Николай), сын Фёдара, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 28.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—37адв.-38).*

3008. **Корбут (Караффа-Корбут) Уладзіслаў Анзэльм** (Корбут (Караффа-Корбут) Владислав-Анзельм), сын Пятра, дваранін Бабруйскага пав. Хр. 08.04.1839. Меў дачыненне да паўстання, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—17; 320—1—398—108-113, 222; 320—2—98—37адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—16адв.).*

3009. **Корбут (Караффа-Корбут) Францішак** (Корбут (Караф-Корбут) Франц), сын *Маўрыцыя*, брат *Вільгельма*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе са зброяй разам з братам, *Казлоўскім Анастасам*, *Шкленікам Баляславам* і інш., арыштаваны (да 01.05.1863). Быў пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Віцебску, адкуль 02.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб пераглядзе справы. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 12.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». На яго маёмасць 04.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 17.07.1864 накладаўся секвестр. Жонка падлягала вяртанню на месца жыхарства, аднак падала прашэнне выправіцца разам з жонкай *Маўрыцыя*. Пасля атрымання частковай амністыі перасяліўся ў Каралеўства Польскае (?) *(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—31; 1430—1—31370—163; 1430—1—31604—4-6; 1430—1—36134; 1430—1—52163—182, 424адв., 722адв.; 3046—2—3—37адв.-38; 3046—2—5—24адв.).*

3010. **Корбут Юстын** (Корбут Устин), сын Ігната, дваранін, праваслаўны. Нар. каля 1835 г. Да паўстання служыў пісарам аднадворцкай грамады ў засц. Сорагі Бабруйскага пав. Западозраны ў распаўсюджванні паўстанцкай агітацыйнай літаратуры і захоўванні зброі на падставе даносаў языльскага святара Яна Пігулеўскага, 18.02.1863 арыштаваны. Пры вобшуку і на следстве нічога кампраметоўнага знойдзена і даказана не было, аднак загадам МГГ ад 30.03.1863 за «нядобранадзейнасць» звольнены са службы і высланы на месца нараджэння *(295—1—1560; 295—1—1643—94).*

3011. **Корбут Ян** (Корбут Иван), сын Рыгора, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 02.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Вызвалены з-пад арышту з заснаваннем паліцэйскага нагляду. У далейшым сасланы ў Табольскую губ. (?), адкуль вярнуўся на радзіму пасля атрымання амністыі. 06.1882 жыў у Ігуменскім пав. *(295—1—1643—101; 295—1—3492—69адв., 84; 1418—3—1—37адв.-38).*

3012. **Корбут N.** (Корбут N.), памешчык Слуцкага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. За «супрацьзаконныя дзеянні ў палітычных адносінах» без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(295—1—1643—93адв.; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

3013. **Корзан Аляксандр** (Корзон Александр), дваранін Слуцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Паводле канфірмацыі М. Анненкава (да 15.05.1864), сярод іншага, яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—108; 295—1—1643—109адв., 123; 320—1—398—437; 320—2—98—38).*

3014. **Корзун Абдон** (Корзун Абдон), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні, быў фатографам. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

3015. **Корзун Бруна** (Корзун Брунон), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(319—1—479—15; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241).*

3016. **Корзун Ян** (Корзун Иван), дваранін Магілёўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да

пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2616—1—40—14адв.; 3257—2—2—16адв.).*

3017. **Коркуць Цыпрыян** (Коркуць Киприян), аднадворац. Удзельнічаў у паўстанні, паранены. Знаходзіўся разам з *Канапацкім Антоніем* на лячэнні ў *Космана N. (1416—6—274).*

3018. **Корсак Адольф** (Корсак Адольф), дваранін Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111адв., 573адв.).*

3019. **Корсак Адольф** (Корсак Адольф), сын *Юстына*, брат *Рышарда* і *Яўгена*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Заскаркі Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні ў складзе заскаркаўскага атрада. Спачатку знаходзіўся пад хатнім арыштам, потым зняволены ў турэмным замку г. Віцебска. Знаходзіўся пад следствам у ВСК. 24.10.1863 высланы ў г. Дынабург, а яго справа 10.10.1863 перададзена ў ДСК. Паводле пастановы следчай камісіі і канфірмацыі М. Мураўёва ад 08.03.1864 (альбо каля 07.1864) «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Енісейскую ці Пермскую губ. На маёнтак бацькі накладзена забарона *(1416—3—21048—31; 1416—4—11416—84адв.; 1430—1—52163—410адв., 546адв.; 1430—1—52285—5адв., 43адв.; 2601—1—2—342-343; 2626—1—305—52-53; 3046—2—3—39адв.-40; 3046—2—5—25).*

3020. **Корсак Адэль** (Корсак Аделия), сястра (?) *Камілы*, памешчыца Магілёўскага пав. Да паўстання валодала фальв. Суяркаўшчына Магілёўскага пав. Нар. каля 1834 г. За дачыненне да паўстання з 31.10.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 09.03.1863 падала скончаную справу магілёўскаму губернатару. Перапіска пра яе таксама вялася ў АСК. Падчас следства знаходзілася на паруках у г. Магілёве. Пасля выслана ў Кастрамскую губ. На яе фальварак накладзены секвестр, потым ён на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягаў абавязковаму продажу, а ў 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—66; 2532—1—15—9; 3255—1—14—3; 3257—1—14—8адв.-9).*

3021. **Корсак Актавіян** (Корсак Октавий), сын Клеменса, дваранін Лепельскага ці Віцебскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Дмахоўскага Генрыка*, захоплены ў палон. Спачатку ўтрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 09.1863 пераведзены ў г. Дынабург, а яго следчая справа 13.09.1863 перададзена ў ДСК. Яго справа вялася ў ДСК, якая 28.09.1863 падала яе ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 01.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105; 319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—32; 1430—1—31597; 1430—1—52163—413; 2601—1—2—238; 3046—2—5—25).*

3022. **Корсак Алаізі** (Корсак Алоизий), сын Ігната, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Кушлікі Дрысенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 29.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 і ўказа ВГП ад 04.12.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Сасланы ў Кастрамскую губ. *(1416—3—21048—32; 1430—1—52163—150адв., 343-357, 392, 431адв., 459адв., 568, 823; 2601—1—5—7адв.).*

3023. **Корсак Альгерд** (Корсак Ольгерд), сын Антонія, брат Адэлі, Вітальда, Камілы, Марыі (v. Кавальскай), Мечыслава, Міраслава, Паўліны (v. Сянажэнцкай) і *Уладзіслава*, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Суяркаўшчына Магілёўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады. Яго частка Суяркаўшчыны секвестравана (да 30.07.1863) і потым канфіскавана. *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—17адв.; 2003—1—445—2, 14адв.; 2003—2—19—8адв.-9; 3257—2—2—17).*

3024. **Корсак Андрэй** (Корсак Андрей), сын Якуба, дваранін Мсціслаўскага пав. Да паўстання служыў чыноўнікам. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 11.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Гімбутаўка Мсціслаўскага пав. (?), якая пасля паўстання канфіскавана. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 накладзена забарона *(319—1—479—18; 534—1—14—5адв.; 2001—3—23—3адв.; 3366—1—5—6адв.).*

3025. **Корсак Андрэй** (Корсак Андрей), сын Якуба Францішкавіча, дваранін Мсціслаўскага пав., каталік. Да 1862 г. вучыўся ў Горы-Горацкім сель-

гасінстытуце. Пасля заканчэння вучобы выехаў у г. СПб для пошуку месца службы, але ў хуткім часе вярнуўся ў г. Магілёў і паступіў на службу ў ПДМ звышштатным аграномам. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. МагГП 08.10.1864 выдала ўказ аб канфіскацыі. На маёнтак яго бацькі Колтава Мсціслаўскага пав. (819 дзес. зямлі), набыты ў 1837–1840 гг. у Яна і Антонія Казіміравічаў Зяньковічаў, Аляксандра, Генрыка і Міхала Марцінавічаў Ніташлаўскіх і Ксаверыя Маўрыцыевіча Гардзялкоўскага, накладзена забарона. 17.06.1865 яго бацька падаў прашэнне аб зняцці забароны, аднак паводле распараджэння К. фон Каўфмана ад 21.11.1865 яна была пакінутая *(1430—1—52163—375адв.; 2003—2—85; 2003—2—96—29адв.; 3257—2—2—19).*

3026. **Корсак Антоні** (Корсак Антон), сын Валента, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Прыняў прысягу на адданасць паўстанцкаму ўраду, потым быў пасланы Цэнтральным Камітэтам у г. Полацк для агітацыі і збору атрада. Пацярпеў няўдачу і вымушаны быў пакінуць Полацкі пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе себежскага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Кульчыцкага Баляслава*, пасля рассеяння якога 24.04.1863 узяты ў палон у Дрысенскім пав. Утрымліваўся ў г. Віцебску. На яго маёмасць 11.09.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 25.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 24.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 19.03.1864 адпраўлены з Віцебска праз г. Востраў Пскоўскай губ. на месца ссылкі *(296—1—25—105; 319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—32; 1416—4—11367; 1430—1—31602—174; 1430—1—52163—15адв., 405; 3046—2—3—32адв.-33; 3046—2—5—24).*

3027. **Корсак Антоні** (Корсак Антон), сын Міхала, муж *Наталлі*, памешчык, каталік. Нар. каля 1799 г. Да паўстання валодаў маёнткам Бардзіловічы Дрысенскага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* ва ўдзеле ў падрыхтоўцы паўстання ў м. Марыенгаўзэн Люцынскага пав. і дваранінам Шостакам у спачуванні паўстанню, арыштаваны (да 29.05.1863). Часова звызвалены ў г. Дынабургу, знаходзіўся пад следствам у ДСК. Абвінавачанні не пацвердзіліся, таму 02.08.1863 вярнуўся ў Дрысенскі пав. 13.08.1863 падаў прашэнне аб дазволе на пражыванне з сям'ёй у Бардзіловічах, аднак 12.11.1863 яшчэ не атрымаў яго. Пасля западозраны ў тым, што ездзіў у г. СПб для пакупкі зброі для паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, аднак доўгі час абвінавачанне не прад'яўлялася яму афіцыйна. ВСК прызнала яго невінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На Бардзіловічы і рэчы жонкі на падставе ўказа ВГП ад 30.03.1864 і распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладзены секвестр, які 20.10.1864 яшчэ не зняты. 10.06.1864 падаваў прашэнне аб паскарэнні вядзення справы, 16.07.1864 яна накіравана ў ЧПА Віленскай вайсковай акругі. Яго пастановай ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—30; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15, 219, 368-370, 392, 431адв., 460, 568адв.; 2601—1—2—139, 160-162, 197, 391; 3046—2—3—32адв.-33; 3046—2—5—25адв.).*

3028. **Корсак Браніслаў** (Корсак Бронислав), сын Ігната, памешчык, каталік. Нар. каля 1829 г. Да паўстання валодаў маёнткам Ружамполле (Ражанпаль) Дзісенскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі ля в. Парэчча Барысаўскага пав., падчас якой быў паранены і захоплены ў палон. Утрымліваўся ў турэмным замку г. Лепеля, 23.08.1864 высланы ў г. Віцебск. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая, не робячы заключэння, 22.09.1863 падала яго справу віцебскаму губернатару. Аддадзены пад суд у ВВСК, на якім сцвярджаў, што захоплены ў атрад гвалтоўна. Пастановай ЧПА ад 09.01.1865, канфірмаванай А. Патапавым 11.01.1865, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. ВГП 30.01.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(1416—3—21048—33адв.; 1416—4—11416—176-180; 1416—6—280; 1430—1—31597; 3046—2—3—40адв.-41; 3046—2—5—26).*

3029. **Корсак Віктар** (Корсак Виктор), сын Юзафа, муж Ганны, бацька 6 дзяцей, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гаёва Себежскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і са-

сланы пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. На Гаева 21.06.1864, на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 17.06.1864, накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. 02.09.1864 жонка падала прашэнне аб дазволе жыць з шасцю дзецьмі ў секвестраваным маёнтку і 22.09.1864 атрымала яго з умовай «каб яна ніколькі не ўмешвалася ў кіраванне гэтым маёнткам». Пазней яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1416—3—21048—33; 1430—1—52163—194адв., 321-322, 408, 426адв., 432, 437, 638-640, 824адв.; 2532—1—15—11; 3046—2—5—26адв.).*

3030. **Корсак Вітальд** (Корсак Витольд), сваяк *Эдварда* (?), памешчык. Падчас паўстання арыштаваны за сувязі з паўстанцамі і перадачу ім звестак пра сельскія варты. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—92).*

3031. **Корсак Каміла** (Корсак Камилия), сястра (?) *Адэлі*, памешчыца Магілёўскай (?) губ. Нар. каля 1832 г. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, з 31.10.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 09.03.1863, скончыўшы справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства знаходзілася на паруках у г. Магілёве. Яе маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—68адв.; 3257—1—14—8адв.-9; 3257—2—8—7).*

3032. **Корсак Канстанцін** (Корсак Константин), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—153).*

3033. **Корсак Людвік** (Корсак Людвиг), памешчык Віцебскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны да высылкі з радзімы з абавязковым продажам зямельнай маёмасці *(1430—1—32897—37адв.).*

3034. **Корсак Марыя** (Корсак Мария), дачка Юзафа і Францішкі Дыянізіеўны Шчыт, маці Зоф'і (нар. каля 1849) і Юзэфы (нар. каля 1850), памешчыца. Да паўстання валодала маёнткамі Белае, Лясная Дача (лясная дача Куляшы) і паезуіцкім Мосар Лепельскага пав. Падчас паўстання абвінавачана сялянамі ў дачыненні да яго, 05.1863 арыштавана і зняволена ў г. Лепелі. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць 20.06.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 і ўказа ВГП ад 19.03.1864 накладзены секвестр. У 1864 г. разам з дочкамі жыла ў г. Галіч Кастрамской губ., атрымлівала матэрыяльную дапамогу ад казны. Частка быдла з яе маёнткаў Белае і Мосар 11.1864 выстаўлена на продаж. 25.09.1865 з Галіча падала прашэнне віцебскаму губернатару аб пераглядзе яе справы і вызваленні маёмасці ад секвестру, якое 23.10.1865 было адхілена *(1416—3—21048—31адв.; 1430—1—31583—118-119; 1430—1—31602—212-216; 1430—1—52163—415, 431адв., 450, 519-520, 569адв., 822; 1430—1—52285—5, 43).*

3035. **Корсак Мечыслаў** (Корсак Мечислав), дваранін Магілёўскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў з братамі і сёстрамі непадзельным маёнткам у Магілёўскім пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2616—1—40—14; 3257—2—2—16адв.).*

3036. **Корсак Міраслаў** (Корсак Мирослав), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Ількавічы Магілёўскага пав. кн. А. Крапоткіна. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму яго рухомая маёмасць у Ількавічах (коні, экіпажы, збруя, адзенне і інш.) на суму ў 100,03 руб. ср. апісана і секвестравана (да 30.07.1863) *(2003—2—19—14адв.).*

3037. **Корсак Наталля** (Корсак Наталия), жонка *Антонія*, памешчыца Дрысенскага пав. Падчас секвестру маёмасці мужа схавала срэбра і іншыя рэчы ад рас. уладаў і перадала іх на захаванне экзекутару ВГП *Мысліцкаму Юзафу*, у якога яны былі знойдзены падчас вобшуку. Канфірмацыяй А. Патапава ад 02.08.1864 прысуджана да штрафу ў 100 руб. ср. *(1430—1—52163—368-370).*

3038. **Корсак Платон** (Корсак Платон). Паходзіў з Себежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 19.10.1863) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 16.06.1864 паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 06.05.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—32; 1430—1—52163—150адв., 402адв.).*

3039. **Корсак Рыгор** (Корсак Григорий), сын Віктара, дваранін, каталік. Нар. каля 1824 г. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. З 1850 г. служыў у г. Полацку павятовым доктарам, калежскі асэсар. Абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што быў абраны дэлегатам, які павінен быў атрымоўваць і распаўсюджваць распараджэнні паўстанцкіх уладаў, а таксама падазраваўся ў сувязях з *Беліковічам Францішкам*. Арыштаваны (да 29.05.1863). На яго маёмасць 22.06.1863 на падставе распараджэння

М. Мураўёва ад 31.05.1863 накладзены секвестр. Пазней яго рухомая маёмасць прададзена. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—30; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31259—71, 102, 140; 1430—1—52163—15адв., 405, 821; 3046—2—3—33адв.-34; 3046—2—5—24)*.

3040. **Корсак Рышард** (Корсак Ричард), сын *Юстына*, брат *Адольфа* і *Яўгена*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Заскаркі Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні ў складзе заскаркаўскага атрада, арыштаваны. Спачатку знаходзіўся пад хатнім арыштам, потым зняволены ў турэмным замку г. Віцебска. Быў пад следствам у ВСК. 24.10.1863 высланы ў г. Дынабург, а яго справа 10.10.1863 перададзена ў ДСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—3—21048—31; 2601—1—2—342-343; 2626—1—305—52-53; 3046—2—3—39адв.-40; 3046—2—5—25)*.

3041. **Корсак Станіслаў** (Корсак Станислав), сваяк *Фелікса*, дваранін Себежскага пав. Да паўстання валодаў разам з *Феліксам* маёнткам Роўнае Себежскага пав. (1354 дзес. зямлі, сад, млын, лесапільня, сукнавальня, 1707 руб. гадавога прыбытку) і маёнткам Талаеўцы (Тулаеўцы, Тулуёўцы) Невельскага пав. (464 дзес. зямлі, фруктовы сад, 422 дзес. зямлі). За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 04.12.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Сасланы ў Кастрамскую губ. У 1871 г. там атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—3—21048—30адв.; 1416—6—280; 1430—1—35146—60; 1430—1—52163—150адв., 215адв.-216, 230адв.-231, 392адв., 418, 431адв., 432, 437, 459адв., 568, 569, 685-690, 823адв., 824адв.)*.

3042. **Корсак Тарэза** (Корсак Терезия), памешчыца. Нар. каля 1803 г. Западозрана рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. З 31.10.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 09.03.1864 падала скончаную справу магілёўскаму губернатару. Перапіска пра яе таксама вялася ў АСК. Падчас следства знаходзілася на волі. Яе маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—68; 3255—1—14—3; 3257—1—14—7адв.-8)*.

3043. **Корсак Траян** (Корсак Троян), сын Міхала, дваранін Полацкага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў тым, што ў яго былі «пастаянныя сходы палякаў з палітычнай мэтай». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 13.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—42адв.-43; 3046—2—5—25адв.)*.

3044. **Корсак Уладзімір** (Корсак Владимир), дваранін. Нар. у Магілёўскай губ. Служыў у рас. войску, меў чын паручніка. Да паўстання сумесна з братамі валодаў маёнткам у Магілёўскай губ. Падчас паўстання пакінуў месца службы і ўзяў удзел у паўстанні. Схоплены, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да смяротнага пакарання. 06.06.1863 а 10 гадзіне раніцы расстраляны разам з *Анцыпам Ільдэфонсам*, *Манцэвічамі Міхалам* і *Янам* пры «вялізным зборы народу» ў г. Магілёве за Шклоўскай брамай. 05.09.1863 яго магіла разрабавана *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—18; 320—1—398—198адв.; 1430—1—52163—126адв.; 1781—2—5602—42; 2001—2—61; 3257—1—4—20; 3257—2—2—16)*.

3045. **Корсак Уладзіслаў** (Корсак Владислав), сын Антонія, брат Адэлі, *Альгерда*, Вітальда, Камілы, Марыі (v. Кавальскай), Мечыслава, Міраслава, Паўліны (v. Сянажэнцкай), памешчык. Служыў у рас. войску, паручнік. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Суяркаўшчына Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць секвестравана (да 30.07.1863) і потым канфіскавана, аднак у 1866 г. яго частка Суяркаўшчыны выдзелена ў казну яшчэ не была *(2001—2—123—6; 2001—3—23—3; 2003—1—445—2, 14адв.; 2003—2—19—8адв.-9; 2003—2—90—33-38)*.

3046. **Корсак Уладзіслаў** (Корсак Владислав), сын Рамана, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Ляскавічы Кобрынскага пав. За пастаўку паўстанцам харчавання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Пазней атрымаў амністыю і вярнуўся на радзіму. 09.1882 жыў у Пінскім пав. *(295—1—3492—97; 319—1—479—16адв.; 1430—1—52163—181адв.)*.

3047. **Корсак Фартунат** (Корсак Фортунат), сын Юзафа, памешчык, каталік. Нар. каля 1830 г. Да паўстання валодаў маёнткам Бедрыцы Полацкага пав. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку паручнікам. Абгавораны *Другавінам Янам* ва ўдзеле ў выбары дэлегатаў, якія павінны былі атрымоўваць і распаўсюджваць распараджэнні «Рэвалюцыйных Камітэтаў». На маёнтак 14.09.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладзены секвестр, які 20.10.1864 яшчэ не зняты. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, потым аддадзены пад суд. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—30; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—404адв., 430адв., 443, 446адв., 571; 3046—2—3—33адв.-34; 3046—2—5—24)*.

3048. **Корсак Фелікс** (Корсак Феликс), дваранін Себежскага пав. Да паўстання судзіўся за маёнтак у Себежскім пав., разам са *Станіславам* валодаў маёнткам Роўнае Себежскага пав. (1354 дзес. зямлі, сад, млын, лесапільня, сукнавальня, 1707 руб. гадавога прыбытку) і маёнткам Талаеўцы (Тулаеўцы, Тулуёўцы) Невельскага пав. (464 дзес. зямлі, фруктовы сад, 422 дзес. зямлі). За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. Частка Талаеўцаў падлягала канфіскацыі. Пасля частковай амністыі часова вярнуўся ў Віцебскую губ., у 1875 г. атрымаў дазвол на сталае жыхарства на радзіме *(319—1—479—17; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—30адв., 32; 1416—6—280; 1430—1—35810—41, 48; 1430—1—35834—61; 1430—1—52163—215адв.-216, 230адв.-231, 392адв., 418, 431адв.-432, 437, 459адв., 568, 569, 596адв., 685-690, 823адв., 824адв.; 2616—1—40—10адв., 12адв.)*.

3049. **Корсак Францішак** (Корсак Франц), сын Ксенафонта і Эміліі, брат Рыгора, Віктара, Ксенафонта, Ксаверыя, Францішкі і Антаніны (v. Глінкі), памешчык. Да паўстання разам з братамі валодаў маёнткам Радзівонаўка Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе і арыштаваны. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 маёнтак Радзівонаўка з фальв. Гімбутаўка (33 сялянскія муж. і жан. душы, 343 дзес. зямлі, дом з балконам на 10 пакояў, млын, 2 фруктовыя сады, гаспадарчыя пабудовы, рухомасць і інш., 280 руб. гадавога прыбытку, 1125 руб. доўгу) 27.06.1863 апісаны і секвестраваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 01.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 03.10.1863 справа пададзена ў МагВСК. Прысуджаны (да 14.012.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць канфіскавана паводле ўказа МагГП ад 07.01.1864 у 1865 ці 1866 г. *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—222адв.; 2001—2—123—6; 2003—1—242; 2003—1—416; 2003—1—445—2адв.; 2003—2—90; 3257—2—2—17; 3366—1—5—6)*.

3050. **Корсак Эдвард** (Корсак Эдуард), сваяк *Вітальда* (?), памешчык. Падчас паўстання арыштаваны за сувязі з паўстанцамі і пастаўку ім звестак пра сельскія варты. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—92)*.

3051. **Корсак Эдмунд** (Корсак Эдмунд), памешчык. Падчас паўстання арыштаваны за сувязі з паўстанцамі і прамаўленне «падбухторных выразаў». У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—113)*.

3052. **Корсак Эразм** (Корсак Эразм), сын Каятана, памешчык Лепельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Указ аб канфіскацыі выдадзены ВГП 25.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 27.08.1864 і загада М. Мураўёва ад 21.08.1864 *(1416—4—11416—21-23, 226-232; 1430—1—52163—415адв.)*.

3053. **Корсак Эразм** (Корсак Эразм). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у Віленскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.)*.

3054. **Корсак Юстын** (Корсак Устин), бацька *Адольфа*, *Рышарда* і *Яўгена*, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Заскаркі Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.03.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(2626—1—305—52-53)*.

3055. **Корсак Ян** (Корсак Иван), дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Служыў міравым пасярэднікам. Разам з *Косавымі Юзафам* і *Янам* западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на падтрымку паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—39адв.-40)*.

3056. **Корсак Ян** (Корсак Иван), сын Рамуальда, дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1801 г. Да паўстання служыў лесніком у засц. Быкаўка Барысаўскага пав. памешчыка Цеханавецкага. Падчас паўстання схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 02.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага прысуджаны (да 22.05.1864) да пазбаўлення правоў стану, ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. і канфіскацыі маёмасці. 08.1865 спынены пошукі яго маёмасці па Мінскай губ. у сувязі з гадавым тэрмінам пасля канфірмацыі прысуду *(162—1—116—112адв.; 295—1—1527—103адв.; 299—1—579—298-307, 705; 319—1—479—17; 320—1—398—452адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

3057. **Корсак Яўген** (Корсак Евгений), сын *Юстына*, брат *Адольфа* і *Рышарда*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Заскаркі Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні ў складзе заскаркаўскага атрада, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Віцебска, знаходзіўся пад следствам у ВСК. 24.10.1863 высланы ў г. Дынабург, а яго справа 10.10.1863 перададзена ў ДСК. На яго маёмасць 13.12.1863 накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі. На маёнтак бацькі накладзена забарона. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву, у 1871 г. атрымаў дазвол на прыезд у Віцебскую губ. на 1 месяц *(1416—3—21048—31; 1430—1—35146—91; 1430—1—52163—410адв.; 2601—1—2—342-343; 3046—2—3—39адв.-40; 3046—2—5—25)*.

3058. **Корф Аляксандр** (Корф Александр), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15адв.; 1416—6—271; 1430—1—52163—166адв.)*.

3059. **Корф Даніэль** (Корф Даниил), мешчанін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 11.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—15.; 1430—1—52163—166)*.

3060. **Корф Эдвард** (Корф Эдуард), незацверджаны дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—16адв.; 320—1—398—224адв.)*.

3061. **Корф Юзаф** (Корф Осип), незацверджаны дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16адв.; 320—1—398—224адв.)*.

**Корцін-Жукоўскі Рафал** — гл. **Жукоўскі Рафал**

3062. **Косаў Аляксандр** (Коссов Александр), сын Казіміра, дваранін Віцебскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Разам з *Войнам Аляксандрам* і *Ляўковічам Аляксандрам* западозраны рас. уладамі ў тым, што «знаходзіцца ў сяброўстве з палітычным злачынцам» *Корбутам Маўрыцыем*. Быў пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне ў спачуванні польскім непарадкам» 23.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—32адв.; 3046—2—3—42адв.-43; 3046—2—5—25адв.)*.

3063. **Косаў Тэадор** (Коссов Федор), сын Вацлава, дваранін Віцебскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў тым, што дазволіў пражываць у сваім маёнтку нейкаму невядомаму ксяндзу. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—38адв.-39; 3046—2—5—25)*.

3064. **Косаў Юзаф** (Коссов Иосиф), сын Юстына, брат (?) *Яна*, дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Пасля паўстання выконваў абавязкі гарадоцкага маршалка. Западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на падтрымку паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—38адв.-39; 3046—2—5—25)*.

3065. **Косаў Ян** (Коссов Иван), сын Юстына, брат (?) *Юзафа*, дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Падчас паўстання разам з братам (?) і *Корсакам Янам* западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на яго падтрымку. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 07.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—38адв.-39; 3046—2—5—25)*.

3066. **Коска Юзаф** (Косско Иосиф), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—3)*.

3067. **Косман N.** (Косман N.). Да паўстання з'яўляўся сельскім фельчарам. Падчас паўстання прыняў у сябе ў доме і вылечыў параненых паўстанцаў *Канапацкага Антонія* і *Коркуця Цыпрыяна*, за што арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3068. **Коўб Вацлаў** (Колб Вацлав), сын *Міхала*, брат *Пшамыслава*, дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1844 г. Да паўстання жыў у г. Варшаве, яго бацька валодаў маёнткам Межыца Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—64; 295—1—1527—100; 295—1—1643—91; 296—1—25—105; 299—1—577—164-175; 319—1—479—17адв.; 320—1—398—282; 320—2—98—37адв.; 1416—3—21048—31адв.; 1430—1—52163—411)*.

3069. **Коўб Зыгмунт** (Колб Сигизмунд), сын *Міхала*, брат *Пшамыслава* і *Вацлава*, дваранін Лепельскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Межыца Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання трапіў пад следства ў АСК. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву, у 1875 г. вярнуўся на радзіму *(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—33; 1430—1—35810—19; 1430—1—52163—167адв., 414; 3255—1—14—3)*.

3070. **Коўб Міхал** (Колб (Колбо, Коллбо) Михаил), сын Яна Каралевіча (пам. 1823) і Алены Міхалаўны Вэйсэнгоф, бацька *Вацлава*, *Зыгмунта* і *Пшамыслава*, памешчык. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Лепельскага пав., яго маці валодала маёнткам Межыца Лепельскага пав. (1581 дзес. зямлі). За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» сасланы (да 01.10.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. На Межыцу накладзены секвестр, а потым забарона. 24.10.1863 прыбыў у г. Чардын. 10.01.1864 звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. Памёр у ссылцы 31.10.1865 *(1416—3—21048—31адв.; 1430—1—31355—131-132; 1430—1—31583—4-7; 1430—1—32922; 1430—1—52163—411адв., 489-490; 1430—1—52285—5, 43)*.

3071. **Коўб Пшамыслаў** (Колб Пржемыслав), сын *Міхала*, брат *Вацлава*, дваранін. Служыў падпаручнікам у сапёрных батальёнах, выкладаў у Мікалаеўскай інжынернай акадэміі. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Межыца Лепельскага пав. Узначальваў паўстанцкі атрад, куды ўваходзілі сярод іншых *Акулавы Антоні* і *Юзаф*, *Біршарт Антоні*, *Контаўт Юзаф*, *Мысліцкі Базыль*, *Стэфаноўскі Адам*, *Урбановічы Стэфан* і *Францішак*, *Чаховіч Леапольд*. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.04.1864), сярод іншага, да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. На Межыцу накладзена забарона *(1416—3—21048—30; 1430—1—31560—2-3; 1430—1—52163—168, 408; 3046—2—5—26)*.

3072. **Коўзан Вікторыя** (Колзан Виктория), жонка *Караля*, дваранка Ашмянскага ці Троцкага пав. Западозрана рас. уладамі ў пастаўцы харчавання паўстанцам, таму яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1416—6—280; 1430—1—52163—149)*.

3073. **Коўзан Габрыэль** (Ковзан Гавриил), сын Марціна, дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68)*.

3074. **Коўзан Казімір** (Ковзан Казимир), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 23.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 06.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—263; 1416—6—280; 1430—1—52285—7)*.

3075. **Коўзан (Коўчан, Кользан) Караль** (Колзан (Ковчан, Кользан) Карл), сын Яна, муж *Вікторыі*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Тракелі Ашмянскага пав. Пастаўляў харчаванне паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Пермскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр, потым яна на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—280; 1430—1—52163—149; 2532—1—15—11адв.)*.

3076. **Коўзан Станіслаў** (Ковзан Станислав), дваранін Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні кан-

фірмацыяй А. Патапава ад 28.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вяртаннем правоў і правам жыхарства ва «ўнутраных губернях Імперыі», але з усталяваннем паліцэйскага нагляду і забаронай знаходзіцца ў сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. і «Прывісленскім краі» *(295—1—1989—25-26)*.

3077. **Коўзан-Даўнаровіч Людвік** (Ковзан-Давнарович Людвиг), сын Даната, дваранін Мінскай ці Віленскай губ., каталік. Вучыўся ў гімназіі ў г. Навагрудку, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—68; 3257—1—53—2; 3286—2—1—5адв.)*.

3078. **Коўлак (Коўлаў) Аўрэліян** (Ковлок (Ковлов) Аврелиан), дваранін. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Коўне. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

**Коўчан Караль** — гл. **Коўзан Караль**

3079. **Коўш Андрэй** (Ковш (Кувш) Андрей), сын Сямёна, селянін. Да паўстання прыпісаны да Драгабыльскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12; 295—1—2725—31)*.

**Коўш Францішак** — гл. **Каўшоў Францішак**

3080. **Кохна (Кохан) Кандрат (Канстанцін)** (Кохно (Кохан) Кондрат (Константин)), сын Яна, мешчанін г. Лепеля. Нар. каля 1827 г. Да паўстання жыў у с. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены і дастаўлены ў Лепель. Пераведзены ў г. Барысаў, 21.06.1863 зняволены ў мясцовай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 3 гады *(162—1—116—66адв.; 295—1—1527—105адв.; 296—1—25—105; 319—1—479—17адв.; 320—1—398—291; 1430—1—52163—412адв.)*.

3081. **Коць (Кодзь) Адам** (Коць (Кодзь) Адам), сын Адама, дваранін Ашмянскага пав. За «ўдзел у цяперашніх палітычных непарадках» яго маёмасць на падставе распараджэнняў мінскага губернатара ад 07.06.1863, віленскага губернатара ад 18.06.1863 і пастановы ВілГП ад 07.07.1863 падлягала секвестру *(1416—1—247, 268)*.

3082. **Кошка Вінцэнт** (Кошка Викентий), сын Юзафа Вінцэнтавіча, брат Дыянізія і Станіслава, пляменнік Амброзія, Антонія і Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21, 32-33)*.

3083. **Кошка Рыгор** (Кошка Григорий), сын Тэадора, дваранін Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Аддадзены пад ПВС. Па справе праходзіў разам з *Чаховічам Аўгустам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.11.1866 пакінуты ў падазрэнні і прызначаны да грашовага штрафу ў 100 руб. ср. з вяртаннем на месца жыхарства на парукі, яму забаранялася таксама паступаць на службу на радзіме. Заплаціць штраф не змог, таму яго маёмасць падлягала апісанню *(1416—4—11782)*.

3084. **Кошка N.** (Кошко N.). Да паўстання служыў інспектарам гімназіі ў г. Коўне, калежскі радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

3085. **Крагельскі Аляксандр** (Крагельский Александр), сын Аляксандра, брат *Яна*, дваранін Радамскай губ., каталік. Нар. каля 1846 г. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 паранены ў лоб і ўзяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. Яго частка маёнтка Мазурок Слуцкага пав. секвестравана паводле ўказа МГП ад 15.04.1864. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—106; 296—1—89—23адв.; 320—1—398—326-327адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—6; 1525—1—2—4адв.-5)*.

3086. **Крагельскі Ян** (Крагельский Иван), сын Аляксандра, брат *Аляксандра*, дваранін Радамскай губ., каталік. Нар. каля 1844 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу

г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе сцвярджаў, што далучыўся да паўстання супраць сваёй волі і прасіў літасці. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго частка маёнтка Мазурок Слуцкага пав. секвестравана паводле ўказа МГП ад 15.04.1864 *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—106; 296—1—89—23адв.; 320—1—398—326-327адв.; 1524—1—1—6; 1525—1—2—7адв.-8).*

3087. **Краеўскі Аляксандр** (Краевский Александр), дваранін Мінскага пав. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Западозраны ў жаданні далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. Паводле пастановы ДСК, прызначаны ў 1863 г. да высылкі на радзіму ў Мінскі пав. пад нагляд паліцыі. 07.1863 высланы ў Мінскі пав., 09.1863 у яго праведзены вобшук, але нічога кампраметоўнага не знойдзена *(295—1—1552; 295—1—1643—98; 1527—1—4—12адв.).*

3088. **Краеўскі Вінцэнт** (Краевский Викентий), сын Юзафа Антоніевіча, дваранін ці шляхціц Мінскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—137; 295—1—1643—112; 319—1—479—17; 320—1—398—572, 573, 575, 577-578; 320—2—98—38; 1430—1—52163—242).*

3089. **Краінскі Адольф** (Краинский Адольф), брат *Леана*, памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў фальв. Грышанішкі Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1430—1—52285—9; 2532—1—15—12адв.).*

3090. **Краінскі Леан** (Краинский Леон), брат *Адольфа*, памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў фальв. Грышанішкі Лідскага пав. У паўстанні ўваходзіў у склад атрада *Нарбута Людвіка*. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

3091. **Кракоўскі Цітус** (Краковский Тит), сын Філіпа, каталік. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—38адв.-39).*

**Кракоўскі** — гл. **Траўгут Рамуальд**

3092. **Кралінскі (Крамінскі) Аляксандр** (Кржелинский (Кржеминский) Александр), дваранін Ліпавецкага пав. Кіеўскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—168, 415).*

3093. **Крамблеўскі Казімір** (Кромблевский Казимир), дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання жыў з бацькамі ў маёнтку Віжы памешчыцы Клёт. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—133; 1416—3—21048—32; 1430—1—52163—398адв., 600).*

**Крамінскі Аляксандр** — гл. **Кралінскі Аляксандр**

3094. **Крамкоўскі Віктар** (Крамковский Виктор), дваранін Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—16; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.).*

3095. **Краскоўскі Юльян** (Красковский Юлиан). Да паўстання служыў наглядчыкам чыгуначнай станцыі ў г. Гродне. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

3096. **Краснадэмскі Ян** (Краснодемский Ян), сын Ігната, дваранін Лепельскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1847 г. Да паўстання жыў у засц. Гурбы Лепельскага пав., які належаў яго бацьку. 22–24.04.1863 знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, 24.04.1863 уцёк з яго і з'явіўся да рас. уладаў. Каля 09.07.1863 арыштаваны і зняволены на гаўптвахце ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Даказаў, што забраны ў паўстанцкі атрад гвалтоўна, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 25.07.1863 вызвалены і вернуты на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1527—108; 296—1—19—64-68, 273).*

3097. **Краснік Зыгмунт** (Красник Сигизмунд), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—222адв.).*

3098. **Краснік Ігнат** (Красник Игнатий), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля

08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562)*.

3099. **Красніцкі Юзаф** (Красницкий Иосиф), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

3100. **Красоўскі Войцех** (Красовский Альберт), дваранін Ковенскага пав. Да паўстання жыў у м. Бобты. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125)*.

3101. **Красоўскі Вінцэнт** (Красовский Викентий). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў наглядчыкам гарадавой бальніцы ў г. Цельшах, калежскі сакратар. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9)*.

3102. **Красоўскі Ежы** (Красовский Георгий), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

3103. **Красоўскі Леан** (Красовский Леон), сын Антонія, памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Підзюткі Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 04.07.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 26.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—280; 1416—6—280; 2532—1—15—11адв.)*.

3104. **Красоўскі Марцін** (Красовский Мартин), сын Андрэя ці Яна, селянін Капцёўскай грамады Лепельскага пав. Да паўстання жыў у засц. Чарнаручча. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго схоплены і дастаўлены ў г. Лепель. 21.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады. Ніякай яго маёмасці для канфіскацыі знойдзена не было *(162—1—116—66адв.; 295—1—1527—105адв.; 320—1—398—291; 1416—3—21048—32; 1430—1—52163—412адв.)*.

3105. **Красоўскі Міхал** (Красовский Михаил), сын Аляксандра, дваранін Полацкага пав. Падчас паўстання západзораны рас. уладамі ў захоўванні зброі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 14.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—41адв.-42; 3046—2—5—25адв.)*.

3106. **Красоўскі Цітус-Віктар** (Красовский Тит-Виктор), сын Фаўстына Цітусавіча, дваранін Пінскага пав. Хр. 06.01.1843. Да паўстання служыў землямерам. У паўстанні разам з *Трусавым Антоніем* камандаваў атрадам, куды ўваходзілі сярод іншых *Ганчарэвіч Аляксандр*, *Кучынскі Антоні*, *Пятркоўскі Ігнат*, *Шпілеўскі Адольф*. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(295—1—1643—111; 296—1—19—130-137; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—222, 393, 401адв.; 320—2—98—38)*.

3107. **Красоўскі Юзаф** (Красовский Иосиф), аднадворац Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—102; 319—1—479—14адв.)*.

3108. **Красоўскі Юзаф** (Красовский Юзеф), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—15адв.)*.

3109. **Красоўскі Язафат** (Красовский Иосафат (Юзефат)), дваранін (шляхціц?) Мінскага пав. Да паўстання жыў у сваім фальв. Ляхаўка Мінскага пав. Падчас паўстання абгавораны Юзафам Ханецкім у агітацыі сялян не служыць памешчыкам, у сувязі з чым западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці». 08.07.1863 арыштаваны, 09.07.1863 адасланы ў г. Мінск, дзе спачатку зняволены на гаўптвахце, а праз тры дні пераведзены ў пабернардзінскі кляштар. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны. У выніку паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 26.07.1863 і МГГ ад 30.07.1863 вызвалены з залічэннем у якасці пакарання арышту. 07.08.1863 падаў прашэнні аб арышце Ю. Х. за хлуслівы данос і спагнанні з яго 50 руб. ср. за панесеныя шкоды падчас арышту *(295—1—1568)*.

3110. **Красоўскі Ян** (Красовский Иван), сын Мікалая, дваранін Магілёўскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў тым, што агітаваў *Дыку Уладзіслава* ўзначаліць бешанковіцкі атрад. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «следствам не абвінавачваецца, але прыцягвае па-

дазрэнне» 30.04.1863 падала справу віцебскаму губернатару *(3046—2—3—41адв.-42; 3046—2—5—25адв.)*.

3111. **Красоўскі N.** (Красовский N.), ксёндз. Да паўстання служыў у Пындзенскім касцёле. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» у 1863 ці 1864 г. высланы з месца пражывання *(1430—1—32928—6-14)*.

3112. **Красульскі Рамуальд** (Красульский Ромуальд), сын Даменіка. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча ўключаны шарагоўцам у рас. войска. Служыў у 8 рэзервовым батальёне. 23.07.1865 самавольна пакінуў казармы, за што арыштаваны і пасаджаны на гаўптвахту. 20.09.1865 у яго праведзены вобшук, падчас якога знойдзены перапіска «падазронага зместу» з грамадзянскімі асобамі і сшытак з вершамі на польскай мове «падбухторнага зместу супраць Урада». 09.1866 аддадзены пад ПВС у г. Магілёве. Пастанова ЧПА Віленскай ваеннай акругі, канфірмаваная З. Манюкіным, па справе была выдадзена да 25.03.1867 *(2001—2—170)*.

3113. **Краўчык Андрэй** (Кравчик Андрей), мешчанін м. Бялагарода Люблінскай губ. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68; 3366—1—5—6адв.)*.

3114. **Крачкоўскі Антоні** (Крачковский Антон), сын Бенядыкта, брат *Францішка*, бацька *Войцеха*. Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Марцыянай, дочкамі Вінцэнтай, Паўлінай і Адэляй, а таксама дзецьмі жонкі ад першага шлюбу Адамам і Ганнай Градзінскімі высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—16адв.; 320—2—98—54)*.

3115. **Крачкоўскі Войцех** (Крачковский Альберт (Войцех)), муж Кацярыны Тэадораўны Аколавай, сын *Антонія*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Памёр у 1865 г. у г. Тара Табольскай губ. Жонка ў 1870 г. падала прашэнне аб прызнанні ў дваранстве ці аб пераводзе ў Каралеўства Польскае *(295—1—2420—16; 320—2—98—54-59)*.

3116. **Крачкоўскі Францішак** (Крачковский Франц), сын Бенядыкта, брат *Антонія*, бацька *Эдварда*, дзядзька *Беляневіч Евы*, свёкр *Віткоўскага Францішка*. Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Тэрэзай, сынам (з сям'ёй), пляменніцай, зяцем (з сям'ёй) «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Валадута *(295—1—2420—17; 295—1—3026—33; 295—1—3492—69, 83адв.)*.

3117. **Крачкоўскі Эдвард** (Крачковский Эдуард), сын *Францішка* і Тэрэзы, пляменнік *Антонія*, стрыечны брат *Беляневіч Евы*, швагер *Віткоўскага Францішка*. Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з бацькамі, стрыечнай сястрой, шваграм, жонкай Магдаленай, сынам Робертам, дачкой Зузанай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—17)*.

3118. **Крашэўскі Канстанцін** (Крошевский Константин), памешчык Кобрынскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—8)*.

3119. **Кроткі Віктар** (Кроткий Виктор), сын Тамаша, калежскі сакратар. Паходзіў з Каралеўства Польскага. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—6адв.)*.

3120. **Крук Шыпель** (Крук Шипель), яўрэй. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—27)*.

3121. **Круковіч Генрык** (Крукович Генрих), сын Адама, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску; яго маці валодала маёнткам Петухова Лепельскага (?) пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На маёнтак маці накладзена забарона. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». 02.1875 атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. *(319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—31; 1430—1—35146—145; 1430—1—35810—6-7; 1430—1—35834—22; 1430—1—52163—182; 3046—2—3—37адв.-38; 3046—2—5—24адв.)*.

3122. **Круковіч (Круповіч) Палікарп** (Крукович (Крупович) Поликарп), сын Дамініка, брат Вікторыі (v. Стэфаноўскай), памешчык Аршанскага пав. Абгавораны *Сасноўскім Пятром* у тым, што 24.04.1863 знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая не знайшла доказаў віны, у сувязі з чым вызвалены. Пасля абвінавачаны селянінам у агітацыі на карысць паўстання, таму арыштаваны яшчэ раз. Прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў г. Краснаўфімск Пермскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. Сястра 10.07.1865 падала прашэнне аб вяртанні яго на месца жыхарства, якое было адхілена *(1430—1—31602—190-192а; 1430—1—52163—237адв.; 2532—1—15—10; 2616—1—40—58адв.; 3255—1—12—2; 3255—1—14—3).*

3123. **Круковіч Уладзіслаў** (Крукович Владислав), сын Дамініка, дваранін Аршанскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 11.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ці на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—18; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.; 3255—1—14—3; 3257—2—2—19).*

3124. **Крукоўская Марыя** (Круковская Мария), жонка тытулярнага радцы. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Варонежскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552).*

3125. **Крукоўскі Антоні** (Круковский Антон), сын Казіміра, дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1841 г. Да паўстання жыў у в. Красналучка Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 24.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—128, 156; 295—1—1527—106; 295—1—1643—91; 319—1—479—17; 320—1—398—533, 644; 320—2—98—38; 1430—1—52163—526).*

3126. **Крукоўскі Антоні** (Круковский Антон), сын (?) *Раймунда*, аднадворац Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання разам з бацькам (?) абвінавачаны ў «нядобранадзейнай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 18.02.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў, паводле пастановы якога высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі на пасяленне на казённых землях *(1430—1—52163—634).*

3127. **Крукоўскі Войцех** (Круковский Войцех), каланіст. Да паўстання жыў у г. Брэсце. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103; 319—1—479—16адв.).*

3128. **Крукоўскі Ігнат** (Круковский Игнатий). Да паўстання служыў у Ковенскай ПДМ, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—16; 1430—1—52163—521адв.).*

3129. **Крукоўскі Канстанцін** (Круковский Константин). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам Мінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

3130. **Крукоўскі Мікалай** (Круковский Николай), сын Міхала, дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у Сенненскім пав. Падчас паўстання арыштаваны за знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе і неданясенне ўладам пра гэта. Паводле пастановы МагГП ад 17.07.1863 яго рухомая маёмасць у маёнтку Няклюдава Сенненскага пав. памешчыкаў Асяцімскіх (адзенне, посуд і інш.) 13.06.1863 апісана і секвестравана. Разам з *Валіцкім Адольфам* знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў дачыненне *Асяцімскі Альфонс*. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 22.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—85; 295—1—1643—112адв.; 319—1—479—17; 320—1—398—321-324, 375; 320—2—98—38; 1430—1—52163—167; 2001—2—14—9; 2003—1—349; 2514—1—2198—68; 3257—2—2—17).*

3131. **Крукоўскі Раймунд** (Круковский Раймунд), сын Антонія, бацька (?) *Антонія*, аднадворац Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання разам з сынам (?) абвінавачаны ў «нядобранадзейнай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 18.02.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў, паводле пастановы якога пакінуты на месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—52163—634).*

3132. **Крукоўскі Тамаш** (Круковский Фома), сын Ксаверыя і Марыяны, брат Якуба (псіхічна хворага?), памешчык. У 1862 г. разам з братам атрымаў у спадчыну пасля бацькоў маёнтак Адаміна Быхаўскага пав. За дачыненне да паўстання маёнтак Адаміна (64 рэвізскія душы, каля 1000 дзес. зямлі, дом на 5 пакояў, млын, лазня, гаспадарчыя пабудовы і інш., рухомасць) 21.06.1863 апісаны і яго частка секвестравана *(2003—2—6)*.

3133. **Крукоўскі N.** (Круковский N.), памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, стацкі радца. Да паўстання валодаў маёнткам Суткішкі Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў хаванні *Лункевіча Баляслава*. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3134. **Крулікевіч Ян** (Круликевич Иван), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1879 г. жыў у г. Кастраме, атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ. *(295—1—3372—1-2; 1430—1—52758—22)*.

3135. **Крулікоўскі Уладзіслаў** (Круликовский Владислав), аднадворац Кобрынскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Пінску. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—16; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601)*.

3136. **Круліцкі Калікст** (Крулицкий Каликст), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73)*.

3137. **Круповіч Клімент** (Крупович Климентий), шляхціц Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—15)*.

**Круповіч Каятан** — гл. **Круповіч Ян-Каятан**

**Круповіч Палікарп** — гл. **Круковіч Палікарп**

3138. **Круповіч Францішак** (Крупович Франц), селянін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—10адв.)*.

3139. **Круповіч Сымон** (Крупович Семен), аднадворац. Да паўстання жыў у вак. Вішкунцы Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—15; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

3140. **Круповіч Юзаф** (Крупович Иосиф), аднадворац. Да паўстання жыў у в. Бенкавічы Лідскага пав., дзе валодаў зямлёй і домам. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—102; 319—1—479—15)*.

3141. **Круповіч Ян-Каятан** (Крупович Иван-Каетан(Каэтан)), сын Юзафа, дваранін Віленскай ці Магілёўскай губ., каталік. Служыў канцылярыстам у Магілёўскім ДДС, 07.01.1863 звольнены па ўласным прашэнні. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—15; 1416—4—11416—125; 1430—1—52163—521; 2003—2—96—20; 3257—2—2—17адв.)*.

3142. **Крупскі Баніфацы-Вінцэнт** (Крупский Бонифаций-Викентий), сын Урбана, памешчык Ігуменскага пав. Падчас паўстання прыняў ад *Свентарэцкага Баляслава* дакументы з «рэвалюцыйнымі распараджэннямі», рабіў з іх копіі і перадаваў іншым асобам, у тым ліку *Асоўскаму Антонію*. Арыштаваны, аддадзены пад ПВС пры Вялікалуцкім пяхотным палку. Пастановай суда, канфірмаванай 02.09.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 8 гадоў. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. Яго маёнтак Навасёлкі з фальваркамі Ніўкі і Велень Ігуменскага пав. канфіскаваны. 08.1874 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. У 1876–1880 гг. жыў у маёнтку Мяцявічы Слуцкага пав., які належаў яго сёстрам; у 1880 г. яму вернута дваранства *(162—1—116—12; 295—1—1643—90, 94адв.; 295—1—3026—15адв.-16; 295—1—3492—7, 84; 296—1—89—34адв.-35; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—81, 234; 320—2—98—37адв.; 1416—3—21048—32адв.; 1430—1—52163—596б)*.

3143. **Крушынскі Вінцэнт** (Крушинский Викентий), сын Караля, мешчанін г. Мінска, каталік. Да паўстання знаходзіўся на службе ў *Прушын-*

*скага Караля* ў м. Каралішчавічы Ігуменскага пав. 07.06.1863 знаходзіўся ў Мінску разам са сваім гаспадаром. Западозраны ва ўдзеле ў падрыхтоўцы паўстання, у сувязі з гэтым 20.06.1863 арыштаваны і зняволены ў пабернардынскім будынку ў Мінску. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая не знайшла доказаў віны. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага 29.06.1863 вызвалены *(295—1—1586)*.

3144. **Крушынскі Максімільян** (Крушинский Максимилиан), сын адстаўнога лекара Слуцкага пав. і тытулярнага радцы Адама Якубавіча, дваранін Сакольскага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Да паўстання жыў з бацькам у г. Слуцку. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*. 20.04.1863 паранены ў паясніцу ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. і ўзяты ў палон са зброяй у руках. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на 10 гадоў у крэпасцях. Магчыма таксама, што катарга была зацверджаная ў выглядзе 8 гадоў на заводах. На маёмасць яго бацькі (2 драўляныя дамы ў Слуцку) накладзены секвестр. Пасля амністый у 1876 г. прыбыў на часовае жыхарства ў Слуцк, дзе жыў у маці *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—3026—15адв.-16; 296—1—25—18, 26-29, 103; 320—1—398—326-327адв.; 319—1—479—16адв.; 320—2—98—38; 1418—4—1; 1524—1—1—6; 1525—1—2—4адв.-5)*.

3145. **Крушэўскі Юльян** (Крушевский Юлиан), памешчык Сакольскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—29; 2532—1—15—7)*.

3146. **Крушэўскі Ян** (Крушевский Иван), дваранін Віленскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

3147. **Крываблоцкі Альбін** (Крживоблоцкий Альбин), аднадворац Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Пры арышце ў яго канфіскаваны 12 руб. ср. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—16адв.)*.

3148. **Крываблоцкі Баляслаў** (Крживоблоцкий Болеслав), дваранін Пружанскага пав. Да паўстання жыў у г. Коўне. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—16 адв.; 1430—1—52163—166адв.)*.

3149. **Крыванрсаў Ян** (Кривоносов Иван), сын Алексея, дваранін, праваслаўны. Да паўстання служыў себежскім павятовым спраўнікам, надворны радца. Западозраны рас. уладамі ў «непрыняцці з карысных прычын належных захадаў для папярэджання збору мяцежнікаў у Себежскім павеце». На яго маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 06.04.1864 падала яго справу віцебскаму губернатару *(1430—1—52163—418адв.; 3046—2—3—46адв.-45)*.

3150. **Крывец Францішак** (Крживец Франц), памешчык Гродзенскай (?) губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 15.07.1863 і пастановы ГГП ад 04.08.1863, а потым канфіскацыі на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 30.09.1863 і пастановы ГГП ад 22.12.1863 *(1416—6—212)*.

3151. **Крывіцкі Вінцэнт** (Крживицкий Викентий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 01.04.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—40адв.-41)*.

3152. **Крыгер Юзаф** (Кригер Иосиф), каланіст Сакольскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

3153. **Крыжаноўскі Андрэй** (Крживановский Андрей), сын Дамініка, ксёндз. Нар. каля 1826 г. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Фашчаўка Магілёўскага пав. Абвінавачаны ў прыёме ў сябе паўстанцаў, у 1863 г. арыштаваны і зняволены ў турэмным замку г. Магілёва. Пад следствам знаходзіўся ў МагСК разам з *Івашкевічам Стэфанам*. 26.11.1863 яго справа пададзена МагВГ, якім 10.12.1863 аддадзены пад суд у МагВСК. Яго рухомая маёмасць (куфар з адзеннем і іншымі дробнымі

рэчамі) на суму ў 13,69 руб. ср. 23.12.1832 апісана і секвестравана. У час следства спачатку адмаўляўся ад абвінавачванняў, аднак потым прызнаўся і прасіў літасці. МагВСК 11.04.1864 скончыла яго справу і падала камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 04.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму ў Мінскі пав. *(295—1—3492—37адв.-38; 319—1—479—18; 1430—1—52163—206адв.; 2001—1—901—1-4; 2003—1—409; 3256—2—22; 3257—2—2—18).*

3154. **Крыжаноўскі Дамінік-Юльян** (Кржижановский Доминик-Юльян), сын Канстанціна, дваранін Навагрудскага пав. Служыў у піцейным акцызным аддзяленні Мінскай казённай палаты, пасля скасавання аддзялення выйшаў у адстаўку, калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. МГП 24.09.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—89адв., 94адв.; 320—1—398—8, 10-12адв., 13; 320—2—98—37адв.; 1416—6—240).*

3155. **Крыжаноўскі Клімент** (Крижановский Клементий), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—86).*

3156. **Крыжаноўскі Міхал** (Кржижановский Михаил), аднадворац. Да паўстання жыў у вак. Тальманты Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—14адв.).*

3157. **Крыжаноўскі Пётр** (Кржижановский Петр). Да паўстання з'яўляўся пяцісоцкім м. Шакінава Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(295—1—1643—112адв.; 319—1—479—16; 1430—1—52163—205).*

3158. **Крыжаноўскі Юзаф** (Крыжановский Иосиф), аднадворац Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—15; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241).*

3159. **Крыжаноўскі Ян** (Кржижановский Иван), дваранін. Служыў у піцейным аддзяленні Мінскай казённай палаты. Пры скасаванні аддзялення звольнены з чынам калежскага рэгістратара. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—16адв.; 1430—1—52163—596б).*

3160. **Крыжэвіч Юльян** (Кржижевич Юлиан). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскага павятовага суда. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9).*

3161. **Крыкштэйн Аляксандр** (Крикштейн Александр), сын *Максімільяна*, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 15.10.1863. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—88адв., 110; 296—1—90—7адв.-8; 319—1—479—17; 1418—3—1—36адв.-37; 1430—1—52163—167).*

3162. **Крыкштэйн Максімільян** (Крикштейн Максимилиян), бацька *Аляксандра*, дваранін Ігуменскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 26.10.1863 яго справа перададзена ў МСК. Пасля вызвалены ад суда з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1643—100, 106адв.; 1418—3—1—39адв.-40).*

3163. **Крылаў Ян** (Крилов Иван), сын Якава, праваслаўны. Да паўстання служыў шарагоўцам у войску. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 16.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—37адв.-38).*

3164. **Крыніцкі Сулейман** (Криницкий Сулейман). Да паўстання служыў наглядчыкам Барысаўскага паліцэйскага ўпраўлення, калежскі рэгістратар. Абвінавачаны ў дачыненні да паўстання і арыштаваны. Пасля вызвалены ад суда, але звольнены са службы *(295—1—1643—105).*

3165. **Крынскі Юзаф** (Кринский Осип), двараннін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Астраханскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—37).*

3166. **Крысталовіч (Крышталовіч) Ян** (Кржисталович (Кржишталович) Иван), сын Тамаша, дваранін Віцебскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў лясным і межавым інстытуце, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—17адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—30адв.; 1430—1—52163—393адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.; 3257—1—53—2; 3257—2—2—16адв.; 3286—2—1—4адв.-5).*

3167. **Крыўкоўскі Люцыян-Аўгуст** (Крживковский Люциан-Август), памешчык Вількамірскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552; 2532—1—15—3адв.).*

**Крышталовіч Ян** — гл. **Крысталовіч Ян**

3168. **Крыштаф (Кірштаф) Каспер** (Криштоф (Кирштоф) Каспер), дваранін ці сын жаўнера. Да паўстання жыў у г. Мінску. Падчас паўстання захоўваў зброю, за гэтае і іншыя «злачынствы» арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 6 гадоў. МГП 09.09.1863 выдала ўказ аб секвестры яго маёмасці, а 24.09.1863 і 16.01.1864 — указы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—89адв., 94адв.; 320—1—398—2, 8; 1416—6—240).*

3169. **Крэвіц Францішак** (Кревиц (Кржевиц) Франц), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Галякі Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—16; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601).* Магчыма, ідэнтычны з *Краўцам Францішкам*.

3170. **Крэйбах Станіслаў** (Крейбах Станислав), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

3171. **Крэйбіх Людвік** (Крейбих Людвиг), дваранін. Да паўстання служыў гарадавым лекарам у г. Цельшах. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

3172. **Ксенапольскі (Ксенжапольскі) Францішак** (Ксенопольский (Ксенжепольский) Францишек), сын Адама, селянін ці дваранін. Да паўстання жыў у в. Цякана Седлецкага пав. Люблінскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—91; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—526адв.).*

**Ксенжапольскі Францішак** — гл. **Ксенапольскі Францішак**

3173. **Кубліцкі Уладзіслаў** (Кублицкий Владислав), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. *(1430—1—52163—201).*

**Кубліцкі-Пётух Ігнат** — гл. **Пётух-Кубліцкі Ігнат**

**Кубліцкі-Пётух Фердынанд** — гл. **Пётух-Кубліцкі Фердынанд**

3174. **Кубраковіч Сямён** (Кубракович Семен), сын Яфіма, селянін. Да паўстання прыпісаны да Целяханскага сельскага таварыства Пінскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны да ссылкі на службу ў Шуйскі пяхотны полк. Паводле распараджэння ЧВГМГ ад 31.01.1864 высланы 02.1864 спачатку ў Пінскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне, адтуль — у г. Мінск для адпраўкі ў г. Маскву *(295—1—1643—104адв.; 295—1—2725—27адв.).*

3175. **Кудзінскі Юзаф** (Кудзинский Осип). Паходзіў з Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

3176. **Кудрэвіч Пётр** (Кудревич Петр), сын Людвіка, дваранін Віленскай ці Ковенскай губ., каталік. Вучыўся ў гімназіі ў г. Шаўлях, Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка.* Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г.

вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—68; 3257—1—53—2; 3286—2—1—5адв.-6)*.

3177. **Кузьмін**[110] **Архіп** (Кузьмин Архип), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—7)*.

3178. **Кузьмін**[111] **Ян** (Кузьмин Иван), селянін Клімавіцкага пав., праваслаўны. Нар. каля 1826 г. Падчас паўстання 23.04.1863 прыбыў у якасці вазніцы ў в. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. разам з атрадам *Арцімовіча Міхала*, дзе затрыманы сялянамі. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1863 прызнаны не вінаватым *(3256—2—14—21-26)*.

3179. **Кузьміцкі (Кузьмінскі) Даніэль** (Кузьмицкий (Кузьминский) Данила (Даниил)), селянін. Да паўстання жыў у в. Закупленне Быхаўскага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі *(1416—4—11416—130; 3257—2—2—17)*.

3180. **Кукевіч Тадэвуш** (Кукевич Фадей), дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—17)*.

3181. **Кукель (Кукін, Кукен) Іван** (Кукель (Кукин, Кукен) Иван), сын Аляксандра, дваранін Ігуменскага ці Барысаўскага пав., праваслаўны. Вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску. Да паўстання жыў з маці ў г. Бабруйску. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—90; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—163, 396, 401; 320—2—98—38; 1418—3—1—39адв.-40)*.

3182. **Куковіч Геркулан** (Кукович Геркулан), муж *Люцыі*, памешчык Себежскага пав. Да паўстання валодаў маёнткам Каношын (Кнішына) Рэжыцкага пав., служыў міравым пасярэднікам; яго брат валодаў маёнткам Глыбочына Себежскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле распараджэння М. Мураўёва без суда і следства 04.07.1863 высланы з жонкай «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. На яго маёмасць 06.11.1863 накладзены секвестр. На месцы ссылкі звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1430—1—31583—142-143; 1430—1—52163—416адв., 422адв., 567адв., 608; 1430—1—52285—58адв.)*.

3183. **Куковіч Люцыя** (Кукович Люция), дачка Алаізія, жонка *Геркулана*, дваранка Віцебскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства з мужам выслана «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Тамбоўскую губ. Пасля частковай амністыі перасялілася ў г. Варшаву. У 1875 г. вярнулася на радзіму ў Віцебскую губ. *(1416—3—21048—30адв.; 1430—1—31583—142-143; 1430—1—35810—19; 1430—1—52163—416адв., 608)*.

3184. **Кулак Адольф** (Куллак Адольф), сын Юзафа, дваранін Полацкага ці Веліжскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Прыняў прысягу на адданасць паўстанню, Цэнтральным Камітэтам высланы ў г. Полацк для агітацыі і фарміравання атрада. На яго след натрапіла рас. паліцыя, таму быў вымушаны пакінуць Полацкі пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе себежскага атрада пад камандаваннем *Кульчыцкага Баляслава*, пасля яго рассеяння 24.04.1863 узяты ў палон у Дрысенскім пав. Утрымліваўся ў г. Віцебску. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 25.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 13.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 19.03.1864 адпраўлены з Віцебска праз г. Востраў Пскоўскай губ. на месца ссылкі *(296—1—25—105; 319—1—479—17адв.; 1416—3—21048—30; 1416—4—11367; 1430—1—31602—174; 1430—1—52163—426адв.; 3046—2—3—34адв.-35; 3046—2—5—24)*.

3185. **Кулак Міхал** (Куллак Михаил), дваранін Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—18; 1430—1—52163—535адв.; 3257—2—2—18адв.)*.

3186. **Кулак Пётр** (Кулак Петр), сын Сымона, дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвеструю, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68)*.

[110] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[111] Тое ж.

3187. **Кулакоўскі Сармат** (Кулаковский Сармат), дваранін Віленскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне тытулярнага радцы. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—221адв.)*.

**Кулакоўскі Ян** — гл. **Калакоўскі Ян**

3188. **Кулакоўскі N.** (Кулаковский N.). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпалкоўніка. Да паўстання жыў у г. Вільні працаваў інжынерам. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

3189. **Кулеш Аўгустын** (Кулеш Августин), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16, 16адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242)*.

3190. **Кулеш Вінцэнт** (Кулеш Викентий), сын *Тэадора*, шляхціц. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—15)*.

3191. **Кулеш Пётр** (Кулеш Петр). Нар. каля 1808 г. Абгавораны *Другавінам Янам* у ахвяраванні грошаў на паўстанне. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—4—11416—185-212)*.

3192. **Кулеш Станіслаў** (Кулеш Станислав). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання жыў у Віленскай губ. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195)*.

3193. **Кулеш Тэадор** (Кулеш Федор), бацька *Вінцэнта*, шляхціц. Да паўстання жыў у в. Ганаўшчына Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—15)*.

3194. **Кулеш Юзаф** (Кулеш Осип), дваранін. Да паўстання жыў у Свянцянскім пав., яго бацька валодаў маёнткам Града Рэчыцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—15; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

3195. **Кулеша Канстанцін** (Кулеша Константин), дваранін Ломжынскага пав. Аўгустоўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126)*.

3196. **Кулікоўскі Адольф** (Куликовский Адольф), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.)*.

3197. **Кулікоўскі Ежы** (Куликовский Юрий), аднадворац Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска накіраваны ў г. Пскоў *(295—1—2420—10)*.

3198. **Кулікоўскі Казімір** (Куликовский Казимир). Да паўстання жыў у г. Троках (?), служыў у Троцкім павятовым судзе, калежскі рэгістратар ці тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—7адв., 19адв.)*.

3199. **Кулікоўскі Пётр** (Куликовский Петр), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання жыў у фальв. Сакаўшчына Ашмянскага пав., які яго маці арандавала ў графа Тышкевіча. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—14адв.)*.

3200. **Кулікоўскі Стэфан** (Куликовский Степан), дваранін. Падчас паўстання хаваў зброю, за што арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—87адв.)*.

3201. **Кулікоўскі Эдвард** (Куликовский Эдуард), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Ліпкальнь Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—16; 1430—1—52163—205)*.

**Кулікоўскі Ян** — гл. **Кунікоўскі Ян**

3202. **Куль Феліцыян** (Куль Фелициан), дваранін Вілейскага пав. Да паўстання жыў у засц. Ляў-

даншчына Барысаўскага пав., знаходзіўся на службе ў памешчыка Ляўданскага. Уваходзіў у паўстанцкі атрад, удзельнічаў у дзеяннях супраць рас. войскаў, арыштаваны. 28.04.1863 зняволены на гаўптвахце ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 06.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—66; 295—1—1527—108; 295—1—1643—96; 296—1—25—102адв.; 319—1—479—15; 320—1—398—288, 291; 320—2—98—37адв.).*

3203. **Кульбацкі Войцех** (Кульбацкий Альберт). Служыў ваўкавыскім павятовым казначэем, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25).*

3204. **Кульвец Вінцэнт** (Кульвец Викентий), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні. Паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573; 2532—1—15—2).*

3205. **Кульвец Ігнат** (Кульвец Игнатий), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2).*

3206. **Кульвец Клімент** (Кульвец Клем[ент]ий), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2).*

3207. **Кульвіц Юльян** (Кульвиц Юлиан), дваранін Ковенскага пав. Да паўстання жыў у г. Вільні, служыў ва ўпраўленні віленскага генерал-губернатара. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(319—1—479—16; 320—1—398—132адв.; 1416—6—211; 1430—1—52163—599адв.; 1430—1—52758—22).*

3208. **Кульвіц Ян** (Кульвиц Иван). Да паўстання служыў асэсарам Гродзенскай казённай палаты, надворны радца. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.).*

3209. **Кульцэвіч Юльян** (Кульцевич Юлиан). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—26).*

3210. **Кульчыцкі Баляслаў** (Кульчицкий Болеслав), сын Францішка. Да паўстання — падпаручнік Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі. Сфарміраваў паўстаніцкі атрад, куды ўваходзілі *Бахаловіч Станіслаў*, *Корсак Антоні*, *Кулак Адольф*, *Пятроўскі Юзаф*, *Пудзіновіч Павел* і інш., які быў разбіты 24.04.1863 на мяжы Дрысенскага і Себежскага пав. Забіты. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 320—1—398—197адв.; 1416—4—11367—6-9адв.; 1430—1—52163—126; 2003—1—434—2).*

3211. **Кульчыцкі [Леан]** (Кульчицкий [Леон]). Да паўстання служыў начальнікам чыгуначнай станцыі ў г. Гродне. Падчас паўстання паранены, памёр ад ран. Яго маёмасць прызначана да канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162).*

3212. **Кульчыцкі Леапольд** (Куличицкий Леопольд), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—14; 320—1—398—128; 1416—3—21048—31; 1430—1—52163—603).*

3213. **Кульчыцкі Юзаф** (Кульчицкий Иосиф), «жыхар» Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1823 г. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.).*

3214. **Кульчыцкі Ян** (Кульчицкий Иван), мешчанін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 18.07.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 21.07.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

3215. **Кундзіч Апалінары** (Кундзич Аполинарий), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Пузырышкі Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». У 1871 г. жыў у Варонежскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—39; 1430—1—52285—9).*

3216. **Кунікоўскі (Кулікоўскі) Ян** (Куниковский (Куликовский) Иван), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад след-

ствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—15; 1430—1—52163—181; 3046—2—5—27)*.

3217. **Кунцэвіч Павел** (Кунцевич Павел), сын Антона, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага сасланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12адв.; 295—1—2725—31адв.)*.

3218. **Кунцэвіч Рамуальд** (Кунцевич Ромуальд), памешчык Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—211)*.

3219. **Кунцэвіч Стэфан** (Кунцевич Степан), сын Зыгмунта, памешчык Рэчыцкага пав. Служыў міравым пасярэднікам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў зборы грошай для паўстанцаў, высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пазней атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 12.1876-11.1881 жыў ва ўласным маёнтку Янаўка Рэчыцкага пав. *(295—1—1643—101; 295—1—3026—25адв.-26; 295—1—3492—13, 31адв.-32, 83; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.; 2532—1—15—14)*.

3220. **Кунцэвіч Тадэвуш** (Кунцевич Фаддей), бацька *Уладзіслава*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Белапетры Лідскага пав. Разам з сынам западозраны рас. уладамі ў нарыхтоўцы для паўстанцаў адзення і харчавання. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3221. **Кунцэвіч Уладзіслаў** (Кунцевич Владислав), сын *Тадэвуша*, дваранін Лідскага пав. Разам з бацькам западозраны рас. уладамі ў нарыхтоўцы для паўстанцаў адзення і харчавання. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3222. **Кунцэвіч Юзаф** (Кунцевич Иосиф), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Табольскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

3223. **Кунцэвіч Юзаф** (Кунцевич Иосиф), памешчык Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—211)*.

3224. **Кунцэвіч Юзэфа** (Кунцевич Иозефа), дачка Станіслава, жонка Станіслава Юзафавіча Кунцэвіча, дваранка Ігуменскага пав. Да паўстання ўдава, жыла ў вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з сынамі Юзафам і Казімірам, дочкамі Даміцэляй і Каралінай выслана ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (38 дзес. 81 саж.) канфіскавана *(295—1—2420—7; 295—1—2830—8; 320—2—98—6, 70адв., 87)*.

3225. **Куплеўскі Нарцыз** (Куплевский Нарцыз), сын Юзафа, шляхціц ці дваранін Панявежскага пав. Да паўстання жыў у Рэмігольскай парафіі Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—131; 1416—6—281; 1430—1—52163—598)*.

3226. **Купсць Ванда** (Купсц Ванда), сваячка *Юліі* і *Яна*, памешчыца Ковенскага і Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання саслана ў Пермскую губ. Яе зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2, 3адв.)*.

3227. **Купсць Юлія** (Купсц Юлия), сваячка *Ванды* і *Яна*, памешчыца Ковенскага і Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання саслана ў Пермскую губ. Яе зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2, 3адв.)*.

3228. **Купсць Ян** (Купсць Иван), сваяк *Ванды* і *Юліі*, памешчык Ковенскага і Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. альбо сасланы шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў дваранства. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру, а потым абавязковаму продажу *(1430—1—52163—540; 2532—1—15—2, 3адв.)*.

3229. **Курага Адам** (Кураго Адам), сын Аляксандра, дваранін Полацкага пав. 10.1863 здаў старую стрэльбу старшыні Абітаўскай сельскай грамады, якая заставалася пасля смерці бацькі. 11.1863 арыштаваны прыставам 2 стана Полацкага пав. за тое, што не здаў стрэльбу самастойна раней, адасланы ў г. Віцебск. Аддадзены пад суд у ВВСК. Зняволены ў віцебскім турэмным замку, адкуль

25.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб вызваленні і вяртанні на месца жыхарства да жонкі і чатырох малагадовых дзяцей, якое 11.02.1864 было адхілена *(1416—4—11369—6адв.; 1430—1—31604—24-26)*.

3230. **Курак Ігнат** (Курак (Курок) Игнатий), часоваабавязаны селянін Дрысенскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў падрыхтоўцы паўстання і дастаўцы паўстанцам харчавання ў рэчаў. Арыштаваны, зняволены ў фартэцыі ў г. Дынабургу. Разам з *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гараднікам Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і іншым знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 аддадзены пад ПВС *(1416—2—12677—32-33адв.; 2601—1—5—7адв.; 3046—2—5—26адв.)*.

3231. **Курак Пётр** (Курек Петр), сын Рыгора Віктаравіча, дваранін Магілёўскай губ. Абвінавачаны ў пастаўцы паўстанцам зброі, арыштаваны. Паводле пастановы следчай камісіі і распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Валагодскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. На маёнтак бацькі ў Мсціслаўскім пав. (?) на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 накладзена забарона *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2003—1—211—70-71адв., 85-93, 98-101; 2514—1—2198—68)*.

3232. **Куранецкі Юзаф** (Курженецкий Осип). Служыў суддзёй Бельскага павятовага суда; тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

3233. **Куранткоўскі (Курантоўскі) Аляксандр** (Куржонтковский (Куржонтовский) Александр), сын Юзафа, дваранін Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—149адв.)*.

3234. **Куратнік Ян** (Куратник Иван), сын Мікалая, селянін. Да паўстання прыпісаны да Велікагацкай сельскай грамады Пінскага пав. За дачыненне да паўстання паводле распараджэнняў ЧВГМГ ад 20.03.1864 адпраўлены 20.03.1864 у г. Мінск для далейшай адсылкі ў г. Маскву *(295—1—2725—28)*.

3235. **Куркоўскі Аляксандр** (Курковский Александр), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—27)*.

3236. **Курмін Павел** (Курмин Павел), сын Алаізія, памешчык Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

3237. **Курнатоўскі Рафал** (Курнатовский Рафал), дваранін Ковенскай губ. Служыў у Рэзервовым сапёрным паўбатальёне рас. войска, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Савіцішкі Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—224)*.

3238. **Куроўскі Дамінік** (Куровский Доминик), бацька *Уладзіслава*, памешчык Брэсцкага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195адв.)*.

3239. **Куроўскі Ігнат** (Куровский Игнатий), сын *Райнольда*, дваранін Вілейскага пав. Да паўстання жыў у г. Вільні, служыў канцылярыстам Віленскага павятовага суда. Падчас паўстання ў яго знойдзены некаторыя рэчы паўстанцаў, таму западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці». Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—280; 1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19; 2532—1—15—11)*.

3240. **Куроўскі Райнольд** (Куровский Райнольд), бацька *Ігната*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Свечкі і мызай Дварэц Вілейскага пав. (532 дзес. зямлі). Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні і перадачы сыну паўстанцкіх рэчаў, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

3241. **Куроўскі Уладзіслаў** (Куровский Владислав), сын *Дамініка*, дваранін Брэсцкага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195адв.)*.

3242. **Куроўскі Юстын** (Куровский Устин), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73)*.

3243. **Курч Аляксандр** (Курч Александр), сын Ігната, памешчык. Нар. каля 1829 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў валоданні пісталетам, які быў знойдзены на могілках недалёка ад яго фальварка. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 27.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння ваеннага начальніка Веліжскага і Суражскага пав. ад 21.02.1864 аддадзены пад паліцэйскі нагляд. У 1865 г. разам з маці, сястрой і жонкай жыў ва ўласным маёнтку Прудзіны Суражскага пав. пад паліцэйскім наглядам. 16.04.1865 падаў прашэнне аб дазволе выехаць у г. СПб і Магілёўскую губ. для спаткання са сваякамі *(2514—1—2198—68; 2569—1—15—21, 55адв.-56; 3046—2—3—46адв.-47)*.

3244. **Курч Аляксандра** (Курч Александра), дачка Міхала, дваранка Суражскага пав. У яе маёнтку ў сажалцы знойдзены розныя дробныя прыналежнасці да стрэльбы. У сувязі з гэтым знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 27.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—46адв.-47)*.

3245. **Курч Міхал** (Курч Михаил). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 26.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—3)*.

3246. **Курэнін Ян** (Куренин Иван), мешчанін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—19)*.

3247. **Кутас Ян** (Кутас Иван), селянін, народжаны па-за шлюбам. Да паўстання прыпісаны да Навасёлкаўскай сельскай грамады Якшыцкай вол. Ігуменскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—35адв.)*.

3248. **Куткоўскі Ежы** (Кутковский Юрий), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр, потым яна на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—150; 2532—1—15—3адв.)*.

3249. **Куткоўскі Тэадор** (Кутковский Федор), сын Яна, дваранін Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

3250. **Куткоўскі Ян** (Кутковский Иван), сын Юзафа, дваранін Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

3251. **Кутырла (Катырла, Кацірла) Тамаш** (Кутырло (Котырло, Котирло) Томаш), незацверджаны дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1839 г. Да паўстання служыў арганістам пры касцёле. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля яго разбіцця ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў турме Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1527—103; 295—1—1588; 320—1—398—84)*.

3252. **Кухарскі Казімір** (Кухарскі Казімір), дваранін Вількамірскага пав. Вучыўся ў Харкаўскім універсітэце, які пакінуў самавольна. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—15адв.; 320—1—398—133; 1430—1—52163—600; 1527—1—4—12адв.)*.

3253. **Куцэвіч Казімір** (Куцевич Казимир), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

3254. **Куцэвіч Калікст** (Куцевич Каликст), сын *Міхала*, дваранін Троцкага пав. Падчас паўстання 19.05.1863 пакінуў месца жыхарства і 06.06.1863 вярнуўся. Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў гэты час у склад паўстанцкага атрада, павінен быў знаходзіцца пад следствам у ВілСК *(1416—6—274)*.

3255. **Куцэвіч Канстанцін** (Куцевич Константин), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў у Віленскім прыказе грамадскай апекі, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

3256. **Куцэвіч Міхал** (Куцевич Михаил), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Далкітаны Троцкага пав. З прычыны падазрэння датычна яго сына ва ўдзеле ў паўстанні Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3257. **Кучан Якуб** (Кучан Яков), сын Рафала, ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Гарадзішча Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Сасланы ў г. Салікаламск Пермскай губ., яго маёмасць прададзена *(295—1—1643—110адв.; 320—1—398—3)*.

3258. **Кучарэнка Пракофі** (Кучеренко Прокофий), селянін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 29.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 03.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

3259. **Кучук Аляксандр** (Кучук Александр), памешчык Мінскай (?) губ. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. сасланы ў Астраханскую губ. *(295—1—1643—108)*.

**Кучук-Сестранцэвіч Міхал** — гл. **Сестранцэвіч-Кучук Міхал**

3260. **Кучын Канстанцін** (Кучин Константин), памешчык Панявежскага і Шавельскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—10, 16; 2532—1—15—5)*.

3261. **Кучынская Зоф'я** (Кучинская София), дачка Мікалая, сястра *Кацярыны*, памешчыца. Нар. каля 1841 г. Западозрана разам з сястрой рас. уладамі ў прыёме паўстанцаў у сваім доме. З 31.10.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 18.08.1864 падала скончаную справу магілёўскаму губернатару. Падчас следства была на волі *(3257—1—17—4адв.-5; 3257—2—8—7)*.

3262. **Кучынская Іаана** (Кучинская Иоанна), дваранка. Да паўстання жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

3263. **Кучынская Кацярына** (Кучинская Екатерина), дачка Мікалая, сястра *Зоф'і*, памешчыца. Нар. каля 1847 г. Западозрана разам з сястрой рас. уладамі ў прыёме паўстанцаў у сваім доме. З 31.10.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 18.08.1864, скончыўшы справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства была на волі *(3257—1—17—4адв.-5; 3257—2—8—7)*.

3264. **Кучынскі Адам** (Кучинский Адам), дваранін. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. прысуджаны як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» да высылкі з радзімы *(295—1—1643—102)*.

3265. **Кучынскі Антоні** (Кучинский Антон), мешчанін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Трусава Антонія*, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(296—1—19—130-137)*.

3266. **Кучынскі Аўгуст** (Кучинский Август), дваранін. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у Тамбоўскай губ., 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—24-25; 1430—1—52758—22)*.

3267. **Кучынскі Дамінік** (Кучинский Доминик), сын Дамініка Міхалавіча (штабс-лекара), дваранін, каталік. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. З 1856 г. служыў акруговым доктарам ведамства дзяржаўных маёмасцяў. 02.1863 падаў прашэнне аб адстаўцы, пасля чаго займаўся прыватнай практыкай у Полацкім пав. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле распараджэння М. Мураўёва разам з *Давейкам Юзафам*, *Заленскім Ануфрыем*, *Лапіцкім Каспeрам* і *Яцкевічам Канстанцінам* 27.02.1864 адпраўлены з г. Полацка ў фартэцыю ў г. Дынабург «на бязвыходнае жыхарства пад асаблівы нагляд» да далейшага распараджэння *(1430—1—31259—71адв.; 1430—1—31602—146)*.

3268. **Кучынскі Канстанцін** (Кучинский Константин), селянін Сенненскага пав. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у г. Сянно. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава,

дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 3 гады ў Калужскую арыштанцкую роту *(162—1—116—64; 295—1—1527—101; 299—1—577—164-175; 320—1—398—282)*.

3269. **Кучынскі Караль** (Кучинский Карл), сын Аляксандра, селянін Сенненскага пав. Нар. каля 1849 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(295—1—1527—100; 2514—1—2198—68)*.

3270. **Кучынскі Ян** (Кучинский Иван), мешчанін Троцкага пав. Да паўстання жыў у мызе Рэлішкі памешчыка Шахны. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—14адв.; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

3271. **Кучэўскі Аляксандр** (Кучевский Александр), дваранін Цельшаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, за што прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання. Павешаны *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—16; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.)*.

3272. **Кучэўскі Эміль** (Кучевский Эмилий), сын Ігната, дваранін Барысаўскага ці Бабруйскага пав. Нар. каля 1843 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. Падчас праходжання праз в. Куршынавічы Слуцкага пав. западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і затрыманы сялянамі. Зняволены ў г. Брэсце. На следстве высвятлілася, што ніякага ўдзелу ў паўстанні не браў, але аднойчы сустрэў атрад паўстанцаў. Паводле пастановы ПВС пры Брэсцкай фартэцыі, канфірмаванай М. Мураўёвым 03.11.1863, «як нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. пад нагляд паліцыі без пазбаўлення правоў і без канфіскацыі маёмасці. У 1870 г. жыў у Пермскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У гэтым жа годзе выехаў з ссылкі і пасяліўся ў г. Смаленску. У 1877 г. атрымаў дазвол і вярнуўся ў г. Мінск. Кароткі час служыў обер-кандуктарам на чыгунцы ў г. Лібаве. У 1882 г. вярнуўся ў Мінск, пасяліўся ў доме Валькевіча на Белацаркоўнай вул. *(295—1—1643—101; 295—1—2149—31-32; 295—1—3492—95адв., 99-102; 320—1—398—96; 1430—1—52285—30)*.

3273. **Кучэўскі N.** (Кучевский N.), дваранін. Да паўстання арандаваў маёнтак Валосавічы Барысаўскага пав. Удзельнічаў разам з *Жоўткам N.* у паўстанні ў якасці камандзіра атрада, куды ўваходзіў, сярод іншых *Альшэўскі Вінцэнт*. Забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863, а потым канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—72, 87адв.; 320—1—398—197адв.; 1416—1—247; 1430—1—52163—125адв.)*.

3274. **Кучэўскі N.** (Кучевский N.), памешчык. Служыў у войску, паручнік. Да паўстання валодаў маёнткам Корсакі Троцкага пав. З'яўляўся камандзірам варты паўстанцкага атрада, разбітага пасля ля в. Буда. Сярод іншых у яго ўваходзілі *Былінскія Леан* і *Рамуальд*, *Сялявы Павел*, *Уладзіслаў* і *Яраслаў*, *Хрыстоўскі Міхал*. Захоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пазней сасланы на катаргу ў руднікі *(1416—6—274; 2001—1—898—51адв.)*.

3275. **Кушалеўскі (Капялеўскі) Аўгуст-Казімір** (Кушелевский (Капелевский) Август-Казимир), сын Роха і Марыяны Дунінай, брат Сімпліцыя-Элегія, Юзафа, Франца, Стэфана і Уладзіслава, дваранін Ковенскай ці Віленскай губ. ці Астрожскага пав. Валынскай губ. Нар. 19.07.1838 у с. Хмелева, хр. 21.07.1838 у Сялецкім касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падтрымаў захоп паўстанцамі г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў альбо паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання», сасланы ў Табольскую губ., а яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв., 526адв.; 2514—1—2198—68; 3257—1—53—2; 3257—2—2—19; 3286—2—1—5, 51-54)*.

3276. **Кушалеўскі Юзаф** (Кушелевский Иосиф), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

3277. **Кушлейка Мікалай** (Кушлейко Николай), сын Норберта, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання хаваў зброю (гл. *Чарняўскі Ігнат*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.06.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго

маёмасць 07.07.1864 на падставе патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—33; 1430—1—52163—414адв.; 3046—2—3—46адв.-47)*.

3278. **Кушлейка Сотар** (Кушлейко Сотер). Нар. у Ковенскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы ў Архангельскую губ., дзе ў 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі, атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—69адв.)*.

3279. **Кушлейка (Кушлэйка) Тамаш** (Кушлейко (Кушлэйко) Фома), памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў афіцэрскім чыне. Валодаў маёнткам Барткунішкі Ковенскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэнняў ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і 11.07.1863 і пастаноў КГП ад 24.07.1863 і 26.07.1863. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—16; 320—1—398—197; 1416—6—207; 1416—6—281; 1430—1—52163—125)*.

3280. **Кялчэўскі (Кяльчэўскі) Канстанцін-Ян-Марцэлі** (Келчевский (Кельчевский) Константин-Иван-Марцелий), сын Апалінарыя, брат *Яна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, у тым ліку ў знішчэнні тэлеграфных слупоў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 06.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Рашэннем ЧПА пры Яраслаўскім пяхотным палку і канфірмацыяй М. Мураўёва ад 06.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і чыну і ссылкі на пасяленне ў Томскую губ. Маёнтак Якшыцы ці Рэгіспаль Ігуменскага пав., якім ён валодаў разам з братам, секвестраваны *(162—1—116—64; 295—1—1643—89адв., 96; 295—1—1643—89; 296—1—25—104адв.; 296—1—89—31адв.-32; 296—1—90—16адв.-17; 299—1—577—164-175; 319—1—479—17; 320—1—398—282, 294-295; 320—2—98—37адв.; 1418—3—1—36адв.-37)*.

**Кялчэўскі Станіслаў** — гл. **Кільшэўскі Станіслаў**

3281. **Кялчэўскі (Кяльчэўскі, Кільчэўскі) Ян** (Келчевский (Кельчевский, Кильчевский) Иван), сын Апалінарыя, брат *Канстанціна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання арандаваў маёнтак у *Ракусы Кацярыны*. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загаду ЧВГМГ ад 15.10.1863. Маёнтак Якшыцы ці Рэгіспаль Ігуменскага пав., якім ён валодаў разам з братам, а таксама яго быдла (13 галоў) у *Р. К.* секвестраваны. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—88адв., 110; 296—1—89—31адв.-32; 296—1—90—7адв.-8; 319—1—479—17; 1418—3—1—36адв.-37; 1430—1—52163—167; 2003—2—34; 2514—1—2198—68адв.)*.

3282. **Кянзгайла Юзаф** (Кензгайло Иосиф), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—16в.; 1430—1—52163—205)*.

3283. **Кяневіч (Кіневіч) Канстанцін** (Кеневич (Киневич) Константин). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Падчас паўстання západозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з Мінскай губ. «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(295—1—1643—104; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

3284. **Кяневіч (Кіневіч) Францішак** (Кеневич (Киневич) Франц), сын Юльяна, памешчык Пінскага пав. М. Мураўёвым прызнаны вінаватым у двухразовым прыёме паўстанцаў у сваіх валоданнях і забеспячэнні іх харчаваннем і, як «нядобранадзейны», прысуджаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да высылкі «адміністрацыйным парадкам» у Томскую губ. На яго маёнтак Дубок Пінскага пав. 18.12.1864 накладзены секвестр паводле распараджэння МГГ. Сасланы, у 1864 г. падаў першае прашэнне аб дазволе прыбыць на радзіму. Пасля амністыі атрымаў дазвол вярнуцца. 12.1876 арандаваў маёнтак у памешчыка Горвата ў Мазырскім пав., у 1880 г. жыў у маёнтку Дубенец Пінскага пав. *(160—2—682—24, 108; 162—1—122—1, 21адв.; 295—1—1643—106, 111адв.; 295—1—3026—6; 295—1—3492—14; 296—1—89—73; 534—1—14—10; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.)*.

3285. **Кярсноўскі Валент** (Керсновский Валентий). Служыў судовым следчым Пружанскага пав., тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—615; 1430—1—52285—25адв.)*.

3286. **Кярсноўскі Нікадым** (Керсновский Никодим). Служыў старшынёй Гродзенскай палаты грамадзянскага суда, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

3287. **Кярсноўскі Пётр** (Керсновский Петр), сын Станіслава, бацька (?) *Тадэвуша*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Петраполін Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, за што аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 22.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863 *(1416—6—218).*

3288. **Кярсноўскі Пётр** (Керсновский Петр), сын Тамаша, муж Ганны, бацька Уладзіміра, Станіслава і Ганны, памешчык Барысаўскага пав. Нар. каля 1820 г. Да паўстання жыў у маёнтку Уцеха Барысаўскага пав. (277 дзес. зямлі, 200 руб. гадавога прыбытку, ацэнены ў 4000 руб.), якім валодаў разам з сястрой. Далучыўся да паўстанцкага атрада, які збіраўся каля яго маёнтка. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Высланы з радзімы, яго палова маёнтка Уцеха секвестравана 06.1865 паводле ўказа МГП і потым канфіскавана *(162—1—116—51; 296—1—89—44адв.; 295—1—1643—90адв., 94; 319—1—479—16адв.; 320—1—398—177, 220, 222, 401адв., 404; 320—2—98—38, 320—2—99—28адв.).*

3289. **Кярсноўскі Рафал** (Керсновский Рафаил), памешчык. За садзейнічанне паўстанню арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—93).*

3290. **Кярсноўскі Тадэвуш** (Керсновский Фадей), сын (?) *Пятра*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Петраполін Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275; 1416—6—277—3).*

3291. **Кярсноўскі Эдвард** (Керсновский Эдуард), памешчык Слонімскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. Да паўстання валодаў маёнткам Мілавіды Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 01.07.1863 і пастановы ГГП ад 18.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—16; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277; 1430—1—52163—601адв.).*

3292. **Кярсноўскі [Юзаф]** (Керсновский [Осип]). Да паўстання служыў сакратаром гарадавой думы г. Драгічына. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 18.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 257; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

3293. **Кярсноўскі Ян** (Керсновский (Керзновский) Иван), памешчык. Да паўстання валодаў мызай ля м. Гядройці Віленскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 20.06.1863 і пастановы ВілГП ад 25.06.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—252—5-23; 1416—6—254; 2532—1—15—11).*

# Л

3294. **Лабаноўская Тэадора** (Лабоновская Теодора), памешчыца Гродзенскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яе маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174-175адв.).*

3295. **Лабаноўскі Антоні** (Лобановский Антон), сын Базыля, аднадворац Чэрыкаўскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.).*

3296. **Лабаноўскі Марцін** (Лобановский Мартын), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—6).*

3297. **Лабаноўскі Юзаф** (Лобановский Иосиф), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Літошкі Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.).*

3298. **Лабаноўскі Ян** (Лабановский Иван), сын Аляксандра, дваранін Свянцянскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—18; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126).*

3299. **Лабяйкоўскі Фелікс** (Лабейковский Феликс), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 09.04.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 14.04.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

3300. **Лабунскі Юзаф** (Лабунский Иосиф), памешчык. Да паўстання валодаў хутарам Янаўка Рагачоўскага пав. (42 дзес. зямлі, хата, гаспадарчыя пабудовы, жывёла, рухомасць на 24,65 руб. і інш.). Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Хутар 03.07.1863 апісаны і секвестраваны. У МагВСК меў дачыненне да справы *Случаноўскага Пятра (2003—2—13; 3257—2—2—20)*.

3301. **Лабунскі N.** (Лабунский N.), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Намешкі Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11)*.

3302. **Лабуца Аляксандр** (Лабуца Александр), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (паміж 15.03.1864 і 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18; 1430—1—52163—166)*.

3303. **Лавецкі Уладзіслаў** (Ловецкий Владислав), дваранін Мінскай губ. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Канфірмацыяй А. Безака за дачыненне да паўстання прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(160—2—683—14)*.

3304. **Лавянецкі Густаў** (Ловенецкий Густав). Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання арандаваў маёнтак Гайкоўшчына Лідскага пав. графа Патоцкага. Паўстанцы пэўны час знаходзіліся ў маёнтку, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3305. **Лагіновіч Казімір** (Логинович Казимир). Да паўстання з'яўляўся доктарам у м. Смаргонь Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў паўстанцкі атрад, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

3306. **Лагіновіч Міхаліна** (Логинович Михалина), дваранка. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах», а таксама з прычыны падазронасці ў крымінальным злачынстве і супярэчлівых паказанняў на допытах канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі прысуджана да ссылкі. У 1871 г. жыла ў Кастрамской губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—127)*.

3307. **Лагінскі Юзаф** (Логинский Иосиф), аднадворац. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—20адв.)*.

3308. **Лаговін Канстанцін** (Логовин Константин), селянін. Нар. каля 1833 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав., жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 17.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Пазней вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі (?) *(295—1—1527—105; 296—1—19—281)*.

3309. **Лагонскі Юзаф** (Логонский Иосиф), аднадворац. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 10.08.1863 перадала яго справу ў ГорСК, 01.10.1863 справа вернута ў ЧСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.; 3366—1—5—12, 13адв.)*.

3310. **Лагоўскі Юзаф** (Лаговский Иосиф), сын Ігната. З'яўляўся лекарам, да паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне надворнага радцы. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Маёмасць падлягала канфіскацыі на падставе распараджэння валынскага губернатара ад 16.08.1863 і пастановы ВалГП ад 27.08.1863 *(1416—6—230)*.

3311. **Лагун Ануфры** (Лагун Онуфрий), селянін. Падчас паўстання не данёс уладам пра паўстанцаў, за што арыштаваны і прысуджаны да месячнага зняволення ў турме *(295—1—1643—116адв.)*.

3312. **Лагун Мікалай** (Лагун Николай). Нар. каля 1836 г. Да паўстання разам з *Юзафам* служыў аканомам у м. Пагрэбіцы (Пагрэбішча) Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Браў удзел у паўстанні, за што падлягаў арышту (да 02.09.1863) *(1527—1—4—50а-51, 93)*.

3313. **Лагун Юзаф** (Лагун Иосиф). Нар. каля 1838 г. Да паўстання разам з *Мікалаем* служыў аканомам у м. Пагрэбіцы (Пагрэбішча) Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Браў удзел у паўстанні, за што

падлягаў арышту (да 02.09.1863) *(1527—1—4—50а-51, 93).*

**Лагяўніцкі Ян — Лягяўніцкі Ян-Адам**

3314. **Лазавіцкі Валяр'ян** (Лазовицкий Валерьян), аднадворац Гродзенскага пав. Да паўстання жыў у фальв. Зобія Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

3315. **Лазарэвіч Ян** (Лазаревич Иван), сын Ігната, дваранін ці аднадворац Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе ўказа ВГП ад 17.08.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Указы аб канфіскацыі выдадзены ВГП 27.08.1864 і 15.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.08.1864 і 20.08.1864. Канфіскавана і прададзена (да 20.04.1865) яго рухомая маёмасць *(319—1—479—19; 320—1—398—618-620, 631-632; 320—2—98—39; 1416—3—21048—34; 1416—4—11416—51-53, 126, 285-286; 1430—1—52163—249-250, 285, 415, 535, 822адв.; 3257—2—2—20адв.).*

3316. **Лазіцкі (Лазінскі) Эдмунд-Караль** (Лозицкий (Лозинский) Эдмунд-Карл). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1885 г. жыў у эміграцыі, 15.03.1885 пазбаўлены рас. грамадзянства з забаронай знаходзіцца на тэрыторыі імперыі *(295—1—4063; 1430—1—52758—26адв.).*

3317. **Лазіцкі Канстанцін** (Лозицкий Константин), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—530адв.).*

3318. **Лазоўскі Аўгуст** (Лозовский Август), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(1416—3—21048—34; 3046—2—5—29адв.).*

3319. **Лазоўскі Вінцэнт** (Лазовский Вицентий), сын Юзафа, дваранін Слуцкага пав., праваслаўны. Западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцаў і падбухторванні да гэтага іншых, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—7адв.).*

3320. **Лазоўскі Лукаш** (Лозовский Лукаш), дваранін. Падчас паўстання захоўваў зброю, арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—116адв.).*

3321. **Лазоўскі Станіслаў** (Лозовский Станислав), памешчык Беластоцкага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—195адв.; 2532—1—15—8).*

3322. **Лазоўскі Эдвард** (Лозовский Эдуард), сын Вінцэнта, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Да паўстання жыў у маёнтку Клендзіна Навагрудскага пав., з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Міладоўскага Вітальда.* Удзельнічаў у баі ля в. Мілавіды Слонімскага пав., затым захоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 23.03.1864 аддадзены пад ПВС пры 120-м Серпухаўскім пяхотным палку ў г. Навагрудку. 28.03.1864 судовая справа скончана і перададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 02.04.1864 адпраўлена М. Мураўёву. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 18.05.1864 М. Крыжаноўскім, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. Пасля выдання амністыі ад 09.01.1874 яму вернуты правы дваранства. У 1875 г. жыў у г. Іркуцку. *(295—1—1643—116; 295—1—3537; 296—1—91; 299—1—579—298-307; 319—1—479—19; 320—1—398—3; 1430—1—52163—206).*

3323. **Лазоўскі Юзаф** (Лазовский Иосиф), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніку на 15 гадоў *(319—1—479—18адв.; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

3324. **Лазоўскі Якаў** (Лазовский Яков), сын Вінцэнта, дваранін Слуцкага пав., праваслаўны. Западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцаў і падбухторванні да гэтага іншых, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—7адв.).*

3325. **Лакіс Аляксандр** (Лакис Александр), сын Бярнарда, муж *Аляксандры Янаўны,* бацька дзвюх дачок і сына, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Страшныя ці Міхалова Полацкага пав. Падчас паўстання абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што ахвяраваў 10 руб. для паўстанцаў. 03.05.1863 памёр. 22.09.1863 на маёнтак, што перайшоў ва ўладанне жонкі, на падставе ўказа ВГП ад 22.08.1863 накладзены секвестр. Жонка 13.03.1865 падала прашэнне аб зняцці секвестру, які, аднак, 20.04.1865 яшчэ не зняты *(1416—3—21048—34; 1430—1—52163—116-119, 405адв., 430адв., 445адв., 446адв., 571, 666адв., 748-751, 820адв.; 3046—2—3—49адв.-50; 3046—2—5—29).*

3326. **Лакіс Аляксандра** (Лакис Александра), дачка Яна, жонка *Аляксандра*, маці дзвюх дачок і сына, памешчыца. Пасля смерці мужа ўступіла ў валоданне маёнткам Страшныя ці Міхалова Полацкага пав. З прычыны падазрэння датычна мужа ў падтрымцы паўстання 08.1863 яе маёнтак секвестраваны. 21.01.1864 жыла ў маёнтку Прудзінкі Дрысенскага пав., падала прашэнне аб зняцці секвестру *(1430—1—52163—116-119)*.

3327. **Лакіс Антоні** (Лакис Антон), сын Яна, муж *Марыі*, бацька *Мікалая*, памешчык, каталік. Нар. каля 1817 г. Да паўстання валодаў маёнткам Морачы (Мурогі) Полацкага пав. У яго служыла кухаркай *Селіванава Настасся*. Падчас паўстання хаваў у сваіх лясах паўстанцаў, у тым ліку сваякоў *Альшэўскіх Аляксандра* і *Вінцэнта*, і пастаўляў ім харчаванне, за што арыштаваны. Разам з сынам знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 07.08.1863 на падставе пастановы ВСК ад 22.06.1863 і ўказу ВГП ад 26.07.1863 накладзены секвестр. Пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 04.05.1864 М. Крыжаноўскім, прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі ў Кастрамскую губ., яго маёмасць падлягала секвестру. У 1871 г. з жонкай жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». У 1871 г. атрымаў дазвол прыбыць у Віцебскую губ. на 2 месяцы. У 1873 г. жыў у г. Смаленску, атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. *(1416—3—21048—34; 1416—4—11382; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—35146—74адв., 168; 1430—1—35430—2; 1430—1—35458—30-31; 1430—1—52163—199адв., 404, 430, 443, 447, 570, 823; 3046—2—3—49адв.-50; 3046—2—5—29)*.

3328. **Лакіс Караль** (Лакис Карл), сын Аляксандра, дваранін Віцебскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. жыў у г. Пярмі, вызвалены ад нагляду паліцыі з дазволам вярнуцца на радзіму на сталае жыхарства *(1430—1—35810—33-37; 1430—1—35834—93, 107)*.

3329. **Лакіс Марыя** (Лакис Мария), жонка *Антонія*, памешчыца Полацкага пав., каталічка. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 04.05.1864 М. Крыжаноўскім, прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру. У 1871 г. з мужам жыла пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—4—11382; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—35146—74адв., 168; 1430—1—35430—2; 1430—1—35458—30-31; 1430—1—52163—199адв., 404)*.

3330. **Лакіс Мікалай** (Лакис Николай), сын *Антонія*, памешчык Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Морачы (Мурогі) Полацкага пав. Падчас паўстання 28.04.1863 кантактаваў з *Альшэўскім Аляксандрам* у маёнтку Міхалова Полацкага пав. і ўзяў у яго каня. Западозраны рас. уладамі ў тым, што разам з бацькам хаваў у лясах яго маёнтка паўстанцаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 04.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 14.05.1864 высланы на месца ссылкі. Каля 21.09.1865 патануў у рацэ *(319—1—479—19; 1416—3—21048—34; 1416—4—11382; 1430—1—35430—2; 1430—1—52163—206адв., 404; 3046—2—3—50адв.-51; 3046—2—5—29)*.

3331. **Лаковіч Міхал** (Лакович Михал), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пензенскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2)*.

3332. **Лаковіч Уладзіслаў** (Лакович Владислав), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2)*.

3333. **Лакуцеўскі Юзаф** (Лакуцевский Иосиф), дваранін Ашмянскага пав. Нар. каля 1826 г. Да паўстання жыў у в. Мальцы Сенненскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 10.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(295—1—1527—101; 319—1—479—18; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

3334. **Ламановіч Баляслаў** (Ломанович Болеслав), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

3335. **Ламановіч Юзаф** (Ломанович Иосиф), дваранін Мсціслаўскага пав., да паўстання скон-

чыў Маскоўскі ўніверсітэт. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—19; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—20адв.; 3366—1—5—13адв.)*.

3336. **Ламінскі Аляксандр-Пётр** (Ломинский (Ламиниский) Александр-Петр), сын Антонія, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. Да паўстання жыў у Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але потым вяртанню ў яго валоданне. Памёр да 19.07.1867 *(1430—1—52163—194адв.; 2514—1—2198—68адв.; 3257—2—2—20адв.)*.

3337. **Ламінскі Антоні** (Ломинский Антон), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання валодаў маёнткамі Славенікі і Альжбетава Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—237адв.; 2514—1—2198—66; 3257—2—2—20)*.

**Лампіцкі Міхал** — гл. **Лямпіцкі Міхал**

3338. **Лангер Францішак** (Лангер Франц). Да паўстання жыў у г. Варшаве. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

**Ландсбэрг Данат** — гл. **Ляндсбэрг Данат**

3339. **Лапа Аляксандр (Дыянізі-Аляксандр)** (Лаппа Александр (Дионизий-Александр)), сын Дамініка-Юзафа Юзафавіча, брат Матэвуша-Міхала (хр. 01.10.1798), муж Антаніны Камар, бацька Леана-Дамініка (хр. 25.07.1831), Міхала (хр. 27.12.1833, абодва хр. у Харамцоўскім касцёле), *Антонія-Язафата*, Баляслава-Гілярыя (хр. 11.11.1843) і Вацлава-Яна (хр. 17.07.1846), памешчык Навагрудскага, Бабруйскага і Барысаўскага пав., каталік. Хр. 09.10.1802 у Мікулінскім касцёле. У 1830–1840-я гг. жыў у спадчынным маёнтку Рудабелка Бабруйскага пав. Узвышаўся па кар'ернай лесвіцы: з'яўляўся старшынёй межавага суда Бабруйскага пав. (1832–1835 гг.), бабруйскім павятовым маршалкам (06.10.1844–1856 гг.). Да паўстання жыў у м. Крошын Навагрудскага пав., быў мінскім губернскім маршалкам; калежскі асэсар. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 секвестравана. Сасланы (да 01.06.1864) у Пермскую[112] губ., а яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу[113] *(295—1—1643—118адв.; 319—2—1734; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21; 2532—1—15—13адв.)*.

3340. **Лапа Антоні-Язафат** (Лаппа Антон-Иозефат), сын *Аляксандра* і Антаніны Камар, муж Аляксандры Аляксандраўны Быкоўскай, бацька Марыі-Антаніны, дваранін Навагрудскага і Бабруйскага пав., каталік. Хр. 01.10.1841. Да паўстання жыў у м. Крошын Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1878 г. жыў у г. Мінску *(319—2—1734; 320—1—398—3)*.

3341. **Лапа Аўгустын** (Лаппа Августин), сын тытулярнага радцы Юзафа Францішкавіча (у 1865 г. жыў у г. Віцебску на Падзвінскай вул. ва ўласным доме), брат інжынер-капітана Іпаліта, ксёндз. Нар. каля 1826 г. ці каля 1832 г., паходзіў з дваранаў Аршанскага пав. У 1839 г. паступіў у гімназію ў г. Віцебску, пасля заканчэння шасці класаў уведзены ў духоўнае званне. 17.09.1847 паступіў у Мінска-Магілёўскую архіепархіяльную семінарыю, 27.06.1851 у г. Вільні атрымаў сан святара. Пасля гэтага прызначаны вікарыем у касцёл м. Гарбачэва Полацкага пав., 12.09.1855 — выкладчыкам закону Божага ў Невельскае павятовае вучылішча, у 1856 г. — адміністратарам касцёла ў г. Невелі. За 1853–1856 гг. узнагароджаны цёмнабронзавым медалём на Уладзімірскай стужцы і медалём на Андрэеўскай стужцы. Да паўстання разам з *Кавецкім Антоніем* служыў у Гарбачэўскім касцёле. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў агітацыі сялян прыняць у ім удзел, за што арыштаваны (да 14.08.1863). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 13.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. ПВС прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення святарскага сану і правоў дваранства, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 8 гадоў на катаргу. Канфіскавана і пра-

---

[112] У некаторых дакументах паведамляецца, што сасланы ў Наўгародскую губ., але гэта памылка.

[113] З дваранскай справы роду Лапаў (НГАБ. — Ф. 319. — Воп. 2. — Спр. 1734) вынікае, што яго сын Міхал таксама мог быць сасланы, а потым вярнуўся і быў запісаны ў склад сталых жыхароў г. Варшавы, аднак прамых звестак пра гэта не знойдзена.

дадзена яго рухомая маёмасць. Адбываў пакаранне на Акутоўскім рудніку. У 1874 г. атрымаў амністыю і правы дваранства. 06.06.1891 указам Аляксандра III яму вернуты сан святара, 14.08.1892 указам архібіскупа прызначаны вікарыем касцёла ў г. Варонежы. У 1899 г. атрымліваў 275 руб. ср. утрымання (з выключэннем 5 %) *(319—1—479—19; 1416—3—21048—34; 1430—1—52163—46, 206адв., 405, 821адв.; 1781—25—236—1адв.-3; 2500—1—179—1-10, 13-21; 2818—1—9—10; 3046—2—3—50адв.-51; 3046—2—5—29)*.

3342. **Лапа Пётр** (Лаппо (Лаппа) Петр), сын Аляксандра, дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у м. Крошын Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. 07.04.1863 захоплены ў палон пасля бою ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены ў г. Навагрудку, адкуль потым пераведзены ў г. Мінск. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву. Пасля амністыі 1874 г. вярнуўся на радзіму. 12.1876 жыў ва ўласным фальв. Ляхаўка Навагрудскага пав. *(295—1—1562—16; 295—1—2420—11адв.; 295—1—3026—18адв.-19; 296—1—296—3; 320—1—398—2адв.)*.

3343. **Лапа Юзаф** (Лаппа Иосиф), сын Вінцэнта Пракопавіча і Марыяны Трафімаўны, селянін, каталік. Нар. 17.09.1844 у в. Жары Аршанскага пав., хр. 19.09.1844 у Руднянскім касцёле. Прыпісаны да с. Зялёнае Аршанскага пав. У 1859–1862 гг. вучыўся ў павятовым вучылішчы ў г. Магілёве. 31.08.1862 атрымаў ад уладальніка с. Зялёнае стацкага радцы Яўстаха Чарвінскага пасведчанне аб спыненні часоваабавязаных адносінаў. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах у г. Горкі. 24.04.1863 увайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, удзельнічаў ў захопе Горкаў, у тым ліку ў нападзе на казармы мясцовага батальёна ўнутранай варты. З атрадам пакінуў Горкі і 30.05.1863 затрыманы сялянамі разам з *Лапам Юзафам* ля в. Гразівец Чэрыкаўскага пав. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 14.08.1864 перадала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На следстве і судзе выказаў раскаянне і прасіў літасці. Канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў *(3256—2—48; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—21; 3286—2—1—7адв., 190-192)*.

3344. **Лапарэвіч Канстанцін** (Лопаревич Константин), сын Юзафа, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Крывіна Лепельскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав., арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На Крывіна 15.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 і ўказа ВГП ад 22.02.1864 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Пазней высланы з радзімы *(1416—3—21048—34; 1430—1—52163—410адв., 431, 449адв., 822; 3046—2—3—50адв.-51; 3046—2—5—29)*.

3345. **Лапата Агрыпіна** (Лопато Агрипина), сваячка *Караля*, памешчыца Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання выслана ў Ніжагародскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5адв.)*.

3346. **Лапата Караль** (Лопато Карл), сваяк *Агрыпіны*, памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5адв.)*.

3347. **Лапата Людвік** (Лопатто Людвиг). Да паўстання служыў сакратаром Цельшаўскай гарадавой ратушы. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

3348. **Лапатэцкі Канстанцін** (Лопатецкий Константин), дваранін Радамскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

3349. **Лапацінская Ганна** (Лопацинская Анна), дачка Аляксандра, сястра (?) *Вацлава*, памешчыца. Да паўстання валодала маёнткамі Багданава Дзісенскага і Дрысвяты Новааляксандраўскага пав. У яе жыла *Залеская Анеля*. За дачыненне да паўстання яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства Тамбоўскую губ. На падставе ўказа ад 10.12.1865 яе маёмасць падлягала абавязковаму продажу. Пазней перасялілася ў г. Рыгу, дзе ў 1869 г. атрымала чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем ад нагляду паліцыі

і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—45-46; 1416—6—280; 1430—1—52285—8; 2532—1—15—3адв., 12).*

3350. **Лапацінская Ідалія** (Лопацинская Идалия), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19).*

3351. **Лапацінскі Вацлаў (Венцаслаў)** (Лопатинский Вацлав (Венцеслав)), сын Аляксандра, брат (?) *Ганны*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Юдзіцін Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі, «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. На падставе ўказа ад 10.12.1865 яго маёмасць падлягала абавязковаму продажу. Пазней атрымаў частковую амністыю і перасяліўся ў Варонежскую губ., дзе атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—50-51; 1416—6—280; 1430—1—52285—8; 2532—1—15—12).*

3352. **Лапацінскі Вільгельм** (Лопацинский Вильгельм), сын Ігната, брат Канстанціна (псіхічна хворага) і Ігната (служыў у г. Маскве), граф, памешчык. Да паўстання разам з братамі валодаў маёнткам Тадуліна з фальв. Анадвор, Паяначы і Станіслававა Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў і пазбег пакарання *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—18; 1416—6—280).*

3353. **Лапацінскі Ігнат** (Лопацинский Игнатий), памешчык Дрысенскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў адкрыцці ў сваіх уладаннях школ «са злачыннай мэтай». Арышаваны. Разам з *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гарадніком Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і іншымі знаходзіўся пад следствам у ДСК. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 пастанову пра ступень яго вінаватасці павінна была вынесці ваенна-судовая камісія *(1416—2—12677—32-33адв.).*

3354. **Лапацінскі Клаўдзі** (Лопатинский Клавдий), сын Аляксандра, дваранін Дзісенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(1416—6—281; 3046—2—5—29адв.).*

3355. **Лапацінскі Якуб** (Лопацинский Яков), дваранін Ковенскай (?) губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.).*

**Лапінскі Адам** — гл. **Ліпінскі Адам**

3356. **Лапінскі Баляслаў** (Лапинский Болеслав), дваранін. Да паўстання разам з братам валодаў некалькімі дзесяцінамі зямлі ў Беластоцкім пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—18адв.).*

3357. **Лапінскі Вінцэнт** (Лапинский Винцентий), шляхціц. Да паўстання жыў у Бацягольскай парафіі Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

3358. **Лапінскі Казімір** (Лапинский Казимир), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201адв.).*

3359. **Лапінскі Міхал** (Лапинский Михаил), мешчанін г. Панявежа. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—18адв.).*

3360. **Лапінскі Нікадым** (Лапинский Никодим), дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

**Лапінскі Эдвард** — гл. **Ліпінскі Эдвард**

3361. **Лапіцкі Гектар** (Лапицкий Гектор), сын Яна Іаахімавіча і Юліі, муж Юзэфы Якубоўскай, бацька Яна, Антонія, Гілярыя, Ядвігі і Ванды, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе,

выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Да паўстання валодаў маёнткам Пціч Мінскага пав., ацэненым ў 40 тыс. руб., з якога павінен быў выплачваць маці штогод 200 руб. Падчас паўстання 09.1863 прызначаны *Аскеркам Міхалам* на пасаду мінскага ваяводы. Арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёнтак Пціч з рухомай маёмасцю ў 840,2 руб. 11.1863 секвестраваны паводле распараджэння МГП, а потым канфіскаваны. 03.1864 Пціч аддадзена ў арэнду інжынер-падпаручніку Сцыпіёну Беліновічу. За жонкай засталіся сядзіба Ратамка і засценкі Ваські і Самулеўшчына Мінскага пав. У 1883 г. дамогся вяртання правоў дваранства *(295—1—1643—115, 122адв., 124; 295—1—1708—7-8; 296—1—89—28; 299—1—579—165-177; 319—1—479—19; 320—1—398—462, 472; 320—2—98—39; 320—2—99—31б адв.-31в; 534—1—14—5, 8; 1430—1—52163—375; 3256—2—29—28-29).*

3362. **Лапіцкі Каспер** (Лапицкий Каспер), дваранін, каталік. Западозраны рас. уладамі ў «захоўванні ў сябе падазроных лістоў, нататак і сшытка са словамі пра Касцюшку». Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле распараджэння М. Мураўёва разам з *Давейкам Юзафам*, *Заленскім Ануфрыем*, *Кучынскім Дамінікам* і *Яцкевічам Канстанцінам* 27.02.1864 адпраўлены з г. Полацка ў фартэцыю ў г. Дынабург «на бязвыхаднае жыхарства пад асаблівы нагляд» да далейшага распараджэння. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 28.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—146; 3046—2—3—53адв.-54).*

3363. **Лапіцкі Эдвард** (Лапицкий Эдуард), дваранін Полацкага пав., каталік. Абвінавачаны рас. уладамі ў чытанні 19.10.1861 у Полацкім дамініканскім касцёле «падбухторнага гімна са свечкай, абвязанай чорным крэпам, на якім быў выяўлены белы аднагаловы арол». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «наводзіць падазрэнне» 13.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—51адв.-53; 3046—2—5—29).*

3364. **Лапіцкі Юльян** (Лапицкий Юлиан), памешчык Мінскага пав. Служыў міравым пасярэднікам, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—118адв., 122; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21; 2532—1—15—13).*

3365. **Лапінянскі Рыгор** (Лапинянский Григорий), сын Міхала, селянін Барысаўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Нястанавічы Барысаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, у тым ліку ў сутычках з рас. войскамі, арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.10.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—176; 295—1—1643—117).*

3366. **Лапкоўскі Антоні** (Лапковский Антон), сын Стэфана, аднадворац. Нар. каля 1831 г. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці У 1864 г. разам з братам *Рыгорам* высланы «адміністрацыйным парадкам» у Томскую губ. на пасяленне, прыпісаны да Вазнясенскай вол. Каінскай акругі. У 1875 г. разам з братам падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму за свой кошт, якое было задаволена. 25.11.1875 атрымаў у Каінскай акрузе дакументы на дарогу, 11.1876 прыбыў у Ігуменскі пав. Пасяліўся з братам у маёнтку Раванічы Ігуменскага пав. Не знайшоў спосабаў заробку, з-за чаго 20.01.1877 падаў прашэнне з братам аб дазволе вярнуцца ў Томскую губ. і выдачы грошай на пераезд. Атрымаў дазвол, але без выдачы грошай. Не меў сям'і *(295—1—2420—17адв.; 295—1—2750).*

3367. **Лапкоўскі Рыгор** (Лапковский Григорий), сын Стэфана, аднадворац. Нар. каля 1828 г. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. У 1864 г. разам з братам *Антоніем*, сястрой Тэадорай, жонкай Людвікай Барталамееўнай (нар. каля 1834), сынам Стэфанам (нар. каля 1863) і дачкой Паўлінай (нар. каля 1861) высланы «адміністрацыйным парадкам» у Томскую губ. на пасяленне, прыпісаны да Вазнясенскай вол. Каінскай акругі. У ссылцы памерлі яго дзеці, але нарадзіліся іншыя: Уршуля (нар. каля 1866), Каміла (нар. каля 1868), Вікторыя (нар. каля 1871), Францішак (нар. каля 1874). У 1875 г. разам з братам падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму за свой кошт, якое было задаволена. 25.11.1875 атрымаў у Каінскай акрузе дакументы на дарогу, 11.1876 прыбыў у Ігуменскі пав. Відавочна, па дарозе ў 1876 г. нар. яго дачка Марыя. Пасяліўся з сям'ёй у маёнтку Раванічы Ігуменскага пав. Не знайшоў спосабаў заробку, з-за чаго 20.01.1877 падаў з жонкай і братам прашэнне аб дазволе вярнуцца ў Томскую губ. і выдачы грошай на пераезд. Атрымаў дазвол, але без выдачы грошай *(295—1—2420—17адв.; 295—1—2750).*

**Лаппо Аляксандр** — гл. **Лапа Аляксандр**

**Лаппо Антоні-Язафат** — гл. **Лапа Антоні-Язафат**

**Лаппо Аўгустын** — гл. **Лапа Аўгустын**
**Лаппо Пётр** — гл. **Лапа Пётр**

3368. **Лапушэўскі N.** (Лапушевский N.). Да паўстання служыў доктарам у г. Себежы. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Себежскім (?) пав. Сасланы (да 26.02.1864) на катаргу *(1430—1—31812).*

3369. **дзю Ларан Нестар** (дю-Лоран (Дюлоран) Нестор), мешчанін г. Варшавы. Нар. каля 1829 г. Да паўстання служыў запасным начальнікам чыгуначнай станцыі ў г. Вільні. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў і пазбег пакарання. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(319—1—479—10, 18; 320—1—398—221адв.; 1527—1—4—90-91).*

3370. **дэ Ларзак Ян** (де-Ларзак Иван), памешчык. Валодаў часткай маёнтка Загор'е Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—11; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.).*

3371. **Ласіцкая** (народжаная **Ласіцкая**) **Магдалена** (Лосицкая (урожденная Лосицкая) Магдалена), сястра Кацярыны (v. Стравінскай), *Тадэвуша* і Юзэфы (v. Абрамовіч), жонка *Вінцэнта*, дваранка. Нар. каля 1839 г. Да паўстання жыла з братам і мужам у засц. (вак.) Масцішча Ігуменскага пав. 13.10.1863 сяляне суседняй в. Жабіхава Парфён, Міхаіл і Лук'ян Емяльянавічы Шуканы данеслі рас. уладам, што з яе дома выходзіў чалавек і нёс з сабой «штосьці пакрытае белай сурвэткай» (у іншай фармулёўцы — «вялікі клунак, у якім, як заключаюць, абавязкова змяшчалася ні што іншае, як харчаванне»). Западозрана рас. уладамі ў забеспячэнні паўстанцаў харчаваннем, арыштавана і 15.10.1863 дастаўлена ваеннаму начальніку 3-га стана Ігуменскага пав. Знаходзілася пад следствам у ІСК, адмаўлялася ад абвінавачванняў. Мясцовыя жыхары прызналі, што «за Ласіцкімі ні добрага, ні дрэннага нічога не заўважалі». Затым яе справа перададзена ў МСК, якая рашэннем ад 21.12.1863 на падставе пэўных рознагалоссяў у паказаннях і з фармулёўкай «навакольныя жыхары за добранадзейнасць іх у палітычных адносінах не паручыліся», прызнала яе «нядобранадзейнай». 24.12.1863 справа пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкім М. Мураўёву з прапановай выслаць яе ў «вялікарасійскія губерні». Рашэннем М. Мураўёва ад 18.01.1864 прысуджана да ссылкі разам з мужам на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. Падчас перавозкі з месца жыхарства ў г. Ігумен (каля 24.02.1864) захварэла і вернута дадому, дзе адразу нарадзіла сына Генрыка. 17.03.1864 падала прашэнне на імя В. Забалоцкага з просьбай аб пераглядзе яе справы, аднак 12.06.1864 адпраўлена з Ігумена ў г. Мінск для далейшай адпраўкі на месца ссылкі. Памылкова саслана ў Томскую губ., дзе і пакінута. *(295—1—1643—120адв., 122адв.; 296—1—66).*

3372. **Ласіцкі Андрэй** (Лосицкий Андрей), шляхціц. Падчас паўстання за дачыненне да забойства 19.09.1863 А. Ляцкага арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—117адв.).*

3373. **Ласіцкі Вінцэнт** (Лосицкий Викентий), сын Базыля, муж *Магдалены*, швагер Кацярыны (v. Стравінскай), *Тадэвуша* і Юзэфы (v. Абрамовіч), дваранін (ці шляхціц) Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1828 г. Да паўстання жыў са шваграм і жонкай у засц. (вак.) Масцішча Ігуменскага пав., непісьменны. 13.10.1863 сяляне суседняй в. Жабіхава Парфён, Міхаіл і Лук'ян Емяльянавічы Шуканы данеслі рас. уладам, што з яго дома выходзіў чалавек і нёс з сабой «штосьці пакрытае белай сурвэткай» (у іншай фармулёўцы — «вялікі клунак, у якім, як заключаюць, абавязкова змяшчалася ні што іншае, як харчаванне»). Западозраны рас. уладамі ў забеспячэнні паўстанцаў харчаваннем, арыштаваны і 15.10.1863 дастаўлены ваеннаму начальніку 3-га стана Ігуменскага пав. Затым зняволены ў Ігуменскім турэмным замку, знаходзіўся пад следствам у ІСК. На следстве сцвярджаў, што ў гэты дзень увогуле не быў дома, а ездзіў у м. Бярэзіна Ігуменскага пав. і вярнуўся ўночы. Мясцовыя жыхары прызналі, што «за Ласіцкімі ні добрага, ні дрэннага нічога не заўважалі». 28.11.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ, якім перададзена ў МСК, якая рашэннем ад 21.12.1863 на падставе пэўных рознагалоссяў у паказаннях і з фармулёўкай «навакольныя жыхары за добранадзейнасць іх у палітычных адносінах не паручыліся», прызнала яго «нядобранадзейным». 24.12.1863 справа пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкім М. Мураўёву з прапановай выслаць яго ў «вялікарасійскія губерні». Рашэннем М. Мураўёва ад 18.01.1864 прысуджаны да ссылкі разам з жонкай на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. 12.06.1864 адпраўлены з г. Ігумена ў г. Мінск для далейшай адпраўкі на месца ссылкі. Памылкова сасланы ў Томскую губ., дзе і пакінуты. 29.10.1866 даваў пісьмовыя тлумачэнні Томскай экспедыцыі аб ссыльных пра абставіны свайго прыбыцця ў г. Томск *(295—1—1643—120адв., 122 адв.; 296—1—66; 1418—3—1—42адв.-43).*

3374. **Ласіцкі Мацей** (Лосицкий Матвей), сын Рыгора, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар.

20.12.1808. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Абвінавачаны ў «нядобранадзейных дзеяннях» і дастаўцы харчавання паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1865 г. разам з жонкай Марыянай і сынамі Антоніем, Вінцэнтам і Юзафам (ці Антоніем, Сымонам і Якубам) высланы ў Томскую губ. на пасяленне. У 1874 г. жонка вярнулася з сям'ёй на радзіму і 06.1882 жыла ў засц. Зімнікі Ігуменскага пав. *(295—1—2420—18; 295—1—3492—67, 84адв.; 320—2—98—17-18; 1418—3—1—42адв.-43)*.

3375. **Ласіцкі Тадэвуш** (Лосицкий Фадей), сын Юзафа, брат Кацярыны (v. Стравінскай), *Магдалены* і Юзэфы (v. Абрамовіч), швагер *Вінцэнта*, дваранін (ці шляхціц) Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання жыў з сястрой і шваграм у засц. (вак.) Масцішча Ігуменскага пав., пісьменны. 13.10.1863 сяляне суседняй в. Жабіхава Парфён, Міхаіл і Лук'ян Емяльянавічы Шуканы данеслі рас. уладам, што з яго дома выходзіў чалавек і нёс з сабой «штосьці пакрытае белай сурвэткай» (у іншай фармулёўцы — «вялікі клунак, у якім, як заключаюць, абавязкова змяшчалася ні што іншае, як харчаванне»). Западозраны рас. уладамі ў забеспячэнні паўстанцаў харчаваннем, арыштаваны і 15.10.1863 дастаўлены ваеннаму начальніку 3-га стана Ігуменскага пав. Затым зняволены ў Ігуменскім турэмным замку, знаходзіўся пад следствам у ІСК. На следстве сцвярджаў, што ў гэты дзень увогуле ездзіў у вак. Рачыборкі Ігуменскага пав. Мясцовыя жыхары прызналі, што «за Ласіцкімі ні добрага, ні дрэннага нічога не заўважалі». Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая рашэннем ад 21.12.1863 на падставе пэўных рознагалоссяў у паказаннях і з фармулёўкай «навакольныя жыхары за добранадзейнасць іх у палітычных адносінах не паручыліся», прызнала яго «нядобранадзейным». 24.12.1863 справа пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкім М. Мураўёву з прапановай выслаць яго ў «вялікарасійскія губерні». Рашэннем М. Мураўёва ад 18.01.1864 прысуджаны да ссылкі на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. 12.06.1864 адпраўлены з г. Ігумена ў г. Мінск для далейшай адпраўкі на месца ссылкі. Памылкова сасланы ў Томскую губ., дзе і пакінуты. 29.10.1866 даваў пісьмовыя тлумачэнні Томскай экспедыцыі аб ссыльных пра абставіны свайго прыбыцця ў г. Томск *(295—1—1643—122адв.; 296—1—66; 1418—3—1—42адв.-43)*.

3376. **Ласкі Баніфацы** (Лаский (Ласский) Бонифаций), сын Вінцэнта Юр'евіча, шляхціц Барысаўскага ці Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую (ці ў Табольскую) губ. *(162—1—116—137; 295—1—1643—123адв.; 319—1—479—19; 320—1—398—573, 575, 577-578, 594, 639; 320—2—98—39; 1430—1—52163—242)*.

3377. **Ласкі Францішак** (Ласский Франц), сын Юзафа, дваранін Сенненскага пав., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам Магілёўскай крымінальнай палаты. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—19; 320—1—398—127; 320—2—98—39; 1416—3—21048—34адв.; 1430—1—52163—597; 2003—2—96—7; 2514—1—2198—68адв.; 2616—1—40—14)*.

3378. **Ласоўскі (Лясоўскі) Антоні** (Ласовский (Лясовский) Антоний), сын Міхала, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні ў складзе атрада *Машэўскага Уладзіслава*, удзельнічаў 20.04.1863 у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав., пасля якога ўзяты ў палон. Зняволены ў астрозе г. Слуцка. Знаходзіўся пад следствам у ССК. 05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—1643—123адв.; 319—1—479—19; 1430—1—52163—206; 1524—1—1—7; 1525—1—2—7адв.-8)*.

3379. **Ласоўскі [Аркадзь]** (Лосовский [Аркадий]). Да паўстання служыў гараднічым. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—29адв.)*.

3380. **Ласоўскі (Лісоўскі)) Мікалай** (Лоссовский (Лассовский, Лисовский)) Николай), сын Вінцэнта і Юліі, брат *Паўла*, дваранін Аршанскага пав., каталік. 22.04.1863 разам з братам і *Івановым Аляксеем* затрыманы са зброяй у руках сялянамі пры праездзе праз Аршанскі пав., калі суправаджаў брата. Зняволены ў г. Смаленску. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру. На маёнтак яго маці Макаранкі Аршанскага пав. пастановай МагГП ад 19.07.1863 накладзены паліцэйскі нагляд. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 прызнаны невінаватым у абвінавачаннях і вернуты на месца жыхарства на парукі. З яго маёмасці належала спагнаць 10-працэнтны збор *(1430—1—31588—15-22адв.; 2003—1—278; 2514—1—2198—68адв.)*.

3381. **Ласоўскі Павел** (Лоссовский (Лассовский) Павел), сын Вінцэнта і Юліі, брат *Мікалая*,

дваранін Аршанскага пав., каталік. Нар. каля 1824 ці каля 1832 г. Да паўстання паступіў на службу аканомам да памешчыка Велімовіча. 22.04.1863 разам з братам і *Івановым Аляксеем* затрыманы са зброяй у руках сялянамі пры праездзе праз Аршанскі пав. да месца службы. Зняволены ў г. Смаленску. Яго маёмасць секвестравана. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. На маёнтак яго маці Макаранкі Аршанскага пав. пастановай МагГП ад 19.07.1863 накладзены паліцэйскі нагляд. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 прызнаны невінаватым у абвінавачаннях і вернуты на месца жыхарства на парукі. З яго маёмасці належала спагнаць 10-працэнтны збор *(1430—1—31588—15-22адв.; 2003—1—278; 2514—1—2198—68адв.)*.

3382. **Ласоўскі Рыгор** (Лосовский Григорий), сын Рыгора. Да паўстання жыў ва ўроч. Альшэва Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3)*.

3383. **Ластоўскі Леапольд** (Ластовский Леопольд), дваранін Віленскага пав. Да паўстання жыў у г. Вільні ў друкарні Адама Кіркора. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. Пасля прысуд заменены на пазбаўленне правоў стану, канфіскацыю маёмасці і ссылку на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—18; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—149адв., 603адв.)*.

3384. **Ластоўскі Пётр** (Ластовский Петр), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—521)*.

3385. **Латвінскі Ян** (Латвинский Иван), сын Мікалая ці Нікадыма, селянін. Да паўстання жыў у в. Горныя Налібокі Навагрудскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага, высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12адв.; 295—1—2725—9адв.)*.

3386. **Латочка Эмерык** (Лоточка Америк), брат Адама, памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў 60 дзес. зямлі ў засц. Шармукі Свянцянскага пав. Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства, таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280)*.

3387. **Латыч (Лотыч, Лотач) Павел** (Латыч (Лотыч) Павел), сын Станіслава, ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле Св. Міхала г. Віцебска. Абвінавачаны рас. уладамі ў «закліку да парафіянаў аб усталяванні асобых пастоў і літаній». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 21.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда 22.02.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Перм. На яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—34; 1430—1—52163—427адв., 608, 723адв.; 1430—1—52285—44, 58адв.; 3046—2—3—53адв.-54; 3046—2—5—29)*.

**Лаўгін Казімір** — гл. **Ляўгін Казімір**

3388. **Лаўр Казімір** (Лавр Казимир), дзяржаўны селянін Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 03.11.1863 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—167)*.

3389. **Лаўр N.** (Лавр N.), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. прысуджаны да ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1643—118)*.

3390. **Лаўрановіч (Лаўрыновіч) Юзаф** (Лавренович (Лавринович) Иосиф), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—18; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

3391. **Лаўрыновіч Вінцэнт** (Лавринович Винцентий), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—205)*.

3392. **Лаўрыновіч Станіслаў** (Лавринович Станислав), аднадворац Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

3393. **Лаўрыновіч Фердынанд** (Лавринович Фердинанд), сын Яна, дваранін, каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 17.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—50адв.-51; 3046—2—5—29)*.

**Лаўрыновіч Юзаф** — гл. **Лаўрановіч Юзаф**

3394. **Лаўрыновіч Ян** (Лавринович Иван), мешчанін Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

3395. **Лаўскі Павел** (Лавский Павел), сын Аўгуста, селянін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага, высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—10)*.

3396. **Лаўскі Панцялей** (Лавский Пантелей), сын Канстанціна, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гердаўкаўскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—9адв.)*.

3397. **Лаўцэвіч Тэафіл** (Лавцевич Феофил), дваранін Ковенскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238; 2616—1—40—59)*.

3398. **Лацэўскі Пётр** (Лацевский Петр), селянін. За прамаўленне «дзёрзкіх словаў супраць Свяшчэннай асобы Гасудара Імператара» арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—116)*.

3399. **Лашкевіч Андрэй** (Лашкевич Андрей), сын Алены, бацька Міхала, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, надворны радца. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—20)*.

3400. **Лашкевіч (Ляшкевіч) Андрэй** (Лашкевич (Ляшкевич) Андрей), сын Тэадора, дваранін Барысаўскага альбо Кобрынскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцім атрадзе, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—128, 156; 295—1—1643—116; 319—1—479—19; 320—1—398—2адв., 533, 537-538, 644; 320—2—98—39; 1430—1—52163—526)*.

3401. **Лашкевіч Сымон** (Лашкевич Семен). Да паўстання служыў сакратаром Аршанскага магістрата, калежскі сакратар. Паводле даносу, які пазней не пацвердзіўся, трапіў пад следства ў АСК, якая 17.12.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У 1863 г. звольнены са службы. Страціўшы службу, апынуўся ў складаным матэрыяльным стане. У 1866 г. жыў у г. Оршы, служыў лакеем «для кармлення дзяцей» *(2003—2—96—38адв., 54адв.; 3255—1—14—3адв.)*.

3402. **Лашкевіч Феліцыян** (Лашкевич Фелициан), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у касцёле ў г. Навагрудку. Удзельнічаў у паўстанні разам з *Пуслоўскім Адамам* у якасці арганізатара і камандзіра атрада ў Навагрудскім пав., у які ўваходзілі *Багдановіч Ян*, *Баранцэвіч Ксаверы*, *Берасневіч Яўген*, *Букрэеў Андрэй*, *Валюк Пракоп*, *Гарэла Рыгор*, *Гнусевіч Адам*, *Грыцкевіч Каятан*, *Дабашынскі Рыгор*, *Жвірздоўскі Геранім*, *Жылка Раман*, *Захараў Раман*, *Іваноўскі Эдмунд*, *Карквіль Караль*, *Каролька Аляксандр*, *Карповіч Юзаф*, *Ківач Юзаф*, *Кірко Ксаверы*, *Лапа Пётр*, *Максімовіч Юзаф*, *Пагоўскі Фелікс*, *Свяніцкі Уладзіслаў*, *Сяноцкі Караль*, *Трушынскі Ксаверы*, *Урублеўскі Антоні*, *Фурс Фларыян*, *Шпігальскі Ян* і інш. Удзельнічаў у баі 07.04.1863 каля м. Налібокі Ашмянскага пав.[114]. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру, а потым канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 295—1—1565—6адв.; 295—1—1643—122адв.; 296—1—25—72адв., 87адв.; 296—1—29б; 320—1—398—197адв.; 1416—1—247; 1430—1—52163—125адв.)*.

3403. **Леановіч Міхал** (Леонович Михаил), сын Антонія, дваранін. Да паўстання валодаў 5 дзес. зямлі ў в. Аршанаўка (Арманаўка, Артамонаўка) Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). На яго зямлю 28.07.1863 накладзены секвестр. Пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 29.07.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Сасланы (да 13.11.1863) у Пермскую губ. Яго зямля канфіскавана. У ссылцы звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(319—1—479—19; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—34; 1430—1—31355—121-124адв.; 1430—1—31583—35-36; 1430—1—52163—20адв., 215адв.-216, 230адв., 418, 437, 568адв., 596, 678, 825; 2616—1—40—10адв., 12адв.)*.

3404. **Лебядзевіч Блажэй** (Лебедевич Блажий), аднадворац Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве, канфірмаванай 29.01.1867 А. Безакам, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі ў грамадзянскія

[114] У адным з дакументаў памылкова паведамляецца пра тое, што загінуў у гэтым баі.

арыштанцкія роты на 5 гадоў з далейшым пасяленнем на «казённых землях у сібірскіх губернях». Яго маёмасць вызвалялася ад секвестру і канфіскацыі. Таксама належала спагнаць з яго 15 руб., выдаткаваных на вядзенне яго справы. Адпраўлены ў г. Харкаў для далейшай ссылкі *(1416—4—11416—348)*.

3405. **Лебядзінскі Антоні** (Лебедзинский Антон). Служыў сакольскім гарадавым доктарам, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую ці Валагодскую губ., але потым (да 01.06.1864) вернуты ў г. Гродна. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—614, 795адв.; 1430—1—52285—25)*.

3406. **Левалоўскі N.** (Леволовский N.), памешчык. Да паўстання валодаў часткай Бальдонскага лесу ў Шавельскім пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

3407. **Легенз (Лягенза) Маўрыцы** (Легенз (Легенза) Маврикий), сын Войцеха, грамадзянін г. Слуцка. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, пасля прыбыў у Ігуменскі пав. Паступіў на службу сакратаром міравога пасярэдніка Крупскага ў в. Навасёлкі Ігуменскага пав. У 1862 г. займаўся навучаннем сялянскіх дзяцей, не маючы на гэта дазволу ўладаў. 21.04.1863 пакінуў Навасёлкі і далучыўся да паўстанцаў. Арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 10.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(160—2—682—55; 162—1—122—13; 295—1—1551; 295—1—1643—117; 320—1—398—664; 534—1—14—18)*.

3408. **Ледахоўскі Францішак** (Ледоховский Франц), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—29адв.)*.

3409. **Лейзяровіч Файв** (Лейзерович Файв), яўрэй, мешчанін г. Шаўляй. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 1 год *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

3410. **Лейтан Казімір** (Лейтон Казимир), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—19; 1430—1—52163—420)*.

3411. **Лембіч Валяр'ян** (Лембич Валериан), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—8)*.

3412. **Лемке Эдвард** (Лемке Эдуард), незацверджаны дваранін. Да паўстання вучыўся ў Варшаўскай галоўнай школе. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 20 гадоў *(1430—1—52163—535адв.)*.

3413. **Лемяшчэўскі Максімільян** (Лемешевский Максимилиян). Нар. каля 1821 г. Да паўстання служыў у Віленскай крымінальнай палаце. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, схаваўся ад рас. уладаў, падлягаў арышту (да 24.10.1863) *(1527—1—4—90-91)*.

3414. **Лемяшэўскі Эдвард** (Лемешевский Эдуард), дваранін Троцкага пав. Да паўстання адстаўны юнкер. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—18; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

3415. **Ленартовіч Юзаф** (Ленартович Иосиф), шляхціц Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18; 320—1—398—221адв.)*.

3416. **Ленік Аляксандр** (Ленник Александр), сын Габрыэля, сваяк *Яўгена*, памешчык. Да паўстання з *Яўгенам* валодаў маёнткам Карчаватка Магілёўскага пав. (260 дзес. зямлі, хата з агародам пасярод лесу, 2400 руб. доўгу). За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго маёмасць канфіскавана *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—19; 2001—2—123—9адв.-10; 2001—2—171—16адв.-17; 3257—2—2—20)*.

3417. **Ленік Яўген** (Ленник Евгений), сын Габрыэля, сваяк *Аляксандра*, памешчык. Служыў пісьмаводам пасярэдніка палюбоўнага размежавання 1-га ўчастка Капыскага пав. альбо вучыўся ў гімназіі. Да паўстання валодаў з братам маёнткам Карчаватка Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на

пасяленне. Яго маёмасць канфіскавана *(319—1—479—19; 320—1—398—135; 1416—3—21048—34; 1430—1—52163—394адв., 596а; 2001—2—14—9; 2001—2—123—9адв.-10; 2001—2—171—16адв.-17; 2616—1—40—13; 3257—2—2—20).*

3418. **Ленскі Зянон** (Ленский Зенон), сын Антонія, брат *Канстанціна*, дваранін Мінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку бацькі ў Мінскім пав. Падчас паўстання ўваходзіў у склад падпольнай арганізацыі ў г. Мінску, займаў пасаду камісара Мінскага пав., а таксама пастаўляў харчаванне атраду *Дыбоўскага Паўла*. Паводле загада ваеннага начальніка Мінскага пав. ад 03.12.1863 арыштаваны 05.12.1863. На следстве спачатку адмаўляўся ад удзелу ў паўстанні, потым даваў паказанні, сярод іншага, пра *Аскерку Міхала* і *Ямантa Юзафа*. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». На маёнтак яго бацькі Хорава Мінскага пав. накладзена забарона *(162—1—116—57; 295—1—1643—123адв.; 295—1—1776—33-34; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—19; 320—1—398—462; 320—2—98—39; 534—1—14—5, 8; 1416—4—11416—118; 1430—1—52163—375; 1527—1—4—111, 118; 3256—2—29—29).*

3419. **Ленскі Канстанцін** (Ленский Константин), сын Антонія, брат *Зянона*, дваранін Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1840 г. Да паўстання жыў у маёнтку бацькі ў Мінскім пав. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», а таксама пастаўляў харчаванне атраду *Дыбоўскага Паўла*. Паводле загада ваеннага начальніка Мінскага пав. ад 03.12.1863 арыштаваны 05.12.1863. На следстве спачатку адмаўляўся ад удзелу ў паўстанні. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». На маёнтак яго бацькі Хорава Мінскага пав. накладзена забарона. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму. 12.1876 жыў у маёнтку Навасёлкі Койданаўскай вол. Мінскага пав., дзе займаўся гаспадаркай, 01.1882 — таксама ў Мінскім пав. *(162—1—116—57; 295—1—1643—123адв.; 295—1—1776—33-34; 295—1—3026—29; 295—1—3492—37адв.-38, 84адв.; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—19; 320—1—398—462; 320—2—98—39; 534—1—14—5, 8; 1416—4—11416—118; 1430—1—52163—375; 1527—1—4—111, 118).*

**Лепкавіцкі Ян** — гл. **Ляпкоўскі Ян**

3420. **Леснік Базыль** (Лесник Василий). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.).*

3421. **Летаўт (Леўтаўт) Вінцэнт** (Летовт (Левтовт) Викентий), дваранін Ковенскай губ. ці Дзісенскага пав. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 19.10.1863) ваенным судом да ўключэння шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1416—3—21048—34адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—150, 398адв.).*

3422. **Леўгаўд Рамуальд** (Левговд Ромуальд), памешчык Ковенскага пав. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1430—1—52163—546адв.; 2532—1—15—2).*

**Леўтаўт Вінцэнт** — гл. **Летаўт Вінцэнт**

3423. **Лешчаў Марцін** (Лещев Мартин), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 15.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 04.10.1863 справа пададзена М. Мураўёву *(3366—1—5—7).*

3424. **Лідэйка Матэвуш** (Лидейко Матвей), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Жыжмары Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

3425. **Лізоўскі Люцыян** (Лизовский Люциан), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Горкі Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

3426. **Ліманоўскі Антоні** (Лимановский Антон), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

3427. **Ліманоўскі Люцыян** (Лимановский Люциан), сын Вінцэнта, брат Баляслава і *Юзафа*, дваранін Дынабургскага пав. Разам з маці, братамі і сёстрамі валодаў маёнткам Падгур'е Дынабургскага пав. Да паўстання знаходзіўся на службе. Самавольна з братам пакінуў яе і намагаўся прабрацца ў Віцебскую губ., каб далучыцца да паўстання. Затрыманы ў Апочацкім пав. на мяжы Пскоў-

скай і Віцебскай губ. Зняволены ў турэмным замку ў г. Пскове. Камандуючым войскамі Віленскай вайсковай акругі прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Частка Падгур'я канфіскавана на падставе ўказа ВГП ад 08.05.1864 *(319—1—479—19; 1416—3—21048—34адв.; 1430—1—52163—182, 230адв., 340-342, 390, 457, 567адв., 824).*

3428. **Ліманоўскі Юзаф** (Лимановский Иосиф), сын Вінцэнта, брат Баляслава і *Люцыяна*, дваранін Дынабургскага пав. Разам з маці, братамі і сёстрамі валодаў маёнткам Падгур'е Дынабургскага пав. Да паўстання знаходзіўся на службе. Самавольна з братам пакінуў яе і намагаўся прабрацца ў Віцебскую губ., каб далучыцца да паўстання. Затрыманы ў Апочацкім пав. на мяжы Пскоўскай і Віцебскай губ. Зняволены ў турэмным замку ў г. Пскове. М. Анненкавым прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Частка Падгур'я канфіскавана на падставе ўказа ВГП ад 08.05.1864 *(319—1—479—19; 1416—3—21048—34адв.; 1430—1—52163—182, 230адв., 340-342, 390, 457, 567адв., 824).*

3429. **Лімант Юзаф** (Лимонт (Лимант) Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у касцёле м. Янішкі Шавельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—616адв.).*

3430. **Лінг Пётр** (Линг Петр), дваранін. Служыў журналістам Беластоцкага павятовага казначэйства. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Валагодскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25).*

**Ліндсбэрг Венцаслаў** — гл. **Ляндсбэрг Венцаслаў**

3431. **Ліневіч (Лянкевіч) Пляцыд** (Линевич (Ленкевич) Пляцыд (Пляозид)), сын Геранiма, ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў прамаўленні 01.01.1864 казання «антыўрадавага» зместу ў касцёле г. Слуцка, таму арыштаваны больш чым на 2 месяцы. Знаходзіўся пад следствам у ССК разам з *Барташэвічам Андрэем* і *Забароўскім Іпалітам*. Рашэннем ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.04.1864 прызнаны невінаватым і падлягаў вызваленню. *(296—1—93; 1524—1—1—8).*

3432. **Лінкевіч Мікалай** (Линкевич Николай), памешчык Брэсцкага пав. За «нядобранадзейныя ўчынкі ў палітычных адносінах» у 1864 г. высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—117адв.; 2532—1—15—7адв.).*

3433. **Лінкевіч [(Лянкевіч) Аляксандр]** (Линкевич[115] [Александр]), памешчык Гродзенскага пав. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне палкоўніка. Да паўстання валодаў маёнткам Панюкі Гродзенскага пав. Падчас паўстання камандаваў атрадам у Гродзенскай губ., таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 25.04.1863 і пастановы ГГП ад 13.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 249; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

3434. **Лінкоўскі Вінцэнт** (Линковский Викентий), аднадворац Мінскай губ. Да паўстання жыў у с. Лука Таращчанскага пав. Кіеўскай губ. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Канфірмацыяй М. Анненкава прысуджаны (да 10.07.1864), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—131; 299—1—579—1227-1229адв.).*

3435. **Ліпарскі Зыгмунт** (Липарский Зигмунт), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—224).*

**Ліпініцкі Міхал** — гл. **Ліпніцкі Міхал**

3436. **Ліпінскі (Лапінскі) Адам** (Липинский (Лапинский) Адам), селянін Віленскай (?) губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 23.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—265).*

3437. **Ліпінскі Аляксандр** (Липинский Александр), сын Андрэя Тамашавіча, дваранін ці вольны хлебароб Барысаўскага пав., каталік, непісьменны. Нар. каля 1843 г. Увесну 1862 г. паступіў на службу леснікам да ўладальніка маёнтка Смаляры Барысаўскага пав. *Бачызмальскага Леанарда.* За захоўванне аднаствольнай стрэльбы арыштаваны зембінскім тысяцкім (да 10.05.1863). На следстве прызнаны невінаватым ва ўдзеле ў паўстанні, аднак, на думку МСК, падлягаў «спагнанню ў парадку адміністрацыйным». Паводле загада ЧВГМГ В. За-

---

[115] У гістарычнай літаратуры яго прозвішча падаецца як Лянкевіч (рус. Ленкевич).

балоцкага ад 17.07.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд і аддадзены на парукі свайго бацькі *(296—1—19—44-45, 50-53)*.

3438. **Ліпінскі (Ліцінскі) Антоні** (Липинский (Литинский) Антон), дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку (фальв.) Карлавічы Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—224адв.)*.

3439. **Ліпінскі Казімір** (Липинский Казимир), сваяк *Эдварда* (?), сын Міхала, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў падбухторванні сялян уступіць у паўстанцкі атрад і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, паводле рашэння якога высланы ў «аддаленыя паветы» Томскай губ. *(295—1—1643—115адв., 120; 1524—1—1—7адв.)*.

3440. **Ліпінскі Уладзіслаў** (Липинский Владислав). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Варонежскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—33)*.

3441. **Ліпінскі (Ляпінскі, Лапінскі) Эдвард** (Липинский (Лепинский, Лапинский) Эдуард), муж Мацільды Ігнатаўны, сваяк *Казіміра* (?), дваранін Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў агітацыі на карысць паўстанцаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Маёнтак Сакаляцічы Бабруйскага пав., якім ён валодаў на правах суспадчынніка, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 20.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў г. Белябей Арэнбургскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. Памёр у ссылцы. Жонка, якая выправілася з ім добраахвотна ў ссылку, у 1871 г. атрымала дазвол вярнуцца з Уфімскай губ. на радзіму. 16.07.1871 з сынамі Баляславам і Напалеонам яна прыбыла ў г. Мінск і 18.07.1871 выехала ў г. Слуцк *(295—1—1571—6; 295—1—1643—115адв., 120; 295—1—2216; 296—1—89—10, 72, 77адв.-78; 299—1—579—341-345; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—13адв.)*.

3442. **Ліпінскі N.** (Липинский N.). Служыў чыноўнікам Віленскай ПДМ, калежскі рэгістратар. Да паўстання выйшаў у адстаўку. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

3443. **Ліпка Аляксандр** (Липко Александр), сын Філіпа, дваранін. Служыў прыставам 4-га стана Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Ліпкоўскі Аўгуст** — гл. **Ляпкоўскі Аўгуст**

3444. **Ліпневіч Ян** (Липневич Иван), сын Ігната, дваранін Шавельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

3445. **Ліпніцкі Аляксандр** (Липницкий Александр). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Арэнбургскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—48)*.

3446. **Ліпніцкі Антоні** (Липницкий Антон), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, паводле рашэння якой пакінуты на ранейшым месцы жыхарства *(1418—3—1—42адв.-43)*.

3447. **Ліпніцкі (Ліпініцкі) Міхал** (Липницкий (Липиницкий) Михаил), сын Леана, мешчанін г. Слуцка ці г. Клецка, праваслаўны. Нар. каля 1841 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон рас. войскамі ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрозе г. Слуцка. На судзе прасіў літасці і сцвярджаў, што ўзяты ў паўстанцкі атрад супраць сваёй волі. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да вяртання на ранейшае месца жыхарства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуд зацверджаны з умовай аддачы «на парукі» мяшчанскай грамады *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—7; 1525--1—2—7адв.-8)*.

3448. **Ліпніцкі Францішак** (Липницкий Франц), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—116адв.; 319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—530)*.

3449. **Ліпская (дэ Ліпэ-Ліпская) Аліна**[116] (Липская (де-Липпе-Липская) Алина), дачка Аляксандра, сястра *Рыцкаў Антонія*, *Марыі* і *Эміліі*, жонка віцебскага губернскага маршалка, маці Марыі, памешчыца. Западозрана ў дачыненні да паўстання, за што 23.10.1863 на яе маёнткі Кухарава і Забор'е Дрысенскага пав. і рухомыя капіталы і маёмасць з іх, часткі маёнткаў Марыенгаўзэн Люцынскага пав. (1201 рэвізская душа), Свольна Дрысенскага пав. (236 душ), Андрапаль Себежскага пав. (166 душ) і Цяцерына Магілёўскага пав., дом у г. Віцебску, каменны і драўляны дамы ў г. Мінску на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 18.09.1863 і ўказа ВГП ад 23.10.1863 накладзены секвестр. Пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Варонежскую губ. Паводле загада А. Патапава ад 16.12.1864 з яе маёнтка Марыенгаўзэн належала спагнаць суму ў 472,79 руб. ср., выкарыстаных рас. уладамі на расследаванне справы *Смолкі Севярына*. Паводле яго ж распараджэння ад 15.04.1865 секвестр з маёмасці здымаўся са спагнаннем узмоцненага 20-працэнтнага збору *(1416—3—21048—24адв., 34адв.; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—31370—68; 1430—1—52163—199адв., 391адв., 416адв., 419адв., 427, 430адв., 432, 432 адв., 437, 453, 459адв., 568, 569, 666адв., 723адв., 823адв., 824адв., 826, 827адв., 842-859, 863-864; 2532—1—8—1-7)*.

3450. **Ліпскі Аляксандр** (Липский Александр), сын Тадэвуша, дваранін Слонімскага пав. Да паўстання арандаваў маёнтак Сынковічы Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—126; 1416—6—232, 275; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—602)*.

3451. **Ліпскі Ігнат** (Липский Игнатий), памешчык. Да паўстання валодаў зямлёй у Рагачоўскім пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ., яго зямля канфіскавана, а рухомасць прададзена *(2003—1—372—34-35)*.

3452. **Ліпскі Станіслаў** (Липский Станислав). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Пасля з'яўлялся міравым пасярэднікам Слонімскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

3453. **Ліпскі (дэ Ліпэ-Ліпскі) Францішак** (Липпе-Липский Франц), сын Ежы, дваранін Віцебскага пав., каталік. Абвінавачаны ў 1864 г. рас. уладамі ў «размове, што да лета гэтага года фарміруецца ў Віцебскай і Магілёўскай губернях шайка інсургентаў у колькасці ў 800 чалавек» (гл. *Кладніцкі Апалон*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—28адв.-29)*.

3454. **Ліпштовіч Францішак** (Липштович Франц), дваранін. Да паўстання ў м. Шакінава Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—205)*.

3455. **Лісаноўскі Вінцэнт** (Лисоновский Викентий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 14.04.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—43адв.-44)*.

3456. **Лісецкі Фелікс** (Лисецкий Феликс), ксёндз. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.)*.

3457. **Лісоўскі Антоні** (Лисовский Антон), дваранін Навагрудскага пав. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 04.07.1864), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(295—1—1643—115; 299—1—579—298-307)*.

3458. **Лісоўскі Геранім** (Лисовский Героним), сын Міхала, дваранін Кобрынскага пав. Вучыўся ў гімназіі ў г. Пінску. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

3459. **Лісоўскі Ігнат** (Лисовский Игнатий), дваранін Бабруйскага ці Рагачоўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 04.11.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 18.11.1864 ВГП выдала пастанову аб кан-

[116] У некаторых дакументах яе імя памылкова падаецца як Ганна.

фіскацыі *(160—2—682—66; 320—1—398—640-643; 1416—4—11416—128; 3257—2—2—20адв.).*

3460. **Лісоўскі Людвік** (Лисовский Людвиг), селянін. Нар. каля 1848 г. Да паўстання жыў у в. Забаенне ці ў в. Рэутполле Барысаўскага пав., быў слугой *Длужнеўскага Юзафа.* Удзельнічаў у паўстанні разам са сваім памешчыкам, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 2 гады. Высланы з радзімы. Паводле ўказа МГП ад 11.02.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—60; 295—1—1527—106адв.; 295—1—1643—115, 120; 295—1—2725—20; 299—1—577—511-513; 320—1—398—178).*

**Лісоўскі Мікалай** — гл. **Ласоўскі Мікалай**

3461. **Лісоўскі Міхал** (Лисовский Михаил), дваранін Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

**Лісоўскі Павел** — гл. **Ласоўскі Павел**

3462. **Лісоўскі Юзаф** (Лисовский Иосиф), дваранін. За дачыненне да паўстання аштрафаваны ў 1865 г. на 50 руб. *(295—1—1643—124).*

3463. **Лісоўскі Якуб** (Лисовский Яков), памешчык, каталік. Абвінавачаны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 24.10.1863 перадала яго справу ў ДСК *(3046—2—3—52адв.-53; 3046—2—5—29).*

**Літвінава Алена** — гл. **Шантыр Алена**

3464. **Літвінік (Літвенік) Базыль** (Литвинник (Литвенник) Василий), мешчанін г. Копысь Горацкага пав. Да паўстання служыў леснікам, у яго на выхаванні знаходзіўся *Навіцкі Станіслаў.* За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—19; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—20, 25).*

3465. **Ліхадзіеўскі Баляслаў** (Лиходзиевский Болеслав), сын Вінцэнта, дваранін Бабруйскага ці Барысаўскага пав. Да паўстання вучыўся ў 4-м класе гімназіі ў г. Слуцку. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—115адв., 119адв.; 319—1—479—19; 320—1—398—166, 222, 239, 401адв., 403; 320—2—98—39).*

3466. **Ліхадзіеўскі Фелікс** (Лиходзиевский Феликс), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Лукавец Вілейскага пав. *Бароўскай Марыі.* За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі, «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—7адв.).*

3467. **Лойба Ксаверы** (Лойба Ксаверий). Да паўстання служыў станавым приставам Троцкага пав., губернскі сакратар. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—101; 319—1—479—18; 1430—1—52163—154).*

3468. **Лорэнс Беньямін** (Лоренс Веньямин), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—29адв.).*

**Лотач Павел** — гл. **Латыч Павел**

**Лотыч Павел** — гл. **Латыч Павел**

3469. **Лукаўскі Апалон** (Лукавский Апполон), сын Антонія, дваранін Мінскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.).*

**Лукаўскі Каятан** — гл. **Лукоўскі Каятан**

3470. **Лукацэвіч Стэфан** (Лукацевич Степан), дваранін Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—18).*

3471. **Лукашэвіч Адам** (Лукашевич Адам), сын Яна, мешчанін Навагрудскага пав. Нар. каля 1837 г. Удзельнічаў у паўстанні, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, але не прыняты сваёй мяшчанскай грамадой. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага прызначаны да ссылкі ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву, адтуль — на пасяленне ў Томскую губ. У 1875 г. жыў у Нялюбінскай вол. Томскай акругі Томскай губ., падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму. У 1876 г. атрымаў дазвол і 16.03.1876 пашпарт на вяртанне *(295—1—2420—11; 295—1—2764; 295—1—3040—14-15).*

3472. **Лукашэвіч Апалінары** (Лукашевич Аполинарий), сын Сільвестра, брат *Баляслава* і *Якуба*, памешчык. За «ўдзел у палітычных непарадках» маёнткі Брадзец, Барацічы (з фальв. Наборкі)

і Неганічы (з фальв. Максімавічы) Ігуменскага пав. (агульная выкупная сума — 15185,25 руб.), якімі ён валодаў разам з братамі на правах суспадчынніка, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 30.06.1864. Сасланы «адміністрацыйным парадкам» у Томскую губ. пад нагляд паліцыі. Яго маёмасць пакінута пад секвестрам і аддадзена ў распараджэнне братоў з абавязкам кожныя паўгода ўносіць у казну частку яго даходу, потым яна на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1867 г. секвестр канчаткова зняты. У 1866–1867 гг. жыў у Томскай губ., вёў перапіску са сваёй сваячкай Філіпінай Ігнатаўнай Лукашэвіч. У 1874 г. вярнуўся ў Ігуменскі пав., 12.1876–06.1882 жыў у маёнтку Брадзец *(27—1—799; 162—1—116—166; 295—1—1643—121, 123адв.; 295—1—1814; 295—1—3026—32адв.; 295—1—3492—45, 68адв., 85; 296—1—89—9адв., 32адв.-33, 70адв.-71; 299—1—579—341-345; 1430—1—52163—201адв.; 2532—1—15—13).*

3473. **Лукашэвіч Баляслаў** (Лукашевич Болеслав), сын Сільвестра, брат *Апалінарыя* і *Якуба*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Маёнткі Брадзец, Барацічы (з фальв. Наборкі) і Неганічы (з фальв. Максімавічы) Ігуменскага пав. (агульная выкупная сума — 15 185,25 руб.), якімі ён валодаў разам з братамі на правах суспадчынніка, часова секвестраваны. Таксама падлягалі секвестру на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 яго сумесныя з братамі маёнткі Кічына і Юдзенічы Сенненскага пав. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой пакінуты ў падазрэнні. 15.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Пазней вызвалены і вернуты на месца жыхарства, а з яго маёмасці зняты секвестр *(27—1—799; 1416—5—247; 1418—3—1—42адв.-43).*

3474. **Лукашэвіч Ігнат** (Лукашевич Игнатий), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Расна Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2514—1—2198—68адв.).*

3475. **Лукашэвіч Ізыдар** (Лукошевич Изыдор), памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання валодаў маёнткам Львоўшчына Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3).*

3476. **Лукашэвіч Казімір** (Лукашевич Казимир), сын Яна, памешчык Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў дапамозе *Вольскім Антонію*, *Ільдэфонсу* і *Каралю*, трапіў пад следства. 14.10.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў *(1430—1—52163—634адв.).*

3477. **Лукашэвіч Пётр** (Лукашевич Петр), дваранін Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 10.09.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 15.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

3478. **Лукашэвіч Рудольф** (Лукашевич Рудольф), сын барэйтара, дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні, валодаў домам на набярэжнай. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—18; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

3479. **Лукашэвіч Уладзіслаў** (Лукашевич Владислав), сын Францішка, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Адамава Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.12.1864 прысуджаны зноў, сярод іншага, да секвестру маёмасці *(160—2—682—59; 295—1—1643—117; 295—1—1699; 320—1—398—3).*

3480. **Лукашэвіч Фелікс** (Лукашевич Феликс), сын Юзафа, селянін. Да паўстання прыпісаны да Целяханскай сельскай грамады Пінскага пав. За дачыненне да паўстання паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 31.01.1864 высланы 02.1864 спачатку ў Пінскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне, адтуль — у г. Мінск для адпраўкі ў г. Маскву. У 1864 г. высланы ў Маскву для «адпраўлення ў больш аддаленыя губерні» *(295—1—1643—123; 295—1—2725—27адв.).*

3481. **Лукашэвіч Францішак** (Лукашевич Франц). Да паўстання служыў стралком 1-га Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—18адв.).*

3482. **Лукашэвіч Цэзар** (Лукашевич Кесарь (Кессарь)), дваранін Мінскай губ. Служыў полац-

кім гараднічым, адстаўны штабс-капітан. Падчас паўстання абвінавачаны ў тым, што ў яго адбываліся «пастаянныя сходы палякаў». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «наводзіць падазрэнне» 13.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле рашэння А. Патапава ад 20.03.1865 як «падазроны ў нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах» звольнены з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «Паўночна-Заходнім краі» *(160—2—680—55; 3046—2—3—52адв.-53; 3046—2—5—29)*.

3483. **Лукашэвіч Юзаф** (Лукашевич Иосиф), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—29адв.)*.

3484. **Лукашэвіч Юзаф** (Лукашэвич Иосиф), сын Андрэя, дваранін Слуцкага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—137; 295—1—1643—116адв., 123адв.; 320—1—398—573, 575; 1430—1—52163—242)*.

3485. **Лукашэвіч Юзаф** (Лукашевич Иосиф), сын Аляксандра, селянін Слуцкага пав., праваслаўны. За знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—8)*.

3486. **Лукашэвіч Юзаф** (Лукашевич Иосиф). Да паўстання служыў леснікам 1-га Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кобрынскую арыштанцкую роту на 2 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—18адв.)*.

3487. **Лукашэвіч Якуб** (Лукашевич Яков), сын Сільвестра, брат *Апалінарыя* і *Баляслава*, памешчык Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў садзейнічанні паўстанню, арыштаваны. Маёнткі Брадзец, Барацічы (з фальв. Наборкі) і Неганічы (з фальв. Максімавічы) Ігуменскага пав. (агульная выкупная сума — 15 185,25 руб.), якімі ён валодаў разам з братамі на правах суспадчынніка, часова секвестраваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення з радзімы. 04.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства і аддачай пад строгі паліцэйскі нагляд *(27—1—799; 295—1—1643—122; 1418—3—1—43адв.-44)*.

3488. **Лукашэвіч Ян** (Лукашевич Ян), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374)*.

3489. **Лукашэвіч N.** (Лукашевич N.), селянін. За ўдзел у паўстанні канфіскаваны і прададзены яго адзенне, бялізна і хатні рыштунак паводле ўказа ПДМ ад 06.04.1864 *(296—1—89—24)*.

3490. **Лукашэвіч N.** (Лукашевич N.), дваранін Слонімскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88адв., 108адв.; 319—1—479—18адв.; 320—1—398—197)*.

3491. **Луковіч Юзаф** (Лукович Осип), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—18адв.)*.

3492. **Лукоўскі (Лукаўскі) Каятан** (Луковский (Лукавский) Каэтан), сын Юзафа, дваранін Віцебскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе; выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага асэсара. Западозраны рас. уладамі ў «захоўванні папер падбухторнага зместу». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 26.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—52адв.-53; 3046—2—5—29адв.)*.

3493. **Лукоўскі Юльян** (Луковский Юлиан), дваранін. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у г. Пензе, 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—16-17; 1430—1—52758—26)*.

3494. **Лукоўскі Ян** (Луковский Иван), дваранін Магілёўскай (?) губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што яго маёмасць (да 30.07.1863) падлегла секвестру, аднак яе не было знойдзена, потым яна падлягала вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—320—1адв.; 2514—1—2198—68адв.)*.

3495. **Лук'янаў Маісей** (Лукьянов Моисей), сын Харытона, селянін Рагачоўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—21)*.

3496. **Лук'яноўскі Павел** (Лукьяновский Павел). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобра-

надзейнасці», таму атрымаў забарону пастпаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

3497. **Лук'янчук Юльян** (Лукьянчук Юлиан), селянін Ліцінскага пав. Падольскай губ. Нар. каля 1832 г. Добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, з якім потым уцёк за мяжу. У 1875 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі асуджаны завочна на пазбаўленне правоў стану і вечнае выгнанне, у выпадку самавольнага вяртання прысуджаўся да ссылкі на пасяленне ў Сібір *(1430—1—35834—98-99)*.

3498. **Лунеўскі Ян** (Луневский Иван), сын ляснічага. Да паўстання разам з бацькам жыў у в. Перакоп Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—224адв.)*.

3499. **Лункевіч Баляслаў** (Лункевич Болеслав), дваранін. Удзельнічаў у паўстанні, пасля хаваўся пэўны час у *Крукоўскага N.* Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(1416—6—274; 296—1—25—106; 319—1—479—18адв.; 1416—6—274)*.

3500. **Лупінскі Леанард** (Лупинский Леонард). Да паўстання служыў пісьмаводам Беластоцкай кватэрнай камісіі, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

3501. **Луцкевіч Стэфан** (Луцкевич Степан). За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166адв.)*.

3502. **Лушчык Фелікс** (Лущик Феликс), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Юндзішкі Віленскага пав. Паўстанцы былі ў Юндзішках і бралі харчовыя прыпасы, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 2532—1—15—11)*.

3503. **Лыка Юзаф** (Лыко Осип), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Эйнаравічы Троцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—210)*.

3504. **Лыскоўскі Уладзіслаў** (Лысковский Владислав), сын Юзафа, дваранін. Нар. каля 1829 г. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. З 26.04.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая, скончыўшы яго справу, 26.03.1864 падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на волі на паруках *(3255—1—14—3адв.; 3257—1—14—4адв.-5)*.

3505. **Лышчынскі Ежы** (Лыщинский Юрий), дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Да паўстання разам з *Клячкоўскім Янам* жыў у маёнтку свайго бацькі Чурылава (Чырылава) Аршанскага пав. Падчас паўстання разам з *Карніцкім Антоніем*, *Клячкоўскім Янам*, *Рагозам Аляксандрам*, *Раўкоўскім Ежы*, *Рачыцкім Юзафам* і *Чыжэўскім Эдвардам* паспрабаваў далучыцца да паўстання, 22.04.1863 затрыманы сялянамі в. Мікуліна Аршанскага пав. Пры вобшуку ў яго экіпажы знойдзены медыкаменты. Зняволены ў г. Смаленску. На следстве сцвярджаў, што выехаў на паляванне і потым меў намер здаць зброю ў Смаленску. Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой пакінуты «ў самамацнейшым падазрэнні ў складанні змовы супраць Урада» і прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 16.11.1863 яго справа пададзена віцебскаму ваеннаму губернатару, рашэннем якога ад 18.01.1864 ссылка заменена на катаргу на 8 гадоў. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—19; 1430—1—31353)*.

3506. **Лышчынскі Міхал** (Лыщинский Михаил), сын Юзафа, дваранін Віцебскай губ. Нар. у фальв. Рогаўшчына Лепельскага пав. Да паўстання жыў у г. Кіеве, дзе з'яўляўся студэнтам універсітэта Св. Уладзіміра. Удзельнічаў у паўстанні на Украіне. Арыштаваны, аддадзены пад суд у г. Палтаве *(1416—4—11416—93-97)*.

3507. **Лычкоўскі Емерык** (Лычковский Емерик), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 05.06.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—42адв.-43)*.

3508. **Лычкоўскі Канстанцін** (Лычковский Константин), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—8)*.

3509. **Лычкоўскі Яўген** (Лычковский Евгений), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні па-

водле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—68адв.).*

3510. **Любавіцкі Адам** (Любовицкий Адам). Да паўстання служыў пісьмаводам рагачоўскага маршалка. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны. Яго рухомая маёмасць (мэбля і 3 карціны на суму 5,75 руб.) секвестравана. Без суда і следства высланы (да 20.02.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Калугу, яго жонка выправілася з ім. З маёмасці секвестр зняты. *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2003—2—72).*

3511. **Любавіцкі Адам** (Любовицкий Адам). Служыў перакладчыкам ГГП, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

3512. **Любамірскі Стэфан** (Любомирский Степан), сын Яўгена, брат *Уладзіслава*, князь, памешчык. Да паўстання з'яўляўся магілёўскім губернскім маршалкам, валодаў апрача іншага фальв. Зарубы Горацкага пав., дзе служыў *Дудар Міхал.* Абвінавачаны рас. уладамі ў выпраўленні свайго лакея *Сасноўскага Леана* ў паўстанцкі атрад, западозраны таксама ў закупцы рыштунку для паўстанцаў і іншых «злачынствах». З 29.08.1864 знаходзіўся пад следствам у АСК і МагСК. Звольнены са службы і высланы з радзімы. У 1867 г. у сувязі са слабым здароўем атрымаў дазвол выехаць за мяжу. У 1871 г. атрымаў права вярнуцца ў Рас. імперыю з забаронай пражываць у «Заходнім краі». У 1873 г. атрымаў дазвол на пражыванне ў губернях «Заходняга краю» *(295—1—2413; 1430—1—35146—106; 1430—1—35458—15; 2001—2—127; 2009—1—2; 3255—1—12—1адв., 3адв.-4; 3257—1—17—10адв.-11; 3257—2—8—8).*

3513. **Любамірскі Уладзіслаў** (Любомирский Владислав), сын Яўгена, брат *Стэфана*, князь, памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, у тым ліку ў закупцы рыштунку для паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(2009—1—2; 3255—1—12—1адв., 3адв.-4; 3257—2—8—8).*

3514. **Любецкая Марыя** (Любецкая Мария), дачка Ежы, княгіня, памешчыца Гродзенскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яе маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129).*

**Любецкі-Друцкі N.** — гл. **Друцкі-Любецкі N.**

3515. **Любінскі (Любенскі) Фелікс-Мацей** (Любинский (Любенский) Феликс-Матвей), сын Аўгустына і Людвікі, брат Адалаіды (v. Крайскай) і Юстыны, дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1845 г. Да паўстання жыў у маёнтку Астраўкі Сенненскага пав., яго бацька валодаў маёнткамі Асецішчы і Таццянка Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 29.07.1863 прысуджаны да ссылкі на службу ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў і канфіскацыі маёмасці. На маёнткі яго бацькі накладзена забарона. Сасланы на службу ў 5-га Заходнесібірскі батальён. У 1867 г. звольнены са службы з прычыны «няздольнасці» і пераведзены на жыхарства ў г. Омск. На пачатку 1870-х гг. атрымаў частковую амністыю, у 1873 г. прыбыў на часовае пражыванне да сваякоў у Лепельскі пав. У 1873 г. яго сястра падала прашэнне аб дазволе яму застацца на радзіме ў Барысаўскім пав. з прычыны старасці іх бацькоў і неабходнасці кіраваць маёнткам Асецішчы, якое было задаволена. 30.09.1873 прыбыў у Асецішчы, дзе жыў яшчэ 12.1876 *(162—1—116—103; 295—1—1527—100адв.; 295—1—1643—115адв., 119адв.; 295—1—2412; 295—1—3026—37адв.-38; 296—1—89—46; 299—1—577—508-510; 2514—1—2198—68адв.).*

3516. **Любічанкоўскі Напалеон-Браніслаў** (Любичанковский Наполеон-Бронислав), дваранін Мінскага пав. Да паўстання служыў доктарам гарадской бальніцы ў г. Мінску, надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. высланы з жонкай «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў у г. Аланец, служыў аланецкім гарадскім і павятовым доктарам, атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» У 1875 г. атрымаў дазвол на пражыванне ў «Заходнім краі». *(295—1—1619—34; 295—1—1643—118адв., 119адв., 122; 1430—1—35146—129; 1430—1—35810—46-47; 1430—1—35834—144; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21; 2532—1—15—13).*

3517. **Люгайла Браніслаў** (Люгайло Бронислав), дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у ад-

стаўку ў чыне паручніка. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і смяротнага пакарання. Пакараны смерцю ў г. Коўне *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—18)*.

3518. **Людвіковіч Караль** (Людвикович Карл), дваранін. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616)*.

**Людкевіч Марцін** — гл. **Люкевіч Марцін**

3519. **Люкевіч (Людкевіч) Марцін** (Люкевич (Людкевич) Мартин). Паходзіў з Віцебскай (?) губ. Западозраны разам з *Астроўскім Юзафам* і *Ражноўскім Гальяшам* у падрыхтоўцы на пачатку 1863 г. паўстання ў Дзісенскім пав., трапіў пад следства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.12.1864 прызначаны да аддачы на парукі і штрафу ў 50 руб. на карысць пацярпелых ад паўстання. ВГП 31.12.1865 выдала адпаведны ўказ *(1416—4—11416—294-296, 336)*.

3520. **Люткевіч Браніслаў** (Люткевич Бронислав). Да паўстання служыў акруговым акцызным піцейным наглядчыкам г. Себежа. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць на падставе распараджэння каменданта Дынабургскай фартэцыі ад 13.06.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Паводле яе пастановы высланы «адміністрацыйным парадкам» (да 01.10.1864) на жыхарства ў Аланецкую губ. *(1416—3—21048—34; 1430—1—52163—416; 1430—1—52285—5, 42адв.; 3046—2—5—29адв.)*.

3521. **Люткевіч Гіляры** (Люткевич Гилярий), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

3522. **Люткевіч Тамаш** (Люткевич Фома), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

3523. **Люткевіч Фелікс** (Люткевич Феликс). Служыў кандыдатам міравога пасярэдніка Панявежскага пав., выйшаў у адстаўку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

3524. **Люткевіч Юзаф** (Люткевич Иосиф), дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—18адв.)*.

3525. **Люткевіч Юзаф** (Люткевич Иосиф), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—149адв.; 2532—1—15—2адв.)*.

3526. **Люткевіч Юзаф** (Люткевич Иосиф). Да паўстання служыў падпаручнікам 1-га Расіенскага лясніцтва. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

3527. **Люткевіч N.** (Люткевич N.). Паходзіў з Ковенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, забіты. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—18адв.; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.)*.

3528. **Люцінскі Станіслаў** (Лютинский Станислав), сын Яна, дваранін Сенненскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 31.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 13.11.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі *(1416—4—11416—132адв.; 3257—2—2—21)*.

**Лябкоўскі Аўгуст** — гл. **Ляпкоўскі Аўгуст**

3529. **Лявіцкі Адам** (Левицкий Адам). Да паўстання служыў аканомам маёнтка Дрысвяты Новааляксандраўскага пав. *Лапацінскай Ганны*. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

3530. **Лявіцкі Людвік** (Левицкий Людвиг), сын Сымона, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ІСК, 19.04.1864 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—128, 156; 319—1—479—19; 320—1—398—533, 535-536, 644; 320—2—98—39; 1418—3—1—42адв.-43; 1430—1—52163—526)*.

3531. **Лявіцкі Нікадым** (Левицкий Никодим), сын Антонія Кандратавіча (нар. каля 1800), брат Канстанціна, Нарцыза, Аляксандры і Эвеліны, дваранін Пінскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1847 г. у в. Цмень Пінскага пав. Да паўстання вучыўся ў 5-м класе гімназіі ў г. Пінску. Разам з *Лявіцкім Уладзіславам* 22.06.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада падчас яго праходжэння праз маёнтак Сенчыцы Пінскага пав., які арандаваў яго бацька. Пасля паўстання эміграваў у Аўстрыю, дзе служыў аканомам, атрымоўваючы 80 руб. штомесяц. Ажаніўся са Станіславай Юзафаўнай Кунаховіч (нар. каля 1854 г.), з якой меў дзяцей Станіслава-Зыгмунта (нар. каля 1871), Леанціну-Алену (нар. каля 1874), Альбіну-Артуру (нар. каля 1878), Марыю-Карнэлію (нар. каля 1880) і Стэфанію-Антаніну (нар. у 1883). На падставе маніфеста ад 15.03.1883 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму да бацькі з аддачай пад нагляд паліцыі на 2 гады. Спачатку прыбыў у г. Мінск, 30.09.1883 выехаў з Мінска ў Пінск. Пасяліўся ў маёнтку Сенчыцы. Памёр нечакана 01.06.1885 *(295—1—3903; 1524—1—1—16адв.)*.

3532. **Лявіцкі Раймунд** (Левицкий Раймунд), дваранін Падольскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загаду М. Анненкава ад 29.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 03.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

3533. **Лявіцкі Тэадор** (Левицкий Теодор), сын Юзафа, дваранін (альбо «з обер-афіцэрскіх дзяцей») Навагрудскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1842 г. Да паўстання жыў у г. Навагрудку, служыў у канцылярыі навагрудскага маршалка. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Міладоўскага Вітальда*. Удзельнічаў у баі ля в. Мілавіды Слонімскага пав., затым схоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 23.03.1864 аддадзены пад ПВС пры 120-м Серпухаўскім пяхотным палку ў г. Навагрудку. 28.03.1864 судовая справа скончана і перададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 02.04.1864 адпраўлена М. Мураўёву. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 18.05.1864 М. Крыжаноўскім, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(295—1—1643—116; 296—1—91; 299—1—579—298-307; 319—1—479—19; 320—1—398—3; 1430—1—52163—206; 1527—1—4—132-133)*.

3534. **Лявіцкі Уладзіслаў** (Левицкий Владислав). Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Пінску. Разам з *Лявіцкім Нікадымам* 22.06.1863 пры праходжэнні паўстанцкага атрада праз маёнтак Сенчыцы Пінскага пав. далучыўся да яго *(1524—1—1—16адв.)*.

3535. **Лявонаў Ян** (Леонов Иван), селянін. Западозраны рас. уладамі ў хаванні зброі. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 15.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—7)*.

3536. **Лягейка Антоні** (Легейко Антоний), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Дрысвяты Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(1416—6—281; 3046—2—5—29адв.)*.

**Лягенза Маўрыцы** — гл. **Легенз Маўрыцы**

3537. **Ляговіч Андрэй** (Легович Андрей), грамадзянін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—204адв.)*.

3538. **Ляговіч Вінцэнт** (Легович Викентий), сваяк (?) *Яна*, дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—18)*.

3539. **Ляговіч Юзаф** (Легович Иосиф), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73; 2532—1—15—1адв.)*.

3540. **Ляговіч Ян** (Легович Иван), сваяк (?) *Вінцэнта*, дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—18)*.

3541. **Лягун Ксаверы** (Легун Ксаверий), сын *Яна*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і ў 1864 г. высланы ў Томскую губ. *(295—1—1643—121; 295—1—2725—31адв.)*.

3542. **Лягун Ян** (Легун Иван), сын Ігната, бацька *Ксаверыя*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Звяволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. У 1864 г. з Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—1643—122; 295—1—2420—12; 295—1—2725—31адв.).*

3543. **Лягуцкі Цэзар** (Легуцкий Цезарий), сын Аляксандра, брат *Юзафа*. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам гарадавога магістрата. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

3544. **Лягуцкі Юзаф** (Легуцкий Иосиф), сын Аляксандра, брат *Цэзара*. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам гарадавога магістрата. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

3545. **Лягяўніцкі (Лагяўніцкі) Ян-Адам** (Лягевницкий (Логевницкий, Лагевницкий) Иван-Адам), памешчык ці аднадворац Гродзенскай губ. Да паўстання валодаў зямлёй у маёнтку Выдзель Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 18.07.1863 і пастаноў ГГП ад 17.07.1863 і 09.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—126; 1416—6—232; 1416—6—275; 1416—6—290; 1416—6—277—3; 1430—1—35146—124; 1430—1—52163—602).*

3546. **Ляйбовіч Перац** (Лейбович Перец), яўрэй, мешчанін. Да паўстання жыў у м. Усялюб Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны, канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—679).*

3547. **Лялька Вінцэнт** (Лялька Викентий), вольны хлебароб Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.).*

3548. **Лямпіцкі (Лампіцкі) Міхал** (Лемпицкий (Лампицкий) Михаил), дваранін Бельскага пав. ці Віленскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Праходзіў службу шарагоўцам у асобным Арэнбургскім корпусе, пасля палягчэння пакарання паселены пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—124; 1430—1—52163—150).*

3549. **Ляндсбэрг (Ліндсбэрг) Венцаслаў** (Ляндсберг (Линдсберг) Венцеслав), сын купца г. Мітавы. Да паўстання жыў у м. Жыжмары Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—106; 319—1—479—18).*

3550. **Ляндсбэрг (Ландсбэрг) Данат** (Ляндсберг (Ландсберг) Донат), шляхціц Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—18адв.).*

3551. **Ляневіч Леан** (Леневич Леон), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні» *(1418—3—1—43адв.-44).*

**Лянкевіч Аляксандр** — гл. **Лінкевіч Аляксандр**

**Лянкевіч Пляцыд** — гл. **Ліневіч Пляцыд**

3552. **Лянкевіч Ян** (Ленкевич Иван), дваранін Кіеўскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1879 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—26).*

**Лянкоўскі Аўгуст** — гл. **Ляпкоўскі Аўгуст**

**Лянкоўскі Севярын** — гл. **Ляпкоўскі Севярын**

3553. **Лянкоўскі Фелікс** (Ленковский Феликс), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Кракінава Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—18адв.; 534—1—14—4адв.; 1416—4—11416—116адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

3554. **Лянчэўскі Базыль** (Ленчевский Василий), сын Юзафа, брат *Калікста* і Пятра, мешчанін.

Да паўстання прыпісаны да мяшчанскай грамады ў г. Мсціславе, разам з бацькам і братамі валодаў 6 дзес. зямлі ў вак. Рудодзін Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Паводле ўказа МагГП, яго сумесная са сваякамі маёмасць 04.08.1863 апісана для накладання секвестру на яго частку. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёў-скаму губернатару *(2003—1—344; 3366—1—5—7).*

3555. **Лянчэўскі Геранім** (Ленчевский Героним), сын Дамініка, памешчык. За ўдзел у паўстанні яго частка (1/4) маёнтка Лоўзы Навагрудскага пав. (ацэнены ў 7 тыс. руб. ср.), якім ён валодаў на правах суспадчынніка разам з братам Фердынандам і сястрой Валерыяй, секвестравана 13.03.1863 ці 30.10.1863 *(296—1—89—11, 14адв., 73адв.; 320—2—99—50адв.-51).*

3556. **Лянчэўскі Калікст** (Ленчевский Каликстий), сын Юзафа, брат *Базыля* і Пятра, мешчанін. Да паўстання прыпісаны да мяшчанскай грамады ў г. Мсціславе, разам з бацькам і братамі валодаў 6 дзес. зямлі ў вак. Рудодзін Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Паводле ўказа МагГП яго сумесная са сваякамі маёмасць 04.08.1863 апісана для накладання секвестру на яго частку. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(2003—1—344; 3366—1—5—7).*

3557. **Лянчэўскі Канстанцін** (Ленчевский Константин), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72).*

3558. **Ляпкоўскі (Ліпкоўскі, Лябкоўскі, Лянкоўскі) Аўгуст** (Ленковский (Липковский, Лебковский, Ленковский) Август), сын Фелікса, дваранін. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у г. Дынабургу. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны без пазбаўлення правоў. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі *(162—1—122—10; 320—1—398—37-53; 320—2—98—39; 1416—3—21048—34адв.; 2601—1—5—7адв.).*

3559. **Ляпкоўскі Браніслаў (Ян-Браніслаў)** (Лепковский Бронислав (Иван-Бронислав)), сын Фелікса, дваранін. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Сялец Горацкага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. На маёнтак бацькі накладзена забарона на падставе ўказаў МагГП ад 19.11.1863 і 06.03.1864 *(2003—1—211—47, 80-84; 2514—1—2198—68адв.; 3257—2—2—20).*

3560. **Ляпкоўскі Вільгельм** (Лепковский Вильгельм), сын Тадэвуша, брат *Казіміра* і *Караля*, памешчык Аршанскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму на яго маёмасць накладаўся секвестр, які 12.1864 быў зняты. Знаходзіўся разам з братамі пад следствам у АСК, якая 25.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК *(2003—1—345—7; 3255—1—14—3адв.; 3257—2—2—20).*

3561. **Ляпкоўскі Ігнат** (Лепковский Игнатий), брат *Севярына* і *Юльяна*, дваранін Зельбургскага пав. Курляндскай губ. Да паўстання жыў у Дрысенскім пав., дзе арандаваў маёнтак Розна. За дачыненне да паўстання разам з братамі 04.1863 арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Высланы (да 25.01.1864) з радзімы *(1416—3—21048—34адв.; 2601—1—2—156, 404; 2601—1—5—7адв.).*

3562. **Ляпкоўскі Казімір** (Лепковский Казимир), сын Тадэвуша, брат *Вільгельма* і *Караля*, памешчык Аршанскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму на яго маёмасць накладаўся секвестр, які 12.1864 быў зняты. Знаходзіўся разам з братамі пад следствам у АСК, якая 25.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК *(2003—1—345—7; 3255—1—14—3адв.; 3257—2—2—20).*

3563. **Ляпкоўскі Караль** (Лепковский Карл), сын Тадэвуша, брат *Вільгельма* і *Казіміра*, памешчык Аршанскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму на яго маёмасць накладаўся секвестр, які 12.1864 быў зняты. Знаходзіўся разам з братамі пад следствам у АСК, якая 25.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК *(2003—1—345—7; 3255—1—14—3адв.; 3257—2—2—20).*

3564. **Ляпкоўскі Міхал** (Лепковский Михаил). Нар. каля 1838 г. у Дынабургскім (?) пав. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Удзельнічаў у паўстанні, хаваўся ад рас. уладаў і пазбег пакарання. Пастановай ваеннага суда (завочна?) прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(319—1—479—18; 320—1—398—223адв.; 1527—1—4—90-91).*

3565. **Ляпкоўскі (Лянкоўскі) Севярын** (Лепковский (Ленковский) Северин), брат *Ігната* і *Юльяна*, дваранін Курляндскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку афіцэрам. Да паўстання жыў у Дрысенскім пав., дзе арандаваў маёнтак Розна. За ўдзел у паўстанні разам з братамі 04.1863 арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 25.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—19; 320—1—398—134; 1416—3—21048—34; 1430—1—52163—596; 2601—1—2—156, 404; 2601—1—5—7адв.; 2616—1—40—12).*

3566. **Ляпкоўскі Сымон** (Лепковский Семен). Паходзіў з Каралеўства Польскага. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, захоплены ў палон рас. войскамі. 10.1863 высланы ва ўнутраныя губерні Расіі, пастановай суда ў г. Уладзіміры прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі ў Казанскую арыштанцкую роту. Пазней атрымаў амністыю і дазвол вярнуцца на радзіму, 11.1869 вярнуўся ў г. Варшаву. У 1881 г. падаў прашэнне аб дазволе на пераезд у Мінскую губ., дзе спадзяваўся паступіць на службу машыністам у Таварыства Паўднёва-Заходняй чыгункі *(295—1—3688—24-26).*

3567. **Ляпкоўскі Юльян** (Лепковский Юльян), брат *Севярына* і *Юльяна*, дваранін Зенбургскага пав. Курляндскай губ. Да паўстання жыў у Дрысенскім пав., дзе арандаваў маёнтак Розна. За дачыненне да паўстання разам з братамі 04.1863 арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Высланы (да 25.01.1864) з радзімы *(1416—3—21048—34адв.; 2601—1—2—156, 404; 2601—1—5—7адв.).*

3568. **Ляпкоўскі (Лепкавіцкі) Ян** (Лепковский (Лепковицкий) Иван), дваранін Горацкага пав. Да паўстання яго бацька валодаў мызай Стары Сялец Горацкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—19; 320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2616—1—40—14адв.).*

**Лясковіч Войцех** — гл. **Ляскоўскі Войцех**

3569. **Лясковіч Юльян** (Ляскович Юлиан), памешчык Лідскага пав. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—265; 2532—1—15—12адв.).*

3570. **Ляскоўскі (Лясковіч) Войцех** (Лясковский (Ляскович) Альберт), сын Фелікса, дваранін Лідскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткамі Кір'янаўцы і Пяткаўшчына Лідскага пав. Падчас паўстання агітаваў дваравых людзей удзельнічаць у ім, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы (да 01.10.1864) *(319—1—479—18; 320—1—398—129; 1416—6—274; 1430—1—52163—604).*

3571. **Ляскоўскі Ігнат** (Лясковский Игнатий), памешчык Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—7адв.).*

3572. **Ляскоўскі [Ігнат]** (Лясковский [Игнаций]). Служыў у рас. войску, меў чын афіцэра Генеральнага штаба. Да паўстання жыў у Ковенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Ігнат з Гарчызны, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—87; 319—1—479—18; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125).*

3573. **Ляскоўскі Мікалай** (Лясковский Николай), сын Вінцэнта, дваранін Віленскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.).*

3574. **Ляскоўскі Пётр** (Лесковский Петр), брат Яна, дваранін. Да паўстання служыў ακаномам маёнтка Крошын Навагрудскага пав., жыў у флігелі дома памешчыка Завадскага. Уночы з 2 на 3 сакавіка 1863 г. разам з *Дабкевічам Канстанцінам*, *Канько Антонам* і *Смысловым Уладзіславам* і пакінуў Крошын і далучыўся да паўстанцаў. *К. А.* і *С. У.* у паказаннях сцвярджалі, што разам з *Д. К.* пагражаў ім смерцю для прыцягнення ў атрад. Перад выхадам напісаў ліст брату са словамі: «Куды мы выйшлі, і самі не ведаем, але даўжэй сядзець немагчыма». Пасля арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(295—1—1643—119адв.; 296—1—18; 1416—1—247).*

3575. **Ляскоўскі Рыгор** (Лясковский Григорий), сын Якуба, селянін Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў «намеры даставіць пашпарты для двух сялян, якія адправіліся ў мяцеж». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла

доказаў віны і 28.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—53адв.-54)*.

3576. **Ляскоўскі [Станіслаў]** (Лясковский [Станислав]). Да паўстання служыў падпаручнікам 1-й палявой артылерыйскай брыгады рас. войскаў. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Собэк у якасці камандзіра паўстанцкага атрада, куды, сярод іншых, уваходзілі *Акулічы Баляслаў-Юзаф* і *Казімір-Юстын*, *Альшэўскі Станіслаў*, *Баратынскі Уладзіслаў*, *Булынка Цэзар*, *Варпяхоўскі Юльян*, *Вярыга Браніслаў*, *Гарбатоўскі Юзаф*, *Дамброўскі Леан*, *Дземідовіч Канстанцін-Андрэй*, *Дземянтовіч Аляксандр*, *Дышлеўскі Юзаф*, *Кавецкі Канстанцін*, *Казлоўскі Казімір*, *Канапацкі Базыль* (?), *Малішэўскі Уладзіслаў*, *Мількевіч Гіляры*, *Нарэвіла Мамерт* (?), *Падалецкі Аляксандр*, *Саковічы Мацей* і *Якуб*, *Тальшэўскі Альбін*, *Цехановіч Ян*, *Шыдлоўскі Адольф*, і якому пастаўляў харчаванне *Ялоўскі Юзаф*. Каля 06.1863 пераняў камандаванне атрадам *Свентарэцкага Баляслава*. Знаходзіўся каля г. Мінска, пасля чаго меў намер прабрацца ў Магілёўскую губ. Каля 25.10.1863 знаходзіўся з атрадам ля в. Лочын Ігуменскага пав. У далейшым забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—71, 88адв.; 296—1—56; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.; 2001—2—75)*.

3577. **Ляснеўскі Віктар** (Лесневский Виктор), сын Вінцэнта, дваранін Барысаўскага пав. Хр. 14.03.1822. У 1858 г. жыў у Віленскім пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй Я. Майдэля прысуджаны (да 12.09.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Вяцкую губ. *(320—1—398—32-36; 320—2—98—39)*.

3578. **Ляснеўскі Эрык-Антоні** (Лесневский Эрик-Антон), сын Ігната Янавіча, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. 24.01.1837. Да паўстання з'яўляўся памочнікам землямера. Удзельнічаў у паўстанні ў Ігуменскім пав., узяты ў палон казакамі ля в. Заброддзе пасля рассеяння паўстанцкага атрада. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 12.09.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 22.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(162—1—116—66; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—19; 320—1—398—289, 291; 320—2—98—39; 1418—3—1—42адв.-43)*.

3579. **Ляснеўскі Юзаф** (Лесневский Иосиф), памешчык. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам у Быхаўскім пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—195адв.; 2532—1—15—10адв.)*.

3580. **Ляснеўскі Юльян** (Лесневский Юлиан), дваранін Люблінскай губ. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Вялікае Мажэйкава Лідскага пав. графа Грабоўскага. Падчас паўстання распаўсюджваў сярод сялян маніфест польскага Нацыянальнага Урада і агітаваў іх далучацца да паўстанцаў. Арыштаваны, Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны (да 08.08.1863). Пастанову пра канфіскацыю ВілГП выдала 08.08.1863 *(319—1—479—18адв.; 1416—6—210; 1416—6—274)*.

3581. **Лясота Юзаф** (Лесота Иосиф), аднадворац Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—181адв.)*.

**Лясоўскі Антоні** — гл. **Ласоўскі Антоні**

3582. **Лясоцкі Вацлаў** (Лясоцкий Вацлав), сын Мацея. Да паўстання з'яўляўся лекарам, не меў чыну. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Маёмасць падлягала канфіскацыі на падставе распараджэння валынскага губернатара ад 16.08.1863 і пастановы ВалГП ад 27.08.1863 *(1416—6—230)*.

3583. **Лятасковіч Іосіф** (Лятоскович Осип), сын чыноўніка Юзафа Сымонавіча і Аляксандры Рыгораўны Гарбоўскай (праваслаўнай), брат *Яўгена*, дваранін Валынскай губ., праваслаўны. Нар. 10.04.1839 у г. Стараканстанцінаве Валынскай губ., хр. 14.04.1839 у Стараканстанцінўскім саборы. Вучыўся ў Валынскай гімназіі, затым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—1—53—2; 3257—2—2—20; 3286—2—1—6, 56-58)*.

3584. **Лятасковіч Яўген** (Лятоскович Евгений), сын чыноўніка Юзафа Сымонавіча (нар. каля 1809) і Аляксандры Рыгораўны Гарбоўскай (праваслаўнай), брат *Іосіфа*, дваранін Валынскай губ., праваслаўны. Нар. 13.12.1835 у г. Стараканстанцінаве Валынскай губ., хр. 27.12.1835 у Стараканстанцінаўскім саборы. Вучыўся ў Тэафільпольскім

дваранскім вучылішчы, потым, у 1851–1857 гг., у Валынскай губернскай гімназіі, да паўстання — у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—1—53—2; 3257—2—2—20; 3286—2—1—5, 55-58)*.

3585. **Ляткоўскі Мечыслаў** (Лятковский Мечислав), дваранін Мінскай губ. Да паўстання жыў у г. Слуцку, служыў засядальнікам Слуцкага павятовага суда, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў спробе пераправіць у паўстанцкі атрад 1 студэнта і 4 вучняў Слуцкай гімназіі, 25.04.1863 арыштаваны. Звольнены са службы, яго маёмасць часткова прададзена з аўкцыёну. Пастановай ПВСЗБА, канфірмаванай 30.03.1864 М. Мураўёвым, вызвалены ад абвінавачанняў, але, як «заўважаны ў нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах і які дазволіў сабе самавольныя адлучкі з месца службы», прызначаны да ссылкі на жыхарства ў Казанскую губ. без пазбаўлення правоў. На яго рухомую маёмасць, ацэненую ў 45,02 руб., накладзена забарона. 13.05.1864 хадайнічаў аб вяртанні грошай за маёмасць і грошай на ўтрыманне за час зняволення і інш. *(162—1—116—103; 295—1—1711; 299—1—577—550-554; 299—1—579—974-978)*.

3586. **Ляўгін (Лаўгін) Казімір** (Ляугин (Лаугин) Казимир), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242)*.

3587. **Ляўданскі Антоні** (Лявданский Антон), сваяк *Станіслава*, памешчык Віленскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11)*.

3588. **Ляўданскі Баляслаў** (Лявданский Болеслав). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

3589. **Ляўданскі Бенядыкт** (Лявданский Бенедикт), сваяк (?) *Эдварда*, дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—18; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

3590. **Ляўданскі Станіслаў** (Лявданский Станислав), сваяк *Антонія*, памешчык Віленскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11)*.

3591. **Ляўданскі Эдвард** (Лавданский Эдуард), сваяк (?) *Бенядыкта*, дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—18; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

3592. **Ляўданскі N.** (Ляуданский N.), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—29адв.)*.

3593. **Ляўковіч Аляксандр** (Левкович Александр), дваранін Віцебскага пав. Да паўстання служыў засядальнікам Віцебскай палаты крымінальнага суда. Разам з *Войнам Аляксандрам* і *Косавым Аляксандрам* западозраны рас. уладамі ў тым, што «знаходзіцца ў сяброўстве з палітычным злачынцам» *Корбутам Маўрыцыем* і што «ведаў пра выхад з Віцебска маладых людзей для складання мяцежніцкай шайкі, рабіў грашовую складку на пакупку зброі». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне ў спачуванні польскім непарадкам» 23.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—51адв.-52; 3046—2—5—29)*.

3594. **Ляўковіч Вінцэнт** (Левкович Викентий), дваранін. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—115)*.

3595. **Ляўковіч Канстанцін** (Левкович Константин), мешчанін г. Навагрудка, каталік. Падчас паўстання абвінавачаны зняволенай у нясвіжскай турме жаўнеркай Даротай Навіцкай у асабістым удзеле ў паўстанні, таму арыштаваны. Зняволены ў турме г. Нясвіжа. Спачатку знаходзіўся пад следствам у ССК, потым у МСК, якая не знайшла доказаў віны. У сувязі з гэтым паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 04.04.1864 падлягаў вызваленню ад адказнасці «ў палітычных адносінах». Аднак працягваў утрымлівацца ў турме ў г. Слуцку за пражыванне без пісьмовых дакументаў *(295—1—1643—121; 295—1—1710; 1524—1—1—8)*.

3596. **Ляўковіч Ян** (Левкович Иван), сын Паўла, селянін Слуцкага пав., праваслаўны. За «па-

літычныя злачынствы» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—Г—1—7адв.)*.

3597. **Ляховіч Тэадор** (Лякович Федор), сын Нічыпара, селянін. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам маёнтка Забалоцце. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.)*.

3598. **Ляховіч Ян** (Лякович Иван), сын Леапольда, дваранін Рыжскай губ. Да паўстання валодаў домам у г. Браслаў Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—260)*.

3599. **Ляхоўскі Антоні** (Ляховский Антон), сын Марціна, дваранін Бельскага пав. Да паўстання жыў у в. Гарнова Бельскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 09.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—287; 1430—1—52163—150)*.

3600. **Ляцко N.** (Ляцко N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Скубяты Віленскага пав. Паўстанцы былі ў Скубятах і бралі харчовыя прыпасы, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3601. **Лячыцкі Юльян** (Лечицкий Юлиан). Служыў малодшым ардынатарам Алмацінскага шпіталя, надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Пскоў *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—23)*.

3602. **Ляшкевіч Эмілія** (Лешкевич Эмилия (Амалия, Амелия)), дачка памешчыка Гомельскага пав. Гераніма Юзафавіча. Падчас паўстання сшыла польскі касцюм з канфедэраткай і мела намер сшыць польскі сцяг, за што арыштавана (да 26.05.1863) і зняволена ў г. Гомелі. Маёнтак яе бацькі падлег паліцэйскаму нагляду *(2003—2—45—1-9адв.)*.

3603. **Ляшчынская Анеля** (Лещинская Анеля), дваранка. Да паўстання ўдава, жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—18; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

3604. **Ляшчынскі Аляксандр** (Лещинский Александр), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады ці на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—18адв.; 1430—1—52163—521)*.

3605. **Ляшчынскі Канстанцін** (Лещинский Константин), аднадворац. Да паўстання жыў у с. Рыбна Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—18адв.; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

3606. **Ляшчынскі Ян** (Лещинский Иван). Западозраны рас. уладамі ў прыналежнасці да патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.)*.

3607. **Ляшэвіч Павел-Калікст** (Лешевич Павел-Каликст), сын Міхала, дваранін. Да паўстання служыў канцылярыстам VII акругі шляхоў зносінаў. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК, на яго маёмасць накладзены секвестр. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва прызначаны (да 08.08.1864) да пазбаўлення адказнасці, а яго маёмасць — да вызвалення ад секвестру *(1416—4—11416—125; 3257—2—2—21)*.

# М

3608. **Магілевіч Тэадор** (Могилевич Федор), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 29.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 03.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

3609. **Магільніцкі Ежы-Павел** (Могильницкий Юрий-Павел), сын Пятра Ігнатавіча, брат Казіміры (v. Машынскай) і Ірэны, памешчык Слуцкага пав. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», 06.1863 сустракаўся ў *Аскеркам Міхалам*. Арыштаваны, на следстве даваў паказанні, сярод іншага, пра *А. М.* Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго маёнтак Філіпавічы Слуцкага пав. (ацэнены прыкладна ў 30 тыс. руб.) секвестраваны

паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864; потым Філіпавічы і яшчэ яго маёнтак Кіявічы Слуцкага пав., ацэнены прыкладна ў 90 тыс. руб., канфіскаваны. У 1870-х гг. атрымаў частковую амністыю, вярнуўся з ссылкі і пасяліўся ў в. Матковіцы Андрэеўскага пав. Кялецкай губ. У 1876 г. атрымаў дазвол на вяртанне і сталае пражыванне ў Мінскай губ., 08.1876 прыбыў у г. Мінск, пасяліўся ў доме Ваньковічаў. У 1877 г. дамогся вяртання правоў дваранства *(162—1—116—57; 295—1—1643—141; 295—1—3047; 296—1—89—23; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—21; 320—1—398—462, 494; 320—2—98—40адв.; 320—2—99—38адв.-39; 534—1—14—5, 8; 1430—1—52163—375; 3256—2—29—29адв.).*

3610. **Магілянец Юзаф** (Могилянец Осип), селянін Слуцкага пав. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыка *Вэндарфа Браніслава.* Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. На следстве даваў паказанні пра *В. Б.* 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—34адв., 281адв.).*

3611. **Магнушэўскі Ян** (Магнушевский Ян), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

3612. **Магулеўскі Ян** (Могулевский Иван), аднадворац Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве, канфірмаванай камандуючым войскамі Кіеўскай вайсковай акругі, прызначаны да вызвалення *(1416—4—11416—348).*

3613. **Мадзалеўскі Яўстах** (Модзолевский Евстафий), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

3614. **Маеўскі Алаізі** (Маевский Алоизий), дваранін Пружанскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі фальв. Рукавец Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую ці Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

3615. **Маеўскі Вінцэнт** (Маевский Викентий), дваранін. Да паўстання служыў настаўнікам музыкі жаночага інстытута ў г. Беластоку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Вяцкую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—23).*

3616. **Маеўскі Зянон** (Маевский Зенон), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—3адв.).*

3617. **Маеўскі (Май-Маеўскі) Ігнат** (Маевский (Май-Маевский) Игнатий), сын Юзафа, дваранін Мінскай губ., муж Адэлі. Нар. каля 1808 г. За дачыненне да паўстання сасланы без пазбаўлення правоў стану на службу ў рас. войска Служыў у Ніжагародскім пяхотным палку. Пасля атрымання амністыі пасяліўся ў Балькоўскай гміне Ленчыцкага пав. Калішскай губ., дзе служыў пісарам з 24.05.1869 да 25.03.1875. Залічаны ў склад сталых жыхароў г. Варшавы. 26.01.1876 вызвалены з-пад нагляду паліцыі. 02.03.1876 атрымаў пашпарт на вяртанне ў Мінскую губ. разам з жонкай і чатырма дачкамі, у тым ліку Аленай (нар. каля 1864) і Стэфанідай (нар. каля 1867 г.). Не маючы ўласных сродкаў на паездку, быў высланы з Варшавы ў г. Мінск «этапным парадкам», з-за чаго памылкова пасля прыбыцця 31.05.1876 змешчаны ў мінскай гарадской турме, адкуль выпушчаны 14.06.1876. (Яго сын Юльян (нар. каля 1857) застаўся ў г. Ленчыцах для заканчэння вучобы ў настаўніцкай семінарыі.) Знаходзіўся ў складаным матэрыяльным стане, 11.1876–08.05.1878 жыў у доме агульнага прытулку на Багадзельнай вул. г. Мінска. Памёр тамсама 08.05.1878, пахаваны на Кальварыйскіх могілках *(295—1—3026—8адв.-9; 295—1—3040—1-4, 10-13, 27-28; 295—1—3083; 295—1—3492—44адв., 50).*

3618. **Маеўскі Канстанцін** (Маевский Константин), сын Міхала, памешчык Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1815 г. Падчас паўстання належаў да «таемнай рэвалюцыйнай арганізацыі па Навагрудскім павеце». Знаходзіўся пад следствам у ВілСК. На следстве *Чэрнік Вандалін* даваў паказанні, што прывозіў у паўстанцкі атрад бялізну. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13(18?).12.1864 прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. без пазбаўлення правоў са спагненнем узмоцненага 10-працэнтнага збору з яго маёмасці (без канфіскацыі). У Навагрудскім пав. яе не знойдзена. Пазней атрымаў амністыю і вярнуўся на радзіму, дзе за ім быў усталяваны паліцэйскі нагляд, які пазней быў зняты. 12.1876 жыў у маёнтку Кулікоўка Свержанскай вол. Мінскага

пав., 01.1882 — таксама ў Мінскім пав. *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 295—1—3026—28адв.; 295—1—3492—37адв.-38, 85адв.; 296—1—99—5-8; 320—1—398—679; 1416—3—21057).*

3619. **Маеўскі Францішак** (Маевский Франц), мешчанін. Да паўстання з'яўляўся пяцісоцкім м. Харошчы Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

3620. **Маеўскі N.** (Маевский N.). Служыў суддзёй у Новааляксандраўскім пав., выйшаў у адстаўку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

**Мажанскі Міхал** — гл. **Андрэеў Бенядыкт**

3621. **Мажанскі Юзаф** (Можанский Иосиф), сын Паўла, дваранін. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 26.02.1864 *(296—1—90—15адв.-16).*

3622. **Мажанскі Ян** (Можанский Иван), сын Ануфрыя, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 28.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Пераведзены ў г. Мінск. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 26.02.1864 зняволены ў гарадской турме *(296—1—90—15адв.-16; 1418—3—1—46адв.-47).*

3623. **Мажарскі Канстанцін** (Можарский Константин). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(1416—3—21048—35адв.; 3046—2—5—32адв.).*

3624. **Мажэйка Базыль** (Можейко Василий), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1843 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—104).*

3625. **Мажэйка Юзаф** (Можейко Иосиф). Да паўстання служыў стралком пастаяннай лясной варты Панявежскага лясніцтва ў чыне шарагоўца. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

3626. **Мажэйка Ян** (Можейко (Можайко) Иван), дваранін Слуцкага пав. Нар. каля 1815 г. Да паўстання жыў у в. Каласаўшчына Слуцкага пав., валодаў 1 валокай зямлі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Пермскую губ. *(295—1—1527—104адв.; 295—1—1643—131).*

3627. **Мазанін Лявон** (Мазанин Леон), сын Дарафея, селянін Ігуменскага пав., праваслаўны. Абвінавачаны ў дастаўцы паўстанцам харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 10.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—48адв.-49).*

3628. **Мазурык Лявон** (Мазурик Леон), селянін Новачэрвішчанскай сельскай грамады. Да паўстання служыў у *Орды Міхала.* Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля выехаў за мяжу. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.09.1865 яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(160—2—682—230; 162—1—122—38).*

3629. **Мазырка Юзаф** (Мозырко Иосиф), аднадворац. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

**Маісевіч Антоні** — гл. **Майсевіч Антоні**

**Май-Маеўскі Ігнат** — гл. **Маеўскі Ігнат**

3630. **Майндфар (Меендарф) Міхал** (Майндфор (Меендорф) Михаил (Михайло)), сын Адольфа, іншаземец. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1864 г. высланы ў Табольскую губ. *(295—1—1643—140адв.; 1418—3—1—46адв.-47).*

3631. **Майсевіч (Маісевіч) Антоні** (Мойсевич (Моисевич) Антон), аднадворац Чавускага пав. Да паўстання служыў валасным пісарам. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105адв.; 2514—1—2198—69; 3257—2—2—23; 3366—1—5—7адв.).*

3632. **Майсеявец Васіль** (Мойсеевец Василий), сын Каленіка, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Баландзічы Кобрынскага пав. За ўдзел

у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2).*

3633. **Макавецкая Юзэфа** (Маковецкая Юзефина), памешчыца Магілёўскай губ. За дачыненне да справы *Макавецкага Міхала* знаходзілася пад судом у МагВСК. Прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Ніжагародскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—194адв.; 3257—2—2—22).*

3634. **Макавецкі Антоні** (Маковецкий Антон), сын Людвіка, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Людвінова Себежскага пав. За «спачуванне да мяцяжа» паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 накладаўся секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты *(296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—36; 1430—1—31307—116адв.; 1430—1—52163—418адв., 432, 437, 476адв., 573адв., 824).*

3635. **Макавецкі Аркадзь-Антоні** (Маковецкий Аркадий-Антон), сын Генрыка Янавіча, брат *Генрыка*, дваранін Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1871 г. жыў у Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У 1874 г. у г. Кастраме атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі без выключэнняў *(295—1—2535; 319—1—479—21адв.; 320—1—398—575адв.; 1430—1—35146—154; 1430—1—52163—242адв.; 2003—1—211—53-55).*

3636. **Макавецкі Браніслаў** (Маковецкий Бронислав), сын *Юзафа*, дваранін Себежскага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам Себежскага павятовага суда, яго бацька валодаў маёнткам Заласем'е (Заламілле) Себежскага пав. 03.1863 пакінуў г. Себеж. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). 08.1863 утрымліваўся ў г. Дынабургу. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір. На маёнтак бацькі накладзены секвестр, а потым забарона. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў Пскоўскую губ., дзе ў 1879 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. *(319—1—479—21; 320—1—398—134; 1416—3—21048—35; 1430—1—31259—33, 40адв.; 1430—1—31259—33; 1430—1—36707—1; 1430—1—52163—20, 416, 596, 824; 2616—1—40—12).*

3637. **Макавецкі Генрык** (Маковецкий Генрих), сын Генрыка Янавіча, брат *Аркадзя-Антонія*, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні, служыў прапаршчыкам корпуса ляснічых. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 22.08.1864 накладзена забарона *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2616—1—40—14).*

3638. **Макавецкі Міхал** (Маковецкий Михаил), дваранін Магілёўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Чарнаручча Магілёўскага пав., які належаў яго жонцы. Падчас паўстання займаўся фарміраваннем атрада ў Чарнаруччы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Вайніловіч Лукаш*, *Грабніцкі Эдвард*, *Завусцінскі Ігнат*, *Макавецкая Юзэфа*. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(319—1—479—21адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2003—1—405; 3257—2—2—5, 8, 14, 22, 23адв.).*

3639. **Макавецкі Стэфан** (Маковецкий Стефан), памешчык Быхаўскага і Чэрыкаўскага пав. Добраахвотна прыняў на сябе аплату выдаткаў, у тым ліку 27,87 руб., на высылку з радзімы *Бразоўскага Адольфа (2003—1—429).*

3640. **Макавецкі Уладзімір** (Маковецкий Владимир), сын Генрыка, дваранін Чэрыкаўскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў к адстаўку ў чыне падпаручніка. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 07.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 20.09.1863 справа пададзена ў МагВСК. Прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—9адв.; 2001—2—14—9адв.; 2514—1—2198—68адв.; 3257—2—2—22адв.; 3366—1—5—7адв.).*

3641. **Макавецкі Юзаф** (Маковецкий Иосиф), сын Іаахіма, бацька *Браніслава*, муж Веранікі, памешчык. Да паўстання служыў суддзёй, губернскі сакратар. Валодаў таксама маёнткам Заласем'е Себежскага пав. (1016 дзес. зямлі, 28795 руб. доўгу). За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Варонежскую губ. пад строгі нагляд паліцыі. На яго маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 накладаўся секвестр. Паселены ў г. Баброў. Тут

звяртаўся да ўладаў з прашэннямі 19.03.1864 аб выдачы матэрыяльнай дапамогі і 20.08.1864 аб зняцці секвестру з маёмасці. Жонка асобна 12.1864 падавала прашэнні аб зняцці секвестру, які, аднак, 20.04.1865 яшчэ не быў зняты. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Пскоў, дзе ў 1869 г. атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—54-55; 296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—36; 1430—1—31307—116адв.; 1430—1—31355—134; 1430—1—31583—8-11, 41-43, 61-63, 71-73; 1430—1—52163—418адв., 432, 437, 476адв., 573адв., 693-695).*

3642. **Макарава Марыя** (Макарова Марья), дваранка г. Вільні, каталічка. Абвінавачана рас. уладамі ў «ліставанні з польскімі злачынцамі і ў спачуванні ім». Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 20.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—56адв.-57; 3046—2—5—32).*

3643. **Макарскі Эдвард** (Макарский Эдвард), сын Апалінарыя, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 04.10.1863 справа пададзена ў МагВСК *(3257—2—2—22адв.; 3366—1—5—7адв.).*

3644. **Макарскі Эдвард** (Макарский Эдуард), сын Тамаша, дваранін Мінскай губ. ці Дзісенскага пав. Да паўстання жыў у г. Маскве, валодаў сумесна з братам домам у г. Мінску. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Указ МГП аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 13.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1900—9адв.-10; 296—1—25—104; 299—1—577—511-513; 319—1—479—21; 320—1—398—169-173, 179; 320—2—98—40адв.).*

3645. **Макарэвіч Цэзар** (Макаревич Цезарий), сын Станіслава, дваранін Віцебскага пав., каталік. Служыў чыноўнікам. Западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на карысць паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—54адв.-55; 3046—2—5—32).*

3646. **Макоўскі Аляксандр** (Маковский Александр), сын Юзафа Тамашавіча, дваранін Мінскага пав. Нар. 26.02.1829. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. На яго рухомую маёмасць у г. Мінску, ацэненую ў 20,2 руб., накладзена забарона. МГП 27.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33, 51; 295—1—1643—130адв.; 319—1—479—21; 320—1—398—220, 222, 387, 401адв.; 320—2—98—40).*

3647. **Макоўскі Андрэй** (Маковский Андрей), мешчанін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—20; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

3648. **Макоўскі Леанард** (Маковский Леонард), сын Антонія. Да паўстання служыў памочнікам акцызнага наглядчыка Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

3649. **Макрыца (Мокрыц) Яфрэм (Ахрэм)** (Мокрица (Мокриц) Ефрем (Ахрем)), селянін. Да паўстання прыпісаны да в. Мачулішча Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, забіты (?). Яго справа разглядалася ў Магілёўскай губ., пададзена на канфірмацыю магілёўскім губернатарам. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 17.08.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—140; 320—1—398—568; 2003—1—310; 2514—1—2198—69; 3257—2—2—24).*

3650. **Макрыцкі Браніслаў** (Мокжицкий Бронислав), сын Алаізія, памешчык. 19.04.1863 з маёнтка Вежкі Барысаўскага пав., якім валодала яго маці, далучыўся да паўстанцаў. За гэта на Вежкі накладзены секвестр *(295—1—1543; 296—1—89—46адв.; 299—1—577—518-543адв.).*

3651. **Макрэцкі Адам** (Мокржецкий Адам), дваранін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—19адв.).*

3652. **Макрэцкі Аляксандр** (Мокржецкий Александр), дваранін Віленскай (?) губ. Да паўстання служыў у Віленскай ПДМ; губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

3653. **Макрэцкі Баляслаў** (Мокржецкий Болеслав), памешчык Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні

прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—19адв.; 1430—1—52163—154адв.)*.

3654. **Макрэцкі N.** (Мокржецкий N.). Да паўстання жыў у г. СПб, служыў паручнікам корпуса ляснічых. Падчас паўстання належаў да складу падпольнай арганізацыі ў СПб, схаваўся ад рас. уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, узнагарод, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніке на 12 гадоў *(320—1—398—780; 2003—1—474—1-3 і інш.)*.

3655. **Максімовіч Францішак** (Максимович Франц), сваяк (?) *Якуба*, аднадворац. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—9)*.

3656. **Максімовіч Юзаф** (Максимович Иосиф), сын Казіміра, дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1843 г. Да паўстання служыў канцылярыстам Лепельскага павятовага суда. 20.04.1863 пакінуў г. Лепель. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На яго маёмасць 08.10.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 10.09.1863 накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам. 29.12.1863 выдадзены загад М. Мураўёва аб канфіскацыі яго маёмасці. Пасля частковай амністыі пераведзены на пасяленне ў Тамбоўскую губ., адкуль вярнуўся часова на радзіму, у 1875 г. атрымаў дазвол застацца на сталае жыхарства. 12.1876 жыў у Барысаўскім пав. У 1880 г. жыў г. Віцебску на Дварцовай вул., адкуль 06.1880 выбыў у маёнтак кн. Мікалая Аляксеевіча Каланчукова ў Цемнікаўскі пав. Тамбоўскай губ. *(295—1—1527—94адв., 101адв.; 295—1—3026—37адв.-38; 319—1—479—21адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—35; 1430—1—31259—29; 1430—1—35810—31; 1430—1—35834—90; 1430—1—36707—15-18; 1430—1—52163—410, 596адв.; 2616—1—40—12адв.)*.

3657. **Максімовіч Юзаф** (Максимович Иосиф), сын Мацея, селянін, каталік. Да паўстання дваравы чалавек маёнтка Сенна Навагрудскага пав. памешчыкаў Пуслоўскіх. Падчас паўстання 05.04.1863 увайшоў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку ў астрогу, дзе знаходзіўся яшчэ 07.09.1863. Потым утрымліваўся ў г. Мінску, знаходзіўся пад следствам у МСК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—1585; 295—1—2420—11адв.; 295—1—2725—10; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—3)*.

3658. **Максімовіч Якуб** (Максимович Яков), сваяк (?) *Францішка*, аднадворац. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—9)*.

3659. **Максімчык (Максімік) Пётр** (Максимчик (Максимик) Петр), сын Аляксея, селянін Слуцкага пав., праваслаўны. Да паўстання жыў у маёнтку Лецяшын Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, узяты ў палон. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2; 1524—1—1—8адв.)*.

3660. **Малахаў**[117] **Давыд** (Малахов Давыд), селянін. Да паўстання прыпісаны да в. Стаўбцы Сенненскага пав. ці жыў у ёй. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—22адв.)*.

3661. **Малахаў**[118] **Лук'ян** (Малахов Лукьян), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—3)*.

3662. **Малахоўскі Аляксандр** (Малаховский Александр), сын обер-афіцэра. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Будзіловіча Ігната*. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(1430—1—52163—183)*.

3663. **Малахоўскі [Уладзіслаў]** (Малаховский [Владислав]). Да паўстання служыў інжынерам у Корпусе шляхоў зносінаў у чыне афіцэра. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—223адв.)*.

---

[117] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[118] Тое ж.

3664. **Малахоўскі Францішак** (Малаховский Франц), мешчанін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281)*.

3665. **Малахоўскі Эдвард** (Малаховский Эдуард), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Томскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам паступаць на дзяржаўную службу ў Заходняй Сібіры і пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—115)*.

3666. **Малахоўскі Юзаф** (Малаховский Иосиф), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. 09.1864 прысуджаны да секвестру маёмасці і ссылкі «адміністрацыйным шляхам» на жыхарства ў «аддаленыя губерні» *(160—2—682—20, 101; 162—1—116—174; 295—1—1643—128; 1430—1—52163—379)*.

3667. **Малацкі Вінцэнт** (Малацкий Викентий). Да паўстання служыў у Мінскай казённай палаце, калежскі рэгістратар. Як «недастаткова добранадзейны» звольнены з забаронай паступаць на службу на радзіме *(160—2—680—145; 162—1—122—43)*.

3668. **Малевіч Аўгустын** (Малевич Августин), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.)*.

3669. **Малевіч Віктар** (Малевич Виктор), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Бярэзіна Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі і ў блаславенні іх, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Яго справа 21.06.1863 пададзена ЧВГМГ. Паводле пастановы следчай камісіі, высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. пад нагляд паліцыі. У 1871 г. вызвалены з-пад нагляду. У 1880 г. падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца ў Мінскую губ. *(295—1—1643—138; 295—1—3501; 1418—3—1—46адв.-47; 1430—1—52285—31)*.

3670. **Малевіч N.** (Малевич N.), памешчык Ваўкавыскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—162)*.

3671. **Малеўскі Францішак** (Малевский Франц), шляхціц Суражскага пав. Да паўстання жыў у г. Суражы. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і сасланы (да 15.01.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1416—3—21048—35адв.; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44)*.

3672. **Малеўскі Цыпрыян** (Малевский Киприян), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20; 1416—4—11416—114; 1430—1—52163—204)*.

3673. **Малеўскі N.** (Малевский N.), памешчык. Да паўстання жыў на мызе ля м. Новы Двор Троцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.05.1863 і пастановы ВілГП ад 05.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—243)*.

3674. **Малецкі Аляксандр** (Малецкий Александр). Да паўстання служыў вількамірскім павятовым суддзёй. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

3675. **Малецкі Антоні** (Малецкий Антон). Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Дубінкі Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі і пастаўках ім харчавання ў лес. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3676. **Малецкі Дамінік** (Малецкий Доминик). Служыў у рас. войску, меў чын афіцэра. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—20; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126)*.

3677. **Малецкі Каспер** (Малецкий Каспер). Служыў у войску, да паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне афіцэра. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88адв.; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.)*.

3678. **Малецкі Леапольд** (Малецкий Леопольд), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання», ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя губерні» і секвестру маёмасці *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379)*.

3679. **Малецкі Рамуальд** (Малецкий Ромуальд), сын Дамініка, памешчык Вількамірскага пав.

Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

3680. **Малецкі Юзаф** (Малецкий Иосиф), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(319—1—479—20; 1430—1—52163—521адв.; 2532—1—15—3адв.)*.

3681. **Маліноўская Пелагея** (Малиновская Пелагея), памешчыца Мінскай і Магілёўскай губ., удава палкоўніка. Абвінавачана ў агітацыі сялян далучыцца да паўстання. Паводле пастановы следчай камісіі, прызначана да высылкі «ва ўнутраныя губерні». Яе маёнтак Пабалава з зямлёй у в. Папоўцы Бабруйскага пав., ацэнены прыкладна ў 20 тыс. руб., секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 14.02.1864. Выслана пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне. У 1866 г. секвест-раваная маёмасць здадзена ў арэнду Міхаілу Фёдаравічу Гразнову за 1653 руб. на 1 год. Жыла ў г. Кунгур Пермскай губ. *(27—1—793—96-99; 162—1—116—166; 295—1—1643—134адв.; 296—1—89—10, 20; 320—2—99—33адв.; 1430—1—52285—31; 2514—1—2198—69; 2532—1—15—13адв.)*.

3682. **Маліноўская Тарэза**[119] (Малиновская Терезия), дваранка. За «ўзняцце сялян да паўстання» саслана на жыхарства ў Пермскую губ. *(295—1—1643—129адв.)*.

3683. **Маліноўскі Вінцэнт** (Малиновский Викентий), шляхціц Бельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—20адв.)*.

3684. **Маліноўскі Казімір** (Малиновский Казимир), сын Сільвестра Тадэвушавіча, дваранін Бабруйскага пав. Хр. 28.04.1840. Да паўстання служыў пісарам Пархімкаўскай вол. Бабруйскага пав. Падчас паўстання чытаў сялянам кнігі «падбухторнага зместу» («Перадсмяротная размова пустынніка Пятра» і «Размова пра свабоду») і агітаваў далучацца да паўстання, за што арыштаваны. Загадам У. Назімава ад 02.05.1863 аддадзены пад ПВС пры Новаінгерманландскім палку 3-й пяхотнай дывізіі ў г. Мінску. На следстве і судзе сцвярджаў, што не ведаў зместу твораў перад тым, як прачытаць іх сялянам. Пастановай ЧПА прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.06.1863 катарга заменена на ссылку на пасяленне ў «аддаленыя паветы» Табольскай губ. пад строгі нагляд паліцыі. 06.1863 адпраўлены на месца ссылкі *(295—1—1576—10-13; 295—1—1643—126адв., 129; 296—1—48; 319—1—479—21; 320—1—398—124, 251, 423; 320—2—98—40; 1430—1—52163—596б)*.

3685. **Маліноўскі Сільвестр** (Малиновский Сильвестр). Да паўстання служыў валасным пісарам. У 1863 г. западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і арыштаваны *(295—1—1643—128адв.)*.

3686. **Маліноўскі Уладзімір** (Малиновский Владимир), сын Ігната, дваранін Лепельскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Чарапоўшчына Лепельскага пав. 07.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада. Пасля эміграваў. 08.1875 вярнуўся на радзіму. Жыў пад наглядам паліцыі ў Лепельскім пав. да заканчэння следства па яго справе, распачатага пасля вяртання. 11.05.1876 атрымаў дараванне з правам жыць у Лепельскім пав. пад наглядам паліцыі. 08.1876 жыў у фальв. Чарапоўшчына, падаў прашэнне аб дазволе выехаць у г. Рыгу на 3 месяцы, 11.1876 атрымаў яго. Пасля прыбыцця ў Рыгу 01.1877 падаў прашэнне аб дазволе застацца тут на сталае жыхарства для адкрыцця фатаграфічнай майстэрні *(1430—1—35959)*.

3687. **Маліноўскі Юзаф** (Малиновский Иосиф), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». У 1871 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(296—1—25—109; 1430—1—35146—34; 1430—1—52163—616)*.

3688. **Маліноўскі Юзаф** (Малиновский Иосиф), сын Сільвестра Тадэвушавіча і Марыяны, дваранін Бабруйскага пав., каталік. Нар. 11.08.1842, хр. 30.09.1842 у Бабруйскім касцёле. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах Горы-Горацкага сельгасінстытута. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом

[119] Магчыма, ідэнтычная з *Маліноўскай Пелагеяй*.

у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.10.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—176; 320—1—398—651, 653; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—24; 3286—2—1—7адв., 188-189адв.).*

3689. **Маліноўскі Юстын** (Малиновский Устин), селянін. Нар. каля 1798 г. Да паўстання жыў у в. Дабрамыслі Барысаўскага пав., прыпісаны да Кавалевіцкай сельскай грамады. Падчас паўстання адмовіўся даваць падводы рас. войскам, за што 23.05.1863 арыштаваны. 23.05.1863 зняволены ў турме ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 16.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—67; 295—1—1527—103адв., 109; 295—1—2725—20; 299—1—577—514-517; 320—1—398—363).*

3690. **Маліноўскі Юстын** (Малиновский Юстин (Устин)), сын Юзафа Антоніевіча, дваранін Барысаўскага ці Ігуменскага пав., каталік. Хр. 15.12.1832. Да паўстання арандаваў дзяржаўную ферму ў в. Вольберавічы Барысаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення ў «дальнія губерні». 17.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір альбо сасланы ў Арэнбургскую губ. без пазбаўлення правоў стану. На яго рухомую маёмасць, ацэненую ў 110,4 руб., накладзена забарона. Ферма Вольберавічы секвестравана і ў 1864 г. перададзена ў кіраванне калежскаму асэсару Ігнату Курыловічу *(162—1—116—85адв., 103; 295—1—1643—133адв.; 296—1—25—92-94; 320—1—398—364, 375; 320—2—98—40; 1418—3—1—45адв.-46; 1430—1—52163—150адв.).*

3691. **Маліцкі Даніэль** (Малицкий Даниил), сын Бенядыкта, мешчанін Ашмянскага пав., каталік. Нар. каля 1827 г. Да паўстання служыў правіянтавым пісарам у Мазырскім пав. У 1863 г. западозраны ў агітацыі сялян на карысць паўстання і чытанні паўстанцкіх адозваў («Мужыцкай праўды»?) і арыштаваны. Зняволены ў турме ў г. Мазыры, потым пераведзены ў фартэцыю ў г. Бабруйск. 09.03.1865 аддадзены пад ПВСЗБА, пастановай якога ад 19.09.1866, канфірмаванай 10.04.1867 Э. Баранавым, «з-за адсутнасці ў справе дасканалых доказаў» пакінуты ў падазрэнні і вярнуты на радзіму ў Ашмянскі пав. 15.05.1867 адпраўлены з Бабруйска да ашмянскага павятовага спраўніка *(295—1—1769; 299—2—6399—20адв.-22; 299—2—6400—28адв.-30).*

3692. **Маліцкі Караль-Генрык** (Малицкий Карл-Генрих), дваранін, аўстрыйскі падданы. Нар. каля 1830 г. Да паўстання жыў у дзмітраўскага павятовага маршалка Арлоўскай губ. За ўдзел у паўстанні арыштаваны санкт-пецярбургскім паліцмайстрам, пры арышце ў яго адабраны 261,34 руб. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. Падчас перасылкі ўцёк (да 07.03.1864) у г. Маскве разам з *Козелам Яўстахам (296—1—25—106; 319—1—479—19адв.; 2601—1—5—18-19, 24-25).*

3693. **Малішкевіч Мікалай** (Малишкевич Николай), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 26.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—47адв.-48).*

3694. **Малішэўскі Адольф** (Молишевский Адольф), дваранін Слуцкага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Западозраны ў зборы грошай для паўстанцаў і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—9).*

3695. **Малішэўскі Уладзіслаў** (Малишевский Владислав), сын Віктара Францішкавіча, дваранін Мінскага пав., каталік. Хр. 21.11.1834. Да паўстання арандаваў маёнтак Францішкі Ігуменскага пав. памешчыка Катовіча. 21.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Ляскоўскага Станіслава.* Удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі 09.05.1863 ля в. Юравічы Ігуменскага пав., паранены, узяты ў палон. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 03.12.1863 аддадзены пад ПВС пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. 20.12.1863 яго справа вырашана і вернута В. Забалоцкаму, які 21.12.1863 адпраўлена М. Мураўёву. На следстве і судзе даваў поўныя паказанні. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым ад 02.01.1864, прысуджаны да пазбаўлення правоў дваранства і ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 25.02.1864 адпраўлены з Мінска на месца ссылкі. *(162—1—116—52; 295—1—1643—125адв., 140; 296—1—25—104адв.; 296—1—47; 319—1—479—21; 320—1—398—229, 394, 401адв.; 320—2—98—40).*

3696. **Малішэўскі Цітус** (Малишевский Титус), шляхціц. Да паўстання жыў у м. Ворні Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—20; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

3697. **Малуха Ілля** (Малуха Илья), сын Андрэя, селянін. Да паўстання жыў у в. Поўбераг Вераскаўскай вол. Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Пасля высланы з радзімы *(295—1—1699; 295—1—2725—9)*.

3698. **Малькоўскі Павел** (Мальковский Павел), сын Каспера, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у м. Целяханы Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.)*.

3699. **Малькоўскі Ян** (Мальковский Иван), мешчанін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—102; 319—1—479—19адв.)*.

3700. **Мальмунд Іпаліт** (Мальмунд Ипполит), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у фальв. Жыжмы Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—20; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

3701. **Малышчыцкі Францішак-Генрык** (Малыщицкий Франц-Генрих), шляхціц Пінскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць (калі будзе знойдзена) падлягала секвестру з 01.10.1864 *(296—1—89—12)*.

**Мальчук Адам** — гл. **Манчук Адам**

3702. **Малышэўскі Уладзіслаў** (Малышевский Владислав), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—46адв.-47)*.

3703. **Малюшыцкі Антоні** (Малюшицкий Антон), сын Міхала Францішкавіча, шляхціц ці дваранін. Да паўстання яго бацька валодаў зямлёй у вак. Умыркі Чавускага пав. Падчас паўстання западозраны ў імкненні далучыцца да паўстанцкага атрада. У 1864 г. паводле распараджэння А. Беклямішава адпраўлены ў г. Маскву для далейшай ссылкі на пасяленне на казённых землях. На зямлю бацькі на падставе ўказа МагГП ад 06.11.1863 накладзена забарона, якая 28.08.1866 яшчэ не знята *(2003—1—211—60-61, 85-93)*.

3704. **Малянчынскі Адам** (Маленчинский Адам), сын Віктара, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Лашкава (Лашкаўшчына) Невельскага пав. (1335 дзес. зямлі, 421 руб. гадавога прыбытку). Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). На яго маёмасць на падставе ўказа ВГП ад 07.06.1863 накладзены секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір. Яго частка Лашкава канфіскавана (да 24.07.1864) *(319—1—479—21; 320—1—398—134; 1416—3—21048—35; 1430—1—52163—20адв., 213адв.-214, 230, 423, 434, 571адв., 596, 666, 826адв.; 2616—1—40—10адв., 12)*.

3705. **Маляцінскі (Меляцінскі, Міляцінскі) Фелікс** (Малятинский (Мелятинский, Милятинский) Феликс), сын Пракопа, вольнаадпушчаны селянін. Да паўстання жыў у в. Камароўка Чэрыкаўскага пав. у хаце часоваабавязанага селяніна Пятра Барысава[120]. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Паводле ўказа МагГП ад 02.07.1863 яго рухомая маёмасць (адзенне, сталярскія прылады працы і інш.) на суму ў 15,35 руб. 08.08.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК *(2003—1—323; 3257—2—2—23адв.; 3366—1—5—7адв.)*.

3706. **Маневіч Тамаш** (Маневич Фома), дваранін Слуцкага пав. Западозраны ў «нядобранадзейнасці» і арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 12.04.1865. Зняволены ў мінскім турэмным замку і 27.04.1865 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуд адбыўся 11.05.1865 і пададзены мінскаму губернатару. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 19.01.1866 прысуджаны да грашовага штрафу ў 50 руб. і вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі з аддачай на парукі *(299—2—6399—25-26; 299—2—6400—23адв.-24)*.

3707. **Манкевіч Аўгуст** (Монкевич Август), сын Тамаша, муж Ванды, памешчык. Падаваў рас. уладам паведамленне пра напад паўстанцаў на яго фальв. Цвёрдаў Быхаўскага пав., аднак сам западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні і арыштаваны. З 01.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 25.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Утрымліваўся ў гэты час у бальніцы «богаўгодных устаноў» г. Магілёва. Потым знаходзіўся пад судом у МагВСК, дзе меў дачыненне да справы *Анцыпы Ільдэфонса*. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 17.06.1863 накладзена забарона. Пазней паводле канфірмацыі М. Мураўёва вызвалены ад адказнасці *(2001—2—14—10адв.; 2003—1—211—56-57; 3257—1—17—7адв.-8; 3257—2—2—22, 24)*.

[120] Верагодна, гэта імя па бацьку.

3708. **Манкевіч Вінцэнт** (Монкевич Винцентий), шляхціц Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20; 1430—1—52163—204).*

3709. **Манкевіч Геранім** (Монкевич Героним), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

3710. **Манкевіч Дамінік** (Монкевич Доминик), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20; 1430—1—52163—204адв.).*

3711. **Манкевіч (Мянькевіч) Канстанцін** (Монкевич (Менькевич) Константин), сын Антонія, дваранін Слуцкага пав., праваслаўны. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, у 1863 г. добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(295—1—1643—132адв.; 1524—1—1—8адв.).*

3712. **Манкевіч Павел** (Манкевич Павел), памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Ёці Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—20; 320—1—398—133; 1430—1—52163—600).*

3713. **Манкевіч Станіслаў** (Монкевич Станислав), сын Антонія Янавіча, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 23.12.1841. Да паўстання жыў у фальв. Мошак ля м. Шклова Магілёўскага пав. памешчыцы Бібікавай. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—21адв.; 320—1—398—432-433; 320—2—98—40адв.; 1416—4—11416—130; 3257—2—2—22адв.).*

3714. **Манкевіч Сымон** (Монкевич Симон), селянін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, у 1863 г. добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(295—1—1643—132адв.).*

3715. **Манкевіч Юзаф** (Монкевич Иосиф), мешчанін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—22).*

3716. **Манкевіч Ян** (Монкевич Иван), сын Юзафа, дваранін Рагачоўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—21адв.; 3257—2—2—23).*

3717. **Мансветаў Андрэй** (Мансветов Андрей). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72).*

3718. **Манствіла Францішак** (Монствилло Франц), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20адв.; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

3719. **Манстовіч Баляслаў** (Монстович Болеслав), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—204адв.).*

3720. **Мантвіл N.** (Монтвил N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Трашкуны, Мітанішкі і інш. Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

3721. **Мантвіла Аляксандр** (Монтвилло Александр). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, губернскі сакратар. Валодаў маёнткам у Хвейданскай парафіі Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» пастановай ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8; 1416—6—281).*

3722. **Мантвіла Антоні** (Монтвилло Антон), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам у Хвейданскай парафіі Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы

КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—6).*

3723. **Мантвіла Вінцэнт** (Монтвилло Викентий), сваяк *Мечыслава*, незацверджаны дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1416—4—11416—115; 1430—1—52163—205).*

3724. **Мантвіла Мечыслаў** (Монтвилло Мечислав), сваяк *Вінцэнта*, незацверджаны дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1416—4—11416—115; 1430—1—52163—205).*

3725. **Мантовіч Рудольф** (Монтович Рудольф), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам з в. Сямёнаўка і Астапкаўшчына Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 15.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—224адв.; 1416—6—214).*

3726. **Мантрымовіч Леанард** (Монтримович Леонард), дваранін Панявежскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, меў чын губернскага сакратара. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—20адв.; 1416—6—281).*

3727. **Мантрымовіч Оттан** (Монтримович Оттон), дваранін. Да паўстання жыў у в. Відзі Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—20; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.).*

3728. **Мантурэвіч Баляслаў** (Мантуревич Болеслав). Да паўстання служыў столаначальнікам Свянцянскага павятовага суда. Паводле даносу *Жагялоўскага Уладзіслава* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пасля за «палітычную нядобранадзейнасць» высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1416—6—274; 1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19).*

3729. **Мантэйфэль-Зэге Рышард** (Мантейфель-Зеге Ричард), сын Якуба, брат *Яна*, дваранін Рэжыцкага пав., барон. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Дрыцаны Рэжыцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Частка Дрыцанаў канфіскавана. Пасля частковай амністыі вызвалены ад нагляду паліцыі і перасяліўся ў г. Рыгу. У 1873 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—35; 1430—1—35458—6; 1430—1—52163—421, 455адв., 596адв., 860-862; 2616—1—40—12адв.).*

3730. **Мантэйфэль-Зэге Ян** (Мантейфель-Зеге Иван), сын Якуба, брат *Рышарда*, памешчык, барон. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Дрыцаны Рэжыцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Пензенскую губ. Яго маёнтак секвестраваны (да 22.11.1863). Маці ў 1865 г. падала прашэнне аб вызваленні маёмасці ад секвестру. Паводле распараджэння А. Патапава ад 09.05.1865 секвестр здымаўся са спагнаннем узмоцненага дваццаціпрацэнтнага збору *(1416—3—21048—36; 1430—1—52163—108-109, 421, 860-862; 1430—1—52285—5, 42адв.).*

3731. **Манцэвіч Міхал** (Манцевич Михаил), сын Аляксандра Янавіча (калежскага асэсара) і Фяліцыі (*Фяліцыі*?), брат Аляксандра, Зінаіды (v. Бонч-Асмалоўскай), Паўла, Уладзіслава, Фяліцыі, Юзафа і *Яна*, памешчык. Нар. у Магілёўскай губ. Да паўстання разам з братам служыў у батарэйнай № 1 батарэі 3-й Зводнай брыгады, меў чын прапаршчыка. Валодаў на правах суспадчынніка маёнткамі Сенькава Магілёўскага пав. (872 дзес. зямлі, дом, кузня, млын, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 426,87 руб. ср. гадавога прыбытку), Чарнавусы Мсціслаўскага пав. і Сяльцо Быхаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. 06.06.1863 а 10 гадзіне раніцы расстраляны ў г. Магілёве разам з *Анцыпам Ільдэ-*

*фонсам*, *Корсакам Уладзімірам* і братам пры «вялізным зборы народу». Яго сумесная з братам зямля ў Сенькаве прынята ў казну 10.07.1870, у 1872 г. выстаўлена на продаж «асобам рускага паходжання» за 930 руб. і 05.02.1873 прададзена стацкаму радцу Лакашчэнку. *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—21адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.; 1781—2—5602—42, 49; 2001—2—123—6; 2001—3—23—2, 3, 3адв.; 2003—1—372—200; 2003—1—445—14адв.; 2003—2—19—7адв.-8; 2003—2—90—33-39; 2014—1—772; 3257—1—4—20; 3257—2—2—22).*

3732. **Манцэвіч Фяліцыя** (Манцевичева Фелицыя), дачка Станіслава, маці (?) *Міхала* і *Яна*, памешчыца. Западозрана ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад судом у МагВСК *(3257—2—2—22адв.)*.

3733. **Манцэвіч Ян** (Манцевич Иван), сын Аляксандра Янавіча (калежскага асэсара) і Фяліцыі (*Фяліцыі*?), брат Аляксандра, Зінаіды (v. Бонч-Асмалоўскай), *Міхала*, Паўла, Уладзіслава, Фяліцыі і Юзафа, памешчык. Нар. у Магілёўскай губ. Да паўстання разам з братам служыў у батарэйнай № 1 батарэі 3 Зводнай брыгады, меў чын прапаршчыка. Валодаў на правах суспадчынніка маёнткамі Сенькава Магілёўскага пав. (872 дзес. зямлі, дом, кузня, млын, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 426,87 руб. ср. гадавога прыбытку), Чарнавусы Мсціслаўскага пав. і Сяльцо Быхаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. 06.06.1863 а 10 гадзіне раніцы расстраляны ў г. Магілёве разам з *Анцыпам Ільдэфонсам*, *Корсакам Уладзімірам* і братам пры «вялізным зборы народу». Яго сумесная з братам зямля ў Сенькаве прынята ў казну 10.07.1870, у 1872 г. выстаўлена на продаж «асобам рускага паходжання» за 930 руб. і 05.02.1873 прададзена стацкаму радцу Лакашчэнку *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—21адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.; 1781—2—5602—42, 49; 2001—2—123—6; 2001—3—23—2, 3, 3адв.; 2003—1—372—200; 2003—2—19—7адв.-8; 2003—2—90—33-38; 2014—1—772; 3257—1—4—20; 3257—2—2—22).*

3734. **Манчук (Мальчук) Адам** (Манчук (Мальчук) Адам), сын Данілы і Петрунэлі, брат Іосіфа (нар. каля 1837) і Мікіты (нар. каля 1843), казённы селянін Кобрынскага[121] пав., праваслаўны. Нар. каля 1838 г. Служыў памочнікам сельскага пісара Радагскай сельскай грамады Кобрынскага пав., выйшаў у адстаўку. Да паўстання жыў у м. Бездзеж Кобрынскага пав., нежанаты. На пачатку чэрвеня 1863 г. па ўласнай волі ўступіў у паўстанцкі атрад *Траўгута Рамуальда*, там узброены касой. Знаходзіўся пры абозе атрада. Пасля некалькіх сутычак, у якіх не ўдзельнічаў непасрэдна, дабраахвотна пакінуў атрад, кінуў у лесе касу і з'явіўся да рас. уладаў у с. Малькавічы Пінскага пав., дзе здаўся казакам. Затым перавезены ў м. Столін Пінскага пав., адтуль — у вак. Плоніца, пасля чаго — у г. Пінск. Даў падрабязныя паказанні на следстве. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкагаад 20.09.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?), бо «ўцёк ад мяцежнікаў, і паказанні яго чыстасардэчныя». На месца жыхарства прыбыў, а грамада паручылася за яго *(296—1—19—281адв.; 296—1—73; 320—1—398—2).*

3735. **Манчунская (Мачунская) (**народжаная **Нарбут) Тэадора** (Мончунская (Мочунская) (урожденная Нарбут) Теодора), дачка *Нарбутаў Тэадора* і *Крысціны*, сястра *Нарбутаў Баляслава* і *Людвіка*, памешчыца. Да паўстання ўдава (?), валодала часткай маёнтка Шаўры Лідскага пав. За дачыненне да паўстання яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджана (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. «Уцёкамі з месца жыхарства асабістай адказнасці пазбегла» *(319—1—479—20; 320—1—398—574адв.; 1416—6—271; 1430—1—52163—240адв.).*

3736. **Манчунскі Альфонс** (Мончунский Альфонс), дваранін. Да паўстання служыў валасным пісарам у в. Калатраны Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—221адв.).*

3737. **Манчынскі Міхал** (Мончинский Михаил), сын Антонія, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Абвінавачаны калежскім сакратаром Марцінкевічам у агітацыі ўдзельнічаць у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў Віцебскім гарадскім паліцэйскім упраўленні. Абвінавачанні не пацвердзіліся, аднак падлягаў адпраўцы ў Дзісенскі пав. з прычыны адсутнасці ў яго пісьмовых дакументаў. Відавочна, потым западозраны ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 20.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—69-70; 3046—2—3—58адв.-59).*

[121] У некаторых крыніцах памылкова ўказваецца, што быў селянінам Пінскага пав.

3738. **Манчынскі Юзаф** (Манчинский Осип), аднадворац Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

**Манькевіч Баляслаў** — гл. **Мянкевіч Баляслаў**

3739. **Манькоўскі Ануфры** (Маньковский Онуфрий), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—19адв.).*

3740. **Манькоўскі Казімір** (Маньковский Казимир), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, знаходзіўся пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—7адв.).*

3741. **Манькоўскі Павел** (Маньковский Павел), брат *Францішка*, дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання арандаваў зямлю ў засц. Радзівішкі Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—4—11416—87адв.; 1430—1—52285—8; 2532—1—15—12).*

3742. **Манькоўскі Павел** (Маньковский Павел), дваранін Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

3743. **Манькоўскі Францішак** (Маньковский Франц), брат *Паўла*, дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—8; 2532—1—15—12).*

3744. **Манюкевіч Якуб** (Монюкевич Яков), сын Яна, селянін м. Мір Навагрудскага пав. Да паўстання служыў леснікам у Налібоцкай пушчы Ашмянскага пав. кн. Л. Вітгенштэйна. У 1863 г. разам з *Карніцкім Станіславам* і *Тарналіцкім Каралем* за тое, што «ведалі пра знаходжанне ў давераных ім лясных участках мяцежніцкіх шаек, але не данеслі пра гэта Начальству», рашэннем М. Мураўёва прызначаны (да 01.09.1863) да ссылкі з сям'ёй на жыхарства ў Вяцкую губ. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1605; 295—1—2725—9; 1430—1—35146—73).*

3745. **Манютка (Мянютка) Францішак-Андрэй** (Манютко (Менютко) Франц-Андрей), сын Іпаліта Казіміравіча, дваранін Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў *(162—1—116—64; 295—1—1643—140; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—164-175; 319—1—479—21; 320—1—398—211-213, 282, 291; 320—2—98—40; 3257—2—2—22адв.).*

3746. **Манюшка Адам** (Манюшко Адам), бацька *Даната*, памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Замошша Барысаўскага пав. 14.02.1863 арыштаваны за захоўванне «антыўрадавых твораў» і агітацыю сялян да паўстання, адасланы ў г. Мінск. Знаходзіўся пад следствам у МСК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і высылкі ў Арэнбургскую губ. з турэмным зняволеннем там на 3 месяцы *(160—2—682—108; 162—1—116—66, 166; 162—1—122—21; 295—1—1527—23, 26адв.; 295—1—1604—6адв.; 295—1—1643—127, 130адв.; 296—1—25—104адв., 109адв.; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—616адв., 796).*

3747. **Манюшка Аляксандр** (Монюшко Александр), дваранін Беластоцкага пав., ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле г. Горкі Магілёўскай губ., выкладаў закон Божы ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, 17.05.1863 арыштаваны ў Горках. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—530адв.; 1781—2—5602—35-38; 3257—2—2—23адв.).*

3748. **Манюшка Данат** (Монюшко Донат), сын *Адама*, дваранін Барысаўскага пав. Служыў асобным памочнікам люстратара Віцебскай губ., калежскі сакратар. 07.1861 прызначаны міравым пасрэднікам 3 участка Барысаўскага пав. Да паўстання ў яго служыў *Пятроўскі Мікалай*. Падчас паўстання парэкамендаваў *Сецкаму Апалінарыю* спаліць прынесеную яму газету «Мужыцкая праўда». У сувязі з гэтым западозраны ў «схаванай дзейнасці на шкоду Ўраду», бо павінен быў перадаць газету ў вышэйшыя інстанцыі. Рашэннем У. Назімава ад 19.04.1863 як «нядобранадзейны

ў палітычных адносінах» прызначаны да звальнення са службы. Асобна ад гэтага 18.04.1863 добраахвотна падаў прашэнне аб звальненні. 04.1863 звольнены *(295—1—1604)*.

3749. **Манюшка Клімент** (Монюшко Климентий), мешчанін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—20; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.; 2616—1—40—61адв.)*.

3750. **Манюшка Юзаф** (Монюшко Иосиф), сын Марціна, дваранін Варшаўскай ці Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ва ўніверсітэце ў г. СПб, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—68адв.; 3257—1—53—2; 3286—2—1—6)*.

3751. **Манюшэўскі Ян** (Монюшевский Иван), дваранін. Падчас паўстання ўтойваў зброю, за што аштрафаваны на 25 руб. *(295—1—1643—128)*.

3752. **Маразевіч Анеля** (Морозевич Анеля), дачка Яна, жонка Міхала, маці *Баляслава* і Людвіка, памешчыца. Да паўстання разам з сынамі валодала фальв. Гастынічы з часткай в. Красілава Сенненскага пав. (396 дзес. зямлі, 68 муж. полу сялян, 2 дамы, гаспадарчыя пабудовы, карчма, фруктовы сад, 269 руб. гадавога прыбытку). З прычыны падазрэння, што *Баляслаў* бярэ ўдзел ў паўстанні, маёнтак 14.08.1863 апісаны і ⅔ яго секвестраваны і пакінуты ў распараджэнні сына Людвіка. 05.10.1863 падала прашэнне аб вызвалені ад секвестру. Пазней секвестр зняты *(2003—1—367; 2003—1—383—1; 2003—1—445—6)*.

3753. **Маразевіч Баляслаў** (Морозевич Болеслав), сын Міхала і *Анелі*, брат Людвіка, памешчык. Вучыўся ва ўніверсітэце, які скончыў са ступенню кандыдата правоў. Да паўстання разам з маці і братам валодаў маёнткам Гастынічы Сенненскага пав. (гл. *Маразевіч Анеля*), служыў у Магілёўскім павятовым судзе. 04.1863 падаў прашэнне аб звальненні і, не дачакаўшыся адказу, выехаў у маёнтак маці. Западозраны ў дачыненні да паўстання, 06.1863 арыштаваны ў доме маці і зняволены ў г. Сянно. Маёнтак 14.08.1863 апісаны і 2/3 яго секвестраваны і пакінуты ў распараджэнні брата. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 01.03.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. З яго часткі маёнтка секвестр зняты са спагнаннем 10-працэнтнага збору. Пазней яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу і была выстаўлена на продаж у 1868 г. *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2003—1—367; 2003—1—383—1; 2003—1—445—6, 15; 2532—1—15—9адв.)*.

3754. **Маранецкі Станіслаў** (Моранецкий Станислав), дваранін. Да паўстання служыў у Вількамірскай дваранскай апецы. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Паводле пастановы ЧПА ад 21.06.1865 канфірмаванай К. фон Каўфманам, вызвалены як «ні ў чым не выкрыты», але звольнены са службы з забаронай паступаць на службу на радзіме *(160—2—680—135; 162—1—122—39)*.

3755. **Мараўскі Юзаф** (Моравский Осип), дваранін Ігуменскага пав., каталік. За нясвоечасовае данясенне рас. уладам пра двух павешаных сялян арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—48адв.-49)*.

3756. **Марачэўскі Адам** (Морачевский Адам), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—19адв.)*.

3757. **Маргевіч Аляксандр** (Моргевич Александр), дваранін Лідскага пав. Да паўстання валодаў фальв. Ганэлькі Лідскага пав., арандаваў у Табенскага 3 пусташы ў в. Замасцяны Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

3758. **Маргевіч Аляксандр** (Моргевич Александр), сваяк *Фелікса*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Самарскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2)*.

3759. **Маргевіч Гальяш** (Могевич Илья), дваранін. Да паўстання служыў арганістам у касцёле Св. Рафала ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

3760. **Маргевіч Ігнат** (Моргевич Игнатий), брат *Пятра*, дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—19адв.).*

3761. **Маргевіч Пётр** (Моргевич Петр), брат *Ігната*, дваранін. Валодаў фальв. Ганэлькі Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—19адв.).*

3762. **Маргевіч Фелікс** (Моргевич Феликс), сваяк *Аляксандра*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Самарскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2).*

3763. **Маргевіч Ян** (Моргевич Иван), дваранін Аршанскага пав. Нар. каля 1841 г. 22.04.1863 арыштаваны, калі праязджаў па Аршанскім пав., па падазрэнні ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Яго маёмасць падлягала секвестру. На следстве сцвярджаў, што ехаў па сваіх патрэбах, і доказаў для абвінавачання не было. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы. Маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15-22адв.; 2514—1—2198—68адв.).*

3764. **Маргульц (Маргулец) Стэфан-Юзаф** (Моргульц (Моргулец) Стефан (Степан)-Иосиф), сын суддзі Ліпавецкага пав. Кіеўскай губ. Ламберта-Віктара і Юзэфы Ірліч, брат Тэадора-Людвіка, Іпаліта і Францішка-Баляслава-Марціна, дваранін Валынскай губ. ці Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ., каталік. Нар. 02.09.1841 у с. Туча, хр. 21.10.1841 у Махноўскім касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—106; 3257—1—53—2; 3257—2—2—22адв.; 3286—2—1—6, 101-105).*

3765. **Мардвін Людвік** (Мардвин Людвиг). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Архангельскую губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16).*

3766. **Мардэцкі Юзаф** (Мордецкий Иосиф), памешчык Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8).*

**Маркаў Міхал** — гл. **Ваньковіч Міхал**

3767. **Маркевіч Антоні** (Маркевич Антоний), сын Людвіка, муж Людвікі Ігнатаўны, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання валодаў маёнткам Баранавічы Навагрудскага пав. Падчас паўстання абвінавачаны навамышскім святаром у агітацыі сялян далучыцца да паўстанцаў. За гэта, а таксама за прамаўленне «антыўрадавых прамоў» трапіў двойчы пад следства, якое на знайшло доказаў віны. Тым не менш паводле распараджэння МГГ ад 29.01.1864 арыштаваны 05.02.1864 і зняволены ў турме ў г. Навагрудку. У Баранавічах 04.02.1864 праведзены вобшук, але не знойдзена нічога кампраметоўнага. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 12.02.1864 аддадзены пад ПВС пры Серпухаўскім пяхотным палку, а на яго маёнтак накладаўся секвестр. Жонка 17.02.1864 падала на імя МГГ прашэнне аб яго вызваленні як несправядліва абвінавачанага. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Арэнбургскую губ. Маёнтак Баранавічы (ацэнены ў 11 тыс. руб.) секвестраваны 17.05.1863; паўторна ўказ аб секвестры выдадзены МГГ 15.02.1864, а рухомая маёмасць з маёнтка прададзена за 376,25 руб. Пасля на падставе ўказа ад 10.12.1865 уся маёмасць падлягала абавязковаму продажу. Паводле распараджэння К. фон Каўфмана ад 25.06.1866 секвестр з Баранавічаў здымаўся са спагнаннем 20-працэнтнага збору, які ў 1867 г. заплаціў яго бацька — уладальнік маёнтка Крышылоўшчына Навагрудскага[122] пав. У ссылцы ў 1865 г. разам з жонкай жыў у г. Уфе, падаваў прашэнне аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. У 1867 г. падаў прашэнне аб дазволе на часовы прыезд у Мінскую губ. для продажу маёнтка, аднак з прычыны, што «мае неспрыяльны ўплыў на мясцовых жыхароў» і бацька «можа распарадзіцца продажам маёнтка не горш самога», яно было адхілена *(160—2—682—108; 162—1—116—53; 162—1—122—19, 21; 295—1—1612; 295—1—1643—127; 296—1—89—11, 14адв., 73адв.; 320—1—398—214; 320—2—99—50адв.-51; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796; 2532—1—15—14).*

3768. **Маркевіч Вінцэнт** (Маркевич Викентий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах і ў за-

[122] У некаторых дакументах паказана, што маёнтак знаходзіўся ў Слонімскім пав., але гэта, верагодна, памылка.

хоўванні зброі». З 26.07.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—7адв.-8; 3257—2—8—9)*.

3769. **Маркевіч Ігнат** (Маркевич Игнатий), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73)*.

3770. **Маркевіч Людвік** (Маркевич Людвиг), дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага асэсара. За дачыненне да паўстання сасланы на жыхарства ва Уфімскую губ. *(295—1—1643—129адв.)*.

3771. **Маркевіч Міхал** (Маркевич Михаил). Да паўстання служыў пісарам. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі і пастаўках ім харчавання ў лес. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3772. **Маркевіч Юзаф** (Маркевич Иосиф). Да паўстання служыў старшым доктарам Гродзенскай акруговай лячэбніцы. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

3773. **Маркевіч Юзаф** (Маркевич Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Кракінава Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(319—1—479—20адв. 534—1—14—4адв.; 1416—4—11416—116адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

3774. **Марковіч Канстанцін** (Маркович Константин), дваранін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

3775. **Маркоўскі Ксаверы** (Марковский Ксаверий). Да паўстання валодаў домам у в. Дзікія Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—20адв.)*.

3776. **Маркоўскі Напалеон** (Марковский Наполеон). Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69; 3366—1—5—12адв.)*.

3777. **Маркоўскі Стэфан** (Марковский Стефан), сын Вінцэнта, памешчык Бельскага пав. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яго маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174-175адв.)*.

3778. **Маркоўскі Ян** (Марковский Иван), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы на службу шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў дваранства. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.)*.

3779. **Мармужэўскі Базыль** (Мармужевский Василий). Нар. у Віцебскай губ. Служыў настаўнікам, выйшаў у адстаўку. Да паўстання жыў у Віцебскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 11.05.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Архангельскую губ. Паселены там у г. Мезень. У 1867 г. падаваў прашэнне аб перасылцы ў Архангельскую губ. яго сына Яна (нар. каля 1855 г.), які застаўся ў г. Невелі ў мешчаніна Анастазія Атрашкевіча. У 1871 г. жыў у Архангельскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—69; 1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—59; 1430—1—52533)*.

3780. **Мароз Ежы (Рыгор)** (Мороз Георгий (Григорий)), сын доктара *Францішка*, дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1846 г. Вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. 19.04.1864 выехаў з г. Барысава ў маёнтак Весялова памешчыка Равы, пасля чаго далучыўся да паўстанцаў. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля рассеяння якога ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да ўладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў гарадской турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да ссылкі на службу ў Сібірскія лінейныя батальёны без пазбаўлення ці з пазбаўленнем дваранства і да канфіскацыі маёмасці. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. На дом яго бацькі ў Барысаве накладзена забарона *(162—1—116—12, 103, 166; 295—1—1527—81адв., 102адв.; 295—1—*

*1588; 319—1—479—21; 320—1—398—84, 124адв., 234адв.; 320—2—98—40адв.; 1430—1—52163—150адв., 596б адв.; 2514—1—2198—69).*

3781. **Мароз Мікалай** (Мороз Николай), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1864 г. прысуджаны да 6-месячнага зняволення ў фартэцыі ў г. Бабруйску і аддачы на «добранадзейнае паручальніцтва» пасля вызвалення *(295—1—1643—137адв.).*

3782. **Мароз Мікалай** (Мороз Николай), праваслаўны святар. Да паўстання быў пазбаўлены сану, жыў у в. Лапацін Пінскага пав. За ўдзел у паўстанні Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 10.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(162—1—116—112; 299—1—579—298-307; 319—1—479—21; 320—1—398—452; 1430—1—52163—206адв.).*

3783. **Мароз Павел** (Мороз Павел), сваяк *Францішка* (?). Да паўстання знаходзіўся на рас. грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з Мінскай губ. «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. *(295—1—1643—136; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

3784. **Мароз Францішак** (Мороз Франц), сын Стэфана, бацька *Ежы*, дваранін. Да паўстання служыў барысаўскім павятовым доктарам. Падчас паўстання з 19.04.1863 знаходзіўся ў адлучцы з месца жыхарства, як ён сам тлумачыў, па справах службы. 04.05.1863 вярнуўся і з'явіўся да рас. уладаў. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Кунгур Пермскай губ. У 1867 г. атрымаў дазвол перасяліцца ў Каралеўства Польскае. У 1871 г. на запрашэнне пераехаў назад у Кунгур на пасаду земскага доктара. Пазней атрымаў дазвол вярнуцца ў Мінскую губ. У 1879 г. пасяліўся ў г. Мінску, дзе жыў яшчэ 03.1882 *(295—1—1527—79, 84-85, 90-91; 295—1—1643—128, 135; 295—1—3492—53адв.-54, 85адв.; 1430—1—52163—610; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21).*

3785. **Мароз Францішак** (Мороз Франц), сваяк *Паўла* (?). Да паўстання знаходзіўся на рас. грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з Мінскай губ. «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

**Мароўскі Францішак** — гл. **Мураўскі Францішак**

3786. **Марочка Апалінары** (Морочко Аполинарий), сын Тэадора, мешчанін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1842 г. Арыштаваны за прамаўленне 07.12.1863 «супрацьзаконных словаў і выказванне пры гэтым гатоўнасці ісці абараняць рымска-каталіцкую веру», арыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі. Яго справа 12.03.1864 пададзена ваенным начальнікам Лепельскага пав. віцебскаму грамадзянскаму губернатару. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 10.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 30.04.1864 высланы ў г. Віцебск. Рашэннем віцебскага губернатара ад 19.06.1864 прызнана, што «паказвае спачуванне да мяцяжа», у выніку чаго прызначаны да высылкі на сталае жыхарства ў Самарскую губ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 06.07.1864 прысуджаны да ссылкі на пасяленне на казённых землях у Томскую губ., яго маёмасць падлягала продажу з аўкцыёну, а атрыманыя грошы павінны былі пакрыць выдаткі на перасылку *(1430—1—31541; 1430—1—31602—81-82; 3046—2—3—57адв.-58).*

3787. **Мартынаў Міхаіл** (Мартынов Михаил), дваранін Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—21адв.; 1430—1—52163—182адв.).*

3788. **Мартынкевіч Адам** (Мартынкевич Адам), дваранін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў *(295—1—1643—138).*

3789. **Мартышэўскі Баляслаў** (Мартышевский Болеслав), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 25.08.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(319—1—479—19; 1416—4—11416—131, 174-175адв.; 1430—1—52163—521).*

3790. **Мартышэўскі Марцін** (Мартышевский Мартин), ксёндз. Да паўстання служыў у Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201).*

3791. **Мархель Базыль** (Мархель Василий), сын Стэфана, дваранін. Нар. каля 1834 г. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Абвінавачаны рас. уладамі ў «шалёных учынках і прамаўленні дзёрзкіх супрацьурадавых выразаў», арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Магілёва. З 05.07.1864 зна-

ходзіўся пад следствам у МагСК, якая 18.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Потым знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—1—17—6адв.-7; 3257—2—2—23; 3257—2—8—9)*.

3792. **Мархель Данат** (Мархель Донат), сын Юзафа, селянін Дрысенскага пав. Да паўстання з'яўляўся валасным старшынёй у м. Няўляны Дрысенскага пав., прыпісаны да в. Плейкі. Пасля паўстання западозраны ў намаўленні сялян у 1863 г. спрыяць паўстанцам, у 1865 г. трапіў пад следства. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 як «нявыкрыты па справе» прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства на парукі сваёй сельскай грамады *(2601—1—29)*.

3793. **Марціеўская Альжбета** (Марциевская Елисавета), мяшчанка. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнка Заходняга краю» жыла ў 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70)*.

3794. **Марціеўская Антаніна** (Марциевская Антонина), мяшчанка. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнка Заходняга краю» жыла ў 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70)*.

3795. **Марцінкевіч Аляксандр** (Марцинкевич Александр), сын Юзафа, брат *Яна*, дваранін Мінскай губ. Да паўстання служыў палясоўшчыкам у маёнтку графа Плятэра ў Барысаўскім пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 11.02.1864 выдала ўказ аб канфіскацыі яго маёмасці *(162—1—116—60; 295—1—1643—125, 133; 299—1—577—511-513; 319—1—479—21; 320—1—398—178, 222, 401адв., 410; 320—2—98—40)*.

3796. **Марцінкевіч Аляксандр** (Марцинкевич Александр). Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Вялікае Мажэйкава Лідскага пав. (гл. *Ляснеўскі Юльян*). За «дачыненне да непарадкаў» яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

3797. **Марцінкевіч Антоні** (Марцинкевич Антон). За дачыненне да паўстання сасланы на жыхарства ў Томскую губ. *(1521—1—1—337)*.

3798. **Марцінкевіч Вінцэнт** (Марцинкевич Викентий), [бацька *Камілы*], дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання арыштаваны рас. уладамі, у 1864 г. вызвалены з-пад арышту з аддачай пад «добранадзейнае паручальніцтва», усталяваннем строгага паліцэйскага нагляду і спагнаннем з яго маёнтка Люцынка Мінскага пав. узмоцненага 30-працэнтнага збору. За «невядомую адлучку» яго фальв. Люцынка (непадзельны з жонкай) секвестраваны 10.1864 *(162—1—116—166адв.; 295—1—1643—139; 296—1—89—28, 68адв.)*.

3799. **Марцінкевіч Вінцэнт** (Марцынкевич Винцэнт), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да вызвалення. Яго справа 15.11.1863 пададзена ў МСК *(1418—3—1—47адв.-48)*.

3800. **Марцінкевіч Даніэль** (Марцинкевич (Марцынкевич) Даниил), сын Яна, дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую ці Томскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—205)*.

3801. **Марцінкевіч Казімір** (Марцинкевич (Марцынкевич) Казимир), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Чапілле Панявежскага пав., які арандавала яго маці. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—20; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

3802. **Марцінкевіч Каміла** (Марцинкевич Камилия), [дачка *Вінцэнта*], дваранка Мінскага пав. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(295—1—1643—138адв.; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

3803. **Марцінкевіч Оттан** (Марцинкевич Оттон), дваранін. Да паўстання жыў у Падбяржанскай парафіі Панявежскага пав. За дачыненне да

паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—20; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

3804. **Марцінкевіч Станіслаў** (Марцынкевич Станислав), сын Станіслава, дваранін Полацкага пав., каталік. Служыў прыставам 2 стана Полацкага пав. Абгавораны *Бахаловічам Станіславам* на следстве ў тым, што папярэдзіў яго пра планаваны арышт, чым дапамог яму схавацца. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 17.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—56адв.-57; 3046—2—5—32)*.

3805. **Марцінкевіч Фелікс** (Марцинкевич Феликс), сын Тамаша, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1832 г. Да паўстання жыў халасты разам з бацькам у фальв. Зосіна Лепельскага пав. *Валадковіча Юзафа*. 02.1864 служыў наглядчыкам бровара ў фальв. Харакова Лепельскага пав. У сувязі з тым, што падчас паўстання ўвесну 1863 г. на пэўны час пакідаў Зосіна, у тым ліку выязджаў у м. Камень Барысаўскага пав. да сваёй сястры (22–28.05.1863), западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і 02.1864 трапіў пад следства. Падазрэнне не пацвердзілася, таму пакінуты на месцы жыхарства на паруках *(1430—1—31520)*.

3806. **Марцінкевіч Ян** (Марцинкевич Иван), сын Юзафа, брат *Аляксандра*, дваранін Мінскай губ. Да паўстання служыў палясоўшчыкам у маёнтку графа Плятэра ў Барысаўскім пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. МГП 11.02.1864 выдала ўказ аб канфіскацыі яго маёмасці *(162—1—116—60; 295—1—1643—125, 133; 299—1—577—511-513; 319—1—479—21; 320—1—398—178, 222, 401адв., 410; 320—2—98—40)*.

3807. **Марціноўскі Адам** (Марциновский Адам), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1847 г. Да паўстання жыў у в. Адамаўка Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Прызначаны (да 19.10.1863) да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення (ці з пазбаўленнем) правоў і да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103; 295—1—1527—100адв.; 295—1—1643—126, 132; 1430—1—52163—150адв.)*.

3808. **Марціноўскі Аляксандр** (Марциновский Александр), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1837 г. Да паўстання жыў у маёнтку Свяда Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—107)*.

3809. **Марціноўскі (Марцыноўскі) Баляслаў** (Марциновский (Марцыновский) Болеслав), сын Барталамея, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у г. Мінску (?). Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў Мінск. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—140; 319—1—479—21; 320—1—398—222, 401адв.; 320—2—98—40; 1418—3—1—46адв.-47)*.

3810. **Марціноўскі Мікалай** (Марциновский Николай), сын калежскага радцы Канстанціна і Марыі, брат Антаніны, Канстанцыі, Ядвігі, Эміліі і Стэфаніі, дваранін Рагачоўскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. 02.1863 пакінуў месца вучобы і прыбыў у маёнтак да свайго сваяка N. Калантая. 22.04.1863 разам з *Карчэўскім Дамінікам* выехаў нібыта да сваіх бацькоў і далучыўся да крычаўскага паўстанцкага атрада. Пасля разбіцця атрада пэўны час хаваўся, потым прыбыў у маёнтак N. Палонскага, дзе арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, якая 14.04.1864 накіравала яго справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На следстве і судзе цалкам адмаўляў свой удзел у паўстанні. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». МагГП 26.06.1864 выдала адпаведную пастанову аб канфіскацыі. 29.06.1864 адпраўлены на месца ссылкі. Грашовая сума, якая засталася яму ў спадчыну ад бацькі, канфіскавана *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.; 2003—1—372—46, 56, 73-77, 91, 104, 118-120 і інш.; 3256—2—22—13; 3256—2—28; 3257—2—2—22адв., 24; 3366—1—5—8)*.

3811. **Марціноўскі Юзаф** (Марциновский Иосиф), памешчык Свянцянскага пав. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546; 2532—1—15—11адв.)*.

3812. **Марціноўскі Ян** (Марциновский Иван), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1839 г.

Да паўстання жыў у маёнтку Свяда Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.07.1863 знявolены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—107)*.

3813. **Марцішэўскі Фелікс** (Марцишевский Феликс), дваранін Віленскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1877 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—28)*.

3814. **Марцынкевіч Антоні** (Марцынкевич Антон), сын Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да ўладаў, арыштаваны. Быў пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да вызвалення з аддачай на парукі. 06.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—46адв.-47)*.

3815. **Марцынкевіч Казімір** (Марцынкевич Казимир), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, быў пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да вызвалення. Яго справа 15.11.1863 пададзена ў МСК *(1418—3—1—47адв.-48)*.

**Марцыноўскі Баляслаў** — гл. **Марціноўскі Баляслаў**

3816. **Марчанка Іларыён** (Марченко Ларион), сын обер-афіцэра Мікалая, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Да паўстання служыў канцылярыстам. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загаду ЧВГМГ ад 21.09.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—125адв.; 296—1—90—5адв.-6; 319—1—479—21; 1418—3—1—45адв.-46; 1430—1—52163—167адв.)*.

**Марчук Адольф** — гл. **Марчык Адольф**

3817. **Марчык (Марчук) Адольф** (Марчик (Марчук) Адольф), сын Станіслава, селянін Слуцкага пав., праваслаўны. Нар. каля 1838 г. Пасля прыезду ў маёнтак Галынка Слуцкага пав. з *Кернажыцкім Канстанцінам*, у якога служыў вазніцам, уступіў у паўстанцкі атрад *Машэўскага Уладзіслава*. 20.04.1863 узяты ў палон рас. войскамі ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе сцвярджаў, што быў узяты ў паўстанцкі атрад супраць сваёй волі. ПВСЗБА прысуджаны да вяртання на ранейшае месца жыхарства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуд зацверджаны з умовай аддачы на парукі сельскай грамады *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—8адв.; 1525—1—2—7адв.-8)*.

3818. **Марчэўскі Вітальд** (Марчевский Витольд), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—28)*.

3819. **Марчэўскі Ян** (Марчевский Иван), мешчанін г. Варшавы. Да паўстання часова жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(319—1—479—19адв.)*.

3820. **Марыцкі Юльян** (Моржицкий Юлиан), сын Яна. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Маёмасць падлягала канфіскацыі на падставе распараджэння валынскага губернатара ад 16.08.1863 і пастановы ВалГП ад 27.08.1863 *(1416—6—230)*.

3821. **Марэвіч Станіслаў** (Моревич Станислав), дваранін. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 07.07.1863 накладаўся секвестр *(1430—1—52163—396)*.

3822. **Марэнда Антоні** (Морендо Антон), сын Юзафа, дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. У 1865 г. аддадзены пад ПВС. Паводле канфірмацыі А. Патапава ад 22.02.1865 яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—108; 162—1—122—27; 295—1—1643—141; 534—1—14—12)*.

3823. **Марэцкі Уладзіслаў** (Марецкий Владислав), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—9)*.

3824. **Масальская Вольга** (Массальская Ольга), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.)*.

3825. **Масальскі Адам** (Масальский Адам), князь, памешчык Гродзенскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—20адв.)*.

3826. **Масальскі Адольф** (Масальский Адольф), князь. Прыпісаны да Гродзенскага пав., да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(320—1—398—125; 1430—1—52163—601; 1430—1—52758—28).*

3827. **Масальскі Антоні** (Мосальский Антон). Служыў на рас. грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Архангельскую губ. *(1430—1—52163—615; 1430—1—52285—25адв.).*

3828. **Масальскі Браніслаў** (Массальский Бронислав), дваранін Віленскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

3829. **Масальскі Віктар** (Масальский Виктор), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

3830. **Масальскі Караль** (Масальский Карл), сын Ксаверыя, дваранін Слонімскага пав. Да паўстання жыў на казённай ферме Ваўчок Слонімскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—20адв.; 320—1—398—198; 1416—6—232, 275; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—126).*

3831. **Масальскі Роберт** (Масальский Роберт). Да паўстання служыў ляснічым маёнтка Лодзі Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

3832. **Масальскі Юзаф** (Масальский Осип), сын Канстанціна, дваранін Каралеўства Польскага, каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення з радзімы. 23.02.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—48адв.—49).*

3833. **Масальскі Ян** (Масальский Иван), сын Караля-Генрыка Ануфрыевіча і Магдалены Навасельскай, памешчык, каталік. Нар. 23.10.1844, хр. 17.11.1844 у Мінскім дамініканскім касцёле. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 21.09.1863. Яго маёнтак Божы Дар Ігуменскага пав. секвестраваны і 08.09.1863 прыняты ў распараджэнне ПДМ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Енісейскую губ., а маёнтак канфіскаваны. Пасля амністыі 1868 г. пераведзены ў г. Уфу. Потым атрымаў дазвол на вяртанне з ссылкі. У 1874 г. перасяліўся ў г. Варшаву на жыхарства без паліцэйскага нагляду і запісаны ў склад яе сталых жыхароў. У 1897 г. жыў у Варшаве, атрымаў пасведчанне ад мінскага губернатара аб вернутых правах дваранства *(295—1—1643—140; 295—1—6442; 296—1—89—31адв.-32; 296—1—90—5адв.-6; 319—1—479—21; 319—2—2041—61-61адв., 63а-63б; 66, 68 і інш.; 1430—1—52163—167адв.).*

3834. **Маскалін Людвік** (Маскалин Людвиг), сын Юзафа, селянін Дынабургскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў «злачыннай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 04.02.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа перададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў *(1430—1—52163—634адв.).*

3835. **Маскевіч Адам** (Маскевич Адам). Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе ў Ашмянскім (?) пав., таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

3836. **Маскевіч Аляксандр (Аляксей)** (Москевич Александр (Алексей)), сын Яна, брат *Вінцэнта*, дваранін Мсціслаўскага пав., каталік. Валодаў маёнткам Буда Мсціслаўскага пав. Да паўстання жыў у г. Магілёве ў доме памешчыцы Аршанскага пав. Стахоўскай, служыў у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. На маёнтак бацькі ў Мсціслаўскім пав. (?) на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 накладзена забарона *(319—1—479—21адв.; 1416—4—11416—88адв.; 1430—1—52163—526адв.; 2003—2—20—8, 20-21; 2003—2—96—25адв.; 3257—2—2—24).*

3837. **Маскевіч (Маськевіч) Вінцэнт** (Москевич (Моськевич) Викентий), сын Яна, брат *Аляксандра*, дваранін Мсціслаўскага пав., каталік. Вало-

даў часткай маёнткам Сачылава Мсціслаўскага пав. Да паўстання жыў у г. Магілёве ў доме памешчыцы Аршанскага пав. Стахоўскай, служыў у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда; калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго частка Сачылава канфіскавана *(319—1—479—21адв.; 1430—1—52163—526; 2003—1—445—2адв.; 2003—2—20—8, 20-21; 2003—2—90; 2003—2—96—25; 3257—2—2—24).*

3838. **Масла Леан** (Масло Леон), дваранін. Да паўстання служыў аканомам фальв. Хаваншчына Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

3839. **Маслоўскі Аляксандр** (Масловский Александр), сын Антона, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Беланошкі Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства з аддачай на парукі (?). Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1643—1343адв.; 296—1—19—281; 320—1—398—3).*

3840. **Маслоўскі Канстанцін** (Масловский Константин), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11).*

3841. **Маслоўскі Фелікс** (Масловский Феликс). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.).*

3842. **Маслоўскі N.** (Масловский N.). Да паўстання служыў засядальнікам Новааляксандраўскага павятовага суда. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

3843. **Маслюкоў Раман** (Маслюков Роман), селянін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—23адв.).*

**Маськевіч Вінцэнт** — гл. **Маскевіч Вінцэнт**

3844. **Масюк Адам** (Масюк Адам), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74).*

3845. **Масюк Мацей** (Масюк Матвей), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74).*

3846. **Матановіч Бракард** (Матонович Брокард), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Араны Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

3847. **Матанскі Юзаф** (Матанский Иосиф), памешчык. Да паўстання арандаваў маёнтак Вількі Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207).*

**Матковіч Генрык** — гл. **Міткевіч Генрык**

3848. **Матkоўскі Уладзімір** (Матковский Владимир), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загаду М. Анненкава ад 25.03.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 30.03.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

3849. **Матузан Ян** (Матузан Иван), сын Мацвея, праваслаўны. Да паўстання з'яўляўся кантаністам. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—47адв.-48).*

3850. **Матуса Міхал** (Матуса Михаил). Да паўстання з'яўляўся кантаністам. Абвінавачаны ў перадачы звестак паўстанцам пра рух рас. войскаў і арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—127адв.).*

3851. **Матусевіч Адэлаіда** (Матусевич Аделаида (Адэляйда)), дачка *Яўстаха* і *Казіміры*, сястра *Густава*, дваранка Навагрудскага пав. Абвінавачана ў агітацыі на карысць паўстання, у 1863 г. арыштавана. На следстве не знайшлося доказаў, таму рашэннем МСК ад 24.01.1864 прызначана да вызвалення.

Сустракалася са сваім братам, калі ён патаемна пакінуў месца арышту, за што арыштавана паўторна. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.07.1864 прысуджана да ссылкі ў Кастрамскую губ. пад нагляд паліцыі, яе маёмасць пакідалася пад секвестрам *(162—1—116—124, 127; 320—1—398—528, 547; 1418—1—7; 1430—1—52163—237адв.)*.

3852. **Матусевіч Аляксандр** (Матусевич Аляксандр), дваранін. Да паўстання валодаў часткай мызы Трускоўшчына Вілейскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

3853. **Матусевіч Антоні** (Матусевич Антоний), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 14.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Прысуджаны да 3-месячнага арышту ў крэпасцях *(295—1—1643—131; 1418—3—1—45адв.-46)*.

3854. **Матусевіч Антоні** (Матусевич Антон), сын Станіслава, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання яго бацькі валодалі 10 дзес. зямлі ў вак. Французская Грэбля. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. 03.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ, пераведзены ў г. Мінск. Утрымліваўся ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 11.12.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Та-больскую губ. На маёмасць яго бацькоў накладзена забарона *(162—1—116—85; 295—1—1643—139адв.; 296—1—90—9адв.-10; 299—1—579—298-307; 320—1—398—375; 320—2—98—40адв.; 1418—3—1—47адв.-48; 1430—1—52163—206)*.

3855. **Матусевіч Антоні** (Матусевич Антон), сын Яна, дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ў 1863 ці 1864 г. прысуджаны ў г. Навагрудку да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Сасланы ў Томскую губ., у 1873 г. вызвалены ад нагляду паліцыі *(295—1—2533; 296—1—25—103адв.; 319—1—479—20адв.)*.

3856. **Матусевіч Бярнард** (Матусевич Бернард), селянін. Нар. каля 1838 г. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. У 1863 г. суджаны пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—125, 130адв.; 299—1—577—511-513; 320—1—398—20, 191; 320—2—98—40адв.)*.

3857. **Матусевіч Віктар** (Матусевич Виктор), сын Іпаліта, дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Казелы Вінцэнта* ў Барысаўскім пав., добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, 09.1863 утрымліваўся ў мінскай гарадской турме. На следстве даваў паказанні, сярод іншага, пра *Каца Янкеля*. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—130; 296—1—90—4адв.-5; 319—1—479—21; 1430—1—52163—167адв.)*.

3858. **Матусевіч Вінцэнт** (Матусевич Викентий), дваранін. Да паўстання жыў у в. Рупша Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—20; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

3859. **Матусевіч Густаў** (Матусевич Густав), сын калежскага сакратара *Яўстаха* і *Казіміры*, брат *Адэлаіды*, дваранін Навагрудскага пав. Нар. каля 1847 г. Падчас паўстання накіроўваўся ў атрад *Нарбута Людвіка*, арыштаваны казакамі. На следстве ўдалося даказаць, што схілены да гэтага N. Савіцкім, таму канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.10.1863 вызвалены са штрафам у 50 руб. Паўторна арыштаваны (да 15.11.1863) за «распаўсюджванне шкодных чутак». 29.01.1864 разам з *Парадзінскім Людвікам* падкупіў унтэр-афіцэра *Фурманскага Паўла*, пакінуў месца зняволення і сустрэўся з бацькамі і сястрой, затрыманы падчас адлучкі. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Кастрамскую губ. *(162—1—116—127, 156; 295—1—1643—127, 127адв., 128адв.; 319—1—479—21; 320—1—398—547-551, 644; 320—2—98—40адв.; 1418—1—7; 1430—1—52163—521адв.)*.

3860. **Матусевіч Казіміра** (Матусевич Казимира), жонка *Яўстаха*, маці *Густава* і *Адэлаіды*, дваранка Навагрудскага пав. У 1863 г. западозрана ў агітацыі на карысць паўстання і арыштавана. На следстве не знайшлося доказаў, таму рашэннем МСК ад 24.01.1864 прызначана да вызвалення. Сустракалася са сваім сынам, калі ён патаемна пакінуў месца зняволення, за што арыштавана паўтор-

на. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.07.1864 прысуджана да ссылкі ў Кастрамскую губ. пад нагляд паліцыі, яе маёмасць пакідалася пад секвестрам. У 1871 г. у Кастрамской губ. атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(162—1—116—124, 127; 320—1—398—528, 547; 1418—1—7; 1430—1—35146—85; 1430—1—52163—237адв.).*

3861. **Матусевіч Максім** (Матусевич Максим), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 17.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—49адв.-50).*

3862. **Матусевіч Міхал** (Матусевич Михаил), сын Адама, мешчанін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў спачуванні паўстанцам, арыштаваны. Без следства 23.06.1864 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—45адв.-46).*

3863. **Матусевіч Станіслаў** (Матусевич Станислав), сын Сільвестра, селянін Рудзіцкай вол. Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1838 г. Увайшоў у склад паўстанцкага атрада, пасля яго разбіцця ўцёк у маёнтак Дзераўная Ашмянскага пав. да аканома *Берасневіча Адама.* Адвезены *Александровічам Юльянам* у атрад *Дыбоўскага Паўла* ў Каролінскі лес. Каля 2 гадоў хаваўся ад рас. уладаў пад фальшывымі дакументамі спачатку ў *Дыбоўскага Уладзіслава.* 09.1863 паступіў на службу вазніцам да *Якубкевіча Каспера* і з яго дапамогай атрымаў дакументы на імя селяніна Станіслава Шабуты (Шыбута). 05.06.1865 арыштаваны. 27.08.1865 знаходзіўся пад следствам у МСК, утрымліваўся ў г. Мінску. 07.09.1865 аддадзены пад ПВС у Мінску. Да яго справы меў дачыненне *Робуш N.* Пастановай ПВС пры Упраўленні мінскага губернскага ваеннага начальніка ад 29.09.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты на 3 гады. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 22.06.1866 прысуд зацверджаны ў выглядзе пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Архангельскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1776; 299—2—6399—32адв.-33адв.; 299—2—6400—15адв.-17).*

3864. **Матусевіч Тамаш** (Матусевич Томаш), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—19адв.).*

3865. **Матусевіч Уладзіслаў** (Матусевич Владислав), памешчык Шавельскага пав. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у г. Шаўлях. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.; 2532—1—15—4адв.).*

**Матусевіч Францішак** — гл. **Матушэвіч Францішак**

3866. **Матусевіч Эдвард** (Матусевич Эдуард), сын Фларыяна, дваранін Быхаўскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—324 2514—1—2198—68адв.).*

3867. **Матусевіч Юзаф** (Матусевич Иосиф), сын Людвіка, брат Юзафа, шляхціц. За дапамогу паўстанцам у вярбоўцы сялян 10 дзес. 660 саж. у вак. Французская Грэбля Ігуменскага пав. (7,2 руб. гадавога прыбытку), якімі валодаў разам з братам, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 05.05.1864[123] і пакінуты ў распараджэнні брата з абавязкам яго частку даходу (3,6 руб. штогод) уносіць у казну. Высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, а ў 1866 ці 1867 г. вызвалена ад секвестру *(27—1—802; 162—1—116—166; 296—1—89—10, 37адв.-38, 71адв.; 2532—1—15—13).*

3868. **Матусевіч Юзаф** (Матусевич Иосиф), сын Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 08.04.1864 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—48адв.-49).*

3869. **Матусевіч Ян** (Матусевич Иван), сын жаўнера. Да паўстання жыў у в. Суцін Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, ссылкі на два гады ў Яраслаўскую арыштанцкую роту і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—50; 295—1—1643—133; 320—1—398—215).*

3870. **Матусевіч Яўстах** (Матусевич Евстафий), муж *Казіміры,* бацька *Густава* і *Адэлаіды,* дваранін Навагрудскага пав. Сустракаўся са сваім сынам, калі той патаемна пакінуў месца арышту,

[123] У некаторых дакументах ёсць згадкі пра валоданне зямлёй у вак. Арэшкавічы Ігуменскага пав., аднак гэта відавочная памылка: згаданая зямля ў Арэшкавічах належала Станіславу і Ігнату Азямблоўскім.

арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.07.1864 прысуджаны да ссылкі ў Кастрамскую губ. пад нагляд паліцыі і секвестру маёмасці. Паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(162—1—116—124, 127, 166; 295—1—1643—128адв.; 320—1—398—528, 547; 1430—1—52163—237адв.).*

3871. **Матушэвіч Віктар** (Матушевич Виктор), дваранін. Абвінавачаны ў пастаўцы паўстанцам харчавання і сувязях з імі, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—125адв.).*

3872. **Матушэвіч Ігнат** (Матушевич Игнатий), памешчык Чавускага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 19.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Да паўстання валодаў маёнткам Панечы Чавускага пав. (358 дзес. зямлі, 37 рэвізскіх душ, 2 хаты, гаспадарчыя пабудовы і інш., 3376 руб. доўгу) (?), які потым канфіскаваны *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2001—2—171—32адв.-33, 39адв.; 3255—1—14—3адв.).*

3873. **Матушэвіч Пётр** (Матушевич Петр). Паходзіў з Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 19.10.1863) да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103, 166; 1430—1—52163—150адв.).*

3874. **Матушэвіч (Матусевіч) Францішак** (Матушевич (Матусевич) Франц), сын Яна, памешчык Чавускага пав. Абвінавачаны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, агітацыі на карысць паўстанцаў і прамаўленні пагрозаў са зброяй у руках, арыштаваны і зняволены ў турэмным замку г. Магілёва. 07.05.1863 даў паказанні пра *Пятроўскага Леана* і *Цеханавецкага Оттана.* Знаходзіўся пад следствам у МагСК, 14.12.1863 яго справа пададзена МагВГ. 21.12.1863 аддадзены пад суд у МагВСК, якая 20.08.1864 перадала справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 31.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 13.11.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці для канфіскацыі *(1416—4—11416—132адв.; 2001—1—901—28-36; 2001—2—14—14адв.; 3257—1—13; 3257—2—2—23адв.).*

3875. **Матэрна Баляслаў** (Матерно Болеслав), сын Яна і Актавіі, дваранін Дрысенскага пав. Уваходзіў у склад атрада *Плятэра Леана*, удзельнічаў у нападзе на рас. транспарт са зброяй, арыштаваны. Паводле пастановы ПВС пры Дынабургскім арданансгаўзе, сасланы (да 31.07.1863) на жыхарства ў Пермскую губ. пад нагляд паліцыі. На маёнтак яго маці Вайцюлева Дрысенскага пав. 09.07.1863 накладзены секвестр. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 Вайцюлева падлягала вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага 40-працэнтнага збору яго часткі. У ссылцы звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—3—21048—35; 1416—4—11416—285, 289, 290-291адв.; 1430—1—31355—57-60; 1430—1—52163—22-25, 391, 431адв., 459, 823; 2601—1—2—156).*

3876. **Махвіц Міхал** (Махвиц Михаил), сын Зянона. Служыў у войску, паручнік. Да паўстання жыў у Вількамірскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

3877. **Махвіц Нарцыс** (Махвиц Наркиз), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—32адв.).*

3878. **Махвіц Оттан** (Махвиц Оттон), дваранін. Да паўстання служыў кандуктарам Мікалаеўскага інжынернага вучылішча. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы КГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Высланы з радзімы. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—6—269; 1430—1—35146—88; 3046—2—5—32).*

3879. **Махвіц Уладзіслаў** (Махвиц Владислав), дваранін Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—224адв.).*

3880. **Мацвееў**[124] **Сямён** (Матвеев Семен), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 16.07.1863 перадала яго справу ў МагСК *(3366—1—5—7адв.).*

[124] Верагодна, гэта імя па бацьку.

3881. **Мацевіч Ігнат** (Мацевич Игнатий), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Камайск Барысаўскага пав. Паводле распараджэння М. Мураўёва сасланы (да 31.12.1863) пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—31355—74-75)*.

3882. **Мацieўскi Антоні** (Мациевский Антон), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

3883. **Мацieўскi Канстанцін** (Мациевский Константин), мешчанін г. Трокі. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—20; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374)*.

3884. **Мацieўскi Леанард** (Мациевский Леонард). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку паручнікам. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) з Гродзенскай у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

3885. **Мацieўскi Павел** (Мациевский Павел), селянін. Нар. каля 1825 г. Да паўстання служыў фельчарам у барысаўскага павятовага доктара. 23.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта* ў Барысаўскім пав. Схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На следстве даваў паказанні, сярод іншага, пра братоў *Свяжынскіх Зыгмунта* і *Оскара (295—1—1527—99адв.; 295—1—1572—22)*.

3886. **Мацieўскi (Мацеўскі) Феліцыян** (Мациевский (Мацевский) Фелициан), сын Паула, мешчанін г. Мінска ці Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў дастаўцы паўстанцам рэчаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Сасланы. У 1876 г. жыў на пасяленні ў с. Манастырскае Мікалаеўскай вол. Томскай акругі Томскай губ. як «палітычны ссыльны», падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму на сталае жыхарства. Атрымаў адмову з той прычыны, што пра ўмовы яго ссылкі не знайшлося звестак ні ў мінскага, ні ў томскага губернатараў *(295—1—3052; 1418—3—1—47адв.-48)*.

3887. **Мацieвiч Юзаф** (Мациевич Иосиф). Да паўстання служыў настаўнікам павятовага вучылішча ў г. Рагачове. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Арол *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23)*.

3888. **Мацieвiч Эдвард** (Мациевич Эдуард), дваранін Гродзенскай губ. (?). За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616)*.

3889. **Мацiлеўскi N.** (Мацилевский N.), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—32адв.)*.

3890. **Мацкевіч Аляксандр** (Мацкевич Александр), сын Людвіка, брат Канстанціна і *Феліксa*, памешчык Чавускага пав. За дачыненне да паўстання (да 31.05.1863) арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Пасля высланы ў Пермскую губ. 16.06.1863 секвестравана яго непадзельная з братамі маёмасць ва ўроч. Чыгіраўшчына ля в. Зубаўка Чавускага пав. (105 дзес. ворнай зямлі, сенажацяў і лясоў), якая потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—221; 2003—1—489—38; 2532—1—15—9адв.)*.

3891. **Мацкевіч Антоні** (Мацкевич Антон), сын Антонія[125], муж Вікторыі Юзафаўны, бацька Паўліны (нар. каля 1854), дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1824 г. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Новы Двор Суражскага пав. памешчыка Міхала Бавара (гл. *Бавар N.*). Сяляне гэтага маёнтка данеслі рас. уладам, што «лае Цара, а палякаў хваліць і чытае польскія газеты». Арыштаваны. Падчас вобшуку ў яго знойдзена форма для ліцця куль і «польскі гімн рэвалюцыйнага зместу пад назвай “З дымам пажару”». Зняволены ў г. Оршы, знаходзіўся пад следствам у АСК. На яго маёмасць 17.08.1863 на падставе патрабавання МагГП ад 12.06.1863 накладаўся секвестр. Асобна на падставе ўказа ВГП ад 23.11.1863 апісана 02.12.1863 і секвестравана яго рухомая маёмасць (2 кані, павозка і збруя) у Суражскім пав. Пасля пераведзены ў г. Віцебск і перададзены пад следства ў ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 25.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ваеннага суда ад 22.04.1864 пакінуты ў «моцным падазрэнні» і прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання». Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 27.04.1864 прызначаны да ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя паветы» Арэн-

[125] У некаторых дакументах імя бацькі памылкова падаецца як Ян.

бургскай губ., а яго маёмасць падлягала секвестру. 14.05.1864 высланы з Віцебска на месца ссылкі. Жонка з дачкой засталася на радзіме ў Віцебску, 16.06.1864 падала на імя У. Вяроўкіна прашэнне аб выдачы матэрыяльнай дапамогі, якое было адхілена пастановай ВГП ад 25.11.1864. З 1867 г. маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—35адв.; 1416—4—11380; 1430—1—31370—4; 1430—1—52163—194адв., 424, 439адв., 722; 2514—1—2198—68адв.; 3046—2—3—55адв.-56; 3046—2—5—32; 3255—1—14—3адв.).*

3892. **Мацкевіч Антоні** (Мацкевич Антон), ксёндз. Да паўстання служыў у філіяльным касцёле м. Падбярэззе (Падбіржа) Панявежскага ці Шавельскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—20; 320—1—398—198; 1416—6—281; 1430—1—52163—126адв.).*

3893. **Мацкевіч Аўрэліян** (Мацкевич Аврилиан), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Шарашова Пружанскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540адв.).*

3894. **Мацкевіч Блажэй** (Мацкевич Блажей), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—19адв.; 3257—2—2—22адв.).*

3895. **Мацкевіч Браніслаў** (Мацкевич Бронислав). Да паўстання жыў у г. Вільні, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—20; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

3896. **Мацкевіч Валяр'ян** (Мацкевич Валериан), дваранін г. Коўна. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(296—1—25—104; 319—1—479—20адв.).*

3897. **Мацкевіч Вінцэнт** (Мацкевич Винцентий), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20; 320—1—398—224).*

3898. **Мацкевіч Ежы** (Мацкевич Егор), сын Юзафа, аднадворац Дынабургскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў атрадзе *Плятэра Леана*, у тым ліку ў нападзе на транспарт рас. войскаў, арыштаваны. Паводле канфірмацыі ваеннага начальніка Віцебскай губ. 10.07.1863 аддадзены шарагоўцам на службу ў рас. войска. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі. Адбываў службу ў 137 Нежынскім пяхотным палку, у 1870 г. звольнены ў сувязі з выданнем частковай амністыі *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—21адв.; 320—1—398—198; 1416—2—14066; 1416—3—21048—35адв.; 1430—1—52163—126, 389адв.).*

3899. **Мацкевіч Казімір** (Мацкевич Казимир), сын Міхала. Служыў бамбардзірам батарэйнай № 1 батарэі 1 Зводнай рэзервовай артылерыйскай брыгады рас. войска. Да паўстання знаходзіўся ў бестэрміновым адпачынку, служыў лоўчым у памешчыка Васілеўскага ў Чэрыкаўскім пав. Западозраны рас. уладамі ў «падбухторных размовах з сялянамі». Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 27.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 05.09.1963 справа накіравана ў МагВСК. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223; 2514—1—2198—68адв.; 3257—2—2—22; 3366—1—5—8).*

3900. **Мацкевіч Караль** (Мацкевич Карл), аднадворац Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—104; 319—1—479—20адв.).*

3901. **Мацкевіч Караль** (Мацкевич Карл), сын Станіслава Янавіча і Арэты Францішкаўны Тараевіч (нар. каля 1805), дваранін Слуцкага ці Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на 10 гадоў у крэпасцях. Сасланы ў Іркуцкую губ. Пасля амністый пераведзены на пасяленне. У 1880 г. на прашэнне маці атрымаў дазвол на 6-месячнае знаходжанне ў Навагрудскім пав. 04.02.1881 выехаў з г. Іркуцка і 25.03.1881 прыбыў у маёнтак Лыкавічы Навагрудскага пав., якім валодалі яго маці з сястрой. 14.10.1881 атрымаў права на сталае жыхарства на радзіме з усталяваннем па-

ліцэйскага нагляду. Пасяліўся ў Лыкавічах, дзе жыў яшчэ 03.1882 *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—3492—42, 86; 295—1—3499; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—21; 320—1—398—326-327адв., 337; 320—2—98—40; 1418—4—1; 1524—1—1—8адв.; 1525—1—2—5адв.-6).*

3902. **Мацкевіч Караль** (Мацкевич Карл). Служыў наглядчыкам слонімскай гарадской бальніцы. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.).*

3903. **Мацкевіч Леан** (Мацкевич Леан), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—224).*

3904. **Мацкевіч Людамір (Людвік)** (Мацкевич Людомир (Людвиг)), сын Станіслава Рыгоравіча, брат Юзафа, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго частка маёнтка Чарнавусы Мсціслаўскага пав. падлегла канфіскацыі. На маёмасць бацькі-нябожчыка на падставе ўказа МагГП ад 23.03.1865 накладзена забарона *(319—1—479—21адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2003—1—445—2адв.; 2003—2—90; 3257—2—2—23).*

3905. **Мацкевіч Мечыслаў** (Мацкевич Мечислав). Служыў канцылярыстам у Панявежскім (?) пав., выйшаў у адстаўку. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

3906. **Мацкевіч Міхал** (Мацкевич Михаил), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

3907. **Мацкевіч Рыгор** (Мацкевич Григорий), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. Маскве. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—183; 3257—2—2—24; 3366—1—5—13адв.).*

3908. **Мацкевіч (Мацковіч) Станіслаў** (Мацкевич (Мацкович) Станислав), сын Францішка, селянін. Да паўстання жыў у в. Слачва Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе з вясны да верасня 1863 г., удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі. Пасля рассеяння атрада добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле загаду ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.03.1864 высланы ў г. Маскву ў распараджэнне МУС для далейшай ссылкі. Сасланы ў Сібір *(295—1—1643—130; 295—1—1689; 295—1—2420—12адв.; 295—1—2725—9адв.).*

3909. **Мацкевіч Станіслаў** (Мацкевич Станислав). Да паўстання яго маці валодала домам у г. Панявежы. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

3910. **Мацкевіч Уладзіслаў** (Мацкевич Владислав), дваранін Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—166адв.).*

3911. **Мацкевіч Уладзіслаў** (Мацкевич Владислав), сын Паўла. Вучыўся ва ўніверсітэце, да паўстання жыў у м. Воранава Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

3912. **Мацкевіч Фелікс** (Мацкевич Феликс), сын Людвіка, брат *Аляксандра* і Канстанціна, памешчык. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пасля высланы ў Кастрамскую губ. 16.06.1863 секвестраваны яго непадзельная з братамі маёмасць ва ўроч. Чыгіраўшчына ля в. Зубаўка Чавускага пав. (105 дзес. зямлі ворнай, сенажацяў і лясоў), якая потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу. Таксама секвестраваны маёнтак Вярба Чавускага пав., якім ён валодаў разам з іншымі суспадчыннікамі і які ў 1867 г. падлягаў вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—221; 2003—1—489—38; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9адв.; 3257—2—2—22адв.).*

3913. **Мацкевіч Ян** (Мацкевич Иван), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання

знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(296—1—25—102; 319—1—479—19адв.; 1430—1—35146—72; 3257—2—2—22адв.)*.

3914. **Мацкевіч N.** (Мацкевич N.). Да паўстання валодаў зямлёй у в. Селішча Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання яго зямля падлягала канфіскацыі *(2001—3—23—3)*.

**Мацковіч Станіслаў** — гл. **Мацкевіч Станіслаў**

3915. **Мацулевіч Францішак** (Мацулевич Франц), дваранін Дынабургскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Прызначаны ваенным судом (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 16.06.1864 накладаўся секвестр. Сасланы на жыхарства ў Аланецкую губ. *(1416—3—21048—36; 1430—1—52163—150адв., 390адв.; 3046—2—5—32адв.)*.

3916. **Мацулевіч Юзаф** (Мацулевич Иосиф), дваранін. Да паўстання працаваў каменшчыкам у г. Дынабургу. Паводле распараджэння М. Мураўёва ў 1863 г. сасланы на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. Яго маёмасць з 04.12.1863 падлягала секвестру. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы грашовай дапамогі *(1416—3—21048—36; 1430—1—31355—1-4; 1430—1—52163—389адв.)*.

**Мацэўскі Феліцыян** — гл. **Мацieўскі Феліцыян**

3917. **Мацюшынскі Тадэвуш** (Матюшинский Фаддей), сын Яна, дваранін Сенненскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вярталі ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.)*.

3918. **Мацяеўскі [Станіслаў]** (Мацеевский [Станислав]), каталік. Да паўстання служыў пісьмаводам Беластоцкай дырэкцыі вучылішчаў. За «палітычную нядобранадзейнасць» звольнены са службы і сасланы ў Магілёўскую губ. У 1866 г. жыў пад наглядам паліцыі ў г. Мсціславе *(2003—2—96—55)*.

3919. **Мачульскі Бенядыкт** (Мочульский Бенедикт (Венедикт)), сын Ігната Міхалавіча, незацверджаны дваранін Мінскага пав., каталік. Хр. 28.03.1821. Да паўстання служыў аканомам фальв. Атрахімаўка Барысаўскага пав. 19.04.1863 аддаў паўстанцам некалькі стрэльбаў. Абвінавачаны ў забеспячэнні паўстанцаў зброяй, 29.04.1863 арыштаваны. Спачатку зняволены пры 15 роце ў м. Докшыцы Барысаўскага пав., потым у турме г. Барысава. Знаходзіўся пад следствам у МСК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1527—99; 295—1—1581; 295—1—1643—126адв.; 319—1—479—21; 320—1—398—124адв., 243, 249, 424; 320—2—98—40; 1430—1—52163—596б адв.)*.

3920. **Мачульскі Казімір** (Мочульский Казимир), ксёндз. Да паўстання служыў у Віленскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

3921. **Мачульскі Францішак** (Мочульский Франц), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Нямекшты Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—223)*.

**Мачунская Тэадора** — гл. **Манчунская Тэадора**

3922. **Мачынскі Пётр** (Мочинский Петр), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам хатняга касцёла графа Плятэра ў Расіенскім пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв. (двойчы))*.

3923. **Машарскі N.** (Машарский N.). Удзельнічаў у паўстанні разам з *Альчыкевічам Себасцьянам* у Віцебскай губ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.09.1863 прысуджаны да пакарання *(2601—1—29)*.

3924. **Машкоўскі Юзаф** (Мошковский Иосиф). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вярталі ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.)*.

3925. **Машчынскі Густаў** (Мощинский Густав), сын *Яна*, дваранін Мінскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Падчас паўстання належаў да Мінскай паўстанцкай арганізацыі, арыштаваны. Прысуджаны (каля 04.1864) да

пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Сасланы. У 1867 г. пераведзены ў Кастрамскую губ. У 1871 г. атрымаў дазвол на пераезд у г. Варшаву. У 1875 г. жыў на вул. Гожай у Варшаве, падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму і пасяліцца ў г. Мінску. На пачатку 1876 г. арымаў дазвол на пражыванне на працягу 1 года, 17.02.1876 прыбыў у Мінск. 12.1876 жыў у ва ўласным доме на вул. Губернатарскай з правам часовага жыхарства. У 1878 г. атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў Мінскай губ. з вяртаннем правоў дваранства. 04.1880–03.1882 жыў у Мінску *(295—1—2762; 295—1—3026—8адв.-9; 295—1—3492—18, 52адв.-53, 85; 319—1—479—19адв.; 1430—1—52163—183).*

3926. **Машчынскі Павел** (Мощинский Павел), сын Яна Пятровіча, брат *Яна*, дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны да ссылкі ў «аддаленыя вялікарасійскія губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864. На маёнтак Рута, які належаў яго бацьку, накладалася забарона *(162—1—116—57; 295—1—1643—138адв., 140адв.; 299—1—577—621-626; 320—2—99—49адв.).*

3927. **Машчынскі Станіслаў** (Мощинский Станислав), сын Вінцэнта, памешчык. Да паўстання разам з іншымі суспадчыннікамі валодаў фальв. Пурплева, засц. Кузьмінка і в. Сычэва Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66, 69; 2532—1—15—9адв.).*

3928. **Машчынскі Юзаф** (Мощинский Иосиф), сын Вінцэнта, дваранін Сенненскага пав. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 31.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі. 13.11.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем у сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—4—11416—132адв.; 1430—1—35146—152; 3257—2—2—24).*

3929. **Машчынскі Ян** (Мощинский Иван), сын Яна Пятровіча, брат *Паўла*, дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны да ссылкі ў «аддаленыя вялікарасійскія губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864. На маёнтак Рута, які належаў яго бацьку, накладалася забарона *(162—1—116—57; 295—1—1643—138адв.; 299—1—577—621-626; 320—2—99—49адв.).*

3930. **Машчынскі Ян** (Мощинский Иван), бацька *Густава*, дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Памёр каля 1875 г. *(319—1—479—19адв.; 1430—1—52163—183).*

3931. **Машчыцкі Цыпрыян** (Мощицкий Киприян). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў засядальнікам Цельшаўскага павятовага суда, калежскі асэсар. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9).*

3932. **Машынскі Уладзіслаў** (Мошинский Владислав), дваранін Варшаўскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніку на 15 гадоў *(319—1—479—20; 320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.).*

3933. **Машынскі Уладзіслаў** (Мошинский Владислав), сын Марцэлія, дваранін Магілёўскай губ. За невяртанне з-за мяжы «да заканчэння тэрміну выдадзенага пашпарта» паводле загада магілёўскага губернатара ад 04.11.1864 і ўказа МагГП ад 11.11.1864 яго маёмасць падлегла секвестру *(2003—1—444).*

3934. **Машэўская Ідалія** (Машевская Идалия). Да паўстання ўдава. Выслана (да 01.06.1864) з *Прушынскім Людвікам* «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52285—21адв.).*

3935. **Машэўскі Уладзіслаў-Міхал** (Машевский Владислав-Михаил), сын Рамуальда Юзафавіча, дваранін Мінскага пав. Служыў у артылерыі рас. войска, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. З дапамогай *Вэндарфа Браніслава* сфарміраваў і ўзначаліў атрад у Слуцкім пав., у які ўваходзілі *Абуховічы Напалеон* і *Оттан*, *Асіеўскі Казімір*, *Асіповічы Казімір* і *Юзаф*, *Багурскі Антоні*, *Бараноўскі Леанід*, *Баранцэвічы Канстанцін* і *Стэфан*, *Бародзіч Юзаф*, *Блавачынскі Міхал*, *Буката Лукаш*, *Грыгаровічы Баляслаў* і *Юльян*, *Гудзіян Юзаф*, *Далькевіч Юльян*, *Дашкевіч Адольф Юстын*, *Кабак Фёдар*, *Кавецкі Тамаш*, *Капашынскі Караль*, *Кернажыцкі Канстанцін*, *Ківельмахер Вацлаў*, *Клеер*

*Юльян*, *Клюкоўскі Фелікс*, *Крагельскія Аляксандр* і *Ян*, *Крушынскі Максімільян*, *Ласоўскі Антоні*, *Ліпніцкі Міхал*, *Максімчык Пётр*, *Марчык Адольф*, *Мацкевіч Караль*, *Мікульскі Фларыян*, *Мілярэўскі Міраслаў*, *Мянкевіч Баляслаў*, *Нядзвецкія Бярнард Геранім* і *Юзаф*, *Падгальскі Базыль*, *Плаўскі Адам*, *Полацкі Вінцэнт*, *Пятроўскія Францішак* і *Юзаф*, *Радкевіч Антоні*, *Рудаміна Юзаф*, *Саевіч Уладзіслаў*, *Траяноўскі Базыль*, *Флемінг Георг*, *Чаркоўскі Станіслаў*, *Чарноцкія Віктар* і *Ян*, *Шпакоўскі Мечыслаў*, *Шулякоўскі Юзаф*, *Юрэцкі Юзаф*, *Янкоўскі Аляксандр* і інш. 19.05.1863 разам з атрадам удзельнічаў у знішчэнні 5 тэлеграфных слупоў, пасля гэтага ў забранні ў маёнтку кн. Радзівіла 40 стрэльбаў, некалькіх кінжалаў і скрыні з порахам. Загінуў 20.04.1863 падчас бою з рас. войскамі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Атрад быў знішчаны, а каля 50 чалавек трапілі ў палон. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 295—1—1643—141; 295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—72адв., 87адв., 104адв.; 299—1—579—165-177; 319—1—479—21; 320—1—398—197адв., 326-327, 333, 462; 320—2—98—40; 1416—4—11416—119адв.; 1430—1—52163—125адв., 345адв.)*.

3936. **Машэўскі Юзаф-Артур** (Машевский Иосиф-Артур (Артюр)), сын Рамуальда, памешчык Мінскага пав. Западозраны ў пастаўцы харчавання паўстанцам і ў дапамозе *Шпакоўскім Вінцэнту* і *Яну* ўступіць у паўстанцкі атрад, 01.07.1863 разам са *Шпакоўскім Юзафам* арыштаваны і адпраўлены ў г. Мінск. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая 23.07.1863 падала яго справу ЧВГМГ В. Забалоцкаму. Яго распараджэннем ад 02.08.1863 прызнаны невінаватым у абвінавачаннях і прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд. 29.11.1863 падаў распіску трох памешчыкаў Мінскага пав. у паруках. 25.06.1865 атрымаў пашпарт на праезд у г. СПб *(295—1—1567; 1527—1—4—72)*.

3937. **Мгільвід Ян** (Мгильвид Иван). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, калежскі рэгістратар. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» пастановай ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

3938. **Медунецкая** (народжаная **Будзько**) **Адэль** (Медунецкая (урожденная Будзько) Аделя (Адель)), дачка Канстанціна і Ганны, сястра Людвікі, памешчыца, каталічка. Нар. каля 1832 г. Да паўстання разам з сёстрамі валодала маёнткамі Сасна і Збродавічы Полацкага пав., у яе служыў аканомам *Шульц Юзаф*. Абгаворана *Другавінам Янам* у тым, што ён у яе доме чытаў паўстанцкую пракламацыю. 07.08.1863 выклікана ў г. Віцебск для дачы паказанняў. Падчас вобшуку ў Збродавічах знойдзены 3 стрэльбы, порах і кулі, а таксама брашура «Гутарка старога дзеда». На яе маёмасць 17.08.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 22.07.1864 накладзены секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 накіравала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 09.11.1864 падавала прашэнне аб дазволе вярнуцца з Віцебска ў свой маёнтак, якое было адхілена. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначана да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 150 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яе маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—35; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—363-365, 404, 429адв., 444, 445адв., 446адв., 570адв., 666адв.; 3046—2—3—54адв.-55; 3046—2—5—32)*.

3939. **Медунецкі Ігнат** (Медунецкий Игнатий), сын Ігната, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Макрады Себежскага пав. За «спачуванне да мяцяжа» паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 накладаўся секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. 08.1864 жыў у г. Галіч Кастрамской губ. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Пскоў, дзе ў 1869 г. атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—54-55; 296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—36; 1430—1—31307—116адв.; 1430—1—31583—64-65; 1430—1—52163—419, 432, 573адв., 824адв.)*.

3940. **Медунецкі Казімір** (Медунецкий Казимир), сын Юзафа і Маргарыты (пам. да 24.11.1864), дваранін Себежскага пав. Яго бацька валодаў маёнткам Дуброўкі Себежскага пав. і в. Зябка Дрысенскага пав., а маці — маёнткамі Томены (з вінакурняй), Боркі, Арловічы Себежскага пав. і Выцемна Яфрэмаўскага пав. Тульскай губ. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Маёнткі яго маці секвестраваны і 20.10.1864 знаходзіліся

ў веданні ПДМ. Пасля частковай амністыі прыбыў на часовае знаходжанне ў Віцебскую губ., у 1875 г. атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў Віцебскай губ. *(319—1—479—21, 21адв.; 320—1—398—134, 134адв.; 1416—3—21048—35; 1430—1—31750; 1430—1—35810—44-45; 1430—1—35834—11, 140; 1430—1—52163—19адв., 51, 214адв.-215, 230адв., 391, 415адв., 418, 437, 474адв., 568адв., 596, 666, 824адв.; 2601—1—5—7адв.; 2616—1—40—12, 12адв.).*

3941. **Медунецкі Канстанцін** (Медунецкий Константин), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Арыштаваны і адпраўлены ў г. Дынабург. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(1430—1—31307—117; 3046—2—5—32адв.).*

3942. **Медушэўскі Аляксандр** (Миодушевский Александр), сын Ігната, брат *Вітальда*, дваранін г. Віцебска, каталік. Падчас паўстання западозраны разам з братам рас. уладамі ў «нашэнні польскіх нацыянальных касцюмаў і ў зняцці ў такіх фатаграфічных картак». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 28.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—58адв.-59).*

3943. **Медушэўскі Антоні** (Миодушевский Антон), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 31.01.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 11.02.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

3944. **Медушэўскі Вітальд** (Миодушевский Витольд), сын Ігната, брат *Аляксандра*, дваранін г. Віцебска, каталік. Падчас паўстання западозраны разам з братам рас. уладамі ў «нашэнні польскіх нацыянальных касцюмаў і ў зняцці ў такіх фатаграфічных картак». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 28.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—58адв.-59).*

3945. **Медушэўскі Сцяпан** (Медушевский Степан), сын Мікалая, селянін. Нар. каля 1836 г. Да паўстання жыў у в. Рэпічы Жухавіцкай вол. Навагрудскага пав. На пачатку красавіка 1863 г. далучыўся да атрада *Міладоўскага Вітальда*, удзельнічаў у павешанні селяніна. Пасля рассеяння атрада ў сутычцы ля в. Ігнатава Навагрудскага пав. з'явіўся да рас. уладаў. Спачатку на судзе хаваў удзел у павешанні, але ў хуткім часе прызнаў яго. Пастановай ПВА, канфірмаванай М. Мураўёвым 13.12.1863, прысуджаны да смяротнага пакарання праз расстрэл і канфіскацыі маёмасці. Пасля расстрэл заменены на высылку з радзімы, верагодна, на катаргу. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1556; 295—1—1643—126; 295—1—2725—9; 296—1—19—281адв.; 320—1—398—161, 174).*

**Меендарф Міхал** — гл. **Майндарф Міхал**

3946. **Межутовіч (Міжутовіч) Юзаф** (Межутович (Мижутович) Иосиф), сын Юзафа, дваранін Расіенскага ці Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—281; 1430—1—52285—11).*

3947. **Мейлум Юстын** (Мейлус Устин), селянін Цверацкай грамады Свянцянскага пав. Паводле даносу *Жагялоўскага Уладзіслава,* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

3948. **Мейшар Станіслаў** (Мейшер Станислав), сын Тадэвуша. Да паўстання служыў рэгістратарам Барысаўскага павятовага паліцэйскага ўпраўлення. Паводле распараджэння ваеннага начальніка Барысаўскага пав. Дамброўскага як падазраваны ў прыналежнасці да патаемнага антыўрадавага таварыства ў г. Барысаве 10.09.1863 арыштаваны на сваёй кватэры, але 12.09.1863 вызвалены і вернуты на службу. 24.09.1863 у нецвярозым стане нанёс удар у грудзі вартавому Маларыслаўскага пяхотнага палка, за што арыштаваны, зняволены ў гарадской турме і аддадзены пад суд. 11.10.1863 звольнены са службы «па хатніх абставінах». 26.03.1864 яго справа адпраўлена ад ЧВГМГ да МГГ *(295—1—1569; 295—1—1643—132адв.).*

3949. **Мельнікаў Пётр** (Мельников Петр), мешчанін Полацкага пав., праваслаўны. Нар. каля 1816 г. Служыў вазніцам у *Другавіны Яна*, з якім ездзіў да розных памешчыкаў Полацкага пав. з мэтай агітацыі на карысць паўстання. Арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртанні на месца жыхарства пад «добранадзейныя парукі» *(1416—4—11416—185-212; 3046—2—3—55адв.-56).*

**Меляцінскі Фелікс** — гл. **Маляцінскі Фелікс**

3950. **Меляшкевіч Караль** (Мелешкевич Карл), дваранін. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстан-

ні, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—126, 129адв.).*

3951. **Меляшкевіч (Міляшкевіч) Мікалай** (Мелешкевич (Милешкевич) Николай), сын Антонія, дваранін Мінскай губ. Да паўстання служыў аканомам у Мінскім пав. у памешчыка Севярына Ёдкі (гл. *Ёдка Рудольф*). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Аддадзены (да 28.11.1863) пад суд пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую ці Табольскую губ. *(162—1—116—108; 295—1—1553; 295—1—1643—125адв.; 319—1—479—21; 320—1—398—437адв., 440, 444; 320—2—98—40; 1430—1—52163—182).*

3952. **Мендзіблоцкі Мікалай** (Мендзиблоцкий Николай), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

3953. **Менцнэр Юзаф** (Менцнер Осип), дваранін Каралеўства Польскага. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—75).*

3954. **Мераеўскі Севярын** (Мержеевский Северин), памешчык Слуцкага пав. Служыў міравым пасярэднікам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—133адв.; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.; 2532—1—15—13адв.).*

3955. **Меркулевіч Адольф** (Меркулевич Адольф), дваранін Мінскай губ. За «захоўванне папер рэвалюцыйнага зместу, перапіску і знаёмства з асобамі, варожымі ўладам, падбухторванне да гэтага іншых і намеры далучыцца да паўстанцаў» арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 12.04.1865, зняволены ў мінскім турэмным замку і 27.04.1865 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуд адбыўся 11.05.1865 і пададзены мінскаму губернатару. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 19.01.1866 прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі *(295—1—1643—141; 299—2—6399—25-26; 299—2—6400—23адв.-24).*

3956. **Мерла Ігнат** (Мерло Игнатий). Да паўстання служыў чыноўнікам у г. Магілёве. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2001—2—14—15адв.-16; 2514—1—2198—68адв.; 3366—1—5—13адв.).*

3957. **Мерла Фелікс** (Мерло Феликс), дваранін Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—21адв.; 1430—1—52163—168).*

3958. **Мерыеўскі Маўрыцы** (Мержиевский Маврикий), дваранін Віленскай губ. Служыў у Статс-Сакратарыяце Каралеўства Польскага, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага сакратара. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—221адв.).*

3959. **Местэр Ян-Мамерт** (Местер Иван-Мамерт), сын Яна і Кацярыны, брат Адольфа, Элеаноры і Браніславы, памешчык. Нар. 12.03.1841. Меў намер далучыцца да паўстанцаў, затрыманы сялянамі са зброяй недалёка ад месца знаходжання атрада. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 01.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Яго частка маёнтка Бірча Бабруйскага пав. (ацэнены цалкам у прыкладна 30 тыс. руб.), якім ён валодаў разам з сёстрамі, секвестравана паводле ўказа МГП ад 20.07.1863, а потым канфіскавана паводле ўказа МГП ад 17.03.1864. Таксама яго частка маёнтка Калыбань Рэчыцкага пав. секвестравана паводле ўказа МГП ад 26.06.1863, і потым канфіскавана. Пасля частковай амністыі вярнуў правы дваранства і перасяліўся з месца ссылкі ў Каралеўства Польскае. 30.07.1875 прыбыў у г. Варшаву і пазней запісаўся ў склад яе сталых жыхароў. 12.1875 атрымаў дазвол на прыезд у Бабруйскі і Рэчыцкі пав. на 1 месяц. 07.01.1876 прыбыў у Бабруйскі пав., 07.02.1876 атрымаў дазвол застацца яшчэ на месяц з прычыны хваробы, 07.03.1876 выехаў з Бірчы. У 1876 г. падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму на

сталае жыхарства і атрымаў яго *(162—1—116—51; 295—1—1643—99; 295—1—2767; 295—1—3059; 296—1—89—20адв., 75адв.; 299—1—577—518-543; 320—1—398—4-5, 108-110, 220, 222; 320—2—98—40; 320—2—99—33-35; 1416—4—11416—124, 174-175адв.)*.

3960. **Метрыкевіч Амброзі** (Метрикевич Амвросий), сын (?) *Яна*, грамадзянін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з маці Ганнай, братам Антоніем, жонкай Ганнай, сынамі Янам і Пятром і дачкой Марыянай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (16 дзес. 2351 саж.) канфіскавана *(295—1—2420—8; 295—1—2830—8; 320—2—98—4адв., 71, 95)*.

3961. **Метрыковіч Юзаф** (Метрикович Иосиф), сын Караля, грамадзянін Ігуменскага пав., каталік. Падчас паўстання ў вак. Суцін дапамагаў паўстанцам папаўняць свае шэрагі. 03.1864 арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «дальнія губерні». 17.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(295—1—1690; 1418—3—1—48адв.-49)*.

**Міжутовіч Юзаф** — гл. **Межутовіч Юзаф**

3962. **Мізгер Войцех** (Мизгер Войцех), аднадворац Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 2 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—20адв.)*.

3963. **Мізініц Ян** (Мизиниц Иван), сын Адама, селянін Слуцкага пав., праваслаўны. Западозраны ў дастаўцы паўстанцам патрэбных ім рэчаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—9)*.

3964. **Мікатовіч Юльян** (Микотович Юлиян), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у м. Ужагосце Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

**Мікіцін Захар** — гл. **Драздоўскі Захар**

3965. **Міклашэўскі N.** (Миклашевский N.). Да паўстання служыў ключнікам у маёнтку Альбрэхтава (Альбертава) Пінскага пав. памешчыка Скірмунта. Падчас паўстання западозраны ў захоўванні зброі і разам са *Здорам Пятром* і аканомам *Рудзіцкім N.* арыштаваны (да 07.06.1863). Утрымліваўся ў гарадскім астрогу ў г. Пінску. Яго справа 24.06.1863 перададзена ў МСК, якая, у сваю чаргу, вынесла рашэнне і 16.07.1863 падала яе МГГ, а той 24.07.1863 — да ЧВГМГ *(295—1—1587)*.

3966. **Мікуліч Францішак** (Микулич Франц), сын Юзафа, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання арандаваў у Юзафа Кашы-Зерскага маёнтак Бацвінаўка Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў «заганных размовах з сялянамі». Паводле ўказа МагГП ад 02.07.1863 яго рухомая маёмасць (мэбля, карціны, адзенне, посуд, прадукты сельскай гаспадаркі і прылады працы, хатнія жывёлы і інш.) на суму ў 228,96 руб. ср. 16.08.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 15.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(2003—1—339; 3366—1—5—8)*.

3967. **Мікульскі Адольф-Калікст-Канстанцін** (Микульский Адольф-Каликст-Константин), сын Тадэвуша Францішкавіча, памешчык Навагрудскага пав. Служыў у рас. войску ў чыне інжынер-капітана, да паўстання выйшаў у адстаўку. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго частка (1/2) маёнтка Шчонава Навагрудскага пав. секвестравана 14.01.1865. Пасля яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву, у 1875 г. атрымаў дазвол на пражыванне ў «заходніх губернях» *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 296—1—89—74; 320—1—398—676адв., 679, 692-693; 1430—1—35810—10-11; 1430—1—35834—53; 2532—1—15—14)*.

3968. **Мікульскі Канстанцін** (Микульский Константин), сын Юзафа, дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—130; 1416—6—271; 1416—6—281; 1430—1—52163—605)*.

3969. **Мікульскі Стэфан** (Микулький Стефан), сын Базыля, памешчык Барысаўскага пав. Жыў у маёнтку Лагаза Барысаўскага пав., да паўстання выехаў у маёнтак Ластаўшчына Мінскага пав., які належаў яго швагру Альбіну-Юльяну Вышамірскаму. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы паўстання, 14.02.1863 была пасланая каманда для яго арышту, але пазбег яго з прычыны выбыцця. Пазней арыштаваны. Паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Пасля амністыі ў 1874 г. вярнуўся часова ў Барысаўскі пав. Яго маёнткі Лагаза і Міхалова Барысаўскага пав. прададзены за даўгі. 12.1876 жыў

у маёнтку Лагаза *(295—1—1527—23; 295—1—3026—37адв.-38; 295—1—3492—44адв., 48адв.; 1430—1—52285—31).*

3970. **Мікульскі Фларыян** (Микульский Флориан), сын Аляксандра, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1842 г. Да паўстання служыў прыказчыкам у маёнтку Туча Слуцкага пав. памешчыка Яленскага. Уваходзіў у склад атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон рас. войскамі ў баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. На судзе сцвярджаў, што трапіў у паўстанцкі атрад «выпадкова, супраць сваёй волі». 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да вяртання на месца ранейшага жыхарства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуд заменены на пазбаўленне правоў стану, канфіскацыю маёмасці і ссылку на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—21; 320—1—398—326-327адв., 344; 320—2—98—40; 1418—4—1; 1524—1—1—8адв.; 1525—1—2—6адв.-7).*

3971. **Мікульскі Юзаф** (Микульский Иосиф), дваранін Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці, ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—67; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—514-517; 319—1—479—21; 320—1—398—363; 320—2—98—40).*

3972. **Мікульчык Мацвей** (Микульчик Матвей), сын Лявона, селянін Ігуменскага пав., праваслаўны. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Зняволены ў г. Ігумене, без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. 09.1863 вызвалены і вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281; 1418—3—1—45адв.-46).*

3973. **Мікутовіч Мікалай** (Микутович Николай). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19).*

3974. **Мікутовіч Севярын** (Микутович Северин), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Лукавец Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795; 3046—2—5—32адв.).*

3975. **Мікуц Максімільян** (Микуц Максимилиян), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў дастаўцы паўстанцам харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 07.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—48адв.-49).*

3976. **Мікуцкі Пётр** (Микуцкий Петр), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1).*

3977. **Мікшэвіч Вінцэнт** (Микшевич Викентий), сын Юзафа, дзяржаўны селянін Вількамірскага пав. Да і падчас паўстання служыў аканомам фальв. Зарэчча Дрысенскага пав. Западозраны ў дапамозе *Васілеўскаму Вінцэнту*, хаванні «падазроных асоб і прамаўленні дзёрзкіх словаў супраць асобы Гасудара Імператара», у 1865 г. трапіў пад следства. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 ваенна-судовай камісіі загадвалася зрабіць выснову пра ступень яго дачынення да справы *(2601—1—29).*

3978. **Міладоўскі Вітальд** (Миладовский Витольд), сын Багуміла, дваранін Навагрудскага пав. Служыў эксперт-юнкерам Грэнадзёрскага сапёрнага батальёна, з 16.06.1860 вучыўся ў Мікалаеўскай інжынернай акадэміі, 01.1861 у чыне прапаршчыка пераведзены ў Пантонны № 5 парк, адкуль у 1862 г. ізноў паступіў у акадэмію. Патаемна пакінуў г. СПб, за што царскім указам ад 13.05.1863 выключаны з яе. Камандаваў паўстанцкім атрадам у Навагрудскім пав., якім спачатку камандаваў *Валодзька Уладзіслаў* і куды ўваходзілі *Багушэвіч Андрэй*, *Бюч Самуэль*, *Ігнатовіч Станіслаў*, *Лазоўскі Эдвард*, *Лявіцкі Тэадор*, *Медушэўскі Сцяпан*, *Паўловіч Юльян*, *Смыслоў Уладзіслаў*, *Улас Вінцэнт*, *Унгэбаўэр Аляксандр* і інш. Схоплены, зняволены ў г. Вільні. Знаходзіўся пад следствам у ВілСК. Даваў паказанні таксама пра *В. У.* Канфірмацыяй А. Патапава ад 17.03.1865 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—116; 162—1—116—39адв.; 162—1—122—25; 296—1—25—87адв., 90, 98-99; 296—1—91—7адв.; 296—1—106; 320—1—398—197адв.; 534—1—14—40; 1430—1—52163—125адв.).*

3979. **Міладоўскі Зянон** (Миладовский Зенон), сын Антонія, памешчык, каталік. Валодаў маёнткам Луцішча Лепельскага пав. (400 дзес. зямлі). Падчас паўстання западозраны ў агітацыі сялян з сельскіх вартаў далучыцца да паўстанцаў, знаходзіўся пад следствам у ВСК. Спачатку быў на волі ў г. Віцебску, арыштаваны і 17.10.1863 зняволены ў віцебскім замку. На Луцішча 05.12.1863

накладзены секвестр на падставе ўказа віцебскага губернатара ад 25.10.1863. ВСК з вызначэннем «прызнаны вінаватым» 19.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Секвестр зняты паводле распараджэння М. Мураўёва ад 14.07.1864 *(299—1—577—550-554; 1416—3—21048—35адв.; 1430—1—52163—94-95, 410адв., 569адв.; 2532—1—8—10-15; 3046—2—3—55адв.-56; 3046—2—5—32).*

3980. **Міладоўскі Канстанцін** (Миладовский Константин), дваранін Лепельскага пав. Да паўстання жыў у г. Мінску. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны рас. уладамі. 21.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. вызвалены *(295—1—1527—105адв.; 295—1—1643—134адв.).*

3981. **Міладоўскі Тамаш** (Миладовский Фома), сын Алаізія. Паходзіў з Мінскай губ. Да паўстання служыў настаўнікам у гімназіі ў г. Слуцку ці ў г. Мінску. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Томскую ці Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 *(162—1—116—124, 166; 295—1—1643—133; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.; 2616—1—40—58).*

3982. **Міладоўскі Эдвард** (Миладовский Эдуард), сын Юзафа, дваранін, Слуцкага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны, быў пад следствам у ССК *(1524—1—1—9).*

3983. **Міладоўскі N.** (Миладовский N.). Да паўстання служыў цельшаўскім павятовым ураднікам, надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

3984. **Мілачэўскі Павел** (Милачевский Павел), сын Канстанціна і Юліі, дваранін Свянцянскага ці Навагрудскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў паезуіцкім маёнткам Жодзішкі Свянцянскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гадоў. На маёнткі бацькоў Каменка, Сафіёўка і Ваўканоша Навагрудскага пав. накладзена забарона *(296—1—25—101; 319—1—479—19адв.; 320—2—99—49адв.; 1416—6—274; 1430—1—52163—154).*

3985. **Мілашэвіч Адам** (Милашевич Адам), сын Юзафа, дваранін Полацкага пав., каталік. Абвінавачаны рас. уладамі ў тым, што «ў яго былі частыя сходы мясцовых палякаў, якія падазраюцца ў палітычнай нядобранадзейнасці». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 13.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—55адв.-56; 3046—2—5—32).*

3986. **Мілашэвіч Альбін** (Милошевич Альбин), дваранін Панявежскага пав. Служыў у канцылярыі віленскага генерал-губернатара, адпраўлены ў адстаўку. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—20; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

3987. **Мілашэвіч Міхал** (Милашевич Михаил), дваранін Панявежскага пав. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—20; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598).*

3988. **Мілевіч Дамінік** (Милевич Доминик), дваранін Віленскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238; 2616—1—40—59).*

3989. **Мілевіч Ільдэфонс** (Милевич Ильдефонс), дваранін Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—20; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.; 2616—1—40—61адв.).*

3990. **Мілевіч Пётр** (Милевич Петр), селянін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання (?) сасланы шарагоўцам у рас. войска. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—124).*

3991. **Мілевіч Стэфанія** (Милевич Стефания), дваранка Гродзенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201адв.).*

3992. **Мілер Казімір** (Миллер Казимир), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання вучыўся ў 7 класе гімназіі ў г. Панявежы. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным па-

радкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16).*

3993. **Мілер Клімент** (Миллер Климентий), ксёндз. Да паўстання служыў у Свянцянскім пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—20; 1430—1—52163—204адв.).*

3994. **Мілеўскі Алаізі** (Милевский Алоизий), сын Зыгмунта, дваранін Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Указ аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 23.05.1864 *(296—1—25—105; 319—1—479—21адв.; 1416—3—21048—35адв., 36; 1430—1—52163—413; 2626—1—305—52-53; 3046—2—5—32адв.).*

3995. **Мілеўскі Апалінары** (Милевский Аполинарий), сын Базыля, памешчык. Да паўстання валодаў часткамі маёнткаў Гапонавічы і Слабодка Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго маёмасць секвестравана і потым канфіскавана *(319—1—479—21адв.; 1430—1—52163—206адв.; 2001—2—123—4адв.; 2001—3—23—3; 2003—1—445—4, 15; 3257—2—2—22адв., 23адв.).*

3996. **Мілеўскі Мечыслаў** (Милевский Мечислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Прылукі Брэсцкага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 27.07.1863 і пастановы ГГП ад 16.08.1863 *(1416—6—219).*

3997. **Мілеўскі Міхал** (Милевский Михаил), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111адв., 573адв.).*

3998. **Мілеўскі Міхал** (Милевский Михаил), сын Валента, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв., 24, 27).*

3999. **Мілеўскі Міхал** (Милевский Михаил), шляхціц Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20; 1430—1—52163—204).*

4000. **Мілеўскі Станіслаў** (Милевский Станислав), памешчык Расіенскага пав. Да паўстання ў яго служыў аканомам *Пужэўскі Юзаф*. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства Тамбоўскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—5адв.).*

4001. **Мілеўскі Тадэвуш** (Милевский Фаддей), дваранін Вількамірскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў спадчынным надзелам зямлі ў в. Стаянцы Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—20; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598).*

4002. **Мілеўскі Францішак** (Милевский Франц), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552адв; 2532—1—15—8адв.).*

4003. **Мілешка Фларыян** (Милешко Флориан), мешчанін Падольскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865), сярод іншага, да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

4004. **Мілкоўскі Канстанцін** (Милковский Константин), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—224адв.).*

4005. **Мількевіч (Мялькевіч) Гіляры** (Милькевич (Мелькевич) Гилярий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Падчас паўстання ўваходзіў у склад атрада *Свентарэцкага Баляслава*, пасля яго разбіцця 05.1863 у Ігуменскім пав. схоплены сялянамі. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым 05.01.1864, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Яго зямля ў вак. Падкоссе Ігуменскага пав. секвестравана і прынята ў кіраван-

не ПДМ, а потым канфіскавана паводле ўказа МГП ад 11.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1597; 296—1—25—104; 296—1—89—35адв.-36; 299—1—577—511-513; 319—1—479—21; 320—1—398—176; 320—2—98—40адв.; 1418—3—1—45адв.-46).*

4006. **Мількевіч Феліцыяна** (Милькевичова Филицияннa), дваранка Ігуменскага пав., каталічка. Западозрана ў «перaтрымальніцтве» паўстанцаў, арыштавана. Знаходзілася пад следствам у ІСК *(1418—3—1—49адв.-50).*

4007. **Мількевіч Францішак** (Милькевич Франц), сын Ануфрыя, сваяк *Яна* (?), шляхціц Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і ў нясвоечасовым данясенні рас. уладам пра іх, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 17.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Прысуджаны да ссылкі ў Сібір. Высланы ў Арэнбургскую губ. Яго 20 дзес. зямлі з гаспадарчымі пабудовамі ў вак. Падкоссе Ігуменскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 05.05.1864, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яны падлягалі абавязковаму продажу, а 21.04.1866 вызвалены ад секвестру *(27—1—801; 162—1—116—103, 166; 295—1—1643—135адв.; 296—1—89—9адв., 71адв.; 1418—3—1—49адв.-50; 2532—1—15—13).*

4008. **Мількевіч Юльян** (Милькевич Юлиян), памешчык Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12адв.; 2532—1—15—7адв.).*

4009. **Мількевіч Ян** (Милькевич Иван), сваяк *Францішка* (?), дваранін. Абвінавачаны ў сувязях з паўстанцамі, у 1863 г. арыштаваны *(295—1—1643—135адв.).*

4010. **Мілярэўскі Міраслаў** (Миляревский Мирослав). Да паўстання вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Машэўскага Уладзіслава*. Загінуў 20.04.1863 у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. (*295—1—1537—7-12адв.*).

**Міляшкевіч Мікалай** — гл. **Меляшкевіч Мікалай**

**Міляцінскі Фелікс** — гл. **Маляцінскі Фелікс**

4011. **Міневіч Антоні** (Миневич Антон), шляхціц Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—20адв.).*

4012. **Мінейка Зыгмунт** (Минейко Сигизмунд), сын Станіслава, дваранін Ашмянскага пав. Яго маці валодала маёнткам Балванішкі Ашмянскага пав. і домам у г. Вільні. З'яўляўся камандзірам паўстанцкага атрада, які быў разбіты ля в. Бакшты, схоплены ў Ашмянскім пав. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 27.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—129; 1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—274; 1430—1—52163—604; 2532—1—15—11адв.).*

4013. **Мінейка Яўстах** (Минейко Евстафий), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—11адв.).*

4014. **Мінейка N.** (Минейко N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дубнікі з фальв. Шыльнікі Віленскага пав. Паўстанцы былі ў Шыльніках, таму западозраны ў сувязях з імі. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

4015. **Мініцкі (Мяніцкі) Антоні** (Миницкий (Меницкий) Антон), сын Станіслава, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв., 24, 26адв.).*

4016. **Мініцкі (Мяніцкі) Каятан** (Миницкий (Меницкий) Каетан), сын Тамаша Леанавіча, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв., 24, 26адв.).*

**Мінкевіч Баляслаў** — гл. **Мянкевіч Баляслаў**

4017. **Мінкевіч Стэфан** (Минкевич Степан), сын Ігната, дваранін. Нар. каля 1830 г. За доўгачасовае знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе арыштаваны. Паводле пастановы ПВА, канфірмаванай М. Мураўёвым (да 17.02.1865), прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—698-699).*

4018. **Мінкевіч Фульгент** (Минкевич Фульгентий). Да паўстання служыў канцылярскім чыноўнікам Віленскай казённай палаты, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

4019. **Мінкевіч Цярэнці** (Минкевич Терентий). Служыў у Лядзінскім павятовым вучылішчы Ігуменскага пав. Дачыненне да паўстання невядомае. Пазбаўлены духоўнага сану. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Разанскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем «заходніх» губ. *(1430—1—35146—45).*

4020. **Мінкевіч Юзаф** (Минкевич Иосиф), мешчанін Гродзенскай губ. Да паўстання вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. За ўдзел у паўстанні арыштавны. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—224адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.).*

4021. **Мінскі Войцех** (Минский Альберт), дваранін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

4022. **Мінчэўскі Юзаф** (Минчевский Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Крамяніца Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—224адв.).*

4023. **Мінькевіч Баніфацы** (Минькевич Бонифаций), сын Вінцэнта, селянін. Да паўстання прыпісаны да Тонава-Хатавенскай сельскай грамады Мінскага пав., знаходзіўся на службе ў Барысаўскім пав. Далучыўся да паўстанцаў, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. 26.02.1864 сяляне грамады згадзіліся прыняць яго на парукі. Пасля ўзнаўлення прысягі на вернасць цару вернуты на месца прыпіскі *(295—1—1692).*

4024. **Мінят Уладзіслаў** (Минят Владислав), сын Сымона, ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у касцёле ў м. Шацк Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

4025. **Мінята Ігнат** (Минято Игнатий), дваранін Цельшаўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—205).*

**Міравіцкі Павел** — гл. **Муравіцкі Павел**

4026. **Міркевіч (Міркавіч) N.** (Миркевич (Миркович) N.). Да паўстання служыў сакратаром мінскага пасярэдніка. Разам з *Клімовічам N.* і *Дулідовічам Генрыкам* удзельнічаў у фарміраванні атрада *Ельскага Яна*. Забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 319—1—479—12).*

4027. **Міронаў**[126] **Ігнат** (Миронов Игнатий), селянін. Да паўстання прыпісаны да в. Дубраўка Магілёўскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—68адв.).*

4028. **Міронаў**[127] **Ян** (Миронов Иван), селянін. Нар. каля 1839 г. Да паўстання жыў у Круглянскай вол. Магілёўскага пав. Абвінавачаны рас. уладамі ў «заганных размовах супраць урада», арыштаваны. Зняволены ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 19.07.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 30.09.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3257—1—17—7адв.-8; 3257—2—8—9).*

4029. **Мірошнікаў Аляксандр** (Мирошников Александр), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

4030. **Мірскі (Святаполк-Мірскі) Сярвацы** (Мирский (Святополк-Мирский) Серваций), памешчык Дзісенскага пав. Пэўны час з'яўляўся міравым пасярэднікам. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 23.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—265; 2532—1—15—12).*

4031. **Мірскі Юзаф** (Мирский Иосиф), мешчанін Панявежскага пав. Нар. каля 1833 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 29.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. высланы ў Томскую губ. *(295—1—1527—106адв.; 295—1—1643—135адв.).*

---

[126] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[127] Тое ж.

4032. **Мiсевiч Вiнцэнт** (Мисевич Викентий), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

4033. **Мiсевiч Казiмiр** (Мисевич Казимир), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—85; 1430—1—52163—540)*.

4034. **Мiсевiч Кацярына** (Мисевич Екатерина), дачка *Тэафілы*. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

4035. **Мiсевiч Марыя** (Мисевич Мария), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195)*.

4036. **Мiсевiч Рэйнгальд** (Миссевич Рейнгольд), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—32адв.)*.

4037. **Мiсевiч Стэфанiя** (Мисевич Стефания), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195)*.

4038. **Мiсевiч Тэафiла** (Мисевич Теофиля), маці *Кацярыны*, жонка архіварыуса Віленскага магістрата. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

4039. **Мiсiна Оттан** (Мисина Оттон), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання жыў у с. Красілаўка Тарашчанскага пав. Кіеўскай губ. За ўдзел у паўстанні аддадзены пад ПВС у Кіеўскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру; адпаведны ўказы выдадзены 22.04.1865 і 21.05.1865 Віцебскім ВГП на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 24.03.1865 і адносіны кіеўскага генерал-губернатара ад 16.03.1865 *(1416—3—21048—36адв.; 1416—4—11416—166; 1430—1—52163—803-804)*.

4040. **Мiсун (Мiсуна) Францiшак** (Мисун (Миссуно) Франц), дваранін Полацкага пав. Да паўстання жыў у с. Красілаўка Тарашчанскага пав. Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні на Украіне, за што рашэннем ЧПА пры Кіеўскім ардананс-гаўзе, канфірмаваным камандуючым Кіеўскай ваеннай акругай, прысуджаны (да 12.05.1865) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 11 гадоў. Сасланы ў 1868 г. У 1873 г. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў Таліцкі завод Камышлоўскага пав. Пермскай губ. У 1874 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з вяртаннем правоў дваранства, у 1878 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. *(160—2—682—164; 534—1—14—45; 1416—3—21048—36адв.; 1416—4—11416—238-241; 1430—1—35976—24-27)*.

4041. **Мiсуна Баляслаў** (Миссуно (Мисуно) Болеслав), сын Юзафа, памешчык. Да паўстання валодаў на правах суспадчынніка маёнткам Забалацце з в. Дуброўка і в. Ржавец Віцебскай губ. За дачыненне да паўстання на яго частку Забалацця 23.09.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты *(1416—3—21048—36; 1430—1—52163—410, 431адв., 449, 569адв., 822)*.

**Мiсуна Францiшак** — гл. **Мiсун Францiшак**

**Мiтарнаўскi Уладзiслаў** — гл. **Мiтарноўскi Уладзiслаў**

4042. **Мiтарноўскi Казiмiр** (Митарновский Казимир), памешчык Сакольскага і Беластоцкага пав. Служыў чыноўнікам, меў чын калежскага сакратара. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.; 2532—1—15—7адв.)*.

4043. **Мiтарноўскi (Мiтарнаўскi) Уладзiслаў** (Митерновский (Митарнавский) Владислав), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў пісьмаводам гарадской бальніцы ў г. Ігумене, губернскі сакратар. Абвінавачаны ў дачы парады «не абвяшчаць Начальству пра злачынныя дзеянні чыноўнікаў», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 17.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 08.03.1865 прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—682—117-118; 1418—3—1—48адв.-49)*.

4044. **Мiткевiч Адольф** (Миткевич Адольф). Да паўстання знаходзіўся на дзяржаўнай службе. Падчас паўстання арыштаваны, у 1863 г. вызвалены, аднак звольнены са службы і аддадзены пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—135)*.

4045. **Міткевіч Баніфацы** (Миткевич Бонифаций), сын Яна, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—68адв.).*

4046. **Міткевіч Баніфацы** (Миткевич Бонифаций), дваранін Цельшаўскага пав. Да паўстання служыў гувернёрам у памешчыка Багдановіча ў маёнтку Задарожжа Пяршайскай вол. Мінскага пав., яго бацькі жылі за 14 верстаў ад г. Цельшаў. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Секвестравана яго рухомасць на 0,51 руб. *(320—1—398—2; 1416—6—241).*

4047. **Міткевіч (Матковіч) Генрык** (Миткевич (Маткович) Генрих), дваранін Панявежскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Пушкі, служыў пісьмаводам міравога пасярэдніка 3 участка Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 ці 8 гадоў *(295—1—1643—133; 319—1—479—20; 320—1—398—133; 1416—3—21048—36; 1416—6—281; 1430—1—52163—399адв., 600).*

4048. **Міткевіч Здзіслаў** (Миткевич Здзислав), памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Ліцвінава Горацкага пав. (1681 дзес. зямлі, дом на 7 пакояў, вятрак, сад, лазня і інш., 44649 руб. доўгу) і лясной дачай, жыў у Аршанскім пав. Перад паўстаннем у яго жыў *Александровіч Павел*. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, які 23.04.1863 сабраўся ў фальв. Зарубы Горацкага пав. і накіраваўся ў г. Горкі. Арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі. Маёмасць канфіскавана *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—21адв.; 1416—4—11416—130; 1430—1—31588—17-17адв.; 2001—2—123—8адв.-9; 2001—2—127—7-8; 2001—2—171—25адв.-27, 39; 3257—2—2—23).*

4049. **Міткевіч Леанард** (Миткевич Леонард), дваранін Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

4050. **Міткевіч Цібурт** (Миткевич Тибурций), дваранін Цельшаўскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў домам у вак. Укрынь Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20адв.; 1430—1—52163—205).*

4051. **Міткевіч N.** (Миткевич N.). Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Мітсайцы Цельшаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—20; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.).*

4052. **Мітэрскі Людвік** (Митерский Людвиг), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.).*

4053. **Міхайлоўскі Зянон** (Михайловский Зенон), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—32адв.).*

4054. **Міхайлоўскі Калікст** (Михайловский Каликст), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—32адв.).*

**Міхайлоўскі Мікалай** — гл. **Міхалоўскі Мікалай**

4055. **Міхайлоўскі Рыгор** (Михайловский Григорий), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

4056. **Міхайлоўскі (Міхалоўскі) Уладзіслаў** (Михайловский (Михаловский) Владислав), дваранін Віленскай губ. Служыў у рас. войску, да паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне інжынера-паручніка шляхоў зносінаў. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199; 1527—1—4—90-91).*

4057. **Міхайлоўскі Юзаф** (Михайловский Иосиф), мешчанін г. Коўна. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да

пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—20; 320—1—398—224)*.

4058. **Міхайлоўскі Яўстах** (Михайловский Евстафий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—32адв.)*.

4059. **Міхайлоўскі N.** (Михайловский N.). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у г. Шаўлях альбо служыў аператарам Віцебскай лекарскай управы. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і прызначаны да высылкі «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. 12.02.1864 пад вартай шарагоўца Абрама Лазарава дастаўлены ў г. Ніжні Ноўгарад *(1430—1—31602—102-103; 1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

4060. **Міхалевіч Аляксандр** (Михалевич Александр), муж Вацлавы, мешчанін, каталік. Падчас паўстання захоўваў зброю, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. разам з жонкай аддадзены пад ПВС, рашэннем якога прысуджаны да штрафу ў 50 руб. *(295—1—1643—126, 132; 1418—3—1—46адв.-47)*.

4061. **Міхалевіч Вацлаў** (Михалевич Вацлав), каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—47адв.-48)*.

4062. **Міхалоўская Юзэфа** (Михаловская Юзефина), дачка Антонія, дваранка Дзісенскага пав., каталічка. Абвінавачана рас. уладамі ў веданні пра тое, што *Гатоўскі Станіслаў* накіраваў у паўстанцкі атрад *Грудзінскага Паўла* і агітаваў уступіць у атрад лоўчага Паўлоўскага. На яе маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 06.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—35адв.; 1430—1—52163—411; 3046—2—3—57адв.-58)*.

4063. **Міхалоўскі Аляксандр** (Михайловский Александр), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

4064. **Міхалоўскі Габрыэль** (Михаловский Гавриил), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 11.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—19адв.; 1430—1—52163—166)*.

4065. **Міхалоўскі Людвік** (Михаловский Людвиг), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—20; 320—1—398—224; 1416—6—281)*.

4066. **Міхалоўскі (Міхайлоўскі) Мікалай** (Михаловский (Михайловский) Николай), сын Міхала Мацеевіча, дваранін Слуцкага пав. Нар. каля 1840 г. Да паўстання служыў канцылярыстам Мінскай палаты грамадзянскага суда. Падчас паўстання выйшаў з г. Мінска з намерам далучыцца да паўстанцкага атрада. 20.05.1863 затрыманы ў м. Каралішчавічы Ігуменскага пав. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 03.06.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір. Канфіскавана і прададзена яго маёмасць на 0,4 руб. *(295—1—1576—8-9, 17-19; 295—1—1643—126адв., 129; 319—1—479—21; 320—1—398—124, 234адв., 252, 423; 320—2—98—40; 1430—1—52163—596б)*.

4067. **Міхалоўскі Севярын** (Михаловский Северин), памешчык Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8)*.

4068. **Міхалоўскі Уладзіслаў** (Михаловский Владислав), сын Казіміра (памешчыка Беластоцкага пав.). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 01.07.1863 і пастановы ГГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—273; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

**Міхалоўскі Уладзіслаў** — гл. **Міхайлоўскі Уладзіслаў**

4069. **Міхалоўскі Ян** (Михаловский Иван), сын Юзафа, дваранін, каталік. Вучыўся ў Маскоўскай медыка-хірургічнай акадэміі. 15.09.1831 паступіў на грамадзянскую службу. Да паўстання служыў аператарам Віцебскай лекарскай управы, надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 09.01.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Ніжні Ноўгарад *(1430—1—31259—57; 1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—59)*.

4070. **Міхалоўскі N.** (Михаловский N.), памешчык. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Перхавічы Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3).*

4071. **Міхальскі Ян** (Михальский Иван), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў Ігумене. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—46адв.-47).*

4072. **Міхальскі Ян** (Михальский Иван), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—8адв.).*

4073. **Міхейліс (Міхеліс) Антоні** (Михейлис (Михелис) Антон), ксёндз. Служыў у касцёле м. Бярэзіна Ігуменскага пав. За «ўзбуджэнне сваіх парафіянаў да спявання рэвалюцыйных гімнаў, нашэнне забароненага адзення і забарону сялянам выдаваць уладам мяцежнікаў, якія схаваліся», арыштаваны паводле загада мінскага губернатара ад 02.11.1865. Зняволены ў г. Мінску, аддадзены пад ПВС. Пастанова суда вынесена 26.11.1865 і пададзена мінскаму губернатару *(295—1—1643—141адв.; 299—2—6399—31адв.-32; 299—2—6400—17адв.-18).*

4074. **Міхневіч Адам** (Михневич Адам), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74).*

4075. **Міхневіч Антоні** (Михневич Антоний). Да паўстання з'яўляўся рэдактарам «Ковенскіх губернскіх ведамасцяў», калежскі асэсар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

4076. **Міхневіч Іпаліт** (Михневич Ипполит). Служыў на рас. грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне тытулярнага радцы. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Жыгарына Троцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

4077. **Міхневіч Людамір** (Михневич Людамир), аднадворац Луцкага пав. Валынскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(1430—1—52163—207).*

4078. **Міхневіч Марцін** (Михневич Мартин), селянін. Да паўстання служыў кухарам у памешчыцы Булгак у м. Аколава Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе пад камандаваннем *Казелы Вінцэнта*, пасля вярнуўся на месца жыхарства. Арыштаваны плешчаніцкім тысяцкім, дастаўлены А. Ляцкаму, якім 29.04.1863 адпраўлены да МГГ. На следстве, сярод іншага, даваў паказанні пра супрацоўніцтва з паўстанцамі *Асяцімскага Генрыка.* У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1533; 295—1—1643—126, 129, 132адв.; 296—1—19—58).*

4079. **Міхневіч Напалеон** (Михневич Наполеон). Да паўстання служыў настаўнікам гімназіі ў г. Коўне. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

4080. **Міхневіч Станіслаў** (Михневич Станислав), сын Андрэя, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Уваходзіў у склад атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав., добраахвотна 28.04.1863 з'явіўся да сенненскага павятовага спраўніка. 02.05.1863 вызвалены пад падпіску бацькі. Не маючы звестак пра добраахвотную яўку да ўладаў, ВСК запатрабавала яго арышту. Арыштаваны і зняволены пры віцебскай паліцыі, дзе ўтрымліваўся 26.01.1864. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—63-65; 3046—2—3—56адв.-57; 3046—2—5—32).*

4081. **Міхневіч (Міхновіч) Юльян** (Михневич (Михнович) Юльян), сын Паула, дваранін Мінскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прысуджаны да высялення ў «дальнія губерні для прызначэння на службу». 18.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.06.1864 пакінуты ў падазрэнні і як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да ссылкі на сталае жыхарства пад нагляд паліцыі ў Енісейскую губ. *(162—1—116—123адв., 157; 295—1—1643—128; 320—1—398—552адв.; 1416—4—11416—83адв.; 1418—3—1—46адв.-47; 1430—1—52163—552адв.).*

4082. **Міхярэвіч (Міхяровіч, Філіповіч, Гаслінскі) Мацвей** (Михеревич (Михерович, Филипович, Гослинский) Матвей), селянін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 29.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 03.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

4083. **Міцкевіч Аляксандр** (Мицкевич Александр). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1876 г. жыў у ссылцы ў складзе мяшчанаў г. Томска, атрымаў дазвол на пераезд з Сібіры на пражыванне ў губерні Еўрапейскай Расіі за выключэннем сталіц і сталічных губ. *(295—1—3030).*

4084. **Міцкевіч Ігнат** (Мицкевич Игнатий), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання служыў пяцісоцкім. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—546).*

4085. **Міцкевіч Ігнат** (Мицкевич Игнатий), сын Базыля, дваранін Магілёўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—21адв.; 3257—2—2—23).*

4086. **Міцкевіч Казімір** (Мицкевич Казимир), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73).*

4087. **Міцкевіч Пётр** (Мицкевич Петр), сын Адама, памешчык Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

4088. **Міцкевіч Цэзар-Пётр** (Мицкевич Цезарий-Петр), сын Ежы Казіміравіча, дваранін Мінскага пав. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На яго маёмасць у Кіеўскай губ. накладалася забарона паводле распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 *(162—1—116; 295—1—1643—141; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—21; 320—1—398—462адв., 481, 628; 320—2—98—40адв.; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.).*

4089. **Міцкевіч Юзаф** (Мицкевич Иосиф), сваяк *Якуба*, памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12).*

4090. **Міцкевіч Якуб** (Мицкевич Яков), сваяк *Юзафа*, памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12).*

4091. **Міцэвіч Бенядыкт** (Мицевич Венедикт), сваяк *Канстанціна* і *Юзафа*, памешчык Ковенскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Жыў у Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795; 2532—1—15—2адв.).*

4092. **Міцэвіч Канстанцін** (Мицевич Константин), сваяк *Бенядыкта* і *Юзафа*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795; 2532—1—15—2адв.).*

4093. **Міцэвіч Мікалай** (Мицевич Николай), памешчык. Да паўстання сумесна з іншымі суспадчыннікамі валодаў маёнткам Глупікі Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу, а ў 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(296—1—25—111адв.; 1430—1—52163—573адв.; 2003—1—489—62; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9адв.; 3366—1—5—7адв.).*

4094. **Міцэвіч Міхал** (Мицевич Михаил (Михайло)), сын Станіслава, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце, валодаў часткай маёнткаў Глупікі і Халмы Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў

пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. 01.10.1864 справа пададзена ў МагВСК. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго маёмасць канфіскавана *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—222адв.; 2001—2—123—6; 2001—3—23—3; 2003—1—445—3; 2003—1—489—25; 3257—2—2—21; 3366—1—5—7адв.)*.

4095. **Міцэвіч Тамаш** (Мицевич Фома). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў на грамадзянскай службе, надворны радца. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да забароны паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9)*.

4096. **Міцэвіч Юзаф** (Мицевич Иосиф), сваяк *Бенядыкта* і *Канстанціна*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20; 1430—1—52163—795; 2532—1—15—2адв.)*.

4097. **Міцэвіч Юльян** (Мицевич Юлиан), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Кібішкі Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

4098. **Младзяноўскі Людвік** (Млодзяновский Людвиг). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. жыў у г. Варшаве як «былы палітычны ссыльны», жанаты з пляменніцай памешчыка Пінскага пав. Генрыка Скірмунта. 11.1875 атрымаў дазвол на часовае знаходжанне на тэрыторыі Луцкага пав. Валынскай губ., 12.1873 — у Пінскім пав. на 6 месяцаў для ўладкавання «сямейных спраў». 04.1875 выехаў з Варшавы *(295—1—2768)*.

4099. **Млахоўскі (Бяліна-Млахоўскі) Апалон** (Млоховский (Белина-Млоховский) Аполлон). Удзельнічаў у паўстанні, пасля эміграваў. Жыў у Парыжы, дзе ў 1871 г. атрымаў дазвол на вяртанне ў Рас. імперыю і прыняцце рас. падданства з вызваленнем ад пакарання за ўдзел у паўстанні *(1430—1—35146—9)*.

4100. **Млынскі Баляслаў** (Млынский Болеслав), сын *Яна-Фелікса*, брат *Уладзіслава* і дзвюх сясцёр, дваранін Мазырскага пав. Паходзіў з Каралеўства Польскага, з бацькам перасяліўся ў м. Тураў Мазырскага пав. Яго бацька валодаў маёнткамі Марэлін (Мярэлін, Мерлін) і Цераблічы Мазырскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Ссылку адбываў у г. Омску. Каля 1869 г. атрымаў частковую амністыю і перасяліўся ў Багукальскую гміну Канстанцінаўскага пав. Седлецкай губ. 09.04.1874 атрымаў пашпарт на выезд у Кастрамскую губ., але да 03.05.1874 прыбыў у Марэлін да бацькі. Праз некалькі дзён быў прымушаны рас. уладамі пакінуць Мінскую губ. і вярнуўся ў Канстанцінаўскі пав. *(295—1—1643—133адв.; 295—1—2539; 299—2—579—298-307; 319—1—479—21; 320—1—398—2адв., 248; 1430—1—52163—206)*.

4101. **Млынскі Уладзіслаў** (Млынский Владислав), сын *Яна-Фелікса*, брат *Баляслава* і дзвюх сясцёр, дваранін Мазырскага пав. Паходзіў з Каралеўства Польскага, з бацькам перасяліўся ў м. Тураў Мазырскага пав. Яго бацька валодаў маёнткамі Марэлін (Мярэлін, Мерлін) і Цераблічы Мазырскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—21; 320—1—398—124адв., 234адв., 248, 423адв.; 320—2—98—40; 1430—1—52163—596б адв.)*.

4102. **Млынскі Ян-Фелікс** (Млынский Іван-Феликс), сын Тадэвуша, бацька *Баляслава*, *Уладзіслава* і дзвюх дачок, памешчык. Паходзіў з Каралеўства Польскага, перасяліўся ў м. Тураў Мазырскага пав., набыў маёнткі Марэлін (Мярэлін, Мерлін) і Цераблічы Мазырскага пав. За ўдзел у паўстанні сыноў на Марэлін (ацэнены прыкладна ў 50 тыс. руб.) і Цераблічы накладзена забарона ўказам МГП ад 06.08.1863. У 1874 г. жыў у Марэліне, куды да яго прыбыў *Баляслаў* *(295—1—2539; 296—1—89—25; 299—1—577—518-543; 320—1—398—124адв., 248; 320—2—99—37)*.

4103. **Мойгіс Амброзі** (Мойгис Амброзий). Да паўстання служыў сакратаром у віленскага губернскага маршалка, губернскі сакратар. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Паводле пастановы ЧПА ад 21.06.1865, канфірмаванай К. фон Каўфманам, вызвалены як «ні ў чым не выкрыты», але звольнены з забаронай паступаць на службу на радзіме *(160—2—680—135; 162—1—122—39)*.

4104. **Мокіч Каятан** (Мокич Каэтан), муж Юзэфы Юзафаўны, бацька *Францішка*, дваранін Себежскага пав. Да паўстання жонка валодала в. Яскі-

на Себежскага пав. (360 дзес. зямлі). За «спачуванне да мяцяжа» паводле пастановы следчай камісіі сасланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 накладаўся секвестр *(296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—36; 1430—1—31307—116адв.; 1430—1—31355—135-136; 1430—1—31583—33-34; 1430—1—52163—419, 476адв., 573адв.).*

4105. **Мокіч Францішак** (Мокич Франц), сын *Каятана* і Юзэфы Юзафаўны, дваранін Себежскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Яскіна Себежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір. На маёнтак маці накладзены секвестр, а потым забарона *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—134; 1416—3—21048—35; 1430—1—52163—20, 416, 596; 2616—1—40—12).*

4106. **Моллер Вінцэнт** (Моллер Викентий), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—20адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242).*

4107. **Моль Аляксандр** (Моль (Молль) Александр), сын Аляксандра, памешчык, каталік. Нар. каля 1830 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання валодаў маёнткамі Парэчча і Франапаль Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што «распавядаў яму, што ён сябра Цэнтральнага Камітэта і што *Адам Чашніцкі* быў пасыланы па пакупку зброі», арыштаваны (да 29.05.1863). Падчас вобшуку ў яго знойдзены рэвальвер, кулі і пістоны. На яго маёмасць 18.07.1863 на падставе віцебскага губернатара ад 31.05.1863 і ўказу ВГП ад 02.07.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 150 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—35; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31370—89; 1430—1—52163—15, 404, 429адв., 443, 446, 570адв.; 3046—2—3—54адв.-55; 3046—2—5—32).*

4108. **Моль Станіслаў** (Моль (Молль) Станислав), сын Аляксандра, муж Феліцыі Тэафілаўны, памешчык Дынабургскага пав., каталік. Нар. каля 1821 г. Служыў у рас. войску, у 1848 г. выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра лейб-гвардыі Гродзенскага гусарскага палка. Абіраўся губернскім сумленным суддзёй у г. Віцебску, потым дынабургскім маршалкам. Да паўстання жыў у сваім маёнтку — у мызе Вышкі Дынабургскага пав., недалёка ад станцыі Дубна Санктпецярбургска-Варшаўскай чыгункі. Падчас паўстання западозраны ў дапамозе паўстанцам і 14.04.1863 арыштаваны. Пастановай ЧПА, «хоць пры даследаванні не знойдзена аніводнага факту, які даказвае сапраўднасць удзелу <…> у якім-небудзь з непарадкаў, што здарыліся ў Дынабургскім павеце і ўвогуле ў тутэйшым краі», але таму як «прыцягвае да сябе моцнае падазрэнне ў дачыненні да мяцяжа» прызначаны да высылкі ў Казанскую губ. на жыхарства пад нагляд паліцыі. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 19.11.1863 прысуджаны да ссылкі ў Арэнбургскую губ. пад строгі нагляд паліцыі з 2-месячным зняволеннем. Яго маёнтак секвестраваны 04.09.1863 паводле распараджэння Э. Длатоўскага ад 13.07.1863. Потым секвестр зняты паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 12.1863, якое грунтавалася на канфірмацыі М. Мураўёва, са спагнаннем трайнога 10-працэнтнага збору. Таксама часова секвестраваны дом жонкі ў г. Дынабургу. Сасланы ў г. Уфу. Пасля частковай амністыі ў 1866 г. перасяліўся ў г. Рыгу, у 1869 г. атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». Жонка добраахвотна выправілася з ім у ссылку, але ў 1865 г. вярнулася ў Дынабург і дамаглася вяртання яго пенсіі за вайсковую службу *(295—1—1989—42-44; 1416—3—21048—35; 1430—1—31965; 1430—1—52163—54-57, 567; 1430—1—52285—6, 35адв.-37адв., 42; 2626—1—305—3).*

4109. **Моль Францішак** (Моль Франц), сын Аляксандра, дваранін Себежскага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны рас. уладамі ў хаванні зброі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 12.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—58адв.-59).*

4110. **Монгін Караль** (Монгин Карл), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Прытгоны Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865

падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—8; 2532—1—15—11)*.

4111. **Мордас Аўгустын** (Мордас Августин), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237; 2616—1—40—58)*.

4112. **Мразоўскі Эдвард** (Мрозовский Эдуард). Служыў бельскім павятовым казначэем, тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

4113. **Мрачкоўскі Ільдэфонс** (Мрочковский Ильдефонс), памешчык. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што ў 1866 г. прысуджаны да штрафу ў 50 руб. *(295—1—1643—142)*.

4114. **Муйжаль Густаў** (Муйжель Густав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Макнюны і Янапаль Троцкага пав. Пастаўляў харчаванне паўстанцам, у яго маёнтку таксама знойдзены падрыхтаваныя для іх рэчы і порах. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

4115. **Мукляновіч Ян** (Муклянович Ян), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—20; 320—1—398—224)*.

4116. **Мункевіч Канстанцін** (Мункевич Константин), сын Гераніма, дваранін Ковенскага ці Троцкага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1416—6—281; 1430—1—52163—149)*.

4117. **Munькоўскі Францішак** (Муньковский Франц), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70)*.

4118. **Муравар Юзаф** (Муровар Иосиф), мешчанін. За дачыненне да паўстання прысуджаны да 3-месячнага арышту і аддачы пад паліцэйскі нагляд пасля вызвалення *(295—1—1643—131адв.)*.

4119. **Муравіцкі (Міравіцкі) Павел** (Муравицкий (Мировицкий) Павел), сын Дзмітрыя, селянін. Да паўстання прыпісаны да Прылепскай сельскай грамады Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага пав. Быў у паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.07.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1864 г. высланы ў Пскоўскую губ. *(295—1—1643—139; 295—1—2725—17; 296—1—19—280адв.; 1418—3—1—47адв.-48)*.

**Мураўская Вольга** — гл. **Віткоўскі Францішак**

**Мураўская Маргарыта** — гл. **Віткоўскі Францішак**

**Мураўская Уршуля** — гл. **Віткоўскі Францішак**

4120. **Мураўскі Канстанцін** (Муравский Константин). Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, атрымаў часовае звальненне і выехаў на радзіму. 24.04.1863 затрыманы ў Горацкім пав. недалёка ад месца дзеянняў паўстанцаў і дастаўлены ў г. Смаленск. Знаходзіўся пад следствам у СмСК. Таму як меў законныя дакументы, пад наглядам жандармаў дастаўлены ў г. Маскву для ўсталявання над ім паліцэйскага нагляду. Пазней сасланы ў Кастрамскую губ. У 1871 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—31588—15-22адв.; 1430—1—35146—89)*.

4121. **Мураўскі (Мароўскі) Францішак** (Муравский (Моровский) Франц), сын Тэадора, брат *Юзафа*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. У 1864–1868 гг. знаходзіўся ў Томскай губ. *(295—1—1911; 295—1—2420—14адв.)*.

4122. **Мураўскі Юзаф** (Муравский Иосиф), сын Тодара, брат *Францішка*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—1911; 295—1—2420—14адв.)*.

4123. **Мураўскі N.** (Муравский N.). Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. Да паўстання валодаў маёнткам Пажварні Панявеж-

скага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Мураўскі Юзаф** — гл. **Віткоўскі Францішак**

4124. **Мурашка Люцыян** (Мурашко Люциан). Да паўстання служыў пісьмаводам аршанскага маршалка, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Гжацк Смаленскай губ. Потым пераведзены ў г. Ніжні Ноўгарад, дзе ў 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—37-38; 299—2—8305; 1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23)*.

4125. **Мурашка Францішак-Ігнат** (Мурашко Франц-Игнатий), сын Рамуальда (пам. 1880), брат Ігната, памешчык Бабруйскага пав. Нар. 28.02.1839. Удзельнічаў у паўстанні, за што знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. Маёнтак Папоўцы і палова маёнтка Плёсавіцкая Буда (Плёсавічы-Буда) Бабруйскага пав., якія належалі яго бацьку, секвестраваны, потым на іх накладзена забарона. Пасля частковай амністыі выехаў з Сібіры. 06.11.1873 паступіў на дзяржаўную службу, у 1883 г. — малодшы рэвізор Эстляндскай кантрольнай палаты, тытулярны радца. Пасля смерці бацькі атрымаў у спадчыну зямлю пад назвай Урочышча Будзішча Бабруйскага пав. *(162—1—116—51; 299—2—8305; 319—1—479—21; 320—1—398—4-5адв., 108-110, 220, 222; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—22)*.

4126. **Мурашка Ян** (Мурашко Иван), сын Прохара, мешчанін Ігуменскага пав., каталік. Уночы з 19 на 20.04.1863 разам з *Рымгайлам Баляславам* і *Тарчылам Баляславам* узяты ў атрад *Сніткі Алаізія*. Арыштаваны. Без вытворчасці следства 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск. *(296—1—50—1-17; 1418—3—1—45адв.-46)*.

4127. **Мурзін Базыль** (Мурзин Василий), муж *Ганны*, дваранін Невельскага губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. Адпаведнае распараджэнне было выдадзена 27.08.1864 віцебскім губернатарам на падставе загада М. Мураўёва ад 21.08.1864 *(1416—4—11416—21-23; 1430—1—52163—423адв.)*.

4128. **Мурзіна Ганна** (Мурзина Анна), жонка *Базыля*, дваранка Невельскага губ. За ўдзел у паўстанні прысуджана, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. Адпаведнае распараджэнне было выдадзена 27.08.1864 віцебскім губернатарам на падставе загада М. Мураўёва ад 21.08.1864 *(1416—4—11416—21-23; 1430—1—52163—423адв.)*.

4129. **Мурзыновіч Антоні** (Мурзынович Антоний). Да паўстання ўтрымліваў аптэку ў м. Шчучын Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

4130. **Мусніцкі Мечыслаў** (Мусницкий Мечислав). Да паўстання жыў у г. Шаўлі, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—11, 15адв.)*.

4131. **Мутэрперла Нахім** (Мутерперло Нохим), яўрэй. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, у 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—125)*.

4132. **Муфель Павел** (Муфель Павел), сын Пятра, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гарадзішча Себежскага пав., служыў пасярэднікам па палюбоўным размежаванні ў Себежскім пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле распараджэння М. Мураўёва сасланы ў 1863 г. на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Паводле пастановы ВГП ад 20.05.1864 звольнены са службы *(1416—4—11416—292, 325; 2626—1—305—51; 3046—2—5—32адв.)*.

4133. **Мушняк Савелі** (Мушняк Савелий), селянін Ігуменскага пав., праваслаўны. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—47адв.-48)*.

4134. **Мушынскі Зыгмунт** (Мушинский Сигизмунд), дваранін Слонімскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111адв., 573адв.)*.

4135. **Мысліцкі Базыль** (Мыслицкий Василий), селянін Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*, добраахвотна да 01.05.1863 з'явіўся да рас. уладаў. На следстве даказваў, што забраны ў атрад гвалтоўна. Падчас следства быў на волі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвален-

ня ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасяленні на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560).*

4136. **Мысліцкі Юзаф** (Мыслицкий Иосиф), сын Яна, дваранін, каталік. Нар. каля 1817 г. Служыў экзекутарам ВГП, узнагароджаны ордэнамі Св. Ганны 3 ст. і Св. Станіслава 3 ст., тытулярны радца. Падчас паўстання на месцы службы захоўваў зброю і рыштунак і прымаў у сваёй кватэры «палітычных злачынцаў, якіх прыводзілі як перасыланых арыштантаў у губернскае праўленне», за што быў арыштаваны. Пры вобшуку ў яго знойдзены «розныя рэчы з забароненымі выявамі і кнігі падбухторнага зместу», якія належалі, сярод іншага, *Корсак Наталлі.* Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, чыну, узнагарод, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 28.08.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. Канфіскавана яго рухомая маёмасць *(319—1—479—21адв.; 1416—3—21048—36; 1416—4—11416—65-70; 1430—1—52163—402адв., 535, 827адв.).*

4137. **Мыслоўскі Клеафас** (Мысловский Клеофас), памешчык Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 30.07.1863 і пастановы ГГП ад 22.08.1863 падлягала секвестру. Пазней высланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—229; 2532—1—15—8).*

4138. **Мыслоўскі Павел** (Мысловский Павел), памешчык Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103; 319—1—479—20адв.).*

**Мышко Яўстах** — гл. **Мышкоўскі Яўстах**

4139. **Мышкоўскі Феліцыян** (Мышковский Фелициян), сын Феліцыяна, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне капітана. Да паўстання валодаў маёнткам Сапрынавічы Мсціслаўскага пав. (100 дзес. зямлі без сялян, дом на 3 пакоі, гаспадарчыя пабудовы, лазня, сад і інш., 201 руб. ср. доўгу), які з прычыны яго псіхічнай хваробы знаходзіўся ў кіраванні яго пляменніка *Саковіча Паўла.* За дачыненне пляменніка да паўстання маёнтак 07.07.1863 апісаны і секвестраваны. Апека над самім М. Ф. 10.1863 перададзена двараніну Тэадору Янавічу Асмалоўскаму *(2003—1—211—70-71адв.; 2003—1—257—7адв.-8; 2003—2—10).*

4140. **Мышкоўскі (Мышко) Яўстах** (Мышковский (Мышко) Евстафий), селянін. Нар. каля 1842 г. Да паўстання прыпісаны да в. Слабада Новааляксандраўскага пав., жыў у Барысаўскім пав., служыў лакеем памешчыка Данбровы. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да ссылкі ў арыштанцкія роты на 2 гады *(295—1—1527—99адв.; 295—1—1643—126адв., 132адв.).*

4141. **Мыцоўскі Стэфан** (Мыцовский Степан), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72).*

4142. **Мэйер Адольф (Альфонс)** (Мейер Адольф (Альфонс)), дваранін Троцкага пав. Да паўстання жыў у мызе Сарафанішкі (Серафінішкі) Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—19адв.; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603).*

4143. **Мэйстэр Ян** (Мейстер Иван), памешчык Мінскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—21; 3257—2—2—22).*

4144. **Мэрфэльд N.** (Мерфельд N.), дваранін. Да паўстання арандаваў надзел зямлі ў м. Старыя Трокі Троцкага пав. Западозраны ВілСК ва ўдзеле ў паўстанні, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

4145. **Мюнстэр Адам** (Мюнстер Адам), аднадворац. Да паўстання жыў у в. Скопішкі Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкую роту ці на пасяленне *(319—1—479—20; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

4146. **Мядзвецкі Антоні** (Медвецкий (Медведцкий) Антон), дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. Да паўстання жыў у г. Коўне. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15).*

4147. **Мядзвецкі (Нядзвецкі) Антоні** (Медвецкий (Недзвецкий) Антоний (Антон)), сын Якуба, дваранін Барысаўскага ці Дзісенскага пав. Нар. 07.01.1834. Да паўстання служыў аканомам у фальв. Роспаш Дзісенскага пав. у Антонія Дамбровы, бацькі *Дамброваў Баляслава* і *Уладзіслава*. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля яго рассеяння ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да ўладаў у г. Лепель. Дастаўлены ў г. Барысаў і 19.05.1863 зняволены ў мясцовай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1527—102адв.; 295—1—1588; 319—1—479—19адв.; 320—1—398—84-89а адв.; 320—2—98—41адв.)*.

4148. **Мядэкша Адам** (Медекша Адам), памешчык Ковенскага пав. Да паўстання служыў пасярэднікам Ковенскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую ці ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.; 2532—1—15—1)*.

4149. **Мядэкша Антоні** (Медекша Антон), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Сурмонты і Палессе Гітакольскай парафіі Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Мялькевіч Гіляры** — гл. **Мількевіч Гіляры**

4150. **Мяйштовіч Зыгмунт-Атаназі** (Мейштович Сигизмунд-Афанасий), сын Караля-Адольфа Тадэвушавіча, дваранін Мінскага пав. Вучыўся ва ўніверсітэце. Да паўстання жыў у г. Мінску, яго бацькі валодалі маёнткам Улессе Барысаўскага пав. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі». Паводле тэлеграмы М. Мураўёва да ЧВГМГ ад 21.12.1863 арыштаваны, а ў яго кватэры праведзены вобшук. 23.12.1863 са знойдзенымі паперамі адпраўлены з Мінска да віленскага каменданта пад вартай двух жандармаў, 25.12.1863 прыбыў у г. Вільню. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 8 гадоў *(295—1—1570; 295—1—1643—140адв.; 299—1—579—165-177; 319—1—479—21; 320—1—398—462, 471; 320—2—98—40адв.; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375)*.

4151. **Мялкоўскі Станіслаў** (Мялковский Станислав), мешчанін Люблінскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

4152. **Мялькевіч Ян** (Мелькевич Иван), сын Вінцэнта, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 08.04.1864 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—48адв.-49)*.

4153. **Мянжынскі Ян** (Менжинский Иван), памешчык Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—195адв.; 2003—1—489—62; 2532—1—15—9адв.)*.

**Мяніцкі Антоні** — гл. **Мініцкі Антоні**

**Мяніцкі Каятан** — гл. **Мініцкі Каятан**

4154. **Мянкевіч (Мінкевіч, Манькевіч) Баляслаў** (Менкевич (Минкевич) Болислав), сын Антонія, вольнаадпушчанага селяніна в. Вялікія Брастовічы Гродзенскага пав. Нар. каля 1842 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі. Уваходзіў у склад атрада *Машэўскага Уладзіслава* ў Слуцкім пав. 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на службу ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—8адв.; 1525—1—2—6адв.-7)*.

**Мянькевіч Канстанцін** — гл. **Манкевіч Канстанцін**

**Мянютка Францішак** — гл. **Манютка Францішак**

4155. **Мячкоўскі Юзаф** (Мечковский Иосиф). Служыў настаўнікам гімназіі ў г. Беластоку, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

# Н

4156. **Набароўскі Ян** (Ноборовский Иван), дваранін Мінскай губ. У сувязі з падазрэннем у «нядобранадзейнасці» і сувязях з *Качынскім N.* і *Баравіком N.* прысуджаны М. Мураўёвым да ссылкі ў Пермскую губ., на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—84; 295—1—1643—155адв.; 320—1—398—378)*.

4157. **Навагонскі Андрэй** (Новогонский Андрей), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

4158. **Навадворскі Апалінары** (Новодворский Аполинарий), сын Ігната ці Нікадыма, брат *Баляслава* (?), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам у Ігуменскім павятовым судзе, яго бацькі валодалі маёнткам Лемшык Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Утрымліваўся ў гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 21.09.1863. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—155адв.; 296—1—90—5адв.-6; 319—1—479—22адв.; 1418—3—1—51адв.-52; 1527—1—4—132-133)*.

4159. **Навадворскі Баляслаў** (Новодворский Болеслав), сын Ігната, брат *Апалінарыя* (?), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, узяты рас. войскамі ў палон са зброяй у руках. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.01.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. Сасланы ў Томскую губ. *(295—1—1643—154адв.; 1418—3—1—52адв.-53)*.

4160. **Навадворскі Валяр'ян** (Новодворский Валериан), сын Адама, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, узяты рас. войскамі ў палон са зброяй у руках. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.01.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. Сасланы ў Томскую губ. *(295—1—1643—154адв.; 1418—3—1—52адв.-53)*.

4161. **Навадворскі Зянон** (Новодворский Зенон). Працаваў у «ваенным ведамстве», звольнены. Да паўстання жыў у м. Гарадзішча Навагрудскага пав., працаваў лекарам. Падчас паўстання належаў да патаемнай арганізацыі ў Навагрудскім пав. Арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 8 гадоў на катаргу ў крэпасцях *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—676, 679)*.

4162. **Навадворскі Караль** (Новодворский Карл), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у в. Енэйш Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

4163. **Навадворскі Францішак** (Новодворский Франц), сын Вінцэнта, дваранін. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. для пасялення на казённых землях. Пасля амністыі вярнуўся, 12.1876 жыў у вак. Рэпішча Ігуменскага пав., дзе займаўся гаспадаркай *(295—1—1643—155; 295—1—3026—31)*.

4164. **Навакоўскі Генрык-Сымон** (Новаковский Генрих-Семен), сын Яна Антоніевіча, дваранін Слуцкага пав. Нар. 04.06.1839. Да паўстання служыў у Вілейскім павятовым судзе. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з дазволам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(162—1—116—33; 295—1—1643—147, 149адв.; 319—1—479—22адв.; 320—1—398—162, 222, 386, 401адв.; 320—2—98—41адв.; 1430—1—52758—30)*.

4165. **Навакоўскі Станіслаў** (Новаковский Станислав). Да паўстання выкладаў у гімназіі г. Гродна. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—22)*.

4166. **Навакоўскі Ян** (Новаковский Иван). Да паўстання служыў мінскім страпчым крымінальных спраў. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства ў 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую губ. *(295—1—1643—148адв.; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21)*.

4167. **Навасельскі Даніэль** (Новосельский Даниель), сын Францішка, дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання вучыўся ў 5-м класе губернскай гімназіі ў г. Вільні, яго бацькі валодалі маёнткам Сільвестрава Ашмянскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, пасля яго разбіцця схоплены сялянамі.

Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—22; 320—1—398—221адв.; 1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—274; 1416—6—280).*

4168. **Навасельскі Станіслаў** (Новосельский Станислав), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў ігуменскім павятовым страпчым, калежскі асэсар. За «недарэчныя размовы з дваранінам Мярынскім пра мяцеж» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 17.01.1864 яго справа περададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 08.03.1865 звольнены з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» і аддадзены пад нагляд паліцыі *(160—2—682—117-118; 1418—3—1—52адв.-53).*

4169. **Навасельскі N.** (Новосельский N.). Да паўстання служыў у піцейных установах г. Саколкі Гродзенскай губ. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 319—1—479—22; 1430—1—52163—162).*

4170. **Навацкі Людвік** (Новацкий Людвиг), сын Андрэя, дваранін Свянцянскага пав. З 01.1863 жыў у г. Мінску. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні і арыштаваны. Апраўданы, але як «нядобранадзейны», канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 09.08.1865 прызначаны да ссылкі ў Томскую губ. на сталае жыхарства і секвестру маёмасці *(160—2—682—214; 162—1—122—34; 295—1—1643—154адв., 155адв.; 534—1—14—78).*

4171. **Навацкі Тадэвуш** (Новацкий Фаддей), дваранін Віленскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў г. Павянцы Аланецкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—143).*

4172. **Навіцкая Антаніна** (Новицкая Антонина), памешчыца. Да паўстання арандавала маёнтак Урублеўшчына Мінскага пав., дзе жылі таксама *Іваноўскі Тамаш* і *Пятровіч Павел.* Затрымана па справе апошніх і пастановай ЧПА, канфірмаванай 23.03.1864 М. Мураўёвым, за «ператрыманне без пісьмовага дакумента Пятровіча і нанясенне пабояў мясцоваму сельскаму старасце» прысуджана да штрафу ў 100 руб. ср. і аддачы на парукі. Штраф 05.1864 заплаціла *(295—1—1548).*

4173. **Навіцкая Ганна** (Новицкая Анна), сястра *Людвіка.* За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

4174. **Навіцкая Людвіка** (Новицкая Людвика), дачка *Разаліі*, дваранка Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

4175. **Навіцкая Разалія** (Новицкая Розалия), маці *Людвікі*, дваранка Ковенскага пав. Да паўстання ўдава. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

4176. **Навіцкі Адам** (Новицкий Адам), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Быў пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да вызвалення. 15.11.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—51адв.-52).*

4177. **Навіцкі Адрыян** (Новицкий Адриян), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем бернардзінскага касцёла г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

4178. **Навіцкі Віктар** (Новицкий Виктор), сын Яна, мешчанін Дынабургскага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны ў «неабдуманым напісанні ліста бацькам», трапіў пад следства. 10.01.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа перададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў, паводле пастановы якога ад 01.02.1864 вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі *(1430—1—52163—634адв.).*

4179. **Навіцкі Вінцэнт** (Новицкий Викентий), дваранін. Да паўстання жыў у Лепельскім пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—105; 319—1—479—22адв.; 1416—3—21048—37; 1430—1—52163—413; 2626—1—305—46-47).*

4180. **Навіцкі Ежы** (Новицкий Георгий), ксёндз. Да паўстання служыў у Расіенскім пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы

ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

4181. **Навіцкі Казімір** (Новицкий Казимир). Паходзіў з Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

4182. **Навіцкі Ксаверы** (Новицкий Ксаверий), сын Юзафа, селянін. Да паўстання прыпісаны да Стрэлаўскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—32)*.

4183. **Навіцкі Людвік** (Новицкий Людвиг), брат *Ганны*. Да паўстання жыў у г. Вільні, з'яўляўся настаўнікам музыкі. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

4184. **Навіцкі Міхал** (Новицкий Михаил). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(296—1—25—73)*.

4185. **Навіцкі Павел** (Новицкий Павел), памешчык Мазырскага пав. Да дачыненне да паўстання яго драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі, садам і агародам у г. Мазыры, ацэнены ў 1040 руб., канфіскаваны. У ім размясцілася жандармская каманда; флігель, гаспадарчыя пабудовы, сад і агарод здаваліся ў арэнду за 26 руб. штогод *(295—1—1900—8адв.-9)*.

4186. **Навіцкі Рыгор** (Новицкий Григорий), сын Ежы, ксёндз. Да паўстання служыў у маёнтку Бяльмонты Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

4187. **Навіцкі Рышард** (Новицкий Ричард), дваранін Гродзенскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—22; 320—1—398—224адв.)*.

4188. **Навіцкі Станіслаў** (Новицкий Станислав), сын Яна, дваранін Аршанскага пав. Да паўстання знаходзіўся на выхаванні ў *Літвініка Базыля*. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, у 1863 г. арыштаваны. Быў пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа перададзена МагВГ. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—22адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2001—1—900—1адв.; 3257—2—2—25; 3257—2—2—25; 3366—1—5—8)*.

4189. **Навіцкі Тамаш** (Новицкий Томаш), селянін Ігуменскага ці Мінскага пав., каталік. Быў у паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Зняўдзены ў г. Ігумене, без следства 21.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Пазней вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі *(296—1—19—280адв.; 1418—3—1—51адв.-52)*.

4190. **Навіцкі Уладзімір** (Новицкий Владимир), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

4191. **Навіцкі Фелікс** (Новицкий Феликс), сын Антонія Янавіча, дваранін Барысаўскага ці Віленскага пав. Служыў бухгалтарам Шумянскага акруговага ўпраўлення, калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. У ссылцы знаходзіўся ў г. Арэнбургу. У 1870-я гг. атрымаў частковую амністыю з вяртаннем правоў дваранства, але забаронай жыць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губернях, выехаў з ссылкі і пасяліўся г. Смаленску. У 1874 г. яго бацька, які жыў з жонкай у маёнтку Востраў Ігуменскага пав. памешчыка Ваньковіча, падаваў прашэнне аб дазволе на яго прыезд у Ігуменскі пав. для сустрэчы з бацькамі, якое было задаволена. 16.09.1874 атрымаў пашпарт на 6-месячнае знаходжанне ў Ігуменскім пав. і прыбыў да бацькоў. 11.1874 яго бацька падаў прашэнне аб дазволе на сталае пражыванне ў Мінскай губ., але яно было адхілена. У 1875 г. сам падаў яшчэ адно прашэнне і 25.04.1875 атрымаў дазвол на знаходжанне пры бацьках яшчэ на 1 год, 15.06.1876 — на сталае пражыванне ў Мінскай губ. 12.1876–06.1882 жыў у маёнтку Востраў *(295—1—1643—155адв.; 295—1—2540; 295—1—2742; 295—1—3026—32адв.; 295—1—3492—68адв., 87; 319—1—479—22адв.; 320—1—398—222, 225-226, 401, 407, 633-634; 320—2—98—41адв.)*.

4192. **Навіцкі Фердынанд** (Новицкий Фердинанд), дваранін Віленскай губ. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—30; 1527—1—4—12адв.)*.

4193. **Навіцкі Францішак** (Новицкий Франц), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Скірмонішкі Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

4194. **Навіцкі Францішак** (Новицкий Франц), сын Юзафа, памешчык Ігуменскага пав. Да паўстання адстаўны доктар, надворны радца, жыў у г. Ігумене. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 26.09.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Яго частка (4211 дзес. 16 саж.) маёнтка Буйнавічы Мазырскага пав. (ацэнены прыкладна ў 6000 руб.) і драўляны дом у Ігумене з драўляным флігелем, «ледавіком», 3 гумнамі, свіранам і фруковым садам (ацэнены ў 677 руб.) секвестраваны паводле ўказаў МГП ад 20.03.1864 і 09.06.1864 (агулам рухомая маёмасць ацэнена ў 305,92 руб.), таксама як і штогадовы пенсіён ў 127,31 руб. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў руднікі на 12 гадоў. Дом у Ігумене ў 1864 г. канфіскаваны, здаваўся ў арэнду за 160,65 руб. штогод *(162—1—116—57, 166; 295—1—1643—149адв., 155адв.; 295—1—1900—8адв.-9, 23адв.-24; 296—1—89—24адв., 38адв.-39; 299—1—577—621-626; 299—2—579—165-177; 320—1—398—462, 476а; 320—2—98—41адв.; 320—2—99—37; 534—1—14—5, 8; 1418—3—1—51адв.-52; 1430—1—52163—375)*.

4195. **Навіцкі Юзаф** (Новицкий Иосиф), сын Аляксандра, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны рас. уладамі ў «злачынных дзеяннях супраць урада». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 21.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—59адв.-60; 3046—2—5—35)*.

4196. **Навіцкі Ян** (Новицкий Ян), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Пуні Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

4197. **Навіцкі Ян** (Новицкий Иван), селянін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў памочнікам землямера. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 12.05.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—85адв., 166; 320—1—398—375; 320—2—98—41адв.; 1418—3—1—51адв.-52)*.

4198. **Навіцкі Ян** (Новицкий Иван), сын Каспера, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Астраўкі Ігуменскага пав. (400 дзес. зямлі). Западозраны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. Напрыканцы 1863 г. вызвалены *(296—1—25—113; 1416—1—247; 1418—3—1—51адв.-52)*.

4199. **Навіцкі Ян** (Новицкий Иван), сын Якуба, дваранін Валынскай губ. Да паўстання служыў сакратаром Навагрудскага павятовага суда, тытулярны радца. Падчас паўстання арыштаваны за «ганьбаванне дзеянняў Урада і дзёрзкі выраз супраць Свяшчэннай асобы Гасудара Імператара». Ваенным судом прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 15.08.1863 сасланы ў Арэнбургскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр. У 1871 г. жыў у г. Арэнбургу, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. Пазней вярнуўся на радзіму. 12.1876–03.1882 жыў ва ўласным доме ў г. Навагрудку, займаўся вядзеннем спраў прыватных асоб *(295—1—3026—18адв.-19; 295—1—3492—10, 40адв., 86адв.; 1430—1—35146—63; 1430—1—52163—150)*.

4200. **Навіцкі N.** (Новицкий N.). Да паўстання з'яўляўся фельчарам у Вілейскім пав. Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў паўстанцкі атрад, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

4201. **Нагарновіч Міхал** (Нагорнович Михаил), сын Яна, бацька (?) *Фларыяна*, селянін ці мешчанін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай ці мяшчанскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Пасля высланы з радзімы *(295—1—1699; 295—1—2725—31адв.; 320—1—398—3)*.

4202. **Нагарновіч Фларыян** (Нагорнович Флориян), сын (?) *Міхала*, селянін ці мешчанін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай ці мяшчанскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа

МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Пасля высланы з радзімы *(295—1—1699; 295—1—2725—31адв.; 320—1—398—3).*

4203. **Нагорскі Вінцэнт** (Нагорский Викентий), шляхціц Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

4204. **Нагродскі Юльян** (Нагродский Юлиян), сын Каятана, дваранін Віленскай губ., ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Крычаў Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў прыездзе ў атрад паўстанцаў. Паводле ўказа МагГП ад 10.1863 яго рухомая маёмасць (адзенне, вопратка, абутак, ложак, 11 абразоў, 23 кнігі і інш.) на суму ў 29,80 руб. ср. 24.10.1863 апісана і секвестравана і 28.10.1863 прынята ў кіраванне ПДМ. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і 14.04.1864 падала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 10.05.1864 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. на сталае жыхарства. Яго маёмасць з 1867 г. падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1416—4—11416—21; 1430—1—52163—200; 2003—1—381; 2514—1—2198—69; 3256—2—27; 3257—2—2—25).*

4205. **Нагурэвіч N.** (Нагуревич N.), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Шакінава Шавельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

4206. **Нажымская Юлія** (Нажимская Юлия), дваранка, незамужняя. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.).*

4207. **Назарэвіч Іпаліт** (Назаревич Иполит), «жыхар» Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1838 г. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.).*

4208. **Найкоўскі Францішак** (Найковский Франц), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—22; 320—1—398—224).*

4209. **Нальборскі Юльян** (Нальборский Юлиан). Да паўстання жыў у г. Варшаве, займаўся цяслярствам. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—22; 320—1—398—223).*

4210. **Наневіч Леанард** (Ноневич Леонард), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—35).*

**Наражымскі Юзаф** — гл. **Банецкі Ксаверы**

4211. **Нарбут Баляслаў** (Нарбут Болеслав), сын *Тэадора* і *Крысціны*, брат *Людвіка* і *Тэадоры*, дваранін Лідскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102; 319—1—479—22; 1416—6—274).*

4212. **Нарбут Браніслаў** (Нарбут Бронислав), памешчык Лідскага пав. Да паўстання з'яўляўся міравым пасярэднікам. За дачыненне да спраў па паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616; 2532—1—15—12адв.).*

4213. **Нарбут [Казімір]** (Нарбут [Казимир]), памешчык Кобрынскага пав. Служыў у рас. войску капітанам, да паўстання знаходзіўся ў адстаўцы. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў *(296—1—25—108адв.; 319—1—479—22адв.).*

4214. **Нарбут Крысціна** (Нарбут Кристина), жонка *Тэадора*, маці *Баляслава*, *Людвіка* і *Тэадоры*, памешчыца Лідскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначана ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Пензенскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237; 2616—1—40—58).*

4215. **Нарбут Людвік** (Нарбут Людвиг), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.).*

4216. **Нарбут Людвік** (Нарбут Людвиг), сын *Тэадора* і *Крысціны*, брат *Баляслава* і *Тэадоры*, дваранін Лідскага пав. Падчас паўстання ўзначальваў атрад, куды сярод іншых уваходзіў *Краінскі Леан*. 22.04.1863 загінуў у баі. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле пастаноў ВілСК ад 09.07.1863, 23.07.1863 і 08.08.1863, а потым канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—22; 320—1—398—197; 1416—6—211, 267, 274; 1430—1—52163—125)*.

4217. **Нарбут Тэадор** (Нарбут Федор), муж *Крысціны*, бацька *Баляслава*, *Людвіка* і *Тэадоры*, памешчык. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне капітана. Да паўстання валодаў маёнткамі Шаўры і Маякі Лідскага пав. За актыўны ўдзел сына ў паўстанні яго маёмасць падлягала секвестру паводле пастановы ВілСК ад 08.08.1863. Прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высылкі на жыхарства ў Пензенскую губ. *(1416—6—211; 1416—6—274; 1430—1—52163—237; 2616—1—40—58)*.

**Нарбут Тэадора** — гл. **Манчунская Теадора**

4218. **Нарбут Цэзар** (Нарбут Цезарий), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—5адв.)*.

4219. **Нарвойн Апалон** (Нарвойн Аполоний (Аполон)). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. У 1864 г. аддадзены пад ПВС за «дзёрзкасць і прамаўленне мацюкоў» ў адносінах да імператара *(295—1—1643—148)*.

**Нарвойн Вінцэнт** — гл. **Нарвойт Вінцэнт**

4220. **Нарвойт (Нарвойн, Нарвойш) Вінцэнт** (Нарвойт (Нарвойн, Нарвойш) Викентий), ксёндз. Да паўстання служыў у м. Панявежын Ковенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, хаваўся ад рас. уладаў, з-за чаго лічылася, што забіты ў баі. Пасля арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у Віцебскай губ. Прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі. У 1880 г. жыў у Казанскай губ., 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(162—1—116—39; 295—1—3372—24-25; 296—1—25—88; 319—1—479—22; 320—1—398—197; 1416—3—21048—37адв.; 1430—1—52163—125; 1430—1—52758—30)*.

**Нарвойш Вінцэнт** — гл. **Нарвойт Вінцэнт**

4221. **Наркевіч Аляксандр** (Наркевич Александр), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

4222. **Наркевіч Антоні** (Наркевич Антон). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, калежскі сакратар. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах», паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

4223. **Наркевіч Баляслаў** (Наркевич Болеслав), сын Юстына, памешчык Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

4224. **Наркевіч Баляслаў** (Наркевич Болеслав), французскі падданы. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—22; 1430—1—52163—168)*.

4225. **Наркевіч Ежы** (Наркевич Юрий), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(319—1—479—22; 1430—1—52163—166адв.)*.

4226. **Наркевіч Казімір** (Наркевич Казимир), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—22; 1430—1—52163—181)*.

4227. **Наркевіч Казімір** (Наркевич Казимир), сын Караля, дваранін Віцебскай (?) губ. Да паўстання вучыўся ў Дэрпцкім універсітэце. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 15.12.1863 падала яго справу смаленскаму губернатару. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(1416—3—21048—37; 1430—1—52163—397; 2514—1—2198—69; 3255—1—14—3адв.)*.

4228. **Наркевіч Казімір** (Наркевич Казимир), дваранін Панявежскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Агінцы Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132адв.; 1416—3—21048—37; 1430—1—52163—599адв.)*.

4229. **Наркевіч Каласанты** (Наркевич Калесантий), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Любяшоў Пінскага пав. Падчас праходжэння праз Любяшоў атрада *Рагінскага Рамана* бласлаўляў паўстанцаў. Арыштаваны, памёр падчас следства *(295—1—1688—49)*.

4230. **Наркевіч Францішак** (Наркевич Франц), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

4231. **Наркевіч Эдвард** (Наркевич Эдуард), сын Ігната, памешчык. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Свірны Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—22; 320—1—398—133; 1416—6—281; 1430—1—52163—600)*.

4232. **Наркевіч Юзаф** (Наркевич Иосиф), мешчанін г. Панявежа. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—22; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

4233. **Наркевіч Юзаф** (Наркевич Осип). Да паўстання служыў пісьмаводам шавельскага маршалка, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

4234. **Наркевіч N.** (Наркевич N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Наркевічы, Бацайці, Мілайці і Завенці Шавельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Наркевіч-Ёдка Аляксандр** — гл. **Ёдка-Наркевіч Аляксандр**

4235. **Нарковіч Валяр'ян** (Наркович Валериан). Да паўстання служыў канцылярыстам ВілГП. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

4236. **Нарковіч Іпаліт** (Наркович Ипполит), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

4237. **Нарковіч Юстын** (Наркович Устин), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.)*.

4238. **Нарковіч N.** (Наркович N.), грамадзянін г. Мінска. Падчас паўстання пакінуў Мінск з намерам прабрацца «за Гродна» і далучыцца да паўстання, арыштаваны. Канфірмацыяй У. Назімава прысуджаны (да 20.03.1863) да ссылкі «ў адміністрацыйным парадку» на службу ў рас. вайска шарагоўцам без пазбаўлення правоў. У 1863 г. сасланы *(24—1—1586—1; 295—1—1643—149)*.

4239. **Наркуцкі Уладзіслаў** (Наркуцкий Владислав). Да паўстання служыў у Мінскай казённай палаце. Як «недастаткова добранадзейны» звольнены з забаронай паступаць на дзяржаўную службу на радзіме *(160—2—680—145; 162—1—122—43)*.

4240. **Нарніцкі Канстанцін** (Нарницкий Константин), селянін. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту. На яго маёмасць 29.04.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—37; 1430—1—52163—390)*.

4241. **Нартоўскі Марцін** (Нартовский Мартин). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.10.1863 падала яго справу камандуючаму войскамі *(3255—1—14—3адв.)*.

4242. **Нарутовіч Ігнат** (Нарутович Игнатий), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—562; 2532—1—15—1)*.

4243. **Нарутовіч Уладзіслаў** (Нарутович Владислав), дваранін Ковенскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Кудранцы Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—22; 1430—1—52163—166адв.)*.

4244. **Нарушэвіч Антоні** (Нарушевич Антон), селянін. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. адпраўлены «этапным парадкам» у г. Маскву *(295—1—1643—154)*.

4245. **Нарушэвіч Міхал** (Нарушевич Михаил), шляхціц Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—22)*.

4246. **Нарымскі Эдвард** (Наржимский Эдуард), сын Вінцэнта. Жыў у Слуцкім пав. Абвінавачаны ў агітацыі сялян уступіць у паўстанцкі атрад і захоўванні забароненых папер, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—10)*.

4247. **Нарымскі Юзаф** (Наржимский Иосиф), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—21адв.)*.

4248. **Нарэвіла (Норвін, Норвіл) Мамерт** (Норевилло (Норвин, Норвил, Норвилло) Мамерт), брат *Паўліны* і *Юзэфы*, дваранін. Падчас паўстання далучыўся (?) да паўстанцкага атрада *Свентарэцкага Баляслава (295—1—1618—3адв. і інш.)*.

4249. **Нарэвіла (Норвін, Норвіл) Паўліна** (Норевилло (Норвин, Норвил, Норвилло) Павлина), сястра *Мамерта* і *Юзэфы*, дваранка. Да паўстання разам з сястрой жыла ў г. Бабруйску. Каля 17.07.1863 у іх доме праведзены вобшук, падчас якога знойдзены паперы «падбухторнага зместу», у тым ліку «Гутарка старога дзеда», «Прадказанне Ліцвінкі», патрыятычныя вершы на польскай мове. Знаходзілася пад следствам у МСК, сцвярджала, што паперы пакінуты «сасланым у Сібір Гарбачэўскім». Распараджэннем ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 01.07.1864 прызнана вінаватай у спачуванні паўстанню і прызначана да вяртання на месца жыхарства пад пільны паліцэйскі нагляд *(295—1—1618)*.

4250. **Нарэвіла (Норвін, Норвіл) Юзэфа** (Норевилло (Норвин, Норвил, Норвилло) Юзефа), сястра *Мамерта* і *Паўліны*, дваранка. Да паўстання разам з сястрой жыла ў г. Бабруйску. Каля 17.07.1863 у іх доме праведзены вобшук, падчас якога знойдзены паперы «падбухторнага зместу», у тым ліку «Гутарка старога дзеда», «Прадказанне Ліцвінкі», патрыятычныя вершы на польскай мове. Знаходзілася пад следствам у МСК, сцвярджала, што паперы пакінуты «сасланым у Сібір Гарбачэўскім». Распараджэннем ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 01.07.1864 прызнана вінаватай у спачуванні паўстанню і прызначана да вяртання на месца жыхарства пад пільны паліцэйскі нагляд *(295—1—1618)*.

4251. **Нарэйка Ізыдар** (Норейко Изидор), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Гарды (Гардова) Цельшаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—22; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.)*.

4252. **Нарэйка Леапольд** (Норейко Леопольд), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—22)*.

4253. **Нарэйка Юстын** (Нарейко Устин), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

4254. **Наскоўскі Аляксандр** (Носковский Александр), сын Рафала, дваранін Себежскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткамі Веннец і Крыжоў (Кружава) Себежскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і адпраўлены ў г. Дынабург. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Сасланы на жыхарства ў Кастрамскую губ., на маёмасць бацькоў накладзены секвестр, а потым забарона. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—3—21048—37; 1430—1—31307—116; 1430—1—35146—73; 1430—1—52163—150адв., 416, 475)*.

4255. **Неваднічанскі N.** (Неводничанский N.). Да паўстання служыў настаўнікам прагімназіі ў г. Цельшах. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

4256. **Невядомскі Францішак** (Невядомский Франц), мешчанін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да па-

збаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—22).*

4257. **Невядомскі Юзаф** (Невядомский Иосиф), аднадворац. Да паўстання жыў у м. Сумелішкі Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—21адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

4258. **Невяровіч Мечыслаў** (Невярович Мечислав), памешчык Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 08.07.1864 скончыла яго справу. Сасланы ў Пензенскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—92; 2532—1—15—11адв.).*

4259. **Невяровіч Пётр** (Неверович Петр), сын Міхала, дваранін, каталік. Нар. каля 1805 г. Да паўстання служыў неад'емным засядальнікам Сенненскага павятовага паліцэйскага ўпраўлення, калежскі рэгістратар. Разам з *Сердакоўскім Сяргеем* абвінавачаны рас уладамі ў «зносінах з асобамі, што бралі дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы мяцяжа», арыштаваны (каля 06.1864). Зняволены ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 30.06.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая, скончыўшы яго справу, 24.09.1864 падала яе магілёўскаму губернатару. Пасля выпушчаны, але звольнены са службы. У 1866 г. жыў у Сенненскім пав. *(2003—2—96—44, 55; 3257—1—17—6адв.-7; 3257—2—8—10).*

4260. **Невяроўскі Вінцэнт** (Неверовский Викентий), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8адв.).*

4261. **Невяроўскі Ян** (Невяровский Иван), «жыхар» Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1833 г. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.).*

4262. **Некраш Адольф** (Некраш Адольф), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—22; 1430—1—52163—521адв.).*

4263. **Некраш Казімір** (Некраш Казимир), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 11.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—22.; 1416—6—271; 1430—1—52163—166).*

4264. **Некраш (Некрыш) Юзаф** (Некраш (Некрыш) Юзеф), шляхціц. Да паўстання жыў у в. Догі Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—22; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

4265. **Некрашэвіч Рыгор** (Некрашевич Григорий), дваранін. Падчас паўстання хаваў зброю, за што арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—147).*

**Некрыш Юзаф** — гл. **Некраш Юзаф**

4266. **Неліповіч Леапольд** (Нелипович Леопольд), дваранін Падольскай губ. Нар. каля 1822 г. Удзельнічаў у паўстанні, потым вярнуўся на месца жыхарства. Выкліканы ў суд, пасля эміграваў. У 1872 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі завочна асуджаны на вечнае выгнанне, пазбаўленне правоў стану і канфіскацыю маёмасці, а ў выпадку з'яўлення ў межах Рас. імперыі — на ссылку ў Сібір на пасяленне. *(1430—1—35260).*

4267. **Нелюбовіч Антоні** (Нелюбович Антон), дваранін Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—22адв.; 1416—4—11416—87адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

4268. **Ненартовіч Фларыян** (Ненартович Флориан), мешчанін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—22; 320—1—398—221адв.).*

4269. **Непакайчыцкі Аляксандр** (Непокойчицкий Александр), сын Міхала, дваранін Люцынскага пав. Разам з маці і братам валодаў маёнткам Рылі Полацкага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Людвінова Полацкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі канфірмаванай М. Мураўёвым, у 1863 г. «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. На яго

частку маёнтка 22.08.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 і ўказа ВГП ад 19.03.1864 накладаўся секвестр. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 Рылі падлягалі вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага 20-працэнтнага збору. Па месцы ссылкі звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—3—21048—37; 1416—4—11416—285, 289адв.; 1430—1—31355—5-8; 1430—1—52163—407адв., 419адв., 447, 820адв.; 1430—1—52285—5, 43).*

4270. **Непакайчыцкі [Станіслаў]** (Непокойчицкий [Станислав]). Да паўстання служыў станавым прыставам ў г. Бабінавічы Аршанскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання і прыцягнуты да следства ў АСК. Аднак у сувязі з тым, што «аказаўся непадлеглым ваеннаму суду», аддадзены (да 04.05.1863) на парукі. Тым не менш паводле ўказа МагГП ад 07.06.1863 яго маёмасць падлягала секвестру, наконт чаго да 10.1863 у МагГП вялася перапіска *(2003—1—301).*

4271. **Непакайчыцкі Францішак** (Непокойчицкий Франц), дваранін Лідскага пав. Да паўстання жыў у Вільні, паводле тастамента памешчыка Лідскага пав. Бардоцкага яму належала сума ў 100 руб. ср. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—22; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

4272. **Неслухоўскі N.** (Неслуховский N.), памешчык. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. прысуджаны да ссылкі ў Казанскую губ. пад строгі нагляд паліцыі *(295—1—1643—150, 155адв.).*

4273. **Несцярэвіч Антоні** (Нестеревич Антон), сын Казіміра, селянін. Да паўстання прыпісаны да Слабадской сельскай грамады Мінскага пав. 06.02.1864 выкліканы да допыт прыставам 3 стана Мінскага пав., пасля чаго зняволены. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—12).*

4274. **Несяловіч Войцех** (Несялович Войтех), сын Яна, дваранін Слуцкага пав., каталік. За знойдзеныя ў яго «палітычныя» вершы арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Пасля вызвалены *(295—1—2213—57-59, 70, 72-74; 1524—1—1—10).*

4275. **Несяневіч (Нясневіч) Аўгуст** (Несеневич (Несневич) Август), дваранін Ашмянскага пав. Падчас паўстання прымаў у сваім доме паўстанцаў і пастаўляў ім харчаванне, за што арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ПВА пры Віленскім ардананс-гаўзе, канфірмаванай 05.12.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1555—2-3; 295—1—1643—149адв.; 319—1—479—22; 320—1—398—221адв.; 1416—6—280).*

4276. **Нецяёўскі Уладзіслаў** (Нецеиовский Владислав), сын Юзафа, дваранін Пінскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.03.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці і ссылкі за межы радзімы *(162—1—116—85; 320—1—398—375; 320—2—98—41адв.).*

**Нівінскі Дамінік** — гл. **Півінскі Дамінік**

4277. **Нівінскі Мацей** (Нивинский Матвей), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8адв.).*

**Нівінскі Юзаф** — гл. **Півінскі Юзаф**

4278. **Нікаляі Зоф'я** (Николяи София), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199).*

4279. **Нікаляі Станіслаў** (Николяи Станислав), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—22; 1430—1—52163—204адв.).*

4280. **Нікалаі Уладзіслаў** (Николаи Владислав). Да паўстання служыў падпаручнікам у Нарваўскім пяхотным палку рас. войскаў. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(319—1—479—22).*

4281. **Нілінскі Аляксандр** (Нилинский Александр), сын Пятра, аднадворац Слуцкага пав. Да паўстання прыпісаны да Клецкай грамады. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

4282. **Нітаслаўская Францішка** (Нитославская Францишка), жонка Ігната, маці Казіміры (пам. каля 26.06.1863) і *Юзэфы*, памешчыца Дрысенскага пав. Нар. каля 1794 г. Да паўстання жыла з дачкой у г. Віцебску. Пасля паўстання ў яе доме збіраліся асобы, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі, і сваякі зняволеных у турме. У сувязі з гэтым западозрана ў палітычнай нядобранадзейнасці. Спачатку плана-

валася да ссылкі пад нагляд паліцыі ва «ўнутраныя губерні», аднак паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 31.05.1864 аддадзена пад строгі нагляд паліцыі са спагнаннем штрафу ў 200 руб. ср. на карысць пацярпелых ад паўстання. Паводле распараджэння Э. Баранава ад 13.09.1867 вызвалена ад паліцэйскага нагляду *(1430—1—31380; 2601—1—2—72)*.

4283. **Нітаслаўская Юзэфа** (Нитославская Юзефа (Юзефина)), дачка Ігната і *Францішкі*, памешчыца Дрысенскага пав. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыла з маці ў г. Віцебску. Пасля паўстання ў іх доме збіраліся асобы, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі, і сваякі зняволеных у турме. У сувязі з гэтым западозрана ў палітычнай нядобранадзейнасці. Спачатку планавалася да ссылкі пад нагляд паліцыі ва ўнутраныя губерні, аднак паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 31.05.1864 аддадзена пад строгі нагляд паліцыі са спагнаннем штрафу ў 200 руб. ср. на карысць пацярпелых ад паўстання. Паводле распараджэння Э. Баранава ад 13.09.1867 вызвалена ад паліцэйскага нагляду *(1430—1—31380)*.

4284. **Нітаслаўскі Аляксандр** (Нитославский Александр), сын Марціна, памешчык. У 1864 г. западозраны ў дачыненні да паўстання, за што яго маёмасць, у тым ліку аддадзеныя ў арэнду з 24.04.1864 на 3 гады праваслаўнаму святару Аляксандру Усцінавічу Клімантовічу і двараніну Альфонсу Дамінікавічу Падбярэзскаму фальв. Абчуга і Мальцы Сенненскага пав., падлягала секвестру. З 04.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, у час якога ўтрымліваўся ў казармах г. Магілёва. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, меў дачыненне да справы *Нітаслаўскага Міхала (2003—1—439; 3257—1—14—11адв.-12; 3257—2—8—10)*.

4285. **Нітаслаўскі Генрык** (Нитославский Генрих), сын Марціна, муж баранэсы Аляксандры Эрнэстаўны Большанг(Большвінг)-Баран (лютэранкі), бацька *Эдварда Канстанціна* і Наталлі (нар. 22.05.1844), памешчык, каталік. Нар. каля 1813. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпалкоўніка ці інжынер-капітана. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Сенненскага пав. За «палітычную нядобранадзейнасць» звольнены са службы. У 1866 г. жыў ва ўласным маёнтку Язвы Сенненскага пав. (437 сялян і 4500 дзес. зямлі) *(1416—4—11416—127; 1430—1—52163—530; 2003—2—96—44адв., 55адв.; 3257—2—2—25; 3286—2—1—6, 106-114)*.

4286. **Нітаслаўскі Ігнат** (Нитославский Игнатий), сын Марціна, дваранін Віцебскага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны рас. уладамі ў захоўванні зброі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.07.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—59адв.-60; 3046—2—5—35)*.

4287. **Нітаслаўскі Мікалай** (Нитославский Николай), сын Генрыка, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69; 3257—1—53—2)*.

4288. **Нітаслаўскі Міхал** (Нитославский Михаил), сын Марціна, памешчык Сенненскага пав. Нар. каля 1812 г. Западозраны рас. уладамі ў правозе «Начальніка мяцежнікаў Косткі» (гл. *Будзіловіч Ігнат*). Арыштаваны, зняволены ў турме г. Магілёва. З 19.07.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ яго не скончыла. Быў пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Нітаслаўскі Аляксандр* і *Пярот Станіслаў (1416—3—21048—37адв.; 3257—1—14—5адв.-6; 3257—2—2—25, 28адв.)*.

4289. **Нітаслаўскі Эдвард-Канстанцін** (Нитославский Эдуард(Эдвард)-Константин), сын *Генрыка* і Аляксандры Эрнестаўны Большанг (Большвінг)-Баран (лютэранкі), брат Наталлі (нар. 22.05.1844), дваранін Віленскай губ. Нар. 15.07.1842 у г. Магілёве, хр. 20.07.1842 у Магілёўскім фарным касцёле. У 1858–1862 гг. вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Яго бацька валодаў маёнткам Язвы Сенненскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 8 гадоў. 28.09.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—22; 1416—4—11416—127; 1430—1—52163—530; 3257—2—2—25; 3286—2—1—6, 106-114)*.

4290. **Нітоўскі Марыян** (Нитовский Марьян), дваранін Кіеўскай губ. Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Памёр да 18.12.1865 *(1416—4—11416—239)*.

**Ніцецкі Людвік** — гл. **Няцецкі Людвік**

4291. **Ніцкі Ян** (Ницкий Иван), дваранін (?). За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту

на 1 год *(319—1—479—22адв.; 1416—4—11416—119адв.; 1430—1—52163—375адв.)*.

4292. **Нішчук Васіль** (Нищук Василий), сын Рыгора, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Буяны Брэсцкага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1643—147; 320—1—398—2адв.)*.

4293. **Новік Дзмітрый** (Новик Дмитрий), селянін. Падчас паўстання арыштаваны за нясвоечасовае данясенне рас. уладам пра паўстанцаў і ў 1864 г. прысуджаны да месячнага арышту *(295—1—1643—147адв.)*.

**Норвіл (Норвін) Мамерт** — гл. **Нарэвіла Мамерт**

**Норвіл (Норвін) Паўліна** — гл. **Нарэвіла Паўліна**

**Норвіл (Норвін) Юзэфа** — гл. **Нарэвіла Юзэфа**

4294. **Нугарэвіч Вінцэнт** (Нугаревич Викентий), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у касцёле м. Куртавяны Цельшаўскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—22; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

4295. **Нэйгаўзэн Мэйер** (Нейгаузен Мейер), яўрэй. Да паўстання служыў у перасоўнай інваліднай № 65 роце пры ваенным шпіталі г. Кіева. Падчас паўстання не з'явіўся на месца службы, набыў фальшывыя дакументы на жыхарства і ўказ аб адстаўцы і зрабіў спробу правесці на чыгунцы порах, прызначаны для паўстанцаў. Арыштаваны. Пастановай ПВА, канфірмаванай А. Патапавым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфірмацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 12 гадоў. Пераведзены ў г. Віцебск, адкуль 15.10.1864 адпраўлены на месца ссылкі. Канфіскавана і 13.12.1864 прададзена яго рухомая маёмасць на суму ў 6,54j руб. *(1416—4—11416—265-269, 272)*.

4296. **Нэйман Вінцэнт** (Нейман Вицентий), аднадворац Слуцкага пав., каталік. «За прамаўленне пагрозаў сялянам у падбухторным духу» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—10)*.

4297. **Нэйман Юльян** (Нейман Юлиан), сын Антонія, муж Ізабэлы Юзафаўны, бацька Ганны (нар. каля 1861) і Тэадора (нар. на пач. 1863). Да паўстання служыў барысаўскім гарадскім доктарам, калежскі асэсар. Падчас паўстання 05.1863 сустракаў палонных паўстанцаў у г. Барысаве «са слязамі ў межах горада, і пры памяшчэнні моцна параненых у гарадской бальніцы меў з імі ціхія размовы з настаўленнем, як павінны тлумачыцца пры следстве», а таксама «дазваляў сабе насіць адзенне і эмблематычныя знакі, засвоенныя сябрамі Польскай рэвалюцыйнай партыі», таму западозраны рас. уладамі ў «крайняй нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах». Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 31.08.1863 высланы 08.09.1863 «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую[128] губ. Праз г. Мінск, Вільню (10.09.1863) і СПб прыбыў 01.10.1863 у г. Перм, для пасялення яму быў прызначаны павятовы г. Кунгур. 06.03.1864 жонка падала прашэнне аб выдачы яму матэрыяльнай дапамогі па месцы ссылкі. У 1867 г. атрымаў дазвол і перасяліўся ў Каралеўства Польскае, дзе служыў доктарам у г. Апатове і Астраўцы. У 1878 г. атрымаў дазвол і пераехаў у Мінск, дзе жыў яшчэ 03.1882 *(295—1—1610; 295—1—1643—149; 295—1—3492—53адв.-54, 86; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

4298. **Нэйрэйтэр (Нэрэйтэр) Караль-Антоні** (Нейрейтер (Нерейтер) Карл-Антон), сын Феліцыяна Ігнатавіча, цесць *Гарэцкага Францішка*, дваранін Ігуменскага пав. Нар. 25.03.1810. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання «адміністрацыйным парадкам» высланы разам з сынам Феліцыянам і дачкой Юстынай у Томскую губ. Яго зямельныя ўладанні (25 дзес. 1760 саж) канфіскаваны. Пасля атрымання амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у вак. Суцін, дзе з'яўляўся найманым работнікам. У 1876 г. хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную маёмасць *(295—1—2420—4; 295—1—2830; 295—1—3492—68; 320—2—98—4адв., 12, 15 і інш.)*.

4299. **Нявінскі Пётр** (Невинский Петр), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—22; 1430—1—52163—521)*.

**Нядзвецкі Антоні** — гл. **Мядзвецкі Антоні**

4300. **Нядзвецкі Бярнард-Геранім** (Недвецкий Бернард-Героним), сын Вінцэнта Геранімавіча, дваранін Мінскага пав., каталік. Нар. 29.12.1842. Да паўстання служыў прыватным землямерам. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй

[128] У некаторых дакументах месцам ссылкі памылкова называецца Вяцкая губ.

у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на 4 гады на заводах. У 1881 г. жыў у г. Цемнікаве Тамбоўскай губ., падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму, але яно было адхілена. Пасля выдання маніфеста ад 15.05.1883 вярнуўся ў Мінскі пав. *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—3659; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—22адв.; 320—1—398—326-327адв., 339; 320—2—98—41адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—9адв.; 1525—1—2—6адв.-7).*

4301. **Нядзвецкі Іаахім** (Недзвецкий Ефим), сын Пятра, муж Кацярыны Пяскоўскай, дваранін Чэрыкаўскага пав., каталік. Нар. каля 1827 г. Да паўстання служыў пратакалістам у Магілёўскай казённай палаце, тытулярны радца. Жыў у доме чыноўніка Шэйкі ў г. Магілёве. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні ў складзе горацкага атрада. З 01.05.1863 знаходзіўся пад следствам. Яго рухомасць на месцы пражывання 27.05.1863 апісана і секвестравана. Падчас следства (?) захварэў псіхічна, бо 03.1864 утрымліваўся ў доме «пазбаўленых розуму», а МагСК не магла скончыць следства з прычыны «вар'яцтва падсуднага». Потым знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. Яго частка маёнтка Жалезніца Чэрыкаўскага пав. канфіскавана ў 1866 г. *(2001—2—14—9; 2001—3—23—2; 2003—1—445—5адв.; 2003—2—20—6, 14, 20-21; 2003—2—77—23-24; 2003—2—90; 2003—2—96—10; 3257—1—14—7адв.-8; 3257—2—2—25).*

4302. **Нядзвецкі Міхал** (Недзведский Михаил), сын Віктара, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску. Абвінавачаны ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. Зняволены ў віцебскім турэмным замку. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пасля знаходзіўся пад судом у ВВСК, якой прызначаны да ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў. 22.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб пераглядзе справы. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(319—1—479—22адв.; 1416—3—21048—37; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—35146—145; 1430—1—52163—421, 535; 3046—2—3—59адв.-60; 3046—2—5—35).*

4303. **Нядзвецкі Юзаф** (Недвецкий Иосиф), сын Францішка, дваранін Слуцкага пав., каталік. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, узяты ў палон. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—9адв.).*

4304. **Нядзінскі Ігнат** (Недзинский Игнатий), шляхціц Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—22; 1430—1—52163—374).*

4305. **Няклевіч Сымон** (Неклевич Семен), сын Паўла, дваранін, каталік. Нар. каля 1781 г. Да паўстання выйшаў у адстаўку з чынам тытулярнага радцы, служыў лекарам у м. Койданава Мінскага пав. На пачатку 1863 г. часова жыў у м. Новая Мыш Навагрудскага пав., дзе лячыў сваю дачку. 05.1864 абвінавачаны сялянамі з Новай Мышы Войцехам і яго сынам Янам Акалатовічамі ў намове іх далучыцца да паўстання, арыштаваны і зняволены ў навагрудскім астрогу. Загадам мінскага губернатара П. Шалгунова ад 20.08.1864 аддадзены пад ПВС пры 120-м Серпухаўскім пяхотным палку ў г. Навагрудку, але ўжо на падставе загада ад 29.08.1864 высланы 09.09.1864 у г. Мінск для ПВС пры 119-м Каломенскім пяхотным палку. 29.09.1864 судовая справа скончана і пададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 01.10.1864 адпраўлена М. Мураўёву. На следстве і судзе не прызнаваў сваёй віны, і ніякіх доказаў знойдзена не было. Пастановай ЧПА ад 07.11.1864, канфірмаванай 22.11.1864 М. Мураўёвым, вызвалены ад абвінавачанняў і падазрэнняў і прызначаны да вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі. 16.12.1864 вызвалены, 17.12.1864 адпраўлены ў Койданава. 05.1865 прыбыў у м. Сіняўка Слуцкага пав., дзе заняўся фельчарствам *(295—1—1643—148; 296—1—94).*

4306. **Няміра Вінцэнт** (Немиро Викентий). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69).*

4307. **Няміра Зыгмунт** (Немиро Сигизмунд). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69).*

4308. **Няміра Станіслаў** (Немира Станислав), сын Юзафа, селянін Слуцкага пав., каталік. За знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе ля м. Мілавіды Слуцкага пав. арыштаваны. Быў пад следствам у ССК. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—147; 1524—1—1—9адв.)*.

4309. **Няміра Тадэвуш** (Немиро Тадеуш), дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. 29.03.1864 віцебскі грамадзянскі губернатар выдаў на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 29.12.1863 распараджэнне аб канфіскацыі *(319—1—479—22адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—37; 1430—1—52163—411адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.)*.

4310. **Нямчэўскі Аляксандр** (Немчевский Александр), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—10; 2532—1—15—1)*.

4311. **Нямыскі Канстанцін** (Немыский Константин), дваранін Пружанскага пав. «Паводле палявога крымінальнага ўлажэння за супрацьзаконныя дзеянні супраць урада» прысуджаны (да 16.08.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Указ пра секвестр выдадзены ГГП 31.08.1863 *(296—1—25—103; 319—1—479—22адв.; 1416—6—231)*.

4312. **Нямыскі Павел** (Немыский Павел), дваранін. Да паўстання служыў леснікам маёнтка N. Насарэўскага ў Брэсцкім пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

**Нясневіч Аўгуст** — гл. **Несяневіч Аўгуст**

4313. **Няцецкі (Ніцецкі) Людвік** (Нетецкий (Нитецкий) Людвик), дваранін Дынабургскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 319—1—479—22адв.; 320—1—398—198; 1416—3—21048—37; 1430—1—52163—126, 389адв.)*.

4314. **Няцынскі (Нячынскі) Тэафіл** (Нецынский (Нечинский) Теофил), сын Пятра, жаўнера. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12; 296—1—25—73)*.

**Нячынскі Тэафіл** — гл. **Няцынскі Тэафіл**

4315. **Няшкоўскі Ян** (Нешковский Иван). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам Мінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(295—1—1643—155; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

# О

4316. **Орвід Цэзар** (Орвид Цезарий), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12)*.

4317. **Орда Андрэй** (Орда Андрей). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне палкоўніка. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

4318. **Орда Міхал** (Орда Михаил), сваяк *Тобіяша* (?), памешчык Пінскага пав. Да паўстання ў яго служыў *Мазурык Лявон*. У 1864 г. абвінавачаны ў «садзейнічанні мяцежнікам», арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—158адв.)*.

4319. **Орда Тобіяш** (Орда Тобиаш), сваяк *Міхала* (?), памешчык. У 1864 г. абвінавачаны ў «садзейнічанні мяцежнікам», арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—158адв.)*.

4320. **О'Рурк (Оруpг) Канстанцін** (Оруpг Константин), граф, памешчык Навагрудскага пав. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабсротмістра. Падчас паўстання належаў да «таемнай рэвалюцыйнай арганізацыі па Навагрудскім павеце». Арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да «вытрымання ў крэпасцях і турмах» са спагненнем узмоцненага 10-працэнтнага збору з яго маёмасці (без канфіскацыі). У Навагрудскім пав. не знойдзена *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—679; 1416—3—21057)*.

4321. **Офэнбэрг Ігнат** (Офенберг Игнатий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і пастаўцы ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Без яе пастановы 10.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(295—1—1643—165; 1418—3—1—54адв.-55)*.

# П

4322. **Пабіцкі Ян (**Пабицкий Иван), дваранін. За сувязі з паўстанцамі ў 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—171адв.)*.

4323. **Пагарэльскі Барталамей** (Погоржельский Варфоломей), дваранін Кіеўскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—69)*.

4324. **Пагоскі Аляксандр** (Погоский Александр). Паходзіў з Мінскай (?) губ. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(320—2—98—43адв.)*.

4325. **Пагоскі Іардан** (Погоский Иордан), сын Якуба, дваранін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(320—1—398—4-6, 108-110, 222адв., 401адв.; 320—2—98—43адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—28)*.

**Пагоскі Людвік** — гл. **Пагоўскі Людвік**

**Пагоскі Фелікс** — гл. **Пагоўскі Фелікс**

4326. **Пагоўскі (Пагоскі) Людвік** (Поговский (Погоский) Людвік), ксёндз. Да паўстання служыў у дамініканскім кляштары ў г. Полацку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле распараджэння М. Мураўёва без суда і следства 04.11.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Арэнбург *(1416—3—21048—39адв.; 1430—1—31355—128-129; 1430—1—31583—12-17; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44, 58адв.)*.

4327. **Пагоўскі (Пагоскі) Фелікс** (Поговский (Погоский) Фелікс), сын Сымона Ігнатавіча, аднадворац Барысаўскага пав.[129]. Хр. 09.08.1818. Да паўстання жыў у м. Любча Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. 07.04.1863 захоплены ў палон у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Спачатку дастаўлены ў г. Навагрудак, потым зняволены ў г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—2420—11адв.; 296—1—296—3; 320—1—398—2адв., 313-315; 1430—1—35146—74адв.)*.

4328. **Падабед Фелікс** (Подобед Феликс). Служыў на рас. грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага асэсара. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23)*.

4329. **Падабед Ян** (Подобед Иван), сын Андрэя, дваранін Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Канфіскаваны яго адзенне на 150 руб., конь і 145 руб. наяўнымі грашыма ў Чэрыкаўскім пав. Частка яго канфіскаванай маёмасці прададзена ў 1865 г. за 28,6 руб. прыставам 3-га стана Чэрыкаўскага пав. 1/5 частка ад 3 дзес. зямлі ў маёнтку Брацькавічы Чэрыкаўскага пав., якая належала яму, канфіскавана ў 1866 г. *(319—1—479—25адв.; 1430—1—52163—167адв.; 2001—3—23—2; 2003—2—77; 2003—2—90; 3257—2—2—28адв.)*.

4330. **Падагімскі Эдвард** (Подегимский Эдуард), дваранін Ковенскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238)*.

4331. **Падагімскі Ян** (Подегимский Иван), дваранін Ковенскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238)*.

4332. **Падалецкі Аляксандр** (Подолецкий Александр), пазашлюбнанароджаны селянін ці «сельскі абывацель» Ігуменскага пав. Нар. каля 1838 г. Да паўстання служыў лакеем у *Свентарэцкага Баляслава*. У паўстанні 17.04.1863 увайшоў у

---

[129] Яго род 11.11.1843 далучыўся ў Мінскім ДДС да іншага роду П. — з Навагрудскага пав., але гэтае далучэнне не зацверджана ўказам Герольдыі Сената ад 22.11.1843.

с. Багушэвічы Ігуменскага пав. у склад атрада *С. Б.* і *Ляскоўскага Станіслава*. Разам з *Булынкам Цэзарам*, *Саковічам Якубам*, *Тальшэўскім Альбінам* удзельнічаў у павешанні 23(24?).05.1863 у Багушэвічах святара Д. Канапасевіча. Удзельнічаў таксама ў сутычцы з рас. войскамі 06.1863, пасля якой аддзяліўся ад атрада, 8 дзён блукаў па лесе, арыштаваны сялянамі ў в. Машчонава Ігуменскага пав. Пераведзены ў г. Мінск. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 26.10.1863 аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку, які 02.11.1863 скончыў справу. Даваў паказанні, сярод іншага, пра *Акуліча Казіміра-Юстына*. Канфірмацыяй В. Забалоцкага ад 13.11.1863 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і павешання. 16.11.1863 павешаны (ці расстраляны) у с. Багушэвічы. *(295—1—1643—170, 178адв.; 296—1—56; 320—1—398—114; 1416—6—203).*

4333. **Падалінскі Ян** (Подолинский Иван), сын Міхала. Да паўстання — правадзейны студэнт. У 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС за «садзейнічанне мяцяжу і складанне злачыннага адраса і іншыя злачынствы». Канфірмацыяй А. Патапава ад 25.02.1865 прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ., яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(160—2—682—115; 162—1—122—26; 295—1—1643—172адв., 183адв.; 534—1—14—41).*

4334. **Падарэўскі Браніслаў** (Подоревский Бронислав), сын Цэзара, дваранін Лепельскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны рас. уладамі ў «злачынных зносінах з палітычным злачынцам, затрыманым у Падольскай губерні». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 29.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—67адв.-68).*

4335. **Падберскі Людвік** (Падберский Людвиг), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24; 320—1—398—221адв.).*

4336. **Падвінскі Уладзімір** (Подвинский Владимир), дваранін Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—24).*

4337. **Падвінскі Уладзіслаў** (Подвинский Владислав), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42).*

4338. **Падвінскі Эдмунд** (Подвинский Эдмунд), дваранін Дрысенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах і шкодны для далейшага знаходжання» на радзіме канфірмацыяй М. Мураўёва ад 29.01.1864 прысуджаны да высылкі на жыхарства ў Пензенскую губ. Высланы (да 29.02.1864) *(1416—3—21048—40адв.; 1430—1—52285—37-37адв.; 2626—1—305—37; 3046—2—5—42.*

4339. **Падвысоцкі Нікадым** (Подвысоцкий Никодим), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

**Падгайскі Базыль** — гл. **Падгальскі Базыль**

4340. **Падгайскі Ігнат** (Подгайский Игнатий). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. У 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС за «захоўванне падбухторных папер і нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» *(295—1—1643—172).*

4341. **Падгайскі Павел** (Подгайский Павел), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

4342. **Падгальскі (Падгайскі) Базыль** (Подгальский (Подгайский) Василий), сын Яна, селянін, каталік. Нар. каля 1840 г. Да паўстання жыў у в. Малыя Круговічы Слуцкага пав. *Абуховіча Напалеона*. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе сцвярджаў, што далучыўся да паўстанцкага атрада «ў выніку моцнай прывязанасці да свайго гаспадара» *Абуховіча Напалеона* і прасіў літасці. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на службу ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 2 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—2725—22адв.; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—10адв.; 1525—1—2—5адв.-6).*

4343. **Падгурская Тэафіла** (Подгурская Феофила), дачка Ігната, дваранка Віцебскага пав., каталічка. Да паўстання была замужам за маёрам. Западозрана рас. уладамі ў «набыцці падбухторных

вершаў». Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 18.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—66адв.-67)*.

4344. **Падгурскі Павел** (Подгурский Павел), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 15.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 18.09.1863 справа пададзена М. Мураўёву *(3366—1—5—8адв.)*.

4345. **Падмостка Станіслаў** (Подмостко Станислав), сын Вінцэнта і Разіі Куней, дзяржаўны селянін, каталік. Нар. 20.12.1838 у в. Пастарыні Свянцянскага пав., хр. 26.12.1838 у Вішнеўскім касцёле. Прыпісаны да Засвірскай сельскай грамады Свянцянскага пав. У 1859–1862 гг. вучыўся на Горацкай вучэбнай ферме, потым — у павятовым вучылішчы ў г. Горкі. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі Горкаў і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—7, 170-172)*.

4346. **Падрэз Валяр'ян** (Подрез Валериан), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля пераведзены ў г. Рыгу, дзе ў 1870 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—23-24; 2532—1—15—4адв.)*.

4347. **Падрэз Францішак** (Подрез Франц), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

4348. **Падута Лаўрэн** (Падута Лаврен), селянін. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыкаў Лапаў. За подкуп афіцэраў і шарагоўцаў рас. войска ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—169)*.

4349. **Пажарыскі Уладзімір** (Пожариский Владимир), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4)*.

4350. **Пажэрскі Аляксандр** (Пожервский Александр), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

4351. **Пажэрскі Генрык** (Пожервский Генрих), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў у прыватным таварыстве Пінскай чыгункі. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(319—1—479—24; 320—1—398—221адв.)*.

4352. **Пажэрскі Канстанцін** (Пожерский Константин), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

4353. **Пажэрскі Фелікс** (Пожерский Феликс), памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Пажэрці Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлегла абавязковаму продажу *(1416—4—11416—84; 1416—6—281; 1430—1—52163—546; 2532—1—15—3)*.

4354. **Пажэцкі Юзаф** (Пожецкий Иосиф). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 на яго маёмасць у г. Вільні накладаўся секвестр *(162—1—116—57; 299—1—577—621-626)*.

4355. **Пазнанскі Барыс** (Познанский Борис), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Варонежскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—2149—3-4)*.

4356. **Пазнанскі Станіслаў** (Познанский Станислав), дваранін Віленскага пав. Да паўстання служыў у віленскай паліцыі. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

4357. **Пазняк Генрык** (Позняк Генрих). Паходзіў з Мінскай губ. Да паўстання служыў у Мінскай казённай палаце. За дачыненне да спраў па паўстан-

ні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 *(162—1—116—124; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.).*

4358. **Пазняк Міхал** (Позняк Михаил), бацька *Эдмунда*, памешчык. Да паўстання валодаў з сынам маёнткамі Лаўкі і Васількі Магілёўскага пав. (891 дзес. зямлі, дом на 10 пакояў, карчма, 725 руб. доўгу). Пасля паўстання яго маёмасць канфіскавана *(2001—2—123—8адв.-10; 2001—2—171—17адв.-18, 39).*

4359. **Пазняк Эдмунд** (Позняк Эдмунд), сын *Міхала*, памешчык. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне капітана. Да паўстання валодаў з бацькам маёнткамі Лаўкі з в. Альшанікі (891 дзес. зямлі, дом на 10 пакояў, карчма, млын, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 187 руб. ср. гадавога прыбытку) і Васількі (236 дзес. зямлі, стайня, лазня, млын, пасека, гаспадарчыя пабудовы і інш., 138 руб. гадавога прыбытку, 441 руб. доўгу) Магілёўскага пав.; служыў міравым пасярэднікам у Магілёўскім пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго рухомая і нерухомая маёмасць 26.06.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў руднікі на 15 гадоў. Яго маёмасць канфіскавана *(319—1—479—25адв.; 1430—1—52163—182адв.; 2001—2—123—8адв.-10; 2001—2—171—17адв.-18адв., 39; 2003—1—235; 2003—2—19—3адв.-5адв.; 3257—1—15; 3257—2—2—28адв.).*

4360. **Пазняк Ян** (Позняк Иван), памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. Да паўстання валодаў маёнткам Княжыцы Магілёўскага пав. (3410 дзес. зямлі, 359 рэвізскіх душ, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, лазня і інш., 21574 руб. доўгу). За дачыненне да паўстання яго маёмасць апісана і секвестравана (да 30.07.1863). Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць канфіскавана *(319—1—479—25адв.; 1430—1—52163—526; 2001—2—171—18адв.-20, 39; 2003—2—19—14адв.-15; 3257—2—2—28).*

4361. **Пазняк N.** (Позняк N.). Да паўстання валодаў 74 дзес. зямлі ў в. Аляксандраўка Рагачоўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць канфіскавана *(2001—2—171—29адв.-30).*

4362. **Пакавіцкі Тэафіл** (Поковичский Теофил), сын Дамініка, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—57адв.-58).*

4363. **Пакемпяновіч Юзаф** (Покемпенович Иосиф), сын Юліяна, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дзітва Шамятоўская Лідскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

**Паклеўскі-Козел Яўстах** — гл. **Козел Яўстах**

4364. **Пакравіцкі Каятан** (Покржевицкий Каэтан). Да паўстання жыў у Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

4365. **Пакубята Пётр** (Покубято Петр), памешчык Гродзенскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ., потым вернуты ў г. Гродна *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

**Палагейка Юзаф** — гл. **Пелагейка Юзаф**

4366. **Палакоўскі Антоні** (Полаковский Антоний), дваранін. Да паўстання жыў у м. Янішкі Шавельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

4367. **Паланевіч Афанасій (Атанаіл)** (Полоневич Афанасий (Атанаил)), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 14.01.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 23.01.1864. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—184; 296—1—90—12адв.-13; 299—1—579—298-307; 319—1—479—25; 1418—3—1—59адв.-60; 1430—1—52163—206).*

4368. **Паланевіч Эдвард** (Полоневич Адуард), сын Міхала, дваранін Ваўкавыскага ці Навагрудскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання, у тым ліку за захоўванне зброі, арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 01.10.1864) да

пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска. МГП 09.09.1863 выдала распараджэнне аб секвестры яго маёмасці *(295—1—1643—171, 174; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—2адв., 125адв.; 1430—1—52163—601адв.).*

4369. **Палачанскі Андрэй** (Полочанский Андрей), дваранін Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24; 1416—4—11416—114; 1430—1—52163—204).*

4370. **Палітоўскі Зыгмунт** (Политовский Сигизмунд), дваранін Ковенскай губ. Закончыў Маскоўскі ўніверсітэт са ступенню кандыдата. Да паўстання служыў настаўнікам гімназіі ў г. Вільні. За «палітычную нядобранадзейнасць» і дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. У 1869 г. жыў у г. Уфе, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і «Прывісленскага краю» *(295—1—1989—56; 1430—1—52163—552).*

4371. **Палішэвіч Ян** (Палишевич Ян), мешчанін м. Харошчы Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—24адв.).*

4372. **Палонскі Альфонс** (Полонский Альфонс), брат *Юзафа*, дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Рудаполле (Радопаль) Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 20.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі. Яго спадчынныя часткі Рудаполля і маёнтка Самуэлева Чэрыкаўскага пав. канфіскаваны ў 1866 г. *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—25адв.; 1416—4—11416—130; 2001—2—123—6; 2001—3—23—3; 2003—1—344—6; 2003—1—445—3, 15; 2003—1—489—25; 2003—2—90—33-38; 3257—2—2—28; 3366—1—5—9).*

4373. **Палонскі Ануфры** (Полонский Онуфрий), дваранін Люцынскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(296—1—25—105; 319—1—479—25; 1416—3—21048—40адв.; 1430—1—52163—420адв.).*

4374. **Палонскі Ісаак** (Полонский Исаак), селянін. Да паўстання прыпісаны да с. Гуровічы Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, за што падлягаў арышту (да 11.10.1863) *(1527—1—4—86).*

4375. **Палонскі Люцыян** (Полонский Люциан), сын Юзафа, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў «нядобразычлівасці да расійскага ўрада», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—11).*

4376. **Палонскі Юзаф** (Полонский Иосиф), брат *Альфонса*, дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Рудаполле (Радопаль) Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 20.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі. Яго спадчынныя часткі Рудаполля і маёнтка Самуэлева Чэрыкаўскага пав. канфіскаваны ў 1866 (?) г. *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—25адв.; 1416—4—11416—130; 2001—2—123—6; 2001—3—23—3; 2003—1—445—3, 15; 2003—1—489—25; 2003—2—90—33-38; 3257—2—2—28; 3366—1—5—9).*

4377. **Палубінскі Антоні** (Полубинский Антон), сын Караля, муж Клацільды Віктараўны Скакоўскай, дваранін Дзісенскага ці Дрысенскага пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку памешчыка Свенцкага. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—2—52; 2514—1—2198—69; 2532—1—15—12; 3257—2—2—28адв.).*

4378. **Палубінскі Міхал** (Полубинский Михаил), памешчык. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць 22.08.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 03.07.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—40адв.; 1430—1—52163—402адв.).*

4379. **Палуян Напалеон** (Полуян Наполеон). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

4380. **Палуян Нікадым** (Полуян Никодим), дваранін, брат *Уладзіслава.* Да паўстання служыў чыноўнікам Віленскай крымінальнай палаты, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

4381. **Палуян Уладзіслаў** (Полуян Владислав), дваранін, брат *Нікадыма.* Да паўстання нідзе не служыў. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

4382. **Палуяноўскі Ігнат** (Полуяновский Игнатий), шляхціц Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.).*

4383. **Палькоўскі (Паўхоўскі) Міхал** (Пальковский (Полховский) Михаил), сын Фелікса, дваранін Пружанскага пав. Нар. каля 1841 г. Да паўстання жыў у г. Пружанах, служыў у канцылярыі пружанскага маршалка. Каля 20.04.1863 выехаў з Пружанаў у Слонімскі пав., у Міхалінскім лесе (каля 40 вёрст ад Пружанаў) сустрэўся з атрадам паўстанцаў пад камандаваннем *Самульскага N.* і далучыўся да яго. Знаходзіўся ў атрадзе разам з *Глябовічам Адольфам*, *Стравінскім Дыянізіем* і інш. Потым перайшоў у атрад *Траўгута Рамуальда.* Пасля сутычкі 05.1863 у лясах ля в. Варані Пінскага пав. з рас. войскамі схоплены са зброяй у руках з яшчэ чатырма паўстанцамі. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Спачатку знаходзіўся пад следствам у Пінскай следчай камісіі, 03.10.1863 яго справа перададзена на заключэнне МСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(162—1—116—66адв.; 295—1—1643—178; 295—1—3688—21-23; 296—1—25—103; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—288, 291адв.; 320—1—398—2; 320—2—98—43адв.).*

4384. **Пальчык Ян** (Пальчик Иван), селянін. Да паўстання служыў парабкам у в. Вераскава Навагрудскага[130] пав. у памешчыка Брахоцкага. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.12.1863 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 320—1—398—159).*

4385. **Палюховіч[131]-Сярніцкая Леанціна** (Полюхович-Серницкая Леонтина), дачка Герасіма, жонка *Людвіка*, маці Адама і Настассі, дваранка Пінскага пав., каталічка. Нар. каля 1812 г. Падчас паўстання арыштавана за спяванне «забароненых гімнаў». Канфірмацыяй А. Патапава ад 17(ці 10).09.1864 прысуджана да секвестру маёмасці і ссылкі «адміністрацыйным шляхам» без пазбаўлення правоў. Саслана ў Томскую губ. У 1873 г. атрымала амністыю і права на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц і сталічных губ. 12.1874 разам з сынам і дачкой вярнулася ў г. Пінск. Жыла тут яшчэ 10.1881, з'яўлялася павітухай *(160—2—682—20, 101; 162—1—116—152, 166, 174; 295—1—1643—204адв.; 295—1—3026—4адв.-4а; 295—1—3492—5, 23, 47, 89адв.; 296—1—89—12; 1430—1—52163—379).*

4386. **Палюховіч-Сярніцкі Ілля** (Полюхович-Серницкий Илья), сваяк *Яна* (?), сын Кандрата, шляхціц Пінскага пав., праваслаўны. Западозраны ў дапамозе паўстанцам, у 1864 г. зняволены ў астрогу ў г. Пінску. Прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. Паводле распараджэння мінскага губернатара ад 28.09.1865 адасланы ў г. Мінск. 10.03.1867 «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў г. Томск. Яго сваякі (32 чал.), якія жылі ў вак. Сернікі Пінскага пав., некалькі разоў (апошні раз — 21.01.1871) падавалі прашэнне аб дазволе яму вярнуцца на радзіму, але ўсе яны былі «пакінуты без наступстваў» *(295—1—1643—181; 295—1—2215).*

4387. **Палюховіч[132]-Сярніцкі Людвік** (Полюхович-Серницкий Людвиг), сын Ваўрынца, муж *Леанціны*, бацька Адама і Настассі, дваранін Пінскага пав. Да паўстання служыў засядальнікам Пінскага павятовага паліцэйскага ўпраўлення. За спачуванне паўстанцам звольнены са службы і арыштаваны, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Канфірмацыяй А. Патапава ад 17.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—152, 166, 174; 295—1—1643—184, 204адв., 221адв.; 295—1—3026—4адв.-4а; 319—1—479—25; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375).*

4388. **Палюховіч-Сярніцкі Ян** (Полюхович-Серницкий Иван), сваяк *Іллі* (?), сын Андрэя Янавіча, шляхціц Пінскага пав. Нар. у 1815 г. За дачы-

[130] У адным з дакументаў месца жыхарства падаецца як вёска Верасова Слуцкага пав., але, магчыма, гэта памылка.

[131] Часам сустракаецца памылковае напісанне як Памаховіч (рус. — Помохович).

[132] Часам сустракаецца памылковае напісанне: Памаховіч (Помохович).

ненне да паўстання ў 1863 г. высланы на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. *(295—1—1643—181; 320—1—398—350).*

4389. **Пальчэўская Актавія-Аляксандра** (Пальчевская Октавия-Александра), памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Антодуры Свянцянскага (Віленскага?) пав. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 15.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—255).*

4390. **Памарнацкі Баляслаў** (Помарнацкий Александр), памешчык Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—8; 2532—1—15—11).*

4391. **Памарнацкі Ежы-Тацыт** (Помарнацкий Юрий-Тацыт), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—3адв.).*

4392. **Памарнацкі Ільдэфонс** (Помернацкий Ильдефонс), дваранін Ковенскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—224).*

4393. **Памарнацкі Уладзіслаў** (Помарнацкий Владислав), сын Мікалая, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага сакратара. Да паўстання валодаў маёнткам Аванты Вількамірскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму на Аванты паводле распараджэння М. Мураўёва ад 03.01.1864 і ўказа ВГП ад 31.05.1864 накладзены секвестр. Секвестр здымаўся паводле распараджэння М. Мураўёва ад 07.05.1865 і ўказа ВГП ад 12.06.1865 *(1416—4—11416—256).*

**Памарнацкі-Пац Мікалай** — гл. **Пац-Памарнацкі Мікалай**

**Памарнацкі-Пац Фелікс** — гл. **Пац-Памарнацкі Фелікс**

**Памаховіч-Сярніцкая Леанціна** — гл. **Палюховіч-Сярніцкая Леанціна**

**Памаховіч-Сярніцкі Людвік** — гл. **Палюховіч-Сярніцкі Людвік**

4394. **Панасевіч Антоні** (Панасевич Антон), селянін Віцебскай (?) губ. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 04.12.1863 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—40; 1430—1—52163—397).*

4395. **Панасевіч Гаўрыла** (Панасевич Гавриил), сын заштатнага прычэтніка Нававольскай царквы Беластоцкага пав. Яна. Нар. каля 1842 г. Вучыўся ў прычэтніцкім класе ў манастыры ў м. Жыровічы Слонімскага пав. Выключаны з яго за «частыя ўцёкі ў вучылішча, непаспяховасць у навуках і неадабральныя паводіны». 30.09.1860 прызначаны служкам пры Жыровіцкім духоўным вучылішчы. 14.05.1863 разам з *Пашкевічам Янам* і *Шашко Янам* уцёк з манастыра. Далучыўся да паўстанцкага атрада (?). Выключаны з духоўнага саслоўя. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе паведамлення Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 24.06.1863 і пастановы ГГП ад 23.08.1863 *(1416—6—223).*

4396. **Панківіцкая Алена** (Пониквицкая Елена), памешчыца Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання выслана ў Пермскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—7адв.).*

4397. **Панківіцкі Юзаф** (Пониквицкий Иосиф), памешчык Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—7адв.).*

**Панкевіч Клімент** — гл. **Пянкевіч Клімент**

4398. **Пансэт-дэ-Сандон Роберт** (Понсет-де-Сандон Роберт), брат *Сабяслава*. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» разам з братам высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

4399. **Пансэт-дэ-Сандон Сабяслаў** (Понсет-де-Сандон Собеслав), брат *Роберта*. Да паўстання служыў ваўкавыскім акруговым доктарам Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы разам з братам на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 1430—1—52285—12; 3046—2—5—42).*

4400. **Пантук (Пантус) Антоні** (Пантук (Пантус) Антон), сын Стэфана, мешчанін г. Навагрудка. Нар. каля 1820 г. Да паўстання жанаты, меў дзяцей. Падчас паўстання арыштаваны за пастаўку паўстанцам харчавання, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага

высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву, адтуль — на пасяленне ў Томскую губ. У 1875 г. жыў у с. Усць-Сярцінск Алчадацкай вол. Марынскай акругі Томскай губ., падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму, 10.1875 атрымаў яго. 08.1876 прыбыў у Навагрудскі пав. 12.1876–03.1882 жыў у в. Трасцянка Усялюбскай вол. Навагрудскага пав., дзе займаўся гаспадаркай *(295—1—1643—183адв.; 295—1—2420—11; 295—1—2754; 295—1—3026—18адв.-19; 295—1—3492—10, 41)*.

4401. **Панфіловіч Францішак** (Панфилович Франц), сын Леана, дваранін Магілёўскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў намеры падпаліць г. Магілёў, арыштаваны. Паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2001—2—14—15-15адв.; 2514—1—2198—69)*.

4402. **Панцарынскі Антоні** (Панцержинский Антон), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—224)*.

4403. **Панцялееў Лангін** (Пантелеев Логин), сын Фёдара, дваранін Валагодскай губ. Да паўстання жыў у г. СПб, служыў у Міністэрстве ўнутраных спраў, чыноўнік 12 класа. Падчас паўстання належаў да пецярбургскай падпольнай арганізацыі, схаваўся ад уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, узнагарод, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(320—1—398—783-785; 2003—1—474—4-5, 8 і інш.)*.

4404. **Панятоўскі Міхал** (Понятовский Михаил). Да паўстання служыў у гродзенскай казённай палаце, калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

4405. **Панятоўскі Юзаф** (Понятовский Иосиф). Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Рагінскага Рамана*. Пасля рассеяння атрада, 25.02.1863 затрыманы ў Мазырскім пав. Пры вобшуку ў яго адабраны 43 руб. ср. 01.03.1863 змешчаны ў турме ў г. Мазыры. Паводле загаду М. Мураўёва ад 28.03.1863 высланы ў фартэцыю ў г. Бабруйск і аддадзены пад ПВС *(295—1—1574—8, 19-27 і інш.; 295—1—1643—171, 174адв.)*.

4406. **Папейскі Антоні** (Папейский Антон), сын Леана, дваранін Каралеўства Польскага, каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—11адв.)*.

4407. **Папейскі Станіслаў** (Папейский Станислав), сын Пятра, дваранін Каралеўства Польскага, каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—11адв.)*.

4408. **Папкевіч Канстанцін** (Попкевич Константин), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

**Папкевіч Клімент** — гл. **Пянкевіч Клімент**

4409. **Папко Ілля** (Попко Илья), сын Сцяпана, селянін Барысаўскага пав. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.11.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(160—2—682—29; 162—1—122—6; 295—1—1643—172адв.; 534—1—14—16)*.

4410. **Паплаўскі (Паўлоўскі) Альбін** (Поплавский (Павловский) Альбин), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 31.01.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 11.02.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

4411. **Паплаўскі Антоні** (Поплавский Антон), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—34)*.

4412. **Паплаўскі (Папоўскі, Паўлоўскі) Віктар** (Поплавский (Поповский, Павловский) Виктор), сын Зыгмунта, памешчык Мінскай губ. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле пастановы следчай камісіі ў 1863 г. высланы на жыхарства ў Архангельскую губ. На маёнтак яго жонкі Астрынца Пінскага пав. накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 04.12.1863. *(295—1—1643—175, 179; 296—1—89—18; 1430—1—52285—31)*.

4413. **Паплаўскі Мацей** (Поплавский Матвей), памешчык з Бельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Высланы ў Пермскую губ. Яго

маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—150; 2532—1—15—8адв.).*

4414. **Паплаўскі Юзаф** (Поплавский Иосиф), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

4415. **Паплаўскі Юльян** (Поплавский Юлиан), сын Міхала, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Капцюга Лідскага пав. 09.06.1863 у Капцюзе паўстанцы ўзялі каня з сядлом і да іх далучыўся дваравы чалавек, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280).*

4416. **Паплаўскі Юстын** (Поплавский Устин), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

4417. **Паплаўскі Якуб** (Поплавский Яков), мешчанін г. Беластока. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

4418. **Паплаўскі N.** (Поплавский N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Мар'янава Мінскага пав. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы паўстання, 15.02.1863 арыштаваны і адасланы ў г. Мінск *(295—1—1527—2адв., 24).*

4419. **Паплінскі Вінцэнт** (Поплинский Викентий), дваранін Ковенскай (?) губ. Удзельнічаў у паўстання, арыштаваны, памёр да 01.06.1864. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—204адв.).*

4420. **Папоў Аляксандр** (Попов Александр), сын Яна, дваранін Віленскай[133] губ., праваслаўны. Западозраны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 09.07.1863 яго справа パададзена ЧВГМГ. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». У 1871 г. жыў у Казанскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—1643—184; 319—1—479—23адв.; 320—1—398—221; 1418—3—1—57адв.-58; 1430—1—35146—38; 1430—1—52163—128).*

4421. **Папоў Дзмітрый** (Попов Дмитрий), сын Сяргея, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Аляксандрава Сенненскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 20.07.1863) у г. Вільню ў распараджэнне паліцмайстра, там арыштаваны. Пасля сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(295—1—1643—173адв.; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21; 2003—2—49; 2514—1—2198—69адв.).*

**Папоўскі Віктар** — гл. **Паплаўскі Віктар**

4422. **Папроцкі Юзаф** (Попроцкий Иосиф). Да паўстання служыў чыноўнікам ГГП. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

4423. **Папялкоўскі Павел** (Попялковский Павел), сын Міхала, дваранін Полацкага пав., каталік. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Клюкіна Невельскага пав. Абвінавачаны «ў палітычным злачынстве», бо жыў без пісьмовых дакументаў з 01.1863 у *Раманоўскага Уладзіслава* разам з *Гарэцкімі Амброзіем*, *Антоніем*, *Юзафам* і *Янам*. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. На маёнтак маці накладзена забарона. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Падчас следства знаходзіўся на волі. 02.08.1864 служыў у Полацкім павятовым судзе, знаходзіўся ў маёнтку Бабічава Полацкага пав. Пастановай А. Патапава ад 24.10.1864 канчаткова прызнаны невінаватым і вызвалены ад усялякай адказнасці *(1416—3—21048—40адв.; 1430—1—31568; 1430—1—52163—406адв.; 3046—2—3—67адв.-68).*

4424. **Парабіновіч Марцін** (Парабинович Мартин), дваранін. За наведванне паўстанцкага атрада і нанясенне ўдара вартаўніку ў 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—185).*

4425. **Парадзінскі Людвік** (Порадзинский Людвиг), сын Тамаша, дваранін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. 29.01.1864 падкупіў разам з *Матусевічам Густавам* унтэр-афіцэра *Фурманскага Паўла* і патаемна пакінуў месца зняволення для

[133] У спісе падследных у ІСК памылкова ўказаны дваранінам Ігуменскага пав.

сустрэчы з яго сваякамі, падчас адлучкі затрыманы. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—127; 295—1—1643—171адв.; 320—1—398—547-551; 320—2—98—44; 1418—1—7).*

4426. **Парадоўская Ідалія** (Парадовская Идалия), дачка слонімскага ўрадніка, незамужняя. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

4427. **Парадоўскі [Аляксандр]** (Парадовский [Александр]). Удзельнічаў у паўстанні ў якасці камандзіра атрада пад мянушкай Астрога, пасля схаваўся ад рас. уладаў і пазбег пакарання *(319—1—479—24; 1430—1—52163—162).*

4428. **Паразінскі Міхал** (Поразинский Михаил), сын *Цітуса*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 03.11.1845. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства адасланы ў г. Мінск. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд заменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. У 1865 г. знаходзіўся на службе ў 4 лінейным батальёне Заходняй Сібіры рас. войска. У 1871 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(162—1—116—103; 319—2—590—139адв.-142; 1418—3—1—57адв.-58; 1430—1—35146—86; 1430—1—52163—150адв.).*

4429. **Паразінскі Цітус** (Поразинский Тит), бацька *Міхала*, дваранін. Да паўстання служыў сакратаром Мінскай духоўнай рымска-каталіцкай кансісторыі, калежскі асэсар. У 1863 г. за «дапушчэнне сына свайго Міхала далучыцца да мяцяжа» аштрафаваны на 100 руб. *(295—1—1643—175).*

4430. **Парака Станіслаў** (Парако Станислав), памешчык Люцынскага пав. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда 04.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў г. Ноўгарад пад нагляд паліцыі. Пад следствам знаходзіўся ў ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(1430—1—31355—80; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—58адв.; 3046—2—5—42адв.).*

4431. **Параф'яновіч Вітальд** (Парафиянович Витольд), дваранін Мінскай губ. Падчас паўстання супрацоўнічаў з *Аскеркам Міхалам*. Арыштаваны. На следстве паказваў, што *А. М.* пазнаёміў яго з *Каліноўскім Канстанцінам* і пасылаў у г. СПб і г. Маскву «з рэвалюцыйнымі лістамі і грашыма». Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195; 3256—2—29—28).*

4432. **Парфямёнак Ануфры** (Парфеменок Онуфрий), селянін. Нар. каля 1845 г. Да паўстання жыў у м. Халопенічы Барысаўскага пав. 10 дзён знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 27.05.1863 зняволены на гаўптвахце ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—108).*

4433. **Парфянёнак Андрэй** (Парфененок Андрей). За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—169).*

4434. **Парфяновіч Аляксандр** (Парфянович Александр), дваранін Ковенскага ці Новааляксандраўскага пав. Да паўстання служыў пісарам Новааляксандраўскага павятовага казначэйства. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда ў 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—179; 319—1—479—24; 320—1—398—133; 1416—3—21048—40; 1416—6—281; 1430—1—52163—399а, 600).*

4435. **Парфяновіч Вінцэнт** (Парфянович Викентий), дваранін Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(319—1—479—24; 1430—1—52163—521).*

4436. **Парфяновіч Францішак** (Парфиянович (Парфианович) Франц), сын Ігната, дваранін Ковенскай ці Віленскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горацкім павятовым вучылішчы. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у атрад пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—69; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—7адв.).*

4437. **Парфяновіч Эдвард** (Парфиянович Эдуард), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным

парадкам» высланы (каля 05.1864) у Томскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

4438. **Пархамовіч Мікалай** (Пархамович Николай), сын Пятра, дваранін Рагачоўскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Яго 4 дзес. 1200 саж. зямлі ў вак. Сенажаткі, 1 дзес. у вак. Чарцёж Рагачоўскага пав. і рухомасць на 69,47 руб. 11.1863 апісаны і секвестраваны. Сасланы ў Самарскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягла абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—372—133адв.; 2003—2—74; 2514—1—2198—69адв.; 2532—1—15—10адв.)*.

4439. **Парчынскі Аляксандр** (Порчинский Александр), сын Іардана, дваранін Жытомірскага пав. Валынскай губ. ці Ковенскай губ. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах Горы-Горацкага сельгасінстытута. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 14.06.1863). Зняволены ў г. Магілёве, потым пераведзены ў г. Бабруйск, дзе ўтрымліваўся яшчэ 03.02.1864. Паводле пастановы следчай камісіі, прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2003—1—284; 2514—1—2198—69)*.

4440. **Парчэўская Эмілія** (Парчевская Эмилия), дачка Юзафа, памешчыца. Да паўстання ўдава, валодала фальв. Аляксандраўка Чэрыкаўскага пав. (1672 дзес. 1280 саж. зямлі, 80 рэвізскіх муж. полу сялян, дом, карчма, гаспадарчыя пабудовы і інш., 403 руб. гадавога прыбытку). Падчас паўстання зрабіла спробу вызваліць схопленага сялянамі паўстанца. Паводле ўказаў МагГП ад 28.06.1863 і 16.07.1863 яе фальварак 23.08.1863 апісаны і секвестраваны. Знаходзілася пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яе справу магілёўскаму губернатару. Пазней падазрэнні не апраўдаліся і паводле пастановы МагГГ ад 07.05.1864 і ўказа МагГП ад 18.05.1864 секвестр зняты *(2003—1—369; 3366—1—5—9адв.)*.

4441. **Парчэўскі Павел** (Парчевский Павел). Да паўстання вучыўся ў губернскай гімназіі ў г. Магілёве. Без дазволу начальства адлучыўся з месца вучобы. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(2001—2—14—9адв.; 3257—2—2—28адв.)*.

4442. **Парымскі Юзаф** (Паржимский Иосиф), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

4443. **Парэмбскі Антоні** (Порембский Антон), сын Фларыяна, брат *Фларыяна* і Браніславы (v. Жызнеўскай), дваранін Ігуменскага пав. ці Магілёўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 25.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 4 гады на катаргу на заводах. У 1893 г. жыў у г. Іркуцку, у 1897 г. — у г. Омску *(162—1—116—63; 295—1—1643—177адв.; 295—1—5703; 319—1—479—25адв.; 320—1—398—222адв., 278-279; 320—2—98—43адв.; 1418—3—1—57адв.-58)*.

4444. **Парэмбскі Фларыян** (Порембский Флориан), сын Фларыяна, брат *Антонія* і Браніславы (v. Жызнеўскай), дваранін Ігуменскага пав. ці Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 25.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—63; 295—1—1643—177адв.; 319—1—479—25адв.; 320—1—398—222адв., 278-279; 320—2—98—43адв.; 1418—3—1—58адв.-59)*.

4445. **Парэцкі Юзаф** (Поржецкий Иосиф), дваранін Віленскай ці Мінскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Падчас паўстання 09.1863 прызначаны *Аскеркам Міхалам* на пасаду начальніка Мінскага пав. Арыштаваны, на следстве даваў паказанні, сярод іншых, пра *Баравіка Баляслава*, *Лапіцкага Генрыка*, *Яманта Юзафа*. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». У 1870-я гг. атрымаў амністыю, выехаў з ссылкі і пасяліўся ў г. Варшаве, дзе жыў у 1876 г. 03.1876 атрымаў дазвол на жыхарства ў Мінскай губ. *(162—1—116—166; 295—1—3051; 319—1—479—24; 1430—1—52163—183; 3256—2—29—28-29)*.

4446. **Пасербскі N.** (Посербский N.), дваранін. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—23адв.; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125)*.

4447. **Патаповіч Караль** (Потапович Карл), мешчанін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, да 01.05.1863 добраахвотна з’явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 07.1863 вызвалены *(296—1—19—280)*.

4448. **Патрыкоўскі Анзэльм** (Патриковский Анзельм), дваранін Лідскага пав. Яго бацька валодаў маёнткам у Лідскім пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада, схоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—128адв.; 1416—6—274; 1430—1—52163—603адв.)*.

4449. **Патрыкоўскі Міхал** (Потриковский Михаил), сын штабс-капітана Аляксандра і Ксаверыі, дваранін Невельскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны і зняволены ў фартэцыі ў г. Дынабургу. На маёнтак яго маці Зялёнае з в. Торхава і Лошкава Невельскага пав. накладзены ўзмоцнены 10-працэнтны збор. Апраўданы як «прыняты за іншую асобу» і вернуты (да 29.02.1864) на месца жыхарства. Віцебскі губернскі маршалак 29.02.1864 падаў прашэнне на імя У. Вяроўкіна аб вызваленні маёмасці маці ад узмоцненага абкладання *(2626—1—305—41-42)*.

4450. **Патрыкоўскі Уладзіслаў** (Патриковский Владислав), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

4451. **Паўлікоўскі Мікалай** (Павликовский Николай), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. служыў на «працах» Харкава-Палтаўскай чыгункі, атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «паўночна-заходніх» губ. *(1430—1—35146—41)*.

4452. **Паўловіч Адам** (Павлович Адам), дваранін. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Дзікушкі Лідскага пав. графа Грабоўскага. Падчас паўстання чытаў сялянам паўстанцкі маніфест, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 20 гадоў. Сасланы. Пастанову пра канфіскацыю ВілГП выдала 08.08.1863 *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—128адв.; 1416—6—210; 1416—6—274; 1430—1—52163—603адв.)*.

4453. **Паўловіч Адам** (Павлович Адам), сын Сымона Матэвушавіча, брат *Сільвестра*, муж Анелі, бацька Аляксандры, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1814 г. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Гара Ігуменскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой пакінуты ў «моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ. Разам з жонкай і дачкой высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць у 6 дзес. 800 саж. (альбо ў 20 дзес.) канфіскавана і размеркавана паміж беззямельнымі сялянамі *(295—1—2420—8; 320—2—98—2, 9, 70, 92; 1418—3—1—59адв.-60)*.

4454. **Паўловіч Аляксандр** (Павлович Александр), сын Базыля Стэфанавіча, дваранін Ігуменскага пав. Нар. 10.05.1828. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 01.10.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—158; 295—1—1643—172адв.; 320—1—398—434-436)*.

4455. **Паўловіч Багуслаў** (Павлович Богуслав), дваранін Ковенскай (?) губ. Да паўстання служыў у 13 Артылерыйскай брыгадзе рас. войскаў. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—24)*.

4456. **Паўловіч Сільвестр** (Павлович Сильвестр), сын Сымона Матэвушавіча, брат *Адама*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў моцным падазрэнні». 29.12.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ *(1418—3—1—59адв.-60)*.

4457. **Паўловіч Стэфан** (Павлович Степан), сын Мельхіёра Адамавіча, дваранін Мінскага пав. Хр. 19.07.1831. Да паўстання служыў аканомам. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, 01–02.1863 арыштаваны. Пастановай ПВС пры фартэцыі ў г. Брэсце, канфірмаванай М. Мураўёвым 03.11.1863, прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1643—178адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—96, 222, 392, 401; 320—2—98—43адв.)*.

4458. **Паўловіч Эдвард** (Павлович Эдуард). Да паўстання служыў настаўнікам Навагрудскай гімназіі. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Пераведзены з г. Навагрудка ў г. Мінск. Паводле пастановы следчай камісіі ў 1863 г. «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў г. Аланец *(295—1—1622—12; 295—1—1643—174; 1430—1—52285—12)*.

4459. **Паўловіч Юзаф** (Павлович Иосиф), сын Яна, дваранін. Да паўстання жыў у г. Магілёве. Уночы з 23 на 24 красавіка пакінуў Магілёў, 27.04.1863 арыштаваны. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—25адв.; 1430—1—52163—206адв.; 2001—2—14—14; 3257—2—2—29).*

4460. **Паўловіч Юльян** (Павлович Юлиян), сын Бенядыкта, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1828 г. Да паўстання жыў у маёнтку Гелянова Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Міладоўскага Вітальда.* Удзельнічаў у баі ля в. Мілавіды Слонімскага пав., затым захоплены ў палон. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 23.03.1864 аддадзены пад ПВС пры 120-м Серпухаўскім пяхотным палку ў г. Навагрудку. 28.03.1864 судовая справа скончана і перададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 02.04.1864 адпраўлена М. Мураўёву. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 18.05.1864 М. Крыжаноўскім, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—171адв.; 296—1—91; 299—1—579—298-307; 319—1—479—25; 320—1—398—3; 1430—1—52163—206).*

4461. **Паўловіч N.** (Палович N.). Да паўстання служыў пісарам Зубрыцкага валаснога праўлення Сакольскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

4462. **Паўлоўская Стэфанія** (Павловская Стефания), дачка Дамініка Юзафавіча, дваранка Мінскай губ. За дачыненне да паўстання аддадзена пад ПВС пры батальёне ўнутранай варты ў г. Віцебску *(320—1—398—461а).*

4463. **Паўлоўскі Адам** (Павловский Адам), дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—24).*

**Паўлоўскі Альбін** — гл. **Паплаўскі Альбін**

4464. **Паўлоўскі Андрэй** (Павловский Андрей), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання служыў у канцылярыі Горацкага павятовага суда. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—526; 3257—2—2—29).*

4465. **Паўлоўскі Антоні** (Павловский Антон), аднадворац Навагрудскага (?) пав. Уваходзіў у склад атрада *Лашкевіча Феліцыяна* і *Пуслоўскага Адама* (?). Схоплены да бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак *(295—1—1562—16адв.).*

4466. **Паўлоўскі Бенядыкт** (Павловский Венедикт), дваранін Брэсцкага пав. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады *(295—1—1643—169адв.; 319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

4467. **Паўлоўскі Бенядыкт** (Павловский Венедикт), сын Якава, селянін Мінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. 18.09.1864 аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.10.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 4 гады ў Калужскую арыштанцкую роту *(162—1—116—162; 295—1—1643—173; 296—1—137; 320—1—398—652).*

**Паўлоўскі Віктар** — гл. **Паплаўскі Віктар**

4468. **Паўлоўскі Вінцэнт** (Павловский Викентий), сын Рыгора, аднадворац Віцебскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў расповедах яўрэям пра тое, што галава М. Мураўёва ацэнена паўстанцамі ў 100 тыс. руб. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «следствам абвінавачваецца» 12.07.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць накладаўся секвестр (да 01.10.1864) *(1416—3—21048—39; 1430—1—52163—395адв.; 3046—2—3—63адв.-64; 3046—2—5—41адв.).*

4469. **Паўлоўскі Генрык** (Павловский Генрих), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

4470. **Паўлоўскі Ігнат** (Павловский Игнатий), шляхціц Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—24адв.).*

4471. **Паўлоўскі Леан** (Павловский Леон), селянін. Абвінавачаны рас. уладамі ва ўтойванні зброі. З 10.06.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 25.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—7адв.-8; 3257—2—8—12).*

4472. **Паўлоўскі Павел** (Павловский Павел), селянін Ліцінскага пав. Падольскай губ. Нар. каля 1821 г. Добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, з якім потым уцёк за мяжу. У 1875 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі прысуджаны завочна да пазбаўлення правоў стану і вечнага выгнання, у выпадку самавольнага вяртання падлягаў ссылцы на пасяленне ў Сібір *(1430—1—35834—98-99)*.

4473. **Паўлоўскі Рыгор** (Павловский Григорий), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Даўгердзішкі Троцкага пав. *Ромэра Северына.* За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 10.06.1863 і пастановы ВілГП ад 14.06.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—245; 1430—1—52285—7)*.

4474. **Паўлоўскі Рышард** (Павловский Ричард), сын Аляксандра, дваранін Гродзенскага пав. Нар. каля 1839 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі *(162—1—116—10; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—37-53адв., 60, 126; 320—2—98—43адв.; 1416—3—21048—40; 1430—1—52163—602)*.

4475. **Паўлоўскі Стэфан** (Павловский Степан), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Смаргонь Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады *(296—1—25—101; 319—1—479—24; 1430—1—52163—154)*.

4476. **Паўлоўскі Юзаф** (Павловский Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Нямекшты Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—223)*.

4477. **Паўлоўскі Ян** (Павловский Иван), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання служыў валасным пісарам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(1416—3—21048—40адв.; 1416—6—281; 3046—2—5—42адв.)*.

4478. **Паўлюц Антоні** (Павлюц Антон), сын Яна Янавіча (хр. 27.08.1805 у Койданаўскім касцёле) і Магдалены, дваранін Мінскага пав., каталік. Хр. 15.02.1832 у Койданаўскім касцёле. Да паўстання служыў гувернёрам у *Янішэўскага Аўгуста.* Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. Без следства 26.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 03.10.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.04.1864 прысуджаны (ці 07.05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Потым атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. У 1876–1878 гг. жыў у маёнтку Пятроўшчына Сенніцкай вол. Мінскага пав., у 1880 г. — таксама ў Мінскім пав. 25.07.1878 атрымаў пасведчанне аб вернутых правах дваранства *(162—1—122—101; 295—1—1577—1-2; 295—1—1643—169; 295—1—3026—28адв.; 295—1—3492—16; 296—1—90—7адв.-8; 319—1—479—25; 319—2—2436—4, 14, 232адв., 556-558 і інш.; 1418—3—1—57адв.-58; 1430—1—52163—182)*.

**Паўхоўскі Міхал — Палькоўскі Міхал**

4479. **Паўхоўскі Уладзіслаў (Уладзімір)** (Полховский Владислав (Владимир)), сын Яна, дваранін Брэсцкага пав. Да паўстання жыў у г. Брэсце. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—2адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

4480. **Пахаменскі (Пахамінскі) Тэафіл** (Пахоменский (Пахоминский) Теофил), аўстрыйскі падданы. Да паўстання жыў у г. Мінску. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.02.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—68; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—555-558адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—304)*.

4481. **Пахнеўскі Юзаф** (Пахневский Иосиф), памешчык Ваўкавыскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—7адв.)*.

4482. **Пац-Памарнацкі Мікалай** (Пац-Помарнацкий Николай), сын Ігната, брат *Фелікса*, дваранін Віцебскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску, яго бацька валодаў маёнткам Арцюхова Віцебскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Будзіловіча Ігната*, арыштаваны. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. На маёнтак бацькі 10.07.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 28.04.1863 накладзены секвестр, а затым забарона. У 1877 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з дазволам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем Каралеўства Польскага, сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». 01.1879 жыў у г. Казані, атрымаў дазвол на вяртанне ў Віцебскую губ. Да 12.03.1879 вярнуўся ў Віцебскі пав., 04.06.1880 атрымаў пашпарт на выезд у Тульскую губ., у 1880 г. — дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі *(319—1—479—25; 1416—3—21048—39; 1430—1—36386—1-4; 1430—1—36707—2-14; 1430—1—52163—182, 423адв., 722; 2514—1—2198—69)*.

4483. **Пац-Памарнацкі Фелікс** (Пац-Памарнацкий Феликс), сын Ігната, брат *Мікалая*, дваранін Віцебскага пав. Да паўстання служыў пісарам у ВГП, яго бацька валодаў маёнткам Арцюхова Віцебскага пав. 21.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада *Будзіловіча Ігната*. Удзельнічаў у сутычцы ля в. Пагосцішча Аршанскага пав. 27.04.1863 дастаўлены цяжка параненым у віцебскую гарадскую бальніцу і ў гэты ж дзень памёр. Паводле распараджэння А. Патапава ад 21.08.1864 і канфірмацыі ад 02.04.1865 яго маёмасць падлягала канфіскацыі. На Арцюхова накладзена забарона *(1416—3—21048—39адв.; 1416—4—11416—21-24, 270-276; 1430—1—31259—14-15, 40; 1430—1—52163—300-301, 425, 723, 807-808; 3257—2—2—29)*.

4484. **Пацкевіч Юльян** (Пацкевич Юлиан), дваранін Свянцянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 8 гадоў *(319—1—479—24; 1430—1—52163—530)*.

4485. **Пацоўскі Уладзіслаў** (Пацовский Владислав), сын Яна, дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Варнішкі каля г. Відзы Новааляксандраўскага пав., які належаў яго бацькам. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда ў 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—178адв.; 319—1—479—24; 320—1—398—133; 1416—3—21048—39адв., 40; 1416—6—260; 1430—1—52163—399адв., 600)*.

4486. **Пацынка Станіслаў** (Пацинко Станислав), сын Францішка, бацька *Эварда*, дваранін Гродзенскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, за што аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 22.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863. Прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21; 1416—4—11416—314; 1416—6—218; 1430—1—52163—796)*.

4487. **Пацынка Эдвард** (Пацинко Эдуард), сын *Станіслава*, дваранін Гродзенскага пав. Да паўстання жыў на казённай ферме Пляцінічы Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21; 1416—4—11416—314; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—796)*.

4488. **Пацэвіч Ігнат** (Пацевич Игнатий), аднадворац. Да паўстання жыў у м. Вайштартаны (Аштэртаны) Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

4489. **Пацэвіч Казімір** (Пацевич Казимир). Служыў чыноўнікам у Віленскай (?) губ. Паводле пастановы следчай камісіі за дачыненне да спраў па паўстанні высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

4490. **Пацэвіч Ян** (Пацевич Ян), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Ушполле Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—224; 3046—2—5—41адв.)*.

4491. **Пачаповіч Казімір** (Почепович Казимир). Да паўстання служыў казённым землямерам Віленскай ПДМ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

4492. **Пачаповіч Фелікс** (Почепович Феликс), дваранін. Да паўстання служыў землямерам Віленскай ПДМ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

4493. **Пачаповіч Ян** (Почепович Иван). Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

4494. **Пачобут Антоні** (Почобут Антон), сын Фелікса Мікалаевіча (калежскага асэсара), дваранін Віцебскага пав., каталік. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Бялынавічы Віцебскага пав. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. На маёнтак бацькі 11.03.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара накладзены секвестр, а 05.11.1864 забарона. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 01.10.1864 знаходзіўся пад судом. Паводле ўказа ВГП ад 15.03.1865, на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 02.03.1865 яго маёмасць вызвалялася ад секвестру, а маёнтак бацькі — ад забароны *(1416—3—21048—40адв.; 1416—4—11416—160-163; 1430—1—52163—425адв., 723; 3046—2—3—66адв.-67)*.

4495. **Пачобут Міхал** (Почебут Михаил), дваранін Гродзенскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Памёр да 01.10.1864. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—103; 319—1—479—24адв.; 1416—3—21048—41)*.

4496. **Пачобут N.** (Почабут N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Пасольч Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

4497. **Пачынскі Міхал** (Пачинский Михаил), дваранін Полацкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 319—1—479—25; 320—1—398—197адв.; 1416—3—21048—40, 40адв.; 1430—1—52163—126, 405адв.)*.

4498. **Пачэла Юзаф** (Почело Юзеф), мешчанін г. Варшавы. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—168)*.

4499. **Пашкевіч Аляксей** (Пашкевич Алексей). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(295—1—1643—181адв.)*.

4500. **Пашкевіч Ігнат** (Пашкевич Игнатий), дваранін Віцебскай губ. Вучыўся ў Рэжыцкім павятовым вучылішчы, потым служыў землямерам у маёнтку Бяльмонты Новааляксандраўскага пав. графа Плятэра. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(295—1—1643—179; 1416—3—21048—40; 1416—6—281; 1430—1—52163—152, 398адв.)*.

4501. **Пашкевіч Міхал** (Пашкевич Михаил), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

4502. **Пашкевіч Міхал** (Пашкевич Михаил), дваранін Віцебскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1867 г. высланы з Віцебскай у Тамбоўскую губ. Пасля амністыі ў 1871 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і радзімы. Перасяліўся ў Ніжагародскую губ., дзе 15.06.1876 атрымаў дазвол на пражыванне ва ўсёй Рас. імперыі без выключэнняў *(1430—1—35976—22-23)*.

4503. **Пашкевіч Тамаш** (Пашкевич Фома), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—149адв.; 2532—1—15—5адв.)*.

4504. **Пашкевіч Юзаф** (Пашкевич Осип), сын Яна. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вярталанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69)*.

4505. **Пашкевіч Юзаф** (Пашкевич Иосиф). Нар. у Віленскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Парыжы як «польскі эмігрант». Атрымаў дазвол «з увагі да даўнасці злачынства <…> і сталасці яго веку» і 12.1873 вярнуўся на радзіму *(295—1—2524; 1430—1—35146—170)*.

4506. **Пашкевіч Ян** (Пашкевич Иван), аднадворац Дынабургскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—25; 320—1—398—198; 1416—3—21048—39адв.; 1430—1—52163—126, 389адв.)*.

4507. **Пашкевіч Ян** (Пашкевич Иван), селянін. Нар. каля 1846 г. Да паўстання прыпісаны і жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў бальніцы ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1527—107; 295—1—1643—173адв.)*.

4508. **Пашкевіч Ян** (Пашкевич Иван), сын заштатнага прычэтніка Грудзецкай царквы Вілейскага пав. Гераніма. Нар. каля 1844 г. Вучыўся ў прычэтніцкім класе ў манастыры ў м. Жыровічы Слонімскага пав., выключаны з яго за «малапаспяховасць у навуках». 30.09.1863 прызначаны служкам пры Жыровіцкім духоўным вучылішчы. 14.05.1863 разам з *Панасевічам Гаўрылам* і *Шашко Янам* уцёк з манастыра. Далучыўся да паўстанцкага атрада (?). Выключаны з духоўнага саслоўя. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе адносіны Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 24.06.1863 і пастановы ГГП ад 23.08.1863 *(1416—6—223)*.

4509. **Пашкоўская Клара** (Пашковская Клара), сваячка (?) *Стэфаніі* і *Юзэфы*, дваранка Гродзенскай губ. Паводле пастановы ваеннага суда за дачыненне да паўстання прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

4510. **Пашкоўская Стэфанія** (Пашковская Стефания), сваячка (?) *Кляры* і *Юзэфы*, дваранка Гродзенскай губ. Паводле пастановы ваеннага суда за дачыненне да паўстання прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

4511. **Пашкоўская Юзэфа** (Пашковская Юзефа), сваячка (?) *Клары* і *Стэфаніі*, дваранка Гродзенскай губ. Паводле пастановы ваеннага суда за дачыненне да паўстання прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

4512. **Пашкоўскі Адам** (Пашковский Адам). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

4513. **Пашкоўскі Антоні** (Пашковский Антон), брат *Мікалая*. Да паўстання жыў у г. Мінску, служыў засядальнікам Мінскага павятовага суда. Западозраны ў «нядобранадзейнасці» і звольнены са службы. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—84; 320—1—398—378)*.

4514. **Пашкоўскі Казімір** (Пашковский Казимир), дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне надворнага радцы. За «палітычную нядобранадзейнасць» у 1863 г. высланы з радзімы. У 1869 г. знаходзіўся ў г. Пскове, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем «Заходняга краю», а прыезд у які павінен быў суправаджацца асобным дазволам. У 1873 г. атрымаў дазвол на пражыванне ў «Паўночна-заходнім краі» *(295—1—1989—52-53; 1430—1—35458—26-27)*.

4515. **Пашкоўскі Мікалай** (Пашковский Николай), брат *Антонія*. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе. На яго маёмасць накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 12.05.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 24.04.1864 *(162—1—116—84, 147; 320—1—398—378)*.

4516. **Пашкоўскі Фрамэнт** (Пашковский Фреймонт), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—24; 1430—1—52163—181)*.

4517. **Пашкоўскі Ян** (Пашковский Иван), мешчанін г. Трокаў. Да паўстання жыў у маёнтку Юхнішкі Троцкага пав. памешчыка Рудаміны. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкую роту *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

4518. **Пашкоўскі Ян** (Пашковский Иван), шляхціц Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—24)*.

4519. **Пашыц Тэафіл** (Пашыц Феофил), сын Якуба і Канстанцыі, брат Антаніны, Антонія, Валяр'яна, Камілы, Канстанцыі, Марыі і Элеа-

норы, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку юнкерам. Да паўстання жыў у в. Антонаўка Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 28.04.1864 МагГП выдала адпаведны ўказ аб канфіскацыі. З яго часткі маёнтка Ельня Клімавіцкага пав. (агулам 150 дзес. зямлі, 80 руб. гадавога прыбытку), якая належала яму па праве суспадчынніка, у 1863–1866 гг. уносілася ў казну 4,125 руб. за паўгоддзе. У 1866 г. яго маёмасць канфіскавана канчаткова *(319—1—479—25адв.; 1430—1—52163—167адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—211—51; 2003—1—445—15; 2003—2—91; 3257—2—2—28адв.; 3366—1—5—9).*

4520. **Пейкер Вікторыя** (Пейкер Виктория), дваранка Мінскай губ. Да паўстання жыла ў г. Мінску. За дачыненне да паўстання прызначана (да 30.06.1864) да секвестру маёмасці і «адміністрацыйнага спагнання» *(162—1—116—166; 295—1—1643—171адв.; 299—1—579—296-297адв.).*

4521. **Пелагейка (Палагейка) Юзаф** (Пелагейко (Полагейко) Иосиф), дваранін Чэрыкаўскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 04.10.1863 справа пададзена М. Мураўёву. Высланы (да 02.03.1866) на жыхарства ў Пензенскую губ. пад нагляд паліцыі. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1868 г. прыбыў у Магілёўскую губ. на часовае знаходжанне, 20.08.1868 атрымаў дазвол на сталае жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—52285—32; 2003—1—372—36-37; 2003—1—489—62; 2532—1—15—9адв.; 3366—1—5—9адв.).*

**Пелікан Фларыян** — гл. **Пялікша Фларыян**

4522. **Пелка-Страдоўскі Уладзіслаў** (Пелко-Страдовский Владислав). Да паўстання служыў у Ковенскай губ. засядальнікам павятовага суда. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ПВС прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10).*

4523. **Пензен Ізраіль** (Пензен Израиль), яўрэй. Да паўстання жыў у м. Алькенікі Троцкага пав. Западозраны ў перадачы паўстанцам звестак пра перасоўванні рас. войскаў і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВілСК, 12.08.1863 яго справа пададзена М. Мураўёву. Яго загадам ад 15.08.1863 як «нядобранадзейны» прызначаны да ссылкі ў Гомельскі пав. на пасяленне пад строгі нагляд паліцыі *(2001—1—898—2-7).*

4524. **Пепаль Юзаф** (Пеполь Осип), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552).*

4525. **Перман Вінцэнт** (Перман Викентий), аднадворац. Да паўстання жыў у г. Суражы. Западозраны ў «нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» да 15.01.1864 высланы з радзімы *(1430—1—52285—44, 55адв.).*

4526. **Перхуровіч N.** (Перхурович N.), дваранін. За «спачуванне да мяцяжа» ў 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—184адв.).*

4527. **Перыкевіч Тэадор** (Перикевич Федор), дваранін. За «падбухторныя ўчынкі» ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—169адв.).*

4528. **Песляк Канстанцін** (Песляк Константин), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем у касцёле м. Панямунь Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.1863 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—24; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598; 3046—2—5—42).*

4529. **Песляк Міхал** (Песляк Михаил), дваранін Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—24).*

4530. **Песляк Пётр** (Песляк Петр), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. *(2532—1—15—1).*

4531. **Петралевіч Антоні** (Петреллевич Антон), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24адв.; 1416—4—11416—115; 1430—1—52163—205).*

4532. **Петражыцкі Павел** (Петражицкий Павел), сын Геранімa, дваранін ці шляхціц Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1842 г. Разам з *Бянкоўскім Антоніем*, *Зяньковічам Базылём*, *Сазановічам Гальяшам*, *Сямашкам Рыгорам* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Чэрыкава. З 10.08.1864

находзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Зянковіча Міхала (3257—1—17—9адв.-10; 3257—2—2—28адв.; 3257—2—8—12).*

4533. **Петрашкевіч Пётр** (Петрашкевич Петр), сын Антонія Андрэевіча, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 13.08.1833. Служыў штатным чыноўнікам Гродзенскай казённай палаты, 09.1862 звольнены. Добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 12.09.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 22.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(162—1—116—66; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—290, 291, 401; 320—2—98—43адв.; 1418—3—1—58адв.-59).*

4534. **Петрашкевіч Эрык** (Петрашкевич Эрик), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. сасланы на катаргу на заводах на 8 гадоў *(295—1—1643—177).*

4535. **Петрашэвіч Ян** (Петрашевич Иван), дваранін. Да паўстання жыў у в. Понерты Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

4536. **Петрашэўскі Антоні** (Петрашевский Антон), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42).*

4537. **Петрашэўскі Юзаф** (Петрошевский Иосиф), дваранін. За знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—171, 176).*

4538. **Петрусевіч Апалінары** (Петрусевич Аполинарий), сын Даната, аднадворац Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны ў «падазронай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 18.02.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў, рашэннем якога пакідалася «без наступстваў». *(1430—1—52163—635).*

4539. **Петрусевіч Ян** (Петрусевич Иван), сын Іаахіма, муж Ксаверыі, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Фартунопаль Люцынскага пав. За «нядобранадзейныя дзеянні» арыштаваны, зняволены ў г. Дынабургу. Пастановай ваеннага суда ад 19.05.1864 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую ці Пензенскую губ. На яго маёнтак 14.10.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 22.06.1864 і ўказа ВГП ад 07.09.1864 накладаўся секвестр. Жонка 12.1864 падавала прашэнне аб зняцці секвестру з прычыны адсутнасці сродкаў на ўтрыманне васьмі дзяцей. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 31.12.1864 секвестр здымаўся са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору *(1416—3—21048—41; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв., 420адв., 453адв., 498-503, 702-703, 731).*

4540. **Петрусевіч N.** (Петрусевич N.), дваранін Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў абвяшчэнні паўстанцкіх пракламацый, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

4541. **Петрыковіч Францішак** (Петрикович Франц), аўстрыйскі падданы. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. арыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Магілёве *(2001—1—901—32).*

4542. **Пётух Ігнат** (Пиотух Игнатий). Да паўстання служыў канцылярыстам МагГП. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Кастраму *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23).*

4543. **Пётух Пётр** (Пиотух Петр), шляхціц Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Указ аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 27.05.1864 *(296—1—25—105; 319—1—479—25; 1416—3—21048—40адв.; 1430—1—52163—413адв.; 2626—1—305—46-47).*

4544. **Пётух Станіслаў** (Пиотух Станислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гярманішкі Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—104; 1416—6—281).*

4545. **Пётух-Кубліцкі Ігнат** (Пиотух-Кублицкий Игнатий), памешчык Чавускага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Архангельскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—489—37адв.-38; 2532—1—15—9адв.).*

4546. **Пётух-Кубліцкі Фердынанд** (Пиотух-Кублицкий Фердинанд), сын Каспера ці Ксаверыя, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1843 г.

Да паўстання жыў у *Вярыгі Арцёма*. Западозраны ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Утрымліваўся ў турэмным замку г. Віцебска, адтуль 10.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб дазволе на спатканне з жонкай 2 разы на тыдзень. Знаходзіўся пад судом у ВВСК, якой 17.01.1864 прызначаны да ссылкі на катаргу ў рудніке на 15 гадоў. 22.01.1864 падаў прашэнне аб пераглядзе справы. Канчаткова прысуджаны канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.08.1864 да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—25; 1416—3—21048—39; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—31604—9, 11-17; 1430—1—52163—409, 535; 2626—1—305—75; 3046—2—3—62адв.-63; 3046—2—5—24; 3046—2—5—41адв.).*

4547. **Півінскі Антоні** (Пивинский Антон), сын Мацея, брат *Браніслава*, селянін Полацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 09.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—64адв.-65; 3046—2—5—41).*

4548. **Півінскі Бенядыкт** (Пивинский Венедикт), дваранін. Да паўстання служыў у аптэцы ў г. Брэсце. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

4549. **Півінскі Браніслаў** (Пивинский Бронислав), сын Мацея, брат *Антонія*, селянін Полацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 09.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—64адв.-65; 3046—2—5—41).*

4550. **Півінскі (Нівінскі) Дамінік** (Пивинский (Нивинский) Доминик), сын Базыля, брат *Юзафа*, мешчанін Лепельскага пав. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Быў у паўстанцкім атрадзе, схоплены і дастаўлены ў г. Лепель. Пераведзены ў г. Барысаў, 21.06.1863 зняволены ў гарадской турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады ці на катаргу на заводах на 6 гадоў. На яго маёмасць 08.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.02.1864 накладаўся секвестр. Указ аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 27.05.1864 *(162—1—116—66адв.; 296—1—25—105; 319—1—479—25; 320—1—398—291; 1416—3—21048—40адв.; 1430—1—52163—412адв.).*

4551. **Півінскі Ігнат** (Пивинский Игнатий), сваяк *Казіміра*, мешчанін г. Лепеля. Нар. каля 1820 г. Да паўстання жыў у маёнтку Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе знаходзіўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—99).*

4552. **Півінскі Казімір** (Пивинский Казимир), сваяк *Ігната*, мешчанін г. Лепеля. Нар. каля 1820 г. Да паўстання жыў у маёнтку Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе знаходзіўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—99).*

4553. **Півінскі (Нівінскі) Юзаф** (Пивинский (Нивинский) Иосиф), сын Базыля, мешчанін Лепельскага пав. Нар. каля 1826 г. Да паўстання жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены і дастаўлены ў г. Лепель. Пераведзены ў г. Барысаў, 21.06.1863 зняволены ў гарадской турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На яго маёмасць 08.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.02.1864 накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады ці на катаргу на заводах на 6 гадоў. Указ аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 27.05.1864 *(162—1—116—66адв.; 295—1—1527—105; 296—1—25—105; 319—1—479—25; 320—1—398—291; 1416—3—21048—40адв.; 1430—1—52163—412адв.).*

**Піёра Марцін** — гл. **Піюра Марцін**
**Піёра Станіслаў** — гл. **Піюра Станіслаў**
**Піёра Ян** — гл. **Піюра Ян**

4554. **Пізані Мікалай** (Пизани Николай), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42).*

4555. **Пізані Павел** (Пизани Павел), сын Пятра, памешчык. Служыў у рас. войску, падпаручнік. Да паўстання валодаў маёнткам у Новааляксандраўскім пав. (600 дзес. зямлі). За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда ў 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(295—1—1643—178адв.;*

*319—1—479—24; 320—1—398—133; 1416—3—21048—39адв., 40; 1416—6—260; 1430—1—52163—399, 600).*

4556. **Пізані Пётр** (Пизани Петр), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—3адв.; 3046—2—5—42).*

4557. **Пікель Аляксандр** (Пикель Александр). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1880 г. жыў як «палітычны ссыльны» ва Уфімскай губ., 22.02.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—12-13; 1430—1—52758—34).*

**Пікта Аляксандр** — гл. **Піткевіч Аляксандр**

4558. **Піктурна Апалінары** (Пиктурно Апполинарий), дваранін Цельшаўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—181адв.).*

4559. **Пікуж Ян** (Пикуж Иван), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

4560. **Пілер фон Пільхау N.** (Пилер фон Пильхау N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Міцкуны Віленскага пав. і домам у г. Вільні. У яго маёнтку паўстанцы забралі харчаванне, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

4561. **Пілецкі Войцех** (Пилецкий Альберт), шляхціц. Падчас паўстання арыштаваны за забойства 19.09.1863 А. Ляцкага *(295—1—1643—173).*

4562. **Пілецкі Ігнат** (Пилецкий Игнатий), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12адв.).*

4563. **Пілецкі Казімір** (Пилецкий Казимир), памешчык Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5).*

4564. **Пілецкі (Пілуй) Міхал** (Пилецкий (Пилуй) Михаил), сын Паўла, селянін, праваслаўны. Да паўстання жыў у Белічанскай вол. Ігуменскага пав., прыпісаны да Дубаўруцкай сельскай грамады. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, узяты ў палон рас. войскамі ў сутычцы ля в. Марцыянаўка Ігуменскага пав., зняволены ў г. Ігумене. 06.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Пазней высланы з радзімы *(1418—3—1—57адв.-58; 295—1—2725—35).*

4565. **Пілецкі Уладзіслаў** (Пилецкий Владислав), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні ў *Нарбута Людвіка*. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

4566. **Пілецкі Юзаф-Эдвард** (Пилецкий Иосиф-Эдуард), сын Адама Францішкавіча (жыў у в. Стараселле Навагрудскага пав.), бацька Станіслава-Вітальда (нар. 05.05.1854), Вандаліна-Францішка (нар. 07.08.1858), Юльяна-Эдварда (нар. 13.10.1860), Севярына-Антонія (нар. 06.03.1862), Людвіка-Мар'яна (нар. 14.04.1863) і Саламеі (нар. 28.08.1864), памешчык Навагрудскага пав. Хр. 23.04.1827. Да паўстання адстаўны калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Пазней яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля маніфесту аб частковай амністыі ад 17.05.1867, перасяліўся ў 1872 г. у г. Варшаву і запісаны ў склад яе сталых жыхароў. Пам. пасля 1874 г. *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 319—2—2498—114-128, 151-180 і інш.; 320—1—398—676адв., 679, 690-691; 2532—1—15—14).*

4567. **Пілецкі N.** (Пилецкий N.). Да паўстання з'яўляўся студэнтам. Западозраны рас. уладамі ў тым, што ад *Звяровіча Аляксандра* насіў паўстанцам у лес адзенне і харчаванне. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

4568. **Піліхоўскі Юзаф** (Пилиховский Иосиф), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195).*

4569. **Пілішэвіч Ян** (Пилишевич Ян), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Харошчы Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

4570. **Пілсудская Вольга** (Пилсудская Ольга), жонка *Юльюша*, маці *Казіміра*, памешчыца Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яе следчай справы разам з мужам выслана (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую ці Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. У 1869 г. жыла з мужам у Пскоўскай губ. (гл. *Пілсудскі Юльюш*) *(295—1—1989—3-5; 1430—1—52163—562; 2532—1—15—5адв.)*.

4571. **Пілсудскі Казімір** (Пилсудский Казимир), сын *Юльюша* і *Вольгі*, дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562)*.

4572. **Пілсудскі Казімір** (Пилсудский Казимир), сын Людвіка, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дзяганці Цельшаўскага ці Ковенскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

4573. **Пілсудскі Калікст** (Пилсудский Каликст), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5адв.)*.

4574. **Пілсудскі Юзаф** (Пилсудский Осип), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Памушве Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

4575. **Пілсудскі Юльюш** (Пилсудский Юлий), муж *Вольгі*, бацька *Казіміра*, памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы разам з жонкай высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую ці Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі ў 1869 г. жыў з жонкай у Пскоўскай губ., дзе атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем «Заходняга краю» *(295—1—1989—3-5; 1430—1—52163—562; 2532—1—15—5адв.)*.

**Пілуй Міхал** — гл. **Пілецкі Міхал**

4576. **Пільціцкі Пётр** (Пильцицкий Петр), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

4577. **Піляўскі Фердынанд** (Пилявский Фердинанд), «жыхар» Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1837 г. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.)*.

**Пінькевіч Пётр** — гл. **Пянкевіч Пётр**

4578. **Пісанка Антоні** (Писанко Антон). Да паўстання служыў станавым прыставам у Сакольскім пав., губернскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—540)*.

4579. **Пісанка Баніфацы** (Писанко Бонифаций), ксёндз. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.)*.

4580. **Пісанка Віктар** (Писанка Виктор), ксёндз. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 28.11.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ *(1418—3—1—57адв.-58)*.

4581. **Пісанка Караліна** (Писанко Каралина), дваранка Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Томскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.)*.

4582. **Пісанка Юзаф** (Писанко Иосиф), сын Войцеха, ксёндз. Нар. каля 1831 г. Да паўстання служыў у філіяльным касцёле ў в. Брадзец Ігуменскага пав. 23.04.1863 падчас праходжэння паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Сніткі Алаізія* праз Брадзец адслужыў паўстанцам імшу і далучыўся да іх. Праз 2 дні пакінуў атрад і схаваўся ў м. Бярэзіна Ігуменскага пав. 06.1863 з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны і адпраўлены ў г. Ігумен. Потым зня-

волены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 04.01.1864. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 24.05.1864 М. Крыжаноўскім, прысуджаны да пазбаўлення духоўнага сану, правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 8 гадоў. 19.06.1864 адпраўлены на месца ссылкі *(295—1—1616; 295—1—1643—179; 296—1—90—11адв.-12; 299—1—579—298-307; 319—1—479—24; 1430—1—52163—206адв.).*

4583. **Пісанка Юстын** (Писанко Устин), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—181адв.).*

4584. **Пісарскі (Станевіч) [Ян]** (Писарский (Станевич) [Ян]). Да паўстання жыў у Ковенскай губ. Служыў у рас. войску, меў чын афіцэра. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—24; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125).*

4585. **Піткевіч Аляксандр** (Питкевич Александр), шляхціц Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—24; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

4586. **Піткевіч (Пікта) Аляксандр** (Питкевич (Пикта) Александр), сын Антона, селянін. Да паўстання жыў у в. Крамушаўка Навагрудскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12адв.; 295—1—2725—9адв.).*

**Піткевіч Дамінік** — гл. **Пяткевіч Дамінік**

4587. **Піюра Аляксандр** (Пиоро Александр). Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам* і ў склад паўстанцкага атрада. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 11.02.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—12—1-1адв., 2, 3адв.-4; 3255—1—14—4адв.).*

4588. **Піюра Антоні** (Пиуро (Пиоро) Антон), сын Станіслава і Ганны Юзафаўны Любашчынскай, памешчык. Служыў на вайсковай службе больш за 10 гадоў, выйшаў у адстаўку з прычыны слабасці здароўя. У 1861 г. прызначаны міравым пасярэднікам у Аршанскім пав. Да паўстання валодаў маёнткам Пагосцішча Аршанскага пав. (1973 дзес. зямлі, 187 рэвізскіх душ, дом на 12 пакояў, суканавальня, карчма і інш., 7768 руб. доўгу). Падчас паўстання ў яго маёнтку знаходзіўся паўстанцкі атрад *Будзіловіча Ігната*, таму арыштаваны. Таксама падазраваўся рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. 14.05.1864 адпраўлены на месца ссылкі. Яго маёмасць канфіскавана. 07.1864 маці падала прашэнне аб палягчэнні пакарання, якое было адхілена *(319—1—479—25адв.; 1430—1—31602—193-196; 1430—1—52163—182адв.; 2001—2—171—20адв.-21, 39; 3255—1—12—1-1адв.; 3255—1—14—4адв.).*

4589. **Піюра Бенядыкт** (Пиюро Венедикт), сын Матэвуша, брат Юзафа, ксёндз. Нар. каля 1828 г., паходзіў з сялян Панявежскага пав. У 1840–1846 гг. вучыўся ў Панявежскім дваранскім вучылішчы, у 1846–1848 гг. — у Мінскай епархіяльнай семінарыі, у 1848–1852 гг. — у Санкт-Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі. У 1851 г. атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. У 1852–1855 гг. служыў вікарыем у касцёле ў м. Краслаўка Дынабургскага пав. У 1855 г. прызначаны выконваючым абавязкі пробашча касцёла ў м. Дагда Дынабургскага пав. У 1863 г. западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. У 1864 г. паводле канфірмацыі М. Мураўёва «пакінуты ў падазрэнні» і сасланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. пад нагляд паліцыі. Яго рухомая маёмасць (мэбля, хатні рыштунак, посуд, 39 кніг і інш.), ацэненая ў 53,99 руб. ср., на падставе ўказа ВГП ад 21.07.1864 апісана 20.08.1864 і секвестравана. Яго брат 27.06.1866 атрымаў яго рэчы. У 1871 г. вызвалены з-пад нагляду. Паводле ўказа Аляксандра III ад 22.02.1890 атрымаў права займаць любыя духоўныя пасады ў Магілёўскай архіепархіі. 05.04.1893 атрымаў дазвол жыць у пробашча касцёла ў г. Кранштадце *(1416—3—21048—41; 1430—1—31583—102-105; 1430—1—52163—194адв., 390адв., 402, 824; 1781—25—261—10; 2514—1—2144).*

4590. **Піюра Вінцэнт** (Пиюро Викентий), селянін Віцебскай (?) губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты на 4 гады *(1416—3—21048—40; 1430—1—52163—398).*

4591. **Піюра (Піёра) Марцін** (Пиуро (Пиоро) Мартын), сын *Яна* і Зоф'і Юзафаўны, дваранін Віцебскага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам

Віцебскага ДДС, яго бацька валодаў фальв. Снегіры Аршанскага пав., а маці сумесна з сястрой Разаліяй (v. Важынскай) — маёнткам Юдзіна Віцебскага пав. 23.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада *Будзіловіча Ігната*. Узяты ў палон у Аршанскім пав. і зняволены (да 18.06.1864) у г. Смаленску. 12.06.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 15.12.1863 падала яго справу смаленскаму губернатару. Знаходзіўся пад следствам у СмСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў. На маёнткі бацькоў 10.07.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 28.04.1863 накладзены секвестр, які хутка зняты з накладаннем забароны *(319—1—479—25; 1416—3—21048—39; 1430—1—31259—26-27адв., 41; 1430—1—52163—182, 424, 722; 2003—1—398; 2514—1—2198—69адв.; 3255—1—14—4адв.)*.

4592. **Піюра (Піёра) Станіслаў** (Пиоро Станислав), сын Станіслава, дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на карысць паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—63адв.-64; 3046—2—5—41)*.

4593. **Піюра (Піёра) Ян** (Пиоро Иван), сын Марціна, бацька *Марціна*, муж Зоф'і Юзафаўны, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў фальв. Снегіры Аршанскага пав. (120 дзес. зямлі без сялян, стары дом, гападарчыя пабудовы, фруктовы сад, капліца і інш., 59,2 руб. ср. гадавога прыбытку). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, у яго праведзены вобшук, падчас якога знойдзены «розныя рэчы і паперы падбухторнага зместу». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, 24.09.1863 яе пастановай прызнаны невінаватым і вызвалены ад адказнасці. Аднак 30.09.1863 ВСК падала рапарт віцебскаму губернатару, у якім вызначала яго як «прыцягвае падазрэнне». Паводле ўказа МагГП ад 25.09.1863 яго фальв. 28.11.1863 апісаны і секвестраваны, аднак ужо паводле ўказа МагГП ад 16.12.1863 секвестр здымаўся з накладаннем забароны за ўдзел у паўстанні сына *(1416—3—21048—39; 2003—1—398; 2514—1—2198—69адв.; 3046—2—3—63адв.-64; 3046—2—5—41)*.

4594. **Плавінскі Базыль** (Плавинский Василий), сын Гальяша (пам. 1850), дваранін Полацкага пав. 10.1863 здаў 2 старыя стрэльбы старшыні Абітаўскай сельскай грамады. 11.1863 арыштаваны прыставам 2 стана Полацкага пав. за тое, што не здаў стрэльбы самастойна раней, адасланы ў г. Віцебск. Аддадзены пад суд у ВВСК. Зняволены ў віцебскім турэмным замку, адкуль 25.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб вызваленні і вяртанні на месца жыхарства да жонкі і чатырох малагадовых дзяцей, якое 11.02.1864 было адхілена *(1416—4—11369—6адв.; 1430—1—31604—24-32)*.

4595. **Плавінскі Валяр'ян** (Плавинский Валериан), дваранін Аршанскага пав. Нар. каля 1816 г. 22(ці 24).04.1863 арыштаваны сялянамі, калі праязджаў па Аршанскім пав., па падазрэнні ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Яго маёмасць падлягала секвестру. На следстве сцвярджаў, што ехаў па сваіх патрэбах, не ведаючы пра дзеянні паўстанцаў, і доказаў для абвінавачання не было. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы. Маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15-22адв.; 2514—1—2198—69)*.

4596. **Плавінскі Геранім** (Плавинский Героним). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання жыў у г. Магілёве ў доме купца Эйдэльмана. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», за што яго рухомая маёмасць (мэбля, посуд і інш.) на 135,24 руб. ср. 01.06.1863 апісана і секвестравана. Улетку 1863 г. без суда і следства высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Кярсанаў Тамбоўскай губ. Паводле распараджэння МагГГ ад 15.08.1863 секвестр з маёмасці зняты *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2003—1—271)*.

4597. **Плавінскі Мікалай** (Плавинский Николай), сын Тэадора, дваранін Віцебскага пав., каталік. Уваходзіў у склад атрада пад камандаваннем *Будзіловіча Ігната*. Паранены падчас сутычкі ля м. Пагосцішча Аршанскага пав., дастаўлены ў бальніцу г. Віцебска (гл. *Цеханавецкая Кацярына*). Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 і ўказа ВГП ад 23.08.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 21.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—25; 320—1—398—575адв.; 1416—3—21048—39, 40; 1430—1—31602—108-110; 1430—1—52163—242адв., 425, 722адв.; 2003—1—433; 2616—1—40—60; 3046—2—3—62адв.-63; 3046—2—5—41)*.

4598. **Пласкавіцкі Канстанцін** (Пласковицкий Константин), сын Мікалая, дваранін Слуцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 17.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення

правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—28-30, 124адв.; 320—2—98—43адв.; 1430—1—52163—5966 адв.; 3257—2—2—28).*

4599. **Плаўскі Адам** (Плавский Адам), сын Вінцэнта, аднадворац Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1843 г. Валодаў 6 дзес. зямлі ў вак. Салаўі Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на службу ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—11; 1525—1—2—6адв.-7).*

4600. **Плаўскі Аляксандр** (Плавский Александр), дваранін Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—530адв.).*

4601. **Плаўскі Ігнат** (Плавский Игнатий), дваранін. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

4602. **Плаўскі Максімільян** (Плавский Максимилиан), сын Станіслава, дваранін. Да паўстання жыў у вак. Плаўскія Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3).*

4603. **Плаўскі Станіслаў** (Плавский Станислав), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42).*

4604. **Плаўскі Станіслаў** (Плавский Станислав), мешчанін г. Навагрудка. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—166адв.; 296—1—25—105; 319—1—479—25).*

4605. **Плаўскі Эдвард** (Плавский Эдуард), дваранін Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы ГГП ад 09.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—291).*

4606. **Плаўскі Эміль** (Плавский Емельян), дваранін Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў пад паліцэйскім наглядам у г. СПб, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі *(295—1—2149—17-18).*

4607. **Плаўскі Юзаф** (Плавский Иосиф), дваранін ці шляхціц. Да паўстання жыў у вак. Славуцічы Слонімскага пав. альбо вучыўся ў Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232, 275; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—166адв., 601адв.).*

4608. **Плаўскі Ян** (Плавский Иван), дваранін Гродзенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 15.07.1863 і пастановы ГГП ад 04.08.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Пастанову пра канфіскацыю ГГП выдала 22.12.1863 на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 30.09.1863 *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—125; 1416—6—212; 1430—1—52163—601).*

4609. **Плахоцкая Фартуната** (Плохоцкая Фортуната), дваранка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яе справу *(3257—2—8—12).*

4610. **Плескачэўскі Ігнат** (Плескачевский Игнатий), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

4611. **Пліскачэўскі (Плескачэўскі) Міхал** (Плискачевский (Плескачевский) Михаил), дваранін Магілёўскай (?) губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго следчая справа вялася ў ЧСК, якая 30.06.1863 падала яе магілёўскаму губернатару. Памёр падчас следства. Наконт канфіскацыі яго маёмасці 27.09.1863 справа перададзена ў МагВСК *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—25адв.; 2003—1—230; 3257—2—2—27; 3366—1—5—9).*

4612. **Пліскоўскі Войцех** (Плисковский Альберт), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—24).*

4613. **Плонскі N.** (Плонский N.). Да паўстання служыў у Клімавіцкім магістраце. Западозраны рас. уладамі ў дастаўцы пораху і свінцу паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 20.07.1863 падала яго справу на дапаўненне ваеннаму начальніку Клімавіцкага пав. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69адв.; 3366—1—5—9).*

4614. **Плюта Канстанцін** (Плюто Константин). Служыў настаўнікам гімназіі ў г. Беластоку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—615; 1430—1—52285—25адв.).*

4615. **Плюта Станіслаў** (Плюта Станислав). Да паўстання служыў сакратаром гарадской думы ў г. Беластоку, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Архангельскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—23).*

4616. **Плябанскі Францішак** (Плебанский Франц), сын Гераніма, купец 2 гільдыі, каталік. Абвінавачаны ў спачуванні паўстанцам і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—11адв.).*

4617. **Плявака N.** (Плевак N.), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42).*

4618. **Пляснярскі Антоні** (Плеснярский Антон), дваранін Аршанскага пав. ці Мінскай губ. альбо аднадворац Віленскага пав. Нар. каля 1833 г. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Утрымліваўся ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. Паводле распараджэння МагСК ад 27.08.1864 і ўказа МагГП ад 11.09.1864 яго маёмасць падлягала секвестру. МагСК 30.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць у выпадку секвестру да 1867 г. падлегла вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—436; 2514—1—2198—69адв.; 3257—1—17—10адв.-11; 3257—2—2—29; 3257—2—8—12).*

4619. **Плятэр Леан** (Плятер Леон), сын Аўгустына, брат Міхала, граф. Да паўстання сумесна з братам валодаў маёнткам Казанава Дынабургскага пав. (929 дзес. зямлі, 3 сады, 1552 руб. гадавога прыбытку). У паўстанні камандаваў атрадам, які дзейнічаў у Дынабургскім пав., у тым ліку разбіў рас. абоз са зброяй, які накіроўваўся з г. Дынабурга ў м. Краслаўка. Арыштаваны, зняволены ў Дынабургу. На Казанава 10.06.1863 накладзены секвестр. Прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 09.08.1863 Казанава падлягала раздзелу для канфіскацыі адной паловы ў казну і перадачы другой паловы брату ў валоданне. Чарговы раз пастанова пра канфіскацыю часткі Казанава выдадзена М. Мураўёвым 27.11.1863 *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—198; 1416—3—21048—39; 1430—1—31355—57; 1430—1—52163—3-7, 126адв., 215адв.-216, 230адв., 269-270, 389, 457, 567, 824; 2616—1—40—10адв.).*

4620. **Плятэр Людвік** (Плятер Людвиг), сын Казіміра, стрыечны брат Міхала Янавіча і Адама Станіслававіча, граф, памешчык. Да паўстання з'яўляўся дынабургскім павятовым маршалкам, сумесна са сваімі сваякамі валодаў, сярод іншага, маёнткамі Канстанцінопаль і Малая Індрыца (з фальв. Ізабелін) Дынабургскага пав. і Пустынь і Зарэчча Дрысенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. На Малую Індрыцу 09.08.1863 на падставе патрабавання ваеннага начальніка Віцебскай губ. ад 18.07.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Пустынь падлягала секвестру паводле ўказа ВГП ад 12.08.1864, аднак перададзена ў веданне ПДМ толькі пасля 01.10.1864, потым ёю кіраваў *Васілеўскі Вінцэнт (1416—3—21048—39адв.; 1430—1—52163—389; 1430—1—52285—5, 35, 42адв., 431, 457, 460, 567адв., 781-783, 823адв., 824).*

4621. **Плятэр Міхал** (Плятер Михал), граф, памешчык Віленскай губ. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—24; 320—1—398—221адв.; 3046—2—5—41адв.).*

4622. **Плятэр Міхаліна** (Плятер Михалина), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19).*

4623. **Плятэр Эдвард** (Плятер Эдуард), сын Людвікі, муж Стэфаніі, граф, памешчык Дынабургскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што 24.12.1863 на яго і сям'і маёмасць накладзены секвестр, які зняты паводле распараджэння М. Мураўёва ад 27.03.1864 *(1416—3—21048—39адв.; 1430—1—52163—567)*.

4624. **Плятэр Яўген** (Плятор Евгений), граф. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42)*.

4625. **Пляханаў Васіль** (Плеханович Василий), селянін. Да паўстання служыў вазніцам у *Лісоўскага Якуба*. Падчас паўстання даў коней *Ваљкоўскаму Цыпрыяну*, за што трапіў пад следства. Яго справа вялася ў ДСК, якая прызначыла яго да «адміністрацыйнага спагнання». Рашэннем ваеннага начальніка інфляндскіх паветаў ад 25.01.1864 прызначаны да вытрымання ў турэмным замку на працягу 3 месяцаў і потым вяртання на месца жыхарства. 18.02.1864 зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі *(1430—1—31602—141-144)*.

4626. **Полацкі Вінцэнт** (Полоцкий Винцентий), сын Ігната, мешчанін ці селянін Ашмянскага пав., каталік. Нар. каля 1837 г. Да паўстання жыў у м. Сваятычы Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі у Яраслаўскую арыштанцкую роту на 2 гады *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв., 348; 1524—1—1—11; 1525—1—2—7адв.-8)*.

4627. **Полацкі Юзаф** (Полоцкий Осип), сын Станіслава, селянін. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(1418—4—1)*.

4628. **Поль Юзаф** (Полль Иосиф). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. як «палітычны ссыльны» жыў у Вяцкай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—114)*.

**Прабароўскі Вітальд** — гл. **Прыбароўскі Вітальд**

4629. **Прабылоўскі Станіслаў** (Пржебыловский Станислав). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69)*.

4630. **Прабыльскі Станіслаў** (Пржебыльский Станислав), сын Мацея, дваранін Віленскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69)*.

4631. **Прабыльскі Юльян** (Пшебыльский Юлиан), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Высокі Двор Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—24; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

4632. **Правальскі Дзяменці** (Пржевальский Дементий), дваранін Аршанскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Будзіловіча Ігната*, узяты ў палон. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 15.12.1863 падала яго справу смаленскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—25адв.; 1430—1—52163—182адв.; 3255—1—14—4адв.)*.

4633. **Правілаў Аляксандр** (Правилов Александр), мешчанін г. Віцебска. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—25; 1430—1—52163—182, 396; 2514—1—2198—69)*.

4634. **Прага Юзаф** (Прага Иосиф), сын обер-афіцэра Яна. Да паўстання служыў памочнікам кантралёра Мінскай казённай палаты, губернскі сакратар. Жыў у г. Мінску. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МВСК, дзе сцвярджаў, што далучыўся да паўстання ў выніку пагроз *Сушчэвіча Юльяна*. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Сасланы ў Табольскую губ. *(295—1—1643—170адв., 175адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—124адв., 247, 424; 320—2—98—43адв.; 1527—1—4—131; 1430—1—52163—596б адв.)*.

4635. **Прадпельскі Аляксандр** (Пржедпельский Александр), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Самарскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—28)*.

4636. **Празаровіч Вінцэнт** (Прозорович Викентий), сын Яна, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай грамады Навагрудска-

га пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, потым добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Не прыняты сваёй сельскай грамады, з-за чаго паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 28.03.1864 адпраўлены ў г. Маскву ў распараджэнне МУС *(295—1—1645; 295—1—2725—31адв.)*.

4637. **Празаровіч Францішак** (Прозорович Франц), сын Андрэя Юзафавіча і Антаніны, селянін, каталік. Нар. каля 1845 г. у в. Паручын Навагрудскага пав. Каля 1859 г. пераведзены ў маёнтак Вышова Мсціслаўскага пав. *Цеханавецкага Ігната*, потым аддадзены ў м. Крычаў Чэрыкаўскага пав. для навучання ў фельчара Мянькова, пасля аддадзены ў навагрудскую бальніцу для працягу навучання, дзе прабыў 3 гады. 01.1863 вярнуўся ў маёнтак Вышова на службу. 22.04.1863 пакінуў Вышова і разам з *Балбашэўскім Рамуальдам* і некалькімі людзьмі выйшаў у Крычаў. 25.04.1863 схоплены разам з *Кавалеўскім Юзафам* у Крычаве сялянамі і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пададзена МагВГ, 07.12.1863 адпраўлена на даследаванне ў МагСК і 18.01.1864 пададзена зноў МагВГ. 21.12.1863 адпраўлены з Чэрыкава ў г. Магілёў. Па выніках следства пакінуты ў «моцным падазрэнні» ва ўваходжанні у крычаўскі паўстанцкі атрад і прызначаны да ссылкі на пасяленне на казённых землях у адну з «унутраных губерняў». 11.04.1864 высланы ў г. Маскву ў распараджэнне МУС, потым адпраўлены на пасяленне ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1875 жыў у в. Начараўская Пакроўскай вол. Каінскай акругі Томскай губ. У гэтым жа годзе яго маці падала прашэнне аб дазволе яму вярнуцца на радзіму, якое было задаволена *(295—1—2765; 2001—1—900; 2001—2—126—11-12, 40-44адв.; 2514—1—2198—69адв.; 3257—2—8—12; 3366—1—5—9)*.

4638. **Пракаповіч Вінцэнт** (Прокопович Викентий), сын Юзафа, памешчык, каталік. Нар. каля 1814 г. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага сакратара. Да паўстання сумесна з братамі валодаў 60 дзес. зямлі ў Дзісенскім пав. Абвінавачаны рас. уладамі ў тым, што прыняў прысягу на адданасць «Рэвалюцыйнаму Камітэту», а таксама ў тым, што паведаміў *Пятроўскаму Юзафу*, *Бахаловічу Станіславу* і *Корсаку Антонію* пра планаваныя іх арышты. Арыштаваны (да 29.05.1863) (гл. *Пятроўская Ізабэла*). Падчас вобшуку ў яго знойдзены 4 пісталеты, порах і «цэлая скрыня рэвалюцыйных брашур, гімнаў і вершаў». 30.07.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да ссылкі на сталае жыхарства ў Табольскую губ. Таксама належала спагнаць грашовы штраф і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру. 26.01.1865 ВГП выдала адпаведную пастанову *(1416—3—21048—39; 1416—4—11416—184-212; 1430—1—52163—15, 393; 3046—2—3—60адв.-62; 3046—2—5—41)*.

4639. **Пракаповіч Ігнат** (Прокопович Игнатий), сын Антонія, дваранін Рэжыцкага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і адпраўлены ў г. Дынабург. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Сасланы ў Пермскую губ., на яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—40адв.; 1430—1—31307—116; 1430—1—52163—150адв., 422)*.

4640. **Пракаповіч Казімір** (Прокопович Казимир). Паходзіў са Свянцянскага пав. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.; 1527—1—4—12адв.)*.

4641. **Пракаповіч Мікалай** (Прокопович Николай), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі 20 дзес. зямлі ў вак. Французская Грэбля. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 14.01.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 23.01.1864. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—184адв.; 296—1—90—12адв.-13; 299—1—579—298-307; 319—1—479—25; 1418—3—1—59адв.-60; 1430—1—52163—206)*.

**Пракаповіч Сільвестр** — гл. **Жыгала Сымон**

4642. **Пракаповіч Фердынанд** (Прокопович Фердинанд), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам бернардзінскага кляштара ў м. Датна Ковенскага пав. (гл. *Кавалеўскі Вінцэнт*). За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру

*(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

4643. **Пракаповіч Ян** (Прокопович Иван), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—149; 2532—1—15—11).*

4644. **Пралевіч Зыгмунт** (Пролевич Сигизмунд), дваранін Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

4645. **Праневіч (Пруневіч) Людвік** (Проневич (Пруневич) Людвиг), зяць *Адынца Напалеона*, дваранін Кальварыйскага пав. Аўгустоўскай губ. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.10.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—176; 295—1—1527—76; 295—1—1643—172).*

4646. **Праневіч Францішка** (Проневич Францишка), дваранка, манашка-каталічка. Выкладала ў г. Вільні ў пансіёне Зоф'і Дамброўскай. Запрошана дачкой памешчыка Аляксандра Горвата ў г. Мазыр, дзе да паўстання разам з *Радзевіч Антанінай* утрымлівала прытулак для васьмі дзяўчатак-каталічак. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага 16.03.1863 выселена з Мазыра, адправілася ў маёнтак Барабароў Рэчыцкага пав. А. Горвата. Прытулак як «самая злашкодная польская прапаганда і рассаднік злейшых ворагаў Расіі» зачынены *(296—1—17).*

4647. **Пранеўскі Казімір** (Проневский Казимир), сын Ежы, муж Юліі Янаўны Хруцкай, бацька двух дзяцей, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1800 г. Служыў чыноўнікам, калежскі рэгістратар. Яго жонка валодала абцяжаранымі даўгамі маёнткамі Хатысцы (каля 300 дзес. зямлі) і Баболіна (199 дзес.) Полацкага пав. Падчас паўстання западозраны ў «распаўсюджанні шкодных думак сярод розных асоб» і 10.1863 арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда 14(ці 29).02.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. 11.03.1864 прыбыў у г. Варонеж. Паселены ў г. Ніжнядзевіцк Варонежскай губ., дзе 21.03.1864 і 12.06.1864 падаваў прашэнні аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. Жонка ў г. Полацку 08.1865 падала прашэнне аб вяртанні яго на месца жыхарства, якое было адхілена. У 1873 г. атрымаў дазвол вярнуцца з Варонежа ў Віцебскую губ. *(296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—40адв.; 1430—1—31583—106-115; 1430—1—31602—162-166, 206-207; 1430—1—35458—10-12; 1430—1—52163—407, 573адв., 608адв.; 1430—1—52285—59; 3046—2—3—65адв.-66; 3046—2—5—41адв.).*

4648. **Пранеўскі [Юзаф]** (Проневский [Иосиф]), дваранін. Да паўстання служыў пісарам Шчаўроўскага валаснога праўлення Сенненскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе і ў «крадзежы грамадскіх грошай». З 22.05.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК. 03.–10.1864 яго месцазнаходжанне не было вядома рас. уладам. МагСК 25.08.1864 скончыла яго справу і падала яе магілёўскаму губернатару *(2001—2—124—15; 2514—1—2198—69адв.; 3257—1—14—5адв.-6; 3257—1—17—2адв.-3; 3257—2—8—12).*

4649. **Прантніцкі Эдвард** (Пронтницкий Эдуард), дваранін. Да паўстання жыў у фальв. Свецішкі Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

4650. **Прасецкі (Прысецкі) Ігнат** (Пржесецкий (Пржисецкий) Игнатий), сын Антонія, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў тым, што знаходзіўся разам з паўстанцамі падчас фарміравання атрада ля м. Бешанковічы Лепельскага пав. Быў пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—66адв.-67; 3046—2—5—41адв.).*

4651. **Прасецкі (Прысецкі) Караль** (Пржесецкий (Пржисецкий) Карл), сын Марцэлія, брат *Рудольфа* і *Цыпрыяна*, дваранін Лепельскага ці Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1834 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. Да паўстання жыў з бацькам у маёнтку Янавіль Полацкага пав. Падчас паўстання западозраны разам з братамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав. 26.04.1863 разам з *Рудольфам*, *Адамовічам Антоніем* і *Спасоўскім Damінікам* арыштаваны ў маёнтку Саннікі Лепельскага пав., куды прыехаў да брата. Разам з згаданымі, а таксама з *Вышамірскай Стэфанідай* і *Спасоўскай Марыяй* знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 17.01.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму

губернатару. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 18.01.1864 яго маёмасць падлягала секвестру. У сувязі з тым, што на следстве і судзе не прызнаў абвінавачванняў і доказаў для іх не хапала, пастановай ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 23.04.1865 А. Патапавым, прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства на парукі і пад строгі нагляд паліцыі, з яго маёмасці належала спагнаць узмоцнены 20-працэнтны збор, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—40адв.; 1430—1—31602—48-51; 3046—2—3—64адв.-65; 3046—2—5—41)*.

4652. **Прасецкі (Прысецкі) Рудольф** (Пржесецкий (Пржисецкий) Рудольф), сын Марцэлія, брат *Караля* і *Цыпрыяна*, дваранін Лепельскага ці Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1828 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Да паўстання жыў у маёнтку бацькі Саннікі Лепельскага пав. Падчас паўстання западозраны разам з братамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав. 26.04.1863 разам з *Каралем*, *Адамовічам Антоніем* і *Спасоўскім Дамінікам* арыштаваны ў Санніках. Разам з згаданымі, а таксама з *Вышамірскай Стэфанідай* і *Спасоўскай Марыяй* знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 17.01.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 18.01.1864 яго маёмасць падлягала секвестру. У сувязі з тым, што на следстве і судзе не прызнаў абвінавачванняў і доказаў для іх не хапала, пастановай ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 23.04.1865 А. Патапавым, прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства на парукі і пад строгі нагляд паліцыі, з яго маёмасці належала спагнаць узмоцнены 20-працэнтны збор, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—40адв.; 1430—1—31602—48-51; 3046—2—3—64адв.-65; 3046—2—5—41)*.

4653. **Прасецкі (Прысецкі) Цыпрыян** (Пржесецкий (Пржисецкий) Каприан (Киприян)), сын Марцэлія, брат *Караля* і *Рудольфа*, дваранін Лепельскага ці Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1825 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання жыў у маёнтку бацькі Заграддзе Лепельскага пав. Падчас паўстання западозраны разам з братамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав. 28.04.1863 адправіўся ў г. Віцебск падаць скаргу губернатару пра несправядлівы арышт братоў, у хуткім часе пасля гэтага арыштаваны паводле даносу селяніна Яна Васільева. Разам з *Адамовічам Антоніем*, *Вышамірскай Стэфанідай*, *Спасоўскімі Дамінікам* і *Марыяй* знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 17.01.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 18.01.1864, яго маёмасць падлягала секвестру. У сувязі з тым, што на следстве і судзе не прызнаў абвінавачванняў і доказаў для іх не хапала, пастановай ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 23.04.1865 А. Патапавым, прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства на парукі і пад строгі нагляд паліцыі, з яго маёмасці належала спагнаць узмоцнены 20-працэнтны збор, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—40адв.; 1430—1—31602—48-51; 3046—2—3—63адв.-64; 3046—2—5—41адв.)*.

4654. **Прасмыцкі Палікарп** (Пржесмыцкий Поликарп), муж Камілы. Служыў чыноўнікам Дынабургскай камісіі, калежскі асэсар. Западозраны ў «нядобранадзейнасці» і паводле распараджэння М. Мураўёва да 15.01.1864 сасланы ў Тамбоўскую губ.[134] На пачатку 1865 г. жонка падала прашэнне аб пераводзе яго з г. Спаска Тамбоўскай губ. у г. Елацьму, каб мець «большую магчымасць да пераезду на сумеснае жыхарства з мужам», але атрымала адмову з прычыны, што «г. Елацьма не знаходзіцца ў лічбе мясцовасцей, прызначаных для сканцэнтравання высланых пад нагляд польскіх ураджэнцаў» *(1416—3—21048—39адв.; 1430—1—31898; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44)*.

4655. **Прасмыцкі Станіслаў** (Пржесмыцкий Станислав), сын Антонія, сваяк *Пярота Станіслава*, памешчык Сенненскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны і зняволены. Прызнаны (да 18.06.1863) невінаватым, і гэтае заключэнне пададзена на канфірмацыю М. Мураўёву. Пазней высланы (да 15.01.1864) на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2003—1—287; 2514—1—2198—69)*.

4656. **Прасмыцкі Уладзіслаў** (Пржесмыцкий Владислав), памешчык Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—9адв.)*.

4657. **Прастанскі Аляксандр** (Пржестанский Александр). Да паўстання служыў лекарам павятовага вучылішча ў г. Расіенах, тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай

---

[134] У адным з дакументаў згадваецца, што быў сасланы ў Арэнбургскую губ., але, верагодна, гэта памылка.

нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15).*

4658. **Пратасевіч Міхал** (Протосевич Михаил), сын Юзафа, сялянін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай грамады Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага сасланы ў Сібір. З Мінска высланы ў г. Маскву *(295—1—2420—10; 295—1—2725—31адв.; 296—1—19—281).*

4659. **Пратасевіч Ян** (Протасевич Иван), сын Якуба, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—12).*

4660. **Пратасевіч N.** (Протасевич N.), дваранін. Падчас паўстання ездзіў па вёсках і маёнтках Навагрудскага пав. і чытаў мясцовым жыхарам паўстанцкія кнігі і брашуры. Каля 20.03.1863 арыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Навагрудку. Памёр падчас следства 26.04.1863 у навагрудскай бальніцы «ад параліча мозгу» *(296—1—18—3-5, 21-23).*

4661. **Праўлоцкі Захар** (Пржевлоцкий Захарий), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

4662. **Працішэўскі Адам** (Пржецишевский Адам), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі. за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—75; 1430—1—52285—10; 2532—1—15—5адв.).*

4663. **Працішэўскі Геранім** (Пржецишевский Иероним (Героним)), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. альбо высланы ў Пермскую губ., а яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—224; 2532—1—15—5адв.).*

4664. **Працішэўскі Канстанцін** (Пржецишевский Константин), сын Рафала, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне капітана. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам 3 участка Расіенскага пав., валодаў маёнткам у в. Жары Цельшаўскага ці Расіенскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16; 2532—1—15—5адв.).*

4665. **Працішэўскі Станіслаў** (Пржецишевский Станислав), сын Алаізія, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1821 г. Да паўстання арандаваў маёнтак Боршчыцы Цельшаўскага пав. Абгавораны *Вайчулісам N.* і *Радапусам N.* у дапамозе першаму з іх у агітацыі сялян Боршчыцаў удзельнічаць у паўстанні. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Канфірмацыяй А. Патапава ад 19.04.1865 апраўданы, а яго маёмасць вызвалялася ад секвестру, аднак як «пакінуты ў падазрэнні» вяртаўся на ранейшае месца жыхарства на «цалкам добранадзейныя» парукі і пад строгі нагляд паліцыі *(1416—4—11416—256, 277-282).*

4666. **Працэвіч Караль** (Процевич Карл), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

4667. **Прашкоўскі (Прушкоўскі) Міхал** (Прошковский (Прушковский) Михаил), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Горды Шавельскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля пэўны час хаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.).*

4668. **Прашынскі Станіслаў** (Прошинский Станислав), памешчык. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» у 1863 г. прызначаны да высылкі з Мінскай губ. *(295—1—1643—173адв.).*

4669. **Прозар Адам** (Прозор Адам), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да следчай справы па

паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—201адв.; 2532—1—15—2).*

4670. **Прозар Мечыслаў** (Прозор Мечислав), памешчык. У 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС за «садзейнічанне мяцежнікам і складанне злачыннага адраса і інш. злачынствы» *(295—1—1643—172адв., 184).*

4671. **Прохараў**[135] **Восіп** (Прохоров Осип), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—9).*

4672. **Прохараў**[136] **Юльян** (Прохоров Ульян), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—12).*

**Пруневіч Людвік** — гл. **Праневіч Людвік**

**Прус-Жукоўскі Баляслаў** — гл. **Жукоўскі Баляслаў**

**Прус-Жукоўскі Ян** — гл. **Жукоўскі Ян**

4673. **Прушак Юзаф** (Прушак Иосиф), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573).*

4674. **Прушаноўскі Ян** (Прушановский Иван). Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.).*

4675. **Прушынская Анеля** (Прушинская Анеля), дачка *Людвіка*, сястра *Іпаліта*. Выслана (да 01.06.1864) з бацькам і братам «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52285—21адв.).*

4676. **Прушынскі Антоні** (Прушинский Антон (Антоний)), бацька *Антонія*, памешчык Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(162—1—122—10; 1430—1—52285—7).*

4677. **Прушынскі Антоні** (Прушинский Антон), сын *Антонія*, муж Пелагеі, бацька Конрада, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў фатаграфічнай майстэрняй у г. Мінску (гл. *Цюндзявіцкі Міхал-Іаахім*). За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 01.05.1863), загадам М. Мураўёва ад 17.05.1863 аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 28.11.1863 МГП загадала Мінскаму гарадскому паліцэйскаму ўпраўленню канфіскаваць яго майстэрні. У ссылку з ім выправілася жонка з сынам. Сын, які прыбыў у ссылку ў 13 гадоў, у 1868 г. атрымаў дазвол на пераезд у г. Варшаву для працягу навучання, 08.1868 часова прыбыў у Мінскую губ. *(162—1—116—10; 295—1—1545—40-40адв., 43; 295—1—1643—176; 295—1—1909; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—124, 234адв.; 1430—1—52163—596б).*

4678. **Прушынскі Іпаліт** (Прушинский Ипполит), сын *Людвіка*, брат *Анелі*. Высланы (да 01.06.1864) з бацькам і сястрой «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52285—21адв.).*

4679. **Прушынскі Караль** (Прушинский Карл), сын Станіслава, памешчык, каталік. Нар. каля 1793 г. Да паўстання валодаў маёнткам Каралішчавічы Ігуменскага пав., у яго на службе знаходзіўся *Крушынскі Вінцэнт*. 07.06.1863 знаходзіўся ў г. Мінску разам са сваім слугой. Западозраны ва ўдзеле ў падрыхтоўцы паўстання, у сувязі з гэтым 20.06.1863 арыштаваны і зняволены ў пабернардзінскім будынку ў Мінску. У яго маёнтку праведзены вобшук, падчас якога знойдзена стрэльба, але меў на яе дазвол ЧВГМГ ад 28.02.1862. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая не знайшла доказаў віны. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага 29.06.1863 вызвалены *(295—1—1586).*

4680. **Прушынскі Людвік** (Прушинский Людвиг), бацька *Анелі* і *Іпаліта*, памешчык Мінскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з сынам і дачкой «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—182, 183; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.; 2532—1—15—13).*

4681. **Прушынскі Цэзар** (Прушинский Цезарий), памешчык Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7).*

---

[135] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[136] Тое ж.

4682. **Прушынскі Юзаф** (Прушинский Иосиф), сын Антонія, мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады. 25.08.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(319—1—479—24; 1416—4—11416—131, 174-175адв.; 1430—1—52163—521).*

4683. **Прушынскі N.** (Прушинский N.). Да паўстання з'яўляўся фельчарам г. Кобрына. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

4684. **Прыалгоўскі Адольф** (Пржиалговский Адольф). Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскага павятовага суда. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9).*

**Прыалгоўскі Антоні** — гл. **Прыалкоўскі Антоні**

4685. **Прыалгоўскі Зянон** (Пржиалговский Зенон). Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскага павятовага суда. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9).*

4686. **Прыалгоўскі Сільвестр** (Пржиалговский Сельвестр). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562).*

4687. **Прыалкоўскі (Прыалгоўскі) Антоні** (Пржиалковский (Пржиелговский) Антоний), сын Антонія, дваранін Ковенскай губ., ксёндз. Нар. каля 1840 г. Вучыўся ў Магілёўскай рымска-каталіцкай семінарыі. Пасля заканчэння вучобы, у 1862 г. рукапакладзены ў сан ксяндза і накіраваны на службу вікарыем у касцёл м. Шклова Магілёўскага пав. 21.04.1863 выправіўся ў в. Рымінка Чавускага пав. для пахавання. 23.04.1863 разам з *Сіпайлам Вінцэнтам* выехаў з фальв. Бабчына Магілёўскага пав. у паўстанцкі атрад, да якога далучыўся ў в. Палыкавічы Магілёўскага пав. Служыў для паўстанцаў імшу ў Палыкавічах. Пасля гэтага выправіўся з атрадам у в. Бураўшчына Магілёўскага пав., дзе таксама служыў імшу. Пасля разбіцця і рассеяння атрада схаваўся ад рас. уладаў. Яго рухомая маёмасць канфіскавана і прададзена. Праз Смаленскую губ., г. Маскву, Разань, Тамбоў, Саратаў уцёк у г. Астрахань. Затрыманы 16.06.1865 у с. Княжава Астраханскай губ. Спачатку на допытах хаваў сваё імя і называўся астраханскім мешчанінам Міхайлам Антонавым, маскоўскім валацугам, варшаўскім мешчанінам, але потым сазнаўся і даў паказанні. Пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 10.04.1867 Э. Баранавым, прысуджаны да пазбаўлення сану і правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(1781—2—5602—1; 2001—2—124—14; 2001—2—185; 2001—2—186; 2514—1—2198—69адв.).*

4688. **Прыбалоўскі Андрэй** (Пржиболовский Андрей), сын Антонія, дваранін Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў «палітычных злачынствах», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—11).*

4689. **Прыбароўскі (Прабароўскі) Вітальд (Віктар)** (Пржиборовский (Пржеборовский) Витольд (Виктор)). Да паўстання служыў гарадавым доктарам у г. Дынабургу. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства паводле распараджэння М. Мураўёва сасланы (да 07.09.1863) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў г. Пермь. У 1880 г. служыў гарадавым доктарам г. Ніжняга Ноўгарада; калежскі радца. 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ. *(295—1—3372—22-23; 1416—3—21048—39адв.; 1430—1—31259—105, 115, 140; 1430—1—31355—92-93, 96-97; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44, 58; 1430—1—52758—34).*

4690. **Прыбора Адэля** (Пржибора Аделия), жонка *Канстанціна*, памешчыца. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана з мужам на жыхарства ў Пензенскую губ. Маёнтак Красналукі Барысаўскага пав., якім яна валодала разам з мужам на правах суспадчынніцы, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 10.02.1864. У 1871 г. жыла з мужам у Пензенскай губ., дзе атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(162—1—116—166; 295—1—1643—175адв.; 296—1—89—8адв.; 1430—1—35146—101; 1430—1—52285—30).*

**Прыбора Анеля** — гл. **Галаўня Анеля**

4691. **Прыбора Канстанцін** (Пржибора (Пржыбор) Константин), сын Фелікса, муж *Адэлі*, сваяк *Міхала*, памешчык. Нар. каля 1825 г. Западозраны ў дапамозе паўстанцам і выкліканы на следства. Потым арыштаваны і 28.04.1863 зняволены на гаўптвахце ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго частка маёнтка Красналукі Барысаўскага пав., якім ён валодаў разам з братамі і сёстрамі на правах суспадчынніка, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 10.02.1864 (альбо ўказа МГП ад 18.03.1864). Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў з жонкай у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(162—1—116—166; 295—1—1527—55адв., 55адв., 108; 295—1—1643—170адв., 175адв.; 296—1—89—8адв., 44адв., 69адв.; 1430—1—35146—101; 1430—1—52285—30; 2532—1—15—13адв.).*

4692. **Прыбора Міхал** (Пржибора (Пржибор) Михаил), сваяк *Канстанціна*, памешчык Барысаўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёнтак Красналука, якім ён валодаў на правах суспадчынніка (альбо маёнтак Ірэнева Барысаўскага пав.), секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 05.04.1864. Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(162—1—116—166; 295—1—1643—175адв.; 296—1—25—109адв.; 296—1—89—9, 44адв., 70; 1430—1—52163—616адв.; 2532—1—15—13адв.).*

4693. **Прыбылоўскі Канстанцін** (Пржибыловский Константин), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—69адв.).*

4694. **Прыбылоўскі Цыпрыян** (Пржибыловский Киприян), сын памешчыка Сенненскага пав. Андрэя, каталік. Забіты 24.04.1864 у г. Горках. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—25адв.; 2001—2—124—4-4адв.; 2003—2—96—7; 3257—2—2—28).*

4695. **Прыбыльскі Францішак** (Пржибыльский Франц), прускі падданы. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. як «палітычны ссыльны» на падставе маніфеста ад 25.05.1868 высланы з Рас. імперыі *(1430—1—35834—96).*

4696. **Прыгіцкі Міхал** (Пржигицкий Михаил), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101; 319—1—479—24; 1430—1—52163—154).*

4697. **Прыгодскі Эдмунд** (Пржигодский Эдмунд), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1879 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—34).*

4698. **Прыемскі Фелікс** (Пржиемский Феликс), аднадворац Свянцянскага (?) пав. Паводле даносу *Жагялоўскага Уладзіслава* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280).*

**Прысецкі Ігнат** — гл. **Прасецкі Ігнат**

**Прысецкі Караль** — гл. **Прасецкі Караль**

**Прысецкі Рудольф** — гл. **Прасецкі Рудольф**

**Прысецкі Цыпрыян** — гл. **Прасецкі Цыпрыян**

4699. **Прытульскі Ян** (Пржитульский Иван), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111адв., 573адв.).*

4700. **Прэйс Караль** (Прейс Карл). Да паўстання вучыўся ў ВНУ. За «спачуванне мяцежнікам» арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—171адв.).*

4701. **Пстроцкі Юзаф** (Пстроцкий Иосиф), сын Яна, дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля хаваўся ад рас. уладаў. З 11.1863 разам з *Канапацкім Базылём* жыў ля м. Талачын Аршанскага пав. 11.08.1864 добраахвотна з'явіўся да ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 18.01.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылцы ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(160—2—682—74; 162—1—122—16; 534—1—14—26; 2001—2—130).*

4702. **Пугачэўскі Канстанцін** (Пугаческий Константин), шляхціц Гродзенскай (?) губ. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—*

*1—25—88адв.; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.).*

4703. **Пудзіновіч (Пудзіковіч) Павел** (Пудзинович (Пудзикович) Павел), аднадворац Капыскага пав. Да паўстання служыў пісарам маёнтка графа Вяльгорскага. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, сфарміраванага *Кульчыцкім Баляславам* і разбітага 24.04.1863 на мяжы Дрысенскага і Себежскага пав., трапіў у палон. Пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 29.07.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскія арыштанцкія роты на 4 гады *(319—1—479—25; 320—1—398—127адв.; 1416—3—21048—40; 1430—1—52163—422, 597адв.; 2003—1—434—2; 2616—1—40—14адв.).*

4704. **Пужэўскі Юзаф** (Пужевский Иосиф), дваранін. Да паўстання служыў аканомам у *Мілеўскага Станіслава.* За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

4705. **Пузіноўскі Караль** (Пузиновский Карл), сын Казіміра, дваранін Слуцкага пав., каталік. «За легкадумныя выразы перад сялянамі» арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—11).*

4706. **Пузыня Адольф** (Пузыно Адольф), дваранін. Да паўстання жыў у засц. Пагарэльшчына Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—128; 1416—3—21048—40; 1430—1—52163—603).*

4707. **Пузыня Францішак** (Пузыно Франц), сын Якуба, дваранін. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Сукнішкі Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

4708. **Пузырэвіч Францішак** (Пузыревич Франц), сын Андрэя, селянін. Да паўстання прыпісаны да Паручынскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—30адв.).*

4709. **Пульяноўскі Напалеон** (Пульяновский Наполеон), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» альбо пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 ці на 6 гадоў *(319—1—479—24; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.; 1430—1—52285—7адв.).*

4710. **Пуслоўскі Адам** (Пусловский Адам), сын Яна і Эвеліны Адамаўны, дваранін Навагрудскага пав. Нар. каля 1842 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце, адкуль у 09.1862 выехаў у Кракаўскі ўніверсітэт. 01.1863 вярнуўся ў маёнтак Сенна Навагрудскага пав. (437 рэвізскіх душ муж. полу, 2064 дзес. зямлі) сваіх бацькоў. 06.04.1863 разам з некалькімі сялянамі з Сенны далучыўся ў якасці аднаго з камандзіраў да атрада ксяндза *Лашкевіча Феліцыяна* ў Навагрудскім пав., у які ўваходзілі *Багдановіч Ян*, *Баранцэвіч Ксаверы*, *Берасневіч Яўген*, *Букрэеў Андрэй*, *Валюк Пракоп*, *Гарэла Рыгор*, *Гнусевіч Адам*, *Грыцкевіч Каятан*, *Дабашынскі Рыгор*, *Жвірздоўскі Геранім*, *Жылка Раман*, *Захараў Раман*, *Іваноўскі Эдмунд*, *Карквіль Караль*, *Каролька Аляксандр*, *Карповіч Юзаф*, *Івач Юзаф*, *Кірко Ксаверы*, *Лаппо Пётр*, *Максімовіч Юзаф*, *Пагоўскі Фелікс*, *Свянціцкі Уладзіслаў*, *Сяноцкі Караль*, *Трушынскі Ксаверы*, *Урублеўскі Антоні*, *Фурс Фларыян*, *Шпігальскі Ян* і інш. 07.04.1863 схоплены рас. войскамі падчас бою каля м. Налібокі Ашмянскага пав. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.06.1863 прысуджаны да расстрэлу і канфіскацыі маёмасці. 26.06.1863 публічна расстраляны ў г. Навагрудку. На маёнтак Сянно накладзена забарона *(295—1—1537—5-5адв.; 295—1—1562—16адв.; 295—1—1565; 295—1—1585—1адв.; 295—1—1643—169, 176адв.; 296—1—29б; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—124, 234адв., 250, 423; 320—2—98—44; 320—2—99—53; 1430—1—52163—596б).*

4711. **Пуслоўскі Станіслаў** (Пусловский Станислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Элеанораўка Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207).*

4712. **Пуслоўскі Цітус** (Пусловский Тит), памешчык Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12адв.; 2532—1—15—7адв.).*

4713. **Путвінскі Аляксандр** (Путвинский Александр), сын Людвіка, ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла Св. Антонія ў г. Віцебску. 20.05.1863 прачытаў казанне, якое было вызначана рас. уладамі як «у праціўным духу», за што 22.05.1863 арыштаваны. У яго доме праведзены

вобшук. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 12.08.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі «ў аддаленыя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру. Сасланы (да 26.11.1863) у Арэнбургскую губ. *(1416—3—21048—39; 1430—1—31355—125-125а; 1430—1—52163—395адв.; 1430—1—52285—6, 42; 1781—2—5602—30; 3046—2—3—62адв.-63; 3046—2—5—41).*

4714. **Путвінскі Рафал** (Путвинский Рафаил), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Граўжаны Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—24; 320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

4715. **Путрамент Францішак** (Путрамент Франц), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—6).*

4716. **Пухальскі Казімір** (Пухальский Казимир), сын Юзафа. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску. Западозраны рас. уладамі ў тым, што знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 17.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—64адв.-65; 3046—2—5—41адв.).*

4717. **Пуцілоўскі (Пуцылоўскі) Людвік** (Пуциловский (Пуцыловский) Людвиг), шляхціц Віленскай (?) губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24; 1416—4—11416—119адв.; 1430—1—52163—375адв.).*

4718. **Пуцілоўскі N.** (Пуциловский N.). Да паўстання служыў настаўнікам 1-га класа Ігуменскага прыходскага вучылішча. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» у 1864 г. звольнены са службы *(295—1—1643—183адв.).*

4719. **Пуцькоўскі Юзаф** (Путьковский Иосиф). Нар. у Валынскай губ. За дачыненне да паўстання (?) пазбаўлены правоў стану і сасланы. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.).*

**Пуцылоўскі Людвік** — гл. **Пуцілоўскі Людвік**

4720. **Пуцятыцкі Станіслаў** (Пуцятыцкий Станислав), памешчык Аўгустоўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

4721. **Пушка Цыпрыян** (Пушко Киприян), дваранін. Да паўстання жыў у фальв. Трабуцішкі Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—24; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

4722. **Пушкін Антоні** (Пушкин Антон), дваранін. За ўдзел у паўстанні у 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—173).*

4723. **Пчыцкі Цыпрыян** (Пчицкий Киприян), сын Юзафа Паўлавіча, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв., 26, 30).*

4724. **Пшонка Сымон** (Пшонка Семен), сын Сілівея, селянін. Нар. каля 1835 г. Да паўстання жыў у в. Далікі Барысаўскага пав., прыпісаны да Свядскай сельскай грамады. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 24.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. высланы ў Томскую губ. *(295—1—1527—106; 295—1—1643—181; 295—1—2725—20).*

4725. **Пылінскі Антоні** (Пылинский Антон), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—69).*

4726. **Пырскі Адам** (Пырский Адам), дваранін Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—24адв.).*

4727. **Пэтэрсан Тадэвуш** (Петерсон Фадей), каталік. Да паўстання служыў кантаністам. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—57адв.-58).*

4728. **Пявінскі Аляксандр** (Певинский Александр), селянін Віцебскай (?) губ. За ўдзел у паўстан-

ні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту *(1430—1—52163—400адв.)*.

4729. **Пявульскі Захар** (Пиоульский Захарий), сын Сімпліта, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв., 26)*.

4730. **Пякарскі Адольф** (Пекарский Адольф), памешчык. Нар. каля 1829 г. Да паўстання жыў у в. Чарніца Барысаўскага пав., дзе валодаў 8 валокамі зямлі. Падчас паўстання арыштаваны і 09.07.1863 зняволены ў турме г. Барысава. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» у 1864 г. высланы з радзімы *(295—1—1527—107; 295—1—1643—181адв., 183)*.

4731. **Пякарскі Даніэль** (Пекарский Даниил), мешчанін г. Свянцянаў. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—24)*.

4732. **Пякарскі Ігнат** (Пекарский Игнатий), сын Антонія, дваранін Барысаўскага пав. Нар. да 1834 г. у г. Барысаве альбо каля 1838 г. Да паўстання жыў у г. Магілёве ці ў маёнтку Янава Сенненскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў барысаўскай бальніцы, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Быў пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(160—2—682—61; 162—1—122—8; 295—1—1527—107; 320—1—398—669, 678, 701-703; 534—1—14—21; 3257—2—2—29)*.

4733. **Пякарскі Юзаф** (Пекарский Иосиф), селянін ці мешчанін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281)*.

4734. **Пякарскі Юзаф** (Пекарский Иосиф), сын Базыля, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам у Мінскай палаце грамадзянскага суда. Удзельнічаў у паўстанні, трапіў у палон. На судзе не адступіўся ад перакананняў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. МГП 24.09.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—174адв.; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—8, 10-11, 124; 1416—6—240; 1430—1—52163—596б)*.

4735. **Пякарскі Юзаф-Эліадор** (Пекарский Иосиф-Гелиодор), сын Юстына Ігнатавіча, муж Эвеліны Радзевіч, дваранін Мінскага пав. Хр. 23.07.1837. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам, яго маці валодала маёнткам Цепленъ Ігуменскага пав. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, арыштаваны. На следстве не прасіў літасці. Прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. На яго маёмасць у Ігуменскім пав. накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864. 15.04.1865 прыбыў у г. Іркуцк, знаходзіўся на працах у с. Пасольскае і с. Ліствянічнае Іркуцкай (?) губ. 05.1866 пераведзены на працы ў саляварны завод, увосень 1867 г. — на такі самы ў с. Усць-Кут у якасці загадчыка лазарэта. Пасля амністыі ад 25.05.1868 вызвалены ад катаржных прац, у 1869 г. атрымаў дазвол на прыватную медыцынскую практыку ў Сібіры. 12.12.1874 атрымаў ад іркуцкага губернатара пасведчанне аб вяртанні правоў. У 1878 г. атрымаў права пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем Каралеўства Польскага, сталіц, сталічных і «заходніх» губ. без паліцэйскага нагляду, права паступаць на дзяржаўную службу ў Сібіры з вяртаннем правоў дваранства. Служыў у Іркуцку доктарам у Кузняцоўскай грамадскай бальніцы, потым у Базанаўскім выхаваўчым доме. 07.08.1879 у Іркуцку атрымаў білет на прыезд у г. Мінск на 6 месяцаў для спаткання са сваякамі, 20.09.1879 прыбыў у Мінск. Захварэў псіхічна, з-за чаго 18.11.1879 атрымаў права на жыхарства ў Мінскай губ. У суправаджэнні жонкі выязджаў у г. СПб для лячэння, дзе прабыў з 07.12.1879 да 16.01.1880 у бальніцы Св. Мікалая Цудатворца. Дыягназ — «прагрэсіўны параліч мазгоў». Потым вярнуўся ў Мінск. 15.01.1881 выехаў і 09.02.1881 прыбыў у г. Варшаву для медыцынскіх кансультацый. 13.02.1881 памёр у бальніцы для «душэўна хворых» доктара Халянтоўскага *(162—1—122—10; 162—1—116—57; 295—1—1643—184адв.; 295—1—3066; 295—1—3366; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 299—2—7840; 319—1—479—25; 320—1—398—462, 474адв., 492; 320—2—98—43адв.; 320—2—98—44; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375)*.

4736. **Пялікша Карнэль** (Пеликша Корнелий), сын Ігната Янавіча, муж Марыі, бацька Браніславы, Вікторыі, Ганны, Зоф'і і Стэфаніі, памешчык Мінскай губ. Нар. да 1834 г. Уваходзіў у склад паўстанцкай падпольнай арганізацыі ў г. Мінску ў якасці кіраўніка («ваяводы»), пасля выехаў за

мяжу, а яго месца заняў *Аскерка Міхал*. Яго фотаздымак рассылаўся павятовым спраўнікам для пошуку і арышту. Пасля паўстання знаходзіўся за мяжой, «чым пазбег асабіста пакарання». Яго маёнткі Горкі (Гуркі) з в. Апчак Мінскага пав. (ацэнены ў 15 тыс. руб.) і Сіняло Ігуменскага пав., а таксама рухомая маёмасць, ацэненая ў 2849,32 руб., секвестраваны ў 1863 г. Вопіс маёнтка Сіняло (1340 дзес. зямлі, 2 карчмы, бровар, стайня, жылыя і гаспадарчыя пабудовы і інш., 1299 руб. ср. гадавога прыбытку) складзены 21.03.1864. Канфірмацыяй М. Мураўёва завочна прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(27—1—790; 162—1—116—156адв.; 295—1—1643—178, 181адв.; 296—1—89—27; 299—1—579—165-177; 319—1—479—25; 320—1—398—462, 494, 644адв.; 320—2—98—44; 320—2—99—31д адв.-31е; 1430—1—52163—526; 2586—1—22—17-20; 3256—2—29—27-28).*

4737. **Пялікша (Пелікан) Фларыян** (Пеликша (Пеликан) Флориан), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў садзейнічанні паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 11.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. 09.1864 знаходзіўся ў турме г. Мінска *(1418—3—1—58адв.-59; 1781—32—141—10).*

4738. **Пянкевіч Адам** (Пенкевич Адам). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам Мінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Сімбірскую губ. *(1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

4739. **Пянкевіч (Панкевіч, Папкевіч) Клімент** (Пенкевич (Панкевич, Папкевич) Климентий), сын Ігната, дваранін Люцынскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Дворыцы (Дворышча) Наваляксандраўскага пав., які арандаваў у памешчыка Станкевіча. Уваходзіў у склад атрада *Ельскага Яна*, узяты ў палон у Навааляксандраўскім пав. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 18.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Табольскую ці Томскую губ. альбо на службу шарагоўцам ў рас. войска. 19.09.1864 і 27.03.1865 ВГП выдала пастановы аб пошуку маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі *(295—1—1643—178адв.; 319—1—479—24; 320—1—398—133; 1416—3—21048—40; 1416—4—11416—220-225, 257-258; 1430—1—52163—399а, 600).*

4740. **Пянкевіч (Пінькевіч) Пётр** (Пенкевич (Пинькевич) Петр), сын обер-афіцэра. Паходзіў з Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да ссылкі ў Сібір і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103; 295—1—1643—169адв.).*

4741. **Пянкевіч (Пяткевіч) Стэфан** (Пенкевич (Петкевич) Степан), сын Адама, незацверджаны дваранін Мінскай губ. Служыў у рас. войску феерверкерам, выйшаў у адстаўку. Да паўстання жыў у г. Мінску. За ўдзел у паўстанні арыштаваны, у 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 8 гадоў. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—170адв., 177; 319—1—479—25; 320—1—398—163, 222, 401, 418; 320—2—98—44).*

4742. **Пянткоўскі Антоні** (Пионтковский Антон), памешчык. За дачыненне да паўстання высланы ў Тамбоўскую губ., яго маёмасць секвестравана. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—445—4адв.; 2532—1—15—10).*

4743. **Пянткоўскі Мікалай** (Пионтковский Николай), памешчык. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Аршанскага пав., валодаў часткай маёнтка Станіславава Аршанскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», а таксама ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК. Высланы (да 18.01.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Спаск Тамбоўскай губ., а яго маёмасць секвестравана. Пазней выявілася яго дачыненне да справы *Лышчынскага Ежага* і іншых, за што, на думку віцебскага ваеннага губернатара, падлягаў аддачы пад ПВС *(1430—1—31353—3, 11адв., 13-13адв.; 1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2003—1—445—14адв.; 3255—1—12—1-1адв.).*

4744. **Пянткоўскі М.** (Пионтковский М.). Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.).*

4745. **Пянькоўскі Леан** (Пеньковский Леон), сваяк *Людвіка*, памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—29; 2532—1—15—8).*

4746. **Пянькоўскі Людвік** (Пеньковский Людвиг), сваяк *Леана*, памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8)*.

4747. **Пяркоўскі Якуб** (Перковский Яков), сын Паўла, ксёндз. Служыў у касцёле ў м. Замосце Слуцкага пав. За «дапушчэнне народу, насуперак неаднаразовым строгім забаронам уладаў, да незаконнага пакланення целу Вінке Ратомскага, ашуканнем выдадзенага рымска-каталіцкім духавенствам за святога, упартае ў гэтых адносінах невыкананне распараджэння начальства з карысных відаў з мэтай падтрымаць фанатызм у рымскіх каталіках і ўзмоцніць дзеянне лаціна-польскай прапаганды і за суўдзел у мяцяжы» арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 29.11.1865. Знаходзіўся пад следствам у ССК, потым пераведзены ў г. Мінск і зняволены ў пабернардынскім будынку. Аддадзены пад ПВС у Мінску *(295—1—1643—182адв.; 299—2—6399—29адв.-30; 299—2—6400—18адв.-19адв.; 1524—1—1—11адв.)*.

4748. **Пярловіч Ежы** (Перлович Егор), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42)*.

4749. **Пярот Станіслаў** (Перрот Станислав), сын Антонія, сваяк *Прасмыцкага Станіслава*, памешчык Сенненскага пав. Западозраны ў дапамозе паўстанцам, арыштаваны, яго маёмасць падлягала секвестру. Прызнаны невінаватым (да 18.06.1863), і гэтае заключэнне пададзена на канфірмацыю М. Мураўёву. 04.1864 ізноў западозраны ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, падчас чаго ўтрымліваўся ў г. Магілёве ў «богаўгоднай установе». Быў пад судом у МагВСК, дзе меў дачыненне да справы *Нітаслаўскага Міхала (2003—1—287; 3257—1—14—11адв.-12; 3257—2—8—12)*.

4750. **Пярот Тадэвуш** (Перрот Фаддей), сын Міхала, муж Тэклі Геранімаўны, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Рэпухава Аршанскага пав., які быў абцяжараны даўгамі Санкт-Пецярбургскай захавальнай казне. Падчас паўстання абвінавачаны сялянамі ў пастаўцы харчавання і катлоў паўстанцам, арыштаваны. Паводле распараджэння МагГП ад 24.10.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Жонка ў 1864 г. унесла ў казну 157,50 руб. у якасці яго часткі прыбытку з маёнтка. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 08.01.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(2003—1—445—4адв., 14адв.; 2003—2—70; 2009—1—3; 3255—1—14—4адв.)*.

4751. **Пярчынскі Людвік** (Перчинский Людвиг). Нар. каля 1828 г. Да паўстання служыў кандуктарам Варшаўскай чыгункі. Пастановай ваеннага суда (завочна?) прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў і пазбег пакарання *(319—1—479—24; 320—1—398—223адв.; 1527—1—4—90-91)*.

4752. **Пярынскі Ілля** (Перинский Илья), дваранін. За прамаўленне «падбухторных словаў супраць Урада» ў нецвярозым стане канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі прысуджаны да ссылкі. У 1871 г. жыў у Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—127)*.

4753. **Пясецкі Цыпрыян** (Пясецкий Киприян), дваранін Лідскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Пяскі Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

4754. **Пяткевіч Адам** (Петкевич Адам), сын Мікалая, дваранін Слонімскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Беладольна Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—3)*.

4755. **Пяткевіч Валяр'ян** (Петкевич Валериан), дваранін Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—224)*.

4756. **Пяткевіч (Піткевіч) Дамінік** (Петкевич (Питкевич) Дементий), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Гяленчына Себежскага пав. памешчыцы Таргонскай. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі канфірмаванай М. Мураўёвым, «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». З г. Віцебска адпраўлены ў распараджэнне санкт-пецярбургскага обер-паліцмайстра, якім 05.10.1863 адасланы ў Тамбоўскую губ. *(1416—3—21048—39адв.; 1430—1—31355—109-111, 119-120; 1430—1—52285—5, 43)*.

4757. **Пяткевіч Ежы** (Петкевич Георгий), ксёндз. Да паўстання служыў у Ашмянскім пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленска-

га губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9)*.

4758. **Пяткевіч Міхал** (Петкевич Михаил), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(319—1—479—24; 320—1—398—132; 1430—1—35146—124; 1430—1—52163—599)*.

4759. **Пяткевіч Міхал** (Петкевич Михаил). Служыў судовым следчым, да паўстання выйшаў у адстаўку. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

4760. **Пяткевіч Рыгор** (Петкевич Григорий), муж *Тарэзы*, дваранін. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. высланы з жонкай на жыхарства ў Аланецкую губ. *(295—1—1643—176)*.

4761. **Пяткевіч Сімпліцыуш** (Петкевич Симплиций), дваранін Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102)*.

4762. **Пяткевіч Станіслаў** (Петкевич Станислав), сын Ігната, дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—24; 320—1—398—132адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—599адв.)*.

**Пяткевіч Стэфан** — гл. **Пянкевіч Стэфан**

4763. **Пяткевіч Тарэза** (Петкевич Терезия), жонка *Рыгора*, дваранка. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. разам з мужам выслана на жыхарства ў Аланецкую губ. *(295—1—1643—176)*.

4764. **Пяткевіч Уладзіслаў (Вячаслаў)** (Петкевич Владислав (Вечеслав)), сын Казіміра, дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Дынабургу. 06.05.1863 выключаны з яе за «самавольную адлучку» і «неадабральны лад думак». Пасля паўстання жыў без пісьмовых дакументаў у маёнтку Пустынь Дрысенскага пав. (гл. *Плятэр Людвік*). Аднаго разу перад жандарамі заявіў, што далучыцца да паўстанцкага атрада пры першым зручным момансе. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і арыштаваны. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкай Адамам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 прысуджаны да вытрымання 1 месяц пад арыштам і потым вяртання на месца жыхарства пад нагляд і адказнасць бацькоў. 07.1866 зняволены ў турэмным замку г. Дрысы, адкуль 08.1866 пасля вызвалення адпраўлены ў Новааляксандраўскі пав. *(2601—1—29)*.

4765. **Пяткевіч Юзаф** (Петкевич Иосиф), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—24адв.)*.

4766. **Пяткун Язафат** (Петкун Иосафат), сын Юзафа, дваранін Ковенскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. — вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69)*.

4767. **Пятніцкі Мікалай** (Пятницкий Николай), сын Адама, дваранін Слуцкага пав., каталік. Увосень 1863 г. абгаварыў *Баранцэвічаў Базыля* і *Ксаверыя* ў агітацыі на карысць паўстання. Падчас следства высветлілася, што абгавор быў хлуслівы з прычыны асабістай непрыязні да *Б. К.* Апрача таго, *Б. Б.* абвінаваціў П.М. у агітацыі ўступіць у паўстанцкі атрад, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(295—1—1593; 1524—1—1—11)*.

4768. **Пятрашка Ян** (Петрашко Иван), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.)*.

4769. **Пятркевіч Антоні** (Петржкевич Антон), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—42адв.)*.

4770. **Пятркевіч Люцыян** (Петржкевич Люциан), брат Маўрыцыя, дваранін Цельшаўскага пав. Разам з братам валодаў маёнткам Пятроўшчына Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—24адв.)*.

4771. **Пятркевіч Маўрыцы** (Петржкевич Мавриций), брат *Люцыяна*, дваранін Цельшаўскага пав. Разам з братам валодаў маёнткам Пятроўшчына Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—24адв.).*

4772. **Пятркоўскі Ігнат** (Пиотрковский Игнатий). Да паўстання вучыўся ў 2-м класе гімназіі ў г. Мінску. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Трусава Антонія*, пасля добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Адпраўлены (да 31.07.1863) да свайго бацькі ў Ігуменскі пав. *(296—1—19—130-137).*

4773. **Пятровіч Алімпій** (Петрович Олимпий), сын Андрэя, брат *Ігната*, дваранін Ашмянскага пав., каталік. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав., разам з братам і *Кашэўскім Леанам* добраахвотна 26.04.1863 з'явіўся да памочніка сенненскага павятовага спраўніка. Даў падпіску пра тое, што ніколі не будзе належаць да паўстанцкіх атрадаў, пасля чаго вызвалены ў той жа дзень. Не маючы звестак пра добраахвотную яўку да ўладаў, ВСК запатрабавала яго арышту, у выніку арыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Віцебску, дзе ўтрымліваўся 26.01.1864. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «следствам абвінавачваецца» 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—63-65; 3046—2—3—65адв.-66; 3046—2—5—41адв.).*

4774. **Пятровіч Антоні** (Пиотрович Антон), сын Юзафа, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Тракелі Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны ў г. Вільні. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Сасланы ў Пензенскую губ., а яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1416—6—280; 2532—1—15—11адв.).*

4775. **Пятровіч Анеля** (Піотровіч Анеля), жонка *Пятра*, памешчыца Шавельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з мужам выслана на жыхарства ў Енісейскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру, а потым абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552; 2532—1—15—4адв.).*

4776. **Пятровіч (Пятроў) Васіль** (Петрович (Петров) Василий), сын Арцемія, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1844 г. Прыпісаны да в. Асава Гранскай сельскай грамады Луцкага пав. Валынскай губ. Да паўстання служыў кухарам у памешчыка Стахоўскага ў м. Столін Пінскага пав. У пачатку чэрвеня 1863 г. добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, пасля яго разбіцця ўцёк, але на трэці дзень схоплены войскамі «са зброяй у руках». Знаходзіўся пад следствам у Пінскай і Мінскай следчых камісіях. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 30.08.1863 і ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Рашэннем В. Забалоцкага ад 15.11.1863 аддадзены пад ПВС пры Шуйскім пяхотным палку ў г. Пінску. 21.12.1863 яго рашэннем прызначаны да «аддачы ў жаўнеры», а справа пададзена ЧВГМГ, якім у сваю чаргу 24.12.1863 накіравана М. Мураўёву. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 06.02.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылку ў Разанскую арыштанскую роту на 2 гады. 18.12.1864 адпраўлены з Пінска на месца ссылкі *(295—1—1643—170; 296—1—44; 320—1—398—2; 1525—2—2—44-45адв.).*

4777. **Пятровіч Ігнат** (Петрович Олимпий), сын Андрэя, брат *Алімпія*, дваранін Ашмянскага пав., каталік. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав., разам з братам і *Кашэўскім Леанам* добраахвотна 26.04.1863 з'явіўся да памочніка сенненскага павятовага спраўніка. Даў падпіску пра тое, што не будзе ніколі належаць да паўстанцкіх атрадаў, пасля чаго вызвалены ў той жа дзень. Не маючы звестак пра добраахвотную яўку да ўладаў, ВСК запатрабавала яго арышту. У выніку рыштаваны і зняволены ў турэмным замку ў г. Віцебску, дзе ўтрымліваўся 26.01.1864. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «следствам абвінавачваецца» 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1430—1—31602—63-65; 3046—2—3—66адв.-67; 3046—2—5—41адв.).*

4778. **Пятровіч Леан** (Петрович Лев), брат *Паўла*, дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—205).*

4779. **Пятровіч Марцін** (Пиотрович Мартин), сын Казіміра, дваранін. Падчас паўстання абвінавачаны ў хаванні паўстанцаў ад рас. войскаў і пастаўцы ім харчавання, арыштаваны і 09.1863 зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, рашэннем якога «пакінуты ў падазрэнні» *(295—1—1643—170, 175адв.; 296—1—90—4адв.-5).*

4780. **Пятровіч Міхал** (Пиотрович Михаил), сын Якуба, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Хр. 04.11.1836. 10.03.1862 падаў прашэнне аб прызначэнні яго на службу чыноўнікам Мінскай будаўнічай і дарожнай камісіі, якое было задаволена. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. Без следства адасланы ў г. Мінск, аддазены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—130, 156; 295—1—1643—184адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—514, 518-519, 644; 320—2—98—44; 1418—3—1—59адв.-60; 1430—1—52163—522; 1527—1—4—132-133).*

4781. **Пятровіч Павел** (Петрович Павел), брат *Леана*, дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—177; 319—1—479—24адв.; 1430—1—52163—205).*

4782. **Пятровіч Павел** (Петрович Павел), сын Ануфрыя, дваранін ці шляхціц Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1838 г. Да паўстання служыў аканомам у фальв. Урублеўшчына Мінскага пав., які арандавала *Навіцкая Антаніна*. 04.1863 разам з *Іваноўскім Тамашом* агітаваў сялян Урублеўшчыны далучыцца да паўстанцаў, за што 06.1863 арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 03.10.1863. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, пастановай якога, канфірмаванай 23.03.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1548; 295—1—1643—170; 296—1—90—6адв.-7; 319—1—479—24; 1430—1—52163—167).*

4783. **Пятровіч Палікарп** (Пиотрович Поликарп), селянін Мінскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе з вясны да верасня 1863 г., удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі. Пасля рассеяння атрада добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.03.1864 высланы ў г. Маскву ў распараджэнне МУС для далейшай ссылкі. Сасланы ў Сібір *(295—1—1689; 295—1—2420—12адв.).*

4784. **Пятровіч Пётр** (Пиотрович Петр), муж *Анелі*, памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з жонкай высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552; 2532—1—15—4адв.).*

4785. **Пятровіч Сцяпан** (Петрович Степан), сын Пятра, селянін Барысаўскага пав. Служыў у Беластоцкім пяхотным палку унтэр-афіцэрам. Падчас ваенных дзеянняў уцёк са службы, перайшоў за мяжу і жыў там 32 гады. Падчас паўстання прыбыў у Каралеўства Польскае, дзе далучыўся да паўстанцаў. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 27.09.1865 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніку на 12 гадоў *(160—2—682—254; 295—1—1643—185; 534—1—14—97).*

**Пятроў Васіль** — гл. **Пятровіч Васіль**

**Пятроў Іван** — гл. **Трускаляскі Францішак**

4786. **Пятроўская Ізабэла** (Пиотровская Изабелла), дачка Антонія, дваранка Полацкага пав., каталічка. Нар. каля 1807 г. Да паўстання жыла ў г. Полацку, удава. Абгаворна *Другавінам Янам* у дачыненні да паўстання, таксама падазравалася рас. уладамі ў тым, што папярэдзіла *Пракаповіча Вінцэнта* аб планаваным арышце. Арыштавана (да 14.08.1863). Падчас вобшуку ў яе знойдзены «вершы рэвалюцыйнага зместу». На яе дом у Полацку 28.09.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 19.08.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначана да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яе маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—39; 1416—4—11416—185-212, 285, 289адв.-291адв.; 1430—1—52163—46адв., 427адв., 432адв., 481, 667, 821; 3046—2—3—62адв.-63; 3046—2—5—41).*

4787. **Пятроўская Кацярына** (Петровска Екатерина), дваранка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 07.09.1864 скончыла яе справу *(3257—2—8—3).*

4788. **Пятроўскі [Аляксандр]** (Пиотровский [Александр]), ксёндз. Да паўстання служыў прыёрам дамініканскага касцёла ў г. Полацку. Западозраны рас. уладамі ў тым, што ў яго былі «пастаянныя сходы палякаў, якія падазраюцца ў палітычнай нядобранадзейнасці». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 13.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—65адв.-66; 3046—2—5—41адв.).*

4789. **Пятроўскі Ваўрынец** (Петровский Лаврентий), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8)*.

4790. **Пятроўскі Вінцэнт-Антоні** (Петровский Викентий-Антон), сын Базыля Якубавіча, брат Ігната, муж Магдалены, бацька Антаніны, Ігната, Уладзіслава і Юліі, дваранін Ігуменскага пав. Нар. у 1823 г. Да паўстання жыў у вак. Суцін, не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай і дзецьмі высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—13адв.; 320—2—98—135-136)*.

4791. **Пятроўскі Вінцэнт** (Пиотровский Викентий), дваранін Новааляксандраўскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую губ. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—6—281; 1430—1—35146—75; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

4792. **Пятроўскі Зянон** (Пиотровский Зенон), сын Антонія, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Нар. каля 1829 г. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Форзберг Дзісенскага пав. Падчас паўстання, каля 10.05.1863, добраахвотна ўступіў ля м. Глыбокае Дзісенскага пав. у атрад *Дмахоўскага Генрыка* і атрымаў стрэльбу. 14.05.1863 удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Двойчы паранены, захоплены ў палон. Утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Лепелі, 23.08.1864 высланы ў г. Віцебск. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 22.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Быў пад судом у ВВСК, на якім сцвярджаў, што захоплены ў атрад гвалтоўна. Пастановай ЧПА ад 09.01.1865, канфірмаванай А. Патапавым 11.01.1865, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». ВГП 30.01.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі. 31.01.1865 падаў прашэнне віцебскаму губернатару пра змякчэнне меры пакарання ў сувязі з калецтвам — пасля ранення не валодаў правай рукой *(1416—3—21048—41; 1416—4—11416—176-180; 1430—1—31597; 3046—2—3—65адв.-66; 3046—2—5—41адв.)*.

4793. **Пятроўскі Ігнат** (Петровский Игнатий), сын Базыля, брат *Пятра*, муж Стэфаніды Янаўны, бацька Камілы, Міхаліны і Яна, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Западозраны «ў палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1864 г. разам з братам, жонкай і дзецьмі высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 жыў у Суціне. 06.1882 жонка з дзецьмі ўсё яшчэ жыла ў Суціне *(295—1—2420—13; 295—1—3026—31; 295—1—3492—68; 320—2—98—97)*.

Магчыма, ідэнтычны з П. І., які ў 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ. і атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.)*.

4794. **Пятроўскі Канстанцін** (Петровский Константин), дваранін Рэчыцкага пав. За «захоўванне старажытных польскіх вершаў і адозваў узяць удзел у паўстанні» арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 12.04.1865, зняволены ў мінскім турэмным замку і 27.04.1865 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Пастанова вынесена 11.05.1865 і пададзена мінскаму губернатару. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 19.01.1866 прысуджаны да грашовага штрафу ў 50 руб. і вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі і аддачай на парукі *(299—2—6399—25-26; 299—2—6400—23адв.-24)*.

4795. **Пятроўскі Леан** (Пиотровский Леон), сын Афанасія і Маргарыты, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам у Чавускім пав. і маёнткам Баркова Віцебскага пав. (Баркова падлягала продажу за даўгі яго маці). Паводле паказанняў *Матушэвіча Францішка* ў МагСК ад 07.05.1863, агітаваў некаторых асоб удзельнічаць у паўстанні і захоўваў у сябе зброю для паўстанцаў. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пазней высланы ў Арэнбургскую губ. На Баркова 17.05.1864 на падставе патрабавання МагГП ад 27.01.1864 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—425адв., 429, 571, 723, 785—790, 827; 2003—1—489—37адв.-38; 2532—1—15—9; 3257—1—13; 3257—2—2—28адв.)*.

4796. **Пятроўскі Лукаш** (Пиотровский Лукаш), дваранін. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 20 гадоў *(296—1—25—106; 319—1—479—24; 3046—2—5—42)*.

4797. **Пятроўскі Мацей** (Петровский Матвей), дваранін Віленскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Каролінава. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—23адв.; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

4798. **Пятроўскі Мікалай** (Пиотровский Николай), дваранін Троцкага пав. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» альбо прысуджаны да канфіскацыі маёмасці. МГП 04.10.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 1430—1—52285—8)*.

4799. **Пятроўскі Мікалай** (Пиотровский Николай), сын Міхала, незацверджаны Герольдыяй дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання служыў пісьмаводам міравога пасярэдніка 3 участка Барысаўскага пав. *Манюшкі Даната*. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, які фарміраваўся ў фальв. Дамашкавічы Барысаўскага пав., арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 25.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны *(295—1—1547—1адв.; 295—1—1643—170адв., 178; 319—1—479—25; 320—1—398—14-19, 23-24адв., 124адв.; 320—2—98—43адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—596б адв.)*.

4800. **Пятроўскі Пётр** (Петровский Петр), сын Базыля, брат *Ігната*, муж Сабіны, бацька Антонія, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін, не меў зямельнай маёмасці. Западозраны «ў палітычнай нядобранадзейнасці» і ў 1864 г. разам з братам, жонкай і сынам высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—13; 320—2—98—97)*.

4801. **Пятроўскі Пётр** (Пиотровский Петр), сын Міхала, дваранін Барысаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі *(320—1—398—270, 424; 320—2—98—44)*.

4802. **Пятроўскі Раман** (Пиотровский Роман). Служыў столаначальнікам Гродзенскага павятовага суда, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

4803. **Пятроўскі Рамуальд** (Пиотровский Ромуальд). Да паўстання служыў станцыйным касірам на Санкт-Пецярбургска-Варшаўскай чыгунцы, калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

4804. **Пятроўскі Станіслаў** (Пиотровский Станислав), дваранін. Да паўстання служыў аканомам у памешчыка Свянцянскага пав. Абрамовіча. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—7адв.)*.

4805. **Пятроўскі Тадэвуш** (Петровский Тадеуш), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—24адв.; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

4806. **Пятроўскі Фелікс** (Пиотровский Феликс), незацверджаны Герольдыяй дваранін Сакольскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, за што прысуджаны да смяротнага пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв., 103; 319—1—479—24адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.)*.

4807. **Пятроўскі Францішак** (Пиотровский Франц), дваранін Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава* ў Слуцкім пав., удзельнічаў ва ўсіх яго дзеяннях. Цяжка паранены 20.04.1863 падчас бою з рас. войскамі ля в. Азярцы Ігуменскага пав., памёр (да 25.04.1863). Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—326-327адв.)*.

4808. **Пятроўскі Францішак** (Петровский Франц), сын Стэфана Юзафавіча, дваранін Ігуменскага пав. Нар. каля 1820 г. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 26.11.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ., яго маёмасць пакідалася пад секвестрам, потым была здадзена ў арэнду Казіміру Базылевічу Мількевічу *(27—1—801—9-10; 160—2—683—4; 320—1—398—751-755; 320—2—98—2, 9, 70)*.

4809. **Пятроўскі Юзаф** (Пиотровский Иосиф), сын Пятра ці Юльяна, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Прыняў прысягу на адданасць паўстанцкім уладам, накіраваны ў г. Полацк для агітацыі да паўстання. Прыбыў у Полацк на пачатку 1863 г. На яго след натрапіла рас. паліцыя, таму вымушаны быў пакінуць Полац-

кі пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе себежскага атрада пад камандаваннем *Кульчыцкага Баляслава*, пасля яго рассеяння 24.04.1863 узяты ў палон у Дрысенскім пав. Утрымліваўся ў г. Віцебску. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 25.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 24.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 19.03.1864 адпраўлены з Віцебска праз г. Востраў Пскоўскай губ. на месца ссылкі *(296—1—25—105; 319—1—479—25; 1416—4—11367; 1430—1—31602—174; 1430—1—52163—15адв., 405; 3046—2—3—61адв.-62; 3046—2—5—41)*.

4810. **Пятроўскі Юзаф** (Петровский Иосиф), сын Францішка, дваранін Навагрудскага пав. Нар. каля 1843 г. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, да паўстання жыў у маёнтку Гарадзішча Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга зменена на 4 гады на заводах. Пасля пакаранне было палегчанае да службы ў Арэнбургскіх лінейных батальёнах (?) *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—25; 320—1—398—326-327адв., 342-343; 320—2—98—43адв.; 1418—4—1; 1525—1—2—6адв.-7)*.

4811. **Пятроўскі Ян** (Петровский Иван), дваранін. Да паўстання жыў у в. Брэжынцы Бельскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—24адв.; 320—1—398—224адв.)*.

4812. **Пятроўскі Ян** (Петровский Иван), мешчанін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—24; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

4813. **Пятрыцкі Юзаф** (Петрицкий Иосиф), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—173адв.)*.

4814. **Пяховіч Ян** (Пехович Ян), дваранін Гродзенскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69)*.

4815. **Пячора Аляксандр** (Печора Александр), бацька *Эдварда*. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Пячары Магілёўскага пав. Пасля паўстання яго маёмасць канфіскавана *(2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—276—12-13адв.; 2003—2—90)*.

4816. **Пячора Францішак** (Печера Франц), сын Аляксандра[137], дваранін Магілёўскай губ. Валодаў часткай зямлі ў вак. Пячары Магілёўскага пав. Да паўстання служыў у канцылярыі МагГГ, калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў дачыненне *Быліна Аўрэліян*. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—25адв.; 2001—2—14—15адв.-16; 2003—1—445—2адв.; 3257—2—2—2адв., 28адв.)*.

4817. **Пячора Эдвард** (Печора Эдуард), сын *Аляксандра*, дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Пячары Магілёўскага пав., служыў чыноўнікам у Магілёўскай будаўнічай і дарожнай камісіі, губернскі сакратар. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 31.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 13.11.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі. Маёмасць канфіскавана *(1416—4—11416—182адв.; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—276—12-13адв.; 2003—2—90; 3257—2—2—29; 3366—1—5—14)*.

4818. **Пячкоўскі (Пячноўскі) Рыгор** (Печковский (Печновский) Григорий), сын Якуба, памешчык Рагачоўскага і Быхаўскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Зняволены ў «богаўгоднай установе» ў г. Магілёве. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, дзе меў дачыненне да справы *Случаноўскага Пятра*. Са зняволення 10.10.1863 падаў прашэнне аб дазволе выдаць жонцы даверанасць на вядзенне маёмасных і судовых спраў. Потым сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—10адв.; 3257—1—34—21; 3257—2—2—28)*.

[137] Магчыма, *Пячоры Аляксандра*.

4819. **Пячкоўскі Ян** (Печковский Иван), дваранін Магілёўскага пав. Да паўстання з'яўляўся юнкерам. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 23.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—25; 3257—2—2—28; 3366—1—5—9).*

4820. **Пяшкоўскі Луцыян** (Пешковский Лукиян), «дваравы чалавек», каталік. Абвінавачаны ў «палітычных злачынствах», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—11).*

# Р

4821. **Рабей Уладзімір** (Рабей Владимир), сын Ігната Міхалавіча і Тэклі Кавалеўскай, дваранін Магілёўскай ці Віцебскай губ., каталік. Нар. 23.12.1844 у в. Ломы Дынабургскага пав., хр. 25.12.1844 у Юзафоўскім касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—27; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2616—1—40—14; 3257—1—53—2; 3257—2—2—30; 3286—2—1—6, 119-120).*

4822. **Рабцэвіч (Рапцэвіч) Багуслаў** (Робцевич (Рапцевич) Богуслав), памешчык. Разам з жонкай валодаў маёнткам Сафійск Чавускага пав. з в. Супанічы і в. Акулінцы. Служыў на рас. грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць секвестрана, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне са спагнаннем 20-працэнтнага збору *(1430—1—52285—32; 2003—1—489—37адв.-38; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9адв.).*

4823. **Рабцэвіч Вінцэнт** (Робцевич Викентий), дваранін Віленскага пав. Вучыўся ў Мінска-Магілёўскай рымска-каталіцкай дыяцэзіяльнай семінарыі, пасля служыў у ёй клерыкам. Да паўстання жыў у г. Мінску. Паводле тэлеграмы М. Мураўёва да ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 25.12.1863 арыштаваны, а ў яго кватэры праведзены вобшук. 26.12.1863 са знойдзенымі паперамі адпраўлены з Мінска да віленскага каменданта пад вартай 2 жандармаў, 28.12.1863 прыбыў у г. Вільню. Пазней высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую губ. пад нагляд паліцыі. Указам МГП ад 06.07.1864 на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166; 295—1—1570; 295—1—1643—193адв.; 299—1—579—341-345; 1416—4—11416—20адв.).*

4824. **Рабчэўскі [Базыль]** (Рабчевский [Василий]). Да паўстання служыў станавым прыставам у Рэжыцкім пав., губернскі сакратар. Абвінавачаны ў «праследаванні сялян за заснаванне імі сельскіх вартаў з мэтай гэтым садзейнічаць злачынным задумам мяцежнікаў» і звольнены са службы. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. На следстве не было знойдзена доказаў віны, таму рашэннем А. Патапава ад 08.08.1864 вызвалены ад усялякай адказнасці з дазволам паступаць на дзяржаўную службу *(1430—1—52163—309-310; 3046—2—5—44адв.).*

4825. **Равенскі Ксаверы** (Ревенский Ксаверий), дваранін. За дапамогу *Дыбоўскаму Паўлу* ў 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—191адв.).*

4826. **Равенскі (Равінскі, Рвінскі) Ян** (Ревенский (Ревинский, Рвинский) Иван), сын Антонія, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навамышскай сельскай грамады Навагрудскага пав. Нар. каля 1848 г. Удзельнічаў у паўстанні, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, але не прыняты сваёй сялянскай грамады. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага прызначаны да ссылкі ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву, адтуль — на пасяленне ў Томскую губ. У 1875 г. жыў у Томскай губ., падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму, якое было задаволена. 20.02.1876 атрымаў дакументы на вяртанне *(295—1—2420—10адв.; 295—1—2725—31адв.; 295—1—2764).*

4827. **Равідовіч Базыль** (Ревидович Василий), сваяк (?) *Ігната* і *Паўла*, селянін Себежскага пав. За «палітычную нядобранадзейнасць» паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 15.03.1864 у 1864 г. разам з сям'ёй сасланы на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. *(1430—1—32936).*

4828. **Равідовіч Ігнат** (Ревидович Игнатий), сваяк (?) *Базыля* і *Паўла*, селянін Себежскага пав. За «палітычную нядобранадзейнасць» паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 15.03.1864 у 1864 г. разам з сям'ёй сасланы на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. *(1430—1—32936).*

4829. **Равідовіч Павел** (Ревидович Павел), сваяк (?) *Базыля* і *Ігната*, селянін Себежскага пав. За «палітычную нядобранадзейнасць» паводле кан-

фірмацыі М. Мураўёва ад 15.03.1864 у 1864 г. разам з сям'ёй сасланы на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. *(1430—1—32936)*.

4830. **Равінскі Ігнат** (Равинский (Ровинский) Игнатий), сын Мікалая ці Васіля, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гарадзішчанскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12; 295—1—2725—30адв.)*.

**Равінскі Ян** — гл. **Равенскі Ян**

**Равуская Схаластыка** — гл. **Віткоўская Схаластыка**

4831. **Равускі (Равуцкі) Вацлаў** (Ржеусский (Ржевусский) Вацлав), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав. Западозраны ў дастаўцы паўстанцам харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні» 05.03.1864 адасланы ў г. Мінск, дзе ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 17.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую ці Енісейскую губ. *(162—1—116—152, 166; 295—1—1643—189адв.; 319—1—479—26адв.; 534—1—14—5адв.; 1418—3—1—62адв.-63; 1430—1—52163—375адв.)*.

4832. **Равускі Ян** (Ржеусский Иван), сын Яна Францішкавіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. 23.07.1839, хр. у Ігуменскім касцёле. Да паўстання служыў прыватным землямерам. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Прысуджаны да ссылкі ў Енісейскую губ. У 1871 г. жыў у г. Спаску Тамбоўскай губ. пад наглядам паліцыі. Пазней атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 04.1880 жыў у г. Мінску *(162—1—116—157; 295—1—1643—190адв., 191адв.; 295—1—2219; 295—1—3492—18; 1416—4—11416—83адв.; 1418—3—1—61адв.-62; 1430—1—52163—552адв.)*.

4833. **Равуцкі Андрэй** (Реуцкий Андрей), сын Адама, селянін Ігуменскага пав., каталік. Абвінавачаны ў нясвоечасовым данясенні пра 2 павешаных паўстанцамі сялян, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—63адв.-64)*.

4834. **Равуцкі Гіляры** (Ржеуцкий Гилярий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69адв.; 3257—2—8—13)*.

4835. **Равуцкі Рыгор** (Ревуцкий Григорий), сын Францішка, дваранін ці селянін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і дастаўцы ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Пазней высланы з радзімы *(295—1—2725—35; 1418—3—1—62адв.-63)*.

4836. **Рагазевіч Казімір** (Рогазевич Казимир), ксёндз. Да паўстання служыў памочнікам рагачоўскага дэкана Пятрышчы і вікарыем касцёла ў г. Рагачове. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», за што яго рухомая маёмасць (кнігі, адзенне, хатні рыштунак, упрыгожанні і інш., усяго 85 адзінак) на суму ў 21,80 руб. ср. 12.06.1863 апісана і секвестравана. Без суда і следства высланы (да 19.08.1863) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Калугу. Пастановай МагГП ад 19.08.1863 з маёмасці здымаўся секвестр *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2003—1—198)*.

4837. **Рагалінскі Марыян** (Роголинский Мариан). Нар. каля 1830 г. у Каралеўстве Польскім. Да паўстання служыў на Санкт-Пецярбургска-Варшаўскай чыгунцы. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Пастановай ваеннага суда завочна прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—223; 1527—1—4—90-91)*.

4838. **Рагальскі Фелікс** (Рогальский Феликс), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—104; 319—1—479—26)*.

4839. **Рагановіч Леанард** (Роганович Леонард), дваранін Вілейскага пав. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 23.01.1864. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—190адв., 194; 296—1—90—11адв.-12; 319—1—479—26; 1430—1—52163—204адв.)*.

4840. **Рагінскі Адам** (Рогинский Адам). За ўдзел у паўстанні прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12, 39адв.; 296—1—25—87адв.; 320—1—398—197адв.)*.

4841. **Рагінскі [Раман]** (Рогинский [Роман]). Камандаваў паўстанцкім атрадам, які ў 1863 г. прыбыў з Каралеўства Польскага ў Пінскі і Мазырскі пав. і ў які ўваходзілі *Астрамецкі Францішак*, *Ківельмахер Вацлаў*, *Панятоўскі Юзаф*, *Серакоўскі Вацлаў* і іншыя і які бласлаўляў *Наркевіч Каласант*

*(295—1—1574—19; 295—1—1575—13адв.; 295—1—1688—49; 1430—1—52163—125адв.).*

4842. **Рагінскі Эдвард** (Рогинский Эдуард), сын Юзафа-Фердынанда Касперавіча і Клемянціны Гуркі, брат Уладзіслава Антонія, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Нар. 09.02.1847 у фальв. Новы Стан Аршанскага пав., хр. 16.02.1847 у Бабінавіцкім касцёле. У 1859–1861 гг. вучыўся ў павятовым вучылішчы ў г. Віцебску, потым — у землямерска-таксатарскіх класах у г. Горкі. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі Горкаў і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 *(1416—3—21048—42; 1430—1—52163—196, 393адв.; 2514—1—2198—69адв.; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—8, 193-197).*

4843. **Рагоза Аляксандр** (Рагоза Александр), памешчык Аршанскага пав. Да паўстання валодаў часткай м. Мікуліна Аршанскага пав. Разам з *Карніцкім Антоніем*, *Клячкоўскім Янам*, *Лышчынскім Ежы*, *Раўкоўскім Ежы*, *Рачыцкім Юзафам* і *Чыжэўскім Эдвардам* паспрабаваў далучыцца да паўстання, 22.04.1863 затрыманы сялянамі в. Мікуліна. Пры вобшуку ў яго экіпажы знойдзены агнястрэльная зброя і порах. Здолеў уцячы на кані, аднак хутка быў ізноў схоплены. Зняволены ў г. Смаленску. На следстве сцвярджаў, што выехаў на паляванне. Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой пакінуты «ў наймацнейшым падазрэнні ў складанні змовы супраць Урада» і прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 16.11.1863 яго справа перададзена віцебскаму ваеннаму губернатару, рашэннем якога ад 18.01.1864 ссылка заменена на катаргу на 8 гадоў. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. Яго зямля канфіскавана *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—27; 1430—1—31353; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—3; 2003—1—445—14адв.).*

4844. **Рагоза Казімір** (Рогоза Казимир). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—4адв.).*

4845. **Рагоза Юзаф** (Рогоза Иосиф). Паходзіў з Мінскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 19.10.1863) да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103, 166; 1430—1—52163—150адв.).*

4846. **Рагоўскі Канстанцін** (Роговский Константин), дваранін Ашмянскага ці Барысаўскага пав. Нар. каля 1840 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Да паўстання жыў у фальв. Янава Сенненскага пав. *Важынскага Яна*, дзе з'яўляўся хатнім настаўнікам, а яго бацька — аканомам. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля яго рассеяння ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў барысаўскай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1527—102адв.; 295—1—1588; 319—1—479—25адв.; 320—1—398—84-88, 129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

4847. **Рагоўскі Канстанцін** (Роговский Константин), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання з'яўляўся канцылярскім службоўцам. Пасля разгляду следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—546).*

4848. **Рагоўскі Мацей** (Роговский Матвей), сын Юзафа, муж Ганны, бацька *Рамуальда*, дваранін Сенненскага пав. Западозраны СенСК у дачыненні да паўстання, яго фальв. Гапонавічы Сенненскага пав. (38 рэвізскіх сялян, 2 дамы, гаспадарчыя пабудовы, 186 руб. гадавога прыбытку, 358 руб. гадавога прыбытку) паводле ўказа МагГП ад 12.06.1863 апісаны 20.09.1863 і секвестраваны. Меў дачыненне да справы *Казлоўскага Базыля*. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Магілёве, пастановай якога прысуджаны (да 30.01.1864) да вызвалення ад пакарання як «ні ў чым не выкрыты». 16.11.1863 падаў прашэнне аб зняцці секвестру *(2003—1—279—5-7; 2003—1—383; 3257—2—2—30).*

4849. **Рагоўскі Рамуальд (Раман)** (Роговский Ромуальд (Роман)), сын *Мацея*, дваранін Сенненскага пав. Нар. каля 1840 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі маёнтка Вяляцічы Барысаўскага пав. і перададзены рас. уладам. 13.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Яго адзенне (12 рэчаў) у фальв. Гапонавічы Сенненскага пав. 29.06.1863 апісана і секвестравана. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, пастановай якога прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на

заводах на 6 гадоў *(295—1—1527—101адв.; 295—1—1643—189адв.; 319—1—479—27; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2003—1—279; 2514—1—2198—69адв.; 2616—1—40—14).*

4850. **Рагоўскі Цэзар** (Роговский Цезарий), памешчык. За дачыненне да паўстання прысуджаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні». Яго маёнтак Серпутова Барысаўскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ 28.05.1863. Сасланы ў Арэнбургскую губ. пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—192; 296—1—89—8, 69; 1430—1—52285—30).*

4851. **Рагоўскі Юзаф** (Роговский Юзеф), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—45).*

4852. **Рагоўскі Ян** (Роговский Иван), шляхціц Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы (да 01.10.1864) *(319—1—479—26адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

4853. **Рагульскі Рамуальд** (Рогульский Ромуальд), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пасля разгляду следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562).*

4854. **Рагускі Міхал** (Рогуский Михаил), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—25адв.).*

4855. **Радавіцкі Адам-Людвік** (Радовицкий Адам Людвиг), дваранін Кобрынскага пав. За «актыўны ўдзел у паўстанні» расстраляны (да 10.09.1863). 09.10.1863 ГГП выдала ўказ аб секвестры яго маёмасці *(1416—6—308).*

4856. **Радавіцкі Апалінары** (Радовцкий Аполинарий), сваяк (?) *Густава*, памешчык Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 26.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863 *(1416—6—217).*

4857. **Радавіцкі Густаў** (Радовицкий Густав), сын Міхала, сваяк (?) *Апалінарыя*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дзеткавічы Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 26.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863. Аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—26адв.; 320—1—398—125; 1416—6—217; 1430—1—52163—601).*

4858. **Радавіцкі N.** (Родовицкий N.). Да паўстання арандаваў дзяржаўную ферму Міжэвічы Ваўкавыскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, забіты. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 21.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863 *(1416—6—234).*

4859. **Радаменскі N.** (Родоменский N.). Да паўстання служыў аканомам маёнтка. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—44адв.).*

4860. **Радапус N.** (Родапус N.), селянін Цельшаўскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. На следстве даваў паказанні, што *Працішэўскі Станіслаў* намаўляў яго і іншых сялян в. Боршчыцы Цельшаўскага пав. удзельнічаць у паўстанні *(1416—4—11416—281).*

4861. **Радванскі Віктар** (Радванский Виктор). Служыў на рас. грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

4862. **Радванскі Канстанцін** (Радванский Константин), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання служыў у канцылярыі ковенскага губернатара. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—26; 1430—1—52163—521адв.).*

4863. **Радванскі Эдвард** (Радванский Эдуард), дваранін Троцкага пав. Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 11.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—26.; 1416—6—271; 1430—1—52163—166).*

4864. **Радванскі Юзаф** (Радванский Иосиф). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобрана-

дзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

4865. **Радванскі Ян** (Радванский Иван), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795)*.

4866. **Радвіловіч Міхал** (Радвилович Михаил), сын Тэадора, дваранін Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Радвіловіч Юльяна** — гл. **Радзівіловіч Юльяна**

4867. **Радвіловіч Яраслаў** (Радвилович Ярослав), дваранін Ковенскай (?) губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.)*.

4868. **Радзевіч Аляксандр** (Родзевич Александр), дваранін Віленскай (?) губ. Да паўстання служыў у канцылярыі віленскага грамадзянскага губернатара. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—128; 1416—3—21048—42; 1430—1—52163—603)*.

4869. **Радзевіч Аляксандр** (Родзевич Александр), сын Адама, бацька Мікалая (нар. каля 1847), Аляксандра (нар. каля 1849) і Адама (нар. каля 1861), памешчык. Да паўстання з'яўляўся невельскім павятовым маршалкам, валодаў маёнткам Зімары са 100 сялянскімі надзеламі ў Невельскім пав. (531 дзес. зямлі, 876 руб. гадавога прыбытку) і часткай маёнтка Кісялі з 60 надзеламі ў Себежскім (1406 дзес. зямлі, 480 руб. гадавога прыбытку). За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. На Кісялі 28.08.1863, на Зімары 29.08.1863 накладзены секвестр, а 29.10.1863 выдадзены ўказ аб іх канфіскацыі. Тэадозія Швандэр (дачка паручніка) падала грашовую прэтэнзію да яго маёмасці *(319—1—479—26адв.; 320—1—398—134адв.; 1430—1—31604—261; 1430—1—52163—213адв.-214, 230, 416адв., 422адв., 434, 569, 571адв., 596адв., 825адв., 826адв.; 2500—1—179—22; 2616—1—40—10адв.)*.

4870. **Радзевіч Амалія** (Родзевич Амалия), памешчыца Ваўкавыскага пав. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» выслана (каля 05.1864) у Табольскую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

4871. **Радзевіч Антаніна** (Родзевич Антонина), дваранка, манашка-каталічка. Выкладала ў г. Вільні ў пансіёне Зоф'і Дамброўскай. Запрошана дачкой памешчыка Аляксандра Горвата ў г. Мазыр, дзе да паўстання разам з *Праневіч Францішкай* утрымлівала прытулак для васьмі дзяўчатак-каталічак. Паводле распараджэння ЧВГМГ 16.03.1863 выселена з Мазыра, адправілася ў маёнтак Барабароў Рэчыцкага пав. А. Горвата. Прытулак як «самая злашкодная польская прапаганда і рассаднік злейшых ворагаў Расіі» зачынены *(296—1—17)*.

4872. **Радзевіч Антоні** (Родевич Антон), дваранін Полацкага пав. Падчас паўстання захоўваў 2 куфары, якія засталіся пасля смерці яго сваяка Юзафа Красоўскага. 10.1863 падчас праведзенага вобшуку ў адным з куфараў знойдзены стары іржавы пісталет, дроб і j фунта пораху, за што 11.1863 арыштаваны і дастаўлены ў г. Віцебск. Аддадзены пад суд у ВВСК. Зняволены ў віцебскім турэмным замку, адкуль 25.01.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ аб вызваленні і вяртанні на месца жыхарства да сям'і, якое 11.02.1864 было адхілена *(1430—1—31604—24-32)*.

4873. **Радзевіч Апалінары** (Родзевич Аполинарий), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

4874. **Радзевіч Генрык** (Родзевич Генрих), сын Антонія, памешчык. Да паўстання служыў у канцылярыі маршалка. За дапамогу паўстанцам арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у Гродзенскай губ. Яго маёнткі Казлякевічы (ацэнены ў 7 тыс. руб.), Сенчыцы (15 тыс. руб.), Малочна (Марочна) (25 тыс. руб.) Пінскага пав. і палова паравога млына ў г. Пінску секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 13.08.1863, маёнтак Пеніч Ваўкавыскага пав. падлягаў секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 06.08.1863 і пастановы ГГП ад 27.08.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Частка паравога млына канфіскавана *(295—1—1643—192адв.; 296—1—89—10адв., 17, 72адв., 85; 295—1—1900—9адв.-10; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—2, 222адв.; 320—2—99—41адв.-42; 1416—6—225)*.

4875. **Радзевіч Ігнат** (Родзевич Игнатий), брат *Канстанціна*, дваранін. Да паўстання служыў у Вількамірскім павятовым судзе. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Паводле пастановы ЧПА ад 21.06.1865, канфірмаванай К. фон Каўфманам, вызвалены як «ні ў чым не выкрыты», але звольнены са службы з забаронай паступаць на службу на радзіме *(160—2—680—135; 162—1—122—39)*.

4876. **Радзевіч Канстанцін** (Родзевич Константин), брат *Ігната*, дваранін. Да паўстання служыў у Вількамірскім павятовым судзе. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Паводле пастановы ЧПА ад 21.06.1865, канфірмаванай К. фон Каўфманам, вызвалены як «ні ў чым не выкрыты», але звольнены са службы з забаронай паступаць на службу на радзіме *(160—2—680—135; 162—1—122—39)*.

4877. **Радзевіч Караль** (Родзевич Карл), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у сваёй цёткі N. Герлях у в. Бортнікі Кальварыйскага пав. Аўгустоўскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—26; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598)*.

4878. **Радзевіч Мацей** (Радзевич Матвей), мешчанін г. Ашмянаў. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

4879. **Радзевіч Міхал** (Родзевич Михаил), сын Аляксандра, дваранін Мінскага пав. Да паўстання жыў у г. Мінску, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Уваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. На яго маёмасць у Мінскім пав. накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—57; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—462; 320—2—98—44адв.; 1430—1—52163—375)*.

4880. **Радзевіч Міхал** (Родзевич Михаил), сын Ігната, дваранін Мазырскага (?) пав. 18.02.1860 паступіў на службу ў Мазырскую дваранскую апеку, затым служыў канцылярыстам у Мазырскім павятовым судзе і ў канцылярыі мазырскага гараднічага, калежскі рэгістратар. Абвінавачаны ў абразе 23.02.1863 выкладчыка закону Божага Мазырскай гімназіі протаіерэя Мазырскага сабора Тарнапольскага, 09.04.1863 арыштаваны і зняволены ў турме ў г. Мазыры. 13.07.1863 яго справа пададзена мінскаму губернатару, аднак рашэння не было. Дзеля вызвалення 11.01.1864 падаваў прашэнне аб пераводзе на службу ва ўнутраныя губерні Расіі. 28.11.1864 вызвалены з турмы з аддачай на парукі і звальненнем са службы *(296—1—17)*.

4881. **Радзевіч Станіслаў** (Родзевич Станислав), дваранін. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Новыя Дзевяткавічы Слонімскага пав. памешчыка Слізеня. За «садзейнічанне мяцежнікам» арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ГГП ад 18.07.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(295—1—1643—191; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—276; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—601адв.)*.

4882. **Радзевіч Урбан** (Родзевич Урбан), дваранін. Да паўстання служыў асэсарам КГП; калежскі радца. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» 09.1863 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. У 1868 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—1989—31-32; 1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

4883. **Радзевіч Элеанора** (Родзевич Елеонора), дачка Антонія, дваранка Полацкага пав., каталічка. Разам з *Камёнкай Петрунэляй* западозрана рас. уладамі ў веданні пра тое, што *Багдановіч Клара* збірае грошы для паўстанцаў. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—72адв.-73)*.

4884. **Радзевіч Юзаф** (Родзевич Иосиф), памешчык Люцынскага пав. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам у Люцынскім пав., калежскі асэсар. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая да 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле распараджэння М. Мураўёва як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» 04.08.1863 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў г. Кастраму. У 1868 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай жыць у «Заходнім краі» *(295—1—1989—1-2; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—58адв.3046—2—5—45)*.

4885. **Радзевіч Юзаф** (Родзевич Иосиф), сын Баніфацыя-Бенядыкта Каралевіча, дваранін Барысаўскага пав. Нар. да 1834 г. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23(ці 25).06.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—133, 137; 299—1—579—1100-1101адв.; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—575, 577-578, 584; 320—2—98—44адв.; 1430—1—52163—242; 2616—1—40—62).*

4886. **Радзевіч Юльян** (Родзевич Юлиан), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—191адв.).*

4887. **Радзевіч Ян** (Родзевич Иван), сын Юзафа, дваранін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69адв.).*

4888. **Радзевіч N.** (Родзевич N.). Да паўстання служыў старшым настаўнікам гімназіі ў г. Коўне. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

4889. **Радзівіл Вільгельм-Тройдзень-Аляксандр** (Радзивилл Вильгельм-Тройдень-Александр), сын Аляксандра Дамінікавіча, князь. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага сакратара. Да паўстання валодаў маёнткам Вялікія Ерчыкі Сквірскага пав. Кіеўскай губ. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў г. Кіеве. На маёнтак Вялікія Ерчыкі ўказам Кіеўскага губернскага ўпраўлення накладзены (да 24.10.1864) секвестр. Канфірмацыяй А. Безака ад 04.08.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, тытула, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. На маёнтак яго мачыхі Іааны Анопаль Мінскага пав. указам МГП ад 04.09.1865 накладзена забарона. Вялікія Ерчыкі канфіскаваны *(295—1—1721; 320—1—398—728-732).*

4890. **Радзівіловіч Баніфацы** (Родзивилович Бонифаций), сваяк (?) *Юльяны*, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(1416—3—21048—42адв.; 3046—2—5—45).*

4891. **Радзівіловіч Францішка** (Радзивилович Францишка), памешчыца Віленскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Пензенскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—83; 1430—1—52163—552; 2532—1—15—12).*

4892. **Радзівіловіч (Радвіловіч) Юльяна** (Родзивилович (Родвилович) Юлианна), сваячка (?) *Баніфацыя*, памешчыца Ковенскага пав. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзілася пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яе справу. Выслана з радзімы. Яе зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—75; 2532—1—15—2адв.; 3046—2—5—45).*

4893. **Радзівоньчык Аляксандр** (Радзвоньчик Александр), сын Тэадора, дваранін ці селянін. Да паўстання жыў у г. Мінску. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(295—1—1699; 320—1—398—3).*

4894. **Радзішэўскі Антоні** (Радзишевский Антон), сын Аляксандра, дваранін Мінскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Абвінавачаны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе і ўдары кінжалам селяніна. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(160—2—682—108; 162—1—122—21; 1416—4—11416—314; 1430—1—52163—796; 2514—1—2198—69адв.; 3257—2—2—31; 3366—1—5—9адв.).*

4895. **Радзішэўскі Ян** (Родзишевский Ян), шляхціц Бельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—26адв.).*

4896. **Радзюс Адам** (Радзюс Адам), мешчанін м. Цельшаў. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—26; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

4897. **Радкевіч Адам** (Родкевич Адам), сын Тадэвуша, брат *Дамініка* і *Яна*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля

паўстання разам з братамі высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—18)*.

4898. **Радкевіч Аляксандр** (Родкевич Александр), селянін Навагрудскага (?) пав. Уваходзіў у склад атрада *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна* (?). Схоплены да бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак *(295—1—1562—16адв.)*.

4899. **Радкевіч (Раткевіч) Антоні** (Радкевич (Роткевич) Антон), сын Адама, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання служыў леснікам у с. Агарэвічы (Гарэвічы) Слуцкага пав., непісьменны. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе сцвярджаў, што быў узяты ў паўстанцкі атрад супраць сваёй волі. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да вяртання на ранейшае месца жыхарства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 папярэдні прысуд зацверджаны з умовай аддачы пад паручальніцтва 3 асоб *(295—1—1537—7-12адв.; 320—1—398—326-327адв., 348; 1418—4—1; 1524—1—1—12; 1525—1—2—5адв.-6)*.

4900. **Радкевіч Дамінік** (Родкевич Доминик), сын Тадэвуша, брат *Адама* і *Яна*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братамі, жонкай Юліяй, сынамі Стэфанам і Ігнатам высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—18)*.

4901. **Радкевіч Ігнат** (Родкевич Игнатий). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Потым служыў памочнікам наглядчыка піцейна-акцызнага збору па Свянцянскім пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

4902. **Радкевіч Ян** (Родкевич Иван), сын Тадэвуша, брат *Адама* і *Дамініка*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і дастаўцы ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Разам з братамі высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 жыў ва ўроч. Дубовы Лог Ігуменскага пав. *(295—1—2420—18; 295—1—3026—32адв.; 1418—3—1—62адв.-63)*.

4903. **Раднеўскі Браніслаў-Гярвазі** (Родневский Бронислав-Гервазий), сын Людвіка Барталамеевіча (нар. 10.08.1811) і Аляксандры Лазарэвіч, дваранін Аршанскага пав., каталік. Нар. 19.06.1846 у фальв. Гойбішкі Віленскага пав., хр. 28.06.1846 у віленскім Вастрабрамскім касцёле. Вучыўся ў павятовых вучылішчах: у 1860–1861 гг. — у г. Оршы, потым у г. Горках. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе Горкаў 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—27; 1430—1—52163—535адв.; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—30адв.; 3286—2—1—7, 173-177)*.

4904. **Радовіч Фелікс** (Родович Феликс), шляхціц Шавельскага пав. Да паўстання жыў у м. Шауляны. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—26)*.

4905. **Радовіч (Радоўша) Феліцыян** (Родович (Радовша) Фелициян), дваранін Мінскай губ., ксёндз. Да паўстання з'яўляўся капеланам Мінскага дабрачыннага таварыства. Падчас паўстання прыводзіў да прысягі моладзь у капліцы. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 03.11.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. Памёр падчас следства *(295—1—1643—189адв., 192; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—167, 222; 295—1—1688—16адв.)*.

4906. **Радовіч Юльян** (Родович Юлиан), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—26)*.

4907. **Радовіч N.** (Родович N.). Да паўстання служыў станавым прыставам у Новааляксандраўскім пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(1416—6—281; 3046—2—5—44адв.)*.

4908. **Радовіч N.** (Родович N.), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Бруздзеў Шавельскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

4909. **Радомскі Ян** (Радомский Иван), шляхціц Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—26адв.)*.

**Радоўша Феліцыян** — гл. **Радовіч Феліцыян**

4910. **Радушкевіч Юзаф** (Радушкевич Иосиф), дваранін Аршанскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне. Яго частка маёнтка Засеклі Аршанскага пав. канфіскавана ў 1866 г. *(319—1—479—27; 320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2001—3—23—2адв.; 2616—1—40—14адв.; 3257—2—2—30)*.

4911. **Раеўскі Вінцэнт** (Раевский Викентий), сын Вінцэнта, брат Мікалая, Адольфа, Тэафіла, Фердынанда і Аляксандры, памешчык. Да паўстання разам з братамі і сястрой валодаў лясной пусташшу (229 дзес. (ворнай, пад лесам і сенажацямі) зямлі, 28 рэвізскіх душ) і 3 дзес. зямлі ў в. Багданаўка Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, таму сумесная маёмасць 12.07.1863 апісана для секвеструяго часткі. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(2003—2—33; 3366—1—5—9адв.)*.

4912. **Раецкая Міхаліна** (Раецкая Михалина), жонка *Баляслава*, дваранка Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі выслана (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

4913. **Раецкі Баляслаў** (Раецкий Болеслав), муж *Міхаліны*, дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

4914. **Раецкі (Раіцкі) Францішак** (Раецкий (Раицкий) Франц). Да паўстання з'яўляўся вучнем пры беластоцкім павятовым лекары. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—26адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

4915. **Ражаноўскі Юзаф** (Рожановский Иосиф), сын Стэфана, селянін Рагачоўскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69адв.)*.

4916. **Ражбіцкі Станіслаў** (Рожбицкий Станислав), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

**Ражкоўскі Юзаф** — гл. **Рашкоўскі Юзаф**

4917. **Ражноўскі Гальяш** (Романовский Илья), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Багушэвічы памешчыка Парэцкага. Западозраны разам з *Астроўскім Юзафам* і *Люкевічам Марцінам* у падрыхтоўцы на пачатку 1863 г. паўстання ў Дзісенскім пав., трапіў пад следства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.12.1864 прызначаны да аддачы на парукі і штрафу ў 50 р. на карысць пацярпелых ад паўстання. ВГП 31.12.1865 выдала адпаведны ўказ *(1416—4—11416—294-296, 336)*.

4918. **Разановіч (Разяновіч) Іпаліт** (Розанович (Розенович) Ипполит), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр. У 1870 г. знаходзіўся на ссылцы ва Уфімскай губ., там атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—1-2; 1430—1—52163—149)*.

4919. **Разановіч Канстанцін** (Розанович Константин). Да паўстання служыў чыноўнікам Віленскай казённай палаты, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

4920. **Развадоўскі Антоні** (Развадовский Антон), шляхціц Бельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—26адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

4921. **Развадоўскі Норберт** (Розвадовский Норберт), дваранін Клімавіцкага пав. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую

губ. *(319—1—479—27; 1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—30адв.; 3366—1—5—9адв., 14).*

4922. **Развадоўскі Ян** (Розвадовский Иван), «жыхар» Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1841 г. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.).*

4923. **Размысловіч (Размышловіч) Францішак** (Размыслович (Размышлович) Франциск), мешчанін г. Коўны. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—104; 319—1—479—26).*

4924. **Разэнбэрг Віктар** (Розенберг Виктор), дваранін Падольскай губ. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім будаўнічым вучылішчы. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

4925. **Разэнштэйн Мордух** (Розенштейн Мордух), яўрэй. Да паўстання жыў у м. Антопаль Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 2 гады *(296—1—25—103; 319—1—479—26адв.).*

**Разяновіч Іпаліт** — гл. **Разановіч Іпаліт**

**Раіцкі Францішак** — гл. **Раецкі Францішак**

4926. **Райжэўскі Стэфан** (Рейжевский Степан), бацька *Юзафа*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Пласаўка (ці Пласоўнікі) Троцкага пав. Паколькі яго сын падазраваўся ва ўдзеле ў паўстанні, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

4927. **Райжэўскі Юзаф** (Рейжевский Иосиф), сын *Стэфана*, дваранін Троцкага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

4928. **Ракіцкі Антоні** (Рокицкий Антон), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на пасяленне *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

4929. **Ракіцкі Канстанцін** (Ракицкий (Рокицкий) Константин), сын Пятра, дваранін Себежскага ці Дрысенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 29.07.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Сасланы (да 13.11.1863) у Пермскую губ. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(319—1—479—26адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—42адв.; 1430—1—31355—121-124адв.; 1430—1—31583—35-36; 1430—1—52163—391адв., 419, 596адв.; 2601—1—5—7адв.; 2616—1—40—12адв.).*

4930. **Раклеўскі N.** (Реклевский N.), дваранін. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108адв.; 319—1—479—26адв.).*

4931. **Ракonскі Адрыян** (Ржеконский Адриан), ксёндз. Да паўстання служыў дыяканам францішканскага кляштара ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128).*

4932. **Ракоўскі Анастас** (Раковский Анастасий), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795; 2532—1—15—6).*

4933. **Ракоўскі Караль** (Раковский Карл). Служыў засядальнікам Пружанскага павятовага паліцэйскага ўпраўлення, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. *(1430—1—52163—615; 1430—1—52285—25адв.).*

4934. **Ракоўскі Францішак** (Раковский Франц), сын Адама і Фрузыны, дваранін Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—27; 3257—2—2—30, 30адв.).*

4935. **Раксімовіч Мікалай** (Раксимович Николай), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9адв.).*

4936. **Раксімовіч N.** (Раксимович N.), дваранін. Да паўстання служыў настаўнікам у сельскім вучылішчы ў м. Лынтупы Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

**Ракус-Сушчэўскі Аляксандр** — гл. **Сушчэўскі Аляксандр**

4937. **Ракуса Кацярына** (Ракуссо Катерина), памешчыца. Да паўстання ў яе арандаваў маёнтак *Кялчэўскі Ян*. Западозрана ў дачыненні да паўстання, таму яе маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—69адв.)*.

**Ракуса-Сушчэўскі Юзаф** — гл. **Сушчэўскі Юзаф**

4938. **Ральцэвіч Канстанцін** (Ральцевич Константин), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Аланецкую губ. *(1430—1—52163—201адв.)*.

4939. **Раманаў Ігнат** (Романов Игнатий). Да паўстання служыў чыноўнікам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—44адв.)*.

4940. **Раманенка Мікалай** (Романенко Николай), селянін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—191)*.

4941. **Рамановіч Сымон** (Романович Семен), дваранін. За дачыненне да паўстання (?) у 1864 г. сасланы ў Ніжагародскую губ. *(295—1—1643—197)*.

4942. **Рамановіч Юзаф** (Романович Осип (Иосиф)), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў 8 класе гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—221адв.; 3046—2—5—45)*.

4943. **Рамановіч N.** (Романович N.), памешчык. Да паўстання валодаў мызай Гратаны Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—210)*.

4944. **Раманоўская Пелагея** (Романовская Пелагея), дачка *Дамініка*, дваранка. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана з бацькам на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

4945. **Раманоўскі Альфонс** (Романовский Альфонс), сын Станіслава, муж Фяліцыі Лангінаўны Каравай. Да паўстання больш за 15 гадоў служыў павятовым доктарам у г. Лепелі, надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства 06(07?).02.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі на жыхарства ў Пензенскую губ. 17.02.1864 у суправаджэнні шарагоўца Івана Кендзя прыбыў у г. Пензу. Потым пераведзены ў г. Керанск. Жонка 05.04.1864 падала прашэнне на імя віцебскага губернскага маршалка аб выдачы грашовай дапамогі (вынік невядомы) і 08.07.1865 на імя К. фон Каўфмана аб вяртанні мужа на радзіму з прычыны гаротнага матэрыяльнага стану сям'і, якое было адхілена (да 30.07.1865) *(1430—1—31259—140-141; 1430—1—31355—133; 1430—1—31568—49-53; 1430—1—31602—101-102, 107; 1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—59; 2626—1—305—38-40, 62а-62б)*.

4946. **Раманоўскі Аляксандр** (Романовский Александр), сын Адама, дваранін Ігуменскага ці Слуцкага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі ля в. Марціянаўка Ігуменскага пав., дзе паранены і захоплены сялянамі. Зняволены ў г. Ігумене. 06.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(299—1—579—298-307; 319—1—479—26адв.; 1418—3—1—61адв.-62; 1430—1—52163—206)*.

4947. **Раманоўскі Аляксандр** (Романовский Александр), сын Фартуната і Кацярыны, брат Яна, дваранін Мазырскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. На драўляны дом з прыбудовамі ў г. Мазыры, якім валодаў разам з маці і братам, накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 06.09.1863. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(296—1—89—25; 2514—1—2198—69; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—6адв.)*.

4948. **Раманоўскі Андрэй** (Романовский Андрей), селянін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 23.05.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

4949. **Раманоўскі Антоні** (Романовский Антон). Паходзіў з Каралеўства Польскага. Да паўстан-

ня вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—26; 1430—1—52163—526адв.).*

4950. **Раманоўскі Аўгуст** (Романовский Август), дваранін Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада кіеўскага генерал-губернатара ад 25.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 01.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

4951. **Раманоўскі Герман** (Романовский Герман), дваранін Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 25.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 01.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

4952. **Раманоўскі Дамінік** (Романовский Доминик), бацька *Пелагеі*, дваранін. Да паўстання арандаваў дзяржаўную ферму Каладзескую Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы з дачкой на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

4953. **Раманоўскі Канстанцін** (Романовский Константин), сын Адама, дваранін Слуцкага пав., каталік. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, удзельнічаў у нападзе на этап, а таксама ў сутычцы ля в. Юравічы Ігуменскага пав., дзе быў схоплены рас. войскамі. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 04.12.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 12 гадоў на катаргу ў крэпасцях *(162—1—116—66; 295—1—1643—189адв., 197адв.; 296—1—25—104адв.; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—239, 291, 401, 417; 320—2—98—44адв.; 1418—3—1—61адв.-62).*

4954. **Раманоўскі (Кавалеўскі) Караль** (Романовский (Ковалевский) Карл), аднадворац. Да паўстання жыў у м. Шчучын Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

4955. **Раманоўскі Рамуальд** (Романовский Ромуальд), шляхціц Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—26).*

4956. **Раманоўскі Уладзіслаў** (Романовский Владислав), сын Оттана (Антонія), памешчык, каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Валодаў маёнткам Пагоршчына Віцебскай губ. (каля 100 дзес. зямлі), набытым за атрыманыя ў спадчыну грошы 8400 руб. На пэўны час высланы з радзімы за выраб фальшывых дакументаў. Да паўстання ў яго жылі *Гарэцкія Антоні*, *Амброзі*, *Юзаф* і *Ян* і *Папялкоўскі Павел.* Прыняў у *Гарэцкага Яна* на захаванне 50 руб. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, 07.01.1864 арыштаваны. На думку ваеннага начальніка Полацкага пав., як «асоба... нядобранадзейная і вельмі падазроная ў палітычных адносінах» падлягаў «выдаленню з краю». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 01.06.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 і ўказа ВГП ад 27.04.1864 на яго маёнтак накладзены секвестр. 26.10.1864 падаваў прашэнне на імя У. Вяроўкіна аб вызваленні. Пастановай А. Патапава ад 24.10.1864 прызнаны невінаватым у палітычных злачынствах, а яго ўчынкі павінны былі разглядацца ў звычайным крымінальным парадку. 18.11.1864 вызвалены з турэмнага замка г. Віцебска паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 17.11.1864. 14.11.1865 падаваў на імя апошняга прашэнне аб вызваленні маёнтка ад секвестру і забароны і вяртанні атрыманых даходаў, якое было задаволена распараджэннем А. Патапава ад 10.04.1865 *(1416—3—21048—42адв.; 1430—1—31602—54-56; 1430—1—52163—406адв., 429адв., 444адв., 447, 571; 3046—2—3—20адв.-22, 67адв.-68).*

4957. **Раманоўскі Уладзіслаў** (Романовский Владислав), сын памешчыка Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

4958. **Раманоўскі Юзаф** (Романовский Иосиф), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вярталнню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—69адв.).*

4959. **Раманоўскі Юзаф** (Романовский Иосиф), сын Адама, грамадзянін г. Віцебска, каталік. Падчас паўстання абвінавачаны рас. уладамі ў «нараканні на ўрадавыя распараджэнні». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 22.08.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—75адв.-76)*.

4960. **Раманоўскі Юльян** (Романовский Юлиан), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—191адв.)*.

4961. **Рамашкевіч N.** (Ромашкевич N.). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў сакратаром Цельшаўскага павятовага суда. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9)*.

**Рамашэўскі Марцін** — гл. **Рымашэўскі Марцін**

4962. **Рамэр Леапольд дэ** (де-Рамер Леопольд), дваранін Гродзенскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238)*.

4963. **Ранвід Фаўстын** (Ранвид Фаустин), сын Антонія, сваяк *Рэута Стэфана*, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1829 г. 05.1863 уступіў у паўстанцкі атрад, пасля чаго добраахвотна пакінуў яго. Аднак не з'явіўся да рас. уладаў, хаваўся ў *Р. С.* У 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 13.08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—156; 295—1—1643—190адв., 198; 295—1—1715; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—644; 1430—1—52163—535)*.

4964. **Рансніцкі Станіслаў** (Ржонсницкий Станислав), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12адв.)*.

4965. **Рапацкі Канстанцін-Караль** (Рапацкий Константин-Карл), сын Францішка, брат Францішка-Ксаверыя і Яна-Конрада, дваранін Лідскага пав., каталік. Нар. 05.09.1843, хр. у Жырмунтаўскім касцёле. Разам з братамі і сёстрамі валодаў маёнткам у Лідскім пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 17.09.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—28, 129адв.; 1430—1—52163—604адв.; 3257—1—53—2; 3257—2—2—30; 3286—2—1—6, 121-123)*.

**Рапцэвіч Багуслаў** — гл. **Рабцэвіч Багуслаў**

4966. **Рапцэвіч Францішак** (Рапцевич Франц). Да паўстання служыў памочнікам аптэкара ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—25адв.)*.

4967. **Расахацкі Юзаф** (Россохацкий Осип). Да паўстання служыў апекуном сельскіх запасных складоў Троцкага пав., губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

4968. **Раскаванскі N.** (Раскованский N.), «жыхар» Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1813 г. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.)*.

4969. **Расніцкі Антоні** (Ржосницкий Антон), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў з жонкай Адэлаідай і яе маці ў Кастрамской губ., у 1871 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—85)*.

**Рассудовіч Каміла** — гл. **Рассудоўская Клемянціна**

**Рассудовіч Людвіка** — гл. **Рассудоўская Ядвіга**

4970. **Рассудоўская (Рассудовіч) Клемянціна (Каміла)** (Разсудовская (Разсудович) Клементина (Камилия)), дачка Эдварда, сястра *Ядвігі*, дваранка Слуцкага пав., каталічка. Да паўстання жыла ў г. Слуцку. Абвінавачана ў агітацыі жаўнераў далучыцца да паўстанцаў, арыштавана. Знаходзілася пад следствам у ССК. Яе маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2; 1524—1—1—12)*.

4971. **Рассудоўская (Рассудовіч) Ядвіга** (Людвіка) (Разсудовская (Разсудович) Ядвига (Людвига)), дачка Эдварда, сястра *Клемянціны*, дваранка Слуцкага пав., каталічка. Да паўстання жыла ў г. Слуцку. Абвінавачана ў агітацыі жаўнераў далучыцца да паўстанцаў, арыштавана. Знаходзілася пад следствам у ССК. Яе маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2; 1524—1—1—12)*.

4972. **Растноўскі Канстанцін** (Ростковский Константин), дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысу-

джаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—26; 320—1—398—133; 1430—1—52163—600; 2514—1—2198—69адв.)*.

4973. **Расткоўскі Людвік** (Ростковский Людвиг), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—69адв.)*.

4974. **Расткоўскі Уладзіслаў** (Ростковский Владислав), памешчык Сенненскага (?) пав. Абвінавачаны рас. уладамі ў «падазроных дзеяннях». З 18.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая да 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—10адв.-11; 3257—2—8—13)*.

4975. **Расткоўскі (Растоўскі) Эразм** (Ростковский (Ростовский) Эразм), сын губернскага сакратара Фелікса Ігнатавіча і Тэклі Адынец, памешчык, каталік. Нар. 07.11.1839 у м. Дуброўна Горацкага пав., хр. 12.11.1839 у Дуброўненскім касцёле. У 1852–1858 гг. вучыўся ў гімназіі ў г. Сувалках, потым — у Горы-Горацкім сельгасінстытуце, валодаў часткай маёнтка Анэліна Сенненскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Яго маёмасць секвестравана і потым канфіскавана *(319—1—479—27; 320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2001—2—123—6; 2003—1—445—3адв., 15; 2514—1—2198—69адв.; 2514—1—2198—69адв.; 2616—1—40—14; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—30; 3286—2—1—6адв., 130-133)*.

4976. **Расткоўскі N.** (Ростковский N.), дваранін. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Янаўкі Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць канфіскавана ў 1866 г. *(2001—3—23—2)*.

**Растоўскі Эразм** — гл. **Расткоўскі Эразм**

**Раткевіч Антоні** — гл. **Радкевіч Антоні**

4977. **Ратнэр Абрам** (Ратнер Абрам), сын Гільшы, яўрэй, мешчанін г. Магілёва. Да паўстання жыў у м. Ляды Віцебскай губ., з'яўляўся камісіянерам па дастаўцы тавараў. Падчас паўстання абвінавачаны арыштаваным яўрэем Шмуйлам Наблімовічам у дастаўцы тавараў паўстанцам, за што арыштаваны. Зняволены ў г. Віцебску ў турэмным замку, адкуль падаў (каля 23.01.1864) прашэнне на імя ВГГ аб вызваленні на парукі да заканчэння следства, у якім прычынай абгавору называў асабістую «з даўняга часу злобу». 04.02.1864 прашэнне было адхілена *(1430—1—31604—18, 20-21)*.

4978. **Ратомскі Антоні** (Ратомский Антоний), сын Іаахіма, брат *Балтазара*, памешчык, каталік. Нар. каля 1817 г. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі рэгістратар. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Клярынава Аршанскага пав., дзе і жыў. Падчас паўстання 22.04.1863 разам з братам схоплены са зброяй у руках сялянамі, калі праязджаў праз Аршанскім пав., пры затрыманні спрабаваў уцячы. Зняволены ў г. Смаленску. Яго маёмасць секвестравана. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. На следстве і судзе сцвярджаў, што ехаў у г. Віцебск для гаспадарчых закупак, і доказаў яго намераў далучыцца да паўстанцаў знойдзена не было. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 «пакінуты ў падазрэнні» і прызначаны да вяртання на месца жыхарства на парукі і з усталяваннем паліцэйскага нагляду. З яго маёмасці належала спагнаць 10-працэнтны збор *(1430—1—31588—15-22адв.; 2003—1—445—14адв.)*.

4979. **Ратомскі Балтазар** (Ратомский Балтазар (Бальтазарий)), сын Іаахіма, брат *Антонія*, памешчык, каталік. Нар. каля 1811 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Клярынава Аршанскага пав. Падчас паўстання 22.04.1863 разам з братам схоплены са зброяй у руках сялянамі, калі праязджаў праз Аршанскім пав., пры затрыманні спрабаваў уцячы. Зняволены ў г. Смаленску. Яго маёмасць секвестравана. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. На следстве і судзе сцвярджаў, што ехаў у г. Віцебск для гаспадарчых закупак, і доказаў яго намераў далучыцца да паўстанцаў знойдзена не было. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 «пакінуты ў падазрэнні» і прызначаны да вяртання на месца жыхарства на парукі і з усталяваннем паліцэйскага нагляду. З яго маёмасці належала спагнаць 10-працэнтны збор. *(1430—1—31588—15-22адв.; 2003—1—445—14адв.)*.

4980. **Ратынскі Адольф** (Ратынский Адольф), дваранін Вілейскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

4981. **Ратынскі Здзіслаў** (Ратынский Здзислав (Издзеслав)), сын Эдварда і Міхаліны Міхалаўны (пам. у 1870), брат Эдварда, дваранін. Нар. каля 1842 г. Да паўстання жыў у казённай мызе Чырвонае

Вілейскага пав., якую арандавала яго маці. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Енісейскую губ., пасля выдання маніфеста ад 25.05.1868 перасяліўся ў Тамбоўскую губ. Пазней вярнуўся на радзіму, 01.1882 жыў у г. Мінску. Яго маці сваім тастаментам ад 06.06.1869 пазбавіла яго спадчыннай маёмасці *(295—1—1643—198; 295—1—2200; 295—1—3492—37адв.-38, 89; 296—1—25—102адв.; 319—1—479—26; 1416—6—280)*.

4982. **Ратынскі Рудольф** (Ратынский Рудольф), памешчык Мінскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Мінскім пав. *(296—1—19—11-13адв.)*.

4983. **Раўбэ Андрэй** (Раубе Андрей), шляхціц Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—26; 320—1—398—574; 1430—1—52163—145, 241; 2616—1—40—61)*.

4984. **Раўбэ Міхал** (Раубе Михаил), аднадворац Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—26; 1430—1—52163—204адв.)*.

4985. **Раўбэ (Роўбэ) Юзаф** (Роубе Иосиф), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. *(3046—2—5—45)*.

4986. **Раўбэ (Раўба) Ян** (Раубе (Рауба) Иван), дваранін Ковенскай губ. ці Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1416—6—280; 1430—1—52163—573)*.

4987. **Раўгвіла Адам** (Ровгвилло Адам), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—26; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

4988. **Раўдовіч Расціслаў** (Равдович Ростислав). Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41)*.

4989. **Раўкевіч Канстанцін** (Ревкевич Константин), сын Вінцэнта, бацька *Яна*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання арандаваў маёнтак Завішына Ігуменскага пав. у памешчыка Завішы. За ўдзел у паўстанні яго сыноў і за прыняцце ў сваім доме паўстанцаў арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой падлягаў «высяленню з тутэйшага краю». 02.07.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 30.11.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(160—2—682—30; 162—1—122—6; 295—1—1643—191; 320—1—398—666-667; 534—1—14—16; 1418—3—1—62адв.-63)*.

4990. **Раўкевіч Ян** (Ревкевич Иван), сын *Канстанціна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Вучыўся ў 4-м класе гімназіі ў г. Слуцку, у 1861 г. вярнуўся да бацькоў у маёнтак Завішына Ігуменскага пав. 03.1863 далучыўся да атрада паўстанцаў, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 14.05.1864 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці выдадзены 22.02.1864. У 1875 г. знаходзіўся на ссылцы ў Ніжагародскай губ., падаваў прашэнне аб вяртанні правоў дваранства *(162—1—116—60; 295—1—1643—189адв., 192адв., 197; 295—1—2718; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—511-513; 319—1—479—26адв.; 320—2—98—44адв.; 1418—3—1—61адв.-62)*.

4991. **Раўкоўская Аляксандра** (Ревковская Александра), жонка *Яна*, памешчыца Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана з мужам на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—11адв.)*.

4992. **Раўкоўскі Аляксандр** (Ревковский Александр), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы да 01.10.1864 *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

4993. **Раўкоўскі Ежы** (Ревковский Егор), сын Францішка, муж Міхаліны, дваранін Аршанскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку сваёй жон-

кі Рэгенполле Аршанскага пав. Разам з *Карніцкім Антоніем*, *Клячкоўскім Янам*, *Лышчынскім Ежы*, *Рагозам Аляксандрам*, *Рачыцкім Юзафам* і *Чыжэўскім Эдвардам* паспрабаваў далучыцца да паўстання, 22.04.1863 затрыманы сялянамі в. Мікуліна Аршанскага пав. Здолеў уцячы, аднак хутка быў схоплены. Зняволены ў г. Смаленску. Паводле ўказа МагГП ад 07.06.1863 яго рухомая маёмасць на суму ў 4,05 руб. ср. 12.08.1863 апісана і секвестравана. На следстве сцвярджаў, што ехаў да сваіх дзяцей у г. Віцебск. Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой пакінуты «ў наймацнейшым падазрэнні ў складанні змовы супраць Урада» і прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 16.11.1863 яго справа пададзена віцебскаму ваеннаму губернатару, рашэннем якога ад 18.01.1864 ссылка заменена на катаргу на 8 гадоў. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—105адв.; 319—1—479—27; 1430—1—31353; 2003—1—327)*.

4994. **Раўкоўскі Францішак** (Ревковский Франц), дваранін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69адв.)*.

4995. **Раўкоўскі Юзаф** (Ревковский Иосиф), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы да 01.10.1864 *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

4996. **Раўкоўскі (Раўскоўскі) Ян (Якуб)** (Ревковский (Ревсковский) Ян (Яков)), сын Францішка, муж *Аляксандры*, дваранін. Да паўстання арандаваў маёнтак (фальв.) Франаполле Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы з жонкай на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—7адв.)*.

4997. **Раўкоўскі Ян** (Ревковский Иван), незацверджаны дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—26)*.

4998. **Раўскі Юзаф** (Равский Иосиф), дваранін Падольскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць паводле распараджэння Кіеўскага губернскага праўлення ад 31.12.1863 падлягала секвестру, аднак яе не было знойдзена. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

**Раўскоўскі Якуб** — гл. **Раўкоўскі Ян**

4999. **Рафаловіч Міхал** (Рафалович Михайло), селянін Віцебскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—42; 2514—1—2198—69адв.)*.

5000. **Рахавецкі Аляксандр** (Раховецкий Александр), мешчанін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—191)*.

5001. **Рахліч Гіляры** (Рахлич Илларион), сын Пятра, мешчанін г. Навагрудка. Нар. каля 1826 г., каталік. Не браў удзелу ў паўстанні. Пасля паўстання разам з *Ігнатам Букалоўскім* належаў да арганізацыі пратэстаў супраць закрыцця касцёла ў м. Мір Навагрудскага пав. і зборы грошай на яго аднаўленне. Арыштаваны, паводле рашэння ЧПА, канфірмаванага З. Манюкіным 12.03.1866, таму як «даказаў свае шкодныя супрацьурадавыя памкненні і як цалкам нядобранадзейны і шкодны для знаходжання ў тутэйшым краі» прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі з сям'ёй на пасяленне ў Томскую губ. 04.05.1866 адпраўлены з сям'ёй на месца ссылкі. У 1875–1876 г. жыў на пасяленні ў в. Красны Яр Марыінскай акругі Томскай губ., быў другі раз жанаты з Ганнай (таксама ўжо другі раз замужняй, ад першага шлюбу мела сына Уладзіслава (нар. каля 1867 г.)), ад першага шлюбу меў сыноў Францішка (нар. каля 1856 г.) і Пятра (нар. каля 1862 г.). Атрымаў амністыю з правам вярнуцца ў Мінскую губ., 18.08.1876 — пашпарт на прыезд з сям'ёй з г. Марыінска Тамбоўскай губ. у г. Мінск па Арлоўска-Віцебскай чыгунцы за свой кошт. 18.10.1876 прыбыў на жыхарства ў м. Мір. У 1880 г. жыў у Мінскай губ. *(295—1—1643—198адв.; 295—1—3056; 295—1—3492—10)*.

5002. **Рацкевіч Вінцэнт** (Рацкевич Викентий), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73)*.

5003. **Рацэвіч Францішак** (Рацевич Франц), дваранін Шавельскага ці Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіска-

цыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—26; 320—1—398—133; 1416—6—281; 1430—1—52163—600).*

5004. **Рачкевіч Віктар** (Рачкевич Виктор). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

5005. **Рачкоўскі Ігнат** (Рачковский Игнатий), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Патокі (Пашкі) Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—26; 1416—6—281; 1430—1—52163—530адв.).*

5006. **Рачкоўскі Караль** (Рачковский Степан), сын Стэфана, аднадворац Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—12).*

5007. **Рачкоўскі Міхал** (Рачковский Михаил), сын Ігната, дваранін Барысаўскага ці Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызнаны вінаватым ва ўдзеле ў паўстанні. 28.11.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—112; 295—1—1643—190; 299—1—579—298-307; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—452; 1418—3—1—62адв.-63; 1430—1—52163—206).*

5008. **Рачкоўскі Тэафіл** (Рачковский Теофил), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Новае Месца Панявежскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы (да 01.10.1864) *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—26; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126).*

5009. **Рачынскі Адам** (Рачинский Адам), бацька *Эдварда*, памешчык Пінскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёнтак Стахавічы Пінскага пав. загадвалася канфіскаваць. У некаторых пастановах рас. уладныя органы блыталі яго з яго сынам *(162—1—116—51; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—96-99, 101, 220, 222; 320—2—98—44адв.).*

5010. **Рачынскі Дамінік** (Речинский Доминик). Да паўстання служыў наглядчыкам гімназіі ў г. Слуцку. У 1864 г. звольнены са службы як «палітычна нядобранадзейны» *(295—1—1643—195).*

5011. **Рачынскі Уладзіслаў-Тэафіл** (Речинский Владыслав-Феофил), сын Дамініка Рафалавіча, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 15.03.1843. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. Удзельнічаў у паўстанні са зброяй у руках, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—50; 295—1—1643—192адв.; 296—1—25—104; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—215-219; 320—2—98—44адв.; 1418—3—1—61адв.-62).*

5012. **Рачынскі Эдвард** (Рачинский Эдуард), сын *Адама*, памешчык Пінскага пав. Нар. каля 1840 г., каталік. Да паўстання жыў у маёнтку бацькоў Стахавічы Пінскага пав. Знаходзіўся ў складзе паўстанцкага атрада, арыштаваны. Паводле рашэння ПВС пры фартэцыі ў г. Брэсце, канфірмаванага М. Мураўёвым 03.11.1863, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На маёнтак Стахавічы накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 06.09.1863. Пасля яго маці даказала, што быў узяты ў паўстанцкі атрад гвалтоўна, у сувязі з чым, паводле імператарскага ўказа (да 18.02.1864), канфірмацыя М. Мураўёва адменена. Вернуты на радзіму з атрыманнем правоў стану. 12.1876 жыў у маёнтку Стабыхаў Ковельскага пав. Валынскай губ., дзе займаўся гаспадаркай *(162—1—116—12; 295—1—1643—193; 295—1—3026—6; 296—1—89—18; 299—1—577—550-554; 320—1—398—96-99, 370-373).*

5013. **Рачынскі Юры** (Рачинский Юрий). Служыў на грамадзянскай службе; калежскі рэгістратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

5014. **Рачыцкая Брыгіда** (Речицкая Бригида), памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Лычкава Лідскага пав. 24.03.1863 у Лычкаве абедаў атрад (каля 20 чал.) паўстанцаў. Западозрана рас. уладамі ў добраахвотнай дапамозе паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5015. **Рачыцкі Юзаф** (Ржечицкий Юзеф), аднадворац Вілейскага пав. Да паўстання пэўны час

жыў у *Раўкоўскага Ежы*. Разам з *Карніцкім Антоніем*, *Клячкоўскім Янам*, *Лышчынскім Ежы*, *Рагозам Аляксандрам*, *Раўкоўскім Ежы* і *Чыжэўскім Эдвардам* паспрабаваў далучыцца да паўстання, 22.04.1863 затрыманы сялянамі в. Мікуліна Аршанскага пав. Здолеў уцячы, аднак хутка быў схоплены ў в. Марцюткава і дастаўлены ў м. Лёзна Аршанскага пав. Зняволены ў г. Смаленску. На следстве сцвярджаў, што ехаў разам з *Раўкоўскім Ежы* для пошукаў месца службы. Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой пакінуты «ў наймацнейшым падазрэнні ў складанні змовы супраць Урада» і прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 16.11.1863 яго справа пададзена віцебскаму ваеннаму губернатару, рашэннем якога ад 18.01.1864 ссылка заменена на катаргу на 8 гадоў. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—25адв.; 1416—3—21048—42; 1430—1—31353; 1430—1—52163—396; 2514—1—2198—69адв.)*.

5016. **Рашкевіч Гіляры** (Рошкевич Гилярий), дваранін Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103; 319—1—479—26адв.)*.

5017. **Рашкоўская Аляксандра** (Рошковская Александра), памешчыца. Западозрана рас. уладамі ў намове сялян да паўстання. Знаходзілася пад следствам у ЧСК, якая 28.08.1863 падала яе справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—9адв.)*.

5018. **Рашкоўская Юзэфа** (Рошковская Иозефина), дачка Фелікса, памешчыца Быхаўскага пав. За «палітычнае злачынства» яе маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—69адв.)*.

5019. **Рашкоўскі Артур** (Рошковский Артур), сын Серафіма, памешчык, каталік. Нар. каля 1821 г. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання валодаў маёнткамі Банонь (Банонія) і Палюдавічы Лепельскага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у прыняцці прысягі на адданасць паўстанцкім уладам, веданні пра паўстанне ў Лепельскім пав., зборы грошай на карысць паўстання, удзеле ў выбарах дэлегатаў ад Полацкага пав. і абранні дэлегатам для выезду ў г. Вільню, захоўванні і распаўсюджванні паўстанцкіх пракламацый. Арыштаваны (да 29.05.1863). На маёмасць 22.06.1863 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладзены секвестр, які 20.10.1864 яшчэ не зняты. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 01.10.1864 знаходзіўся «пад судом». Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства. Аднак належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—42; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15, 403, 408, 431адв., 450, 569; 3046—2—3—68адв.-70; 3046—2—5—44)*.

5020. **Рашкоўскі Бруна Віктар** (Рошковский Брунон Виктор), сын Эразма-Станіслава-Марціна Вільгельмавіча, дваранін Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады *(162—1—116—64; 295—1—1643—197адв.; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—164-175; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—211-213, 282; 320—2—98—44; 3257—2—2—30)*.

5021. **Рашкоўскі Караль** (Рошковский Карл). Служыў старэйшым акруговым доктарам Беластоцкага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

5022. **Рашкоўскі Севярын** (Рошковский Северин), сын Юзэфы, дваранін Быхаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На маёнтак яго маці Чачэвічы Быхаўскага пав. на падставе ўказа МагГП ад 17.06.1863 накладзена забарона *(319—1—479—27; 1430—1—52163—526; 2003—1—211—56-57; 2003—2—85—3)*.

5023. **Рашкоўскі Севярын** (Рошковский Северин), сын Караля, дваранін. Паходзіў з Троцкага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616; 3257—2—2—30адв.)*.

5024. **Рашкоўскі (Ражкоўскі) Юзаф** (Рошковский (Рожковский) Иосиф), сын Аркадзя Серафімавіча і Аляксандры Юзафаўны, брат *Яўгена*, дваранін Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1834 г. Служыў у рас. войску; паручнік. Да паўстання жыў

у маёнтку Дручаны Полацкага пав., яго маці валодала маёнткам Горы Чэрыкаўскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніку на 12 гадоў. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. Частка яго спадчыны ў Магілёўскай губ. канфіскавана. На маёнтак маці на падставе ўказа МагГП ад 30.11.1863 накладзена забарона. У 1869 г. пераведзены на пасяленне ў Пермскую губ. Пасля вызвалены ад нагляду паліцыі з вяртаннем правоў дваранства і правам на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У ссылцы ажаніўся з Соф'яй Свечынай. У 1880 г. жыў у Сімбірскай губ., атрымаў дазвол вярнуцца ў Полацкі пав. *(162—1—116—10; 319—1—479—27; 320—1—398—37-53адв., 62, 135; 320—2—98—44адв.; 1416—3—21048—42, 42адв.; 1416—4—11416—185-212, 285, 289адв.-291адв.; 1430—1—36707—19-23а; 1430—1—52163—15адв., 446, 570адв., 596а, 666адв., 821; 2003—1—211—53-55; 2003—2—90—26-29; 2616—1—40—13; 3046—2—5—44).*

5025. **Рашкоўскі Юльян** (Рошковский Юлиан), памешчык. Да паўстання з'яўляўся сенненскім павятовым маршалкам. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—30адв.).*

5026. **Рашкоўскі Яўген** (Рошковский Евгений), сын Аркадзя Серафімавіча і Аляксандры Юзафаўны, брат *Юзафа*, памешчык, каталік. Нар. каля 1836 г. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання валодаў часткай маёнтка (з вінакурняй) Дручаны Полацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў атрыманні ад *Другавіны Яна* сабраных грошай на паўстанне і ў самастойным зборы грошай, слуханні паўстанцкага маніфеста, удзеле ў выбарах дэлегатаў ад Полацкага пав., якія павінны былі атрымоўваць і распаўсюджваць распараджэнні паўстанцкіх уладаў, і ў спяванні 19.10.1861 у Полацкім дамініканскім касцёле «падбухторнага гімну». Арыштаваны (да 29.05.1863). На яго частку Дручанаў 30.07.1863 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На маёнтак маці на падставе ўказа МагГП ад 30.11.1863 накладзена забарона. 01.1864 утрымліваўся на сваёй кватэры ў г. Віцебску з прычыны хваробы. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства. Аднак належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—42; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31602—52-53; 1430—1—52163—15, 26-27, 51, 403, 430, 446; 2003—1—211—53-55; 3046—2—3—69адв.-71; 3046—2—5—44).*

5027. **Рашэўскі Юзаф** (Ржешевский Иосиф), сын Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля знаходзіўся ў «невядомай адлучцы». Паводле распараджэнняў А. Патапава ад 21.08.1864 і віцебскага губернатара ад 27.08.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі. У Лепельскім пав. увесну 1865 г. секвестравана яго сумесная з іншымі суўладальнікамі маёмасць у сядзібе Заазер'е Лепельскага пав. *(1416—4—11416—21-23, 226-232).*

5028. **Раюнец Антоні** (Раюнец Антон), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.).*

5029. **Раюнец Юзаф** (Раюнец Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў г. Браславе Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—26; 320—1—398—222адв.).*

5030. **Раюнец Юзаф** (Раюнец Иосиф), сын Марціна, ксёндз. Паходзіў з Вількамірскага пав. Да паўстання з'яўляўся віцебскім дэканам. Западозраны рас уладамі ў веданні і неданясенні пра прамаўленне *Латычам Паўлам* казання з заклікам «аб усталяванні асобых пастоў і літаній з палітычнай мэтай». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 21.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго рухомую маёмасць (мэбля, хатні рыштунак, адзенне, кнігі і г. д.) на суму ў 113,4 руб. ср. на падставе загада віцебскага паліцмайстра ад 13.03.1864 накладзены секвестр. Паводле распараджэння ВГГ ад 30.09.1864 і пастановы ВГП ад 05.10.1864 секвестр здымаўся. 12.10.1864 атрымаў секвестраваныя рэчы *(1416—3—21048—42адв.; 1430—1—52163—272, 287; 2514—1—2117; 3046—2—3—74адв.-75).*

5031. **Раюнец N.** (Раюнец N.). Да паўстання служыў пісьмаводам. Западозраны рас. уладамі

ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—44адв.).*

**Рвінскі Ян** — гл. **Равінскі Ян**

5032. **Рдултоўскі Яўген** (Рдултовский Евгений), сын Канстанціна, памешчык Навагрудскага пав. 04.04.1863 далучыўся да паўстанцаў. 18.11.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. У сувязі з тым, што «генерал-губернатар не знайшоў той шчырасці, якая магла б служыць доказам яго чыстасардэчнага раскаяння», канфірмацыяй М. Мураўёва ад 19.01.1864 прызначаны да высылкі з радзімы. Сасланы пад строгі нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Пазней атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. У 1880 г. жыў у Мінскай губ., 03.1882 у маёнтку Горны Чэрніхаў Навагрудскага пав. *(295—1—1643—193адв., 197; 295—1—3492—10, 40адв., 89адв.; 296—1—77).*

5033. **фон Роберт Марыян** (Фон-Роберт Мариан), сын Аўгустына, дваранін Астраленцкага пав. Плоцкай губ. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. У 1880 г. жыў у г. Ціхвіне Наўгародскай губ., 25.01.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—5-6; 296—1—25—106; 319—1—479—26; 1430—1—52758—36; 3257—2—2—30адв.).*

5034. **Робуш [Стэфан]** (Робуш [Степан]). Да паўстання служыў прыставам 2 стана Слуцкага пав. За дачыненне да справы селяніна *Матусевіча Станіслава* канфірмацыяй З. Манюкіна ад 22.06.1866 прысуджаны да звальнення з забаронай пастypаць на дзяржаўную службу на радзіме *(160—2—683—18).*

5035. **Розга Юзаф** (Розга Иосиф), сын Вінцэнта ці Юзафа, ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Срэднікі Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—26; 320—1—398—131; 1416—6—281; 1430—1—52163—598).*

5036. **Розэн Тэадор** (Розен Федор), сын Тэадора, барон. Да паўстання служыў гарадоцкім павятовым спраўнікам. Западозраны рас. уладамі ў веданні і неданясенні пра «злачынствы» *Войны Пятра*. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 04.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—73адв.-74; 3046—2—5—44адв.).*

5037. **Ройша Фелікс** (Ройша Феликс), мешчанін. Да паўстання служыў фельчарам у г. Лідзе. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

5038. **Ромэль Каспер** (Ромель Гаспер), казённы селянін. Удзельнічаў у паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5039. **Ромэр Альфрэд** (Ромер Альфред), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны да высылкі ў Томскую губ., аднак з прычыны хворага стану пакінуты на радзіме з абавязкам прадаць маёмасць асобе «рускага паходжання» *(2532—1—15—4).*

5040. **Ромэр (фон Ромэр) Вінцэнт** (Ромер (фон Ромер) Викентий), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102).*

5041. **Ромэр Севярын** (Ромер Северин), муж *Тэадоры*, памешчык Гродзенскага і Троцкага пав. З'яўляўся гродзенскім павятовым маршалакам, валодаў сярод іншых маёнткамі Даўгердзішкі, дзе служыў *Паўлоўскі Рыгор*, Балбяны і Гранаполь Троцкага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1416—6—245, 265; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—7, 12).*

5042. **Ромэр Станіслаў** (Ромер Станислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Панары, Яцялюны і Стравенікі Троцкага пав. За «самавольнае абвяшчэнне сялянам вёсак, што належаць да яго маёнтка, складзенага мяцежнікамі загада, што ім даруецца ва ўласнасць зямля, калі яны прымуць у мяцяжы ўдзел», яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5043. **Ромэр Тэадора** (Ромер Теодора), жонка *Севярына*, памешчыца Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Казанскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

5044. **Ромэр Францішак** (Ромер Франц), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пермскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1)*.

5045. **Ромэр Ян** (Ромер Иван). Паходзіў з Троцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

5046. **Рор Антоні** (Рор Антон). Да паўстання служыў сакратаром магістрата ў г. Беластоку; калежскі сакратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238; 2616—1—40—59)*.

**Роўбэ Юзаф** — гл. **Раўбэ Юзаф**

5047. **Рубажэвіч Апалінары** (Рубажевич Апполинарий), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу крэпасцях на 10 гадоў *(319—1—479—26; 1430—1—52163—181адв.)*.

5048. **Рубаш Віктар** (Рубош Виктор), сваяк Канстанцыі (жонкі *Аніхімоўскага Эдмунда*), мешчанін г. Якабштадта. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі М. Крыжаноўскага ад 26.04.1864 сасланы на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. *(295—1—1720—1)*.

5049. **Рубашэўскі Эварыст** (Рубашевский Эварист), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—3адв.)*.

5050. **Рудавіцкі Ян** (Рудовицкий Иван). Да паўстання з'яўляўся прапаршчыкам корпуса ляснічых Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

5051. **Рудакоўскі Вінцэнт** (Рудаковский Викентий), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў г. Ядрын Казанскай губ., на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166; 295—1—1643—192; 1430—1—52285—30)*.

5052. **Рудаміна Вінцэнт** (Рудамина Викентий), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12)*.

5053. **Рудаміна Юзаф** (Рудомино Иосиф), сын Юльяна, дваранін Кобрынскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адмовіўся ад сваіх перакананняў. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на 4 гады на заводах *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—103; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—326-327адв.; 320—2—98—44адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—11адв.; 1525—1—2—5адв.-6)*.

5054. **Рудзінскі Антоні** (Рудзинский Антон), мешчанін г. Гродна. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(162—1—116—166адв.; 296—1—25—103; 319—1—479—26адв.)*.

5055. **Рудзінскі Рыгор** (Рудзинский Григорий), сын Адама Юзафавіча (каля 1800 – 07.01.1881) і Францішкі (каля 1805 – 12.03.1881), брат Апалоніі і Канстанцыі, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Хр. 04.05.1837. Да паўстання служыў пісарам Плешчаніцкага валаснога праўлення. 20.04.1863 увайшоў у склад атрада *Чыжыка Мельхіёра*, 24.06.1863 схоплены сялянамі ў Вілейскім пав. Спачатку на допытах называўся бяспашпартным валацугам Карнелем Дамінікоўскім, але потым сазнаўся. Пастановай ЧПА Віленскай ваеннай акругі ад 21.05.1864, канфірмаванай 07.06.1864 М. Мураўёвым, аднесены да 2 катэгорыі злачынцаў і прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. Ажаніўся з Аляксандрай Васільевай. Пасля адбыцця катаргі адпраўлены на пасяленне ў Кіранскую акругу Іркуцкай губ. У 1874 г. на просьбу яго бацькі пераведзены ў Балаганскую акругу Іркуцкай губ. 23.10.1881, паводле прашэння бацькі і маці атрымаў дазвол вярнуцца ў Мінскую губ. 07.1883 прыбыў у г. Мінск, дзе даведаўся пра смерць бацькоў і ў сувязі з гэтым 08.07.1883 падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца ў г. Іркуцк на сталае жыхарства і ў гэты ж дзень ат-

рымаў пашпарт *(162—1—116—137; 295—1—2545; 295—1—3500; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—573, 575, 577-578, 586-587; 320—2—98—44адв.; 1430—1—52163—242).*

5056. **Рудзіцкі N.** (Рудицкий N.). Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Альбрэхтава (Альбертава) Пінскага пав. памешчыка Скірмунта. Падчас паўстання западозраны ў захоўванні зброі і разам са *Здорам Пятром* і ключнікам *Міклашэўскім N.* арыштаваны (да 07.06.1863). Утрымліваўся ў пінскім гарадскім астрогу. Яго справа 24.06.1863 перададзена ў МСК, якая, ў сваю чаргу, вынесла рашэнне і 16.07.1863 падала яе МГГ, а той 24.07.1863 — да ЧВГМГ *(295—1—1587).*

**Рудкоўскі Феліцыян** — гл. **Руткоўскі Феліцыян**

5057. **Рудніцкі Караль** (Рудницкий Карл), сын Міхала, муж Марыі Мікалаеўны (нар. каля 1840 г.), дваранін Радамскай губ. Да паўстання жыў у Пінскім пав. (?). За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 11.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Табольскую губ. Яго жонка 16.03.1864 па ўласным жаданні выпраўлена этапным парадкам услед за мужам у Сібір *(295—1—1636; 295—1—1643—193; 296—1—25—106; 319—1—479—26).*

5058. **Рудніцкі Людвік** (Рудницкий Людвиг), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—26; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

5059. **Рудніцкі Пётр** (Рудницкий Петр). Да паўстання служыў аканомам маёнтка Дуброва Лідскага пав. графіні Урускай. Паўстанцы ў Дуброве атрымалі харчаванне, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5060. **Рудніцкі Ян** (Рудницкий Иван), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1880 г. як «палітычны ссыльны» жыў у Тамбоўскай губ., 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—24-25; 1430—1—52758—36).*

5061. **Рудовіч Антоні** (Рудович Антон). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі; губернскі сакратар. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8).*

5062. **Рудскі N.** (Рудский N.). Служыў чыноўнікам у Ковенскай (?) губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі паміж 15.01.1864 і 01.03.1864 «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145).*

5063. **Ружэйка Віктар** (Ружейко Виктор), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—44адв.).*

5064. **Румэль Уладзіслаў** (Руммель Владислав), сын Якуба, памешчык Пінскага пав. Служыў у рас. войску, капітан. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Памёр ці загінуў да 29.06.1864. Яго маёнтак Дзеравок (Дзераўка) Пінскага пав. секвестраваны паводле ўказа МГП ад 09.07.1864, а потым канфіскаваны *(162—1—116—166; 296—1—89—17адв.; 299—1—579—165-177; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—462; 320—2—98—44адв.; 534—1—14—8; 1416—4—11416—119адв.; 1430—1—52163—375адв.).*

5065. **Рупейка Клеафас** (Рупейко Клеофас), дваранін Цельшаўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках бестэрмінова *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—26).*

5066. **Рупейка Мікалай** (Рупейко Николай), сын Яна, селянін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў прыналежнасці да паўстання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—12).*

5067. **Рупінскі Антоні** (Рупинский Антон), дваранін Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—26адв.; 1430—1—52163—167).*

5068. **Русецкі Напалеон** (Русецкий Наполеон), дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання служыў намеснікам ігуменскага акруговага наглядчыка Піцейнага ўпраўлення, калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, без следства 23.05.1863 адасланы

ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—85; 320—1—398—375; 320—2—98—44адв.; 1418—3—1—61адв.-62)*.

5069. **Русецкі Юзаф** (Русецкий Иосиф), сын Тэадора, дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання служыў у Віцебскай палаце грамадзянскага суда, не меў чыну, яго маці валодала маёнткам Дзіўнікі Дзісенскага пав. 23.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада *Будзіловіча Ігната*. 13.05.1863 звольнены са службы. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(319—1—479—26; 1416—3—21048—42; 1430—1—31259—7-8, 39; 1430—1—52163—181, 396адв.; 2514—1—2198—69адв.)*.

5070. **Русецкі Ян** (Русецкий Иван), сын Станіслава, дваранін Полацкага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў турме г. Віцебска. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 07.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Нягледзячы на гэта, «як чалавек сумнеўнай добранадзейнасці <…> які займаецца картачнай гульнёй» рашэннем М. Мураўёва прызначаны (да 08.04.1863) да ссылкі пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. 12.03.1864 адпраўлены праз г. Востраў Пскоўскай губ. на месца ссылкі *(1416—4—11365; 3046—2—3—73адв.-74; 3046—2—5—44адв.)*.

5071. **Рустэйка Эдвард** (Рустейко Эдуард), дваранін Ковенскай губ. Скончыў Маскоўскі універсітэт са ступенню кандыдата правоў. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237)*.

5072. **Рутайціс Нікадым** (Рутайтис Никодим). Да паўстанн з'яўляўся вучнем у павятовым вучылішчы ў г. Горках. Гвалтоўна прыцягнуты ў паўстанцкі атрад «з пагрозай забіць яго» падчас захопу паўстанцамі 24.04.1863 Горак. Спачатку яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—69адв.; 3257—1—53—1, 2адв.; 3286—2—1—7адв.)*.

5073. **Рутка Адам** (Рутка Адам), селянін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў прыналежнасці да паўстання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—12)*.

5074. **Руткоўская Марыя** (Рутковская Мария), дачка Габрыэля, памешчыца. Да паўстання валодала фальв. Сакалянка Сенненскага пав., жыла ў г. Сянно. Западозрана ў «заганных размовах палітычнага зместу са злачынцамі», арыштавана, утрымлівалася ў Сянно. 02.05.1864, будучы пад арыштам, падала прашэнне аб дазволе аддаць Сакалянку ў арэнду на 1 год з прычыны немагчымасці займацца гаспадаркай. Яе справа скончана МагСК да 29.05.1864 і пададзена на разгляд магілёўскаму губернатару. Паводле ўказа МагГП ад 27.06.1864 яе маёмасць падлягала секвестру. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(2003—1—420; 3257—1—14—6адв.-7; 3257—2—2—31; 3257—2—8—13)*.

5075. **Руткоўская Юзэфа** (Рутковская Юзефа), дваранка. Да паўстання жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

5076. **Руткоўскі Баляслаў** (Рутковский Болеслав), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237)*.

5077. **Руткоўскі Казімір** (Рутковский Казимир), сын Мацея, дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Казімірава Ашмянскага пав. памешчыка Багдановіча, яго маці валодала маёнткам Трапалава Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дапушчэнні *Чэўжыка Антонія* і *Сяліцкага Міхала* да сувязяў з паўстанцамі і паставак ім харчавання ў лес, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру (гл. таксама *Вагер Вінцэнт*) *(1416—6—274; 1416—6—280)*.

5078. **Руткоўскі Міхал** (Рутковский Михаил), сын Рыгора, селянін Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання разам з *Арашкоўскім Якубам* і *Руткоўскім Сымонам* западозраны ў нападзе на мешчаніна Сінякова «з палітычных прычын», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. 17.12.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Пастановай М. Мураўёва ад 31.12.1863 вызваляўся з-пад арышту і вяртаўся на месца з аддачай на парукі *(1430—1—52163—635-635адв.; 3046—2—5—44адв.)*.

5079. **Руткоўскі Сымон** (Рутковский Семен), сын Тэадора, селянін Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання разам з *Арашкоўскім Яку-*

*бам* і *Руткоўскім Міхалам* западозраны ў нападзе на мешчаніна Сінякова «з палітычных прычын», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. 17.12.1863 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа перададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Пастановай М. Мураўёва ад 31.12.1863 вызваляўся з-пад арышту і, як малагадовы, вяртаўся на месца жыхарства пад нагляд паліцыі *(1430—1—52163—635-635адв.; 3046—2—5—45)*.

5080. **Руткоўскі Уладзіслаў** (Рутковский Владислав). Служыў у Ялецкім пяхотным палку рас. войска; да паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана, жыў у Ашмянскім пав. Удзельнічаў у паўстанні, схоплены. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—129адв.; 1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280; 1430—1—52163—604адв.)*.

5081. **Руткоўскі (Рудкоўскі) Феліцыян** (Рутковский (Рудковский) Фелициан), дваранін Ігуменскага пав. ці Ковенскай губ., каталік. Да паўстання жыў у г. Мінску. За асабісты ўдзел у паўстанні арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.07.1863 адасланы ў Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—189, 192адв.; 296—1—25—103адв.; 319—1—479—26; 320—1—398—193; 1418—3—1—61адв.-62)*.

5082. **Руткоўскі Юзаф** (Рутковский Осип), дваранін. Служыў на рас. грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ., але потым вернуты ў г. Гродна (?). У 1880 г. жыў у Наўгародскай губ., 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—24-25; 1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.; 1430—1—52758—36)*.

5083. **Руткоўскі N.** (Рутковский N.). Удзельнічаў у паўстанні ў якасці камандзіра атрада, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—25адв.; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.)*.

5084. **Руцінскі Аляксандр** (Руцинский Александр), сын Ігната, бацька Зоф'і, *Ксаверыя*, Леана, *Станіслава*, Тэклі і Фелікса, памешчык. Нар. каля 1812 г. Служыў у рас. (?) войску, капітан. Да паўстання служыў кандыдатам міравога пасярэдніка; разам з сынам *Ксаверыем* валодаў фальв. Шамаўшчына і Шалыгаўшчына Мсціслаўскага пав. (агулам 1090 дзес. зямлі, 82 муж. і 99 жан. рэвізскіх душ, 2 млыны, 2 карчмы, фруктовы сад, 700 руб. гадавога прыбытку, 3693 руб. доўгу). За дачыненне да паўстання яго маёмасць апісана (да 04.07.1863) і секвестравана. З 03.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Высланы з двума сынамі з Магілёўскай губ. 08.1864 жыў пад наглядам паліцыі ў г. Вятцы. Пасля Шамаўшчыну прадаў жонцы падпалкоўніка Аўдоцці Васілеўне Паўтарацкай. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву, дзе жыў у 1869 г. *(2003—1—309—1, 6-10; 2003—1—372—210-211; 3257—1—17—3адв.-4; 3257—2—8—13)*.

5085. **Руцінскі Ксаверы** (Руцинский Ксаверий), сын *Аляксандра*, брат Зоф'і, Леана, *Станіслава*, Тэклі і Фелікса, памешчык. Нар. каля 1844 г. Да паўстання валодаў фальв. Шамаўшчына і Шалыгаўшчына Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. З 17.12.1863 быў пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Высланы ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа МагГП ад 31.05.1863 секвестравана (да 12.06.1863), потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—309—1, 6-10; 2532—1—15—10; 3257—1—14—8адв.-9; 3257—1—17—3адв.-4; 3257—2—8—13)*.

5086. **Руцінскі Станіслаў** (Руцинский Станислав), сын *Аляксандра*, брат Зоф'і, *Ксаверыя*, Леана, Тэклі і Фелікса, памешчык Мсціслаўскага пав. Нар. каля 1842 г. За «зносіны з мяцежнікамі і пакіданне ім каня» з 03.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Высланы ў Вяцкую губ. 08.1864 жыў пад наглядам паліцыі ў г. Вятцы. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—10; 3257—1—17—3адв.-4; 3257—2—8—13)*.

5087. **Руцкі Аляксандр** (Руцкий Александр), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да

14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

5088. **Руцкі Ян** (Руцкий Иван), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

5089. **Рушкоўскі Мікалай** (Рушковский Николай), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загаду М. Анненкава ад 31.01.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 11.02.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

5090. **Рушчыц Генрык** (Рущиц Генрих), дваранін Ковенскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195; 3046—2—5—45).*

5091. **Рушчыц Тэафіл** (Рущец Теофил), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.).*

5092. **Рушчыц Францішак** (Рущиц Франц), сын Антонія, дваранін. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання жыў у Вількамірскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

5093. **Рыбакевіч Матэвуш** (Рыбакевич Матеуш), дваранін. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. *(1430—1—52163—615; 1430—1—52285—25адв.).*

5094. **Рыбінскі Эдвард** (Рыбинский Эдуард), дваранін, каталік. Служыў столаначальнікам Гарадоцкага павятовага суда. Западозраны ў зборы грошай на карысць паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—71адв.-72; 3046—2—5—44).*

5095. **Рыбіцкі Эдвард** (Рыбицкий Эдуард), дваранін Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—26).*

5096. **Рыбцэвіч Ян** (Рыбцевич Иван), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

5097. **Рыдзеўскі Антоні** (Рыдзевский Антон), мешчанін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.08.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—12).*

5098. **Рыдэльман Марыяна** (Ридельман Мариана), мяшчанка. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73адв.).*

**Рык Антоні** — гл. **Рыцк Антоні**

**Рык Марыя** — гл. **Рыцк Марыя**

5099. **Рык Тэадор** (Рык Теодор), мешчанін г. Панявежа. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—26; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

**Рык Эмілія** — гл. **Рыцк Эмілія**

5100. **Рыла Канстанцін** (Рылло Константин), сын Тадэвуша, дваранін. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Ёдзі Віленскай губ. Уночы з 9 на 10 сакавіка 1863 г. захоплены паўстанцамі ў Ёдзях. Западозраны рас. уладамі ў добраахвотным злучэнні з паўстанцамі, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5101. **Рылевіч Эдвард** (Рылевич Эдуард), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС пры Яраслаўскім палку, пастановай якога яго бацькі прысуджаны да грашовага штрафу з прычыны «адсутнасці за сынам належнага нагляду» *(295—1—1643—189, 193; 1418—3—1—61адв.-62).*

5102. **Рыльскі Ізыдар** (Рыльский Исидор). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—36).*

5103. **Рымашэўскі Вінцэнт** (Рымашевский Викентий), сын Марціна, дваранін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцім атрадзе, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—128, 156; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—233, 533, 576, 644; 320—2—98—44адв.; 1430—1—52163—526).*

5104. **Рымашэўскі Геранім** (Рымашевский Героним), аднадворац. Падчас паўстання ўтойваў зброю, за што ў 1864 г. аштрафаваны на 5 руб. *(295—1—1643—190).*

5105. **Рымашэўскі (Рамашэўскі) Марцін** (Римашевский (Ремашевский) Мартин), сын Дамініка, дваранін Навагрудскага пав. За «неданясенне начальству пра тых, што адправіліся ў шайку, і дачу ім начлегу» ў 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую (ці Томскую) губ. *(162—1—116—125, 156; 295—1—1643—190; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—530, 644; 1430—1—52163—530адв.).*

5106. **Рымашэўскі Юльян** (Рымашевский Юлиан), сын Юзафа, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання сельскі настаўнік. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй А. Патапава ад 17.12.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—62; 162—1—122—15; 534—1—14—24).*

5107. **Рымгайла Баляслаў** (Рымгайло Болеслав), сын Міхала, дваранін Свянцянскага пав., каталік. Нар. каля 1835 г. Да паўстання 2,5 гады служыў землямерам у маёнтку Барысаўшчына Барысаўскага пав. вялікага князя Мікалая Мікалаевіча. Уночы з 19 на 20.04.1863 разам з *Тарчылам Баляславам* і *Мурашкам Янам* узяты ў атрад *Сніткі Алаізія.* 03.05.1863 падчас пераправы праз р. Бярэзіну ўцёк і 07.05.1863 добраахвотна з'явіўся да станавога прыстава ў м. Бярэзіна Ігуменскага пав., арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Без вытворчасці следства 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Пасля падрабязных паказанняў у МСК вызвалены і вернуты на месца жыхарства. Увесну 1864 г. выкліканы ў МСК для паўторнай дачы паказанняў. Таму як не было выкрыта яго дачыненне «ні да якіх новых злачынстваў», паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 19.05.1864 ізноў вызвалены і вернуты на месца жыхарства *(296—1—50; 1418—3—1—61адв.-62).*

5108. **Рымгайла Віктар** (Рымгайло Виктор), дваранін Ковенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—36).*

5109. **Рымгайла Мацей** (Рымгайло Матвей), дваранін Шавельскага пав. За паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(319—1—479—26; 320—1—398—224).*

5110. **Рымкевіч Ануфры** (Рымкевич Онуфрий), памешчык Цельшаўскага і Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5, 5адв.).*

5111. **Рымкевіч Вільгельміна** (Рымкевич Вильгельмина), дваранка Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджана да высылкі ў Табольскую губ. *(162—1—122—20адв.).*

5112. **Рымкевіч Рамуальд** (Рымкевич Ромуальд), сын Антонія, дваранін. Служыў паручнікам Корпуса шляхоў зносінаў. Да паўстання валодаў маёнткам Спіракі Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—26; 320—1—398—132адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—599адв.).*

5113. **Рымкевіч Фабіян** (Рымкевич Фабиан), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—26; 1430—1—52163—530адв.).*

5114. **Рымкевіч Фелікс** (Рымкевич Феликс), сын Антонія, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Лігумы Панявежскага ці Шавельскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—5).*

5115. **Рымкевіч Феліцыян** (Рымкевич Фелициан), дваранін Віленскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. За дачыненне да паўстання на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.05.1863 і пастановы ВілГП ад 05.06.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—221; 1416—6—243; 1430—1—52163—128).*

5116. **Рымкевіч Юльян** (Рымкевич Юлиан), шляхціц. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. прысуджаны да ссылкі ў Томскую губ. на пасяленне на казённых землях *(295—1—1643—195).*

5117. **Рымкевіч Ян** (Рымкевич Иван), сын Юзафа Станіслававіча, дваранін Ігуменскага пав. Нар. да 1834 г. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. высланы з радзімы ў Томскую губ. Яго зямля ў вак. Уборкі Ігуменскага пав. (39 дзес. 1620 саж., ацэненая ў 201,60 руб.) канфіскавана. У 1873 г. жыў у Томскай губ., падаў прашэнне аб частковай амністыі на падставе маніфеста ад 13/17.05.1871. *(295—1—1643—193адв.; 295—1—2432; 320—2—98—2, 9, 70, 96).*

5118. **Рымкевіч N.** (Рымкевич N.), дваранін Расіенскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

5119. **Рымовіч Фердынанд** (Рымович Фердинанд), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562).*

5120. **Рымтаўт Антоні** (Рымтовт Антон), дваранін Слуцкага ці Мінскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—104адв.; 299—1—577—511-513; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—186; 320—2—98—44адв.).*

5121. **Рымша Юзаф** (Оымша Иосиф), сын Антонія. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання жыў у Вількамірскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

5122. **Рымша Ян** (Римш Иван), дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Барасневічы Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

5123. **Рыпінскі Казімір** (Рыпинский Казимир). Да паўстання з'яўляўся вучнем аптэкара г. Кобрына. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

5124. **Рысінскі Юльян** (Рысинский Юлиан), сын Дыянізія, дваранін Люблінскай губ. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—223; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—30).*

5125. **Рытвінскі Павел** (Рытвинский Павел), сын Тамаша, дваранін Слуцкага пав. Да паўстання жыў у Магілёўскай губ. (?). Добраахвотна знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Звызвалены (да 26.11.1863) у г. Магілёве. Яго рухомая маёмасць (2 кані і вупраж) на суму ў 9,05 руб. ср. 25.10.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад следствам у МагСК і пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй ад 12.10.1863 М. Мураўёва, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». У 1874 ці 1875 г. атрымаў дазвол на часовае прыбыццё на радзіму. У гэты час, як паведамляў слуцкі павятовы спраўнік, «меў сваякоў у Слуцкім пав., якія завалодалі яго маёмасцю і таму не прызнаюць яго сваім сваяком» *(295—1—2538; 319—1—479—26адв.; 320—1—398—124адв., 423адв., 449-451; 320—2—98—44адв.; 1430—1—52163—596б адв.; 2003—1—399; 3257—2—2—30).*

5126. **Рыхлевіч Ян** (Рыхлевич Иван), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—25адв.).*

5127. **Рыхтэр Міхаліна** (Рихтер Михалина), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19).*

5128. **Рыцк (фон-дэр-Рык) Антоні** (Рыцк (фон-дер-Рык) Антоний), сын Аляксандра, брат *Марыі*, *Эміліі* і *Ліпскай Аліны*, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка ці паручніка. Да паўстання разам з сёстрамі валодаў часткай маёнтка Старое Рыкава Рэжыцкага пав., жыў у маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, зняволены ў г. Дынабургу. На Старое Рыкава накладзена забарона паводле пастановы ДСК ад 14.09.1863 і загада віцебскага губернатара ад 18.09.1863 (№ 820). На Рыкава 12.11.1863 накладзены секвестр. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 20 гадоў. Сярод іншага канфіскавана яго залатая булаўка з партрэтам Джузэпэ Гарыбальдзі *(296—1—25—105; 319—1—479—27; 1416—3—21048—42адв.; 1430—1—52163—98, 432, 455, 567адв., 696-697, 826; 2532—1—8).*

5129. **Рыцк Люцыян** (Рыцк Люциан), брат Юзафа, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Калінкава Себежскага пав. За «спачуванне да мяцяжа» ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. На яго маёмасць 12.03.1865 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Брат 04.1865 падаў прашэнне аб дазволе карыстацца часткай даходаў з маёнтка. У 1871 г. атрымаў права прыбыць у Віцебскую губ. на 6 месяцаў з усталяваннем нагляду паліцыі *(1430—1—31307—116адв.; 1430—1—35146—113; 1430—1—52163—558, 813, 825адв.).*

5130. **Рыцк (фон-дэр-Рык) Марыя** (Рыцк (фон-дер-Рык) Мария), дачка Аляксандра, сястра *Ліпскай Аліны*, *Антонія* і *Эміліі*, памешчыца. Да паўстання разам з братам і сёстрамі валодала часткай маёнтка Старое Рыкава Рэжыцкага пав. У яе былі служанкамі *Карповіч Марыя* і *Шаф Алена*. За дачыненне да фарміравання паўстанцкага атрада ў маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. *Ліпскай Аліны* арыштавана і зняволена ў фартэцыі ў г. Дынабургу, дзе ўтрымлівалася за свой кошт. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.02.1864 прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Варонежскую губ. На яе частку маёнтка 15.11.1863 на падставе ўказа ВГП ад 23.10.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—43; 1430—1—52163—432, 455, 567адв., 616адв., 826, 847-857; 2532—1—8).*

5131. **Рыцк Міхал** (Рыцк Михаил), сын Станіслава, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1842 г. Вучыўся ў Полацкім дваранскім павятовым вучылішчы, якое, аднак, не закончыў. 29.03.1861 паступіў на службу пісарам Віцебскага ДДС. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Казімірава Полацкага пав. (143 рэвізскія душы). 18.04.1863 звольнены са службы за «няяўку доўгі час на пасаду». Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе ў Юхавіцкіх лясах Дрысенскага пав. На яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 13.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Адпраўлены па этапе (каля 07.1864) на сталае жыхарства пад нагляд паліцыі ў Енісейскую губ. На маёнтак бацькоў накладзена забарона *(1416—3—21048—42; 1430—1—31259—26-27, 41; 1430—1—31602—57-59; 1430—1—52163—406, 558; 2626—1—305—14-18; 3046—2—3—71адв.-72; 3046—2—5—44).*

5132. **Рыцк (фон-дэр-Рык) Эмілія** (Рыцк (фон-дер-Рык) Эмилия), дачка Аляксандра, сястра *Ліпскай Аліны*, *Антонія* і *Марыі*, памешчыца. Да паўстання разам з братам і сётрамі валодала часткай маёнтка Старое Рыкава Рэжыцкага пав. У яе былі служанкамі *Карповіч Марыя* і *Шаф Алена*. За дачыненне да фарміравання паўстанцкага атрада ў маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. *Ліпскай Аліны* арыштавана і зняволена ў фартэцыі ў г. Дынабургу, дзе ўтрымлівалася за свой кошт. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.02.1864 прызначана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Варонежскую губ. На яе частку маёнтка 15.11.1863 на падставе ўказу ВГП ад 23.10.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—43; 1430—1—52163—432, 455, 567адв., 616адв., 826, 847-857; 2532—1—8).*

5133. **Рыцк Юзэфа** (Рыцк Жозефина), дваранка Лепельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні на яе маёмасць 23.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 18.03.1864 накладаўся секвестр. Ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Кастрамскую ці Арэнбургскую губ. Яе маёмасць пакідалася пад секвестрам *(1416—3—21048—42адв.; 1430—1—52163—413, 558).*

5134. **Рыштаўт Антоні** (Рыштофт Антон), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—62адв.-63)*.

5135. **Рэбіндэр N.** (Ребиндер N.). Да паўстання з'яўляўся студэнтам. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108адв.; 319—1—479—26адв.)*.

5136. **Рэксц Антоні** (Рексц Антон), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—45)*.

5137. **Рэймэр Люцыян** (Реймер Люциан), дваранін. Да паўстання служыў у Ковенскай ПДМ, тытулярны радца. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» паводле канфірмацыі М. Крыжаноўскага, 04.1864 высланы пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. У 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—20-22; 1430—1—52163—201)*.

5138. **Рэйнгардт Роберт** (Рейнгардт Роберт), дваранін Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» ці на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—26; 1430—1—52163—205)*.

5139. **Рэйнгарт Тэадор** (Рейнгарт Теодор), памешчык. Да паўстання арандаваў маёнтак Ягмінішкі Ковенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

5140. **Рэйнгартэн Барон** (Рейнгертен Барон), дваранін Рыжскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—26)*.

5141. **Рэзгаль Ежы** (Резгаль Еж), дваранін Віленскай (?) губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—25адв.; 320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

5142. **Рэйзнэр Іпаліт** (Рейзнер Ипполит), аднадворац Віцебскай губ. Да паўстання жыў у с. Вярхоўка Сквірскага пав. Кіеўскай губ. За ўдзел у паўстанні аддадзены (да 16.03.1865) пад ПВС у Кіеўскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, адпаведны ўказ выдадзены 22.04.1865 і 21.05.1865 Віцебскім ВГП на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 24.03.1865 і адносіны кіеўскага генерал-губернатара ад 16.03.1865 *(1416—3—21048—43; 1416—4—11416—166-168; 1430—1—52163—803-804)*.

5143. **Рэмпэль Леан** (Ремпель Леон), брат *Станіслава*, памешчык Мінскага пав. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Душкава Мінскага пав. Западозраны ў сувязі з паўстанцамі і арыштаваны. На следстве падазрэнне не пацвердзілася, таму 06.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(296—1—19—12адв.-15)*.

5144. **Рэмпэль Станіслаў** (Ремпель Станислав), брат *Леана*, памешчык Мінскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Душкава Мінскага пав. Каля 24.05.1863 да яго прыбыў *Жаброўскі Мікалай*, з якім далучыўся да паўстанцкага атрада *Дыбоўскага Паўла*. Пасля добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, на яго маёнтак на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 накладзены секвестр. Потым вызвалены, а секвестр зняты *(296—1—19—11-13адв.; 296—1—25—113-113адв.; 296—1—50—19; 1416—1—247)*.

5145. **Рэут Адам** (Рэут Адам), сын Леапольда, памешчык, каталік. Да паўстання разам з сёстрамі валодаў маёнткамі Марцінава (993 дзес. зямлі, 2 сады, млын, карчма, 1717 руб. гадавога прыбытку), Шапчына (567 дзес. зямлі, сад, карчма, 1187 руб. гадавога прыбытку), Чаросава (750 дзес. зямлі, млын, 1299 руб. гадавога прыбытку) Лепельскага пав. і Прасмушкі Полацкага пав. (3777 дзес. зямлі, сад, вятрак, піваварня, цагельня, 3034 руб. гадавога прыбытку), 5 пляцаў і дом у г. Полацку (усе маёнткі знаходзіліся ў апякунскім кіраванні Віцебскай ПДМ за даўгі). Западозраны рас. уладамі ў тым, што абраны ад Полацкага пав. дэлегатам, які павінен быў атрымоўваць і распаўсюджваць распараджэнні паўстанцкіх уладаў. Арыштаваны (да 29.05.1863). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 8 гадоў. У 1864 г. маёнткі

заставаліся ў апякунскім кіраванні. Паводле распараджэння У. Вяроўкіна ад 22.09.1863 Прасмушкі падлягалі вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага працэнтнага збору *(319—1—479—26адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—42; 1416—4—11416—285-286адв.; 1430—1—52163—15, 51, 215адв.-216, 231, 244, 406, 409, 445, 446, 449, 569, 570, 596адв., 821адв., 823; 2616—1—40—10адв., 12адв.; 3046—2—3—70адв.-71; 3046—2—5—44).*

5146. **Рэут Алаізі Рышард** (Реут Алоизий-Рихард), сын Паула, брат Мікалая Аляксандра і Фелікса (Феліцыяна), дваранін Полацкага пав. Нар. каля 1812 г. Да паўстання яго бацькі валодалі зямлёй у в. Кабачок Полацкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Паводле ўказа ВГП ад 24.07.1863 на яго маёмасць накладзены секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 ці на 6 гадоў. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 319—1—479—27; 320—1—398—37-53адв., 61, 135, 512-513; 320—2—98—44адв.; 1416—3—21048—42; 1416—4—11416—285, 289адв.-291адв.; 1430—1—52163—26-27, 231, 407адв., 444адв., 447, 570, 596а, 821адв.; 2616—1—40—13).*

5147. **Рэут Альфонс** (Реут (Реутт) Альфонс), сын *Язафата*, брат *Ігната*, дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1823 г. Да паўстання жыў у в. Сяльцо Барысаўскага пав., валодаў разам з братам і бацькам маёнткам Пералогі Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля схоплены. 21.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр, які зняты да 1867 г. Знаходзіўся пад следствам у ВСК па справе аб намове *Тарасевічаў Станіслава* і *Фларыяна* далучыцца да паўстанцкага атрада *(295—1—1527—105адв.; 295—1—1643—193адв.; 1416—3—21048—42; 1430—1—31283; 1430—1—52163—411; 2514—1—2198—69адв.).*

5148. **Рэут Антоні** (Реут Антоний), сын Юзафа, ксёндз. Да паўстання з'яўляўся капеланам памешчыка Рымкевіча[138]. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

5149. **Рэут Антоні** (Реут Антон). Западозраны рас. уладамі ў прыналежнасці да патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК *(3255—1—12—1-1адв.).*

5150. **Рэут Вінцэнт** (Реут Викентий), сваяк (?) *Уладзіслава*, дваранін Мінскай губ. Нар. каля 1848 г. Да паўстання жыў у 1 стане Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(295—1—1527—99адв.; 295—1—1643—193адв.; 1430—1—35146—124).*

5151. **Рэут Вінцэнт** (Реут Викентий), сын Уладзіслава, памешчык, каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Да паўстання валодаў маёнткам Сялгашчыніца Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў спачуванні паўстанню і намеры ўдзельнічаць у ім. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пазней аддадзены пад суд. На яго маёмасць 07.07.1864 паводле патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладзены секвестр. Лепельскі павятовы спраўнік рапартаваў у ВГП 11.11.1864, што маёнтка з такой назвай, а таксама іншай яго маёмасці ў Лепельскім пав. не існуе. Пасля прысуджаны да грашовага штрафу, за нявыплату якога 29.01.1865 працягваў утрымлівацца ў турэмным замку г. Віцебска *(1416—3—21048—43; 1416—4—11416—283; 1416—4—11552; 1430—1—52163—407; 3046—2—3—74адв.-75).*

5152. **Рэут Геранім** (Реут Иероним), сын Антонія, дваранін Віцебскага ці Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1832 г. Разам з *Рэутам Станіславам* западозраны рас. уладамі ў тым, што распавядаў сялянам пра паўстанцкія атрады, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая высветліла, што знаходзіўся таксама ў паўстанцкім атрадзе. Прызнаны ВСК вінаватым, якая 28.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць указам ВГП ад 02.03.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 28.01.1864

[138] Магчыма, *Рымкевіча Рамуальда.*

накладаўся секвестр. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 01.09.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—27; 1416—3—21048—42адв.; 1416—4—11416—62-64; 1430—1—31602—31-33; 1430—1—52163—425, 535, 723; 3046—2—3—72адв.-73; 3046—2—5—44).*

5153. **Рэут Данат** (Реутт Донат), сын Язафата, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1838 г. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Да паўстання жыў у маёнтку, які арандаваў яго дзядзька ў Горацкім пав., і займаўся сельскай гаспадаркай. Западозраны ў агітацыі сярод сялян на карысць паўстання і ў захоўванні стрэльбы і кінжала, 09.05.1863 схоплены сялянамі паводле распараджэння станавога прystава. Зняволены ў турэмным замку г. Смаленска, адкуль 04.1864 падаў прашэнне аб вызваленні ў сувязі з несправядлівым арыштам. Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой прызнаны 08.1864 невінаватым, і адпаведнае заключэнне пададзена смаленскаму губернатару. Вызвалены, 09.1864 знаходзіўся на жыхарстве ў Смаленску пад наглядам паліцыі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 прызнаны невінаватым і прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства на парукі. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588; 2514—1—2198—69адв.).*

5154. **Рэут Ігнат** (Реутт Игнатий), сын Юзафа, сваяк *Юзафа Ігнатавіча*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў «прыёме ў сваім доме невядомага чалавека, які называў сябе дваранінам Сікорскім». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 10.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—42; 3046—2—3—75адв.-76; 3046—2—5—44адв.).*

5155. **Рэут Ігнат-Вільгельм** (Реут Игнатий-Вильгельм), сын *Язафата*, брат *Альфонса*, дваранін Лепельскага пав., каталік. У 1861 г. удзельнічаў у «палітычных дэманстрацыях», за што на яго накладзена спагнанне. Да паўстання служыў у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда, губернскі сакратар. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. 13.09.1863 вызвалены з аддачай на парукі, аднак на падставе загада лепельскага ваеннага павятовага начальніка ад 24.10.1863 ізноў арыштаваны і дастаўлены ў г. Лепель. У 1863 г. звольнены са службы. На яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр. Спачатку ўтрымліваўся пры Віцебскім гарадскім паліцэйскім упраўленні, 10.02.1864 пераведзены ў турэмны замак. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае моцнае падазрэнне» 27.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй А. Патапава ад 22.08.1864 прызнаны «нядобранадзейным у палітычных адносінах і шкодным для знаходжання ў краі», у выніку чаго 09.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ. На яго высылку выдаткавана 441,17S руб., якія належала спагнаць з яго маёмасці, якой, аднак, не было знойдзена *(1430—1—31602—83-84; 1430—1—52163—411, 449адв., 562; 2003—2—96—25; 2514—1—2198—69адв.).*

5156. **Рэут Касільда** (Реутт Касыльда), дачка *Язафата*, сястра *Альфонса* і *Ігната-Вільгельма*, дваранка Лепельскага пав. Западозрана рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам і ў агітацыі сялян удзельнічаць у паўстанні. З 19.09.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 07.08.1864, скончыўшы справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства жыла пад наглядам паліцыі ў Лепельскім пав. Разам з бацькам 12.03.1865 падавала прашэнне аб вызваленні маёнтка бацькі Пералогі Лепельскага пав. ад секвестру *(1416—3—21048—43; 1430—1—31283; 3257—1—14—11адв.-12; 3257—1—17—3адв.-4; 3257—2—8—13).*

5157. **Рэут Мікалай** (Реут Николай), сын Яна і Алаізіі, брат Вацлава, дваранін Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 21.09.1863. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На маёнтак бацькоў Старое Ломшына Мінскага пав. накладзена забарона. Пасля 1871 г. атрымаў частковую амністыю і пераехаў у г. Смаленск. У 1876 г. атрымаў права на вольнае пражыванне ва ўсіх частках Рас. імперыі. У 1872 г. маці падавала прашэнне аб зняцці са Старога Ломшына забароны, у 1883 г. брат хадайнічаў аб выдачы адпаведнай даведкі *(295—1—1643—197адв.; 295—1—3034; 296—1—90—5адв.-6; 299—2—8306; 319—1—479—26адв.; 1418—3—1—61адв.-62; 1430—1—52163—167адв.).*

5158. **Рэут Міхал** (Реутт Михаил), сын Ігната, бацька Міхала, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Варкава Дынабургскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму 31.04.1864 на Варкава накладзены секвестр, які зняты 30.06.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 23.07.1864 *(1416—3—21048—42адв.; 1430—1—52163—567).*

5159. **Рэут Станіслаў** (Реутт Станислав), сын Рамуальда, дваранін Лепельскага пав., каталік. Разам з *Рэутам Геранімам* западозраны рас. уладамі ў тым, што распавядаў сялянам пра паўстанцкія атрады. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 28.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—72адв.-73; 3046—2—5—44)*.

5160. **Рэут Стэфан** (Реут Стефан), сын Сымона, сваяк *Ранвіда Фаўстына*, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1816 г. Да паўстання жыў у в. Купелі Барысаўскага пав. Падчас паўстання хаваў *Р. Ф.* са зброяй, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 13.08.1864 прысуджаны да грашовага штрафу ў 25 руб. ср. і вяртання на месца жыхарства *(162—1—116—140, 164, 166; 295—1—1643—190адв.; 295—1—1715; 320—1—398—568-570, 629, 648)*.

5161. **Рэут Тамаш** (Реут Фома), сын Рамуальда, памешчык. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Лепельскага пав., валодаў маёнткам Чарніца. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На Чарніцу 11.06.1864 ці 01.07.1864 на падставе ўказу ВГП ад 19.03.1864 накладзены секвестр, які здымаўся паводле загада А. Патапава ад 10.10.1864 са спагнаннем падвойнага 10-працэнтнага збору *(1416—3—21048—42адв.; 1430—1—52285—5, 43, 430адв., 444адв., 447, 489-491, 571)*.

5162. **Рэут Уладзіслаў** (Реут Владислав), сваяк (?) *Вінцэнта*, дваранін. Нар. каля 1848 г. Да паўстання жыў у 1 стане Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 08.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе знаходзіўся яшчэ 10.07.1863. Прысуджаны да 20 удараў розгамі, а яго бацька — да штрафу ў 100 руб. *(295—1—1527—99адв.; 295—1—1643—197адв.)*.

5163. **Рэут Фартунат** (Реутт Фортунат), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—13)*.

5164. **Рэут Эдвард** (Реут Эдуард), сын Антонія, памешчык, каталік. Нар. каля 1834 г. Да паўстання з'яўляўся полацкім маршалкам, валодаў маёнткамі Андрэева (з вінакурняй), Гарэцкае і Ворань Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* ва ўдзеле ў выбарах дэлегатаў, якія павінны былі атрымоўваць і распаўсюджваць распараджэнні паўстанцкіх уладаў, і ў «пастаянных сходах палякаў у яго на кватэры», арыштаваны (да 29.05.1863). На маёнтак Андрэева 25.08.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 12.06.1863 накладзены секвестр. На Гарэцкае і Ворань секвестр накладзены на падставе ўказа ВГП ад 19.09.1864. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, як «цалкам нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прызначаны да ссылкі пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. У 1871 г. атрымаў дазвол прыбыць у Віцебскую губ. на 6 месяцаў *(1416—3—21048—42; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—35146—118; 1430—1—52163—15, 51, 53, 403адв., 430, 443адв., 446, 447адв., 570адв., 820; 3046—2—3—71адв.-72; 3046—2—5—44)*.

5165. **Рэут Юзаф** (Реутт Иосиф), сын Ігната, сваяк *Ігната Юзафавіча*, дваранін Полацкага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў «прыманні ў сваім доме невядомага чалавека, які называў сябе дваранінам Сікорскім». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 10.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—74адв.-75; 3046—2—5—44адв.)*.

5166. **Рэут Язафат** (Реут Иосафат), сын Францішка, бацька *Альфонса*, *Ігната-Вільгельма*, *Касільды* і Люцыі (v. Мардвіной), памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Пералогі Лепельскага пав. (8 душ). Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў веданні і неданясенні пра ўдзел у ім сыноў. 01.02.1864 паводле патрабавання ВСК прыбыў з дачкой Люцыяй у г. Віцебск. Маёнтак 24.03.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 і ўказа ВГП ад 22.02.1864 секвестраваны і здадзены ў арэнду за 50 руб. штогод. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае моцнае падазрэнне» 27.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй А. Патапава прызнаны вінаватым у «адсутнасці належнага нагляду» за сынамі і прысуджаны да ўсталявання за ім паліцэйскага нагляду. Яго маёнтак падлягаў вызваленню ад секвестру са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору. 08.1864–12.03.1865 разам з дочкамі падаў 4 прашэнні аб вызваленні маёнтка ад секвестру. Працэнтны збор у 28,75 руб. спагнаны з маёнтка 19.02.1865, а сам маёнтак вызвалены паводле распараджэння А. Патапава ад 30.03.1865 і загада Віцебскай ПДМ ад 22.04.1865 (са спагнаннем дадаткова 51,44 руб.) *(1430—1—31283; 1430—1—52163—411, 431, 449адв., 569адв., 822; 3046—2—3—73адв.-74)*.

5167. **Рэут Ян** (Реутт Иван), сын Леапольда, дваранін Лепельскага пав. Удзельнічаў у паўстан-

ні, забіты. Паводле распараджэнняў А. Патапава ад 21.08.1864 і віцебскага губернатара ад 27.08.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(1416—4—11416—21-23, 226-232; 1430—1—52163—300-301, 415)*.

5168. **Рэут Ян** (Реут Иван), сын Тамаша, дваранін. Нар. каля 1824 г. Да паўстання жыў у м. Красналучка Барысаўскага пав., дзе валодаў 1 валокай зямлі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе знаходзіўся яшчэ 10.07.1863. 04.01.1864 утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Віцебску. Быў пад следствам у ВСК. Сасланы ў Пермскую губ. У 1874 г. вярнуўся ў Барысаў, адкуль праз 6 тыдняў выехаў у г. Варшаву *(295—1—1527—104; 295—1—1643—192; 295—1—3492—44адв., 47адв.; 1430—1—31602—31-33)*.

5169. **Рэхбэрг Тадэвуш** (Рехберг Тадеуш). Нар. у Каралеўстве Польскім. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы за «палітычныя злачынствы». Атрымаў частковую амністыю, у 1876 г. знаходзіўся ў Гродзенскай губ., дзе атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў «Заходнім краі» *(295—1—3031; 1430—1—35976—47-48)*.

# С

5170. **Сабалеўская Анеля** (Соболевская Анеля), дваранка Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 прысуджана ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання», ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя губерні» і секвестру маёмасці *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379)*.

5171. **Сабалеўская Караліна** (Соболевская Каролина), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Казанскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199)*.

5172. **Сабалеўская Тэкля** (Соболевская Текля), дачка Мацея, жонка *Віктара Марцінавіча*, памешчыца. Нар. каля 1821 г. Да паўстання разам з мужам валодала маёнткам Найдзёнавічы Мінскага пав. Падчас паўстання абвінавачана сялянамі маёнтка ў агітацыі на карысць паўстанцаў, таму каля 02.06.1863 разам з мужам арыштавана ваенным начальнікам 3 стана і зняволена ў турэмным замку ў г. Мінску. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ ад 13.08.1863 вызвалена з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства пад строгі нагляд паліцыі *(296—1—19—139-143)*.

5173. **Сабалеўскі Аляксандр** (Соболевский Александр), сын Юзафа, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання служыў памочнікам столаначальніка Магілёўскай казённай палаты, калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання 30.04.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Енісейскую губ. *(1430—1—52163—526; 2003—2—96—10адв.; 3257—2—2—33адв.)*.

5174. **Сабалеўскі Беньямін** (Соболевский Веньямин), сын Віктара, памешчык Мінскай губ. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166)*.

5175. **Сабалеўскі Віктар** (Соболевский Виктор), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102; 319—1—479—27адв.)*.

5176. **Сабалеўскі Віктар** (Соболевский Виктор), сын Марціна, муж *Тэклі*, памешчык. Нар. каля 1799 г. Служыў у канцылярыі міністра імператарскага двара, выйшаў у адстаўку з чынам надворнага радцы. Да паўстання разам з жонкай валодаў маёнткам Найдзёнавічы Мінскага пав. У сувязі з абвінавачаннем жонкі ў агітацыі сялян на карысць паўстанцаў каля 02.06.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Мінску. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.08.1863 вызвалены з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства пад строгі нагляд паліцыі *(296—1—19—139-143)*.

5177. **Сабалеўскі Геранім** (Соболевский Иероним), дваранін Троцкага пав. Да паўстання валодаў надзелам зямлі ў вак. Сейбуты Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—27адв.)*.

5178. **Сабалеўскі Канстанцін** (Соболевский Константин), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—70)*.

5179. **Сабалеўскі Канстанцін** (Соболевский Константин), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі

маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—28; 1430—1—52163—204адв.).*

5180. **Сабалеўскі Міхал** (Соболевский Михаил), памешчык Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12; 2532—1—15—8).*

5181. **Сабалеўскі Францішак** (Соболевский Франц), дваранін Гродзенскай губ. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загаду М. Анненкава ад 11.07.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 13.07.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

5182. **Сабалеўскі Эдвард** (Соболевский Эдуард), дваранін Віленскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546).*

5183. **Сабалеўскі Якуб** (Соболевский Яков), сын Іаахіма, дваранін Ігуменскага пав. За прыём паўстанцаў і дастаўку ім харчавання арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.06.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 01.10.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі. Сасланы ў Табольскую губ., яго фальв. Яцаўшчына Мінскага пав. канфіскаваны. Дваранка Мінскага пав. Марыя Стэфанаўна Паўловіч 15.01.1865 падала хадайніцтва аб вяртанні ёй 400 руб. ср., выдаткаваных на арэнду Яцаўшчыны, але рашэннем Мінскай казённай палаты ад 31.06.1865 яно адхілена *(162—1—116—158; 295—1—1643—204адв., 219; 295—1—1758; 299—1—577—518-543адв.; 1418—3—1—69адв.-70).*

5184. **Сабалеўскі Ян** (Соболевский Иван), сын Юзафа, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам Магілёўскай казённай палаты, калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні 30.05.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 31.08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 28.09.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(534—1—14—5адв.; 1416—4—11416—127; 1430—1—52163—375адв.; 2003—2—96—10адв.; 3257—2—2—34).*

5185. **Сабіна Каятан** (Сабина Каетан), сын Тамаша, селянін. Да паўстання жыў у в. Пастарынне Навагрудскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ, высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—10адв.; 320—1—398—3).*

5186. **Саблінскі Ян** (Саблинский Иван), дваранін. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

5187. **Сабо Канстанцін** (Сабо Константин). Нар. у Ковенскай губ. Служыў у рас. войску; выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Архангельскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—69).*

5188. **Сабяшчанскі Мікалай** (Собещанский Николай), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1879 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—38).*

5189. **Савашкевіч Канстанцін** (Савошкевич Константин). Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

5190. **Савельеў**[139] **Васіль** (Савельев Василий), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 накіравала яго справу магілёўскаму губернатару, 27.09.1863 справа перададзена ў МагВСК *(3366—1—5—10).*

5191. **Савельеў**[140] **Мацвей** (Савельев Матвей), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 накіравала яго справу магілёўскаму губернатару, 27.09.1863 справа перададзена ў МагВСК *(3366—1—5—10).*

---

[139] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[140] Тое ж.

5192. **Савельеў**[141] **Радзівон** (Савельев Радион), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 25.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—9адв.)*.

5193. **Савініч Мечыслаў** (Савинич Мечислав), сын Базыля, дваранін Магілёўскай (?) губ. Нар. каля 1843 г. Да паўстання служыў канцылярыстам 7 Акругі шляхоў зносінаў ці ў МагПДМ. Западозраны ў распаўсюджанні разам з *Катырлам Базылём* адозваў «Зямля і воля», арыштаваны. Утрымліваўся ў г. Магілёве пры Магілёўскім паліцэйскім упраўленні. 04.1864 падаваў прашэнне аб пераводзе ў бальніцу з прычыны дрэннага стану здароўя, 09.04.1864 пераведзены ў бальніцу магілёўскага турэмнага замка. Потым падаваў прашэнне аб адлучэнні ад астатніх арыштантаў, баючыся быць забітым з прычыны зробленых даносаў на паўстанцаў, у тым ліку на *К. Б.* Яго справа разглядалася ў МагСК, пастановай якой ад 30.03.1864 прызначаны да вызвалення ад усялякай адказнасці. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй Часовага Камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі ад 12.11.1864 гэтая пастанова зацверджана. Вызвалены з аддачай на парукі *(3256—2—49; 3257—1—14—9адв.-10; 3257—2—2—34; 3257—2—8—14)*.

5194. **Савінскі Юзаф** (Совинский Иосиф), ксёндз. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1880 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—38)*.

5195. **Савіцкая Эмілія** (Савицкая Емилия), дачка Ігната, памешчыца. За «палітычнае злачынства» яе маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(2514—1—2198—70адв.)*.

5196. **Савіцкі Адольф** (Савицкий Адольф). Да паўстання служыў ковенскім павятовым страпчым, надворны радца. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195)*.

5197. **Савіцкі Аляксандр** (Савицкий Александр), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(1416—4—11416—124, 174-175адв.; 1430—1—52163—603; 3046—2—5—48адв.)*.

5198. **Савіцкі Аляксандр** (Савицкий Александр), сын Паўла, дваранін Магілёўскай ці Мінскай губ. Знаходзіўся на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны ў дачыненні да паўстання ў Магілёўскай губ., за што яго рухомая маёмасць (адзенне, абутак і пасцельная бялізна) на суму ў 22,56 руб. ср. у Рагачоўскім (?) пав. 23.07.1863 апісана, секвестравана і да 21.12.1863 прададзена разам з маёмасцю *Занямойскага Андрэя*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 8 гадоў *(319—1—479—29; 320—1—398—128, 206-209, 222, 401адв.; 320—2—98—45адв.; 2003—2—43; 3257—2—2—32)*.

5199. **Савіцкі Антоні** (Савицкий Антон), дваранін. Да паўстання жыў у г. Коўне. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—27адв.)*.

5200. **Савіцкі Антоні** (Савицкий Антон), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.)*.

5201. **Савіцкі Базыль** (Савицкий Василий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—14)*.

5202. **Савіцкі Валяр'ян** (Савицкий Валериан), дваранін. Да паўстання жыў у м. Янішкі Шавельскага пав., бацькі жылі ў в. Ёдзі Шавельскага (?) пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—27адв.; 1416—6—281)*.

5203. **Савіцкі Вінцэнт** (Савицкий Викентий), зяць *Буйван Евы*, дваранін Магілёўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму на яго маёмасць накладаўся секвестр, які 12.1864 зняты *(2003—1—345—7)*.

5204. **Савіцкі Геранім-Ян** (Савицкий Героним Иван), мешчанін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 23.05.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы

---

[141] Верагодна, гэта імя па бацьку.

ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5205. **Савіцкі Ігнат** (Савицкий Игнатий), дваранін. Да паўстання вучыўся ў егерскім вучылішчы ў г. Саколцы. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

5206. **Савіцкі Ігнат** (Савицкий Игнатий), дваранін. Да паўстання жыў у м. Кейданы Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—181адв.)*.

5207. **Савіцкі Ігнат** (Савицкий Игнатий), «жыхар» Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1837 г. Западозраны рас. уладамі ў далучэнні да паўстанцкага атрада, падлягаў арышту (да 22.08.1863) *(1527—1—4—44-45адв.)*.

5208. **Савіцкі Іпаліт** (Савицкий Ипполит), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Акмяны Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

5209. **Савіцкі Леапольд** (Савицкий Леопольд), дваранін Віленскай губ. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Табольскую губ. *(1430—1—52163—201)*.

5210. **Савіцкі Людвік** (Савицкий Людвиг), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—21адв.; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.)*.

5211. **Савіцкі Марцыян** (Савицкий Марциан), мешчанін м. Шадава Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(319—1—479—28; 320—1—398—224)*.

5212. **Савіцкі Мікалай** (Савицкий Николай), сын Юзафа, брат Яна, памешчык. Да паўстання меў у суўладанні маёнтак Ждановічы Чавускага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць секвестравана і потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. У 1866 г. секвестр з маёмасці зняты *(2003—1—372—189-190, 248-254; 2003—1—445—15; 2003—1—489—37адв.-38адв.; 2532—1—15—9)*.

5213. **Савіцкі Мірон** (Савицкий Мирон), сын Давыда, селянін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—13адв.)*.

5214. **Савіцкі Раман** (Савицкий Роман), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72)*.

5215. **Савіцкі Станіслаў** (Савицкий Станислав), селянін. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія батальёны. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—200, 209; 299—1—577—511-513; 320—1—398—20, 191, 401адв.; 320—2—98—45адв.)*.

5216. **Савіцкі Тамаш** (Савицкий Фома), мешчанін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—28; 1430—1—52163—204)*.

5217. **Савіцкі Уладзіслаў** (Савицкий Владислав), дваранін Віленскай (?) губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—27; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

5218. **Савіцкі Уладзіслаў** (Савицкий Владислав), сын прыстава 2 стана Сенненскага пав. калежскага сакратара Яна Паўлавіча (нар. каля 1804 г.) (праваслаўнага) і Юліі Дамінікаўны Аўгустыновіч (каталічкі), брат Эміліі (нар. 15.04.1841), Казіміра-Віктара (нар. 04.03.1842), Тэклі (нар. 06.05.1843), Міхала (нар. 06.11.1846), Яўгена-Яна (нар. 20.12.1847), Антонія-Вацлава (нар. 10.05.1848) і Антаніны (нар. 13.06.1850), дваранін Магілёўскай губ., праваслаўны. Нар. 07.01.1845 у фальв. Кемен Сенненскага пав., хр. 10.06.1845 у Нямойтаўскай

царкве. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах у г. Горкі. 24.04.1863 увайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, удзельнічаў захопе Горкаў, у тым ліку ў нападзе на казармы мясцовага батальёна ўнутранай варты. З атрадам пакінуў Горкі і 30.05.1863 затрыманы сялянамі разам з *Лапай Юзафам* ля в. Гразівец Чэрыкаўскага пав. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 14.08.1864 перадала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На следстве і судзе выказаў раскаянне і прасіў літасці. Канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў *(534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.; 3257—1—53—2адв.; 3256—2—48; 3257—2—2—34; 3286—2—1—8, 202-204)*.

5219. **Савіцкі Фелікс** (Савицкий Феликс), сын Юзафа, дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 25.08.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(319—1—479—28адв.; 1416—4—11416—131, 174-175адв.; 1430—1—52163—521адв.)*.

5220. **Савіцкі Фларыян** (Савицкий Флориан), сын Ежы, дваранін Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы КГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Секвестравана яго маёмасць на 1,35 руб. *(296—1—19—130-137; 319—1—479—28; 320—1—398—132; 1416—6—269; 1430—1—52163—599)*.

5221. **Савіцкі Фларыян** (Савицкий Флориан), сын Феліцыяна Ксавер'евіча, муж Марыі Антоніеўны Шпілеўскай (нар. каля 1828), незацверджаны дваранін Мінскага пав., каталік. Хр. 29.12.1840. Да паўстання працаваў пальчатачнікам у г. Мінску. Западозраны ў забеспячэнні паўстанцаў харчаваннем, у 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 22.08.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Жонка 22.08.1863 падала прашэнні на імя мінскага губернскага пракурора і А. Кажэўнікава аб дазволе ёй выправіцца разам з мужам у ссылку, якое было задаволена пастановай МГП ад 18.09.1863 *(295—1—1643—202адв., 206; 299—2—6009—8-13; 319—1—479—29; 320—1—398—124адв., 234адв., 246, 424; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—596б адв.)*.

5222. **Савіцкі Францішак** (Савицкий Франц), сын Антонія. Да паўстання з'яўляўся лекарам у Панявежскім (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5223. **Савіцкі Ян** (Савицкий Иван), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—28адв.)*.

5224. **Савіцкі Ян** (Савицкий Иван), сын Юзафа, муж Камілы Андрэеўны, памешчык, каталік. 12.01.1861 набыў маёнтак Рафалава Магілёўскага пав. з в. Рафалава, Лемніца, Масцішча і Рыгораўка. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання 04.1863 арыштаваны, а маёнтак Рафалава (2046 дзес. 2165 саж. зямлі, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, 2 стайні, млын, карчма, лазня, 2 фруктовыя сады і інш., 1029 руб. ср. гадавога прыбытку) секвестраваны. Жонка 17.07.1863 падала прашэнне аб выдачы ёй з дзецьмі часткі даходаў з маёнтка на ўтрыманне. Пазней вызвалены з-пад арышту, паводле распараджэння МагГГ ад 28.08.1864 секвестр здымаўся. У 1866 г. жыў ва ўласным маёнтку ў Магілёўскім пав. *(2003—1—372—248-252; 2003—2—25; 2003—2—96—45, 54)*.

5225. **Савіч Аляксандр** (Савич Александр), дваранін Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—205)*.

5226. **Сагановіч Антон** (Саганович Антон), сын *Ціхана*, брат *Данілы*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Вялікагацкай сельскай грамады Пінскага пав. За дачыненне да паўстання паводле распараджэнняў ЧВГМГ ад 07.09.1864 і М. Мураўёва ад 12.10.1864 у 1865 г. разам з бацькам і братам высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2725—28)*.

5227. **Сагановіч Даніла** (Саганович Даниил), сын *Ціхана*, брат *Антона*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Вялікагацкай сельскай грамады Пінскага пав. За дачыненне да паўстання паводле распараджэнняў ЧВГМГ ад 07.09.1864 і М. Мураўёва ад 12.10.1864 у 1865 г. разам з бацькам і братам

высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2725—28)*.

5228. **Сагановіч Ціхан** (Саганович Тихон), сын Рыгора, бацька *Антона* і *Данілы*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Вялікагацкай сельскай грамады Пінскага пав. За дачыненне да паўстання паводле распараджэнняў ЧВГМГ ад 07.09.1864 і М. Мураўёва ад 12.10.1864 у 1865 г. разам з сынамі высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2725—28)*.

5229. **Садкоўскі Юзаф** (Содковский Иосиф), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5230. **Садоўскі Антоні** (Садовский Антон). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

5231. **Садоўскі Караль** (Садовский Карл), сын Вінцэнта, дваранін Дзісенскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Сасланы. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., там атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—6—280; 1430—1—35146—95)*.

5232. **Садоўскі Тамаш** (Садовский Томаш), дваранін Ашмянскага пав. Падчас паўстання прымаў у сваім доме паўстанцаў і пастаўляў ім харчаванне, за што арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ПВА пры Віленскім арданансгаўзе, канфірмаванай 05.12.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1555—2-3; 295—1—1643—213; 319—1—479—27адв.; 320—1—398—221адв.; 1416—6—280)*.

5233. **Садоўскі Уладзіслаў** (Садовский Владислав), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—27адв.)*.

5234. **Саевіч Уладзіслаў** (Саевич Владислав), сын Пятра, дваранін Слуцкага пав. ці аднадворац засц. Кучыцы Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1843 г. Да паўстання вучыўся ў 6 класе гімназіі. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на 8 гадоў на заводах. Сасланы ў Іркуцкую губ., у 1875 г. перасяліўся ў Наўгародскую губ., дзе хадайнічаў аб выдачы грашовай дапамогі ад дзяржавы. У 1879 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—2776б; 319—1—479—29; 320—1—398—326-327адв.; 1418—4—1; 1430—1—52758—38; 1524—1—1—12адв.; 1525—1—2—5адв.-6)*.

5235. **Сазановіч Гальяш** (Сазонович Илья), сын Леана, дваранін Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1849 г. Разам з *Бянкоўскім Антоніем*, *Зяньковічам Базылём*, *Петражыцкім Паўлам*, *Сямашкам Рыгорам* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Чэрыкава. З 10.08.1864 находзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—1—17—9адв.-10; 3257—2—2—33; 3257—2—8—14)*.

5236. **Сайдак Антоні** (Сайдак Антон), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—27адв.)*.

5237. **Сайкоўскі Ян** (Сайковский Иван), сын Аляксандра і Міхаліны Каралеўны, дваранін. Да паўстання жыў у в. Гута Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 27.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 28.12.1863 высланы 03.1864 у г. Маскву ў распараджэнне МУС для далейшай ссылкі. Сасланы ў Томскую губ. У 1865 г. жыў у г. Лукаянаве Ніжагародскай губ. Яго маці падала прашэнне аб вызваленні яго з-пад паліцэйскага нагляду з дазволам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі для пошуку службы, але яно не было задаволена. Потым пераведзены ў Наўгародскую губ. Пасля амністыі вяр-

нуўся на радзіму, 06.1882 жыў у маёнтку Вязаўніца Ігуменскага пав. *(295—1—1527—106адв.; 295—1—1774; 295—1—3492—68адв., 90).*

5238. **Сакалоў Апалон** (Соколов Аполлон), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання з'яўляўся вольным слухачом Горы-Горацкага сельгасінстытута. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—127адв.; 1430—1—52163—597адв.; 2616—1—40—14адв.).*

5239. **Сакалоўская Юзэфа** (Соколовская Юзефа). Нар. у Каралеўстве Польскім, да паўстання жыла ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

5240. **Сакалоўскі Аляксандр** (Соколовский Александр), сын Барыса, дваранін Шавельскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў захоўванні зброі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 02.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—80адв.-81; 3046—2—5—47адв.).*

5241. **Сакалоўскі Антоні** (Соколовский Антоний), дваранін Віленскай губ. ці Навагрудскага пав. Нар. каля 1835 г. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—221адв.; 1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280).*

5242. **Сакалоўскі Артур** (Соколовский Артур), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—70).*

5243. **Сакалоўскі Браніслаў-Клеменс-Станіслаў** (Соколовский Бронислав-Клеменс-Станислав), сын Ігната Клеменсавіча, памешчык Навагрудскага пав. Нар. 13.12.1834. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Енісейскую губ. Яго частка (1/2) маёнтка Хрольчыцы Навагрудскага пав., якім валодаў разам з братам Юзафам, секвестравана 15.03.1864 паводле распараджэння МГГ. Пасля яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля амністыі перасяліўся ў г. Варшаву, 07.1876 атрымаў дазвол на прыезд у Мінскую губ. на 6 месяцаў. 12.1876 знаходзіўся ва ўласным маёнтку Хрольчыцы *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 295—1—3026—19адв.-20; 296—1—89—74; 320—1—398—676адв., 679, 689; 2532—1—15—14).*

5244. **Сакалоўскі Вінцэнт** (Соколовский Викентий). Меў дачыненне да паўстання *(3255—1—2—46; 3366—1—3—158).*

5245. **Сакалоўскі Людвік** (Соколовский Людвиг). Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Мазыры. Паводле распараджэння мінскага губернатара ад 12.04.1865 за «нашэнне рэвалюцыйных касцюмаў і жаданне стаць у шэрагі паўстанцаў» арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку ў г. Мінску і 27.04.1865 аддадзены пад ПВС. Прысуд адбыўся 11.05.1865 і пададзены мінскаму губернатару. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 19.01.1866 прысуджаны да грашовага штрафу ў 100 руб. і вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі з аддачай на парукі *(295—1—1643—206адв.; 299—2—6399—25-26; 299—2—6400—23адв.-24).*

5246. **Сакалоўскі Пётр** (Соколовский Петр), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195).* Можа быць адной асобай з *Сакалоўскім [Пятром]*, студэнтам Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта.

5247. **Сакалоўскі Пётр** (Соколовский Петр), сын Антонія, дваранін. Да паўстання служыў садоўнікам у маёнтку Ліпава Рэчыцкага пав. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага прысуджаны (да 22.05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—112адв.; 295—1—1643—66, 201, 210адв.; 299—1—579—298-307; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—452адв.; 1430—1—52163—206).*

5248. **Сакалоўскі [Пётр]** (Соколовский [Петр]). Нар. каля 1837 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. 08.1863 дастаўляў арыштаваным паўстанцам карэспандэнцыю з Дынабургскага ці Новааляксандраўскага пав. у г. Вільню. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864), сярод іншага, да пазбаўлення правоў стану і кан-

фіскацыі маёмасці *(320—1—398—223; 2601—1—2—448-449)*. Можа быць адной асобай з *Сакалоўскім Пятром*, дваранінам Ковенскай губ.

5249. **Сакалоўскі Тамаш** (Соколовский Фома), аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Зняволены ў мінскім турэмным замку, адтуль 09.1863 падаваў прашэнне аб памілаванні. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 12.05.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—77; 320—1—398—375; 1418—3—1—65адв.-66)*.

5250. **Сакалоўскі Уладзіслаў** (Соколовский Владислав). Да паўстання з'яўляўся запасным ляснічым 2-га Бабруйскага лясніцтва, падпаручнік. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—151, 166адв.; 319—1—479—29адв.; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.)*.

5251. **Сакалоўскі Фердынанд** (Соколовский Фердинанд), сын Тадэвуша, памешчык Полацкага пав. Нар. каля 1817 г. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны і зняволены ў г. Полацку, дзе знаходзіўся 07.01.1864. Потым пераведзены ў г. Віцебск. Паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 13.03.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў г. Пермь. Па месцы ссылкі 25.06.1864 падаў прашэнне аб выдачы яму 100 руб. ср., забраных у яго падчас арышту, і іншых грошай. Паселены ў г. Кунгур Пермскай губ. 08.12.1864 адпраўлены ў г. Табольск. Па дарозе 28.02.1865 памёр у турэмным замку г. Цюмені *(1416—4—11381; 1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—59)*.

5252. **Сакалоўскі Юзаф** (Соколовский Иосиф), аднадворац Бабруйскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны, сярод іншага, да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—85)*.

5253. **Сакалоўскі Юзаф** (Соколовский Иосиф), дваранін. Да паўстання жыў ля м. Скопішкі Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—28)*.

5254. **Сакалоўскі Юльян** (Соколовский Юльян), шляхціц Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—27адв.)*.

5255. **Сакалоўскі Ян** (Соколовский Иван), сын Пятра, мешчанін г. Нясвіжа. Нар. каля 1836 г. Да паўстання жыў у в. Васілінкі Слуцкага пав. Абвінавачаны ў агітацыі сялян уступіць у паўстанцкі атрад, арыштаваны. Зняволены 02.1863 у астрозе г. Слуцка паводле распараджэння ваеннага начальніка Слуцкага пав. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(295—1—1643—206адв.; 319—1—479—29; 320—1—398—124адв.; 1430—1—52163—596б адв.; 1525—1—2—1адв.-2)*.

5256. **Сакалоўскі Ян** (Соколовский Иван). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, калежскі сакратар. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прызначаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

5257. **Саковіч Антоні** (Сакович Антон), дваранін Слонімскага пав. Нар. каля 1799 г. Да паўстання жыў у в. Дзераваўноскі Барысаўскага пав. Падчас паўстання схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 20.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. вызвалены з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1527—105; 295—1—1643—210)*.

5258. **Саковіч Ежы** (Сакович Юрий), сваяк (?) *Марака* і *Паўла*, дваранін Ковенскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» да пскоўскага губернатара *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

5259. **Саковіч Марак** (Сакович Марк), сваяк (?) *Ежы* і *Паўла*, дваранін Ковенскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» да пскоўскага губернатара *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

5260. **Саковіч Мацей** (Сакович Матвей), сын Антона, селянін, праваслаўны. Да паўстання прыпісаны да Багушэвіцкай сельскай грамады Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*, схоплены рас. войскамі. Зняволены ў г. Ігумене. 28.12.1863 аддадзены пад ПВС паводле распараджэння ЧВГМГ. Прысуджаны да ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады *(295—1—1643—*

*201, 221адв.; 295—1—2725—35адв.; 296—1—56—1адв., 15адв.; 1418—3—1—66адв.-67).*

5261. **Саковіч Павел** (Сакович Павел), сваяк (?) *Ежы* і *Марака*, дваранін Ковенскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» да пскоўскага губернатара *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

5262. **Саковіч Павел** (Сакович Павел), сын Міхала, дваранін Магілёўскай губ. Валодаў уласным маёнткам Дзедзін Клімавіцкага пав. (?). Да паўстання апекаваўся сваім псіхічна хворым дзядзькам *Мышкоўскім Феліцыянам* і кіраваў яго маёнткам Сапрынавічы Мсціслаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, за што Сапрынавічы 01.07.1863 апісаны і секвестраваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК. Напрыканцы 1864 г. секвестр з яго маёмасці зняты *(2003—1—257—1-2, 7адв.-8; 2003—1—418—15; 2003—2—10; 3366—1—5—10).*

5263. **Саковіч Пётр** (Сакович Петр), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 10.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 06.09.1863 справа пададзена М. Мураўёву *(3366—1—5—12).*

5264. **Саковіч Тамаш** (Сакович Фома), сын Аляксандра, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання служыў у канцылярыі. Самавольна пакінуў месца службы, таму западозраны ў імкненні далучыцца да паўстанцаў. Паводле пастановы следчай камісіі і распараджэння М. Мураўёва ад 28.12.1863 высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» з дазволам паступаць на службу на месцы ссылкі «з павагі да маладосці яго гадоў». Яго маёмасць падлягала секвестру, потым забароне, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2001—2—14—9адв.; 2003—1—211—51, 85-93 і інш.; 2514—1—2198—70).*

5265. **Саковіч Фелікс** (Сакович Феликс), сын Антонія, дваранін Мінскага пав. За ўдзел у паўстанні і хаванне «па фальшывых пашпартах» арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.11.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(160—2—682—29; 162—1—122—6; 295—1—1643—205адв.; 320—1—398—666, 668; 534—1—14—16).*

5266. **Саковіч Якаў** (Сакович Яков), сын Тамаша, селянін Ігуменскага пав. Нар. каля 1845 г. Да паўстання прыпісаны да Багушэвіцкай вол. Ігуменскага пав., служыў лакеем у *Свентарэцкага Баляслава.* У паўстанні ўваходзіў у склад атрада *С.Б.* і *Ляскоўскага Станіслава.* Разам з *Булынкам Цэзарам*, *Падалецкім Аляксандрам*, *Тальшэўскім Альбінам* удзельнічаў у павешанні 23(24?).05.1863 у с. Багушэвічы Ігуменскага пав. святара Д. Канапасевіча. Удзельнічаў таксама ў сутычках з рас. войскамі 29.04.1863 ля м. Ляды Ігуменскага пав., 09.05.1863 паміж вёскамі Юрэвічы і Мікулічы Ігуменскага пав. і 09.06.1863. Пасля апошняй у гэты ж дзень схоплены рас. войскамі ля в. Задабрычча Ігуменскага пав. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 26.10.1863 аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку, які 02.11.1863 скончыў справу. Даваў паказанні, сярод іншага, пра *Акуліча Казіміра-Юстына.* Канфірмацыяй В. Забалоцкага ад 13.11.1863 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і павешання. 16.11.1863 павешаны (ці расстраляны) у с. Багушэвічы *(295—1—1643—201адв., 212адв.; 296—1—31—25адв.; 296—1—56; 320—1—398—114; 1416—6—203)**.

5267. **Саковіч Ян** (Сакович Иван), памешчык Бельскага пав. Да паўстання служыў сябрам Управы благачыння ў г. Бельску. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—601адв.).*

5268. **Саковіч Ян** (Сакович Иван), сын Тамаша, брат Апалоніі (v. Дамарацкай), Аляксандра і Ігната, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Курганы Клімавіцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 27.09.1863 справа накіравана ў МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Яго маёмасць секвестравана і потым канфіскавана, аднак 14.06.1865 выдзел яго часткі маёнтка ў казну праведзены не быў *(296—1—25—105адв.; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—3адв.; 2003—1—445—3адв., 15; 2003—1—448; 3257—2—2—32адв.; 3366—1—5—10).*

5269. **Сакольнік Міхал** (Сокольник Михаил), дваранін Віленскага пав. Да паўстання служыў на мызе Арляны графа Тышкевіча. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір

---

* Магчыма, ідэнтычны з *Сіковічам Якавам.*

*(319—1—479—27; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

5270. **Сакульская Антаніна**[142] (Сокульская Антонина), дачка Нічыпара, жонка *Вільгельма*, памешчыца Віцебскай губ. Да паўстання валодала маёнткам Глоданкі Суражскага пав. Паводле распараджэння М. Мураўёва за «палітычную нядобранадзейнасць» без суда і следства 23.10.1863 выслана пад нагляд паліцыі ў г. Арэнбург. На Глоданкі 03.02.1865 накладзены секвестр, які 20.04.1864 яшчэ не зняты. 01.1864 прыбыла ў г. Стэрлітамак Арэнбургскай губ. з двума малагадовымі дзецьмі. Улады выдаткавалі (да 18.08.1864) ёй 100 руб. ср. на ўтрыманне. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў г. Смаленску, там атрымала дазвол прыбыць у Віцебскую губ. на 2 месяцы *(1416—3—21048—44адв.; 1430—1—35146—30; 1430—1—31583—84-91; 1430—1—52163—440-440адв., 608, 826адв.; 1430—1—52285—44, 58адв.).*

5271. **Сакульскі Вільгельм** (Сокульский Вильгельм), сын Іпаліта Тэадоравіча, муж *Антаніны*, дваранін Бабруйскага пав., каталік. Нар. 28.03.1825. Служыў у рас. войску, удзельнічаў у задушэнні паўстання ў Венгрыі ў 1848–1849 гг., за што ўзнагароджаны срэбраным медалём. Выйшаў у адстаўку ў 1851 г. з Валынскага ўланскага палка ў чыне штабс-ротмістра. Да паўстання жыў у маёнтку сваёй жонкі Глоданкі Суражскага пав., двойчы знаходзіўся пад следствам за «буянства». Западозраны ў агітацыі сялян далучыцца да паўстанцаў і ў «варожых водгуках пра законны ўрад», арыштаваны. Падчас вобшуку ў яго знойдзены рэвальвер, пісталет і начынне для іх. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 13.08.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ПВА ад 26.08.1863, канфірмаванай 05.12.1863 М. Мураўёвым, прызнаны вінаватым у «вядзенні злачынных размоў з сялянамі і распаўсюджанні паміж імі фальшывых і падбухторных чутак» і прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, медаля, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—29; 320—1—398—137-144, 222; 320—2—98—45адв.; 1416—3—21048—44адв.; 1430—1—52163—396; 3046—2—3—77адв.-78; 3046—2—5—47).*

5272. **Саладуха Пётр** (Солодуха Петр), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.).*

5273. **Саладухоўскі Ян** (Солодуховский Иван), аднадворац Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—28; 1416—4—11416—114; 1430—1—52163—204).*

5274. **Саламон Аўгуст** (Соломон Август), прускі падданы. За ўдзеў у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—28адв.; 320—1—398—198, 223; 1430—1—52163—126адв.).*

5275. **Саланевіч Ігнат** (Солоневич Игнатий), сын Сымона, селянін. Да паўстання жыў у м. Пагост Пінскага пав., прыпісаны да Пагост-Загародскай сельскай грамады. За «ўдзел у палітычных непарадках» яго драўляны дом з агародам у м. Пагост секвестраваны на падставе распараджэння МГГ ад 26.07.1863. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 12.11.1863 высланы 12.03.1864 на пасяленне на казённых землях у Самарскую губ. *(295—1—2725—27адв.; 296—1—89—11, 17).*

5276. **Саліцкі (Свенцкі) Вандалін** (Солицкий (Свенцкий) Вандалин), памешчык Быхаўскага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—195адв.; 2532—1—15—10).*

5277. **Саломін Сымон** (Соломин Семен), дваранін. Да паўстання служыў у Ковенскай палаце грамадзянскага суда. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—28; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

**Сальмановіч Ежы** — гл. **Сельмановіч Ежы**

5278. **Самалевіч Адам** (Самолевич Адам), мешчанін г. Панявежа. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—166адв.).*

5279. **Самалевіч Ян** (Самалевич Ян), мешчанін г. Панявежа. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—166адв.).*

---

[142] У некаторых дакументах яе імя памылкова падаецца як Вільгельміна — блытаецца з імем яе мужа.

**Самарока Рамуальд** — гл. **Сумарок Рамуальд**

5280. **Самель Францішак** (Самель (Саммеля) Франц), сын купца Тэадора. Нар. у Чэрыкаўскім пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў дачыненне *Еўціхевіч Юзаф*. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105адв.; 3257—2—2—12, 32адв.; 3366—1—5—11адв.)*.

5281. **Самковіч Юзаф-Ян** (Самкович Иосиф-Иван), сын Ежы Юзафавіча, дваранін Барысаўскага пав. Нар. 13.05.1839. Да паўстання жыў у в. Гапонавічы Сенненскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены і дастаўлены ў г. Барысаў. 02.06.1863 зняволены ў барысаўскай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—64; 295—1—1527—104; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 319—1—479—29; 320—1—398—282, 293, 401; 320—2—98—45адв.)*.

5282. **Самоты Ежы** (Самотый Юрий), аднадворац Вілейскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—28; 1430—1—52163—204адв.)*.

5283. **Самуйла Караль** (Самуйло Карл), дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання прызначаны лекарам у Зарэчна-Талачынскую і Абчугскую вол. Сенненскага пав. для лячэння сялян, атрымаў 100 руб. ср. і хлеба на 20 руб. ср. на ўладакаванне. Падчас паўстання зрабіў спробу сфарміраваць атрад у фальв. Слепцы Сенненскага пав. *Хмаровіча Тамаша*. Арыштаваны (да 20.11.1863) і зняволены ў турме ў г. Сянно. Знаходзіўся пад следствам у АСК. Яго рухомая маёмасць секвестравана і прададзена за 42,03 руб. ср. Сяляне згаданых валасцей падалі да яго грашовую прэтэнзію, але адмовіўся ад доўгу. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, дзе меў таксама дачыненне да справы *Чаховіча Ігната*. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 15 гадоў *(319—1—479—27адв.; 1430—1—52163—530; 2003—1—422; 2514—1—2198—70; 3255—1—12—2, 3адв.-4; 3257—2—2—32, 33адв., 37)*.

5284. **Самуйла Сымон** (Самуйло Семен), сын Юзафа, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Западозраны ў агітацыі ўдзельнічаць у паўстанні «двараніна Дымарацкага і аднадворца Лапу». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 20.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—80адв.-81)*.

**Самуйла-Суліма Баляслаў** — гл. **Суліма-Самуйла Баляслаў**

5285. **Самулінскі Казімір** (Самулинский Казимир), дваранін Гродзенскай губ. Служыў пісьмаводам міравога пасярэдніка 2 участка. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Сасланы. У 1879 г. жыў у г. Спаску Тамбоўскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ. *(295—1—3372—3-4; 319—1—479—28адв.; 320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.; 1430—1—52758—38)*.

5286. **Самульскі N.** (Самульский N.). Нар. у Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні ў якасці камандзіра атрада, куды ўваходзілі *Глябовіч Адольф*, *Палькоўскі Міхал*, *Стравінскі Дыянізі* і інш. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(295—1—3688—21-23; 319—1—479—29)*.

5287. **Санкевіч Антоні** (Санкевич Антон). Да паўстання служыў лекарам духоўнага вучылішча ў г. Слуцку. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1571—2адв., 7; 320—1—398—2адв.)*.

5288. **Санкоўскі Юзаф** (Санковский Иосиф), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—27адв.)*.

**Саноцкі Караль** — гл. **Сяноцкі Караль**

5289. **Сапінскі Тэлясфор** (Сапинский Телесфор), дваранін. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Шукішкі Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5290. **Сапкоўскі Юзаф** (Сапковский Иосиф), дваранін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102)*.

**Сапнеўскі Уладзіслаў** — гл. **Сіпнеўскі Уладзіслаў**

5291. **Сапоцька Канстанцін** (Сапоцько Константин), дробнапамесны ўладальнік Сакольскага

пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

5292. **Сапоцька Юзаф** (Сапоцко (Сапоцько) Иосиф), памешчык Вілейскага пав. За «мацюканне сялян і неданясенне пра знойдзеныя кулі» ў 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС, паводле пастановы якога прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Наўгародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—201адв., 209адв.; 1430—1—52285—9адв.; 2532—1—15—11).*

5293. **Сапрыка (Сапрына) Казімір** (Сaприко (Саприно) Казимир), сын Міхала, памешчык. Нар. каля 1838 г. Да паўстання разам са сваякамі валодаў часткай маёнтка Палавінны Лог Магілёўскага пав., служыў чыноўнікам. Разам з *Галіноўскім Аляксандрам* і *Касачэўскім Лукашам* абвінавачаны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Арыштаваны, зняволены ў казармах батальёна ўнутранай варты г. Магілёва. З 19.07.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 31.08.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 31.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 13.11.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі. Яго частка Палавіннага Лога секвестравана і ў 1866 г. канфіскавана *(1416—4—11416—132адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—276—12-13адв.; 2003—1—445—4; 2003—2—90; 3257—1—17—6адв.-7; 3257—2—2—33; 3257—2—8—14).*

5294. **Сапульнік (Сяйпульнік) Ян** (Сапульник (Сейпульник) Иван), селянін Люцынскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, за што арыштаваны. Паводле рашэння ПВС за ўдзел у паўстанні і абразу судовага следчага ў 1864 г. сасланы ў Самарскую губ. На падставе распараджэння МУС пераведзены на пасяленне на казённых землях у Рыбінскую вол. Канскай акругі Енісейскай губ. У 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 26.07.1876 выбыў за свой кошт на радзіму з Канскай акругі, 07.08.1876 пакінуў г. Краснаярск Енісейскай губ. *(1430—1—35976—34-42).*

5295. **Сарасек Ежы** (Саросек Юрий). Да паўстання служыў у Гродзенскай ПДМ, калежскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237адв.).*

5296. **Сарасека (Сарасек) Канстанцін** (Саросеко (Саросек) Константин), сын Вінцэнта, памешчык, каталік. Нар. каля 1824 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання валодаў маёнткам Сакалішча Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што абраны дэлегатам ад Полацкага пав. для атрымання і распаўсюджвання распараджэнняў паўстанцкіх уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёнтак 12.09.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказа ВГП ад 02.07.1864 накладзены секвестр, які не зняты да 01.10.1864. Потым аддадзены пад суд. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—44; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—404адв., 429адв., 443адв., 446адв., 570адв.; 3046—2—3—75адв.-76; 3046—2—5—47).*

5297. **Сарока Міхал** (Сорока Михаил), памешчык Ашмянскага пав. У яго служыў аканомам *Завістоўскі Эдвард.* За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—280; 1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—11адв.).*

5298. **Сарока Тамаш** (Сорока Томаш), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28; 320—1—398—224).*

5299. **Сарока Эдвард** (Сороко Эдуард), селянін. Западозраны ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая не знайшла доказаў віны. У сувязі з гэтым паводле распараджэння ЧВГМГ і адпаведна МГГ ад 06.1864 падлягаў вызваленню і вяртанню на месца жыхарства *(295—1—1584—15).*

5300. **Сарока Юзаф** (Сороко Иосиф), дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Сходіна Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП

ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—27; 320—1—398—128; 1416—3—21048—45; 1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—603).*

5301. **Сарока (Сорак) Ян** (Сороко (Сорок) Иван), дваранін Шавельскага пав. Да паўстання жыў у м. Янішкі Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—28; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.).*

5302. **Сарцэвіч Ян** (Сарцевич Иван), сын Цыпрыяна, дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі А. Патапава ад 19.04.1865 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання»; яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—256).*

5303. **Сасіновіч N.** (Сосинович N.), дваранін Віленскай губ. Яго бацька валодаў маёнткам у Віленскай губ. Да паўстання знаходзіўся ў г. СПб, адкуль прыбыў на радзіму. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—27адв.; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125).*

5304. **Сасноў Мікалай** (Соснов Николай), мешчанін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—27; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

5305. **Сасноўскі Казімір** (Сосновский Казимир), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—102; 319—1—479—27адв.).*

5306. **Сасноўскі Канстанцін** (Сосновский Константин), сын *Маўрыцыя*, брат *Оттана*, дваранін Полацкага пав. Далучыўся да паўстанцаў у Лепельскім пав., 05.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—105; 1416—3—21048—44; 1430—1—52163—12-14, 407адв.; 2626—1—305—46-47).*

5307. **Сасноўскі Леан** (Сосновский Леон), сын Бенядыкта, селянін. Нар. каля 1838 г. Да паўстання служыў лакеем у *Любамірскага Стэфана.* Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, які 23.04.1863 сабраўся ў фальв. Зарубы Горацкага пав. і накіраваўся ў г. Горкі, арыштаваны. З 25.05.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 25.04.1864 скончыла яго справу і падала яе магілёўскаму губернатару. 03.1864 утрымліваўся ў турэмным замку г. Магілёва. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2001—2—127—7; 2514—1—2198—70; 3255—1—14—5; 3257—1—14—5адв.-6; 3257—1—17—10адв.-11).*

5308. **Сасноўскі Маўрыцы** (Сосновский Маврикий), сын Тэадора, бацька *Канстанціна* і *Оттана*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Вусвіца Полацкага пав., з 08.1862 у яго жыў *Адамовіч Антоні.* Абвінавачаны ў тым, што разам з сынамі далучыўся да паўстанцаў у Лепельскім пав. і дазволіў у сябе з'езд асоб, якія спачувалі паўстанню. 05.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі, пасля меркавалася перавезці яго ў г. Дынабург. На яго маёмасць накладаўся секвестр, а потым забарона. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле пастановы ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 23.04.1865 А. Патапавым, прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства з аддачай на парукі. Аднак за дазвол *А. А.* пражываць у сваім доме без пісьмовых дакументаў з яго маёнтка належала спагнаць узмоцнены 20-працэнтны збор, пасля чаго вызваліць яго ад секвестру *(1416—4—11416—242-255; 1430—1—52163—12-14, 407адв.; 3046—2—3—83адв.-84).*

5309. **Сасноўскі Міхал** (Сосновский Михаил), дваранін Віленскай губ. За «палітычную нядобранадзейнасць» паводле канфірмацыі «Галоўнага начальніка Паўночна-заходняга краю» сасланы. У 1871 г. жыў у Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—123).*

5310. **Сасноўскі Оттан** (Сосновский Оттон), сын *Маўрыцыя*, брат *Канстанціна*, дваранін Полацкага пав. Далучыўся да паўстанцаў у Лепельскім пав., 05.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі. На яго маёмасць накладаўся секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—105; 1416—3—21048—44; 1430—1—52163—12-14, 407адв.; 2626—1—305—46-47).*

5311. **Сасноўскі Пётр** (Сосновский Петр), сын Адама, селянін. Да паўстання прыпісаны да в. Бахава Горацкага пав. кн. *Любамірскага Стэфана.*

Западозраны рас. уладамі ва ўваходжанні ў склад паўстанцкага атрада ў Магілёўскай губ. Трапіў пад следства ў АСК, даваў паказанні пра *Круковіча Палікарпа*. Яго справа 22.12.1864 пададзена магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70; 3255—1—14—5; 3255—1—12—2; 3257—2—2—34).*

5312. **Сасноўскі Юльян** (Сосновский Юлиан), дваранін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.).*

5313. **Сасноўскі Ян** (Сосновский Иван), сын Бенядыкта, селянін. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70).*

5314. **Сасонка Адам** (Сосонко Адам), сын Міхала, дваранін Лідскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Раксці Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі дваравых людзей далучацца да паўстання. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149; 1416—6—274).*

5315. **Сасуліч Караль** (Сосулич Карл), дваранін Ваўкавыскага пав. Служыў у рас. войску; выйшаў у адстаўку штабс-капітанам. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 12 гадоў *(319—1—479—29; 1430—1—52163—205адв.).*

5316. **Сасуліч Ксаверы** (Сосулич Ксаверий), дваранін. Да паўстання валодаў маёнткам Харашэвічы Слонімскага пав., служыў акцызным наглядчыкам у Ваўкавыскім пав. За дачыненне да паўстання аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 08.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—126; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—289; 1430—1—52163—602).*

5317. **Саткоўскі Ігнат** (Сотковский Игнатий). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 11.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—5).*

5318. **Сатоўскі Мікалай** (Сатовский Николай), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Пермскую губ. *(1430—1—52163—201).*

5319. **Саўнора Вінцэнт** (Совноро Викентий), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—204адв.).*

5320. **Сафронаў Ян** (Софронов Иван), селянін. Да паўстання прыпісаны да м. Чачэрск Рагачоўскага пав., служыў кухарам у фальв. Самсоны Магілёўскага пав. Ануфрыя Венцлавовіча. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны (да 31.05.1863). Яго рухомая маёмасць (адзенне, бялізна і інш.) на суму ў 2,46 руб. у фальв. Самсоны 20.06.1863 апісана і секвестравана, але да 1867 г. падлегла вяртанню ў яго валоданне. У МагВСК меў дачыненне да спраў *Венцлавовіча Ануфрыя* і *Гаўрыловіча Ігната (2003—1—216; 2003—2—4; 2003—2—19—17; 2514—1—2198—69адв.; 3257—2—2—32адв.).*

5321. **Сацэвіч Тэафіл** (Сацевич Теофил), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—181адв.).*

5322. **Сачкоўскі Аляксандр** (Сачковский Александр), сын Яна, брат Францішка, муж Паўліны Ігнатаўны, шляхціц Ашмянскага пав. Да паўстання служыў лесніком у маёнтку Налібокі Ашмянскага пав. Падчас паўстання ў давераным яму лесе знаходзіўся атрад паўстанцаў. Арыштаваны за «веданне і неданясенне начальству» пра гэты атрад. Пастановай ПВА пры Віленскім ардананс-гаўзе, канфірмаванай 05.12.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1876 г. жыў у ссылцы ў Табольскай губ. у складзе мяшчан *(295—1—1555—2-3; 295—1—1643—213; 295—1—3022—187-188, 197; 319—1—479—27адв.; 320—1—398—221адв., 657-661, 715-719).*

5323. **Сашаль Тэадор** (Сашель Федор), дваранін. Да паўстання служыў фельчарам. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.).*

5324. **Сашаль Францішак** (Сашель Франц), сын купчыхі Кацярыны. За дачыненне да паўстання на маёнтак маці на падставе ўказа МагГП ад 08.10.1864 накладзена забарона *(2003—1—211—53-55).*

5325. **Сбугемскі (Збагемскі) N.** (Сбугемский N.). Нар. у Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(319—1—479—29)*. Магчыма, гэта псеўданім *Чудоўскага N.*

5326. **Свалынскі [Алаізі]** (Сволынский [Алоизий]). Да паўстання служыў міравым пасярэднікам у Дрысенскім пав. 12.1863 западозраны клясціцкім валасным старшынёй і дрысенскім ваенна-павятовым начальнікам у «нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах». Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(1430—1—31275—176; 3046—2—5—48адв.)*.

5327. **Сварацкі Леанард** (Сварацкий Леонард), сын Казіміра, муж Юзэфы Янаўны, дваранін. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання жыў у м. Асвея Дрысенскага пав., з'яўляўся даверанай асобай памешчыка *Шадурскага Аўгуста*. Западозраны ў веданні пра падрыхтоўку паўстання і далучэнне некаторых асоб да яго. Арыштаваны (каля 07.1863). Спачатку ўтрымліваўся ў г. Дрысе, 09.1863 пераведзены ў Дынабургскую фартэцыю. Разам з *Анкудовічам Баляславам*, *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гараднікам Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і іншымі знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Жонка 07.11.1863 падала на імя віцебскага ваеннага губернатара прашэнне аб яго вызваленні, якое 15.11.1863 было адхілена. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 падлягаў вызваленню і вяртанню на месца жыхарства *(1416—2—12677—32-33адв.; 2601—1—2—388, 408-409; 2601—1—5—7адв.)*.

5328. **Свентарэцкая Алімпія (Алімпіяда)** (Свенторжецкая Олимпия (Олимпиада)), маці Алімпіі, Марыі, Тэадозіі, Эвеліны і *Юзэфы*, памешчыца. Да паўстання валодала 1/7 часткай маёнтка Канстантова Сенненскага пав. (гл. *Свентарэцкая Юзэфа*). 28.10.1863 арыштаваны разам з *Аскеркам Міхалам* у г. Востраве Пскоўскай губ. Паводле пастановы следчай камісіі прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Пермскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру. Паводле распараджэння МагГП ад 22.01.1864 яе частка маёнтка 26.01.1864 секвестравана. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 23.06.1864 і ўказа МагГП ад 08.03.1866 секвестр з маёмасці зняты, аднак пэўны час на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—195адв.; 2003—2—88; 2532—1—15—9адв.; 3256—2—29—27адв.)*.

5329. **Свентарэцкая Ганна** (Свенторжецкая Анна), дачка Аляксандра, жонка *Часлава*, маці *Баляслава*, памешчыца. За ўдзел у паўстанні *Баляслава* і па падазрэнні ў «палітычнай нядобранадзейнасці» выслана (да 01.06.1864) з мужам «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Маёнтак Траскоўшчына Мінскага пав. і 20 000 дзес. лесу ў Ігуменскім пав., якімі яна валодала разам з мужам, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 31.01.1864; пасля смерці мужа ў 1866 г. яны канфіскаваны *(295—1—1643—207адв., 214адв., 219; 296—1—89—7адв., 123, 137адв.; 299—1—577—338-339адв.; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

5330. **Свентарэцкая Лаўра** (Свенторжецкая Лаура), дачка Казіміра, жонка *Баляслава*, памешчыца. За ўдзел у паўстанні мужа 1/7 драўлянага дома з прыбудовамі ў г. Мінску і маёнткаў Черкасы Мінскага пав. (паводле распараджэння МГГ 07.08.1864), а таксама маёнткаў Блужа, Гародна, Весялова, Суцін Ігуменскага пав. (распараджэнне МГП ад 11.09.1864) секвестраваны *(162—1—116—132; 295—1—1900—9адв.-10; 296—1—25—70; 296—1—89—8, 27адв., 37адв.-38, 68адв.)*.

5331. **Свентарэцкая Тэкля** (Свенторжецкая Текля), дваранка. За сувязі з паўстанцамі ў 1864 г. прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» *(295—1—1643—203адв.)*.

5332. **Свентарэцкая Юзэфа** (Свенторжецкая Юзефа (Жозефина)), дачка *Алімпіі*, сястра Алімпіі, Марыі, Тэадозіі і Эвеліны, памешчыца. Да паўстання валодала часткай маёнтка Канстантова Сенненскага пав. (2 фальваркі Канстантова і Шыркаўка, агулам 180 валок 5 дзес. 901 саж. зямлі, бровар, карчма, млын і інш.) на правах суспадчынніцы. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Пермскую губ. Паводле распараджэння МагГП ад 22.01.1864 яе частка маёнтка 26.01.1864 секвестравана. На падставе распараджэння М. Мураўёва ад 23.06.1864 і ўказу МагГП ад 08.03.1866 секвестр з маёмасці зняты (пэўны час на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлягала абавязковаму продажу) *(1430—1—52163—195адв.; 2003—2—88; 2532—1—15—9адв.)*.

5333. **Свентарэцкі Апалінары** (Свенторжецкий Аполинарий), сын Уладзіслава, дваранін. Нарадзіўся ў в. Крывічы Мінскага пав., жыў там да паўстання. Удзельнічаў у паўстанні, пасля паражэння хаваўся пад фальшывымі пашпартамі. Яго маё-

масць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. Арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 27.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». На маёнтак яго бацькі Крывічы (Малыя Крывічы) накладзена забарона паводле распараджэння М. Мураўёва. Пасля атрымання частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву і ў 1876 г. запісаны ў склад сталых яе жыхароў. Жыў у доме № 970 ст. 78 *(162—1—116—146, 156; 295—1—1643—204, 219, 220; 296—1—19—11-13адв.; 296—1—89—28; 299—2—7542; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—644; 1416—1—247; 1430—1—52163—535).*

5334. **Свентарэцкі Багдан** (Свенторжецкий Богдан), сын Барталамея, дваранін. Да паўстання жыў у фальв. Варнавугал ля м. Койданава Мінскага пав. Западозраны ў «садзейнічанні мяцежнікам», арыштаваны паводле адносіны ваеннага начальніка Барысаўскага пав. ад 22.12.1863. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—206; 1527—1—4—134).*

5335. **Свентарэцкі Баляслаў** (Свенторжецкий Болеслав), сын *Часлава* і *Ганны*, муж *Лаўры*, памешчык. Хр. 07.02.1831. У яго служылі лакеямі *Падалецкі Аляксандр* і *Саковіч Якуб*. У паўстанні ўваходзіў у склад т.зв. Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Перадаў *Крупскаму Баніфацыю-Вінцэнту* дакументы з распараджэннямі паўстанцкіх уладаў для капіравання і распаўсюджвання. 17.04.1863 прыбыў у свой маёнтак Багушэвічы Ігуменскага пав. і сфарміраваў атрад, колькасць якога затым узрасла прыкладна да 200 чал. і ў які, сярод іншых, уваходзілі *Акулічы Баляслаў-Юзаф* і *Казімір-Юстын*, *Альшэўскі Станіслаў*, *Баратынскі Уладзіслаў*, *Булынка Цэзар*, *Варпяхоўскі Юльян*, *Вярыга Браніслаў*, *Гарбатоўскі Юзаф*, *Дамброўскі Леан*, *Дземідовіч Канстанцін-Андрэй*, *Дземянтовіч Аляксандр*, *Дышлеўскі Юзаф*, *Кавецкі Канстанцін*, *Казлоўскі Казімір*, *Канапацкі Базыль* (?), *Мількевіч Гіляры*, *Нарэвіла Мамерт* (?), *П.А.*, *Саковіч Мацей*, *С.Я.*, *Тальшэўскі Альбін*, *Цехановіч Ян*, *Шыдлоўскі Адольф* і якому пастаўляў харчаванне *Ялоўскі Юзаф*. 17.04.1863 абвясціў у Багушэвічах паўстанцкі маніфест. Удзельнічаў у трох сутычках з рас. войскамі, у выніку чаго атрад зменшыўся да 70 чал. Пасля паражэння перадаў (каля 09.1863) камандаванне атрадам *Ляскоўскаму Станіславу*, пакінуў радзіму і выехаў за мяжу. Яго фотаздымак рассылаўся павятовым спраўнікам для пошуку і арышту. Яго маёнтак Багушэвічы з фальваркамі Высокая Гара, Ляды (дзе служыў *Татур Мацей*), Горкі і Ганутава Ігуменскага пав. з рухомай маёмасцю ў 723,15 руб. секвестраваны паводле загада ЧВГМГ ад 01.06.1863 і 05.07.1863 прыняты ў распараджэнне ПДМ. Маёнтак яго бацькоў Траскоўшчына Мінскага пав. і 20 тыс. дзес. лесу ў Ігуменскім пав. канфіскаваны пасля смерці яго бацькі ў 1866 г. Таксама накладзены секвестр на 1/7 частку маёнткаў яго жонкі Чаркасы Мінскага пав. і Блужа Ігуменскага пав. *(162—1—116—38, 39адв., 132; 295—1—1527—111; 295—1—1643—207адв.; 296—1—25—71; 296—1—56; 296—1—89—7адв., 31адв.-32, 123; 299—1—579—165-177; 319—1—479—29; 320—1—398—196, 197адв., 462, 468; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—125адв.; 2001—2—75; 2586—1—22—17-20).*

5336. **Свентарэцкі Родрыг** (Свенторжецкий Родриг), дваранін Мінскага пав. Хр. 12.08.1823. Да паўстання служыў неад'емным сябрам ад дваранства Мінскай будаўнічай і дарожнай камісіі, калежскі асэсар. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Яго рухомая маёмасць у 18,17 руб. канфіскавана. У 1884 г. яму вернуты правы дваранства *(162—1—116—35; 295—1—1643—214, 220адв., 222; 299—1—577—338-339адв.; 299—1—579—165-177; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—462, 468; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375).*

5337. **Свентарэцкі Цэзар** (Свенторжецкий Цезарий). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За «неданясенне Начальству пра збор шайкі мяцежнікаў» у 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—203адв.).*

5338. **Свентарэцкі Часлаў** (Свенторжецкий Чеслав), бацька *Баляслава*, муж *Ганны*, памешчык Мінскага пав. За ўдзел у паўстанні *Баляслава* і па падазрэнні ў «палітычнай нядобранадзейнасці» высланы (да 01.06.1864) разам з жонкай «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Маёнтак Траскоўшчына Мінскага пав. і 20 000 дзес. лесу ў Ігуменскім пав., якімі валодаў разам з *Ганнай*, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 31.01.1864; пасля яго смерці ў 1866 г. яны былі канфіскаваны *(295—1—1643—207адв., 214адв., 219; 296—1—89—7адв., 28, 123; 299—1—577—338-339адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

5339. **Свентарэцкі Юзаф** (Свенторжецкий Иосиф), сын Бенядыкта, дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе ў Дзісенскім пав. Арыштаваны, утрымліваўся пры Дынабургскім ардананс-гаўзе. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.12.1864 прысуджаны да ссылкі на жыхарства

ў Томскую губ. і секвестру маёмасці. З маёнтка яго бацькі спаганяўся 10-працэнтны збор *(160—2—682—62; 162—1—122—10; 295—1—1643—222адв.; 534—1—14—20)*.

**Свенцкі Вандалін** — гл. **Саліцкі Вандалін**

5340. **Свердлін Лейба** (Свердлин Лейба), сын Давыда, мешчанін Дзісенскага пав., яўрэй. Западозраны рас. уладамі ў веданні і неданясенні пра далучэнне да паўстанцаў дваравых людзей памешчыка Грабніцкага. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 05.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—81адв.-82; 3046—2—5—47адв.)*.

**Светлік Ксаверы** — гл. **Святляк Ксаверы**

5341. **Сіда Баляслаў** (Свида Болеслав), ксёндз. За ўдзел у паўстанні канфіскаваны і прададзены яго адзенне, бялізна і хатні рыштунак паводле ўказа ПДМ ад 06.04.1864 *(296—1—89—24)*.

5342. **Свіда Баляслаў** (Свидо Болеслав), сын Пятра Стэфанавіча, стрыечны брат *Яна*, памешчык Мінскага пав. Нар. да 1834 г. Да паўстання жыў у маёнтку Лахва Мазырскага пав., дзе з'яўляўся аканомам. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», 06.1863 сустракаўся з *Аскеркам Міхалам*. Арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на рудніки на 12 гадоў. На яго маёмасць у Мазырскім пав. накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 *(162—1—116—57; 295—1—1643—222; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—462, 496; 320—2—98—45адв.; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375; 3256—2—29—29-29адв.)*.

5343. **Свіда Віктар** (Свидо (Свида) Виктор), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Глівін Барысаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму ў яго доме праведзены вобшук, які не выявіў нічога кампраметоўнага. 03.1864 зноў праведзены вобшук, падчас якога былі знойдзеныя паперы, якія кампраметавалі *Чаховіча Рудольфа*. 05.1864 у Глівіне «паводле патаемнага даносу» праведзены трэці вобшук, знойдзены рэвальвер і скрынка з паўстанцкімі паперамі: газета «Dziennik Narodowy», пракламацыі і ўказы Цэнтральнага Камітэта і інш. У выніку гэтага арыштаваны і адпраўлены ў г. Мінск. Пасля адпушчаны. Грошы на перавоз у Мінск (14 руб.) спагнаны з яго 14.10.1865 *(295—1—1561)*.

5344. **Свіда Генрык** (Свидо Генрих), дваранін. За «садзейнічанне мяцежнікам» арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—206)*.

5345. **Свіда Зоф'я** (Свидо Софья), дачка Юзафа, жонка *Паўла*, дваранка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у АСК, якая 15.07.1864 падала яе справу магілёўскаму губернатару. Выслана з мужам на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 28.08.1864, але да 1867 г. яна падлегла вяртанню ў яе валоданне. У 1871 г. жыла з мужам у Пермскай губ., дзе атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(320—1—398—529; 1430—1—35146—13; 1430—1—52285—32; 2514—1—2198—70; 3255—1—14—5)*.

5346. **Свіда Павел** (Свидо Павел), муж *Зоф'і*, дваранін Барысаўскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання арандаваў маёнтак Васкрэсенская Аршанскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 15.07.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Паводле пастановы следчай камісіі высланы з жонкай на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1871 г. жыў з жонкай у Пермскай губ., там атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—13; 1430—1—52285—32; 2514—1—2198—70; 3255—1—14—5)*.

5347. **Свіда Юльян** (Свидо Юлиан), дваранін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Дыбоўскага Паўла*, пасля яго разбіцця добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Яго следчая справа скончана *(295—1—1643—208, 213адв.; 296—1—19—41; 296—1—50—19)*.

5348. **Свіда Ян** (Свидо Ян), сын Фларыяна Стэфанавіча, стрыечны брат *Баляслава*, памешчык Мінскага і Барысаўскага пав. Хр. 29.10.1835. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Падчас паўстання ўваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў руднікі на 12 гадоў. Яго маёнтак Чырвонае Барысаўскага пав. з рухомай маёмасцю ў 466 руб. секвестраваны паводле ўказа МГП ад 20.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864 *(162—1—116—57; 295—1—1643—222; 296—1—25—91, 95-97; 296—1—89—45; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—462, 496адв.; 320—2—98—45адв.; 534—1—14—5, 8; 1430—1—52163—375)*.

5349. **Свідзінскі Вінцэнт** (Свидзинский Викентий), дваранін Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. 09.1864 прызначаны да секвестру маёмасці і ссылкі «адміністрацыйным шляхам» на жыхарства ў «аддаленыя губерні» *(160—2—682—20, 101; 162—1—116—174; 295—1—1643—204; 1430—1—52163—379).*

5350. **Свідзінскі Францішак** (Свидзинский Франц), сын Вінцэнта, незацверджаны дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання служыў аканомам у фальв. Патока Ігуменскага пав. Зняволены за прамаўленне «непрыстойных выразаў» у адносінах да Аляксандра II, пагрозы сялянам і «падбухторныя размовы» з імі, утрымліваўся ў г. Ігумене. 28.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 26.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. У 1871 г. жыў у Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(162—1—116—123, 156, 166; 295—1—1643—210адв.; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—552-553, 644; 320—2—98—46; 1418—3—1—68адв.-69; 1430—1—35146—127; 1430—1—52163—530адв.).*

5351. **Свідэрскі Антоні** (Свидерский Антон), дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(319—1—479—29; 1430—1—35146—40; 1430—1—52163—205адв.).*

5352. **Свідэрскі Генрык** (Свидерский Генрих), сваяк *Філіповіча Баляслава*, дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—530).*

5353. **Свідэрскі Казімір** (Свидерский Казимир), сын Тэафіла ці Тэадора, дваранін Навагрудскага пав. Хр. 11.03.1830. Да паўстання служыў доктарам у Літоўскай духоўнай семінарыі. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. У 1873 г. служыў доктарам земства ў г. Спаску Тамбоўскай губ., атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі, не выключаючы сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю», і права пастунаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(299—1—577—544-546; 319—1—479—29; 320—1—398—222адв., 385, 401адв.; 320—2—98—45адв.; 1430—1—35458—3).*

5354. **Свідэрскі Канстанцін** (Свидерский Константин), сын Базыля Тадэвушавіча, брат *Эдварда*, дваранін Барысаўскага пав. ці Магілёўскай губ., каталік. Нар. 03.03.1833 г. Падчас паўстання агітаваў сялян не затрымліваць паўстанцаў, западозраны рас. уладамі ў веданні пра ўдзел у паўстанні *Гатоўскага Станіслава* і *Грудзінскага Паўла* і ў намеры далучыцца да паўстанцаў. Арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 06.03.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.08.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 07.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(162—1—116—144; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—611-612; 320—2—98—46; 1416—3—21048—45; 1416—4—11416—74-77; 1430—1—52163—375; 3046—2—3—81адв.-82; 3046—2—5—47адв.).*

5355. **Свідэрскі Эдвард** (Свидерский Эдуард), сын Базыля Тадэвушавіча, брат *Канстанціна*, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання служыў на станцыі Рэжыца Варшаўска-Пецярбургскай чыгункі. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. МГП 09.09.1863 выдала пастанову аб секвестры яго маёмасці. Сасланы ў Аланецкую губ. *(295—1—1643—210адв.; 319—1—479—29; 320—1—398—2, 124, 241-242, 265, 423; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—596б).*

5356. **Свідэрскі N.** (Свидерский N.), дваранін. Служыў пісарам Няўлянскай вол. Дрысенскага пав. Западозраны ў дапамозе паўстанцам, у 1865 г. трапіў пад следства. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. У сувязі з тым, што знаходзіўся ў «невядомай адсутнасці», паводле канфірмацыі З. Манюкіна ад 08.06.1866 абвінавачанне «пакінута без наступстваў» *(2601—1—29).*

5357. **Свінка Вінцэнт** (Свинко Викентий), мешчанін г. Мінска ці шляхціц. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. У 1863 г. сасланы ў Самарскую губ. для пасялення на казённых землях *(295—1—1643—208адв., 211).*

5358. **Свінка Уладзіслаў** (Свинко Владислав), шляхціц. У 1863 г. высланы ў Самарскую губ. на пасяленне на казённых землях *(295—1—1643—211).*

5359. **Свінка Эдвард** (Свинка Эдуард), сын Вінцэнта, дваранін Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго

маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3)*.

5360. **Свірскі Зянон** (Свирский Зенон). Да паўстання служыў у Віленскім сіроцкім судзе. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

5361. **Свірскі Марцін** (Свирский Мартын). Да паўстання служыў чыноўнікам Віленскай казённай палаты. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

5362. **Свіртун Людамір** (Свиртун Людомир). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання адстаўны калежскі асэсар. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да забароны паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9)*.

5363. **Свіртун Яраслаў** (Свиртун Ярослав), памешчык Цельшаўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Валагодскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.; 1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—5)*.

5364. **Свіршчэўская Марыя** (Свирщевская Мария), дачка Пятра, дваранка Полацкага пав., каталічка. Западозрана рас. уладамі ў «супрацьзаконных размовах з сялянамі супраць урада». Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 13.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—83адв.-84)*.

5365. **Свіршчэўскі Караль-Ян** (Свирщевский Карл-Иван), сын Ігната, дваранін Лепельскага пав. Нар. 1810 г. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв.)*.

5366. **Свірэўскі N.** (Свиржевский N.), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—48адв.)*.

5367. **Сволькен Баляслаў** (Сволькен Болеслав), дваранін Вількамірскага пав. Да паўстання яго маці была суўладальніцай маёнтка Птакішкі Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—28; 320—1—398—132; 1416—6—281; 1430—1—52163—599)*.

5368. **Сволькі Ян** (Свольский Ян), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28; 320—1—398—224)*.

5369. **Свябода Станіслава** (Свебода Станислава), дваранка Віленскай губ. Падчас паўстання западозрана ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і выслана (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19)*.

5370. **Свяжынскі Зыгмунт** (Свежинский Сигизмунд), сын *Оттана* і Алімпіі Янаўны, брат *Оскара*, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у маёнтку бацькі Нежыцы Барысаўскага пав. 24.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта*, але праз 3–4 дні вярнуўся ў маёнтак бацькі. Пасля арышту бацькі па намове маці 07.1863 з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Пра яго давалі на следстве паказанні *Каплінскі Эдмунд* і *Мацієўскі Павел*. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1572; 299—1—579—298-307; 319—1—479—29адв.; 1430—1—52163—206; 2514—1—2198—70)*.

5371. **Свяжынскі Казімір-Канстанцін** (Свежинский Казимир-Константин), сын Міхала Казіміравіча, брат *Оттана*, дваранін Барысаўскага пав. Служыў памочнікам акруговага начальніка дзяржаўных маёмасцяў, выйшаў у адстаўку ў чыне тытулярнага радцы. Да паўстання жыў у маёнтку Багданава Барысаўскага пав. 02.1863 дзейнічаў у якасці сувязнога ў Барысаўскім пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання ў якасці «агента рэвалюцыйнай партыі», 25.02.1863 арыштаваны і адпраўлены ў г. Мінск. 07.03.1863 у Багданаве праведзены вобшук, падчас якога знойдзены паперы, халодная зброя і інш., усё знойдзенае адпраўлена ў Мінск. Зняволены ў мінскай гарадской турме па-

водле загада ЧВГМГ ад 24.10.1863. Знаходзіўся пад следствам у МСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.06.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго рухомая маёмасць, ацэненая ў 90 руб., канфіскавана і прададзена. У 1876 г. жыў у Верхатурскім пав. Пермскай губ., атрымаў амністыю і права на вяртанне ў Мінскую губ. Аднак пасля гэтага служыў судовым прыставам Краснаўфімскага міравога з'езда ў Пермскай губ. Пасля выехаў у Мінскую губ. для атрымання спадчыны, 20.10.1880 прыбыў у Мінск. 07.12.1881 падаў прашэнне аб дазволе на часовае прыбыццё ў г. СПб для ўладкавання маёмасных спраў, 03.1882 атрымаў яго, але не выехаў з-за адсутнасці ўжо на той момант патрэбы *(162—1—116—123, 137; 295—1—1527—10-13; 295—1—1572—3адв., 5, 8 і інш.; 295—1—1604—1; 295—1—1643—200; 295—1—3706; 296—1—90—8адв.-9; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—552, 554, 573, 575; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—242; 2514—1—2198—70).*

5372. **Свяжынскі Оттан** (Свежинский Оттон), сын Міхала Казіміравіча, брат *Казіміра-Канстанціна*, бацька *Зыгмунта* і *Оскара*, муж Алімпіі Янаўны, памешчык, каталік. Нар. каля 1815 г. Да паўстання валодаў маёнткам Нежыцы Барысаўскага пав. На падставе загада МГГ ад 20.02.1863 25.02.1863 арыштаваны і адпраўлены ў МСК, прыбыў туды 26.02.1863. Вызвалены паводле пастановы МСК і распараджэння МГГ ад 12.03.1863. 23.04.1863 сяляне данеслі барысаўскаму павятоваму спраўніку, што ў в. Пуні, что належала да Нежыцаў, знаходзяцца паўстанцы, у сувязі з чым западозраны ў дапамозе ім і паўторна арыштаваны. 11.06.1863 зняволены на барысаўскай гаўптвахце, дзе ўтрымліваўся яшчэ на пачатку 07.1863. Зноў вызвалены (?). Пасля вяртання з паўстанцкага атрада ў яго жылі сыны, пра якіх адмовіўся паведамляць рас. уладам, за што 07.1863 арыштаваны зноў. 21.12.1863 утрымліваўся ў турме г. Барысава. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да штрафу ў 300 руб. ср. і вызвалення на парукі *(295—1—1527—108; 295—1—1572; 295—1—1643—207; 299—1—577—550-554).*

5373. **Свяжынскі Оскар** (Свежинский Оскар), сын *Оттана* і Алімпіі Янаўны, брат *Зыгмунта*, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Да паўстання жыў у маёнтку бацькі Нежыцы Барысаўскага пав. 24.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Казелы Вінцэнта*, але праз 3–4 дні вярнуўся ў маёнтак бацькі. Пасля арышту бацькі па намове маці 07.1863 з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Пра яго давалі на следстве паказанні *Каплінскі Эдмунд* і *Мацієўскі Павел*. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1572; 299—1—579—298-307; 319—1—479—29адв.; 1430—1—52163—206).*

5374. **Свяжынскі Станіслаў** (Свежинский Станислав), памешчык Слонімскага пав. Служыў у рас. войску, меў чын паручніка, выйшаў у адстаўку. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—7адв.).*

5375. **Свянціцкі Адольф** (Свенцицкий Адольф). Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання служыў лекарам. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Як «палітычна нядобранадзейны» ў 1863 г. прысуджаны да ссылкі ў Сібір і канфіскацыі маёмасці. На драўляны дом у г. Мінску, які належаў яго бацькам, накладзена забарона. Сасланы ў Аланецкую губ. *(162—1—116—103; 295—1—1643—206адв.).*

5376. **Свянціцкі Уладзіслаў** (Свенцицкий (Свинцицкий) Владислав), сын Людвіка, аднадворац ці дваранін Навагрудскага пав. Нар. каля 1834 г. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. 07.04.1863 захоплены ў палон у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены ў г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір на пасяленне. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву ў распараджэнне МУС, а потым далей у Сібір. 11.1875 знаходзіўся на пасяленні ў Усць-Тартарскай вол. Каінскай акругі Томскай губ., адтуль падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца ў Навагрудскі пав. з жонкай і двума дзецьмі. 01.1876 атрымаў дазвол, але застаўся на месцы ссылкі з прычыны адсутнасці сродкаў на вяртанне. *(295—1—2420—11адв.; 295—1—2774; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.).*

5377. **Свянціцкі Эдвард** (Свенцицкий Эдуард), сын Бярнабы Каралевіча і Марцыяны Казіміраўны Дубяйкоўскай, брат Адама, Антонія, Каспера і Юзафа, дваранін. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Паводле ўказа МагГП (да 22.06.1863) яго маёмасць падлягала секвестру. Рас. улады паспрабавалі накласці секвестр на валоданні яго маці ў вак. Жарацiно Мсціслаўскага пав., аднак яна падала пратэст.

Яго справа разглядалася ў МагВСК *(2003—1—231; 3257—2—2—33).*

5378. **Свянціцкі Ян** (Свенцицкий Иван), сын Міхала і Разаліі, дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання служыў валасным пісарам, яго маці валодала маёнткам Лыскоўшчына Магілёўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што на яго маёмасць накладаўся (каля 14.06.1863) секвестр, аднак яе не было знойдзена. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. На маёнтак маці ў 1863 г. спачатку накладзены секвестр, аднак потым зняты з накладаннем забароны. *(1430—1—52163—182адв.; 2003—1—347; 3257—2—2—33).*

5379. **Святліцкі Фелікс** (Светлицкий Феликс), сын Панцеляймона, дваранін Магілёўскай (?) губ. Падазраваўся рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. З 20.05.1863 быў пад следствам у МагСК, якая не ведала пра яго месцазнаходжанне. Яго рухомая маёмасць у маёнтку Ліпавічы Сенненскага пав. памешчыцы Рамановіч (куфар, адзенне і інш.) на суму прыкладна ў 50 руб. ср. 30.06.1863 апісана і секвестравана, аднак да 1867 г. падлегла вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—260; 2514—1—2198—70; 3257—1—17—4адв.-5; 3257—2—8—14).*

5380. **Святляк (Светлік) Ксаверы** (Светляк (Светлик) Ксаверий), сын Мікалая Сымонавіча, памешчык Барысаўскага пав. Валодаў маёнткам Чмялевічы Барысаўскага пав. (2000 дзес. зямлі, 2300 руб. гадавога прыбытку), у якім жыў да паўстання; жанаты з Мацільдай Даніэлеўнай Валіцкай (гл. *Валіцкі Аляксандр*), з якой меў дзяцей Аўрэліяна і Марыю. 10.02.1863 зачытаў у Зембінскім валасным праўленні паўстанцкі маніфест, за што 14.02.1863 арыштаваны і адасланы ў г. Мінск, дзе аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў. Чмялевічы секвестраваны паводле ўказа МГП ад 02.06.1863, а потым канфіскаваны паводле паведамлення МГП ад 30.03.1864. Пазней прысуд палегчаны, і замест катаргі сасланы ў 1864 г. на жыхарства ў Табольскую губ., пасля пераведзены ў Іркуцкую губ. У 1876 г. жыў у г. Кірсанаў Тамбоўскай губ. Жонка ў 1864, 1868 гг. некалькі разоў падавала да рас. уладаў прашэнні аб выдачы ёй часткі грошай на ўтрыманне сябе і дзяцей з даходаў маёнтка і аб апраўданні мужа, а ў 1876 г. выехала да мужа ў Сібір *(162—1—116—66; 295—1—1527—19, 23, 26; 295—1—1643—202, 209; 295—1—3022—55, 61; 296—1—25—104адв.; 296—1—89—45адв.; 319—1—479—29; 320—1—398—291, 297, 401; 320—2—98—45адв.; 320—2—99—2-8, 13-14, 28, 55-56).*

5381. **Свяхоўскі Віктар (Вітальд)** (Свеховский Виктор (Витдолд)), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—28; 320—1—398—224; 3257—2—2—32адв.).*

5382. **Свяцкевіч N.** (Свецкевич N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Навасёлкі Віленскага пав. У яго маёнтку паўстанцы бралі харчовыя прыпасы, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5383. **Себасцьянскі Аўгуст** (Себастьянский Август), сын Мацея, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Жвірбляны Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

5384. **Секялеўскі Юзаф** (Секелевский Иосиф), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 23.12.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ *(295—1—1643—215; 1418—3—1—67адв.-68).*

5385. **Селенс Браніслаў** (Селенс Бронислав), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—28адв.; 534—1—14—5; 1430—1—52163—375).*

5386. **Селенс Пётр** (Селенс Петр), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—28адв.; 296—1—25—103адв.).*

5387. **Селіванава (Сілівонава) Настасся** (Селиванова (Силивонова) Настасья (Анастасия)), сястра Гілярыя, Апалоніі і Францішкі, сялянка Полацкага пав., каталічка. Нар. каля 1809 г. Да паўстання служыла кухаркай у памешчыкаў *Лакісаў Антонія* і *Мікалая*, не была замужам. Падчас паўстання, па загаду гаспадара, насіла паўстанцам харчаванне ў лес, за што арыштавана. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 выслана з радзімы «адміністрацыйным

парадкам» у г. Маскву ў распараджэнне МУС для далейшай ссылкі. У 1873 г. знаходзілася ў г. Табольску. Яе брат і сёстры падалі прашэнне аб дазволе ёй вярнуцца на радзіму, якое 11.1873 было задаволена *(1416—4—11382—3адв.; 1430—1—35430; 3046—2—3—79адв.-80; 3046—2—5—47).*

5388. **Селіваноўскі Аляксандр** (Селивановский Александр), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

5389. **Сельмановіч (Сальмановіч) Ежы** (Сельманович (Сальманович) Юрий), дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі без суда і следства 04.03.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Казанскую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 накладаўся секвестр. Сяляне Бабчанскага сельскага таварыства падалі прашэнне аб вяртанні яго на месца жыхарства, якое 04.05.1866 было адхілена *(296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—45; 1430—1—31602—169; 1430—1—31604—618-620; 1430—1—52163—608адв.; 413адв., 573адв.; 1430—1—52285—59).*

5390. **Семановіч Тэафіл** (Семанович Теофил), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—205).*

5391. **Семірадскі Багуслаў-Руфін** (Семирадский Богуслав-Руфин). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у Мінскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Ніжагародскую губ. *(1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

5392. **Семірадскі Фелікс** (Семирадский Феликс), мешчанін м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—29; 1430—1—52163—167).*

5393. **Семяновіч Казімір** (Семенович Казимир), дваранін Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—27адв.).*

5394. **Семяновіч Казімір** (Семенович Казимир), сын Казіміра, мешчанін г. Вільні, каталік. Нар. каля 1848 г. у г. Вільні па-за шлюбам. Маці, якая перад гэтым разышлася з законным мужам, пры выездзе з Вільні пакінула яго на выхаванні ў «доме чалавекалюбівага таварыства». Ва ўзросце 10 гадоў узяты на навучанне жывапісцам Дмахоўскім[143]. У 1863 г. апынуўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ВілСК. Распараджэннем М. Мураўёва прысуджаны (да 22.10.1863) да пакарання бізуном у паліцыі і аддачы на парукі бацькам. У сувязі з тым, што не меў у Вільні бацькоў і сваякоў, прызначаны да ссылкі на пасяленне пад нагляд паліцыі ў Мсціслаўскі пав. для навучання «якому-небудзь майстэрству». 22.11.1863 адпраўлены з Вільні ў г. Магілёў *(2001—1—898—20-32).*

5395. **Серакоўскі Вацлаў** (Сераковский Вацлав), сын Юзафа, дваранін Плоцкай губ., каталік. Нар. каля 1835 г. 12.01.1863 з маёнтка Вянцлавіцы Каралеўства Польскага выправіўся ў маёнтак маці Хэлміца[144], дзе 26.01.1863 далучыўся да паўстанцаў. Пасля прыбыцця да палкоўніка Высоцкага ў Люблінскай губ. прызначаны ў атрад пад камандаваннем *Рагінскага Рамана.* Прыбыў з ім у Пінскі пав., удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі і спаленні моста. З-за хваробы пакінуў атрад. Спадзеючыся схавацца ад рас. уладаў, прыбыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. і пасяліўся ў *Данілевіча Яна.* 27.03.1863 затрыманы тысяцкім Палікоўскім, адпраўлены ў г. Ігумен. За 2 вярсты ад Ігумена ўцёк ад канвайраў. Праз некалькі дзён схоплены з двухствольным пісталетам і адпраўлены ў Ігумен. Знаходзіўся пад следствам у МСК. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.08.1863 катарга заменена на ссылку на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Адпраўлены (да 25.10.1863) на месца ссылкі *(295—1—1575; 295—1—1643—207адв.).*

5396. **Серакоўскі Зыгмунт** (Сераковский Сигизмунд), дваранін Віленскага пав. Да паўстання палкоўнік Генеральнага штаба. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—27адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126).*

---

[143] Верагодна, маецца на ўвазе Вінцэнт Дмахоўскі альбо яго сын Уладзіслаў.

[144] У паведамленні ад 12/27.11.1863 плоцкі грамадзянскі губернатар пісаў, што маёнткі Вянцлавіцы і Хэлміца належаць маці Вацлава Вацлававіча Серакоўскага, які нар. каля 1827 г., і таму ён выказваў сумнеў, што гэта адна і тая асоба.

5397. **Серафімовіч (Серафіновіч) Юзаф** (Серафимович (Серафинович) Иосиф), дзядзька ці брат Канстанціна. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам г. Себежа, дзе валодаў таксама драўляным домам (7 пакояў, каменны падмурак, з «цудоўнай мэбляй» і г. д.) з 12 крамкамі. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле пастановы следчай камісіі, канфірмаванай М. Мураўёвым, у 1863 г. «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладзены секвестр, які 20.10.1864 яшчэ не зняты. Звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб дазволе карыстацца даходамі з маёмасці ў Себежы і адмовіўся ад грашовай дапамогі ад уладаў. У 1867 г. прадаў бабінавіцкаму мешчаніну Грыневічу лясную дачу Каліноўка Аршанскага пав. *(1416—3—21048—44адв.; 1430—1—31355—12-18; 1430—1—31812; 1430—1—52163—417, 437, 667, 824адв.; 1430—1—52285—5, 43; 2003—1—372—209, 231-232адв., 238-239).*

5398. **Сердакоўскі Сяргей** (Сердаковский Сергей), сын Фабіяна, бацька Антаніны, Тэклі, Станіслава і Францішка, дваранін, каталік. Нар. каля 1824 г. Да паўстання служыў засядальнікам ад дваранства Сенненскага павятовага суда; калежскі рэгістратар. Разам з *Невяровічам Пятром* абвінавачаны рас уладамі ў «зносінах з асобамі, што прымалі дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы мяцяжа», арыштаваны (каля 06.1864). Яго маёнтак у Сенненскім пав. секвестраваны і аддадзены пад нагляд яго сваячцы Марыі Каранеўскай. Зняволены ў турэмным замку г. Магілёва. З 30.06.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая, скончыўшы яго справу, 24.09.1864 падала яе магілёўскаму губернатару. Пасля выпушчаны, аднак звольнены са службы. У 1866 г. жыў ва ўласным маёнтку Камер-Бор Сенненскага пав. *(2003—1—442; 2003—2—96—44адв., 55адв.; 3257—1—17—6адв.-7; 3257—2—8—14).*

5399. **Серпутоўскі Язафат** (Сержпутовский Иосафат), памешчык Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—7).*

5400. **Серпутоўскі Ян** (Сержпутовский Иван), памешчык Сакольскага пав. Служыў юнкерам у Стараінгерманландскім палку. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—7).*

5401. **Сер'ятовіч Антоні** (Серьятович Антон), сын Ануфрыя, дваранін Ковенскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

5402. **Сестранцэвіч (Сестрынкевіч)-Кучук Міхал** (Сестрженцевич (Сестринкевич)-Кучук) Михаил), сын Гілярыя, дваранін Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, у 1863 г. арыштаваны. Быў пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пададзена МагВГ. Высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2001—1—900—1адв.; 2514—1—2198—68адв.; 3366—1—5—12).*

**Сестрынкевіч-Кучук Міхал** — гл. **Сестранцэвіч-Кучук Міхал**

5403. **Сеўрамовіч N.** (Севриомович N.). Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 319—1—479—27адв.; 320—1—398—197).*

5404. **Сецкі Апалінары** (Сецкий Аполинарий), сын Дамініка і Ганны, дваранін Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Да паўстання жыў у м. Зембін Барысаўскага пав., дзе служыў валасным пісарам; яго бацька валодаў 21 валокай зямлі ў маёнтку Чарніца Барысаўскага пав. Падчас паўстання знайшоў газету «Мужыцкая праўда», аднёс яе *Манюшку Данату* і паводле яго рэкамендацыі спаліў яе. Аднак западозраны ў яе чытанні, у сувязі з чым у яго доме праведзены вобшук, падчас якога знойдзены пісталет. Арыштаваны і адпраўлены ў г. Мінск, дзе знаходзіўся 19.03.1863 на волі пад падпіскай аб нявыездзе з горада. Быў пад следствам у МСК, якая высветліла, што пісталет належаў карсаковіцкаму прыходскаму святару Пляшчынскаму. 27.03.1863 атрымаў дазвол і выехаў у Чарніцу. Распараджэннем віленскага генерал-губернатара ад 19.04.1863 прызнаны невінаватым ва ўдзеле ў паўстанні, аднак звольнены са службы. Пасля вяртання на радзіму абвінавачаны зембінскімі яўрэямі Фрыдманам і Меерам Шапірам у знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе ў м. Дзядзілавічы Барысаўскага пав. і перадачы паўстанцам звестак пра рас. войскі, у сувязі з чым 23.04.1863 арыштаваны і зняволены ў турме г. Бары-

сава. Яго частка надзелу зямлі ў Чарніцы секвестравана паводле распараджэння МГГ ад 20.07.1863 і пакінута ў распараджэнні маці з абавязкам уносіць у казну частку даходу, якая прыпадала на яго і складала 16,333 руб. штогод. Рашэннем А. Патапава ад 12.12.1864 прызнаны «падазроным у нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах», у якасці пакарання яму залічана доўгае ўтрыманне пад вартай. Прызначаны да вяртання на месца жыхарства на парукі пад паліцэйскі нагляд. У 1865 г. жыў у Чарніцы. 31.12.1865 секвестр з маёмасці яшчэ не зняты *(295—1—1527—22адв., 99; 295—1—1604; 295—1—1643—207, 215адв.; 296—1—89—8адв., 69адв.)*.

5405. **Сівіцкі Станіслаў** (Сивицкий Станислав), дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—29; 320—1—398—222адв.)*.

5406. **Сівоха Леанард** (Сивоха Леонард), сын Юзафа, памешчык, каталік. Нар. каля 1826 г. Да паўстання валодаў маёнткам Сінічына Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у чытанні ў яго доме паўстанцкіх пракламацый і ў падрыхтоўцы да паўстання, арыштаваны (да 29.05.1863). На яго маёмасць 31.08.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пасля атрымаў дазвол вярнуцца і 09.1864 жыў у сваім маёнтку. 20.10.1864 секвестр яшчэ не зняты. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—44; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 84-87, 265, 404адв., 430адв., 445адв., 446адв., 570адв.; 3046—2—3—76адв.-77; 3046—2—5—47)*.

5407. **Сігацкі Фларыян** (Сигацкий Флориан). Паходзіў з Ковенскай (?) губ. Да паўстання служыў інжынерам шляхоў зносінаў у чыне капітана. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.)*.

**Сігірскі Баляслаў** — гл. **Сыгірскі Баляслаў**

5408. **Сідаровіч Аляксандр** (Сидорович Александр), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Астрог Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам», на яго маёмасць накладаўся секвестр *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379)*.

5409. **Сідаровіч Ксаверы** (Сидорович Ксаверий), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—27адв.; 1430—1—52163—181)*.

5410. **Сідаровіч Мацвей** (Сидорович Матвей), сын Паўла, селянін Слуцкага пав., праваслаўны. Да паўстання жыў у в. Сіняўка Слуцкага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281адв.; 320—1—398—2; 1524—1—1—12адв.)*.

5411. **Сідаровіч Ян** (Сидорович Иван), дваранін. За «забеспячэнне мяцежнікаў стрэльбамі» ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—204)*.

**Сідаровіч-Война Вінцэнт** — гл. **Война-Сідаровіч Вінцэнт**

5412. **Сідароўскі Фелікс** (Сидоровский Феликс), мешчанін г. Беластока. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—29; 320—1—398—224адв.)*.

5413. **Сіковіч Якаў** (Сикович Яков), аднадворац Ігуменскага пав., праваслаўны. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—66адв.-67)**.

5414. **Сікорскі Адольф** (Сикорский Адольф), дваранін Гродзенскай губ. (?). За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.)*.

5415. **Сікорскі Адольф** (Сикорский Адольф), сын Францішка, дваранін Дзісенскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, удзельнічаў у баі ля маёнтка Парэссе Лепельскага пав. Расшукваўся рас. уладамі. Яго следчая справа спачатку вялася ў ВСК, адкуль 13.09.1863 адаслана ў ДСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад

* Магчыма, ідэнтычны з *Саковічам Якавам*.

26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280; 3046—2—3—78адв.-79; 3046—2—5—47).*

5416. **Сікорскі Аляксандр** (Сикорский Александр), дваранін Сакольскага пав. Да паўстання служыў наглядчыкам за акцызным водкупам у м. Сухаволле. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 05.07.1863 і пастановы ГГП ад 31.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—283; 1430—1—52163—601адв.).*

5417. **Сікорскі Уладзіслаў** (Сикорский Владислав), дваранін Каралеўства Польскага. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—27адв.).*

**Сілівонава Настасся** — гл. **Селіванава Настасся**

**Сіліцкі Канстанцін** — гл. **Сяліцкі Канстанцін**

5418. **Сіліч Уладзіслаў** (Силич Владислав). Паходзіў з Лідскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149).*

5419. **Сілко (Сіўко) Марцін** (Силко (Сивко) Мартин), сын Пятра, селянін. Да паўстання жыў у в. Трасцянка Навагрудскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12; 295—1—2725—9адв.).*

5420. **Сільванд Юзаф** (Сильванд Иосиф), дваранін. Яго бацька, адстаўны выкладчык гімназіі, на момант паўстання жыў у г. Коўне. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—28адв.).*

5421. **Сімановіч Уладзіслаў** (Симонович Владислав). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам г. Слоніма. Падчас паўстання стаў «Начальнікам» Слонімскага пав., арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 12.11.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(162—1—116—171; 1430—1—52285—12).*

**Сімашка Вінцэнт** — гл. **Сямашка Вінцэнт**

5422. **Сімашка Зоф'я** (Симашко Софья), памешчыца. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзілася пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яе справу *(3046—2—5—45).*

**Сімашка Ян** — гл. **Сямашка Ян**

**Сімашка N.** — гл. **Сямашка N.**

5423. **Сініцкі Фларыян** (Синицкий Флориан), сын Антонія. Да паўстання з'яўляўся капітанам Корпуса шляхоў зносінаў. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

5424. **Сінкевіч Апалінары** (Синкевич Аполинарий), аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, намагаўся схавацца ў сялян, але выдадзены імі рас. уладам. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прысуджаны да высялення ў «дальнія губерні». 25.07.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ *(1418—3—1—69адв.-70)**.

5425. **Сінкевіч Міхал** (Синкевич Михаил), аднадворац Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—28).*

5426. **Сінкевіч Пётр** (Синкевич Петр), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—48адв.).*

5427. **Сінкевіч Рамуальд** (Синкевич Ромуальд), дваранін. Да паўстання служыў у Гродзенскай ПДМ, калежскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552адв.).*

5428. **Сінкевіч Сымон** (Синкевич Семен), сын Яна, мешчанін. Да паўстання жыў у маёнтку Пліса Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—3).*

5429. **Сінкевіч Юзаф** (Синкевич Осип), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28; 1430—1—52163—204адв.).*

5430. **Сіняўскі (Сяняўскі) Юльян** (Синявский (Сенявский) Юлиан), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 10.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці

* Магчыма, ідэнтычны з *Сянькевічам Апалінарыем.*

яго «па ступені вінаватасці» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу МагСК 23.05.1863 вярнула справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Яго рухомая маёмасць (кабыла і жарабя) на суму ў 31,3 руб. 19.06.1863 апісана і секвестравана прыставам 3 стана Магілёўскага пав. Прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Пасля прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці *(162—1—116—103, 166; 1430—1—52163—150; 2003—1—216; 2003—1—228—1адв.; 2003—2—3; 2003—2—19—16адв.; 2514—1—2198—70; 3257—1—6; 3257—2—2—32).*

5431. **Сіпайла Антоні** (Сипайло Антон), сын памешчыка Магілёўскай губ. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—70адв.).*

5432. **Сіпайла Вінцэнт** (Сипайлов Викентий), сын Яна, дваранін. 23.04.1863 разам з *Прыалкоўскім Антоніем* з фальв. Бабчына Магілёўскага пав., якім валодаў яго бацька, выехаў у паўстанцкі атрад і далучыўся да яго ў в. Палыкавічы Магілёўскага пав. Арыштаваны (да 10.06.1863). Памёр падчас следства да 10.04.1867. Маёмасць яго бацькоў падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў іх валоданне *(2001—2—185; 2001—2—186; 2003—1—405; 2514—1—2198—70).*

5433. **Сіпайла Вінцэнта** (Сипайло Винцента), жонка Юзафа Янавіча, маці *Яна-Сільвестра*, памешчыца Ігуменскага пав. Нар. каля 1799 г. За хаванне свайго сына, які вярнуўся з паўстанцкага атрада, канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.03.1864 прысуджана да штрафу ў 100 руб. на карысць капіталу, прызначанага для дапамогі сям'ям пацярпелых ад паўстання. У 1875–1876 гг. прымала свайго сына, які вярнуўся са ссылкі, і хадайнічала аб дазволе яму застацца на радзіме на сталае жыхарства *(162—1—116—85; 295—1—1643—211адв.; 295—1—3048).*

5434. **Сіпайла Рамуальд** (Сипайлов Ромуальд), сваяк *Уладзіслава*, памешчык Быхаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—34адв.).*

5435. **Сіпайла Станіслаў** (Сипайло Станислав), сын Фларыяна, дваранін Магілёўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 10.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці яго «па ступені вінаватасці» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу, МагСК 23.05.1863 вярнула справу У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—152; 2514—1—2198—70; 3257—1—6; 3257—2—2—32).*

5436. **Сіпайла Уладзіслаў** (Сипайлов Владислав), сваяк *Рамуальда*, муж Зоф'і, памешчык Быхаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—34адв.).*

5437. **Сіпайла Ян** (Сипайло Иван), сын Антонія, дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70).*

5438. **Сіпайла Ян** (Сипайлов Иван), сын Вінцэнта, муж Ганны Фларыянаўны, памешчык Магілёўскай (?) губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—33адв.).*

5439. **Сіпайла Ян-Сільвестр** (Сипайло Иван-Сильвестр), сын Юзафа Янавіча і *Вінцэнты*, брат Даніэля, памешчык Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго рассеяння вярнуўся да маці і хаваўся ў яе доме, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 01.10.1863 яго справа пададзена ў МСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Частка маёнтка Ліпніцы Ігуменскага пав., якім валодаў разам з братам, секвестравана паводле распараджэння МГП ад 30.07.1863. У 1871 г. знаходзіўся ў Енісейскай губ. У 1875 г. атрымаў частковую амністыю і права на часовы прыезд у Ігуменскі пав. для ўладкавання маёмасных спраў. Падчас знаходжання на радзіме яго маці падала прашэнне аб дазволе яму застацца на сталае жыхарства, якое было задаволена ў 1876 г. 12.1876 жыў у маёнтку Неганічы Ігуменскага пав., 06.1882 — таксама ў Ігуменскім пав. *(162—1—116—85; 295—1—1643—201адв., 211адв.; 295—1—2213—55; 295—1—3026—32адв.; 295—1—3048; 295—1—3492—68адв., 90адв.; 296—1—89—34адв.-35; 299—1—577—518-543адв.; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—375, 377; 320—2—98—45адв.; 1418—3—1—67адв.-68; 1430—1—52163—167).*

5440. **Сіпко Ян** (Сипко Ян), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—48адв.).*

5441. **Сіпнеўскі (Сапнеўскі) Уладзіслаў** (Сипневский (Сопневский) Владислав), сын Яна і Ганны Баневіч, дваранін. Да паўстання жыў у г. Панявежы, з'яўляўся лекарам, яго маці валодала маёнткам Кідзішкі Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—28; 320—1—398—131адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—598адв.).*

5442. **Сіповіч Альбін** (Сипович Альбин), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73).*

5443. **Сіповіч Караль** (Сипович Карл), грамадзянін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—27; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

5444. **Сіповіч Францішак** (Сипович Франц), мешчанін. Да паўстання жыў у двары Лойшча Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—27; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

5445. **Сіскевіч Казімір** (Сискевич Казимир), мешчанін м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 3 гады *(319—1—479—29; 1430—1—52163—167).*

**Сісмановіч Уладзімір** — гл. **Сымановіч Уладзімір**

**Сіўко Марцін** — гл. **Сілко Марцін**

5446. **Сіцінскі (Сыцынскі) Адольф** (Сицинский (Сицынский, Сыцынский) Адольф), дваранін Падольскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.; 1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70).*

5447. **Скабейка Ігнат** (Скобейко Игнатий), сын Адама, дваранін. Да паўстання жыў у м. Пагост Пінскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. Удзельнічаў у паўстанні, у тым ліку ў павешанні селяніна Францішка Комара. Арыштаваны, аддадзены (да 11.06.1864) пад ПВС у Гродзенскай губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(299—1—579—19-20).*

5448. **Скабінскі (Скібінскі) Ян** (Скабинский (Скобинский (Скибинский) Иван), дваранін Валынскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, пасля хаваўся ад рас. уладаў. Пастановай ПВС у г. Кіеве, канфірмаванай 29.01.1867 А. Безакам, завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў крэпасцях Сібіры на 4 гады, што павінна было выканацца ў выпадку яго вяртання ў Рас. імперыю *(1416—4—11416—348).*

5449. **Скавінскі Адольф** (Скавинский Адольф), сын *Ежы*, дваранін Лідскага пав. Пры праходжанні паўстанцкага атрада праз вак. Станкілішкі Лідскага пав. далучыўся да яго (магчыма, гвалтоўна). Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5450. **Скавінскі Аляксандр** (Скавинский Александр), сын Дамініка, памешчык. Да паўстання жыў у Нацкай парафіі Лідскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—280; 2532—1—15—12адв.).*

5451. **Скавінскі Ежы** (Скавинский Юрий), бацька *Адольфа*, дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Станкілішкі Лідскага пав. Паколькі сын далучыўся да паўстанцкага атрада, западозраны ў дапамозе паўстанцам. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5452. **Скакоўскі Вацлаў** (Скоковский Вацлав), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1879 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—38).*

5453. **Скакоўскі Юзаф** (Скаковский Иосиф), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на

заводах на 6 гадоў *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—166адв.)*.

5454. **Скакоўскі N.** (Скоковский N.), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—48)*.

5455. **Скальскі Алаізі** (Скальский Алоизий), сын Яна, дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Навошыцы Кобрынскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

**Скараткін N.** — гл. **Скародкін N.**

5456. **Скаркоўскі Яўстах** (Скорковский Евстафий). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. жыў у г. Краснаярску як «палітычны ссыльны», атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю», і паступаць на дзяржаўную службу ў медыцынскай галіне *(1430—1—35834—10)*.

5457. **Скародкін (Скараткін) N.** (Скородкин (Скоратким) N.). Служыў у рас. войску ў чыне штабс-капітана, да паўстання з'яўляўся чыноўнікам Дынабургскай камісарыяцкай камісіі. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства сасланы (да 15.01.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44)*.

5458. **Скарубскі N.** (Скорубский N.), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў г. Навааляксандраўску. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5459. **Скарынская Эмілія** (Скаржинская Эмилия), памешчыца Троцкага пав. За дачыненне да паўстання саслана ў Пензенскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12адв.)*.

5460. **Скарынскі Вінцэнт** (Скаржинский Викентий), дваранін Пултускага пав. Плоцкай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—106; 319—1—479—27адв.)*.

5461. **Скарынскі Вітальд** (Скаржинский Витольд), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Маркаўшчына Троцкага пав., дзе служыў *Казела Аляксандр*. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні і нарыхтоўцы харчавання ў сваім маёнтку. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 22.06.1863 і 27.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 06.07.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—265; 1416—6—274)*.

5462. **Скарынскі Цітус** (Скаржинский Тит), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Пашкунішкі Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—27адв.; 534—1—14—4; 1430—1—52163—374)*.

**Скарэўскі Рафал** — гл. **Скурэўскі Рафал**

5463. **Скачкоўскі Антоні** (Скачковский Антон), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Кяўляны Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—28; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

5464. **Скярчынскі Казімір** (Скверчинский Казимир), дваранін. Да паўстання служыў вольнанаёмным пісарам Віленскай крымінальнай палаты. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—27; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.)*.

5465. **Скібінскі Рамуальд** (Скибинский Ромуальд), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Дамброва Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

**Скібінскі Ян** — гл. **Скабінскі Ян**

5466. **Скінгайла Юзаф** (Скингайло Иосиф), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—28адв.; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

5467. **Скіндэр Вінцэнт** (Скиндер Викентий), сын Юзафа, бацька *Дыянізія* і *Казіміра*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з сынамі і іх сям'ямі высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—6-6адв.; 320—2—98—4)*.

5468. **Скіндэр Геранім** (Скиндер Иероним), незацверджаны дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану,

канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28; 320—1—398—224).*

5469. **Скіндэр Дыянізі** (Скиндер Деонизий), сын *Вінцэнта*, брат *Казіміра*, дваранін Ігуменскага пав. Нар. у 1827 г. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з бацькам, жонкай Антанінай, сынамі Ігнатам і Дамінікам, дочкамі Юзэфай і Францішкай «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць, сумесная з *Казімірам* (39 дзес. 2155 саж.), канфіскавана. Пасля атрымання амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў з сям'ёй у вак. Суцін, дзе хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную маёмасць *(295—1—2420—6-6адв.; 295—1—2830—4, 8; 295—1—3026—31адв.; 295—1—3492—67адв., 90; 320—2—98—4, 70адв., 86).*

5470. **Скіндэр Казімір** (Скиндер Казимир), сын *Вінцэнта*, брат *Дыянізія*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1822 г. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 23.12.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ. Разам з жонкай Юзэфай, сынамі Каралем, Уладзіславам і Зыгмунтам, дочкамі Стэфаніяй, Анеляй, Міхалінай і Фрузінай «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. Іх зямельная маёмасць, сумесная з *Дыянізіем* (39 дзес. 2155 саж.), канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся з сям'ёй у Суцін, дзе ў 1876 г. хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную маёмасць. 06.1882 жыў у Суціне *(295—1—1643—215; 295—1—2420—6адв.; 295—1—2830—4, 8; 295—1—3492—67адв., 90; 320—2—98—4, 70адв., 84-85; 1418—3—1—67адв.-68).*

5471. **Скіндэр Канстанцін** (Скиндер Константин), сын Адама, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Віцебску. Абвінавачаны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(319—1—479—27адв.; 1416—3—21048—44; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—530; 3046—2—3—76адв.-77; 3046—2—5—47).*

5472. **Скіндэр Міраслаў** (Скиндер Мирослав), сын Адама, дваранін Дзісенскага пав., каталік. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Воранава Дзісенскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 удзельнічаў у сутычцы з рас. войскамі ля в. Парэчча Барысаўскага пав., падчас якой паранены і захоплены ў палон. Утрымліваўся ў турэмным замку г. Лепеля, 23.08.1864 высланы ў г. Віцебск. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 22.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Аддадзены пад суд у ВВСК, на якім сцвярджаў, што захоплены ў атрад гвалтоўна. Пастановай ЧПА ад 09.01.1865, канфірмаванай А. Патапавым 11.01.1865, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». ВГП 30.01.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(1416—3—21048—45адв.; 1416—4—11416—176-180; 1416—6—280; 1430—1—31597; 3046—2—3—79адв.-80).*

5473. **Скіндэр Ян** (Скиндер Иван), памешчык Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 30.07.1863 і пастановы ГГП ад 22.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—229).*

5474. **Скіргайла Канстанцін** (Скиргайло Константин), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Гойжаўкі-Надструні Ковенскага пав., дзе яго бацькі валодалі домам і зямлёй. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—28; 320—1—398—131адв.4 1430—1—52163—598адв.).*

5475. **Скіргайла Францішак** (Скиргайло Франц), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Вяцкую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2).*

5476. **Скірмант Цыпрыян** (Скирмонт Киприян), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Ганушышкі Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

5477. **Скірмунт Алена** (Скирмунт Елена), дачка Аляксандра, жонка *Казіміра*, памешчыца Пінскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі выслана на жыхарства ў Томскую губ. Потым яе маёмасць на падставе ўказа ад

10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(162—1—116—166; 295—1—1643—202адв.; 296—1—89—18адв.; 1430—1—52285—31; 2532—1—15—13адв.).*

5478. **Скірмунт Казімір** (Скирмунт Казимир), сын Аляксандра Сымонавіча, брат Аляксандра, Сымона, Зыгмунта, муж *Алены*, памешчык Мінскага і Пінскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Да паўстання атрымаў ад бацькі грашовую суму, на якую набыў маёнткі Калоднае, Рухча і Цмень Пінскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую ці Тамбоўскую губ. На Рухчу і каменны дом у г. Пінску накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 18.03.1864. Паводле ўказа ад 10.12.1865 яго маёмасць падлягала абавязковаму продажу, у выніку чаго правадзейнаму стацкаму радцу Мікалаю Гарцінгу былі прададзены яго ўладанні ў Пінскім пав. Пасля перасяліўся ў Таўрычаскую губ., дзе яго бацька валодаў маёнткам з вінаграднікамі каля г. Балаклавы. Пасля смерці бацькі яму з братамі ў сумеснае валоданне дасталіся суконная фабрыка і цукровы завод у маёнтку Парэчча Пінскага пав. *(295—1—1643—213; 295—1—2207; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.; 2532—1—15—13адв.).*

5479. **Скіўскі Дзярслаў** (Скивский Дерслав), дваранін Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

5480. **Скработа Лукаш** (Скробота Лукаш), сын жаўнера. Да паўстання жыў у в. Сяльцы графа Замойскага. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—29; 320—1—398—224адв.).*

**Скрацкі Зыгмунт** — гл. **Скродскі Зыгмунт**

5481. **Скрачэўскі Якуб** (Скржечевский Яков), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

5482. **Скродскі (Скрацкі) Зыгмунт** (Скродский (Скрацкий) Сигизмунд), сын Міхала, бацька Міхала, Рамуальда, *Леапольда* і Аляксандра, дваранін Ашмянскага пав. Нар. каля 1806 г. За «дастаўку ў шайку мяцежнікаў кавальскіх прыналежнасцяў» арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Пасля амністыі вызвалены ад нагляду паліцыі і перасяліўся ў Смаленскую губ., дзе жыў разам з жонкай у с. Ліпушкі ў памешчыка Сакульскага. У 1873 г. падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму да сваіх дзяцей з прычыны «хваравітага яго, пры сталым веку, стану і адсутнасці ўсялякіх сродкаў да існавання». Атрымаў дазвол і вярнуўся. У 1880 г. жыў у Мінскай губ., 03.1882 — у фальв. Пліса Навагрудскага пав. *(295—1—2409; 295—1—3492—10, 41; 1416—6—280; 1430—1—52285—9).*

5483. **Скродскі Леапольд** (Скродский Леопольд), сын *Зыгмунта*, брат Міхала, Рамуальда і Аляксандра, дваранін Ашмянскага пав. Хр. 17.07.1842. Да паўстання жыў у г. Мінску, 29.07.1859 паступіў на службу ў Мінскае гарадское паліцэйскае ўпраўленне, у 1862 г. пераведзены ў канцылярыю Мінскай духоўнай каталіцкай кансісторыі. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. Сасланы ў г. Петрапаўлаўск Табольскай губ. *(295—1—1643—201адв., 208адв.; 295—1—2409—5адв.—6; 319—1—479—29; 320—1—398—124адв., 245, 255, 264-265, 424, 507-510; 320—2—98—45адв.; 1527—1—4—131; 1430—1—52163—596б адв.).*

5484. **Скрыдлеўская Адэль** (Скржидлевская Адель), дачка Рамуальда, дваранка Віцебскага пав., каталічка. Падчас паўстання абвінавачана рас. уладамі ў «вядзенні дзённіка ў рэвалюцыйным духу». Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 02.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—84адв.-85; 3046—2—5—26).*

5485. **Скрыцкі N.** (Скрыцкий N.). Да паўстання з'яўляўся адстаўным юнкерам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—48).*

5486. **Скулдыцкі (Скульдыцкі) Антоні** (Скулдыцкий (Скульдыцкий, Скульдицкий) Антон), сын Вінцэнта, брат Яна, Аляксандра і Каятана, памешчык. Валодаў 3 дзес. зямлі ў вак. Казіно Мсціслаўскага пав., якія знаходзіліся ў арэндным карыстанні яго брата Каятана. Да паўстання з жонкай і дзецьмі жыў у маёнтку Лізарава Мсціслаўскага пав. *Віскоўскага Пятра*. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Яго зямля 29.06.1863 апісана і сек-

вестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы меў таксама дачыненне *Чакатоўскі Юзаф.* Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Пазней яго зямля канфіскавана *(1430—1—52163—168; 2001—2—123—9адв.-10; 2001—2—171—24адв.-25, 2003—2—17; 3257—2—2—32адв., 39).*

5487. **Скурата Вітальд** (Скурато Витольд). Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, атрымаў часовае звальненне і выехаў на радзіму. 24.04.1863 затрыманы ў Горацкім пав. недалёка ад месца дзеянняў паўстанцаў і дастаўлены ў г. Смаленск. Знаходзіўся пад следствам у СмСК. Паколькі меў законныя дакументы, пад наглядам жандармаў дастаўлены ў г. Маскву для ўсталявання над ім паліцэйскага нагляду *(1430—1—31588—15-22адв.).*

5488. **Скурата Канстанцін** (Скурато Константин). Вучыўся ў Канстанцінаўскім межавым інстытуце ў г. Маскве. Да паўстання атрымаў часовае звальненне і выехаў на радзіму. 26.04.1863 затрыманы ў Горацкім пав. недалёка ад месца дзеянняў паўстанцаў і дастаўлены ў г. Смаленск. Знаходзіўся пад следствам у СмСК. Паколькі меў законныя дакументы, пад наглядам жандараў дастаўлены ў г. Маскву для вяртання пад нагляд кіраўніцтва інстытута *(1430—1—31588—15-22адв.).*

5489. **Скуратовіч Багуслаў** (Скуратович Богуслав), сын Яна, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1836 г. Да паўстання служыў пісарам Любавіцкага валаснога праўлення Аршанскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны (да 31.05.1863), яго рухомая маёмасць на суму ў 10,305 руб. ср. 15.06.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 27.09.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(320—1—398—381-383; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—206адв.; 2003—1—203; 2514—1—2198—70; 3255—1—14—5; 3257—2—2—33).*

5490. **Скуратовіч Віктар** (Скуратович Виктор), сын Адама і *Барэйкі Антаніны*, брат *Фларыяна.* Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам і дочкамі Аленай, Геленай і Міхалінай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—13адв.).*

5491. **Скуратовіч Фларыян** (Скуратович Флориан), сын Адама і *Барэйкі Антаніны*, брат *Віктара.* Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з маці і братам высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—13адв.).*

5492. **Скуратовіч Юзаф** (Скуратович Иосиф), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав. Нар. 16.09.1815. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Вікторыяй, сынамі Антоніем, Людвікам і Гвідонам, дочкамі Кацярынай, Тэафілай, Марыяй і Юзэфай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—16; 320—2—98—60-66).*

5493. **Скуратовіч Якуб** (Скуратович Яков), сын Юзафа. Паходзіў з Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 07.07.1864 разам з жонкай Юзэфай і дочкамі Разаліяй, Каралінай і Канстанцыяй высланы ў Томскую губ. на пасяленне без пазбаўлення правоў *(295—1—2212; 295—1—2420—14адв.).*

5494. **Скуратовіч Ян** (Скуратович Иван), дваранін Ігуменскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, звольнены з чынам калежскага рэгістратара. Падчас паўстання захоўваў ваенны рыштунак. Арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. 28.05.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Пермскую губ. пад строгі нагляд паліцыі без пазбаўлення правоў *(162—1—116—130, 157; 296—1—19—5; 320—1—398—514; 1416—4—11416—83адв.; 1418—3—1—65адв.-66; 1430—1—52163—552адв.).*

5495. **Скурэўскі (Скарэўскі) Рафал** (Скуржевский (Скаржевский) Рафаил), сын Вінцэнта і Канстанцыі Вінцэнтаўны (нар. каля 1815), незацверджаны дваранін Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Паводле канфірмацыі А. Патапава ад 17.12.1864 сасланы, а яго маёмасць пакідалася пад секвестрам. Пасля амністыі атрымаў права на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ., і з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу. У 1872 г. пераехаў з Казанскай губ. у г. Ніжні Ноўгарад. У 1876 г. яго маці, якая служыла ў памешчыка Рдултоўскага ў маёнтку Адахаўшчына Навагрудскага пав., хадайнічала аб дазволе яму вярнуцца на радзіму. 18.05.1876 атрымаў дазвол і 07.1877 выехаў з Ніжняга Ноўгарада. 29.08.1877 прыбыў у г. Мінск *(160—2—682—62; 162—1—122—15; 295—1—1643—205; 295—1—3041; 534—1—14—24).*

5496. **Слабока (Слабок) Юзаф** (Слобока (Слабок) Иосиф), мешчанін Шавельскага пав. За ўдзел

у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—28; 1416—6—281).*

5497. **Славецкі Стэфан** (Словецкий Степан), дваранін Лепельскага пав., каталік. Разам са *Снарскім Вінцэнтам* абвінавачаны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 12.09.1863 падала следчую справу віцебскаму губернатару. *(3046—2—3—79адв.-80; 3046—2—5—48).*

5498. **Славецкі Тэадор** (Славецкий Федор), сын Баніфацыя, дваранін Лепельскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Удзельнічаў у паўстанні, пасля знаходзіўся ў «невядомай адлучцы». Паводле загада М. Мураўёва ад 21.08.1864 яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(1416—4—11416—21-23, 226-232).*

5499. **Славінскі Аляксандр** (Славинский Александр), шляхціц Сакольскага пав. Да паўстання жыў у в. Дворыск Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

**Славінскі Баніфацы** — гл. **Стравінскі Баніфацы**

5500. **Славінскі Віктар** (Славинский Виктор). Нар. у Клімавіцкім пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, потым жыў у г. СПб. 08.1868 за «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» высланы ў Вяцкую губ. *(2003—1—372—115-116, 170, 188, 193).*

5501. **Славінскі Вінцэнт** (Славинский Викентий), сын Юзафа ці Францішка, муж Ганны, бацька *Вітальда* і *Станіслава*, дваранін Дрысенскага ці Аршанскага пав. Да паўстання валодаў маёнткам Талачын Аршанскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны. На яго маёмасць 04.12.1863 накладаўся секвестр паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 *(320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—44адв.; 1430—1—52163—392, 596адв., 822адв.; 2616—1—40—12адв.; 3257—2—2—33).*

5502. **Славінскі Вітальд** (Славинский Витольд), сын *Вінцэнта* і Ганны, брат *Станіслава*, дваранін Аршанскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—20, 33, 33адв.).*

5503. **Славінскі Станіслаў** (Славинский Станислав), сын *Вінцэнта* і Ганны, брат *Вітальда*, памешчык. Служыў у рас. войску, паручнік. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1873 г. жыў у г. Смаленску як «вызвалены ад нагляду паліцыі». 08.1873 атрымаў дазвол на пражыванне ў сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(295—1—2415; 1430—1—35458—19-20; 2514—1—2198—70; 3257—2—2—20, 33, 33адв.).*

5504. **Сламоўскі Леанард** (Сломовский Леонард), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—31).*

5505. **Сланімскі Міхал** (Слонимский Михаил), шляхціц Пружанскага пав. Да паўстання знаходзіўся на службе ў памешчыка Буцэвіча. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—29; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—167).*

5506. **Сланіцкі Вінцэнт** (Слонитский Викентий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—65адв.-66).*

**Слежакоўскі Юзаф** — гл. **Слежаноўскі Юзаф**

5507. **Слежаноўскі Аляксандр** (Слежановский Александр), сын Юзафа, памешчык, каталік. Нар. каля 1835 г. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання разам з іншымі суспадчыннікамі валодаў фальв. Альхімкава Аршанскага пав. 22(ці 24).04.1863 арыштаваны сялянамі пры праездзе па Аршанскім пав. па падазрэнні ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, пры гэтым меў з сабой зараджаную дробам стрэльбу. Потым часова вызвалены. Западозраны рас. уладамі ў дастаўцы зброі паўстанцам, а таксама ва ўваходжанні ў склад патаемнага паўстанцкага таварыства ў Магілёўскай губ. на чале з *Чудоўскім Тадэвушам*, за што знаходзіўся пад следствам у АСК. 28.11.1863 знаходзіўся пад наглядам паліцыі ў Аршанскім пав. Арыштаваны (да 28.01.1864) і разам з братам зняволены ў турэмным замку ў г. Смаленску. Яго маёмасць падлегла секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны

і 14.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы. Маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31353—3, 14адв.; 1430—1—31588—15-22адв.; 1430—1—31602—71-72; 2514—1—2198—70; 3255—1—12—1-1адв.; 3046—2—3—82адв.-83; 3046—2—5—48).*

5508. **Слежаноўскі Павел** (Слежановский Павел). Да паўстання служыў судовым следчым у Дрысенскім (?) пав., губернскі сакратар. Западозраны ў веданні пра падрыхтоўку паўстання і далучэнне некаторых асоб да яго. Арыштаваны (каля 07.1863). Спачатку ўтрымліваўся ў г. Дрысе, 09.1863 пераведзены ў фартэцыю ў г. Дынабург. Разам з *Анкудовічам Баляславам*, *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гараднікам Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і іншымі знаходзіўся пад следствам у ДСК. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 падлягаў вызваленню і вяртанню на месца жыхарства *(1416—2—12677—32-33адв.; 1416—3—21048—45; 2601—1—5—7адв.).*

5509. **Слежаноўскі Пётр** (Слежановский Петр), памешчык. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання валодаў часткамі маёнткаў Альхімкава (Аўхімкі) Аршанскага пав. (разам з *Юзафам*) і Стаі Магілёўскай губ. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне «ў больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго часткі маёнткаў канфіскаваны *(1430—1—52163—526; 2003—1—445—2адв., 14адв.; 2003—2—90—26адв.-29; 3257—2—2—34).*

5510. **Слежаноўскі (Слежакоўскі) Юзаф** (Слежановский (Слежаковский) Иосиф), сын Юзафа, памешчык. Нар. каля 1838–1841 гг. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання разам з *Пятром* валодаў маёнткам Альхімкава (Аўхімкі) Аршанскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны (да 18.01.1864). Утрымліваўся ў турме г. Оршы (03.1864), у г. Віцебску (?). Знаходзіўся пад следствам у АСК, потым у МагСК, якая 25.04.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў. 12.10.1864 разам з *Хадароўскім Юзафам* уцёк з-пад арышту з г. Магілёва. Частка Альхімкава канфіскавана *(534—1—14—5адв.; 1430—1—31353—14адв.; 1430—1—52163—375адв.; 2001—3—23—3; 2003—1—445—2адв., 14адв.; 2003—2—90—26адв.-29; 2586—1—22—26; 3255—1—12—2, 3адв.-4; 3257—1—14—5адв.-6; 3257—2—2—34).*

5511. **Слежаноўскі Яўген** (Слежановский Евгений), сын Юзафа, брат *Аляксандра*, дваранін Аршанскага пав. Нар. каля 1846 г. Да паўстання вучыўся ў гімназіі г. Віцебска. 22(24?).04.1863 арыштаваны сялянамі пры праездзе па Аршанскім пав. па падазрэнні ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, затым часова вызвалены. 28.11.1863 знаходзіўся пад наглядам паліцыі ў Аршанскім пав. Арыштаваны і разам з братам зняволены ў турэмным замку ў г. Смаленску. На яго маёмасць паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 07.07.1863 накладаўся секвестр. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1416—3—21048—44; 1430—1—31353—3; 1430—1—31588—15-22адв.; 1430—1—31602—71-72; 1430—1—52163—396; 3046—2—5—48).*

5512. **Слезер Рамуальд** (Слезиер Ромуальд), сваяк *Фелікса*. Нар. у Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. Дынабургу. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства сасланы (да 15.01.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—3—21048—44адв.; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44; 2532—1—15—4).*

5513. **Слезер Фелікс** (Слезиер Феликс), сваяк *Рамуальда*. Нар. у Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. Дынабургу. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і сасланы (да 15.01.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую ці Аланецкую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—3—21048—44адв.; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—44; 2532—1—15—4).*

5514. **Слівіцкі Ігнат** (Сливицкий Игнатий), дваранін Сакольскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Валагодскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25).*

5515. **Сліводскі Аляксандр** (Сливовский Александр), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8).*

5516. **Сліжэвіч (Сляжэвіч) Мацей (Матэвуш)** (Слижевич (Слежевич) Матвей (Матеуш)), аднадворац Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—28; 320—1—398—224)*.

5517. **Сліжэвіч (Слізевіч) Уладзіслаў** (Слижевич (Слизевич) Владислав), сын Паула Міхалавіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 22.04.1842. Да паўстання жыў у г. Слуцку, дзе яго бацькі валодалі 2 дамамі, вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск, дзе аддадзены пад ПВС пры Яраслаўскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». МГП 27.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—200адв., 211; 319—1—479—29; 320—1—398—156, 222, 401, 406; 320—2—98—45адв.; 1418—3—1—65адв.-66)*.

5518. **Сломскі Міхал** (Сломский Михаил), дваранін Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—102; 319—1—479—27адв.)*.

5519. **Слупскі N.** (Слупский N.), праваслаўны святар. Да паўстання служыў у царкве в. Гілі Сенненскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.08.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—14)*.

5520. **Случаноўскі Ігнат** (Случановский Игнатий), сын Міхала Ігнатавіча (пам. да 1863 г.) і Юліі Ігнатаўны Тарчэўскай, брат Аляксандра і Алены, дваранін Рагачоўскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Фальваранк Млынок з в. Тарахоўка і часткай в. Лазовіца Рагачоўскага пав. (969 дзес. 2019 саж. зямлі, дом, 3 млыны, стайня, фруктовы сад, сукнавальня, 2 шынкі, гаспадарчыя пабудовы і інш., 720 руб. гадавога прыбытку, 2345 руб. доўгу). За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір. Сасланы. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. Фальваранк Млынок 16.09.1863 аддадзены пад паліцэйскі нагляд, а 16.04.1866 апісаны для канфіскацыі часткі, якая пасля смерці маці павінна была адысці ў казну *(320—1—398—222адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 2003—1—362; 3257—2—2—32)*.

5521. **Случаноўскі Пётр** (Случановский Петр), сын Людвіка, брат Станіслава, Тэафілы і Марыі, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Стараград Рагачоўскага пав. на правах суспадчынніка. За дачыненне да паўстання на Стараград накладзены секвестр. 25.06.1864 за нявыплату доўгу Магілёўскаму прыказу грамадскай апекі маёнтак апісаны і перададзены ў кіраванне ПДМ. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Лабунскі Юзаф*, *Пячкоўскі Рыгор* і *Шунейка Міхал*. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (да 06.11.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 18.11.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(1416—4—11416—128; 2003—1—445—5адв., 15, 21; 3257—2—2—20, 28, 33адв.)*.

5522. **Случаноўскі Ян** (Случановский Иван), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Стараград Рагачоўскага пав., а таксама сумесна з іншымі суўладальнікамі маёнткам Навасёлкі Рагачоўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 высланы з радзімы «адміністрацыйным парадкам», на яго маёмасць накладаўся секвестр. Яго маёмасць канфіскавана ў 1866 г. *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379адв.; 2001—3—23—2; 2514—1—2198—70адв.)*.

**Слушка-Цяпінскі Вацлаў** — гл. **Цяпінскі Вацлаў**

**Слушка-Цяпінскі Мечыслаў** — гл. **Цяпінскі Мечыслаў**

5523. **Слядзінскі Вінцэнт** (Следзинский Викентий), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

**Сляжэвіч Матэвуш** — гл. **Сліжэвіч Мацей**

**Сляпец-Дуніна Марыя** — гл. **Дуніна-Сляпец Марыя**

5524. **Сляскі Марцін** (Слясский Мартин), сын Мацея, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Тадуліна Лепельскага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні. На яго маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 25.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—45; 1430—1—52163—412; 3046—2—3—83адв.-84)*.

5525. **Смаровіч Павел** (Сморович Павел), сын Кірыла, селянін Суражскага пав. Да паўстання

жыў у с. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады *(162—1—116—66адв.; 320—1—398—291; 1416—3—21048—45; 1430—1—52163—426)**.

5526. **Смарчэўскі Віктар** (Сморчевский Виктор), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—38)*.

5527. **Смарчэўскі Юзаф** (Сморчевский Осип), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—38)*.

5528. **Смахоўская Ядвіга** (Смаховская Ядвига), памешчыца. За «неданясенне пра размову памешчыка Солтана з мяцежнікамі» арыштавана і ў 1864 г. аддадзена пад ПВС *(295—1—1643—205)*.

5529. **Смігельскі Ігнат** (Смигельский Игнатий), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Юхнава Вілейскага пав. (856 дзес. зямлі). Падчас паўстання западозраны ў захоўванні агняпальнай зброі і рыштунку пасля забароны, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

5530. **Смоліч Ян** (Смолич Иван), сын Ігната, дваранін Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў агітацыі сялян сваіх валоданняў у Слуцкім пав. уступіць у паўстанцкі атрад, арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ССК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 26.07.1864 як апраўданы ад абвінавачвання, але як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» прысуджаны да ссылкі на сталае жыхарства пад нагляд паліцыі ў Томскую губ. і секвестру маёмасці. У Слуцкім пав. была секвестравана і прададзена яго рухомая маёмасць на суму 49,87 руб. *(162—1—116—123адв., 157, 166; 295—1—1643—200адв.; 320—1—398—552адв.; 1416—4—11416—83адв.; 1430—1—52163—552адв.; 1524—1—1—13)*.

5531. **Смолка Севярын** (Смолко Северин). Да паўстання служыў прапаршчыкам Пскоўскага рэзервовага пяхотнага палка. Падчас паўстання скраў у г. Вастраў Пскоўскай губ. дзяржаўны порах з мэтай перадаць яго паўстанцам. Пазней застрэліўся на мызе Марыенгаўзэн Люцынскага пав. *Ліпскай Аліны (1430—1—52163—842)*.

5532. **Смолка Шчэнсны** (Смолко Щенсный). Служыў чыноўнікам, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага сакратара. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7)*.

**Смольская Ядвіга** — гл. **Дабашынская Ядвіга**

5533. **Смольскі Канстанцін** (Смольский Константин), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70)*.

5534. **Смольскі Сулейман** (Смольский Сулейман), шляхціц Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—222адв.)*.

5535. **Смыслоў Уладзіслаў** (Смыслов Владислав), сын Мікалая, мешчанін г. Навагрудка, праваслаўны. Нар. каля 1841 г. Да паўстання служыў фельчарам пры Крошынскім валасным праўленні Навагрудскага пав. Разам з *Дабкевічам Канстанцінам*, *Канько Антонам* і *Ляскоўскім Пятром* пакінуў м. Крошын і далучыўся да паўстанцаў. Праз дзень пакінуў атрад і прыбыў да рас. уладаў у в. Валахва Навагрудскага пав. Арыштаваны. У паказаннях сцвярджаў, што разам з *К. А.* далучыўся да паўстанцаў пад пагрозамі смерці ад *Д. К.* і *Л. П.* На пачатку красавіка 1863 г. далучыўся да атрада *Міладоўскага Вітальда*, удзельнічаў у павешанні селяніна. Пасля рассеяння атрада ў сутычцы ля в. Ігнатава Навагрудскага пав. схоплены ў лесе рас. жаўнерамі. Спачатку на судзе затойваў павешанне селяніна, але ў хуткім часе прызнаў яго. Паводле пастановы ПВА, канфірмаванай М. Мураўёвым 13.12.1863, прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. На дом, які належаў яму разам з суспадчыннікамі ў м. Гарадзішча Навагрудскага пав., а таксама на яго маёмасць, ацэненую ў 90 руб., накладзена забарона, а потым канфіскацыя. Расстраляны 08.01.1864 каля Навагрудка. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33, 51; 295—1—1556; 295—1—1643—202; 295—1—1900—9адв.-10; 296—1—18; 319—1—479—29; 320—1—398—161, 174, 220, 222)***.

---

* Магчыма, ідэнтычны з *Зімаровічам Паўлам*.

** Магчыма, ідэнтычны з *Слежаноўскім Юзафам*.

5536. **Смюланоўскі Юзаф** (Смюлановский Иосиф), сын Юзафа, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 11.05.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—14)*.

5537. **Снадскі Адрыян** (Снадзский Адриан), дваранін. Да паўстання яго бацьку належаў маёнтак Ігнатаўка Ашмянскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы *(162—1—116—40; 296—1—25—88; 319—1—479—27адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126)*.

5538. **Снарская Леакадзія** (Снарская Леокадия), маці *Юзэфы*, дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

5539. **Снарская Юзэфа** (Снарская Юзефа), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

5540. **Снарскі Адам** (Снарский Адам), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

5541. **Снарскі Аляксандр** (Снарский Александр), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў у Віленскай палаце крымінальнага суда. Яго бацька валодаў вёскай у Троцкім пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—27; 320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

5542. **Снарскі Вінцэнт** (Снарский Викентий), сын Антонія, памешчык Лепельскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Разам са *Славецкім Стэфанам* абвінавачаны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 12.09.1863 падала следчую справу віцебскаму губернатару. Высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—3—21048—44адв.; 1430—1—52285—5адв., 43адв.; 3046—2—3—79адв.-80; 3046—2—5—48)*.

5543. **Снарскі Юзаф** (Снарский Иосиф), дваранін. Да паўстання жыў у м. Уцяны Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—530адв.; 3046—2—5—48)*.

5544. **Снежка (Снешка) Караль** (Снежко (Снешко) Карл), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Сасланы ў Арэнбургскую губ., а яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—280; 1430—1—52163—149; 2532—1—15—11адв.)*.

5545. **Снежка-Блоцкі Уладзіслаў** (Снежко-Блоцкий Владислав). За «намеранае захоўванне зброі» ў 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—203)*.

5546. **Снежка-Блоцкі Францішак** (Снежко-Блоцкий Франц), сын Францішка. Да паўстання жыў у г. Пружанах, служыў чыноўнікам Пружанскага земскага суда, калежскі рэгістратар. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 29.08.1863 і пастановы ГГП ад 19.09.1863. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—224адв.; 1416—6—239)*.

**Снешка Караль** — гл. **Снежка Караль**

5547. **Снігір Фёдар** (Снигирь Федор), сын Міхала, селянін. Да паўстання жыў у в. Клюкавічы Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе з вясны да верасня 1863 г., удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі. Пасля рассеяння атрада добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.03.1864 высланы ў г. Маскву ў распараджэнне МУС для далейшай ссылкі. Сасланы ў Сібір *(295—1—1689; 295—1—2420—12адв.; 295—1—2725—9адв.)*.

5548. **Снігурскі Рыгор** (Снигурский Григорий), дваранін. Да паўстання жыў у м. Гарадзец Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—224адв.)*.

5549. **Снітак (Снітка) Адам** (Снитак (Снитко) Адам), сын Адама, памешчык Пінскага пав. За ўступленне ў паўстанцкі атрад яго маёнтак Варані Пінскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГП ад 03.07.1863 *(296—1—89—17)*.

5550. **Снітка Алаізі** (Снитко Алоизий), сын Яна і Зюзаны, брат Ванды, Зеляслава, *Тэклі*, *Уладзіслава* і Феліцыяна, памешчык Ігуменскага пав. Служыў у рас. войску ў пяхоце. Удзельнічаў у паўстанні, камандаваў паўстанцкім атрадам, які дзейнічаў у Ігуменскім пав. і ў які ўваходзілі каля 70 чал., у т.л. *Дамінікоўскі Юзаф*, *Мурашка Ян*, *Рымгайла Баляслаў* і *Тарчыла Баляслаў*. Пасля паўстання знаходзіўся ў «невядомай адлучцы». Маёнтак Казлоў Бераг Ігуменскага пав., якім валодаў на правах суспадчынніка разам з братамі і сёстрамі, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 28.05.1863; 27.08.1863 яго частка маёнтка канфіскавана *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—71адв., 87адв.; 296—1—50—14-16адв.; 296—1—89—9, 36адв.-37; 319—1—479—29; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.; 1595—2—1469—44-47)*.

5551. **Снітка Тэкля** (Снитко Текля), дачка Яна і Зюзаны, сястра *Алаізія*, Ванды, Зеляслава, *Уладзіслава* і Феліцыяна, памешчыца. Разам з братамі і сёстрамі валодала маёнткам Казлоў Бераг Ігуменскага пав. Арыштавана за «рассяванне шкодных супраць Урада чутак». Знаходзілася пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначана да 3-месячнага арышту ў крэпасці і 50-рублёвага штрафу пасля вызвалення. 10.08.1864 яе справа адаслана ЧВГМГ. Пакаранне адбывала ў фартэцыі ў г. Бабруйску, дзе знаходзілася разам з *Яцынай Севярынай*. 31.05.1865 атрымала пашпарт для выезду ў Віленскую і Магілёўскую губ. на 6 месяцаў *(295—1—1643—218адв.; 296—1—115—22 адв., 26, 30-31адв., 36; 1418—3—1—69адв.-70; 1595—2—1469—44-47)*.

5552. **Снітка Уладзіслаў** (Снитко Владислав), сын Яна і Зюзаны, брат *Алаізія*, Ванды, Зеляслава, *Тэклі* і Феліцыяна, памешчык Ігуменскага пав. Служыў у рас. войску, паручнік. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Маёнтак Казлоў Бераг Ігуменскага пав., якім валодаў на правах суспадчынніка разам з братамі і сёстрамі, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 28.05.1863, а потым яго частка канфіскавана (?). У 1863 г. вызвалены з-пад арышту з аддачай на парукі *(295—1—1643—210, 215; 296—1—89—9; 1595—2—1469—44-47)*.

5553. **Сокал Вінцэнт** (Сокол Викентий), дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1840 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў барысаўскай бальніцы, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (да 19.10.1863) да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103, 166; 295—1—1527—107адв.; 295—1—1643—202; 1430—1—52163—150адв.)*.

5554. **Сокал Ігнат** (Сокол Игнатий), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. прысуджаны да ссылкі шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска *(295—1—1643—209адв.)*.

5555. **Солтан Адам** (Солтан Адам), сын Аляксандра Адамавіча, памешчык. Удзельнічаў у паўстанні, пастаўляў паўстанцам харчаванне, пасля выехаў за мяжу. Яго маёнтак Варані Пінскага пав. (ацэнены ў 35 тыс. руб.) секвестраваны 26.06.1863, маёнтак Рэчыца Пінскага пав. канфірмацыяй А. Патапава ад 02.05.1865 прызначаны да канфіскацыі *(160—2—682—140; 162—1—122—31; 295—1—1643—205; 295—1—3688—23; 296—1—89—72адв.; 320—2—99—42адв.-43; 534—1—14—53)*.

5556. **Солтан Аляксандр** (Солтан Александр), сын Людвіка, брат Зоф'і (v. Александровіч[145]), муж Кацярыны Феліксаўны Нолькен, памешчык Рэчыцкага пав. 27.08.1857 сумесна з сястрой атрымаў у спадчыну ад бабулі Багумілы Харэвіч маёнтак Юравічы Рэчыцкага пав. (ацэнены ў 1866 г. у 29166 руб.). 04.03.1863 намагаўся вызваліць арыштаваных сялянамі ў м. Юравічы *Арахоўскага Тадэвуша* і *Шпігановіча Антонія*. Западозраны ў прыналежнасці да «рэвалюцыйнага руху» і паводле распараджэння М. Мураўёва 04.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў г. Арэнбург. Яго палова маёнтка Юравічы секвестравана паводле загадаў М. Мураўёва ад 26.09.1864 і 10.10.1864. Яго жонка ў 1865–1866 гг. некалькі разоў звярталася да ўладаў з прашэннямі аб выдачы часткі даходаў на ўтрыманне сябе і дзіцяці, аднак беспаспяхова. Загадам Э. Баранава ад 31.10.1866 секвестр зняты са спагнаннем 20-працэнтнага збору і вяртаннем маёнтка ў кіраванне жонкі. У ссылцы атрымліваў грашовую дапамогу ад рас. уладаў, якая пасля была спагнаная з яго маёнтка. Увосень 1867 г. жонка падала прашэнне аб дазволе яму на часовы прыезд на радзіму для продажу маёнтка, аднак невядома, ці было яно задаволена. Пазней атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, у 1873 г. прыбыў з Арэнбурга ў Рэчыцкі пав. 12.1876–11.1881 жыў ва ўласным маёнтку Тульгавічы Рэчыцкага пав. *(162—1—116—157; 295—1—1574—5-5адв.; 295—1—1643—202адв.; 295—1—1759; 295—1—3026—25адв.-26; 295—1—3492—13, 31адв.-32; 1430—1—31583—169-177; 1430—1—52163—540адв.; 2532—1—15—14)*.

---

[145] Магчыма, жонкі *Александровіча Адама*.

5557. **Солтан Канстанцін** (Солтан Константин), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—14)*.

5558. **Солтан Уладзіслаў** (Солтан Владислав), дваранін Віцебскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў як «вызвалены ад нагляду паліцыі» ў г. Разані, атрымаў дазвол на часовае прыбыццё ў Віцебскай губ. для суправаджэння целаў памерлых жонкі і дачкі. У 1873 г. жыў у г. Рызе, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(1430—1—35146—51; 1430—1—35458—28-29, 32-33)*. Магчыма, ідэнтычны наступнай асобе.

5559. **Солтан [Уладзіслаў]** (Солтан [Владислав]), дваранін Рэжыцкага пав. Служыў міравым пасярэднікам, яго жонка валодала маёнткам Прэзма Рэжыцкага пав. з 3000 руб. ср. штогадовага прыбытку. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле распараджэння М. Мураўёва 04.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—31355—87-91; 1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—58адв.)*. Магчыма, ідэнтычны папярэдняй асобе.

5560. **Сонгін Юзаф** (Сонгин Осип). Служыў радцам Гродзенскай казённай палаты; надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

**Сорак Ян** — гл. **Сарока Ян**

5561. **Спалінскі Ян** (Спалинский Иван), мешчанін г. Расіенаў. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—104; 319—1—479—28адв.)*.

5562. **Спасоўская Марыя** (Спасовская Марья), дачка Пятра, маці *Даместіка*, дваранка Полацка-га пав., каталічка. Нар. каля 1824 г. Да паўстання жыла ва ўласным маёнтку Міткавічы Полацкага пав. Падчас паўстання разам з *Вышамірскай Стэфанідай* западозрана ў намове паўстанцаў адбіць ля м. Бачэйкава Лепельскага пав. арыштаваных сына, *Адамовіча Антонія*, *Прасецкіх Караля*, *Рудольфа* і *Цыпрыяна*. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая 17.01.1864 з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» выдала пастанову аб аддачы яе пад паліцэйскі нагляд і секвестры яе маёмасці. На следстве і судзе не прызнала абвінавачанняў, і доказаў для іх не хапала, таму пастановай ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 23.04.1865 А. Патапавым, прызначана да вызвалення і вяртання на месца жыхарства. Яе маёнтак з прычыны адсутнасці «належнага назірання за сынам, западозраным у палітычным злачынстве», падлягаў абкладанню ўзмоцненым 20-працэнтным зборам, пасля чаго вызваляўся ад секвестру *(1416—4—11416—242-255; 1430—1—31602—48-51; 3046—2—3—82адв.-83; 3046—2—5—48)*.

5563. **Спасоўскі Браніслаў** (Спасовский Бронислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Стэфанава Лепельскага пав. За «палітычныя злачынствы» паводле распараджэння М. Мураўёва ў 1864 г. сасланы ў г. Кунгур Пермскай губ. На яго маёмасць, на падставе ўказу ВГП ад 07.07.1864 накладаўся секвестр, які зняты паводле распараджэння М. Мураўёва ад 14.11.1864 са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору, што складаў 18,5 руб. На месцы ссылкі звяртаўся да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі *(1416—3—21048—45; 1430—1—31583—96; 1430—1—52163—293-294, 451адв.)*.

5564. **Спасоўскі Дамінік** (Спасовский Доминик), сын Францішка і *Марыі*, дваранін Полацкага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання жыў у маёнтку маці Міткавічы Полацкага пав. Падчас паўстання западозраны ў намеры далучыцца да атрада *Дыкі Уладзіслава* ля м. Бешанковічы Лепельскага пав. 26.04.1863 разам з *Прасецкімі Каралем* і *Рудольфам* і *Адамовічам Антоніем* арыштаваны ў маёнтку Саннікі Лепельскага пав., пры арышце ў яго забрана стрэльба. Знаходзіўся са згаданымі, а таксама *Вышамірскай Стэфаніяй*, *Прасецкім Цыпрыянам* і маці пад следствам у ВСК, якая 17.01.1864 выдала пастанову аб прызнанні яго вінаватым, зняволенні ў турэмным замку і секвестры яго маёмасці. На следстве і судзе не прызнаў абвінавачанняў і доказаў для іх не хапала, таму пастановай ЧПА ад 21.04.1865, канфірмаванай 23.04.1865 А. Патапавым, прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства на парукі і пад строгі нагляд паліцыі *(1416—3—21048—45; 1416—4—11416—242-255; 1430—1—31602—48-51; 3046—2—3—78адв.-79; 3046—2—5—47)*.

5565. **Спасоўскі Станіслаў** (Спасовский Станислав), сын Цыпрыяна, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў захоўванні зброі, арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі. 23.01.1864 пераведзены ў г. Віцебск, утрымліваўся ў турэмным замку. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губерната-

ру *(1430—1—31602—4; 3046—2—3—78адв.-79; 3046—2—5—48)*.

5566. **Спірыдовіч Адам** (Спиридович Адам), сын Антонія, муж Алены Корсак, дваранін Лепельскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку паручнікам. Яго бацька валодаў засц. Бобрыца Лепельскага пав. (25 дзес. зямлі). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Яго рухомая маёмасць у фальв. Саннікі Магілёўскага пав. (2 кані, брычка, сані, збруя і інш.) на суму ў 175 руб. 06.07.1863 секвестравана. Жонка 07.1863 падала на імя МагГГ прашэнне аб вяртанні маёмасці, сцвярджаючы, што тая належала яе маці Міхаліне Юзафаўне і перададзена ёй у часовае карыстанне, што паводле пастановы МагГП ад 11.05.1864 было адхілена. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Указ аб канфіскацыі выдадзены ВГП 22.08.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.08.1864. На Бобрыцу накладзена забарона *(319—1—479—27адв.; 1416—3—21048—44; 1416—4—11416—50, 52-53, 125; 1430—1—52163—251-252, 394адв., 415адв., 526адв.; 2003—2—19—20; 2003—2—21; 3256—2—24—12, 13)*.

5567. **Спірыдовіч Антоні-Вінцэнт** (Спиридович Антон-Викентий), сын Ануфрыя, дваранін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны, быў пад следствам у ІСК. 04.05.1864 яго справа пададзена ў МСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—129, 156; 295—1—1643—203адв.; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—525, 605, 644; 1418—3—1—65адв.-66; 1430—1—52163—521адв.)*.

5568. **Спірыдовіч Уладзіслаў** (Спиридович Владислав). Нар. у Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у г. Кастраме, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—25-26)*.

5569. **Спірыдовіч Юзаф** (Спиридович Иосиф), дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1828 г. Да паўстання жыў у маёнтку Сяргееўшчына Лепельскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 11.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1864 г. вызвалены з аддачай на парукі *(295—1—1527—101адв.; 295—1—1643—216)*.

5570. **Срадзінскі Канстанцін** (Средзинский Константин), сын памешчыка. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Юхноўшчына Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.)*.

5571. **Сраўгевіч Антоні** (Сровгевич Антон), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Шацілава Полацкага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 накладаўся секвестр *(296—1—25—111адв.; 1416—3—21048—45; 1430—1—31583—37-38; 1430—1—52163—400, 573адв.)*.

5572. **Стадніцкі N.** (Стадницкий N.). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання жыў у Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.)*.

5573. **Стаброўскі Аляксандр** (Стабровский Александр), сын Габрыэля, дваранін Мінскай губ. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. Да паўстання яго бацькі жылі ў г. Мінску. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр (указ МГП ад 04.09.1864 на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 16.08.1864) *(162—1—116—136, 166; 320—1—398—567)*.

5574. **Стаброўскі Люцыян** (Стабровский Люциан), дваранін Слонімскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку памешчыцы Пуслоўскай. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—224адв.)*.

5575. **Стайгвіла Баляслаў** (Стейгвилло Болеслав), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28; 320—1—398—224)*.

5576. **Сталовіч Вікенці** (Сталович Викентий), сын Іосіфа, мешчанін Ігуменскага пав., праваслаўны. Падчас паўстання схоплены са зброяй у руках. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.01.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. прысуджаны да ссылкі ў Пскоўскую губ. для пасялення на казённых землях *(295—1—1643—220; 1418—3—1—68адв.-69)*.

5577. **Стамброўскі Калікст** (Стамбровский Каликст), дваранін. Да паўстання яго бацька ва-

лодаў надзелам зямлі ў 1 стане Троцкага пав. Далучыўся да паўстанцаў, за што зямля бацькі на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5578. **Стампарэцкі (Станпарэцкі) Геранім** (Стемпоржецкий (Стенпоржецкий) Иероним (Героним)), аднадворац Троцкага пав. Да паўстання валодаў домам у г. Вільні і арандаваў маёнтак Гуцяны (Гусцяны) Троцкага пав. памешчыкаў Бараноўскіх. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (паміж 15.03.1864 і 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—6—274; 1430—1—52163—166)*.

5579. **Стампоўскі Вітальд** (Стемповский Витольд), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Варонежскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—46)*.

5580. **Стампкоўскі Казімір** (Стемпковский Казимир), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання жыў у г. Маскве. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—29; 1430—1—52163—181адв.; 3257—2—2—33адв.; 3366—1—5—14)*.

5581. **Стампкоўскі Пётр** (Стемпковский Пётр), сын Тамаша, дваранін Віленскай (?) губ. Да паўстання служыў у Мінскай казённай палаце, губернскі сакратар. Атрымаў з *Камоцкім Марцінам* ліст у Мінскай паштовай канторы па фальшывай даверанасці на імя паўстанца *Караля Станкевіча*, арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 05.10.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—159; 295—1—1643—205; 320—1—398—635-637)*.

5582. **Стампкоўскі Фелікс** (Стемпковский Феликс). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым землямерам у Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—194)*.

5583. **Станевіч Аляксандр** (Станевич Александр). Да паўстання з'яўляўся запасным ляснічым Мінскай ПДМ. За дачыненне да паўстання паміж 01.09.1864 і 01.10.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—166адв.; 319—1—479—29адв.; 534—1—14—5адв.; 1430—1—52163—375адв.)*.

5584. **Станевіч Вінцэнт** (Станевич Венциот), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Сібір на жыхарства *(319—1—479—28; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598)*.

5585. **Станевіч Генрыета** (Станевич Генриета), маці *Марыі*, дваранка Мінскага пав. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1864 прысуджана да ссылкі «адміністрацыйным шляхам» на жыхарства ў Пермскую губ. і секвестру маёмасці. У 1864 г. памерла ў ссылцы *(160—2—682—20, 101; 162—1—116—151, 166адв., 174; 295—1—1643—221; 1430—1—52163—379)*.

5586. **Станевіч Генрык** (Станевич Генрих), сын Аляксандра, дваранін Мінскага пав. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Да паўстання жыў у г. Мінску. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 03.10.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 07.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Табольскую губ. *(162—1—122—101; 295—1—1643—201; 296—1—90—7адв.-8; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—2; 1430—1—52163—182)*.

5587. **Станевіч Дамінік** (Станевич Доминик), сын Караля, брат (?) *Леанарда*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 09.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—78адв.-79; 3046—2—5—47)*.

5588. **Станевіч Ігнат** (Станевич Игнатий), сын эмігранта, сваяк (?) *Марыяна*. Да паўстання вярнуўся на радзіму бацькі ў Расіенскі пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5589. **Станевіч Канстанцін** (Станевич Константин), аднадворац. Нар. у «Заходнім краі». Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў

пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

5590. **Станевіч Кацярына** (Станевич Екатерина), дачка Ігната, дваранка Віцебскага ці Дзісенскага пав., каталічка. Абвінавачана рас. уладамі ў сувязях з «палітычнымі злачынцамі» *Вярыгам Арцёмам* і *Пётухам-Кубліцкім Фердынандам*. На яе маёмасць 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Саслана (да 01.10.1864) у Кастрамскую губ. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—3—21048—44; 1430—1—35146—75; 1430—1—52163—424, 722адв.; 3046—2—3—76адв.-77; 3046—2—5—47).*

5591. **Станевіч Леанард** (Станевич Леонард), сын Караля, брат (?) *Дамініка*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 09.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. На яго маёмасць 11.07.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 07.07.1864 накладаўся секвестр. *(1416—3—21048—45адв.; 1416—4—11416—84адв.; 1430—1—52163—414адв., 540адв.; 3046—2—3—78адв.-79; 3046—2—5—47).*

5592. **Станевіч Марыя** (Станевич Мария), дачка *Генрыеты*, дваранка Мінскага пав. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1864 прысуджана да ссылкі «адміністрацыйным шляхам» на жыхарства ў Пермскую губ. і секвестру маёмасці. У 1864 г. памерла ў ссылцы *(160—2—682—20, 101; 162—1—116—151, 166адв., 174; 295—1—1643—221; 1430—1—52163—379).*

5593. **Станевіч Марыян** (Станевич Мариан), сын эмігранта, сваяк (?) *Ігната*. Да паўстання вярнуўся на радзіму бацькі ў Расіенскі пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

5594. **Станевіч Тэафіл** (Станевич Теофил), дваранін Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—181).*

5595. **Станевіч Юзаф** (Станевич Иосиф). За дачыненне да паўстання ў 1864 г. высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. *(295—1—1643—220адв.).*

5596. **Станевіч Ян** (Станевич Иван), сын Эзехеля, памешчык. Валодаў маёнткам Каўнатова Шавельскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру, а потым канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88адв.; 319—1—479—28; 320—1—398—197адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—125адв.).*

**Станевіч N.** — гл. **Пісарскі N.**

**Станеўскі Цыпрыян** — гл. **Сташэўскі Цыпрыян**

5597. **Станіслававіч Аляксандр** (Станиславович Александр), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28; 320—1—398—224).*

**Станіслававіч Ізыдар** — гл. **Дзераноўскі Станіслаў**

5598. **Станішэўская Караліна** (Станишевская Каролина), дачка Якуба, памешчыца Кобрынскага пав. Да паўстання жыла ў маёнтку Кушылава. За садзейнічанне паўстанцам яе маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзена пад ПВС, якім прызначана (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Аланецкую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 295—1—1643—203адв.; 320—1—398—2; 2532—1—15—8).*

5599. **Станішэўскі Іпаліт** (Станишевский Ипполит), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28адв.; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

5600. **Станішэўскі Міхал** (Станишевский Михаил), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання жыў у м. Уцяны Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2616—1—40—14).*

5601. **Станішэўскі Ян** (Станишевский Иван), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.)*.

5602. **Станкевіч Адам** (Станкевич Адам), мешчанін м. Лагішын Пінскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 28.03.1864), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—310)*.

5603. **Станкевіч Аляксандр** (Станкевич Александр), памешчык Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—7адв.)*.

5604. **Станкевіч Аляксандр** (Станкевич Александр), сын Міхала, дваранін Дрысенскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 27.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—84адв.-85)*.

5605. **Станкевіч Антоні** (Станкевич Антон), незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у засц. Маячок Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір. У 1870 г. жыў у г. Тамбове, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—11-12; 319—1—479—27; 320—1—398—128адв.; 1416—6—280; 1430—1—52163—603адв.)*.

5606. **Станкевіч Вінцэнт** (Станкевич Викентий), сын Даніэля, селянін Ігуменскага пав. Да вызвалення з прыгону жыў у в. Шамятова Ігуменскага пав. памешчыцы Манюшкі. Падчас паўстання хаваў зброю, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызнаны вінаватым. 26.11.1863 яго справа перададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 30.04.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Томскую губ. для пасялення на дзяржаўных землях *(162—1—116—108адв.; 295—1—1643—201; 295—1—2725—35; 320—1—398—437адв.; 1418—3—1—65адв.-66, 67адв.-68)*.

5607. **Станкевіч Вітальд** (Станкевич Витольд), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8адв.)*.

5608. **Станкевіч Зыгмунт** (Станкевич Сигизмунд), дваранін Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5609. **Станкевіч Казімір** (Станкевич Казимир), сын Антонія, дваранін Пружанскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Молічы (Малеч) Пружанскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

5610. **Станкевіч Казімір** (Станкевич Казимир), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—28адв.)*.

5611. **Станкевіч Канстанцін** (Станкевич Константин), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (паміж 15.03.1864 і 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі. Сасланы ў Табольскую губ. *(319—1—479—27адв.; 1430—1—52163—166)*.

5612. **Станкевіч Караль** (Станкевич Карл), сын Гальяша, дваранін Мінскай губ. Нар. у 1832 г. У 1855 г. скончыў Горы-Горацкі сельгасінстытут са званнем правадзейнага студэнта аграноміі. У гэтым жа годзе паступіў на службу ў Гродзенскую ПДМ з чынам губернскага сакратара, пасля пераведзены на службу пісьмаводам Мінскай ПДМ, дзе знаходзіўся на момант паўстання; калежскі сакратар. Абвінавачаны рас. уладамі, што дзейнічаў «як галоўны дзеяч рэвалюцыйнай партыі», арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 24.10.1863. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.06.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—1166—123, 137; 295—1—1643—200; 296—1—90—8адв.-9; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—552адв., 559-562, 573, 575; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—242; 2616—1—40—62а)*.

5613. **Станкевіч Кацярына** (Станкевич Екатерина), дваранка Віцебскай губ. За дачыненне да

спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Табольскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—3—21048—45адв.; 1416—4—11416—85адв.; 1430—1—52163—540адв.).*

5614. **Станкевіч Марыя** (Станкевия Мария), дваранка Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначана ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана (каля 06.1864) на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237).*

5615. **Станкевіч Мікалай** (Станкевич Николай), дваранін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з'явіўся да рас. уладаў *(295—1—1643—220адв.).*

5616. **Станкевіч (Статкевіч) Оттан** (Станкевич (Статкевич) Оттон), дваранін. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам у Кобрынскім акруговым упраўленні. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—29; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—205адв.).*

5617. **Станкевіч Рафал** (Станкевич Рафаил), сын Юзафа, шляхціц. Да паўстання жыў у в. Сенна Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(295—1—1643—205; 320—1—398—3).*

5618. **Станкевіч Станіслаў** (Станкевич Станислав), сваяк (?) *Сымона*, незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у в. Варкузяны (ці Варпуцяны) Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—28; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

5619. **Станкевіч Стэфан** (Станкевич Стефан), аднадворац. Нар. каля 1844 г. Да паўстання служыў лакеем у *Арамовіча Ігната*. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры Мінскім батальёне ўнутранай варты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў батальёнах Амурскай вобл. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—200, 209; 299—1—577—511-513; 320—1—398—20, 191; 1416—6—280).*

5620. **Станкевіч Сымон** (Станкевич Семен), сваяк (?) *Станіслава*, незацверджаны дваранін. Да паўстання жыў у в. Варкузяны (ці Варпуцяны) Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

5621. **Станкевіч Тарэза** (Станкевич Терезия), дваранка. Да паўстання выйшла замуж за цесляра. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Аланецкую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199).*

5622. **Станкевіч Фелікс** (Станкевич Филикс), дваранін Ігуменскага ці Лепельскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Зняволены ў мінскім турэмным замку, адтуль 09.1863 падаваў прашэнне аб памілаванні. 02.1864 вызвалены з-пад арышту з вяртаннем на месца жыхарства ў г. Лепель пад негалосны паліцэйскі нагляд. 23.02.1864 аднавіў прысягу на адданасць цару *(295—1—1643—211, 214; 296—1—77; 1418—3—1—65адв.-66).*

5623. **Станкевіч Юзаф** (Станкевич Иосиф), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

5624. **Станкевіч Юзаф** (Станкевич Иосиф), сын Якуба, дваранін Сенненскага пав. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у фальв. Тадуліна Лепельскага пав. свайго дзядзькі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Ваенным судом і канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую ці Арэнбургскую губ. без пазбаўлення правоў. Яго маёмасць падлягала секвестру *(295—1—1527—100; 1416—4—11416—25-27; 1430—1—52163—558).*

5625. **Станкевіч Юзаф** (Станкевич Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў у Ковенскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Архангельскую губ. *(1430—1—52163—546).*

5626. **Станкевіч Юзаф** (Станкевич Иосиф), памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, тытулярны радца. Да паўстання валодаў маёнткам

Гвозніца альбо маёнткам Вітвінец Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 21.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—29; 1416—6—238).*

5627. **Станкевіч Якуб** (Станкевич Яков), аднадворац Ковенскай губ. Да паўстання служыў на цагельным заводзе. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—28; 320—1—398—133; 1430—1—52163—600).*

5628. **Станкевіч Ян** (Станкевич Ян), дваранін Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—27адв.; 1416—6—280).*

5629. **Станкевіч Ян** (Станкевич Иван), сын Яна, дваранін Віцебскага пав. Нар. каля 1842 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця 16.05.1863 схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На яго маёмасць на падставе патрабавання ваеннага начальніка Барысаўскага пав. ад 10.09.1863 накладаўся секвестр 08.10.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска. Пасля атрымання частковай амністыі перасяліўся ў г. Смаленск, дзе ў 1875 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. *(295—1—1527—94адв.102; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—44адв.; 1416—4—11416—21, 229-232; 1430—1—35810—1; 1430—1—35834—7; 1430—1—52163—596адв., 723; 2616—1—40—12адв.).*

5630. **Станкевіч Ян**[146] (Станкевич Иван), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

5631. **Станкевіч N.** (Станкевич N.), ксёндз. За ўдзел у паўстанні канфіскаваны і прададзены яго адзенне, бялізна і хатні рыштунак паводле ўказа ПДМ ад 06.04.1864 *(296—1—89—24).*

5632. **Станкевіч N.** (Стакевич N.). Да паўстання служыў станавым прыставам Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.).*

5633. **Станкевіч N.** (Станкевич N.). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў сакратаром Цельшаўскага павятовага ўпраўлення. Пасля паўстання пастановай ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9).*

5634. **Станковіч Мікалай** (Станкович Николай), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5адв.).*

5635. **Станкоўскі Юльян** (Станковский Юлиан), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616).*

5636. **Станкунас Пётр** (Станкунас Петр), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—48адв.).*

**Станпарэцкі Геранім** — гл. **Стампарэцкі Геранім**

5637. **Стапінскі Баляслаў** (Стопинский Болеслав), дваранін Аршанскага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 28.08.1862 атрымаў адпачынак да 08.04.1863. Падчас паўстання далучыўся да чэрыкаўскага паўстанцкага атрада, пасля яго рассеяння хаваўся ад рас. уладаў. 01.05.1863 схоплены сялянамі на гарышчы хаты ў фальв. Бярозаўка Магілёўскага пав. памешчыкаў *Аляхоўскіх Канстанціна* і *Уладзіслава* з двума іншымі паўстанцамі. Пры вобшуку ў іх знойдзены рэвальвер, кінжал і парахаўніца. На следстве сцвярджаў, што захоплены ў

[146] Магчыма, ідэнтычны з адным з двух вышэй згаданых Станкевічаў Янаў, аднак урыўкавасць звестак не дазваляе зрабіць высnову, з якім канкрэтна.

атрад гвалтоўна. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая 14.04.1864 скончыла яго справу і падала камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 10.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады. 02.06.1864 адпраўлены на месца ссылкі *(1430—1—52163—206адв.; 3256—2—25; 3257—2—2—33)*.

5638. **Старповіч (Сцярповіч) Андрэй** (Старпович (Стерпович) Андрей), сын Ігната, дваранін Барысаўскага пав. ці селянін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і знявольны ў г. Ігумене. Без следства 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Высланы *(295—1—1643—221; 319—1—479—29; 320—1—398—222, 401адв., 405, 608-610; 320—2—98—45адв.; 1418—3—1—66адв.-67)*.

5639. **Старповіч Пётр** (Старпович Петр), сын Станіслава, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з жонкай Каралінай, дочкамі Ганнай, Фяліцыяй, Юзэфай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 жыў у засц. Бярозаўка Ігуменскага пав. у сваякоў *(295—1—2420—15адв.; 295—1—3026—33адв.; 320—2—98—137-138)*.

5640. **Старчынскі Браніслаў** (Старчинский Бронислав), сын Станіслава, дваранін Каралеўства Польскага. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення з «тутэйшага краю». 23.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ *(1418—3—1—68адв.-69)*.

5641. **Старынскі Віктар** (Старжинский Виктор), граф, памешчык Беластоцкага і Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8)*.

5642. **Старынскі Станіслаў** (Старжинский Станислав), сын Ігната, муж Разаліі, дваранін Дрысенскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Падчас паўстання абвінавачаны рас. уладамі ў «сакрэтнай перапісцы з нейкім Андронікам». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 13.08.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—85адв.-86)*.

5643. **Стасцэвіч Павел** (Стасцевич Павел), сын Міхала, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—13адв.)*.

5644. **Статкевіч Адам** (Статкевич Адам), мешчанін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—224адв.)*.

5645. **Статкевіч Амброзі** (Статкевич Амвросий), селянін Віцебскай (?) губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты. На яго маёмасць 12.07.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 11.03.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—45адв.; 1430—1—52163—401адв.)*.

5646. **Статкевіч Ігнат** (Статкевич Игнатий), ксёндз. Да паўстання з'яўляўся старэйшым ксяндзом касцёла ў г. Рэчыцы. Прысудам ЧПА, зацверджаным 04.11.1865 канфірмацыяй намесніка камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі, прызнаны вінаватым у спачуванні паўстанцам, «падтрыманні фанатызму ў Рымскіх каталіках на шкоду праваслаўя» і прысуджаны да высылкі ў Табольскую губ. на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі *(295—1—1643—219адв.; 1781—32—144—26)*.

5647. **Статкевіч Казімір** (Статкевич Казимир), сын Вінцэнта. Да паўстання служыў пісьмаводам прыстава 1 стана Цельшаўскага пав. Паводле рашэння ПВА ад 16.09.1865, канфірмаванага З. Манюкіным, за «нядобранадзейнасць» звольнены з забаронай пастунаць на дзяржаўную службу на радзіме *(160—2—683—2)*.

5648. **Статкевіч Міхал** (Статкевич Михаил), дваранін Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 534—1—14—4адв.; 1416—4—11416—116адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

**Статкевіч Оттан** — гл. **Станкевіч Оттан**

5649. **Статкоўская Марыя** (Статковская Мария), дачка *Апалінарыя*, памешчыца Ковенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана з бацькам на жыхарства ў Томскую губ. Яе зямельная маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—540; 2532—1—15—1адв.)*.

5650. **Статкоўскі Апалінары** (Статковский Аполинарий), бацька *Марыі*, памешчык Ковенскага пав. Служыў ковенскім павятовым суддзёй, выйшаў у адстаўку з чынам губернскага сакратара. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызна-

чаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы з дачкой на жыхарства ў Аланецкую губ. Яго зямельная маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—540; 2532—1—15—1адв.)*.

**Стахоўская Кацярына** — гл. **Цеханавецкая Кацярына**

5651. **Стахоўская Юстына** (Стаховская Юстина), дачка Леана, сястра *Станіслава*, памешчыца. Западозрана ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад судом у МагВСК *(3257—2—2—32адв.)*.

5652. **Стахоўскі Аляксандр** (Стаховский Александр), сын Адама і Луізы, дваранін Мсціслаўскага пав. Да паўстання валодаў часткай маёнткаў Гарадзішча і Алейнікі Мсціслаўскага пав. За «ўдзел у палітычных непарадках» яго маёмасць секвестравана. «Адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) на жыхарства ў Пензенскую губ. Загадам М. Мураўёва ад 29.04.1864 яго маёмасць прызначана да канфіскацыі; магчыма, яна на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. На маёнтак маці ў Мсціслаўскім пав. (?) на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 накладзена забарона. Спачатку рас. улады пераблыталі яго з іншым С. А., сынам Мікалая, памешчыкам Бабруйскага пав. і чыноўнікам Магілёўскай губернскай па сялянскіх справах прысутнасці, і секвестравалі 1/7 частку маёнтка Гарбацэвічы Бабруйскага пав. з рухомай маёмасцю на 224 руб., якой той валодаў на правах суспадчынніка, паводле распараджэння МГГ ад 05.05.1864 *(162—1—122—2; 295—1—1643—222; 296—1—25—111адв.; 296—1—89—10; 1430—1—52163—573адв.; 2003—1—211—70-71адв.; 2003—1—445—14адв.-15; 2003—1—489—49адв.; 2532—1—15—10)*.

5653. **Стахоўскі Антоні** (Стаховский Антон), сын Леана, памешчык. Да паўстання з'яўляўся магілёўскім павятовым маршалкам. За дачыненне да спраў па паўстанні яго маёнтак Шчацінка Аршанскага пав. з в. Трылесіна, Гаваракі, Гаршкова і Брашчына апісаны і секвестраваны (паміж 24.10.1863 і 15.01.1864), таксама секвестраваны (да 30.07.1863) і перададзены ў кіраванне ПДМ яго маёнтак Ляхаўка Магілёўскага пав. з в. Дубраўка і Таўкачы (2190 дзес. зямлі, 3 драўляныя дамы, стайня, млын, лазня, кузня, карчма, гаспадарчыя пабудовы і інш., 964 руб. гадавога прыбытку). Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць пакідалася пад секвестрам, потым яна на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, а ў 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—558; 2003—2—19—6-6адв.; 2003—2—70—1; 2532—1—15—9, 10; 2514—1—2198—66; 3257—2—2—33)*.

5654. **Стахоўскі Леан** (Стаховский Лев), сын Леана, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі асэсар. Да паўстання валодаў маёнткам Стараселле Сенненскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, за што Стараселле (дом, гаспадарчыя пабудовы, 2 млыны, 2 лазні, вінакурня, стайня і інш., фальв. Каралёва (10,5 дзес. зямлі) і Рог, 4039 руб. гадавога прыбытку) паводле патрабавання СенСК ад 24.07.1863 секвестравана 31.07.1863. Пакінуты на волі, некалькі разоў падаваў прашэнні аб зняцці секвестру з прычыны недачынення да паўстання *(2003—2—44)*.

5655. **Стахоўскі Станіслаў** (Стаховский Станислав), сын Леана, брат *Юстыны*, памешчык Чавускага і Мсціслаўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Высланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—489—37адв.-38, 49; 2532—1—15—9, 10; 3257—2—2—32адв.)*.

5656. **Стацінскі Юзаф** (Стецинский Иосиф), мешчанін Віленскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Абрамаўск (Абрамовічы) Троцкага пав. графа Плятэра. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—27; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

5657. **Стацкевіч Казімір** (Стецкевич Казимир), дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Вайдагі Лідскага пав. Разам з *Уланоўскім Феліксам* данёс рас. уладам, што паўстанцы ўночы з 13 на 14 чэрвеня 1863 г., праходзячы праз ваколіцу, запатрабавалі хлеба ад яе жыхароў. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5658. **Стацкевіч Казімір** (Стацкевич Казимир), шляхціц Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—27адв.; 534—1—14—4; 1416—4—11416—116; 1430—1—52163—374)*.

5659. **Стацкевіч Уладзіслаў** (Стецкевич Владислав). Да паўстання служыў чыноўнікам ВілГП. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губер-

ні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

5660. **Стацэвіч Віктар** (Стецевич Виктор), сын Баніфацыя, дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў 6 класе Мінскай гімназіі. Падчас паўстання пакінуў г. Мінск і далучыўся да атрада *Дыбоўскага Паўла*. Пасля паўстання ўцёк за мяжу. Жыў у г. Парыжы, дзе ва ўніверсітэце атрымаў ступень доктара медыцыны і акушэрства. Пасля амністыі, у 1875 г. атрымаў дазвол пражываць пад наглядам паліцыі ў Навагрудскім пав., 08.1875 прыбыў у межы Рас. імперыі. Спачатку знаходзіўся пад следствам ў г. Вільні, 10.09.1875 атрымаў дазвол на пражыванне ў Мінскай губ. да заканчэння следства. 06.1876 па следчай справе атрымаў «дараванне з пакіданнем яго на жыхарстве на радзіме пад наглядам паліцыі». Пасля прыбыцця ў Мінскую губ. жыў у маёнтку Вяркалы Ігуменскага пав. памешчыкаў Абрампальскіх. 08.06.1876 выехаў у Мінск, адтуль 27.06.1876 у Вільню. 08.1876 вярнуўся ў Мінск, дзе пасяліўся на Траецкай Гары ў доме Ляўданскага *(295—1—3042)*.

5661. **Стацэвіч Зыгмунт** (Стацэвич Сигизмунд), незацверджаны дваранін Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—181адв.)*.

5662. **Стацэвіч Тэафіл** (Стецевич Теофил), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—27адв.)*.

5663. **Стацэвіч Сымон** (Стацевич Семен), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

5664. **Стацэвіч Юстын** (Стецевич Устин), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241)*.

5665. **Сташкевіч Дыянізі** (Сташкевич Дионисий), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237)*.

5666. **Сташкевіч Стэфан** (Сташкевич Степан), аднадворац. За дачыненне да паўстання высланы ў 1864 г. «этапным парадкам» у г. Маскву для далейшай ссылкі паводле прызначэння МУС *(295—1—1643—219адв.)*.

5667. **Сташкевіч Юстын** (Сташкевич Юстин), аднадворац. Да паўстання жыў у вак. Вілкішкі Паняжэжскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—28; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598)*.

5668. **Сташэўскі (Станеўскі) Цыпрыян** (Сташевский (Станевский) Киприан), сын Вінцэнта, дваранін. Нар. каля 1824 г. Да паўстання арандаваў маёнтак Слязоўшчына Лепельскага пав., дзе меў быдла і рухомую маёмасць. За доўгачасовае знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе арыштаваны. Пастановай ПВА і канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». ВГП 12.03.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(320—1—398—698-699; 1416—3—21048—45; 1416—4—11416—170-173; 1430—1—52163—167адв., 412адв.; 2626—1—305—52-53)*.

5669. **Стом (Стома) Міхал** (Стом (Стомм, Стомма) Михаил), дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам Новааляксандраўскага павятовага казначэйства, яго бацькі валодалі маёнткам і зямлёй. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—28; 320—1—398—133; 1416—3—21048—44адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—398адв., 600)*.

5670. **Стом (Стома) Эдвард** (Стомм (Стомма) Эдуард), сын Канстанціна, дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання служыў бухгалтарам Новааляксандраўскага павятовага казначэйства, калежскі сакратар. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткам Тумуліна (Тамуліна). За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 8 гадоў *(295—1—1643—212адв.;*

*319—1—479—28; 320—1—398—133; 1416—3—21048—44адв.; 1416—6—260; 1430—1—52163—399, 600).*

5671. **Стома Ігнат** (Стомма Игнатий), памешчык Вількамірскага і Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—3).*

**Стома Міхал** — гл. **Стом Міхал**

**Стома Эдвард** — гл. **Стом Эдвард**

5672. **Страбейка Вінцэнт** (Стребейко Викентий), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199).*

5673. **Страбейка (Струбейка) Канстанцін** (Стробейко (Струбейка) Константин), дваранін Віленскай губ. Нар. каля 1841 г. Абвінавачаны ВілСК у «важных палітычных злачынствах» і падлягаў арышту (да 14.08.1863) *(1527—1—4—35-36, 90-91).*

5674. **Страбейка Міхал** (Стребейко Михаил), памешчык Ковенскага пав. Служыў на рас. грамадзянскай службе ў Ковенскім пав., калежскі асэсар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—10; 2532—1—15—1адв.).*

5675. **Стравінскі (Славінскі) Баніфацы** (Стравинский (Славинский) Бонифаций (Бонифат)), сын Амброзія, дваранін Магілёўскай губ. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго рухомая маёмасць у маёнтку Ціхінічы Рагачоўскага пав. (адзенне на суму 4,33j руб.) 20.06.1863 апісана і секвестравана. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(320—1—398—222адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 2003—2—5; 3257—2—2—32).*

5676. **Стравінскі [Густаў]** (Стравинский [Густав]). Нар. у Слонімскім пав. Да паўстання служыў у Велікалуцкім пяхотным палку, з'яўляўся ўладальнікам маёнтка Рэпнічы і Сератоўшчына Слонімскага пав. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Млотак, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 319—1—479—29; 1430—1—52163—162).*

5677. **Стравінскі Дыянізі** (Стравинский Деонисий). Да паўстання служыў канцылярскім чыноўнікам у г. Пружанах. Уваходзіў у склад атрада *Самульскага N. (295—1—3688—23).*

5678. **Стравінскі Юзаф** (Стравинский Иосиф), памешчык Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 12.11.1864 прызначаны да высылкі пад строгі нагляд паліцыі ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру, а потым абавязковаму продажу. У 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю», уезд куды павінен суправаджацца абавязковым асобным дазволам *(162—1—122—20адв.; 295—1—1989—29-30; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—7адв.).*

5679. **Страдзінскі Юльян** (Стржедзинский Юлиан), дваранін Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

**Стражалка Канстанцін** — гл. **Стралка Канстанцін**

5680. **Стракоўскі Антоні** (Страковский Антон). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70).*

5681. **Стралецкі Ян** (Стржелецкий Иван), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—205).*

5682. **Стралка Дамінік** (Стржалко Доминик), дваранін Слуцкага пав. Нар. каля 1823 г. Да паўстання жыў у Барысаўскім пав. Знаходзіўся ў атрадзе паўстанцаў, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. У 1863 г. вызвалены *(295—1—1527—104; 295—1—1643—210).*

5683. **Стралка (Стражалка) Канстанцін** (Стржалко (Строжалко) Константин), дваранін Слуцкага пав. Нар. каля 1818 г. Да паўстання жыў у 1 стане Барысаўскага пав. Падчас паўстання схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 23.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да высылкі з радзімы без пазбаўлення правоў. У 1863 г. сасланы ў Арэнбургскую губ. пад нагляд паліцыі. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго

валоданне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 жыў у Барысаўскім пав. Напрыканцы 1875 г. трапіў у поле ўвагі ўладаў з прычыны «распаўсюджвання ілжывых чутак» *(295—1—1527—103, 109; 295—1—1643—209адв.; 295—1—3026—37адв.-38; 1430—1—52163—152; 2514—1—2198—70)*.

5684. **Стралка Тэадор** (Стржалка Федор), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—202)*.

5685. **Стралка Ян** (Стржалко Иван), сын Караля, дваранін Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў «палітычных злачынствах», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—13)*.

5686. **Стралкоўскі Станіслаў** (Стржалковский Станислав), дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання, паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

5687. **Стралкоўскі Юзаф** (Стршалковский Иосиф), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 29.03.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 02.04.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

**Страмінскі Эдмунд** — гл. **Страшынскі Эдмунд**

5688. **Стратановіч Антоні** (Стратанович Антоний), сын Яна, аднадворац Магілёўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—32)*.

5689. **Страшынская N.** (Страшинская N.), жонка *Эдмунда*. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195адв.)*.

5690. **Страшынскі (Страмінскі) Эдмунд** (Страшинский (Страминский) Эдмунд), сын Станіслава, муж *N.* Паходзіў з Мінскай губ. Да паўстання служыў інспектарам Мінскай гімназіі, калежскі радца. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Яго драўляны дом з прыбудовамі ў г. Мінску і штогадовы «пансіён» у 686 руб. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 05.05.1864. Пасля прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. Сасланы ў Арэнбургскую губ. пад строгі нагляд паліцыі *(162—1—116—103, 166; 295—1—1643—208; 296—1—89—8, 68-68адв.; 1430—1—52163—150)*.

5691. **Страшынскі Юстын** (Страшинский Юстин), дваранін Кобрынскага пав. Яго бацька валодаў маёнткам Германы Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

5692. **Страшэвіч Эдвард** (Страшевич Эдуард), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання яго маці мела ў пажыццёвым валоданні маёнтак Каропаль Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—28; 320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

**Струбейка Канстанцін** — гл. **Страбейка Канстанцін**

5693. **Струеў Мацей** (Струев Матвей), сын Ермалая, мешчанін г. Віцебска. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў «распаўсюджванні сярод сялян падбухторных чутак». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 04.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—81адв.-82; 3046—2—5—47адв.)*.

5694. **Струміла Адольф** (Струмило Адольф), памешчык Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў *(296—1—25—101адв.; 319—1—479—27адв.)*.

5695. **Струміла Антоні** (Струмилло Антон), сын Караля, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горацкім павятовым вучылішчы. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1869 г. жыў у Кастрамской губ. (?) *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—7адв., 178-180)*.

5696. **Струміла Антоні** (Струмилло Антон), сын памешчыка Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання»

і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

5697. **Струміла Леан** (Струмилло Леон), бацька *Антонія*, памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Высланы ў Пермскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр, потым яна на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—149адв.; 2532—1—15—5адв.)*.

5698. **Стрыжэўскі Каятан** (Стрижевский Каетан), сын Францішка і Люцыі Янаўны, брат Юзафа і Феліцыяна, муж Кацярыны Янаўны, бацька Міхаліны, незацверджаны дваранін Мінскага пав., каталік. Нар. каля 1828 г. Падчас паўстання разам з *Булгакам Янам* хаваў зброю, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 30.04.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Томскую губ. У 1876 г. жыў у Томскай губ., атрымаў амністыю з правам вярнуцца ў Мінскую губ. 19.07.1876 атрымаў пашпарт на пераезд у Мінскую губ. за свой кошт, 15.11.1876 прыбыў і пасяліўся ў в. Рылаўшчына Сенніцкай вол. Мінскага пав., дзе жыў яго брат Юзаф. Жонка, якая жыла ў Мінскім пав., адмовілася прымаць яго. 01.1882 жыў у Мінскім пав. *(295—1—3026—28адв.; 295—1—3056; 295—1—3492—37адв.-38)*.

5699. **Стрынацкі Дыянізі** (Стржинацкий Деонизий). Да паўстання служыў валасным пісарам. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—200адв.)*.

5700. **Студвент Даніэль** (Студвент Даниил), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—28; 320—1—398—224)*.

5701. **Стульгінскі (Стульчынскі) Фердынанд** (Стульгинский (Стульчинский) Фердинанд), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Анікшты Вількамірскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(319—1—479—28; 320—1—398—224)*.

5702. **Стульгінскі Францішак** (Стульгинский Франц), дваранін Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5703. **Стульпін Антоні** (Стульпин Антон), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—575; 1430—1—52163—242)*.

**Стульчынскі Фердынанд** — гл. **Стульгінскі Фердынанд**

5704. **Стульчынскі Францішак** (Стульчинский Франц), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(319—1—479—28; 320—1—398—133; 1430—1—52163—600)*.

5705. **Стырпейка Антоні** (Стырпейко Антон), дваранін Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 13.07.1863 і пастановы ГГП ад 31.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—282; 1430—1—52163—601адв.)*.

5706. **Стырпейка Валяр'ян** (Стырпейко Валериан), памешчык Цельшаўскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—5)*.

5707. **Стычынскі Ігнат** (Стычинский Игнатий), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.02.1864 адасланы ў г. Мінск. За «ілжывыя даносы» аддадзены пад крымінальны суд *(295—1—1643—218; 1418—3—1—68адв.-69)*.

5708. **Стычынскі Юзаф** (Стычинский Юзеф). Да паўстання служыў фурманам у м. Сапоцкін Аўгустоўскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 3 гады *(296—1—25—102адв.; 319—1—479—29)*.

5709. **Стэфановіч Войцех** (Стефанович Войцех), сын АндрэяВаўрынцавіча, брат *Юльяна*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання жыў

у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і дастаўленні ім харчавання, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 07.10.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Разам з братам (з сям'ёй), жонкай *Душэўскай Юліяй*, дочкамі Альбінай і Настассяй высланы ў Томскую губ. на пасяленне. У ссылцы каля 1865 г. нарадзілася яго дачка Караліна. Памёр у ссылцы да 1870 г. Жонка пасля яго смерці вярнулася на радзіму *(295—1—2156; 295—1—2420—18; 320—2—98—140; 1418—3—1—67адв.-68)*.

5710. **Стэфановіч Вільгельм** (Стефанович Вильгельм), шляхціц. За «садзейнічанне мяцяжу» арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—206)*.

5711. **Стэфановіч Ігнат** (Стефанович Игнатий), дваранін Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

5712. **Стэфановіч Казімір** (Стефанович Казимир), сын Мікалая, дваранін Лепельскага пав. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах. Разам са *Стэфаноўскім Стэфанам* западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў. На яго маёмасць 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр, які 01.10.1864 яшчэ не зняты. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, памёр падчас следства (да 15.10.1864) *(1416—3—21048—44; 1430—1—52163—424адв., 722адв.; 3046—2—3—77адв.-78; 3046—2—5—47)*.

5713. **Стэфановіч** (1 v. **Дубовік**) **Магдалена** (Стефанович (1 v. Дубовик) Магдалина), маці *Стэфановіча Пятра*. Паходзіла з Ігуменскага пав. Да паўстання жыла ў вак. Валадута Ігуменскага пав., не мела зямельнай маёмасці. Разам з сынамі *Пятром* (з дочкамі), Мацеем, Францішкам і Ігнатам выслана ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля атрымання амністыі вярнулася на радзіму, у 1882 г. жыла ў Ігуменскім пав. *(295—1—2420—14адв.; 295—1—3492—82)*.

5714. **Стэфановіч Пётр** (Стефанович Петр), сын Міхала і *Стэфановіч (Дубовік) Магдалены*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з маці, братамі і дочкамі Людвікай і Аленай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 служыў у маёнтку Драхча Ігуменскага пав. лесніком *(295—1—2420—14адв.-15)*.

**Стэфановіч Стэфан (Станіслаў)** — гл. **Стэфаноўскі Стэфан (Станіслаў)**

5715. **Стэфановіч** (народжная **Душэўская**) **Юлія** (Стефанович (урожденная Душевская) Юлия), дачка Дамініка (пам. каля 1867), жонка *Стэфановіча Войцеха*, дваранка. Да паўстання жыла ў вак. Валадута Ігуменскага пав. Пасля паўстання добраахвотна разам з мужам і дочкамі Альбінай (нар. каля 1861) і Настассяй (нар. каля 1863) адправілася ў ссылку ў Томскую губ. У ссылцы каля 1865 г. нарадзілася яе дачка Караліна. Пасля смерці мужа (да 1870 г.) перасялілася з дочкамі ў г. Варшаву. У 1870 г. падала прашэнне і атрымала дазвол вярнуцца з Варшавы ў в. Паляткі Ігуменскага пав., дзе жылі яе брат Вінцэнт і сястра. 11.1870 прыбыла з дзецьмі ў Паляткі *(295—1—2156)*.

5716. **Стэфановіч Юльян** (Стефанович Юльян), сын Андрэя, брат *Войцеха*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам (з сям'ёй), жонкай Канстанцыяй, сынам Ануфрыем, дочкамі Камілай, Тэкляй, Магдаленай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—18)*.

5717. **Стэфаноўскі Адам** (Стефановский Адам), сын Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*, да 01.05.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая да 15.10.1864 яшчэ не скончыла следства. Падчас следства быў на волі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвалення ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасяленні на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560; 3046—2—3—84адв.-85)*.

5718. **Стэфаноўскі Вінцэнт** (Стефановский Викентий), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1880 г. як «палітычны ссыльны» жыў у Казанскай губ., 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—16-17; 1430—1—52758—38)*.

5719. **Стэфаноўскі (Стэфановіч) Стэфан (Станіслаў)** (Стефановский (Стефанович) Стефан (Станислав)), сын Цэзара, дваранін Віцебскага ці Лепельскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах. Разам са *Стэфановічам Казімірам* западозраны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў. Знаходзіўся

пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На яго маёмасць 04.09.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 17.07.1864 накладаўся секвестр. У 1871 г. жыў у Табольскай губ. як «палітычны ссыльны», атрымаў дазвол вярнуцца ў Віцебскую губ. пад нагляд паліцыі *(1416—3—21048—44, 45; 1430—1—35146—79; 1430—1—52163—182, 424адв., 722адв.; 3046—2—3—77адв.-78; 3046—2—5—47адв.).*

5720. **Стэфанскі Тэадор** (Стефанский Теодор), дваранін. Да паўстання жыў у г. Варшаве. За ўдзел у паўстанні ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.).*

5721. **Судзевіч Фларыян** (Судзевич Флориян), шляхціц Троцкага пав. Да паўстання жыў у Карміласкай парафіі Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(319—1—479—27; 320—1—398—130; 1430—1—52163—605).*

5722. **Судзілоўскі Леапольд** (Судзиловский Леопольд), дваранін Чэрыкаўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—33).*

5723. **Суліма-Самуйла Баляслаў** (Сулимо-Самуйло Болеслав), сын Паўла, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863, але да 1867 г. секвестр здымаўся *(1416—3—21048—44; 1430—1—52163—195адв.; 393адв.; 2514—1—2198—70; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—6адв.).*

5724. **Сулістроўскі Леан** (Сулистровский Лев), брат Леанарды (v. Гласкі), памешчык Дрысенскага пав. Да паўстання служыў у Віцебскай губернскай па сялянскіх справах прысутнасці. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле распараджэння М. Мураўёва без суда і следства 24.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Уфу. Пасля атрымаў дазвол і пераехаў у г. Пскоў, дзе 01.1869 меў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем «заходніх» губ. У 1871 г. атрымаў дазвол прыбыць у Віцебскую губ. на 3 месяцы *(295—1—1989—9-10; 1430—1—35146—29; 1430—1—52163—101-103, 608адв.; 1430—1—52285—59; 2601—1—2—441; 2601—1—5—7адв.).*

5725. **Сулістроўскі Маўрыцы** (Сулистровский Маврикий), сын Іаахіма, дваранін Ашмянскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—27адв.; 1416—4—11416—87; 1430—1—52163—521; 2514—1—2198—70; 3257—2—2—33).*

5726. **Сулістроўскі Юзаф** (Сулистровский Иосиф), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.).*

5727. **Сулкоўскі Аляксандр** (Сулковский Александр), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў як «вызвалены ад нагляду паліцыі» ў Пензенскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, у тым ліку ў Каралеўстве Польскім і «Заходнім краі», за выключэннем сталіц і сталічных губ. *(1430—1—35146—61).*

5728. **Сулкоўскі Апалінары** (Сулковский Аполинарий), дваранін Гродзенскага ці Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(296—1—25—103; 319—1—479—29).*

5729. **Сумарок Антоні** (Суморок Антон), памешчык Полацкага пав. Да паўстання служыў чыноўнікам. Падчас паўстання западозраны ў тым, што ў яго былі «пастаянныя сходы палякаў, што падазраюцца ў палітычнай нядобранадзейнасці». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 13.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Аднак яшчэ раней паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда 24.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Пермь *(1430—*

*1—52163—608адв.; 1430—1—52285—59; 3046—2—3—80адв.-81; 3046—2—5—47адв.).*

5730. **Сумарок (Самарока) Рамуальд** (Суморок (Соморока) Ромуальд), дваранін Лідскага пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Шалева Лідскага пав. *Шалевіч N.* За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 20.06.1863 і пастановы ВілГП ад 25.06.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—252—5-23; 1416—6—254; 1430—1—52285—7).*

5731. **Сумарок Юзаф** (Сумморок Иосиф), памешчык. Да паўстання арандаваў казённую ферму Балі Лідскага пав. Паўстанцы патрабавалі ў яго на ферме харчаванне, пра што паведаміў прыставу. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

5732. **Сумарок Ян** (Суморок Иван), шляхціц Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(296—1—25—102; 319—1—479—27адв.).*

5733. **Сурадзінскі Адольф** (Сурадзинский Адольф), «сельскі жыхар» Мінскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 03.11.1863 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту *(295—1—1643—208адв.; 320—1—398—167).*

5734. **Сураж Сікліс** (Сураж Сиклис). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

5735. **Сурвіла Уладзіслаў** (Сурвилло Владислав), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—28адв.; 1430—1—52163—530адв.).*

5736. **Сурын Дамінік** (Сурин Дементий), сваяк (?) *Канстанцыі*, памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—48).*

5737. **Сурын Напалеон** (Сурин Наполеон), сын Рэгінальда, дваранін Віцебскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў захоўванні «падбухторных твораў». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 06.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—82адв.-83; 3046—2—5—47адв.).*

5738. **Сурын Пётр-Цэлестын-Ігнат-Эразм** (Сурин Петр-Целестин-Игнатий-Эразм), сын Ігната Казіміра і Элеаноры Вечарынскай, дваранін Аршанскага пав., каталік. Нар. 19.05.1844 у фальв. Бахава Горацкага пав., хр. 21.05.1844 у Дуброўненскім касцёле. У 1855–1862 гг. вучыўся ў кадэцкім корпусе ў г. Полацку, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222адв.; 3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—32адв.; 3286—2—1—6адв., 138-142).*

5739. **Сурын Тэафіл** (Сурин Феофил), сын Барбары, брат Канстанціна, памешчык. Да паўстання разам з маці і братам валодаў фальв. Сіманаўка Чэрыкаўскага пав. (632 дзес. зямлі, 30 муж. рэвізскіх душ у в. Кроткі, дом на 7 пакояў, лазня, гаспадарчыя пабудовы і інш., 55 руб. гадавога прыбытку). Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, за што Сіманаўка 19.09.1863 апісана і секвестравана і 20.09.1863 перададзена ў кіраванне ПДМ. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(2003—1—360; 2003—1—370—1, 5-7; 3366—1—5—12).*

5740. **Сурын Феліцыян** (Сурин Фелициан), сын Францішка, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Паранены, захоплены ў палон рас. войскамі. У МагВСК меў дачыненне да справы *Гіжыцкага Генрыка*. Знаходзіўся пад следствам у ГорСК, пастановай якой ад 07.1863 вызвалены з-пад варты на парукі да заканчэння справы, а потым атрымаў дазвол жыць у маёнтку маці ў Чэрыкаўскім пав. пад строгім паліцэйскім наглядам. Пасля аддадзены пад суд *(3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—33; 3286—2—1—6адв., 134—136).*

5741. **Сурына Канстанцыя** (Сурина Констанция), сваячка (?) *Дамініка*, памешчыца. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзілася пад следствам у ДСК, якая 05.12.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—48адв.).*

5742. **Сурына Марыя** (Сурина Мария), дачка Ігната, дваранка Магілёўскай губ. Пасля разгляду

яе следчай справы выслана «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Пермскую губ. Яе маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яе валоданне *(1416—4—11416—84адв.; 1430—1—52163—546адв.; 2514—1—2198—70адв.; 3255—1—14—5).*

5743. **Сурынт Марцін** (Суринт Мартин), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Ляўмоўшчына Вілейскага пав. (186 дзес. зямлі). За ўступленне сына ў паўстанцкі атрад яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

5744. **Сутоцкі Стэфан** (Сутоцкий Стефан), сын Юзафа, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 15.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены з аддачай на парукі *(295—1—1643—216адв.; 1418—3—1—65адв.-66).*

5745. **Суфчынскі Казімір** (Суфчынски Казимир), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1880 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—38).*

5746. **Сухоцкая N.** (Сухоцкая N.), жонка *Антонія.* Западозрана рас. уладамі ў пастаўцы бялізны паўстанцам, таму яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з мужам выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9).*

5747. **Сухоцкі Антоні** (Сухоцкий Антон), муж *N. Сухоцкай.* Да паўстання жыў у Ашмянскім пав., губернскі сакратар. Западозраны разам з жонкай рас. уладамі ў пастаўцы бялізны паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з жонкай высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9).*

5748. **Сухоцкі [Райнольд-Фларыян]** (Сухоцкий [Райнольд-Флориан]). Да паўстання служыў прыставам 5 стана Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

5749. **Сухоцкі Фелікс** (Сухоцкий Феликс), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 15.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены з аддачай на парукі *(295—1—1643—216; 1418—3—1—65адв.-66).*

5750. **Суцін Берка** (Сутин Берка), сын Нахіма, яўрэй, мешчанін Ігуменскага пав. Двойчы прымаў у сваім доме паўстанцаў, пастаўляў ім харчаванне, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да 3-месячнага турэмнага зняволення і вяртання на месца жыхарства. 02.06.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 31.08.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(162—1—116—146, 156, 166; 295—1—1643—204; 319—1—479—29адв.; 320—1—398—644; 1418—3—1—69адв.-70; 1430—1—52163—535).*

5751. **Сушчынская Фаўстына** (Сущинская Фаустина), дачка Антонія, дваранка Мінскага пав. Да паўстання жыла ў г. Ігумене. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначана ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Паводле ўказа МГП ад 19.08.1864 на яе маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—124, 166; 295—1—1643—220, 222; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.).*

**Сушчынскі Марцін** — гл. **Сушынскі Марцін**

5752. **Сушчынскі Пётр** (Сущинский Петр). Да паўстання служыў прыставам следчага аддзела г. Варшавы. Дачыненне да паўстання невядомае. Жыў пад наглядам паліцыі ў г. Ноўгарадзе, дзе ў 1869 г. атрымаў палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц і сталічных губ., «Заходняга» і «Прывісленскага» краёў *(295—1—1989—11-12).*

5753. **Сушчынскі Цітус** (Сущинский Тит), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў асабістым удзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 11.12.1863. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(295—1—1643—201, 220; 296—1—90—9адв.-10; 299—1—579—298-307; 319—1—479—29адв.; 1430—1—52163—206).*

5754. **Сушчынскі Юзаф** (Сущинский Иосиф), сын Тамаша, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, схоплены каля фальв. Грабянец Ігуменскага пав. пасля рассеяння паўстанцкага атрада. Зняволены ў г. Ігумене. Без

следства 17.04.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—66адв.-67)*.

5755. **Сушчэвіч Юльян** (Сущевич Юльян), сын Фелікса. Да паўстання жыў у г. Мінску, служыў пісарам у канторы (канцылярыі) мінскага губернскага пракурора, не меў нерухомай маёмасці. Удзельнічаў у паўстанні, кіраваў невялікай групай паўстанцаў, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Пра яго даваў паказанні *Прага Юзаф*. 18.12.1863 месца яго знаходжання не было вядомае рас. уладам. Яго маёмасць канфіскавана і прададзена за 1,56 руб. *(162—1—116—38, 39адв., 147; 296—1—25—71, 87адв.; 319—1—479—29; 320—1—398—196адв., 197адв.; 320—2—98—45адв.; 1527—1—4—131-133; 1430—1—52163—125адв.)*.

5756. **Сушчэўскі (Ракус-Сушчэўскі) Аляксандр** (Сущевский (Ракус-Сущевский) Александр), сваяк *Юзафа*, памешчык Чавускага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 31.05.1863) і зняволены ў г. Магілёве. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Сасланы. У 1871 г. як «палітычны ссыльны» жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—112; 2003—1—245—5; 3257—2—2—34адв.)*.

5757. **Сушчэўскі Апалон** (Сущевский Аполон), каталік. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам 2 участка Мсціслаўскага пав. У 1863 г. «за палітычную нядобранадзейнасць» звольнены са службы. У 1866 г. жыў у сваім маёнтку Касішчава Мсціслаўскага пав. *(2003—2—96—36, 54адв.)*.

5758. **Сушчэўскі (Ракуса-Сушчэўскі) Юзаф** (Сущевский (Ракуса-Сущевский) Иосиф), сын Валяр'яна, сваяк *Аляксандра*, муж Кацярыны, памешчык Чавускага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. Да паўстання з'яўляўся суддзёй Чавускага пав. Валодаў (?) маёнткам Вайнілы Чавускага пав. (фальв. Вайнілы, в. Удоўск, 3304 дзес. зямлі, 206 рэвізскіх душ, гаспадарчыя пабудовы і інш., 30 000 руб. доўгу). і фальв. Слабодка Чавускага пав. (363 дзес. 1200 саж. зямлі, дом, карчма, шынок, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 116 руб. гадавога прыбытку). Падчас паўстання за «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» арыштаваны. Паводле ўказу МагГП ад 31.05.1863 Слабодка 10.09.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Паводле канфірмацыі А. Патапава ад 04.02.1864 высланы ў Аланецкую губ. пад строгі нагляд паліцыі. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Секвестр з яе зняты паводле пастановы МагГП ад 17.06.1866. 04.03.1867 выехаў на жыхарства з Аланецкай губ. у г. Смаленск. У 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем «Заходняга краю» *(295—1—1989—16-17; 2001—2—171—33адв.-35адв., 39адв.; 2003—1—359; 2003—1—489—37адв.; 2514—1—2198—70адв.; 2532—1—15—9; 3257—2—2—34адв.)*.

5759. **Сушынскі Аляксандр** (Сушинский Александр), памешчык Магілёўскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне маёра. Да паўстання валодаў маёнткам Горныя Ходцы Сенненскага пав. (702,5 дзес. зямлі, дом на 7 пакояў, сад, стайня і інш., 2035 руб. доўгу). За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Маёмасць канфіскавана *(296—1—25—105адв.; 2001—2—123—8адв.-9; 2001—2—171—27адв.-28, 39адв.; 3257—2—2—32)*.

5760. **Сушынскі (Сушчынскі) Марцін** (Сушинский (Сущинский) Мартин), селянін Ігуменскага пав. Да паўстання служыў кантаністам. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск. 07.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства і аддачай на парукі *(296—1—19—281; 1418—3—1—65адв.-66)*.

5761. **Сушынскі Уладзіслаў** (Сушинский Владислав), сын Міхала, дваранін Дрысенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Табольскую губ. На яго маёмасць 02.05.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—45; 1430—1—52163—392адв.)*.

5762. **Сушынскі Ян-Валяр'ян** (Сушинский Иван-Валериан), сын Рамуальда, дваранін Барысаўскага пав. За сувязі з паўстанцамі, суправаджэнне іх у паўстанцкі атрад, садзейнічанне пашырэнню паўстання ў Дзісенскім пав. рашэннем ЧПА ў г. Вільні, канфірмаваным З. Манюкіным 19.03.1866, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(160—2—683—12; 320—1—398—761-767)*.

5763. **Схнэйдэр Ян** (Схнейдер Иван), сын Якуба, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага

спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—195адв.; 2514—1—2198—70; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—6адв.-7).*

5764. **Сцега Юльян** (Стего Юлиан), памешчык Мсціслаўскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.; 1430—1—52285—32).*

5765. **Сцепановіч Вінцэнт** (Степанович Викентий), селянін. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што ў 1864 г. высланы ў г. Маскву пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—203).*

5766. **Сцібла Сымон** (Сцибло Семен), сын Вінцэнта, дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70).*

5767. **Сцыпіён Мечыслаў** (Сципион Мечислав), сын Юзафа, дваранін Шавельскага пав. Да паўстання служыў пяцісоцкім м. Цітавяны. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—28; 320—1—398—131; 1430—1—52163—598).*

5768. **Сцяпанаў Дзмітрый** (Степанов Дмитрий). Да паўстання з'яўляўся студэнтам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—48).*

5769. **Сцяпанаў Філіп** (Степанов Филипп), сын Сцяпана. Да паўстання жыў у в. Клушоўка Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2).*

**Сцярповіч Андрэй** — гл. **Старповіч Андрэй**

5770. **Сыгірскі (Сігірскі) Баляслаў** (Сыгирский (Сигирский) Болеслав), дваранін Лепельскага пав. Да паўстання служыў у маёнтку Асінаўка памешчыка Камёнкі. За дачыненне да паўстання пастановай ЧПА ад 06.11.1863, зацверджанай М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. пад строгі нагляд паліцыі. Адпраўлены на месца ссылкі (да 04.04.1864) *(320—1—398—222адв.; 1416—3—21048—45; 1430—1—52163—411адв.; 2626—1—305—43-45).*

5771. **Сымановіч (Сісмановіч) Уладзімір** (Сымонович (Сисманович) Владимир), сын Марціна, брат Антонія, Аляксандра, Канстанціна і Міхала, памешчык. Да паўстання разам з братамі і стрыечнымі братамі валодаў маёнткам Куравічы Мсціслаўскага пав. (60 дзес. зямлі, 24 руб. гадавога прыбытку, 59 руб. доўгу). За дачыненне да паўстання арыштаваны. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго маёмасць 15.08.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Пасля маёмасць падлегла канфіскацыі *(1430—1—52163—182адв.; 2003—1—330; 2003—1—445—2адв.; 2003—2—90; 3257—2—2—33).*

5772. **Сырвід Ануфры** (Сырвид Онуфрий), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Васілішкі Лідскага пав. Падчас паўстання прачытаў у касцёле паўстанцкі маніфест. За гэта яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—129; 1416—6—274; 1430—1—52163—604).*

5773. **Сыртаўт Казімір** (Сыртовт Казимир), памешчык Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—25—109адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—616адв.; 2532—1—15—5адв.).*

5774. **Сысоеў**[147] **Ян** (Сысоев Иван), сын Марыі Абрамаўны, брат Дзяніса, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1825 г. Да паўстання з'яўляўся часоваабавязаным, разам з маці і братам валодаў зямлёй у в. Ржавец Мсціслаўскага пав. (8 дзес., 10 руб. гадавога прыбытку), служыў вазніцам у *Арцімовіча Максімільяна.* 23.04.1863 прыбыў у в. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. разам з атрадам *Арцімовіча Міхала*, дзе быў затрыманы сялянамі. На падставе ўказа МагГП ад 31.05.1863 яго маёмасць 27.06.1863 апісана, секвестравана і аддадзена ў карыстан-

[147] Верагодна, гэта імя па бацьку.

не маці і брата. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Шаўлоўскага Людвіка*. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1863 прызнаны невінаватым *(2003—1—311; 3256—2—14—21-26; 3257—2—2—32адв.; 3366—1—5—10)*.

5775. **Сыцко Уладзіслаў** (Сыцко Владислав), сваяк (?) *Яна*, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Саслаўка Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

5776. **Сыцко Ян** (Сыцко Иван), сваяк (?) *Уладзіслава*, памешчык. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Саслаўка Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Сыцынскі Адольф** — гл. **Сіцінскі Адольф**

5777. **Сэндэк [Ян]** (Сендек [Ян]). Удзельнічаў у паўстанні ў якасці камандзіра атрада, у які, сярод іншых, уваходзіў *Цвяцінскі Ігнат (319—1—479—27адв.; 1416—6—274)*.

5778. **Сябрыс Фабрыс** (Сябрис Фабрис), селянін Свянцянскага пав. Нар. каля 1845 г. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280)*.

5779. **Сяйпульнік Андрэй** (Сейпульник Андрей), сын Яна, ксёндз. Паходзіў з Люцынскага пав. Служыў пробашчам м. Краслаўка Дынабургскага пав. Падчас паўстання вёў перапіску з *Багамолец Яўгеніяй* і *Шастакоўскім Антоніем*. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. На яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле ўказа ВГП ад 15.03.1865 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 02.03.1865 яго маёмасць вызвалялася ад секвестру *(1416—3—21048—45; 1416—4—11416—160-163; 1430—1—52163—401; 3046—2—3—81адв.-84)*.

**Сяйпульнік Ян** — гл. **Сапульнік Ян**

5780. **Сяклюцкая Францішка** (Секлюцкая Францишка), дваранка. У 1864 г. прысуджана да штрафу ў 500 руб. і аддачы пад «добранадзейныя парукі» *(295—1—1643—215адв.)*.

5781. **Сяклюцкі N.** (Секлюцкий N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Гарнастаішкі Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—211)*.

5782. **Сялецкі (Сяліцкі) Аляксандр** (Селецкий (Селицкий) Александр), дваранін Ашмянскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(319—1—479—27адв.; 320—1—398—221; 1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280; 1430—1—52163—128)*.

5783. **Сяліцкі Алаізі** (Селицкий Алоизий), дваранін Быхаўскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Твёрдаў Быхаўскага пав. памешчыка Пячкоўскага. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі *(296—1—25—105адв.; 1416—4—11416—130; 3257—2—2—32адв.)*.

**Сяліцкі Аляксандр** — гл. **Сялецкі Аляксандр**

5784. **Сяліцкі (Сіліцкі) Канстанцін** (Селицкий (Силицкий) Константин), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70адв.)*.

5785. **Сяліцкі Мікалай-Феліцыян** (Селицкий Николай-Фелициан), сын Фларыяна, брат Антонія, дваранін Гомельскага пав. Нар. каля 1847 г. Да паўстання жыў у г. Магілёве ў доме чыноўніка Тыкоцкага, вучыўся ў 7 класе Магілёўскай гімназіі. За дачыненне да паўстання арыштаваны (да 23.05.1863), яго рухомая маёмасць (адзенне, сшыткі, кнігі) на суму ў 8,7 руб. ср. 26.05.1863 апісана і секвестравана. Высланы з радзімы. Яго маёмасць падлягала (да 1867 г.) вызваленню ад секвестру. Пасля амністыі вярнуўся, 12.1876 жыў у м. Докшыцы Барысаўскага пав. у брата *(295—1—3026—37адв.-38; 2003—1—202; 2003—2—20—7, 20-21; 2514—1—2198—70)*.

5786. **Сяліцкі Міхал** (Селицкий Михаил). Да паўстання служыў леснікам у маёнтку Казімірава Ашмянскага пав. памешчыка Багдановіча. Западозраны разам з *Чэўжыкам Антоніем* рас. уладамі ў прыманні паўстанцаў у Казіміраве і дастаўцы ім харчавання ў лес (гл. *Вагер Вінцэнт*, *Руткоўскі Казімір*). Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

5787. **Сяльвестраў**[148] **Якаў** (Сельвестров Яков), селянін. Да паўстання служыў вазніцам. 22(24?).04.1863 арыштаваны сялянамі разам са сваім гаспадаром падчас праезду па Аршанскім пав. па падазрэнні ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада. Доказаў для абвінавачання не было, таму вызвалены з аддачай на парукі. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

5788. **Сялява Каспер** (Селява Гаспер), бацька *Паўла*, *Уладзіслава* і *Яраслава*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Сялявішкі Троцкага пав. За ўступленне яго сыноў у паўстанцкі атрад яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5789. **Сялява Павел** (Селява Павел), сын *Каспера*, брат *Уладзіслава* і *Яраслава*, дваранін Троцкага пав. Разам з братамі далучыўся да паўстанцкага атрада, камандзірам варты ў якім быў *Кучэўскі N.* і які пасля быў разбіты ля в. Буда. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5790. **Сялява Уладзіслаў** (Селяво (Селляво) Владислав), памешчык Мсціслаўскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Яраслаўль. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля атрымаў частковую амністыю і перасяліўся ў Смаленскую губ., дзе ў 1869 г. меў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—35-36; 1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 2003—1—489—49; 2532—1—15—10)*.

5791. **Сялява Уладзіслаў** (Селява Владислав), сын *Каспера*, брат *Паўла* і *Яраслава*, дваранін Троцкага пав. Разам з братамі далучыўся да паўстанцкага атрада, камандзірам варты ў якім быў *Кучэўскі N.* і які пасля быў разбіты ля в. Буда. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5792. **Сялява Яраслаў** (Селява Ярослав), сын *Каспера*, брат *Паўла* і *Уладзіслава*, дваранін Троцкага пав. Разам з братамі далучыўся да паўстанцкага атрада, камандзірам варты ў якім быў *Кучэўскі N.* і які пасля быў разбіты ля в. Буда. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5793. **Сялянка Юльян** (Селянко Юлиан), памешчык Віленскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы ВілГП ад 13.06.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—244; 1430—1—52285—7)*.

5794. **Сямашка Аляксандр** (Семашко Александр), дваранін Ковенскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103адв.)*.

5795. **Сямашка Аляксандра** (Семашко Александра), дваранка Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджана (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(319—1—479—28адв.)*.

5796. **Сямашка Антоні-Яцак-Караль** (Семашко Антон-Яцек-Карл), сын Станіслава, дваранін Мінскай губ. Да паўстання служыў юнкерам 2 Каўказкага сапёрнага батальёна. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(319—1—479—29; 320—1—398—124, 259, 272, 423адв.; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—596б)*.

5797. **Сямашка Валерыя** (Семашко (Симашко) Валерия), сваячка *Яна*, памешчыца Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7; 2532—1—15—12адв.)*.

5798. **Сямашка (Сімашка) Вінцэнт** (Семашко (Симашко) Викентий), дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1827 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага

[148] Верагодна, гэта імя па бацьку.

атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі, перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Сібір *(295—1—1527—102; 319—1—479—27; 320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

5799. **Сямашка Конрад** (Семашко Конрад), дваранін Вількамірскага пав. Да паўстання служыў доктарам. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

5800. **Сямашка Рыгор** (Семашко Григорий), сын Атанізія, дваранін ці шляхціц Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1842 г. Разам з *Бянкоўскім Антоніем*, *Зяньковічам Базылём*, *Петражыцкім Паўлам*, *Сазановічам Гальяшам* западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні і арыштаваны. Зняволены ў турэмным замку г. Чэрыкава. З 10.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 17.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК *(3257—1—17—9адв.-10; 3257—2—2—33; 3257—2—8—14)*.

5801. **Сямашка Эдвард** (Семашко Эдуард), сын Яна, дваранін Слуцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(319—1—479—29; 320—1—398—124, 272, 423адв.; 320—2—98—45адв.; 1430—1—52163—596б)*.

5802. **Сямашка (Сімашка) Ян** (Семашко (Симашко) Иван), сваяк *Валерыі*, дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7; 2532—1—15—12адв.)*.

5803. **Сямашка (Сімашка) Ян** (Семашко (Симашко) Иван), дваранін. Да паўстання жыў з бацькамі ў Новааляксандраўскім пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у батальёны Амурскага краю рас. войска. На месца ссылкі прыбыў *(319—1—479—28; 320—1—398—133; 1416—3—21048—45; 1416—4—11416—236-237; 1416—6—281; 1430—1—52163—398, 600)*.

5804. **Сямашка (Сімашка) N.** (Семашко (Симашко) N.), дваранін Лепельскага (?) пав. Западозраны ў падтрымцы паўстання і 26.04.1863 арыштаваны ў Лепельскім пав. 23.05.1863 адпраўлены ў г. Дынабург *(1430—1—31238)*.

5805. **Сямёнаў[149] Канстанцін** (Семенов Константин), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—9адв.)*.

5806. **Сямёнаў[150] Фёдар** (Семенов Федор), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 15.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 18.09.1863 справа накіравана М. Мураўёву *(3366—1—5—10)*.

5807. **Сямёнаў[151] Ян** (Семенов Иван), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 08.07.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—14)*.

5808. **Сянажэнская N.** (Сяноженская N.), памешчыца. Западозрана рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзілася пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яе справу магілёўскаму губернатару; 27.09.1863 справа накіравана ў МагВСК *(3366—1—5—10)*.

**Сянажэнскі Казімір** — гл. **Сянажэнцкі Казімір**

5809. **Сянажэнцкі Антоні** (Сяноженцкий Антон), сын Юльяна, дваранін Рагачоўскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.)*.

5810. **Сянажэнцкі (Сянажэнскі) Казімір** (Сяноженцкий (Сяноженский) Казимир), дваранін Магілёўскай губ. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—33адв.; 3366—1—5—14)*.

---

[149] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[150] Тое ж.

[151] Тое ж.

5811. **Сянажэнцкі Леанард** (Сяноженцкий Леонард), сын Аляксандра, дваранін Мінскай (?) губ., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам Магілёўскай казённай палаты. За дачыненне да паўстання 30.04.1863 звольнены са службы. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2003—2—96—10адв.; 2514—1—2198—70).*

5812. **Сянажэцкі Юзаф** (Сяножецкий Иосиф), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—14).*

5813. **Сянкевіч Антоні** (Сенкевич Антон). Да паўстання жыў у Вілейскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

5814. **Сянкевіч Іпаліт** (Сенкевич Ипполит), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

5815. **Сянкевіч Леан** (Сенкевич Леонтий), мешчанін Бяльскага пав. Люблінскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 2 гады *(319—1—479—27адв.; 1430—1—52163—168).*

5816. **Сянкевіч N.** (Сенкевич N.). Да паўстання служыў вартаўніком лесу ў Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108адв.; 319—1—479—29).*

5817. **Сяноцкі (Саноцкі) Караль** (Сеноцкий (Саноцкий) Карл), сын Юзафа, вольны хлебароб Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав. Зняволены спачатку ў г. Навагрудку, потым у г. Мінску. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір, з Мінска накіраваны ў г. Маскву *(295—1—1562—16адв.; 295—1—2420—11адв.; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв.).*

5818. **Сянькевіч Апалінары** (Сенькевич Аполинарий), аднадворац. У 1864 г. адасланы па этапе ў г. Маскву *(295—1—1643—218)**.

* Магчыма, ідэнтычны з *Сінкевічам Апалінарыем.*

**Сяняўскі Юльян** — гл. **Сіняўскі Юльян**

5819. **Сярбушка Юзаф** (Сербушко Иосиф). Да паўстання служыў наглядчыкам Беластоцкай акруговай лячэбніцы, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. У 1871 г. жыў ва Уфімскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—55; 1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25).*

5820. **Сяргейчык Мартын** (Сергейчик Мартын), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

5821. **Сяргеля Дамінік** (Сергеля Доминик), селянін Навагрудскага (?) пав. Уваходзіў у склад атрада *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна* (?). Схоплены пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак *(295—1—1562—16адв.).*

5822. **Сярпінскі Ігнат** (Серпинский Игнатий), сын Рамуальда, мешчанін Пінскага пав. Да паўстання жыў у м. Калоднае Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

5823. **Сярніцкі Адам** (Серницкий Адам), дваранін. У 1864 г. прысуджаны да 3-месячнага арышту *(295—1—1643—216).*

**Сярніцкая-Палюховіч Леанціна** — гл. **Палюховіч-Сярніцкая Леанціна**

**Сярніцкі-Палюховіч Людвік** — гл. **Палюховіч-Сярніцкі Людвік**

5824. **Сясіцкі Мечыслаў** (Сесицкий Мечислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Дылева Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніку на 12 гадоў *(319—1—479—28адв.; 320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.).*

5825. **Сясіцкі Уладзіслаў** (Сесицкий Владислаў), памешчык. Да паўстання жыў у маёнтку Куркішкі (Курклікі) Вількамірскага пав. За дачы-

ненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Архангельскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52285—11; 2532—1—15—3адв.)*.

5826. **Сяўрук Тамаш** (Севрук Фома), сын Паўла, дваранін, праваслаўны. Нар. каля 1836 г. у Слуцкім пав. Служыў у Мінскім губернскім камітэце аб земскіх павіннасцях ці ў канцылярыі Мінскай харчовай камісіі, калежскі рэгістратар. Напярэдадні паўстання выйшаў у адпачынак, падчас якога наведваў *Ёдку Рудольфа* і іншых памешчыкаў, захварэў. 03.1864 не з'явіўся пасля адпачынку на месца службы, таму «як нядобранадзейны» звольнены паводле распараджэння мінскага губернатара ад 28.05.1863, які не меў звестак пра прычыну яго няяўкі. Арыштаваны (да 18.08.1863) і зняволены на галоўнай гаўптвахце г. Мінска. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая не знайшла доказаў удзелу ў паўстанні. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 18.11.1863 вызвалены з-пад арышту і вернуты на месца жыхарства ў в. Майсеевічы Бабруйскага пав. 13.01.1864 падаваў прашэнне аб дазволе выехаць у Харкаўскую і Кіеўскую губ. для пошукаў службы *(295—1—1553)*.

# Т

5827. **Табенская Альжбета** (Табенская Елизавета), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222адв.)*.

5828. **Табенская Антаніна** (Табенская Антонина), дваранка Лідскага пав. Да паўстання не была замужам, яе бацькі валодалі маёнткам Рудава Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

5829. **Табенскі Канстанцін** (Табенский Константин). Служыў у войску, капітан. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Схаваўся ад рас. уладаў *(320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.)*.

5830. **Табенскі Мечыслаў** (Табеньский Мечислав), памешчык Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—12адв.)*.

5831. **Табенскі Цыпрыян** (Табенский Киприян), сын Міхала. Да паўстання служыў памочнікам акцызнага наглядчыка Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

5832. **Табенскі Яраслаў** (Табенский Ярослав), памешчык Лідскага пав. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.06.1863 і пастановы ВілГП ад 09.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—265; 1430—1—52285—7, 8; 2532—1—15—12адв.)*.

5833. **Табулевіч Антоні** (Табулевич Антон). Да паўстання з'яўляўся неадменным засядальнікам Шавельскага земскага суда. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

5834. **Тавянскі Казімір** (Товянский Казимир), дваранін. Да паўстання жыў у г. Коўне. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

5835. **Тавянскі Юстын** (Товянский Устин), дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—530адв.)*.

5836. **Такарэўскі Станіслаў** (Токаржевский Станислав). Служыў настаўнікам музыкі ў жаночым інстытуце ў г. Беластоку, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Самарскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

5837. **Талвінскі Крыштаф** (Толвинский Христофор). Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. 15.06.1863 выехаў з г. Полацка ў г. Віцебск. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля

07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—3—21048—46адв.; 1430—1—31370—134, 136; 1430—1—52163—558).*

5838. **Талвінскі Пётр** (Толвинский Петр), шляхціц Брэсцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103).*

5839. **Талдышэўскі Базыль** (Талдышевский Василий), селянін Віцебскай (?) губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 12 гадоў *(1430—1—52163—401).*

5840. **Талочка Аўгустын** (Толочко Августин), дваранін Ковенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—75).*

5841. **Талочка Казімір** (Толочко Казимир), дваранін. Да паўстання служыў канцылярыстам Гродзенскага ДДС, з'яўляўся суўладальнікам маёнткаў у Сакольскім і Гродзенскім пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.).*

5842. **Талочка Канстанцін** (Толочка Константин), дваранін Гродзенскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Талочкі Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

5843. **Талочка Люцыян** (Толочко Люциан), брат *Эдварда*, памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Жлалемкі Вількамірскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы КГП ад 12.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—251—12-15, 20; 1416—6—253).*

5844. **Талочка Міхал** (Толочко Михаил), дваранін Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

5845. **Талочка Францішак** (Толочко Франц), дваранін Ковенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—75).*

5846. **Талочка Эдвард** (Толочко Эдуард), брат *Люцыяна*, памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Жлалемкі Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 30.05.1863 і пастановы КГП ад 12.06.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1416—6—251—12-15, 20; 1416—6—253; 1430—1—52163—599).*

5847. **Талочка Ян** (Толочко Иван), памешчык. Да паўстання валодаў сумесна з братамі маёнткамі Ракавіца, Перапекі і Чылеева (Чалееў) Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.).*

5848. **Тальшэўскі Альбін** (Тельшевский Альбин), сын Яна Ігнатавіча, дваранін Ігуменскага ці Слуцкага пав., каталік. Нар. 04.03.1827. Да паўстання служыў пісарам Слуцкай дваранскай апекі. 19.04.1863 у складзе невялікай групы на чале з *Дамброўскім Леанам* пакінуў г. Слуцк і далучыўся ля вак. Суцін Ігуменскага пав. да атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*, дзе прызначаны камандзірам «шасцёркі» («плутона»). Разам з *Булынкам Цэзарам*, *Саковічам Якубам*, *Падалецкім Аляксандрам* удзельнічаў у павешанні 23(24?).05.1863 у с. Багушэвічы Ігуменскага пав. святара Д. Канапасевіча ў якасці камандзіра атрада вешальнікаў. Удзельнічаў таксама ў сутычках з рас. войскамі 09.05.1863 паміж вёскамі Юрэвічы і Мікулічы Ігуменскага пав., 09.06.1863 і 13.06.1863 ля в. Лочын Ігуменскага пав., дзе трапіў у палон. Утрымліваўся ў г. Ігумене, затым адасланы ў г. Мінск, дзе знаходзіўся пад следствам у МСК. На следстве сцвярджаў, што «любоў да айчыны і жаданне далучэння Літвы да Польшчы пабудзілі яго далучыцца да мяцежніцкай партыі». Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 26.10.1863 аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку, які 02.11.1863 скончыў справу. 03.11.1863 падаў прашэнне на імя Забалоцкага, у якім сцвярджаў, што ўдзельнічаў у павешанні, «будучы прымушаны гвалтоўна начальнікам рэвалюцыйнай партыі Собэкам пад пагрозамі пазбавіць мяне жыцця», і прасіў літасці. Канфірмацыяй В. Забалоцкага ад 13.11.1863 прысуджаны

да канфіскацыі маёмасці і павешання. 16.11.1863 расстраляны (ці павешаны) ў с. Багушэвічы. Яго маёмасць на падставе ўказу МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. *(295—1—1643—224адв., 227; 296—1—56; 320—1—398—2адв., 114-119; 320—2—98—46адв.; 1416—6—203; 1418—3—1—70адв.-71; 3257—1—4—32адв.).*

5849. **Тальшэўскі Аўгуст** (Тельшевский Август), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Грыцкаўшчына Ваўкавыскага пав. Западозраны ў суўдзеле ў паўстанні і аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 07.09.1863 і пастановы ГГП ад 03.10.1863 падлягала секвестру. У далейшым высланы ў Арэнбургскую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—302; 2532—1—15—7адв.).*

5850. **Тальшэўскі Вандалін** (Тельшевский Вандолин), дваранін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103).*

5851. **Тамашэвіч Адам** (Томашевич Адам), дваранін г. Слуцка. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—104).*

5852. **Тамашэвіч Ануфры** (Томашевич Онуфрий), дваранін Віленскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні, дзе валодаў майстэрняй і крамай стальных вырабаў. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.).*

5853. **Тамашэвіч Вінцэнт** (Томашевич Викентий), дваранін Мінскай губ. Да паўстання з'яўляўся ігуменскім гарадскім галавой. Абгавораны 8 мяшчанамі-яўрэямі ў падтрымцы паўстання, у прыватнасці ў спрыянні выхаду з г. Ігумена 20.04.1863 шматлікіх асоб для злучэння з паўстанцамі. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, 06.1863 арыштаваны і высланы ў г. Мінск. Пры вобшуку ў яго знойдзены паперы, у якіх «нічога падазронага не выявілася». Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая прыйшла да высновы, што «перабольшаныя (беспрысяжныя) паказанні яўрэяў не могуць служыць доказам у прыняцці Тамашэвічам асабістага ўдзелу ў мяцяжы, тым больш, што Тамашэвіч у паказаннях сваіх указвае на факты, чаму яўрэі гэтыя маюць да яго злосць. Тым не менш камісія мае поўнае маральнае перакананне, што Тамашэвіч спачуваў мяцяжу», а таму «аказваецца нядобранадзейным у палітычных адносінах». 25.10.1863 яго справа перададзена МГГ з рэкамендацыяй «выдаленне яго з гэтага краю было б вельмі карысным». 30.11.1863 справа пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкім М. Мураўёву, распараджэннем якога ад 21.12.1863 прызначаны да ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя паветы» Ніжагародскай губ. пад строгі паліцэйскі нагляд. 01.01.1864 высланы з Мінска да віленскага каменданта, а затым — у г. Лукаянаў Ніжагародскай губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр. *(162—1—116—166; 295—1—1643—226, 228; 296—1—57; 1430—1—52285—31; 2586—1—116—499).*

5854. **Тамашэвіч Вінцэнт** (Томашевич Викентий), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

5855. **Тамашэвіч Рыгор** (Томашевич Григорий), сын Паўла, селянін. Нар. каля 1843 г. Да паўстання прыпісаны да Нова-Валосавіцкай сельскай грамады Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця арыштаваны рас. жаўнерамі ў фальв. Падбярэззе Барысаўскага пав. Дастаўлены ў г. Барысаў, 08.05.1863 зняволены ў мясцовай турме, адтуль высланы (пасля 10.07.1863) у Сібір *(295—1—1527—99; 295—1—1643—228адв.; 295—1—2725—20; 296—1—19—281).*

5856. **Тамашэвіч Станіслаў** (Томашевич Станислав), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання з'яўляўся вольным слухачом Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224).*

5857. **Тамашэвіч Стэфан** (Томашевич Степан), сваяк (?) *Юрыя*, селянін. Нар. каля 1833 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав., жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 17.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Пасля вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства на парукі (?) *(295—1—1527—105; 296—1—19—281).*

5858. **Тамашэвіч Фелікс** (Томашевич Феликс), дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Ленцаўшчына Свянцянскага пав. памешчыка Куроўскага. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—128; 1430—1—52163—603).*

5859. **Тамашэвіч Францішак** (Томашевич Франц), муж Казіміры Івашэўскай, сын Тамаша, брат

Міхала, бацька 4 дзяцей, памешчык, каталік. Нар. каля 1799 г. Вучыўся ў дамініканскім кляштары ў м. Ушачы Лепельскага пав. У 1831 г. абраны правіянцкім дэпутатам Лепельскага пав., потым — магазінным дэпутатам, атрымаў чын калежскага рэгістратара. У 1860 г. абраны міравым пасярэднікам. Да паўстання валодаў маёнткам Бабынічы Лепельскага пав. (525 дзес. зямлі), дзе ў 1862–1863 гг. служыў *Жылінскі Ян*. Падчас паўстання здаў сваю зброю (2 стрэльбы і пісталет) у Бабыніцкае валаснoе праўленне. У 1864 г. абгавораны бабыніцкімі мяшчанамі Абрамам Рыўлінам і Абрамам Шэрманам у падрыхтоўцы зброі для паўстанцаў і пастаўцы ім харчавання. Трапіў пад следства, падчас якога жыў пад наглядам паліцыі ў г. Лепелі. У яго доме праведзены вобшук, які не даў вынікаў. На следстве сцвярджаў, што абгавораны яўрэямі з той прычыны, што яны не плацяць яму грошы за арэнду зямлі. Абвінавачанні не пацвердзіліся, вызвалены. У 1866 г. жыў у маёнтку Бабынічы, судзіўся з бабыніцкімі яўрэямі *(1430—1—31600)*.

5860. **Тамашэвіч Юзаф** (Томашевич Иосиф), дваранін Віленскай губ. Валодаў домам у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.)*.

5861. **Тамашэвіч Юры** (Томашевич Юрк), сваяк (?) *Стэфана*, селянін. Нар. каля 1838 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав., жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 17.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—104адв.)*.

5862. **Тамашэўская Юзэфа** (Томашевская Иозефа), шляхцянка. За ўдзел у паўстанні арыштавана і ў 1863 г. аддадзена пад ПВС *(295—1—1643—225)*.

5863. **Тамашэўскі Адам** (Томашевский Адам), дваранін. Да паўстання служыў механікам у маёра Навіцкага ў Слуцкім пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.12.1863 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 320—1—398—159; 320—2—98—46адв.)*.

5864. **Тамашэўскі Аляксандр** (Томашевский Александр), дваранін. За дачыненне да паўстання высланы ў Аланецкую губ. *(295—1—1643—231)*.

5865. **Тамашэўскі Марцін** (Томашевский Мартин), дваранін. Да паўстання служыў стралком 1 Сакольскага лясніцтва. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102адв.)*.

5866. **Тамашэўскі Міхал** (Томашевский Михаил), селянін Рудомінскай вол. Віленскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 14.06.1863 адпраўлены ў ВілГП. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 18.06.1863 і 27.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 07.07.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—268, 274)*.

5867. **Тамашэўскі Пётр** (Томашевский Петр). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.)*.

5868. **Тамашэўскі Уладзіслаў** (Томашевский Владислав), сын Міхала, брат *Фларыяна*, шляхціц. Да паўстання жыў у в. Медзіканы Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—6—281; 1430—1—52163—205)*.

5869. **Тамашэўскі Сымон** (Томашевский Сымон), часоваабавязаны селянін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 16.06.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5870. **Тамашэўскі Фларыян** (Томашевский Флориан), сын Міхала, брат *Уладзіслава*, шляхціц. Да паўстання жыў у в. Медзіканы Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—205)*.

**Таміловіч Іпаліт** — гл. **Туміловіч Іпаліт**

5871. **Тамкевіч Аляксандр** (Томкевич Александр), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у г. Вільні разам з маці. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103адв.)*.

5872. **Тамкевіч Казімір** (Томкевич Казимир), дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—530адв.)*.

5873. **Тамкевіч Цэзар** (Томкевич Цезарий), дваранін Шавельскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Мажунасцы Шавельскага

пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166адв.)*.

5874. **Тамкевіч Юзаф** (Томкевич Иосиф), дваранін Панявежскага ці Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—6—281; 1430—1—52163—205)*.

5875. **Тамко Філіп** (Томко Филип), сын Міхала, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гарадзішчанскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—30адв.)*.

5876. **Тамковід Юзаф** (Томковид Иосиф), сын Тэадора, дваранін Віленскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся ў 1864 г. пад следствам у МагСК і пад судом у МагВСК *(3257—2—2—35; 3257—2—8—15)*.

5877. **Тамковіч Аўгуст** (Томкович Август), дваранін Рэжыцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(320—1—398—134; 1416—3—21048—46; 1430—1—52163—421адв., 596; 2616—1—40—12)*.

5878. **Тамковіч Ігнат** (Томкович Игнатий), сын Багуслава, дваранін Сенненскага пав. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Стаўбцы Сенненскага пав., які знаходзіўся ў арэндзе ў Антаніны Каплінскай (гл. *Каплінскі Эдмунд*); з'яўляўся доктарам. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 09.11.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Стаўбцы 05.07.1863 секвестраваны, потым яго частка канфіскавана *(296—1—25—105адв.; 2001—2—123—6адв.; 2001—3—23—3; 2003—1—445—3адв., 15; 2189—1—468; 3257—2—2—35)*.

5879. **Тамковіч Станіслаў** (Томкович Станислав), сын Андрэя, дваранін. Нар. каля 1838 г. Да паўстання жыў у г. Дзісне, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў Дынабургу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 320—1—398—37-53адв., 57, 130; 320—2—98—46адв.; 1416—3—21048—46; 1430—1—52163—605)*.

5880. **Тамковіч Ян** (Томкович Иван), мешчанін г. Мінска. Да паўстання служыў падмайстрам у *Зарэцкага Міхала*. За «намаўленне асоб да мяцяжа» і намер далучыцца да паўстання 22.04.1863 арыштаваны ў г. Мінску. Зняволены пры паліцэйскім упраўленні. Загадам М. Мураўёва ад 22.05.1863 аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.06.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты на 2 гады *(295—1—1576—1-6, 14-19; 295—1—1643—225; 320—1—398—124адв.; 1430—1—52163—596б адв.)*.

5881. **Тамчыцкі Антоні** (Томчицкий Антон), дваранін г. Варшавы. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—535адв.)*.

5882. **Танаеўскі Віктар** (Танаевский Виктор), дваранін Віленскага пав. Да паўстання арандаваў засц. Варанішкі Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.; 1416—6—280)*.

5883. **Танскі Апалінары** (Танский Аполинарий), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання», ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя губерні» і секвестру маёмасці. Сасланы ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 потым падлягала абавязковаму продажу *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379; 2532—1—15—12адв.)*.

5884. **Танскі Фелікс** (Танский Феликс), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—83; 1430—1—52163—552; 2532—1—15—12)*.

5885. **Таньскі (Танскі) Ігнат** (Таньский (Танский) Игнатий), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Жухараны Троцкага пав., служыў міравым пасярэднікам. Падчас паўстання вызваліў 5 затрыманых сялянамі невядомых асоб, за што западозраны ў сувязях з паўстанцамі. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад

27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі, «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1430—1—52285—7; 2532—1—15—12)*.

5886. **Таньскі Міхал** (Таньский Михаил), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224)*.

5887. **Таньскі Станіслаў** (Таньский Станислав), памешчык Віленскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Кастрамскую губ. *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546)*.

5888. **Тапароўскі Войцех** (Топоровский Войцех), аднадворац Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 25.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 01.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

5889. **Тапчэўскі Мікалай** (Топчевский Николай), дваранін Полацкага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—87адв.-88)*.

5890. **Тапчэўскі Фелікс** (Топчевский Феликс), сын Фелікса, дваранін Віцебскай (?) губ., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—87адв.-88)*.

5891. **Тараевіч Вінцэнт** (Тараевич Викентий), дваранін. За ўдзел ў паўстанні ў 1863 г. прысуджаны да ссылкі на пасяленне на казённых землях у Томскую губ. *(295—1—1643—227адв.)*.

5892. **Тараевіч (Тарасевіч) Міхал** (Тараевич (Тарасевич) Михаил), ксёндз. Да паўстання з'яўляўся дэканам у г. Мінску. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Кастрамскую губ. пад нагляд паліцыі. Паводле ўказа МГП ад 03.07.1864 яго маёмасць падлягала секвестру, у выніку секвестравана яго рухомасць на суму ў 2,65 руб. *(162—1—116—124; 295—1—1643—228, 230; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.)*.

5893. **Тараевіч Цэзар-Марцін** (Тераевич Цезарий-Мартин), сын Юзафа Марцінавіча, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам, жыў у м. Эйшышкі Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(299—1—577—544-546; 320—1—398—222адв., 401адв., 502-504, 565; 320—2—98—46адв.)*.

5894. **Таранкоўскі Калікст** (Таранковский Каликст), дваранін. За дачыненне да паўстання ў 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—231адв.)*.

5895. **Тарасевіч Антоні** (Тарасевич Антон), селянін Свянцянскага (?) пав. Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства, таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

5896. **Тарасевіч Вінцэнт** (Тарасевич Викентий), дваранін. За захоўванне зброі і «набыццё падбухторных твораў» у 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—224)*.

5897. **Тарасевіч Вінцэнт** (Тарасевич Викентий). Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—35)*.

5898. **Тарасевіч Ігнат** (Тарасевич Игнатий), дваранін. Да паўстання жыў у м. Каралёў Мост Беластоцкага ці Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166адв.)*.

5899. **Тарасевіч Міхал** (Тарасевич Михаил), дваранін Вілейскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 09.08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 25.08.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(1416—4—11416—131, 174-175адв.; 1430—1—52163—530)*.

5900. **Тарасевіч Міхал** (Тарасевич Михаил), сын Ігната, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 14.01.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ *(1418—3—1—71адв.-72)*.

**Тарасевіч Міхал** — гл. **Тараевіч Міхал**

5901. **Тарасевіч Сільвестр-Францішак** (Тарасевич Сильвестр-Франц), сын Францішка, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1842 г. У 1852–1859 гг. вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку, потым у землямерска-таксатарскіх класах у г. Горкі. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. Арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 07.02.1864) пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на рудніку на 12 гадоў *(320—1—398—104-105, 222; 320—2—98—46адв.; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—8, 213).*

5902. **Тарасевіч Станіслаў** (Тарасевич Станислав), сын Юзафа, брат *Фларыяна*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў разам з братам пад следствам у ВСК, якая 31.03.1864 без сваёй высновы падала яго следчую справу віцебскаму губернатару. Да іх справы меў дачыненне *Рэут Альфонс*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава ад 05.10.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. 23.10.1864 ВГП выдала адпаведны ўказ, аднак маёмасць не знойдзена *(1416—3—21048—46, 46адв.; 1416—4—11416—78-80, 132адв.; 1430—1—52163—395, 408адв., 504-506; 3046—2—3—86адв.-87; 3046—2—5—50; 3257—2—2—35адв.).*

5903. **Тарасевіч Фларыян** (Тарасевич Флор (Флориан)), сын Юзафа, брат *Станіслава*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў разам з братам пад следствам у ВСК, якая 31.03.1864 без сваёй высновы падала яго следчую справу віцебскаму губернатару. Да іх справы меў дачыненне *Рэут Альфонс*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. 02.10.1864 ВГП выдала адпаведны ўказ, аднак маёмасць не знойдзена *(1416—3—21048—46, 46адв.; 1416—4—11416—78-80, 132адв.; 1430—1—52163—395, 408адв., 504-506; 2514—1—2198—70адв.; 3046—2—3—86адв.-87; 3046—2—5—50; 3257—2—2—35адв.; 3257—2—8—15).*

5904. **Тарасевіч Юзаф** (Тарасевич Иосиф), сын Антонія, дваранін Лепельскага пав. Падчас паўстання знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Указ аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 23.05.1864 *(295—1—1643—227; 296—1—25—105; 1416—3—21048—46; 1430—1—52163—413; 2626—1—305—52-53; 3046—2—5—50).*

5905. **Тарасевіч Юзаф** (Тарасевич Иосиф), сын Францішка, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. 24.04.1863 арыштаваны разам з *Бобрыкам Уладзімірам* у доме памешчыка Аршанскага пав. Ежы Брастоўскага, у якога знаходзіўся ў гасцях, паводле абвінавачання ў тым, што займаўся стральбою з яго сынамі *Брастоўскімі Уладзіславам* і *Юзафам* і пагражаў смерцю сялянам. На следстве і судзе абвінавачанні не пацвердзіліся. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 прызнаны невінаватым, аднак прызначаны да грашовага штрафу за пражыванне без пісьмовых дакументаў. З яго маёмасці належала спагнаць 10-працэнтны збор *(1430—1—31588—15-22адв.).*

5906. **Тарасевіч N.** (Тарасевич N.), ксёндз. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. сасланы пад строгі нагляд паліцыі на сталае жыхарства ў Кастрамскую губ. *(295—1—1643—231адв.).*

5907. **Тарасовіч Уладзіслаў** (Тарасович Владислав), памешчык Ваўкавыскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—7адв.).*

5908. **Тарашкевіч Адам** (Тарашкевич Адам), сын Юльяна, аднадворац Ваўкавыскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Вераб'і Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

5909. **Тарашкевіч Ігнат** (Тарашкевич Игнатий), мешчанін. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру (у гэты час улады не ведалі пра месца яго знаходжання) *(1416—6—274).*

5910. **Тарашкевіч Фартунат** (Тарашкевич Фортунат), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10).*

5911. **Тарашкевіч Фелікс** (Тарашкевич Феликс), дваранін. Да паўстання валодаў надзелам зямлі ў вак. Шоклі Троцкага пав. Падчас паўстання ў яго знойдзены стрэльба, кулі, дроб і пістоны, за што яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП

ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1430—1—52285—7; 2532—1—15—12)*.

5912. **Тарашкевіч Францішак** (Тарашкевич Франц), дваранін Мінскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70адв.)*.

5913. **Тарвід Юзаф** (Тарвид Иосиф), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. атрымаў дазвол і вярнуўся са ссылкі з Томскай губ. у Дынабургскі пав. на сталае жыхарства *(1430—1—35810—29-30)*.

5914. **Таргонскі Аўгуст** (Таргонский Август), сын Антонія, памешчык Себежскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам Себежскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» 11.08.1863 высланы на жыхарства ў г. Перм. На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву, у 1875 г. вярнуўся на радзіму *(1416—3—21048—46, 46адв.; 1430—1—35810—19; 1430—1—52163—417, 608; 1430—1—52285—5, 43, 58адв.)*.

5915. **Таргонскі Баляслаў** (Таргонский Болеслав), сын памешчыка Себежскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. За «палітычныя злачынствы» («спачуванне да мяцяжу») паводле пастановы следчай камісіі, канфірмаванай М. Мураўёвым, «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 11.11.1863) на жыхарства пад нагляд паліцыі ў «аддаленыя паветы» Наўгародскай губ. На яго маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—46; 1430—1—31307—116адв.; 1430—1—31355—116-118; 1430—1—31583—158; 1430—1—52163—418адв.; 1430—1—52285—5, 43)*.

5916. **Таргонскі Урбан** (Торгонский Урбан), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Корань Барысаўскага[152] пав. За «наўмыснае складанне і падачу ўладам хлуслівага данясення пра адмову селяніна Фамы Лядвы ад прыняцця праваслаўя і выражэнне супрацьдзеянняў уладам у польскім значэнні» арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 09.12.1865 і зняволены ў г. Мінску. Паводле прысуду ЧПА, канфірмаванага 09.03.1866 З. Манюкіным, высланы на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1643—231адв.; 299—2—6399—34адв.-35; 299—2—6400—20адв.-21; 1781—32—144—23)*.

5917. **Таргонскі Юзаф** (Таргонский Иосиф), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. 30.06.1863 на яго маёмасць накладаўся секвестр на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863, да 1867 г. яго маёмасць падлегла вяртанню ў яго валоданне *(1416—3—21048—46; 1430—1—52163—196, 393адв.; 2514—1—2198—70адв.)*.

5918. **Тарлецкі Вінцэнт** (Терлецкий Викентий), сваяк *Яна*, памешчык Пінскага пав. Падчас паўстання западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Яго маёмасць падлягала секвестру. На следстве падазрэнні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ ад 03.09.1863 вызвалены з аддачай на парукі па месцы жыхарства *(296—1—19—187-191, 195-196)*.

5919. **Тарлецкі Ян** (Терлецкий Иван), сваяк *Вінцэнта*, памешчык Пінскага пав. Падчас паўстання западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Яго маёмасць падлягала секвестру. На следстве падазрэнні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 03.09.1863 вызвалены з аддачай на парукі на месцы жыхарства *(296—1—19—187-191, 195-196)*.

5920. **Тарлоўскі Францішак** (Тарловский Франц), сын Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав., каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне губернскага сакратара. Да паўстання разам з *Казарынам Іпалітам* служыў аканомам маёнтка Куравічы Лепельскага пав. памешчыцы Буйніцкай. Абвінавачаны рас. уладамі ў «злачынных дзеяннях супраць урада», арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым у падрыхтоўцы

---

[152] У крыніцах касцёл называецца «Корженевский» і месцам яго лакалізацыі называецца Мазырскі пав., аднак гэтыя звесткі, верагодна, памылковыя.

да паўстання і агітацыі сялян далучыцца да яго і 21.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 18.01.1864 яго маёмасць падлягала секвестру. 28.01.1864 высланы з Лепеля ў г. Віцебск. Зняволены ў віцебскім турэмным замку, адкуль 02.1864 падаў прашэнне на імя ВГГ. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго рухомая маёмасць канфіскавана і прададзена (да 20.04.1865) *(1416—3—21048—46; 1416—4—11416—285-286; 1430—1—31602—18-24; 1430—1—31604—46; 1430—1—52163—206адв., 400адв., 822адв.; 3046—2—3—86адв.-87; 3046—2—5—50).*

5921. **Тарналіцкі Караль** (Терноліцкий Карл), бацька *Юрыя* і Ганны, мешчанін. Нар. каля 1818 г. Жыў у засц. Гуменаўшчына Мінскага пав. Каля 1858 г. перасяліўся ва ўроч. Трысцянка Ашмянскага пав., дзе служыў ляснічым Налібоцкага лясніцтва кн. Л. Вітгенштэйна. 23.06.1858 пастановай Мінскай казённай палаты залічаны ў склад мяшчан г. Мінска. У 1863 г. разам з *Карніцкім Станіславам* і *Манюкевічам Якубам* за тое, што «ведалі пра знаходжанне ў давераных ім лясных участках мяцежніцкіх шаек, але не данеслі пра гэта Начальству», рашэннем М. Мураўёва прызначаны (да 01.09.1863) да ссылкі з сям'ёй на жыхарства ў Аланецкую губ. Сасланы. У 1875 г. падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму за свой кошт з жонкай і трыма дзецьмі, якое задаволена *(295—1—1605; 295—1—2743).*

5922. **Тарналіцкі Юры** (Терноліцкий Юрий), сын *Караля*, брат Ганны, мешчанін г. Мінска. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» яго бацькі разам з ім у 1863 г. сасланы з уроч. Трысцянка Ашмянскага пав. на пасяленне ў Аланецкую губ. У 1875 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(295—1—2743).*

5923. **Тарноўскі Юзаф** (Тарновский Иосиф), сын Яна, селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 08.07.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—15).*

5924. **Тарпілоўскі Юзаф** (Терпиловский Иосиф), незацверджаны дваранін Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222адв.).*

5925. **Тарпілоўскі Ян** (Терпиловский Иван), дваранін Слуцкага пав. За захоўванне зброі і набыццё «папер падбухторнага зместу» арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 29.04.1864 прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Пермскую губ., яго маёмасць прызначана да секвестру *(162—1—116—105, 166; 295—1—1643—224адв., 227адв.; 1430—1—52163—194адв.).*

5926. **Тарпінскі Аляксандр** (Терпинский Александр), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

5927. **Тарчыла Баляслаў** (Торчилло Болеслав), сын Рыгора, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Уночы з 19 на 20.04.1863 разам з *Мурашкам Янам* і *Рымгайлам Баляславам* узяты ў атрад *Сніткі Алаізія*. Арыштаваны, утрымліваўся ў г. Ігумене. Без вытворчасці следства 23.05.1863 адасланы ў г. Мінск. *(296—1—50—1-16адв.; 1418—3—1—70адв.-71).*

5928. **Тарчынскі (Турчынскі) Артур** (Торчинский (Турчинский) Артюр (Артур)), сын Пятра Касперавіча, брат Ганны (v. Багушэўская), муж Марыі, бацька Войцеха, Антонія і Марыі, памешчык, каталік. Нар. каля 1821 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Валодаў домам у г. Мінску. Належаў да падпольнай арганізацыі ў Мінску, *Аскеркам Міхалам* 09.1863 прызначаны на пасаду «начальніка г. Мінска». Арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Енісейскую губ. Маёнткі Сенніца і Шчытомірычы Мінскага пав. (апошні ацэнены ў 40 тыс. руб.), якім валодаў разам з братамі, з рухомай маёмасцю ў 237,6 руб. секвестраваны ў 1863 г., потым частка, якая прыпадала на яго долю, канфіскавана. На пачатку 1870-х гг. атрымаў частковую амністыю, выехаў з Сібіры і пасяліўся ў г. Варшаве. У 1873 г. яго сястра падала просьбу аб дазволе яму на сталае пражыванне ў Мінскім пав. пры ёй з прычыны «расстроенага яго здароўя», але атрымаў дазвол на пражыванне толькі на працягу 1 года. 20.09.1873 прыбыў у маёнтак Сенніца, адкуль 28.09.1874 выехаў у г. Маскву. У 1875 г. атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў «Паўночна-Заходнім краі». 12.1876 жыў у маёнтку Астрошчыцы Мінскага пав. у памешчыка Яленскага, дзе займаўся гаспадаркай; у 1880–1882 гг. — таксама ў Мінскім пав. *(162—1—116—34; 295—1—1643—224, 230, 230адв., 231; 295—1—2414; 295—1—3026—28адв.; 295—1—3492—16, 37адв.-38, 90адв.; 296—1—89—27адв.; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 473; 320—2—98—46адв.; 320—2—99—31г адв.-31д, 44; 534—1—14—5, 8; 1430—1—35810—2; 1430—1—*

*35834—12; 1430—1—52163—375; 3256—2—29—28-28адв.).*

5929. **Татар Антоні** (Татор Антоний), ксёндз. Да паўстання служыў у Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10).*

5930. **Татур Антоні** (Татур Антон), сын *Захара*, дваранін Ігуменскана пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Разам з бацькам, жонкай Евай Баброўскай і дачкой Марыянай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—5).*

5931. **Татур Вінцэнт** (Татур Викентий), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав. Нар. каля 1845 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Быў пад следствам у ІСК, 14.01.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 23.01.1864. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—231; 295—1—2212; 296—1—90—13адв.-14; 299—1—579—298-307; 1418—3—1—70адв.-71; 1430—1—52163—206).*

5932. **Татур Вінцэнт-Юзаф** (Татур Викентий-Иосиф), сын Яна Вінцэнтавіча, дваранін Ігуменскага пав. Нар. 14.07.1827. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 10.05.1864 за «сувязі з паўстанцамі і нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» разам з жонкай Агатай, сынамі Мартынам і Янам і дачкой Марцыянай «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць у 59 дзес. 844 саж. канфіскавана. Пасля амністыі ў 1874 г. вярнуўся на радзіму. 12.1876–06.1882 жыў у засц. Падкаменне Ігуменскага пав. *(295—1—1643—230адв.; 295—1—2212; 295—1—2420—5; 295—1—3492—67, 91; 320—2—98—100-103;).*

5933. **Татур Гіляры** (Татур Гилярий). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Разам з *Умінскім Антоніем* зняволены ў г. Луцку Валынскай губ., знаходзіўся пад следствам у Луцкай следчай камісіі. 17.04.1865 адпраўлены ў г. Мінск. Затым высланы ў Томскую губ. 40 дзес. зямлі ў вак. Суцін Ігуменскага пав., якімі валодаў на правах суспадчынніка, секвестраваны 08.1865. Затым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—231адв.; 296—1—89—104-106; 296—1—177; 2532—1—15—13).*

5934. **Татур Дамінік** (Татур Доминик), сын Казіміра, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі 20 дзес. зямлі ў вак. Суцін Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Быў пад следствам у ІСК, 14.01.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 23.01.1864. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Сасланы, на зямлю яго бацькоў накладзена забарона. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Смаленск, дзе ў 1878 г. атрымаў дазвол на жыхарства ў «Заходнім краі» *(295—1—1643—231; 296—1—90—13адв.-14; 299—1—579—298-307; 1418—3—1—71адв.-72; 1430—1—36211—1; 1430—1—52163—206).*

5935. **Татур Захар** (Татур Захарий), сын Вінцэнта Антоніевіча, бацька *Антонія*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. у 1813 г. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прысуджаны да высылкі ў «дальнія губерні». 26.05.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Разам з жонкай Кацярынай, сынамі *Антоніем*, Гілярыем і Юльянам, дочкамі Францішкай, Маргарытай, Феліцыянай і Анеляй высланы ў Томскую губ. Іх зямельная маёмасць (17 дзес. 1800 саж.) канфіскавана. Памёр у ссылцы да 1876 г. (?). Пасля амністый жонка вярнулася ў Суцін, дзе ў 1876 г. хадайнічала аб выплаце грошай за канфіскаваную зямлю *(295—1—2420—4адв.-5; 295—1—2830—4; 320—2—98—4, 70адв., 105, 108адв.-113; 1418—3—1—71адв.-72).*

5936. **Татур Мацей** (Татур Матвей), сын Антонія-Аляксандра Дамінікавіча, дваранін Ігуменскага пав. Хр. 10.11.1813. Да паўстання служыў леснікам у в. Ляды *Свентарэцкага Баляслава*, яго бацькі валодалі 20 дзес. зямлі ў вак. Суцін Ігуменскага пав. Займаўся вярбоўкай людзей у паўстанцкі атрад, арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. 11.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. Утрымліваўся ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 26.02.1864. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 26.04.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». На маёмасць яго бацькоў накладзена забарона *(162—1—116—108; 296—1—90—16адв.-17; 299—1—579—298-307; 320—1—398—437, 440-442; 320—2—98—46адв.; 1418—3—1—70адв.-71; 1430—1—52163—205адв.).*

5937. **Татур Мікалай** (Татур Николай), сын Тамаша, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Запа-

дозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, 14.01.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены і вернуты на месца жыхарства *(295—1—1643—229, 230; 1418—3—1—71адв.-72)*.

5938. **Татур Рыгор** (Татур Григорий), сын Базыля, аднадворац ці дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1834 г. Да паўстання жыў у маёнтку Майзарова Ігуменскага пав. 08.06.1863 паказаў паўстанцам дарогу да в. Навінка Ігуменскага пав. і не данёс пра гэта рас. уладам. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і 17.06.1863 арыштаваны. Зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, аднак прызнаны вінаватым у нясвоечасовым данясенні ўладам звестак пра паўстанцаў. Паводле загада ЧВГМГ ад 14.09.1863 у якасці пакарання яму залічана ранейшае ўтрыманне пад арыштам, вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства і аддачай на парукі *(296—1—19—200-204, 278адв.; 1418—3—1—70адв.-71)*.

5939. **Татур Фелікс** (Татур Феликс), сын Тамаша, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «дальнія губерні». 02.04.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены з-пад арышту з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1643—229; 1418—3—1—71адв.-72)*.

5940. **Таўпыга Адам** (Толпыго Адам), сын Фелікса. За дачыненне да «палітычных спраў» на маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 накладалася забарона *(2003—1—211—70-71адв.)*.

5941. **Таўпыга Юзаф** (Толпыго Иосиф), сын Эдварда, дваранін Мсціслаўскага пав. Служыў памочнікам столаначальніка Віцебскай палаты грамадзянскага суда. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў захоўванні прыналежнасцяў для стрэльбы, дробу і каля фунта пораху. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 26.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—86адв.-87; 3046—2—5—50)*.

5942. **Таўрагінскі Ксаверы** (Таурогинский Ксаверий), сын Юзафа, дваранін. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Да паўстання жыў у в. Бурдзевічы Навагрудскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 18.05.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—112; 299—1—579—298-307; 320—1—398—452адв.; 1430—1—52163—206)*.

5943. **Таўрагінскі Уладзіслаў** (Таурогинский Владислав), сын Андрэя, дваранін Магілёўскай губ. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—4—11416—21; 1430—1—52163—200; 2514—1—2198—70адв.; 3257—2—2—35; 3366—1—5—14)*.

5944. **Таўткевіч Вінцэнт** (Товткевич Викентий), дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Кабыльнік Свянцянскага пав. Цітуса Свентарэцкага. Падчас адсутнасці гаспадара, узяўшы працоўнага каня, далучыўся да паўстанцаў. За гэта яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 10.06.1863, 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 14.06.1863, 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пасля прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102; 1416—6—246; 1416—6—274; 1416—6—280)*.

5945. **Таўткевіч Леапольд** (Товткевич Леопольд), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Новы Двор Троцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125)*.

5946. **Таўткевіч Рох** (Товткевич Рох), памешчык Цельшаўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—5)*.

5947. **Таўтовіч Дамінік** (Товтович Доминик), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання жыў у абрубе Палапыш Расіенскага пав. памешчыка Працішэўскага. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—6—281; 1430—1—52163—204адв.)*.

5948. **Твардаманскі Аляксандр** (Твардоманский Александр), дваранін Ігуменскага пав. За ўдзел

у паўстанні ў 1863 г. прысуджаны (альбо 03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—225адв.; 1430—1—52163—167).*

5949. **Твардаманскі Ян** (Твардоманский Иван), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Падчас паўстання арыштаваны за «прамаўленне папракальных словаў супраць праваслаўнага духавенства», зняволены ў г. Ігумене. Без следства 01.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—70адв.-71).*

5950. **Тварданскі N.** (Твердоманский N.), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—50).*

5951. **Твардоўскі Эдвард** (Твардовский Эдуард), сын Юзафа, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Галоўчыцы Ваўкавыскага пав., служыў міравым пасярэднікам. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 06.08.1863 і пастановы ГГП ад 24.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222адв.; 1416—6—225).*

5952. **Тваркоўская Валерыя** (Тварковская Валерия), дачка чыноўніка Ковенскага прыказа грамадскай апекі. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Арэнбургскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.).*

5953. **Тваркоўскі Міхал** (Тварковский Михаил), сын Адама, мешчанін Брэсцкага пав. Дзеля заробку перасяліўся ў Магілёўскую губ. 10.1861 атрымаў у Брэсцкім гарадскім магістраце пашпарт на 1 год на пражыванне ў Магілёўскай губ. Пасля заканчэння тэрміну дзеяння пашпарта не падаваў прашэння аб новым. 22.06.1863 арыштаваны ў Дубровенскай вол. Горацкага пав. за пражыванне без пісьмовых дакументаў і па падазрэнні ў дачыненні да паўстання *(2003—1—238).*

5954. **Ткачынскі Фаўстын** (Ткачинский Фаустин (Фавстин)), шляхціц Пінскага пав. Нар. каля 1821 г. Да паўстання жыў у фальв. Зады Пінскага пав. 14.05.1863 паказаў паўстанцам дарогу і правёў іх да в. Русаковічы Пінскага пав., пасля чаго добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ ад 14.09.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства *(296—1—19—197-199).*

5955. **Толкін Дамінік** (Толкин Доминик), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання з'яўляўся дэпутатам ад дваранства Гродзенскай кватэрнай камісіі, калежскі асэсар. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237адв.).*

5956. **Томчык Людвік** (Томчик Людвиг), сын Яна, муж Алены Цярэнцьеўны, брат Элеаноры і Клары, бацька Алены, Марыі і *Тадэвуша*, селянін. Да паўстання жыў у в. Задарожжа Бабруйскага пав., прыпісаны да Карытнянскай сельскай грамады. Паводле распараджэння ваеннага начальніка Бабруйскага пав. ад 03.02.1864 арыштаваны. Яго справа разглядалася ў МСК. Распараджэннем ЧВГМГ ад 27.03.1864 прызнаны «нядобранадзейным у палітычных адносінах» і прызначаны да ссылкі ў г. Маскву для далейшай высылкі паводле распараджэння МУС. Высланы ў г. Мінск, дзе быў зняволены ў турме. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 24.04.1864 прызначаны да вяртання на месца жыхарства. Наглядчык мінскай турмы, не атрымаўшы гэтага загада, 10.05.1864 выслаў яго разам з сям'ёй у Маскву для далейшай ссылкі *(295—1—1643—230адв.; 295—1—2725—25; 299—1—579—135-139адв.).*

5957. **Томчык Тадэвуш** (Томчик Фадей), сын *Людвіка* і Алены Цярэнцьеўны, брат Марыі і Алены, унук *Яна*, селянін. Да паўстання жыў у в. Задарожжа Бабруйскага пав., прыпісаны да Карытнянскай сельскай грамады. Паводле распараджэння ваеннага начальніка Бабруйскага пав. ад 03.02.1864 арыштаваны. Распараджэннем ЧВГМГ ад 27.03.1864 прызнаны «нядобранадзейным у палітычных адносінах» і прызначаны да ссылкі ў г. Маскву для далейшай высылкі паводле распараджэння МУС. Высланы ў г. Мінск, дзе быў зняволены ў турме. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 24.04.1864 прызначаны да вяртання на месца жыхарства. Наглядчык мінскай турмы, не атрымаўшы гэтага загада, 10.05.1864 выслаў яго разам з бацькам у г. Маскву для далейшай ссылкі *(295—1—2725—25; 299—1—579—135-139адв.).*

5958. **Томчык Ян** (Томчик Иван), сын Нікадыма, муж Настассі Міхалаўны, бацька Клары, *Людвіка* і Элеаноры, дзед *Тадэвуша*, селянін. Да паўстання жыў у в. Задарожжа Бабруйскага пав., прыпісаны да Карытнянскай сельскай грамады. Яго справа разглядалася ў МСК. Распараджэннем ЧВГМГ ад 27.03.1864 прызнаны «нядобранадзейным у палітычных адносінах» і прызначаны да ссылкі ў г. Маскву для далейшай высылкі паводле распараджэння МУС. Высланы ў г. Мінск, дзе загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 24.04.1864 прызна-

чаны да вяртання на месца жыхарства. 10.05.1864 з жонкай і дочкамі адпраўлены ў г. Бабруйск *(299—1—579—135-139адв.)*.

5959. **Тошка Караль** (Тошко Карл), селянін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—10адв.)*.

5960. **Трабухоўскі Антоні** (Требуховский Антон), сын Міхала, аднадворац Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў агітацыі сялян уступіць у паўстанцкі атрад, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—14)*.

5961. **Трабухоўскі (Трыбухоўскі) Францішак** (Требуховский (Трибуховский) Франц), сын Ігната, аднадворац Навагрудскага пав. Нар. каля 1840 г. Да паўстання прыпісаны да Мірскай аднадворскай грамады, служыў аканомам у памешчыка Антонія Барановіча. Увесну 1863 г. агітаваў сялян маёнтка Заазер'е Навагрудскага пав. далучыцца да паўстання, арыштаваны. Рашэннем МСК ад 16.10.1863 прызнаны «нядобранадзейным у палітычных адносінах». Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 ці 09.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(162—1—116—64адв.; 295—1—1643—225адв.; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—282адв.; 1418—1—9)*.

5962. **Трабухоўскі Яўстах** (Требуховский Евстафий), сын Юзафа, аднадворац Слуцкага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да ўладаў. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(295—1—1643—226адв.; 1524—1—1—14)*.

5963. **Транеўскі (Трунеўскі, Трушэўскі) Адам** (Троневский (Труневский, Трушевский) Адам), мешчанін. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на 2 гады ў Разанскую арыштанцкую роту. Яго 2 драўляныя дамы з агародам у Навагрудку, збудаваныя на чыншавай зямлі памешчыка Белапятровіча і ацэненыя ў 250 рублёў, былі канфіскаваны і здаваліся ў арэнду за 18 руб. штогод *(162—1—116—64; 295—1—1643—230адв.; 295—1—1900—8адв.-9; 296—1—25—104; 299—1—577—164-175; 320—1—398—282адв.)*.

5964. **Траноўскі Дыянізі** (Троновский Дионисий). Нар. каля 1822 г. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. як «былы палітычны ссыльны» жыў у Валагодскай губ., будучы вызваленым ад паліцэйскага нагляду. Атрымаў дазвол выехаць за мяжу без права вяртання ў Рас. імперыю *(295—1—2740; 1430—1—35834—143)*.

5965. **Траскоўскі Ігнат** (Трасковский Игнатий), дваранін. Да паўстання жыў у м. Шаты Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

5966. **Трасцянка Уладзіслаў** (Тросцянко Владислав), сын Адама, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў фельчарам. Падчас паўстання схоплены рас. войскамі каля засц. Падгошкі са зброяй у руках. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 12.09.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—224; 1418—3—1—70адв.-71)*.

5967. **Траўгут [Рамуальд]** (Траугут [Ромуальд]), памешчык Кобрынскага пав. Служыў у рас. войску інжынерам, меў чын падпалкоўніка. Падчас паўстання пад мянушкай Кракоўскі камандаваў атрадам, куды сярод іншых уваходзілі *Асташэўскі Францішак*, *Кабылінскія Захар* і *Фердынанд*, *Манчук Адам*, *Палькоўскі Міхал* і *Трацяк Якаў*. Яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 17.06.1863 і пастановы ГГП ад 27.06.1863 падлягала секвестру. Забіты. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—87адв., 108; 296—1—73; 320—1—398—197адв.; 1416—6—232, 266; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1430—1—52163—125адв.)*.

5968. **Трафімаў**[153] **Селівей** (Трофимов Селивей), селянін. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—15)*.

5969. **Трацэўскі (Трацэскі) Конрат (Каранат)** (Трацевский (Трацеский) Конрат (Коронатий)), дваранін Свянцянскага пав. Нар. каля 1838 г. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Удзельнічаў у паўстанні, пасля хаваўся ад рас. уладаў. Пастановай ваеннага суда (завочна?) прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.; 1416—3—21048—46адв.; 1527—1—4—12адв., 90-91)*.

5970. **Трацэўскі Максімільян** (Трацевский Максимилиан), сын Фартуната, дваранін Ашмянскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання служыў пісарам Вайніловіцкага валаснога ўпраўлення Слуцкага пав. 17.04.1863, будучы ў г. Нясвіжы, перадаў канцылярысту Нясвіжскай паліцыі двараніну Кучынскаму адозву паўстанцкіх

---

[153] Верагодна, гэта імя па бацьку.

уладаў да жыхароў «Літвы» з заклікам да паўстання. Арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 17.10.1863 аддадзены пад ПВС пры Бабруйскім ардананс-гаўзе, які 12.1863 скончыў яго справу. Пастановай ЧПА ад 15.04.1864, канфірмаванай 21.04.1864 М. Мураўёвым, прызнаны «яўна нядобранадзейным у палітычных адносінах» і прызначаны да ссылкі на сталае жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд у Казанскую губ. з турэмным зняволеннем на 2 месяцы. *(295—1—1643—224адв., 226; 296—1—38; 1430—1—52163—194; 1524—1—1—13адв.).*

5971. **Трацяк Валент** (Тржецяк Валентий), дваранін. Да паўстання служыў на рас. грамадзянскай службе, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з Мінскай губ. «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 накладаўся секвестр *(295—1—1643—228адв.; 1430—1—52163—401адв., 610адв.; 1430—1—52285—21адв.).*

5972. **Трацяк Вільгельм** (Тржетяк Вильгельм), дваранін Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» альбо прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—104, 109адв.; 1416—3—21048—46адв.; 1430—1—52163—616адв.).*

5973. **Трацяк Дамінік** (Тржецяк Доминик), ксёндз. Да паўстання служыў у м. Жэймы Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

5974. **Трацяк Крыштаф** (Тржецяк Христофор), мешчанін г. Панявежа. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

5975. **Трацяк Станіслаў** (Тржецяк Станислав). Служыў судовым следчым у Троцкім пав., да паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага асэсара. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—611; 1430—1—52285—19).*

5976. **Трацяк Якаў** (Третяк Яков), сын Лявона, селянін. Нар. каля 1844 г. Да паўстання з'яўляўся «былым дваравым чалавекам», прыпісаным да Парэцкай сельскай грамады Пінскага пав.; нежанаты. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Траўгута Рамуальда*, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Прынёс прысягу на адданасць рас. трону. Аднак 29.10.1863 сельская грамада з той прычыны, што «беспакараны яго ўчынак пры зручным выпадку лёгка можа паўтарыцца і гэтым уцягнуць грамаду ў адказнасць» адмовілася браць яго на парукі. У выніку 19.01.1864 «па этапе» высланы ў Пскоўскую губ. 14.03.1864 прыбыў у г. Пскоў, адкуль адпраўлены (да 08.04.1864) на пасяленне ў Томскую губ. *(295—1—1620; 295—1—1643—227адв.; 295—1—2725—27; 296—1—73—2адв., 4адв.; 320—1—398—2адв.).*

5977. **Трачэўскі Юзаф** (Трачевский Иосиф), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—157).*

5978. **Трашчкоўскі Уладзіслаў** (Тржещковский Владислав), дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Бацкі Бельскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12).*

5979. **Траяноўскі Базыль** (Трояновский Василий). Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Машэўскага Уладзіслава*. Загінуў 20.04.1863 у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. *(295—1—1537—7-12адв.).*

**Трунеўскі Адам** — гл. **Транеўскі Адам**

5980. **Трусаў Антоні** (Трусов Антоний (Антон)). Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, не меў сваёй нерухомай маёмасці. Разам з *Красоўскім Цітусам* кіраваў групай паўстанцаў г. Мінска, куды ўваходзілі сярод іншых *Адамовіч Ян*, *Ганчарэвіч Аляксандр, Кучынскі Антоні, Пяткоўскі Ігнат*, *Шпілеўскі Адольф*. Схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв., 166адв.; 296—1—19—130-137; 296—1—25—71адв., 87адв.; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.).*

5981. **Трускаляскі Францішак** (Трусколяский Францишек), шляхціц Аўгустоўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, пасля паражэння якога 2 гады хаваўся пад прозвішчам селяніна Івана Пятрова. Арыштаваны паводле загада мінскага губернатара ад 22.12.1865 і зняволены ў г. Мінску *(295—1—1643—232; 299—2—6399—35адв.-36; 299—2—6400—21адв.-22).*

5982. **Трускоўскі Аляксандр** (Трусковский Александр). Да паўстання 22 гады служыў памочнікам лекара ў гарадской бальніцы ў г. Барысаве, калежскі рэгістратар. 07.1863 разам з *Елянтухам Мойшам* спрабаваў перадаць грошы (3,7 руб. ср.) арыштаванаму *Самковічу Юзафу*, за што арыштаваны. Барысаўскім ваенным начальнікам 16.08.1863 пададзены да звальнення з высылкай у «якую-небудзь з унутраных губерняў Расіі». Загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 24.08.1863 звольнены са службы з забаронай практыкі і ўсталяваннем паліцэйскага нагляду. 08.09.1863 падаваў прашэнне аб вяртанні на службу, у якім усю віну за здарэнне ўскладаў на *Е. М.* Паводле загада ЧВГМГ ад 03.10.1863 вернуты на службу *(296—1—19—158-165, 276)*.

5983. **Трускоўскі Люцыян** (Трусковский Люциан), муж Стэфаніі, дваранін Мінскай губ. Да паўстання служыў кіраўніком справаводства Мінскай дарожнай і будаўнічай камісіі, надворны радца. За дачыненне да спраў па паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 19.06.1864 прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру паводле ўказа МГП ад 19.08.1864. Жонка выправілася з ім у ссылку. У 1869 г. жыў у г. Керанску Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з правам перасяліцца ў Каралеўства Польскае. Жонка 06.1869 прыбыла ў г. Мінск з трыма дзецьмі *(162—1—116—124; 295—1—1998; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 528; 1430—1—52163—237адв.)*.

5984. **Трускоўскі Павел** (Трусковский Павел), памешчык Бельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—8адв.)*.

5985. **Трушынскі Антоні** (Трушинский Антон), дваранін. Знаходзіўся ў паўстанцім атрадзе, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Томскую губ. *(162—1—116—128)*.

5986. **Трушынскі Ксаверы** (Трушинский Ксаверий), сын Яна, незацверджаны дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—156; 295—1—1562—16; 295—1—1643—225; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв., 533адв., 541-542, 644; 320—2—98—46адв.; 1430—1—52163—526)*.

5987. **Трушынскі Юзаф** (Трушинский Иосиф), шляхціц Лідскага пав. Да паўстання валодаў хатай і 1 моргам зямлі ў в. Ліпкунцы Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—204адв.)*.

**Трушэўскі Адам** — гл. **Транеўскі Адам**

5988. **Трцінскі Войцех** (Тржцинский Альберт), сын Яна, брат Цэзара, муж Агаты, бацька Міхала (нар. каля 1852), Даменіка (нар. каля 1856) і Нарцыза (нар. каля 1861), шляхціц Мінскага пав. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 08.08.1863 адпраўлены з г. Мінска на месца ссылкі, аднак па дарозе захварэў і змешчаны ў Вілейскую гарадскую бальніцу. Жонка 22.08.1863 падала прашэнне на імя ЧВГМГ В. Забалоцкага аб дазволе ёй з дзецьмі і братам мужа выправіцца разам з ім на месца ссылкі *(295—1—1643—224адв., 226адв.; 299—2—6009—1-7адв.; 320—1—398—124адв., 253, 423адв.; 320—2—98—46адв.; 1430—1—52163—596б адв.)*.

5989. **Трцінскі Ян** (Тржцинский Ян), аўстрыйскі падданы. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—207)*.

**Трыбухоўскі Францішак** — гл. **Трабухоўскі Францішак**

5990. **Трыбушэўскі Ян** (Трибушевский Иван), сын Мікалая Андрэевіча, брат Фёдара, селянін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у в. Базок (Бозка) Ігуменскага пав., служыў холуйскім валасным старшынёй. Падчас паўстання арыштаваны за «рассейванне ілжывых чутак сярод сялян наконт спагнання кантрыбуцыі». Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прысуджаны да высылкі ў «дальнія губерні». 02.02.1864 яго справа адаслана ЧВГМГ. У 1864 г. разам з жонкай Таццянай, сынам Міхалам, дочкамі Ганнай, Арынай і Марыяй высланы ў в. Сохан Томскай губ. Потым жыў у в. Чалы Вазнясенскай вол. Каінскай акругі Томскай губ. Яго бацька 17.03.1877 падаў прашэнне аб дазволе яму на вяртанне ў Базок для падтрымання яго і «мала-

гадовага сямейства яго роднага брата Фёдара», які памёр у 1876 г. *(295—1—1643—229адв., 232; 295—1—2725—7; 295—1—3180; 1418—3—1—71адв.-72).*

5991. **Трыгубовіч Тамаш** (Тригубович Томаш (Фома)), мешчанін г. Мінска. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, да 01.05.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у МСК. Паводле распараджэння мінскага губернатара ад 03.08.1863 прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства з аддачай на парукі мяшчанскай грамадзе. Вызвалены і прыняты грамадой *(24—1—1586—3-9; 296—1—19—280).*

5992. **Трымайлаў Кірыл** (Тримайлов Кирил), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73).*

5993. **Тубілевіч Юзаф** (Тубилевич Иосиф), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(534—1—14—4; 1430—1—52163—374).*

**Тубілевіч Юзаф** — гл. **Тубялевіч Юзаф**

5994. **Тубялевіч Мацей** (Тубелевич Матвей), мешчанін Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102).*

5995. **Тубялевіч (Тубілевіч) Юзаф** (Тубелевич (Тубилевич) Иосиф), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі і прысуду ваеннага суда «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52163—149; 1430—1—52285—7).*

5996. **Туганоўскі Канстанцін** (Тугановский Константин), памешчык Навагрудскага пав. Абвінавачаны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Памёр падчас следства. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прызнаны невінаватым, яго маёмасць перадавалася спадчыннікам *(320—1—398—679).*

5997. **Туеўскі Ян** (Туевский Иван), дваранін. Да паўстання арандаваў маёнтак Ясы Себежскага пав. у памешчыка Петрашэўскага. У 1863 г. у яго маёнтку знойдзена зброя. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле яе пастановы, канфірмаванай М. Мураўёвым, «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 05.03.1864) на жыхарства Пензенскую губ. На яго маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—46; 1430—1—31307—118; 1430—1—31583—1, 39-40; 1430—1—52163—418адв.; 1430—1—52285—5, 43адв.; 3046—2—5—50).*

5998. **Тукала Адам** (Тукалло Адам), дваранін. Да паўстання служыў аканомам мызы Асцюковічы Вілейскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—7).*

5999. **Тукала Канстанцін** (Тукалло Константин), памешчык Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.).*

6000. **Тукала Мечыслаў** (Тукалло Мечислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі ў Вілейскім (у т. л. Касутай), Ашмянскім і Барысаўскім пав. Прыняў паўстанцаў у сваім доме, у тым ліку *Казелу Вінцэнта*, за што сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. У 1871 г. атрымаў дазвол на 6-месячнае знаходжанне ў Віцебскай губ. *(1416—6—280; 1430—1—35146—104; 2532—1—15—11, 11адв., 13адв.).*

6001. **Туміловіч Адольф** (Тумилович Адольф), сын Яна. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля арыштаваны (да 09.07.1863). Яго справа вялася ў МСК *(295—1—1558).*

6002. **Туміловіч (Таміловіч) Іпаліт** (Тумилович (Томилович) Ипполит), сын Яна, дваранін Мінскага пав. Да паўстання служыў пісарам у маёнтку Манькавічы Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Потым паводле канфірмаванага рашэння ваенна-судовай камісіі прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі «ў менш аддаленыя месцы Сібіры». МГП пастановай ад 04.07.1864 распараджалася аб канфіскацыі яго маёмасці, аднак яна не знойдзена *(295—1—1522—27-27адв.; 295—1—1643—224; 299—1—579—298-307; 299—2—6062—86адв.; 319—1—479—31; 320—1—398—2; 1430—1—52163—206).*

6003. **Туміловіч Ян** (Тумилович Иван), дваранін Мінскага пав. 21.04.1863 уступіў у паўстанцкі атрад, 22.04.1863 уцёк з яго і 23.04.1863 вярнуўся на месца жыхарства. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і 25.07.1863 арыштаваны. На следстве сцвярджаў,

што прыцягнуты ў атрад гвалтоўна *Асіповічам Францішкам*. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 27.09.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны нагляд паліцыі *(296—1—19—242-243, 279адв.)*.

6004. **Тумулевіч Уладзіслаў** (Тумулевич Владислав), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

6005. **Тупальскі Аляксандр** (Тупальский Александр), сын Андрэя, дваранін Мінскай губ. Да паўстання служыў у Навагрудскім павятовым казначэйстве. Падчас паўстання западозраны ў сувязях з *Бразінскім Антоніем*, *Маеўскім Канстанцінам* і *Эйтвідам Станіславам*, а таксама ў тым, што завёз свайго лакея ў паўстанцкі атрад. *Гладкі Вінцэнт* даваў на следстве паказанні, што меў для паўстанцаў канфедэраткі. Арыштаваны і аддадзены пад следства ў ВілСК. Затым сасланы за прыманне ў сваім доме «паўстанца Міладоўскага»[154]. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 03.1881 жыў у Навагрудскім пав. у сваёй дачкі *(295—1—3492—40адв., 91; 296—1—99)*.

6006. **Тур (Тура) Януш** (Тур (Тура) Януш), дваранін Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166; 3046—2—5—50)*.

6007. **Туркоўскі Юзаф** (Турковский Иосиф). Да паўстання служыў фельчарам. За ўдзел у паўстанні і «неданясенне пра з'яўленне мяцежнікаў» у 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС, паводле пастановы якога прысуджаны да ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія лінейныя батальёны рас. войска *(295—1—1643—225, 226)*.

6008. **Турла Тадэвуш** (Турло Фаддей), дваранін. Да паўстання валодаў 2 валокамі зямлі ў м. Солы Ашмянскага пав. Падчас паўстання прызнаны рас. уладамі ў «зносінах з мяцежнікамі». Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

6009. **Турлей Антоні** (Турлей Антон), дваранін Радамскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—40)*.

6010. **Турлінскі Ежы** (Турлинский Юрий), мешчанін Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 4 гады *(1430—1—52163—181)*.

6011. **Турскі Аляксандр** (Турский Александр), сын Адольфа, дваранін Барысаўскага пав. Нар. 16.05.1839. Да паўстання жыў у маёнтку Панскае Слонімскага пав., дзе з'яўляўся хатнім настаўнікам у памешчыка Дамброўскага. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Кучэўскага N.* і *Жоўтка N.*, пасля яго рассеяння ў Барысаўскім пав. добраахвотна з'явіўся да ўладаў у г. Лепелі. Дастаўлены ў г. Барысаў, 19.05.1863 зняволены ў гарадской турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 07.08.1863 аддадзены пад ПВС пры Крамянчугскім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.10.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1527—102адв.; 295—1—1588; 320—1—398—84-89а адв., 126; 320—2—98—46адв.; 1430—1—52163—602)*.

6012. **Турскі Казімір** (Турский Казимир), сын Паула, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 12.09.1863 яго справа парадзена ЧВГМГ *(1418—3—1—70адв.-71)*.

6013. **Турскі Ксаверы** (Турский Ксаверий), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Парадунь Лідскага пав. Паўстанцы ўзялі ў яго маёнтку каня, харчовыя запасы і забралі аканома. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6014. **Турскі Станіслаў** (Турский Станислав), сын Адольфа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, захоплены рас. войскамі са зброяй у руках. Быў пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызнаны вінаватым. 28.08.1863 яго справа адаслана ЧВГМГ *(1418—3—1—72адв.-73)*.

6015. **Турскі Стэфан** (Турский Степан), дваранін Барысаўскага пав. Добраахвотна далучыўся да паўстанцкага атрада, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(162—1—116—66; 295—*

[154] Верагодна, маецца на ўвазе *Міладоўскі Вітальд*.

*1—1643—227; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—291; 320—2—98—46адв.).*

6016. **Турскі Юзаф** (Турский Иосиф), селянін. Нар. каля 1846 г. Да паўстання прыпісаны да Багданаўскай грамады Барысаўскага пав., жыў у в. Багданава. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця дастаўлены ў г. Барысаў. 23.05.1863 зняволены ў мясцовай турме, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—103адв.).*

6017. **Турцэвіч Уладзімір** (Турцевич Владимир), сын Фёдара, дваранін Ігуменскага пав., праваслаўны. Нар. каля 1835 г. Падчас паўстання арыштаваны за прамаўленне 15.06.1863 у м. Пухавічы Ігуменскага пав. у нецвярозым стане словаў пра тое, што «калі б быў палякам, то павесіў бы першага пухавіцкага святара». Адразу арыштаваны валасным старшынёй. Зняволены ў г. Ігумене, адтуль пераведзены ў г. Мінск. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 16.08.1863 у якасці пакарання яму залічана 2-месячнае зняволенне, вернуты на месца жыхарства пад нагляд паліцыі *(296—1—19—153-157, 275адв.-276).*

**Турчынскі Артур** — гл. **Тарчынскі Артур**

6018. **Турыноўскі (Турыкоўскі) Станіслаў** (Туриновский (Туриковский) Станислав), дваранін Лепельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105; 1416—3—21048—46; 1430—1—52163—410адв.).*

6019. **Тускевіч Ануфры** (Тускевич Онуфрий), дваранін Ковенскай (?) губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.).*

6020. **Туцэвіч Ян** (Туцевич Иван), дваранін Ковенскага пав. Да паўстання служыў вазніцам у судовага следчага Хазбевіча ў г. Коўне. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

6021. **Тушынскі Ян** (Тушинский Иван). Служыў засядальнікам ваўкавыскага павятовага суда, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

6022. **Тыкоцкі Мікалай** (Тыкоцкий Николай), дваранін Магілёўскага пав. Да паўстання служыў леснікам у маёнтку Вейна Магілёўскага пав. Оттана Сянажэнцкага, жыў у засц. Катуша. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Паводле ўказа МагГП ад 14.05.1863 яго рухомая маёмасць на суму ў 39,8 руб. ср. 17.06.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2003—1—294; 2616—1—40—14; 3257—2—2—35).*

6023. **Тыльшан Стэфан** (Тыльшан Степан), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Загор'е Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(320—1—398—126; 1430—1—52163—602).*

6024. **Тышка Канстанцін** (Тышко Константин). Да паўстання служыў аканомам фальв. Кісялі Горацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 10.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Паводле пастановы следчай камісіі высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52285—32; 2514—1—2198—70адв.; 3255—1—14—5адв.).*

6025. **Тышкевіч Антоні** (Тышкевич Антон), ксёндз. Да паўстання з'яўляўся дэканам у м. Смілавічы Ігуменскага пав. Западозраны ў захоўванні зброі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 12.07.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—72адв.-73).*

6026. **Тышкевіч Бенядыкт** (Тышкевич Венедикт), граф, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Чырвоны Двор Троцкага пав., дзе служыў пісарам *Бароўскі Мікалай*, Вількі, Почтава, Бобціны Ковенскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207).*

6027. **Тышкевіч Генрык** (Тышкевич Генрих), сын Юзафа, брат Альгерда і Вітальда, граф, памешчык Мінскай губ. 19.04.1863 знаходзіўся ў маёнтку Смаляры Барысаўскага пав. *Бачызмальскага Леанарда*, пасля выправіўся з ім і *Чыжыкам Мельхіёрам* у фальв. Дамашкавічы Барысаўскага пав., там увайшоў у склад паўстанцкага атрада. На маёнтак яго бацькі Пятролін Барысаўскага пав. накладзены секвестр на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863. Секвестр зняты паводле распараджэння М. Мураўёва (да 06.07.1864) з накладаннем забароны на частку, якая прыпадала яму ў спадчыну. Да 06.07.1864 рас. уладам не было вядома

пра яго месцазнаходжанне *(295—1—1547—1-1адв.; 299—1—579—338-340адв.; 1416—1—247).*

6028. **Тышкевіч Ізабэла** (Тышкевич Изабелла), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

6029. **Тышкевіч Караль** (Тышкевич Карл), памешчык Лідскага пав. Да паўстання вольнапрактыкуючы доктар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—9адв.; 2532—1—15—12адв.).*

6030. **Тышкевіч Юзаф** (Тышкевич Иосиф), шляхціц Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

6031. **Тышкевіч Юлія** (Тышкевич Юлия), жонка *Яна*, дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яе маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

6032. **Тышкевіч Юльян** (Тышкевич Юлиан). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—562).*

6033. **Тышкевіч Ян** (Тышкевич Иван), муж *Юліі*, дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў пісьмаводам Віленскай дваранскай апекі. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

6034. **Тышкевіч Ян** (Тышкевич Иван), граф, памешчык Ковенскага, Вількамірскага, Віленскага, Ашмянскага, Троцкага і іншых пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Варонежскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1812—4-7адв.; 1430—1—32897—37-40адв.; 2532—1—15—3, 4адв., 5, 11, 12адв.).*

6035. **Тышкоўскі Францішак** (Тышковский Франц), дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» знаходзіўся пад судом у МагВСК. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.; 3257—2—2—35).*

6036. **Тышэцкая Людвіка** (Тышецкая Людвика), жонка адстаўнога калежскага асэсара Вілейскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616).*

6037. **Тышэцкі Тамаш** (Тышецкий Фома), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Антоліна Віленскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.).*

6038. **Тэйваль (Тэйвал) Юзаф** (Тейваль (Тейвал) Иосиф), сын Станіслава, селянін Дынабургскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Пустынь Дрысенскага пав., дзе быў агароднікам. Пасля паўстання западозраны ў тым, што падчас яго выязджаў з *Альчыкевічам Себасцьянам*, *Вернэсам Балтазарам* і *Машарскім N.* з Пустыні з намерам далучыцца да атрада *Плятэра Леана*, арыштаваны. Па справе праходзіў разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 прызначаны да аддачы пад ПВС пры Дынабургскім арданапс-гаўзе. 07.1866 зняволены ў г. Дынабургу *(2601—1—29).*

6039. **Тэпер Людвік** (Тепер Людвиг), сын Яна, мешчанін Ігуменскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Зняволены ў г. Ігумене. Без следства 16.05.1864 адасланы ў г. Мінск. 27.03.1865 аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—229адв.; 1418—3—1—72адв.-73).*

# У

6040. **Уладкоўскі Станіслаў** (Владковский Станислав), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Цеханова Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

6041. **Уладыкін Павел** (Владыкин Павел). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. Да паўстання жыў у г. Варшаве, валодаў з братамі драўляным домам у г. СПб. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.04.1864), апрача іншага, да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—168).*

**Уладычанскі-Зарэмба Мікалай** — гл. **Зарэмба-Уладычанскі Мікалай**

6042. **Уладчычанскі Сымон** (Владычанский Семен), сын Антонія. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—66адв.).*

6043. **Уланоўскі Фелікс** (Улановский Феликс), дваранін. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Вайдагі Лідскага пав. Разам са *Стацкевічам Казімірам* данёс рас. уладам, што паўстанцы ўночы з 13 на 14 чэрвеня 1863 г., праходзячы праз ваколіцу, запатрабавалі хлеба ад яе жыхароў. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

6044. **Улас (Уласаў) Вінцэнт** (Улас (Власов) Викентий), сын Васіля, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1841 г. Да паўстання жыў у в. Серафімовічы (ці Сяротавічы) Навагрудскага пав., прыпісаны да Паланечкаўскай сельскай грамады. На пачатку красавіка 1863 г. далучыўся да атрада *Міладоўскага Вітальда*, удзельнічаў у павешанні селяніна. Пасля рассеяння атрада ў сутычцы ля в. Ігнатава Навагрудскага пав. з'явіўся да рас. уладаў. Спачатку на судзе хаваў павешанне селяніна, але ў хуткім часе прызнаў яго. Паводле пастановы ПВА, канфірмаванай М. Мураўёвым 13.12.1863, прысуджаны да смяротнага пакарання праз расстрэл і канфіскацыі маёмасці. Пасля расстрэл заменены на высылку з радзімы, верагодна, на катаргу. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1556; 295—1—1643—25; 295—1—2725—9; 296—1—19—281адв.; 320—1—398—161, 174).*

6045. **Уласаў**[155] **Каліна** (Власов Калина), селянін Клімавіцкага пав., праваслаўны. Нар. каля 1837 г. 23.04.1863 прыбыў у якасці вазніцы ў в. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. разам з атрадам *Арцімовіча Міхала*, дзе быў затрыманы сялянамі. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 14.05.1864 прызнаны невінаватым *(2001—2—126—8; 3256—2—14—21-26; 3366—1—5—3).*

6046. **Улеўскі Станіслаў** (Улевский Станислав), часоваабавязаны селянін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 16.06.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

[155] Верагодна, гэта імя па бацьку.

6047. **Улінскі Баляслаў** (Улинский Болеслав), сын *Станіслава*, брат *Станіслава*, *Уладзіслава*, Ганны, Марыі, Элеаноры і Юліі (v. Цяпінскай) (гл. *Цяпінскі Мечыслаў*), стрыечны брат *Шкленіка Баляслава*, дваранін Полацкага пав., каталік. Да паўстання служыў у Віцебскай палаце грамадзянскага суда, калежскі рэгістратар. 22.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Арыштаваны (да 29.05.1863) і зняволены ў віцебскім турэмным замку. 13.05.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якой 30.09.1863 прызнаны вінаватым і прызначаны да ссылкі на катаргу на 15 гадоў. 28.12.1863 і каля 14.02.1864 падаваў прашэнні на імя ВГГ аб дазволе на спатканне са сваякамі (апошняе было задаволена). Канчаткова прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 ці на 8 гадоў. На яго і братоў маёмасць 16.05.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 02.05.1864 накладзены секвестр *(1416—3—21048—47; 1430—1—31259—7-8, 39; 1430—1—31370—15; 1430—1—31604—1-2, 35, 37, 52-53; 1430—1—52163—15адв., 182, 407, 571; 3046—2—3—88адв.-89; 3046—2—5—53).*

6048. **Улінскі Ігнат** (Улинский Игнатий). Да паўстання служыў у Расіенскім павятовым казначэйстве, яго бацькі валодалі зямлёй у Расіенскім пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

6049. **Улінскі Каспер** (Улинский Каспер), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10).*

6050. **Улінскі Станіслаў** (Улинский Станислав), сын Ежы, брат ці муж Юліі Ежаўны, бацька *Баляслава*, *Станіслава*, *Уладзіслава*, Ганны, Марыі і Элеаноры, памешчык, каталік. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага рэгістратара. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Белае Полацкага пав. Падчас паўстання ў Белым знойдзена закапаная ў зямлю зброя. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 28.08.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 27.10.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў г. Казань. Яго частка Белага 13.04.1864 на

падставе ўказа ВГП ад 19.03.1864, секвестравана і потым перададзена ў кіраванне іншым суўладальнікам. У 1864 г. жыў у г. Ядрыне Казанскай губ. Дочкі 04.1865 падалі прашэнне аб зняцці секвестру *(1430—1—31583—81-83; 1430—1—52163—15, 407адв., 429адв., 445адв., 447, 571, 608, 666адв., 811-812, 820адв.; 1430—1—52285—5адв., 43адв., 59; 3046—2—3—89адв.-90; 3046—2—5—53)*.

6051. **Улінскі Станіслаў** (Улинский Станислав), сын *Станіслава*, брат *Баляслава*, *Уладзіслава*, Ганны, Марыі, Элеаноры і Юліі (v. Цяпінскай), стрыечны брат *Шкленіка Баляслава*, памешчык, каталік. Нар. каля 1837 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Белае Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у прыняцці прысягі на адданасць паўстанцкім уладам. Падчас вобшуку ў яго знойдзена зброя і рыштунак. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго і братоў маёмасць 16.05.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 02.05.1864 накладзены секвестр. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 150 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—47; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—407адв., 571; 3046—2—3—88адв.-89; 3046—2—5—53)*.

6052. **Улінскі Уладзіслаў** (Улинский Владислав), сын *Станіслава*, брат *Баляслава*, *Станіслава*, Ганны, Марыі, Элеаноры і Юліі (v. Цяпінскай), стрыечны брат *Шкленіка Баляслава*, памешчык, каталік. Нар. каля 1835 г. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Белае Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у прыняцці прысягі на адданасць паўстанцкім уладам. Падчас вобшуку ў яго знойдзена зброя і рыштунак. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго і братоў маёмасць 16.05.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 02.05.1864 накладзены секвестр. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 150 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—47; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—407адв., 571; 3046—2—3—88адв.-89; 3046—2—5—53)*.

6053. **Улодак Шчэнсны [Фелікс-Адам]** (Влодек Щенсный [Феликс-Адам]), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Кабакі і Габрыэлін Пружанскага пав. і Матыкалы Брэсцкага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў у Каралеўстве Польскім. Яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 05.09.1863 і пастановы ГГП ад 28.09.1863 падлягала секвестру, а потым канфіскацыі *(296—1—25—108; 320—1—398—197адв.; 1416—6—281)*.

6054. **Ульяноўскі (Уляноўскі) Ігнат** (Ульяновский Игнатий), сын Марціна, дваранін Люцынскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК. На маёнтак яго бацькі ў Люцынскім пав. 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 29.03.1864 накладзены секвестр. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(296—1—25—105; 1416—3—21048—47; 1430—1—52163—98, 420адв.; 2532—1—8)*.

6055. **Ульяноўскі (Уляноўскі) Уладзіслаў** (Ульяновский (Уляновский) Владислав), муж Стэфаніі, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Шкілбаны (Шкельбаны) Люцынскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 21.02.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Пермскую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 накладаўся секвестр. 10.1864 жонка падала прашэнне аб дазволе жыць у яго секвестраваным маёнтку і прызначэнні ёй з сынам і маці часткі даходаў з яго на ўтрыманне, атрымала яго. Паводле загада М. Мураўёва ад 09.11.1864 секвестр з маёнтка здымаўся са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору *(296—1—25—110; 1416—3—21048—47; 1430—1—52163—400, 453адв., 617, 644-653, 691, 727)*.

**Уляноўскі Ігнат** — гл. **Ульяноўскі Ігнат**

**Уляноўскі Уладзіслаў** — гл. **Ульяноўскі Ігнат**

6056. **Умецкі Казімір** (Умецкий Казимир), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—74адв.-75)*.

6057. **Умецкі Фелікс** (Умецкий Феликс), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без вытворчасці следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. вызвалены з аддачай на парукі *(295—1—1643—234; 1418—3—1—74адв.-75)*.

6058. **Умінскі Антоні** (Уминский Антоний), сын Вінцэнта, дваранін Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Разам з іншымі жыхарамі вак. Суцін Ігуменскага пав. абвінавачаны ў «палітычнай нядобранадзейнасці». Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 10.05.1864, прызначаны да высылкі «адміністрацыйным парадкам» разам з братамі *Апалінарыем*, *Ігнатам* і Кліментам і сёстрамі Кацярынай, Францішкай і Юзэфай у Томскую губ. Верагодна, у гэты час не знаходзіўся на месцы жыхарства, а разам з *Татурам Гілярыем* зняволены ў г. Луцку Валынскай губ. і знаходзіўся пад следствам у Луцкай следчай камісіі. 17.04.1865 адпраўлены ў г. Мінск. Сумесная з братам *Ігнатам* зямельная маёмасць у вак. Суцін Ігуменскага пав. (107 дзес. 1300 саж.) секвестравана 08.1865, затым яна, на падставе ўказа ад 10.12.1865, падлягала абавязковаму продажу, а ў 1868 г. канфіскавана *(295—1—1643—234адв.; 295—1—2830—8адв.; 295—1—3492—68; 296—1—89—104-106; 296—1—177; 320—2—98—5адв., 71; 2532—1—15—13).*

6059. **Умінскі Апалінары** (Уминский Аполинарий), сын Вінцэнта, дваранін Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў «палітычнай нядобранадзейнасці». Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 10.05.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» разам з братамі *Антоніем*, *Ігнатам* і Кліментам і сёстрамі Кацярынай, Францішкай і Юзэфай у Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, але потым канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся ў Суцін, дзе ў 1876 г. хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную зямлю. 06.1882 жыў таксама ў Суціне *(295—1—2830—4; 295—1—3492—68, 91адв.; 296—1—89—104-106; 2532—1—15—13).*

6060. **Умінскі Ігнат** (Уминский Игнатий), сын Вінцэнта, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Абвінавачаны ў «палітычнай нядобранадзейнасці. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 10.05.1864 высланы ў Томскую губ. на пасяленне разам з маці Антанінай (народжанай Вернікоўскай), братамі *Апалінарыем*, *Антоніем* і Кліментам, жонкай Анеляй і дочкамі Камілай, Антанінай і Ізабэлай. Сумесная з братам *Антоніем* зямельная маёмасць у Суціне (107 дзес. 1300 саж.) секвестравана 08.1865., потым яна падлегла абавязковаму продажу, а ў 1868 г. была канфіскавана *(295—1—2420—4-4адв.; 320—2—98—6, 12, 15, 71, 118-123).*

6061. **Унгэбаўэр Аляксандр** (Унгебауер Александр), мешчанін г. Навагрудка, праваслаўны (?). Нар. каля 1843 г. На пачатку красавіка 1863 г. далучыўся да атрада *Міладоўскага Вітальда*, быў камандзірам часткі касінераў гэтага атрада, кіраваў павешаннем селяніна. Пасля рассеяння атрада ў сутычцы ля в. Ігнатава Навагрудскага пав. з'явіўся да рас. уладаў. Спачатку на судзе хаваў павешанне селяніна, але ў хуткім часе прызнаў яго. Пастановай ПВА, канфірмаванай М. Мураўёвым 13.12.1863, прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Расстраляны 08.01.1864 каля Навагрудка. МГП 31.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1556; 295—1—1643—233, 234адв.; 320—1—398—161, 174, 222).*

6062. **Ундаровіч Міхал** (Ундерович Михаил), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73).*

6063. **Урасневскі N.** (Вржесневский N.). Да паўстання служыў у рас. войску афіцэрам. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Сапер, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць прысуджана да канфіскацыі *(296—1—25—108адв.).*

**Урацкі Вацлаў** — гл. **Уроцкі Вацлаў**

**Урбан Кузьма** — гл. **Урбановіч Казімір**

6064. **Урбановіч Апалонія** (Урбанович Аппполония), дачка Вінцэнта, памешчыца Полацкага пав. Западозрана рас. уладамі ў «спачуванні злачынным дзеянням супраць урада». Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 03.08.1863, падлягала ссылцы ў Арэнбургскую губ. без пазбаўлення правоў. Потым з прычыны яе слабога здароўя рашэннем М. Мураўёва ад 27.09.1863 прызначана да ссылкі на жыхарства ў г. Арэнсбург Ліфляндскай губ. пад нагляд паліцыі. Знаходзілася пад следствам у ВСК, без заключэння 23.01.1864 падала яе справу віцебскаму губернатару. Яе справа вялася таксама ў ДСК. На яе маёмасць 19.03.1864 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 06.02.1864 накладзены секвестр *(1416—3—21048—47; 1430—1—31602—34; 1430—1—52163—406адв.; 1430—1—52285—5адв., 43адв.; 2626—1—305—11; 3046—2—3—89адв.-90; 3046—2—5—53).*

6065. **Урбановіч Вітальд** (Урбанович Витольд), сын Юльяна. Да паўстання з'яўляўся доктарам у м. Цытавяны Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

6066. **Урбановіч (Урбан) Казімір** (Урбанович (Урбан) Казимир (Кузьма)), сын Якуба (Яка-

ва). Служыў у рас. войску, з'яўляўся бамбардзірам лёгкай 8 батарэі 15 артылерыйскай брыгады, да паўстання знаходзіўся ў часовым адпачынку, жыў у м. Усялюб Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і вайсковых чыноў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(162—1—122—101адв.)*.

6067. **Урбановіч Стэфан** (Урбанович Стефан), сын Фелікса, брат *Францішка*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ВСК, якая да 15.10.1864 яшчэ не скончыла следства *(3046—2—3—89адв.-90; 1430—1—31560—1)*.

6068. **Урбановіч Францішак** (Урбанович Франц), сын Фелікса, брат *Стэфана*, дваранін Лепельскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*. Пакінуў яго да 01.05.1863, таму вернуты на месца жыхарства. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 31.10.1864 скончыла следства і падала справу віцебскаму губернатару. Падчас следства быў на волі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвалення ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасялення на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560; 3046—2—3—89адв.-90)*.

6069. **Урбановіч Эдвард** (Урбанович Эдуард), сын Іпаліта, дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(320—1—398—128адв.; 1416—3—21048—47; 1430—1—52163—417, 603адв.)*.

6070. **Урбановіч Эдвін** (Урбанович Эдвин), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. Высланы ў Наўгародскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—149адв.; 2532—1—15—5адв.)*.

6071. **Урбановіч Юльян** (Урбанович Юлиан), сын Якуба, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Шаквіцы Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—133; 1416—6—281; 1430—1—52163—600)*.

6072. **Урбановіч N.** (Урбанович N.). Да паўстання служыў «сельскім» засядальнікам Люцынскага павятовага суда. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—3—21048—47; 1430—1—52285—5, 42адв.)*.

6073. **Урбасевіч Антоні** (Урбасевич Антон), сын Людвіка, дваранін Мінскай ці Валынскай губ. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(295—1—1643—233адв.; 320—1—398—223, 401адв., 417; 320—2—98—47адв.)*.

6074. **Урняж Ігнат** (Урняж Игнатий). Да паўстання жыў у г. Расіенах з бацькам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6075. **Урняж Станіслаў** (Урняж Станислав), памешчык Расіенскага пав. Да паўстання служыў архіварыусам Расіенскага павятовага суда, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—5адв.)*.

6076. **Урняж Юзаф** (Урняж Иосиф), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў домам з зямлёй у г. Расіенах. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(534—1—14—5; 1416—6—281; 1430—1—52163—375)*.

6077. **Уроцкі (Урацкі) Вацлаў** (Вроцкий (Врацкий) Вацлав), сын Юзафа, дваранін Віцебскай (?) губ. Да паўстання служыў пісарам Новааляксандраўскага земскага суда, яго бацькі валодалі маёнткам Кандрацішкі. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.06.1863 і пастановы КГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на ваенную службу ў батальёны Амурска-

га краю рас. войска шарагоўцам. На месца ссылкі прыбыў *(295—1—1643—32; 319—1—479—6адв.; 320—1—398—133; 1416—3—21048—15адв.; 1416—4—11416—236-237; 1416—6—260; 1430—1—52163—398, 600).*

6078. **Урублеўская Караліна** (Врублевская Каролина). Нар. у Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74адв.).*

6079. **Урублеўскі Антоні** (Врублевский Антон), сын Эразма Дыянізіевіча (пам. 1867) і Канстанцыі Антоніеўны, брат Філамены (v. Пержаноўскай), Паўліны, *Канстанціна* і Марыі, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання адстаўны губернскі сакратар, жыў у г. Навагрудку. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага прысуджаны (да 22.05.1864) да пазбаўлення чыну і правоў стану, ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» і канфіскацыі маёмасці. На драўляны дом з агародам і пляцам у Навагрудку (ацэнены ў 421,67 руб.), які належаў яго бацьку, накладзена забарона, у 1870 г. ён канфіскаваны і ў 1872 г. канчаткова прыняты ў казну. У 1883 г. яго маці, якая жыла ў г. Седльцы, падала прашэнне аб выдачы часткі грошай за канфіскаваны дом *(162—1—116—112адв.; 295—1—1562—16; 295—1—1643—37адв.; 296—1—296—3-3адв.; 299—1—579—298-307; 299—2—8307; 320—1—398—2адв., 452адв.; 320—2—99—49; 1430—1—52163—205адв.).*

6080. **Урублеўскі [Валеры]** (Врублевский [Валерий]). Да паўстання служыў дырэктарам егерскага вучылішча ў г. Саколка, паручнік. Удзельнічаў у паўстанні, пасля яго месцазнаходжанне не было вядомае рас. уладам. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162).*

6081. **Урублеўскі Габрыэль** (Врублевский Гавриил), дваранін Оўруцкага пав. Валынскай губ. Падчас паўстання камандаваў атрадам, які сфарміраваўся 30.04.1863 каля г. Оўруча. Схоплены рас. войскамі. 05.07.1863 расстраляны ў г. Мазыры пры Віцебскім пяхотным палку *(296—1—19—270-270адв.; 296—1—25—88адв.; 320—1—398—198; 1430—1—52163—126адв.).*

6082. **Урублеўскі Ігнат** (Врублевский Игнатий), дваранін Віцебскай губ. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(319—1—479—7адв.; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—15адв.; 1430—1—52163—399а адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.).*

6083. **Урублеўскі Казімір** (Врублевский Казимир), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.06.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—15адв.-16).*

6084. **Урублеўскі Канстанцін** (Врублевский Константин), ксёндз. Да паўстання служыў у Ковенскай губ. За дачыненне да следчай справы па паўстанні «адміністрацыйным парадкам» высланы (каля 05.1864) у Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—201).*

6085. **Урублеўскі Канстанцін** (Врублевский Константин), сын Эразма Дыянізіевіча (пам. 1867) і Канстанцыі Антоніеўны, брат Філамены (v. Пержаноўскай), Паўліны, *Антонія* і Марыі, дваранін Навагрудскага пав. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, звольнены з 2 курса. На пачатку 1863 г. прыбыў у г. Навагрудак. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуджаны да ссылкі пад нагляд паліцыі ў г. Кунгур Пермскай губ. і канфіскацыі маёмасці. На драўляны дом з агародам і пляцам у Навагрудку (ацэнены ў 421,67 руб.), які належаў яго бацьку, накладзена забарона, у 1870 г. ён канфіскаваны і ў 1872 г. канчаткова прыняты ў казну. У 1883 г. яго маці, якая жыла ў г. Седльцы, падала прашэнне аб выдачы часткі грошай за канфіскаваны дом *(162—1—116—103, 166; 295—1—1643—30, 32адв., 39; 296—1—18—2адв.; 299—2—8307; 320—2—99—49).*

6086. **Урублеўскі Яўстах** (Врублевский Евстафий), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(296—1—25—103адв.; 319—1—479—6адв.).*

6087. **Уручынскі Ян** (Вручинский Иван), дваранін Віленскага пав. Да паўстання служыў пісарам Віленскай гарадской паліцыі. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—6; 320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

6088. **Уткевіч Нікадым** (Уткевич Никодим), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—2)*.

6089. **Ушкоўскі Казімір** (Ушковский Казимир), сын Юльяна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 30.01.1864 адасланы ў г. Мінск *(295—1—1643—234; 1418—3—1—74адв.-75)*.

6090. **Ушынская Юлія** (Ушинская Юлия), жонка *Войцеха*, памешчыца Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначана (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і саслана ў Пермскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—194адв.)*.

6091. **Ушынскі Войцех** (Ушинский Войтех), муж *Юліі*, памешчык Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—194адв.)*.

6092. **Уяздоўскі Францішак** (Уяздовский Франц), дваранін. Нар. у г. Плоцку Каралеўства Польскага. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(1430—1—52163—526адв.)*.

# Ф

6093. **Фаб'яновіч Ян** (Фабъянович Ян), сын Пятра, дваранін. Да паўстання арандаваў фальв. Бямонішкі Шавельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, арыштаваны і зняволены ў турме г. Шаўляў. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6094. **Фалевіч Караль** (Фалевич Карл), дваранін. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Да паўстання жыў у Дрысенскім пав., служыў аканомам у *Лапацінскага Ігната*. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання і пастаўцы паўстанцам рэчаў і харчавання. Арыштаваны і зняволены ў турэмным замку г. Дрысы, адкуль 10.1863 высланы ў г. Дынабург. Разам з *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гарадніком Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Цялевічам Альфонсам*, *Шчытам Уладзіславам* і іншымі знаходзіўся пад следствам у ДСК. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 аддадзены пад ПВС *(1416—2—12677—32-33адв.; 2601—1—2—348-349)*.

6095. **Фалькоўскі Адам** (Фальковский Адам), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Ішчална Лідскага пав. Падчас паўстання зачытаў у касцёле паўстанцкі маніфест. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129; 1416—6—274; 1430—1—52163—604)*.

6096. **Фалькоўскі Антоні** (Фальковский Антон), сын Барталамея, дваранін Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў агітацыі сялян уступіць у паўстанцкі атрад, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. ПВС прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1643—237; 296—1—25—109; 1430—1—52163—616; 1524—1—1—14адв.)*.

6097. **Фалькоўскі Лангін** (Фальковский Лонгин). Да паўстання служыў валасным пісарам. За намер далучыцца да паўстанцкага атрада сасланы ў 1864 г. на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вярнтанню ў яго валоданне *(295—1—1643—235; 2514—1—2198—70адв.)*.

6098. **Фалькоўскі Міхал** (Фальковский Михаил), сын Гераніма, дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1840 г. Да паўстання жыў у маёнтку Свіла Дзісенскага пав., якім валодаў яго бацька. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, пасля яго разбіцця ля в. Парэчча Барысаўскага пав. 16.05.1863 схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 18.05.1863 зняволены ў бальніцы ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр. Сасланы ў Пермскую губ. *(295—1—1527—107адв.; 295—1—1643—237; 1416—6—280; 1430—1—52163—149)*.

6099. **Фалькоўскі Рамуальд** (Фальковский Ромуальд). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК,

якая падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—5адв.).*

6100. **Фалькоўскі Рыгор** (Фальковский Григорий), сын Казіміра, каталік. Да паўстання служыў наглядчыкам астрога ў г. Горкі, калежскі сакратар. Западозраны рас. уладамі ў зборы грошай на карысць паўстання. У 1863 г. звольнены са службы. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.01.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Чарвінскага Раймунда.* У 1866 г. жыў ва ўласным невялікім маёнтку ў Сенненскім пав. *(2003—2—96—44адв., 55адв.; 3046—2—3—90адв.-91; 3046—2—5—55; 3257—2—2—36).*

6101. **Фалькоўскі Тэлясфор** (Фальковский Телесфор), сын Феліцыяна, дваранін Ігуменскага пав. За ўдзел у паўстанні і «валоданне фальшывымі пашпартамі» арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. 03.06.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 01.10.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—158; 295—1—1643—235адв.; 1418—3—1—77адв.-78).*

6102. **Фалькоўскі Цыпрыян** (Фальковский Киприян), сын Сымона, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны ў захоўванні зброі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 28.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 22.02.1864. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. У 1870-я гг. атрымаў частковую амністыю, вярнуўся са ссылкі і пасяліўся ў г. Варшаве. У 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Мінскую губ. *(295—1—3046; 296—1—90—15адв.-16; 299—1—579—298-307; 1418—3—1—77адв.-78; 1430—1—52163—206).*

6103. **Фалькоўскі Юзаф** (Фальковский Осип), дваранін Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29).*

6104. **Фалькоўскі Юзаф** (Фальковский Осип), сын Канстанціна, дваранін Пінскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 12.02.1864), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—52; 295—1—1696; 320—1—398—229).*

6105. **Фальская Стэфанія** (Фальская Стефания), дваранка Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначана (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Табольскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

6106. **Фальскі Вандалін** (Фальский Вандолин). Да паўстання служыў чыноўнікам Ковенскага прыказа грамадскай апекі, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795).*

6107. **Фамовіч Эразм** (Фомович Эразм), дваранін Падольскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70адв.).*

6108. **Фарыят Ёган** (Форият Иоган), прускі падданы з г. Бромберга (Быдгашча). Да паўстання жыў у памешчыка Раберці ў Віленскім пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—128адв.; 1430—1—52163—603адв.).*

6109. **Федаровіч Мельхіёр-Ян** (Федорович Мельхиор-Иван), сын Яна-Лукаша Антоніевіча, дваранін Барысаўскага пав. Хр. 04.03.1834. Да паўстання жыў у маёнтку Лугінавічы Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 20.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(162—1—116—67; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—514-517; 320—1—398—363, 365-369; 320—2—98—48; 2514—1—2198—70адв.; 3257—2—2—36).*

6110. **Федаровіч Тамаш** (Федорович Фома), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—235).*

6111. **Федаровіч N.** (Федорович N.). Да паўстання служыў спраўнікам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—55).*

6112. **Фенскі Аляксандр** (Фенский Александр), сын Тэадора, дваранін Рэчыцкага пав. Да паўстання вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 31.03.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—85; 295—*

*1—1698; 299—1—577—559-560адв.; 320—1—398—375; 320—2—98—48).*

6113. **Фёдараў Герасім** (Федоров Герасим). Да паўстання служыў малодшым кананірам батарэйнай № 1 батарэі 3 Зводнай брыгады. Западозраны ў прыняцці прысягі ў паўстанцкім атрадзе, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—36).*

**Фёдараў Захар** — гл. **Драздоўскі Захар**

6114. **Фёдараў**[156] **Міхаіл** (Федоров Михайла), сын Карпа, селянін. Да паўстання прыпісаны да Арэхаўскай сельскай грамады Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ў захоўванні чамадана з баявым рыштункам. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 05.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—103адв.-104; 3046—2—5—55).*

6115. **Філановіч Уладзіслаў** (Филонович Владислав), селянін Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля чаго з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 09.1863 вызвалены і вернуты на месца жыхарства з аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281).*

6116. **Філатаў**[157] **Лук'ян** (Филатов Лукьян). Да паўстання рэкрут. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Ігумене. Без следства 07.1864 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—77адв.-78).*

6117. **Філатаў**[158] **Міхей** (Филатов Михей), сын *Цітуса*, селянін Мсціслаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—36).*

6118. **Філатаў**[159] **Цітус** (Филатов Тит), бацька *Міхея*, селянін Мсціслаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—36).*

6119. **Філімановіч Адам** (Филимонович Адам). Да паўстання служыў пісарам у маёнтку Варняны Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі і пастаўках ім харчавання ў лес. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

6120. **Філімановіч Юзаф** (Филимонович Иосиф), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.).*

6121. **Філіповіч Адам** (Филипович Адам), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (каля 08.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—85; 1430—1—52163—540).*

6122. **Філіповіч Баляслаў** (Филипович Болеслав), сваяк *Свідэрскага Генрыка*, дваранін Panяvежскага пав., святар. Да паўстання служыў у Віленскім лятэрненскім кляштары. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў *(1430—1—52163—530).*

6123. **Філіповіч Вінцэнт** (Филипович Викентий), сын Яна, муж Алены Станіславаўны (шлюб у 1862 г.), мешчанін м. Лагішын Пінскага пав., каталік (?). Да паўстання жыў у маёнтку Аброва Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 29.02.1864 высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі ў Сібір. У 1864–1869 гг. жыў у с. Зносінскае Каінскай акругі Томскай губ. 11.09.1869 падаў прашэнне аб высылцы да яго з Пінскага пав. жонкі, якая жыла ў в. Равіны Кобрынскага пав. і выказала згоду. Пасля частковай амністыі пакінуў Сібір і 08.03.1871 прыбыў у г. Варшаву, дзе ўжо жыла жонка, якая была служанкай у памешчыка Радзевіча. У 1874 г. вярнуўся ў Пінскі пав. 12.1876 жыў у свайго брата ў в. Халажын Пінскага пав., дзе займаўся гаспадаркай *(295—1—3026—6; 295—1—3492—45, 56-57, 96; 299—2—7139; 320—1—398—2адв.).*

**Філіповіч Мацвей** — гл. **Міхярэвіч Мацвей**

6124. **Філіповіч Уладзіслаў** (Филипович Владислав), селянін Ігуменскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 07.1864 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—77адв.-78).*

6125. **Філіповіч Ян** (Филипович Иван), сын Сымона Алаізіевіча, дваранін Бабруйскага пав. Нар. у м. Поблін Бабруйскага пав. Да паўстання служыў аканомам у в. Коліч Ігуменскага пав. памешчыка Раўкевіча. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 07.1864 адасланы ў г. Мінск. Рашэннем ЧПА пры Яраслаўскім пяхотным палку ад 06.02.1864 ці канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.12.1863 прысуджаны да кан-

[156] Верагодна, гэта імя па бацьку.

[157] Тое ж.

[158] Тое ж.

[159] Тое ж.

фіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». На маёнтак бацькі пасля яго смерці (пам. да 12.11.1865) накладзена забарона. У 1871 г. знаходзіўся ў Енісейскай губ. *(295—1—1643—236адв.; 296—1—25—104; 296—1—90—16адв.-17; 320—1—398—229, 231; 320—2—98—48; 1418—3—1—77адв.-78; 2003—1—211—53-55).*

6126. **Філіповіч Ян** (Филипович Иван), сын Францішка, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Да паўстання жыў халасты з бацькам, які служыў аканомам у фальв. Харакова Лепельскага пав. *Валадковіча Юзафа.* 24.04.1863 выправіўся пехатой з Харакова ў маёнтак Гурэц (Гурцы) для пошукаў службы, але не дайшоў з прычыны прыпадку «падучай хваробы» і 28.04.1863 вярнуўся ў Харакова. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і 02.1864 трапіў пад следства. Падазрэнне не пацвердзілася, таму пакінуты на месцы жыхарства на паруках *(1430—1—31520).*

6127. **Філіповіч N.** (Филипович N.). Да паўстання валодаў часткай маёнтка Даленшчына Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць секвестравана і потым канфіскавана *(2001—3—23—3; 2003—1—445—15).*

6128. **Філіпчык Андрэй** (Филипчик Андрей), сын Філіпа, селянін. Да паўстання прыпісаны да Драгабыльскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы з радзімы *(295—1—1699; 295—1—2725—31).*

6129. **Філон Клімент** (Филон Климент), селянін. Нар. каля 1843. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія батальёны. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—236; 299—1—577—511-513; 320—1—398—20, 191).*

6130. **Філон (Філоніні, Хвілон) Якуб** (Филон (Филонини, Хвилон) Яков), сын Пятра, селянін, праваслаўны. Нар. каля 1843. Да паўстання жыў у в. Загор'е Навагрудскага пав. памешчыкаў Пуслоўскіх, прыпісаны да Сенненскай сельскай грамады. Падчас паўстання 05.04.1863 увайшоў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна.* Захоплены ў палон пасля бою 07.04.1863 ля м. Налібокі Ашмянскага пав.[160] Зняволены ў астрогу ў г. Навагрудку, дзе ўтрымліваўся яшчэ 07.09.1863. Знаходзіўся пад следствам у МСК. Суджаны пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у Сібірскія батальёны. Паводле распараджэння ЧВГМГ высланы ў Сібір. З г. Мінска накіраваны ў г. Маскву. МГП 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—10, 60; 295—1—1562—16адв.; 295—1—1585; 295—1—2420—11; 295—1—2725—10; 296—1—296—3; 299—1—577—511-513; 320—1—398—20, 191).*

6131. **Фільвінскі Меер** (Фильвинский Меер), сын Гіршы, брат *Юдэля*, яўрэй, купец 2 гільдыі. Нар. каля 1828 г. Да паўстання прыпісаны да м. Янава Ковенскага пав. Арыштаваны паводле ананімнага даносу за тое, што нібыта 15.02.1863 прадаў паўстанцам порах і ваенны рыштунак. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у КСК, якая не знайшла аніякіх доказаў гэтага. Аднак канфірмацыяй М. Мураўёва ад 14.10.1863 разам з братам прызначаны да ссылкі ў Гомельскі пав. на жыхарства пад нагляд паліцыі. 10.12.1863 высланы з г. Коўна ў г. Магілёў *(1416—6—281; 2001—1—898—49-55, 57-58).*

6132. **Фільвінскі Юдэль** (Фильвинский Юдель), сын Гіршы, брат *Меера*, яўрэй, купец 2 гільдыі. Нар. каля 1814 г. Да паўстання прыпісаны да м. Янава Ковенскага пав. Арыштаваны паводле ананімнага даносу за тое, што нібыта 15.02.1863 прадаў паўстанцам порах і ваенны рыштунак. Яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у КСК, якая не знайшла аніякіх доказаў гэтага. Аднак канфірмацыяй М. Мураўёва ад 14.10.1863 разам з братам прызначаны да ссылкі ў Гомельскі пав. на жыхарства пад нагляд паліцыі. 10.12.1863 высланы з г. Коўна ў г. Магілёў. 28.05.1864 знаходзіўся ў г. Гомеле і падаваў прашэнне аб пераглядзе справы *(1416—6—281; 2001—1—898—49-55, 57-58).*

6133. **Фішаль Рувель** (Фишель Рувель), яўрэй, мешчанін. Да паўстання прыпісаны да ў г. Шаўлі. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёма-

[160] У некаторых дакументах сустракаюцца звесткі, што захоплены ў палон пасля бою 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав., аднак гэтыя звесткі памылковыя.

сці і ссылкі ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 4 гады *(1430—1—52163—204адв.)*.

6134. **Флар'яновіч Браніслаў** (Флорианович Бронислав), сын Адама Дамінікавіча, дваранін Навагрудскага пав. Хр. 07.02.1844. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і ў 1863 г. аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 17.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці выдадзены 13.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1643—235, 236; 296—1—25—104; 299—1—577—511-513; 320—1—398—3, 180-184, 461; 320—2—98—48)*.

6135. **Флемінг (Флімент) Георг** (Флеминк (Флимент) Егор (Георгий)), сын Карла, іншаземец, пратэстант. Нар. каля 1844 г. Да паўстання вучыўся ў 7 класе Слуцкай гімназіі. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на 4 гады на заводах *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—106; 320—1—398—326-327адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—14адв.; 1525—1—2—6адв.-7)*.

6136. **Флюхт Якуб** (Флюхт Яков), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101; 1430—1—52163—154)*.

6137. **Фляркоўскі-Грыгаровіч Вітальд-Юльян** (Флерковский-Григорович Витольд-Юлиан), сын Пятра, дваранін (?) Віленскай губ. Нар. каля 1837–1838 гг. Вучыўся ў Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы. Да паўстання жыў у г. Вільні (брунет, сярэдняга росту). За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Арыштаваны пасля 01.01.1864 *(320—1—398—223адв.; 1527—1—4—12, 90-91; 2601—1—5—12, 21-22)*.

6138. **Фолькман Канстанцін** (Фолькман Константин), дваранін Ковенскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы з радзімы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

6139. **Фралоў**[161] **Фёдар** (Фролов Федор), селянін. Нар. каля 1811 г. Да паўстання служыў возніцам у *Ратомскіх Антонія* і *Балтазара*. 22.04.1863 арыштаваны разам з гаспадарамі, якія мелі зброю, таму западозраны ў намеры далучыцца да паўстання. На следстве сцвярджаў, што ехаў з памешчыкамі ў г. Віцебск па гаспадарчых справах. Доказаў для абвінавачання не было, таму выпушчаны на парукі. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. Яе пастановай ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

6140. **Франкоўскі Уладзіслаў** (Франковский Владислав), сын Міхала-Даната Дамінікавіча і Альжбеты Чаховіч, муж Кацярыны Гальяшаўны, дваранін Расіенскага ці Лепельскага пав., каталік. Нар. 21.11.1839, хр. 26.11.1839. Да паўстання жыў у *Шаўмана Аўгуста* ў маёнтку Нізгалава Лепельскага пав., яго маці валодала фальв. Павольсаў Расіенскага пав. 24.04.1863 разам з *Ш.А.* пакінуў месца жыхарства і ў маёнтку *Ясевіча Францішка* далучыўся да паўстанцаў. У Цытавянскім лесе Барысаўскага пав. увайшоў у атрад *Дмахоўскага Генрыка*. 29.04.1863 пакінуў паўстанцкі атрад і прыбыў у в. Земцін. Добраахвотна з'явіўся да ўладаў і сазнаўся ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, вызвалены і адпраўлены на месца жыхарства на парукі. 20(21?).01.1864 арыштаваны. Утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Віцебску, адтуль 02.1864 падаваў прашэнне на імя ВГГ. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 24.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 23.05.1864 аддадзены пад ваенны суд пры Віцебскім батальёне ўнутранай варты. Пастановай ВВСК ад 25.07.1864 прызначаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі. Рашэннем ЧПА ад 12.09.1864 за тое, што вярнуўся з паўстанцкага атрада да 01.05.1863, атрымаў дараванне і вернуты на месца жыхарства на парукі з усталяваннем нагляду паліцыі *(296—1—25—103адв.; 320—1—398—425-426; 1416—3—21048—48; 1430—1—52163—412; 1430—1—52321; 3046—2—3—90адв.-91)*.

6141. **Франскевіч Уладзіслаў** (Фронскевич (Франскевич) Владислав), дваранін Гродзенскай (?) губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 15.07.1863 і пастановы ГГП ад 04.08.1863, а потым канфіскацыі на падставе распараджэння

[161] Верагодна, гэта імя па бацьку.

гродзенскага губернатара ад 30.09.1863 і пастановы ГГП ад 22.12.1863 *(1416—6—212)*.

6142. **Францкевіч Казімір** (Францкевич Казимир), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.)*.

6143. **Францкевіч Канстанцін** (Францкевич Константин). Да паўстання служыў доктарам у Слуцкай гімназіі. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. У 1871 г. жыў у Пензенскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». У 1874 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 03.1880 жыў у г. Слуцку, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам *(295—1—3492—7, 91адв.; 1430—1—35146—93; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

6144. **Францкевіч Караль** (Францкевич Карл), сын Вінцэнта, дваранін Віленскага пав., каталік. Нар. каля 1832 г. Да паўстання жыў у г. Магілёве ў сталяра Руткоўскага. У канцы сакавіка ці пачатку красавіка 1863 г. пакінуў месца жыхарства, пасля чаго 3–4 тыдні жыў у кватэры валаснога праўлення ў м. Абчуга Сенненскага пав. 04.1863 Увайшоў у склад паўстанцкага атрада *Жаброўскага Канстанціна*. Пасля яго рассеяння вярнуўся ў Магілёў, дзе 11.06.1863 пасяліўся ў ювеліра Жураўлевіча. З 08.08.1863 у МагСК на яго заведзена следчая справа. 03.1864 арыштаваны рас. уладамі. 04.04.1864 МагСК, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і 10.08.1864 перадала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ., якім у сваю чаргу 12.08.1864 яна адпраўлена ў ЧПА. Падчас следства і суда ўтрымліваўся ў турме г. Магілёва, не прызнаваў сваёй віны, але супраць яго далі паказанні некалькі асоб, у тым ліку *Алендскі Антоні*. Пастановай ЧПА ад 25.08.1864, канфірмаванай 27.08.1864 А. Патапавым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 28.09.1864 адпраўлены з Магілёва на месца ссылкі *(1430—1—52163—530; 3256—2—45; 3257—1—14—10адв.-11; 3257—2—2—36; 3257—2—8—16)*.

6145. **Францкевіч Пётр** (Францкевич Петр), аднадворац Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 2 гады *(1430—1—52163—204)*.

6146. **Францкевіч (Францэвіч) Роберт** (Францкевич (Францевич) Роберт), Нар. у Віленскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне унтэр-афіцэра. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(295—1—1643—236адв.; 320—1—398—221адв.)*.

6147. **Францкевіч Юзаф** (Францкевич Иосиф), селянін Віцебскай (?) губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты на 4 гады. Магчыма, ідэнтычны з *Францэвічам Юзафам (1430—1—52163—398)*.

6148. **Францкевіч N.** (Францкевич N.). Да паўстання служыў люстратарам Ковенскай ПДМ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6149. **Французовіч Баляслаў** (Французович Болеслав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Хвалойны Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—204адв.)*.

**Францэвіч Роберт** — гл. **Францкевіч Роберт**

6150. **Францэвіч Францішак** (Францевич Франц), сын Яна Юзафавіча (пам. да 1862 ?), пляменнік Якуба і Казіміра, дваранін Віцебскага пав. Пасля смерці дзеда ў 1862 г. атрымаў у спадчыну разам з дзядзькамі 30 дзес. спадчыннай родавай зямлі ў маёнт. Камяжына Віцебскага пав. Да паўстання служыў падпаручнікам Віцебскага пяхотнага палка. Удзельнічаў у паўстанні ў Каралеўстве Польскім. Канфірмацыяй намесніка ў Каралеўстве Польскім Канстанціна Мікалаевіча ад 21.01.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і расстрэлу (без канфіскацыі маёмасці). Расстраляны *(1416—3—13427)*.

6151. **Францэвіч**[162] **Юзаф** (Францевич Иосиф), селянін Віленскай губ. Да паўстання служыў фельчарам у м. Асвея Дрысенскага пав. 04.1863 пакінуў Асвею і далучыўся да паўстанцаў. Магчыма, ідэнтычны з *Францкевічам Юзафам (1416—3—21048—48; 2601—1—2—157)*.

---

[162] Верагодна, гэта імя па бацьку.

6152. **Фурманскі Павел** (Фурманский Павел). Служыў унтэр-афіцэрам Серпухоўскага пяхотнага палка рас. войска. У 1863–1864 гг. з'яўляўся наглядчыкам у турме ў г. Навагрудку. 29.01.1864 падкуплены *Матусевічам Густавам* і *Парадзінскім Людвікам*, якіх адпусціў з турмы для сустрэчы са сваякамі першага. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у Навагрудскай следчай камісіі. Пастановай камісіі ваеннага суда, канфірмаванай М. Мураўёвым (да 05.04.1864), прысуджаны да ссылкі ў арыштанцкія роты на 3 гады *(1418—1—7)*.

6153. **Фуровіч Антоні** (Фурович Антон), сын Каятана, дваранін Навагрудскага пав. Да паўстання жыў у м. Новая Мыш Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.12.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці. Яго рухомасць, ацэненая ў 247,7 руб. секвеставана *(160—2—682—59; 295—1—1643—235адв.; 295—1—1699; 534—1—14—23; 320—1—398—3)*.

6154. **Фурс Фларыян** (Фурс Флориян), сын Даніэля Вінцэнтавіча, дваранін Навагрудскага ці Слуцкага пав. Хр. 11.12.1823. Да паўстання жыў у м. Крошын Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. 07.04.1863 захоплены ў палон у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1562—16; 295—1—1643—235адв.; 296—1—296—3; 320—1—398—2адв., 313, 316)*.

6155. **Фурсевіч N.** (Фурсевич N.), ксёндз. За ўдзел у паўстанні яго адзенне, бялізна і хатні рыштунак канфіскаваны і прададзены паводле ўказу ПДМ ад 06.04.1864 *(296—1—89—24)*.

6156. **Фэльдбэрг Станіслаў** (Фельдберг Станислав), сын Юстына Янавіча, дваранін Вілейскага пав., каталік. Нар. каля 1831 г. Да паўстання з'яўляўся хатнім настаўнікам у былога міравога пасярэдніка Барысаўскага пав. памешчыка Свіды ці Валодзькі. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Чыжыка Мельхіёра*, 20.04.1863 схоплены сялянамі. 09.1863 зняволены ў гарадской турме г. Мінска, адтуль падаваў прашэнне аб памілаванні. Аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым 08.03.1864, прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(162—1—116—88; 295—1—1643—235, 236; 295—1—1707; 296—1—19—179; 296—1—25—102адв.; 296—1—77; 296—1—90—3адв.-4; 320—1—398—317, 318; 320—2—98—48)*.

6157. **Фэльдман Мікалай** (Фельдман Николай), сын Казіміра, дваранін Ашмянскага пав. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Яго бацькі валодалі маёнткам Гарадзечна, Гародзькі і Гановічы Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў тым, что адправіў у паўстанцкі атрад свайго вазніцу Сакалоўскага. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 23.06.1863 і 27.06.1863 і пастаноў ВілГП ад 06.07.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—263; 1416—6—274)*.

**Фяньчук Ян** — гл. **Хвянчук Ян**

# Х

6158. **Хадакевіч Вінцэнт** (Ходакевич Викентий), дваранін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102адв.)*.

6159. **Хадакевіч Людвік** (Ходакевич Людвиг), дваранін Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—205адв.)*.

6160. **Хадакоўскі Ізыдар** (Ходаковский Сидор), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103адв.)*.

6161. **Хадакоўскі Цэзар** (Ходаковский Цезарий), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—104)*.

6162. **Хадакоўскі Юзаф** (Ходаковский Иосиф), дваранін. За «прамаўленне падбухторных словаў супраць Урада», канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі прысуджаны да ссылкі. У 1871 г. жыў у Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—127)*.

6163. **Хадакоўскі N.** (Ходаковский N.), памешчык Ваўкавыскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, пасля схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі. *(296—1—25—108; 1430—1—52163—162)*.

6164. **Хадаровіч Адольф** (Ходорович Адольф). Да паўстання вучыўся ў Інстытуце корпуса шляхоў зносінаў. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення пра-

воў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Сібірскія батальёны рас. войска *(1416—3—21048—49; 1430—1—52163—397; 3046—2—5—57).*

6165. **Хадаровіч Ігнат** (Ходорович Игнатий), пляменнік Зоф'і, дваранін Бельскага пав. Гродзенскай губ. альбо Бяльскага пав. Люблінскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» альбо паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 31.12.1863 сасланы на жыхарства ў Пензенскую губ. У 1866 г. яго цётка падала прашэнне аб дазволе яму вярнуцца на радзіму *(1430—1—52285—29; 1430—1—32897—8, 12).*

6166. **Хадаровіч Каспер** (Ходорович Каспер), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73).*

6167. **Хадаровіч Леанард** (Ходорович Леонард), сын Ігната Юзафавіча, дваранін Клімавіцкага пав., каталік. Нар. каля 1851 г. Да паўстання жыў у маёнтку Будачка Клімавіцкага пав., якім валодаў яго бацька. 22.04.1863 пакінуў месца жыхарства і прыбыў у маёнтак Ярошаўка Клімавіцкага пав., дзе ўвайшоў у склад невялікага атрада, які фарміраваў *Арцімовіч Міхал.* 23.04.1863 разам з атрадам з Ярошаўкі накіраваўся ў м. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. 24.04.1863 разам са *Шчубінскім Францішкам* схоплены сялянамі ля Гарбаткі. Пры гэтым быў узброены пісталетам і кінжалам. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 20.06.1863 накладзена забарона. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 01.03.1863 падала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Паводле канфірмацыі М. Крыжаноўскага ад 14.05.1863 і распараджэння камандуючага войскамі ў Магілёўскай губ. ад 31.05.1864 як «малагадовы» прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства на парукі бацькоў, з якіх «за неназіранне за сынам» належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. на карысць пацярпелых ад паўстання. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2003—1—211; 2514—1—2198—70адв.; 3256—2—14; 3257—2—2—37; 3366—1—5—10адв.).*

6168. **Хадаровіч Міхал** (Ходорович Михаил), сын Станіслава, памешчык. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.; 3366—1—5—10адв.).*

6169. **Хадаровіч Оттан** (Ходорович Оттон), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. На следстве сцвярджаў, што *Арцімовіч Міхал*, выкарыстоўваючы нават пагрозы, намагаўся прыцягнуць яго ў атрад, аднак ён не згадзіўся. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.; 3256—2—14—23; 3366—1—5—12).*

6170. **Хадаровіч Юзэфа** (Ходорович Юзефа), памешчыца Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання выслана ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5адв.).*

6171. **Хадароўскі Юзаф** (Ходоровский Иосиф). Нар. каля 1844 г. 12.10.1864 як «палітычны арыштант» разам са *Слежаноўскім Юзафам* уцёк з-пад арышту з г. Магілёва. Яго апісанне ў гэты час: сярэдняга росту, валасы чорныя, твар круглы і смуглы *(2586—1—22—26).*

6172. **Хадасевіч Каятан** (Ходасевич Каетан), сын Антонія, незацверджаны дваранін Мазырскага пав. Да паўстання служыў памочнікам землямера. Западозраны ў «веданні, што адбывалася ў Галіцкага[163]», і 08.02.1864 арыштаваны. 6 месяцаў утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Мазыры без зняцця паказанняў. 06.08.1864 адасланы ў МСК. У г. Мінску праз 3 месяцы ў яго ўзяты першыя паказанні. 29.06.1865 пастановай камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі вызвалены, але з умовай аддачы на парукі каму-небудзь з жыхароў Мінска. Ніхто не згадзіўся ўзяць яго, таму пакінуты ў зняволенні. Паводле заключэння ЧПА ад 15.01.1866 як «нічым не выкрыты ў суўдзеле ў мяцяжы» вяртаўся на ранейшае месца жыхарства з аддачай на парукі і пад нагляд паліцыі *(296—1—29а—766-766 адв., 770, 772-846; 299—2—6399—25-26; 299—2—6400—23адв.-24).*

6173. **Хадасоўская Каміла** (Ходосовская Камилия), дачка Вінцэнта, дваранка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яе справу *(3257—2—8—17).*

---

[163] Маецца на ўвазе *Галіцкі Нікадым.*

6174. **Хадвена Тэадор** (Ходвена Федор), дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.)*.

6175. **Хадзынскі (Хадзінскі, Хандзынскі) Іпаліт** (Ходзынский (Ходзинский, Хондзынский) Иполит), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Яго бацька, былы настаўнік гімназіі ў г. Шаўлях, жыў у г. Вільні. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 14.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 24.06.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(320—1—398—221; 1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16; 1416—6—280; 1430—1—52163—128; 1430—1—52758—43)*.

6176. **Хадкевіч Юзаф** (Ходкевич Иосиф), сын Юзафа, памешчык Чэрыкаўскага і Мсціслаўскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве, валодаў часткай маёнтка Усполле Чэрыкаўскага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 13.08.1863 накладзена забарона *(1430—1—52163—196; 2003—1—372—174-177; 2003—1—211—70-71адв.; 2003—1—445—15; 2003—1—489—62; 2532—1—15—9адв., 10)*.

6177. **Хадкевіч Ян** (Ходкевич Ян), ксёндз. Да паўстання служыў у Сакольскім пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102адв.)*.

6178. **Хадыка Тэадор** (Ходыко Федор). Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—14)*.

6179. **Хадынецкі Павел** (Ходынецкий Павел), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224адв.)*.

6180. **Хажэўскі Канстанцін** (Хожевский Константин), аднадворац Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

6181. **Хаймовіч Піхіус** (Хаймович Пихиус), яўрэй Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224)*.

6182. **Хайноўскі Вінцэнт** (Хайновский Викентий), памешчык Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12адв.; 2532—1—15—8)*.

6183. **Хайноўскі Казімір** (Хайновский Казимир), шляхціц. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(1430—1—52163—526адв.)*.

6184. **Хаінскі Аляксандр** (Хоинский Александр), дваранін Радамскай губ. Да паўстання жыў у Віцебскай губ. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў турме г. Віцебска. Падазрэнне не пацвердзілася, аднак, як не меў сталага месца працы і ўласных сродкаў, рашэннем М. Мураўёва прызначаны (да 08.03.1864) да вяртання на радзіму ў Каралеўства Польскае. 12.03.1864 высланы праз г. Дынабург на месца прызначэння *(1416—4—11365)*.

6185. **Халева Мадэста** (Холево Модеста), дачка Яна, цешча *Уладзіслава* і *Станіслава*, дваранка Барысаўскага пав. Абвінавачана рас. уладамі ў веданні пра змову для забойства 19.09.1863 А. Ляцкага, арыштавана. Зняволена ў гарадской турме ў г. Мінску (загад ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 01.02.1864). Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.08.1864 прысуджана да ссылкі пад нагляд паліцыі ў Аланецкую губ. Яе маёмасць пакідалася пад секвестрам. Пазней атрымала дазвол адправіцца ў ссылку з адным з зяцёў (*Станіславам* ці *Уладзіславам*). Пасля амністыі 1871 года разам з сынам прыбыла ў г. Варшаву і ў 1872 г. запісана ў склад яе сталых жыхароў *(162—1—116—141, 166; 296—1—90—14адв.-15; 319—2—3425—260-266адв. і інш.; 1430—1—52163—540адв.)*.

6186. **Халева Станіслаў** (Холево Станіслав), сын Тадэвуша, брат *Уладзіслава*, зяць *Мадэсты*, дваранін Барысаўскага пав. Абвінавачаны рас. уладамі ў веданні пра змову для забойства А. Ляцкага, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску (загад ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 01.02.1864). Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.08.1864 прысуджаны да ссылкі пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ. без пазбаўлення правоў стану; яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(162—1—116—157; 295—*

*1—2212; 296—1—90—14адв.-15; 319—2—3425—245-255; 1430—1—52163—540адв.).*

6187. **Халева Тамаш** (Холево Фома), сын Антонія-Андрэя Антоніевіча (нар. 1801) і Караліны, брат *Тэлясфора*, бацька Юзафа (хр. 31.03.1862), памешчык Мінскага пав., каталік. Хр. 07.03.1844. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Табольскую губ. Участак зямлі ў 21 дзес. ва ўроч. Халяўшчына Мінскага пав., якім валодаў на правах суспадчынніка, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 30.07.1863, яго частка канфіскавана паводле распараджэння МГГ ад 30.03.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1643—240, 241; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—511-513; 319—2—3425—243-244 і інш; 320—1—398—621-622; 320—2—98—49; 534—1—14—89; 1418—3—1—79адв.-80).*

6188. **Халева Тэлясфор** (Холево Телесфор), сын Антонія, брат *Тамаша*, дваранін Мінскага пав. Нар. каля 1841 г. Да паўстання з'яўляўся шаўцом. Удзельнічаў у паўстанні, у тым ліку ў забойстве 19.09.1863 А. Ляцкага. Хаваўся ад рас. уладаў, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 18.03.1865 прысуджаны да смяротнага пакарання. 27.03.1865 павешаны ў м. Бараўляны Мінскага пав. Надзел зямлі ў 21 дзес. ва ўроч. Халяўшчына Мінскага пав., якім валодаў на правах суспадчынніка, секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 20.07.1863, частка, якая належала яму, канфіскавана паводле распараджэння МГП ад 28.10.1865 *(160—2—682—242; 295—1—1643—239; 296—1—89—7адв., 67адв.; 320—1—398—621; 534—1—14—89; 1527—1—4—78; 1781—32—141—13).*

6189. **Халева Уладзіслаў** (Холево Владислав), сын Тадэвуша, брат *Станіслава*, зяць *Мадэсты*, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання жыў у засц. Таўтунова Барысаўскага пав. Абвінавачаны рас. уладамі ў веданні пра змову для забойства 19.09.1863 А. Ляцкага, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 01.02.1864. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.08.1864 прысуджаны да ссылкі на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ. без пазбаўлення правоў стану, яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(162—1—116—141, 157, 166; 295—1—1643—239; 295—1—2212; 296—1—90—14адв.-15; 319—2—3425—245-255; 1430—1—52163—540адв.).*

6190. **Халева Феліцыян** (Холево Фелициан), сын Тадэвуша, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да забойства 19.09.1863 А. Ляцкага, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 01.02.1864 *(296—1—90—14адв.-15).*

6191. **Халмоўскі Антоні** (Хелмовский Антон), дваранін. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—238адв.).*

6192. **Халхоўскі Ігнат** (Хелховский Игнатий), памешчык Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.).*

6193. **Хамінская Зоф'я** (Хоминская София), памешчыца Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні, прызначана (каля 06.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. разам з мужам. Калі б не пажадала адправіцца з ім, прызначалася да ссылкі ў Казанскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237; 2616—1—40—58).*

6194. **Хамінскі Аляксандр** (Хоминский Александр), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў «частаванні 5 мяцежнікаў у сваім доме». Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 05.09.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства быў на волі *(3257—1—17—5адв.-6; 3257—2—8—17).*

6195. **Хамінскі Станіслаў** (Хоминский Станислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Сточкі Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(320—1—398—575; 1430—1—52163—242).*

6196. **Хамінскі Уладзіслаў** (Хоминский Владислав), дваранін Сенненскага пав. Нар. каля 1845 г. Да паўстання жыў у маёнтку Лісічын Сенненскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. На яго маёмасць накладаўся секвестр. У 1863 г. прысуджаны да ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(162—1—116—166; 295—1—1527—100адв.; 295—1—1643—240адв.).*

6197. **Хаміцкі Антон** (Хомицкий Антон), сын Юзафа, бацька *Юзафа*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гарадзішчанскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання разам з сынам высланы з радзімы *(295—1—2725—30адв.).*

6198. **Хаміцкі Юзаф** (Хомицкий Иосиф), сын *Антона*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Гарадзішчанскай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання разам з бацькам высланы з радзімы *(295—1—2725—30адв.)*.

6199. **Хамковіч Юзаф** (Хамкович Иосиф). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.)*.

6200. **Хамкоўскі Эдвард** (Хамковский Эдуард), дваранін. За сувязі з паўстанцамі ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—239)*.

6201. **Хампкоўскі (Хамкоўскі) Юзаф** (Хампковский (Хамковский) Иосиф (Осип)). Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК *(3257—2—2—37; 3366—1—5—14)*.

6202. **Хамянтоўскі Лявон** (Хоментовский Леон), вольны хлебароб Мінскай губ. Да паўстання жыў с. Скорыцы Ліцінскага пав. Падольскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, трапіў у палон. Паводле канфірмацыі генерал-губернатара кіеўскага, падольскага і валынскага сасланы ў арыштанцкія роты на 5 гадоў *(162—1—116—177)*.

**Хандзынскі Іпаліт** — гл. **Хадзынскі Іпаліт**

6203. **Ханецкі Адам** (Ханецкий Адам), дваранін. За «неданясенне Начальству пра хаванне мяцежнікаў» у 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—238адв.)*.

6204. **Харленка (Харнёнак) Мікіта** (Харленко (Харненок) Никита), сын Парфёна, селянін Барысаўскага пав. Нар. каля 1843 г. Да паўстання жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены і высланы ў г. Барысаў. 09.05.1863 зняволены ў барысаўскай бальніцы, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 07.05.1864 прысуджаны, сярод іншага», да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—118; 295—1—1527—107адв.; 295—1—1643—238; 295—1—2725—20)*.

**Харнёнак Мікіта** — гл. **Харленка Мікіта**

6205. **Хароўскі Адам** (Хоровский Адам), сын Юстына, аднадворац Мінскай губ. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.07.1863 і 19.07.1863 перадала яго справу ў МагСК. Быў пад судом у МагВСК. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.; 3257—2—2—37; 3366—1—5—10адв., 14)*.

6206. **Харошча Зянон** (Хороща Зенон), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 04.12.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—17)*.

6207. **Харошча (Хорашч) Юзаф** (Хорощо (Хорощ) Иосиф), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Завольша Аршанскага пав., а таксама Ульянавічы Сенненскага пав., якім валодаў на правах суспадчынніка. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць секвестравана, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—195адв.; 2003—1—445—14адв.; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—10)*.

6208. **Харошча Ян** (Хорощо Иван), памешчык Аршанскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.)*.

6209. **Харэвіч Вацлаў-Эвард** (Хоревич Вацлав-Эдуард), сын Ільдэфонса Валяр'янавіча, дваранін Ігуменскага пав. Уваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны. Канфірмацыяй прысуджаны (да 29.06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Яго дом у г. Мінску секвестраваны паводле распараджэння М. Мураўёва ад 04.03.1864. На маёнтак яго бацькоў Агнетава Ігуменскага пав. накладзена забарона *(162—1—116—57; 295—1—1643—241адв.; 299—1—577—621-626; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462адв., 470, 531-532; 320—2—98—49; 534—1—14—5адв., 8; 1430—1—52163—375адв.)*.

6210. **Харэвіч Ільдэфонс** (Хоревич Ильдефонс), памешчык Ігуменскага пав. Западозраны ў «садзейнічанні польскай арганізіцыі», арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 10.04.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены з-пад арышту *(295—1—1643—241; 1418—3—1—79адв.-80)*.

6211. **Харэвіч Уладзіслаў** (Харевич Владислав), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73)*.

6212. **Харэвіч Фартунат** (Хоревич Фортунат), дваранін Віленскай губ. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. За дачыненне да спраў па паўстанні

прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Архангельскую губ. На яго маёмасць 27.05.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 29.03.1864 накладаўся секвестр. У 1871 г. жыў у Архангельскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—49; 1430—1—31583—93; 1430—1—35146—69; 1430—1—52163—401адв., 616адв.)*.

6213. **Харэвіч Эдвард** (Хоревич Эдуард), сын Вінцэнта, дваранін Барысаўскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, удзельнічаў у забойстве 19.09.1863 А. Ляцкага. Схоплены рас. войскамі. Рашэннем ЧПА, канфірмаваным М. Мураўёвым 03.11.1864, прысуджаны да расстрэлу, а яго маёмасць — да канфіскацыі. Расстраляны 03.11.1864 а 12-й гадзіне дня ў м. Лагойск Барысаўскага пав. *(160—2—682—27; 162—1—122—5; 534—1—14—13)*.

6214. **Хаткевіч Эдвард** (Хаткевич Эдуард), дваранін. За ўдзел у паўстанні і хаванне па фальшывых дакументах у 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—238адв.)*.

6215. **Хацяновіч Мацей** (Хоцянович Матвей), сын Тадэвуша, дваранін Барысаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў веданні пра змову для забойства А. Ляцкага, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 01.02.1864. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 27.08.1864 прысуджаны да ссылкі ў Пермскую губ. пад нагляд паліцыі, яго маёмасць пакідалася пад секвестрам *(162—1—116—141, 157, 166; 296—1—90—14адв.-15; 1430—1—52163—540адв.)*.

6216. **Хачкоўскі Алаізі** (Хачковский Олоизий), дваранін. За сувязі з паўстанцамі ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—239)*.

6217. **Хашковіч Язафат** (Хашкович Иосафат), дваранін. Да паўстання жыў у г. Магілёве. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—182адв.)*.

6218. **Хвалчыноўскі N.** (Хвалчыновский N.). Да паўстання служыў сельскім пісарам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—57)*.

6219. **Хвароўскі Антоні** (Хворовский Антон), памешчык Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—7)*.

**Хвілон Якуб** — гл. **Філон Якуб**

6220. **Хвянчук (Фяньчук) Ян** (Хвенчук (Феньчук) Иван), мешчанін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. Зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—11; 296—1—19—281)*.

6221. **Хвяцкоўскі Юзаф** (Хвецковский Иосиф). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у Віленскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546)*.

6222. **Хлюдзінскі Аўрэліян** (Хлюдзинский Аврелиан), сын памешчыка Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—3адв.)*.

6223. **Хлявінскі Ігнат** (Хлевинский Игнатий), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Тамбоўскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—6)*.

6224. **Хлявінскі Уладзіслаў** (Хлевинский Владислав), памешчык Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20; 1416—4—11416—313; 1430—1—52163—795)*.

6225. **Хлявінскі Цімафей** (Хлевинский Тимофей), аднадворац Мінскага пав. Да паўстання жыў у г. Жытоміры Валынскай губ. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй генерал-губернатара кіеўскага, падольскага і валынскага прысуджаны (да 26.05.1864), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—112; 320—1—398—452)*.

6226. **Хлявінскі Ян** (Хлевинский Иван), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Падгай Ковенскага пав., у яго служыў *Грынцэвіч Станіслаў*. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131; 1416—6—207; 1430—1—52163—598)*.

6227. **Хмара Адам** (Хамара Адам). Служыў у Камандзе нядзольных пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску, да паўстання знаходзіўся ў адпачынку. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 12 гадоў *(162—1—122—101; 295—1—1643—238, 240)*.

6228. **Хмаровіч (Хмуровіч, Хмыровіч) Тамаш** (Хморович (Хмурович, Хмырович) Фома), сын Францішка, дваранін Віленскай губ. ці Аршанскага пав. Да паўстання валодаў фальв. Слепцы Сенненскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў фарміраванні ў Слепцах *Самуйлам Каралем* паўстанцкага атрада. Арыштаваны (да 07.06.1863) і зняволены ў турме ў г. Сянно. Знаходзіўся пад следствам у СенСК, а потым у АСК. Апісана і секвестравана яго маёмасць у Слепцах, а таксама 46 руб. ср., знойдзеныя ў яго пры арышце. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—4—11416—85; 1430—1—52163—540; 2003—1—384; 2514—1—2198—70адв.; 3255—1—12—2, 3адв.-4; 3257—2—2—37)*.

**Хмуровіч Тамаш** — гл. **Хмаровіч Тамаш**

**Хмыровіч Тамаш** — гл. **Хмаровіч Тамаш**

6229. **Хмялеўскі Аляксандр** (Хмелевский Александр), бацька *Конрада*. Да паўстання служыў старшынёй Ковенскай грамадзянскай палаты, стацкі радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Арэнбург, але потым вернуты і зняволены ў турэмным замку ў г. Коўне *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

6230. **Хмялеўскі Конрад** (Хмелевский Кондрат), сын *Аляксандра*. Да паўстання служыў лекарам у г. Коўне. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ., адтуль пераведзены ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15)*.

6231. **Хмялеўскі Ксаверы** (Хмелевский Ксаверий), сын Міхала, муж Францішкі, аднадворац Ашмянскага пав., каталік. Нар. каля 1827 г. 05.1863 прывёз жонку ў м. Новая Мыш Навагрудскага пав. да ксяндза Рагулевіча, пасля чаго адправіўся ў Пінскі пав. Па дарозе далучыўся да паўстанцкага атрада, у складзе якога знаходзіўся да 20.11.1863. Пасля рассеяння атрада з'явіўся да рас. уладаў у м. Сталовічы Навагрудскага пав., адпраўлены ў г. Навагрудак. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у Навагрудскай следчай камісіі. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» канфірмацыяй В. Забалоцкага ад 13.03.1864 прысуджаны да высылкі ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. У 1864 г. высланы, жонка выправілася з ім *(295—1—1643—241адв.; 295—1—1708)*.

6232. **Хмялеўскі Уладзіслаў** (Хмелевский Владислав). Да паўстання жыў у маёнтку Кудрачцы Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

6233. **Хмялеўскі Францішак** (Хмелевский Франц). Служыў пісьмаводам Пружанскай кватэрнай камісіі, калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

6234. **Хмялеўскі Юзаф** (Хмелевский Иосиф), шляхціц Лідскага пав. Да паўстання служыў лесніком у мызе (маёнтку) Лябёдка Лідскага пав. *Дамброўскага Станіслава*. 09.06.1863 пакінуў Лябёдку, забраўшы з сабой каня, і далучыўся да паўстанцаў. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102; 1416—6—274)*.

6235. **Хмялеўскі N.** (Хмелевский N.), памешчык Троцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—210)*.

6236. **Ходзька Вітальд** (Ходзько Витольд), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.)*.

6237. **Ходзька Цібурт** (Ходзька Тибурций). Паходзіў са Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

6238. **Хоміч Людвік** (Хомич Людвиг), сын Вінцэнта, незацверджаны дваранін Навагрудскага пав., каталік. Хр. 11.10.1820. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Чмялевічы Барысаўскага пав. *Светляка Ксаверыя*. Падчас паўстання агітаваў сялян Чмялевічаў далучацца да выступлення, за што

23.04.1863 на падставе загаду мінскага губернатара ад 17.04.1863 арыштаваны і зняволены ў г. Барысаве. Потым пераведзены ў г. Мінск. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая 12.06.1863 падала сваё заключэнне на зацверджанне. У 1863 г. аддадзены пад ПВС пры Алексапольскім рэзервовым пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 19.09.1863 прызнаны вінаватым у «намаўленні сялян да ўдзелу ў паўстанні супраць ураду і бунту супраць вярхоўнай улады» і прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў. 01.10.1863 адпраўлены на месца ссылкі *(295—1—1632; 295—1—1643—238, 239адв.; 320—1—398—124адв., 271, 424; 320—2—98—49; 1430—1—52163—596б адв.).*

6239. **Хоміч Юзаф** (Хомич Иосиф). Служыў неад'емным сябрам Гродзенскай губернскай будаўнічай дарожнай камісіі, надворны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.).*

6240. **Хомскі Адольф** (Хомский Адольф). Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.).*

6241. **Хомскі Альфонс** (Хомский Альфонс), дваранін Віленскага пав. Падчас паўстання абвінавачаны рас. уладамі ў «бадзяжніцтве без пісьмовага дакумента, у патаемным выездзе ўночы невядома куды разам з іншымі трыма чалавекамі ў шайцы» і арыштаваны. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102; 1416—6—274; 1416—6—280).*

6242. **Хомскі Леан** (Хомский Леон), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда (каля 07.1864) прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—521).*

**Хорашч Юзаф** — гл. **Харошча Юзаф**

6243. **Хорка Вінцэнт** (Хорко Викентий), сын Юзафа, селянін. Да паўстання прыпісаны да Навасёлкаўскай сельскай грамады Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны ў 1863 г. Высланы з радзімы *(295—1—2725—17).*

6244. **Храноўскі Канстанцін** (Хржановский Константин). Да паўстання служыў вольнапрактыкуючым доктарам у Віленскай губ. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

6245. **Храноўскі N.** (Хржановский N.), ксёндз. За «палітычнае злачынства» пазбаўлены духоўнага сану і сасланы на жыхарства ў Томскую губ. 03.06.1863 праходзіў праз г. Полацк, дзе атрымаў ад *Баршчэўскага Аўгустына* чамадан з 5 святарскімі расамі *(1416—4—11416—185-212).*

6246. **Хранстоўскі Браніслаў** (Хржонстовский Бронислав), дваранін. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Батокі Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

6247. **Хранстоўскі Вільгельм** (Хржонстовский Вильгельм), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—5).*

6248. **Хранстоўскі Станіслаў** (Хржонстовский Станислав), дваранін. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Пашашувы Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

6249. **Храпавіцкі Аркадзь** (Храповицкий Аркадий), граф, памешчык Дзісенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—3—21048—49; 1416—4—11416—20; 1430—1—52163—199; 2532—1—15—12; 3046—2—5—57).*

6250. **Храпавіцкі Міхал** (Храповицкий Михаил), граф, памешчык Дзісенскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў ста-

ну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—204адв.; 3046—2—5—57).*

**Хрусцевіч Францішак** — гл. **Хрушчэвіч Францішак**

6251. **Хрусціцкі Здзіслаў** (Хрустицкий Здислав), сын віленскага аптэкара. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.).*

6252. **Хруцкі Адольф** (Хруцкий Адольф). Служыў на грамадзянскай службе; губернскі сакратар. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. У 1863 г. вызвалены з аддачай на парукі *(295—1—1643—238, 240).*

6253. **Хруцкі Леан** (Хруцкий Леон), дваранін Дрысенскага пав. Да паўстання служыў пісьмаводам Мінскай губернскай чарцёжнай. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.07.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 6 гадоў. МГП 09.09.1863 выдала ўказ аб секвестры яго маёмасці, 24.09.1863 і 16.01.1864 — указы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 295—1—1643—239адв.; 320—1—398—2, 8, 134адв.; 320—2—98—49; 1416—3—21048—49; 1416—6—240; 1430—1—52163—392адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.).*

6254. **Хруцкі Серафім** (Хруцкий Серафим), дваранін Віцебскай ці Магілёўскай губ. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105; 1416—3—21048—49; 1430—1—52163—401адв.; 3257—2—2—37).*

6255. **Хруцкі Станіслаў** (Хруцкий Станислав), сын Антонія, дваранін Магілёўскай губ. Нар. каля 1843 г. Да паўстання служыў у канцылярыі віленскага павятовага маршалка, калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Суджаны пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў ваенную службу ў батальёнах Амурскай вобл. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—240; 299—1—577—511-513; 320—1—398—9, 20, 127, 191, 460; 1430—1—52163—597; 2616—1—40—14).*

6256. **Хруцкі Яўціх (Яўстах)** (Хруцкий Евтихей (Евстафий)), селянін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—37, 43).*

6257. **Хрушчэвіч (Хрусцевіч) Францішак** (Хрущевич (Хрусцевич) Франц), сын Антонія, дваранін Валынскай ці Віленскай губ., каталік. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка.* Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70адв.; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—7).*

6258. **Хршчановіч (Хрызановіч) Севярын-Людвік** (Хрщанович (Хризанович) Северин-Людвиг), сын Яна, дваранін Віленскай губ. Да паўстання быў музыкам Віленскага тэатра. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—124адв., 243, 423адв.; 320—2—98—49; 1430—1—52163—596б адв.).*

**Хрызановіч Севярын-Людвік** — гл. **Хршчановіч Севярын-Людвік**

6259. **Хрыпач Антон** (Хрипач Антон), сын Сяргея і Параскевы, селянін Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання паводле распараджэння М. Мураўёва высланы з радзімы. У 1875 г. знаходзіўся на пасяленні ў Табольскай губ. у якасці «палітычнага ссыльнага». Яго маці падала прашэнне аб дазволе яму вярнуцца на радзіму, якое было задаволена (?) *(295—1—3022—27-30).*

6260. **Хрыстоўскі Міхал** (Христовский Михаил), шляхціц Троцкага пав. Да паўстання валодаў надзелам зямлі ў в. Сейбуты Троцкага пав. Увахадзіў у склад атрада, камандзірам варты ў якім быў *Кучэўскі N.* і які пасля быў разбіты ля в. Буда. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(320—1—398—574; 1416—6—274; 1430—1—52163—241; 2616—1—40—61).*

6261. **Хрысцыніч Яраслаў** (Хрисцынич Ярослав). За садзейнічанне паўстанцам і неданясенне пра месца іх знаходжання ў 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—238адв.).*

6262. **Хэйфіц Абель** (Хейфиц Абель), сын Хаіма, яўрэй. Нар. каля 1825 г. З'яўляўся сынам купца заштатнага г. Бабінавічы Аршанскага пав.

Да паўстання купіў у жонкі *Міткевіча Здзіслава* быдла і меў намер вывезці яго з маёнтка. Падчас паўстання абвінавачаны ў веданні пра намер *М. З.* удзельнічаць у паўстанні і спробе перавезці харчаванне ў паўстанцкі атрад, арыштаваны. Зняволены ў г. Смаленску. Знаходзіўся пад судом у СмВСК. На следстве і судзе абвінавачанні не пацвердзіліся. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1863 прызнаны невінаватым і прызначаны да вызвалення з вяртаннем на месца жыхарства на паруке грамадзе. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31588—15-22адв.; 2514—1—2198—70адв.).*

# Ц

6263. **Цавінскі Генрык** (Цевинский Генрих). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання ўваходзіў у склад Бібліятэкі ашмянскай моладзі. Западозраны ў «нядобранадзейнасці», таму атрымаў забарону паступаць на службу на радзіме *(162—1—122—41).*

6264. **Цадронскі (Цадроўскі) Генрык** (Цедронский (Цедровский) Михаил), памешчык. Да паўстання разам з пяццю сёстрамі і братам валодаў маёнткам Рыбчаны і засц. Цадроўшчына Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—6—280; 2532—1—15—11адв.).*

6265. **Цадронскі (Цадроўскі) Міхал** (Цедронский (Цедровский) Михаил), сын Яна, дваранін Лідскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. Узначаліў паўстанцкі атрад колькасцю каля 100 чал. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.; 1416—6—274).*

6266. **Цадроўскі Фларыян** (Цедровский Флориан), шляхціц Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.).*

**Цалькевіч Габрыэль** — гл. **Цялкевіч Габрыэль**

6267. **Цахоўскі Уладзімір** (Цеховский Владимир), дваранін Ковенскай губ. Да паўстання вучань ковенскага павятовага лекара. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(534—1—14—5; 1430—1—52163—375).*

6268. **Цвірка Аляксандр** (Цвирко Александр), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Падчас паўстання арыштаваны за «прамаўленне словаў, якія маюць палітычнае значэнне». Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 12.06.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(295—1—1643—245адв.; 1418—3—1—81адв.-82).*

6269. **Цвірка Анеля** (Цвирко Анеля), дачка Антонія, дваранка Слуцкага пав., каталічка. Западозрана ў хаванні паўстанцаў, арыштавана. Знаходзілася пад следствам у ССК *(1524—1—1—15).*

6270. **Цвірка Людвік** (Цвирко Людвиг), брат Яна, памешчык. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Паземкава (Пазюмкава) Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—274; 1416—6—280; 2532—1—15—11адв.).*

6271. **Цвірка Фелікс** (Цвирко Феликс), сын Станіслава. Да паўстання практыкаваў лекарам у м. Мір Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Канфіскавана і прададзена яго рухомая маёмасць на 64,25 руб. *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 295—1—1765; 320—1—398—676адв., 679).*

6272. **Цвірка Францішак** (Цвирко Франц), дваранін Слуцкага пав. Падчас паўстання захоўваў зброю, за што ў 1863 г. аддадзены пад ПВС, паводле рашэння якога прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў; на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. На яго рухомую маёмасць, ацэненую ў 55,51 руб., накладзена забарона *(162—1—116—103; 295—1—1643—242; 1430—1—52163—150адв.).*

6273. **Цвірка Ян** (Цвирко Иван), сын Станіслава, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў хаванні паўстанцаў і ў 1863 г. арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(295—1—1643—244адв.; 1524—1—1—14адв.).*

6274. **Цвяцінскі Ігнат** (Цвецинский Игнатий), дваранін. Да паўстання служыў гувернёрам у па-

мешчыка Скарынскага[164] і ажаніўся з яго сястрой. Яго бацька валодаў фальв. Янемішкі Троцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Сэндэка Яна*. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

**Ценісевіч Казімір** — гл. **Цяткевіч Казімір**

**Церашынскі Ксаверы** — гл. **Чарашынскі Ксаверы**

6275. **Цеханавецкая Ізабэла** (Цехановецкая Изабелла), дачка Фларыяна, жонка *Ігната*, маці Станіслава, памешчыца. Падчас паўстання разам з *Дамарацкім N.* удзельнічала ў фарміраванні атрада ў маёнтку мужа Вышова Мсціслаўскага пав. Арыштавана, зняволена ў г. Магілёве. Яе маёнтак Паручын Навагрудскага пав. (ацэнены ў 31500 руб. ср.) секвестраваны 14.08.1863 на падставе распараджэння МГГ ад 11.06.1863 і канфіскаваны 10.09.1863. У 1864 г. у зняволенні неаднаразова падавала прашэнні аб дазволе на сустрэчу са сваякамі. Знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 06.10.1864 скончыла яе справу. Потым аддадзена пад суд у МагВСК. Канфірмацыяй «Галоўнага Начальніка краю» ад 26.07.1865 прызнана вінаватай ў садзейнічанні паўстанцам і прысуджана да ссылкі на сталае жыхарства пад нагляд паліцыі ў Томскую губ. з 6-месячным турэмным зняволеннем і да секвестру маёмасці. Саслана. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(296—1—89—11, 15, 73; 320—2—99—50адв.-51; 2532—1—15—14; 3256—2—52; 3257—1—4—7, 9; 3257—2—2—38; 3257—2—8—18)*.

6276. **Цеханавецкая** (нар. **Стахоўская**) **Кацярына** (Цехановецкая (ур. Стаховская) Екатерина), дачка Леана Ксаверыевіча, сястра Міхала і Станіслава, жонка *Генрыка*, памешчыца Віцебскага пав., каталічка. Да паўстання яе сваякі валодалі маёнткам Высокая Буда Мсціслаўскага пав. Падчас паўстання агітавала схопленага *Плавінскага Мікалая* не выдаваць сваіх таварышаў. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае моцнае падазрэнне» 21.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Распараджэннем М. Мураўёва прызначана (да 16.06.1864) да ссылкі на сталае жыхарства ў «аддаленыя паветы» Пензенскай губ. з накладаннем секвестру на яе маёмасць. 28.12.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці па Віцебскай губ. для секвестру *(1416—4—11416—134; 1430—1—52163—237адв., 425адв.; 2003—1—433; 2616—1—40—57; 3046—2—3—92адв.-93; 3046—2—5—59; 3255—1—14—5адв.)*.

6277. **Цеханавецкі Вінцэнт** (Цехановецкий Викентий), сын Марціна, памешчык. Да паўстання валодаў зямлёй у с. Стаянічы Клімавіцкага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй ад 24.12.1864 прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Памёр да 27.04.1867. На маёнтак бацькі на падставе ўказа МагГП ад 20.06.1863 накладзена забарона. За яго маёмасць павінен быў унесці 50 руб. у казну яго бацька, які 19.05.1866 падаў прашэнне аб вызваленні ад гэтай выплаты, аднак безвынікова *(2003—1—211—51; 2003—1—473; 3257—2—2—38)*.

6278. **Цеханавецкі Генрык** (Цехановецкий Генрих), сын Фелікса, брат *Ігната*, муж *Кацярыны*, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў маёнткам Тулава Віцебскага пав. За дачыненне жонкі да паўстання ў яго доме праведзены вобшук, падчас якога былі знойдзены яе «рэвалюцыйныя польскія вершы», якія разарваў і выкінуў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 21.02.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Аддадзены на парукі, а з яго маёмасці паводле распараджэння М. Мураўёва (да 16.06.1864) спаганяўся ўзмоцнены 10-працэнтны збор і 200 руб. штрафу. У 1864 г. выехаў на службу чыноўнікам асобых даручэнняў у г. Херсон. У 1881 г. жыў у г. Ніцы, дзе вёў перапіску з братам *(2003—1—433; 3046—2—3—92адв.-93; 3046—2—5—59)*.

6279. **Цеханавецкі Ігнат** (Цехановецкий Игнатий), сын Фелікса, брат *Генрыка*, муж *Ізабэлы*, бацька Станіслава, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, у тым ліку апекуном гімназіі ў г. Віцебску, тытулярны радца. Да паўстання валодаў маёнткам Вышова Мсціслаўскага пав., маёнткамі Чарняўка і Гарадок Клімавіцкага пав. У яго служыў фельчарам *Празаровіч Францішак*. У 1863 г. у Вышова сфарміраваўся паўстанцкі атрад, які пазней удзельнічаў у нападзе на г. Горкі. Арыштаваны, зняволены ў г. Магілёве, 31.07.1864 пераведзены з богаўгодных устаноў у турэмны замак. У 1864 г. неаднаразова падаваў прашэнні аб дазволе на спатканне са сваякамі і аб неабходнасці лячэння. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 07.11.1864 скончыла яго справу. Потым аддадзены пад суд у МагВСК. Канфірмацыяй «Галоўнага Начальніка краю» ад 26.07.1865 пакінуты ў «моцным падазрэнні» ў дапамозе паўстанцам, прызнаны вінаватым у неданясенні ўладам пра іх намеры і прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. і секвестру маёмасці.

---

[164] Магчыма, *Скарынскага Вітальда* ці *Скарынскага Цітуса*.

Сасланы. З яго маёмасці спагнаны 66,66 руб. на карысць Віцебскага бернардынскага кляштара; потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яна падлягала абавязковаму продажу, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў Краснінскі пав. Смаленскай губ. Тут у 1881 г. вёў перапіску з братам, які жыў у г. Ніцы *(1416—3—21048—50; 1430—1—36844; 1430—1—52163—425адв.; 2001—1—900—2; 2001—2—14—12; 2001—2—126—40-44адв.; 2003—1—211; 2003—1—429—7; 2003—1—489—61; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9адв., 10; 3256—2—52; 3257—1—4—7, 9; 3257—2—2—38; 3257—2—8—18).*

6280. **Цеханавецкі Оттан** (Цехановецкий Оттон), памешчык. Да паўстання з'яўляўся маршалкам Чавускага пав. Паводле паказанняў *Матушэвіча Францішка* ў МагСК ад 07.05.1863, у яго маёнтку знаходзіўся склад куль для паўстанцаў. Арыштаваны (да 31.05.1863) і зняволены ў г. Магілёве. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Войжбун Уладзіслаў* і *Жыжэмскія Людвік* і *Цітус*. Высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2003—1—245—5; 2003—1—489—37адв.-38адв.; 2532—1—15—9адв.; 3257—1—13; 3257—2—2—5адв., 13, 38).*

6281. **Цехановіч Антоні** (Цеханович Антоний), сын Людвіка Людвікавіча, брат *Людвікі* і *Юзафа*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам (з сям'ёй), сястрой (з сям'ёй), жонкай Пракседай, сынамі Людвікам і Аляксандрам, дочкамі Альмінай і Францішкай «адміністрацыйным парадкам» высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876–06.1882 жыў у Валадуце *(295—1—2234—9; 295—1—2420—16-16адв.; 295—1—3026—33адв.; 295—1—3492—69адв., 92).*

6282. **Цехановіч Валянцін-Францішак** (Теханович Валентин Франц), дваранін Віленскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—70адв.).*

6283. **Цехановіч Іаахім** (Цеханович Иоахим), дваранін Вілейскага пав. Да паўстання служыў па найме. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101; 1430—1—52163—154).*

6284. **Цехановіч Людвіка** (Цеханович Людвика), дачка Людвіка Людвікавіча, сястра *Антонія* і *Юзафа*, дваранка Ігуменскага пав. Нар. каля 1819 г. Да паўстання жыла ў вак. Новая Валадута Ігуменскага пав. на арандаванай зямлі, не мела ўласнай зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братамі (з сем'ямі), «незаконнанароджанымі дзецьмі» (сынамі Вінцэнтам і Фларыянам і дачкой Юзэфай) выслана ў Томскую губ. на пасяленне. У 1875 г. жыла ў Вазнясенскай вол. Каінскай акругі Томскай губ., падала прашэнне аб дазволе з сынам Фларыянам вярнуцца на радзіму, 10.1875 атрымала яго *(295—1—2234; 295—1—2420—16-16адв.; 295—1—2755).*

6285. **Цехановіч Мацей** (Цеханович Матвей), памешчык Барысаўскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—13адв.).*

6286. **Цехановіч Мечыслаў** (Цеханович Мечислав), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—10адв.).*

6287. **Цехановіч Юзаф** (Цеханович Иосиф), сын Людвіка Людвікавіча, брат *Антонія* і *Людвікі*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Пасля паўстання разам з братам (з сям'ёй), сястрой (з сям'ёй), жонкай Марцэляй, сынамі Янам і Юльянам, дочкамі Міхалінай, Агатай і Канстанцыяй высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2234—9; 295—1—2420—16-16адв.).*

6288. **Цехановіч Ян** (Цеханович Иван), сын Рыгора, селянін ці дваранін Мінскага пав. Уваходзіў у склад атрада *Ляскоўскага Станіслава*, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.11.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(160—2—682—29; 162—1—122—6; 320—1—398—666; 295—1—1643—242адв.; 296—1—59—18; 534—1—14—16).*

6289. **Цехаоўскі Адам** (Цехановский Адам), сын Бенядыкта, брат Аўгустына і Марціна, дваранін. Да паўстання разам з братамі валодаў невялікай сядзібай (3,5 дзес. зямлі, хата, некалькі гаспадарчых пабудоў) у вак. Жарацін Мсціслаўскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што на падставе ўказа МагГП ад 31.05.1863 сумесная маёмасць у Жарацiне 18.06.1863 апісана, яго частка секвестравана. Арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(2003—1—309; 3257—2—2—38).*

6290. **Цехаоўскі Вінцэнт** (Цехановский Викентий), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК *(3366—1—5—10адв.).*

6291. **Цехаоўскі Даніэль** (Цехановский Данила), сын Леана, брат Себасцьяна, Паўла, Юзафа і Пелагеі (v. Казелы), памешчык. Да паўстання валодаў

разам з братамі невялікім надзелам зямлі (1,5 дзес. зямлі, хата і пуня) у вак. Жараціно Мсціслаўскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Сумесная маёмасць на падставе ўказа МагГП ад 31.05.1863 апісана 19.07.1863 і яго частка секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(2003—1—309—1, 4-12; 2003—1—445—4адв.; 3257—2—2—38)*.

6292. **Ціль Эдвард** (Тиль Эдуард), аўстрыйскі падданы. Удзельнічаў у паўстанні разам з *Арцімовічам Казімірам*, *Вярбіцкім N.*, *Жаброўскім Канстанцінам*, з якімі 17.04.1863 выехаў з маёнтка Рыкава Себежскага пав. *(1416—3—21048—46; 1430—1—31535—2)*.

6293. **Цількоўскі Філіп** (Цильковский Филип), мешчанін г. Слоніма. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

6294. **Цімановіч Францішак** (Циманович Францишек (Францыск)), селянін Ашмянскага пав. Нар. каля 1795 г. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 14.06.1863 і пастановы ВілГП ад 24.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—252; 1416—6—254—5, 15-16)*.

6295. **Цімафееў Мікалай** (Тимофеев Николай), дваранін, народжаны па-за шлюбам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—15)*.

**Цімаховіч Пётр** — гл. **Цімахоўскі Пётр**

6296. **Цімахоўскі (Цімаховіч) Пётр** (Цимаховский (Цимахович) Петр). Служыў сакратаром ратушы заштатнага г. Суража Беластоцкага пав. ці павятовага г. Суража Віцебскай губ., калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Аланецкую ці Арэнбургскую губ. *(1416—3—21048—50; 1430—1—52163—608, 614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

6297. **Цімкевіч Амброзі** (Цимкевич Амвросий), аднадворац Рэчыцкага пав. Западозраны ў «нашэнні рэвалюцыйных касцюмаў і жаданні стаць у шэрагі паўстанцаў», арыштаваны паводле распараджэння мінскага губернатара ад 12.04.1865, зняволены ў мінскім турэмным замку і 27.04.1865 аддадзены пад ПВС у г. Мінску. Прысуд адбыўся 11.05.1865 вынікі пададзены мінскаму губернатару. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 19.01.1866 вызвалены ад адказнасці і прызначаны да вяртання на месца жыхарства пад нагляд паліцыі з аддачай на парукі *(295—1—1643—242адв.; 299—2—6399—25-26; 299—2—6400—23адв.-24)*.

6298. **Цімлер Міхал** (Тимлер Михаил), сын Караля, дваранін Санкт-Пецярбургскай губ. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Глыбаў Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Да яго справы меў дачыненне *Васілеўскі Ігнат*. Прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1416—4—11416—21; 1430—1—52163—200; 2514—1—2198—70адв.; 3257—2—2—5адв., 35; 3366—1—5—10)*.

6299. **Цімяеўскі (Цішаеўскі) Рамуальд** (Цимеевский (Цишеевский) Ромуальд), сын Ігната, дваранін Слуцкага пав., каталік. Абвінавачаны ў спачуванні паўстанцам, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—15)*.

**Цітовіч Леанард** — гл. **Цытовіч Леанард**

**Ціхановіч Пётр** — гл. **Ціханчук Пётр**

6300. **Ціханчук (Ціхановіч) Пётр** (Тихончук (Тыхонович) Петр), сын Яна, муж Тэафілі (нар. каля 1830), бацька *Яна*, Юзафа (нар. каля 1858), Іаана (нар. каля 1860) і Эміліі (нар. каля 1862), селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Рухча Пінскага пав., належаў да «былых дваравых» Велясніцкай сельскай грамады. За «палітычныя справы» паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.03.1864 высланы з сынам у г. Мінск для адпраўкі ў г. Маскву з мэтай далейшага высялення ў Томскую губ. У 1869 г. жыў у в. Сарочкі Усць-Тартарскай вол. Каінскай акругі Томскай губ. 19.11.1869 хадайнічаў аб высылцы да яго сям'і, якая заставалася на радзіме. 20.04.1870 жонка з дзецьмі адпраўлены ў Сібір *(295—1—2725—27; 299—2—7138—12, 15, 22)*.

6301. **Ціханчук Ян** (Тихончук Иван), сын *Пятра*, селянін. Нар. каля 1855 г. Да паўстання жыў у маёнтку Рухча Пінскага пав., належаў да «былых дваравых» Велясніцкай сельскай грамады. За дачыненне да паўстання бацькі высланы ў 1864 г. у Томскую губ. *(295—1—2725—27)*.

6302. **Цішкевіч Ануфры** (Цишкевич Онуфрий), дваранін Віленскай губ. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—238; 2616—1—40—59)*.

6303. **Цішкевіч Маўрыцы** (Цышкевич Маврикий), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4)*.

6304. **Цішкевіч Ян** (Цишкевич Иван), сын Леанарда, дваранін Панявежскага пав. Да паўстання жыў у засц. Юзымкі Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131; 1416—6—281; 1430—1—52163—598)*.

6305. **Цішынскі (Газдава-Цішынскі) Аляксандр** (Тишинский (Гоздава-Тишинский) Александр), дваранін Каралеўства Польскага. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1873 г. жыў у Архангельскай губ., як «былы палітычны ссыльны» атрымаў дазвол на пражыванне ў сталіцах і сталічных губ. *(1430—1—35458—34-35)*.

6306. **Цішэўскі Караль** (Цишевский Карл), сын Яна, мешчанін Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12адв.)*.

6307. **Цішэўскі Рамуальд** (Цишевский Ромуальд), дваранін. Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» у 1863 г. высланы з радзімы *(295—1—1643—244адв.)*.

6308. **Цыбульскі Вінцэнт** (Цыбульский Викентий), мешчанін г. Коўна. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166адв.)*.

6309. **Цыбульскі Ігнат** (Цибульский Игнатий), дваранін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(320—1—398—574; 1430—1—52163—241)*.

6310. **Цыбульскі Ян** (Цибульский Иван), сын Лукі, селянін. Да паўстання жыў у в. Уселюб Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы *(295—1—2725—9адв.)*.

6311. **Цыдзік Міхал** (Цыдзик Михаил), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(1416—4—11416—114; 1430—1—52163—204)*.

6312. **Цыдзік Пётр** (Цыдзик Петр), шляхціц Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

6313. **Цымерман Андрэй** (Циммерман Андрей), сваяк *Іаахіма* (?), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС, але потым атрымаў дараванне і вернуты на месца жыхарства на парукі *(295—1—1643—242, 244)*.

6314. **Цымерман Іаахім** (Циммерман Иоахим), сваяк *Андрэя* (?), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС, але потым атрымаў дараванне і вернуты на месца жыхарства на парукі *(295—1—1643—242, 244)*.

6315. **Цымерман Юльян** (Цимерман Юлиан). Да паўстання служыў чыноўнікам Віленскай казённай палаты, калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

6316. **Цытовіч (Цітовіч) Леанард** (Цытович (Цитович) Леонард), дваранін Гродзенскай губ. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, арыштаваны і зняволены ў г. Чэрыкаве. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, потым пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—181адв.; 3257—2—2—38; 3366—1—5—14)*.

6317. **Цытовіч Тамаш** (Цитович (Цытович) Томаш), аднадворац Дынабургскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 320—1—398—197адв.; 1416—3—21048—50; 1430—1—52163—126, 389адв.)*.

6318. **Цытовіч N.** (Цытович N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Шаўкоты Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6319. **Цюндзявіцкі Антоні** (Цюндзевицкий Антон), сын Гальяша, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Галошава Аршанскага пав. (фальв. Вялікае Галошава і Зорына — 1684 дзес. 396 саж. зямлі, млын, стайня, 2 карчмы, 2 фруктовыя сады, гаспадарчыя пабудовы і інш., 1107 руб. гадавога прыбытку). 26.04.1863 адправіўся ў маёнтак Рэпухава Аршанскага пав. *Пярота Тадэвуша* і там затрыманы сялянамі, але адпушчаны ў гэты ж дзень. Па-

сля вяртання ў свой маёнтак западозраны ў сувязях з паўстанцамі і зноў схоплены сялянамі. Перавезены ў м. Коханава Аршанскага пав., а потым зняволены ў г. Оршы, дзе знаходзіўся яшчэ 15.06.1863. Яго маёнтак 14.07.1863 апісаны і секвестраваны. Яго справа вялася ў АСК, якая не знайшла доказаў сувязяў з паўстанцамі і 21.09.1863 падала адпаведны рапарт у МагГП *(2003—1—288; 3255—1—14—5адв.)*.

6320. **Цюндзявіцкі Міхал-Іаахім** (Цюндзевицкий Михаил-Ефим), сын Мельхіёра Гальяшавіча (адстаўны палкоўнік, пам. да 1863), брат Аляксандра, Яўгена, Міхала, Эміля, Марыі, Разаліі, Алімпіі, Клемянтыны і Зоф'і, памешчык, каталік. Нар. каля 1840 г. Вучыўся ў кадэцкім корпусе, пасля чаго служыў прапаршчыкам у наразной лёгкай № 3 батарэі 8-й Артылерыйскай брыгады войска рас. 10.10.1862 выйшаў у адпачынак і прыбыў у свой маёнтак Вільянова Барысаўскага пав. У паўстанні 06.02.1863 зачытаў у карчме ля в. Камень Барысаўскага пав. паўстанцкі маніфест і газету «Мужыцкая праўда», агітаваў сялян удзельнічаць у паўстанні — «што мужык Яська з-пад Вільні падымае мяцеж за Польшчу, каб усе былі гатовыя», «паказваў на сцяне як косы вастрыць, каб канец быў востры», «у Барысаве адна рота жаўнераў, якую можна закідаць шапкамі» і да т.п. Арыштаваны. Пры вобшуку ў яго знойдзены фотаздымкі, на якіх «сядзіць на крэсле, на якім уверсе пастаўлена карона, а пад ёй злучаныя гербы Царства Польскага і Княства Літоўскага», зробленыя ў фотамайстэрні *Прушынскага Антонія*. Утрымліваўся ў пабернардынскім кляштары ў г. Мінску. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая 04.03.1863 скончыла яго справу. Загадам камандуючага Віленскай вайсковай акругі ад 15.03.1863 аддадзены пад ПВС пры штабе 3 пяхотнай дывізіі ў Мінску. Яго маёмасць, на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 28.05.1863 і пастановы МГП ад 02.06.1863, падлягала секвестру. На судзе і следстве ад усяго адмаўляўся. Пастановай ваеннага суда, канфірмаванай 17.05.1863 М. Мураўёвым, прысуджаны да расстрэлу і канфіскацыі маёмасці. 21.05.1863 расстраляны ў Мінску ля Ігуменскай заставы. Ідучы на расстрэл, паліў цыгару. Маёнтак Вільянова (2212 дзес. зямлі, ацэнены ў 40 тыс. руб.), якімі валодаў на правах суспадчынніка з братамі і сёстрамі, секвестраваны 06.1863 паводле ўказу МГП, але затым вызвалены з-пад секвестру з абавязкам уносіць у казну частку даходу (1600 руб.), якая прыпадала на яго *(295—1—1527—24, 26; 295—1—1545; 295—1—1565—4-4адв.; 295—1—1643—242, 244адв.; 296—1—89—44-45адв.; 320—1—398—124, 234адв., 263, 269, 423; 320—2—98—50; 320—2—99—28адв.; 1430—1—52163—596б)*.

**Цядкевіч Казімір** — гл. **Цяткевіч Казімір**

6321. **Цялевіч Альфонс (Адольф)** (Целевич Альфонс (Адольф)), муж (?) Клацільды, дваранін. Да паўстання жыў у м. Асвея Дрысенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў падрыхтоўцы да паўстання і пастаўцы паўстанцам рэчаў і харчавання. Арыштаваны, зняволены (да 03.11.1863) у фартэцыі ў г. Дынабургу. Разам з *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гарадніком Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Шчытам Уладзіславам* і іншымі знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 аддадзены пад ПВС *(1416—2—12677—32-33адв.; 2601—1—2—388; 2601—1—5—7адв.; 3046—2—5—59)*.

6322. **Цялецкі Леапольд** (Целецкий Леопольд), дваранін. Сасланы за «палітычныя злачынствы». У 1880 г. жыў у Наўгародскай губ., 12.09.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—24-25)*.

6323. **Цяліца Конрад** (Целлицо Конрад), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 12.07.1863 передала яго справу ў МагСК *(3366—1—5—10адв.)*.

6324. **Цяліца Леапольд** (Целлицо Леопольд), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 12.07.1863 передала яго справу ў МагСК *(3366—1—5—10адв.-11)*.

6325. **Цялкевіч (Цалькевіч) Габрыэль** (Циолкевич (Цолькевич) Гавриил (Габриель)), брат *Эдварда*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 25.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1416—6—271; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—2адв.)*.

6326. **Цялкевіч Эдвард** (Циолкевич Эдуард), брат *Габрыэля*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (па-

між 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—2адв.).*

6327. **Цямплонскі Караль** (Цемплонский Карл), дваранін Панявежскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Істой. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.).*

6328. **Цяпінскі (Слушка-Цяпінскі) Вацлаў** (Цяпинский (Слушко-Цапинский) Вацлав), сын Ігната, брат *Мечыслава*, памешчык. Западозраны ў дачыненні да паўстання і арыштаваны. Яго маёнтак Нача-Цяпіншчына з фальв. Чарнаруцча і Кашкова Лепельскага пав. (300 дзес. зямлі, млын, 509 руб. гадавога прыбытку) секвестраваны паводле загада віцебскага губернатара ад 21.09.1863 на падставе ўказа ВГП ад 31.08.1863 і перададзены ў апеку памешчыку Тэлясфору Доўманту. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «аддаленыя месцы Сібіры». У 1864 г. маёнтак знаходзіўся ў апякунскім кіраванні *(296—1—25—105; 1416—3—21048—50; 1416—4—11416—285-286; 1430—1—52163—217адв.-218, 231, 244-245, 410, 449, 569адв., 822адв.; 2532—1—8—1, 8-9).*

6329. **Цяпінскі (Слушка-Цяпінскі) Мечыслаў** (Цяпинский Мечислав), сын Ігната, брат *Вацлава*, муж Юліі Улінскай (гл. *Улінскі Баляслаў*), памешчык, каталік. Нар. каля 1828 г. Да паўстання валодаў маёнткам Нача (Нача-Цяпіншчына) Лепельскага пав. (некалькі дзес. зямлі). Падчас паўстання ўваходзіў у склад атрада ў м. Заскаркі Лепельскага пав. 25.04.1863 увечары схоплены разам з *Аношкам Феліцыянам* сялянамі в. Будзілава Лепельскага пав. Апрача гэтага абгавораны *Другавінам Янам* у тым, што прыводзіў да прысягі *Улінскіх Станіслава* і *Уладзіслава*. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Віцебску, адкуль падаваў прашэнні на імя ВГГ: 28.12.1863 аб дазволе на сустрэчу са сваякамі, 28.01.1864 аб дазволе на спатканне з жонкай хоць 2 разы на тыдзень, якое было задаволена часткова, 08.02.1864 такое самае. Знаходзіўся пад судом у ВВСК, якая 16.07.1864 падала справу на разгляд у ЧПА Віленскай вайсковай акругі. 11.1864 утрымліваўся ў турэмным замку г. Лепеля. На Начу, якая ў 1864 г. знаходзілася ў апякунскім кіраванні, накладзены секвестр. 09.11.1864 жонка падала ВГГ прашэнне аб зняцці секвестру з маёмасці альбо выдачы ёй часткі даходаў на ўтрыманне дзяцей. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 18.12.1864 канфіскацыя заменена на секвестр *(1416—3—21048—50; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31370—89; 1430—1—31604—1, 3, 35-36, 51-53; 1430—1—52163—15адв., 358-360, 410, 569адв.; 3046—2—3—90адв.-92; 3046—2—5—59).*

6330. **Цярпінскі Аляксандр** (Церпинский Александр), дваранін Троцкага пав. Да паўстання арандаваў маёнтак Гайцэнішкі памешчыка Рымшы. Паўстанцы абедалі ў маёнтку і атрымалі значныя харчовыя запасы. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе ім, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—274; 1430—1—52285—7).*

6331. **Цяткевіч (Цядкевіч, Ценісевіч, Шаткевіч) Казімір** (Теткевич (Тедкевич, Тенисевич, Шеткевич) Казимир), памешчык. Валодаў маёнткам Ганушышкі Троцкага пав. За дачыненне да паўстання на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 22.05.1863 і пастановы ВілГП ад 05.06.1863 яго маёмасць падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Разанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—243; 1430—1—52285—7; 2532—1—15—12).*

## Ч

6332. **Чабіліс (Чабелец) Юзаф** (Чабилис (Чабелец) Иосиф), памешчык Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5).*

6333. **Чаевіч Людвік** (Чаевич Людовик). Нар. каля 1826 г. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы «па палітычных справах». У 1875 г. атрымаў дазвол выехаць за мяжу з забаронай вяртання ў Рас. імперыю *(295—1—2738).*

6334. **Чайкоўскі Актавій** (Чайковский Актавий (Октавий)), сын Юзафа, памешчык, каталік. Нар. каля 1820 г. Да паўстання валодаў маёнткам Шэвіна Полацкага пав. Падчас паўстання западозраны ў «слуханні падбухторных пракламацый», арыштаваны. Падчас вобшуку ў яго знойдзена

зброя і рыштунак. Зняволены ў г. Віцебску. На яго маёнтак, на падставе ўказа ВГП ад 22.06(07?).1863, накладзены секвестр. Паводле распараджэння ваеннага губернатара г. Віцебска ад 05.09.1863, атрымаў дазвол вярнуцца з жонкай у свой маёнтак пад паліцэйскі нагляд. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—52; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—268, 445, 447; 3046—2—3—93адв.-94; 3046—2—5—61).*

6335. **Чайкоўскі Войцех** (Чайковский Войцех), сын Андрэя, дваранін Куяўскага пав. Варшаўскай губ. Да паўстання жыў у г. Пружанах. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 29.08.1863 і пастановы ГГП ад 19.09.1863. Прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223; 1416—6—239).*

6336. **Чайкоўскі Вінцэнт** (Чайковский Викентий), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72).*

6337. **Чайкоўскі Дамінік** (Чайковский Доминик). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, у 1863 г. добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў *(295—1—1643—253).*

6338. **Чайкоўскі Стэфан** (Чайковский Степан), сын Казіміра, дваравы чалавек памешчыка Міхайлава. У дзяцінстве жыў з памешчыкам у г. Маскве, дзе вучыўся фельчарству. У 1854 г. пасля заканчэння навучання адасланы памешчыкам у маёнтак Даманавічы Рэчыцкага пав. на службу па прафесіі. 11.1862 заключыў дамову з сялянамі м. Даманавічы, паводле якой абавязваўся служыць фельчарам і ў іх за 100 руб. і 8 бочак хлеба на год. Падчас паўстання ў доме, дзе жыў за 2 гады да гэтага, былі знойдзены стрэльбы і пісталеты. Западозраны ў захоўванні зброі і ў «нядобранадзейнасці», 08.1863 арыштаваны. Пры вобшуку ў яго знойдзены 22 шрубы да стрэльбаў. Зняволены ў г. Мазыры. Рашэннем МСК прызнаны вінаватым у захоўванні зброі. Аштрафаваны на 15 руб. *(295—1—1643—254адв.; 1418—1—10).*

6339. **Чайкоўскі Ян** (Чайковский Иван), сын Іаахіма, дваранін Сенненскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 04.06.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(299—2—579—746-749; 320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.).*

6340. **Чакатоўскі Антоні** (Чекатовский Петр). Паходзіў з Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 19.10.1863) да ссылкі ў Сібір шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—103, 166; 1430—1—52163—150адв.).*

6341. **Чакатоўскі Пётр** (Чекатовский Петр), сын надворнага радцы Яна, брат *Оттана*, дваранін. Да паўстання жыў у г. Мінску, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», арыштаваны і зняволены ў г. Вільні. Будучы пад арыштам, уступіў у шлюб з дваранкай г. Мінска Казімірай Булеўскай. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» альбо высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую, Арэнбургскую ці Табольскую губ. *(160—2—682—105; 162—1—122—24; 295—1—1643—255; 534—1—14—38; 1430—1—52163—183, 610адв.; 1430—1—52285—21адв.; 1781—32—141—7-8; 2001—1—898—74).*

6342. **Чакатоўскі Оттан** (Чекатовский Оттон), сын надворнага радцы Яна, брат *Пятра*, дваранін. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску. Западозраны ва ўдзеле ў патаемным камітэце, створаным мінскімі гімназістамі з мэтай падтрымкі паўстання, у 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС у Мінску. На судзе не знайшлося доказаў для абвінавачання, аднак канфірмацыяй М. Мураўёва «пакінуты ў падазрэнні» і прысуджаны да ссылкі на службу ў Арэнбургскі корпус рас. войска. Яго бацькі падалі прашэнне аб вызваленні з прычыны дрэннага стану яго здароўя, у сувязі з чым служба ў войску была заменена на ссылку ў Арэнбургскую губ. на пасяленне пад нагляд паліцыі. Падчас праезду праз г. Вільню затрыманы ў сувязі са справай яго брата і зняволены ў Віленскай цытадэлі. 05.1864 яго бацькі падалі прашэнне аб вызваленні, у сувязі з чым рашэннем М. Крыжаноўскага пакаранне заменена на ссылку ў г. Гомель на жыхарства пад нагляд паліцыі на 2 гады. 07.07.1864 адпраўлены з Вільні ў г. Магілёў, 20.07.1864 — з Магілёва

ў Гомель *(295—1—1643—255адв.; 2001—1—898—73-85)*.

6343. **Чакатоўскі Юзаф** (Чекатовский Осип), сын Яна, дваранін. Да паўстання знаходзіўся на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання яго рухомая маёмасць у Быхаўскім пав. (адзенне, мэбля, посуд) 16.10.1863 апісана і секвестравана. У МагВСК меў дачыненне да справы *Віскоўскага Пятра* і *Скулдыцкага Антонія (2003—2—66; 3257—2—2—39)*.

6344. **фон Чаконскі Леан** (фон-Чеконский Леон), аўстрыйскі падданы. Нар. каля 1826 г. Разам з *Абрамовічам Казімірам*, *Адравальскім Юльюшам*, *Шарамовічам Аляксандрам* уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Кіеўскай губ., пасля яго разбіцця (да 13.07.1863) ля м. Пагрэбіцы (Пагрэбішча) Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. схаваўся ад рас. уладаў *(1527—1—4—16-17)*.

6345. **Чампкоўскі Станіслаў** (Чемпковский Станислав), сын Людвіка, дваранін Мінскай губ. Хр. 03.04.1839. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад судом у МагВСК (?). Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 6 гадоў. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(320—1—398—4-6, 108-110, 222; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—2—2—39)*.

6346. **Чапас Вінцэнт** (Чапас Викентий), мешчанін г. Шауляй. Дачыненне да паўстання невядомае. Сасланы ў г. Усцюг Валагодскай губ. У 1876 г. атрымаў частковую амністыю з дазволам на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35930—3-4)*.

6347. **Чапкоўскі Юзаф** (Чапковский Иосиф), дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

6348. **Чапліеўскі Аляксандр** (Чаплиевский Александр), дваранін. Да паўстання служыў аканомам мызы Дыльяны Троцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

6349. **Чаплінскі Антоні** (Чаплинский Антон). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—44)*.

6350. **Чаплінскі Ігнат** (Чаплинский Игнатий), дваранін Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—530адв.; 3046—2—5—61)*.

6351. **Чаплінскі Канстанцін** (Чаплинский Константин), дваранін Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—181адв.)*.

6352. **Чаплінскі Лукаш** (Чаплинский Лукаш), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. вызвалены з усталяваннем негалоснага паліцэйскага нагляду *(295—1—1643—254; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6353. **Чапля (Цапля) Цыпрыян** (Чапля (Цапля) Куприян). Паходзіў з Лідскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149)*.

6354. **Чаповіч Андрэй** (Чепович Андрей), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Масты Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—29)*.

6355. **Чапрэцкі Рамуальд** (Чапрецкий Ромуальд), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224)*.

6356. **Чапскі Эдвард** (Чапский Эдуард), граф, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Віжуны з фальв. Віжункі Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Сасланы ў Сібір, потым атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 12.1876–03.1882 жыў у маёнтку Сваятычы Навагрудскага пав., які перайшоў яму пасля смерці маці, займаўся гаспадаркай *(295—1—3026—19адв.-20; 295—1—3492—10, 41адв.; 320—1—398—224; 1416—6—281)*.

6357. **Чарашынскі (Церашынскі) Ксаверы** (Черешинский (Церешинский) Ксаверий), сын Яна, мешчанін ці селянін. Да паўстання жыў у м. Новая Мыш Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Высланы з радзімы *(295—1—1699; 295—1—2725—31адв.; 320—1—398—3)*.

6358. **Чарвінскі Антоні** (Червинский Антон), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—61)*.

6359. **Чарвінскі Баніслаў** (Червинский Болеслав), дваранін Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88; 320—1—398—197адв.; 1416—3—21048—52; 1430—1—52163—126, 396адв.)*.

6360. **Чарвінскі Павел** (Червинский Павел), сын Яна, дваранін Віцебскай губ. Актыўна ўдзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў фартэцыі ў г. Дынабургу. Уцёк са зняволення, аднак потым ізноў арыштаваны. Прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд выкананы (каля 05.1864) *(1416—3—21048—52; 1430—1—31602—75; 1430—1—52163—206адв.)*.

6361. **Чарвінскі Раймунд (Рамуальд)** (Червинский Раймонд (Реймонд, Раймунд, Рамуальд), сын Яна Юзафавіча і Вікторыі Пугачэўскай, брат Юзафа, Яна і Паўла, дваранін Віцебскай губ., каталік. Нар. 12.09.1836 у г. Віцебску, хр. 13.09.1836 у Віцебскім фарным касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада студэнцкай моладзі пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*, у тым ліку ў захопе г. Горкі 24.04.1863. На яго маёмасць 15.08.1863 на падставе распараджэння МагГП ад 12.07.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, дзе да яго справы меў дачыненне *Фалькоўскі Рыгор*. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. На драўляны дом дзядзькі Якуба Пугачэўскага ў Горках у 1864 г. накладзена забарона *(320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—52; 1430—1—52163—393, 423адв., 596адв., 722; 2003—1—430; 2514—1—2198—71; 2616—1—40—12адв.; 3257—1—53—2; 3257—2—2—36, 39; 3286—2—1—4адв., 23-24)*.

6362. **Чаркоўскі Станіслаў** (Черковский Станислав), сын Лукаша, дваранін Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. Нар. каля 1841 г. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 паранены ў левую руку і левую нагу і ўзяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—106; 320—1—398—326-327адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—15; 1525—1—2—5адв.-6)*.

6363. **Чарнеўскі Адольф** (Черневский Адольф), сын Анастаса, дваранін. Да паўстання вучыўся ў Панявежскай гімназіі, яго бацька валодаў домам у г. Панявежы. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Чарнеўскі Баляслаў** — гл. **Чарнецкі Баляслаў**

6364. **Чарнеўскі Ігнат** (Черневский Игнатий), дваранін Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6365. **Чарнеўскі Люцыян** (Черневский Люциан), дваранін Новааляксандраўскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Вайнюншышкі Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, ссылкі і канфіскацыі маёмасці. У 1870 г. жыў у Наўгародскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—2149—9-10; 1430—1—52163—166адв.; 3046—2—5—61)*.

**Чарнеўскі Марцін** — гл. **Чарняўскі Марцін**

6366. **Чарнеўскі Тэадор** (Черневский Федор), сын Людвіка, дваранін Панявежскага пав. Да паўстання валодаў маёнткам Барклайні Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(534—1—14—4адв.; 1416—4—11416—116адв.; 1416—6—281; 1430—1—52163—374адв.)*.

6367. **Чарнеўскі Януары** (Черневский Януарий). Да паўстання служыў паштмайстрам, калежскі асэсар. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» у 1863 г. звольнены са службы *(295—1—1643—252адв.).*

6368. **Чарнецкі (Чарнеўскі) Баляслаў** (Чернецкий (Черневский) Болеслав), сын Юзафа, памешчык Панявежскага пав. Да паўстання валодаў зямлёй у в. Дзярбушыльцы Панявежскага пав., служыў кандыдатам міравога пасярэдніка 2-га участка Панявежскага пав., калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—4).*

6369. **Чарнецкі Бярнард** (Чернецкий Бернард), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.).*

**Чарнецкі Віктар** — гл. **Чарноцкі Віктар**

6370. **Чарнецкі Пётр** (Чернецкий Петр), аўстрыйскі падданы. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 31.01.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 11.02.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

6371. **Чарнецкі Фелікс-Аляксандр** (Чарнецкий Феликс-Александр), сын Юзафа, дваранін Сенненскага пав., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам Магілёўскай казённай палаты. Западозраны ў дачыненні да паўстання, 28.06.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105адв.; 2003—2—96—11; 3257—2—2—39).*

6372. **Чарнікоўскі (Чарніхоўскі) Люцыян** (Черниковский (Черниховский) Люций), сын Людвіка, муж Леакадыі Ігнатаўны, памешчык Бабруйскага пав., каталік. Валодаў маёнткам Пераколь Бабруйскага пав., які здаваў у арэнду. Да паўстання жыў у маёнтку Шчыткавічы Ігуменскага пав. кн. Вітгенштэйна. Уваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. 16.02.1864 адпраўлены разам са справай у г. Мінск да ЧВГМГ. Прысуджаны (да 07.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 12 гадоў. Маёнтак (фальв.) Пераколь з в. Міхалёва Бабруйскага пав. (жылыя хаты для гаспадара і аканома, гаспадарчыя пабудовы, стайня, 2 карчмы, рухомасць), ацэнены прыкладна ў 15 тыс. руб., канфіскаваны і ў 1864 г. здадзены ў арэнду за 266 руб. на год селяніну Магілёўскай губ. Ермалаю Восіпавічу Бараноўскаму і памешчыку Вацлаву Есьману. Пазней Пераколь прададзены спадчыннікам генерал-лейтэнанта Чаваці. Да маёнтка пададзены грашовыя прэтэнзіі на 13122 руб., у тым ліку жонкай на 12000 руб., якія амаль усе адхілены пастановай Мінскай палаты грамадзянскага суда ад 21.07.1866. Пасля амністыі, жывучы ў г. Вільні, 24.04.1876 падаў у Мінскую губернскую па сялянскіх справах прысутнасць прашэнне аб выдачы выкупной сумы з маёнтка і напрыканцы 1876 г. атрымаў 5530 руб. *(27—1—793; 162—1—116—166; 295—1—1643—256; 296—1—89—20адв.; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462, 491; 320—2—98—50адв.; 320—2—99—33адв.-34; 534—1—14—8; 1416—4—11416—119адв.; 1418—3—1—83адв.-84; 1430—1—52163—375адв.).*

6373. **Чарніхоўскі Людвік** (Черниховский Людвиг), каталік. Да паўстання служыў доктарам у г. Горках. Западозраны ў дачыненні да паўстання. 20.10.1863 яго рухомая маёмасць (мэбля, 50 кніг, адзенне і інш.) на суму ў 23,7 руб. ср. апісана і секвестравана. За «палітычную нядобранадзейнасць» у 1863 г. звольнены са службы. У 1865 г. з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у заштатным г. Копысі Горацкага пав. Паводле загада К. фон Каўфмана ад 03.10.1865 і на падставе ўказа МагГП ад 20.10.1865 секвестр з яго маёмасці здымаўся. У 1866 г. дапушчаны да выканання абавязкаў капыскага гарадавога і горацкага павятовага доктара *(2003—1—378; 2003—2—96—39).*

**Чарніхоўскі Люцыян** — гл. **Чарнікоўскі Люцыян**

6374. **Чарніхоўскі Павел** (Черниховский Павел), сын Ігната, памешчык Магілёўскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Яго маці валодала маёнткам Булаты Магілёўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—558; 3257—2—2—39).*

6375. **Чарніхоўскі Юзаф** (Черниховский Иосиф), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце.

За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70адв.).*

**Чарніцкі Віктар** — гл. **Чарноцкі Віктар**

6376. **Чарніцкі Кароль** (Черницкий Карл), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.).*

6377. **Чарніцкі Ксаверы** (Черницкий Ксаверий). Да паўстання з'яўляўся ашмянскім павятовым суддзёй. Меў дачыненне да справы сябраў Ашмянскай бібліятэкі, прызнаны вінаватым у «адсутнасці належнага нагляду за сваімі падначаленымі, праз што было дапушчана захаванне ў Судзе твораў падбухторнага зместу». Звольнены з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «Паўночна-Заходнім краі» *(160—2—682—78).*

6378. **Чарномскі Ян** (Чарномский Иван), сваяк *Яўгена*, дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Херсонскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—19-20).*

6379. **Чарномскі Яўген** (Чарномский Евгений), сваяк *Яна*, дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Херсонскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—19-20).*

6380. **Чарноўскі Юльян** (Черновский Юлиан), дваранін Свянцянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101; 1430—1—52163—154).*

6381. **Чарноўскі Яўстах** (Чарновский Евстафий), сын Станіслава, дваранін. Да паўстання арандаваў казённую ферму на 99 гадоў у 1 стане Ашмянскага пав., яго маці валодала маёнткам Спрогуны таго ж стана. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны ў г. Вільні. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280).*

6382. **Чарноўскі N.** (Черновский N.). Да паўстання служыў настаўнікам прагімназіі ў г. Цельшах. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў «аддаленыя паветы» Наўгародскай губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.).*

6383. **Чарноцкі Артур** (Чарноцкий Артюр), памешчык. За садзейнічанне паўстанцам у 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—252).*

6384. **Чарноцкі (Чарніцкі, Чарнецкі) Віктар** (Чарноцкий (Черницкий, Чернецкий) Виктор), сын Міхала і Вікторыі (нар. каля 1798), брат Казіміра і N., Алены і Міхаліны, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыў у маёнтку Нача Слуцкага пав. Разам з двума братамі валодаў маёнткамі Нача, Перахрэсце, Сцяновічы Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга зменена на 10 гадоў у крэпасцях. Па амністыі ад 09.01.1874 атрымаў палягчэнне пакарання з правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». Пасяліўся ў Смаленскай губ. У 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму і пасяліўся ў Слуцкім пав. У гэты час яго маці, брат Казімір і сёстры жылі ў маёнтку Нача. У 1878 г. атрымаў дазвол на жыхарства з сям'ёй у Падольскай губ. пры бацьку сваёй жонкі Аляксандры Паўлавічы Бабры для вядзення гаспадаркі, 02.1878 прыбыў у Праскураўскі пав. Падольскай губ., але адразу адпраўлены адтуль назад у Мінскую губ. у сувязі з тым, што дазвол быў прызнаны беспадстаўным. Да канца года такая сітуацыя паўтарылася двойчы. 01.1879 вярнуўся ў маёнтак Нача. Змог атрымаць дазвол на 6-месячнае знаходжанне ў Падольскай губ. толькі 05.1881. 10.1881 падаў яшчэ адно прашэнне аб дазволе на сталае жыхарства ў Падольскай губ. для вядзення гаспадаркі ў арандаваным Вездзенскім маёнтку і для «вядзення маёмасных спраў сіротаў, што засталіся пасля смерці яго цесця» *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—3043; 295—1—3282б; 295—1—3492—7; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—326-327адв., 345-347; 320—2—98—50адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—15; 1525—1—2—6адв.-7).*

6385. **Чарноцкі Павел** (Чарноцкий Павел), дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення пра-

6367. **Чарнеўскі Януары** (Черневский Январий). Да паўстання служыў паштмайстрам, калежскі асэсар. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» у 1863 г. звольнены са службы *(295—1—1643—252адв.)*.

6368. **Чарнецкі (Чарнеўскі) Баляслаў** (Чернецкий (Черневский) Болеслав), сын Юзафа, памешчык Панявежскага пав. Да паўстання валодаў зямлёй у в. Дзярбушыльцы Панявежскага пав., служыў кандыдатам міравога пасярэдніка 2-га участка Панявежскага пав., калежскі рэгістратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 1430—1—52163—612; 1430—1—52285—15; 2532—1—15—4)*.

6369. **Чарнецкі Бярнард** (Чернецкий Бернард), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.)*.

**Чарнецкі Віктар** — гл. **Чарноцкі Віктар**

6370. **Чарнецкі Пётр** (Чернецкий Петр), аўстрыйскі падданы. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 31.01.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 11.02.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239)*.

6371. **Чарнецкі Фелікс-Аляксандр** (Чарнецкий Феликс-Александр), сын Юзафа, дваранін Сенненскага пав., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам Магілёўскай казённай палаты. Западозраны ў дачыненні да паўстання, 28.06.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105адв.; 2003—2—96—11; 3257—2—2—39)*.

6372. **Чарнікоўскі (Чарніхоўскі) Люцыян** (Черниковский (Черниховский) Люций), сын Людвіка, муж Леакадыі Ігнатаўны, памешчык Бабруйскага пав., каталік. Валодаў маёнткам Пераколь Бабруйскага пав., які здаваў у арэнду. Да паўстання жыў у маёнтку Шчыткавічы Ігуменскага пав. кн. Вітгенштэйна. Уваходзіў у склад «Мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі», арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. 16.02.1864 адпраўлены разам са справай у г. Мінск да ЧВГМГ. Прысуджаны (да 07.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 12 гадоў. Маёнтак (фальв.) Пераколь з в. Міхалёва Бабруйскага пав. (жылыя хаты для гаспадара і аканома, гаспадарчыя пабудовы, стайня, 2 карчмы, рухомасць), ацэнены прыкладна ў 15 тыс. руб., канфіскаваны і ў 1864 г. здадзены ў арэнду за 266 руб. на год селяніну Магілёўскай губ. Ермалаю Восіпавічу Бараноўскаму і памешчыку Вацлаву Есьману. Пазней Пераколь прададзены спадчыннікам генерал-лейтэнанта Чаваці. Да маёнтка пададзены грашовыя прэтэнзіі на 13122 руб., у тым ліку жонкай на 12000 руб., якія амаль усе адхілены пастановай Мінскай палаты грамадзянскага суда ад 21.07.1866. Пасля амністыі, жывучы ў г. Вільні, 24.04.1876 падаў у Мінскую губернскую па сялянскіх справах прысутнасць прашэнне аб выдачы выкупной сумы з маёнтка і напрыканцы 1876 г. атрымаў 5530 руб. *(27—1—793; 162—1—116—166; 295—1—1643—256; 296—1—89—20адв.; 299—1—579—165-177; 320—1—398—462, 491; 320—2—98—50адв.; 320—2—99—33адв.-34; 534—1—14—8; 1416—4—11416—119адв.; 1418—3—1—83адв.-84; 1430—1—52163—375адв.)*.

6373. **Чарніхоўскі Людвік** (Черниховский Людвиг), каталік. Да паўстання служыў доктарам у г. Горках. Западозраны ў дачыненні да паўстання. 20.10.1863 яго рухомая маёмасць (мэбля, 50 кніг, адзенне і інш.) на суму ў 23,7 руб. ср. апісана і секвестравана. За «палітычную нядобранадзейнасць» у 1863 г. звольнены са службы. У 1865 г. з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам у заштатным г. Копысі Горацкага пав. Паводле загада К. фон Каўфмана ад 03.10.1865 і на падставе ўказа МагГП ад 20.10.1865 секвестр з яго маёмасці здымаўся. У 1866 г. дапушчаны да выканання абавязкаў капыскага гарадавога і горацкага павятовага доктара *(2003—1—378; 2003—2—96—39)*.

**Чарніхоўскі Люцыян** — гл. **Чарнікоўскі Люцыян**

6374. **Чарніхоўскі Павел** (Черниховский Павел), сын Ігната, памешчык Магілёўскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Яго маці валодала маёнткам Булаты Магілёўскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—558; 3257—2—2—39)*.

6375. **Чарніхоўскі Юзаф** (Черниховский Иосиф), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце.

За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—70адв.)*.

**Чарніцкі Віктар** — гл. **Чарноцкі Віктар**

6376. **Чарніцкі Караль** (Черницкий Карл), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11адв.)*.

6377. **Чарніцкі Ксаверы** (Черницкий Ксаверий). Да паўстання з'яўляўся ашмянскім павятовым суддзёй. Меў дачыненне да справы сябраў Ашмянскай бібліятэкі, прызнаны вінаватым у «адсутнасці належнага нагляду за сваімі падначаленымі, праз што было дапушчана захаванне ў Судзе твораў падбухторнага зместу». Звольнены з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «Паўночна-Заходнім краі» *(160—2—682—78)*.

6378. **Чарномскі Ян** (Чарномский Иван), сваяк *Яўгена*, дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Херсонскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—19-20)*.

6379. **Чарномскі Яўген** (Чарномский Евгений), сваяк *Яна*, дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у Херсонскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—19-20)*.

6380. **Чарноўскі Юльян** (Черновский Юлиан), дваранін Свянцянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 24.03.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101; 1430—1—52163—154)*.

6381. **Чарноўскі Яўстах** (Чарновский Евстафий), сын Станіслава, дваранін. Да паўстання арандаваў казённую ферму на 99 гадоў у 1 стане Ашмянскага пав., яго маці валодала маёнткам Спрогуны таго ж стана. Западозраны рас. уладамі ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны ў г. Вільні. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280)*.

6382. **Чарноўскі N.** (Черновский N.). Да паўстання служыў настаўнікам прагімназіі ў г. Цельшах. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў «аддаленыя паветы» Наўгародскай губ. *(1430—1—52163—612адв.; 1430—1—52285—15адв.)*.

6383. **Чарноцкі Артур** (Чарноцкий Артюр), памешчык. За садзейнічанне паўстанцам у 1864 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—252)*.

6384. **Чарноцкі (Чарніцкі, Чарнецкі) Віктар** (Чарноцкий (Черницкий, Чернецкий) Виктор), сын Міхала і Вікторыі (нар. каля 1798), брат Казіміра і N., Алены і Міхаліны, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1833 г. Да паўстання жыў у маёнтку Нача Слуцкага пав. Разам з двума братамі валодаў маёнткамі Нача, Перахрэсце, Сцяновічы Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў. ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга зменена на 10 гадоў у крэпасцях. Па амністыі ад 09.01.1874 атрымаў палягчэнне пакарання з правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю». Пасяліўся ў Смаленскай губ. У 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму і пасяліўся ў Слуцкім пав. У гэты час яго маці, брат Казімір і сёстры жылі ў маёнтку Нача. У 1878 г. атрымаў дазвол на жыхарства з сям'ёй у Падольскай губ. пры бацьку сваёй жонкі Аляксандры Паўлавічы Бабры для вядзення гаспадаркі, 02.1878 прыбыў у Праскураўскі пав. Падольскай губ., але адразу адпраўлены адтуль назад у Мінскую губ. у сувязі з тым, што дазвол быў прызнаны беспадстаўным. Да канца года такая сітуацыя паўтарылася двойчы. 01.1879 вярнуўся ў маёнтак Нача. Змог атрымаць дазвол на 6-месячнае знаходжанне ў Падольскай губ. толькі 05.1881. 10.1881 падаў яшчэ адно прашэнне аб дазволе на сталае жыхарства ў Падольскай губ. для вядзення гаспадаркі ў арандаваным Вездзенскім маёнтку і для «вядзення маёмасных спраў сіротаў, што засталіся пасля смерці яго цесця» *(295—1—1537—7-12адв.; 295—1—3043; 295—1—3282б; 295—1—3492—7; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—326-327адв., 345-347; 320—2—98—50адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—15; 1525—1—2—6адв.-7)*.

6385. **Чарноцкі Павел** (Чарноцкий Павел), дваранін Пружанскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення пра-

воў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1416—4—11416—115адв.; 1430—1—52163—205адв.).*

6386. **Чарноцкі Уладзімір (Уладзіслаў)** (Чарноцкий Владимир (Владислав)), сын Караля Ксаверыевіча, брат Маўрыцыя, *Яна* і Густава, памешчык, каталік. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Лецяшын Слуцкага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з якога захоплены жыхарамі м. Цімкавічы Слуцкага пав., знаходзіўся пад следствам у ССК. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.06.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». На Лецяшын з фальв. Сычова накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 30.07.1863. Яго частка маёнтка Лецяшын апісана паводле ўказа МГП ад 17.08.1864. Яго сумесная з братам рухомая маёмасць, ацэненая ў 90,27 руб., канфіскавана і прададзена *(162—1—116—156; 296—1—89—23адв.; 299—1—577—518-543адв.; 320—1—398—2, 520-522, 644; 1430—1—52163—521адв.; 1524—1—1—15).*

6387. **Чарноцкі Уладзіслаў** (Чарноцкий Владислав), сын Рамана Андрэевіча, дваранін Лепельскага пав. Яго бацька валодаў маёнткам Быстры Лепельскага пав. Да паўстання выбыў з Быстрага. За дачыненне да паўстання пастановай ЧПА ад 06.11.1863 прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на службу ў батальёны Амурскага краю рас. войска шарагоўцам з канфіскацыяй маёмасці. Адпраўлены на месца ссылкі (да 04.04.1864). На Быстры накладзена забарона ў частцы, якая павінна была перайсці яму ў спадчыну *(1416—3—21048—52; 1430—1—52163—152, 410; 1430—1—52285—6, 37, 42; 2532—1—8—16-18; 2626—1—305—43-45).*

6388. **Чарноцкі Фартунат** (Чарноцкий Фортунат), дваранін Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(1430—1—52163—181адв.).*

6389. **Чарноцкі Ян** (Чарноцкий Иван), сын Караля Ксавер'евіча, брат Густава, Маўрыцыя і *Уладзіміра*, памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне гвардыі паручніка. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Лецяшын Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, трапіў у палон, знаходзіўся пад следствам у ССК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.06.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго частка маёнтка Лецяшын апісана паводле ўказа МГП ад 17.08.1864. Яго сумесная з братам рухомая маёмасць, ацэненая ў 90,27 руб., канфіскавана і прададзена. Пасля амністый атрымаў вяртанне правоў дваранства і права на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У 1875 г. падаў прашэнне аб дазволе вярнуцца ў маёнтак Лецяшын, дзе жыў яго брат Густаў і дзеці памерлага брата Маўрыцыя, і атрымаў дазвол на часовае прыбыццё *(162—1—116—156; 295—1—2751; 296—1—89—23адв.; 320—1—398—520-522, 644; 1430—1—52163—521адв.; 1524—1—1—15).*

6390. **Чарноцкі N.** (Чарноцкий N.), памешчык Ашмянскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. *(1430—1—52163—611адв.; 1430—1—52285—19адв.).*

6391. **Чарнушэвіч Антоні** (Чернушевич Антон), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

6392. **Чарнушэўскі Ян** (Чернушевский Ян), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70).*

6393. **Чарняўскі Вінцэнт** (Чернявский Викентий), сын *Парфёна*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з бацькам, цёткамі (гл. *Чарняўскі Парфён*), жонкай Ганнай, сынамі Ігнатам і Людвікам, дочкамі Юзэфай і Антанінай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—6адв.-7).*

6394. **Чарняўскі Ігнат** (Чернявский Игнатий), сын Францішка, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі «ў наўмысным падкіданні стрэльбы двараніну Кушлейку» (гл. *Кушлейка Мікалай* і *Чарняўскі Ян*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.06.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 07.07.1864

на падставе патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—52адв.; 1430—1—52163—414адв.; 3046—2—3—95адв.-96)*.

6395. **Чарняўскі (Чарнеўскі) Марцін** (Чернявский (Черневский) Мартин), сын Яна, брат *Паўла*, мешчанін Магілёўскай (?) губ. Нар. каля 1831 г. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. З 17.02.1864 быў пад следствам у МагСК, якая 14.08.1864 скончыла яго справу і падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства 03.1864 утрымліваўся ў г. Сянно пры Сенненскім павятовым паліцэйскім упраўленні, 08.1864 — на паруках пад наглядам паліцыі. У МагВСК меў дачыненне да справы *Ярмаловіча Пятра (3257—1—14—10адв.-11; 3257—1—17—1адв.-1а; 3257—2—2—39; 3257—2—8—19)*.

6396. **Чарняўскі Павел** (Чернявский Павел), сын Яна, брат *Марціна*, мешчанін Магілёўскай (?) губ. Западозраны рас. уладамі ў неданясенні і замоўчванні ў паказаннях пра знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе *Багдановічаў Караля* і *Пятра*. З 17.02.1864 быў пад следствам у МагСК, якая 14.08.1864, скончыўшы справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на паруках пад наглядам паліцыі. У МагВСК меў дачыненне да справы *Ярмаловіча Пятра (3257—1—17—1адв.-1а; 3257—2—2—39; 3257—2—8—19)*.

6397. **Чарняўскі Парфён** (Чернявский Парфен), сын Рамана, бацька *Вінцэнта*, грамадзянін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з сынам (з сям'ёй — гл. *Чарняўскі Вінцэнт*) і сёстрамі Аляксандрай і Антанінай высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (20 дзес. 218 саж.) канфіскавана *(295—1—2420—7; 295—1—2830—8; 320—2—98—7, 71адв., 95)*.

6398. **Чарняўскі Якуб** (Чернявский Яков), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—19)*.

6399. **Чарняўскі Ян** (Чернявский Иван), сын Мікалая, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання захоўваў зброю (гл. *Чарняўскі Ігнат*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.07.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 07.07.1864 на падставе патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—52адв.; 1430—1—52163—414адв.; 3046—2—3—95адв.-96)*.

6400. **Чарпінскі Міхал** (Черпинский Михаил), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102адв.)*.

6401. **Чаховіч Адольф** (Чехович Адольф), аднадворац Ігуменскага пав., сваяк (?) *Антонія*, *Ігната*, *Міхала*, *Юзафа*, каталік. Пасля паўстання арыштаваны за ўтрыманне паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле распараджэння МГГ ад 26.09.1864 следства аб ім даручана надворнаму радцу Крываносаву. У 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—256; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6402. **Чаховіч Андрэй-Цітус** (Чехович Андрей Тит), сын Рамуальда, брат *Густава*, *Ксаверыя* і *Леана*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання яго бацька, адстаўны паручнік, валодаў маёнткам Рачкаўшчына Свянцянскага пав. і, магчыма, маёнткам Паўлінава Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129; 1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—604)*.

6403. **Чаховіч Антоні** (Чехович Антон), аднадворац Ігуменскага пав., сваяк (?) *Адольфа*, *Ігната*, *Міхала*, *Юзафа*, каталік. Пасля паўстання арыштаваны за ўтрыманне паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле распараджэння МГГ ад 26.09.1864 следства аб ім даручана надворнаму радцу Крываносаву. У 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—256; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6404. **Чаховіч Аркадзь** (Чехович Аркадий), памешчык. Да паўстання служыў міравым пасярэднікам у Люцынскім пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 04.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Пермь. На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—52; 1430—1—52163—421, 608; 1430—1—52285—58адв.)*.

6405. **Чаховіч Аўгуст** (Чехович Август), дваранін Лепельскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Аддадзены пад ПВС. Па справе праходзіў разам з *Авяр'янавым Васілём*, *Гаспадзёнкам Мікітам*, *Дзянісавым Янам*, *Захарэвічам Васілём*, *Кошкам Рыгорам*. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.11.1866 пакінуты ў падазрэнні і прызначаны да грашовага штрафу ў 100 руб. ср. з вяртаннем на месца жыхарства на парукі, яму забаранялася таксама паступаць на службу на радзіме *(1416—4—11782)*.

6406. **Чаховіч Габрыэль** (Чехович Гавриил), дваранін Віцебскай (?) губ. За ўдзел у паўстанні

знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105; 1416—3—21048—52адв.; 1430—1—52163—401адв.; 3257—2—2—39)*.

6407. **Чаховіч Густаў** (Чехович Густав), сын Рамуальда, брат *Андрэя-Цітуса*, *Ксаверыя* і *Леана*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання яго бацька, адстаўны паручнік, валодаў маёнткам Рачкаўшчына Свянцянскага пав. і, магчыма, Паўлінава Свянцянскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым канфіскацыі *(162—1—116—39; 320—1—398—197; 1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—125)*.

6408. **Чаховіч Зыгмунт** (Чехович Сигизмунд), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.)*.

6409. **Чаховіч Ігнат** (Чехович Игнатий), аднадворац Ігуменскага пав., сваяк (?) *Адольфа*, *Антонія*, *Міхала*, *Юзафа*, каталік. Пасля паўстання арыштаваны за ўтрыманне паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле распараджэння МГГ ад 26.09.1864 следства аб ім даручана надворнаму радцу Крываносаву. У 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—256; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6410. **Чаховіч Ігнат** (Чехович Игнатий), сын Адама, дваранін Сенненскага пав., каталік. Да паўстання жыў у м. Бешанковічы Лепельскага пав. графа Храптовіча. Знаходзіўся ў бешанковіцкім атрадзе пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава*, арыштаваны. Быў пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Самуйла N.* і *Шлягер Валяр'ян*. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105адв.; 1416—3—21048—52, 52адв.; 1416—4—11416—130; 1430—1—52163—408адв.; 3046—2—3—93адв.-94; 3046—2—5—61; 3257—2—2—32, 39, 40)*.

6411. **Чаховіч Ксаверы** (Чехович Ксаверий), сын Рамуальда, брат *Андрэя-Цітуса*, *Густава* і *Леана*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, яго бацька, адстаўны паручнік, валодаў маёнткам Рачкаўшчына Свянцянскага пав. і, магчыма, маёнткам Паўлінава Свянцянскага пав. Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства, таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280)*.

6412. **Чаховіч Леан** (Чехович Леон), брат *Андрэя-Цітуса*, *Густава* і *Ксаверыя*, дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання яго бацька, адстаўны паручнік, валодаў маёнткам Рачкаўшчына Свянцянскага пав. і, магчыма, маёнткам Паўлінава Свянцянскага пав. Служыў у рас. войску, падпаручнік ці інжынер-паручнік. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках *(320—1—398—128; 1416—3—21048—52; 1416—6—274; 1416—6—280; 1430—1—52163—398, 603)*.

6413. **Чаховіч Леапольд** (Чехович Леопольд), сын Яўстаха, дваранін Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Каўба Пшамыслава*, да 01.05.1863 добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая да 15.10.1864 яшчэ не вынесла свайго рашэння. Падчас следства быў на волі. Канфірмацыяй А. Патапава ад 23.03.1865 прызначаны да вызвалення ад адказнасці, прывядзення да прысягі і пасяленні на ранейшым месцы жыхарства пад наглядам паліцыі *(1430—1—31560; 3046—2—3—95адв.-96)*.

6414. **Чаховіч Людвік** (Чехович Людвиг), сын Тадэвуша, дваранін Лепельскага пав., каталік. Да паўстання яго бацька валодаў маёнткам Навіны Лепельскага пав. Падчас паўстання «за няшчырае сазнанне ва ўдзеле ў мяцяжы» трапіў пад следства ў ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.12.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 07.07.1864 на падставе патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладаўся секвестр. На маёнтак бацькі накладзена забарона *(1416—3—21048—52адв.; 1430—1—52163—414адв.; 3046—2—3—94адв.-95; 3046—2—5—61)*.

6415. **Чаховіч Маўрыцы** (Чехович Маврикий), дваранін. Да паўстання жыў у засц. Наволішкі (ці Навасёлкі?) Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—128; 1416—3—21048—52; 1430—1—52163—603)*.

6416. **Чаховіч Міхал** (Чехович Михаил), аднадворац Ігуменскага пав., сваяк (?) *Адольфа*, *Антонія*, *Ігната*, *Юзафа*, каталік. Пасля паўстання арыштаваны за ўтрыманне паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле распараджэння МГГ ад 26.09.1864 следства аб ім даручана надворнаму радцу Крываносаву. У 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—256; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6417. **Чаховіч Рамуальд** (Чехович Ромуальд), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11)*.

6418. **Чаховіч Рудольф** (Чехович Рудольф), дваранін. 03.1864 сярод яго папер падчас вобшуку ў маёнтку Глівін Барысаўскага пав. *Свіды Віктара* знойдзены ліст з г. Кракава на імя *Свіды Яна*, таму западозраны ў сувязях з паўстанцамі і арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1561; 295—1—1643—252адв.)*.

6419. **Чаховіч Уладзіслаў** (Чехович Владислав), грамадзянін г. Віцебска. Удзельнічаў у паўстанні, пасля ўцёк за мяжу. Яго справу разглядала Кіеўская ваенна-судовая камісія *(1416—4—11782—77-78)*.

6420. **Чаховіч Францішак** (Чехович Франц), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—575; 1430—1—52163—242)*.

6421. **Чаховіч Юзаф** (Чехович Иосиф), аднадворац Ігуменскага пав., сваяк (?) *Адольфа*, *Антонія*, *Ігната*, *Міхала*, каталік. Пасля паўстання арыштаваны за ўтрыманне паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле распараджэння МГГ ад 26.09.1864 следства аб ім даручана надворнаму радцу Крываносаву. У 1865 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—256; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6422. **Чаховіч Юзаф** (Чехович Иосиф), сын Яўстаха, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Падлягала секвестру яго зямля ў маёнтку Косаўшчына Лепельскага пав. *(1416—3—21048—52адв.; 1416—4—11416—349; 1430—1—52163—167адв., 413адв.)*.

6423. **Чаховіч Ян** (Чехович Иван), сын Антонія, аднадворац Ігуменскага пав. Да паўстання «бестэрмінова адпушчаны жаўнер» Мінскага пяхотнага палка. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго рассеяння хаваўся да 21.09.1864. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ІСК. Паводле распараджэння МГГ ад 26.09.1864 следства аб ім даручана надворнаму радцу Крываносаву. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 26.11.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніке на 20 гадоў *(160—2—683—4; 295—1—1643—255адв.; 320—1—398—751; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6424. **Чаховіч Ян** (Чехович Иван), сын Тамаша, муж Францішкі Вільчынскай, дваранін Лепельскага пав. Да паўстання служыў аканомам у фальв. Самсоны Магілёўскага пав. Ануфрыя Венцлавовіча. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны і 02.05.1863 зняволены ў г. Магілёве. Яго рухомая маёмасць (конь і паліто) у Самсонах на суму 25,5 руб. 20.06.1863 апісана і секвестравана прыставам 3 стана Магілёўскага пав. 27.08.1863 яшчэ быў зняволены. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 16.04.1864 за «садзейнічанне памешчыку *Венцлавовічу Ануфрыю* ў злачынных яго дзеяннях» сасланы ў г. Уфу Арэнбургскай губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—31583—144-148; 1430—1—52163—194адв.; 2003—1—216; 2003—2—19—16адв.-17; 2003—2—48; 2514—1—2198—70адв.; 3257—2—2—39)*.

6425. **Чаховіч N.** (Чехович N.). Паходзіў з Ковенскай губ. Да паўстання служыў пісьмаводам цельшаўскага павятовага спраўніка. Пасля паўстання «невядома дзе знаходзіўся». Паводле пастановы ЧПА, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—9)*.

6426. **Чахоўскі Канстанцін** (Чеховский Константин), дваранін Мінскай губ. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166; 295—1—1643—252, 252адв.; 1430—1—52285—29)*.

6427. **Чачкоўскі Яўстах** (Чачковский Евстафий), дваранін Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Паводле канфірмацыі генералмаёра М. Даламанава, сасланы. У 1871 г. жыў у Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—124)*.

6428. **Чачот (Чэчальд) Адам** (Чечет (Чечельд) Адам). Нар. каля 1840 г. Да паўстання служыў лаке-

ем у буфеце на чыгуначнай станцыі ў г. Вільні. Абвінавачаны ВілСК у «важных палітычных злачынствах» і падлягаў арышту (да 14.08.1863) *(1527—1—4—35-36, 90-91).*

6429. **Чачот Сільвестр** (Чечет Сильвестр), дваранін Мазырскага пав. Удзельнічаў у паўстанні. У выпадку знаходжання яго маёмасць загадвалася секвестраваць з 01.10.1864 *(296—1—89—12).*

6430. **Чашніцкая Разалія** (Чашницкая Розалия), дачка Роберта, сястра *Адама*, дваранка Полацкага ці Дрысенскага пав., каталічка. Падчас паўстання жыла ў *Якавіцкай Леакадзіі* ў г. Полацку, абгаворана жыхаром Полацка Юзафам Пахановічам у «палітычнай нядобранадзейнасці» за тое, што бывала ў сваякоў сасланых і арыштаваных асоб і нібыта насіла жалобу пасля арышту брата. У выніку ў доме *Я. Л.* 02.1864 праведзены вобшук, падчас якога знойдзены «падбухторнага зместу гімны і вершы». Трапіла пад следства ў ВСК, падчас якога жыла (прыкладна з 03.1864) у г. Віцебску пад наглядам паліцыі. Пастановай ВСК ад 14.05.1864 прызнана вінаватай, а яе справа пададзена віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй А. Патапава ад 22.09.1864 прысуджана да аддачы на парукі і пад нагляд паліцыі і штрафу ў 100 руб. ср. 19.11.1864 і 25.11.1864 падавала прашэнні аб адтэрміноўцы выплаты штрафу з прычыны адсутнасці сродкаў, што было адхілена. За няўплату штрафу 28.12.1864 арыштавана на 132 дні і змешчана ў Даўгарукаўскім доме ў Віцебску. 09.05.1865 вызвалена і адпраўлена ў Полацк *(1416—4—11552; 1430—1—31594; 2626—1—305—70-73; 3046—2—3—94адв.-95).*

6431. **Чашніцкі Адам** (Чашницкий Адам), сын Роберта, брат *Разаліі*, дваранін. Нар. каля 1835 г. Служыў чыноўнікам, калежскі рэгістратар. Да паўстання жыў у г. Дынабургу. Абгавораны *Другавінам Янам*, што нібыта ездзіў купляць порах і зброю для паўстанцаў, арыштаваны (да 29.05.1863). Падчас вобшуку ў яго знойдзена форма для ліцця куль. Зняволены ў Дынабургскай фартэцыі. 29.06.1863 на яго маёмасць, у тым ліку на сельскагаспадарчыя машыны, накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Казанскую губ. У 1870 г. жыў у г. Ніжнім Ноўгарадзе, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—2149—7-8; 296—1—25—110; 1416—3—21048—51, 52; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31370—15, 89; 1430—1—52163—15адв., 54, 390, 617, 824; 2601—1—5—7адв.; 3046—2—3—92адв.-93; 3046—2—5—61).*

6432. **Чашніцкі Аркадзь** (Чашницкий Аркадий), сын Юзафа, дваранін Дрысенскага пав., каталік. Да паўстання служыў вольнанаёмным пісьмаводам прystава 3 стана Дрысенскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 27.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—94адв.-95).*

6433. **Чашніцкі Мечыслаў** (Чашницкий Мечислав), дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—128; 1430—1—52163—603).*

6434. **Чашумскі Бенядыкт** (Чешумский Бенедикт), мешчанін г. Панявежа. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

6435. **Чудак (Чудук) Тэафіл** (Чудак (Чудук) Теофил (Феофил)), сын Андрэя, селянін. Да паўстання жыў у в. Мінутычы Навагрудскага пав., прыпісаны да Сноўскай сельскай грамады. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 28.03.1864), сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці і ссылкі. Высланы з радзімы *(295—1—2725—9; 320—1—398—310).*

6436. **Чудоўскі Аляксандр** (Чудовский Александр), сын Ігната. Да паўстання служыў настаўнікам Віцебскага павятовага вучылішча, тытулярны радца. Падчас паўстання затрыманы ў Суражскім пав. без пісьмовых дакументаў, у яго знойдзены «забароненыя рукапісы на польскай мове». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 25.08.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва 29.10.1863 «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—3—21048—52; 1430—1—31355—126-127; 1430—1—52163—395адв.; 1430—1—52285—5адв., 43адв.; 3046—2—3—93адв.-94; 3046—2—5—61).*

6437. **Чудоўскі Антоні** (Чудовский Антон), сын Тадэвуша (сын альбо брат *Тадэвуша*), памешчык Чэрыкаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе і падпале моста на шашы, у 1863 г. арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пада-

дзена МагВГ. Быў пад судом у МагВСК. Высланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2001—1—900—1адв.; 2003—1—489—62; 2532—1—15—9адв.; 3257—2—2—39; 3366—1—5—11)*.

6438. **Чудоўскі Мечыслаў** (Чудовский Мечислав). Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—39)*.

6439. **Чудоўскі Тадэвуш** (Чудовский Фадей), сын Тадэвуша, бацька ці брат *Антонія*, памешчык. «Галоўны падбухторшчык Чэрыкаўскага павета». Забіты сялянамі ля в. Ляцягі Чэрыкаўскага пав. у той час, калі адстаў ад атрада і даганяў яго. Яго маёнтак Чырвонае Чэрыкаўскага пав. (1386 дзес. зямлі, бровар, 2 млыны, 2 сукнавальні, гасцініца, дом на 14 пакояў, гаспадарчыя пабудовы, сад, 198 рэвізскіх душ і інш., 22010 руб. доўгу) секвестраваны і потым канфіскаваны. Таксама падазраваўся рас. уладамі ва ўзначальванні ў Магілёўскай губ. таемнага паўстанцкага таварыства, куды нібыта ўваходзілі *Бразоўскія Ксаверы*, *Францішак* і *Юзаф*, *Буцэвічы І.* і *Юзаф*, *Ваяводскі Казімір*, *Гурко Юльян*, *Дамбінскі Тадэвуш*, *Жудро Ануфры*, *Карніцкія Антоні* і *Канстанцін*, *Ляшчынскі Ян*, *Піюры Аляксандр* і *Антоні*, *Прушаноўскі Ян*, *Пянткоўскія М.* і *Мікалай*, *Слежаноўскі Аляксандр*, *Рэут Антоні (296—1—25—108; 1430—1—52163—162; 2001—1—900—1адв.; 2001—2—123—7адв.-8; 2001—2—124—6; 2001—2—171—15адв.-16, 39адв.; 2003—1—489—25; 3255—1—12—1-1адв.; 3257—2—2—39, 39адв.; 3366—1—5—11)*.

6440. **Чудоўскі N.** (Чудовский N.). Належаў да Гродзенскай губ. Да паўстання адстаўны ротмістр Сумскага гусарскага палка рас. войскаў. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39адв.; 296—1—25—88адв.; 320—1—398—197адв.; 1430—1—52163—125адв.)*. Магчыма, меў псеўданім *Сбугемскі (Збагемскі)*.

**Чудук Тэафіл** — гл. **Чудак Тэафіл**

6441. **Чужэвіч Матэвуш** (Чужевич Матеуш), ксёндз. Да паўстання служыў у Шавельскім пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—10)*.

6442. **Чыж Зоф'я** (Чижева Софья), дачка Войцеха, дваранка Слуцкага пав., каталічка. За захоўванне «палітычных» вершаў знаходзілася пад следствам у ССК *(1524—1—1—15адв.)*.

6443. **Чыж Конрад** (Чиж Конрад), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12)*.

6444. **Чыж Станіслаў** (Чиж Станислав), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны за ілжывыя паказанні на следстве, утрымліваўся ў г. Ігумене. Паводле распараджэння ЧВГМГ ад 26.02.1864 адпраўлены ў г. Мінск, а яго справа 05.03.1864 адаслана ў МСК *(295—1—1643—252; 1418—3—1—83адв.-84)*.

6445. **Чыж N.** (Чиж N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Пабер'е (Пабярэжжа) Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 13.06.1863 і пастановы ВілГП ад 18.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—251—1; 1416—6—253—4-5, 12)*.

6446. **Чыжык Мельхіёр** (Чижик Мельхиор). Да паўстання служыў штабс-капітанам Маскоўскага грэнадзёрскага Вялікага герцага Фрыдрыха Макленбургскага палка. 19.04.1863 разам з *Адынцом Янам* выправіўся з г. Барысава ў маёнтак Смаляры Барысаўскага пав. *Бачызмальскага Леанарда*. Узначаліў атрад паўстанцаў у Барысаўскім пав., куды сярод іншых уваходзілі *Бачызмальскі Леанард*, *Рудзінскі Рыгор*, *Тышкевіч Генрык*, *Фэльдбэрг Станіслаў* і інш. Арыштаваны, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 20 гадоў. У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(295—1—1527—79; 295—1—1547—1-1адв.; 295—1—1643—254; 296—1—25—106; 1430—1—52758—44)*.

6447. **Чыжык Уладзімір** (Чижик Владимир), сын Юзафа, дваранін Навагрудскага пав. Вучыўся ў гімназіі ў г. Навагрудку. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 17.12.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(162—1—122—15; 295—1—1643—252адв.; 534—1—14—24)*.

6448. **Чыжэўскі Фелікс** (Чижевский Феликс). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—44)*.

6449. **Чыжэўскі Эдвард** (Чижевский Эдуард), сын Юзафа, дваранін Невельскага пав., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання служыў прыватным землямерам, яго бацька валодаў маёнткам Брадзянец Невельскага пав. Разам з *Карніцкім Антоніем*, *Кляйкоўскім Янам*, *Лышчынскім Ежы*, *Рагозам Аляксандрам*, *Раўкоўскім Ежы* і *Рачыцкім Юзафам* паспрабаваў далучыцца да паўстання, 22.04.1863

затрыманы сялянамі в. Мікуліна Аршанскага пав. Зняволены ў г. Смаленску, потым пераведзены ў г. Віцебск. Паводле ўказа МагГП ад 30.05.1863 яго рухомая маёмасць (адзенне і чамадан) на 9 руб. ср. у фальв. Чурылава Аршанскага пав. памешчыка Ежы Машчынскага 27.06.1863 апісана і секвестравана. На следстве сцвярджаў, што ехаў на станцыю Алынь, каб атрымаць прысланую з г. СПб астралябію і па дарозе заехаў да *Л. Е.*, дзе яго прымусілі прыняць прысягу, а таксама даваў паказанні пра выраб куль у маёнтку *Л. Е.* Знаходзіўся пад судом у СмВСК, якой пакінуты «ў наймацнейшым падазрэнні ў складанні змовы супраць Урада» і прызначаны да пазбаўлення правоў стану і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 16.11.1863 яго справа پададзена віцебскаму ваеннаму губернатару, рашэннем якога ад 18.01.1864 ссылка заменена на катаргу на 8 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва канчаткова прысуджаны (да 09.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. На маёнтак бацькі накладзена забарона. 19.03.1864 адпраўлены праз г. Востраў Пскоўскай губ. на месца ссылкі. Па дарозе захварэў, пакінуты часова ў бальніцы ў г. Ніжнім Ноўгарадзе, адкуль прыслаў да бацькоў свой фотаздымак і ліст з просьбай аб высылцы грошай. Фотаздымак канфіскаваны ўладамі *(296—1—25—105; 1416—3—21048—51, 52, 52адв.; 1416—4—11366; 1416—4—11416—18а; 1430—1—31353; 1430—1—31834; 1430—1—52163—423; 2003—2—225; 2514—1—2198—71)*.

6450. **Чыжэўскі Ян** (Чижевский Иван), дваранін. Да паўстання жыў у м. Папяляны Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166адв.)*.

6451. **Чырскі Іпаліт** (Чирский Ипполит), дваранін Віленскай губ. Да паўстання арандаваў мызу Хотмін Ашмянскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101; 1430—1—52163—154)*.

6452. **Чэпет Адам** (Чепет Адам). Да паўстання служыў лакеем у буфеце станцыі чыгункі ў г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.)*.

6453. **Чэпуль Станіслаў** (Чепуль Станислав). Да паўстання служыў на грамадзянскай службе. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—61)*.

6454. **Чэркас Алаізі** (Черкас Алоизий), сын Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне надворнага радцы. Западозраны рас. уладамі ў забеспячэнні бешанковіцкага атрада адной стрэльбай і двума пісталетамі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 07.07.1864 на падставе патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладаўся секвестр. Аддадзены пад суд *(1416—3—21048—52адв.; 1430—1—52163—414адв., 474; 3046—2—3—93адв.-94; 3046—2—5—61)*.

6455. **Чэркас Эдвард** (Черкас Эдуард), дваранін. Да паўстання з'яўляўся экстэрнам Канстанцінаўскага вучылішча. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў *(320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—52; 1430—1—52163—397адв., 596адв.; 2616—1—40—12адв.; 3046—2—5—61)*.

6456. **Чэрнік Вандалін-Юльян-Міхал** (Черник Вандолин-Юлиан-Міхаил), сын Казіміра-Вандаліна-Барталамея (нар. у 1823, памёр да 1871), брат Антонія-Юзафа-Тадэвуша (нар. у 1852, памёр у 1879), Міхала (нар. 29.09.1843, палкоўнік рас. войскаў, памёр пасля 1896 г.) і Юліі, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. 25.08.1842 у с. Альшэва Слонімскага пав., хр. 30.08.1842 у Альшэўскім касцёле. З 1860 г. служыў у рас. войску, юнкер. Да паўстання выйшаў у адстаўку. Удзельнічаў у паўстанні асабіста, у т.л. у сутычках з рас. войскамі, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Маёнтак Садкова Навагрудскага пав. (ацэнены ў 8 тыс. руб. ср.), якім валодаў на правах суспадчыннніка з братамі і сястрой, секвестраваны 28.10.1863. На следстве даваў паказанні пра *Маеўскага Канстанціна.* Канфірмацыяй А.Л. Патапава ад 27(31?).08.1864 прысуджаны да пазбаўлення вайсковых чыноў, дваранства, правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаржныя працы на 8 гадоў на заводах. *(162—1—116—146, 156; 295—1—1643—252; 296—1—89—14адв.; 296—1—99—5адв., 12; 319—2—3636; 320—1—398—3, 644; 320—2—99—51адв.-52; 1430—1—52163—535)*.

6457. **Чэрнік Канстанцін** (Черник Константин), сын Тамаша, дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Станіслававa Слонімскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП ад 17.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—232, 275; 1416—6—277—3)*.

6458. **Чэрняк (Чэрнік) Максімільян** (Черняк (Черник) Максимилиан), сын Сымона, дваранін Слонімскага пав. Да паўстання жыў у вак. Плаўскія Слонімскага пав. Падчас паўстання камандаваў атрадам, потым хаваўся ў доме *Шастоўскага Юзафа* (гл. *Вярбіцкі Сымон*, *Захарэвіч Васіль*). Яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—4—11416—261-266; 1416—6—232; 1416—6—277—3)*.

6459. **Чэрскі Ян** (Черский Иван), сын Дамініка, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Свольна Дрысенскага пав. (644 дзес. зямлі, фруктовы сад, 670 руб. гадавога прыбытку). За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу шарагоўцам у рас. войска. Свольна 23.07.1863 секвестравана, а затым канфіскавана (канец 1863 г.) *(320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—52; 1416—4—11416—285, 289; 1430—1—31275—68; 1430—1—52163—213адв.-214, 230, 392, 459, 568, 596, 823адв.; 2601—1—5—7адв.; 2616—1—40—10адв., 12адв.)*.

6460. **Чэўжык (Чэўнік) Антоні** (Чевжик (Чевник) Казимир). Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Казімірава Ашмянскага пав. памешчыка Багдановіча. Западозраны разам з *Сяліцкім Міхалам* рас. уладамі ў прыманні паўстанцаў у Казіміраве і дастаўцы ім харчавання ў лес (гл. *Вагер Вінцэнт*, *Руткоўскі Казімір*). Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

**Чэўнік Антоні** — гл. **Чэўжык Антоні**

**Чэчальд Адам** — гл. **Чачот Адам**

# Ш

6461. **Шабека Адэль** (Шебеко Аделаида), дачка Яна, жонка (?) *Рафала*, памешчыца. Нар. каля 1824 г. Разам з *Рафалам* абвінавачана рас. уладамі ў адпраўленні некалькіх чалавек са сваёй прыслугі у паўстанцкі атрад і захоўванні зброі. З 19.06.1863 знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ яго не скончыла. 03.1864 жыла пад наглядам паліцыі ў г. Віцебску *(3257—1—14—6адв.-7)*.

6462. **Шабека Рафал** (Шебеко Рафаил), сын Францішка, муж (?) *Адэль*, памешчык. Нар. каля 1808 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра. Да паўстання ў яго працаваў аканомам *Шлягер Валяр'ян*. Разам з *Адэль* абвінавачаны рас. уладамі ў адпраўленні некалькіх чалавек са сваёй прыслугі у паўстанцкі атрад і хаванні зброі. Яго ўчастак зямлі ў маёнтку Чарніца Барысаўскага пав. секвестраваны паводле патрабавання Сенненскага павятовага паліцэйскага ўпраўлення ад 15.06.1863. З 19.06.1863 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ яго не скончыла. 03.1864 з прычыны хваробы жыў пад наглядам паліцыі ў г. Віцебску *(296—1—89—8адв., 69адв.; 2001—2—124—15; 3255—1—14—6; 3257—1—14—6адв.-7)*.

6463. **Шаблевіч Дамазі** (Шаблевич Домазий), дваранін Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы *(320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

6464. **Шаблевіч Міхал** (Шаблевич Михаил), дваранін Магілёўскага пав. Далучыўся да паўстанцкага атрада, 10.1864 знаходзіўся ў «невядомай адлучцы». Яго рухомая маёмасць канфіскавана і прададзена *(2001—2—124—14)*.

6465. **Шаблоўскі Міхал** (Шабловский Михаил), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 05.–06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—85адв.-86)*.

6466. **Шаблоўскі Тадэвуш** (Шабловский Фадей), муж Бенядыкты, бацька Юзафа, шляхціц Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву ў распараджэнне МУС, адтуль высланы далей на ўсход. Потым атрымаў частковую амністыю і ў 1869 г. пераехаў у Каралеўства Польскае. Пасяліўся ў г. Ленчыцах Калішскай губ., дзе падаў прашэнне аб пераездзе да яго сям'і з Мінска за кошт казны, якое было адхілена *(295—1—1643—260; 295—1—1995; 295—1—2420—11)*.

6467. **Шаблоўскі Юзаф** (Шабловский Иосиф), сын Яна, дваранін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ў нарыхтоўцы харчавання для паўстанцаў, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—15адв.)*.

6468. **Шабуневіч Міхал** (Шабуневич Михаил), памешчык Шавельскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—521адв.)*.

6469. **Шабуневіч Францішак** (Шабуневич Франц), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. 04.1863 пад прымусам выдаў 46 паўстанцам з

групы *Трусава Антона* (пасля бою ля в. Пятровічы Ігуменскага пав. 28.04.1863) харчовыя прыпасы, за што атрымаў 3 руб., затым правёў 6 паўстанцаў у фальв. Галінова Ігуменскага пав. Паведаміў пра гэта сялянам в. Дварэц Ігуменскага пав. 05.1863 у яго лесе з'явілася група паўстанцаў у 30 чал., пра што паведаміў рас. уладам пра 2 тыдні. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызнаны вінаватым у несвоечасовым данясенні ўладам пра паўстанцаў. 03.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкаму, якім у сваю чаргу 08.05.1864 пададзена М. Мураўёву. Рашэннем М. Мураўёва ад 08.12.1864 прысуджаны да вызвалення з-пад арышту і аддачы на парукі. *(295—1—1643—262; 296—1-109; 1418—3—1—86адв.-87).*

6470. **Шабуневіч Ян** (Шабуневич Иван), дваранін. Да паўстання арандаваў зямлю ў памешчыка маёнка Вязынь Мінскага пав. Ігната Багдашэўскага. Падчас паўстання пасланы І. Багдашэўскім разам з *Батвіннікам Невахам-Шмуйлам* на пошукі яго сына *Багдашэўскага Стэфана*. 05.05.1863 арыштаваны ля в. Аляксандрава Мінскага пав. Пры вобшуку ў яго знойдзены перавязачныя матэрыялы, таму западозраны ў жаданні дапамагаць паўстанцам. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая заключыла, што «не можа быць абвінавачаны, і прыцягнуты да следства за выкананне даручэння, ускладзенага дваранінам Ігнатам Багдашэўскім». Паводле загада ЧВГМГ ад 13.07.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1584; 296—1—19—39-43).*

6471. **Шабунеўскі Ян** (Шабуневский Иван), дваранін. Ананімным даносам абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні ў Магілёўскай губ., у сувязі з чым 30.01.1864 арыштаваны ў г. Мінску і зняволены ў пабенедыкцінскім будынку. У яго кватэры праведзены вобшук, аднак нічога кампраметуючага не знойдзена. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая не знайшла доказаў віны. У сувязі з гэтым паводле распараджэння ЧВГМГ ад 15.06.1864 падлягаў вызваленню і вяртанню на месца жыхарства *(295—1—1584—10-14).*

**Шабут (Шыбут) Станіслаў** — гл. **Матусевіч Станіслаў**

6472. **Шавярноўскі Ян** (Шаверновский Ян), сын Леана, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв., 25).*

6473. **Шадзевіч Аляксандр** (Шадзевич Александр), шляхціц Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(534—1—14—4; 1416—4—11416—116; 1430—1—52163—374).*

6474. **Шадурскі Адам** (Шадурский Адам). Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) з Гродзенскай губ. «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—31370—61; 1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25).*

6475. **Шадурскі Аўгуст** (Шадурский Август), сын Яна, дваранін Дзісенскага пав. Да паўстання яго бацькі валодалі маёнткамі Ігналіна Дрысенскага пав., Пелеч Дынабургскага пав. і Сычэвічы Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Яго маёмасць падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 25.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—134, 234адв.; 1416—3—21048—53; 1430—1—52163—19адв., 391, 596; 2601—1—5—7адв.; 2616—1—40—12).*

6476. **Шадурскі Вінцэнт** (Шадурский Викентий), сын Савелія, муж Вольгі Мікалаеўны Разэншыльд-Паўлін, бацька Ксаверыя (нар. каля 1851), Марыі (нар. каля 1852), Баляслава (нар. каля 1854), Мадэста (нар. каля 1855), Алены (нар. каля 1858), Мікалая (нар. каля 1860) і Ігната (нар. каля 1862), дзядзька Вітальда, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Сальнава Люцынскага пав. і (?) маёнткамі Чарнаполь і Доманава Дрысенскага пав. Падчас паўстання меў дачыненне да справы пра існаванне ў маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. друкарні, дзе выпускалася газета «Зямля і воля», і падрыхтоўкі паўстання ў Люцынскім пав. Арыштаваны, зняволены ў г. Дынабургу. На яго маёмасць 27.05.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 06.04.1863 накладзены секвестр, які 20.10.1864 яшчэ не зняты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 21.02.1864 прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і 03.1864 высланы на жыхарства ў Казанскую губ. ВГП 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 06.04.1864 выдала ўказ аб секвестры яго маёмасці. Аднак ужо 30.11.1864 на падставе загаду А. Патапава ад 15.10.1864 яно ж выдала ўказ аб вызваленні маёмасці ад секвестру. У 1864 г. не прыбыў у Казанскую губ., а паселены ў г. Старая Руса Наўгародскай губ. *(296—1—25—110; 1416—3—21048—53адв.; 1430—1—31370—58, 61; 1430—1—31583—18-30, 44-53, 60; 1430—1—52163—169, 392адв., 432адв., 453адв., 460, 494-495, 617, 730; 2601—1—5—7адв.).*

6477. **Шадурскі Людвік** (Шадурский Людвиг), дваранін, сын уладальніка маёнтка Харашэвічы Ваўкавыскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103)*.

6478. **Шайкоўскі Дамінік** (Шайковский Доменик), сын Мікалая, аднадворац Слуцкага пав., каталік. Гвалтоўна ўзяты паўстанцамі ў атрад, уцёк і з'явіўся да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ССК. 09.1863 вернуты на месца жыхарства з усталяваннем негалоснага паліцэйскага нагляду *(295—1—1540; 295—1—1643—261адв.; 296—1—19—281адв.; 1524—1—1—15адв.)*.

6479. **Шакальскі Захар** (Шокальский Захарий), дваранін Магілёўскай губ. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве ці ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны і зняволены ў г. Бабруйску. Паводле ўказа МагГП ад 31.05.1863 на яго адзенне, ацэненае ў 3 руб. ср., 13.07.1863 накладзены секвестр. Пастановай следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлегла (да 1867 г.) вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2003—1—335; 2514—1—2198—71)*.

6480. **Шалагер Адольф** (Шелагер Адольф). Да паўстання служыў у канцылярыі Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

6481. **Шаламіцкі (Шаламыцкі) Антоні** (Шоломицкий (Шоломыцкий) Антон), сын Тэафіла, дваранін Пінскага пав. Да паўстання з'яўляўся студэнтам Маскоўскага[165] ўніверсітэта, напярэдадні паўстання прыбыў да бацькоў у вак. Шаломічы 3 стана Пінскага пав. Падчас знаходжання ў стане паўстанцкага атрада *Траўгута Рамуальда* не быў на месцы жыхарства. Таму сямцовым станавым прыставам западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і 09.07.1863 арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая высветліла, што падчас знаходжання паўстанцаў у стане знаходзіўся ў вак. Вылазы 1 стана Пінскага пав. Рашэннем МСК ад 22.12.1863 і на яго падставе загадам ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 24.12.1863 прызначаны да вызвалення «з-пад арышту і праследавання». Аднак, у 1864 г. аддадзены пад ПВС, паводле пастановы якога, 09.1864 прызначаны ссылкі «адміністрацыйным шляхам» на жыхарства ў Томскую губ. і секвестру маёмасці. *(160—2—682—20, 101; 162—1—116—158, 174; 295—1—1643—257адв.; 296—1—68; 296—1—89—12адв.; 1430—1—52163—379)*.

6482. **Шалевіч Казімір** (Шалевич Казимир). Служыў чыноўнікам у Віленскай (?) губ., губернскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

6483. **Шалевіч Караль** (Шалевич Карл), сын Леанарда (паручніка) і Феліцыяны Дамінікаўны, муж Зоф'і Юзафаўны Пятроўскай, бацька 4 дзяцей, памешчык. Да паўстання разам з маці валодаў маёнткам Мікулінка Магілёўскага пав. (5 валок зямлі, 13 дваравых сялян, дом на 3 пакоі, сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 40 руб. гадавога прыбытку, 140,15 руб. доўгу). За дачыненне да паўстання Мікулінка 19.06.1863 апісана і секвестравана. Жонка 23.06.1863 падала ў МагГП грашовую прэтэнзію да яго маёмасці на 1300 руб. ср., што было адхілена. Паводле загаду А. Патапава ад 01.12.1864, дазволена выдаваць яго жонцы і тром малагадовым дзецям па 20 руб. на год на ўтрыманне з даходаў ад яго секвестраванай маёмасці. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Потым яго маёмасць падлегла канфіскацыі. У 1871 г. жыў у Енісейскай губ., атрымаў частковую амністыю з вяртаннем правоў дваранства *(295—1—1562—40-44; 2003—1—291; 2003—1—445—2, 14адв.; 2003—2—19—18-18адв.; 3257—2—2—40адв.)*.

6484. **Шалевіч Караль** (Шалевич Карл), сын Тамаша Ксаверыевіча, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1840 г. Вучыўся ў Канстанцінаўскім кадэцкім корпусе, у 1857 г. паступіў на дзейсную службу ў чыне падпаручніка. У 1859 г. паступіў у Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба, у 1861 г. закончыў з яе з чынам штабс-капітана і выйшаў у адпачынак «па хатніх справах». Потым не вярнуўся на месца службы, напрыканцы 1862 г. выйшаў у адстаўку з прычыны хваробы. Да паўстання жыў у Навагрудскім пав. 04.04.1863 разам з *Давідовічамі Якубам* і *Янам* уступіў у атрад паўстанцаў, які фарміраваўся ў в. Каўпеніца Навагрудскага пав. і ў якім знаходзіліся сярод іншых *Герман Эдмунд*, *Клюкоўскія Ваўрынец* і *Канстанцін*. Разам з гэтым атрадам паспрабаваў злучыцца з атрадам *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*, аднак, не знайшоўшы яго, 06.04.1863 затрыманы

[165]У некаторых дакументах памылкова ўказваецца, што вучыўся ў Кіеўскім універсітэце.

сялянамі ў м. Мір Навагрудскага пав., арыштаваны і дастаўлены ў г. Навагрудак. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 15.06.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, на якім шмат хлусіў і сцвярджаў, што добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.04.1864 прысуджаны да пазбаўлення ўсіх праvoў стану і чыну, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. На маёнтак яго бацькі Калдычэва Навагрудскага пав. накладзена забарона. У ссылцы ў яго нарадзіўся сын Уладзіслаў. У 1871 г. атрымаў частковую амністыю з вяртаннем праvoў дваранства. У 1880 г. жыў у Смаленскай губ., 12.09.1880 атрымаў чарговае палягчэнне пакарання з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу. Сын у 1901 г. вучыўся на 4 курсе Варшаўскага палітэхнічнага інстытута, 06.09.1901 атрымаў ад МГГ пасведчанне аб вернутых правах дваранства *(162—1—122—101адв.; 295—1—1562; 295—1—1585—1адв.; 295—1—1643—258адв.; 295—1—3372—24-25; 320—2—99—53; 1416—1—247; 1430—1—52163—181адв.; 1430—1—52758—46).*

6485. **Шалевіч N.** (Шалевичева N.), памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Шалева Лідскага пав., дзе служыў аканомам *Сумарок Рамуальд*. Западозрана рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 20.06.1863 і пастановы ВілГП ад 25.06.1863 падлягала секвестру *(1416—6—252—5-23; 1416—6—254;).*

**Шалепень Дзяменці** — гл. **Шалепін Дзяменці**

6486. **Шалепень Ігнат** (Шелепень Игнатий). Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—6).*

6487. **Шалепін (Шалепень) Дзяменці** (Шелепин (Шелепень) Дементий), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—71).*

6488. **Шалепін (Шалепень) Ян** (Шелепин (Шелепень) Иван), дваранін Віцебскай губ. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Казанскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—71).*

6489. **Шалькевіч Ігнат** (Шалькевич Игнатий), дваранін. Да паўстання жыў у г. Расіенах. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

6490. **Шалюта Францішак** (Шелюто Франц), сын Міхала, брат Схаластыкі (нар. каля 1806 г.), муж Антаніны Вінцэнтаўны, бацька Мікалая (нар. каля 1846 г.) і Міхаліны (нар. каля 1844 г.), дваранін. Да паўстання служыў пісьмаводам слуцкага маршалка, губернскі сакратар. Валодаў каменным домам у г. Слуцку (ацэнены ў 12 тыс. руб. ср.) і хутарам з зямлёй (ацэнены ў 4 тыс. руб. ср.). Як «сумнеўны ў добранадзейнасці» трапіў у поле ўвагі рас. органаў 02.1863. 17.11.1863 арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. За тое, што яго «прысутнасць <…> у краі прызнаецца шкоднай для грамадскага спакою», паводле загада М. Мураўёва ад 13.12.1863 падлягаў ссылцы ў Кастрамскую губ. пад строгі нагляд паліцыі. 04.02.1864 адпраўлены, 26.02.1864 прыбыў у г. Кастраму, адтуль высланы ў г. Галіч. У 1867 г. атрымаў дазвол на пераезд у г. Варшаву, 21.08.1867 выехаў з Кастрамы, па дарозе 16.09.1867 прыбыў у Слуцк. Тут захварэў, падаў прашэнне аб дазволе застацца ў Слуцку да выздараўлення. У 1874 г. атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму і вярнуўся. 12.1876 жыў у фальв. Бяляны Слуцкага пав. (прадмесце Слуцка), 03.1880 — у Слуцку *(295—1—1571—7; 295—1—1619; 295—1—1643—261; 295—1—3026—15адв.-16; 295—1—3492—7).*

6491. **Шампроўскі Нікадым** (Шампровский Никодем), аднадворац Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення праvoў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.).*

6492. **Шамяціла Адам** (Шеметилло Адам), сын Яна. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны да канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—84; 534—1—14—31).*

6493. **Шамяціла [Браніслаў]** (Шеметилло [Бронислав]). Да паўстання служыў прыставам 1 стана Ігуменскага пав. 26.04.1863 выдаў білет на праезд у Слуцкі пав. *Вэндарфу Браніславу*. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» у 1863 г.

звольнены са службы *(295—1—1643—258адв.; 296—1—19—29-38, 272-272адв.).*

6494. **Шанкоўскі Цітус** (Шанковский Тит), сын Антонія. Да паўстання служыў пісьмаводам прыстава 4 стана Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3).*

6495. **Шантыр** (народжаная **Літвінава) Алена** (Шантыр (урожденная Литвинова) Елена), дачка Васіля, жонка *Яна*, сястра штабс-капітана Паўла, маці Марыі і Разаліі, памешчыца Полацкага пав. Нар. каля 1824 г. Перайшла з праваслаўя ў каталіцтва. Да паўстання жыла ў маёнтку свайго мужа Тродавічы Полацкага пав. 05.1863 ведала пра паўстанцаў, якія хаваліся ў лесе яе мужа, намаўляла сялян не праследваць іх. Апрача таго, абгаворана *Другавінам Янам* у зборы грошай на паўстанне. Разам з мужам арыштавана. На яе маёмасць паводле распараджэння ВГП ад 22.06.1863 накладзены секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, пастановай якой ад 25.09.1863 прызнана вінаватай у спачуванні і дапамозе паўстанцам і прызначана да 6-месячнага турэмнага зняволення і ссылкі ў Сібір на жыхарства. Аднак пастановай ЧПА, канфірмаванай 03.12.1864 А. Патапавым, прызнана вінаватай толькі ў неданясенні ўладам пра паўстанцаў, у якасці пакарання ёй залічана ўтрыманне пад арыштам падчас следства, пасля чаго вызвалена і вернута на месца жыхарства з аддачай на парукі і пад строгі нагляд паліцыі. Справа пра яе пераход у каталіцтва асобна пададзена для вырашэння ў Сенат. 03.1865 вярнулася ў Тродавічы *(1416—3—21048—53; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31242; 1430—1—52163—15адв.; 3046—2—3—96адв.-97; 3046—2—5—63).*

6496. **Шантыр (Зандыр) Юзаф** (Шандыр (Зантыр) Иосиф), сын Вінцэнта, дваранін Лепельскага пав. Падчас паўстання знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Быў пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 29.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Указ аб канфіскацыі яго маёмасці выдадзены 23.05.1864 *(296—1—25—105; 1416—3—21048—29, 54; 1430—1—52163—413; 2626—1—305—52-53; 3046—2—5—63адв.).*

6497. **Шантыр Юстын** (Шантыр Устин), сын памешчыка Полацкага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 05.03.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Пермь *(1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—59).*

6498. **Шантыр Ян** (Шантыр Иван), сын Антонія, муж *Алены*, бацька Марыі і Разаліі, памешчык, каталік. Нар. каля 1814 г. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання валодаў маёнткам Тродавічы Полацкага пав., у 1857 г. падаў прашэнне аб правядзенні рамонту ў мясцовай капліцы[166]. 05.1863 у яго лесе хаваліся 5 паўстанцаў. Западозраны ў падтрымцы іх і разам з жонкай арыштаваны. Апрача таго абгавораны *Другавінам Янам* у ахвяраванні грошай на паўстанне. На яго маёмасць 01.08.1863 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ВГП ад 12.06.1863 накладзены секвестр. Зняволены ў віцебскім турэмным замку. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 25.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Паводле распараджэння ваеннага губернатара г. Віцебска ад 19.09.1864 вызвалены з усталяваннем строгага паліцэйскага нагляду. 28.09.1864 падаваў прашэнне аб часовым вызваленні жонкі для наведвання хворага брата. Спачатку пастановай ВСК прызнаны вінаватым у спачуванні і дапамозе паўстанцам і прызначаны да пазбаўлення правоў стану, чыну і ссылкі ў Сібір. Зноў арыштаваны. Аднак пастановай ЧПА, канфірмаванай 03.12.1864 А. Патапавым, прызнаны вінаватым толькі ў неданясенні ўладам пра паўстанцаў, у якасці пакарання яму залічана ўтрыманне пад арыштам падчас следства, пасля чаго вызвалены і вярнуты на месца жыхарства з аддачай на парукі і пад строгі нагляд паліцыі. З яго маёмасці спагнаны ўзмоцнены 10-працэнтны збор (445,5 руб.). 03.1865 вярнуўся ў Тродавічы *(1416—3—21048—53; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—31242; 1430—1—31602—99; 1430—1—52163—15адв., 404, 430, 443адв., 446адв., 570; 3046—2—3—96адв.-97; 3046—2—5—63; 3432—1—13—73-74, 79-80).*

6499. **Шаняўскі Бенядыкт** (Шанявский Бенедикт), ксёндз. Да паўстання служыў у Ашмянскім пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9).*

6500. **Шаняўскі Валяр'ян** (Шанявский Валериан), сын Юзафа, брат *Цэзара*, муж Станіславы, памешчык, каталік. Нар. каля 1835 г. Да паўстання жыў у маёнтку Шапялевічы Магілёўскага пав.,

[166] Капліца адносілася да парафіі Гарбачэўскага касцёла, дзе з'яўляўся пробашчам *Кавецкі Антоні.*

валодаў таксама маёнткам Дунаёк Быхаўскага пав. Западозраны ў падрыхтоўцы паўстання па Магілёўскай губ. і ў агітацыі сялян далучыцца да яго. 02.02.1863 арыштаваны і дастаўлены ў г. Магілёў, у яго доме праведзены вобшук. 03.02.1863 высланы з Магілёва, 07.02.1863 прыбыў у III аддзяленне Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці канцылярыі ў г. СПб. 04.03.1863 высланы ў г. Калугу пад нагляд паліцыі. 30.06.1863 у яго доме праведзены яшчэ адзін вобшук, падчас якога знойдзены забароненыя творы. Яго рухомая маёмасць у Шапялевічах (2 кані, мэбля, адзенне і інш.) секвестравана (да 30.07.1863). 31.08.1863 у МагСК была заведзеная асобная справа. Паводле патрабавання МагСК ад 23.01.1864 высланы 05.02.1864 з Калугі ў Магілёў для патрэб следства. Спачатку пасаджаны пад хатні арышт, 07.03.1864 зняволены ў «богаўгоднай установе», потым пераведзены ў казармы Магілёўскага батальёна ўнутранай варты. Разам з жонкай неаднаразова падаваў прашэнні аб дазволе на спатканне на яе кватэры і ў кастрычніку, лістападзе 1864 г. і лютым 1865 г. некалькі разоў атрымоўваў яго. Падчас зняволення ў яго нарадзіўся сын Кандрат. Пастановай ЧПА, канфірмаванай 02.03.1865 А. Патапавым, прызнаны вінаватым у спачуванні паўстанцам, «цалкам нядобранадзейным у палітычных адносінах» і прысуджаны да ссылкі на сталае жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Табольскую губ. 05.1865 адпраўлены на месца ссылкі. Яго маёнткі секвестраваны, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 яны падлягалі абавязковаму продажу, а з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2001—3—20; 2003—2—19—12; 2514—1—2198—66; 2532—1—15—9, 10адв.; 3256—2—53; 3257—1—14—7адв.-8)*.

6501. **Шаняўскі Цэзар** (Шанявский Цезарий), сын Юзафа, брат *Валяр'яна*, дваранін Магілёўскай губ. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.08.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—20)*.

6502. **Шапятоўская Алена** (Шепетовская Елена), памешчыца Бельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства ў Арэнбургскую губ., калі не пажадае адправіцца з мужам у Табольскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—552адв.; 2532—1—15—8адв.)*.

6503. **Шарамет Юзаф** (Шеремет Иосиф), сын Якуба, муж Разаліі, бацька Станіслава (нар. каля 1853), Юзафа (нар. каля 1856), Ганны (нар. каля 1859) і Уршулі (нар. каля 1862), селянін. У 1861 г. перасяліўся ў в. Чаравач Бабруйскага пав., дзе з'яўляўся кавалём і цесляром. Падчас паўстання, напрыканцы кастрычніка 1863 г., рабіў для паўстанцаў зброю (косы, шаблі і інш.). 06.1863 арыштаваны і зняволены ў фартэцыі ў г. Бабруйску. На следстве сцвярджаў, што выконваў загады пад прымусам. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 02.08.1863, вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(296—1—19—76-101)*.

6504. **Шарамовіч Аляксандр** (Шарамович Александр). Нар. каля 1828 г. Да паўстання з'яўляўся доктарам медыцыны. Разам з *Абрамовічам Казімірам*, *Адравальскім Юльюшам*, *Чаконскім Леанам* уваходзіў у склад паўстанцкага атрада ў Кіеўскай губ., пасля яго разбіцця (да 13.07.1863) ля м. Пагрэбіцы (Пагрэбішча) Бярдычаўскага пав. Кіеўскай губ. схаваўся ад рас. уладаў *(1527—1—4—16-17)*.

6505. **Шаркоўскі Пляцыд** (Шарковский Поляцид), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Рэміголь Панявежскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання», ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя губерні» і секвестру маёмасці *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379)*.

6506. **Шаркоўскі Юзаф** (Шарковский Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Рэміголь Панявежскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання», ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя губерні» і секвестру маёмасці *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379)*.

6507. **Шарская Валянціна** (Шарская Валентина). Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 26.07.1865 прызнана вінаватай у спачуванні паўстанцам і ва ўтойванні звестак пра ўдзел у паўстанні *Цеханавецкіх Ігната* і *Ізабэлы* і прысуджана да ссылкі на сталае жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. *(3256—2—52—33)*.

6508. **Шарскі Казімір** (Шарский Казимир). Паходзіў з Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—149адв.)*.

6509. **Шаршаневіч Аўгуст** (Шершеневич Август), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

**Шастак Лонгін (Логік)** — гл. **Шостак Лонгін**
**Шастак Марк** — гл. **Шостак Марк**
**Шастак Мікалай** — гл. **Шостак Мікалай**

6510. **Шастакоўскі Антоні** (Шостаковский Антон), сын Антонія, ксёндз. Падчас паўстання ў яго былі знойдзены лісты да *Сяйпульніка Андрэя* «з выразамі, якія наводзяць падазрэнні ў палітычнай нядобранадзейнасці». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—98адв.-99)*.

6511. **Шастакоўскі Людвік** (Шестаковский Людвиг), селянін Слуцкага пав. Да паўстання з'яўляўся дваравым чалавекам памешчыка *Вэндарфа Браніслава*. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. На следстве даваў паказанні пра *В. Б.* 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—34адв., 281адв.)*.

6512. **Шастоўская Фяліцыя** (Шестовская Фелиция), дваранка Дзісенскага пав., удава. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

6513. **Шастоўскі Юзаф** (Шестовский Иосиф), сын Мечыслава (пам. да 1863), брат Аркадзя, дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1833 г. Да паўстання разам з братам валодаў спадчынным маёнткам Вараноўшчына Лепельскага пав. Падчас паўстання прыняў у сваім доме *Чэрняка Максімільяна* (гл. *Вярбіцкі Сымон*, *Захарэвіч Васіль*), за што арыштаваны. Аддадзены пад ПВС пры Віленскім ардананс-гаўзе, пастановай якога, канфірмаванай 01.06.1865 М. Мураўёвым, прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, секвестру маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. ВГП 26.07.1865 і 10.08.1865 выдала ўказы аб секвестры *(1416—4—11416—261-266, 337-343)*.

**Шаткевіч Казімір** — гл. **Цяткевіч Казімір**

6514. **Шаткевіч Ян** (Шеткевич Иван), дваранін Цельшаўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 4 гады *(534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.)*.

6515. **Шаўкевіч Пётр** (Шелкевич Петр), мешчанін м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—167)*.

**Шаўкоўскі Караль** — гл. **Шафкоўскі Караль**

6516. **Шаўкоўскі Стэфан** (Шелковский Степан), сын Даменіка, памешчык Барысаўскага пав. Нар. каля 1808 г. Да паўстання жыў у маёнтку Кляўцы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў Смаленскую губ., пасля амністыі ад 09.01.1874 вярнуўся ў Барысаўскі пав. *(295—1—1527—104; 295—1—3492—35адв.-36, 44адв., 93; 2532—1—15—13адв.)*.

6517. **Шаўкоўскі Юльян** (Шолковский Юлиан), памешчык. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.06.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—20)*.

6518. **Шаўкоўскі Ян** (Шолковский Иван), сын Станіслава, дваранін Гарадоцкага пав., каталік. Да паўстання арандаваў зямлю ў памешчыка Уляноўскага ў Гарадоцкім пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і ўтрымліваўся пры Віцебскай гарадской паліцыі. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая 24.01.1864 падала прашэнне ваеннаму губернатару г. Віцебска і віцебскаму грамадзянскаму губернатару аб зняволенні яго ў турме і секвестры яго маёмасці, а 06.03.1864 з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» накіравала яго справу віцебскаму губернатару. На яго рухомую маёмасць 14.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 04.02.1864 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты *(1416—3—21048—53адв.; 1430—1—31602—67-68; 1430—1—52163—120-121, 426адв., 826адв.; 3046—2—3—99адв.-100; 3046—2—5—63адв.)*.

6519. **Шаўлоўскі Вінцэнт** (Шавловский Викентий), сын Юзафа, дваранін Люцынскага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны ў «нядобранадзейнай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 02.03.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа перададзена ў ДСК *(1430—1—52163—635адв.)*.

6520. **Шаўлоўскі Людвік** (Шавловский Людвиг (Людовик)), сын Войцеха, дваранін Чэрыкаўскага пав. Нар. каля 1838 г. Да паўстання жыў у м. Студзянцы Чэрыкаўскага пав., з'яўляўся правадзейным студэнтам Горы-Горацкім сельгасінстытута. 22.04.1863 пакінуў месца жыхарства і ўзброены стрэльбай прыбыў у маёнтак Ярошаўка Клімавіцкага пав., дзе ўвайшоў у склад невялікага атрада, які фарміраваў *Арцімовіч Міхал*. 23.04.1863 разам з атрадам пакінуў Ярошаўку і накіраваўся ў в. Гарбатка Чэрыкаўскага пав. Па дарозе разам з *Шчубін-*

*скім Францішкам* адстаў ад атрада і быў схоплены сялянамі. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, да яго справы меў дачыненне *Сысоеў Ян*. МагВСК, скончыўшы яго справу, 01.03.1863 падала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На судзе адмаўляў свой удзел у паўстанні. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—206адв., 3256—2—14; 3257—2—2—32адв., 40; 3366—1—5—11)*.

6521. **Шаўман Аўгуст-Цэзар** (Шауман Август-Цезарий), сын Адама і Кацярыны Юзафаўны, муж *Юзэфы*, швагер *Грабніцкай Эміліі*, памешчык, каталік. Нар. каля 1818 г. Да паўстання валодаў маёнткам Нізгалава Лепельскага пав., меў 5 дзяцей, служыў апекуном хлебных запасных складоў, калежскі ці губернскі сакратар. Маёнтак знаходзіўся ў апякунскім кіраванні за даўгі. 24.04.1863 узброены выехаў з *Франкоўскім Уладзіславам* са свайго маёнтка ў маёнтак *Ясевіча Францішка*, далучыўся да паўстанцкага атрада, з якім у Цытавянскім лесе злучыўся з атрадам *Дмахоўскага Генрыка*. У хуткім часе пакінуў атрад, 20.05.1863 вярнуўся на месца жыхарства, дзе хаваўся амаль да канца года. 26.12.1863 арыштаваны станавым прыставам. 27.12.1863 зняволены ў турэмным замку ў г. Лепелі. На яго маёмасць 25.02.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 24.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. 23.05.1864 аддадзены пад ПВС. Пастановай ВВСК ад 25.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 15 гадоў у рудніку. Пастановай ЧПА ад 12.09.1864, канфірмаванай А. Патапавым 14.09.1864, катарга заменена на 4 гады на заводах. Маёнтак Нізгалава канфіскаваны. Пасля частковай амністыі прыбыў на часовае знаходжанне ў маёнтак Обаль Полацкага пав., тут ў 1880 г. атрымаў дазвол на сталае пражыванне ў Віцебскай губ. *(534—1—14—5адв.; 1416—3—21048—53адв.; 1416—4—11416—119адв., 285, 286адв., 326; 1430—1—36707—27-29; 1430—1—52163—244-245, 345адв., 431, 449, 569адв., 822адв.; 1430—1—52321; 2626—1—305—68-69; 3046—2—3—99адв.-100)*.

6522. **Шаўман Юзаф** (Шауман Иосиф), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Катоўшчына Слонімскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 18.07.1863 і пастаноў ГГП ад 17.07.1863 і 07.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—125; 1416—6—232; 1416—6—275; 1416—6—277—3; 1416—6—289; 1430—1—52163—601)*.

6523. **Шаўман** (народжаная **Грабніцкая) Юзэфа** (Шауман (урожденная Гребницкая) Иозефина (Жозефина)), дачка Станіслава, сястра *Грабніцкай Эміліі*, жонка *Аўгуста*, памешчыца Лепельскага пав., каталічка. Пасля вяртання мужа з паўстання не данесла пра гэта рас. уладам. Арыштавана паводле распараджэння ВСК ад 14.03.1864, зняволена ў турэмным замку ў г. Віцебску. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая прызнала яе вінаватай і 24.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яе маёмасць 27.04.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.03.1864 накладаўся секвестр. Канфірмацыяй А. Патапава ад 14.09.1864 прысуджана да штрафу ў 100 руб. і вызвалення на парукі з усталяваннем паліцэйскага нагляду. Яе грашовы пасаг, забяспечаны на маёнтку мужа Нізгалава Лепельскага пав., не быў вернуты пасля яго канфіскацыі *(1416—3—21048—53адв.; 1430—1—52163—412; 1430—1—52321; 3046—2—3—99адв.-100)*.

6524. **Шаўчунас Ваўрынец** (Шевчунас Лаврентий). Да паўстання з'яўляўся сельскім старшынёй. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—63адв.)*.

6525. **Шаф Алена** (Шаф Елена), сялянка. Да паўстання разам з *Карповіч Марыяй* была служанкай у *Рыцк Марыі* і *Эміліі*. За дачыненне да фарміравання паўстанцкага атрада ў маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага пав. *Ліпскай Аліны* арыштавана і зняволена з 21.08.1863 да 10.04.1864 у фартэцыі ў г. Дынабургу. Паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 21.02.1864 саслана на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ., дзе жыла 15.06.1864 *(1430—1—52163—848-851)*.

6526. **Шаф Эдвард** (Шаф Эдуард), селянін Віцебскай (?) губ. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.10.1864) да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты. На яго маёмасць 12.07.1864 паводле распараджэння М. Мураўёва ад 11.03.1864 накладаўся секвестр *(1416—3—21048—54; 1430—1—52163—401адв.)*.

6527. **Шафкоўскі (Шацкоўскі, Шаўкоўскі) Караль** (Шафковский (Шадзковский, Шавковский) Карл), памешчык. Да паўстання жыў у в. Глыбачаны Вілейскага пав. (582 дзес. зямлі). Западозраны ў дачыненні да паўстання і агітацыі ўдзельнічаць

у ім, падчас вобшуку ў яго знойдзены 2 чамаркі. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу. У 1871 г. жыў ва Уфімскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—6—280; 1430—1—35146—33; 1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—11).*

6528. **Шафкоўскі Уладзіслаў** (Шафковский Владислав), дваранін Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». У 1878 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(295—1—1643—257адв.; 320—1—398—574; 1430—1—52163—241; 1430—1—52758—46).*

6529. **Шаціла Дамінік** (Шацилло Доминик), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—20).*

6530. **Шаціла Мікалай** (Шацило Николай), сын Стэфана, дваранін Магілёўскай губ. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—71).*

6531. **Шаціла Юзаф** (Шацыла (Шацилло) Иосиф), сын Леана і Ганны, брат Антонія, Леакадзіі (муж — Канстанцін Контаўт) і Марыі (муж — Віталь Контаўт), дваранін Мінскай ці Магілёўскай губ. Да паўстання служыў пісарам Камянец-Падольскай ПДМ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Маёмасць у вак. Чарцёж і Мазалаў Рагачоўскага пав. (36 дзес. 1200 саж. зямлі, 11 сялян муж. полу, хата, гаспадарчыя пабудовы, карчма, 72 руб. гадавога прыбытку, 648 руб. доўгу), якой валодаў сумесна з братам і сёстрамі, 24.07.1863 апісана і секвестравана. Знаходзіўся пад судом у МагВСК: Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі. Яго частка маёмасці канфіскавана ў 1866 г. *(320—1—398—222, 238, 401адв., 419-420; 320—2—98—51; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 2001—3—23—2; 2003—1—445—3адв.; 2003—2—73; 3257—2—2—40).*

**Шакоўскі Караль** — гл. **Шафкоўскі Караль**

6532. **Шашалевіч Іаахім** (Шешелевич Ефим), мешчанін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 05.03.1864 падала яго справу магілёўскаму губернатару *(3255—1—14—6).*

6533. **Шашалевіч Юзаф** (Шешалевич Иосиф), мешчанін. Да паўстання служыў аканомам памешчыка Грабніцкага. За «палітычнае злачынства» ў 1864 г. высланы ў г. Маскву. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(295—1—1643—262; 2514—1—2198—71).*

6534. **Шашко Ян** (Шешко Иван), сын святара Антона. Нар. каля 1843 г. Вучыўся ў Барысаглебскім манастыры г. Гродна. У 1856 г. прызначаны званаром у сабор г. Слоніма. 17.03.1862 за «неадабральныя паводзіны і п'янства» звольнены з пасады і 19.04.1862 паселены ў манастыр у м. Жыровічы Слонімскага пав. пад строгі нагляд. 14.05.1863 разам з *Панасевічам Гаўрылам* і *Пашкевічам Янам* уцёк з манастыра. Далучыўся да паўстанцкага атрада (?). Выключаны з духоўнага саслоўя. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе паведамлення Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 24.06.1863 і пастановы ГГП ад 23.08.1863 *(1416—6—223).*

6535. **Швайкоўскі Вінцэнт** (Швайковский Викентий), сын Мацея, дваравы чалавек. Да паўстання жыў у г. Брэсце, служыў кухарам у капітана Грызніцкага. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Потым прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103; 320—1—398—2).*

6536. **Швайніцкі Геранім** (Швойницкий Иероним). Паходзіў з Ковенскай (?) губ. Да паўстання служыў у чыне прапаршчыка ў 1 рэзервовым стралковым батальёне. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.).*

6537. **Швайніцкі Любамір (Людамір)** (Швойницкий Любомир (Людомир)), сын Міхала, брат *Рамана*, дваранін. Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Рады Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131; 1416—6—281; 1430—1—52163—598).*

6538. **Швайніцкі Раман** (Швойницкий Роман), сын Міхала, брат *Любаміра*, памешчык.

Да паўстання разам з братам валодаў маёнткам Рады Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

**Швыкоўскі Міхал** — гл. **Швяйкоўскі Міхал**

6539. **Швяйкоўскі Андрэй** (Швейковский Андрей), сын Матэвуша, памешчык Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6540. **Швяйкоўскі (Швыкоўскі) Міхал** (Швейковский (Швыковский) Михаил), ксёндз. Да паўстання служыў настаўнікам закону Божага гімназіі ў г. Магілёве. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці», 13.05.1863 а 4 гадзіне арыштаваны. Без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Арэнбург *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23; 1781—2—5602—8, 34)*.

6541. **Швяйкоўскі Уладзіслаў** (Швейковский Владислав). Да паўстання служыў у гарадской ратушы ў г. Вількаміры, калежскі сакратар. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Паводле пастановы ЧПА ад 21.06.1865, канфірмаванай К. фон Каўфманам, вызвалены як «ні ў чым не выкрыты», але звольнены з забаронай паступаць на службу на радзіме *(160—2—680—135; 162—1—122—39)*.

6542. **Шкленік (Шкяленцік) Баляслаў** (Шкленик (Шкелентик) Болеслав), сын Вінцэнта, брат Аляксандры (v. Пашкевіч), стрыечны брат *Улінскіх Баляслава*, *Станіслава* і *Уладзіслава*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні са зброяй, у тым ліку рэвальверам, разам з *Казлоўскім Анастасам* і *Корбутамі Вільгельмам* і *Францішкам*, арыштаваны (да 01.05.1863). На яго маёмасць на падставе патрабавання М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Утрымліваўся ў турэмным замку ў г. Віцебску, адтуль падаў (каля 14.01.1864) прашэнне на імя ВГГ аб дазволе на спатканне са сваякамі, што было задаволена. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 8 гадоў *(1416—3—21048—53; 1430—1—31604—5-6, 35, 37; 1430—1—52163—15адв., 182, 424, 722; 3046—2—3—96адв.-97; 3046—2—5—63)*.

6543. **Шкленік Фелікс** (Шкленник Феликс), дваранін, каталік. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў «перапісцы з польскімі злачынцамі і ў спачуванні ім». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 20.11.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—98адв.-99; 3046—2—5—63)*.

6544. **Шкультэцкі Юзаф** (Шкультецкий Иосиф), дваранін Віленскай (?) губ. Да паўстання служыў ў Віленскай казённай палаце, калежскі рэгістратар. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.)*.

6545. **Шкультэцкі Ян** (Шкультецкий Иван), сын Тэадора, дваранін Люцынскага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны ў «нядобранадзейнай размове з сялянамі», трапіў пад следства. 06.02.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа перададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў *(1430—1—52163—636)*.

**Шкяленцік Баляслаў** — гл. **Шкленік Баляслаў**

6546. **Шлаеўскі Міхал** (Шлаевский Михаил), дваранін Ковенскай губ. Служыў у КГП, калежскі сакратар. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103адв.)*.

6547. **Шлезінгер Міхал** (Шлезингер Михаил), дваранін. Да паўстання жыў у мызе Явойшы (ці Каралёва) Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

6548. **Шлягер Валяр'ян** (Шлягер Валериан), сын Станіслава, дваранін Магілёўскай губ. Нар. каля 1826 г. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Заазер'е Сенненскага пав. памешчыка *Шабекі Рафала*. Удзельнічаў у паўстанні, за што яго рухомая маёмасць (адзенне, пасцельная бялізна і інш.) на суму ў 86,95 руб. ср. 31.05.1863 апісана і канфіскавана. З 01.05.1863 знаходзіўся пад следствам у АСК і МагСК. 03–10.1864 яго месцазнаходжанне не было вядомае рас. уладам. МагСК 25.08.1864 скончыла яго справу і падала яе магілёўскаму губернатару. У МагВСК меў дачыненне да справы *Чаховіча Ігната (296—1—25—108; 1430—1—52163—162; 2001—2—124—15; 2003—1—273; 3257—1—14—6адв.-7; 3257—1—17—2адв.-3; 3257—2—2—40)*.

6549. **Шлягер Ежы** (Шлягер Юрий), дваранін Шавельскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103адв.)*.

6550. **Шлямовіч Пінхас** (Шлиомович Пинхас), яўрэй. Да паўстання з'яўляўся фельчарам у г. Расіенах. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6551. **Шляхта Антоні** (Шляхто Антон), мешчанін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—63адв.)*.

**Шляхта-Бітны Вільгельм** — гл. **Бітны-Шляхта Вільгельм**

**Шляхта-Бітны Габрыэль** — гл. **Бітны-Шляхта Габрыэль**

6552. **Шматовіч Эдвард** (Шматович Эдуард). Паходзіў з Віцебскай (?) губ. Да паўстання вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Архангельскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру. У 1871 г. жыў у Архангельскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(296—1—25—109адв.; 1416—3—21048—53адв.; 1430—1—31583—93; 1430—1—35146—69; 1430—1—52163—401адв., 616адв.)*.

6553. **Шмігер Густаў** (Шмигер Густав), аднадворац Лідскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў *(1430—1—52163—521)*.

6554. **Шмігер Юзаф** (Шмигер Юзеф), аднадворац Лідскага пав. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Задуб'е Гродзенскай губ. памешчыка Валіцкага. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221; 1430—1—52163—128)*.

6555. **Шмідкоўскі N.** (Шмидковский N.), каталік. Да паўстання служыў памочнікам начальніка першай дыстанцыі III аддзялення, тытулярны радца. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах і ўвогуле за нядобранадзейныя паводзіны» звольнены (да 25.05.1866) са службы з пенсіяй 128,61 руб. *(2003—2—96—18)*.

6556. **Шміт Рудольф** (Шмидт Рудольф), прускі падданы. Да паўстання жыў у маёнтку Буцэвічы Мінскага пав. памешчыка Лапіцкага. За ўдзел у паўстанні канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці выдадзены 22.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1643—258адв.; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—511-513; 320—1—398—193)*.

6557. **Шмурла Ян** (Шмурло Иван), дваранін Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166адв.)*.

6558. **Шмяцкі Марцін** (Шмяцкий Мартин). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—71)*.

6559. **Шнабовіч N.** (Шнабович N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам у Шыдлаўскай парафіі Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6560. **Шнітка N.** (Шнитко N.). Да паўстання служыў міравым пасярэднікам. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—63адв.)*.

6561. **Шнэйдэр Юльян** (Шнейдер Юльян), сын Фердынанта, вольны хлебароб. Да паўстання працаваў цесляром. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6562. **Шнэйдэр Ян** (Шнейдер Иван). За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—71)*.

6563. **Шостак Аляксандр** (Шостак Александр), дваранін г. Віцебска. За ўдзел у паўстанні на яго маёмасць 27.05.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 20.03.1864 накладаўся секвестр. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(296—1—25—105; 1416—3—21048—53адв.; 1430—1—52163—427адв., 723адв.)*.

6564. **Шостак (Шастак) Лонгін** (Шостак (Шастак) Лонгин (Логик)), сын *Мікалая*, брат *Марака* і *Мікалая*, селянін Рэчыцкага пав. Да паўстання разам з бацькамі жыў у с. Халева (Хонева) Радамысльскага пав. Кіеўскай губ. Далучыўся да атрада паўстанцаў, арыштаваны. На яго маёмасць накладзены секвестр. Канфірмацыяй А. Безака

присуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(160—2—683—1, 13; 295—1—1643—264адв.; 296—1—100)*.

6565. **Шостак (Шастак) Марак** (Шостак (Шастак) Марк), сын *Мікалая*, брат *Лонгіна* і *Мікалая*. Далучыўся да атрада паўстанцаў *(296—1—100)*.

6566. **Шостак Мацей** (Шостак Матвей), сын Юзафа Мацеевіча, дваранін Лепельскага пав. За дачыненне да паўстання 02.1864 знаходзіўся пад судом у ВВСК *(2626—1—305—21адв., 25адв., 31адв.)*.

6567. **Шостак (Шастак) Мікалай** (Шостак (Шастак) Николай), вольны селянін, бацька *Логіка*, *Марака* і *Мікалая*, каталік. Нар. каля 1829 г. Прыпісаны да в. Востраў Глінішча Рэчыцкага пав. Каля 20 гадоў жыў у в. Халева (Хонева) Радамысльскага пав. Кіеўскай губ., дзе служыў фельчарам у графаў Браніцкіх. Высланы на радзіму за пражыванне без пісьмовых дакументаў і нявыплату дзяржаўных падаткаў за 1862–1863 гг. Паселены ў в. Юравічы Рэчыцкага пав., дзе знаходзіўся пад паліцэйскім наглядам. Западозраны ў зборы сродкаў на карысць зняволеных у турме ў г. Мазыры і як «нядобранадзейны» і бацька ўдзельнікаў паўстання 02.1864 арыштаваны. Падчас вобшука ў яго знойдзены спіс зняволеных у мазырскай турме. Рашэннем МСК ад 25.08.1864 прызначаны да высылкі ў «аддаленыя ўнутраныя губерні Расіі». Пастановай ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 08.10.1864 прысуджаны да 2 месяцаў зняволення ў мазырскай турме з усталяваннем пасля выхаду паліцэйскага нагляду. 12.1864 выйшаў на волю і 22.12.1864 адпраўлены на месца жыхарства ў Рэчыцкі пав. *(296—1—100)*.

6568. **Шостак (Шастак) Мікалай** (Шостак (Шастак) Николай), сын *Мікалая*, брат *Логіка* і *Марака*. Далучыўся да атрада паўстанцаў *(296—1—100)*.

6569. **Шостак Францішак** (Шостак Франц), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72)*.

6570. **Шостак Эдвард** (Шостак Эдуард), дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў фальв. Пазаполле Свянцянскага пав. (27 дзес. зямлі). Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, таму Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101; 1416—6—274; 1430—1—52163—154)*.

6571. **Шостак Ян** (Шостак (Шестак) Иван), сын Станіслава і Аляксандры, дваранін Новааляксандраўскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Сасланы ў Енісейскую губ. У 1866 г. маці падала прашэнне аб пераводзе яго ў «адну з бліжэйшых губерняў», якое было адхілена. У 1879 г. як «былы палітычны ссыльны» жыў у г. СПб, там атрымаў дазвол на пражыванне ў Віцебскай губ. *(1430—1—36386—23-25; 1430—1—31602—199-200; 1430—1—52163—530адв.)*.

6572. **Шостак Ян** (Шостак Иван), сын Францішка, дваранін. Да паўстання служыў землямерам Ковенскай ПДМ. Абвінавачаны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны. Канфірмацыяй А. Патапава ад 19.04.1865 апраўданы, але звольнены з забаронай паступаць на службу ў «тутэйшым краі» і аддадзены пад нагляд паліцыі. Яго маёмасць вызвалялася ад секвестру *(160—2—682—129; 1416—4—11416—256)*.

6573. **Шпаковіч Марцэлі** (Шпакович Марцелий), сваяк *Мікалая* і *Міхала*, памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

6574. **Шпаковіч Мікалай** (Шпакович Николай), сваяк *Марцэлія* і *Міхала*, памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

6575. **Шпаковіч Міхал** (Шпакович Михаил), сваяк *Марцэлія* і *Мікалая*, памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4адв.)*.

6576. **Шпаковіч Станіслаў** (Шпакович Станислав), дваранін Панявежскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6577. **Шпакоўскі Антоні** (Шпаковский Антон), сын *Тамаша*, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. У 1864 г. разам з бацькам (пам. у 1864 г. у г. Тара), братамі, стрыечным братам (гл. *Шпакоўскі Тамаш*), жонкай Петрунэляй і сынам Браніславам «адміністрацыйным парадкам» высланы на пасяленне ў Томскую губ. Па дарозе да месца ссылкі пакінуты

на жыхарстве ў г. Тара Табольскай губ. Зямельная маёмасць яго бацькі ў Суціне (42 дзес. 190 саж.) канфіскавана і прададзена. У Сібіры паселены ў Табольскай губ. У 1875 г. вярнуўся на радзіму ў Суцін, дзе хадайнічаў аб вяртанні грошай за канфіскаваную маёмасць. У 1876 г. дамогся выплаты каля 200 руб. Жыў у Суціне яшчэ 06.1882 *(295—1—2420—7адв.; 295—1—2713; 295—1—2830; 295—1—3492—44адв., 67адв., 93)*.

6578. **Шпакоўскі Антоні** (Шпаковский Антон), сын Францішка, дваранін Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

6579. **Шпакоўскі Вінцэнт** (Шпаковский Викентий), сын *Юзафа*, брат *Яна*, дваранін Ігуменскага ці Мінскага пав., каталік. Да паўстання служыў ляснічым у маёнтку Прусінава Мінскага пав. *Машэўскага Юзафа-Артура*. Уваходзіў у склад атрада *Дыбоўскага Паўла*, арыштаваны. Спачатку зняволены ў г. Ігумене, 20.08.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1864 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1567; 295—1—1643—264; 295—1—1776—34; 296—1—50—19; 299—1—579—298-307; 1418—3—1—86адв.-87; 1430—1—52163—206)*.

6580. **Шпакоўскі Зыгмунт** (Шпаковский Сигизмунд), дваранін. За «намаўленне сялян да паўстання» і спачуванне да яго арыштаваны паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 13.10.1864 і аддадзены пад суд пры Бабруйскім ардананс-гаўзе. Падчас суда знаходзіўся на «добранадзейных» паруках у г. Бабруйску. Прысуд адбыўся 25.02.1865 і 03.03.1865 пададзены ЧВГМГ *(299—2—6399—18адв.-20; 299—2—6400—27адв.-28)*.

6581. **Шпакоўскі Ігнат** (Шпаковский Игнатий), сын Фелікса, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «дальнія губерні». 03.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены і вернуты на ранейшае месца жыхарства *(295—1—1643—263, 263адв.; 1418—3—1—87адв.-88)*.

6582. **Шпакоўскі Мечыслаў** (Шпаковский Мечислав), сын Рамуальда, памешчык Слуцкага пав., каталік. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне паручніка. Да паўстання жыў у маёнтку свайго бацькі Кавержыцы Слуцкага пав. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні ў складзе паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.06.1864 прызнана, што доказаў для абвінавачання не хапае, але «пакінуты ў падазрэнні», за што прызначаны да ссылкі на сталае жыхарства пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ., яго маёмасць падлягала секвестру. На засценкі яго бацькоў Кавержыцы і Кавалі Слуцкага пав. накладзена забарона паводле ўказа МГП ад 30.07.1863, яны секвестраваны паводле ўказа МГП ад 17.08.1864 *(162—1—116—124; 296—1—89—23адв.; 320—1—398—520; 1430—1—52163—237адв.; 1524—1—1—15адв.)*.

6583. **Шпакоўскі Тамаш-Стэфан** (Шпаковский Фома-Степан), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання разам з жонкай Антанінай, сынамі Юльянам, *Антоніем* (з сям'ёй), Юзафам, пляменнікам *Абрамовічам Ігнатам* высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць (26 дзес. 2156 саж.) канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся ў Суцін, дзе ў 1876 г. хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную зямлю *(295—1—2420—7адв.; 295—1—2830; 320—2—98—6адв., 71)*.

6584. **Шпакоўскі Францішак-Цыпрыян-Клеафас** (Шпаковский Франц-Киприян-Клеофас), сын Юзафа Паўлавіча, незацверджаны дваранін Ігуменскага пав. Нар. каля 1814 г. Да паўстання жыў у вак. Суцін Ігуменскага пав. Пасля паўстання ў 1864 г. разам з жонкай Эміліяй, сынамі Юзафам і Пятром, дочкамі Міхалінай, Юліяй, Апалоніяй і Адэляй высланы ў Томскую губ. на пасяленне. Іх зямельная маёмасць у 26 дзес. 2156 саж. канфіскавана. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму. 12.1876 з жонкай, дзецьмі Юзафам, Пятром, Янам, Марцыянай і Антанінай жыў у вак. Суцін. Хадайнічаў аб выплаце грошай за канфіскаваную зямлю *(295—1—2420—7адв.; 295—1—3026—32; 320—2—98—5, 71, 78-83)*.

6585. **Шпакоўскі Юзаф** (Шпаковский Осип), бацька *Вінцэнта* і *Яна*, дваранін Ігуменскага пав. Западозраны ў дапамозе сваім сынам уступіць у паўстанцкі атрад, 01.07.1863 арыштаваны разам з *Машэўскім Юзафам Артурам* і адпраўлены ў г. Мінск. Знаходзіўся пад следствам у МСК, якая 23.07.1863 падала яго справу ЧВГМГ. Загадам В. Забалоцкага ад 02.08.1863 прызнаны невінаватым у абвінавачаннях і прызначаны да вызвалення і вяртання на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1567)*.

6586. **Шпакоўскі Ян** (Шпаковский Иван), сын Вінцэнта, памешчык Ігуменскага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Дыбоўскага Паўла*, арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. Без следства 05.–06.1864 адасланы ў г. Мінск. Зняво-

лены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 26.02.1864. Прысуджаны (да 04.07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. Яго ўрочышча Чырвоны Лес у вак. Гіжгайлава Ігуменскага пав. прынята ў кіраванне ПДМ і секвестравана паводле распараджэння МГП ад 16.07.1864. Высланы ў г. Томск. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму. 12.1876 жыў у маёнтку Закуцце Ігуменскага пав., 06.1882 — таксама ў Ігуменскім пав. *(295—1—3026—32адв.; 295—1—3492—68адв., 93адв.; 296—1—50—19; 296—1—89—33адв.-34; 296—1—90—15адв.-16; 299—1—579—298-307; 1418—3—1—85адв.-86; 1430—1—52163—206).*

6587. **Шпакоўскі Ян** (Шпаковский Иван), сын Міхала, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Уваходзіў у склад атрада *Дыбоўскага Паўла*, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 28.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Прысуджаны (да 04.07.1864) да канфіскацыі маёмасці *(295—1—1776—34; 299—1—579—298-307; 1418—3—1—86).*

6588. **Шпакоўскі Ян** (Шпаковский Иван), сын *Юзафа*, брат *Вінцэнта*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, захоплены рас. войскамі са зброяй у руках. Зняволены ў г. Ігумене, 02.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1567295—1—1643—264; 1418—3—1—86адв.-87; 1430—1—52163—206).*

6589. **Шпігальскі (Шпягальскі, Шпігольскі) Ян-Казімір-Францішак** (Шпигальский (Шпегальский, Шпигольский) Иван-Казимир-Франц), сын Юльяна Ігнатавіча, дваранін Навагрудскага пав. Хр. 01.10.1844. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. Уваходзіў у склад атрада ў Навагрудскім пав. пад камандаваннем *Пуслоўскага Адама* і *Лашкевіча Феліцыяна*. 07.04.1863 захоплены ў палон у баі ля м. Налібокі Ашмянскага пав., дастаўлены ў Навагрудак. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. На маёнтак Гацішча Навагрудскага пав., які належаў яго дзеду Ігнату Бенядыктавічу, накладзена забарона. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1562—16; 295—1—1643—258; 296—1—296—3-3адв.; 320—1—398—2адв., 313-316; 320—2—99—53).*

6590. **Шпігановіч Адам** (Шпиганович Адам), сын Пятра, дваранін Мазырскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў нарыхтоўцы куль, пораху і патронаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «вінаватым не прызнаны» 07.10.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—98адв.-99).*

6591. **Шпігановіч Антоні** (Шпиганович Антон), сын Пятра, дваранін Мазырскага пав. Да паўстання вучыўся ў Мазырскай гімназіі. 02.1863 заказаў у мазырскага каваля доўгі нож. За гэта і за нашэнне забароненага адзення 14.02.1863 выключаны з гімназіі. Выехаў з г. Мазыра, 04.03.1863 разам з *Арахоўскім Тадэвушам* прыбыў з с. Тульгавічы Рэчыцкага пав. у м. Юравічы Рэчыцкага пав., дзе западозраны сялянамі ў намерах далучыцца да паўстанцаў і затрыманы. Памешчык *Солтан Аляксандр* спрабаваў вызваліць яго, але няўдала. 05.03.1863 пераведзены ў Мазыр, 10.05.1863 зняволены ў турме ў Мазыры. Паводле загада М. Мураўёва ад 28.03.1863, высланы ў фартэцыю ў г. Бабруйск і аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 26.08.1864 прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. без пазбаўлення правоў, яго маёмасць пакідалася пад секвестрам. Сасланы ў Табольскую губ., на падставе частковай амністыі ад 27.01.1867 атрымаў дазвол і 20.06.1868 прыбыў на пасяленне пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ., дзе падаваў прашэнне аб выдачы яму матэрыяльнай дапамогі *(162—1—116—144, 157, 166; 295—1—1574; 295—1—1643—257адв., 258адв.; 1430—1—52163—540адв.).*

6592. **Шпігановіч Паўліна** (Шпиганович Паулина), дачка Яна, дваранка Лепельскага пав., каталічка. Западозрана рас. уладамі ў нарыхтоўцы куль і патронаў. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 07.10.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—99адв.-100).*

6593. **Шпігановіч Эдмунд** (Шпиганович Эдмунд), сын Леана, дваранін Пінскага ці Мазырскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Рэчыца Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—137; 295—1—1643—258, 264; 320—1—398—2, 573, 575; 320—2—98—51; 1430—1—52163—242).*

6594. **Шпігановіч Юльян** (Шпиганович Юлиан). Служыў пісьмаводам 1 стана Мазырскага пав. У паўстанні абвінавачаны ў агітацыі сялян аддаць двух сыноў у паўстанцкі атрад, арыштаваны. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 31.08.1863 вызвалены з вызваленнем ад усялякага спагнання *(296—1—19—175, 277адв.).*

**Шпігольскі Ян-Казімір-Францішак** — гл. **Шпігальскі Ян-Казімір-Францішак**

6595. **Шпілеўская Ганна** (Шпилевская Анна), памешчыца. Западозрана рас. уладамі ў садзейнічанні паўстанцам. Знаходзілася пад следствам у ЧСК, якая 19.08.1863 падала яе справу магілёўскаму губернатару *(3366—1—5—11)*.

6596. **Шпілеўскі Адам** (Шпилевский Адам), мешчанін г. Мінска. Да паўстання працаваў цесляром у селяніна в. Ячонка Мінскага пав. Сцяпана Бандарэвіча. 22–23.04.1863 знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля ўцёк і з'явіўся да рас. уладаў. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 30.07.1863 вызвалены і вернуты на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд. Пасля вяртання жыў у Ячонцы, потым паводле распараджэнне ваеннага начальніка Мінскага пав. ад 07.12.1863 выкліканы ў м. Койданава Мінскага пав., дзе арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у МСК, даваў паказанні, сярод іншага, пра *Бараноўскага Леанарда Янавіча*. На следстве сцвярджаў, што забраны ў атрад гвалтоўна *Дыбоўскім Эмілем* і ротмістрам *Бараноўскім Леанардам (296—1—19—71-75, 244-250, 273адв.; 1527—1—4—119)*.

6597. **Шпілеўскі Адольф** (Шпилевский Адольф), сын Пятра, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання вучыўся ў Мінскай гімназіі. У 1863 г. пакінуў яе і далучыўся да атрада *Трусава Антонія*, пасля вярнуўся на месца жыхарства. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні. За гэта, а таксама за перапіску вершаў «падбухторнага зместу» арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прысуджаны да вызвалення і штрафу ў 200 руб. ср. 25.07.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Паволе загада ад 17.08.1865 зняволены ў г. Мінску і аддадзены пад ПВС. Пастанова вынесена 19.01.1866 і пададзена мінскаму губернатару *(295—1—1643—264адв.; 299—2—6399—27адв.-29адв.; 299—2—6400—14адв.-15а адв.; 1418—3—1—87адв.-88)*.

6598. **Шпілеўскі Каятан** (Шпилевский Каетан), сын Ануфрыя, мешчанін г. Ігумена, каталік. Нар. каля 1819 г. Да паўстання жыў у в. Забалоцце Ігуменскага пав. 20.04.1863 на сваім возе адвёз паўстанцаў за р. Свіслач, за што атрымаў 1 руб. ср. 23.04.1863 вярнуўся на месца жыхарства і 07.05.1863 з'явіўся да ігуменскага ваенна-павятовага начальніка. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі і 19.06.1863 арыштаваны. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, аднак прызнаны вінаватым у нясвоечасовым данясенні ўладам звестак пра паўстанцаў. Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 14.09.1863 у якасці пакарання яму залічана ўтрыманне пад арыштам, услед за чым вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства і аддачай на парукі *(296—1—19—200-204, 278адв.)*.

6599. **Шпілеўскі Канстанцін** (Шпилевский Константин), сын Дамініка, дваранін Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Зняволены ў г. Ігумене. 18.07.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 17.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—152, 166; 295—1—1643—258; 534—1—14—5адв.; 1418—3—1—86адв.-87; 1430—1—52163—375адв.)*.

6600. **Шпілеўскі Юзаф** (Шпилевский Иосиф), сын Яна, памешчык Чэрыкаўскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Быў пад следствам у ЧСК, якая 26.09.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прызначаны (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, 28.09.1864 ВГП выдала адпаведную пастанову *(1416—4—11416—85адв., 127; 1430—1—52163—540адв.; 3257—2—2—40; 3366—1—5—11)*.

6601. **Шпырко Адам** (Шпырко Адам), сын Антонія, дваранін Лепельскага пав., каталік. Нар. каля 1847 г. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах пры гімназіі ў г. Віцебску. Абвінавачаны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцаў. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(1416—3—21048—53; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—52163—409адв., 535; 3046—2—3—97адв.-98; 3046—2—5—63)*.

6602. **Шпырко Людвік** (Шпырко Людвиг), дваранін Магілёўскага пав. Служыў у рас. войску, штабс-капітан. Да паўстання валодаў разам з братамі і сёстрамі маёнткам Свацілавічы Магілёўскага пав. (771 дзес. зямлі, дом, рухомасць, 288,25 руб. гадавога прыбытку). Удзельнічаў у паўстанні, за што знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (да 23.06.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Яго маёмасць канфіскавана *(320—1—398—127; 1430—1—52163—597; 2001—2—123—6; 2003—1—372—203; 2003—1—445—2, 14адв.; 2003—2—19—20-20адв.; 2616—1—40—14; 3257—2—2—40)*.

6603. **Шпырко Сымон** (Шпырко Симон), сын Емяльяна Янавіча, пляменнік Пятра Янавіча, муж Таццяны Іллінічны, селянін Бродніцкай вол. Пінскага пав. Нар. каля 1823 г. З'яўляўся прыгонным дваравым чалавекам у маёнтку Галубкі памешчыка Сямашкі, пасля 1861 г. залічаны ў склад Аброўскай сельскай грамады. Да паўстання служыў лясным вартаўнікам ва ўроч. Навіны памешыка Вітальда Орды. Падчас паўстання знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з якім на пачатку восені 1863 г. эміграваў у Галіцыю. Зарабляў там падзёнымі працамі ў сялян. 20.05.1872 пакінуў Галіцыю, патаемна вярнуўся ў Пінскі пав. і 19.06.1872 з'явіўся да рас. уладаў. Паселены на месцы ранейшага жыхарства ў в. Аброва Пінскага пав. пад паліцэйскім наглядам. *(295—1—2408).*

**Шпягальскі Ян-Казімір-Францішак** — гл. **Шпігальскі Ян-Казімір-Францішак**

6604. **Шрамскі Максімільян** (Шрамский Максимилиан), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—74адв.).*

6605. **Шрэдэрс (Шрэйдэр) Ануфры** (Шредерс (Шрейдер) Онуфрий), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла м. Бетыголле Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1416—6—281; 1430—1—52163—599).*

6606. **Штрэдэрс Міхал-Адольф** (Шредерс Михаил Адольф), памешчык. Да паўстання сумесна са сваякамі валодаў маёнткам Пагягалы Панявежскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

6607. **Шрэдэрс Ян** (Шредерс Иван), дваранін Цельшаўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(320—1—398—575; 1430—1—52163—242).*

6608. **Штарк Ян** (Штарк Иван). Служыў рэдактарам «Гродзенскіх губернскіх ведамасцяў», калежскі асэсар. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.).*

6609. **Штруба Юзаф** (Штруба Иосиф), сын Яна, мешчанін Ігуменскага пав. Арыштаваны за знішчэнне пашпартаў, якія знаходзіліся ў паўстанцаў. Зняволены ў ІСК, 05.03.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—86адв.-87).*

6610. **Штэйн Аляксандр** (Штейн Александр). Да паўстання быў правізарам аптэкі ў г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.).*

6611. **Штэйнэр Аляксандр** (Штейнер Александр), аднадворац Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 4 гады *(1430—1—52163—530).*

6612. **Штэйнман Генрык** (Штейнман Генрих). Да паўстання жыў у г. Варшаве, займаўся рамяством гравёра. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

6613. **Шувальскі Вінцэнт** (Шувальский Викентий). Да паўстання служыў чыноўнікам паштамта ў г. Варшаве. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

6614. **Шукевіч Антоні** (Шакевич Антон), дваранін. Да паўстання жыў у м. Кейданы Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 09.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(534—1—14—4адв.; 1430—1—52163—374адв.).*

6615. **Шукевіч Райнольд** (Шукевич Райнольд), сын Райнольда, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Багачы Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 26.07.1863 і пастановы ГГП ад 12.08.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(320—1—398—126; 1416—6—220; 1430—1—52163—602).*

6616. **Шукевіч Тамаш** (Шукевич Фома), памешчык Лідскага пав. Служыў лідскім павятовым суддзёй, да паўстання выйшаў у адстаўку. За дачыненне да паўстання яго маёмасць падля-

гала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Ніжагародскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—210; 1430—1—52285—9адв.; 2532—1—15—12адв.).*

**Шукевіч Фларантын** — гл. **Шуневіч Фларантын**

6617. **Шукевіч Францішак** (Шукевич Франц). Да паўстання служыў судовым следчым у Шавельскім пав., калежскі асэсар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—11).*

6618. **Шукевіч Юльян** (Шукевич Юлиан), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150).*

6619. **Шукст Павел** (Шукст Павел), сын Ігната. За дачыненне да паўстання на яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр *(1430—1—52163—426).*

6620. **Шукст Пётр** (Шукст Петр), сын Яна, незацверджаны дваранін Суражскага пав., каталік. Нар. каля 1827 г. 24.02.1844 паступіў на службу пісарам у канцылярыю веліжскага павятовага маршалка, 03.02.1845 пераведзены ў Веліжскі земскі суд, а 27.07.1845 — у Веліжскае павятовае казначэйства, 15.07.1849 звольнены. 29.07.1851 прызначаны на пасаду пісьмавода прыстава 1 стана Суражскага пав., 24.09.1853 звольнены. Абвінавачаны ў прамаўленні ў п'яным стане «дзёрзкіх словаў пра свяшчэнную асобу Гасудара Імператара» (альбо «словаў, якія не адпавядаюць цяперашнему стану краю»), 15.10.1863 арыштаваны. Яго маёмасць падлягала секвестру. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 18.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 27.04.1864 яму залічана ў пакаранне ўтрыманне пад арыштам і прызначаны да вяртання на месца жыхарства пад строгі нагляд паліцыі на парукі; калі б паручальнікаў не знайшлося, прызначаўся да высылкі ў Ніжагародскую губ. У 1865 г. жыў з сям'ёй (жонкай і трыма сынамі) пад наглядам паліцыі ў маёнтку Зайкова Суражскага пав. памешчыка Чэбышава, дзе займаўся «падзённымі працамі» *(1416—3—21048—53, 54; 1430—1—52163—194адв., 402; 2569—1—15—2-3, 55адв.-56адв.; 3046—2—3—98адв.-99; 3046—2—5—63адв.).*

6621. **Шукшта Міхал** (Шукшто Михал), сын Якуба, дваранін. Да паўстання яго брат валодаў маёнткам Міронішкі Панявежскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281).*

6622. **Шулеўскі Мацей** (Шулевский Матвей), мешчанін Себежскага (?) пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны і адпраўлены ў г. Дынабург. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 07.07.1863 скончыла яго справу. На яго маёмасць 04.12.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 11.09.1863 накладаўся секвестр. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў Сібірскія лінейныя батальёны шарагоўцам *(1416—3—21048—53адв.; 1430—1—31307—116адв.; 1430—1—52163—417; 3046—2—5—63адв.).*

6623. **Шультэцкі Сікст** (Шультецкий Сикстус), мешчанін г. Свянцянаў. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.).*

6624. **Шульц Андрэй** (Шульц Андрей), сын Казіміра, брат *Марыі* і *Юзафа*, памешчык, каталік. Нар. каля 1810 г. Да паўстання разам са сваякамі валодаў маёнткам Ігольніца Полацкага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у «чытанні падбухторных праклямацый і ў абяцанні прыслаць грошай на паўстанне», арыштаваны (да 29.05.1863). Падчас вобшуку ў яго знойдзены кулі і пістоны. На яго частку Ігольніцы 09.08.1863 на падставе ўказаў ВГП ад 12.06.1863 і 22.06.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—53; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—15адв., 430, 445, 446, 570адв.; 3046—2—3—96адв.-97; 3046—2—5—63).*

6625. **Шульц Вінцэнт** (Шульц Викентий), ксёндз. Да паўстання служыў у Віленскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—83; 1430—1—52163—552).*

6626. **Шульц Марыя** (Шульц Марья), дачка Казіміра, сястра *Андрэя* і *Юзафа*, памешчыца, каталічка. Нар. каля 1831 г. Да паўстання валодала разам са сваякамі маёнткам Ігольніца Полацкага пав. Абгаворана *Другавінам Янам* у «чытанні падбухторных пракламацый», арыштавана. На яе частку Ігольніцы 09.08.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 накладзены секвестр. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначана да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—53; 1430—1—52163—46, 84-87, 403адв., 570адв.; 3046—2—3—97адв.-98; 3046—2—5—63).*

6627. **Шульц Уладзіслаў** (Шульц Владислав), сын Елісея, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Вучыўся ў гімназіі ў г. Магілёве, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падтрымаў захоп паўстанцамі г. Горкі 24.04.1863 і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка.* Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Аланецкую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—71; 3257—1—53—2; 3286—2—1—4, 17-19).*

6628. **Шульц Юзаф** (Шульц Иосиф), сын Казіміра, брат *Андрэя* і *Марыі*, памешчык, каталік. Нар. каля 1818 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў часткай маёнтка Ігольніца Полацкага пав., служыў аканомам у *Медунецкай Адэлі.* Абгавораны *Другавінам Янам* у зборы грошай на пакупку пораху і зброі для паўстанцаў, арыштаваны. На яго частку Ігольніцы 09.08.1863 на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 22.05.1863 і ўказаў ВГП ад 12.06.1863 і 22.06.1863 накладзены секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.09.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць штраф у 100 руб. ср. і ўзмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—53; 1416—4—11416—185-212; 1430—1—52163—403адв., 445, 446, 570адв.; 3046—2—3—95адв.-96; 3046—2—5—63).*

6629. **Шульц Юлія** (Шульц Юлия), дваранка Віленскай губ. Да паўстання не была замужам. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» выслана на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8).*

6630. **Шульц Юльян** (Шульц Юлиан). Служыў у рас. войску, паручнік. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў у Наўгародскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—54).*

6631. **Шульц N.** (Шульц N.). Да паўстання жыў у м. Кейданы Ковенскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125адв.).*

6632. **Шульц N.** (Шульц N.), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Павісінчы Віленскага пав. Паўстанцы былі ў Павісінчах і бралі харчовыя прыпасы, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 24.06.1863 і 27.06.1863 і пастановў ВілГП ад 09.07.1863 і 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—270; 1416—6—274).*

6633. **Шулякоўскі Юзаф (Оттан, Антоні)** (Шуляковский Иосиф (Оттон, Антон)), сын Мікалая Янавіча, незацверджаны дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Да паўстання жыў з бацькам, які арандаваў зямлю і займаўся сельскай гаспадаркай. Уваходзіў у склад атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на жыхарства ў Томскую губ. *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—326-327адв., 336; 320—2—98—51; 1418—4—1; 1524—1—1—15адв.; 1525—1—2—5адв.-6).*

6634. **Шумкоўскі Алаізі** (Шумковский Алоизий), сын *Фелікса*, дваранін Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні разам з бацькам аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 28.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103; 1416—6—236).*

**Шумкоўскі Казімір** — гл. **Шымкоўскі Казімір**

6635. **Шумкоўскі Фелікс** (Шумковский Феликс), сын Тадэвуша, бацька *Алаізія*, памешчык Беластоцкага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму разам з сынам аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 28.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863 *(1416—6—236)*.

6636. **Шумовіч Ганна** (Шумович Анна), дачка Людвіка, жонка Антонія, маці Кацярыны (v. Шадурскай), памешчыца. Валодала маёнткам Няўляны Дрысенскага пав. З 1863 г. знаходзілася афіцыйна за мяжой. Западозрана ў дапамозе паўстанцам, у прыватнасці ў пастаўцы атраду *Плятэра Леана* коней, у 1865 г. трапіла пад следства. Па справе праходзіла разам з *Астаноўкам Адамам* і інш. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 08.06.1866 ваенна-судовай камісіі загадвалася зрабіць выснову пра ступень яе дачынення да справы. У 1866 г. жыла ў г. Дрэздэне *(2601—1—29)*.

6637. **Шумскі Канстанцін** (Шумский Константин). Да паўстання вучыўся ў 4 класе гімназіі ў г. Свянцянах. Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства, таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280)*.

6638. **Шумяцкі Савелі** (Шумяцкий Савелий), сын Ціхана, селянін. Да паўстання прыпісаны да с. Кляпіна Чэрыкаўскага пав. За «палітычнае злачынства» яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—71)*.

6639. **Шуневіч Міхал** (Шуневич Михаил), дваранін ці селянін Мінскай (?) губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 15.11.1863 прысуджаны да ссылкі з сям'ёй на пасяленне на казённых землях у Саратаўскую губ. *(295—1—1643—257; 320—1—398—178; 320—2—98—51)*.

6640. **Шуневіч (Шукевіч) Фларантын (Фларыян)** (Шуневич (Шукевич) Флорентин (Флориян)), сын Пятра, дваранін Дзісенскага пав. Нар. каля 1837 г. Да паўстання яго бацькі валодалі 1 валокай зямлі ў в. Нівы Дзісенскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Дмахоўскага Генрыка*, 14.05.1863 схоплены падчас бою ля в. Парэчча Барысаўскага пав. Зняволены ў г. Дынабургу. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 05.10.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. 12.10.1863 адпраўлены з Дынабурга на месца ссылкі. МГП 20.11.1863 і 16.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—10; 320—1—398—37-53адв., 64, 130; 320—2—98—51; 1416—3—21048—53адв.; 1416—6—280; 1430—1—52163—605)*.

6641. **Шунейка Міхал** (Шунейко Михаил), сын Станіслава, дваранін Мінскай губ. У МагВСК меў дачыненне да справы *Случаноўскага Пятра*. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—71; 3257—2—2—40адв.)*.

6642. **Шурко (Шуркоўскі) Вінцэнт** (Шурко (Шурковский) Викентий), сын Адама, мешчанін. Да паўстання жыў у в. Мікулічы Мінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. У 1863 г. высланы ў г. Пскоў. У 1876 г. жыў на пасяленні ў Табольскай губ., атрымаў дазвол вярнуцца ў Мікулічы, дзе жылі яго жонка і брат *(295—1—1643—260адв., 261адв.; 295—1—3065)*.

**Шуркоўскі Вінцэнт** — гл. **Шурко Вінцэнт**

6643. **Шусціцкі Аўгуст** (Шустицкий Август), дваранін Падольскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223)*.

6644. **Шушкевіч Павел** (Шушкевич Павел), сын Якуба, селянін Слуцкага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—16)*.

6645. **Шчансновіч Міхал** (Щенснович Михаил), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—128; 1430—1—52163—603)*.

6646. **Шчапіла [Генрык]** (Щепилло [Генрих]). Да паўстання служыў сакратаром Пінскага павятовага суда. За дачыненне да паўстання ў 1864 г. сасланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—265)*.

6647. **Шчапіла (Шчыпіла) Ігнат** (Щепилло (Щипилло, Щипило) Игнатий), сын Фелікса, брат Петранэлі (v. Галкоўскай), памешчык. Да паўстання сумесна з сястрой валодаў фальв. Пісараўшчына Мсціслаўскага пав. (70 дзес. зямлі без сялян, дом, гаспадарчыя пабудовы, пасека і інш., 100 руб. ср. гадавога прыбытку, 292,53 руб. ср. доўгу). Западозраны ў дачыненні да паўстання, за што арыштаваны (да 10.07.1863) і зняволены ў г. Магілёве. На падставе ўказа МагГП ад 31.05.1863 фальварак

20.06.1863 апісаны і секвестраваны, на падставе ўказа ад 13.08.1863 на яго накладалася забарона *(2003—1—211—70-71адв.; 2003—1—309—1, 6-10; 2003—1—336).*

6648. **Шчарбакоў Рыгор** (Щербаков Григорий), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 13.02.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—21).*

6649. **Шчарбінскі Пётр** (Щербинский Петр), мешчанін Сенненскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў «распаўсюджанні падбухторных чутак». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 14.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—100адв.-101; 3046—2—5—65).*

6650. **Шчарбіцкі Міхал** (Щербицкий Михаил), селянін. Падчас паўстання ўтойваў зброю, за што арыштаваны. У 1864 г. сасланы ў г. Маскву пад нагляд паліцыі *(295—1—1643—265).*

6651. **Шчаткоўская Грызэльда** (Щотковская Гризельда (Грасильда)), дачка Андрэя, маці *Стэфана*, памешчыца. Да паўстання разам з сынамі валодала маёнткам Стэфанпаль Рэжыцкага пав. (395 дзес. зямлі, сад, карчма, бровар, млын, 765 дзес. зямлі). За ўдзел у паўстанні прысуджана да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і 20.05.1864 выслана на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». Стэфанпаль 19.07.1863 секвестраваны. 03.03.1864 выдадзена распараджэнне аб канфіскацыі яе маёмасці. 24.07.1864 маёнтак знаходзіўся ў апякунскім кіраванні *(296—1—25—105; 1416—3—21048—55; 1430—1—52163—215адв.-216, 422, 455, 711адв.).*

6652. **Шчаткоўскі Стэфан** (Щотковский Стефан), сын Альфонса і *Грызэльды*, брат Яна, памешчык. Да паўстання разам з братам і маці валодаў маёнткам Стэфанпаль Рэжыцкага пав. (395 дзес. зямлі, сад, карчма, бровар, млын, 765 дзес. зямлі). Западозраны ў агітацыі сялян далучыцца да паўстання і арыштаваны. 19.07.1863 на Стэфанпаль накладзены секвестр. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.02.1864 «пакінуты ў падазрэнні» і 12.03.1864 высланы на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Казанскую губ. 12.1864 падаваў у Казанскай губ. прашэнне аб зняцці секвестру з маёмасці, які, аднак, 20.04.1865 яшчэ не быў зняты *(296—1—25—105, 109адв.; 1416—3—21048—55; 1430—1—52163—422, 455, 567адв., 616адв., 678адв., 709-712, 792-793, 825адв.).*

6653. **Шчодра Баляслаў** (Щодро Болеслав), сын Дамініка, дваранін Аршанскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў 1864 г. у расповядах, што «да лета гэтага года фарміруецца ў Віцебскай і Магілёўскай губернях шайка інсургентаў у колькасці 800 чалавек». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—100адв.-101).*

6654. **Шчодра (Шчэдра) Тамаш** (Щодро (Щедро) Фома), сын Дамініка, дваранін Аршанскага пав. Яго бацька валодаў 19,5 дзес. зямлі ў вак. Пожанькі Аршанскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Будзіловіча Ігната*, забіты 27.04.1863 у баі ля фальв. Пагосцішча Аршанскага пав. Паводле рашэння ПВА (да 04.05.1865), канфірмаванага А. Патапавым, яго маёмасць падлягала канфіскацыі. МагГП 09.06.1865 выдала ўказ аб пошуку яго маёмасці, аднак нічога знойдзена не было *(2001—2—124—10; 2003—2—82; 3255—1—14—6; 3257—2—2—41).*

6655. **Шчотка Юзаф** (Щетка Осип), сын Вінцэнта, вольны хлебароб. Да паўстання жыў у г. Навагрудку. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. 06.03.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(295—1—1699; 320—1—398—3).*

6656. **Шчубінскі Францішак** (Щубинский Франц), мешчанін г. Варшавы. Да паўстання служыў лакеем у маёнтку Ярошаўка Клімавіцкага пав. *Арцімовіча Міхала*. 22.04.1863 увайшоў у склад невялікага атрада, які фарміраваўся ў Ярошаўцы. 23.04.1863 разам з атрадам пакінуў Ярошаўку і накіраваўся ў в. Гарбатку Чэрыкаўскага пав., аднак недалёка ад Гарбаткі разам з *Шаўлоўскім Людвікам* адлучыўся ад атрада. 24.04.1863 разам з *Хадаровічам Леанардам* схоплены сялянамі ля Гарбаткі без зброі і «ў польскім адзенні». Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 01.03.1863 падала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На судзе адмаўляў свой удзел у паўстанні. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады *(1430—1—52163—207; 2001—2—126—8; 3256—2—14; 3257—2—2—41; 3366—1—5—11).*

6657. **Шчука Дамінік** (Щука Доминик), сын Андрэя, памешчык Бельскага пав. Служыў у войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра. За невяртанне з-за мяжы ў вызначаны тэрмін яго маёмасць паводле распараджэння М. Мураўёва ад 20.12.1864 падлягала секвестру *(1416—4—11416—129, 174-175адв.).*

6658. **Шчука Станіслаў** (Щука Станислав), сваяк *Сымона* (?), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. з жонкай Антанінай і дзецьмі

Аляксандрам, Юзафам, Андрэем, Разаліяй і Эміліяй жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74)*.

6659. **Шчука Сымон** (Щука Симон), сваяк *Станіслава* (?), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. з жонкай Антанінай і дзецьмі Аляксандрай, Адольфам і Эміліяй жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74)*.

6660. **Шчыгельскі Адольф** (Щигельский Адольф), сваяк (?) *Баніфацыя*, селянін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Разанскую арыштанцкую роту на 1 год. МГП 27.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—265; 299—1—577—550-554)*.

6661. **Шчыгельскі Баніфацы** (Щигельский Бонифатий), сваяк (?) *Адольфа*, селянін. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 3 гады. МГП 27.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—265; 299—1—577—550-554)*.

6662. **Шчыгло Тадэвуш** (Щигло Фадей). Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72адв.)*.

**Шчыпіла Ігнат** — гл. **Шчапіла Ігнат**

6663. **Шчыпчынскі Ігнат** (Щипчинский Игнатий), сын Паўла, шляхціц Лепельскага пав., каталік. Падчас паўстання западозраны ў тым, што зрабіў стрэл па рас. жаўнерах. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 12.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—100адв.-101; 3046—2—5—65)*.

6664. **Шчыт Уладзіслаў** (Щит Владислав), памешчык Дрысенскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў адкрыцці ў сваіх уладаннях школ «са злачыннай мэтай». Арышаваны. Яго маёмасць падлегла секвестру. Разам з *Аляхновічам Міхалам*, *Аўсяным Юзафам*, *Барташам Пятром*, *Гарадніком Ігнатам*, *Гільфантам Залманам*, *Гласкам Ксаверыем*, *Дзінэрам Лазарам*, *Куракам Ігнатам*, *Лапацінскім Ігнатам*, *Сварацкім Леанардам*, *Слежаноўскім Паўлам*, *Фалевічам Каралем*, *Цялевічам Альфонсам* і іншымі знаходзіўся пад следствам у ДСК. Паводле распараджэння А. Патапава ад 08.08.1864 пастанову пра ступень яго вінаватасці павінна была вынесці ваенна-судовая камісія. Пазней яго маёмасць падлягала вяртанню ў яго валоданне *(1416—2—12677—32-33адв.; 2514—1—2198—71)*.

6665. **Шчыт Юзаф** (Щитт Иосиф), сын Адама, дваранін Лепельскага пав., каталік. Уваходзіў у склад атрада пад камандаваннем *Дыкі Уладзіслава* ў м. Бешанковічы Лепельскага пав., добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Арыштаваны і зняволены ў г. Лепелі, дзе ўтрымліваўся яшчэ 22.12.1863. 23.01.1864 пераведзены ў г. Віцебск, дзе спачатку знаходзіўся пад арыштам пры Віцебскім гарадскім паліцэйскім упраўленні, а 11.02.1864 зняволены ў турэмным замку. На яго маёмасць 22.02.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 накладаўся секвестр. Быў пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 30.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(1416—3—21048—55; 1430—1—31602—1-5; 1430—1—52163—410адв.; 3046—2—3—100адв.-101; 3046—2—5—65)*.

**Шчэдра Тамаш** — гл. **Шчодра Тамаш**

6666. **Шыброўскі Казімір** (Шибровский Казимир), дваранін. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—257)*.

**Шыбут (Шабут) Станіслаў** — гл. **Матусевіч Станіслаў**

6667. **Шыдлоўскі Адам** (Шидловский Адам), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Більвін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

6668. **Шыдлоўскі Адольф** (Шидолвский Адольф), сын Юзафа Францавіча, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у г. Ігумене, служыў засядальнікам Ігуменскага земскага суда, калежскі сакратар. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Свентарэцкага Баляслава* і *Ляскоўскага Станіслава*, уваходзіў у яго штаб. Арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без вытворчасці следства 05.–06.1863 адасланы ў г. Мінск. Яго маёмасць, на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 07.06.1863 і пастановы МГП ад 13.06.1863, падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаржныя працы на заводах на 6 гадоў *(162—1—116—68; 295—1—1643—260адв.; 296—1—25—104; 299—1—577—555-558адв.; 320—*

*1—398—304, 308; 320—2—98—51; 1418—3—1—85адв.-86).*

6669. **Шыдлоўскі Мікалай** (Шидловский Николай), сын Ігната, дваранін Лепельскага пав. Нар. каля 1844 г. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 17.03.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў. 26.03.1864 высланы з г. Віцебска праз г. Востраў Пскоўскай губ. на месца ссылкі *(296—1—25—105; 320—1—398—648-650а; 534—1—14—2; 1416—3—21048—53адв.; 1416—4—11369; 1430—1—52163—413адв.; 2626—1—305—59-61).*

6670. **Шыдлоўскі Уладзіслаў** (Шидловский Владислав), памешчык Вілейскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7).*

6671. **Шыдлоўскі Яраслаў** (Шидловский Ярослав), сын Гераніма Юзафавіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Да паўстання жыў у г. Ігумене. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў Ігумене. Без следства 05.–06.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Яго частка дома ў Ігумене, якім валодаў разам з братам і сястрой, секвестравана, прынята ў кіраванне ПДМ і канфіскавана; пасля дом быў прададзены, а 257,7425 руб. прыняты ў казну *(162—1—116—68; 295—1—1643—260адв.; 296—1—25—104; 296—1—89—35адв.-36; 299—1—577—555-558адв.; 320—1—398—304, 308; 320—2—98—51; 1418—3—1—86адв.-87).*

6672. **Шылінг Станіслаў** (Шилинг Станислав), сын Адама, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў маёнткам Падберзь Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1416—6—281; 1430—1—52163—521адв.).*

6673. **Шымакоўскі Станіслаў**[167] (Шимаковский Станислав), дваранін Ковенскай губ., каталік. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, атрымаў ступень лекара і званне павятовага доктара. З 1860 г. служыў гарадавым доктарам у г. Лепелі. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай ндобранадзейнасці» і паводле «распараджэння кіраўніцтва» без суда і следства 09.01.1864 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. 12.02.1864 пад вартай шарагоўца Івана Валенды дастаўлены ў г. Варонеж. У 1864 г. жыў у г. Багучар, падаваў прашэнні аб выдачы заробку за канец 1863 – пачатак 1864 г. і 25.09.1864 аб перасылцы дакументаў з Лепеля. У 1869 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем з-пад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(295—1—1989—39-41; 1430—1—31259—75адв.; 1430—1—31583—58; 1430—1—31602—102, 104; 1430—1—52163—608адв.; 1430—1—52285—58-59, 92, 94-95, 97-98).*

6674. **Шымалевіч Юзаф** (Шималевич Иосиф), дваранін Сенненскага пав. Нар. каля 1808 г. Да паўстання жыў у Сенненскім пав. 23.05.1863 схоплены рас. войскамі ў гэты ж дзень зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—107адв., 109).*

6675. **Шыманоўскі (Шыманскі) Адам** (Шимановский (Шиманский) Адам), мешчанін г. Быхава. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(1430—1—52163—182адв.; 3257—2—2—40).*

6676. **Шыманоўскі Аляксей (Аляксандр)** (Шимановский Алексей (Александр)), сын Міхала, дваранін Сенненскага пав. Нар. каля 1818 г. Да паўстання жыў у г. Сянно. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пасля яго разбіцця схоплены. 09.05.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй А. Патапава прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 28.09.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(295—1—1527—101; 1416—4—11416—127; 1430—1—52163—535; 3257—2—2—40адв.).*

6677. **Шыманоўскі Антоні** (Шимановский Антон), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—575; 1430—1—52163—242; 2616—1—40—62).*

[167] У некаторых дакументах імя памылкова падаецца як Баляслаў, а прозвішча — як Шыманоўскі.

**Шыманоўскі Баляслаў (Станіслаў)** — гл. **Шымакоўскі Баляслаў (Станіслаў)**

**Шыманскі Адам** — гл. **Шыманоўскі Адам**

6678. **Шыманскі Алаізі** (Шиманский Алоизий), дваранін Шавельскага пав. Да паўстання яго бацька валодаў фальв. Рыжкайцы Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—166адв.)*.

6679. **Шыманскі Антоні** (Шиманский Антон), ксёндз. Да паўстання служыў у заштатным г. Бабінавічы Аршанскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 26.12.1863 накіравала яго справу магілёўскаму губернатару. З 15.08.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 23.09.1864, скончыўшы яго справу, падала яе магілёўскаму губернатару. Падчас следства быў на волі *(1416—6—280; 3255—1—14—6; 3257—1—17—10адв.-11; 3257—2—8—20)*.

6680. **Шыманскі Павел** (Шиманский Павел), сын Антонія, дваранін Дзісенскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

6681. **Шыманскі Пётр** (Шиманский Петр), сын Казіміра, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да забойства 19.09.1863 А. Ляцкага, арыштаваны. Зняволены ў гарадской турме ў г. Мінску паводле загада ЧВГМГ ад 01.02.1864 *(296—1—90—14адв.-15)*.

6682. **Шыманскі Юзаф** (Шиманский Иосиф), сын Фелікса ці Тамаша, дваранін Лепельскага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам у ВГП. 21.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у СмСК. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 6 гадоў. У 1880 г. як «палітычны ссыльны» жыў у Наўгародскай губ., 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(295—1—3372—16-17; 1416—3—21048—53; 1430—1—31259—14-15адв., 40; 1430—1—52163—182, 413адв.; 1430—1—52758—46; 2514—1—2198—71)*.

6683. **Шымкевіч Ігнат** (Шимкевич Игнатий), дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224)*.

6684. **Шымкевіч Караль** (Шимкевич Карл), сын *Мацея*, брат *Яна*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1846 г. Да паўстання служыў канцылярыстам у Віцебскай палаце крымінальнага суда. 22.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Арыштаваны. 07.05.1863 звольнены са службы. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. На дом бацькі ў Віцебску накладзена забарона *(1416—3—21048—53; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—31259—10-12, 39адв.; 1430—1—52163—424адв., 535, 722адв.; 3046—2—3—97адв.-98; 3046—2—5—63)*.

6685. **Шымкевіч Магдалена** (Шимкевич Магдалина), дваранка Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яе следчай справы выслана (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Пермскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562)*.

6686. **Шымкевіч Мацей** (Шимкевич Матвей), бацька *Караля* і *Яна*, дваранін Віцебскай губ. Да паўстання валодаў драўляным домам у 1-й частцы г. Віцебска (ацэнены ў прыкладна 100 руб. ср.), служыў архіварыусам Віцебскай палаты крымінальнага суда, калежскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і паводле распараджэння М. Мураўёва без суда і следства 02.08.1863 высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Тамбоў *(1416—3—21048—53, 53адв.; 1430—1—31355—62—67; 1430—1—52163—608; 1430—1—52285—58адв.)*.

6687. **Шымкевіч Павел** (Шимкевич Павел), дваранін. Да паўстання служыў аканомам у маёнтку Плушчы Расіенскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*. Магчыма, ідэнтычны *Шымкевічу N.*

6688. **Шымкевіч (Шынкевіч) Стэфан** (Шинкевич (Шинкевич) Степан), сын Ігната, дваранін Віцебскай (?) губ. Нар. каля 1830 г. За дачынен-

не да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.03.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «менш аддаленыя месцы Сібіры». ВГП 12.03.1865 выдала ўказ аб пошуку маёмасці ў Віцебскай губ. для канфіскацыі *(1416—3—21048—54; 1416—4—11416—170-173; 1430—1—52163—168; 2626—1—305—52-53)*.

6689. **Шымкевіч Тэадор** (Шимкевич Федор), сын Рыгора, мешчанін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 30.07.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару, 27.09.1863 справа накіравана ў МагВСК *(3257—2—2—40; 3366—1—5—11)*.

6690. **Шымкевіч Тэлясфор** (Шимкевич Телесфор), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—6)*.

6691. **Шымкевіч Уладзіслаў** (Шымкевич Владислав), дваранін. Да паўстання служыў у Расіенскім павятовым казначэйстве, яго бацька валодаў домам з зямлёй у г. Расіенах. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6692. **Шымкевіч Францішак** (Шимкевич Франц), дваранін Ковенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—46)*.

6693. **Шымкевіч Ян** (Шимкевич Иван), сын *Мацея*, брат *Караля*, дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1836 г. Да паўстання служыў памочнікам столаначальніка Віцебскай палаты крымінальнага суда, калежскі рэгістратар. 23.04.1863 пакінуў г. Віцебск і далучыўся да паўстанцкага атрада. Арыштаваны. 07.05.1863 звольнены са службы. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.10.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі. На дом бацькі ў Віцебску накладзена забарона *(1416—3—21048—53; 1416—4—11416—54-61; 1430—1—31259—10-12, 39адв.; 1430—1—52163—424адв., 535, 722адв.; 3046—2—3—97адв.-98; 3046—2—5—63)*.

6694. **Шымкевіч N.** (Шымкевич N.), дваранін Расіенскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 296—1—25—88; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125адв.)*. Магчыма, ідэнтычны *Шымкевічу Паўлу*.

6695. **Шымкоўскі Адольф** (Шимковский Адольф), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Вацянцы Ковенскага пав., дзе меў уласны дом. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

6696. **Шымкоўскі (Шумкоўскі) Казімір** (Шимковский (Шумковский) Казимир), дваранін Брэсцкага пав. Да паўстання жыў у г. Вільні. Удзельнічаў у паўстанні, захоплены ў палон 14.07.1863 (?) пасля разбіцця атрада. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 15.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—125; 1416—3—21048—53адв.; 1416—6—213; 1430—1—52163—601)*.

6697. **Шынкевіч-Грахольскі Міхал-Юзаф** (Шинкевич-Грохольский Михаил-Иосиф), дваранін (?). Нар. каля 1817 г. Да паўстання служыў у маёнтку памешчыка Аршанскага пав. Харошчы. 24.04.1863 падчас вобшуку ў яго знойдзены 2 стрэльбы, пісталет і паўфунта пораху, таму западозраны ў сувязях з паўстанцамі і арыштаваны. Доказаў для абвінавачання не было, таму вызвалены з аддачай на парукі. Пастановай СмВСК ад 10.12.1864 і канфірмацыяй А. Патапава ад 14.12.1864 канчаткова апраўданы *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

6698. **Шынкевіч Фелікс** (Шинкевич Феликс), сын Міхала (ці Яна), дваранін Ігуменскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 05.03.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй А. Патапава ад 17.09.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—152, 166; 295—1—1643—257адв.; 534—1—14—5адв.; 1418—3—1—86адв.-87; 1430—1—52163—375адв.)*.

**Шынкевіч Стэфан** — гл. **Шымкевіч Стэфан**

6699. **Шынкевіч Фёдар** (Шинкевич Федор), мешчанін г. Магілёва. За ўдзел у паўстанні прысу-

джаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—105адв.)*.

6700. **Шыпоўскі Ян** (Шиповский Иван), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Юркішкі Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

6701. **Шыраеў Павел** (Ширяев Павел), памешчык Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 30.07.1863 і пастановы ГГП ад 22.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—229)*.

6702. **Шырын Павел** (Ширин Павел), граф. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—63адв.)*.

6703. **Шыш Леан** (Шиш Леонтий), сын жаўнера Вінцэнта. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Мінску. Паводле распараджэння ЧВГМГ В. Забалоцкага высланы ў Сібір. З Мінска адпраўлены ў г. Маскву *(295—1—2420—12)*.

6704. **Шышкевіч Стэфан** (Шишкевич Стэфан). За ўдзел у паўстанні прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—412адв.)*.

6705. **Шышко Казімір** (Шишко Казимир), сын Тамаша, дваранін Рэжыцкага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—53; 1430—1—52163—420, 596адв.; 2616—1—40—12адв.)*.

6706. **Шышко Луіза** (Шишко (Шишкова) Люиза (Луиза)), жонка надворнага радцы. Абвінавачана ва «ўдзеле ў паўстанні», таму сёмая частка каменнага дома ў г. Мінск, якая належала ёй, секвестравана паводле распараджэння МГГ ад 09.02.1864 *(162—1—116—35; 296—1—89—68адв.-69, 85; 299—1—577—338-339адв.)*.

6707. **Шышко Тадэвуш** (Шишко Фаддей), памешчык. Да паўстання жыў у маёнтку Кемпшышкі (Кумшышкі) Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 30.06.1863 і пастановы ВілГП ад 11.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—242)*.

6708. **Шышко Юзаф** (Шишко Иосиф), памешчык Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—11)*.

6709. **Шышко Ян** (Шишко Иван), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 05.–06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—85адв.-86)*.

6710. **Шышковіч Ізыдар** (Шишкович Сидор), сын Адама, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «дальнія губерні». 03.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—87адв.-88)*.

6711. **Шышкоўскі Антоні** (Шишковский Антон), селянін Навагрудскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў, арыштаваны. 08.1863 вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства і аддачай на парукі (?) *(296—1—19—281)*.

6712. **Шышла Вінцэнт** (Шишло Викентий), дваранін Віленскай губ. Да паўстання з'яўляўся лекарам. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9)*.

6713. **Шышла N.** (Шишло N.), дваранін. Да паўстання служыў у Ігуменскім павятовым судзе, губернскі сакратар. Падчас паўстання 19.04.1863 пакінуў г. Ігумен. Прыцягнуты паўстанцамі ў атрад, уцёк з яго і 25.04.1863 вярнуўся ў Ігумен. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні і арыштаваны. На следстве падазрэнне не пацвердзілася, таму 09.1863 вызвалены. Аднак за «нядобранадзейнасць яго паводзінаў» звольнены са службы і вернуты на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд *(296—1—19—266-267, 280)*.

6714. **Шэйван Юзаф** (Шейван Юзеф), селянін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—63адв.)*.

6715. **Шэкка Міхал** (Шекко Михаил), селянін. Да паўстання прыпісаны да Гатаўскай сельскай грамады Мінскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 23.02.1864 прысуджаны да ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 2 гады *(162—1—116—66; 295—1—1643—260адв.; 320—1—398—291)*.

6716. **Шэлькін Уладзіслаў** (Шелькин Владислав), дваранін Панявежскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—104)*.

6717. **Шэлькінг Альфонс** (Шелькинг Альфонс), дваранін. Да паўстання арандаваў маёнтак Забалаць (Лідскага пав.?) графа Патоцкага.

14.03.1863 у яго валоданнях абедаў атрад (каля 50 чал.) паўстанцаў. Абвінавачаны рас. уладамі ў добраахвотным прыёме паўстанцаў, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6718. **Шэмбель Напалеон** (Шембель Наполеон), сын тытулярнага радцы Міхала, дваранін Мінскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, зняволены ў г. Ігумене. Без следства 06.07.1863 адасланы ў г. Мінск. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 08.01.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. Указ МГП пра канфіскацыю яго маёмасці выдадзены 14.02.1864 *(162—1—116—60; 295—1—1643—264; 296—1—25—104адв.; 299—1—577—511-513; 320—1—398—186; 320—2—98—51; 1418—3—1—86адв.-87)*.

6719. **Шэмет Аляксандр** (Шемиот Александр), сын Антонія, дваранін Ковенскай ці Віленскай губ., каталік. Вучыўся ў гімназіі ў г. Коўне, потым у Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—196; 2514—1—2198—71; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—7)*.

6720. **Шэмет Станіслаў** (Шемиот Станислав), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да следчых спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—195; 2532—1—15—6)*.

6721. **Шэмет Юзаф** (Шемиот Иосиф), памешчык Ковенскага і Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пермскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Рыгу, дзе ў 1871 г. вызвалены ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі» *(1430—1—35146—76; 2532—1—15—1, 5)*.

6722. **Шэмеш Вацлаў-Яраслаў-Казімір** (Шемеш (Шемешо) Вацлав-Ярослав-Казимир), сын Людвіка Казіміравіча, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Хр. 26.07.1846. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Слуцку. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 05.–06.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны (да 08.01.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. МГП 10.02.1864 выдала ўказ аб канфіскацыі яго маёмасці. Знаходзіўся ў ссылцы ў Вяцкай губ., адтуль 03.01.1871 пераведзены ў Тамбоўскую губ., дзе паселены ў Барысаглебскім пав. У 1871 г. атрымаў дазвол на пражыванне па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. 04.1874 жыў у маёнтку кн. Гагарына ў Барысаглебскім пав., падаў прашэнне аб дазволе на 3-месячнае прабыванне ў Ігуменскім пав., дзе яго бацька валодаў маёнткам Закоркі. Атрымаўшы яго, 06.07.1874 выехаў у Ігуменскі пав., 08.06.1874 прыбыў на радзіму, але ўжо 04.08.1874 выехаў з Ігуменскага пав. 11.1874 падаў прашэнне аб дазволе на сталае жыхарства на радзіме для кіравання маёнткам, бо яго бацька «ад старасці прыйшоў у паўідыёцкі стан», 14.10.1876 атрымаў яго, але не выкарыстаў. У 1881 г. жыў у маёнтку Чырвоны Хутар Барысаглебскага пав. кн. Гагарына *(162—1—116—60; 295—1—1643—257, 260; 295—1—2536; 299—1—577—511-513; 320—1—398—175, 222, 390, 401адв.; 320—2—98—51; 1418—3—1—85адв.-86)*.

6723. **Шэміс Міхал** (Шемис Михаил), селянін Віленскага (?) пав. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і 06.06.1863 адпраўлены ў ВілСК. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6724. **Шэпінг Караль** (Шепинг Карл), сын Караля, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 05.–06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—85адв.-86)*.

6725. **Шэрмат Мойша** (Шерман Мовша), сын чавускага купца, яўрэй. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—40адв.)*.

# Э

6726. **Эбэрлейн Ян** (Эберлейн Иван), дваранін Барысаўскага пав. Нар. каля 1846 г. Да паўстання жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. 14.06.1863 зняволены ў бальніцы ў г. Барысаве, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—107адв.)*.

6727. **Эбэрс Генрык** (Эберса Генрих), сын Эдварда, іншаземец, лютэранін. Западозраны ў су-

вязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—16)*.

6728. **Эгэрздорф Зыгмунт** (Эгерздорф Сигизмунд), сын Андрэя, муж *Марыі*, дваранін Люблінскай губ. Падчас паўстання разам з жонкай западозраны ў дастаўцы харчавання паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 08.08.1863 і пастановы ГГП ад 27.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—227)*.

6729. **Эгэрздорф Марыя** (Эгерздорф Мария), сын Андрэя, жонка *Зыгмунта*, памешчыца. Да паўстання валодала маёнткам Радзеж Брэсцкага пав. Падчас паўстання разам з мужам западозрана ў дастаўцы харчавання паўстанцам, таму яе маёмасць, у тым ліку маёнтак, на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 08.08.1863 і пастановы ГГП ад 27.08.1863 падлягала секвестру *(1416—6—227)*.

6730. **Эйвілд Юзаф** (Эйвилд Иосиф), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання высланы на службу шарагоўцам у Арэнбургскі пяхотны полк. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—3адв.)*.

6731. **Эйвілд Ян** (Эйвилд Иван), памешчык Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Пскоў для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—3)*.

6732. **Эйгерд Фларыян** (Эйгерд Флориан), аднадворац Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(319—1—479—11адв.; 320—1—398—133; 1430—1—52163—600)*.

6733. **Эйгерд Уладзіслаў** (Эйгерд Владислав), ксёндз. Нар. каля 1808 г. Да паўстання служыў у Дубенскім пав. Валынскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, удзельнічаў у сутычках з рас. войскамі. Пасля паўстання ўцёк за мяжу. У 1875 г. канфірмацыяй камандуючага войскамі Кіеўскай вайсковай акругі асуджаны завочна на пазбаўленне правоў стану, духоўнага сану, медаля на памяць пра вайну 1853–1856 гг. і вечнае выгнанне, у выпадку самавольнага вяртання падлягаў ссылцы на катаргу на заводах на 5 гадоў *(1430—1—35834—98)*.

6734. **Эйдрыгевіч Фердынанд** (Эйдригевич Фердинанд), шляхціц Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11адв.; 1430—1—52163—521адв.)*.

6735. **Эйдэнт Антоні** (Эйдент Антон), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(319—1—479—11адв.; 1430—1—52163—166адв.)*.

6736. **Эйзэнблетэр Уладзіслаў** (Ейзенблеттер Владислав), ксёндз. Падчас паўстання арыштаваны, потым вызвалены, але з усталяваннем паліцэйскага нагляду і штрафам у 100 руб. *(295—1—1643—68)*.

6737. **Эйзэнгардт Аўгуст** (Эйзенгардт Август), прускі падданы. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 02.01.1864 скончыла яго справу *(3046—2—5—67)*.

6738. **Эйнаровіч Вінцэнт** (Эйнарович Викентий), памешчык. Да паўстання арандаваў маёнтак Гуцяны (Гусцяны) Троцкага пав. памешчыкаў Бараноўскіх. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6739. **Эйнік Вінцэнт** (Эйник Викентий), дваранін Ковенскай губ. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Аланецкую губ. *(1430—1—52163—546адв.)*.

6740. **Эйнік Францішак** (Эйник Франц). Служыў на грамадзянскай службе, калежскі сакратар. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы высланы (каля 08.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—86; 1430—1—52163—562)*.

6741. **Эйсмант (Эйсымант) Адам** (Эйсмонт (Эйсымонт) Адам), дваранін Барысаўскага пав. Да і падчас паўстання жыў у засц. Рэчкі Ігуменскага пав. на зямлі памешчыка Слатвінскага. 08.1863 уночы ў яго дом на кароткі час зайшлі 3 паўстанцы, пра што не паведаміў рас. уладам. Селянін жа в. Раваніцкая Слабада Ігуменскага пав. Фама Блашкевіч данёс пра гэта з фармулёўкай «штодзень па начах бываюць мяцежнікі». Западозраны ў падтрымцы паўстання і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, затым у МСК, якая знайшла доказы толькі недаанясення. 25.02.1864 ЧВГМГ В. Забалоцкім справа пададзена М. Мураўёву з прапановай «выслаць яго з тутэйшага краю». Без судовай пастановы, а рашэннем М. Мураўёва ад 18.03.1864 прызначаны да ссылкі ў Казанскую губ. на жыхарства пад на-

гляд паліцыі[168]. 03.04.1864 высланы з г. Ігумена ў г. Мінск для далейшай адпраўкі на месца ссылкі. Яго маёмасць падлягала секвестру, затым на падставе ўказа ад 10.12.1865 — абавязковаму продажу. Пасля выдання частковай амністыі ад 17.05.1867 перасяліўся ў г. Варшаву, дзе ў 1871 г. падаваў прашэнне аб дазволе на вяртанне ў в. Студзёнка Барысаўскага пав. да жонкі і дзяцей. 12.1871 атрымаў дазвол, 25.03.1872 — пашпарт на переезд у Мінскую губ. *(162—1—116—103, 166; 295—1—1643—67адв., 69адв.; 295—1—2222; 296—1—98; 2532—1—15—13адв.).*

6742. **Эйсмант Аляксандр** (Эйсмонт Александр), памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Каральсоўшчына Гродзенскага пав. Меў дачыненне да паўстання. Памёр падчас следства, «таму вызвалены ад асабістай адказнасці» *(319—1—479—12; 1430—1—52163—166адв.).*

6743. **Эйсмант Канстанцін** (Эйсмонт Константин), муж *Марыі*, дваранін ці аднадворац Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі з жонкай на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—11адв.; 1430—1—52163—521адв.).*

6744. **Эйсмант Леанард** (Эйсмонт Леонард), дваранін Лідскага пав. Да паўстання валодаў фальв. Пікулішкі з домам і 72 дзес. зямлі. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Сасланы. На падставе амністыі 1871 г. атрымаў вызваленне ад паліцэйскага нагляду, у 1875 г. хадайнічаў аб дазволе на часовае прыбыццё з Табольскай у Віленскую і Мінскую губ. *(295—1—2724; 319—1—479—11адв.; 1416—4—11416—87; 1430—1—52163—521).*

6745. **Эйсмант Марцін** (Эйсмонд Мартын), шляхціц. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

6746. **Эйсмант Марыя** (Ейсмонт Мария), жонка *Канстанціна*, аднадворка. За дачыненне да паўстання выслана з мужам па этапе ў г. Маскву *(295—1—1643—68).*

6747. **Эйсмант Станіслаў** (Эйсмонт Станислав), дваранін Гродзенскай губ. Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.).*

6748. **Эйсмант Элеанора** (Эйсмонт Элеонора), жонка *Юзафа*, памешчыца Сакольскага пав. ці Віленскай губ. За дачыненне да паўстання прысуджана да ссылкі з мужам у Томскую губ., але пакінута на месцы жыхарства пад апекай сваякоў з абавязкам продажы сваёй маёмасці асобе «рускага паходжання» *(160—2—682—212; 162—1—122—31; 534—1—14—79; 1416—4—11416—83; 1430—1—52163—552; 2532—1—15—7).*

6749. **Эйсмант Юзаф** (Эйсмонт Иосиф), муж *Элеаноры*, дваранін Віленскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны, сярод іншага, да ссылкі ў Томскую губ. *(1430—1—52163—552).*

6750. **Эйсмант Юзэфа** (Эйсмонд Юзефа), дваранка. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнка Заходняга краю» жыла ў 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.).*

**Эйсымант Адам** — гл. **Эйсмант Адам**

6751. **Эйсымант Вінцэнт** (Эйсымонт Викентий), сын Караля, дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання служыў наглядчыкам ашмянскага правіянцкага склада, тытулярны радца. За дачыненне да паўстання сасланы без пазбаўлення правоў стану і чыну. Пасля амністыі пасяліўся ў г. Кельцах Каралеўства Польскага, 08.11.1876 жыў у г. Варшаве. У 1876 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(295—1—3040—22-25адв.).*

6752. **Эйсымант Ігнат** (Эйсымонт Игнатий), сын *Юзафа-Бенядыкта*, брат *Нарцыза*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. 11.10.1836. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, пасля рассеяння якога хаваўся, але 21.09.1864 арыштаваны. Следства па яго справе праводзіў чыноўнік Крываносаў. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 26.11.1865 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 8 гадоў *(160—2—683—4; 295—1—1643—69адв.; 320—1—398—751, 756-757; 1418—3—1—26адв.-27).*

6753. **Эйсымант Кацярына** (Эйсмонт Екатерина), дваранка Гродзенскай губ. Да паўстання

[168] У некаторых дакументах памылкова пішацца, што прысуджаны да ссылкі ў Сібір і канфіскацыі маёмасці.

жыла ў в. Эйсманты Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання выслана з радзімы. У 1871 г. жыла ў г. Кургана Табольскай губ. *(295—1—2212)*.

6754. **Эйсымант Нарцыз** (Эйсымонт Нарцыз), сын *Юзафа-Бенядыкта*, брат *Ігната*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, пакінуў яго і з'явіўся да рас. уладаў. Западозраны ў ілжывых паказаннях, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. Адпраўлены ў г. Мінск паводле распараджэння ЧВГМГ ад 26.02.1864. За «нераскаянне» аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—65; 1418—3—1—26адв.-27)*.

6755. **Эйсымант Юзаф-Бенядыкт** (Эйсымонт Осип-Бенедикт), сын Ануфрыя, бацька *Ігната* і *Нарцыза*, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў журналістам Ігуменскага павятовага казначэйства, губернскі сакратар. Западозраны ў дапамозе сваім сынам і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 17.01.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. Спачатку ў 1863 г. прысуджаны да ссылкі ва «ўнутраныя губерні», аднак канфірмацыяй А. Патапава ад 08.03.1865 прызначаны да звальнення са службы і штрафу ў 100 руб. ср. *(160—2—682—117-118; 295—1—1643—65, 66адв.; 1418—3—1—25адв.-26)*.

6756. **Эйтвід Станіслаў** (Эйтвид (Ейтвид) Станислав), дваранін. Да паўстання служыў пісьмаводам міравога пасярэдніка ў Навагрудскім пав. Западозраны ў падтрымцы паўстання, у тым ліку ў сувязях з *Бразінскім Антоніем*, *Маеўскім Канстанцінам* і *Тупальскім Аляксандрам*. Прыбыў з Навагрудскага пав. у г. Мінск і 06.02.1864 арыштаваны пасля вобыску. Аддадзены пад ПВС пры Каломенскім пяхотным палку ў г. Мінску, на якім падазрэнні не пацвердзіліся. Яго справа 09.06.1864 пададзена ЧВГМГ В. Забалоцкім на канфірмацыю М. Мураўёву *(295—1—1643—65; 296—1—99)*.

6757. **Эйтовіч N.** (Эйтович N.), ксёндз. Западозраны ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—67)*.

6758. **Эллерт Дамінік** (Эллерт Доминик), сын Міхала. Да паўстання служыў пісьмаводам прыстава 1 стана Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

6759. **Элляшэвіч (Эльяшэвіч, Элляшкевіч) Уладзімір** (Элляшевич (Эльяшевич, Елляшкевич) Владимир), сын Францішка, дваранін Валынскай губ. Да паўстання жыў у м. Давыд-Гарадок Мазырскага пав. ці ў в. Горкі Мазырскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 09.02.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці, пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—64; 295—1—1643—69; 296—1—25—106; 299—1—577—164-175; 320—1—398—2, 282)*.

**Эльская Зоф'я** — гл. **Ельская Зоф'я**

**Эльяшэвіч Уладзімір** — гл. **Элляшэвіч Уладзімір**

6760. **Эрдман Аляксандр** (Эрдман Александр), сын Наполеона, дваранін Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства *(319—1—479—11адв.; 320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

6761. **Эрдман Антоні** (Эрдман Антон), дваранін Дрысенскага (?) пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, высланы (да 25.01.1864) у «вялікарасійскія губерні адміністрацыйным парадкам» *(2601—1—5—7адв.)*.

6762. **Эрдман Базыль** (Эрдман Василий), сын Люцыяна, дваранін Полацкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(319—1—479—12; 320—1—398—134адв.; 1416—3—21048—56; 1430—1—52163—421адв., 596; 2616—1—40—12адв.)*.

6763. **Эрдман (Эртман) Валяр'ян** (Эрдман (Эртман) Валериан), сын Валяр'яна (пам. да 1863) і Юззэфы, дваранін Себежскага пав. Пасля смерці бацькі разам з маці і двума братамі стаў спадчыннікам маёнткаў Цяхомічы (з вінакурняй) з фальв. Ябланец, Чарнея (Чэрня), Харлапава, Сутокі Себежскага пав. На яго долю прыпадала частка ў 1212 руб. прыбытку штогод. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны і адпраўлены ў г. Дынабург. Прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На маёмасць на падставе ўказа ВГП ад 24.08.1863 накладзены секвестр, які 20.04.1865 яшчэ не зняты. Высланы (да 28.08.1863) пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Варшаву. У 1875 г. вярнуўся на радзіму *(1416—3—21048—56; 1430—1—31307—116; 1430—1—31355—106-108; 1430—1—35810—19; 1430—1—52163—51, 150адв., 214адв.-215, 230адв., 418, 437, 568адв., 569, 666, 678, 760-761, 825; 2616—1—40—10адв.)*.

**Эсьман Адам** — гл. **Есьман Адам**

**Эсьман Генрык** — гл. **Есьман Генрык**

**Эсьман Людвік-Сільвестр** — гл. **Есьман Людвік-Сільвестр**

**Эсьман Пётр-Эварыст** — гл. **Есьман Пётр-Эварыст**

**Эсьман Рудольф** — гл. **Есьман Рудольф**

**Эсьман Юльян** — гл. **Есьман Юльян**

# Ю

6764. **Юдзевіч Канстанцін** (Юдзевич Константин), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1875 г. жыў у Архангельскай губ. як «сасланы на жыхарства», атрымаў амністыю і права пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц і сталічных губ. *(1430—1—35834—32).*

6765. **Юдзіцкі Віктар** (Юдицкий Виктор), сын Станіслава, дваранін Ковенскай губ. Да паўстання жыў у Віленскай губ., з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК. Пастановай ЧПА, канфірмаванай М. Мураўёвым, прысуджаны (да 20.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, ссылкі ў Сібір і канфіскацыі маёмасці. Высланы каля 11.1863. 01.10.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(320—1—398—221адв.; 1416—4—11416—124, 174-175адв.; 3257—1—1—186; 3257—2—2—42).*

6766. **Юзамовіч (Юзумовіч) Антоні** (Юзомович (Юземович, Юзумович) Антон), ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў г. Відзы Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі на карысць паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—11).*

6767. **Юзафовіч Вінцэнт** (Юзефович Викентий), дваранін. Да паўстання жыў у в. Даргі Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1430—1—52163—599).*

6768. **Юзафовіч Дамінік** (Иозефович Доминик), сын Матэвуша, памешчык Новааляксандраўскага ці Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання паводле канфірмацыі А. Патапава ад 19.04.1865 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1416—4—11416—256; 2532—1—15—4).*

**Юзумовіч Антоні** — гл. **Юзамовіч Антоні**

6769. **Юззвіч (Юцэвіч) Аніцэт** (Юзевич (Юцевич) Аницетий). Паходзіў з Ковенскай губ., да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым лекарам. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.).*

6770. **Юнгер Леан** (Юнгер Леон), яўрэй (?). Да паўстання жыў у г. Варшаве. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

6771. **Юнгер Сымон** (Юнгер Семен), яўрэй. Да паўстання жыў у г. Варшаве. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—223).*

6772. **Юндзіл Валяр'ян** (Юндзилл Валериан), памешчык Слонімскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Казанскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12адв.; 2532—1—15—7адв.).*

6773. **Юндзіл Канстанцін** (Юндзилл Константин), памешчык. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра. Да паўстання валодаў маёнткам Асавец Слонімскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 29.07.1863 і пастановы ГГП ад 19.08.1863. Пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224адв.; 1416—6—224).*

6774. **Юндзіл Пётр-Эмануіл** (Юндзилло Петр-Эмануил). Служыў у рас. войску, падпаручнік. Да паўстання жыў у г. СПб. Належаў да складу пецярбургскай падпольнай арганізацыі, схаваўся ад рас. уладаў. Канфірмацыяй К. фон Каўфмана ад 24.12.1865 завочна прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, чыну, узнагарод, канфіскацыі маёмасці і расстрэлу *(320—1—398—780; 2003—1—474—1-3 і інш.).*

6775. **Юндзіл Тарэза** (Юндзилл Терезия), памешчыца Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання выслана ў Пензенскую губ. Яе маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасялілася ў г. Варшаву, дзе ў 1873 г. атрымала дазвол

вярнуцца ў «Паўночна-Заходні край» *(1430—1—35458—13; 2532—1—15—7адв.).*

6776. **Юндзіл Францішак** (Юндзилл Франц), памешчык Слонімскага пав. Удзельнічаў у паўстанні, схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць прысуджана да канфіскацыі *(296—1—25—108).*

6777. **Юневіч Міхал** (Юневич Михаил), дваранін Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.).*

**Юрага-Гедройць Віктар** — гл. **Гедройць-Юрага Віктар**

**Юрага-Гедройць Цыпрыян** — гл. **Гедройць-Юрага Цыпрыян**

6778. **Юрашкевіч Канстанцін** (Юрашкевич Константин). Паходзіў з в. Руцк Пінскага пав., меў духоўны сан. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222, 310).*

6779. **Юрашкевіч Фёдар** (Юрашкевич Федор), сын дзяка. За ўдзел у паўстанні ў 1863 г. прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 2 гады. МГП 27.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—33; 295—1—1643—266адв.).*

6780. **Юргялевіч Мікалай** (Юргелевич Николай). Служыў на грамадзянскай службе, выйшаў у адстаўку ў чыне калежскага сакратара. Да паўстання жыў у г. Вільні. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.; 1416—6—280).*

6781. **Юркевіч Аляксандр** (Юркевич Александр), сын паштальёна. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, у 1863 г. з'явіўся да рас. уладаў *(295—1—1643—266).*

6782. **Юркевіч Ігнат** (Юркевич Игнатий), сын Антонія, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 23.06.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—89адв.-90).*

6783. **Юркевіч Феликс** (Юркевич Феликс), аднадворац. Да паўстання жыў у м. Задарожжа Пяршайскай вол. Мінскага пав., яго бацька — у в. Бярозаўцы ля м. Гарадок Вілейскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. Секвестравана яго рухомасць на 0,07 руб. *(320—1—398—2; 1416—6—241).*

6784. **Юркоўскі Ігнат** (Юрковский Игнатий), дваранін Мінскай губ. Канфірмацыяй А. Безака прысуджаны, сярод іншага, да канфіскацыі маёмасці *(160—2—683—13).*

6785. **Юркштовіч (Юрштовіч) Канстанцін** (Юркштович (Юрштович) Константин), селянін, народжаны па-за шлюбам. Да паўстання прыпісаны да Ваўмянскай сельскай грамады Мінскага пав., лічыўся дваравым чалавекам маёнтка Воўма памешчыка Капалінскага. Падчас паўстання высланы з радзімы з маёнтка Ажэвічы Слуцкага пав. графа Касакоўскага *(295—1—2725—13).*

6786. **Юроўскі Міхал** (Юровский Михаил), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Закрэўшчына Гродзенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—125; 1430—1—52163—601).*

6787. **Юрцэвіч Аляксандр** (Юрцевич Александр), дваранін Гродзенскай губ. Да паўстання служыў памочнікам аптэкара. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102адв.).*

6788. **Юрцэвіч Павел** (Юрцевич Павел), муж *Юрцэвіч N.*, дваранін Ашмянскага пав. Да паўстання валодаў аптэкай у м. Смаргонь Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 26.07.1863 і 08.08.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з жонкай высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—2011; 1416—6—280; 1430—1—52285—9).*

6789. **Юрцэвіч N.** (Юрцевич N.), жонка *Паўла*, дваранка Ашмянскага пав. Западозрана рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яе маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з мужам выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9).*

6790. **Юрцэвіч Міхал** (Юрцевич Михаил), памешчык. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Пашумель (Пашумені) Свянцянскага пав. Падчас паўстання самавольна пакінуў месца жыхарства, таму западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 і пастаноў ВілГП ад 23.07.1863 і 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274; 1416—6—280).*

**Юрштовіч Канстанцін** — гл. **Юркштовіч Канстанцін**

6791. **Юрыла Віктар** (Юрила Виктор), дваранін Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

6792. **Юр'евіч Віталіс** (Юрьевич Виталис), сын Яна. Да паўстання жыў у г. Кобрыне, служыў пісарам у Кобрынскай гарадавой паліцыі. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

6793. **Юр'евіч Юзаф** (Юрьевич Иосиф). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280)*.

6794. **Юрэвіч Анастас** (Юревич Анастасий), мешчанін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Калужскую арыштанцкую роту на 2 гады *(1430—1—52163—204адв.)*.

6795. **Юрэвіч Ігнат** (Юревич Игнатий), памешчык Лідскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Юршышкі Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць падлягала секвестру на падставе пастановы ВілГП ад 08.08.1863 *(1416—6—211)*.

6796. **Юрэвіч Канстанцін** (Юревич Константин), селянін Мінскай губ., каталік. Нар. каля 1842 г., . Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе 1 дзень, 01.–02.1863 арыштаваны. Паводле рашэння ПВС пры фартэцыі ў г. Брэсце, канфірмаванага М. Мураўёвым 03.11.1863, прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 1 год. МГП 31.12.1863 і 31.01.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—12; 295—1—1643—266адв.; 320—1—398—96)*.

6797. **Юрэвіч Руперт** (Юревич Руперт), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады *(1430—1—52163—204)*.

6798. **Юрэцкі Юзаф** (Юрецкий Иосиф), сын Бенядыкта, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1841 г. Да паўстання служыў вазніцам, яго бацька валодаў 100 дзес. зямлі ў засц. Сынева Слуцкага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 паранены ў правую нагу вышэй калена і ўзяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на ссылку на жыхарства ў Табольскую губ. *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—326-327адв., 345-347; 320—2—98—52адв.; 1418—4—1; 1524—1—1—16; 1525—1—2—4адв.-5)*.

6799. **Юрэвіч Язафата** (Юревичева Иосафата), памешчыца Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 08.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1416—4—11416—85; 1430—1—52163—540)*.

6800. **Юсевіч Валяр'ян** (Юсевич Валериан), дваранін Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

6801. **Юсевіч Вітальд** (Юсевич Витольд), брат *Уладзіслава* (ці *Станіслава*), памешчык Ашмянскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—12)*.

6802. **Юсевіч Уладзіслаў (ці Станіслаў)** (Юсевич Владислав (ці Станислав)), брат *Вітальда*, памешчык Ашмянскага пав. Пасля разгляду яго следчай справы высланы «адміністрацыйным парадкам» (каля 07.1864) на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—4—11416—84; 1430—1—52163—546; 1430—1—52285—7адв.; 2532—1—15—12)*.

6803. **Юхневіч Адам** (Юхневич Адам), дваранін Ашмянскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—7адв.)*.

6804. **Юхневіч Вінцэнт** (Юхневич Викентий), сын Адама, брат *Казіміра* і *Караля*, дваранін Свян-

цянскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 10.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці яго «паводле ступені вінаватасці» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу, МагСК 23.05.1863 вярнула справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Потым прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Паводле ўказа МГП ад 28.08.1864 на яго маёмасць накладаўся секвестр, які да 1867 г. быў зняты *(320—1—398—529; 1430—1—52163—149; 2514—1—2198—71; 3257—1—6; 3257—2—2—42).*

6805. **Юхневіч Казімір** (Юхневич Казимир), сын Адама, брат *Вінцэнта* і *Караля*, дваранін Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 10.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці яго «паводле ступені вінаватасці» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу МагСК 23.05.1863 вярнула справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Потым прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 28.08.1864, які да 1867 г. быў зняты *(320—1—398—529; 1430—1—52163—149; 2514—1—2198—71; 3257—1—6; 3257—2—2—42).*

6806. **Юхневіч Караль** (Юхневич Кароль), сын Адама, брат *Вінцэнта* і *Казіміра*, дваранін Свянцянскага пав. За дачыненне да паўстання знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая скончыла яго справу і падала яе на рэвізію часоваму ваеннаму начальніку Магілёўскай губ., які 10.05.1863 пераслаў яе ў МагСК з загадам аднесці яго «паводле ступені вінаватасці» да пэўнай катэгорыі. У сваю чаргу МагСК 23.05.1863 вярнула справу камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. У. Яшвілю з прычыны адсутнасці паўнамоцтваў на такую пастанову. Потым прызначаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». На яго маёмасць накладаўся секвестр паводле ўказа МГП ад 28.08.1864, які да 1867 г. быў зняты *(320—1—398—529; 1430—1—52163—149; 2514—1—2198—71; 3257—1—6; 3257—2—2—42).*

6807. **Юхневіч Францішак** (Юхневич Франц), сын Мацея, дваранін Ігуменскага пав. Нар. у г. Вільні. Да паўстання жыў у м. Бярэзіна Ігуменскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцім атрадзе, арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(162—1—116—128, 156адв.; 295—1—1643—266; 320—1—398—530, 644, 767а-770; 320—2—98—52адв.; 1430—1—52163—526).*

**Юцус Леан** — гл. **Юцэвіч Леан**

**Юцэвіч Аніцэт** — гл. **Юзэвіч Аніцэт**

6808. **Юцэвіч (Юцус) Леан** (Юцевич (Юцус) Леан), шляхціц Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—133; 1430—1—52163—600).*

6809. **Юша Базыль** (Юшо Василий). Да паўстання жыў у Ашмянскім пав. (?). Западозраны рас. уладамі ў службе ў паўстанцаў праваднікам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—280).*

6810. **Юшка Аляксандр** (Юшко Александр), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Кастрамской губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—74).*

6811. **Юшкевіч Антоні** (Юшкевич Антон), сын Антонія, брат *Ксаверыя*, памешчык. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму яго сумесны з братам маёнтак Катоўшчына Слонімскага пав. падлягаў секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 29.07.1863 і пастановы ГГП ад 19.08.1863. Паводле пастановы ваеннага суда прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—224; 1430—1—52285—29; 2532—1—15—7адв.).*

6812. **Юшкевіч Вінцэнт** (Юшкевич Викентий), сын Казіміра, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў (?) маёнткам Ліпавец Лепельскага пав. Падчас паўстання западозраны рас. уладамі ў веданні пра збор *Багдановіч Клярай* грошай для паўстанцаў. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На яго маёмасць 07.07.1864 паводле патрабавання ВСК ад 15.05.1864 накладзены секвестр. Аддадзены пад суд *(1430—1—52163—407; 3046—2—3—101адв.-102).*

6813. **Юшкевіч Вінцэнт** (Юшкевич Викентий), памешчык. Да паўстання арандаваў маёнтак Падаўгова Ковенскага пав. Западозраны рас. ула-

дамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 11.07.1863 і пастановы КГП ад 26.07.1863 *(1416—6—207)*.

6814. **Юшкевіч Ізыдар** (Юшкевич Исидор). Служыў доктарам на чыгунцы., калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

6815. **Юшкевіч Іпаліт** (Юшкевич Ипполит), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Магілёўскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—6)*.

6816. **Юшкевіч Ксаверы** (Юшкевич Ксаверий), сын Антонія, брат *Антонія*, памешчык. Западозраны ў дачыненні да паўстання, таму яго сумесны з братам маёнтак Катоўшчына Слонімскага пав. падлягаў секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 29.07.1863 і пастановы ГГП ад 19.08.1863. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—224; 1430—1—52285—29; 2532—1—15—7адв.)*.

6817. **Юшкевіч Людвік** (Юшкевич Людвиг), сын Фелікса. Да паўстання служыў пісьмаводам (ці сакратаром) гарадавой паліцыі г. Кобрына. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру. Пасля паўстання схаваўся ад рас. уладаў, таму яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(296—1—25—108адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

6818. **Юшкевіч Марыя** (Юшкевич Марья), дваранка, каталічка. Падчас паўстання западозрана рас. уладамі ў веданні і неданясенні пра тое, што *Ясевіч Юзаф* даў коней паўстанцам. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—101адв.-102)*.

6819. **Юшкевіч Міхал** (Юшкевич Михаил), дваранін Ковенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103адв.)*.

6820. **Юшкевіч Ян** (Юшкевич Иван), памешчык Расіенскага пав. Западозраны ў дачыненні да паўстання, трапіў пад следства. Пасля разгляду яго справы «адміністрацыйным парадкам» сасланы (каля 06.1864) у Табольскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—238; 2532—1—15—6)*.

6821. **Юшкевіч Ян** (Юшкевич Иван), сын Ігната, дваранін Ігуменскага пав. Да паўстання жыў у вак. Новая Валадута Ігуменскага пав., не меў зямельнай маёмасці. Разам з жонкай Марыяй, сынамі Францішкам, Канстанцінам і Казімірам, дачкамі Ганнай (з сынам Гвідонам) і Каралінай высланы ў Томскую губ. на пасяленне *(295—1—2420—17)*.

6822. **Юшкоўскі Ануфры** (Юшковский Онуфрий), сын Тэадора Ясонавіча, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў зямлёй у вак. Буева ці Выжляціна Суражскага пав. Западозраны рас. уладамі ў «абвяшчэнні ў доме яўрэяў Бескінаў, што хутка прыйдуць палякі і парэжуць папоў і яўрэяў». Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 19.08.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. На маёмасць бацькі 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 і ўказу ВГП ад 22.08.1863 накладзены секвестр, які 01.10.1864 яшчэ не зняты *(1430—1—52163—426, 439адв.; 3046—2—3—101адв.-102; 3046—2—5—69; 3255—1—14—6адв.)*.

6823. **Юшчык Станіслаў** (Ющик Станислав), мешчанін. Дачыненне да паўстання невядомае. Як «палітычны ссыльны» атрымаў частковую амністыю і пасяліўся г. Варшаве. Тут у 1880 г. меў чарговае палягчэнне з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ. *(295—1—3372—14-15; 1430—1—52758—48)*.

# Я

6824. **Ябланоўскі Валянцін** (Яблоновский Валентин), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў г. Брэсце. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109; 1430—1—52163—616)*.

6825. **Ябланоўскі (Длускі) [Баляслаў-Раман]** (Яблоновский (Длусский) [Болеслав-Роман]). Да паўстання служыў у рас. войску на Каўказе. Удзельнічаў у паўстанні, забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Яго маёмасць падлягала канфіскацыі *(162—1—116—39; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125)*.

6826. **Яблонскі Адам** (Яблонский Адам), сын Віктара, дваранін Слуцкага пав., каталік. «За лег-

кадумны выраз перад сялянамі» арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ССК. У 1864 г. вызвалены з-пад арышту *(295—1—1643—273; 1524—1—1—16адв.)*.

6827. **Яблонскі Адольф** (Яблонский Адольф). Служыў беластоцкім павятовым страпчым, тытулярны радца. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25)*.

6828. **Яблонскі Вінцэнт** (Яблонский Викентий). Да паўстання служыў у Цельшаўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, тытулярны радца. Пасля паўстання як асоба «вельмі сумнеўнай добранадзейнасці ў палітычных адносінах» паводле пастановы ЧПА ад 23.10.1865, канфірмаванай 04.11.1865 З. Манюкіным, прысуджаны да звальнення з забаронай паступаць на дзяржаўную службу ў «тутэйшым краі» *(160—2—683—8)*.

6829. **Яблонскі Міхал** (Яблонский Михаил), памешчык. Западозраны ў агітацыі ваколічнай шляхты далучыцца да паўстання, 03.1864 арыштаваны і зняволены ў гарадской турме ў г. Мазыры. У яго доме праведзены вобшук, падчас яго знойдзены прыстасаванні для палявання. У 1864 г. прысуджаны да 3-месячнага турэмнага зняволення *(295—1—1643—274; 296—1—100—1-2адв.)*.

6830. **Яблонскі Уладзіслаў** (Яблонский Владислав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Алешышкі Троцкага пав. (3 вярсты ад г. Трокаў). Западозраны рас. уладамі ў выездзе 07.05.1863 у паўстанцкі атрад. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6831. **Яблонскі Юзаф** (Яблонский Иосиф), дваранін. Да паўстання жыў у г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—130; 1430—1—52163—605)*.

6832. **Явароўская Кацярына** (Яворовская Екатерина), маці *Паўліны*, дваранка. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыла з дачкой пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73адв.)*.

6833. **Явароўская Паўліна** (Яворовская Павлина), дачка *Кацярыны*, дваранка. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыла з маці пад наглядам паліцыі ў Вяцкай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—73адв.)*.

6834. **Явароўскі [Антоні]** (Яворовский [Антон]). Да паўстання служыў сакольскім павятовым страпчым. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

6835. **Явароўскі Дамінік** (Яворовский Доминик), аднадворац. Да паўстання жыў у в. Рогаўка Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір *(320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

6836. **Явароўскі Казімір** (Яворовский Казимир). Да паўстання жыў у г. Рагачове, з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў г. Калугу *(1430—1—52163—609; 1430—1—52285—23)*.

6837. **Явароўскі Казімір** (Яворовский Казимир), дваранін г. Беластока. Служыў малодшым доктарам гарадской бальніцы ў г. Коўне. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103)*.

6838. **Явароўскі Марцін** (Яворовский Мартин), дваранін Бельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(320—1—398—125адв.; 1430—1—52163—601адв.)*.

6839. **Явароўскі (Яворскі) Мацей** (Яворовский (Яворский) Матвей), шляхціц. Да паўстання жыў у в. Зязнякі Беластоцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 09.07.1863 і пастановы ГГП ад 07.08.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(320—1—398—125адв.; 1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3; 1416—6—286; 1430—1—52163—601адв.)*.

6840. **Явароўскі Ян** (Яворовский Иван), памешчык Бельскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом

(каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—237адв.; 2532—1—15—8адв.)*.

6841. **Яворскі Валяр'ян** (Яворский Валериан). Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да паўстання яго рухомая маёмасць на суму 1,1 руб. ср. 13.06.1863 апісана і секвестравана *(2003—2—12)*.

6842. **Яворскі Вінцэнт** (Яворский Викентий), аднадворац Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—224адв.)*.

**Яворскі Мацей** — гл. **Явароўскі Мацей**

6843. **Ягалкоўскі Захар** (Яголковский Захарий). Служыў на грамадзянскай службе, губернскі сакратар. Да паўстання жыў у Гродзенскай губ. За дачыненне да паўстання ваенным судом прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.)*.

6844. **Ягалкоўскі Фелікс** (Яголковский Феликс). Служыў столаначальнікам Гродзенскай дарожнай будаўнічай камісіі, калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

**Ягаўд Антоні** — гл. **Ягоўда Антоні**

6845. **Ягмін Адольф** (Ягмин Адольф), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Угяні Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1430—1—52163—599)*.

6846. **Ягмін Аляксандр** (Ягмин Александр), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(1430—1—52163—237; 2532—1—15—5; 2616—1—40—58)*.

6847. **Ягмін Антоні** (Ягмин Антон), сын Вінцэнта, дваранін. Да паўстання жыў у маёнтку Пабер'е (Пабярэжжа) Шавельскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6848. **Ягмін Аўгуст** (Ягмин Август), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Руда Брэсцкага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 21.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863 *(1416—6—238)*.

6849. **Ягмін Павел** (Ягмин Павел), памешчык Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12)*.

6850. **Ягоўда (Ягаўд) Антоні** (Яговда (Яговд) Антон), дваранін Цельшаўскага пав. Да паўстання валодаў маёнткам Пачарындуці. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў *(1416—6—281; 1430—1—52163—205)*.

6851. **Ягораў**[169] **N.** (Егоров N.), селянін. За дачыненне да паўстання прысуджаны ў 1864 г. да 1-месячнага арышту ў паліцыі *(295—1—1643—67адв.)*.

6852. **Ягучанскі Ігнат** (Ягучанский Игнатий), бацька *Уладзіслава* і *Фердынанда*, памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—2)*.

6853. **Ягучанскі Уладзіслаў** (Ягучанский Владислав), сын *Ігната*, брат *Фердынанда*, дваранін Ковенскай губ. Вучыўся ў Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы, да паўстання звольнены з забаронай паступаць у іншыя навучальныя ўстановы. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Варонежскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 1527—1—4—12; 2532—1—15—2)*.

6854. **Ягучанскі Фердынанд** (Ягучанский Фердинанд), сын *Ігната*, брат *Уладзіслава*, дваранін Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Варонежскую губ.

[169] Верагодна, гэта імя па бацьку.

Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—2)*.

6855. **Ягшын Фелікс** (Ягшин Феликс), дваранін Кобрынскага пав. Служыў у рас. войску, штабс-ротмістр. Да паўстання выйшаў у адстаўку, жыў у маёнтку бацькі Корсунь Кобрынскага пав. За ўдзел у паўстанні пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

6856. **Ягянтовіч Фелікс** (Ягентович Феликс), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

6857. **Ядкевіч (Яткевіч) Геркулан** (Иодкевич (Иоткевич) Геркулан), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Высланы Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1416—6—281; 2532—1—15—6)*.

6858. **Яжэўскі Каятан** (Ежевский Каетан), аднадворац Бельскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Смаленскую арыштанцкую роту на 4 гады *(319—1—479—12; 1430—1—52163—181адв.)*.

6859. **Язафатава**[170] **Яўгенія** (Иосафатова Е[в]гения), сялянка Лепельскага пав., праваслаўная. Служыла ў доме *Шаўман Юззэфы*. Западозрана рас. уладамі ў дапамозе ёй у хаванні *Шаўмана Аўгуста*. Знаходзілася пад следствам у ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 24.04.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—28адв.-29)*.

6860. **Язвінскі Ізыдар** (Язвинский Сидор), сын Тамаша, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1809 г. Да паўстання служыў аканомам маёнтка Малыя Савічы Слуцкага пав., пісьменны, жанаты. Западозраны ў веданні, што *Дубіцкі Міхал* і *Жук Каятан* жадаюць далучыцца да паўстанцаў. Арыштаваны, знаходзіўся пад следствам у ССК. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся *(296—1—19—225-241; 1524—1—1—16адв.)*.

6861. **Яздоўскі Аляксандр** (Яздовский Александр), бацька *Зыгмунта*, памешчык Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

6862. **Яздоўскі Зыгмунт** (Яздовский Сигизмунд), сын *Аляксандра*, дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—7адв.)*.

6863. **Язерскі Караль** (Езерский Карл). За дачыненне да паўстання на яго маёмасць накладаўся секвестр *(162—1—116—166адв.)*.

6864. **Язерскі Уладзіслаў** (Езерский Владислав), сын Міхала. Да паўстання служыў рэгістратарам Кобрынскага земскага суда. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе пастановы ГГП (да 31.08.1863) падлягала секвестру *(1416—6—232; 1416—6—275—3; 1416—6—277—3)*.

6865. **Язерскі Юзаф** (Езерский Иосиф), дваранін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1880 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—12)*.

6866. **Якавіцкая Леакадзія** (Яковицкая Леокадия), дваранка, каталічка. Падчас паўстання ў яе доме ў г. Полацку жыла абгавораная ў «палітычнай нядобранадзейнасці» *Чашніцкая Разалія*. У яе доме 02.1864 праведзены вобшук, падчас якога ў *Ч. Р.* знойдзены «падбухторнага зместу гімны і вершы». Спрабавала знішчыць гэтыя паперы, за што трапіла пад следства ў ВСК, якая не знайшла доказаў віны і 14.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Канфірмацыяй А. Патапава ад 22.09.1864 прысуджана да штрафу ў 50 руб. і аддачы на парукі і пад нагляд паліцыі. Штраф заплаціла *(1430—1—31594; 3046—2—3—102адв.-103)*.

6867. **Якаўлеў**[171] **Ермалай** (Яколев Ермолай), селянін. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 13.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. *(3366—1—5—11адв.)*.

6868. **Якаўлеў Іван** (Яковлев Иван), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Быў пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—71)*.

6869. **Якец-Акрэйц Уладзіслаў** (Якец-Акрейц Владислав), сын Станіслава, дваранін Сенненскага пав. ці Сувалкаўскага пав. Аўгустоўскай губ., каталік. Нар. каля 1844 г. Да паўстання вучыўся ў земля-

[170] Найбольш верагодна, што гэта імя па бацьку.

[171] Тое ж.

мерска-таксатарскіх класах пры гімназіі г. Віцебска. Абвінавачаны рас. уладамі ў намеры далучыцца да паўстанцкага атрада, арыштаваны. На яго маёмасць указам ВГП ад 31.08.1863 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 03.08.1863 накладаўся секвестр. Знаходзіўся пад следствам у ВСК. Прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. 02.10.1864 ВГП выдала ўказ аб канфіскацыі *(1416—3—21048—1; 1416—4—11416—54-61, 126; 1430—1—52163—535; 3046—2—3—1адв.; 3046—2—5—1, 71)*.

6870. **Якімашка (Якімошка) Казімір** (Якимашко (Якимошко) Казимир), сын Андрэя, брат *Людвіка*, селянін. Да паўстання прыпісаны да Сервецкай сельскай грамады Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны, у 1864 г. аддадзены пад ПВС, паводле пастановы якога высланы з радзімы *(295—1—1643—269адв.; 295—1—2725—30адв.)*.

6871. **Якімашка (Якімошка) Людвік** (Якимашко (Якимошко) Людвиг), сын Андрэя, брат *Казіміра*, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Несутычы Навагрудскага пав., знаходзіўся на службе ў памешчыка Абрамовіча ў якасці фельчара і пісара, быў прыпісаны да Сервецкай сельскай грамады Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання канфірмацыяй М. Мураўёва ад 30.01.1864 прысуджаны да канфіскацыі маёмасці і высылкі з радзімы *(162—1—116—50; 295—1—2725—30адв.; 320—1—398—215)*.

6872. **Якімовіч Адольф** (Якимович Адольф), дваранін. Да паўстання служыў у Гродзенскай грамадзянскай палаце. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

6873. **Якімовіч Антоні** (Якимович Антон). Паходзіў з Сакольскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да ўключэння шарагоўцам у рас. войска без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць накладаўся секвестр *(1430—1—52163—150)*.

6874. **Якімовіч Караль** (Якимович Карл). Да паўстання служыў у Гродзенскім казначэйстве, губернскі сакратар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ. *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.)*.

6875. **Якімовіч Юльян** (Якимович Юлиан), дваранін Ваўкавыскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—205адв.)*.

6876. **Якімовіч Юльян** (Якимович Юльян), сын Караля, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Плянта Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.)*.

**Якімошка Казімір** — гл. **Якімашка Казімір**
**Якімошка Людвік** — гл. **Якімашка Людвік**

6877. **Яковіч Адольф** (Якович Адольф), аднадворац Кобрынскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 4 гады *(1416—4—11416—115адв.; 1430—1—52163—205адв.)*.

6878. **Яковіч Сымон** (Якович Семен), ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле м. Шаўкоці Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132адв.; 1430—1—52163—599адв.)*.

6879. **Якштаніс Антоні** (Якштанис Антон), мешчанін г. Вільні. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.)*.

6880. **Якубінскі Юзаф** (Якубинский Иосиф), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

6881. **Якубінскі Ян** (Якубинский Иван), сын Францішка, дваранін Віленскай губ. Да паўстання арандаваў фальв. Шпакі Свянцянскага пав. Вінцэнта Станкевіча. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Паводле пастановы ваеннага суда прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—280; 1430—1—52285—9адв.)*.

6882. **Якубкевіч Каспер** (Якубкевич Каспер), сын Станіслава, ганаровы грамадзянін г. Вільні, каталік. Нар. каля 1815 г. З'яўляўся даверанай асобай малагадовых памешчыкаў Слуцкага пав. Рэйтанаў, служыў аканомам у маёнтку Туча, потым у маёнтку Грушаўка. Пасля паўстання 09.1863 прыняў да сябе на службу вазніцам *Матусевіча Станіслава*, зрабіў для яго дакументы на імя селяніна Станіслава Шабута (ці Шыбута). 06.1865 арыштаваны. 27.08.1865 знаходзіўся пад следствам у МСК, утрымліваўся ў будынку былога бернардынскага кляштара ў г. Мінску. 07.09.1865 аддадзены пад

ПВС у Мінску. 21.09.1865 выпушчаны на парукі да вынясення прысуду. Пастановай ПВС пры Упраўленні мінскага губернскага ваеннага начальніка ад 29.09.1865 пакінуты ў падазрэнні. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 22.06.1866 прысуджаны да грашовага штрафу ў 300 руб. ср. і вызвалення на парукі пад строгі паліцэйскі нагляд. 08.1866 прыбыў у Слуцкі пав., дзе вярнуўся на службу аканомам у маёнтак Грушаўка. Штраф заплаціў *(295—1—1776; 299—2—6399—29адв.-30адв.; 299—2—6400—15адв.-17).*

6883. **Якублевіч Францішак** (Якублевич Франц), сын афіцэра. Паходзіў з Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129; 1430—1—52163—604).*

6884. **Якубовіч Юзаф** (Якубович Иосиф), аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 15.05.1863 адасланы ў г. Мінск *(1418—3—1—91адв.-92).*

6885. **Якубоўскі Антоні** (Якубовский Антоний), сын Даменіка, ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў фальв. Серафінава Ігуменскага пав. Служыў імшу паўстанцам, за што арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі з радзімы. 02.07.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 30.11.1864 прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. без пазбаўлення сану, на яго маёмасць накладаўся секвестр *(160—2—682—29, 108; 162—1—122—6, 21; 295—1—1643—269; 320—1—398—666; 534—1—14—16; 1416—4—11416—314; 1418—3—1—93адв.-94; 1430—1—52163—796).*

6886. **Якубоўскі Бенядыкт** (Якубовский Бенедикт), мешчанін г. Коўна. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—133; 1430—1—52163—600).*

6887. **Якубоўскі Вінцэнт** (Якубовский Викентий), сын Тэадора, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Арыштаваны за «прамаўленне дзёрзкіх выразаў» супраць рас. імператара «ў п'яным выглядзе». Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 11.02.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ *(295—1—1643—273; 1418—3—1—92адв.-93).*

6888. **Якубоўскі Ізыдар** (Якубовский Сидор), аднадворац Кіеўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. Яго маёмасць на падставе загада М. Анненкава ад 25.08.1864 і журнальнай пастановы Кіеўскага губернскага праўлення ад 01.09.1864 падлягала секвестру. Пастановай ПВС у г. Кіеве прысуджаны (да 18.12.1865) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1416—4—11416—239).*

6889. **Якубоўскі Міхал** (Якубовский Михаил), сын Феліцыяна, дваранін Мінскага пав. Нар. каля 1836 г. Да паўстання жыў у г. Мінску. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Аддадзены пад ПВС пры Мінскім батальёне ўнутранай варты. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 22.02.1864 *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—267, 270адв.; 299—1—577—511-513; 320—1—398—12а, 20, 24, 26, 124адв., 191; 320—2—98—53адв.; 1430—1—52163—596б адв.).*

6890. **Якубоўскі Сатурын** (Якубовский Сатурин), дваранін. Да паўстання жыў у м. Кракінава Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці, у тым ліку 1003 руб. крэдытнымі білетамі і 14 паўімперыялаў *(320—1—398—132-132адв.; 1430—1—52163—599).*

6891. **Якубоўскі Тэафіл** (Якубовский Феофил), дваранін Кіеўскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—50).*

6892. **Якубоўскі Уладзіслаў** (Якубовский Владислав), дваранін Віленскай губ. Да паўстання служыў у канцылярыі віленскага грамадзянскага губернатара. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—221адв.).*

6893. **Якубоўскі Эдвард** (Якубовский Эдуард), шляхціц Троцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—181).*

6894. **Якубоўскі Юзаф** (Якубовский Иосиф), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Смаргонь Ашмянскага пав. Западозраны рас. уладамі ва ўдзеле ў паўстанні, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёма-

сці *(320—1—398—129; 1416—6—280; 1430—1—52163—604)*.

6895. **Якубоўскі N.** (Якубовский N.). Да паўстання ўтрымліваў карчму Язава Віленскага пав. Падчас паўстання ў карчму прыходзілі паўстанцы і бралі прадукты, таму западозраны рас. уладамі ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6896. **Якутовіч Аляксандр** (Якутович Александр), сын Міхала, брат Ігната і Юліі, дваранін. Вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце, які скончыў яшчэ да 1863 г. Да паўстання сумесна з братам, сястрой і Канстанцыяй (2 v. Барэйшай) (маці?) валодаў фальв. Грабалава і часткай в. Бяскоўка Чэрыкаўскага пав. (усяго 139 дзес. зямлі, 12 муж. полу сялян, дом, 2 карчмы (1 у в. Бяскоўка ў сумесным валоданні з *Бучынскім Станіславам* і яго сваякамі, гаспадарчыя пабудовы, 49 руб. гадавога прыбытку). Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. Фальв. Грабалава 06.08.1863 апісаны і 13.09.1863 перададзены ў кіраванне ПДМ. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 15.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. 11.03.1864 ВГП выдала пастанову аб пошуку маёмасці для канфіскацыі. Яго частка маёмасці ў Грабалаве канфіскавана ў 1867 г. *(296—1—25—105адв.; 2001—2—123—6; 2001—3—23—3; 2003—1—364; 2003—1—445—3, 15; 3257—2—2—43; 3366—1—5—11адв.)*.

6897. **Якутовіч Караль** (Якутович Карл), сын Леана, памешчык. Нар. каля 1801 г. Да паўстання валодаў маёнткам Янапаль Дзісенскага пав. Абгавораны *Другавінам Янам* у ахвяраванні грошай на паўстанне. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая скончыла (да 09.09.1863) яго справу. Пастановай ЧПА ад 05.12.1864, канфірмаванай 18.12.1864 М. Мураўёвым, прызначаны да вызвалення ад адказнасці і вяртання на месца жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд. Таксама належала спагнаць узмоцнены 10-працэнтны збор з яго маёмасці, пасля чаго вызваліць яе ад секвестру *(1416—3—21048—57; 1416—4—11416—185-217; 3046—2—5—71)*.

6898. **Якутовіч Мікалай** (Якутович Николай), сын Мікалая, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Лыкінка Чэрыкаўскага пав. (196 дзес. зямлі, 14 муж. полу сялян, дом, фруктовы сад, гаспадарчыя пабудовы і інш., 85 руб. гадавога прыбытку). Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, за што Лыкінка 07.08.1863 апісана і секвестравана, а 11.09.1863 перададзена ў кіраванне ПДМ. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, якая 15.08.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару; 03.10.1863 справа накіравана М. Мураўёву *(2003—1—355; 3366—1—5—11адв.)*.

6899. **Якшэвіч Юлія** (Якшевичева Юлия), дваранка Віленскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы ваеннага суда прысуджана да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1430—1—52285—9адв.)*.

6900. **Яленскі Антоні** (Еленский Антоний), сын Паўла, памешчык Віленскай губ. За дачыненне да паўстання яго маёнткі Капаткевічы Мазырскага пав., ацэнены ў 198,04 руб., і Дунайчыцы Слуцкага пав. канфіскаваны. Таксама канфіскаваны і прададзены ў 1864 г. яго маёнтак Лучыцы Мазырскага пав. *(160—2—682—107; 162—1—116—160; 162—1—122—18; 534—1—14—36)*.

6901. **Яленскі Баляслаў** (Еленский Болеслав), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Высокі Двор Віленскага пав. Падчас паўстання даў харчовыя прыпасы паўстанцу, за што яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6902. **Яленскі Базыль** (Еленский Василь), дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад следствам у АСК, якая 19.10.1863 падала яго справу магілёўскаму губернатару і звесткі пра яго 15.12.1863 у канцылярыю МагГП. Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(2514—1—2198—67адв.; 3255—1—14—2)*.

6903. **Яленскі Вітальд** (Еленский Витольд), сын Антонія, памешчык Вількамірскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6904. **Яленскі Людвік** (Еленский Людвиг), памешчык Троцкага пав. За дачыненне да паўстання сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—12)*.

6905. **Яленскі Напалеон** (Еленский Наполеон), сын Фелікса, брат Мальвіны (гл. *Аскерка Эміль*), памешчык Мазырскага пав. За ўдзел у «непарадках, якія адбываліся падчас дваранскіх выбараў, якія праводзіліся ў 1862 г.», яго маёнтак Лучыцы з фальв. Кашэвічы і засц. Хвойня Мазырскага пав. (ацэнены ў прыкладна 100 тыс. руб.) секвестра-

ваны паводле распараджэння МГГ ад 16.10.1863. Западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і без суда і следства высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Вяцкую ці ў Пензенскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. 03.06.1864 часткова прададзена рухомая маёмасць з яго маёнтка Лучыцы для пакрыцця 10-працэнтнага збору *(162—1—116—166; 295—1—1643—65адв.; 296—1—89—10адв., 24адв., 72; 299—2—579—1224-1226адв.; 320—2—99—37; 1430—1—52163—610; 1430—1—52285—21; 2532—1—15—14)*.

6906. **Ялец Ісідар** (Елец Исидор), сын Васіля, селянін. Да паўстання жыў у маёнтку Баландзічы Кобрынскага пав. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2)*.

6907. **Ялец Ян** (Елец Иван), дваранін Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1870 г. жыў у г. Тамбове, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(295—1—2149—33-34)*.

6908. **Ялоўскі (Яноўскі) Юзаф** (Яловский (Яновский) Иосиф), сын Яна, брат Міхала і Афанасія, муж Эміліі, бацька Караліны і Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Нар. каля 1824 г. Да паўстання жыў у вак. Рэпішча ці Торная Горка Ігуменскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «нядобранадзейных дзеяннях» і арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 24.12.1863 яго справа пададзена ЧВГМГ. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 26.04.1864 прызнаны вінаватым у пастаўцы на працягу 2 тыдняў харчавання паўстанцам атрада *Свентарэцкага Баляслава* і неданясенні ўладам пра яго знаходжанне. Разам з сям'ёй высланы ў Томскую губ. на пасяленне на казённых землях. Іх маёмасць у 60 дзес. зямлі канфіскавана. У 1875 г. жыў у Карачынскай вол. Табольскай акругі, падаў прашэнне аб вяртанні на радзіму, якое 01.1877 было адхілена *(295—1—2420—9; 295—1—2717; 295—1—3067; 1418—3—1—92адв.-93)*.

6909. **Ямант Алена** (Ямонт Елена), дачка *Мацея*. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначана (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з бацькам выслана на жыхарства з Ковенскай у Пермскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552)*.

6910. **Ямант Марыя** (Ямонт Мария), дачка *Схаластыкі*. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.)*.

6911. **Ямант Мацей** (Ямонт Матвей), бацька *Алены*. Служыў на грамадзянскай службе, надворны радца. За дачыненне да спраў па паўстанні ваенным судом прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і разам з дачкой высланы на жыхарства з Ковенскай у Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—552)*.

6912. **Ямант Мацей** (Ямонт Матвей), сын Казіміра, дваранін Мінскай губ. За дачыненне да паўстання высланы з радзімы. Пасля амністыі вярнуўся, 12.1876 жыў у маёнтку Самуэлева Ігуменскага пав., дзе займаўся гаспадаркай *(295—1—3026—31)*.

6913. **Ямант Схаластыка** (Ямонт Схоластика), маці *Марыі*, жонка адстаўнога надворнага радцы. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—575адв.; 1430—1—52163—242адв.)*.

6914. **Ямант Юзаф** (Ямонт Иосиф), дваранін. Да паўстання вучыўся ва ўніверсітэце. Падчас паўстання прызначаны *Аскеркам Міхалам* камісарам Мінскага ваяв., атрымаў ад яго 300 руб. ср. ваяводскай касы і спіс павятовых начальнікаў і камісараў. Арыштаваны, даваў паказанні пра *А. М.*, *Баравіка Баляслава*, *Лапіцкага Гектара*, *Пялікшу Карнеля*, *Тарчынскага Артура* і інш. Прысуджаны (каля 04.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—183; 3256—2—29—28-28адв.)*.

6915. **Янечак Вінцэнт** (Янечек Викентий). Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70)*.

6916. **Яніслаўскі Вінцэнт** (Янислвский Викентий), сын Даменіка, брат Станіслава, муж N. Станіславаўны Рымашэўскай, бацька 4 дзяцей, дваранін Слуцкага пав., каталік. Нар. каля 1827 г. Арандаваў маёнтак Круговічы Слуцкага пав. *Абуховіча Напалеона* (ці *Абуховіча Оттана*). Да паўстання служыў аканомам у в. Агарэвічы Слуцкага пав. памешчыка Свяжынскага. Западозраны рас. уладамі

ў тым, што ўдзельнічаў у фарміраванні паўстанцкага атрада ў Агарэвіцкіх лясах, 22.06.1863 выкліканы ў г. Слуцк для дачы паказанняў у ССК. Пасля паказанняў 12 дзён жыў у г. Слуцку пад падпіскай аб нявыездзе, пасля чаго вярнуўся дадому. Знаходзіўся пад следствам у ССК, аднак яго права засталася няскончанай і нявырашанай. Яго маёмасць, на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 20.07.1863 і ўказаў МГП ад 30.07.1863 і 17.08.1863, падлягала секвестру. 30.04.1865 падаў прашэнне ваеннаму начальніку Слуцкага пав. аб выдачы білета на 3 месяцы для праезду ў г. Мінск. Гэта выклікала ўзнаўленне яго справы. Рашэннем К. фон Каўфмана ад 14.08.1865 за дапушчэнне фарміравання паўстанцкага атрада ў лесе маёнтка, дзе служыў, прысуджаны да грашовага штрафу ў 100 руб. на карысць пацярпелых ад паўстання і аддачы на «дабранадзейныя парукі». Штраф заплаціць не змог, таму, на падставе распараджэнняў К. фон Каўфмана ад 15.12.1865 і П. Шалгунова ад 29.12.1865, зняволены 01.02.1866 у турме ў г. Слуцку. Пасля ўнясення грошай братам і цесцем, 13.02.1866 вызвалены. *(296—1—161; 1524—1—1—16адв.)*.

6917. **Янішэўскі Аўгуст (Аўгустын)** (Янишевский Август (Августин)), сын Ануфрыя, бацька Марціна, Фелікса і *Януарыя*, памешчык Ігуменскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання ў яго служыў гувернёрам *Паўлюц Антоні*. За дачыненне да справы *Асоўскага Антонія* і *Крупскага Баніфацыя* арыштаваны (да 10.05.1863). Аддадзены пад ПВС пры Вялікалуцкім пяхотным палку. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 02.09.1863 прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Арэнбургскую губ. пад нагляд паліцыі без пазбаўлення правоў, на яго маёмасць накладаўся секвестр. Потым прысуд зменены на ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. Яго маёнтак Скрыль (з фальваркамі Антанова і Люцi) і фальв. Моль-Праца Ігуменскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 05.05.1865 і прыняты ў распараджэнне ПДМ *(162—1—116—103, 166; 295—1—1577—1-4; 295—1—1643—268адв., 269адв.; 296—1—89—9, 32адв.-33, 70адв.; 320—1—398—81; 1416—3—21048—57; 1416—1—247; 1430—1—52163—150адв.)*.

6918. **Янішэўскі Баляслаў** (Янишевский Болеслав), памешчык Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—12; 2532—1—15—7адв.)*.

6919. **Янішэўскі Леан** (Янишевский Лев), дваранін Валынскай губ. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці. У 1871 г. жыў у г. Чарнігаве, дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. *(296—1—25—106; 1430—1—35146—98)*.

6920. **Янішэўскі Людвік** (Янишевский Людвиг), памешчык. Пэўны час з'яўляўся ігуменскім павятовым маршалкам. Да паўстання валодаў маёнткамі Цытва і Ануфрава і фальв. Ліпскі Ігуменскага пав. Падчас паўстання 05.1863 двойчы вызваліў затрыманага сельскай вартай *Алякевіча Ануфрыя*, які служыў у яго леснікам. Пасля канчатковага арышту *А. А.* трапіў пад следства ў МСК, затым аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 19.03.1864 за «самавольны ўчынак яго па двухразовым вызваленні» *А. А.* прызначаны да штрафу ў 300 руб. ср. на карысць пацярпелых ад паўстання. Штраф заплаціў *(295—1—1633; 295—1—1643—270, 273адв.)*.

6921. **Янішэўскі Юзаф** (Янишевский Иосиф). Служыў сакратаром магістрата ў г. Варшаве. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—75)*.

6922. **Янішэўскі Януары** (Янишевский Януарий), сын *Аўгуста*, брат Марціна і Фелікса, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 21.06.1863 адасланы ў г. Мінск. У 1863 г. вызвалены і вернуты на ранейшае месца жыхарства *(295—1—1643—271адв.; 1416—1—247; 1418—3—1—91адв.-92)*.

6923. **Янкевіч Оттан** (Янкевич Оттон), дваранін Расіенскага пав. Да паўстання яго маці-ўдава валодала маёнткам Падубіч Расіенскага пав., які арандаваў *Довят Мікалай*. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6924. **Янкевіч Юзаф** (Янкевич Иосиф), дваранін Расіенскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны (каля 08.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях Сібіры на 10 гадоў. У 1871 г. жыў у Пензенскай губ., тут атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц,

сталічных і «заходніх» губ. *(1430—1—35146—99; 1430—1—52163—530адв.)*.

6925. **Янкоўскі Аляксандр** (Янковский Александр), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(320—1—398—221; 1430—1—52163—128; 1430—1—52285—9)*.

6926. **Янкоўскі (Яноўскі) Аляксандр** (Янковский (Яновский) Александр), сын Яна Стэфанавіча, дваранін Навагрудскага пав., каталік. Нар. каля 1833 г. Да паўстання служыў пісарам валаснога праўлення ў с. Сваятычы Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада *Машэўскага Уладзіслава*, 20.04.1863 узяты ў палон са зброяй у руках у баі ля в. Азярцы Ігуменскага пав. Утрымліваўся ў астрогу г. Слуцка, знаходзіўся пад следствам у ССК. На судзе прасіў літасці. 11.12.1863 ПВСЗБА прысуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 12 гадоў. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.02.1864 катарга заменена на 10 гадоў у крэпасцях. На маёнтак яго бацькі Літвяны (Літвінчыцы) Мінскага пав. накладзена забарона *(295—1—1537—7-12адв.; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—326-327адв., 341; 320—2—98—53адв.; 320—2—99—53; 1418—4—1; 1524—1—1—16адв.; 1525—1—2—5адв.-6)*.

6927. **Янкоўскі Барталамей** (Янковский Варфоломей), муж Эвеліны, памешчык Бабруйскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне падпалкоўніка. Западозраны ў дачыненні да паўстання, арыштаваны і дастаўлены ў г. Мінск. За «намаўленне сялян да паўстання» і спачуванне да яго арыштаваны паводле загада ЧВГМГ ад 13.10.1864 і аддадзены пад ПВСЗБА, падчас якога знаходзіўся на «добранадзейных» паруках у г. Бабруйску. Прысуд адбыўся 25.02.1865, 03.03.1865 пададзены ЧВГМГ. У 1865 г. сасланы ў г. Глінчы Кастрамской губ. На яго маёнткі Новыя Дарогі і Парэчча Бабруйскага пав. накладзены секвестр, з Парэчча спагнаны 20-працэнтны збор. Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(295—1—1643—275; 295—1—1712; 295—1—1812—4-7адв.; 299—2—6399—18адв.-19адв.; 299—2—6400—27адв.-28; 2532—1—15—13адв.)*.

6928. **Янкоўскі Ільдэфонс** (Янковский Ильдефонс), сын Міхала, дваранін Магілёўскай губ., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам Магілёўскай казённай палаты, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання 30.04.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны (каля 07.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(1430—1—52163—526; 2003—2—96—10адв.; 3257—2—2—43)*.

6929. **Янкоўскі Канстанцін** (Янковский Константин), сын Ігната, дваранін Себежскага пав., каталік. Нар. каля 1842 г. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах пры Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Звяждоўскага Людвіка*, удзельнічаў у захопе г. Горкі, у тым ліку ва ўзяцці ў палон камандзіра інваліднай каманды. Разам з атрадам пакінуў Горкі і 30.05.1863 здаўся ў палон. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 14.08.1864 перадала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. Канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Указ аб канфіскацыі быў выдадзены ВГП 16.10.1864 і 06.11.1864 на падставе распараджэнняў віцебскага губернатара ад 25.09.1864 і 09.10.1864 *(534—1—14—5адв.; 1416—3—21048—57; 1416—4—11416—46-49, 119адв., 133; 1430—1—52163—298-299, 375адв., 514-515; 3256—2—48; 3257—2—2—43адв.)*.

6930. **Янкоўскі Канстанцін** (Янковский Константин), брат *Пятра* і *Стэфана*, дваранін Лідскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Рачкаўшчына з фальв. Гаўдзішкі Лідскага пав. Падчас паўстання пастаўляў паўстанцам порах, зброю і інш. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129; 1416—6—274; 1430—1—52163—604)*.

6931. **Янкоўскі Караль** (Янковский Карл), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129адв.; 1430—1—52163—604адв.)*.

6932. **Янкоўскі Ксаверы** (Янковский Ксаверий), дваранін Віленскай губ. Да паўстання з'яўляўся вольнапрактыкуючым доктарам. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

6933. **Янкоўскі Ксаверы** (Янковский Ксаверий). Да паўстання жыў у г. Гродне, з'яўляўся залатых спраў майстрам. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—12адв.)*.

6934. **Янкоўскі Міхал-Матэвуш** (Янковский Михаил), сын чыноўніка мытні Яна (нар. каля 1790) і Альжбеты Вянцкоўскай (нар. каля 1802), дваранін Каралеўства Польскага, каталік. Нар. 24.09.1842 у в. Златорыя, хр. 25.09.1842 у Тыкоцінскім касцёле. Да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкім сельгасінстытуце. Падчас паўстання 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі г. Горкі і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—1—53—2адв.; 3257—2—2—43; 3286—2—1—7, 161-163)*.

6935. **Янкоўскі Міхал** (Янковский Михаил), сын Юстына. Да паўстання выконваў абавязкі ардынатара яўрэйскай бальніцы ў г. Мінску, доктар медыцыны. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую губ. У 1869 г. атрымаў дазвол на пераезд у Каралеўства Польскае, у 1875 г. — на вяртанне ў Мінскую губ. 12.1876–03.1882 жыў у Мінску, займаўся вольнай практыкай *(295—1—3026—8адв.-9; 295—1—3492—18, 52адв.-53, 94; 1430—1—52163—610адв.; 1430—1—52285—21адв.)*.

6936. **Янкоўскі Пётр** (Янковский Петр), брат *Канстанціна* і *Стэфана*, дваранін Лідскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Рачкаўшчына і фальв. Гаўдзішкі Лідскага пав. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102; 1416—6—264, 274)*.

6937. **Янкоўскі Пётр** (Янковский Петр). Да паўстання служыў памочнікам казначэя ГГП, калежскі сакратар. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Енісейскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237адв.)*.

6938. **Янкоўскі Стэфан** (Янковский Степан), брат *Канстанціна* і *Пятра*, дваранін Лідскага пав. Да паўстання яго маці валодала маёнткам Рачкаўшчына і фальв. Гаўдзішкі Лідскага пав. Падчас паўстання рабіў кулі для паўстанцаў. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

6939. **Янкоўскі Францішак** (Янковский Франц), сын Ігната, дваранін. Да паўстання служыў прыватным землямерам, яго бацькі валодалі фальв. Старыцы Полацкага пав. Удзельнічаў у паўстанні ў Себежскім пав., арыштаваны (да 24.05.1863). Ваенным судом прысуджаны (да 29.12.1863) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў Сібір. На маёмасць бацькоў накладзены секвестр, а потым забарона *(320—1—398—134; 1416—3—21048—57; 1430—1—52163—19, 403, 596; 2616—1—40—12)*.

6940. **Янкоўскі Юзаф** (Янковский Иосиф), мешчанін г. Вільні. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—129; 1430—1—52163—604)*.

6941. **Янкоўскі Юзаф** (Янковский Осип), сын Стэфана, аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі ў «дальнія губерні». 03.04.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены з вяртаннем на ранейшае месца жыхарства *(295—1—1643—273адв.; 1418—3—1—92адв.-93)*.

6942. **Янкоўскі N.** (Янковский N.), дваранін. Да паўстання жыў у вак. Каркленішкі Троцкага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання (?), яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 23.06.1863 і пастановы ВілГП ад 05.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—264, 271)*.

6943. **Яновіч Антоні** (Янович Антон), сын Ксаверыя (?), брат *Станіслава*, дваранін Бабруйскага пав. Захоўваў зброю, «гімны і вершы падбухторнага зместу», якія былі знойдзены рас. уладамі, а таксама хаваў у сябе «падазроную асобу», за што арыштаваны. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 30.04.1864 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(162—1—116—104; 295—1—1643—272адв.; 1430—1—52163—194адв.)*.

6944. **Яновіч Антоні** (Янович Антон), сын Міхала, дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

6945. **Яновіч Вацлаў** (Янович Вацлав), мешчанін м. Шадава Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—131адв.; 1430—1—52163—598адв.)*.

6946. **Яновіч Ежы** (Янович Юрий), аднадворац. За «прамаўленне супраць Урада словаў папроку» і «намаўленне сялян да суўдзелу ў мяцяжы» ў 1863 г. арыштаваны і аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—268адв., 269адв.)*.

6947. **Яновіч Станіслаў** (Янович Станислав), сын Ксаверыя, брат *Антонія* (?), памешчык. Да паўстання валодаў маёнкам Нежын Бабруйскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прызначаны (каля 04.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы ў Арэнбургскую губ. Нежын канфіскаваны (?). Пасля атрымання частковай амністыі перасяліўся ў г. Рыгу, дзе ў 1871 г. вызвалены ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных губ. і «Заходнім краі». У 1875 і 1879 гг. прыязджаў ненадоўга ў Бабруйскі пав., адтуль выехаў у Слонімскі пав., дзе валодаў невялікім маёнткам *(295—1—3492—45, 59-59а; 1430—1—35146—74; 1430—1—52163—194адв.)*.

6948. **Яновіч Уладзіслаў** (Янович Владислав), дваранін Падольскай губ. Дачыненне да паўстання невядомае. Пасля паўстання выехаў за мяжу, потым вярнуўся. Сасланы ў Архангельскую губ., дзе ў 1871 г. атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—69)*.

6949. **Яновіч Юльян** (Янович Юлиан (Юлиуш), дваранін Мінскай губ. За «нядобранадзейнасць у палітычных адносінах» паводле канфірмацыі М. Мураўёва ад 30.03.1864 прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і сасланы пад нагляд паліцыі ў Казанскую губ. Пасля амністый выехаў з месца ссылкі і ў 1871 г. пасяліўся ў г. Варшаве. У 1876 г. жыў на вул. Хмельнай, хадайнічаў аб прыняцці на дзяржаўную службу ў Петракоўскай губ. *(295—1—1643—269адв.; 295—1—3027; 1430—1—52163—194адв.)*.

6950. **Яновіч Ян** (Янович Иван), мешчанін м. Заблудава Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(1430—1—52163—167)*.

6951. **Яноўская Марыя** (Яновская Мария), дачка *Пятра*, дваранка. Западозрана рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, разам з бацькам знаходзілася пад следствам у МагСК, якая 06.10.1864 скончыла яе справу *(3257—2—8—23)*.

**Яноўскі Аляксандр** — гл. **Янкоўскі Аляксандр**

6952. **Яноўскі Вінцэнт** (Яновский Викентий), сын Тадэвуша, бацька *Станіслава* і *Стэфана*, памешчык, каталік. Валодаў маёнткам Віялены Рэжыцкага пав. Падчас паўстання служыў міравым пасярэднікам. Абвінавачаны ў распаўсюджванні сярод сялян «ілжывых» чутак пра паўстанне, вядзенні з імі размоў, «якія даказваюць яго нядобранадзейны лад думак», і непрыманні захадаў пасля абвінавачання сялянамі іншых асоб ва ўдзеле ў паўстанні. 07.02.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. На следстве не было знойдзена доказаў віны, аднак рашэннем А. Патапава ад 08.08.1864 прызначаны да спагнання ўзмоцненага 10-працэнтнага збору, які склаў 361,8 руб. ср. *(1430—1—52163—307-311, 636)*.

6953. **Яноўскі Канстанцін** (Яновский Константин), дваранін. У 1862 г. вучыўся ў гімназіі. Да паўстання служыў наглядчыкам піцейна-акцызных збораў у Барысаўскім пав., жыў у маёнтку *Светляка Ксаверыя* Чмялевічы Барысаўскага пав. 02.1863 чытаў у сваёй кватэры сялянам газету «Мужыцкая праўда» *(295—1—1527—34-36; 295—1—1632—3)*.

6954. **Яноўскі Мацей** (Яновский Матвей), дваранін Сакольскага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102адв.)*.

6955. **Яноўскі Пётр** (Яновский Петр), сын Казіміра, бацька *Марыі*, дваранін. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, разам з дачкой знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 06.10.1864 скончыла яго справу *(3257—2—8—23)*.

6956. **Яноўскі Станіслаў** (Яновский Станислав), сын *Вінцэнта*, брат *Стэфана*, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Пасля паўстання абвінавачаны ў «выражэнні на пісьме думак, якія даказваюць яго спачуванне да непарадкаў, што адбываліся ў краі». 06.01.1864 і дадаткова 02.03.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. На следстве не было знойдзена доказаў віны, аднак рашэннем А. Патапава ад 08.08.1864 прызначаны да вяртання на месца жыхарства на «добранадзейныя парукі» і пад нагляд паліцыі *(1430—1—52163—307-311, 636)*.

6957. **Яноўскі Стэфан** (Яновский Стефан), сын *Вінцэнта*, брат *Станіслава*, дваранін Рэжыцкага пав., каталік. Падчас паўстання абвінавачаны ў зборы грошай для паўстанцаў і захоўванні нязначнай колькасці пораху і куль пасля абвешчанай забароны. 31.03.1864 ваенным начальнікам Рэжыцкага пав. яго справа пададзена ваеннаму начальніку інфляндскіх паветаў. Рашэннем А. Патапава ад 08.08.1864 прызначаны да вяртання на месца жыхарства на «добранадзейныя парукі» і пад нагляд паліцыі і штрафу ў 100 руб. на карысць асоб, што пацярпелі ад паўстання *(1430—1—52163—307-311, 636адв.)*.

**Яноўскі Юзаф** — гл. **Ялоўскі Юзаф**

6958. **Янушкевіч Ксаверы** (Янушкевич Ксаверий), сын Нікана, вольны хлебароб. Падчас паўстання хаваў зброю, за што яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. У 1864 г. аштрафаваны на 10 руб. *(295—1—1643—273адв.; 1416—6—281).*

6959. **Янушкевіч Мечыслаў** (Янушкевич Мечислав), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні 09.1864 прысуджаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання», ссылкі на жыхарства ў «аддаленыя губерні» і секвестру маёмасці. Сасланы ў Табольскую губ. Потым яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(160—2—682—101; 1430—1—52163—379; 2532—1—15—5).*

6960. **Янушкевіч Міхал** (Янушкевич Михаил), сын *Януарыя*, дваранін Мінскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе *Дыбоўскага Паўла* і ротмістра *Бараноўскага Леанарда.* 10.09.1863 добраахвотна з'явіўся да ваеннага начальніка 3 стана Мінскага пав. Арыштаваны. 09–10.1863 утрымліваўся пры гарадскім паліцэйскім упраўленні ў будынку пабернардынскага кляштара ў г. Мінску. На следстве не выявіўся яго ўдзел у якіх-небудзь «крымінальных злачынствах». Паводле загада ЧВГМГ В. Забалоцкага ад 03.10.1863, вызвалены 09.10.1863 на парукі бацькі і вернуты на ранейшае месца жыхарства з заснаваннем негалоснага паліцэйскага нагляду. Увесну 1864 г. выкліканы ў МСК для паўторнай дачы паказанняў. Паводле распараджэння ЧВГМГ ад 19.05.1864 ізноў вызвалены і вернуты на месца жыхарства *(295—1—1643—271адв., 272; 296—1—19—249; 296—1—50—1-12).*

6961. **Янушкевіч Рамуальд** (Янушкевич Ромуальд), аднадворац. Да паўстання з жонкай і сынам жыў у Навагрудскім пав. Як «нядобранадзейны» канфірмацыяй М. Мураўёва прысуджаны да ссылкі на пасяленне на казённых землях у Валагодскую губ. 20.02.1864 адпраўлены з г. Навагрудка па этапе ў г. Мінск для далейшай высылкі ў Валагодскую губ. *(295—1—1643—270адв.; 299—1—577—233-236адв.).*

6962. **Янушкевіч Фаўстына** (Янушкевич (Янушкевичева) Фаустина), дачка святара Віленскага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні пастановай ваеннага суда прызначана (каля 05.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і выслана ў Кастрамскую губ. Яе маёмасць падлягала секвестру. У 1871 г. жыла пад наглядам паліцыі ў Казанскай губ., атрымала частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1416—4—11416—20; 1430—1—35146—75; 1430—1—52163—199).*

6963. **Янушкевіч Сымон** (Янушкевич Семен), сын Ваўрынца, селянін Слуцкага пав., каталік. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада, добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Знаходзіўся пад следствам у ССК *(1524—1—1—16адв.).*

6964. **Янушкевіч Юзаф** (Янушкевич Иосиф), аднадворац Навагрудскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. У 1863 г. пастановай ваеннага суда прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 4 гады *(295—1—1643—271; 320—1—398—124адв.; 1430—1—52163—596б адв.).*

6965. **Янушкевіч Юзаф** (Янушкевич Иосиф), сын Фелікса, муж Евы Паўлаўны, бацька 11 дзяцей, памешчык. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Да паўстання валодаў маёнткам Задуб'е Рагачоўскага пав. Падчас паўстання абвінавачаны ў прамаўленні «розных дзёрзкіх выразаў супраць Гасудара Імператара» і агітацыі сялян да непадначалення рас. уладам, у 1863 г. арыштаваны і зняволены ў г. Магілёве. Яго маёнтак секвестраваны. Знаходзіўся пад следствам у МагСК. 18.10.1863 яго справа пададзена МагВГ, вернута на даследаванне і 17.12.1863 пададзена зноў. 12.1863 аддадзены пад суд у МагВСК, пастановай якой, канфірмаванай 06.1864 М. Мураўёвым, прысуджаны да ссылкі на сталае жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Пермскую губ. З яго маёнтка спагнаны ўзмоцнены 10-працэнтны збор. 11.07.1864 адпраўлены з Магілёва праз г. Смаленск у г. Перм. Пазней яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2001—1—901—9-27; 2532—1—15—10адв.; 3257—2—2—43).*

6966. **Янушкевіч Ян** (Янушкевич Иван). Да паўстання з'яўляўся даверанай асобай графа Маўрыцыя Патоцкага, жыў у яго маёнтку Гарадок Лідскага пав. Паўстанцкі атрад атрымаў у Гарадку 6 коней, харчовыя запасы і інш. Западозраны рас. уладамі ў дапамозе паўстанцам, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274).*

6967. **Янушкевіч Януары** (Янушкевич Январий), сын Міхала, бацька *Міхала*, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Дзягільна Мінскага пав. і Нача Слуцкага пав., калежскі рэгістратар. За ўдзел у паўстанні сына на яго маёмасць накладзены секвестр, які зняты ўказам МГП ад 14.07.1864, выдадзеным на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 06.07.1864, што ў сваю чаргу ба-

зіравалася на загадзе М. Мураўёва ад 30.06.1864. 04.10.1863 выдаў распіску МСК аб прыняцці сына на парукі. *(296—1—50—1-12; 299—1—579—1095-1095адв.)*.

6968. **Янушкоўскі Ян** (Янушковский Иван), сын Станіслава, памешчык, каталік. Да паўстання валодаў зямлёй у в. Томчына і ў в. Скобрае (Скобліна) Полацкага пав. Западозраны рас. уладамі ў тым, што прыняў у *Келпша Тадэвуша* і схаваў 2 стрэльбы. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 31.12.1863 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Яго зямля 18.06.1864 на падставе распараджэння віцебскага губернатара ад 09.02.1864 і ўказу ВГП ад 22.02.1864 секвестравана. 20.04.1865 секвестр яшчэ не зняты *(1416—3—21048—57; 1430—1—52163—406адв., 447адв., 820адв.; 3046—2—3—101адв.-102; 3046—2—5—65)*.

6969. **Янушэвіч Казімір** (Янушевич Казимир), сын Паўла, памешчык Ігуменскага пав. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі з радзімы. Канфірмацыяй М. Крыжаноўскага ад 17.05.1864 прысуджаны, сярод іншага, да ссылкі і канфіскацыі маёмасці. Яго маёнтак Нежаўка ці Паўлава Ігуменскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 09.07.1864. Сасланы ў Аланецкую губ., яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля амністыі вярнуўся на радзіму, 12.1876 жыў у маёнтку Прысынак Ігуменскага пав., дзе займаўся гаспадаркай *(162—1—116—118; 295—1—3026—31; 296—1—89—9, 33адв.-34, 70адв.; 299—1—579—341-345; 1418—3—1—91адв.-92; 1416—4—11416—20адв.; 1430—1—52163—199адв.; 2532—1—15—13)*.

6970. **Янушэвіч Станіслаў** (Янушевич Станислав), дваранін Новааляксандраўскага пав. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Астраханскую губ. *(1430—1—52163—613; 1430—1—52285—16)*.

6971. **Янушэўскі Ян** (Янушевский Иван), памешчык Новааляксандраўскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Табольскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—4)*.

6972. **Янчэўскі Вінцэнт** (Янчевский Викентий), селянін. Дачыненне да паўстання невядомае. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72)*.

6973. **Янчэўскі Нікадым** (Янчевский Никодим), незацверджаны дваранін Брэсцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—222адв.)*.

6974. **Янчэўскі Норберт** (Янчевский Норберт), дваранін. У 1865 г. прысуджаны да ссылкі ва «ўнутраныя губерні Расіі» *(295—1—1643—275адв.)*.

6975. **Янчэўскі Юзаф** (Янчевский Иосиф), сын Станіслава, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК. 22.06.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ. У 1864 г. аддадзены пад ПВС *(295—1—1643—269; 1418—3—1—91адв.-92)*.

6976. **Яраслаўскі Францішак** (Ярославский Франц), мешчанін. Да паўстання жыў у м. Харошчы Беластоцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў арыштанцкія роты *(320—1—398—126; 1430—1—52163—602)*.

6977. **Ярашынскі Вінцэнт** (Ярошинский Викентий), сын Тамаша, брат *Сымона* (?). Служыў у рас. войску ў чыне шарагоўца. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высылкі з радзімы. 11.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—92адв.-93)*.

6978. **Ярашынскі Сымон** (Ярошинский Семен), сын Тамаша, брат *Вінцэнта* (?), аднадворац Ігуменскага пав., каталік. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой прызначаны да высялення з радзімы. 11.02.1864 яго справа пададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—92адв.-93)*.

6979. **Ярашэвіч Адольф** (Ярошевич Адольф), сын обер-афіцэра Адама, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку N. Радзевіча Манькавічы Пінскага пав. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру. У 1863 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 24.02.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(162—1—116—66; 295—1—1643—268адв., 272; 296—1—25—104адв.; 320—1—398—2, 291; 320—2—98—53адв.)*.

6980. **Ярашэвіч Мечыслаў** (Ярошевич Мечислав), сын Юзафа, дваранін Пінскага пав. Да паўстання вучыўся ў гімназіі ў г. Мінску. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны. У 1864 г. аддадзены пад ПВС. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства

ў Табольскую губ. У 1871 г. жыў у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(162—1—116—127, 156адв.; 295—1—1643—269; 320—1—398—547, 644адв.; 320—2—98—53адв.; 1430—1—35146—86; 1430—1—52163—526).*

6981. **Ярашэўскі Рамуальд** (Ярошевский Ромуальд), сын Адама, дваранін Кобрынскага пав. Да паўстання жыў з бацькамі ў в. Ляжыткавічы Кобрынскага пав. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 23.08.1863 і пастановы ГГП ад 09.09.1863. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў рас. войска шарагоўцам *(320—1—398—125адв.; 1416—6—235; 1430—1—52163—601адв.).*

6982. **Ярашэўскі Сымон** (Ярошевский Симон). За дачыненне да паўстання ў 1864 г. сасланы ў Томскую губ. на пасяленне на казённых землях *(295—1—1643—272адв.).*

6983. **Ярашэўскі Юзаф** (Ярошевский Иосиф), сын Яна, дваранін Пінскага пав. Да паўстання жыў у маёнтку Мікалаева Пінскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе ўказа МГП ад 09.09.1863 падлягала секвестру *(320—1—398—2адв.).*

6984. **Ярмаловіч Дыянізі** (Ярмолович Деонизий), дваранін Вілейскага пав. Нар. каля 1812 г. Да паўстання жыў у в. Дзедзіна Барысаўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дастаўцы паўстанцам у лес сыру, арыштаваны. 11.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава. На следстве абвінавачанні не пацвердзіліся, таму паводле загада ЧВГМГ ад 31.08.1863 вызвалены з вяртаннем на месца жыхарства пад негалосны паліцэйскі нагляд *(295—1—1527—106; 296—1—19—173, 277).*

6985. **Ярмаловіч Пётр** (Ярмолович Петр), сын Захарыя, дваранін Сенненскага пав. Нар. каля 1842 г. Западозраны рас. уладамі ў знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны (каля 22.05.1863). Зняволены ў турме г. Сянно, дзе ўтрымліваўся 03.–08.1864. Знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая, скончыўшы справу, 14.08.1864 падала яе магілёўскаму губернатару. Быў пад судом у МагВСК, да яго справы мелі дачыненне *Чарняўскія Марцін* і *Павел*. Асуджаны (да 21.08.1865) як «палітычны злачынца». У 1878 г. як «палітычны ссыльны» вызвалены ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю» *(1430—1—52758—50; 2003—2—84—7адв.; 3257—1—14—1, 10адв.-11; 3257—1—17—1а адв.-2; 3257—2—2—43адв.; 3257—2—8—23).*

6986. **Яроцкі Францішак** (Яроцкий Франц). Служыў следчым Сакольскага пав., калежскі асэсар. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і «адміністрацыйным парадкам» высланы (да 01.06.1864) на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Пензенскую губ. *(1430—1—52163—614; 1430—1—52285—25).*

6987. **Ярыноўскі Ян** (Яриновский Иван), дваранін. Да паўстання валодаў домам у м. Ёды Дзісенскага пав. За ўдзел у паўстанні знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—102; 3046—2—5—65).*

6988. **Ярэнвіч Канстанцін** (Ерженвич Константин), каталік. Да паўстання служыў настаўнікам гімназіі ў г. Беластоку. За «палітычную нядобранадзейнасць» звольнены са службы і высланы ў Магілёўскую губ. У 1866 г. жыў у г. Магілёве пад паліцэйскім наглядам і атрымліваў грашовае ўтрыманне з казны *(2003—2—96—47, 54).*

6989. **Ясевіч Аляксандр** (Ясевич Александр), дваранін. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, добраахвотна з'явіўся (да 01.05.1863) да рас. уладаў. Арыштаваны, але 07.1863 вызвалены *(296—1—19—280).*

6990. **Ясевіч Антоні-Юзаф** (Ясевич Антон-Иосиф), сын Станіслава, дваранін Ашмянскага губ., каталік. Хр. 30.05.1843. Яго бацька валодаў маёнткам Кушляны Ашмянскага пав. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада *Казелы Вінцэнта*, схоплены 16.05.1863 ля в. Уладыкі Вілейскага пав. Аддадзены пад ПВС пры батальёне ўнутранай варты ў г. Мінску. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 28.08.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на ваенную службу шарагоўцам у батальёны Амурскай вобл. Маёмасць павінна была паступіць у казну паводле ўказаў МГП ад 04.10.1863, 16.01.1864 і 13.02.1864. У 1865 г. находзіўся на службе ў 4-м лінейным батальёне Заходняй Сібіры. У 1871 г. жыў пад «сакрэтным наглядам» у Тамбоўскай губ., дзе атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(162—1—116—10, 60; 295—1—1643—267, 270; 299—1—577—511-513; 319—2—590—139адв.-142; 320—1—398—12а, 20-24адв., 129, 191; 320—2—98—53адв.; 1430—1—35146—59; 1430—1—52163—604).*

6991. **Ясевіч Ануфры** (Ясевич Онуфрий), сын Юзафа, ксёндз. Да паўстання служыў пробашчам касцёла ў м. Эйраголка Троцкага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Ваенным судом прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(320—1—398—132; 1416—6—281; 1430—1—52163—599)*.

6992. **Ясевіч Віктар** (Ясевич Виктор), сын Казіміра, дваранін Віленскай губ. За дачыненне да паўстання пасля разгляду яго следчай справы «адміністрацыйным парадкам» высланы (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) на жыхарства ў Табольскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(162—1—122—21адв.; 1416—4—11416—314адв.; 1430—1—52163—796адв.; 2514—1—2198—71)*.

6993. **Ясевіч Вінцэнт** (Ясевич Викентий), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Арыштаваны за «прамаўленне дзёрзкіх выразаў» супраць Аляксандра II. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 30.01.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ *(1418—3—1—91адв.-92)*.

6994. **Ясевіч Станіслаў** (Ясевич Станислав). Вучыўся ў Канстанцінаўскім межавым інстытуце ў г. Маскве. Да паўстання атрымаў часовае звальненне і выехаў на радзіму. 26.04.1863 затрыманы ў Горацкім пав. недалёка ад месца дзеянняў паўстанцаў і дастаўлены ў г. Смаленск. Знаходзіўся пад следствам у СмСК. Паколькі меў законныя дакументы, пад наглядам жандармаў дастаўлены ў Маскву для вяртання пад нагляд кіраўніцтва інстытута *(1430—1—31588—15-22адв.)*.

6995. **Ясевіч Францішак** (Ясевич Франц), сын Антонія, памешчык, каталік. Падчас паўстання ў яго маёнтку Варапаеўшчына Лепельскага пав. 24.04.1863 знаходзіўся атрад паўстанцаў, пра што не данёс рас. уладам. Арыштаваны, высланы ў г. Віцебск. Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая прызнала яго вінаватым і 14.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару. Яго маёнтак на падставе ўказа ВГП ад 07.07.1864 падлягаў секвестру, аднак да 01.10.1864 прыняты ў веданне ПДМ не быў. Загадам М. Мураўёва ад 04.08.1864 прысуджаны да штрафу ў 300 руб. *(1416—3—21048—57; 1430—1—31602—170—172; 1430—1—52163—451; 1430—1—52321—17-17адв., 55адв. і інш.; 2586—1—22—9-10; 3046—2—3—102адв.-103)*.

6996. **Ясевіч Юзаф** (Ясевич Иосиф), сын Антонія, дваранін Лепельскага пав., каталік. Западозраны рас. уладамі ў тым, што даваў коней паўстанцам (гл. *Юшкевіч Марыя*). Знаходзіўся пад следствам у ВСК, якая з вызначэннем «прыцягвае падазрэнне» 31.05.1864 падала сваё заключэнне віцебскаму губернатару *(3046—2—3—102адв.-103)*.

6997. **Ясельскі Баніфацы** (Ясельский Бонифаций), дваранін Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губ. *(320—1—398—575; 1430—1—52163—242; 2616—1—40—62)*.

6998. **Ясенскі Уладзіслаў** (Ясенский Владислав), сын Віктара, дваранін Панявежскага (?) пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

6999. **Ясенскі Юльян** (Ясенский Юлиан), дваранін. Да паўстання жыў у г. Коўне. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(1416—4—11416—115; 1430—1—52163—205)*.

7000. **Ясенскі N.** (Ясенский N.), ксёндз. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання. Знаходзіўся пад следствам у ДСК, якая 09.09.1863 скончыла яго справу *(3046—2—5—71)*.

7001. **Ясінскі Антоні** (Ясинский Антон), дваранін Ковенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні пад мянушкай Кветка (Kwiatka), забіты ці схаваўся ад рас. уладаў. Прысуджаны (завочна?) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(162—1—116—39; 296—1—25—88адв., 103адв.; 320—1—398—197; 1430—1—52163—125адв.)*.

7002. **Ясінскі Канстанцін** (Ясинский Константин), памешчык Шавельскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Пермскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—5)*.

7003. **Ясінскі Міхал** (Ясинский Михаил), памешчык Навагрудскага пав. За дачыненне да паўстання арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 13.12.1864 прысуджаны да «вытрымання ў крэпасцях і турмах» без канфіскацыі маёмасці *(160—2—682—57; 162—1—122—11; 320—1—398—679)*.

7004. **Ясінскі Нікадым** (Ясинский Никодем), селянін. Да паўстання прыпісаны да м. Рудаміна Віленскага пав. Западозраны рас. уладамі ў агітацыі сялян удзельнічаць у паўстанні. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

7005. **Ясінскі Станіслаў** (Ясинский Станислав), сын Тадэвуша, дваранін. Западозраны ў дачыненні да паўстання і ў 1863 г. арыштаваны. Яго маёнтак Тараканаўка Барысаўскага пав. секвестраваны паводле распараджэння МГГ ад 20.07.1863. 08.1863 падаваў прашэнне аб зняцці секвестру, аднак без станоўчага вырашэння. У 1863 г. вызвалены, секвестр з маёмасці зняты *(295—1—1643—271; 296—1—89—8, 69; спр. 25—42-56)*.

7006. **Ясінскі Ян** (Ясинский Иван), памешчык Шавельскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне прапаршчыка. За дачыненне да паўстання прызначаны (паміж 01.10.1864 і 01.02.1865) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Томскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру, а потым на падставе ўказа ад 10.12.1865 абавязковаму продажу *(162—1—122—20адв.; 1430—1—52163—795адв.; 2532—1—15—5)*.

7007. **Ясклоўскі Антоні** (Ясклoвский Антон), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткамі Брадзяцін і Ірландка (Арлянка) Брэсцкага пав. За ўдзел у паўстанні аддадзены пад ПВС. Яго маёмасць падлягала секвестру на падставе распараджэння гродзенскага губернатара ад 31.08.1863 і пастановы ГГП ад 19.09.1863. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103; 1416—6—238)*.

7008. **Ястрэмбскі Адам** (Ястржембский Адам), сын Яна, дваранін Мінскага ці Барысаўскага пав., каталік. Нар. каля 1845 г. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах пры Горы-Горацкім сельгасінстытуце. 24.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада *Звяждоўскага Людвіка*, удзельнічаў у захопе г. Горкі, у тым ліку разбіцці цэхгаўза мясцовай каманды ўнутранай варты. Разам з атрадам пакінуў Горкі, 30.05.1863 здаўся ў палон. Знаходзіўся пад судом у МагВСК, якая, скончыўшы яго справу, 14.08.1864 перадала яе камандуючаму войскамі ў Магілёўскай губ. На судзе таксама прызнаўся ў забойстве студэнта Мачульскага, сцвярджаючы пры гэтым, што забойства адбылося ў выніку нешчаслівага выпадку падчас зараджання пісталета. (Доказаў наўмыснага забойства знойдзена не было.) Канфірмацыяй А. Патапава ад 07.09.1863 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на руднікі на 15 гадоў. 06.11.1864 ВГП выдала пастанову пра пошук маёмасці па Віцебскай губ. для канфіскацыі. У 1880 г. жыў у Наўгародскай губ., 16.05.1880 атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад паліцэйскага нагляду і правам пражывання па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталічных губ., «Заходняга краю», Каралеўства Польскага і Таўрычаскай губ., а таксама з забаронай паступаць на дзяржаўную і грамадскую службу *(162—1—116—149, 166адв.; 295—1—3372—16-17; 320—1—398—624а-627; 534—1—14—5адв.; 1416—3—21048—57; 1416—4—11416—133; 1430—1—52163—375адв.; 1430—1—52758—50; 3256—2—48; 3257—2—2—43адв.)*.

**Ястрэмбскі Баляслаў** — гл. **Ястрэмбскі Януары-Баляслаў**

7009. **Ястрэмбскі Каспер** (Ястржем(б)ский Каспер). Да паўстання служыў у маёнтку Берасnёўка Барысаўскага пав. памешчыка Булгака. 19–20.04.1863 далучыўся да паўстанцкага атрада, знаходзіўся з ім ля фальв. Дамашкавічы Барысаўскага пав. у дзядзілавіцкіх лясах, уцёк (да 04.05.1863) з атрада і добраахвотна з'явіўся да рас. уладаў. Спачатку ўтрымліваўся пры Крэменчугскім пяхотным палку *(295—1—1527—75)*.

7010. **Ястрэмбскі Марцэлі** (Ястрембский Марцелий). Дачыненне да паўстання невядомае. Як «ураджэнец Заходняга краю» жыў у 1871 г. пад наглядам паліцыі ў Астраханскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ., «Заходняга краю» і Каралеўства Польскага *(1430—1—35146—70адв.)*.

7011. **Ястрэмбскі Пётр** (Ястрежембский Петр), аднадворац Троцкага пав. За дачыненне да паўстання ваенным судом прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Тульскую арыштанцкую роту на 3 гады *(320—1—398—574; 1430—1—52163—241)*.

7012. **Ястрэмбскі Станіслаў** (Ястржембский Станислав), сын Яна, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў канцылярыстам. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны і зняволены ў г. Ігумене. Без следства 22.06.1863 адасланы ў г. Мінск. Зняволены ў мінскай гарадской турме паводле загада ЧВГМГ ад 21.09.1863. Прысуджаны (да 01.04.1864) да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці і сасланы ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(295—1—1643—275; 296—1—90—5адв.-6; 1418—3—1—91адв.-92; 1430—1—52163—167адв.)*.

7013. **Ястрэмбскі Францішак** (Ястржембский Франц), дваранін. Да паўстання служыў у Гродзенскай казённай палаце. Падчас паўстання западозраны ў «палітычнай нядобранадзейнасці» і высланы (да 01.06.1864) «адміністрацыйным парадкам» пад нагляд паліцыі ў Наўгародскую губ. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне *(1430—1—52163—614адв.; 1430—1—52285—25адв.; 2514—1—2198—71)*.

7014. **Ястрэмбскі Юзаф** (Ястржембский Иосиф), сын Адама, муж Эміліі, каталік. Да паўстання служыў рэгістратарам Магілёўскай крымінальнай палаты, калежскі сакратар. Западозраны МагСК ва ўдзеле ў паўстанні, за што яго рухомая маёмасць у г. Магілёве (мэбля, адзенне і інш.) на суму ў 10,39 руб. ср. 06.1863 апісана, секвестравана і перададзена ў кіраванне ПДМ. Пастановай палаты ад 23.05.1863 звольнены са службы. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу. Сасланы ў Іркуцкую губ. *(2003—1—389; 2003—2—96—7; 3257—2—2—43).*

7015. **Ястрэмбскі Юзаф** (Ястржембский Иосиф), сын Іаахіма Станіслававіча, брат *Януарыя-Баляслава*, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання служыў рэгістратарам Магілёўскай крымінальнай палаты, калежскі сакратар. За ўдзел у паўстанні арыштаваны. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 29.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў. 22.08.1864 ВГП выдала пастанову аб канфіскацыі *(162—1—116—128адв., 156; 320—1—398—533адв., 601-602, 644; 320—2—98—53адв.; 1416—4—11416—125; 1430—1—52163—526).*

7016. **Ястрэмбскі Ян** (Ястрембский Иван), сын Андрэя Паўлавіча і Аўдоцці, дзяржаўны селянін, праваслаўны. Нар. 26.09.1843 у в. Галдобуршчына Магілёўскага пав., хр. 26.09.1843 у Галоўчынскай царкве. Прыпісаны да Горна-Уліцкай сельскай грамады Магілёўскага пав., ад якой 10.09.1859 атрымаў прысуд аб звальненні для паступлення на навучанне. Да паўстання вучыўся ў землямерска-таксатарскіх класах у г. Горкі. 24.04.1863 «перайшоў на бок польскіх мяцежнікаў» пры захопе імі Горкаў і ўвайшоў у склад атрада пад камандаваннем *Звяждоўскага Людвіка*. Яго маёмасць падлегла секвестру, але да 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1871 г. жыў пад наглядам паліцыі ў Валагодскай губ., атрымаў частковую амністыю з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражываць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных губ. і «Заходняга краю» *(1430—1—35146—72; 2514—1—2198—71; 3257—1—53—2адв.; 3286—2—1—8, 198-201).*

7017. **Ястрэмбскі Януары (Ануфры)-Баляслаў** (Ястржембский Януарий (Онуфрий)-Болеслав), сын Іаахіма Станіслававіча, брат *Юзафа*, дваранін Барысаўскага пав. Да паўстання служыў чыноўнікам канцылярыі магілёўскага пракурора, калежскі сакратар. Западозраны МагСК у дачыненні да паўстання, за што яго рухомая маёмасць у г. Магілёве (мэбля, адзенне і інш.) на суму ў 7,96 руб. ср. 07.1863 апісана, секвестравана і перададзена ў кіраванне ПДМ. Знаходзіўся пад судом у МагВСК. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 29.07.1864 прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Енісейскую губ. Высланы. МагГП 14.08.1863 і ВГП 22.08.1864 выдалі адпаведныя ўказы аб канфіскацыі *(162—1—116—128адв., 156; 320—1—398—533адв., 601-602, 644; 320—2—98—53адв.; 1416—4—11416—125; 1430—1—52163—522; 2001—2—14—15адв.; 2003—1—385; 3257—2—2—43).*

7018. **Яськевіч Стэфан** (Яськевич Степан), муж Разаліі, мешчанін г. Мінска. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны. У 1863 г. аддадзены пад ПВС, якім прысуджаны (да 14.02.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў крэпасцях на 10 гадоў. МГП 27.01.1864 і 22.02.1864 выдала ўказы аб канфіскацыі. У 1870 г. жыў у г. Мінусінску Енісейскай губ. *(162—1—116—33; 295—1—1643—270адв.; 295—1—2213—1-2; 320—1—398—222).*

7019. **Яськевіч Сымон** (Яськевич Семен), дваранін Ігуменскага пав., каталік. Да паўстання служыў сакратаром Ігуменскага паліцэйскага ўпраўлення, губернскі сакратар. Абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні і падбухторванні да яго, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой апраўданы, але пакінуты ў «моцным падазрэнні». 17.01.1864 яго справа перададзена ЧВГМГ. Паводле канфірмацыі А. Патапава ад 08.03.1865 звольнены са службы і аддадзены пад нагляд паліцыі *(160—2—682—117-118; 295—1—1643—267, 272; 1418—3—1—92адв.-93).*

7020. **Ясюкевіч (Ясюковіч) Ігнат** (Ясюкевич (Ясюкович) Игнатий), сын Міхала, сваяк Вільгельма, памешчык. Да паўстання з'яўляўся суўладальнікам маёнтка Белазоры (Белазорава) Панявежскага пав. За дачыненне да паўстання высланы на службу шарагоўцам у Арэнбургскі пяхотны полк без пазбаўлення дваранства. На Белазоры паводле распараджэння М. Мураўёва ад 30.05.1863 і ўказаў КГП ад 12.06.1863 і ВГП ад 18.06.1863 накладзены секвестр, які здымаўся паводле яго ж распараджэння ад 07.05.1864 і ўказа ВГП ад 12.06.1865, потым маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу. Пасля частковай амністыі перасяліўся ў г. Рыгу, дзе ў 1871 г. вызвалены ад нагляду паліцыі, але з забаронай пражываць у сталіцах, сталічных і «заходніх» губ. *(1416—4—11416—256; 1416—6—251—12-15, 20; 1416—6—253; 1430—1—35146—84; 2532—1—15—4).*

7021. **Ясюкевіч Уладзіслаў** (Ясюкевич Владислав), дваранін Віленскай губ. За дачыненне да

спраў па паўстанні прызначаны (каля 06.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Кастрамскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237; 2616—1—40—58)*.

7022. **Ясюкевіч Яўген** (Ясюкевич Евгений), сын Юзафа, дваранін Дынабургскага пав. За ўдзел у «намаўленні двараніна Мілашэвіча да паступлення ў шайку мяцежнікаў» арыштаваны. Ваенным судом прысуджаны (да 19.10.1863) да «адміністрацыйнага спагнання» і ссылкі на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» без пазбаўлення правоў. На яго маёмасць 16.06.1864 накладаўся секвестр. Сасланы ў Аланецкую губ., у 1867 г. пераселены ў Тамбоўскую губ. Пасля 1871 г. вызвалены ад нагляду паліцыі з дазволам жыць па ўсіх месцах Рас. імперыі, за выключэннем сталіц, сталічных і «заходніх» губ. У 1875 г. жыў у Пензенскай губ., атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму *(1430—1—35810—10-11; 1430—1—35834—49; 1430—1—52163—150адв., 390адв.)*.

**Ясюковіч Ігнат** — гл. **Ясюкевіч Ігнат**

7023. **Ясяновіч Ежы** (Ясенович Ержий), дваранін Новааляксандраўскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

7024. **Ятаўт Андрэй** (Ятовт Андрей), памешчык Ковенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны ваенным судом (каля 06.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Пермскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(1430—1—52163—237)*.

7025. **Ятаўт Ежы** (Ятовт Юрий), памешчык Ковенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў г. Маскву для далейшай ссылкі паводле распараджэння МУС. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—1адв.)*.

**Яткевіч Геркулан** — гл. **Ядкевіч Геркулан**

7026. **Яўгель Пётр** (Явгель Петр), дваранін Панявежскага пав. Западозраны рас. уладамі ў дачыненні да паўстання, таму яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—281)*.

7027. **Яўменаў**[172] **Павел** (Евменов Павел), селянін. Западозраны ў дачыненні да паўстання, знаходзіўся пад судом у МагВСК *(3257—2—2—12)*.

7028. **Яўневіч Валяр'ян** (Евневич Валериан), сын Казіміра Францішкавіча, брат Базыля, дваранін Мсціслаўскага пав. Да паўстання служыў канцылярыстам Мсціслаўскага павятовага суда. За дачыненне да паўстання ў 1863 г. арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ЧСК, 29.10.1863 яго справа пададзена МагВГ. Высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні». Яго маёмасць падлягала секвестру, але з 1867 г. вяртанню ў яго валоданне. У 1868 г. пераведзены на жыхарства пад нагляд паліцыі з Табольскай у Варонежскую губ., адтуль падаваў прашэнне аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. У 1870 г. жыў у Варонежскай губ. Зямля яго бацькі ў вак. Пастарнакі Мсціслаўскага пав. у 1868 і 1869 гг. апісвалася за даўгі дзяржаве, аднак не канфіскавана з прычыны пагашэння даўгоў *(1430—1—52285—32; 2001—1—900—1; 2003—1—372—117, 191, 264-268, 279-282, 287-288 і інш.; 2514—1—2198—67адв.)*.

7029. **Яўніцкі Ігнат** (Явницкий Игнатий), сын Яна Сымонавіча, шляхціц Мінскай губ. Хр. 13.02.1835. Да паўстання служыў у паштовай канторы ў г. Вільні. За ўдзел у паўстанні яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 04.07.1863 і пастановы ВілГП ад 26.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны ваенным судом да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу *(295—1—1643—67; 320—1—398—124адв., 275-276, 424; 320—2—98—34адв.; 1416—6—280; 1430—1—52163—596б адв.)*.

7030. **Яўшыц (Яўшыца) Юзаф** (Явшиц (Явшица) Иосиф), ксёндз. Да паўстання служыў вікарыем касцёла ў м. Лынтупы Свянцянскага пав. Западозраны рас. уладамі ў чытанні «сумнеўнага зместу казання». Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прысуджаны пазней да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—101адв.; 1416—6—274)*.

**Яфімовіч Адольф** — гл. **Еўхімовіч Адольф**

7031. **Яцка Тадэвуш** (Яцко Фадей), селянін. Нар. каля 1828 г. Да паўстання прыпісаны да маёнтка Свяда Барысаўскага пав., жыў у м. Валосавічы Барысаўскага пав. Знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены сялянамі і перададзены рас. уладам. 19.06.1863 зняволены ў турме г. Барысава, дзе ўтрымліваўся яшчэ 10.07.1863 *(295—1—1527—105)*.

7032. **Яцкевіч Андрэй** (Яцкевич Андрей), дваранін Віленскага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(1430—1—52163—204)*.

---

[172] Верагодна, гэта імя па бацьку.

7033. **Яцкевіч Канстанцін** (Яцкевич Константин). Як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах» паводле распараджэння М. Мураўёва разам з *Давейкам Юзафам*, *Заленскім Ануфрыем*, *Кучынскім Дамінікам* і *Лапіцкім Каспeрам* 27.02.1864 адпраўлены з г. Полацка ў фартэцыю ў г. Дынабург «на бязвыхаднае жыхарства пад асаблівы нагляд» да далейшага распараджэння *(1430—1—31602—146)*.

7034. **Яцкевіч Пётр** (Яцкевич Петр), дваранін Гродзенскай губ. За дачыненне да спраў па паўстанні арыштаваны і ў 1864 г. аддадзены пад ПВС. Прызначаны (каля 07.1864) да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго маёмасць падлягала секвестру *(295—1—1643—268адв.; 1430—1—52163—552адв.)*.

7035. **Яцкоўскі Канстанцін** (Яцковский Константин), дваранін Свянцянскага пав. Да паўстання з'яўляўся вучнем землямера ў м. Лынтупы Свянцянскага пав. За «спяванне ў касцёле падазроных напеваў» яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—274; 1430—1—52285—9адв.)*.

7036. **Яцкоўскі Юзаф** (Яцковский Иосиф), сын Антонія, дваранін Магілёўскай (?) губ. Нар. каля 1841 г. Служыў на грамадзянскай службе, калежскі рэгістратар. За «прамаўленне розных недазвольных выразаў» разам з *Дрэваедавым Мацеем* з 22.02.1864 знаходзіўся пад следствам у МагСК, якая 03.04.1864 яшчэ не скончыла яго справу. Падчас следства знаходзіўся пад падпіскай у г. Магілёве *(3257—1—14—9адв.-10; 3257—2—8—23)*.

7037. **Яцкоўскі Юзаф** (Яцковский Иосиф), сын Юзафа, дваранін Ігуменскага пав., каталік. Падчас паўстання служыў пісарам у ІСК. Западозраны ў сувязях з паўстанцамі, арыштаваны. Знаходзіўся пад следствам у ІСК, рашэннем якой «пакінуты ў падазрэнні». 18.11.1863 яго справа перададзена ЧВГМГ. У 1864 г. вызвалены з усталяваннем паліцэйскага нагляду *(295—1—1643—272адв.; 1418—3—1—91адв.-92)*.

7038. **Яцунскі Андрэй** (Яцунский Андрей), памешчык. Да паўстання валодаў фальв. Войзбунішкі Лідскага пав. Паўстанцы атрымалі ў фальварку авёс і сена. Западозраны ў дапамозе ім, яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

7039. **Яцунскі Ануфры** (Яцунский Онуфрий), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да паўстання прысуджаны (каля 05.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(1430—1—52163—204)*.

7040. **Яцунскі Леан** (Яцунский Лев), памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Палессе Ковенскай губ. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства ў Арэнбургскую губ. Яго зямельная маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(1430—1—52285—11; 2532—1—15—2)*.

7041. **Яцунскі Мацей** (Яцунский Матвей), дваранін Троцкага пав. За дачыненне да спраў па паўстанні паводле пастановы следчай камісіі высланы (паміж 15.01.1864 і 01.03.1864) «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(296—1—25—111; 1430—1—52163—145, 573)*.

7042. **Яцунскі Пётр** (Яцунский Петр), дваранін Лідскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджаны (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Табольскую губ. *(320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

7043. **Яцыла Вінцэнт** (Яцылло Викентий). Да паўстання служыў памочнікам бухгалтара Віленскага прыказа грамадскай апекі, губернскі сакратар. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі высланы «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

7044. **Яцына Караліна** (Яцыно Каролина), дваранка Віленскага пав. За дачыненне да паўстання пастановай ваеннага суда прысуджана (каля 06.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «менш аддаленыя месцы Сібіры» *(320—1—398—574адв.; 1430—1—52163—241адв.)*.

7045. **Яцына Севярына** (Яцыно Северина), дачка Людвіка, сястра Сідаліі і Альберты, дваранка Мінскага пав., каталічка. Нар. каля 1835 г. 17.06.1864 праз селяніна перадала святару Рэпкаўскай царквы Рагачоўскага пав. ліст, які аказаўся «пісаны па-польску без подпісу, напоўнены варожымі выразамі супраць Ураду». Западозрана ў падтрымцы паўстання і арыштавана. Падчас вобыску ў яе знойдзены выпушчаная без дазволу цэнзуры кніга «Nowa biblioteczka» і польскамоўны верш «Марш» «рэвалюцыйнага зместу». 01.07.1864 утрымлівалася ў фартэцыі ў г. Бабруйску, 04.07.1864 выслана ў г. Мінск. Знаходзілася пад следствам у МСК, сцвярджала, што атрымала ліст ад мінскага яўрэя. Рашэннем МСК ад 24.07.1864 прызнана падазронай,

а справа пададзена П. Шалгунову, які ў сваю чаргу 11.09.1864 перадаў яе М. Мураўёву з прапановай «выслаць яе ў вялікарасійскія губерні». Рашэннем М. Мураўёва ад 13.11.1864 прысуджана да 3-месячнага зняволення ў Бабруйскай фартэцыі і вяртання на месца жыхарства на парукі. 22.12.1864 прыбыла ў Бабруйск. У зняволенні знаходзілася разам са *Сніткай Тэкляй*. Пасля вызвалення 04.04.1865 прыбыла ў Мінск, 05.04.1865 арыштавана ізноў за непадачу падпісак аб паруках. 27.04.1865 вызвалена з аддачай пад нагляд паліцыі. Падчас утрымання пад вартай напісала і перадала праз пошту сваёй сасланай сястры Альберце ў г. Томск 2 лісты з крытычнымі водгукамі пра рас. улады, якія былі перахоплены. Ізноў арыштавана і зняволена ў г. Мінску. На следстве прызнала, што «супраць ураду яна была падчас усяго паўстання, бо была ўпэўнена, што празмерна ўжываюцца гвалтоўныя захады супраць тых, што паўсталі, яна спачувала гэтай справе, але ўдзелу ніякага не брала». За «дзёрзкае асуджэнне законам усталяванага ў Імперыі ладу Праўлення, выражэнне на пісьме ў вышэйшай ступені абразлівых водгукаў супраць Урада і Кіруючых уладаў, распаўсюджанне рэвалюцыйнай прапаганды сярод ніжніх чыноў, задуму ўзбуджаць і распаўсюджваць такую сярод народу» паводле загаду П. Шалгунова ад 29.12.1865 аддадзена пад ПВС у Мінску. Канфірмацыяй З. Манюкіна ад 09.04.1866 прысуджана да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў «больш аддаленыя месцы Сібіры» *(160—2—683—16; 295—1—1643—275; 296—1—115; 299—2—6399—36адв.-37; 299—2—6400—21адв.-22адв.)*.

7046. **Яцынскі Вацлаў** (Яцынский Вацлав), дваранін Лепельскага пав. Як «палітычны злачынца» прысуджаны (да 01.10.1864) да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на пасяленне ў «больш аддаленыя месцы Сібіры». Лепельскі павятовы спраўнік 06.1866 рапартаваў, што яго не знойдзена сярод дваранаў Лепельскага пав. *(1416—4—11416—326-330, 344-347)*.

7047. **Яцэвіч Казімір** (Яцевич Казимир), сын Францішка, муж Эміліі Янаўны, бацька Браніслава (нар. каля 1858), Валерыі (нар. каля 1859) і Чаславы (нар. каля 1862), дваранін Віцебскага пав., каталік. Нар. каля 1834 г. На пачатку 1863 г. узяў у арэнду маёнтак Добрына Віцебскага пав. *Кісель-Загаранскіх Станіслава*, *Фердынанда* і *Юзафа*. Падчас паўстання ведаў пра намер *К.-З. С.* і *Ф.* далучыцца да паўстанцаў і не данёс пра гэта рас. уладам. Арыштаваны 22.04.1863 разам з *К.-З. Ю.* у карчме Баронікі за 4 вярсты ад р. Лучасы. Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 05.03.1864 як «нядобранадзейны ў палітычных адносінах і шкодны для далейшага знаходжання ў тутэйшым краі» прызначаны да ссылкі на жыхарства пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую губ. Секвестравана яго маёмасць (1 карова і «неабходнае беднае адзенне»). Жонка 04.04.1864 падала прашэнне на дазвол выправіцца з ім за казённы кошт на месца ссылкі, якое задаволена пастановай ВГП ад 13.04.1864. 07.05.1864 высланы з г. Віцебска, на месцы ссылкі паселены ў г. Уфе Арэнбургскай губ. *(1416—4—11370; 1430—1—31583—99-101; 2500—1—179—12; 2626—1—305—54адв.)*.

7048. **Яцэвіч Уладзіслаў** (Яцевич Владислав), памешчык Расіенскага пав. За дачыненне да паўстання высланы ў Томскую губ. Яго маёмасць на падставе ўказа ад 10.12.1865 падлягала абавязковаму продажу *(2532—1—15—6)*.

7049. **Яцэвіч Фелікс** (Яцевич Феликс). Да паўстання служыў вартаўніком у маёнтку Ішчална Лідскага пав. Западозраны рас. уладамі ў прачытанні паўстанцкага маніфеста ў ішчалненскай карчме. Яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы ВілГП ад 23.07.1863 падлягала секвестру *(1416—6—274)*.

7050. **Яцэвіч Юзаф** (Яцевич Иосиф), памешчык Ашмянскага пав. Служыў у рас. войску, выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. За дачыненне да паўстання паводле пастановы следчай камісіі «адміністрацыйным парадкам» высланы на жыхарства «ва ўнутраныя губерні» *(1430—1—52285—8)*.

7051. **Яцэвіч Ян** (Яцевич Иван), сын Ануфрыя, ксёндз. Да паўстання служыў у касцёле ў м. Анікшты Вількамірскага пав. За дачыненне да паўстання яго маёмасць на падставе распараджэння ковенскага губернатара ад 02.07.1863 і пастановы КГП ад 24.07.1863 падлягала секвестру. Прызначаны ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(1416—6—281; 1430—1—52285—10)*.

7052. **Яшчалт Войцех** (Ящолт Войцех). Да паўстання служыў акцызным наглядчыкам у Ковенскай (?) губ., калежскі асэсар. За дачыненне да спраў па паўстанні прызначаны (паміж 01.01.1864 і 01.03.1864) ваенным судом да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства «ў аддаленыя губерні» *(296—1—25—109адв.; 1430—1—52163—616адв.)*.

7053. **Яшчальт Апалінары** (Ящольт Аполинарий), дваранін Беластоцкага пав. За ўдзел у паўстанні прысуджаны да пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі маёмасці *(296—1—25—103)*.

# АСАБОВЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ З НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІСТАРЫЧНАГА АРХІВА БЕЛАРУСІ

1. Ф. 24 (Мінская гарадская дума). – Воп. 1. – Спр. 1586. – Справа аб передачы на парукі мінскіх мяшчан за ўдзел у паўстанні 1863 г. 22.03.1863–18.12.1863. – 18 арк.

2. Ф. 27 (Мінскае ўпраўленне земляробства і дзяржаўных маёмасцяў). – Воп. 1. – Спр. 790. – Справа аб апісанні і продажы маёнткаў, канфіскаваных у казну ў асоб, што бралі ўдзел у паўстанні 1863 г. 08.08.1864. – 13 арк.

3. Ф. 27. – Воп. 1. – Спр. 793. – Справа аб накладанні секвестру на маёнтак Пераколь Бабруйскага павета памешчыка Люцыяна Чарніхоўскага за ўдзел у паўстанні 1863 г. 02.09.1864–06.10.1889. – 361 арк.

4. Ф. 27. – Воп. 1. – Спр. 799. – Справа аб накладанні секвестру на маёнткі Наборкі, Максімовічы і Барацічы Ігуменскага павета памешчыкаў Лукашэвічаў за ўдзел у паўстанні 1863 г. 24.09.1864–24.01.1871. – 30 арк.

5. Ф. 27. – Воп. 1. – Спр. 800. – Справа аб накладанні секвестру на маёмасць у маёнтку Арэшкавічы Ігуменскага павета, якія належаў Яну і Станіславу Азямблоўскім за ўдзел у паўстанні 1863 г. 03.11.1864–26.01.1871. – 15 арк.

6. Ф. 27. – Воп. 1. – Спр. 801. – Справа аб накладанні секвестру на маёмасць у ваколіцы Падкоссе Ігуменскага павета двараніна Францішка Мількевіча за ўдзел у паўстанні 1863 г. 08.11.1864–10.1872. – 10 арк.

7. Ф. 27. – Воп. 1. – Спр. 802. – Справа аб накладанні секвестру на маёмасць двараніна Юзафа Матусевіча ў Ігуменскім павеце за ўдзел у паўстанні 1863 г. 08.11.1864–03.06.1870. – 11 арк.

8. Ф. 147 (Мінская злучаная палата крымінальнага і грамадзянскага суда). – Воп. 2. – Спр. 2916. – Справа аб грашовых прэтэнзіях жыхаркі г. Мінска памешчыцы Ігуменскага пав. Алены Валентаўны Рагоўскай (нар. Ваньковіч) да брата памешчыка маёнткаў Сляпянка і Дубы Мінскага пав. Адама Валентавіча Ваньковіча. 23.03.1864–01.04.1864. – 5 арк.

9. Ф. 160 (Ігуменскі павятовы суд). – Воп. 2. – Спр. 680. – Указы Сената, цыркуляры Мінскага губернскага праўлення, цыркуляры губернатара аб зацвярджэнні палажэння аб судовых статутах ад 20 лістапада 1864 г., аб скарачэнні перапіскі і спрашчэнні справаводства, накладанні секвестру на маёмасць удзельнікаў паўстання 1863–1864 гг. і адхіленні прашэнняў іх сваякоў аб выдзяленні часткі канфіскаванай маёмасці і іншых пытаннях. 04.01.1865–22.12.1865. – 255 арк.

10. Ф. 160. – Воп. 2. – Спр. 682. – Указы Мінскага губернскага праўлення аб пошуку і накладанні секвестру на маёмасць і капіталы, што належалі ўдзельнікам паўстання 1863–1864 гг.; спісы асоб, пазбаўленых правоў стану. 04.01.1865–05.12.1865. – 272 арк.

11. Ф. 160. – Спр. 2. – Арк. 683. – Указы і распараджэнні Мінскага губернскага праўлення аб канфіскацыі ў казну і накладанні секвестру на маёмасць удзельнікаў паўстання 1863 г. – 30.12.1865–09.09.1866. – 20 арк.

12. Ф. 162 (Ігуменскі павятовы стрАпчы). – Воп. 1. – Спр. 116. – Распараджэнні, загады Мінскага губернскага праўлення аб разглядзе спраў пра канфіскацыю маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 г. і іншых спраў, што знаходзяцца ў вытворчасці. 22.02.1862–14.12.1864. – 179 арк.

13. Ф. 162. – Воп. 1. – Спр. 122. – Распараджэнні, загады губернскага праўлення аб дастаўцы звестак пра канфіскацыі маёнткаў, накладанні секвестру на маёмасць удзельнікаў паўстання 1863 г. 31.12.1864–15.12.1865. – 46 арк.

14. Ф. 295 (Канцылярыя мінскага губернатара). – Воп. 1. – Спр. 1509. – Справа аб аддачы пад ваенны суд двараніна Барысаўскага пав. Валіцкага за ўдзел у паўстанні 1863 г. 23.04.1863–30.07.1863. – 15 арк.

15. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1527. – Справа аб руху паўстанцкіх груп па Барысаўскім павеце. 10.02.1863–04.06.1864. – 121 арк.

16. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1533. – Рапарт станавога прыстава Барысаўскага павета пра селяніна Міхневіча М., які вярнуўся ад паўстанцаў у 1863 г. 29.04.1863–12.06.1863. – 9 арк.

17. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1537. – Рапарты ваеннага начальніка і земскага спраўніка Слуцкага павета, жыцінскага благачыннага Бабруйскага павета аб з'яўленні паўстанцкіх атрадаў у паветах. 26.05.1863–15.09.1864. – 30 арк.

18. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1540. – Рапарт ваеннага начальніка Слуцкага павета пра селяніна Шайкоўскага, які вярнуўся ад паўстанцаў 1863 г. 09.09.1863. – 1 арк.

19. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1543. – Паведамленне ваеннаму начальніку Барысаўскага павета аб далучэнні памешчыка Макрыцкага Б. да ўдзельнікаў паўстання. 20.06.1863. – 3 арк.

20. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1545. – Справа аб аддачы пад ваенна-палявы суд прапаршчыка 8 Артылерыйскай брыгады Цюндзявіцкага М. за агітацыю сялян да паўстання. 04.03.1863–31.08.1863. – 48 арк.

21. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1547. – Справа аб аддачы пад ваенны суд памешчыка Барысаўскага пав. Бачызмальскага, двараніна Кашэўскага і селяніна Гатоўку за ўдзел у паўстанні 1863 г. 25.04.1863–04.03.1864. – 54 арк.

22. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1549. – Справа аб аддачы пад ваенны суд доктара Горніча У. і двараніна Шпакоўскага В. за ўдзел у паўстанні 1863 г. 25.08.1863–12.04.1864. – 6 арк.

23. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1550. – Справа пра памешчыка Асоўскага А., асуджанага за палітычную дзейнасць, і канфіскацыю яго маёнтка Блонь Ігуменскага павета. 27.04.1863–28.12.1864. – 18 арк.

24. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1551. – Справа пра пошук сакратара міравога пасрэдніка Крупскага Лягензы, які далучыўся з памешчыкам Макарэвічам да паўстанцаў. 09.05.1863–25.05.1863. – 5 арк.

25. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1552. – Справа пра студэнта Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Краеўскага А., западозранага ва ўдзеле ў паўстанні 1863 г. 02.07.1863–12.09.1863. – 9 арк.

26. Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 1553. – Справа паводле расследавання знаходжання ў групе паўстанцаў памешчыка Ёдкі і двараніна Сеўрука. 03.07.1863–14.02.1864. – 27 арк.

